# *Іван Пташнікаў*



Збор
твораў
у чатырох
тамах

# Іван Пташнікаў



Том

4

РАМАН

МІНСК
«МАСТАЦКАЯ ЛІТАРАТУРА»
1992

ББК 84Бел7
П 87

Мастак Н. У. Сустава

В четвертый том Собрания сочинений Ивана Пташникова вошел роман «Олимпиада» («Облака шестидесятых»). Он посвящен деревне, ее проблемам.

Герои романа — колхозники, сельская молодежь, медицинские работники, воины Советской Армии. В центре — судьба семьи главной героини Олимпиады Подоляк.

П $\frac{4702120201-047}{М302(03)-92}$ 103—91

ISBN 5-340-00508-9 (т. 4)
ISBN 5-340-00816-9

◆◆◆◆◆◆◆◆◆◆◆◆◆◆◆◆◆◆◆◆◆◆◆◆◆◆◆◆◆◆◆◆◆◆◆◆◆◆◆◆◆◆◆◆◆◆

# АЛІМПІЯДА

## (ВОБЛАКІ ШАСЦІДЗЕСЯТЫХ)

### РАМАН

### *Частка першая*

## Лета. Пыл

### 1

З начы не было расы.

Ноч стаяла светлая, сухая і ветраная, з зялёнай ядранай зарой за фермай на загуменні. Вецер гнала з Ячнага ў вёску аж да раніцы, ён стукаў у вокны ад гарода, не даючы заснуць, і цяпер, калі Алімпіяда, апёршыся рукамі на край слізкага ад макраты старога зруба над студняй, стаяла і глядзела праз аселіцы далёка на грэблю, чула, як баляць ад бяссоння вочы: рэжа пад павечкамі.

Над грэбляй вісеў пыл.

Яго сёння першыя паднялі леспрамгасаўскія «прычэпы». Лабатыя, новыя, бліскучыя, яны, аж тры, бразгаючы на выбоінах жалезнымі дышлямі і ланцугамі, прайшлі праз вёску на Жоўты Бераг яшчэ ўсходам сонца, калі яна была на ферме. Цяпер на загуменне, на Дроздку, дзе з самай раніцы на ячмені, чуваць было, шапталі камбайны, ля хаты пайшлі адна за адной калгасныя грузавыя машыны, хаваючы за сабой у пыле і вуліцу з платамі, і ферму за дарогай — два доўгія, старыя, яшчэ даваенныя кароўнікі са свіранам, і лес у вілах ля бульбяных ям. Пыл хлынуў праз тын на двор, сівы, як ад попелу, і засланіў маладую рабіну з яблыняй у гародчыку, заспаныя шапкі сланечніку ля частакола, шэры хлеў ад вуліцы і воддаль яго гарбатую хату старога Харбіна.

З хлева са страхі ўцякалі ад пылу вераб'і — пырхнулі над самай галавой на гароды шэрай густой хмаркай. У вядры, што стаяла побач на зрубе, закалыхалася на вадзе дробненькае насыпанае пер'е.

Адвярнуўшыся ад вуліцы, ад пылу, яна ціха кашляла ў кулак: баялася, каб не пайшла з рота кроў. На грэблі ля тэлефоннага слупа яшчэ ківалася на веласіпедзе Таня — дачка,— паехала ў Краснаволле ў канцылярыю на работу.

Ціснула за грудзьмі; не давала павярнуць галаву — балеў і трашчаў увесь карак; дыхаць трэба было кораценька і рэдка — хапаць паветра, як рыба на пяску. Гэта яна стрывала б... Каб не спружына ўваччу — востранькая, жоўтабелая, калючая... Спружына паяўлялася ўсягды раптоўна, як і сёння; Алімпіяда пасля ўчарашняга яе ўжо чакала і — баялася. Учора, калі раптам загарэлася ўваччу, яна, ідучы з фермы, спынялася і старалася апёрціся рукой на плот; у хаце адразу павалілася на ложак, падкінуўшы да брыжа дзве падушкі, каб было высака пад галаву. Ляжала, сціснуўшыся, аж пакуль не патух белы агонь у вачах — у куточках ля скроняў.

Паявіўшыся раптоўна — усё роўна як хто возьме і кальне ў вочы іголкай,— беленькая, а то і жоўтая, кароценькая, на два-тры зубкі, выгнутая, як валасок у лямпачцы над сталом, спружына пачынала пераліваца і дрыжаць, стоячы на адным месцы. Адразу пачынала і звінець у галаве, ціхім густым звонам, як звінеў, бывала, у Ліпніках пад заставай у познюю восень нудны, аціхлы на зіму лес.

Пасля спружына расла: большала, адскоквала зуб за зубам — пяць зубоў, дзесяць, выгіналася паўкругам, дрыжала, не перастаючы пераліваца белым, жоўтым, чырвоным, сінім агнём, выцягвалася ўдоўж і ўпоперак, білася, нібы чырвоная жылка, набеглая крывёю, расла і расла, рабілася звівістая, як гадзючка на кургане, і загаралася, што вострая бліскавіца на небе. Толькі бліскавіца знікае ўміг, а гэта, не перастаючы, паліла перад табой усё на свеце.

Спружына разрасталася на ручку ад вялікага каранёвага кошыка, з якім хадзілі ў журавіны пад Ліпнікі, і выходзіла выгнутая бокам з вачэй. Аставаліся толькі яшчэ дрыжаць два хвасты. Пасля адзін хвост вёртка хаваўся ў цемнаце, што гадзюка ў мох на балоце. Другі расцягваўся ў ланцуг, якім навязваюць на ферме кароў... Ланцуг чырванеў, як нагрэты ў кузні, адрываўся ў кароўніку ад сцяны, ляцеў з бразгатам карове пад ногі і атухаў...

Адразу тады сціскала скроні; пачынала балець галава — у вачах і ў патыліцы.

Паявілася спружына першы раз у сорак шостым годзе вясной, калі сталі дохці на ферме падласыя остфрызскія каровы. Прыгналі іх на ферму па разнарадцы сам старшы-

ня Міхол са старым Харбінам аж з Плешчаніц — трыццаць штук. Каровы былі маладыя, дойныя, з доўгім і пустым, як торбачка, вымем, сухія ў баках, адны косці, і кашлялі, хоць з кароўніка ўцякай. Гналі іх сюды, у наш бок, аж з Германіі; за далёкую галодную дарогу яны, наглытаўшыся пылу, захварэлі на туберкулёз. Перазімавалі з горам зіму, а вясной, калі не хапала нават саломы, каб іх накарміць, яны пачалі дохці — адна за адной. Падымеш карову раніцай на вяроўках, пастаіць на дрыжачых нагах да вечара, храпучы, кашляючы, не зачапіўшы нават пысай саломы пад носам, і падае дохлая пад сцяну. Выцягвалі іх за кароўнік у соснік у партызанскія акопы і зарывалі ў зямлю. Калі якую і даразалі — нідзе не бралі мяса, ні ў Плешчаніцах, ні ў Даўгынаве: вострая форма туберкулёзу. З першага прыгону на лета выйшла толькі сем кароў, астатнія ляглі ў партызанскія акопы. Летам у калгас прыгналі яшчэ дваццаць штук. Зноў — туберкулёз. Хапіла тады больш за ўсіх ёй — загадчыцы фермы. І зверху і знізу, і ў хвост і ў грыву, а больш за ўсё яе бабскім рукам. Як толькі ні парваліся тады жылы ад натугі, калі трэба было, узяўшы вяроўку на плячо, цягнуць за канец, пакуль не пачыналі дрыжаць ногі і не рабілася чырвана ўваччу... Тады недзе першы раз і загарэлася белая спружына. Алімпіяда адразу і не шманала на яе: пратрэ вочы кулаком і — далей. Але калі ўвосень зноў пачалі дохці прыгнаныя нанава каровы... Увосень было, яна добра помніць: у хаце ля куфра ляжалі качаны, высака, гарой. За сталом тады сядзеў фінагент з Белага — Корань. Загарэлася ў яе ўваччу, і яна правалілася ў агонь, як на рацэ пад лёд — пачула толькі, як стукнулася галавой аб качаны. Падымаць яе з падлогі памагаў Мікалаю Корань...

Спружына пасля гэтага паяўлялася часта. І на ферме, і ў канцылярыі на праўленні, і дома. Ідзеш па ваду, сагнешся над гаршком ля печы, сядзеш пад карову — разане па вачах. Да яе яна ніяк не магла прывыкці. Усё, здаецца, можна было сцярпець, любы боль, толькі каб не паяўлялася спружына. Звар'яцець можна...

Каму толькі яна не жалілася. Усім дактарам і ў Белым, і ў Плешчаніцах. Галавой ківалі, рукамі махалі, але маўчалі. Папрасіла адзін раз Коласа ў Белым: «Скажы ўжо, доктар...» Яна добра не помніць, якіх слоў дабавіла. Зірнуў ён, неяк зморшчыўшыся, у вочы, доўга маўчаў, тады сказаў, гледзячы ў падлогу: «Я ведаю, ад чаго гэта. А вам не трэба ўсяго знаць. Ад такога дзіскамфорту не ўмі-

раюць, гаранція». Тады ў яе пасля спружыны ціск быў сто восемдзесят на сто дваццаць, запомніла. Пыталася і ў Пугача, у фельчара. «Пра гэта нельга думаць: за дваццаць чатыры гадзіны мазгі згараць...» — падняў ён рукі і затрос. Здавалася, ён больш баіцца гэтай спружыны, чымся яна сама.

Але чорт і да пекла прывыкае. Забывалася на ўсё: у вёсцы пра хваробы не думаюць і не гавораць. Бегала і на ферму і з фермы праз дзядзінец ля плота ці праз свой гарод баразной між гранак і летам у адранкі і зімой у ацёлы. А калі што — кулак у вочы, разатрэ; не памагае — пастаіць, за плот узяўшыся, і зноў бяжыць. Не давалася, жыла, аж пакуль не пачула, што не жыве, а дажывае...

Ад леташняга не было, здаецца, гэтай спружыны ў вачах. Паявілася яна ўчора надвечар, калі прыбег у кароўнік з Яськавага Балота акрываўлены падцёлак, а за ім Вольчын Валерка. Мурзаты, упэцканы ў сажу, смярдзючы ад дыму з тарфянішча:

— Ваўкі... Восем падцёлкаў пагналі... На Яськава Балота за Краснаволле... Адлучылі і пагналі...

Яна пачула толькі, як зазвінела ў галаве. Выбегла з кароўніка на двор разам з даяркамі, глядзела ў бок Яськавага Балота, дзе далёка ў сінім дыме рыкала скаціна, і нічога не бачыла: у вачах заскакала вострая ядраная белая спружына.

Вечар учора быў доўгі. Доўга вісела чырвонае сонца ў тумане над Дроздкай, дзе ўсё яшчэ шапталі камбайны; пасля на ферму аж да студні прыплыў руды туман ад ракі, запахла гарэлым тарфянішчам; рыкала ў кароўніку рана прыгнаная скаціна, чуючы кроў — параненага падцёлка; прыехаў жоўты малакавоз, як і кожны вечар; пасля ўжо вярнуліся з балота Раман з Харбінам. Знайшлі на балоце чырвоныя косці. Ваўкоў — у страха вочы вялікія — гаварылі, відзелі штук з дваццаць. Прышлыя... У нашым баку іх летам па гэтулькі не хадзіла.

Ноч была без сну. У вачах стаялі чырвоныя косці, грукаў у вокны ад горада, усхадзіўшыся, вецер, і махаў жоўтым пратэзам Дзярызямля — старшыня.

І раніцай ён яшчэ махаў сваім пратэзам на ферме ля свірна. Прабег праз адзін кароўнік, праз другі, паклікаў усіх да свірна і махаў пратэзам: ферму гробяць. Пасля сеў на свайго брызентавага «казла» і схаваўся на вуліцы ў пыле. За ім ззаду пабег белы алень у белым крузе на кузаве.

Сёння, калі яна, вярнуўшыся з фермы, узялася абедзвюма рукамі за чорны выслізганы вочап і, піхнуўшы яго ў студню, нагнулася над зрубам, у вачах як хто чыркнуў сярнічкай па карабку — спружына выгнулася, засланяючы агнём свет.

«Добра, што не на ферме... Не пры людзях...— падумала яна.— Каб толькі, здаецца, не грукалі ля варот машыны. Зямля ад іх падымаецца пад нагамі...»

Яна хацела сесці дзе на двары: падысці да гародчыка, да частакола пад жоўтыя юргіні, якія панагіналіся галоўкамі над маленькім услончыкам. Услончык вынесла раніцай Таня. Карову, мусіць, аж тут даіла, ля самага ганка: кошык валяецца з шалупінамі ад бульбы, перакулены ля варотцаў. Але з услончыка, сеўшы, яшчэ не падымешся. Нізкі, трэснуты пасярод — знаць, як збівалі прабойчыкамі — і ножкі ў ім кратаюцца. Трэба будзе сказаць вечарам Тані, каб вынесла ўслон, той, што стаіць у хаце ля перагародкі. Прыхінуцца няма дзе такім летам на двары. Хоць бы ля ганка што стаяла. Некалі была шырокая калодачка для бабкі: кляпаць касу. Адкацілі аж пад варыўню, тырчыць адзін круглы камень пад дзвярыма. Замінае толькі: ніхто аб яго не выцірае ног — шкрэбаюць падэшвамі ў сенцах аб дошкі. І на сталюгу на дрывотні не прыткнешся: кругляк ляжыць з учарашняга — не далі рады з Таняй разрэзаць. Лавачка толькі аж на вуліцы за варотамі ля гародчыка, новая, з шырокай габляванай дошкі: Міфодзя — сын — паставіў летась увосень, калі быў у водпуску. Не пойдзеш жа на вуліцу: захлынешся ад пылу.

Выпрастаўшыся, яна падняла галаву і асцярожна пайшла да варыўні, выставіўшы перад сабой рукі. Ля варыўні стаяла драбіна, прыткнутая верхнім краем да страхі на сеначках.

«Прыхінуся ў цень, пакуль перагарыць уваччу. У хаце няма чым дыхаць...»

Ішла і чула, як ад хады дугала ў галаве. На драбіну не стала садзіцца; пастаяла толькі ля яе, апусціўшы рукі, паглядзела на градуснік на сеначках пад стрэшкай — чырвоная нітачка была ўжо вышэй дваццаці; пасля зірнула ў аконца ў варыўні. Варыўня стаяла напроці сеначак з маленькім аконцам ад двара — у адну шыбіну. У чорнай шыбіне ўбачыла свае апушчаныя рукі і нажутку — светлай плямай. Сонца паднялося над соснікам і лягло вострай гарачай паласой наўкасяк праз двор — якраз на страху на сеначкі. Ад яго, здавалася, аж выгінаецца шэрая патрэска-

ная старая асінавая шчапа, зрываючыся з цвікоў. Над ёй мітусіліся белыя, шырокія ў кryллі матылі.

Яшчэ горш закалола пад павечкамі.

Між варыўнёй і сеначкамі стаялі прывязаныя да калкоў па вуглах высокія вароты з хлева: закрывалі праход. Яна падышла і прыхінулася да іх грудзьмі, перавесіўшы рукі на той бок — у гарод. Дыхала цяжка, з сябе, як і ўсягды, калі ёй цісnула за грудзьмі, і глядзела на зямлю — на мяжу ў гародчыку. На мяжы ад самых варот аж да бульбы пажаўцела на сонцы густая дзяцельніца з круглымі ладнымі галоўкамі. Далей пад плотам сох зайцаў гарошак, не змогшы завязацца на стручкі; гібеў высокі пасівелы, як палын, канаторжнік; падкорчыў лісце жылісты падарожнік, прыцярушаны пяском і прытаптаны да зямлі курамі. З гарода цягнула свежым пасля начы бульбеўнікам — рос яшчэ ў такую суш. На сцежцы, што вяла ад варыўні ў гарод, купаліся ў пяску, як у попеле, натапыраныя дробненькія вераб'і, відаць, маладыя. Ад спружыны ў вачах і дзяцельніца, і канаторжнік, і дурныя вераб'і — счапіліся гарачынёй біцца за саломінку — рабіліся вялікія і дрыжалі. Здавалася, што дрыжаць і вароты, і зямля пад нагамі; пасля і вароты, і зямля рабіліся чырвоныя, што косці на балоце ад падцёлкаў...

Абазвалася звяр'ё... Не было яго дагэтуль. Ну, відзелі па аднаму і летась і сёлета і на Жоўтым Беразе, і на Яськавым Балоце — якое яно балота цяпер, асушанае: цімафееўка і крапіва вышэй чалавека, толькі гадзюк, як і перш, не ступіць. З Кур'янаўскіх Садоў і з Дроздкі прыводзілі ваўчыцы малых і да фермы — вучылі. Але каб аж цэлы куток у кароўніку за адзін раз абчысціць?..

Далёка за Кур'янаўскімі Садамі ў Краснаволлі на ферме звінелі даілкі. Калі ціха, чуваць, адтуль раніцай і як ные казэс, глухім нудным звонам — сушаць і сушаць ячмень з Дроздкі, днём і ноччу. Ноччу ў тым баку над Краснаволлем стаіць зарыва.

Пасля, калі вуха прывыкае да звону, чуваць, як стракочуць, што конікі ў траве, далёка за вёскай на Дроздцы камбайны — ужо скора тыдзень, як на ячмені. Возяць яго адтуль суткамі, стараюцца ўхапіць за пагодай. Не будзе ж так пячы ўсягды, кончыцца. Чуваць яшчэ, як гудзяць машыны на загуменні і на Жоўтым Беразе. І недзе за грэбляй пад Ячным ракоча трактар, далёкім працяглым рокатам, як позна ўвосень. Пасля пачынаюць гудзець самалёты, глушачы ўсё на свеце, ляцяць з-пад сонца ўдоўж ракі,

як адразу пасля вайны. Каторы ўжо дзень у адзін і той жа бок — за вёску на захад. Кругом усё кіпіць, як у катле.

Калі сціхаюць самалёты, чуваць, як клепяць у вёсцы косы, бразгаюць у некага ля студні вёдры і кудахчуць на ўсё горла куры. Пасля яна злавіла, што пяе радыё: падышла блізка да акна — і чуваць.

Пад дзяцельніцай, як дзе глыбока на дне, яна згледзела раптам жоўтую вясеннюю квяту адуванчыка — бліснула, як далёкая радасць...

Спружына ўваччу знікла, патухшы. Як нанава глядзела яна на лог да ракі, які пасля вайны былі ўзаралі і засеялі кок-сагызам. Лог пасля гэтага стаў бугрысты, пабіўся ў ямы, і на ім, як на папары, пачаў расці рудзік, дурнап'ян і ўсякая калючая гавыла. Цяпер увесь лог быў белы — усеяны раманáмі. Раманы, знаць было, беглі палосамі ўніз да ракі, да маста; бялелі шырокімі пляйстрамі на выгане і на асушаным балоце пад Кур'янаўскімі Садамі — здавалася, што яшчэ вясна і ляжыць латочынамі пасля зімы снег — не растаў. Між раманамі рассыпаліся выганам бабы — палолі буракі.

З загумення пайшлі першыя машыны з ячменем — адна за адной. За імі вуліцай пабег хмарай пыл і на павароце ля Вайдаў, дзе раней, калі яшчэ не злучалі трох калгасаў у адзін, была канцылярыя, а цяпер жыла Волька з Валеркам, схаваў з воч усю вёску — здавалася, што стрэхі ляжаць не на хатах, а на самай зямлі.

Пыл пацягнула і на двор, сухі, шорсткі, з едкім гарам. Запяршыла ў горле; яна стаяла і кашляла ў кулак. Бульбеўнік ля хаты ў гародзе, дзяцельніца пад нагамі, аконца ў варыўні адразу парабіліся сівыя. Ад пылу ў суш, калі хадзілі вуліцай машыны, не было спасу: ён лез у хату праз шчэлкі ў вокнах, асядаючы на шыбы, рабіўся белы. Пыл сачыўся, як вада, праз дзіркі ў дзвярах у сеначкі, клаўся слоем на клямку — рабілася шорсткая пад пальцамі; праз адчыненыя дзверы бег у хату, як зімой мароз у кут пад стол; ліп на вілачнікі ў чалесніку, як некалі на цапы на таку ў малацьбу. Ад яго рабіўся сівы дрот ля печы, на якім вісела вядро з вадой... Пасля машын кожны вечар Таня перамывала пасуду і выцірала мокрым ручніком суднік.

Стараліся ўсягды зачыняць дзверы: мух так не баяліся, як пылу.

Гарачыня стаяла другі месяц запар. Да яе ўвесь сёлетні май быў халодны. У канцы красавіка на збуялую раннюю зелень пайшлі спачатку доўгія золкія дажджы, як уво-

сень; захлюпала на полі ралля. Пасля, тыдні праз два, апагодзілася, завярнула вецер з Жоўтага Берага, з поўначы, дыхнула сіверам, густым, калючым; па небе пагнала нізкія рудыя рваныя хмары — ударыў зазімак. Чырвоная ніточка на градусніку пад падстрэшкам апусцілася ніжэй нуля. Начы са дзве ці са тры ў лагчынах ля грэблі і ў аселіцах ля ракі ляжаў іней, на двары ля хлева ўзялася грудай растоптаная гразь. Пахаваліся шпакі, не адзываліся жаваранкі — не чуваць было нават у палудзень. Не злятала з гнязда бацяны — сядзелі згорбіўшыся; аціхлі на двары вераб'і, пахаваліся пад падстрэшкі, натапырыліся, як зімой; збіваліся ў кучу ля хлева куры, дзе цяплей, хавалі пад крылле дзюбы — стаялі на адной назе.

Пасля пайшлі крупы, пасыпаліся з цёмных тулягоў, як з рэшата; раставалі на страсе ад скупога сонца, капаючы з доўгіх ценкіх чысценькіх ледзяшоў халоднымі слязьмі; на двары, пазмятаныя ветрам у ямкі, ляжалі цэлы дзень да вечара.

Мерзлі раннія матылькі і пчолы. Асыпаўся ў садах белы цвет — адмёрз.

Дваццатага мая пацяплела. Вецер, змяніўшыся ноччу, падзьмуў з захаду, з другога канца вёскі, несучы на двор дым з коміна аж да Вайдаў; зашумеў нагнуты тофель ля вуліцы, трапечучы лісцем; заслала неба нізкімі хмарамі, і пайшоў снег. Густы, мокры, ад яго адвыклі пасля зімы вочы і аж балелі. Снег ішоў з раніцы да палудня, касы, з ветрам, здавалася, мяльцешыцца ўвесь белы свет; наліпаў на стрэхі, на жэрдзе на платах, на паркан, на вочап, на асвер, на зялёнае голле на тофелі і на яблыню ў гародзе пад раку. Палуднем вецер аціх, і снег паваліў стаймя́ — падаў па лапцю, здавалася, аж шапацеў, кружачыся ўгары і выбіраючы, дзе легчы...

Забялела нанава зямля; усюды стала светла і ядрана — не зірнеш; запахла свежа лесам і балотам, як зімой; сціхла радыё — абарваліся недзе правады; на ферме ў кароўніках зарыкалі прыгнаныя з поля галодныя каровы, білі рагамі ў сцены — трэба было думаць, чым накарміць.

Адвіхнула на тофелі сук, і ён глуха стукнуўся аб лаўку на вуліцы — яго адразу прысыпала снегам; паперагінался цераз частакол зялёнае голле бэзу — аж да зямлі.

Увесь свет быў белы аж да начы. Пасля ўсю ноч цадзіў па шыбах дождж, востры; сек па сцяне, як голым венікам — ад яго не было чуваць у хаце ходзікаў. Капала са

стрэх вада, стукаючы пад акном аб нешта бляшанае, нудна, са звонам, не даючы заснуць.

Да раніцы снег растаў. Упаўдні аблешчылася неба, зірнула вострае гарачае сонца, заблішчалі мокрыя зялёныя аселіцы і ручаі на вуліцы, якія беглі з фермы, як вясной, размываючы пясчаную дарогу.

Папалудні хмары сплылі, неба над вёскай зрабілася высокае, белае, на яго не было як глядзець. Над зямлёй вісела духата; на дварэ ў гародчыку стаяла пара, як у лазні на палку; запахла разапрэлымі ля варот у гразі тафялёвымі пупышкамі.

Назаўтра на небе не было ні воблачка з самай раніцы, за дзень падсохла на двары і на вуліцы, а праз два дні зямля ўзялася цвёрдай, як цаглянай, скарынкай, і запыліла вуліца.

Ударыла гарачыня; раптоўна паявіліся аднекуль сляпні, нібы хто іх сыпнуў з рукава, зазвінелі авадні і зазыкавала скаціна. Каровы беглі з раніцы з поля, абрываючы хвасты; раўлі як на бойні;餘 паролі адна адну рагамі; ламалі ў кароўніку дзверы, тапталі, рвучы са сцяны, ланцугі пад ногі ў гразь; гойсалі па ферме; шукаючы ратунку, забіваліся ў свіран, перакульваючы на зямлю бітоны з ранішнім надоем і парожнія лёгкія бліскучыя новыя малакамеры — кацілі іх пад сабой па зямлі аж на дзядзінец, на траву і каменне. Да вечара вымучваліся і пастухі і даяркі — месца на плячах сухога не было.

У тую гарачыню і пайшлі на Жоўты Бераг леспрамгасаўскія «прычэпы», падняўшы на вуліцы пыл. Здавалася цяпер, што ён вісіць над вуліцай вечна, як вісіць над вёскай засмужанае, без ніводнай хмары неба... Сонца і ўстае, і садзіцца ў густую сінюю смугу ўвесь гэты час; упалудні неба робіцца белае, як папера; дрыжыць ад гарачыні двор, і ляжаць ля сеначак пад прызбай у цяні ў пяску куры, паадкідаўшы галовы і паразяўляўшы дзюбы — хаўкаюць, задыхаючыся.

Гарыць за выганам пад Кур'янаўскімі Садамі торф, і адтуль нясе салодкім густым дымам — аж выварочвае нутро. Пагарэла трава, не было чаго касіць, цяпер дагарае ячмень — не парос, адскочыўшы ад зямлі, не дацягнуўся да калена і засох: колас так зялёны і сагнуўся ў кручок. Няма ўжо куды ганяць у поле скаціну; зарвалі каровы, вымя матляецца, як у тых, што здыхалі пасля вайны.

За мастом відаць той канец вёскі — большая палавіна іхняга Крамянца. За старымі вольхамі ля ракі — белая

страха: яе, Алімпіядзін, даўнейшы двор. Адтуль яна прыйшла сюды, да Мікалая. Помніць, што прыйшла — была восень, выбралі бульбу, пад нагамі на вуліцы ляжаў нацярушаны на пяску іней. Прыйшоў па яе Мікалай — і пайшла. Без бальшанак — на вуліцы ўжо тыя далучыліся; а ў вэлюме ішла ці так — расплываецца ў памяці...

Вяселле гулялі тады лічы два дні — вечарам і на другі дзень садзілі сватоў за стол. Гулялі адной вёскай: «маладыя» былі свае, вясковыя. Мікалаева хата — тады яшчэ без перагародкі, перагародку зрабіў ужо Міфодзя, калі кончыў школу ў Белым — была біткам набіта бальшанкамі. Гэта цяпер, каб прыйшлося рабіць Тані вяселле, то бальшанак тых і на адзін стол не набярэш: усе яе равесніцы махнулі крыллем з вёскі.

Эх вы, бальшанкі... Паглядзі цяпер на каторую на ферме — ці скажаш, што яна была некалі маладзенькай бальшанкай: распаўзлася і ногі чуць валачэ, ідучы з вёдрамі ў руках. А на каго каб і хацеў, то ўжо не паглядзіш: ляжаць пад Ячным на могілках. А тады на вяселлі — ламалі лаву. Мала за сталом дугаць нагамі па падлозе, трэба ўскочыць бальшанкам на лаву і, узяўшы адна адну пад паху, каб не паляцець носам, падскокваць аж пад столь, выраблячы нагамі чортведама што, каб толькі зламаць лаву. Што гэта за вяселле, калі не зламаць лаву?..

Як сягоння яны перад вачыма, усе бальшанкі на лаве — у паркалёвых новых сукенках, у сачыках, з вялікімі — ад вуха да вуха — грабянямі ў валасах, з хусткамі ў руках. Музыканты — Дзвінасы — гармонік, цымбалы і скрыпка — хвалёныя, ад polькі звініць хата ядраным звонам — аж цяпер, праз трыццаць гадоў, ён, здаецца, стаіць у вушах — і трашчыць старая лава пад нагамі ў бальшанак. Бальшанкі выстраіліся на лаве ля сцяны ад вуліцы, як з горкі ўніз, і, як згаварыліся, па хатах: іх можна пералічыць, пачынаючы з таго канца вёскі. Першая Зенка, гонкая, на вечарынках не было адбою ад сваіх хлопцаў і ад пагранічнікаў з заставы — з Жоўтага Берага. Цяпер у Зенкі ўжо дачка замужам на цаліне, сын прыйшоў з арміі, шафёр у вёсцы,— былі ў бабы два мужыкі, ні з адным не пажыла і цяпер удава. Была Зенка тады з такімі ж рыжымі валасамі, як і яна, Алімпіяда; цяпер гнядая і сівая; глядзіць на ферме цялятак. За Зенкай — Настуля, маленькая, поўненькая, кругленькая. Цяпер і яна не тая — адны вочкі ранейшыя: круцяцца. Пасля вайны — адна, сын у арміі, дачка вучыцца ў горадзе. Пасля — Зося Сяргеіха, то-

ненькая, худзенькая, з касой. Яна і цяпер тоненькая і худзенькая, як дзеўчынёха. Нарадзіла Сяргею трое блізнят, усе выраслі, разляцеліся з хаты. Сяргей яе не вярнуўся з вайны, «пропал без вести» ва Усходняй Прусіі, як напісала ў «извещении», што ляжыць у яе ў куфры ў прыскрынку, і Зося цяпер у хаце адна як палец. І на ферме яна раней усіх ля кароў і пазней усіх: хоць з людзьмі пабудзе... Ля Сяргеіхі — Крыстына, стройная, чарнявая, чыстая з твару, прыгожая рэдкай вясковай гордай прыгажосцю. Нарадзіла яна дачку Вандзю ад начальніка пагранзаставы з Жоўтага Берага. Вандзя замужам за ваенным, жыве аж у Германіі; цяпер у Крыстыны двое ўнукаў. Яе начальнік пагранзаставы Кокараў з'ехаў з Жоўтага Берага ў трыццаць дзевятым, калі нашы перайшлі Вілію, і ў вайну загінуў. Крыстына нават ездзіла на яго магілу — вазіла Вандзя. Крыстына доўга жыла адна, пасля выйшла замуж за Сцяпана са свайго ж Крамянца. Сцяпан быў удавец, маладзей яе, цягне, ідучы, нагу і носіць летам саламяны капялюш. Працаваў у леспрамгасе грузчыкам, зноў вярнуўся ў калгас і ходзіць на работу па нараду: пакуль дойдзе з вілкамі на плячы праз вёску на ферму, кульгаючы, то ўжо і дамоў варочацца пара. Дзяцей з ім Крыстына не нажыла, пастарэла, зрабілася цяжкая, чуць ногі валачэ, калі ідзе ля хаты на работу. У рабоце — агонь, вёдры аж звіняць у руках.

За Крыстыну на лаве дзяржалася, каб не зляцець, Аліна Янукова. Ну і пела ж — на ўсю вёску голас быў чуваць. Выйшла перад самай вайной за лётчыка — адлучылася ў Мінск на адзін дзень і выйшла. Гавораць цяпер, што яна ў Алма-Аце, артыстка. Адна Аліна і засталася з Януковай сям'і: яе бацьку, Янука, і брата Піліпа спалілі немцы ў апошнюю блакаду ў вёсцы ў недастроенай новай хаце. Прыязджала Аліна пасля вайны адзін раз у вёску, але Алімпіяда яе не відзела.

З бальшанкамі на лаве была і Ганька, вастраносая, гордая. Выйшла замуж за калгаснага брыгадзіра Алёшу; вясковага добрага белагаловага Алёшы не стала яшчэ перад вайной, і ад таго часу Ганька і цяпер адна. Двое яе сыноў з'ехалі пасля арміі на поўнач, у Варкуту на заработкі — адзін пераманіў другога,— пажаніліся там, не прыязджаюць, шлюць толькі грошы і пасылкі. Ганька раздабрэла, ніколі тую даваенную бальшанку ў ёй не пазнаеш; налілася, шырокая ў плячах, як мужчына, цвёрдая на ногі — адна тую лаву зламала б цяпер, каб ускочыла і ззыбнулася.

У парніку мяшае ў катлах бульбу мешалкай — аж дым курыць.

На лаве была, здаецца, і Верка з таго канца вёскі. Вярнулася Верка ў вайну з блакады з Паліка без дачок; памерла пасля вайны ў сорак пятым зімой ад тыфу. Была на лаве — ускочыла самая апошняя — і яе, Алімпіядзіна, родная сястра Марыля. Падарвалася ў апошнюю блакаду на міне: адарвала ёй ногі, так яна і сцякла кроўю, лежачы.

Эх, бальшанкі... Здаецца, больш вас не было на лаве — не помніцца. А лаву ўсё-такі зламалі. Узяліся за рукі, аж пад столь скакалі і — зламалі.

Бальшанкі ўсе свае, радня — блізкая і далёкая. Увесь Крамянец — не праз мужыка, дык праз жонку — у радні. І прозвішчы былі ў вёсцы амаль адны. І ў яе, Алімпіяды, і ў Мікалая адно прозвішча — Падаляк. І перапісваць не спатрэбілася, калі замуж выходзіла.

Белая страха за вольхамі на хаце і ўвесь той канец вёскі схаваліся ў пыле: зноў пайшлі машыны з загумення. Адзін за адным мігнуліся і схаваліся з воч — нырнулі на павароце да Вайдаў пад разгатую, нахіленую на вуліцу старую вярбу — два самазвалы з жоўтымі ад зерня кузавамі. Як усё роўна хто сунуў у печ вялікія бляхі з ячменем, каб падсушыць яго ў нагрэтай печы і стаўчы ў ступе на крупы, як пасля вайны.

Бразнуў раптам кручок у варотах ад вуліцы, і на двары ля прызбы задугалі цяжкія ногі. Яна адагнулася ад варот: нехта ж пабяжыць у хату, а яна стаіць тут, за сеначкамі...

## 2

Беглі не ў хату. З-за вугла выскачыў Альбін Фірага з леспрамгасаўскай аўтакалоны. Яе ён не згледзеў; яна стаяла, узяўшыся рукамі за драбіну ля сеначак, і сачыла за ім. Пад'ехаў ён следам за калгаснымі самазваламі, яна і не пачула калі. Убачыла цяпер і новы яго МАЗ з прычэпам, бліскучы ад сонца — ля кабіны, ля круглага люстэрка, панатыкана абвялага бярозавага галля. Прычэп быў расцягнуты на ўвесь яе тын ад вуліцы і нагружаны доўгімі хлыстамі — ад камля аж да макаўкі. Яна бачыла якраз камлі — двум чалавекам у абхват. Старое дрэва парасло зялёным дробным мохам; пасярод хлыстоў і мох і кара былі паздзіраны, як мядзведжай лапай — дрэва браў клюшняй пагрузчык. У макаўках на хлыстах матлялася паабдзіраная кара і дрыжала лісце.

На дварэ запахла гарам і сырой асінай.

Выбегшы на двары на зялёны падарожнік, што рос ля гародчыка, Фірага сцягнуў з плеч расшпіленую кароценькую сінюю картовую куртачку, пабітую цёмнымі маслянымі плямамі, і шпурнуў яе на частакол. Закалыхаліся, схаваўшыся пад ёй, жоўтыя юргіні. Астаўшыся голы да пояса — пад куртачкай ніякай адзежыны не было,— ён скінуў з ног пад частакол расшнураваныя новыя шэранькія мяккія брызентавыя паўбацінкі на гумовай жоўтай падэшве і босы падскочыў да студні. Учарэпіўся дзвюма рукамі за вядро, як за збавенне, прысеў і нагнуў да яго сваю выгаралую на сонцы, светлую, як аўсяны сноп, струкаватую галаву. Замёр ля вядра — піў, сасмягшы і дарваўшыся. З адтапыранай кішані са штаноў у яго, здавалася, вось-вось вываліцца ў мокры жвір пад зруб пачка «Беламору». З нагнутага вядра пацякла, зацурчэўшы, вада, палілася на жвір, яму на ногі і закапала глыбака ў студні.

Піў ён доўга, хоць ты было адцягвай яго за адтапыраныя чырвоныя вушы. Пасля выпрастаўся, выцер рот рукой, ухапіў са зруба вядро, адбегся пад асверам да самай сахі, дзе стаяў трыножнік, на якім вечарам варылі бульбу, падняў вядро над галавой, сагнуўся і пачаў ліць ваду на сябе, на чорныя ад загару плечы, форскаючы і тупаючы босымі нагамі па мокрай траве, як трус — толькі пырскі ляцелі. Закудахталі ля хлева куры, пасталі, падняўшы галовы.

Яна аж засмяялася.

Яе ён не пачуў. Схапіўшы парожняе вядро, павярнуўся — яна ўбачыла яго круглы разагрэты чырвоны твар, ладны шырокі аблуплены нос, з яго цуркам цякла вада — глядзеў на яе бліскучымі вачыма і не бачыў праз мокрыя валасы. Падбегшы да студні, спрытна кінуў вядро на крук і піхнуў уніз вочап адной рукой.

І другое вядро ён ліў на сябе: на галаву, на чорную спіну, на грудзі, на штаны, на ногі. Ляпаў пасля мокрымі рукамі па грудзях, як певень крыллем, і стараўся адкінуць з вачэй мокрую пасму. З-пад яго з травы пацякла пад сеначкі вада, лужынай, як у дождж. Згледзеўшы яе, Алімпіяду, спатыкнуўся быў, зірнуў на сябе — на мокрыя штаны — і, свіснуўшы ціха, сабе пад нос, закрычаў на ўвесь двор:

— Гарым, матка-а!..

Як што ўспомніўшы, ён раптам развёў чорнымі ў мазуце рукамі, кіўнуў галавой на вуліцу, дзе дрыжала, сапучы парай, машына, зноў падскочыў да студні і схапіў зда-

лёку вочап. Дастаўшы яшчэ раз вады, падчапіў вядро, лёгка, як парожняе, паказаў, засмяяўшыся, белыя зубы і пабег босы сцежачкай ля хаты, пліхаючы з вядра вадой на падарожнік і на жоўта-зялёную румяну. Яна адышлася ад сеначак да варыўні і апёрлася рукой на сталюгу. Бачыла, як Фірага, падбегшы да машыны, паставіў вядро, прыткнуўшы на нешта спераду, падняў над машынай запылены капот, падпёр, як века ў куфры, узяў вядро і пачаў залі-ваць ваду. З машыны пайшла пара, як у лазні з печы з гарачага камення.

— Гарым, матка! — зноў крыкнуў ён, бегучы на двор. Здавалася, што і скура на ім гарыць; падбегшы да гародчыка, дзе ляжалі на траве яго паўбацінкі, пліхнуў ваду, што асталася на дне ў вядры, за частакол на жоўтыя юргіні; пастаяў, падышоўшы да яе — хацеў, відаць, аддаць у рукі вядро, тады, зноў паказаўшы зубы, павярнуўся да студні, гладзячы рукой мокрыя грудзі і астаўляючы на іх чорныя пісягі:

— Гарыць усё гарам, матка... і лес, і зямля, і машына. І сам у машыне, як на вуголлі, сквярэшся. Што гэта будзе, матка? — спытаўся ён, кінуўшы вядро на крук і нагнуўшыся да сталюгі на дрывотні.

— Не бойся, сын. Шафяры ад іншай гары гараць. Нешта я не відзела, каб хто з вас ад сонца не ўстаў з-пад прызбы. Ад другога чаго не падымаліся...

— Ну ты і даеш, матка...— зарагатаў ён і закруціў галавой.— Без абрэзкаў. Проста ў вочы...

— Вас толькі так і можна астудзіць: у вочы. Ці вядро вады на галаву.

— Хе-хе-хе...— заклекатаў ён на ўвесь двор, задзёршы ўгару галаву, як бацян у гняздзе.— Ну кінь ты, матка... Хіба я, будучы ў вас, даў прычыну? Колькі разоў быў, усягды...— ён, нагнуўшыся над студняй, чуваць было, зачэрпнуў вядром вады.

— Даў бы прычыну — да трох бы не пералічыў.

— Кінь ты, матка. Калі дзе трохі, сама ведаеш...— ён рвануў рукой вочап са студні. Стукнуўся аб зямлю асвер, над зрубам падскочыла на круку вядро, распліхваючы ваду.

— Добрае далёка чуваць...— цяпер усміхнулася яна, згледзеўшы, як ён пачынае круціцца ля студні.

— Кінь ты, матка, добрае...— ён зняў вядро з крука і панёс да сеначак, ступаючы мокрымі босымі нагамі па жвіры.— Зарплата вялікая, а мы людзі маладыя. І дзялы нашы маладыя. А ваша дзе ж маладзе́ж?

Яна паднялася са сталюгі і пайшла за ім памалу ў хату. Ён спрытна адкінуў да сцяны дзверы ў сеначках, пстрыкнуў пальцам па клямцы на дзвярах у хату і стаў з вядром у руках у парозе ў качарэжніку, наступіўшы босай нагой на новы бярозавы венік: чакаў, пакуль яна пераждаргае ззаду парог.

— Мусіць, дрэнь у вас дзялы маладыя, калі ў мяне ў старой пытаецеся...— яна пераступіла парог і хацела ўзяць у яго з рук вядро. Ён сам тады падняў яго лёгка і высака, вышэй чалесніка ў печы — штукаваўся — і павесіў на кручок на дрот. Падставіў руку — прыцішыў, каб не калыхалася.

— Кінь ты, матка. Дзялы міравыя...— глянуў ён на яе спадылба вясёлымі вачыма, зарагатаў і стаў прылізваць мокрыя валасы на галаве.— Сама была маладая...

Ён глядзеў ужо не на яе — вадзіў вачыма па хаце: па судніку, не зацягнутым занавесачкай — былі відаць талеркі; па незасланым стале, дзе быў накрыты абрусам хлеб — ляжаў ладным бугарком; па белай, зашклёнай зверху шафцы для пасуды — купляла ў Плешчаніцах Таня, Міша Ратнікаў прывозіў на машыне; па перагародцы, абклеенай сінімі, у вялікія пшанічныя каласы абоямі,— яна здагадвалася, чаго ён шукаў: шнырыць вачыма і слухае, ці ёсць хто за перагародкай на другой палавіне. Убачыў пасля на цвіку ля ложка Танін чырвоны плашчык з касынкай у рукаве, здумеўся, апусціў вочы. Падумаў, відаць, што Таня дома, але пра яе не спытаўся.

— Радзіва, матка, перавесілі...— кіўнуў ён галавой на беленькі кругленькі, як падсітачак, рэпрадуктар на перагародцы.— Калі я быў у вас апошнім разам, дык ён вісеў у той палавіне, ад вуліцы. Мяняецца ўсё, матка...

— Толькі матка ніяк во не памяняецца. Як зрабілася калекай...

— Дык кінь ты, матка... Будзем мы яшчэ гарцаваць, хвост задзёршы. Не пад такую музыку...— кіўнуў ён зноў на рэпрадуктар, дзе чуваць была прыглушаная далёкая песня.

— Ат...— махнула яна рукой.— Перавесілі во, бліжэй. У печы палю, бразгаю на прыпечку скавародкамі, а яно мне пашэпча на вуха. Ці папяе трохі з самай раніцы.

— Кінь ты, матка...— патрос ён пальцам.— Я цябе знаю. Нічога не прапусціш. Дай, матка, яшчэ раз нап'юся.

— Можа, чаго лепшага? — спыталася яна, адпусціўшыся.

— Кінь ты, матка... Такой гарачынёй? За рулём? — скрывіўся ён і, зняўшы з крука чорную паўлітровую кружку, засіліў поўную вады і выпіў да дна. Нават кроплі не капнула, калі ён махнуў кружкай, вешаючы назад на крук.

— Закуру, матка. Сярнічкі знайдзі. Свае ў машыне кінуў ці, можа, у лесе згубіў,— ён адышоўся ад вядра, пакінуўшы на жоўтай падлозе мокрыя сляды, жвір і пілавінне, што прынёс на нагах з дрывотні, дастаў з кішэні пачку «Беламору», выхапіў, яна і не згледзела як, зубамі папяросу і зашастаў карабком з сярнічкамі. Карабок вышмыкнуў з пальцаў, стукнуў аб падлогу і адкаціўся пад услон да перагародкі. Ён нагнуўся яго падняць, але на вуліцы засігналіла машына, моцна, не сціхаючы, і заляпалі па жалезе.

— Ну, матка...— ён выплюнуў з рота папяросу пад услон, так і не злавіўшы рукой карабка з сярнічкамі, падскочыў з падлогі, як мячык, зірнуў з парога на яе з-за пляча нейкімі балючымі вачыма і скокнуў у сенцы. Задугаў нагамі ля акна — пабег на вуліцу. Яна падумала, што ён быў у хаце ўсяго якую мінуту і заходзіўся, відаць, не дзеля таго, каб паднясці ёй вядро вады. Можа, нават адумысла і стаў сёння на вуліцы — хацеў ёй нешта сказаць, не рашаўся толькі. Пагаварыць, відаць, карцела... Яна за ўвесь гэты час, калі з вясны пайшла на Жоўты Бераг аўтакалона, ніяк не магла разабрацца ў Фірагу. А ці змагла разабрацца Таня?

Ёй не хацелася ісці на двор: звінела ўвесь час у галаве, але і хата і сенцы былі расчынены. З двара дыхала гарачынёй, як з лазні, і ляцелі мухі. Наліпалі плоймай на сцяну на дварэ, чакаючы, калі расчыняцца дзверы, тады ўсмоль лезлі ў хату.

Яна злавіла рукамі кручок у дзвярах ад сеначак і хацела зашчапіць іх з сярэдзіны — ад хлева, згледзеўшы яе, ужо беглі куры,— але, зірнуўшы на частакол у гародчыку, убачыла, што на ім яшчэ вісела картовая сіняя куртачка, пабітая маслянымі цёмнымі плямамі. На траве ляжалі новыя брызентавыя паўбацінкі. Яна тады, дзержачыся за кручок на дзвярах, пераступіла парог і выйшла на двор.

На вуліцы бразгалі дзверцы ў машыне і крычалі, не разабраць было, хто і што, як біліся дзе, высыпаўшы з вечарынкі. Яна адразу падумала, што трэба сцягнуць з частакола куртачку, падняць з травы паўбацінкі і аднесці іх на вуліцу, пакуль яшчэ стаіць прычэп з асінай ля варот, і пайшла да гародчыка па чыстай сцежачцы між падарожні-

ку, спярэшчанай курынымі слядамі. Выйшаўшы з-за вугла хаты, убачыла на дзядзінцы за дарогай ля плота тры гружоныя ячменем машыны. Машыны і людзі былі схаваны прычэпам з асінай, і яна бачыла толькі жоўтыя кузавы з ячменем. Кузавы стаялі ўпобачкі — шафёры, відаць, хацелі аб'ехаць адзін аднаго, але дарогу ім усім загарадзіў прычэп з асінай.

Машыны гудзелі не сціхаючы: на вуліцы падняўся пыл і з дымам пацягнуўся на двор да студні. Ад дыму падступіла блага. У пыле яна не бачыла людзей і не магла разабрацца, што робіцца на вуліцы.

— У мяне намалот! У мяне камбайны стаяць на полі!..

Па голасе яна пазнала Ратнікава.

— У рот... мне твой намалот!..— гэта Фірага.

Яна тады ўтаропілася на вуліцу і згледзела іх ля самых варот проці машыны з расчыненымі дзверцамі.

Яны счапіліся, як казлы рагамі. Адставіўшы ногі і ўпёршыся галовамі, цягнуліся адзін да аднаго рукамі — даставалі, каб схапіць за шыю. Фірагу было не пазнаць. Увесь шэры — і плечы і штаны ўкачаны ў пясок,— ён выкручваўся, як вуж пад вілкамі, учапіўшыся за грудзі — за рубашку — Ратнікаву і паласаваўшы яе на ашмёткі. Ратнікаў быў без чорнай цыратавай кепкі — упала пад ногі ў пясок; цёмныя валасы ў яго рассыпаліся на рад, абляпіўшы доўгі чырвоны ад гарачыні і мокры ад поту твар, і ад гэтага занадта доўгім здаваўся яго і так выцмуглы нос... Шэрыя вялікія вочы былі злосныя і, здавалася, лезлі ад натугі на лоб. Фірага быў да пояса голы і слізкі, Ратнікаву не было за што схапіцца рукамі, і ён, злаўчыўшыся, сцяў адразу Фірагу за шыю і цяпер пхнуў яго задам пад прычэп — пад колы: быў вышэйшы і, можа, дужэй...

Яны стагналі і саплі, змораныя і разгарачаныя; круціліся адзін ля аднаго, як звязаныя; падсякалі нагамі, каб скінуць з ног на зямлю; храплі; прысядалі; аралі адзін адным вуліцу, што плугам, і не маглі даць рады адзін аднаму — паднялі толькі пыл вышэй варот, самі хаваючыся з вачэй у пыле...

Калі цяпер закрычалі на вуліцы, яна згледзела і другіх: узяўшыся адной рукой за дзверцы, стаяў на падножцы ля сваёй машыны Царук, насунуўшы нізка на лоб брыльком чорную прыплюснутую скураную кепачку, і смяяўся, паказваючы зубы. Другой рукой, як усягды, ён церабіў патыліцу.

На задняй машыне, гэтак жа, як Царук, стаяў на паднножцы Сяржант, у ваеннай форме, толькі што без пагон, у высокай, з чорным аколышкам і брылём фуражцы — вясной прыйшоў з арміі і не скідаў формы. Выставіўшы ўперад руку — высокі, у два метры росту, плечавень,— ён махаў і махаў ёю, як лапатай на таку, і крычаў на ўсю вуліцу:

— Даві, мацъ яго на затычку!.. А то лазеньку, лазеньку яму цешча ўстроіла... Спінку венічкам пацёрла... Вот так трэба. Да цешчы. А то некаторыя здалёку... Кругаля даюць каля хаты. За вароты баяцца ўзяцца... Давай падсякай яго, падсякай... На лапаткі!

У Ратнікава з носа пайшла кроў. Відаць, Фірага зачапіў галавой.

— За плот яго з-пад ног... За плот... Нам што, мы можам і па загуменні аб'ехаць. А табе, Ратнік, ён дарожку заставіў... Жалезна заставіў!..— усё крычаў Сяржант. Хацеў саскочыць з падножкі, але не рашыўся. Стаў сігналіць Царук, і не было чуваць, што яшчэ крычыць Сяржант.

Яна тады падышла да частакола і тузанула сінюю картовую куртачку. Куртачка была лёгенькая, як пярына, і яна, махнуўшы яе сабе на сагнутую ў локці руку — так здымала ўсягды з плота сухую пасля мыцця адзежу,— пачула, як вышмыкнуў з куртачкі з кішэнькі чырвоненькі карабочак сярнічак і адскочыў ад рукі за частакол у настурцыю. Цяжка было згінацца, і яна, прысеўшы, узяла ў руку адзін і другі паўбацінак, паднялася, учапіўшыся за частаколіну, і пайшла, спяшаючыся, ля хаты на вуліцу — праз адну руку перавешана сіняя куртачка, у другой брызентавыя паўбацінкі.

— О-о! Цешча! — закрычаў на ўсё горла Сяржант, згледзеўшы яе. «Зубаскал і пустыня́»,— падумала яна пра яго на хаду.— Зяці сышліся... Не мірацца зяці... Патры ім дваім спінку парканінай...— Сяржант аж падскокваў на падножцы, тручы рукі адна аб адну далонямі, усё роўна як адмываў ад гразі.— Патры ім спінку! Патры!..

— Хлопцы... Хлопцы... Цішэй, такую вашу...— Царук зняў з галавы прыплюснутую скураную кепачку, махнуў ёю, як усё роўна хацеў адкінуць за плот у бульбеўнік, тады пляснуў яе зноў на лоб, як блін на талерку: — Цішэй... Цішэй... Уважайцеся старога чалавека...

Царук быў маленькі ростам мужчына, дробненькі, хоць і ў гадах, ціхенькі і гаварыў ціха; сярод машын ён здаваўся яшчэ меншым, і яго цяпер ніхто не слухаў.

— Валі! Сколькі ты яго цягаць будзеш!..— разрываўся Сяржант. Расчырванеўся, увесь аж кіпеў.

Падыходзячы да варот — ішла, а за частакол чапляліся брызентавыя паўбацінкі,— яна згледзела, як з-за Фірагавай машыны спераду, відаць, абабегшы яе ля плота, выскачыў Валерка. Вайда — па маці, па-вясковаму — Альховы, Руды, Рыжы, Чырвоны, Байструк, з рыжай, аж чырвонай, даўно не стрыжанай галавой, у вылінялай, некалі жоўтай маечцы, з загарэлымі чорнымі рукамі — на іх ля плеч уставала белымі пляйстрамі спаленая скура. Тоненькі, худы, выцягнуўся толькі ўгару, гадоў дванаццаць яму, ці што, ён скочыў цяпер, як кот, з-за кола, паторкаўся, як усё роўна паганяў нагамі мячык, тады, злаўчыўшыся, сыпануў са жмені прама ў твар Фірагу ячменем. Жоўтыя зярняты пырснулі аж ёй на руку, у якой яна нясла паўбацінкі, і адскочылі ў пясок на сцежку.

Фірага адразу схапіўся абедзвюма рукамі за твар, заціснуўшы вочы. Такога не чакаў і Ратнікаў; прыціснуўся да кола, лыпаў вачыма і гладзіў рукой па грудзях — счышчаў асцё.

Фірага стаў паволі круціцца на адным месцы па пяску, не адымаючы рук ад вачэй. Тады Валерка падскочыў да яго, падставіў ззаду пад калені нагу і піхнуў сваёй сухой, спаленай на сонцы рукой яму ў грудзі. Фірага як стаяў, закрыўшы рукамі вочы, так і паляцеў дагары на дарогу — галавой у пясок. Валерка, не чакаючы, размахнуўся і стаў біць яго пад бок, моцна, са злосцю, адной нагой, пасля другой. Алімпіяда бачыла толькі, як старыя, вылінялыя карычневыя кеды з новымі чорненькімі шнуркамі сілялі на вуліцы пясок і сыпалі яго на Фірагу: на штаны, на грудзі, на галаву. Фірага быў мокры, і цяпер на яго наліп пясок шэрай яловай карыной. Ён, падагнуўшы пад сябе калені, варочаўся з боку на бок — ніяк не мог злаўчыцца ўскочыць з зямлі — і не адпускаў рук ад вачэй.

Яна пачула, што ў яе аж кіпіць усё ўсярэдзіне. У вачах задваіўся падарожнік пад нагамі і вераб'і за частаколам у жоўтых градах. Здалося, іх поўны гародчык. Горача стала ў грудзях...

— Закалю-ю, бандзіт!..— крыкнула яна і папярхнулася: суха было ў роце, аж не варочаўся язык.— У цюрму захацеў!..— Яна як трымала ў руцэ брызентавыя паўбацінкі, так і запусціла імі ў Валерку. Паўбацінкі шмякнулі на вуліцы ў пясок ля самых яе ног, нібы яна іх і не кідала, а толькі выпусціла з рук.— Мала таго, што ў вёсцы кожны

вугал абмачыў, як сабака... дык ён...— яна крычала і чакала, што ў вачах зноў паявіцца гарачая спружына.

Валерка крутнуўся і, згледзеўшы яе, адскочыў на той бок вуліцы — у запылены канаторжнік. Пасля пачаў бегаць воддаль Фірагі, не падыходзячы блізка, як воўк ля ахвяры, якая аказалася яму не пад сілу. Не баяўся, відаць было, ні Фірагі, ні яе і нікога на свеце. Натапырыўся, як шашок, соп, глядзеў калюча спадылба; разгарачыўся, жоўты ад загару і рабаціння яго востры тварык усыпалі чырвоныя плямы. Калі ён убачыў, што яна ідзе да яго, адступіў ля плота і стаяў, гледзячы на ўсіх — на яе, на Царука, на Сяржанта, на Ратнікава. Чакаў, відаць, ці заступіцца хто, тады, зірнуўшы яшчэ раз на яе — яна ўсё ішла да яго — і на Фірагу, які пачаў падымацца з пяску, дзержачыся яшчэ рукамі за твар,— прыпусціўся ля плота на ферму. Дабегшы ў канец гародаў, павярнуў на загуменне — ківалася толькі за бульбеўнікам яго галава, пакуль не схавалася за свірнам.

— Перастараўся, хлапец!.. Перабраў! — крычаў яму ўздагонку Царук.— Хай бы зяці пацягаліся. А ты перабраў...— Царук гаварыў цішэй, расцягваючы словы: стыдзіў.

— Хай знаюць нашых!..— Сяржант, сагнуўшыся на падножцы, пачаў сігналіць, прарэзліва, на ўсю вуліцу.— Хай падымаецца. Загарадзіў сваім жэрдзем дарогу, як на вяселлі, цяпер сам лёг... Падымі яго хто... Дзе там Ратнік? Кашу заварыў...

— Не сягоння яна заварана, хлапец,— падцінаў Царук.

Яна ўбачыла, як вуліцай ля тыну пайшоў, угнуўшы галаву і выціраючыся хустачкай, Ратнікаў, хуценька, аглядаючыся, і схаваўся ля хлева за прычэпам. Ніколі не думала, што ціхі Ратнікаў схопіцца да крыві. Валерку прынясло... Тырчыць дзень-ноч з Ратнікавым у кабіне, не вылазіць. Як сабака верны, кінуўся на чужога.

Фірага, сеўшы на пясок, павярнуўся якраз да яе і павёў далонямі па сваім укачаным у пясок твары. Адплюшчыўшы вочы, заміргаў скоранька, як прачнуўшыся ад агню, выцер іх пасля пальцамі ў куточках і глянуў на яе так жаласна і сумна, як усё роўна ён адзін на ўсім свеце.

Ёй стала горача ў вачах, па шчоках пацяклі слёзы — самі.

— Эх, дзеці-дзеці...— сказала ціха, але Фірага пачуў, стаў раптам на калені, нагнуўшыся ўперад, злавіў рукой адзін і другі паўбацінак, ускочыў з зямлі, як уколаты, і

праз адчыненыя дзверцы шпурнуў паўбацінкі ў кабіну. Ступіў да яе, увесь у сівым пяску, з ног да галавы; лыпаў і лыпаў вачыма, яны ў яго адразу пачырванелі і набеглі слязьмі — рэзаліся, відаць, ад асця.

Яна падала яму сінюю куртачку ў чорныя плямы — паклала на рукі.

— Кінь ты, матка, перад намі, разбойнікамі, уніжацца...— сказаў ён, балюча ўсміхнуўшыся.

— Гэта ж можна без воч астацца. Асцё... Дай я павяду языком...

— Кінь, матка... Яны ж засмяюць...— паказаў ён рукой за прычэп на шафёраў.

— Вады вынесу, апаласнеш...

— Рака наперадзе. А ты, матка, нічога не відзела і не чула...— ён зноў злосна зірнуў на машыны з ячменем за прычэп, але там нікога не было відаць: паселі ў кабіны; кінуў на сядзенне сінюю куртачку, нырнуў у раскошную кабіну і моцна бразнуў за сабой дзверцамі — з гародчыка над частаколам фыркнулі вераб'і. Аблакціўшыся на руль, доўга цёр пальцамі вочы — не ехаў, відаць, нічога не бачыў. Хто ведае, што ў яго было з вачыма.

За прычэпам ля плота зноў пачалі сігналіць; завёўшы машыну, цяпер ужо Сяржант, не Ратнікаў, хацеў аб'ехаць Фірагу — ціснуўся між прычэпам і тынам на вуліцу і махаў ёй рукой, каб сыходзіла з дарогі, але праціснуцца не мог: упёрся бартом у тын. Затрашчала недзе шуло, і ён вылаяўся. Стаў зноў сігналіць і даваць назад.

Фірага сядзеў у кабіне, паклаўшы галаву на руль — як спаў.

Зноў збегліся ўсе тры калгасныя шафёры за прычэпам ля плота і замахалі адзін перад адным рукамі. Пасля ад іх адлучыўся Царук і, падбегшы ля плота да Фірагавай кабіны, тузануў за дзверцы — за ручку. Дзверцы не адчыняліся. Ён, стары чалавек, скоранька перабег спераду ў машыны на гэты бок, ад двара, і зноў тузануў за ручку. Дзверцы не адчыняліся. Ён тады стаў грукаць у дзверцы кулаком. Фірага сядзеў, паклаўшы галаву на руль, як не чуў.

— Ну вот, да чаго дастукаліся...— Царук то разводзіў рукамі, то грукаў імі ў дзверцы Фірагу.

— У яго вочы. Гэта ж трэба... Асцём...— яна чула, як з яе верне градам пот, і, стоячы ў пяску на вуліцы, выціралася рукавом нажуткі.

— Вочы, вочы... Гэта ў цябе, Уліма, вачэй няма...— Царук падышоў да яе і глядзеў з-пад прыплюснутай ке-

пачкі маленькімі арэхавымі вачыма.— Не відзіш, што робіцца? Аддавай дачку скарэй ці за аднаго, ці за другога. Пакуль яшчэ цэлыя... Міру на зямлі пабольшае...— Царук дастаў з маленькай чорнай бліскучай пачачкі, якую ўвесь час трымаў у руцэ, цыгарэту, уціснуў яе бліскучым канцом нехаця ў рот і стаў мацаць сябе за грудзі — за плоскія кішэні, ловячы пальцамі ценкія белыя металічныя гузікі. Дастаўшы абцёрты, прымяты па ражках карабок сярнічак, паказаў ім, выцягнуўшы руку ўдоўж плота, у вілы да бульбяных ям:

— Во цяпер пачнецца... Вавілонскае сталпатварэнне...— ён, павярнуўшы галаву, зірнуў на хату, над якой вісела белае, у смузе сонца, сушачы ўсё на вачах, пасля сабе на руку, на маленькі для мужчыны кругленькі гадзіннік на цёртым-перацёртым чорным раменьчыку і зноў забарабаніў у кабіну Фірагу.

— Думаеш ты сабе, хлапец, што ці не? Мацъ вашу так... Во-очы зацярушыла... Не так бывала залівау вочы, а машына ішла... Адапры! Я сам адганю цябе за паварот. Там раз'едземся... Што ты тут нас усіх сабраў на пабоішча? Дай раз'ехацца!..— Царук круціў галавой па баках, як шукаючы немаведама чаго. Пасля задзёр у яе бок востранькі, мокры ад поту падбародак: — Ратнікаву трэба схінуцца з воч... Яго ў аўтакалоне ведаюць. Гэты, седзячы ў кабіне, сваіх чакае... Хавай зяця...

Яна пачула, як за фермай, ля лесу ў вілах, дзе разыходзіліся дарогі — на Жоўты Бераг і на Выгары — ад машын стогне зямля. З лесу, з Жоўтага Берага, адзін за адным падымаліся па пяску на гару да ям два леспрамгасаўскія «прычэпы». Памалу, чуць паўзлі з такімі ж, як у Фірагі, хлыстамі. За імі ззаду ўставаў белы пыл і хаваў бульбяныя ямы.

Ратнікава відаць не было; адкінуўшы аж двое дзверцаў у кабіне, задам на дзядзінец да плота падымаў з вуліцы машыну Сяржант: можа, хацеў завярнуцца, каб рвануць на загуменне і праехаць з таго канца, праз вёску?

Фірага сядзеў у кабіне, паклаўшы галаву на руль. Пад ім недзе стукаў роўненька матор; дрыжала ціхенька кабіна, дрыжаў і ён з галавою на рулі. Пасля, усё гэтак жа лежачы на рулі, ён, відаць, націснуў на газ: кабіна ўздрыгнула і закалацілася — закалаціўся і ён, лежачы на рулі. Высокія, рубчастыя, сівыя ад пылу колы схаваліся ў густым сінім дыме і пакаціліся, рассоўваючы на бакі мяккі, як попел, пясок. Кабіна з Фірагам адразу знікла з вачэй у

дыме; ля плота паплыла шэрая, у зялёным моху асіна з абдзёртай карой, хаваючы і платы, і гарод з зялёным бульбеўнікам, і сад за вуліцай, і высокую страху на хаце ў Вайдаў. Фірага адразу падцісну ўправа, даючы дарогу — не стаў чакаць сваіх, паўважаўся, відаць, яе, «цешчы». Ззаду за прычэпам закалыхалася ў макаўках доўгая асінавая галіна з белым, бліскучым на сонцы лісцем і засцёбала па плоце; між прычэпам і тынам зазеўрала шырокая прагаліна, і туды, як раз'ятраныя ад аваднёў бык ў дзверы ў кароўнік, рванулі з дзядзінца машыны з ячменем. Першы спяшыў Сяржант — ляпаў дзверцамі і круціў у кабіне доўгай галавой; за ім пацісну ў маленькі Царук, паклаўшы адну руку на руль і выцягнуўшы ўперад востранькі падбародак. Апошні ехаў Ратнікаў, цішэй, як баючыся; глядзеў на яе вінаватымі вачыма і ўсё краўтаўся, адсоўваючыся на сядзенні, нібы яна сядзела побач з ім. Нагружаны ён быў больш за ўсіх; падскачыла задняе кола, і з барта ў яго, збоку сыпануўся ячмень і зацерушыў вытаптаную на вуліцы латочыну, дзе нядаўна качаўся на пяску Фірага...

На ячмень з хаты са страхі зляцелі адразу вераб'і — фыркнулі густа над галавой.

Яна яшчэ стаяла на вуліцы.

Машыны з ячменем былі ўжо за мастом на грэблі — падымаліся на гару. Схаваўся за паваротам і Фірага — махнулася толькі ў пыле асінавая бліскучая галіна.

На вуліцы астаўся пыл, горкі на языку, што палын; смурод ад гарачых машын і вераб'і.

З лесу ішлі «прычэпы».

### 3

Яна сядзела ля акна ад гарода за сталом, а па вуліцы ішлі машыны. Яна іх ужо не лічыла: звінелі толькі шыбы ў вокнах і на гарод гнала пыл. Праз акно яна добра бачыла грэблю: горку за мастом, на якую цяжка падымаліся лесапрамгасаўскія «прычэпы», чуць паўзлі; чорныя тэлефонныя правады — пазвісалі між слупамі; нават бліскучыя на сонцы кубачкі на слупах бачыла аж адгэтуль, з-за стала з хаты: была дальназоркая. А пад рукамі не бачыла — усё блізкае расплывалася перад вачыма, як у тумане. Чытаць не магла ўжо без акуляраў, не то каб уцягнуць у вушка іголкі нітку: і ў машыне, старым, даваенным яшчэ ручным «Зінгеры», і нават у шаршатку, калі трэба было

залатаць мех. Выцягвала тады руку з шаршаткай — доўгай тоўстай іголкай з вялікім вушкам — аж да акна і здалёку лучала суравой ніткай у вушка.Важдалася доўга, як гуляла, то смеючыся, то злуючы. Даўно яна ўжо нічога не магла рабіць без акуляраў, і іх купіў ёй Міфодзя перад самай арміяй. Купіў аж у Мінску: у Плешчаніцах такіх не было. Рэцэпт толькі выпісваць ездзілі ў Плешчаніцы: у Белым у бальніцы некаму. Яна ездзіла тады з Міфодзем: вунь яшчэ якая была — магла ў аўтобусе з'ездзіць з Белага аж у Плешчаніцы.

Акуляры ляжалі на падаконніку ля стала — калі і не насіць, то яны ўсягды пад рукамі. Гэта было іх пастаяннае месца. Тут яна і шыла, і чытала, і лякарства піла: без акуляраў не магла прачытаць ні рэцэпта, ні таго, што напісана на бутэлечцы з таблеткамі ці з каплямі. І капель накапаць не магла. Запамінала і таблеткі і бутэлечкі і піла тады ўжо наўгад. Акуляры не хацелася чапляць кожны раз. Былі яны з тоўстым выпуклым шклом, у металічнай белай аправе — цяжкія. Ад іх балеў ужо нос: яны выціснулі на ім ямку, чырвоную, балючую, не даткнуцца. На дужку паміж шкельцаў і на загнутыя канцы, што кожны раз балючым холадам клаліся за вушы, яна панакручвала бінту. Мякчэй, але сядзіш як усё роўна з хамутом: аж галавой круціць не хочацца. Акуляры яна ўсягды, калі знімала з носа, клала ў футляр. Прапаў недзе футляр; ладны, пластмасавы, жоўты, ён усягды блішчэў здалёку, і яго лёгка было знайсці; цяпер заваліўся некуды і не трапляецца на вочы. У яго яна клала яшчэ разам з акулярамі і рэцэпты на рэдкія лякарствы, якія выпісваў у Белым у бальніцы Колас і якія пасля трэба было даставаць праз таго, хто ехаў у Мінск. Разы са два адумысла ездзіла Таня...

Хавала ў футляры і квітанцыі на газеты, што прынясла Магрэта — пісьманоска; берагла ў ім і канверт, складзены ўтрая, з сынавым адрасам. Футляр набухаў і, калі яна клала ў яго акуляры, не зачыняўся, так і ляжаў на падаконніку з паднятым вечкам, як куфар з вялікім багаццем...

«Прычэпы» калыхаліся ў канцы грэблі на ямах. Балота з аднаго і з другога боку грэблі нядаўна яшчэ выцерабілі і асушылі: аж да Кур'янаўскіх Садоў і да Ячнага чыста як скінуць вокам. Грэблю ўзялі ў глыбокія канавы, далі насып, па ёй можна цяпер ездзіць і ў дажджы, не так, як перш, калі гразлі коні з калёсамі, але на ёй на торфе вы-

біваліся ямы. Ямы выбівалі леспрамгасаўскія «прычэпы», калышачыся ўсягды з боку на бок.

Мінуўшы ямы, «прычэпы» падняліся да могілак і схаваліся з воч. На грэблі вісеў пыл.

Чалавек і выйшаў з пылу, як з дыму: адлучыўся і ішоў памалу, хістаючыся на горцы — спускаўся да маста. Доўга здавалася, што ён нясе вялікі цяжкі мех ззаду за плячыма, пасля яна ўбачыла, што гэта чалавек сам тоўсты, як мех. Над ім, над самай галавой, чарнелі, звесіўшыся, правады; блішчэлі на сонцы шкляныя кубачкі і насіліся без аддухі гусі — пералятал і з аднаго боку грэблі на другі.

Пыл над грэбляй растаў, відаць было аж да могілак, і здавалася, што дарога, падняўшыся ў тым баку, бяжыць да маста, як да абрыва, і чалавек — адзін на ўсю грэблю — ідзе, як у прорву... Пройдзе, стане, пастаіць, тады зноў пачынае кратацца, пужаючы гусей. З гары па грэблі як усё роўна кацілі бочку, баючыся, каб яна не сарвалася — торкаюцца і торкаюцца, падкладваючы спераду камень.

Спусціўшыся на мост, чалавек стаў, апёршыся на белыя пярэчкі, прыляпіўся, як грыб да бярозы, і доўга глядзеў на ўсход пад сонца, адкуль цякла рака.

«Да каго ж гэта хто ідзе ў вёску?» — падумала яна. У вёсцы ўсягды так: калі хто паявіцца на грэблі, кожны прынікае да акна — ці не да яго хто?

Чалавека яна не пазнавала. Можа, хто варочаецца, даўно не быўшы, калі глядзіць на выпрамленую раку, не пазнае: гэтулькі людзей прапала за вайну. Калі хто і свой, з вёскі, то раку не пазнае. Было балота, альшэўнік на дровы рэзалі,— цяпер буракі полюць бабы ў белых хустках. Раку прарылі экскаватарамі напрамую ад Яськавага Балота да Дроздкі, засыпаўшы лучкі, прарылі да жоўтага пяску, панасыпаўшы высокія берагі. Вада блішчыць недзе глыбака на дне; бяжыць рэчка, дробненькая, як яшчарка. Ля маста вады глыбей, па калена: у тым канцы ля брыгадзіра зрабілі плаціну. Вёска спрадвеку прывыкла да ракі: да гусей, якія плавалі ўсё лета; да рыбы, якую лавілі хутчэй на забаўку — каб налавіць на патэльню, трэба было пахадзіць, падняцца з сеткай аж пад Яськавага Балота; да бялізны, якую пырылі драўлянымі пранікамі ў суботу кожны проці сябе на слізкім камені, паласкалі і вешалі на плоце; да разводдзя вясной, калі рака разлівалася аж у гароды, па платы, стогнучы і шваргочучы ля маста ў палях; да цёмнага бліскучага лёду зімой, прысыпанага рэдкім інеем і спаласаванага дзіцячымі канькамі.

Пастаяўшы з аднаго боку маста, чалавек перайшоў на другі і зноў нагнуўся над белай пярэчкай — глядзеў, мусіць, у вёску, у той канец, а можа, аглядаў мост. Мост пабудавалі на месцы старога нядаўна, гады два назад: бетонны, і пáлі, і насціл, і пярэчкі з бетону. Пярэчкі пафарбавалі зверху белай глінкай на аліфе — не змывае ні дождж, не могуць сцерці, аціраючыся, дзеці — і яны відаць аж з фермы, калі на іх засвеціць раніцай сонца.

Стары мост быў яшчэ пасляваенны, драўляны, падняты над вадой уровень з высокімі гэтым месцам берагамі на трох драўляных фермах, як на зрубах, і засланы па нячэсаных лагерах сасновымі круглякамі. Яго зрабілі адразу пасля вайны, без пярэчак, і па ім баяліся хадзіць і ездзіць зімой у галалёд. Ён нічуць не быў падобны на даваенны, спалены партызанамі ў блакаду. Той быў высокі, на палях, з пагабляванымі драўлянымі пярэчкамі і ўсланы дошкамі, як у хаце падлога.

Стары пасляваенны мост — на драўляных фермах і без пярэчак — стаяў доўга, падстаўляючы свае плечы многа гадоў і калгасным падводам — парожнім, гружоным снапамі і мяхамі; і эмтээсаўскім трактарам — калёсным і гусенічным; і леспрамгасаўскім «прычэпам», якія дзень-ноч, летам і зімой валаклі цераз яго на грэблю, а адтуль на шашу — лес: сасну, елку, бярозу і асіну.

Мост стаяў, пакуль не пагнілі фермы. Нахіліўся пасля на правы бок, зыбаўся, як на вяроўках; на легарах пачаў рассоўвацца стаптаны насціл. Насціл сцягвалі дошкамі, легары знізу, [redacted] ракі, падпіралі палямі, счэпліваючы іх крукамі — дзяржалі мост «на руках», пакуль ноччу не паляцеў [redacted] яго «націк».

Калі яна цяпер доўга глядзела на мост, чалавек на ім пачынаў расплывацца: рабіўся белы, спачатку галава, мусіць, здымаў, што там было ў яго на макаўцы, пасля і сам — стаяў, як белы слуп ля белай пярэчкі.

Сышоўшы з маста і валюхаючыся, як гусь, ён пайшоў прама ў вёску да Вайдаў — не павярнуў у той канец цераз аселіцу. У вёску — у той канец — ад маста ўсе ішлі аселіцай.

Калі чалавек схаваўся з вачэй на павароце, у яе ёкнула сэрца: ідзе да яе... Ёкнуўшы, сэрца напомніла пра сябе: пачало балець — сціснула за грудзьмі, як само яно ўсё роўна сціскалася ў камок. Яна доўга не магла павярнуць шыю: страляла ў патыліцы. Падумала, што сёння яшчэ не піла лякарства, ні да фермы, ні пасля. Як пайшла засіліць

свежай вады да студні — летняй з хаты ніколі не любіла,— так і аднялі шафёры ўсю раніцу сваімі вытрабенькамі.

Устаўшы ад акна, яна падышла да судніка, дзе ляжала на першай палічцы справа ў ражку за занавесачкай лякарства — тое, што трэба было піць кожны дзень: раніцай, вечарам і днём, калі не забывалася. Усё, што яна мела, увесь спрат у яе быў у шуфлядцы ў новай шафе. Вата ў маленькіх тугенькіх кругленькіх пакеціках з дробненькім чырвоным крыжыкам на бліскучай паперы; гарчычнікі, цэлая куча, як цененькія ячныя аладкі адна на адной; аспірын — ад палу, піла сама ад прастуды, любіла, што кісленькі, прыходзіла браць кожную зіму Волька Вайдзішка; анальгін ад галавы, яго дапаганяў усягды стары Харбін, сусед Андрэй, даваенны яшчэ калгасны штатны пастух: у яго балела часта галава, а да аптэкі далёка. Харбінам звалі яго за тое, што ён у японскую вайну яшчэ пры цары быў у Харбіне і пра гэта ўсім расказваў. Стары маладзіўся; пражыўшы восем дзесяткаў, збіраўся пражыць яшчэ гэтулькі. Глядзела яго незамужняя дачка ад першай жонкі. Быў дужы, вёрткі, не кідаў работы — толькі галава ў яго балела і яму трэба былі таблеткі. Таблеткі ад галавы прасілі нават леспрамгасаўскія шафёры: п'юць, а тады ў іх баляць галовы, і пахмелле не памагае. Была ў шуфлядцы красаўка — ад жывата; больш за ўсё па яе прыбягала аж з таго канца Зенка, а то прысылала дачку. Асобна ў каробцы з кардону стаялі каплі: валакардзін — пах на ўсю хату, аж з сенцаў было чуваць; валяр'янка, тры бутэлечкі — кот, падласы і сыты, часта стрэпаў дзверцы, стаўшы на заднія лапы — знаць нават палосы ад кіпцюроў. Калі яна піла валяр'янку, ён выціраў ёй поўсцю ногі — пластом сцяліўся.

Па валяр'янку да яе бегла ўся вёска...

За каробкай у цэлафанавым мяшэчку ляжала заграцічнае лякарства — рэзерпін, но-шпа і яшчэ нейкія дробненькія таблетачкі, кругленькія і шэрыя, як канаплі. Яна не помніла, як яны называліся. Заграцічнае лякарства ляжала закручанае і схаванае з воч — толькі для сябе. Яна баялася даваць яго ў вёску: людзі ж... Сама — дык адзін чорт ужо, усё роўна, калі і не тое глыне...

Ляжала ў шуфлядцы яшчэ бог знае што. Кожны раз Колас выпісвае нешта новае: ад сэрца, ад ціску, ад галавы; купляеш, станеш піць, высыпіць сыпка на целе, засвярбіць — алергія. А выкідаць лякарства не хочацца: гро-

шы плочаны. За ім ужо што трэба не знойдзеш. Трэба будзе ўзлавацца, надзець акуляры і пачысціць шуфлядку...

Пад шуфлядкай на ніжняй паліцы стаялі ў маленькім рэшаце-падсітку банькі: былі заложаны зверабоем, павязаным у дробненькія пучкі. Пад зверабоем быў недзе яшчэ пустырнік — ні разу так яго і не заварыла, насабіраўшы. Што тая трава, калі заграпічныя таблеткі не памагаюць, колькі іх ні глытай. Скажа Колас, нарвеш травы, насушыш, заварыш. Пачнеш піць, а тут яшчэ другая якая халера падскочыць, так і стаіць трава на акне ў жбанку, кісне. Ляжаць недзе яшчэ пад рэшатам і баравыя нагаткі, і дрожаць недзе яшчэ пад рэшатам і баравыя нагаткі, і дросень. Ад крываўкі давала пазалетась скаціне. Нагаткі недзе ўжо і не пахнуць...

Жоўценькая таблетачка но-шпы сашмыкнулася з далані і доўга каціліся ад стала па падлозе, пакуль не лягла на бачок на мокрым месцы пад вісячым вядром. Больш яна не стала высыпаць таблеткі на даланю, дастала іх — дзве — пальцам з кругленькай пластмасавай трэснутай пушачкі і паклала адразу на язык. У роце зрабілася горка, як ад палыну, адзервянеў язык, і яна з пушачкай у руках пайшла ў парог да вядра з вадой.

На вуліцы зноў азваліся машыны; забразгаў жалезам, з'язджаючы з дзядзінца, самазвал; закурэўся ад пылу гародчык; у хаце запахла гарам. Яна падняла вочы на акно ад вуліцы і ўбачыла, што пыл зганяе наўкасяк за платы,— відаць, узняўся вецер, як і ўчора,— і з-за павароту выходзіць чалавек.

«Можа, да Харбіна хто? На Жоўты Бераг такі чалавек не выправіцца...»

Яна, трымаючы ў адной руцэ конаўку з вадой, у другой пушачку з таблеткамі, пайшла за перагародку ў другую палавіну бліжэй да акна. Паставіўшы на сярэдзіну круглага стала пушачку — калі перакуліцца — не рассыплюцца на падлогу таблеткі — і конаўку з вадой, падумала, што зноў не выпіла, як і ўчора, маленькую канапляную таблетачку, і калі паявіцца ў вачах спружына, то так ёй, дурной бабе, і трэба...

Чалавек ішоў з вёскі, цісучыся да плота на вытаптаную ў траве цвёрдую сцежачку: пройдзе-пройдзе і стане, каб аддыхнуць. Тоўсты, такога паблізу ў вёсках не было, у чорным касцюме, у чорным капелюшы, здалёку — як выкінуты ў трактара з-пад гусеніцы — крывіла ў шыбах шкло. Ніяк ён не тасаваўся да плота з высокім канатарж-

нікам, да пылу, да машын, да хат, да ўсяго ў вёсцы — яго не прымала вока. Калі ён знімаў з галавы чорны капялюш і выціраўся хустачкай ад поту, была відаць яго белая круглая галава — уся лысая.

Ён доўга ківаўся ля плота, як конь, які цягне што цяжкае; пасля схаваўся за бэзам, і яго не было відаць. Яна тады падышла да самага акна і апёрлася рукамі на падаконнік. За крывым разгатым бэзам згледзела шырокія чорныя плечы і белую, як папера, круглую галаву. Чалавек сядзеў на лаўцы і, зняўшы капялюш, выціраўся. Рука ў яго была крывая, выгнутая, як ручка ў кошыку. Яна падумала, што глядзіць на яго праз крывую шыбіну, і адхінулася ўбок. Чалавек, выціраючыся, паварочваў галаву і касіўся на вароты — яна зашчапіла іх на кручок пасля шафёраў, калі варочалася ў хату. А можа, ёй толькі здавалася? Можа, чалавек глядзеў у вілы? Ці малы свет...

Зазвінела раптам дробненька крывая шыбіна — нават відаць было, як яна дрыжыць: вуліцай з лесу пайшоў леспрамгасаўскі «прычэп» з хлыстамі — стракатаў старой бярозай,— ускруціўшы пыл з гарачай вуліцы. Чалавек закрыўся чорным капелюшом, пасля стаў падымацца з лаўкі.

Вароты ён адчыніў адразу, як свае: прасунуў руку між дзвюх дошак і адкінуў спрытна кручок. Яна аж уздрыгнула, калі кручок бразнуў аб шуло. Прыціснула да лоба халодную потную далоню — з усёй сілай намагалася пазнаць: хто гэта?..

Чалавеку было цяжка, але ён зашчапіў за сабой на кручок вароты, пастаяў, аддыхаўся, надзеў на галаву капялюш і пайшоў па двары блізка ля хаты — аж ля самай сцяны. Ішоў і глядзеў, павярнуўшы галаву, праз акно ў хату. І яна з хаты ад стала глядзела на яго і — ніяк не пазнавала. Калі ён схаваўся з воч, яна павярнулася ад стала і пайшла ў першую палавіну, як збаяўшыся чаго. Падумала, што трэба было б прыняць са стала лякарства — хавала ўсягды ад людзей хваробу — і павесіць на месца конаўку. Але назад не стала варочацца: зацягнула parкалёвую занавесачку ў праходзе, у белыя дробненькія кветкі, падняла вышэй падушкі на ложку ў запечку і паправіла пасцілку — павяла зверху рукой, параўняўшы. Хацела яшчэ выцерці лаву ля акна і ўслончык, што стаяў ля перагародкі пад ходзікамі: чужы чалавак прыйдзе ў хату, сесці трэба... Зняла нават з цвічка ля шафы белы мяккі доўгі, вышыты некалі ручнік — цяпер нітачкі чырвоныя мес-

цамі засталіся,— падумала, што ўжо не паспее, стала і стаяла ля ўслончыка з ручніком у руках.

Чалавек, чуваць было, зачыніў за сабой сенчкі і цяпер сморгаў рукой па дзвярах: задрыжаў выслізганы бліскучы круглы язычок у клямцы. Нешта грукнула ў сенцах, відаць, пад нагамі; чалавек закашляў, тады пастукаў, дробненька і асцярожна, як робяць гэта гарадскія людзі. Але яна не бегла адчыняць: нешта як прыціснула, не скрануцца.

Дзверы адчыніліся самі, шырака, бразнуўшы аб шафарню ў сенцах: чалавек выпусціў з рук клямку і стаяў цяпер, як вінаваты. Доўга глядзеў на яе з сяней далёкімі, нейкімі знаёмымі насцярожанымі вачыма. Вочы, вялікія і цёплыя, павесялелі пасля, гледзячы на яе, і яна пачула, як ён сказаў, кашлянуўшы:

— Дазволь, Уліма, зайсціся...

Яна глядзела на яго і пазнавала: па тым далёкім забытым голасе, па вачах і па лысай галаве... Далідчык... Мамка... Пазнаўшы — спужалася: горача стала ўсёй... Дыхала, дыхала і ніяк не магла перавесці дух. У левым воку чыркнула агнём спружына, калючая і гарбатая, як вожык... Але адразу разлілася і знікла...

Яна адступіла назад, упёрлася спопаразку нагамі ў зэдлік і, каб чаго не здарылася, села.

«Колькі ж гэта гадоў прайшло?..» — падумала, а можа, зашаптала сама сабе. Апусціла рукі з ручніком на калені, нахінулася ўперад і глядзела на яго, на Далідчыка-Мамку.

Ён падняў на парог нагу ў лакіраваным чорным паўбацінку, выцертым зверху ад пылу шырокай чорнай калашыной; вітаючыся, зняў чорны пажмаканы капялюш, нахіліў галаву, каб не стукнуцца лобам у нізкі касяк, і ступіў у хату. Выпрастаўся і стаў у парозе, апусціўшы адну руку з капелюшом; другую, падняўшы, паклаў на грудзі. Стаяў, глядзеў на яе і дыхаў часта з сябе, як рыба, выкінутая з вады. Засланіў сабой дзверы, такі быў тоўсты — як толькі ён у іх улез. Жывот большы, чымся ў дырэктара леспрамгаса Асцюка. Круглы, шырокі, абцягнуты белай у палоску рубашкай, ён выпіраў разам з бліскучай спронжкай на жоўтай дзязе, здавалася, ад парога аж да стала. Калі чалавек дыхаў, жывот увесь калыхаўся; калыхалася і рука на грудзях... Галава ў Далідчыка была белая, аж сіняя — многа гадоў яе, відаць, не паказвалі сонцу; зверху з яе на чырвоную ў складкі шыю цёк пот — руччом...

— Чуць дайшоў... Ну як жывеш, Уліма?..— ласкава

загаварыў ён. Голас у яго быў той, ранейшы: густы і цвёрды.

— Колькі гэта гадоў прайшло? — сказала яна што думала. Не ведала, што рабіць: сядзела, сціснуўшы рукамі ручнік на каленях.

— Гадоў, Уліма, многа...— паківаў ён галавой, і ў яго з падбародка, са складак, закапаў буйнымі кроплямі пот — на рубашку ў палоску.— Эх ты, мамка...— уздыхнуў ён.

Яна ўспомніла, што яго і звалі Мамка за тое, што ён у гутарцы ўстаўляў гэта слова.

— Дазволь, Уліма, я сяду ў цябе... Пад'ехаў з калгасным шафёрам да могілак, дзе некалі ў вас стаяла школа... Чуць дайшоў адтуль да цябе. Ніхто не думаў, што праз гэтулькі гадоў мы будзем такія старыя разваліны... Дазволь, я сяду...— спытаўся ён яшчэ раз, відаць, бянтэжачыся, што яна маўчыць.

Яна падняла рукі з ручнікам і паказала на лаву ля акна.

Ён падышоў да лавы і доўга садзіўся — соп і соп без аддухі. Сеў, і на твар яму ад акна ўпаў ядраны водсвет. Яна ўбачыла, што твар у яго азыз, пад вачамі ацёкі, як мяшкі. І рука, якую ён паклаў на рог стала, ацякла. Ён доўга круціў галавой, шукаючы, куды пакласці капялюш, тады прыткнуў яго на падаконнік у куточак, узагнаўшы мух. Яна падумала, што трэба ўстаць і зачыніць за ім хату, бо наляцяць мухі. І без яго іх поўна хата; добра ж, калі Таня, ідучы з работы, прынясе з магазіна хларафосу...

— Дай, Уліма, мне чым выцерціся...— ён падняў крыло чорнага пінжака, паказваючы.— І падкладка ўся мокрая. Дома дык я з рушніком цераз плячо хаджу... Не павяжаш жа рушнік з сабой. Такой гарачынёй усяго хоць выкручвай...

Яна неяк скоранька — і сама не ведала чаму — падала яму ручнік: кінула на стол, і ён дастаў яго выцягнутай рукой. Падумала раптам: не па ручнік жа ён прыйшоў. Каб жа толькі па ручнік — выцерціся. Нешта яму трэба праз гэтулькі гадоў... Што?

Узяўшы ручнік у дзве рукі, ён доўга выціраў твар, белую лысую галаву, ганяючы ад сябе мух, чырвоныя складкі ззаду на шыі і белыя валасатыя грудзі пад расшпіленай зверху рубашкай у палоску. Выцершыся, сядзеў з мокрым ручнікам на плячы, як усё роўна прыйшоўшы ў хату з лазні.

— Не чакала мяне, Уліма? — спытаўся. Яна маўча-

ла, і ён сказаў, як ратуючыся: — Ты ж і радня нам была далёкая... па маёй жонцы...

— Далё-ёкая,— сказала яна скоранька, як спяшалася апраўдацца, і зноў маўчала. Пачула, як зрабілася цяжкая галава і стукае ў патыліцы. Каб што рабіць, не маўчаць жа, седзячы пры чужым чалавеку, яна ўстала і пайшла зачыняць дзверы. Зачыніўшы, зноў села на ўслон пад ходзікі. Ён увесь час сачыў за ёй, крупячы лысай галавой.

— Ну як жывеш, Уліма? Мікалая пахавала, ведаю. І я жонку пахаваў — тваю далёкую радню. Ведаеш і ты, дзеці пісалі сюды, у Белае. Жыву з сынамі, з нявесткамі... І ў Белае прыехаў з нявесткай і з унукам. Пагасціць...— ён гаварыў, і чуваць было па голасе, што і не ў Белае ехаў, і не гасціць...

А яна маўчала, як найшло што — не паварочваецца язык, хоць рэж; вачэй не хочацца падымаць, каб глядзець на яго... Утаропілася ў падлогу пад стол, дзе ля ножкі краталіся бліскучыя лакіраваныя паўбацінкі. Слухала, як звініць у галаве, звіняць на вуліцы машыны і мухі ў яго над лысінай. Каб жа ён адразу сказаў, чаго прыйшоў...

— Хата дык, мусіць, не тая...— павёў ён галавой, памаўчаўшы.— На тым самым месцы толькі, калі помню. А вароты тыя самыя...

— Спалілі хату!.. І вароты згарэлі!.. І вароты новыя! — яна раптам адхінулася да перагародкі, прыціснуўшы плячыма гіру ад ходзікаў. Пачула: ходзікі сталі, у хаце зрабілася ціха, і яна загаварыла ў цішыні. Пачынала здагадвацца, чаго можа прыйсці гэты чалавек да яе.— Усё згарэла, і самі чуць не згарэлі...— цяпер яна падняла вочы і смела глядзела на яго.

Ён выцер канцом ручніка шыю і сказаў:

— Самі, во, асталіся. Дажываем. Дзеці павырасталі. І твае і мае. Ды што дзеці? Унукі растуць...— ён памаўчаў, тады загаварыў, як рашыўся.—Я сваё, Уліма, адбухаў...— уздыхнуў ён.— Сюды варочацца не захацеў. Забраў і жонку і дзяцей, ты ведаеш. Жылі мы і жывём у Краснаярскім краі. У саўгасе. І жонку там пахаваў. Сыны шафёры. Адслужылі, пажаніліся. Жывём добра, цяпер усюды добра жывуць. І ў вас тут — о-го... Не пазнаць. А ты і цяпер яшчэ на ферме? Усё загадчыкам? Як і да вайны? Да вайны цябе за гэта і ў Маскву на выстаўку пасылалі...

— Пасылалі... Толькі мы тады да канца на выстаўцы не дабылі. Нашы перайшлі польскую граніцу, і выстаў-

ку скарацілі...— яна гаварыла і чула, што гаворыць рэзка і кораценька і не тое, што думае.— А я яшчэ і цяпер на ферме. І цяпер загадчык, як і да вайны...

— Я віджу, што і ты ногі па хаце цягаеш, як і я... Якія з нас работнікі, на пенсію пара. Эх ты, мамка... Я дык і «сэрца» сваё, і «почкі», і адышку там нажыў,— махнуў ён лысай галавой некуды на суднік, нібыта ўсе хваробы на яго адтуль пасыпаліся.— Далі мне тады, калі судзілі пасля вайны, пятнаццаць... Буду адразу гаварыць, чаго прыйшоў. Я не такі госць, Уліма, каб мяне спачатку ўгашчаць. Ды і ты, Уліма, відаць па табе, спужалася...— вочы ў яго былі спакойныя. Чорныя, вялікія і спакойныя.— Далі мне за тое, што быў старшынёй воласці ў Белым і, пераехаўшы, працаваў у Плешчаніцах у райземуправе...— ён так і сказаў: пераехаўшы, усё роўна, як у нашы дні пераявялі яго з адной работы на другую.— Глыбака тады не капалі. Служыў? Служыў. Ну і давай туды,— зноў кіўнуў ён галавой на суднік, куды ўсіх такіх пасля вайны... Многа там такіх было, Уліма, многа. Крыві за мной не найшлі. За воласць надта не тармасілі. Быў у земуправе, за гэта і далі. А што ў земуправе мы рабілі, ты ведаеш...— ён так і сказаў: ты ведаеш, нібыта яна рабіла разам з ім.— Ну зямля... межы... коні... каровы...

Цяпер, калі ён гаварыў, падымаў галаву ўгару: гаворыць-гаворыць, пасля — раз, падыме і глядзіць у столь, як усё роўна чытае з яе. І калі ён апускаў галаву, яна зноў бачыла яго спакойныя вочы.

— Пра тое, што было, я цяпер маўчу. Адбыў сваё — і чысты. Цяпер пра тое не гавораць: у людзей інакшы занятак, ды і людзі інакшыя. Колькі нас тут калек асталося, а маладыя нічога не ведаюць. Ім не да таго. І я, Уліма, горды... Быў горды і застаўся. І таму, што горды, ні перад табой, ні перад імі,— махнуў ён цяпер галавой у другі бок, на перагародку з ходзікамі,— апраўдвацца не буду. Быў там, Уліма, адзін у лагеры. Немцам служыў у вайну, як я. Дык ён «партызанскім сувязным» зрабіўся. Спраўку даставаў. Каб наладзіць сувязь з партызанамі, у паліцыю бег, а не ў лес. Праз паліцыю сувязь наладжваў. Х-хе... Я-то ведаю... Я, Уліма, служыў немцам. За гэта і адбыў. Адбы-ыў... І больш адбыў, чым служыў. У пяць разоў. І не быў я ніколі партызанскім сувязным, і спраўкі ніякай даставаць не буду. Я нікому не памог ні ўцячы, ні што другое зрабіць. Я служыў немцам. Як да вайны я рабіў загадчыкам сельпо, так і рабіў і ў земуправе. І за гэта

адбыў. І хай яно травой парасце...— ён выцер галаву ручніком і кінуў яго з размаху на калені.— А ён партызанскім сувязным зрабіўся. Усе гады, колькі ўбухалі, плакаў, што быў партызанскім сувязным. Малады, канешне, быў... Дык ён, малады такі, камсамолец, маладую гвардзію пры немцах арганізаваў у раённым цэнтры. Х-хе... Пастановачкі ў клубе пры немцах ставіў, каленцы выкідваў, немцаў весяліў. Перакладчыкам ва ўправу наняўся. Фінагентам па вёсках пайшоў грошыкі немцам сабіраць. Гэта, каб з партызанамі звязацца, х-хе... Германіі, Уліма, баяўся. Баяўся, што вывезуць, скуру бярог і служыў чэсна. Як ужо ён той малодзенькі... Галавой аб сцяну біў... І пісаў усюды: у пракуратуру, у Вярхоўны Савет. Што ён сувязны быў, што не немцам служыў, а нашым. Маёра ўсё нейкага шукаў. Па ўсяму Саюзу... І я табе, Уліма, скажу. Усё паднялі, усіх на ногі.. Усе паперы. Увесь Штаб партызанскага злучэння... Толькі маёра таго і ў паміне не было, не знайшлі. І сувязным яго не прызналі. Малады яшчэ быў хлапец. І ад нас, з Беларусі. Адбыў сваё. Недзе і цяпер яшчэ маёра таго шукае. А што мне твой маёр? — заўсміхаўся ён раптам вясёлай злосцю.— Я паперы немцам пісаў, а ты гэтыя самыя паперы ім перакладаў. Разам на немца рабілі. А той яшчэ шустры быў, гаварыў па-іхняму чыста. У машыне з сабой каталі. А як прыйшлося, як узялі нашы за чэрці — за маёра хацеў схавацца. А мне за каго хавацца? — ён раптам аціх, выцер ручніком шыю, паглядзеў на ходзікі на перагародцы, ходзікі ўсё яшчэ стаялі: яна не хацела ўставаць, каб іх крануць, тады пакасіўся на выцягнутую руку над сталом — на пляскаты шырокі жоўты залаты гадзіннік, павярнуў быў галаву ў акно, утаропіўся на грэблю, адкуль прыйшоў, і загаварыў, як усё роўна не да яе:

— Маю галаву ўжо ніхто не пагладзіць... Дзеці — сабе... А нявесткі... Унук толькі адзін мяне любіць. Але ж яму чатыры гады. Не ўнук для мяне, а я для ўнука. Так што, Уліма, маю галаву ніхто цяпер не пагладзіць. Я пра гэта часта думаю. Успамінаю, як я ехаў сюды... Білет закампасіраваў у Маскве раніцай, а поезд толькі вечарам адыходзіць. А гарачыня... Яшчэ большая, чым тут, за трыццаць градусаў. Нават у каменным вакзале не дыхнуць. Мітусня, таўхатня... З маім сэрцам... Нявестка з мальцам пабегла па магазінах, а я такой гарачынёй... Пайшоў без дзела памаленьку хадзіць. Напіцца там, пабрыццa. Зайшоў тут жа на вакзале ў парыкмахерскую. Пуста. Сеў, па-

брыўся. Палікмахцерша ў гадах, але вёрткая, з языком. І рукі мяккія. Галаву, пытаецца, памыем? Паглядзеў на яе, мый, кажу... Расшпіліўся, рушнік мне ля шыі акруціла, нагнула маю галаву над умывальнікам. Вада цёплая пайшла, мылам далікатным запахла. Сяджу я, а яе рукі па маёй галаве стрэпаюць. Мяккія такія. І так яна ўжо...— ён памаўчаў, выцер ручнікам шчокі.— Як маці мая, калі я дзіцём быў, мыла. Выцерла яна мяне, лёгка мне ўсяму стала. Аддаў я ёй пяцёрку... А ці ў пяцёрцы дзела... Цяпер, калі мне горка, я палікмахцершу тую з мяккімі рукамі ўспамінаю. Эх, мамка...

— Я ж не палікмахерша,— сказала яна, гледзячы на яго.— І галаву не памыю. Рукі не служаць. І не мяккія яны ў мяне, а цвёрдыя. Пальцы, як костачкі. У кулак не сціскаюцца... Нічым я не памагу.

— Не-е-е... Ты, Уліма, якраз можаш мне памагчы больш за ўсіх палікмахцерш на свеце...— ён нагнуўся над сталом і засоўгаў пад лавай лакіраванымі паўбацінкамі, топчучы вышываны канец ручніка.— Я табе гаварыў, што жыву дзеля ўнука. І хачу яшчэ пажыць дзеля яго. І знаеш, Уліма, самаму хочацца памерці, сваёй смерцю. Можа, да гэтага чалавек дадумваецца толькі пад старасць, калі яго час прыйдзе?.. Але павер, Уліма, не хочацца пад старасць станавіцца да сценкі... Не хочацца дзеля ўнука. А мне, калі тое ўсё дакажуць...— ён нагнуўся ўперад яшчэ больш і, выцягнуўшы з-пад лавы ручнік, паклаў яго абедзвюма рукамі ля яе на стол, як даваў ёй плату. Вочы ў яго патухлі — ён ужо не ўсміхаўся — і яшчэ больш пачарнелі. І азызлы яго твар неяк адразу пацямнеў і высах ад поту.

Стала яшчэ горш ціха. Зазвінела на акне муха, цененька, праціўна. На дзядзінцы ля фермы ляпалі ў машыне дзверцамі, і было чуваць, аж тут, у хаце. Зашаптаў рэпрадуктар і зноў аціх — маўчыць сёння ўсю раніцу. Яе аж страсанула ад нейкага праціўнага холаду.

— Ты, Уліма, усё помніш. І я помню добра, і ты помніш...— ён гаварыў кораценька і рэзка — брэхам.

Яна глянула міма яго ў акно на рог Кур'янаўскіх Садоў, на лагі. Убачыла, як далёка пад Краснаволлем у нагрэтай сіняй смузе дрыжаць над зямлёю белыя воблакі. Дрыжала дробненька і жоўтае ад сонца поле ля саду, і асмужанае ўгары неба. Пасля пачало дрыжаць акно перад вачыма — рама, скамканы белы ручнік на стале і лысая галава над падаконнікам проці трэснутай шыбіны. Чор-

ныя вочы глядзелі на яе суха, як два чорныя астылыя вуглі з патухлага ўчарашняга вогнішча.

— Ты, Уліма, усё помніш...— падсунуў ён на стале да яе ручнік.— Тыя двое раненых лётчыкаў... У сорак першым годзе. Недзе якраз такой парой. Летам... Ну, можа, раней, як толькі немцы прыйшлі. Ты аж збялела, Уліма... Давай вады падам...— ён хацеў падняцца з-за стала, але яна выцягнула руку і як загарадзілася ад яго: не трэба! і ён зноў усміхнуўся: — Нервы ва ўсіх знасіліся... Цяпер са здаровымі нервамі людзей няма.— Ён зноў гаварыў і, здаецца, усміхаўся. Сказаў самае цяжкае для яго, і яму зноў стала лёгка.— Тыя двое нашых раненых лётчыкаў... Каб толькі тыя лётчыкі... Тых, раненых, мусіць, ужо на свеце няма. Папалі яны ў Калдычэўскі лагер. Адтуль ніхто жывы не выходзіў... Каб выйшлі, то іх бы, я думаю, па майму следству тады знайшлі б. Але іх не знайшлі і, дасць бог, не знойдуць. Гэтым, Уліма, нанава органы цяпер займаюцца. Я сваё адбыў, я ўжо гаварыў... І каб не тыя лётчыкі з тым Шлёмам з Даўгынава... Па лётчыках то яно б сышло. Ніхто б не падняў нанава дзела. Няма каму. Вуля з Плешчаніц за Шлёму падаў. Ніхто ж тады не ведаў яшчэ, у самым пачатку вайны, што немцы будуць рабіць і з нашымі ваеннымі і з яўрэямі. Узялі мы іх тады на заставе і завязлі. Знайшлі і завязлі. Ды спачатку па-другому пра немцаў многія думалі. І я думаў. Аж дзе яны ўжо былі, ты сама, Уліма, помніш. Мяне за гэтыя дваццаць з гакам гадоў столькі ўжо раз пыталіся, чаму пайшоў служыць немцам, аж моташна. А што я скажу? Я быў горды і хацеў быць наверху. І да вайны, і ў вайну. Я ўласці служыў... Гм, на цяперашні б розум... Хаця, трошкі пазней, можа, і я паразумнеў, але ўжо ўвяз. Было позна. Можа б, і я стаў сувязным, але да мяне ніхто не прыходзіў, не гаварыў. Не выйдзеш жа на вуліцу, не станеш крычаць на ўсе Плешчаніцы: хачу звязацца з парцізанамі... Некаторыя звязваліся, гэта праўда, але маталіся тады на дроце на сасне. Ля Дзвінасы ля маста... І не адзін... Я сваё, Уліма, адбыў. А цяпер пачынаецца ўсё спачатку. І падняў усё Вуля. За свайго, які ляжыць за абгародкай пад плітой. Ты думаеш, ён за ваенных падняў? За свайго. Мяне ўжо дапрашвалі. Там, дома, у саўгасе,— кіўнуў ён зноў галавой на суднік.— А цяпер ты ж ведаеш, што Вулю вынялі з пятлі. Павесіўся. Сам. Мне магілу рыў, а сам... Ты, відаць, знаеш. Нядаўна ж было. Нешта ж мучыла чалавека... Ноччу пайшоў у хлеў і высака праз бэльку вяроўку перакінуў. Як

ён мог яе так высака перакінуць? Расказвалі, што і вяроўка новая, прасмаленая, дзёгцем яшчэ пахла. Знайшлі яго раніцай яшчэ цёплага. Раней бы яму ў пятлю... Бо ён цябе назваў, сведку пасля сябе пакінуў. Цябе не дапрашвалі? Хаця, калі і дапрашвалі, на судзе можна сказаць па-другому. Галоўнае, што ты на судзе скажаш... Залічваюць тое, што гаворыш на судзе... Цяпер адна сведка ўсяго таго нашага асталася — ты, Уліма... А той, плешчаніцкі Вуля, відзіў тады, як мы забіралі на заставе ваенных і іхняга Шлёму... Хітры жук. Сам не хаваўся на заставе. Бо ваенныя там былі. Да іх ты, Уліма, хадзіла, ён гэта знаў — магла за сабой хвост прывесці. У будцы ў лесе жыў ля заставы. Усё распісаў, як было. Праз гэтулькі гадоў. Як я сядзеў, дык ён маўчаў. А калі я сваё адбыў, жыць пачаў, як людзі, ён і падаў. Падаў, а сам у пятлю... Але я ім так лёгка да сценкі не стану.

Яна ўвесь час глядзела ў акно і калі цяпер зірнула на Далідчыка-Мамку, убачыла, што ён ашчэрыўся, як сабака, і ў яго ўсе верхнія зубы залатыя — гараць, як вуголле ў пячуры.

— Табе не трэба, Уліма, многа пісаць. Толькі што тады, калі вязлі лётчыкаў, не было мяне. Мяне не было. Вёз Кукаеў, Кукаеў вёз... Ён быў начальнік паліцыі ў Белым, ён і вёз. А мяне не было...— ён шчэрыўся, і ад таго вочы рабіліся маленькія і калючыя, і сам ён за сталом рабіўся калючы. У яго дрыжалі рукі і ляпалі па стале, мякка, як порхаўкі.— Вёз Кукаеў. Мяне не было...— паўтараў ён без аддухі адно і тое ж і ляпаў далонямі па стале.— Я да цябе, Уліма яшчэ раз пад'еду. Дзякуй богу, машыны ходзяць ля самай хаты. І ў цябе і ў мяне ў Белым. Пад'еду. Запомні добра, Уліма: мяне тады не было. Кука-а-еў... Той тады ездзіў. А я быў старшыня воласці. Чаго мне туды было ездзіць? — ён памаўчаў, пагладзіў сябе поўнай, як аладка, рукой па белай галаве.— А я, Уліма, ведаў тады, што ты бегала на заставу. Да тых раненых лётчыкаў. Я па кружачцы здагадаўся. Кружачкі ў цябе, вялікай, чорнай, што ўсягды пілі ваду, не было на вядры на дроце,— кіўнуў ён галавой да печы, дзе цяпер вісела на дроце вядро і новая чорная кружка: Таня купіла нядаўна ў Белым у магазіне.— Не было тады нам чым вады напіцца, помніш? А мы тую кружачку там знайшлі. З сабой прывязлі. Кукаеў вёз. Помніш? Але я тады, помніш? Каб я хоць намёкам якім... Цябе б, Уліма, даўно ўжо не было б на зямлі... Але я...

Бразнуў раптам на дварэ ў варотах кручок, і зазвінела ўпушчанае ў некага з рук вядро. Шафёры, можа, зноў беглі па ваду? Далідчык-Мамка хацеў падняцца і не мог: соўгаў па падлозе нагамі ў лакіраваных паўбацінках, адпіхваючы рукамі стол на хату.

— Я пад'еду, Уліма. Заўтра яшчэ раз пад'еду...

Яна згледзела, як далёка за акном нахіліліся да зямлі Кур'янаўскія Сады і пачарнелі, як вугаль... Жоўтае поле стала сівое, што попел. Яна ўчарэпілася сваімі цвёрдымі, як костачкі, пальцамі ў зэдлік...

Бразнула парожняе вядро аб камень ля ганка, і заскрыпелі дзверы ў сенцах. Пачуўшы, Далідчык-Мамка зноў падцягнуў да сябе стол.

Адчыняліся і зачыняліся дзверы ў хату, бразгала клямка, але яна не бачыла, хто зайшоў: у вачах стаяў сіні туман.

— Хе-хе... Суседка,— пачула яна, як загаварылі ў парозе, і згледзела цяпер, што гэта Харбін. Стаіць ля печы, як раніцай на лагу ля рэчкі ў тумане са скацінай. Доўгая, выцягнутая ўніз галава, прыкрытая зверху чорнай картовай прышмальцаванай кепкай; доўгі, прыгнуты ўніз прыплюснуты чырвоны нос і саламяныя доўгія вусы пад носам, скручаныя ў нітачкі на канцах. Сёння ў Харбіна вольны дзень, у полі Раман, і ён цёрся каля дому.

— Хе-хе... Суседка... Ці чэрці...— закратаўся ён раптам у парозе, парухавеў, падкідваючы ўгору белыя густыя бровы — меўшы дзевяты дзесятак, бегаў за скацінай у полі і па вёсцы ямчэй маладога Рамана.— Госць, віджу, за сталом. Як мой бацька казаў: і я ля гасця...

Згледзеў жа недзе са свайго двара, што да яе пайшоў чужы чалавек і не выходзіць — значыць, госць. Пачакаў ладне, каб за сталом справіліся нагаварыцца, выпіць і закусіць — шчадрэйшыя будуць, калі стануць частаваць,— і прысунуўся, узяўшы парожняе вядро для прыліку, як рабіў усягды. Хоць бы аднёс яго ды на кручок павесіў ля студні, а то, чуваць было, кінуў на двары ля парога: спяшыў у хату.

Убачыўшы, што на стале пуста, ляжыць адзін ручнік — спазніўся: выпілі, закусілі і выцерлі стол,— Харбін, гладзячы памінутне пальцамі вусы пад носам, падышоў і нагнуўся да Далідчыка:

— Госць, во, нейкі чужы. Відаць, далёкі. Хто вы? Не пазнаю вас. Не прыпомню... Спазніўся на чарку, дык, мо-

жа, закурыць дасцё. Добрыя, відаць, курыце. Чужы чалавек. А то шафёры мяне ўжо знаюць, хе-хе... Ці чэрці...

Яна адхінулася да перагародкі:

«Як добра, што прыйшоў Харбін. А то чым бы гэта ўсё кончылася...»

Далідчык не сказаў Харбіну ні слова. Узяў асцярожна з падаконніка капялюш, надзеў адразу на галаву; апёршыся на стол, устаў і, загарадзіўшы Харбіна, ступіў на хату.

— Ну дык я пад'еду, Уліма. Дагаварыліся. Дай толькі вады глынуць на дарогу. У роце змачыць. Многа мне цяпер піць няма як...

Ваду ён засіліў сам, яна не пайшла яму падаваць; напіўшыся, адчыніў дзверы і выпхнуў перад сабой жыватом Харбіна ў сенечкі. На дварэ яны загаманілі адразу ўдвух, моцна, як зрэзаліся. Пасля звінела вядро і скрыпеў доўга сухі асвер, грукалі чужыя ногі і бразгалі на вуліцы дзверцы ў машыне. Густа ныў леспрамгасаўскі «прычэп» — калгасныя машыны так не гудзяць — і чуваць быў голас Далідчыка-Мамкі: яму памагалі садзіцца ў кабіну.

У хаце зрабілася ціха, што ў вушку. Чуваць было, як крычаць ля маста гусі і прарэзліва кашляе на вуліцы Харбін — курыць. З кружкі капала ў вядро вада, рэдка, па кроплі — стукала, як па галаве. Рэзалася ў вачах; далёкая густая сіняя смуга, што вісела на Кур'янаўскіх Садах, прыплыла аж у гарод, засцілаючы платы, тады пачала хаваць акно, рог судніка, дзе ўсягды стаяла на паяўку зелле, і дзверы. Яна бачыла ў парозе толькі вядро і чорную кружку — гарэла ядрана і праціўна, як агнём.

Зрабілася яшчэ больш ціха, здавалася, паглохлі ўсе куткі ў хаце. Густая ціхата лезла ў вушы ядраным шумам; сціснула за грудзьмі... Здавалася, каб парваў на грудзях нажутку, можна было б лёгка дыхнуць.

Яна ўстала з услона — нахіліўся да акна стол, далёка ў гарод, аж пад рэчку. Раскруціўся па ўсёй мяжы да град ручнік — як палатно з трубкі, калі яго, прынёсшы ад ракі, сцяліла бяліць.

Яна пацёрла рукамі вочы — стол стаяў там, дзе і ўсягды; расцягнуты ручнік ляжаў блізка, пад рукой. Яна падчапіла яго растапыранымі пальцамі, пайшла адчыніла дзверы і кінула на шафарню ў сенцы: прыйдзе вечарам з работы Таня — памые. Зачыніла за сабой дзверы: не могучы злавіць клямкі ў рукі, ухапілася за кручок, ладны, зроблены ў кузні, і зачапіла яго бліскучай выслізганай дзюбкай

за прабой. Доўга ішла да перагародкі, слухаючы густую, нейкую стракатую ціхату; падышоўшы, узялася за ланцужок, падцягнула гіру. Падняўшы высака ўгару руку, кранула пальцамі круглы зялёны маятнік — пусціла ходзікі. Пачуўшы, як яны чэкаюць, пацягнулася рукой да чорненькага гузічка на белым рэпрадуктары, каб падкруціць. Але чорны гузічак раптам пырснуў з-пад пальцаў і пакаціўся недзе далёка праз сцяну на вуліцу ў пясок — «зяцям» пад ногі...

Яна пачула, як ударылася галавой аб падлогу...

## 4

На грэблі ў глыбокіх калдобінах выбівала з рук руль, і Ратнікаў, учапіўшыся ў яго, аж сціскаў зубы. Калі ён лавіў стаптаным жоўтым старым паўбацінкам тормаз, чуў, як шапоча ззаду па жалезнай кабіне ваеннага «газона» ячмень — сыплецца цераз борт.

Ваенны «газон», спісаны з вайсковай часці, цягнуў, як звер. Гружоны аж праз борт, ён раваў на трэцяй па тарфяных мяккіх разорах на Дроздцы ля камбайнаў; звінеў, як струна, на роўнай старасвецкай яшчэ дарозе за вёскай на загуменнні; поўз, здавалася, быў не на колах, а на лапках, як яшчарка, на грэблі па ямах і ад маста на гару, дай толькі роўненька газу і не тузай, каб не закашляўся...

Дастаў «газон» у вайсковай часці недзе пад Мінскам летась сам Дзярызямля — старшыня. Спісаны быў «газон» ці не — невядома, гаварылі, можа, толькі. За што яго спісваць: яшчэ новы, матор не стукае, не б'е масла, кабіна і кузаў пафарбаваны пад ваенны колер, буфер і ўсё жалезнае ў колах белае ад фарбы, аж блішчыць і стамескай не саскрабеш; свечы новенькія, паспрабуй дастаць дзе іх цяпер; пакрышкі толькі трохі з'едзены на вядучым перадку — дык чаго тут хацець? Ганялі па бруку, відаць, не адзін год. І то, мусіць, Дзярызямля, калі браў, не згледзеў, на другое глядзеў, а то — замяніў бы. Гэты — не тыя, што перш былі ў калгасе — з-пад зямлі выдзера; сам смяецца, што трэба «апраўдваць самога сябе»: прозвішчата якое... Ужо на што раз не давалі калгасу машыну, з райкома выгналі... Пахадзіў ён па вуліцы, пастрачыў сваім пратэзам — жоўтай пальчаткай па частаколе — левай рукі ў яго не было: разбіраў міну ад нямецкага мінамёта пасля вайны — і зноў пайшоў у райком. Выгналі. Зноў пайшоў і хадзіў датуль, пакуль не далі машыну.

Прыгпаўшы ваенны «газон» — старшыня хоць і з аднаой рукой, а ганяў любыя машыны, як чорт: і свайго «казла» з намаляваным ззаду белым рагатым аленем на кузаве, і калгасныя «газікі» — ён сам ля канцылярыі пасадзіў за руль яго, Ратнікава. Каб не збег пасля арміі на леспрамгасаўскія «прычэпы»...

— Такі ж самы «газон», які ты ганяў у сваёй часці. Можа, нават на ім і задніцу біў, прыгледзься добра...— Дзярызямля быў тады злосны і смяяўся са злосцю. Прывёз ён на «газоне» заадно цэлы кузаў ваенных паддзёвак, гімнасцёрак, штаноў, зімовых шапак, кірзавых ботаў — «на гразь». Адзеў усіх трактарыстаў, шафёраў, даглядчыкаў на ферме, казээсаўцаў і пастухоў «у спяцоўку»...

І Ратнікаў ужо другі год сядзіць за рулём на такім жа цяжкім ваенным «газоне», які ганяў па пыльных камяністых палігонах... І дзе б ён ні ездзіў летась — у Краснадар і ў Жытомір па камбікармы вясной у разводдзе, па вадзе аж па кабіну — шэсцьсот кіламетраў туды і назад без аддухі; у Гомель па салому; у Магілёў па запчасткі, у Вільнюс, на балота цэлую зіму па торф і летам у касьбу на Жоўты Берар і адтуль на ферму па пятнаццаць рэйсаў у суткі; і на казээс па семдзесят тон за дзень адвозіў, — каб дзе іскра свіснула...

Кідае на калдобінах на грэблі з боку на бок, і тады пад нагамі качаецца шкляны паўлітровы слоік,— Валерка піў ваду на Дроздцы з крыніцы і не ўкінуў пад сядзенне. Ён нагінаецца і хоча злавіць яго, але намацвае ля ног мокрую рубашку — ссунулася з сядзення. Рубашку ён зняў яшчэ ля маста і замыў ад крыві — накапала на грудзі. Памыў і галаву, і шыю і сядзіць цяпер мокры ў кабіне — ад гарачыні з яго верне пара. Не памагае і апушчанае шкло ў дзверцах — скразняк б'е гарачым духам, як з лазні.

Наперадзе гайдаецца далёкае жоўтае поле ля маяка і ля могілак, каля якіх цераз дарогу да вайны была школа, дзе цяпер растуць на хацішчы тры разгатыя бярозы; доўгі цагляны новы кароўнік, не дакрыты яшчэ шыферам — сюды скора пераганяць кароў з Крамянца з фермы; гайдаюцца глыбокія, аплеценыя лазой і парослыя лопухам і высокім дросенем канавы ля грэблі; калышацца мост у самым канцы грэблі, пад якім перш была маленькая ціхая рачулка і ў ёй усягды плавалі вадзяныя мышы...

За мастом у канцы грэблі роўны пад'ём на гару да могілак. Матор, пачуўшы цвёрдую дарогу, як чалавек чуе

босымі нагамі пасля балота выбітую сцежку на полі, зашваргатаў ціха і роўна, бы ўзрадаваўшыся, і Ратнікаў «укінуў» трэцюю: нагнуўшыся ўперад, выхапіў абцасам счапленне і збіў набок рычаг перадач, сціснуўшы ў руцэ з усёй сілы чорную выслізганую галоўку — як Фірагу за грудзі...

«Ён мне ў морду, клоп бярозавы!.. Не на таго... Дарога табе сюды хрэнам зарасла... Не ступіш... Катлапунктшчыц ужо ўсіх перабраў... Праз вёску праехаць — дык і ўрваць адразу...» — Ратнікаў выцер даланёй шчаку, павёўшы зверху пад падбародак — даланя была чырвоная: аднекуль яшчэ ішла кроў.

Вецер пагнаў у кабіну цёплы пах сагрэтага ячменю з поля і свежую вільгаць з канаў — запахла імшарай. Ён аж павярнуў галаву за жоўты ячмень ля дарогі на далёкія за Дроздкай лагі, дзе вісела густая смуга, як ад дыму.

«Не ўсё яшчэ згарэла на зямлі, калі балотам пахне...»

За «школай» пачыналася Ячнае — доўгая вёска на пясчаным пагорку з вузкай вуліцай. Калі вялі новую калгасную брукаваную дарогу ад Плешчаніцкай шашы праз Краснаволле да Ячнага, каб пасля вывесці яе зноў на шашу ля Белага, абагнуўшы на гары могілкі з гэтага боку, ад Крамянца,— не пайшлі праз Ячнае, а павярнулі загуменнем цераз гароды на поле, нарэзаўшы калгаснікам дзялкі пад бульбу з другога боку вёскі. Ад «школы» Ячнае добра было відаць: шыферныя, белыя здалёку ад сонца стрэхі на хатах, разгатыя антэны на высокіх жэрдках, зялёна-сінія акяніцы і ля яго новая калгасная дарога — не брукаваная яшчэ, яна пыліла цяпер пад леспрамгасаўскімі «прычэпамі» за гумнамі аж да самага Белага.

Ля валуноў, якіх, ачышчаючы поле, сцягнулі да дарогі, і яны ляжаць каторы ўжо год, як быкі на пашы, Ратнікаў, звярнуўшы ўлева, якраз там, дзе спыняўся аўтобус, ходзячы з Плешчаніц на Белае, абагнуў могілкі і выехаў на брук. Азірнуўшыся з гары на грэблю, убачыў, як і адтуль падымаюцца гружоныя леспрамгасаўскія «прычэпы».

«Не размінуцца за імі...»

Ён падумаў яшчэ, што на пярэднім «прычэпе» ківаецца недзе Фірага.

«Не разгонішся ты надта, аслепшы...— цыркнуў ён чырвоную сліну праз апушчанае шкло.— Па гэтым не здохнеш. Вымыеш бельмы... Я іх табе некалі — сам! Без Валеркі!»

Ад Ячнага ў самае Краснаволле быў брук, і Ратнікаў

уключыў чацвёртую, са злосцю азіраючыся ўсё яшчэ на грэблю, на «прычэпы». Заныў матор на знаёмай мяккай струне; суха зашапталі колы, задрыжала дробненька апушчанае шкло, і ў кабіну дыхнула густым пахам лубіну. Высокі, у пахі чалавеку, цёмны лубін цвіў яркім жоўтым цветам, аж рэзаліся вочы. Лубін рос па дарозе ля сцежкі; па жоўтым насыпе з рэдкай белай дзяцельніцай і зайцавым гарошкам; унізе на лажку ў траве пракідаўся латочынамі ў жыце, якое, перастоенае, пагнутае, падыходзіла, сціскаючы лажок, да самай дарогі. Жыта, відаць, кінулі тут даспяваць на насенне, і яно, чакаючы нажа і матавіла, сохла, падкорчыўшы каласы з прыбялелым асцём. І палявая мятліца і васількі ў ім белыя — павыгаралі на сонцы. Нават лубін пад выгаралымі каласамі здаваўся белым.

Пасеяць лубін ля дарогі па насыпе аж да Краснаволля загадаў Дзярызямля.

Ныў матор, шапталі па бруку колы, і яму раптам здалося, што ён стаіць на дарозе, а ўсё ідзе кругам: лубін, маяк пад Краснаволлем, Кур'янаўскія Сады, рабыя каровы на лагу, жоўтае поле сланечніку пад вёску, белая смуга над жытнім полем і буры здалёку, як саржавелы старасвецкі серп, канюх у белай смузе... Здалося пасля, што і ён, Ратнікаў, выскачыў у круг і закруціўся разам з дарогай, жытам, белай смугой на небе, з бурым канюхом і зямлёй у нейкай невядомай шалёнай радасці... Круціцца, а ў вочы сячэ астуджаны яздой вецер з белымі, пасыпанымі густа мукой, матылькамі, настоены за ноч на цёплым жыце, лубіне, сланечніку і дурнап'яне... У такі міг на роўнай шашы, «укінуўшы» чацвёртую, калі толькі вецер ля вушэй, Ратнікаў забываўся на ўсё на свеце — здавалася, на зямлі толькі ён адзін і руль, мякка сціснуты ў руках...

Уперадзе была лагчына, падцятая з двух бакоў белым, выгаралым сіўцом, з бетонным мастком — такія масткі па ўсіх лагчынах, дзе вясной у паводку стогне вада. На павароце за ім, ля старых ліп, былі відаць Сяржант і Царук. Сяржант браў спарней, і Царук адстаў ад яго на сваім старым «газіку», якому ўжо ніякая капіталка не паможа: дабівай да ручкі, каб пасля выкінуць на «Курскую дугу» — у лагчыну за калгасныя майстэрні.

Ён падумаў, што прастояў, відаць, лішняга ля маста ў Крамянцы, мыючыся, і цяпер, мусіць, не дастане іх да самага Краснаволля.

Мякка падкінуў на сядзенні масток — аселі ў паводку трубы, і «газон», заныўшы, зноў пачаў браць разгон. Высунуўшы ў дзверцы, у праём, галаву, каб згледзець, ці далёка Царук, і наступіць яму на хвост — Сяржанта ўжо не абскочыш,— ён убачыў раптам, што ў лубіне ля дарогі бяжыць заяц — пусціўся, як навыперадкі, абыходзячы машыну. Расхінаецца, калышачыся, лубін, дрыжаць на ім дробненька кветы, тады пачынае класціся на бакі — на адзін і на другі. Заяц ішоў зігзагам, як вужака ў траве.

Ён падвярнуў лявей да абочыны, да самага лубіну, і націснуў на сігнал — кулаком. Сігнал на «газоне» стаяў ад «Волгі» — сам яго паставіў,— і «газон» закрычаў густа і мякка на ўсё поле.

У лубіне адразу падскочыў угару, вышэй жоўтага цвету шэранькі ладны камячок з белым хвосцікам, знік з вачэй, пасля падскочыў яшчэ два разы і чмякнуўся на дарогу, на сцежку ў траве, метраў за сем наперадзе «газона». Прыціх на якую секунду, тады рвануў з месца, падняўшы пыл, выскачыў на сярэдзіну дарогі і папёр наперадзе наўцёкі. Прыціснуўшы белыя, як асыпаныя мукой, вушы, маладзенькі, але ўжо ладны, не сцягнуць на спіне пядзяй, заяц рваў дарогай да Краснаволля. Падскокваў высака ўгару, як усё роўна праз купіны на балоце — ішоў роўна, як па струне, быў наперадзе ўжо метраў за дваццаць і, здавалася, нават не думаў уцякаць з дарогі.

Ратнікаў націснуў на газ абцасам. «Газон» паслухаў адразу: заныў, зашапталі па бруку колы.

«Здурнеў, вашанок... Я з цябе дух выню. Здасіся...» — ён паклаў локці на руль і пацёр даланёй аб даланю.

Белы хвосцік на дарозе пабялеў, і добра былі знаць белыя вушы на спіне — заяц бліжэў да машыны. Ногі ў яго, здавалася, былі надта ценкія і высокія — падскокваў ён на іх, як усё роўна на якіх рагачах.

— Ну, газончык... Яшчэ мінуту...

Матор ныў на самай высокай струне. Здавалася, струна раптам лопне, і тады ён адразу захліпнецца, як чалавек ад разрыву сэрца.

Заяц пачаў здаваць: падскочыць на дарозе ўгару на сваіх доўгіх рагачах і сядзе, падскочыць і сядзе... Быў ужо метры за тры ад радыятара...

«Каб толькі пад кола не лучыў...» — падумаў ён, паставіў нагу на тормаз і закрычаў на ўсё горла:

— Здавайся, белы хвост!.. Прыгай сам у кабіну!..

Заяц, пачуўшы блізка чалавечы голас — да машын ён

прывык, вывеўшыся і кормячыся ля дарогі,— замёр, як ад стрэлу, тады падскочыў угару, што блыха, вышэй радыятара і чмякнуўся на абочыну ў лубін, якраз там, дзе ляжала ў рад белае, сцягнутае з поля каменне.

Ратнікаў як трымаў усю нагу на тормазе, так і ціскануў на яго з гарачкі...

Зашапацелі, сунучыся па бруку, колы. Машыну тузанула, аднесла да самага камення, і яна стала як укопаная. Зверху, з кузава на кабіну сыпанула ячменю, як з шуфля. На сядзенне і на мокрую рубашку зацерусіліся жоўтыя зярняты.

Ён рвануў ручку, піхнуў каленямі дзверцы і, вывальваючыся з кабіны разам з пустым Валеркавым слоікам, убачыў, як за каменнем у лубіне падскочылі ўгару белыя вушкі. Злавіўшы нагамі зямлю, ён скокнуў на каменне і згледзеў, як у лубіне, крокаў за пяць, белыя вушкі застылі, натапырыўшыся на дарогу.

Заяц дыхаў, як разрываючыся: бакі ў яго хадзілі хадуном.

Ратнікаў ссунуўся з каменя, паслізнуўся на белай дзяцельніцы ў канаве і, упаўшы на адно калена, хапянуў здалёку рукой за белыя вушкі...

Заяц падскочыў вышэй лубіну, і Ратнікаў, стоячы на каленях, убачыў, што сціснуў у руцэ цэлую жменю белай дзяцельніцы — расла высокая, цягнучыся за лубінам — і што майка ў яго спераду засыпана свежым жвірам... Ён, усхапіўшыся на ногі, плюнуў і, размахнуўшыся, запусціў у лубін дзяцельніцай — белыя галоўкі, рассыпаўшыся, павіслі і краталіся на жоўтых квятах. Над імі зноў згледзеў зайца. Той не падскокваў, а поўз у лубіне на адхон — угару на дарогу. Выпаўзшы на пясок, на сцежку, ён зноў скочыў з месца на брук і лінуў ад машыны, не чуючы пад сабой ног. Перадыхнуў, седзячы, і цяпер праў па дарозе — толькі вецер свістаў.

Ратнікаў ускочыў у кабіну, плюхнуўся на сядзенне і, бразнуўшы са злосці дзверцамі, налёг на газ. Дарога гэтым месцам была роўная, прамая, новы брук паспелі ўжо ўкатаць, і «газон» ішоў як па асфальце. Заяц быў далёка, губляўся на шэрым бруку з воч, і ён дагнаў яго аж каля старых ліп — белыя вушкі паказаліся пасярод дарогі.

— Ну, газон... Ці я табе наплюю на гарачы радыятар, ці мы прыціснем белы хвост... Калі сэрца ў дурнога не лопне... Гэ-эй!..— закрычаў ён зноў на ўсю кабіну і пацёр далоні, выпусціўшы з рук руль.

«Газон» быў паслухмяны, як Валерка. Даткніся толькі да газу...

За ліпамі паказалася Краснаволле: выткнуліся кучкай першыя хаты з гэтага канца і Царук — уязджаў у вуліцу. Сяржанта відаць не было.

Белыя вушкі пачалі выдыхацца: кідаліся то да аднаго боку дарогі, то да другога, каб, злаўчыўшыся, зноў скочыць у лубін, і лачалі бліжэць. Ратнікаў нават згледзеў, што ў зайца пацямнеў белы хвост — мокры ад расы і пяску.

Белыя вушкі зноў былі ўжо метры за тры ад радыятара; ён доўга не мог іх дагнаць, і калі зноў са злосцю налёг на газ, яны замёрлі былі на дарозе, пасля пырснулі, што конік-цвыркун, на левы бок у лубін, але ногі ў іх, відаць, падсекліся, і яны, не дастаўшы да лубіна, замёрлі на сцежачцы ў дзяцельніцы. Ратнікаў спопаразку тармазнуў, прасунуўшыся ад зайца крокаў на дзесяць. Адкінуў дзверцы і, падумаўшы, што голымі рукамі яго не возьмеш, трэба чым кінуць здалёку, каб накрыць з галавой, схапіў з сядзення мокрую рубашку і саскочыў з падножкі на брук. Выбегшы з-за борта, убачыў прама перад сабой белыя вушкі — сядзелі на сцежачцы. Схапіўшы рубашку ў дзве рукі за падол, ён размахнуўся, як усё роўна вытрасаў яе ад асця, і кінуў рукавамі ўперад, лучаючы на белыя вушкі. Мокрыя рукавы падкорчыліся, і рубашка, скруціўшыся ў камяк, чмякнулася ў канаву.

Ён плюнуў і са злосці спыніўся — стаў на дарозе і выцер з лоба пот:

«Гары яно агнём...»

Але белыя вушкі, як і перш, сядзелі на сцежачцы ў дзяцельніцы ля лубіну, не збаяліся, што над імі праляцела рубашка, ён аж перастаў дыхаць: стаяў і глядзеў на іх. Белыя вушкі стаіліся, не дыхалі. Ён, утаропіўшыся, глядзеў на іх цяпер зусім зблізку: у белых вушак былі яшчэ і белыя вусы — цененькім дроцікам, як стрункі; па шэрай спінцы выступала дробненька жаўтаватая поўсць. І калі ён ступіў да іх, белыя вушкі сядзелі як замёршы, толькі моршчылася белая абвіслая пыска — заяц, загнаны да смерці, часта дыхаў. Ратнікаў нагнуўся над ім — белая пыска перастала дрыжаць і белыя вушкі абвіслі вяла на бакі. Вялікае для малога зайца жоўтае вока глядзела прама на яго — было мокрае, як ад слёз, і шкляное...

«Здыхае...» — падумаў ён і, спужаўшыся, павёў зайцу

рукой па спіне — будзіў. Заяц не страпянуўся. Тады ён узяў яго за белыя вушкі — добра, што паспеў іх сцяць у кулаку! — і падняў са сцежкі з дзяцельніцы... Адарваны ад зямлі, заяц адразу страпянуўся ўвесь, белыя вушкі чуць не вышмыкнуліся з кулака, задрыжаў і замахаў шалёна сукаватымі худымі доўгімі лапамі, дастаючы яму, Ратнікаву, да грудзей. Трэснула, рвучыся пад кіпцюрамі, майка...

— Ну цяпер, хлопец, беражысь!..— загаварыў ён да зайца, як да Валеркі, ад радасці, што заяц жывы.— Думаў, калі вушкі апусціш, дык і мы свае вушы развесім? Палезеш у кабіну. На места Валеркі...

Дзержачы зайца перад сабой за белыя вушкі, ён скочыў у лубін, ускінуў на плячо рубашку, абабег машыну спераду каля гарачага радыятара, тузануў за ручку правыя дзверцы, падняў шкло і бразнуў імі з усёй сілы, зачыняючы. Вярнуўшыся назад, кінуў зайца здалёку на сядзенне, скочыў за ім сам і апусціў спераду ветравое шкло. Ногі адразу знайшлі счапленне, у гарачую кабіну дыхнула ветрам, і, зноў налёгшы на газ, ён загаварыў да зайца, як усягды да Валеркі:

— Вымучыў ты, брат, і сябе і мяне. І чаго, дурны, лез на брук у такую гарачыню? Лапы папячы? Развяло-о-ся вашага племя... На Дроздцы камбайны вас рэжуць, на канюшыніпчы сабакі ганяюць; пастухі з поля з Яськавага балота торбамі носяць... Як насыпана вас. Шэра на полі, што камення. А чаму вам не жыць? Ваўкі вас не чапаюць: ім калгасных цялічак хапае. За вамі ногі трэба біць, язык высалапіўшы, а калгасных цялічак заняў ад стады і пагнаў на Яськава балота. І ваўкі цяпер стадамі ходзяць, як скаціна; што ёй, стадзе, зайчык... Паляўнічых у нас — два леснікі на тры вёскі. Зімой з Мінска сюды машыны не даедуць па гурбах. Ну, а калі даедуць? Ну пастрашаць вас, пабахаюць па лесе. Жыць вам цяпер і жыць...— Ратнікаў падняў з-пад ног рубашку, вытрас і кінуў у куток на сядзенне, дзе ўсягды сядзеў Валерка, а цяпер ляжаў, сцюрыўшыся, мокры камячок з белымі доўгімі вушкамі і часта дыхаў, не могучы ніяк адсапціся. Павярнуўшы галаву на бачок, ён глядзеў адным бліскучым жоўтым вокам на яго, Ратнікава, відаць, слухаў. Пасля Ратнікаў падумаў, што заяц слухае, як ные матор, бо ніколі так блізка не чуў, слухае, як мякка гоцае, падкідаючы на цёплым сядзенні — яго, малога, не калыхалі зайцы ў калысцы, і глядзіць ён адным вокам не на яго, Ратнікава, а праз праёміну ў

дзверцах, дзе апушчана шкло, на чыстае сіняе неба, асмужанае белымі палосамі...

— Што, на душы заскрабло? Лапкамі? І ў мяне, брат, заскрабло... Табе што? Піхнуў нагой дзверцы, і ты зноў у лубін. Хвост падціснеш і не аглянешся. Толькі ты яшчэ, брат, пасядзі. Мы з табой пойдзем пагаворым з адным чалавекам... Спытаемся: ці туды — ці сюды. Так што ты, брат, не спі, а вастры лапы... Закалыхала... Вочы заплюшчыў. Вушкі беленькія абвіслі...— Ратнікаў пагладзіў рукой зайца — павёў даланёй па мокрай поўсці,— заяц не зварухнуўся. Ён тады параўняў яго на сядзенні — мордачкай уперад — і падсунуў бліжэй да сябе. Заяц не адплюшчваў вачэй, толькі пыска ў яго моршчылася, ходзячы хадуном.— У нас, брат, з ёй усё было дагаворана. Яшчэ вясной. Праўда, я ўсё гаварыў сам... Але ж свая душа — яна і ёсць толькі свая душа. Вот і паверыў я, брат, сваёй душы. А ў нас усё было дагаворана. Пакуль не праехала вясной праз вёску леспрамгасаўская аўтакалона. І пайшло ўсё тады баразной. Не падыдзі... Не падступіся... Не скажы... Вот і знай, што чужой душы трэба...

З-за павароту выглянула вуліца. Брук павузеў — Краснаволле вёска старая, вуліца ў ім была цесная, цесную яе і забрукавалі,— аднекуль паявіліся рабыя цяляты — іх, цэлую стаду, пераганялі цераз дарогу з загумення ў лажок. Калі Ратнікаў затармазіў, да кабіны кінуліся з-за частакола з дзядоў сабакі: маленькі кудлаты Пушок і старая рабая краснавольская сучка Ваўчыца. Аббрахаўшы кабіну з аднаго боку, яны перабеглі на другі: чулі зайца.

Вуліцу ён знаў, як сваю даланю, і не збаўляў газ. У Краснаволлі ведалі ўжо сваіх шафёраў, і калі хто бачыў ці чуў машыну, не высоўваўся, ціснуў да платоў. Страшней за ўсё ў вёсцы для яго былі каты і курчаты. Добра ж, калі яны, перабягаючы, кратаюцца на бруку. А калі стаяць ці сядзяць? Шэранькія, зліваюцца з брукам, ніякае вока не згледзіць — і давіш іх, як арэхі...

Вуліца была гарачая і пустая. Млелі на сонцы за фарбаваным частаколам пад белымі і сінімі вокнамі сасмяглыя кветы жоўтай юргіні; апусціў вушы ў гародчыках бэз, павярнуўшы скручанае лісце да сонца ніжнім белым бокам; паняў бульбеўнік — цвіў густым сінім цветам пад высакавольтнай лініяй, якая, ідучы з Краснаволля ў Белае, апіралася на гароды расстаўленымі шэрымі бетоннымі нагамі; бліскалі ля частакола чырвоныя парэчкі, і проці доўгага цаглянага магазіна гарэў у гародчыку чырвоны

мак. Гэта ля фінскага доміка, абкладзенага звадворку белай цэглай і крытага шыферам, дзе жыла цяпер брыгадзір Быкава. Перш тут жыў Дзярызямля, а калі ў пасёлку ля возера збудавалі цагляны дом на два паверхі — перасяліўся туды. Брыгадзір у новы дом не пайшла, узяла фінскі домік з гародам, садам, хлевам і жыла ў ім з чатырмя малымі дочкамі — старэйшая пайшла ў трэці клас. Мужык яе, калгасны электрык, памёр летась раптоўна ад сэрца ці яшчэ там ад чаго. Была яна яшчэ маладая, не мела і трыццаці; смуглая, чарнявая, з касой, з белымі зубамі і бурымі ад загару шчокамі, прыгожая і прыветлівая.

Магазін быў на замку, блішчэў толькі праз высокія, на ўсю сцяну, вокны ад вуліцы белай пасудай; воддаль яго пад частаколам на ўбітым буі сядзелі ў скупым цяні ад ліпы дзеці і белыя куры.

Ён, тармазнуўшы, з'ехаў на буй і падціснуўся з радыятарам у цень да частакола, узагнаўшы курэй. Стаў якраз проці лажка — ладнай прагаліны сярод вёскі, якая, парослая белай дзяцельніцай, цягнулася ад самай вуліцы аж на загуменне да доўгіх старых калгасных свірнаў, ля якіх было відаць чырвонае на сонцы леташняе ўгнаенне — дзвюма гарбатымі кучамі.

На лажку сярод вёскі ля старасвецкай вялікай цёмнай грушы-дзічкі, якая расла калісь у некага на загуменні — ніхто ў вёсцы і са старых не помніў у каго — і збудавалі новую калгасную канцылярыю. З шырокага ачэсанага жоўтага бярвення, на нямецкі вугал, з вялікімі, ад зямлі аж пад шэрую шыферную страху вокнамі, вялікую, на дзве палавіны. У першай злева — клуб, са сцэнай, з будкай для апаратуры — пускаць кіно, з вялікай зашклёнай верандай, пацягнутай па дашчатай адмысловай ашалёўцы сіняй фарбай. У другой палавіне з асобным ходам праз такую ж веранду — калгасная канцылярыя. З прыхожай, дзе можна было распранущца, пакурыць і падцягнуць да вачэй падшытыя газеты; з бухгалтэрыяй, дзе акрамя Джаніка — бухгалтара сядзелі два рахункаводы: Таня Падаляк і Выліна-Ужасць, жанчына ў гадах, перайшла з леспрамгасаўскага ўчастка, калі яго закрылі; з кабінетам для старшыні калгаса — вялікім, з доўгім сталом і крэсламі ўдоўж сцяны, дзе можна было на скорую руку сабраць, усіх з канцылярыі і брыгадзіраў з брыгад, і асобным кабінецікам для калгаснага агранома — вузенькім, доўгенькім, ад загумення.

Ён не ведаў: ёсць сёння Таня ў канторы ці не — ніко-

га ў вокнах не было відаць. Дзярызямля цяпер ганяе ўсіх на казэас лапаціць ячмень, пакідаючы ля тэлефона аднаго радыкулітнага Джапіка.

— Ну, заяц, доўга стаяць на вачах у начальства не будзем... Дай маю рубашку. Не пойдзем жа мы ў майцы з запырсканымі грудзьмі,— ён узяў з сядзення рубашку, страсануў і накінуў на плечы. Доўга засоўваў рукі ў мокрыя рукавы; зашпіліўся спераду на ўсе гузікі.

— У падале пойдзеш, даражэнькі...— ён яшчэ раз паглядзеў на канцылярыю і ўбачыў, што ад вуліцы адчынена акно — адхінулася сіняя рама, прыціснуўшы да сцяны жоўтыя юргіні. Пачуў, як глуха затахкала сэрца і замлелі ў каленях ногі.

Заяц сядзеў, заплюшчыўшы вочы і торгаючы пысай. Ратнікаў піхнуў локцем дзверы ў кабіне і ўзяў зайца за белыя вушкі. Заяц, пачуўшы, што яго падымаюць з сядзення — спаў у цёплай машыне, як у гняздзе,— тузануўся з усёй сілы і стаў дзёрці заднімі лапамі вышмальцаванае сядзенне, дастаючы наверх белыя ніткі. Але торгаўся ён не доўга. Падняты, адразу абвіс, пацяжэў, супакоіўся, даў сябе пасадзіць у мокры падол рубашкі і накрыць зверху.

— Ну, брат... Цану сабе загнуў... А без цябе ногі не ідуць. Падкашваюцца. Ранейшае варочаецца...— ён бразнуў дзверцамі, саскочыў на брук і пайшоў з подбегам па прытаптанай рудой дзяцельніцы, прыціснуўшы да жывата растапыранымі пальцамі загорнутага ў падол зайца.

Прабегшы выгараджаную зялёным кароценькім, у пояс, частаколам вулачку перад канцылярыяй, ён застукаў абцасамі на ганку — выцер ногі, хапіў за бліскучую ручку на дзвярах — пачуў, што дзверы адчыняюцца паволі, як нацяжэлі, і доўга ішоў праз прыхожую з расхрыстанымі насцеж дзвярыма, ніяк не могучы дайсці да бухгалтэрыі...

Яго ўбачылі праз расчыненыя дзверы ў прыхожую адразу ўсе: паднялі галовы. Ён зірнуў спачатку на дваіх: на падстрыжаную пад хлапца, з чорнымі вачыма, як гузікамі, і задзёртым угору носікам Надзю Жарскую — калгаснага эканаміста: сядзела злева ад сцяны за сталом, узяўшыся за маленькую ручку арыфмометра, і на белагаловую, з накручанымі струкаватыміваласамі, з прамым доўгенькім носам, малінавымі падведзенымі вуснамі і белым у такое лета тварам Выліну. Выліна павярнулася да яго ўся, апёрлася локцем на кіпу сіняй паперы на стале і

круціла ў руках акуляры з жоўценькімі бліскучымі, мусіць, залатымі дужкамі. У вёсцы яна інтэлегенцілася, гаварыла за кожным словам «ужасць», за гэта яе і звалі Ужасць; жыла дагэтуль з дачкой, цяпер выдала яе за «сверхсрочніка» ў Барысаў; мужык яе да вайны быў настаўнікам, пайшоў у партызаны і не вярнуўся з Паліка з блакады. Замуж другі раз яна не выйшла, спадзявалася і глядзела сябе — пылінку змахвала.

Ён падумаў: лепш было б, каб яны выйшлі, пакінуўшы Таню адну. Можа б, і выйшлі, каб сказала Таня, але па ёй ён пазнаў: не скажа. І сама не выйдзе.

Яна падняла на яго чорныя вейкі — глядзела ў доўгую раскручаную ведамасць, калі ён паявіўся на парозе,— бліснула блакітнымі вачыма, як васількамі з жыта махнула перад ім, утаропілася зноў у ведамасць і зачырванелася, гусценька, са шчок. Лоб у яе круглы і высокі, адразу пакрыўся расой, хоць сядзела яна ля расчыненага напята ў жоўтыя юргіні акна. Цёмна-русая бліскучая тоўстая каса — адзін мах загарэлай рукі з чорным раменьчыкам ад гадзінніка — апынулася раптам з-за пляча на грудзях, на бежавай кофтачцы з маленькімі пагончыкамі, з кішэнькамі і вялікім праштабнованым каўняром. Каса ў яе была доўгая, у паясніцу. Пасярод яе ён згледзеў белую, як снег, брошку-заколку — растапыранага матылька. Учора яшчэ не было. Расчэсаныя на рад валасы ў яе лёгка звісалі на бакі і хавалі пасмамі вушы.

Ён зірнуў на яе і — як прырос да падлогі. На яго дыхнула такім знаёмым — як ветрам з поля ад Кур'янаўскіх Садоў, калі варочаешся з вялікай дарогі... Пачуў адразу, як запахлі яе валасы, густа, раманамі, у якіх яна іх, мыўшы, падбельвала і ад якіх у яго кружылася ўсягды галава; пачуў яе сухія і салёныя вусны, сасмяглыя вечарам пасля поля; пачуў яе раптам усю, блізка, усім сваім целам... Яму зрабілася горача, як у кабіне, і галава павяла недзе за акно, на поле ў лубін пад Кур'янаўскія Сады... Усё, што было злоснага ў яго на душы, раптам прайшло — і як ён мог так думаць пра яе і Фірагу? — стала неяк лёгка ўсяму, хоць скачы... Але ён стаяў, прыросшы да падлогі. Падумаў, што нічога ёй сёння пра Фірагу не скажа. Не зможа...

Відаць, ён стаяў доўга, больш, чым трэба, бо Надзя Жарская раптам, нагнуўшыся над сталом, замалаціла хуценька, як у яе ўсё роўна гарэла, арыфмометрам, а Выліна, разгледзеўшы яго, паклала на стол залатыя акуляры.

— Здраствуйце-здраствуйце, маладой чалавек... З гасцінцам? — спыталася яна і зноў узяла ў руку акуляры.

— Да каго з гасцінкам, а да каго і не...— адказаў ён, пачуўшы, што яму раптам стала лёгка гаварыць, і загрупакаў абцасамі па гулкай на высокіх легарах сасновай пафарбаванай падлозе — ішоў да Тані.

— Глядзі, Тацяна, а ён з намі не цырымоніцца... Ужасць...— схапіла са стала залатыя акуляры Выліна.

Падышоўшы да Тані, ён, дзержачы адной рукой за белыя вушкі, выкуліў з мокрага падала рубашкі на чысты ражок стала зайца. Стол быў засланы тоўстым зеленаватым шклом, і заяц, застрэпаўшы па ім дробненька лапкамі, сціх на халодным і супакоіўся. Тані ён, Ратнікаў, нічога не сказаў, глянуў толькі ў вочы. І яна глянула яму глыбака і калюча, тады, як зразумеўшы яго, змянілася раптам, усміхнулася белымі зубамі і ямачкамі на шчоках — сінія васількі зноў заблішчэлі ў жыце — узрадавалася, ускочыла з крэсла, адсунула яго нагой ад стала і нагнулася над зайцам:

— Глядзіце... Дзяўчаты... Які мурлахапенькі, як кажа Пугач з бальніцы.

— Бяры за вушы, калі хочаш, каб твой быў...— сказаў ён і кіўнуў галавой на стол.

Таня асцярожна, баючыся, узяла зайца за белыя вушкі і пачала гладзіць.

— Які пушысты. Поўненькі... Дзяўчаты...

Заяц застрэпаў лапамі па зялёным шкле, як канькамі па лёдзе, і яна, падхапіўшы яго за белыя вушкі са стала, злавіла другой рукой і прыціснула да грудзей, схаваўшы з воч кішэньку на кофтачцы і касу з белым бліскучым матыльком.

— Паглядзіце... Дзяўчаты... І носік беленькі, як у малацэ, і вусы белыя, і хвосцік беленькі...— сказала яна і засмяялася, выціраючы загарэлай рукой шчокі.— Паглядзі, Выліна...— яна падышла да яе, прыняла зайца з грудзей за белыя вушкі і хацела пасадзіць на стол каля Выліпай чорнай сумачкі з плеценай ручкай.

Выліна адхінулася на крэсле да сцяны і запішчала на ўсю канцылярыю:

— Таня! Сволка! Убяры эту пакасць!.. Чуеш? Каб і духу яго не было...— усхапілася з крэсла і кінулася ў прыхожую, махаючы ля вушэй рукамі — баранілася. Паўнаватая, запакаваная ў цесную сукенку, як у каробачку, яна смешна перакулілася праз парог.

Заяц, пачуўшы крык, страпянуўся ў руках у Тані і пачаў зграбаць лапамі са стала сінія Выліны спісаныя ведамасці. Чорная сумачка перакулілася і чмякнулася на падлогу, за ёй ззаду паляцелі, рассыпаючыся пад сталом, як лісце, жоўтыя маленькія квітанцыі, пасля — залатыя акуляры.

— Дзяржы! — закрычаў ён і, падбегшы, зачыніў акно, бразнуўшы шыбамі.

— Ну, Таня... Сволка...— крычала ў парозе Выліна, хацела падскочыць, падняць з падлогі акуляры і сумачку і баялася.

Рагатала, як мужчына, на ўсё горла за сталом Надзя Жарская, круцячы галавой і трасучы кароткімі валасамі. Аж клалася на арыфмометр...

Адчыніў дзверы са старшынёвага кабінета і стаў на парозе Алёша Джанік — Аляксей Іванавіч, бухгалтар. Аказваецца, і ён быў у канцылярыі. Пяцідзесяцігадовы стройны мужчына ў жоўтай тэнісцы, з доўгімі на рад валасамі, з вострым носікам, ён стаяў, дзержачыся за бліскучую ручку ў дзвярах, і ўсміхаўся на ўвесь рот. Прозвішча ў яго было Сарока, але ў чатырнаццатым годзе бацька яго, Іван, з'ехаў у Амерыку і вярнуўся адтуль гады праз два Джанам. Алёша на свет паявіўся ўжо тут, дома ў Крамянцы, але стаў адразу Джанікам. І памрэ, відаць, Джанікам...

— Цішэй, даражэнькія... Калі не можаце хлапца ўдзяржаць, дзяржыце хоць зайца за хвост...— загамзаў ён у нос, смеючыся і пераменьваючыся з нагі на нагу.

У канторы аціхлі. Таня трымала зайца на грудзях — гладзіла; Надзя Жарская прысела збіраць жоўтыя Выліны квітанцыі; толькі Выліна ўсё яшчэ была ля дзвярэй: топала асцярожна ў белых басаножках на высокіх цененькіх абцасах, як баючыся павывіхаць ногі...

— Вон, сволка, з маіх вачэй... Разам з ім... Нейкае дэфарміраванае жывотнае... Ужасць...

Зазваніў у кабінеце ў старшыні тэлефон; Джанік пабег падымаць трубку; Надзя Жарская кісла ад смеху пад сталом, і Ратнікаў, пагладзіўшы яе па коратка стрыжанай галаве, пайшоў у парог, кіўнуўшы Тані галавой: выйдзі. Ішоў і бачыў, як ад яго мітнулася за грубку Выліна і ззаду з зайцам на грудзях пайшла Таня. Мінула яго на ганку і, ні слова не кажучы, пайшла вулачкай наперад. Ішла ў белых басаножках па зрудзелай дзяцельніцы на вуліцу да машыны, апусціўшы галаву і гладзячы рукой зайца.

На яго, Ратнікава, нават не аглянулася. Ён хацеў забегчы ёй наперад, але пачуў, як у яго зноў млеюць у каленях ногі.

Падышоўшы да машыны, яна стала воддаль на бруку і перакінула з грудзей за плечы касу — белы матылёк чуць не сцебануў яго па шчацэ. Стаяла і, апусціўшы галаву, глядзела на зайца. Але ён убачыў, што яна глядзіць у зямлю.

Ён адразу сеў у кабіну, захлопнуў дзверцы і высунуў у праёміну галаву.

— Шапку нават не зняў, зайшоўшы. Выліна будзе цэлы тыдзень вочы есці...— сказала яна, не гледзячы на яго.

— Цяпер у шапках і па тэлевізары пяюць. Рукі былі заняты,— кіўнуў ён на зайца.

— Рубашка мокрая. Нос прыпух. Значыць, праўда...

— Што праўда?

— Што морду білі адзін аднаму...

— Хто сказаў?

— Быкава. Ехала з казэас — зайшлася. Адумысла, каб парадаваць...— яна глянула на яго спадылба чуць не са слязьмі і стала скоранька гладзіць рукой зайца.— Самі морды б'іцё і самі плёткі на машынах развозіце. Уся вёска ўжо і тут знае. Забірай свайго зайца...

Яна, ступіўшы з бруку на прытаптаны запылены падарожнік, узяла за белыя вушкі зайца і кінула яму праз праёміну ў дзверцах у кабіну на калені — ён толькі справіўся адхінуцца... Зморшчыўшыся, як ад болю, крутнулася, і белы бліскучы матылёк у касе пабег за ёй спачатку дзядзінцам, пасля выгараджанай вулачкай да канцылярыі. Мігнуўся апошні раз на ганку ля жоўтых юргінь, і за ім зачыніліся дзверы.

Ён сядзеў у гарачай кабіне як апечаны. Зрабілася раптам усюды ціха; ад мокрай рубашкі запахла вільгаццю — балотам. У душы нешта як абарвалася. Ён глянуў яшчэ раз на канцылярыю, на вокны, але і там было ціха — каб хто крануў белую фіранку. За канцылярыяй, на Кур'янаўскіх Садах, вісеў вялікі, цяжкі, як сцірта саломы, жоўты туляг. Сіняе неба над загуменнем перарэзала востранькая белая палоска ад рэактыўнага самалёта, адсякаючы верх маяка...

Ён хацеў адразу піхнуць дзверцы: бяжыце белыя вушкі пад магазін у крапіву, але з канцылярыі на ганак выйшла Выліна...

Заяц ціха сядзеў на каленях і глядзеў на яго вялікім Фірагавым вокам.

Ён скоранька павярнуў ключык і хапіў за руль, каб адразу выскачыць па брук.

Ля сваіх варот ён не думаў спыняцца — павярнуў толькі галаву. Вароты — першыя ад лажка: хата стаяла за канцылярыяй — былі старыя, з патрэсканых дошак; сёння, здалося, яшчэ больш абвіслі і павузелі. І так вузкія: заганяючы машыну нанач на двор, скрабеш барты з піскам. І пярэчка ўгары над імі падалася на вуліцу з шулом. І доўгі хлеў ля самай вуліцы з новай пафарбаванай лавачкай пад прызбай — укопваў і фарбаваў сам — неяк асеў у зямлю, выпершы на вуліцу ніжняе вянцо ў подрубе, і быў зусім недарэчы. Скідаў яго, відаць, яшчэ дзед, да калгасаў, калі, жывучы, хаваліся ад людзей: хату адняслі далёка ў двор, а ад вуліцы адгарадзіліся доўгім хлевам — ніхто надта не забяжыць і не гляне здалёку на двор зайздросным вокам.

Хата стаяла аж у канцы двара, перасыпаная, на высокім фундаменце, з засмаленага да чырвані сасновага пачэсанага бярвення. На дзве палавіны, гулкая і пустая: рабілі на вялікую сям'ю, а вырас толькі ён — адзін сын. Бацька пасля вайны рвануў у леспрамгас — траляваў на цялежках калоды, памагаючы пaясніцай каню. І падарваўся. Схапіла сэрца, і ляжыць ужо сем гадоў на могілках за пафарбаванай чорнай агарожай пад слівай. Багаццю не было канца: заставілі хату і канапамі, і шафамі, і прыёмнікамі, і веласіпедамі... Усё цяпер старое, выйшла з моды, стаіць і старэе яшчэ больш разам з хатай і адзінокай, прыгорбленай, прыбітай вечнай работай маткай...

Пайшоўшы ў армію, а пасля стаўшы шафёрам, ад сваёй хаты ён адвык. Летам — дык толькі варочаўся нанач, і то не ўсягды. Дзень-ноч у кабіне: у рэйсе, на казээс, на ферме, на полі, на балоце...

У двары ля студні зачырванела высокая, старая, як і хата, урадлівая рабіна; з-за яе паказалі лоб белыя антонаўкі ў садзе — над самым частаколам. З канцылярыі, з акна, добра відаць і рабіна і студня з яблыняй. Якраз ад стала, дзе сядзіць Таня...

«Газон» даганяў на бруку свой лабаты цень і не мог дагнаць. Цень бег роўненька, як па шнурку, па шэрым каменні, выгінаўся ў калдобінах, хаваўся з воч у натрэсенай свежай траве: лебядзе, канаторжніку, дробненькім сланечніку і гаросе — вазілі трактарамі да сіласнай ямы на фер-

му — і ўзганяў з зямлі, падчэпліваючы, як шуфлем, чародкі маладзенькіх шэранькіх вераб'ёў, што нагіналіся над зялёнымі ячнымі каласамі.

Ля Базы — агароджаных фарбаванымі дошкамі бярозак з трыма брухатымі чорна-жоўтымі цыстэрнамі — ён, не збаўляючы газу, звярнуў з бруку, што вёў на шырокую даваенную яшчэ шашу з Белага на Плешчаніцы, і нырнуў на лажок да возера. Возера, падыходзячы ў пасёлку пад гароды з бульбай, а за лажком аж да фермы, да старых высокіх ліп у некалішнім садзе, цягнулася бліскучай, як луска на рыбе, паласой далёка за вёску пад самы лес, дзе жаўцеў пясок і бялелася дамба.

Возера спланаваў Дзярызямля. Ля вёскі ў лажку цякла маленькая, дзіцяці пераступіць, крынічка, парослая мячэўнікам і асакой; вясной разлівалася на ўвесь лажок, перасыхаючы летам на лужы-затокі з жабамі, карасікамі, тванню і смуродам. Дзярызямля зрабіў дамбу. Вазілі машынамі з кар'ера з-за Базы жвір усю восень, выбраўшы бульбу; вазілі ў маразы, з грудай, з інеем. Не чысцілі дна — крынічка блішчэла глыбака ва ўпадзіне, як у катле — пераступілі толькі дарогу вадзе ад лесу да гародаў, і яна, заліўшы ўпадзіну, дастала даўнейшых берагоў, якія абмываліся, можа, век ці два назад.

У возера запусцілі адразу карпа; Дзярызямля сам ездзіў па малькоў у Вялейку.

З-за старых ліп вынырнулі адразу тры доўгія, з белай цэглы, крытыя шыферам калгасныя склады; за імі вышэй ліп вытыркалася вежа з новых жоўтых дошак, з аконцамі, як вялікая, у самае неба, галубятня — калгасная комплексная зернесушылка: казээс-дзесяць. Новая зусім, пусцілі яе толькі летась і ўжо справіліся падпаліць. Згарэла толькі вежа на самым версе — атушылі; там цяпер і жаўцеюць новыя дошкі.

За доўгімі складамі па ўбітай, як ток, дарозе паміж ліп, зацярушанай асцём ад ячменю і зернем, ён павярнуў направа на горку і, выехаўшы з прысад, адразу ўскочыў на вялікія дашчатыя вагі ля драўлянай прыбудовачкі. Машын наперадзе не было відаць; не было відаць у прыбудоўцы ля пульта і старога Яноўскага — прыёмшчыка. Яноўскі, худы, сівы, з абвіслым чырвоным носам, прыгорблены, быў тутэйшы, краснавольскі. Пасля вайны ён пабыў старшынёй у Крамянцы — спіўся; перавялі яго брыгадзірам у Краснаволле — не кінуў свайго: «Ага, ага... Кладзі ў бот, я хазяін...» Пасля, калі злучылі ў адзін тры

калгасы: «Краснаволле», «Будзённага» — Крамянец і «Бальшавік» — Ячпае, ён быў кладаўшчыком — чуць не судзілі; пасля конюхам. Цяпер дабіўся пенсіі на раненні: адкрывалася на назе два разы рана — нідзе не рабіў: калоў бабам увосень парсюкоў; зімой сядзеў у канторы без дзела, хадзіў па гасцях; летам у жніво, калі кожны чалавек як золата, пад чэснае слова, што не злыгаецца з шафярнёй і не стане прыпісваць танаж за бутэльку — усё роўна зерне ідзе на казээс зялёнае, там усыхаецца напалавіну, пасля нанава пераважваецца прыёмшчыцай на складах,— яго паставілі прыёмшчыкам «на пульт», як ён гаварыў. Ведаў добра вагі і запісваў у кнігу чысценька і акуратненька да літаркі — не прычэпішся. Хоць летась ён і не стрымаў слова: «Кладзі ў бот, я хазяін», Дзярызямля, патросшы яму пальцам пад носам, узяў сёлета на пульт пад распіску. А што рабіць?

Ратнікаў пасігналіў, націснуўшы на чорны грыбок сярод руля кулаком. Нідзе нікога. Ён выключыў матор, узяў за белыя вушкі зайца і пасадзіў побач на сядзенне. Хацеў выскачыць з кабіны, каб бегчы шукаць Яноўскага, як той паказаўся сам — спяшыў, несучы ў руцэ бутэльку. Падышоўшы, падняў угару бліскучы лакіраваны брылёк цыратавай шафёрскай кепачкі, пашытай у клінкі, і выцер лоб. Цыбатая з-пад каньяку бутэлька была наліта вады аж у рыльца.

— Вылазь... Квіку нарабіў...— лыпнуў ён выцвілымі вачыма і панёс у руцэ перад сабой бутэльку ў прыбудоўку, у якой праз аконца ў сцяне быў відаць абшарпаны столік з клуба і тырчала металічная бліскучая планка ад вагаў.

— Царука з Сяржантам даўно прыняў?

— Ды не. Адзін яшчэ на пад'ёмніку. Ссыпаецца. Вылазь. «Газон» твой тры тысячы трыццаць без цябе...— сказаў ён у аконца, ганяючы на вагах бразгучую гіру.

Ратнікаў падняў шкло ў дзверцах, прыхлопнуў іх і пайшоў з подбегам у прыбудоўку прасачыць за старым: адным піша больш — дык другім менш.

— Я-то вылез, а ў кабіне яшчэ Сяржант астаўся...— засмяяўся ён. Перш, пад'язджаючы да вагаў, шафёры садзілі пад руль у кабіну Сяржанта — лішнія сто кіло, пакуль той адзін раз не закашляўся. Пасля стары Яноўскі загадваў расчыняць дзверцы. Дзверцы ў Ратнікава былі зачынены, і стары Яноўскі, паглядзеўшы на яго з-за пляча, пасунуў на сярэдзіну стала бутэльку з вадой, дзе ля-

жаў раскрыты і спісаны чырвоным чарнілам зеленаваты «Журнал весовщика» і жаўцелі старыя, чорныя, з засмаленымі костачкамі лічыльнікі, і пайшоў да дзвярэй.

— Не тузай толькі дзверцы...

Яноўскі падышоў да кабіны і стукнуў брыльком у шкло, як дзюбкай. Стаяў і нічога не бачыў.

— Вазьмі, стары, вочы ў жменю. «Лучок» ляжыць на сядзенні...

У Краснаволлі «Лучистое» віно звалі «лучком».

— Бутэлькі не бачу. А закуску вязеш... Так бы і сказаў. У цябе восем тысяч трыццаць з машынай. Будзе дзевяць тысяч трыццаць. Як лёду. Закуска, так сказаць, цягне... Дзе наша не прападала. Кіло сюды, кіло туды... Ладна. Так і запішам — дзевяць тысяч трыццаць...— хуценька павярнуўся ён ад машыны і паказаў сагнутыя плечы ў дзвярах. Ратнікаў пайшоў ззаду:

— А Царук з Сяржантам як?

— Што як? Яны людзі не скупыя...

— А Дзярызямля?..

— Кладзі ў бот, шпунт... Я хазяін... І мяне не зашчэміш... Нагніся сюды... Восем тысяч трыццаць. Кіло далоў на зайца... Так і запішам, калі ты дурны... Восем тысяч дваццаць дзевяць...— стары Яноўскі пстрыкнуў пальцамі.— Нагніся, нагніся, каб пасля не пляскаў языком абышто ў канцылярыі, чэсны такі... І фэрт адгэтуль... Я хазяін...

— Злавіў бы я цябе на «лучку», як зайца... Нічога. Да вечара другія зловяць. Пакажуць рыльца, дык ты за імі сам пойдзеш аж у канцылярыю да Дзярызямлі...

— Кладзі ў бот... Чэсны такі... Я хазяін...

Ратнікаў, скочыўшы ў кабіну, пачуў, што горача, як на палку ў лазні, што хочацца піць, і ўбачыў, як круціцца на сядзенні заяц,— стаў неспакойны. Ён апусціў ля сябе шкло, з'ехаў ціха з вагаў, звярнуў на асфальтавы праезд, схаваўшыся пад цяжкую навісь металічных фарбаваных у чырвонае круглых брухатых труб і дашчатых адгародак і прытармазіў ля навеса — ля кожнага склада быў шырокі навес з шыферу. Пад ім на асфальце бабы ў белых хустках пералапачвалі ячмень у вялікай, як капец бульбы, жоўтай кучы: учора цэлы дзень казээс стаяла і Дзярызямля ссыпаў ячмень пад навес.

Прытармазіўшы, ён пачуў, як гудзіць усярэдзіне ў вежы, дзе круцяцца вялікія, можна стаць пасярод, і гарачыя, да трохсот градусаў, трубы, зацягваючы, ачышчаю-

чы ад асця і мякіны і сушачы жоўтыя пузаценькія зярняты; гудзіць, як цяжкі самалёт перад узлётам, аж стогне ад гулу нязвыклая воку, высокая, задзіраеш галаву, дашчатая будыніна — такія высокія будавалі некалі драўляныя цэрквы. З вентылятара, з трубы з-пад страхі рвецца гарачы віхор з асцём і пылам, і пахне свежаспечаным хлебам, аж зрывае нос.

Пераключыўшы на заднюю, ён стаў асцярожна ўз'язджаць на высокую бетаніраваную горку, лучаючы заднімі коламі на пад'ёмнік, як на вагі старому Яноўскаму.

Упёршыся заднімі коламі ў бар'ер над бункерам, ён адразу пачуў — не згледзеўшы нават механіка і не ведаючы, хто сёння дзяжурыць на казэсе: механікаў было двое,— як яго пачало памалу падымаць разам з кабінай і зайцам угару пад дашчатую вежу. Зашумеў ззаду за плячыма ячмень, сыплючыся ў бункер — нават борт адкрылі нейчыя рукі; зрабіўся адразу лёгкі «газон», апускаючыся ціха ўніз. Стала лёгка ўсяму, нібыта гэта ў яго, Ратнікава, зваліўся з плеч груз у пяць цяжкіх тон.

Чуваць было, як нехта зачыняе ззаду борт. Ён высунуўся з кабіны, але нікога не згледзеў і, падняўшы шкло — каторы ўжо раз, гары ён, гэты заяц! — саскочыў на шурпаты бетон і бразнуў дзверцамі. Ззаду за бартом згледзеў чырвоную галаву: Валерка...

— Гэта ты, альховы корань, замест механіка? І падымаў і адчыняў борт?

— Я...— убачыўшы, што Ратнікаў ідзе да яго, Валерка скочыў у бункер, у ячмень да дзяцей, якіх там было, як рыбы ў сетцы: і рукамі, і нагамі, і задамі яны ссоўвалі зерне, як пясок, зверху ўніз ў маленькае аконца на дне бункера. Раздзетыя — у адных трусах,— загарэлыя да чарнаты, у чырвоных шрамах, у сіняках, яны качаліся ў асці і ў пыле, і сярод іх закруцілася, як у віры, чырвоная Валеркава галава...

Ратнікаў стаяў і глядзеў на дзяцей і на зялёненькіх жучкоў, якіх было ў ячмені што насыпана. Валерка, убачыўшы, што яго чакаюць, вылез з бункера і стаў ачышчаць ад пылу штаны і зграбаць з мокрых ад поту грудзей асцё. Стаяў голы да пояса: чырвоная галава, чорная шыя і чорныя ад сонца плечы. Вочы былі вінаватыя, як у сабачкі; лыпалі пад густымі белымі брывамі.

— Як гэта ты тут апынуўся, альховы корань?

— Праз балота. Напрамую...

— І ўспеў? Раней за машыны?

— Бягом. На маяк. Праз рэчку і на Кур'янаўскія Сады. Кеды адразу высахлі...

— Давай у кабіну. А дзе рубашка?

— У бункеры. З ячменем запхнулі. Згарэла недзе ў сушылцы...

— Добра, што скура цэлая. Няма, брат, каму яе габліць. І табе і тваёй матцы. Давай у кабіну. Работа будзе.

Валерка паглядзеў на яго раптам нейкімі балючымі вачыма і, апусціўшы галаву — даравалі! — уздыхнуў глыбока і цяжка, як стары чалавек. Прайшоў блізка ля яго, Ратнікава — абцёрся чэрствымі загарэлымі плячыма аб локаць,— ускочыў лёгенька на падножку і схапіўся за ручку на дзверцах. Ратнікаў піхнуў яго ў кабіну:

— Глядзі не задаві... Вазьмі на рукі... За вушы...

З гары ад складоў па цвёрдай убітай дарозе між старых ліп «газон» каціўся да возера сам, як па асфальце. Ціхенька шапталі колы, і бразгаў дробненька крукамі борт, як у хаце клямка. Валерка зайца не браў, адсунуў на сядзенні да дзверцаў і маўчаў — адварочваў галаву.

— Я — у рэйс. Высаджу ў сябе ля варот. Возьмеш яго,— Ратнікаў кіўнуў на зайца,— за вушы. Глядзі тольki, каб ён табе скуру не злупіў з пупа. Гэта ён умее. У мяне клетка ў хлеве, трусы жылі. Што? Прыб'еш пад падстрэшкам, знаеш дзе... Я табе дам: да Фені... Будзеш упірацца — выкіну за вушы, з кабіны разам з зайцам. Зробіш — пагоніш заўтра «газон» з Дроздкі. Я трапацца не люблю...

— А мяне гэта не калыша...— Валерка адвярнуўся — не глядзеў ні на яго, ні на зайца.

— Ну-ну...

Нырнулі з-пад ліп да возера і павярнулі логам ля жыта. Над жытнім полем ля самай дарогі неяк нізка на слупах віселі правады — былі відаць на белым асмужаным небе.

Валерка глядзеў на поле. Ратнікаў пагладзіў яго па чырвонай калючай, стрыжанай нядаўна галаве:

— Добра, што ты за мяне сваю альховую галавешку падстаўляеш... Толькі не вам яшчэ, шпана, у нашы дзялы ўмешвацца. Соплі ў вас жыдзенькія... А ты не першы раз. Мы самі паглядзім — хто каго...

Над возерам замахалі крыллем дробныя белыя чайкі — перш іх у гэтым баку не было.

Проці Базы, бразгаючы кузавам, яны выскачылі на дарогу.

Жоўты туляг, што быў перш над Кур'янаўскімі Садамі, цяпер вісеў над Краснаволлем, здалося, над самай канцылярыяй. Вузенькая палоска ад самалёта над маяком распаўзлася — яе з'ядала белая смуга.

5

— Я ніколі б не прамяняла Альбіна на гэтага твайго Ратнікава. Мужы-ык... Ужасць... Ды і ты, Таццяна, добрая сволка. Уся прыёмка на падлозе пасля зайца. Добра яшчэ, што не паляцела ў клочча...— Выліна, нагнуўшыся — нацягнула паркаль у крыжы — вось-вось трэсне,— падымала з падлогі жоўтыя квітанцыі, спісаныя чырвоным чарнілам, як усё роўна збірала кляновае лісце і складвала ў жменю.— І яшчэ, Таццяна... Ты не знаеш сабе цаны...

Таня і сама знала: Выліна, як усягды пасля Ратнікава, пачне гаварыць, што яна, Таня, дзешавіць, што трэба шукаць інжынера ля шэфаў з Мінска, з «Масквічом»; абшукаць інжынера ля шэфаў з Мінска, з «Масквічом»; аблічыць на пальцах, хто калі саўскай аўтакалоны,— пералічыць на пальцах, хто калі з кім піў і ў каго аставаўся ў наначкі — ведала і гэта. Калі ўжо Таня не хоча шукаць інжынера і не думае спісацца з курсанцікам з мараходкі — чаму з мараходкі, Таня ніяк не магла даўмецца, відаць, Выліна, калі была ў яе гадах, спісвалася сама,— Выліна пачне перабіраць «вераятных» жаніхоў. Настаўнік-матэматык з Белага, старараятны, але затое не звязваўся ні з кім, халасцяк. Інцілігент. Носіць з табой усягды транзістар і ходзіць на танцы, хоць яму даўно за трыццаць. Эканаміст з таго з Белага: начальнік пошты; два студэнты-практыканты з лясніцтва; назаве ўсіх, хто з'ехаў з Краснаволля і яшчэ ў халасцяках, хто з машынай, а хто не; пасля перабярэ «СМУ і торфапрадпрыяцце» ў Плешчаніцах і дойдзе так за дзень да вечара шашой аж у Мінск...

Але сёння раскруціцца ёй не далі. Па акне ад загумення раптам сцебанула сонца, і яны ўбачылі, як з-за старых свірнаў выскачыў старшынскі «казёл» з вылінялым белым верхам. Нёсся па рытвінах як шалёны — Дзярызямля ніколі не ездзіў ціха,— ля вулачкі павярнуўся да акна белым аленем і стаў. Чорнавалосы — чорныя валасы рассыпаліся на рад,— у жоўтай рубашцы з доўгім рукавом — хаваў пратэз,— ён пераскочыў праз маленькі фарбаваны частакол і з подбегам пусціўся да канцыляры — спяшыў.

Павітаўся ён яшчэ ў прыхожай — падняў угару пра-

тэз: жоўтую скураную пальчатку з прыгнутымі пальцамі; убегшы ў канцылярыю, усміхнуўся перасмяглымі вуснамі, паказаўшы белыя зубы — усмешкай сціраў цяжкую, да чарнаты пад вачыма, летнюю сялянскую змору. Не спаў, відаць, усю ноч з камбайнерамі на Дроздцы, а раніцай зноў па такой гарачыні з брыгады ў брыгаду — па полі, па фермах, па сілосных ямах, па канавах на далёкіх асушаных балотах. У адным толькі Краснаволлі намэнчышся за раніцу: майстэрні, База, казээс... І ўсюды — вазьмі ды падай...

Згледзеўшы праз адчыненыя дзверы ў сваім кабінеце Джаніка — той стаяў ля акна, дзержачы ў адной руцэ лёгенькі чырвоны тэлефонны апарат, у другой трубку ля вуха,— ён хацеў нешта сказаць яму, спыніўся,— але Джанік яго не бачыў, крычаў у трубку,— агледзеў раптам усіх і сказаў, папярхнуўшыся,— перасела, відаць, у горле да смагі:

— Вот што, даражэнькія...

Тыцнуў пасля пальцам на Жарскую і на яе, Таню.

— Ты, ты...— падняў руку, памаўчаў і сказаў цішэй: — І вы, Выліна Платонаўна...— пальцам на яе так і не паказаў: яна стаяла блізка ля яго, апусціўшы рукі з жоўтымі квітанцыямі ў жмені.— Усе да аднаго. На казээс у начную. Сёння я сам буду дзяжурыць...

— З вамі, Сяргей Сяргеевіч, з вялікай радасцю...— прыжмурылася на яго праз акуляры Выліна — недалюблівала.

— Вот і дагаварыліся. Вечарам у дзевятнаццаць нольноль быць усім на казээсе. І думаю, вам не трэба напамінаць,— глядзеў цяпер ён зноў на Выліну,— што ідзём не на танцулькі ў клуб. Басаножкі там, гіпюры... Ночы цяпер халодныя. Будзем датуль, пакуль будуць ісці камбайны. Расы цяпер няма і ноччу. Так што — боцікі гумовыя, куртачкі з капюшончыкамі, каб за карак ячмень не сыпаўся. Шэфы будуць. Падкіну парачку, каб спаць не хацелася,— глядзеў ён зноў на Выліну, а яна на яго.— І вазьміце з сабой гальнікі. Дзеркачы, чым большыя — тым лепш.

— А гэта яшчэ што? — засвістала ў шчэрбу Выліна.

— Ад шэфаў адбівацца, Выліна Платонаўна...

Надзя Жарская адкінула ад смеху галаву аж на спінку крэсла. Паставіўшы тэлефонны апарат на стол, са старшыньскага кабінета выйшаў Джанік з заціснутым у пальцах бланкам — прыняў тэлефонаграму.

— Што там? — кіўнуў галавой на бланк Дзярызямля.

Джанік паднёс зеленаваты бланк да вачэй і стаў чытаць:

— Усім старшыням калгасаў і дырэктарам саўгасаў... Усім! — падняў ён бланк угару і зноў паднёс яго да вачэй.— Народным кантролем выяўлена... у калгасах і саўгасах парушаны рэжым захоўвання вітаміннай мукі... Гм... у выніку чаго сорак працэнтаў мукі... Гм... Абавязваем усіх старшынь...

— Схавай у папку...— не даў дачытаць Джаніку Дзярызямля.— У нас вітаміннай мукі няма і не будзе... А ты, Аляксей Іванавіч, адваднеў, як чарніла... Астанешся ля «пульта»...— паказаў ён праз дзверы ў свой кабінет на чырвоны тэлефонны апарат.— А іх адпусці пасля палудня. Па боцікі і фуфаечкі. А я на Дроздку. Хай там шукаюць...

— А можа, я, Сяргей Сяргеевіч, астануся ля пульціка? — Выліна хуценька падскочыла да Дзярызямлі.

— Вось што, дарагая... Калі я пакідаю Аляксея Іванавіча — гэта значыць, што ён і ля пульта аддзяжурыць да канца дня і ў дзевятнаццаць ноль-ноль на сваім матацыкле будзе ўжо на казэасе. Калі вы, Выліна Платонаўна, справіцеся так — можаце з ім памяняцца. Рашайце самі. Удваіх...

Выліна падняла ўгару рукі, замахала імі, як птушка крылцамі, і, падтанцоўваючы, вярнулася да свайго стала:

— Вы міня сразілі, Сяргеевіч...

— Сразімся на казэасе, Выліна Платонаўна. З шуфлем у руках...

— Ужасць...

Дзярызямля крутнуўся ў парог, грукнуўшы запыленымі паўбацінкамі. Толькі што быў у прыхожай і ўжо стаяў у канцы абгароджанай нізенькім частаколам вулачкі ля машыны — закрываў сабой белага аленя на зялёным кузаве. З ім ужо гаварыла, апёршыся на веласіпед, Быкава — брыгадзір. Пасля бразнулі дзверцы, і закалыхаўся па калдобінах белы алень: Дзярызямля рвануў на вуліцу, але не на Дроздку, як гаварыў, а павярнуў на пасёлак — на казэас.

— Давай, Тацяна, пакуль яшчэ не ўдарыла гарачыня, садзіся на веласіпед. Прывязеш боты і фуфайку. І сабе і мне. Я па такой гарачыні... Вазьмі мой ключ, у хаце ўсё знойдзеш. А гальнікі хай яны самі вяжуць, Тацяна... Ужасць...

Таня прыняла ўсё са стала ў шуфлядку і, спяшаючыся, выцерла яго зверху даланёй. З самай раніцы сядзіць, як на іголках: што там дома? Добра, што пад'ехаў Дзярызямля.

— Шкода, Тацяна, што аўтакалона змяніла маршрут. Не ездзіць праз Краснаволле. Не трэба быў бы табе веласіпед...— Выліна глядзела на яе праз акуляры хітрымі вачыма.

Галубы, лопаючы крыллем, зрываліся са свірна са страхі, разляталіся з імпэтам, як запушчаны камень, і грукалі ў адмысловае аконца з маленькімі шыбкамі, якое было ў шчытах у канцыляры — разбівалі шыбы. Перш яны білі шыбы вясной, аблюбаваўшы новую канцылярыю, нібы ім нідзе больш не было месца рабіць гнёзды — ні доўгіх свірнаў са старымі стрэхамі, ні хат. Астатнія шыбы яны выбівалі цяпер; збіраючыся кучкамі, як пчолы ў рой, на страху, на падстрэшкі, яны ціснуліся праз аконца на гару — хаваліся ў цень. Пасля, падрушаныя немаведама кім, яны сыпаліся з гары і праз аконца і праз дзіркі пад падстрэшкамі і, лопаючы крыллем, хоць вушы затыкай, падымаліся ў сухое чыстае неба. Здавалася, разам з сабой яны падымуць і страху.

Таня чула, як лапаталі галубы крыллем над самай галавой; чула пасля, як лапатала па спіцах шырокае, асмужанае падыспадам сівізной старое лісце дзядоў ля свірнаў на загуменні і стрэпалі абцярушаныя сухія дудкі гавылы, што лезла на дарогу з бульбеўніку.

Галубы абганялі яе; падняўшыся высака над загуменнем, дрыжэлі цяпер проці высокага жоўтага туляга, які, здавалася з загумення, вісеў над Крамянцом, якраз над іхняй хатай. Сплыўшы з туляга, галубы доўга мітусіліся над белай палоскай ад самалёта.

З-за свірнаў выскачыў наперад «газік» з кузавам, падняў пыл, і ён пацягнуўся палатняным рукавом па дарозе. Сонца шчыпала за шыю; каса на плячах зрабілася цяжкая, пад ёй, чуваць было, змокла кофтачка. Таня нагіналася над рулём і трасла галавой — пот капаў буйнымі кроплямі, як дождж, на рукі, на руль, на сцежку. Пыл ад машыны спаўзаў уперадзе з дарогі ў лазу — на крушні камення і на ўсыпаны спалавелымі ягадамі маліннік; доўга пахла дымам — паленай гумай і бензінам, нібыта яна сядзела не на цвёрдым высокім сядле на веласіпедзе, а ў

кабіне з Ратнікавым. Пасля з дарогі запахла сенам — перастояла трава — і здалёку ў твар дыхнула цёплым настоем спелага ячменю. Ячмень пачынаўся за лазой, жаўцеў паабапал дарогі аж да Кур'янаўскіх Садоў пад самы Крамянец, дзе вісеў высокі цяжкі туляг.

Ячныя каласы сцёбалі аб раму; у твар і на рукі пырскала сухое калючае зерне... Зерне, без якога не было б хлеба на зямлі; якое вясной кінуў сеялкай роўным радком у паднятую трактарам раллю чалавек, каб замест аднаго ўзяць поўную жменю; якое падкарміў з цыстэрны, што, прыржавелая, стаіць на лагу ля лазы, і глядзеў на яго ўсцешаным вокам, калі яно ўзышло трубой і выплывала доўгім коласам. Зерне, якое трапіла сёлета ў вялікую для сябе і для чалавека спрадвечную бяду: гарыць на сонцы... І чалавек, што ўсе вякі перасыпаў яго з ласкай са жмені ў жменю, як самае дарагое, выдзьмухваючы асцё і падносячы да вуснаў, каб асцярожна ўзяць на зуб, нічым не мог памагчы. І ў чалавека ад бяды апускаліся рукі і гарэла душа. І тады ўжо, калі чалавек нічога не мог зрабіць, толькі сціскаў павекі да слёз, зерне ратавала сябе само, а ратуючы сябе, ратавала і чалавека. Немаведама як у сагнутым прырудзелым ад гарачыні, як у печы, коласе з востранькім падсушаным асцём яно цягнула яшчэ праз жоўтую, у некалькі кален саломіну з патрэсканай зямлі жывую вільгаць, здзіўляючы чалавека, які за сваё жыццё нагледзеўся ўсяго на свеце. І рука чалавека брала сёлетні колас, як і сто гадоў назад; ён быў меншы, чым ся летась, але цвёрды: наліўся, выспеў.

Каласы віселі, як апушчаныя бядой чалавечыя рукі, і над імі дрыжалі белыя буйныя матылі. Іх было што насыпана.

Маяк астаўся ззаду, чорны на чыстым небе, як сухая альшэвіна на балоце. Наперадзе за ячменем у лагчыне быў відаць малады бярэзнік і лявей яго высокія старыя ліпы ў Кур'янаўскіх Садах. Некалі — маці расказвала — там былі два хутары. Хутары перад вайной перасялілі ў вёску, у іхні канец: Ляшковічаў — двух братоў — і Бохана. Браты Ляшковічы даўно памерлі, дзеці іх раз'ехаліся па свеце, не асталіся ў Крамянцы, а стары Бохан-Харбін — жыве і цяпер, сусед. Дзеці ў яго разляцеліся, як і ў Ляшковічаў, другая жонка ляжыць пад бярозамі ля Ячнага, і жыве ён пры дачцэ.

Старыя ліпы ў Кур'янаўскіх Садах здалёку здаюцца шэрыя, як стрэхі на хатах. Над імі якраз павіс жоўты

туляг, асеў, так і не падняўшыся над вёскай. Хай бы хоць пакапала, змыла пыл: гарыць усё, як у печы, зямля трэскаецца, бульба прападзе — спячэцца, як у прыску.

Трава на дарозе шорсткая, як дрот, аж чуваць пад коламі. Збялеў сівец, выспела і асыпаецца дробнай пацярушкай мятліца. І ўсюды белыя матылькі — ячменю не відаць за імі. Наперадзе па цвёрдай дарожцы ходзяць ціха пліскі, трасучы белымі хвастамі. Падпускаюць блізка да сябе, тады бягуць у сухую траву да ячменю, не падымаюцца нават з зямлі. Над парудзелай дзяцельніцай, над галоўкамі, усю дарогу ад Краснаволля вісяць восы, худзенькія, ценкія, з мурашку.

Капае на вусны салёны пот, і хочацца піць. Вада ў канторы ў вядры была летняя з самай раніцы, як на палку ў лазні, і яе ніхто не піў. Цяжка ступаць на педалі, аж ногі баляць у каленях. Руль водзіць у бакі, скрыпіць сядло. Пацяжэла яна, Таня... Калі першы раз села на веласіпед, была цененькая, як гавылінка, і ганяла яго, як шалёная — у Белае ў школу. Пасля Ячнага, калі скончыла чатыры класы, усе тры гады ўвосень і вясной па гразі і вадзе, зімой па гурбах яна яшчэ насіла свой чорны школьны партфель у Белае аж за пяць вёрст у руцэ. Тады на веласіпедах ездзілі толькі леспрамгасаўцы. А з восьмага класа, увосень і вясной, калі падсыхала сцежка, яна ўжо вешала чорны партфель на руль і пёрлася ў Белае. Зімой толькі мясіла снег. Гэта цяпер дзецям не трэба махаць нагамі... Калі паклалі брук, з Плешчаніц на Белае праз Краснаволле пайшоў аўтобус. Кожную раніцу ля могілак ён чакае, калі дзеці яшчэ на грэблі — сігналіць, каб беглі. Дняўным рэйсам адвязе назад і высадзіць. Прабяжы толькі праз грэблю, параўняй ногі пасля седні.

Кожную школьную раніцу з восьмага класа яе спатыкаў ля могілак на веласіпедзе Міша Ратнікаў. Яму было далей з Краснаволля праз Ячнае ўдвая, але ён і раніцай быў ля могілак, дзе цяпер спыняецца аўтобус, і днём пасля школы адлучаўся ад усіх краснавольцаў і ехаў з ёй праз грэблю аж да маста.

Колькі яны накруцілі вёрст сваімі школьнымі нагамі за ўсе тыя гады на гумавыя веласіпедныя колы... Хто злічыць... Дождж — вясной, як з вядра, увосень — золкі і калючы; лёд у першыя зазімкі на лужах пад сняжком — глядзі, каб не каўзануцца; пот, што капаў з носа ад язды, калі націскаеш на педалі без аддухі да салёнай гаркаты ў роце; вецер ля вушэй, калі ляціш у лагчыну, як ластаў-

ка; малады бярэзнік, які пахнуў дробненькім вясновым лісцем; зялёныя жытнія каласы, што сцёбалі ля сцежкі па твары... Дзе яно?

Быў, відаць, лядок у яе на дарозе пад снегам...

На выпускным вечары Ратнікаў напіўся: маладыя, бязвусыя дзецюкі з атэстатамі парабіліся адразу дарослыя — сядзелі з настаўнікамі за адным сталом, мяшалі віно з самагонкай і закусвалі рыбнымі кансервамі. Яго стала адразу нудзіць; яна вывела яго з класа, з танцаў, і ён «рыгаў на клумбу», як смяяліся назаўтра. Яна адвяла яго да Праскурніч'і — медсястры, жонкі дырэктара школы; аказалася, што не «ярша» збаяўся дзяцюк з атэстатам, а атруціўся «рыбнымі кансервамі». Ратавала яго ўсю ноч Праскурніч'я.

Назаўтра была нядзеля. У школе фатаграфаваліся з настаўнікамі — на памяць. Ён не мог пайсці — ляжаў у Праскурніч'і на старой канапцы за перагародкай — не пайшла і яна, Таня: сядзела пры ім. А чаго?

Лета тады было гарачае, як сёлета, і дурное.

А ўвосень яго, Ратнікава, забралі ў армію.

Спраўлялі адходзіны. Была ўся радня — і з Краснаволля і з Мінска. Маці адумысла закалола кабана, не дачакаўшыся Акцябрскай, як усягды; нагнала самагонкі, закрасіла яе нечым чырвоным. Аж два бітоны пазычала на ферме... Гулялі адходзіны ўсёй вёскай два дні, як гуляюць цяпер па новай, заведзенай багатым жыццём модзе і вяселлі, і хрэсьбіны, і імяніны: з музыкантамі, з самагонкай, з віном, са «Сталічнай», з дыванамі і халадзільнікамі ў падарунак ці проста назбіранымі, наскіданымі ў кучу на талерку грашыма. Ішлі з вуліцы хто хацеў і садзіліся самі, няпрошаныя, за стол — таксама па заведзенай цяпер у вёсках новай модзе.

І яна сядзела з Ратнікавым за сталом — не жонка і нават ці нявеста яшчэ. Сядзела, бо цяпер, калі нежанаты хлапец ідзе ў армію, па новай модзе, сядзіць ля яго, стрыжанага пад машынку, дробненькага, худзенькага, тоненькага, як дубчык, і ростам нягеглага, галава відаць толькі з-за стала, як макаўка на ценкай дудцы — пасля ўжо, калі ён праз год прыйдзе ў водпуск, дык і плечы ў яго будуць, як у мужчыны, і падцягнуць яго, як усё роўна за вушы ўгару, у дзверы ідзе нагнуўшыся — сядзіць ля яго, п'янага ў дым, вясковая — часта з чужой вёскі — дзяўчына, з якой ён, бывае, усяго і схадзіў на вечарынку разы

два-тры ад сілы. Сядзіць з завіўкай, зробленай аж у Плешчаніцах у цырульні, з падмаляванымі ў чорнае брывамі і ў чырвонае — аж сцёбае па вачах — вуснамі, з наклеенымі веямі — зрабіла гэта дома сама, каб не глядзелі ўсю дарогу на яе ў аўтобусе,— надзьмулася, лыпае наклеенымі веямі, як курчо — можа, і ад страху,— а тут яшчэ крычаць на ўсю хату за сталом з усіх куткоў «горка», п'юць за «маладых», не помнячы ўжо добра, ці праводзяць у армію, ці жэняць...

Сядзела яна тады з Ратнікавым на праводзінах за сталом, а ён спаў, паклаўшы локаць у талерку ў кісель... Аж цяпер у памяці.

І ў ваенкамат у Плешчаніцы яны ехалі разам на машыне ў кузаве — вёз Царук. Стаяла позняя восень, і бярэзнік ля дарогі быў ужо голы; у канавах у рудой траве ляжала збітае з галля першымі маразамі і ветрам чыстае, як вымытае, жоўтае лісце. Даўно выбралі бульбу; на чорнай раллі жаўцелі гарбатыя капцы; па прыхопленай марозам руні ля дарогі хадзіла яшчэ перапялёстая скаціна — рассыпалася па халоднаму і чыстаму полю на асенняй волі: ні табе пастуха, ні табе шкоды.

У кузаве было холадна; яны, стоячы на каленях на саломе ля самай кабіны, дзяржалі адно аднаго за чырвоныя, пакрэплыя на ветры рукі — грэліся. Іх яшчэ грэла ў шчокі сонца — вісела нізка над дарогай у чыстым халодным небе.

Памерзлі ў дарозе і беглі ў ваенкамат, узяўшыся з двух бакоў за цесную для дзвюх рук ручку яго маленькага чамаданчыка.

Яны спазніліся: на двары ў ваенкамаце за высокай, пафарбаванай у зялёнае дашчатай агарожай відаць былі два доўгія рады стрыжаных пад машынку галоў. Да іх далучылася яшчэ адна галава — Ратнікава.

Вуліца ля ваенкамата была забіта людзьмі: мужчыны ў расшпіленых фуфайках з пугоўямі ў руках — папрывозілі сыноў на калёсах; мацеркі з вандзэлачкамі — у адной руцэ вандзэлак, другой дзержыць за руку зусім яшчэ малое хлапчанё ў зімовай шапцы з апушчанымі вушамі; дзяўчаты ў хустках, акручаных канцамі ля шыі і перакінутых прэнзлямі на грудзі — ціснуцца да самай агарожы, ім трэба быць бліжэй за ўсіх да тых, хто цяпер стаіць у страі і ўжо не можа павярнуць галаву ў іхні бок — слухае каманду...

На другі бок вуліцы ля плота стаяць запрэжаныя ў ка-

лёсы адпятыя коні з сенам пад носам; спераду і ззаду ў іх машыны, бартавыя калгасныя «газікі» з парожнімі кузавамі — ездакі ўсе на вуліцы ў грумадзе, якая мітусіцца, калышацца ад плота да плота, як усё роўна на базары. Вуліца гудзіць, як рой: гамоняць на ўвесь голас мужчыны, п'яныя каторы ўжо дзень запар — доўга спраўлялі праводзіны; крычаць, бегаючы, дзеці; плачуць, прымаўляючы, бабы — тыя, відаць, што праводзілі сваіх маладых мужыкоў на вайну ў сорак першым, а цяпер праводзяць ужо сыноў, і ім цяжка паверыць, што на свеце цяпер ціха; збіўшыся ў кучу ля агарожы, пяюць ужо дзяўчаты ў хустках, расчырванеліся, шчокі, як буракі, і над усім гэтым гудам, як недзе ўгары, чуваць гармонік... Заліваецца такімі ядранымі сярэбранымі пералівамі, аж дух займае. Калі ўзяцца слухаць толькі гармонік, то чуваць ён не адзін: адгукаецца полька пад глухі бубен недзе ззаду за машынамі; там, дзе пасярод вуліцы падымаецца ўгару пыл, прарываецца праз крык кульгавая вясковая «барыня» з-пад пальцаў зусім яшчэ, відаць, зялёнага музыканта; далей — і за мастом, і ля школы, і аж на гары ў вуліцы чуваць толькі, што расцягваюць гармонікі — нічога не разбярэш...

Гул раптам сціх; адчыняюцца вароты, і з абгароджанага ваенкаматаўскага двара выходзяць пастроеныя ў два рады стрыжаныя галовы. Людзі расступаюцца, стрыжаныя галовы выходзяць на вуліцу і паварачваюць адразу да маста — ідуць на аўтобусны вакзал. Спераду ў іх лейтэнант у новенькай форме з жоўтымі пагонамі. Не спыняецца, просіць і просіць расступіцца, значыць, усё: не пусцяць больш нікога ў грумаду, павядуць і пасадзяць адразу на вакзале ў аўтобус — такой парой ён якраз адыходзіць на Мінск. Усім здаецца, што не далі адвітацца — тое, што адвітваліся два ці тры дні перад гэтым, ніхто не лічыць,— і ўсе раптам пускаюцца ўздагон на мост за стрыжанымі галовамі. Стрыжаных галоў многа, кожны з грумады хоча згледзець толькі «сваю», не пазнае, а то зусім не знаходзіць нідзе і, рассоўваючы ўсіх, рвецца наперад.

Яна адразу злавіла яго вачыма: ён ішоў і махаў рукою над галавой. І пакуль ён махаў, яна яго бачыла; варта было яму апусціць руку, як асталася ў шарэнзе адна яго стрыжаная галава... Яна зачапілася была, бегучы, за яе вачыма і доўга яшчэ вяла, не губляючы, пасля зачапілася за другую, за трэцюю, за пятую... Хацела злавіць

тую, першую, але яны былі ўсе аднолькавыя — стрыжаныя.

Ад маста стрыжаныя галовы звярнулі на брук, ім скамандавалі «падцягнуцца», і яны пайшлі шыбчэй, грукаючы нагамі і азіраючыся на грумаду, якая пусцілася бегчы, каб не адстаць.

Яна зноў злавіла вачыма стрыжаную галаву — трэцюю спераду ў першым радзе — і вяла яе ўсю дарогу да аўтобуса. Вялікі заграпічны аўтобус — шкло і збоку і зверху — стаяў адзін на вакзале з расчыненымі дзверцамі. Стрыжаным галовам скамандавалі прыставіць нагу і заняць месцы, і яны, адразу рассыпаўшыся, палезлі ў аўтобус: і спераду і ззаду. Яна падбегла да аўтобуса і зноў схапіла вачыма стрыжаную галаву на заднім сядзенні ў кутку і стала махаць ёй рукою. Але стрыжаная галава нагіналася ўперад і глядзела ў акно на другі бок аўтобуса. Яна хацела перабегчы на другі бок, але аўтобус акружыла грумада і пацягнулася да вакон рукамі, не прайсці: нехта нешта перадаваў, забыўшыся даць яшчэ дома, некага падсаджвалі, і ён лез з галавой у акно — зноў загудзеў рой, як і ля ваенкамата на вуліцы. Павіс быў у пярэдніх дзвярах лейтэнант, пасля па ім стукнулі дзверы, як вялікі матыль крыллем, аўтобус адразу засігналіў і крануўся з месца, рассоўваючы спераду грумаду. Закруціліся за шклом стрыжаныя галовы; іх, здалося, у аўтобусе было ўдвая больш, чымся перш на вуліцы. Яна зноў упілася вачыма ў стрыжаную галаву на заднім сядзенні. Галава круцілася з боку на бок, шукала, мусіць, яе і не магла знайсці.

Яна ішла ззаду, махала рукой стрыжанай галаве і крычала, не чуючы свайго голасу. Аўтобус, рассунуўшы грумаду на два бакі, выехаў на вуліцу, заківаўся, доўгі і цяжкі, па выбоістым бруку і пачаў набіраць разгон. Разам з ім заківаліся за шклом стрыжаныя галовы — уверхуніз.

Яна доўга бегла ззаду за аўтобусам і махала рукой. Пасля над заднім сядзеннем па вялікім шкле, як па лёдзе, пракацілася калючае сонца, спаліўшы агнём стрыжаную галаву...

...Веласіпед пакаціўся з горкі па ўтоптанай сцежцы, аж хапіла халодным ветрам шчокі. Застрэпала па спіцах сухая гавыла; забразгаў на выбоінах разбайдаваны званок на рулі — соваўся туды-сюды. Ля дарогі ў ржавай, пацярушанай зверху сівым пылам траве сядзелі, нікога не баю-

чыся, спелыя адуванчыкі, круглыя, сівыя, на высокіх дудках — як стрыжаныя галовы на ценкіх шыях... Буялі ў сваёй спеласці, перастоялі без ветру і былі відаць і ля дарогі, і ў ячмені; уперадзе ад іх аж сівеў лажок...

Яна раптам падумала, што і тады, па дарозе з ваенкамата на аўтобусны вакзал, глядзела на чужую галаву... Тады быў — і на вуліцы, і ў аўтобусе за шклом на заднім сядзенні — не ён, не Ратнікаў. Яна згубіла яго адразу на вуліцы ля ваенкамата сярод такіх, як і ён, стрыжаных галоў, якіх было тады ў Плешчаніцах, што адуванчыкаў цяпер на лагу...

Пасля пасыпаліся ад яго пісьмы. Ад іх і цяпер яшчэ бела ўваччу, як ад раманоў на дарозе. Пісьмы ляжаць, перавязаныя, у шафе на палічцы пад абрусамі — схаваныя ад чужога вока разам з грашыма і мацерынымі абліґацыямі. Аб іх кожны раз як усё роўна апякаешся, дакрануўшыся.

У водпуск ён прыязджаў адзін раз, зімой. Маразы тады замуравалі вокны і трашчалі ў вуглах; паднялася мяцеліца, пазамятала вуліцу аж па платы, пазаносіла дарогу і на грэблі і ля могілак. Яна тады ўжо хадзіла ў Красаволле ў канцылярыю: ідзеш-ідзеш, а вецер кожную раніцу з зарой у вочы — чырвоная зара на ўсходзе і вецер з дробным калючым снегам чырвоны... Правальваешся за калені, задыхаешся; пройдзеш-пройдзеш, спынішся, адвернешся ад ветру, дастанеш адубелымі рукамі — і рукавіцы не памагаюць — люстэрачка, паглядзіш, дзе белыя шчокі, патрэш іх снегам і — далей. Пакуль зноў не згледзіш у люстэрачку белыя плямы...

Тады, у водпуск, ён памог адвязці ў бальніцу ў Белае маці. Вязлі вялікім марозам па гурбах на Бар'яне — ён і цяпер яшчэ жыве, і на ім кожную раніцу з бітонамі на калёсах збіраюць малако на закуп па хатах. Ехалі раніцай, аб'інелі, Бар'ян быў увесь белы; Ратнікаў стаяў усю дарогу на палазках, апусціўшы вушы ў шапцы і падняўшы каўнер у шынялі. Аб'інелі ў яго і шапка, і бровы, і шчокі — галава стала белая, як аблуплены качан капусты, толькі гарэла на шапцы вішнёвым агнём зорачка і блішчэлі ад слёз вочы. Доўга на палазках ён не ехаў, пастаіць-пастаіць, тады бяжыць за саньмі ззаду, высака падкідаючы калені — грэецца. Маці сядзіць у развалках, накрыўшы ногі сівой буркай; сама Таня сцюцюрылася ў перадку, уціснуўшыся ў сваё старое, з вялікім чорным авечым каўняром паліто — яно вісіць у запечку, зімой у

ім яна ходзіць цяпер у хлеў да Маліны,— і не чуе ні рукавіц на руках, ні лейцаў, якімі трэба тузаць Бар'яна — чуць пераступае нагамі па цаліку.

У тую зіму ён хацеў запісацца. Яна не пайшла ў сельсавет, і яны не запісаліся. Якая запісь, калі маці ў бальніцы?

Летась ён вярнуўся з арміі назусім. Вясной, у самае разводдзе — пераносіў яе тады на руках у лагчыне ля могілак, калі ішлі ў Крамянец.

Глядзела яна тады ў Плешчаніцах на аўтобусным вакзале на чужую галаву і як наваражыла сабе: вярнуўся ён для яе, што чужы. Як усё роўна нічога перш не было: ні школы, ні выпускнога вечара, ні праводзін, калі яна пасля, астаўшыся на вакзале, кідалася, як рыба на беразе. Хацелася цяпер толькі аднаго: збегчы з дому. Ад цікаты і цяжкай, як камень, спрадвечнай вясковай нудоты, калі ў сваёй абмалелай вёсачцы з забітымі ў тым канцы вокнамі ў хатах — паз'язджалі, хто на цаліну, хто ў горад — ні вечарынак, якія былі яшчэ нядаўна пад гармонік, калі хлопцы прыводзілі здалёку музыкантаў і сыходзіліся на танцы аж з чужых вёсак: ні кіно, якое перш прывозілі і ставілі ў Вайдаў — у старой канцылярыі... Не будзеш жа бегаць да Пётры — брыгадзіра — на тэлевізар: глядзець там нечага, адзін «снег» за шклом, як зімой на шыбіне ў акне, і дзяцей поўна хата — адных сваіх шасцёра. Ды і ісці адумысла на тэлевізар? Гэта ў кіно можна пайсці, кінуўшы ўсю работу дома... Па ўсё па гэта цяпер трэба было хадзіць аж у Краснаволле ў клуб, і яна хадзіла спачатку з Выліпінай Нінкай, з якой разам канчала школу. Але Нінка недзе адразу пасля таго, як правялі ў армію Ратнікава, выскачыла на Акцябрскую замуж за старшыну з Барысава — прыязджае цяпер да Выліны на сваім «Масквічы», дзяцей не хоча, жыве «ў сваё удавольствіе».

Пасля таго як паехала з вёскі Нінка, хацела і яна збегчы. Але куды ты збяжыш, калі кожную ноч прачынаешся, падыходзіш да матчынага ложка і, сцяўшыся, слухаеш: ці дыхае... Каторы ўжо год...

Маці чуць ходзіць; ацякаюць і рукі — робяцца, як падушачкі, і ногі — наліваюцца ля костачак; дзервянеюць пальцы — бывае, пасля начы не можа ні лыжкі дзяржаць, ні сціснуць іх кулачком. А ферму кінуць і ў бальніцу ехаць — і слухаць не хоча. Толькі і паляжала тады зімой... Пасля фермы яшчэ ўсё ідзе рабіць дома: і ў хлеў, і да

студні, і ў варыўню. Як жа гэта будуць без яе... Маліна, Юрачка, куры... Галодныя ж астануцца... І сёння ўстала перш за яе, Таню, доўга сядзела на двары на ўслончыку ля частакола і перхала: задыхалася ў хаце ад духаты. Тады ўзяла вядро і пайшла ў хлеў даіць Маліну — перад тым, як пайсці на ферму...

Не збегла яна, Таня, тады нікуды, а цяпер і потым таго. І нанава прывыкае да Ратнікава і прывыкці не можа. Другі год пайшоў...

Можа б, яна, махнуўшы на ўсё рукой — «прытрэцца», як гаварыла Выліна,— і пачыкіляла пасля яго арміі ў сельсавет, калі б на Жоўты Бераг не пайшла леспрамгасаўская аўтакалона. Якраз у тую вясну, калі Ратнікаў вярнуўся з арміі. Падхапілі тады яе ля могілак на дарозе дужыя абветраныя рукі, пасадзілі ў кабіну і правязлі праз грэблю. Грэбля тады пахла размяклай зямлёй пасля Вясенняга дажджу і жытам з поля ад Кур'янаўскіх Садоў. І павісла яна, Таня, з таго дня як усё роўна на тых дужых руках. І цяпер, здаецца, падпятая ад зямлі... Можа б, і прывыкла яна нанава да Ратнікава недзе там, на цаліне, куды ён цягнуў яе адразу пасля арміі, ці ў Барысаве ў СМУ. Ці ў другім якім месцы, дзе не ходзяць «прычэпы» з леспрамгасаўскай аўтакалоны. Дзе не высоўваецца з кабіны саламяная галава і не глядзіць кожны раз з вуліцы на двор... Хоць бы з'ехаў ён куды са сваёй аўтакалонай і не трос аўсяным снопам ля варот...

Кур'янаўскія Сады аж паснулі ў сіняй смузе... Смуга, густая і гарачая, падымалася з зямлі, як дым з вогнішча, і спавівала сівой духатою ўсё на свеце: старасвецкія ліпы ў садах; асушанае ля грэблі балота, дзе цяпер нагіналіся над гранкамі крамянецкія бабы ў белых хустках, полючы раскіданыя брыгадзірам на нормы буракі; шэрую, як усё роўна пакарабачаную ад гарачыні вёску і лес за вёскай пад Віліёй, за які апаўзаў белы зверху, як малако, цяжкі ранішні туляг.

Грэблю схаваў пыл, цягнучыся рванай паласой да моста пад вёску. Чуваць было, як у пыле дробненька бразгала жалеза — падскокваў на калдобінах парожні прычэп. Грэбля аж кіпела ад пылу, гарачыні і машын, і Таня падумала, што на гары ля Ячнага якраз недзе і Ратнікаў — справіўся за гэты час яшчэ раз злётаць нагрузіцца на Дроздку — і што яна добра зрабіла, паехаўшы не дарогай, як усягды, а на балота: сёння не хацела больш спатыкаць ні аднаго, ні другога. І вёска недзе ўжо кіпіць, як грэбля

ад пылу, ад пачутай навіны: біліся! Падчапілі недзе на языкі з самай раніцы: і на ферме, і на бураках, і на полі на Дроздцы і не скора яшчэ выплюнуць.

Во да чаго дайшло — ля хаты, на вачах у маткі... За нос двух водзіць... А ці толькі двух?.. Кожны сабака будзе цяпер брахаць на яе з тыдзень з-за вугла, і ўжо не за свой, за любы чужы грэх, хоць вёска цяпер, здаецца, і заплюшчвае на ўсё вочы: жыві як хочаш, і рабі што хочаш, не ранейшая, калі перад ёй даводзілася адчытвацца за ўсё са страхам. Але вёска і цяпер яшчэ вёска, і пакуль яна будзе — будуць і языкі, і абсуд, і абгавор, толькі ўжо ўперамешку з тым, што рабілася ўчора вечарам у тэлевізары...

Ад Кур'янаўскіх Садоў, у якіх цяпер буяла не кранутая касой спалавелая на сонцы густая мятліца і паверх яе жаўцелі ў самым куце ў яміне, дзе некалі была на лагу сажалка, разгатыя рабіны і загранічныя ягады — ірга, дарога пайшла ля разрытай нядаўна на балоце канавы ў лагчыну пад вёску, і Таня, упёршыся нагамі ў педалі, ляцела ўніз, як ластаўка над берагам. Чула толькі, што свішча ля вушэй густы вецер, стрэпаюць аб нагу сухімі зялёнымі калючкамі дробныя дзяды на дарозе і пахне з глыбокай канавы, дзе blішчэла на сонцы вада, свежым балотам і з поля ад рэчкі звялым на сонцы ахрап'ем ад буракоў і бручкі-кузікі. Пахла яшчэ здалёку аж з-за ракі з логу сухім сенам, ад яго кружылася галава, падступала нейкая шалёная, як у дзяцей, радасць, і хацелася вось гэтак ляцець і ляцець уніз пад цёплы вецер да ракі, праз лог, праз вёску, праз лес да Віліі — на край свету... Колюць да крыві нагу дзяды, мітусяцца перад вачыма белыя матылькі і скачуць у траве ля кузікі несціханыя конікі. Дагнала кнігаўка, прыляцеўшы з Кур'янаўскіх Садоў, абмінула; склаўшы крылле, упала каменем у лагчыну да ракі, узляцела ўгару, як апёкшыся там аб што, і закігікала над галавой з трывогай, палохаючыся сама і палохаючы ўсіх на свеце адвечным птушыным страхам.

Запахла аднекуль гарам, едкім, праціўным — недзе ля ракі тлеў торф. Асталася ззаду кузіка; уперадзе за ракой быў відаць жоўты, выгаралы на сонцы лог. На ім пад лесам грабілі бабы сена, пласцілі і падавалі адразу на воз. Бразгаў за фермай у лесе прычэп — там стаяў пыл; у канцы вёскі было чыста, і яна адразу згледзела сваю хату і двор — стаіць нехта ў чорным за варотамі ля сеначак.

Ад канавы па канец кузікі можна было павярнуць на грэблю да маста, але яна з'ехала да ракі і павяла веласі-

пед у руках берагам да затокі, дзе перш, калі выпрамлялі яшчэ раку, быў брод — якраз проці іх. Бераг ад выгана быў высокі, круты, увесь у рытвінах — капалі спрадвеку глей бяліць хаты,— і яна, падняўшы ў руках веласіпед, панясла яго з гары ўніз, у брод. Стары, спрадвечны брод, праз які, яна яшчэ помніць, вазілі ўсягды з балота сена і ганялі з поля скаціну — і калгасную і вясковую,— быў якраз у старыцы, яго адсекла ад вады прарытая па лагу прамая канава, і ён, поўны некалі белага дробнага камення, курмялёў, верацяніц і сліжыкаў, якія не маглі ўстояць на месцы ў празрыстай халоднай неглыбокай, у костачкі, плыткай вадзе, цяпер паміраў. Ад маста зусім высах, невядома куды дзелася белае, блакітнае і шэранькае, як птушыныя яйкі, каменне — павыбіралі, мусіць, дзеці; старое дно ў гарачыню пасеклася глыбокімі трэшчынамі, у якіх быў відаць тоўстым пластом белы сухі глей; некалі зялёны, у дробныя грыўкі мох ля берага высах, скруціўся ў конскае пута, і яго здрабяжылі вострыя капыты прагавітай і сасмяглай жывёлы, засушыўшы пасля сябе на ўсё лета пакарабачаны след. Дзе раней за бродам пад нахіленай старой вольхай была глыбокая яміна — у ёй купаліся і вудзілі плотак,— і цяпер у такое гарачае лета стаяла вада. Старыца тут ніколі не высыхала. Невядома было, адкуль сюды набягала вада: ці сачылася праз пласт з новага русла, з логу, ці, можа, дзе гэтым месцам біла крыніца, але старыца жыла — блішчэла здалёку кавалачкам блакітнага неба; ківалася ладнымі белымі гарлачыкамі на самай сярэдзіне; па краях, ля абтаптаных берагоў, схапілася зялёнай цінай і зацвіла раптам сёлета рэдкай у гэтым баку альдравандай, якую некалі прыносіла маці з балота...

Пачуўшы яе, з-пад ног, з патрэсканага дна старога броду, пырхнула пліска, пабегшы па намытым пяску. На беразе новай ракі — па старой прывычцы сюды хадзілі і ездзілі, як у брод, абтапталі насыпаныя высака пясок і торф — яна сцягнула з ног басаножкі, перакінула іх на другі бераг і, узяўшы за раму веласіпед, зайшла ў ваду. З-пад ног разляцелася ў бакі дробненькая сіляўка; вада была халодная, як лёд, доўга не пастаіш, каб і хацеў, аж у галаву коле. На беразе яна надзявала басаножкі на мокрыя ногі, апёршыся на веласіпед, і глядзела спадылба далёка на двор, дзе нехта хадзіў ля сяней. З-за плота ён быў дрэнна відаць, і яна не пазнавала.

«Нешта не тое...» — падумала яна і пакаціла з подбегам веласіпед ад ракі па араным некалі лагу — падскок-

валі на ямах колы і звінеў на рулі званок. Дабегшы да свайго гарода, пусцілася мяжой — веласіпед сарваўся з мяжы, і колы пакаціліся баразной па сухой грудзе і каменні — дрыжалі рукі і стукалі зубы. Падняўся раптам вецер, панёс з вуліцы на гароды пыл — дыхнуў нейкім не вядомым дагэтуль гарам.

На двары за варотамі стаяў стары Харбін і махаў ёй рукой. Быў без кепкі, гладзіў усё белую лысую галаву. Яна кінула веласіпед на мяжы — не стала рассоўваць спрагу, каб цягнуць яго на двор: не прападзе — праціснулася між жэрдзя і, бегучы па гранках з бульбеўнікам, глядзела за вароты на старога Харбіна:

— Што?

Харбін загаварыў да яе, калі яна бегла яшчэ па мяжы за плотам, цяпер ён гаманіў і гаманіў, не сціхаючы, але яна зразумела толькі, што ён гаворыць адно і тое.

— Што?! — закрычала яна, падбегшы да варот і ўчапіўшыся дзвюма рукамі за кручок.

— Хе-хе, дачка... Ці чэрці...— засмяяўся дробненька за варотамі Харбін.— Суседку, во, угнявіў... Запёрлася і не адчыняе. З гадзіну ўжо драгаю. Не адчыняе. З хаты запёрлася. Сенцы былі насцеж, цягнуў, цягнуў за клямку, каб адчыніць хату, тады пачаў драгаць. Прыйшоў, во, таблетку ад галавы папрасіць... Ломіць нешта сягоння... Такая гарачыня. Дык суседка не адчыняе, загневалася. Госці ў яе былі раніцай, хе-хе... Здалёку, відаць, госці, з залатымі зубамі. Я дык іх, можна сказаць, і не застаў, хе-хе... Пакратай за клямку ты, дачка. Табе, можа, адчыне. А на мяне загневалася...

— Якія госці? — толькі і спыталася яна ў яго, бегучы ў сенцы.

Дзверы ў хату былі ўзяты з сярэдзіны на кручок, і яна пабразгала дробненька клямкай, як усягды, калі позна варочалася дамоў.

— Гэта я...— сказала, пачакаўшы і паслухаўшы.

За дзвярыма было ціха; яна зноў забразгала клямкай і, прыслухаўшыся, пачула толькі, як, стоячы ззаду, дыхае ў патыліцу Харбін.

— Ма-амка! — закрычала яна тады на ўвесь голас і, чуць не збіўшы з ног старога Харбіна, выбегла на двор. Пачула толькі, як гарачыня таўханула сэрца і падкошваюцца ногі. Падбегшы да акна ад двара, яна задрагала ў раму. Прыхінулася пасля да шыбіны, каб што згледзець, але ў хаце ўсё было на месцы. Тады яна пабегла назад за

вароты — да акна ад гарода. Акно ад гарода было большае, чым астатнія, пасаджана нізка, і яна адразу згледзела на падлозе ля стала маці: чорная спадніца, белая нажутка і босыя, выцягнутыя ў парог ногі...

— Ма-амка! — закрычала яна зноў і задрагала ў раму. У вочы сыпанула сухім кітам — адставаў ад шкла.— Сюды! — паклікала яна Харбіна і стала стрэпаць пальцамі па цвіках.— Акно... Акно трэба зняць... Дзверы на кручку...

Цвікі былі старыя, ржавыя, уеліся ў сухую раму. З пальца пырснула кроў.

— Сюды! — зноў клікнула яна і пачула, што ззаду ў яе загаварыў стары Харбін. Аглянуўшыся, убачыла, як ён таптаўся на гранцы — падаваў ёй доўгі завостраны ржавы зуб ад бараны: дастаў з-пад падстрэшка ў сенцах.

— Можа, я дамоў па тапор збегаю...— гаварыў ён, выставіўшы зуб ад бараны, і ў яго трасліся рукі.— А не — то дай я... Што ж гэта суседка там надумала...

Яна адагнула зубам ад бараны цвікі па баках рамы; унізе ржавы цвік адламаўся і пырснуў пад ногі. Рама, усохлая на сонцы за гэтулькі гадоў, лёгка вышмыкнулася з прычарнелых пазоў разам з верхнім цвіком. Растапырыўшы рукі, яна падхапіла яе, саскочыла з прызбы на гранку і круцілася на месцы, не ведаючы, куды прыткнуць, аж пакуль не забраў яе стары Харбін і не прыставіў да сцяны ля вугла.

Маці ляжала, як нежывая. Вочы заплюшчаны, вусны сцяты, чырвоныя шчокі аплылі. Барадаўка на лобе над левым брывом — некалі ўдарыла рогам на ферме карова — зрабілася сіняя; пасінеў, здалося, лоб. Галава ў яе была павернута да ложка, і з куточка вуснаў на падбародак збягала цененькая чырвоная нітачка крыві. Яна затармасіла яе за плечы — галава яшчэ больш нахілілася да ложка, і патаўсцела, заблішчэўшы, чырвоная нітачка на падбародку.

— Мамка! — яна загаласіла на ўсю хату і адразу сціхла: згледзела, як у маці падымаецца пад напятай белай нажуткай жывот: маці цяжка дыхала.

— Не тармасі, дзяўчына... Я стары чалавек, нагледзеўся. Дабром гэта не кончыцца. Бяжы да Пётры, звані ў Белае ў бальніцу. І вадой лішне не пырскай, пастаў конаўку. Жывая, дыхае. Сама прачнецца, не тармасі. Бяжы, звані ў бальніцу. Мы нічым не паможам, ні ты, ні я...

Яна азірнулася на голас — у аконнай праёміне, вялі-

кай, на ўсю сцяну, стаяў стары Харбін: чорная рубашка з белымі ў радок гузікамі, белая лысая галава і чырвоныя паголеныя шчокі з жоўтымі нітачкамі вусоў. У руках у яго быў ржавы зуб ад бараны.

— Адшчапі кручок і бяжы. Што ты скамянела? Я ж не пабягу. І машын як на тое... То поўна ля варот... А цяпер нікога...

Яна і сама не ведала, што рабіць: то падбяжыць да дзвярэй, каб скінуць кручок, то зноў вернецца назад да стала.

Толькі не кідаць адну маці на падлозе... Толькі нікуды не бегчы... Пабяжыць, вернецца і не застане жывую. Яна зноў загаласіла на ўсю хату...

— Тады я пайду на вуліцу. Можа, каго знайду, каб падбег да Пётры пазваніць у бальніцу. Толькі ты яе не тармасі, не тармасі...— закашляў у акне стары Харбін.

— Каб хоць падушку пад галаву... На ложак перанесці...— нешта сухое стала ў горле камком, не давала ёй ні дыхаць, ні гаварыць.

— Маю Прузыну як паднялі во гэтак з падлогі... Дык і паклалі адразу ў дамаўё. І ложак не спатрэбіўся. А так, казалі, яшчэ б жыла...

«Што ён такое гаворыць?..» — падумала яна пра Харбіна, як адмахнулася, і пачала адыходзіцца ў парог. Адыходзілася і ўсё глядзела на цёмную бародаўку на лобе ў маці, на белую нажутку, што падымалася і апускалася на высокім жываце. Кручок яна адкінула локцем, піхнула дзверы і з сенцаў яшчэ глядзела, як падымаецца белая нажутка...

Выбегшы на двор, адразу пусцілася да варот. Нешта ззаду гаварыў ёй стары Харбін, але яна яго не слухала. Вароты з гарачкі адкінула да самага гародчыка і пабегла пасярод вуліцы ў вёску. Пачула, што бяжыць босая, не помніць, калі скінула з ног басаножкі, што босым нагам горача ад нагрэтага пяску, як ад прыску. Пацёк з ілба пот, салёнай гарачынёй паліла ў горле, заелася ў вочы; каса — то на грудзі, то на плечы, і млеюць, млеюць у каленях ногі... Над вёскай, як над галавой, загрукатаў раптам, што гром, рэактыўны самалёт, зашумеў, як вецер у буру. Адкінуўшы галаву, яна згледзела яго: маленькі, што ластаўка, чорненькі, пакідаючы пасля сябе белую паласу і абганяючы яе тут, на зямлі, ён плыў высака ў сівым небе якраз у канец вёскі, куды бегла яна, каб скарэй пазваніць у бальніцу...

Ужо ля Вайдаў яна згледзела, што вуліца пустая, ходзяць толькі недзе далёка ўперадзе, мусіць, ля Царука, белыя куры, і падумала, што зусім здурнела: трэба было хапаць веласіпед, была б дагэтуль аж ў Пётры, які, як на тое, жыў аж на самым канцы вёскі і толькі ў яго, у брыгадзіра, быў у вёсцы тэлефон. Ад Вайдаў з горкі каціўся да маста «прычэп», гружоны белай, як снег, бярозай — стаяў, мусіць, дагэтуль у вёсцы — і ў яе адразу на якую адну толькі хвіліну разанула нечым вострым у грудзях. Памяць выхапіла, што з цемнаты, як яна, Таня, бегла некалі сюды, да маста: з чамаданам у руцэ на гэткі ж самы «прычэп» з белай бярозай... Бегла — каб паступіць у пед-інстытут...

І дабегла да маста, дагнала «прычэп», і шафёр — быў мінскі — пасадзіў яе ў кабіну. Даехала яна аж да Плешчаніц, шафёру ўжо заплаціла наперад да Мінска... І вярнулася з Плешчаніц: не змагла далей ехаць. Ішла ўсю дарогу пехатой, несучы ў руцэ чамадан. З Краснаволля павярнула на Кур'янаўскія Сады, на балота, не хацела спатыкацца з людзьмі — бо была кінула дома матку, адну, хворую... Ніколі яна не ўспамінала пра тое: баялася, а цяпер памяць разанула, як нажом...

Паласа ад рэактыўнага самалёта абарвалася ў канцы вёскі, апускаючыся дугой на далёкі сіні лес.

Ля Царука, пасярод вёскі, заняло дыхаць; гарката з горла папаўзла ніжэй, разлілася на ўсе грудзі; ногі парабіліся цяжкія, здавалася, не адарвеш ад зямлі, а яна бегла і бегла, баючыся, што зусім выб'ецца з сілы і не дабяжыць.

Пад ногі пачало трапляцца буйное, па курынаму яйку, белае каменне; яна баялася наступаць на яго пятой — аж у мазгі калола; рэзаўся калючы жвір — як усё роўна бегла па полі, па скошаным іржышчы. Вуліца ў вёсцы ўсягды была гразкая, не прайсці, не ўзяўшыся рукамі за частакол, і яе нядаўна паднялі, навазіўшы машынамі жвіру аб бульбяных ям. Ад таго паніжэлі ў вёсцы хаты, нібы паўязджалі ў зямлю, і зрабіўся маленькі частакол ля Царука — пераскочыш... Здавалася яшчэ, мусіць, што даўно не была ў вёсцы, нейк пeратасаваны хаты: перш стаялі далёка ад вуліцы на гародах, цяпер пабліжэлі, стаяць ля самага частакола, з новымі шэрымі шыфернымі стрэхамі, з пафарбаванымі ў сіняе акяніцамі, з жэрдкамі ля стрэх і растапыранымі ўгары антэнамі. То ля адной, то ля другой ро-

бяць сеначкі; не так, як перш, з бярвення, а з дошак, з вокнамі ў дробныя шыбкі, на ўсю сцяну — веранды.

Яшчэ здалёку, з вуліцы, яна ўбачыла Пётраву пафарбаваную ў сіняе вялікую, на ўсю сцяну ў хаце, зашклёную веранду з расчыненымі дзвярыма і на парозе Пётраву жонку Ліду. Тая згледзела яе, Таню, стаяла і чакала: кугэта яе нясе. Белая з твару, поўная, як налітая, яшчэ маладая — гадоў ёй трыццаць, ці што,— яна насыпала Пётру шэсцера дзяцей — адных сыноў — і цяпер, казалі, хадзіла сёмым — хацела дзяўчынку. Убачыўшы, што Таня бяжыць да яе, насустрач не пайшла, стаяла. Белавалосая — валасы прыхоплены спераду жоўтай касынкай, у яркай, у дробныя кветы, жоўтай раскошнай сукенцы, босая, яна прыліпла на высокім парозе, дзержачыся рукой за вушак. Піхнуўшы ад сябе такія ж сінія, як і веранда, дашчатыя лёгкія варотцы, Таня доўга бегла вулачкай ля частакола пад навіслым зялёным лісцем — за частаколам быў сад,— таптала нагамі на выбітай сцежцы бурыя зморшчаныя дробныя слівы і ніяк не магла дабегчы. У вачах скакала сіняя веранда, Ліда і чорныя правады: туга нацягнуліся з вуліцы.

«Тэлефон...»

Калі яна падбегла да веранды, убачыла толькі, як лінулі з-пад ног у бакі белыя куры і Ліда выпусціла з рук падол вышытага сіняга фартуха, рассыпаўшы ячмень: спужалася.

— Пазвані-і-ць...— выдыхнула з сябе Таня, як скінуўшы з плячэй мех, і ўскочыла на ганак — на калючы рассыпаны сухі ячмень.

— Хм... Пазваніць...— Ліда хмыкнула, неяк злосна ўсміхнуўшыся — вочы схаваліся ў налітых шчоках — і пачала ачышчаць рукамі сіні фартух ад асця.— Маўчыць ваш апарат. З учарашняга... Здурнела, так бегчы...— Яна стаяла на парозе, як усё роўна не хацела пускаць у хату.— Што ты не магла з канцылярыі пазваніць, праверыць? Яшчэ ўчора папсаваўся. Маўчыць. І мой усю раніцу хукаў у трубку. З тым і пайшоў. Званочкі ўсё яму, званочкі...

Таня, сагнуўшыся, скочыла ёй пад рукі, паслізнулася на нечым мокрым у парозе і пабегла адразу ў другую палавіну хаты, дзе, ведала, на стале ў Пётры стаяў малінавы апарат з гарбатай трубкай. Стол быў накрыты белым абрусам у чырвоную клетку; малінавы апарат быў у куточку на акне на газетах, прыхінуты накрухмаленай сіня-

ватай фіранкай. Яна схапіла яго ў дзве рукі з акна, паставіла на стол і скоранька падняла трубку. У трубцы ціха. Яна тады пачала тузаць за провад ля апарата і ля трубкі — трубка маўчала. У хаце вісела нейкая халодная цвілаватая цішыня, і добра было чуваць, як правілася ў сенцах Ліда:

— Што? Праверыла? Маўчыць. І маўчаць будзе! Я гэты апарацік сама зніштожу. Аб падлогу... На чарапкі разляціцца... Званочкі ўсё яму, званочкі...— пачынала яна пра свайго Пётру, як заўсёды: «ганяла ад «чарніла» і ад баб».— Не было гэтага апарата, то я многа чаго не знала. А цяпер... Шнуры гэтыя паабрываю к чорту матары... Начальства, думаеш, яму звоніць? Курвы звоняць! Выліна ваша... Вочы выдзеру! Павісла на ім, у леспрамгасе ўжо ўсіх хабалёў перабрала... Быкава... Мужыка нядаўна яшчэ адвязла пад бярозы... І тая... Злаўлю ўдваіх — прыхлопну, а сама ў цюрму сяду. Мой не вінаваты. Яму хоць хто пакажы — пойдзе. Дык яны адна перад другой: і нашы з Крамянца, і краснавольскія. Я яму пакажу... Мяне дзецьмі абкідаў, а сам па курвах... Я ім усім дам джогеру... Я не буду хадзіць па начальстве плакаць. Яны самі ў мяне будуць выць...

Таня пакінула тэлефонны апарат на стале. Апёрлася на верандзе рукой аб вушак — так звялі раптам ногі.

— А ты... Што ў цябе, што так бегла?..— павярнулася да яе Ліда, выціраючы падалом фартуха рукі.

— Маці... Кроў ротам пайшла... У бальніцу хацела пазваніць...

— Ма-аці... А што рабіць беднаму дзіцяці... Загудзіць у трубцы, я сама пазваню ў бальніцу. Знаю, што сказаць. Будуць аж тут. Вытрыся, як з лазні ўся. Вады, можа, падаць? Дзеці! Я вам палезу! Я вам наабіваю!..— закрычала яна раптам на ўсю веранду і, асцярожна ступаючы, як па бітым шкле, пайшла на двор да частакола. За частаколам у садзе збіліся ў кучу белагаловыя Пётравы дзеці і скакаў у траве рабы сабачка.

Сціхла Ліда; над вулачкай гудзелі правады — усхадзіўся вецер, дыхаючы з вуліцы гарачынёй у твар. Бразнуўшы за сабой сінімі варотцамі, яна зноў успомніла, што дома па мяжы ля плота ляжыць веласіпед.

«Трэба было самой адразу ехаць па Коласа...»

Назад бегчы было цяжэй. Яна бегла, а ёй здавалася, што сама стаіць на месцы, а ўперадзе падскокваюць хаты — уверх-уніз. Уся вуліца стала жоўтай ад юргінь ля

частаколаў. І пад нагамі раптам зрабілася жоўта — высыпалі ад некага з вулачкі курчаты. Толькі б не падушыць... А яны лезуць і лезуць пад ногі, як хто іх сыпле на вуліцу...

Курчаты зніклі, апалі за частакол высокія юргіні — у вачах асталіся толькі жоўтыя кругі — плылі адзін за адным. Ніколі яна не думала, што такая доўгая вуліца ў вёсцы, у якой толькі пяцьдзесят хат і якія збіліся ў цесны гурт, як на лагу ў кучу скаціна.

На павароце пад вярбой, якая нагнулася старой зялёнай шапкай на вуліцу, яна пачула, што ўперадзе застукала машына — зашапталі ўгары над галавой водгаласкі, як хто сцебануў пугай па лісці. Яна не справілася адскочыць да плота: уперадзе на жоўтым пяску ў каляінах закруціліся колы, заблішчэла ў кабіне ад сонца шкло, і на яе дыхнула гарачай парай. Яна толькі выставіла ўперад рукі, як усё роўна хацела ўпёрціся ў машыну... Колы віхлянулі з пясчаных каляін, узбеглі на запылены падарожнік ля плота і сталі — не круціліся. Машына заглохла, і было чуваць, як на ўсю вуліцу шыпіць недзе блізка пара. Тады бразнулі, адваліўшыся, дзверцы, і з кабіны на пясок скочыў Ратнікаў... У той жа кепцы, у той жа мокрай ад поту рубашцы, у якой прынёс раніцай у канцылярыю зайца. Сцяў зубы, вочы па яблыку...

— ...Ты што?! Жыць надаела?!

Яна як стаяла з выцягнутымі рукамі, так і ўпёрлася яму ў грудзі.

— Ты што? Адкуль гэта ўзялася?

Яна не магла сказаць ні слова.

За паваротам пасігналілі.

— Мамка...— яна зашаптала, гледзячы яму ў вочы.— Кроў з рота... Званіць бегала і не дазванілася...

— Дастукаліся... Бяжы, і з дому анікуды. Я паспрабую адразу на Белае... Ціскану, і хай ловяць мяне за хвост...

Бразнулі дзверцы, сцебанула па вачах гарачым сонцам люстэрка ля кабіны, і цяжка закалыхаўся з боку на бок жоўты, бліскучы на сонцы, як золата, кузаў з ячменем.

Ззаду зноў пасігналілі. Яна адскочыла пад вярбу і прыхінулася да плота.

За Ратнікавым ехаў Сяржант — узяў у кабіне ёй пад казырок і вышчарыў зубы.

## 6

У гародзе на мяжы ў высокай траве бегалі чырвоныя вёрткія андрукі — божыя кароўкі — і блішчэлі кропелькі расы. Раса была ўсюды: на зялёным, у жоўтым цвеце агурочніку ў градах; на бручцы ля мяжы — на цёмным лапушыстым лісці; на густых зялёна-жоўтых парасончыках кропу; на белых квятках дудкаватай цыбулі — прыхопленая зімой у вялікія маразы, пайшла ў пук; на разгалістых, абгароджаных свежымі альховымі рагачыкамі высадках у канцы град; на капусце ля плота; на чырвонай канюшыне і спалавелай мятліцы за плотам на лажку; на высокім цёмным канаторжніку ля варыўні і на жоўта-белым ад цвету бульбеўніку ў гародзе.

Яны — наперадзе Мікалай, ззаду яна, Алімпіяда,— рассунулі верхняе жэрдзе ад логу і, пералезшы праз плот з граблямі, ішлі мяжой адно за адным. Ззаду над логам, дзе яны сёння пасля палудня ўсёй вёскай грабілі і стаўлялі ў копы сена, вісела чорная, з чырвонымі градавымі падпалінамі хмара, сплываючы да маста на той канец вёскі. Парыла з раніцы, і нарад быў грабіць сена. Лог зрабіўся перапялёсты ад белых хустак, блакітных і чырвоных мужчынскіх маек. Грабілі сена ўсім калгасам, абліваючыся потам, падганяючы адзін аднаго і азіраючыся на Кур'янаўскія Сады, дзе мурзалася млявае ад гарачыні неба. Пасля адтуль раптам пайшла хмара, павісла над грэбляй, схаваўшы сонца. На лагу зрабілася цёмна, як позним вечарам, і добра былі відаць белыя гусі — лёталі з прарэзлівым крыкам ля маста, чуючы буру. Вуркатаў гром недзе над Ячным, і ў тым баку чыркалі кароценькія дробныя маланкі. Хмара зачапіла вёску толькі краем — пасыпаўся густы дождж, цёплы, ціхі, без ветру Ад яго адразу абмякла не згрэбленае ў копы сена і заблішчэла расой. З логу, з валоў, з коп, з плеч у людзей — з нажутак і рубашак, пайшла пара. Усюды стала сіва, запахла вялай травой, ячменем з поля і кропам з гародаў. Закамандавалі вяршыць копы і — па дамах. Пакуль вяршылі, на Кур'янаўскіх Садах аблешчылася, адтуль раптам глянула сонца і над ракой павісла радуга. Выгнутая, шырокая, з добры ручнік, што вешаюць на плячо сватам на вяселлі, зялёна-чырвоная з жоўтым, яна ціха пералівалася ў вачах, дастаючы канцом аж сюды на лог, на валы — ёй, Алімпіядзе, на граблі.

Граблі яна дзяржала цяпер, як качаргу ў печы ў агні,

напраўляючы дровы; павярнулася была да Мікалая — ці відзіць ён такое! Мікалай стаяў блізка ля яе і быў увесь чырвоны — з галавы да ног. Яго сівыя валасы гарэлі агнём, твар зрабіўся жаўтаваты, у зялёныя палосы.

Мікалай усміхнуўся, гледзячы на яе: відаць, і яна была ўся афарбавана ў радугу...

Яны, пералезшы праз плот, ішлі цяпер па расе з граблямі ў руках, і радуга вісела ў іх наперадзе над мяжой.

Мікалай раптам мінуў чырвоную паласу, пераскочыў, як жэрдку, і пайшоў скоранька па мяжы, як уцякаючы. І яна хацела пераступіць чырвоную паласу на мяжы, але звялі ногі, чырвоная паласа зрабілася ценкая, як дрот, і сцебанула па вачах вострай спружынай. Яна выцягнула ўперад руку, каб схапіцца Мікалаю за плячо, але і плот, і мяжа, і Мікалай скочылі ўперад і схаваліся ў белым агні...

Грукае гром, доўга, працяжна — пачне ад грэблі і бяжыць на Кур'янаўскія Сады, пакуль не аціхне недзе над Краснаволлем.

Пасля яна выразна чуе, што грукаюць у дзверы з сяней і просяць адчыніць.

Просіць Мікалай — вярнуўся позна ноччу аж з-пад Бегамля: вазіў партызан. Двое сутак чакала, вачэй не звёўшы — гарнізон жа бралі,— змаглася ад бяссоння і не можа цяпер адплюшчыць вачэй. Каб толькі адплюшчыць вочы — устала б і пайшла адчыніць дзверы. Але на вачах цяжкая цемната...

Стукае ў дзверы Мікалай, гаворыць з некім, кашляе, і ёй робіцца ўсёй мякка і добра, і яна не хоча адплюшчваць вочы, бо адплюшчы — знікне адразу Мікалай. А яна не чула яго голасу ўжо гадоў дваццаць.

Пасля яна пазнае, што гаворыць зусім не Мікалай, а Андрэй — стары Харбін, і не за дзвярыма, а на загуменні ля фермы — рана пусціў з поля калгасную скаціну, і яна, рыжая, бурая, чорная, перапялёстая, валіць валам з Жоўтага Берага з лесу: па бульбе, па ячмені, па пшаніцы. На загуменні падымаецца пыл, руды, густы, і яна круціцца, як у віхры. І грукае памінутне зусім не ў сенцах, а ў канцы вёскі за лесам, глуха, цяжка, падкідаючы ўгару ацяжэлае вялікае вячэрняе чырвонае сонца. Грыміць з самай раніцы — вайна... Гудзяць недзе высака ўгары над вёскай самалёты, не згледзець: за лесам у бок Жоўтага Берага падняўся буры слуп і, паволі асядаючы, пачаў

распаўзацца вялікім круглым грыбам. Падпалены чырвоным сонцам, ён вісеў на небе, як мухамор — ад яго ішоў па спіне мароз.

Рыкае на ўсё загуменне скаціна, як усё адно баіцца фермы — не ідзе ў кароўнікі і не даецца на прывязь. Змогся Харбін, бегаючы з пугай і крычучы. Ціхая трывога вісне над фермай і над вёскай, і ў цішыні далёка чуваць прарэзлівы рык...

Зноў грукаюць у дзверы з сяней; з гарода ў акно — як усё роўна яго аднялі — падзьмуў мяккі вільготны вецер. Гэта з логу, ад ракі, дзе яны сёння грабілі сена... Загрымеў гром — вун як добра чуваць у аднятае акно — і закрычала на ўсю хату Таня.

Пасля да яе загаварыў з гарода Мікалай. Таня і Мікалай?..

Акно раптам заружавелася, пасеклася ў сінія палосы і пайшло жоўтымі пісягамі — радуга... Выгнуўшыся над гародам дугой, яна дастала канцом праз акно ў хаце — сцебанула агнём па вачах.

На твар пасыпаліся чорныя бліскучыя мурашкі — кроплі дажджу.

Яна здагадалася, што на яе пырскае вадой з кружкі Таня, пачула нават, як бразгае вядро. Ціснула ў грудзях, гарэла, як агнём, і балела, здаецца, разваліцца надвае, галава.

Адплюшчыўшы вочы, яна доўга шукала Таню і не знайшла. Па гэты бок стала на ўслоне сядзеў Харбін і гладзіў адтапыраным пальцам рудыя вусы:

— Хе-хе суседка. Напужала ўсіх. Ці чэрці...

— Дзе Таня? — яна спыталася ціха і папярхнулася — у роце было суха, і зрабіўся шорсткі язык.

— Пабегла званіць. Дактароў зваць...

Яна намацала падлогу, упёрлася далонямі і, падцягнуўшыся ўперад, падняла галаву і прыпёрла да перагародкі, пасля прыткнула плечы — села.

— Не падымайся. Мая Прузына...

Яна не паслухала: не магла сабе дараваць слабасці — дажыла, бахнула і ляжыць перад чужым чалавекам. Дацягнуўшыся левай рукой да сіняй ножкі, яна ўчапілася за ложак, як за збавенне, і, падкорчыўшы ногі, пачала падымацца; дрыжалі ад вяласці рукі, аж стукаў жалезнымі ножкамі аб падлогу ложак.

— Што ты робіш, суседка? — стары Харбін заёрзаў на

ўслоне.— Мала табе аднаго? Паднялася — дык пасядзі, пакуль суд ды справа... Наро-о-біш бяды...

Яна не паслухала: шукала, за што ўчапіцца другой рукой.

— Давай тады я памагу. Што т-ты робіш?

Ён устаў з услона, падышоў да яе і, сагнуўшыся, узяў пад паху. Яна адразу ўстала. Глядзела яму ў вочы, хочучы ўсміхнуцца, і чула, як пад нагамі ўгінаецца падлога, што старыя кладкі ў Цянях на балоце.

Харбін давёў яе да ложка. Яна села, падцягнулася ўгару і прыпёрлася плячыма да перагародкі.

— Цяпер ужо каб паляцела з капытоў, дык бы і цябе разам з сабой на падлогу пацягнула...— Яна, седзячы, дыхала з сябе і старалася ўсміхнуцца.

— Не-е, суседка. Калі я дзяржу пад паху, не паляціш. Я ў Харбіне, калі быў у салдатах, не такіх паненак... І не так падымаў. І кітаек і японак... Возьмеш на рукі — і панёс. Лёгенькія, выгінаюцца... Не баяліся яны рускіх салдат. Аж цяпер успамінаю... Ёсць што, ці чэрці... Хе-хе, суседка...

— Ты і пад старасць сваіх штук не кідаеш. Туды ўжо, як і я, глядзіш, а...

— Ці чэрці... Я, суседка, туды яшчэ не гляджу. Я дужы. У мяне і дзеўка ў кожнай вёсцы была, і жонкі аж дзве, ты ж ведаеш, суседка, хе-хе... Каб яно згарэла... Даўно манюся сказаць: аддавай дачку замуж і бяры мяне ў прымы... Перайду па-суседску... Усё адно да цябе сваты ходзяць. І сягоння, во, быў, за сталом сядзеў, каб на яго. З залатымі зубамі... Толькі нешта я не відзіў ні чаркі ні скваркі...— Харбін стаяў ля ложка, нагінаючыся блізка да яе і гледзячы хітрымі вачыма.— Цябе, суседка, усягды цяжка было раскусіць...

Яна глядзела з ложка на гарод у праёміну ад акна, што ў глыбокую студню, і бачыла цяпер старога Харбіна, як далёка на дне ў вадзе: маленькага, дробненькага; калышацца, расплываецца і гаворыць, як са студні, моцна, нібы малатком б'е па галаве.

— Акно б прыставіць... Яма ў сцяне. Бензінам з вуліцы цягне і пылам...— сказала яна Харбіну і закашлялася. Солана зрабілася на языку. Повен рот мокрай солі... Калі яна павяла языком па вуснах — з рота хлынула ёй на руку і на белую нажутку кроў.— Падай вядро. З-пад лаўкі...— сказала яна ціха і спакойна, зусім не спужаўшыся.

Харбін закруціўся па хаце: згледзеў кроў і не ведаў, што рабіць.— Вядро пад лаўкай у парозе. З-пад памыяў...

Харбін падбег, шлэпаючы па хаце, у парог, узяў вядро і падаў ёй на ложак. Вада на дне ў вядры ад крыві адразу зрабілася чырвонай. Стары Харбін, відаць, такога не бачыў за сваё доўгае жыццё ні ў Кітаі, ні дома, спужаўся, адышоўся аж у парог, стаяў і глядзеў на яе здалёку, апусціўшы рукі.

— Падай, сусед, надзежнік з лаўкі...— сказала яна, пачуўшы, што перастала ісці кроў і што палягчэла галаве: не ломіць, не развальваецца на кавалкі.— Вот і дасваталіся мы з табой. Сам відзіш да чаго...

— Ды не, суседка... Хе-хе...— павесялеў Харбін.— Я дужы, і цябе на ногі ско-о-ра пастаўлю...

Яны ўсміхнуліся адно аднаму: яна з ложка, апёршыся локцямі на вядро, ён ад стала — нёс ёй надзежнік, расцягнуўшы ў руках:

— Гэтулькі ўсяго вывезлі на сваіх плячах за жызню, выцягнем, суседка, і хваробы. Некалі ў лялькі малыя гулялі і ў пікара. Думаеш, лёгка і тады было? Насы адзін аднаму квасілі, вочы выдзіралі... На танцы пайшлі — загрудкі адзін аднаго бралі. А пажаніліся, павыходзілі замуж — дзеці пасыпаліся. Адзень, абуй, накармі, дзьмі яму, калі хвост адкіне, у тое месца, куды клізму ставяць... А ў дамаўё колькі мы іх паклалі — ты двое і я чацвёра. Ты аднаго Мікалая пахавала, а я дзвюх сваіх жонак. Што, нам лёгка было, калі з гэтага боку паглядзець? А жывём... А вайна...— ён падняў руку і пачаў ёй махаць.— Японская — раз, нямецкая — два, з палякамі — тры, фінская — чатыры, апошняя нямецкая — пяць... На першых — я сам, на апошняй — сыны. З чатырох двое не вярнуліся. Мы ўжо і забыліся, што ў нас хаты ў вайну ў першых у вёсцы дымам пайшлі. Ад лесу першыя стаялі, немцы і спяклі. А пасля вайны... Колькі мы кароў на ферме на вяроўках вясной нанадымалі з табой, суседка... А ў сорак шостым і сорак сёмым — што мы елі летам?..— Ён зноў пачаў махаць рукой у яе ля самага носа.— Лебяду, ліпу, рудзік, ванжэўнік, мацярдуху, канюшыну і чырвоную і белую... Э-э-э... Суседка... І не відзіў я, каб ты сядзела вот так, скрывіўшыся... Што ногі ў цябе былі папухшы, відзіў, і Мікалай твой чуць хліпаў, а каб ты калі скрывілася, што табе цяжка — не-е... Дачку нават тады яшчэ знайшла... У тыя гады... Паглядзі, якая дачка... А то сядзіць, скрывіўшыся... Ды табе яшчэ дажыць да маіх гадоў трэба. А да-

жывеш — яшчэ больш жыць захочацца. Я таксама, бывала, думаў перш, у твае гады. Ат, аджыў сваё. А цяпер — не-е... Я ўжо нават не лічу, колькі мне. Да васьмідзесяці лічыў, а цяпе-ер... А нашто мне іх лічыць, гады тыя? Я — жыву! І памяць у мяне яшчэ служыць... Сяду, вочы рукамі закрыю, і калі ніхто не гудзіць над вухам: ні машыны, ні мухі, і радзіва на сцяне галавы не дурыць, дык, пакалыхаўшыся на ложку ціхенька, успомню і колькі гадоў мне — пералічу іх па парадку ўсе, адзін за адным — і што рабіў у які год, успомню. А яна — скрывілася. Дажывеш да маіх гадоў, зноў маладой зробішся. Гэта ты на паўдарозе прыстала. Пасядзіш, аддыхнеш, як дзе ў чужой вёсцы на лавачцы, і нічога — далей пойдзеш. Ногі, яно, чалавека дзержаць доўга. Яны ў чалавека крэпкія. Я цяпер бегаю, як чорт. І на вечарынцы бы яшчэ выдаў, дык іх, вечарынак гэтых, цяпер не робяць у вёсцы, а так бы... А яна... Сядзіць, падпёрлася.

Ён стаяў каля самага ложка, глядзеў на яе падслепаватымі старымі сінімі выцвілымі вачыма і ўсміхаўся; яна і сама ўсміхнулася яму зноў — палягчэла, што ўсё роўна стары «рожу» замовіў — і сказала, закашляўшыся:

— Вазьмі вядро...

Ён узяў вядро і круціўся па хаце, не ведаў, куды паставіць.

— Пад лаўку. Толькі далей ад дзвярэй, каб ніхто не відзіў...

Ён лёгка сагнуўся і паставіў вядро пад лаўку procі судніка, пасля пасунуў яго далей і загаварыў:

— А я яго, залатога, твайго госця, пазнаў. Не адразу, я пазнаў. Паглядзеў, паслухаў, як ён гаворыць, пасядзеў, пакалыхаўся дома на ложку, закрыўшы рукамі вочы... Галава забалела — а ўспомніў... Успомніў, суседка. Стаў перабіраць у памяці першыя дні вайны... Пазней я яго не мог відзіць: ці да вайны, ці ў вайну, у пачатку. Стаў перабіраць у памяці дзень за днём лета сорак першага года... Помніш, я тады ў поле ганяў ужо не калгасную, а вясковую скаціну. Калгасную тады ўжо раздзялілі. Успомніў нават, калі і куды тады ў поле ганяў: у Ліпнікі і на Жоўты Бераг. Усё лета. І ўспомніў, як мяне шампаламі паліцаі секлі...— ён крутнуўся ад лаўкі і са злосцю ступіў да стала. З твару ў яго пацёк пот, руччом, капаючы аж на падлогу, але ён не выціраў яго — стаяў і ківаў галавою. І рукі ў яго трасліся.— Не, ён, твой госць, тады не сек. Кукаеў сек, але і ён быў тады з імі на машыне. Голас яго

помню. Па голасе яго і пазнаў. І ты, суседка, помніш, як мяне секлі. І пасля да мяне прыбягала, калі я ляжаў, кроўю аплыўшы. Помніш той дзень, калі яны забралі на машыне з Жоўтага Берага лётчыкаў, а мяне секлі?.. Усё цела, дзе толькі рукой цяпер ззаду дастану, у рубцах. І галовы ўжо нашы, суседка, пабялелі, і рубцы на ранах белыя, як папера... А ён, твой госць, суседка, доўга не пажыве. Папомніш маё слова. Відзіла які? А ў мяне, суседка, рубцы свярбяць. Скора ўжо трыццаць гадоў будзе, а рубцы свярбяць. Перш дык не свярбелі, а цяпер, бывае, як засвярбяць, дык рукамі не дам рады. Станаўлюся плячыма да вушака і пачынаю церабіцца, як конь аб сцяну. А гэтулькі гадоў прайшло.

Ён гаварыў і гаварыў, гледзячы на яе сваімі светлымі вачыма; ад яго ядранага голасу пачынала звінець у галаве.

Задугалі раптам за сцяной на двары; у хаце па сталі пабег цёмны цень. Яна сядзела на ложку плячыма да перагародкі якраз процi дзвярэй і згледзела, як падскочыла клямка і ўзбегла на парог Таня. Расхрыстаная, шчокі і лоб чырвоныя, каса расплятаецца спераду на грудзях. І — адразу ў слёзы; галава нагнулася, плечы дрыжаць; глядзіць то на падлогу ля стала, то на ложак.

— Ну што, дачка? Напужала я вас усіх...— яна гаварыла, голас у яе дрыжаў ад кашлю, і ніяк не магла схаваць вялікі, вільготны ад поту і крыві скручаны надзежнік пад падушку, каб не згледзела Таня — падсоўвае, а ён лезе назад.

Пачуўшы яе голас, Таня падскочыла да ложка, бразнулася аб падлогу каленямі, ухапіла ў дзве рукі яе за нагу, прыпала гарачай шчакой і загаласіла на ўсю хату. Стары Харбін адышоўся і стаў у самым парозе.

— Ты што, дачка? Перастань. Работу кінула, прыбегла...— яна пачула, што і ў яе цякуць па шчоках слёзы.— Перастань. Не люблю. Людзі чужыя ў хаце...

Таня ніяк не магла суцішыцца: пахліпае, пахліпае, тады зноў галосіць на ўсю хату.

— Перастань, дачка. Што ты па мне плачаш, як усё роўна па нябожчыку. Я ж жывая... Пакуль ты там па вуліцы бегала ўзад-уперад, я тут замуж сабралася. Выходжу во. Сусед бярэ. Хадзіў колькі гадоў, маўчаў, а цяпер узяў ды пасватаўся, падымаючы з таго свету...

Таня, пачуўшы, што ёй гавораць нешта не тое, як усё роўна смяюцца з яе, сціхла, паднялася памалу на ногі і стала выціраць рукавом вочы.

— Тэлефон сапсаваўся... Шафёры накажуць у бальніцу...

Стары Харбін лавіў усё на ляту:

— Ціліфо-он... Мне раз трэба было. Пазваніць да дачкі ад першай жонкі, каб прыехала. Стукаў капытамі праз усю вёску да брыгадзіра. Прыцягнуўся, а ціліфон маўчыць. Пярун у лінію стукнуў. Яно ўсягды так, калі трэба: пярун. А то п'яныя трактарысты слупы павыварочваюць... А каму гэта ціліфон у нас у вёсцы памог ад смерці? Мы, во, век зжылі. Так ужо, бывала, сцісне... Садзіцца хто на калёсы і едзе ў Белае, прывозіць доктара. І прывязе, і адвязе, і нічога з табой не зробіцца. А калі і не прывязе? Паляжыш — і пройдзе. А то скарэй званіць бяжым. За маёй памяццю — дык было, што ўся вёска без дактароў абыходзілася, нават ніхто гэтага не знаў. А цяпер хай каго блыха ўкусіць — да доктара...

Стары хітрыў: сам сказаў бегчы, а цяпер далікатна гаварыў зусім другое. Алімпіяда гэтага не ведала.

— Знаеш што, дачка,— сказала яна,— чымся плакаць, дык пастаў мне лепш банькі. Дыхаць не дае, і шыі не павярнуць... Найдзі старыя, вялікія, і новыя. І ўсе разам. І зверху на плечы і на бакі. Параўняй падушкі, я лягу галавой сюды, да акна. І акно прыстаў схадзі, глядзець не магу ў яму, галава круціцца...

— Хе-хе, суседка... Калі не баішся, што шыбы пахвашчу, то я схаджу...— Харбін павярнуўся і пайшоў у сенцы, ціха зачыніўшы за сабой дзверы.

— Не мітусіся, дачка, і не плач. Я яшчэ не памру. І як гэта ты дачулася, што прыбегла? Наказалі? Гэта ж трэба... Галава круціцца, дык я пабаялася нагнуцца, каб узяцца за клямку. За кручок учапілася і — на прабой. Хату не хацела адчыненай дзяржаць, ад мух чорна. Ніводнага лета такога не помню. Усё там на месцы, у шафцы ў рэшаце: і банькі, і спірт у бутэлечцы, і вазілін. Старыя толькі банькі, мусіць, у сенцах у шафарні. Злазь пад века рукой, ашчупаеш...

Яна ўсягды прасіла дачку, каб тая ставіла банькі. Доўга вучыла спачатку — у дачкі, гаварыла тады, дубовыя рукі: і баньку не так дзержыць, і агонь — пруток з ватай садзіць глыбака ўсярэдзіну, тушыць, а пакуль памочыць нанава ў спірт і падпаліць... Доўга вучыла на сваіх плячах, але навучыла. Таня ўжо ўмела ставіць хлёстка, як Праскурніч'я ў Белым у бальніцы.

Банькі ў іх хаце, Алімпіяда помніць, паявіліся даўно, яшчэ да вайны. Вялікія, па добрай чарцы, яны служылі ў вайну ўсёй вёсцы. Біліся аб падлогу, на ўсе шырокія плечы іх і не хапала, але абыходзіліся — дзе ты дакупіш. Бывала, калі ўжо сціскала ў плячах, што не дыхнуць, дык ставілі спачатку ўсе на адзін бок, зняўшы, ляпілі на другі. Пасля вайны вялікіх банек было толькі шэсць штук. Купілі тады новыя, маленькія, жоўценькія, аж трыццаць, на любыя мужчынскія плечы хопіць. Купляла сама ў Плешчаніцах у аптэцы.

Банькі ляжалі ў маленькім рэшаце-падсітку, якое яна прынясла пасля вайны з Даўгінава з базару. Падсявалі ў ім муку на зацірку, пасля склалі раз банькі на скорую руку — у што іх надта палажыш — і забыліся на падсітак. Калі трэба было перасеяць муку пасля жорнаў, бралі вялікае рэшата; банькі так і ляжалі ў падсітку — поўная абячэйка, як яек з-пад курэй. Разам з імі ляжаў жмут ваты, замурзаны карабок з сярнічкамі — некалі пакінулі яго, забыліся, як і на падсітак; ляжаў чорны пруток з дроту, крываваты, з дзюбкай на канцы, каб не сарвалася з агнём вата з-пад банькі і не звалілася на голую спіну; ляжала зялёная баначка з вазелінам на дне пад банькамі,— канчаўся вазелін — куплялі другую, не было — мазалі перад банькамі плечы несалёным маслам, і стаяла маленькая бутэлечка са спіртам. За вайну наставіліся гэтых банек: і Мікалаю, і сабе, і Харбіну, і ўсім упадрад — і на рускагоркай, і на шкіпінары, і на самагонцы. Бывала, што і гэтага не было. Тады ўжо стараліся разжыцца ў партызан хоць чорта лысага...

Рэшата з банькамі стаяла перш у сенцах у шафарні, пасля, калі купілі шафку, пераняслі яго і паставілі на самую ніжнюю палічку, дзе стаяла ўсё, за што рэдка чапляліся рукі.

Пакуль Таня дастала рэшата; паставіўшы на стол, пабегла ў сенцы, каб узяць старыя банькі з шафарні; пакуль папраўляла на ложку падушкі і памагала ёй, Алімпіядзе, павярнуцца і легчы ніц, стары Харбін прыставіў ад гарода акно. Бразнулі неакітаваныя шыбы, і адразу ў хаце зрабілася ціха — не чуваць было, як крычалі ля маста на лагу гусі і як ракатаў недзе на Кур'янаўскіх Садах трактар. Занылі на акне патрывожаныя мухі; запахла вазелінам і дымам ад гарэлай ваты; лежачы ніц, Алімпіяда ўтапілася з галавой у мяккую падушку і глядзела цяпер адным вокам на хату.

Убачыла, як зноў ступіў з сенцаў і стаў у парозе Харбін: дамоў не пайшоў.

— Хай пабудуць адчынены дзверы, дачка. Задыхаюся...

Банькі здаліся халодныя, і вату з вазелінам як усё роўна памачылі ў халоднай вадзе, аж схапілі дрыжыкі.

— Стаў, дачка, вялікія на плечы. Шыю не чапай, а на плечы. Малымі пасля бакі аблепіш. Малыя — гэта не банькі, як луска...

Гас і гас агонь на прутку, і Тані трэба было, запаліўшы вату, раз за разам кідаць карабок з сярнічкамі ў рэшата, хапаць у левую руку дзве банькі, падносіць іх да спіны, хаваць пруток з агнём у баньку і скоранька ляпіць яе на мокрыя ад поту і вазеліну плечы, тады круціць у пальцах другую, каб лучыць у яе агнём, пакуль ён не пагас.

— Куды ты спяшыш, дачка. Аж рукі ў цябе дрыжаць...

— Дай я табе буду сярнічкі паліць...— стары Харбін зноў падышоў да ложка і ўзяў з падсітка карабок, пашастаў ім, як усё роўна збіраючыся закурыць. Памачы, дзяўчына, пруток, вата тлее. Я помню, як мая Прузына мне ставіла банькі, калі я сюды ў прымы прыйшоў з Бладык. Ці, можа, не Прузына, а аж тая першая з Мільчы? Не, мусіць, усё-такі Прузына, тут, у Крамянцы. Пазычыла яна іх у некага, можа, і ў вас, да вайны яшчэ было. Дык што яна робіць? І вату як трэба ў спірт памочыць і запаліць. Тады грэе на агні абадок у баньцы. Нагрэе — і мне на плечы. Чую, аж скура сквярэцца, як сала на патэльні... Раву на ўсю хату немым голасам... А яна мне ўсё ставіць — адну папробуе, другую, а яны не бяруцца, сквірчаць, і паленым ад іх пахне. Спякла б яна мяне тады ўсяго, каб я з ложка не сарваўся...

Алімпіяда, забыўшыся на ўсё, пачала смяяцца — узяў дурны смех. Затраслася падушка, забразгалі адна аб адну на спіне банькі.

— Вы тут, удваіх узяўшыся, мне так не пастаўце...— сказала яна пад сябе ў падушку.

Засмяяўся і Харбін; пакратаў плячыма, нібы яму сягоння ставілі тыя банькі; маўчала толькі Таня, круцячыся ля ложка: зноў патух агонь.

Зашастаў карабком Харбін; загудзела на вуліцы ля варот машына. Чуваць было, як бразнулі дзверцы і па двары ішоў нехта чужы. Павярнуўшы галаву на падушцы, яна глядзела адным вокам на дзверы і згледзела на парозе Ратнікава: сівыя ад пылу паўбацінкі, пакамячаныя штаны, расшпіленая на грудзях рубашка ў чырвоную клетку,

на галаве задзёртая ўверх брылем бліскучая кепка. Зачырванеўся ўвесь — не чакаў такое ўбачыць — і адступіў у сенцы:

— Коласа ў бальніцы няма... У Мінску. Пугач прыедзе на матацыкле. Сказаў: нічога страшнага...

— Во-во... Дажджэшся іх...— стары Харбін зашастаў сярнічкамі і пайшоў у парог.— Слухай, можа, у цябе дым пусціць знойдзецца? Адшкадуй...

— Чо-орт стары... Што ж ты, каб закурыць, каля баб аціраешся? Шуфель у рукі, і на казэс... Ячмень лапаціць... Так і знаеш, каб што з магазіна...

— Ну дык, суседка, ты тут ужо адна... А калі што — кліч, падбягу. Пасмяяўся з табой, дык і галава адпусціла. А пра твайго залатога госця...

— Аддай бабам сярнічкі, чорт стары. Што ты знёс. На вуліцы закурыш, старая кашалда, не тапчыся. Не хапала, каб ты тут яшчэ дыму напусціў...

Ратнікаў зачыніў за Харбінам дзверы, ціхенька, нават клямкай не бразнуў. Доўга яшчэ гаварылі на дварэ, тады бразнулі дзверцы і загудзела машына. Пасля ўсюды зрабілася ціха: і на вуліцы і ў хаце. Таня паставіла пусты падсітак на стол, села на ўслон і паклала на калені рукі.

— Пусці ходзікі, дачка. Зноў стаяць, у галаве звініць ад ціхаты. Колькі ж гэта часу? Сонца ўжо спаўдня, пад суднік глянула. Накрый мяне яшчэ чым. Пасцілку прынясі з таго ложка і ўскінь, калаціць нешта пачынае. І перакусі, ты ж галодная. Не круці галавой. Юрачка ў хлеве пішчыць. Ляжу і чую. Сама можаш не есці, а Юрачку накармі. І на ферму вечарам за мяне сходзіш. Што? На казэс гоняць? Э-ха-ха... Банькі балю-ю-ючыя... Сачы, каб не перастоялі... Чую, што ўжо сплю. Што там на вуліцы?

— Вецер усхадзіўся. Гоніць пыл, не выйсці...

— Пусці ходзікі, дачка. Хай ідуць...

## 7

— Глядзі ты! Дождж ішоў... Дарогу пасцябаў, раса на траве блішчыць. Ну-у... Жылі і жыць будзем. А людзі гора цяпнуць...— Карань нагнуўся на сядзенні ўперад і, выцягнуўшы шыю, глядзеў на пярэдняе мокрае кола ў матацыкле.— У гразі... Даўно мы гразь не таптлі... З вясны. Глядзі!.. Пара падымаецца з дарогі. Так пячэ з самай раніцы... А дождж паласой ішоў, мінуўшы наша Белае. На

ганку ў мяне суха. І на двары ля бальніцы суха. І на вуліцы ў вёсцы...— Корань прытармазіў, выехаў ля аўтобуснага прыпынку на шашу і падкруціў газ. «Ява» занылa, набіраючы разгон, насустрач пабег цёмна-шэры брук і бліскучы альшэўнік за канавамі ля дарогі. Сонца вісела ззаду — пякло ў плечы,— і на шашы добра было відаць абмытае каменне — з яго падымалася пара, як з лазні з печы. Уперадзе над самай шашой, дзе яна забірала крута ўгару, на сінім чыстым небе расцягнуліся густыя белыя палосы, як усё роўна перагараджвалі дарогу.

— Даўно хмар не было на небе...— Корань дзяржаў руль у адной руцэ, другой, усімі пальцамі, залез пад раменьчык ад чырвонага шлёма і церабіў падбародак.— Выдумалі нечысць. Галава як у гаршку... Але не здыму. Цяпнуў я ўжо без яго гора. Павёз учора сваю Два метры фанеры,— Корань зваў так жонку і ў вочы і за́чы: была яна тонкая, сухая і вышэй яго на цэлую галаву,— у маліны за Краснаволле. Ажно стаіць на павароце ля маста з палачкай... Ля бетоннай трубы. Тыц палачкай набок... Тармажу. Нехта новы, я яго не відзіў ніколі. Правы! А якія ў мяне правы? Правы — у Коласа. А Колас у Мінску. Нарушаю. Без правоў, сам без шлёма, і баба ў калясцы без шлёма. У тры разы нарушаю. Пракол гаранціраваны. Стаў прасіць — куды там... Мне-то ён што зробіць? Матацыкл жа не забярэш — свой у яго стаіць ля трубы. Запісаў нумарок. А нумарок-то Коласаў... Як вернецца — тут-то я ўжо дыму цяпну. І ты, Антонавіч, не здымай гэтага кацялка. Яны часта выязджаюць на дарогу, калгасных п'яніц за рулём ловяць. Стаіць хоць дзе, схаваўшыся, а тады — тыц з-за куста, як воўк, і — дзірачку ў талоне... Не крануўся б я на гэтай ламачыне нікуды, каб не ты, Антонавіч...— пагладзіў ён даланёй па шлёме Пугача, які сядзеў у калясцы з вялікім старым чорным абцёртым скураным партфелем на каленях.— Просіце вы ўсе, а хто заступацца будзе?

— Казларогі чартуляп... Пра гэта нельга думаць: за дваццаць чатыры гадзіны мазгі згараць... Ён не паехаў бы... Як жонку вязці — паехаў, а да хворай падкінуць — дык паломка. Быў бы Колас — ніхто б цябе не прасіў. Але яго няма. А ў нас і машына з кузавам, і матацыкл з каляскай, а ўчора не было на чым ехаць. Я ж пакуль дайду ў Крамянец і вярнуся ў Белае... Бальніца ж на мне, судзьбіна казларогая...

Стары фельчар Пугач павярнуў у калясцы галаву, задзёр уверх кароценькую сівую бародку і сівыя, роўнай

шчотачкай вусікі і глядзеў з-пад чырвонага шлёма бліскучымі, слязлівымі ад ветру вачыма на бальнічнага заўхоза Кораня, як барсук з норкі. Старога фельчара Пугача жыццё кідала па Бягомльскім і Плешчаніцкім раёнах, як каляску ад матацыкла на выбоістай дарозе, не даючы наўсягды, ці хоць бы надоўга астацца на адным месцы. Прыстаканіўся, абжыўся, палячыў, і здымайся з седала, едзь зноў у божы свет, як у капейку. То ўчастак пераносяць у другое месца, то ўрача новага прышлюць, а ты не можаш з ім сысціся — усякія людзі ёсць, судзьбіна казларогая,— то яшчэ якая-небудзь лаза на дарозе ці пыл у вочы... Калі лічыць і даваенныя гады, то ён, Пугач, рабіў фельчарам у Мільчы, у Амнішаве, у Востраве, у Задор'і, у Лядах, у Красным, у Камене — усіх бальніц ужо не ўспомніш,— пакуль не асталяваўся ў Белым пасля вайны. Корань тады яшчэ рабіў фінагентам, хадзіў з партфелем па вёсках. Цяпер ужо не ён, фельчар, пераязджаў з месца на месца, а ўрачы: нешта раптам перамянілася ў жыцці. Колькі іх, урачоў, перабыло за гэты час у Белым пры ім, Пугачы: Барысава — павысілі, дзіцячым урачом у раёне; Радзіяда з мужыком-акардэаністам — з'ехала; Логінаў — на санстанцыі ў раёне. За ім пайшлі адны хлопцы з інстытута — Іваноў, Пятроў, Сідараў, ён іх ужо ўсіх пазабываў, цяпер — Колас. Добры ўрач, з раённай бальніцы, з-за Мінска. Развёўся з жонкай, дык і прыехаў, так бы і не глянуў у гэты бок. Ды і ці надоўга, відаць, пакуль агледзіцца. Нешта ў яго было там, і ці толькі з жонкай. Хаця малады, у яго ўсё наперадзе. Пагілюе і супакоіцца, калі толькі на матацыкле галавы не скруціць... Паднялі ўжо раз ля Хатавіч пад Плешчаніцамі з кювета...

Яны выскачылі на гару — белыя палосы, што віселі над дарогай, адразу адбегліся за поле і ляглі над далёкім лесам. Пад імі забялеліся новыя дамы ў Разіне і вытыркнулася ў небе цёмная вострая вежа старой царквы; справа за полем і за бярэзнікам можна было пазнаць у сівой смузе Ячнае — далёкія ліпы над хатамі.

Кончыўся брук, Корань не збаўляў газ, і матацыкл на рытвінах пачаў падскокваць, як мячык на падлозе.

— Казларогі чартуляп...— Пугач не ведаў, за што хапацца: за дужку ў калясцы ці за партфель. Пасля схапіўся ў дзве рукі за партфель і закрычаў: — Шпрыцы ў мяне! Ампулы! Не пахмяліўся пасля ўчарашняга, казларогі чартуляп... Гэта ж табе не ля кладоўкі хадзіць... Руль у руках...

Корань зарагатаў, але збавіў газ, і цяпер яны ціха калыхаліся на дарозе, як дзеці на качэлях.

— Бяру гэту гар, бяру... Чую ўжо, што пераграецца матор,— тыцнуў ён вялікім адтапыраным пальцам у грудзі,— але бяру. Учора вечарам — два «лучы»... Што гэта мне... квас. Хадзіў і яшчэ ў магазін, але мая Два метры фанеры банк аграбіла. Нічога больш не разжыўся, лёг спаць. Гэта абрабленне банка ў мяне во ўжо дзе сядзіць...— паляпаў ён сябе ззаду па чырвоным шлёме.— Сама горш бывае раніцай у магазіне, калі галава баліць пасля начы. Ужо і шклянку пададуць і бутэльку адаткнуць. Стаіць пад носам на прылаўку, свет бы яе не відзіў... Лап, лап за кішаню, каб расплаціцца, а там і на сярнічкі не хапае. Аграбленне банка... І ўсё яна, Два метры фанеры. Абчысціць, і не згледзіш. Бяры ўжо банк, чорт бы цябе ўзяў, толькі мне скажы! А то добра помніш, што насіў новенькі траяк у маленькай кішэньцы ў пінжаку і ў магазіне як за сваю галаву спакойны быў. А тут лап-лап, згінь ты, благое, прападзі... Сягоння раніцай толькі на адзін «лучок» наскроб. Яна ў мяне...

— Яна ў цябе, відаць, справядлівая. І цябе, мурлахапенькага, хоча ўберагчы...

— Во-во, справядлівая... «Каб ты павесіўся ад маёй галавы...» — крычыць кожны раз. А чаго вешацца самому? — гавару. І мне і табе самім богам вяроўка звіта. Прыйдзе час — ён і засмаргне. Мне сягоння, табе — заўтра. Лепш было б, каб наадварот.

— Не ладзіцца яно ў вас, казларогіх, як я пагляджу...

— У вёсцы не схаваеш, усе знаюць... Глядзі, а тут дажджом і не пахла. Попел пад калёсамі. Ля маста па шашы ўмудрыўся пасцябаць ноччу, гэта ж трэба, а тут і не капнуў. І поле ўсё шапаціць, згарэла... Гм... У вёсцы не ў горадзе, не схаваеш. Уся вёска ведае, што я не туды лучыў. Не ў тое яблычка. А столькі іх, баб гэтых, на свеце і было і ёсць. А вот не лучыў. Ты ж ведаеш — рабіў я пасля вайны фінагентам. Аж да смерці Сталіна. Было іх пасля вайны, і дзяўчат і ўдоў, па ўсяму сельсавету, дзе я хадзіў, было... Ну, са свету я і не думаў бабу браць. Самы вялікі для мяне свет, дзе я мог раскруціцца, быў у Плешчаніцах. У Плешчаніцах і канчаўся. Тады, відаць, я і даў маху. Сваталі мяне ў Плешчаніцах да Фядоткі. На пошце рабіла. Смуглая, поўная, чорная, каса-а... Тады я толькі што з арміі вярнуўся. Стукнула мяне ў Васточнай

Прусіі ў плячо, і вайна мая на тым... Партфель гады два насіў у адной руцэ, думаў, што другая зусім адсохне. Во гэтая...— падняў ён левую руку ўгару і пакратаў пальцамі.— Цяпер мне скора пяцьдзесят стукне. Не за гарамі... А тады, пасля вайны, калі толькі пераваліла за дваццаць... Хто гэта думаў жаніцца... Самагонка, бабы. У кожнай вёсцы. Я — жыў. Гэта людзі тады гора цяпнулі, а я — жыў. Вот тады, відаць, я і прагледзеў сваё на белым свеце. Я і цяпер часта віджу тую Фядотку. Стукнемся ў Плешчаніцах на тратуары дзе ля магазіна лоб у лоб, пастаю, павярнуўшыся, пагляджу ўслед. Яна і цяпер яшчэ... Раздабрэла толькі — на ўвесь тратуар. І ўсё яшчэ на сваёй пошце робіць... Але ці пайшла б яна тады пасля вайны за такога шмэндрыка, як я? З сухой рукой? Ваеннага ці інцілігента шукала. Доўга замуж не выходзіла, перабірала. Бо сама была, як трэба, дык і перабірала...

Ехалі памалу, зыбаючыся на калдобінах, аж на перад пачало заносіць пыл. Не згледзелі, як у лагчыне павярнулі ўправа і заківаліся між жоўтага лубіну па разбітай дарозе са старасвецкімі адзінокімі бярозамі па баках, пачарнелымі ад часу, гарачыні і пылу. Уперадзе зноў паказалася Ячнае — пабольшалі ліпы над хатамі і забялелася ў некага ад сонца страха.

Корань, відаць, і ехаў памаленьку, каб расказаць пра тое, што набалела. Можа, толькі з ім адным ва ўсёй бальніцы і гаварыў пра сваё Корань. Не таму, што выпрасіць, бывае, спірту, а таму, што ён, Пугач, слухаў яго. Слухаў усё, што ён расказваў, і ніколі ні за што не лаяў. Бывае ж так: чалавека толькі слухаеш, нічога яму добрага не робіш, і ён ужо табе верыць і цэніць. А верыць, то і душу хоча адкрыць. А яна, душа, у кожнага ёсць — п'е ён ці толькі курыць. Корань быў цягавіты. Адразу, калі яго ўзялі ў бальніцу заўхозам — тады быў пры бальніцы толькі конь з калясьмі — Корань і начаваў пры ім. І па дровы, і па прадукты, і па лякарства і летам пад дажджом і зімой у маразы. Сцюцюрыцца ў перадку і вязе яго, Пугача, у Крамянец, у Ячнае, у Краснаволле. Цяпер, калі пры бальніцы ёсць задрыпаная машына — больш стаіць, чымся ў рэйсы ходзіць,— Корань і тут куды хочаш з шафёрам — па тыя ж дровы і па тыя ж прадукты... Бываюць жа і цяпер такія людзі — самі цягнуць сваю работу, без напамінку. Як добры конь — упрогся ў калёсы і ўсю дарогу без аддухі туды і назад. І лейцамі не трэба тузаць. Другому — дык толькі і совай пугаўём пад хвост.

— Дзяцей бы вам. Дзяцей у вас няма, казларогі ты чартуляп... Былі б дзеці — то і твая мурлахапенькая падругому б мурлыкала...

— Дзеці — дзяцьмі, Антонавіч. Быў бы чалавек добры, то яно... Знайсці б мне добрага чалавека, кінуў бы і сваю Фанеру і піць бы кінуў. Аднаму табе скажу і аднаму табе слова даў бы. Усё-такі не так я рабіў у жыцці. Я ж баб перабіраў... А каб я выбіраў чалавека, а не бабу, то выбраў бы. А так што — гарэлка, яешня і легчы скарэй пад пасцілку. Малады быў дурны, а пасля ўжо і вочы ў мяне сінюхай заплылі. І лужа пада мной... Дзе мне было выбіраць. Яна мяне і выбрала, мая Два метры фанеры. Рабіла яна і тады ўжо бухгалтарам у лясніцтве. Я ўжо ў вас быў, хлеб з магазіна на калёсах вазіў. Тады, калі я з партфелем хадзіў па вёсках, мы не нюхаліся, я на яе, на такую, і не глядзеў. А тут я стаў хвост каню круціць, яна мяне і акруціла. Падабрала п'янага ў лужы і пад пасцілку. Праўда, абмыла, прычасала, культурненька так. Яна ў мяне чысцёха. А што? У калгас на ферму не ходзіць, сваю ферму я цягну. Чысценькая, духі, партфелі. На стол усё з магазіна нясе, не з варыўні. За засланку ў печы двума пальчыкамі бярэцца. А-ат, сухая. І цела і душа — усё сухое. А дзеці, Антонавіч... Не было іх у нас і не будзе. І ў вайну і пасля вайны ў нас у вёсках бабы... гэта сама... верацяном... Зрабілі і ёй. На ўсю жызню свет завязалі. Не было іх, дзяцей, у яе і не будзе. Пустацвет...

Ехалі абочынай па траве, мінаючы ўсохлыя глыбокія калдобіны і хаваючыся пад навіслым над самай дарогай бярозавым галлём з дробным, шорсткім ад сухаты лісцем.

— Едзем пад вецер, і я, Антонавіч, працверазеў. Магу трохі і праўду сказаць, не трапацца... І ты, можа, верыш, што тады, пасля вайны, калі я быў фінагентам, дык ужо да кожнай удавы і клаўся ў ложак? Быць — было. А каб так ужо, як гавораць... Брэшуць і брахалі больш, чымся было. Дым пускалі, а агню таго... Што зробіш. У кожную хату заходзіў, нядоімку даіў. Ну, заадно, бывае, і злоснага неплацельшчыка за цыцку... Але я ўсё рабіў, як чалавек. Свіннёй не быў. А тое, што і цяпер яшчэ пра мяне не сціхлі, пачуеш, калі захочаш, дык гэта больш байкі. І я іх баяў сам. Кожнаму сустрэчнаму-папярэчнаму. Гавораць цяпер, што і сваіх дзяцей, з жонкай жывучы, не нажыў, бо параскідаўся па свеце. А дзе яны, мае дзеці, на свеце? Раджалі пасля вайны і ўдовы. А пры чым тут я? І дзеці ўжо ў тых удоў параслі, на лес гледзячы. А пры чым тут я?

Што, я адзін на ўвесь сельсавет быў пасля вайны? Што, другіх мужчын не было?

Ехалі зусім ціха. Корань апусціў галаву, глядзеў не на дарогу, а недзе пад сябе. Пугач пастукаў пальцамі, як птушка дзюбкай, па сваім гадзінніку на руцэ.

— Казларогі чартуляп... Познімся.

— Не даеш ты, Антонавіч, пагаварыць. Каго мы, скажы, калі, прыехаўшы ці на кані, ці на матацыкле, паднялі адразу на ногі? Ды будзе яна жыва, твая Алімпіяда. Баба крэпкая, я яе знаю...

— Калі што якое — давядзецца мне пасці коз на выгане, судзьбіна казларогая.

— Ат, Колас і сам цяпер не спяшыць. Перш было, а цяпер і ён...— Кораня нешта мучыла. Ён доўга круціў галавой, тады адным махам адшпіліў чырвоны шлём, зняў з галавы, як скавародку з гаршка, нагнуўся набок і кінуў у каляску Пугачу пад ногі. Выпрастаўся, павёў даланёй па мокрым ад поту твары, запусціў пальцы ў свае коратка падстрыжаныя некалі чырвоныя, цяпер цёмна-бурыя з сівізной валасы, пакруціў сваім вострым, у дробныя маршчыны носам і цяжка ўздыхнуў. Махнуў рукой, як рашыўшыся на што, і падкруціў газ. Застукаў матор, і Корань загаварыў мацней.

— Калі ўжо сазнацца табе, Антонавіч, то і ў мяне, відаць, ёсць сын. Я табе яго некалі пакажу. У Крамянцы, куды мы едзем. Па чым я яго пазнаў? Галава чырвоная, як у мяне ў малога была. Як гэты шлём. І завуць яго цяпер Альховы, як і мяне звалі. Хаця, чорт яго знае... Было ў нас з Волькай... Я тады ўжо і фінагентам не рабіў. На старыя сцежкі цягнула, забягаўся... Вот так вот падумаеш калі, і шкода зробіцца іх дваіх: і Вольку і... Людзі жылі, а яна гора цяпнула. І ў вайну, калі яе начальнік паліцыі з Белага... Ат, ты, можа, і не ведаеш... І цяпер з ім, з малым. Як ты кажаш, Антонавіч: судзьбіна казларогая... Паглядзіш на яго, Альховага, дзе блізка ў магазіне... І ён на цябе глядзіць... Ну, пазнае́ш... Ну, ён... Мой... Так і хочацца яго за чэрці ўзяць, як свайго. А душа — не прызнае. Для душы ён чужы. Вочы пазнаюць, а душа набок, за вугал хаваецца... І пачынаеш тады на яго другімі вачыма глядзець і думаць. А што Волька? Баба яна. І п'е... Шафёры там, усякая блатва і з Мінска і з леспрамгасаўскай аўтакалоны каля хаты ездзіла... У-у... Душа тады скрыпіць... Як сук аб сук на дрэве... Каб яна калі, душа мая праклятая, яго прызнала... Не ведаю. Ат, Антонавіч.

Дзяржы свае ампулы ў дзве рукі. Гэта не «луч», у дарозе не дакупіш.

Корань падкруціў газ — аж рука заскрыпела на рулі. Стукнуўшыся паясніцай аб каляску, Пугач азірнуўся назад — дарогу заслала пылам. Пыл спаўзаў на жоўты лубін крывой рванай паласой. Насустрач пагнала вецер; густа запахла мёдам з поля з жоўтага лубіну; замельцяшылі перад вачыма белыя матылькі, сыпаліся аднекуль, як з рукава. Паказалася Ячнае — доўгая, расцягнутая на вярсту вёска з выгнутай у калене вуліцай і рассыпанымі паабапал яе старымі і новымі хатамі з жэрдкамі-антэнамі над стрэхамі.

За ёй збоку было відаць жоўтае на сонцы поле — асушаная Дроздка; яна цягнулася далёка, як схапіць вокам, зліваючыся з небам за Віліёй пад Каменем, дзе, калі прыгледзецца, пад цяжкімі воблакамі былі знаць белыя будынкі, ядрана выхапленыя сонцам з сіняй смугі. Далёкі нязнаны прастор цягнуў да сябе сваёй бязмежнасцю. Здавалася, што і сам ты ад такога размаху большы і дужэйшы і вочы твае шырэй глядзяць на свет і душа, хоць і старога ўжо чалавека, хоча нечага нязведанага, якое там, далёка за сіняй смугой і белымі воблакамі...

Па жоўтым полі бегалі, відаць было, камбайны, здалёку маленькія, як вожыкі, і Корань пачуў, што і ў яго ў душы кранулася нешта чорнае і калючае... Падумаў, што яму сёння з самай раніцы не хацелася ехаць у Крамянец — везці Пугача — і на дарозе як што цягне назад. Ён знаў, чаго баіцца, лавіў гэта недзе глыбака ў душы, але яшчэ не мог сказаць сам сабе коратка і выразна — Волька.

Ён не хацеў цяпер спатыкацца з ёй. Ішлі гады, пяць, дзесяць, і чым далей, тым больш у яго на дарозе вецер пачынаў круціць пыл, і не сённяшні, а той далёкі, пасляваенны, круты, густа замешаны на бабскіх слязах, горкі, як палын, і для ўдоў і для дзяўчат. І не таму, што дома ў хаце ў яго згіналася і адгіналася і ля стала і ля ложка, сцелючы пасцель, Два метры фанеры, да якой даўно ачарсцвела душа, зрабілася, як скарынка — чалавек прывыкае да ўсяго, а прывыкшы, чарсцвее,— ён ніяк не мог забыць ранейшыя сцежкі, якія таптаў маладзейшы. Сталеў і пачынаў іх успамінаць, як успамінаў свае дзіцячыя гады — калі бегаў яшчэ голы-босы па вясковай гразі на вуліцы. Яны цягнулі яго назад і рабіліся любымі, як і крапіва ля паркана, хоць кусала яму, дзіцяняці, і лыткі і рукі да лакцей. Пасляваенныя сцежкі ўсё больш забіралі ў яго часу

на ўспаміны. Ну хадзілі яны з Волькай па іх, нічога адно аднаму не абяцаючы; не лаяліся, сустракаліся, гаварылі, пілі, у пасцель кладліся. І не пайшоў ён да яе — нічога яна нікому не гаварыла, не расказвала людзям, не пусціла ні яго, ні сябе па языках. Не плакала яна, калі нарадзіўся Валерка, не абівала нідзе парогі; ні яму, ні ў сельсавеце. Цярпела ўсё, як церпяць спрадвеку вясковыя бабы, нарадзіўшы байструка, смяялася разам з усімі і з сябе і са свайго гора. І ён праз гэтулькі гадоў улавіў недзе за нітачку ў сваёй душы, што з усіх баб, каго ён перабраў за той пасляваенны час, калі быў фінагентам, відаць, любіў толькі адну — яе. Не ведаў тады, што любіць, а вот — любіў. Не знаў і цяпер за што; па-свойму, па-мужчынску, па-п'янаму, па-дурному, а любіў, як і ўсе людзі любяць. А больш нікога. Жыццё прайшло — а больш нікога, толькі яе.

Гарачы з самай раніцы вецер сек у вочы машкой і матылькамі; збегшыся ў нітачку, пацёк з ілба ў вочы цёплы пот. Салёны, едкі; і ў роце было солана і суха, і язык смяг, як смягне ад гарачыні ў чыстым полі. Хацелася піць.

У Ячным у вуліцы вісеў пыл і пахла гарам; дарогу ў пыле перабягалі ад плота нейкія дробныя дурныя куры; ззаду пусціўся, выскачыўшы з вулачкі, маленькі чорненькі сабачка на высокіх ценкіх ножках, брэшучы і паказваючы калючыя белыя зубы. У калене, дзе вуліца паварочвала ўправа і, шырокая і прамая, вяла аж у канец вёскі, якраз, дзе звісалі тоўстыя, па пальцу, тры чорныя правады высакавольтнай лініі, падвешаныя на бліскучыя шкляныя рубцаватыя кубачкі, насустрач пайшлі машыны з ячменем — адна, другая, трэцяя. Пацягнула пылам, хоць захлыніся. Чырвоны шлём на галаве ў Пугача пасівеў, як ад мукі.

— Казларогі чартуляп...— кашляў Пугач у калясцы.

Пасярод вёскі, за школай, якая прыляпілася за частаколам далёка ад вуліцы між маладых яблынь, як пакінутая старая шпакоўня ў садзе, Корань прытармазіў, нічога не кажучы, саскочыў з сядзення і пабег у кароценькую вулачку.

— Казларогі чартуляп... Пра гэта нельга думаць: за дваццаць чатыры гадзіны мазгі згараць...— Пугач, убачыўшы здалёку над ганкам шырокую шыльду — чорнае на белым,— успомніў, што тут орсаўскі магазін, выкуліўся з каляскі, як мядзведзь з берлага, і, крычучы, пабег за Ко-

ранем. Убегшы ў магазін, здумеўся і сціх: не лавіць жа Кораня за руку, як злодзея.

Магазін быў пусты; у парозе ля акна збіліся ў кучу вясковыя дзяўчаты ў шарсцяных чырвоных кофтах з набітымі сумкамі ў руках — тырчаць вострымі канцамі жоўтыя падпаленыя батоны, аж есці ад іх хочацца. За прылаўкам апёрлася лакцямі на лічыльнікі магазіншчыца — дробненькая, як у ягняці, мокрая завівачка, чырвоныя надзьмутыя вусенкі, чырвоная кофтачка і расхрыстаны белы як снег халацік з чырвоным аловачкам у кішэньцы.

— Наша вам, а ваша нам, губкі чырвоныя! Маўчыш? Ну, чым тут орс корміць і поіць рабочы клас?

Магазіншчыца нічога не сказала, зірнула на яго з гардлівай усмешкай, з якой глядзяць у магазіне на людзей, каторых ведаюць як аблупленых, і стаяла, аблакціўшыся.

— Якая там у цябе кілбаса? — спытаўся тады ў яе Корань на ўвесь магазін.

— Уцінaя...— чырвоныя губкі паказалі белыя вострыя зубы і адразу схавалі.

— Гм... Каб гусіная. Не буду браць.

— Госпадзі... Хто цябе просіць... Не бяры.

— Тады чатыры «луча» і пару рыбак на закуску...

— А не многа будзе? За рулём...

— Ну, калі многа, то здымі з вагі адну рыбку...

Дзяўчаты ля акна падхіхікнулі. Расплачваўся Корань доўга, лазіў па кішэнях, і Пугач, згорбіўшыся, пераступаў у парозе з нагі на нагу. Абышлося: Корань наскроб сваіх. Прапусціўшы яго наперад, Пугач пайшоў за ім вулачкай, апусціўшы галаву.

— Казларогая судзьбіна. Што толькі людзі сабе думаюць... І чорт, во, цябе не бярэ. Чырвоны, як мак.

— Ты, Антонавіч, не ведаеш, што такое магазін у вёсцы. Закрыюць у панядзелак на выхадны — не знаю, дзе сябе дзець... А гэта — энзэ,— ён, несучы, захінаў бутэлькі за сябе,— пад сядзенне загрузім...

Каляска была гарачая — нагрэлася ад сонца — і запыленая; на дно аднекуль нацерусілася ячменю, жоўтага, буйнага, з асцём, як хто курам пасыпаў — відаць, страсло з машыны, калі размінаўся на калдобінах. Пугач чуць справіўся ўкуліцца ў каляску і схапіць на калені партфель — і на партфелі ў складках былі жоўтыя зярняты, як прыліплі.

Корань рвануў ад магазіна як шалёны; мігнуў толькі перад вачыма нейчы новы, пафарбаваны ў сіняе частакол,

студня ля вуліцы ў канцы вёскі і куст каліны над зрубам з чырвонымі ўжо ягадамі. З Ячнага выскачылі, як вінаваты чорт з таго свету. Пад гару Корань налёг на газ; насустрач пабеглі і тут жа асталіся ззаду старыя могілкі справа ля дарогі з высокімі старасвецкімі бярозамі і зялёнымі елкамі; людзі на аўтобусным прыпынку: жанчыны з дзяцьмі і з вялікімі чырвонымі вёдрамі на зямлі ля ног — чакалі аўтобуса; недаканчаны, без акон і дзвярэй новы кароўнік з белай ад сонца шыфернай страхой. Мігнуліся тры разгатыя маладыя бярозы — выраслі злева ад дарогі на некалішнім пажарышчы, дзе стаяла да вайны школа, і ўперадзе паказаўся адразу ўвесь Крамянец — белыя акяніцы, новыя хаты ў тым канцы вёскі і старасвецкія, здалёку, як хмара, ліпы ўдоўж вуліцы.

Праскочылі бетонны мосцік і з'ехалі на грэблю. Высокая — далі насып; прамая — аж у вёску; з глыбокімі — боязна блізка ехаць — канавамі абапал; з выбітымі каляінамі ад машын, яна была нейкая чыстая ўся, як падмеценая: ні травы, ні чалавечага следу, ні конскага капыта — толькі цягнуцца ля самай канавы па сцежцы, як змеі, крывыя веласіпедныя дарожкі, сякуць адна адну накрыж.

— Кідаеш матацыкл ад канавы да канавы, казларогі чартуляп... Нібыта ён у чым вінаваты...— чырвоны шлём нагінаецца то ў адзін бок, то ў другі, здаецца, ён зусім не ў калясцы ў Пугача на галаве, а недзе там, глыбока на дне ў канаве — бліщчыць, як чырвоны камень у вадзе.

Дыхнуў аднекуль распараны, як у лазні, вецер, секануў па твары калючай жарствой; запахла сырой тванню, як пахла грэбля некалі пасля вайны. Той самы пах, не адмяніўся... І Кораню здалося, што зусім не матацыкл кідаецца ад канавы да канавы, а конь, запрэжаны ў калёсы, і не пад ім, а далёка ўперадзе ў гразі па пахвіны. І калёсы праваліліся ў гразь па самыя ляжэйкі — пахаваліся колы, і на калёсах Волька з лейцамі ў руках. Стаіць на каленях, ажаргаўшы парубень. Белая хустка на галаве на светлых валасах, сінія вочы і чырвоныя шчокі. І такая адзінота ў вачах, што аж душу раздзірае. Ва ўсіх тады ў пасляваенных дзяўчат і ўдоў была яна, няшчасная адзінота...

Ён, Корань, ніяк не можа дагнаць калёс. Скача з сушэйшага месца на сушэйшае, хапаецца за тэлефонны слуп — тэлефонную лінію правялі праз грэблю на леспрамгасаўскі ўчастак за Крамянец, дзе валам валяць лес — выцягвае кірзавыя боты з гразі, набіраючы вады ў халявы, і не можа выцягнуць. І так праз усю грэблю — ад

слупа да слупа. Дацягнецца, ухопіцца, пастаіць і — далей: ідзе ў свой штодзённы абход па вёсках з партфелем. І партфель, чорны, даваенны яшчэ, пад кракадзілаву скуру, працёрты па рагах, заляпаны цяпер граззю па самую ручку. Гразь сохне на ім бурымі пляйстрамі, ён перакідае яго з рукі ў руку, умазаў спераду ваенную гімнасцёрку і сам, відаць, умазаўся, выціраючы рукой ад поту твар: твар сохне і робіцца, як яловая карына. У заляпаным партфелі цэтлікі аж на дзве вёскі — на Крамянец і на Выгары. Абавязацельствы на самаабкладанне, страхоўка... З цэтлікамі ляжыць вялікая чорная ручка — самапіска і грошы. Цэтлікаў многа, грошай мала. Грошы даваенныя, яшчэ не было рэформы, шырокія і доўгія — пядзяй сцягнуць — чырвонцы. Шэранькія і чырвоныя. Шэранькія — адзін чырвонец — дык ужо зусім забыліся, сцёрліся з памяці, а чырвоныя — тры чырвонцы — з вялікай тройкай з левага боку і маленькімі наўкасяк троечкамі па ражках і цяпер яшчэ стаяць у вачах... То ў партфелі ляжаць, заклееныя ў пачку, то чуць відаць, заціснутыя ў мазолістых бабскіх руках, пакамечаныя, зложаныя ў чатыры столкі — доўга трэба гаварыць, пакуль расцiснуцца пальцы, пакладуць яе на стол і возьмуць вялікую чорную самапіску, каб распісацца. То ён лічыць і лічыць іх, здаючы ў Плешчаніцах у банк, старыя, замусоленыя, каструбаватыя і нічога не вартыя: у Даўгынаве на базары кошык бульбы сто рублёў, пуд жыта — пяцьсот... Сорак шосты год...

Ён дагнаў тады калёсы з рассупоненым канём, з заляпаным у гразь парубнём і з Волькай у ляжэйках пасярод грэблі. Помніць нават, як крыкнуў здалёку:

— Ты чаму не ў той бок едзеш? Не на поле...

— Вярнулася. Учора яшчэ цярпела, ездзіла, а сягоння...— сінія вочы глядзелі на яго са злосцю, як глядзелі ўсе першыя пасляваенныя гады на старшынь калгасаў; паколатыя аб іржышча загарэлыя бурыя рукі падавалі лейцы: — Бяры, вот, едзь... Нябойсь, партфелямі махаеце, а не касой, не сярпом... Партфелямі...

Яны тады акруціліся з канём і з калёсамі па гразі на грэблі і паехалі назад на Кур'янаўскія Сады — на поле. Яна клала воз, а ён падкідваў ёй з загона высокія, у пояс, снапы асцюкаватага ячменю-двухрадкі, які ў іх звалі «цялёп». І вяршылі воз разам, і ўціскалі парубнём, і ішлі ля воза па грэблі па гразі яна з аднаго боку, ён з другога — падпіралі, і на ферму ў свіран завязлі разам і прыклалі ў сцірту.

Вечарам, варочаючыся з Выгар, ён ужо зайшоўся да яе, як да сябе дамоў... Але пачалося ў іх не адразу, а недзе праз год, а то і пазней. Гэта да ўдавы лёгка было залезці пад пасцілку, а яна хацела выйсці замуж. Пачалося ў іх... а, пачаўшыся, цягнулася гадоў пяць ці шэсць, увесь час, пакуль ён рабіў фінагентам.

Каб жа тады, адразу і нарадзіўся Валерка... А то ён паявіўся на свет, калі яны ўжо разбегліся. Паднялася пасярэдзіне паміж імі дарога ўгару, высака, гарбом, і пакаціліся яны абое — яна ў адзін бок, ён у другі. Кончылася яго фінагенцтва — яны і разбегліся. Апошні раз, ён помніць, быў у яе, калі спраўлялі ў калгасе дажынкі. І ён і яна ўжо ведалі, што больш у іх нічога не будзе. І тады была ў іх апошняя цёмная асенняя, яшчэ цёплая ноч...

Яна ведала, які ён, ведала, што цягаецца па бабах, і ніколі не сказала, каб узяў замуж, бо сама не кідалася нікому ў вочы, была шэрая, а пасля перанесенага ў вайну — ціхая, як і шмат гаротных баб па вёсках. Ён і не думаў яе браць; пасля яго яна стала піць і да яе пачалі ездзіць шафёры з леспрамгасаўскай аўтакалоны. Хата яе стаяла супроць дарогі: не павярнуў бы шафёр руля ўлева ці ўправа, уязджаючы ў вёску — урэзаўся б якраз у сцяну. Шафёры і спыняліся кожны раз на павароце на вуліцы: вады напіцца, купіць самагонкі, папрасіць цыбулі на закуску, заначаваць, а то і стаць пастаяльцам, калі прыязджала ў вёску аўтакалона. Шафёры — народ рухавы... А пасля сеў і паехаў... Шукай ветру ў полі...

Ён убачыў з матацыкла ўперадзе перад сабой яе хату, высокую, старую, пачарнелую са страхі, з яркімі сінімі акяніцамі — глянула здалёку на яго, нібы Волька сваімі вачыма. Пасля ўжо згледзеў мост з белымі пярэчкамі і белых гусей перад ім, якія, пачуўшы матацыкл, сталі збівацца ў кучу. Усхадзіўся вецер, пагнаў дарогай з вёскі аж з-за маста ў вочы пыл; захрумсцеў на зубах пясок. Корань пачуў раптам, што баіцца ехаць у вёску, што ў яго замлелі ногі ў каленях — каб ішоў, а не сядзеў на сядзенні, падкасіліся б. Ідучы, не ступіў бы далей маста, але яго нёс, як чорт, матацыкл насустрач белым пярэчкам і сінім акяніцам — не было нідзе ні гразі па калені, ні нахіленага з праломінамі ў дошках старога пасляваеннага драўлянага маста, ні ям, ні рытвін.

Толькі пах яшчэ ўсё тым жа даўнейшым балотам вецер з ракі...

Высыпалі на дарогу белыя гусі, як усё роўна аднекуль

з хлева, замахалі шырокім крыллем, б'ючы па пяску, і сталі перабягаць на другі бок, спускаючыся ў рэчку.

Корань прытармазіў. І тут жа ўбачыў, як з рэчкі, размінаючыся з гусямі, падымаюцца на дарогу бабы. У белых хустках, у белых нажутках, з падаткнутымі высака спадніцамі, з граблямі на плячах — мылі ногі ў рацэ. Самую пярэднюю — прылізвала даланёй мокрыя валасы на галаве — ён адразу пазнаў; пазнала яго і яна. Неяк выпрасталася ўся, стукнула сябе грабільном па плячы і ўзяла скоранька пад руку тонкую чарнявую дзеўчынёху. Задзёрла ўверх галаву, ішла горда з граблямі на плячы і з дзеўчынёхай пад руку — падымалася з рэчкі яму насустрач.

Чортавы гусі... Не рванеш, не паедзеш... Укрылі ўсю дарогу, аж бела ад іх уваччу.

Яна так і прайшла ля яго з граблямі на плячы і з дзеўчынёхай пад руку. Ішла, не глядзела, але відзела яго. Калі параўняліся, неяк спружылася ўся і адкінула галаву яшчэ больш назад, аж на плечы. Твар яе, буры ад палявога загару, зрабіўся адразу чырвоны ўвесь і знік недзе ў яго за плячыма.

Ён ведаў, што ёй-то няма чаго задзіраць галаву: п'е. І на ферме з бабамі, і ля магазіна з мужчынамі; валяецца тады за свіронкам у палыне на буі, і Валерка валачэ яе кожны раз дадому, узяўшы пад руку. Чакала, відаць, усё жыццё таго часу, калі пройдзе ля яго з паднятай галавой, і дачакалася. Выбрала час і прайшла, на яго нават не паглядзеўшы. Ён падумаў раптам чамусьці, што яна мела на гэта права, якая б яна цяпер ні была...

Над белымі пярэчкамі махалі крыллем белыя гусі — падняліся ў лёт; з вёскі яшчэ горш панесла ў вочы пясок — вецер дзёр яго з вуліцы і гнаў на грэблю. Сінія акяніцы на Вольчынай хаце большалі, рабіліся вялікія, здалося, што і шэрай сцяны ў хаце няма — адны сінія акяніцы з сінім шклом у шыбах. Пасля ў вачах усё стала сіняе, і ён убачыў, што павярнуў ад хаты ў вуліцу, якая вяла ў Выгары, што ўперадзе адно чыстае сіняе неба: над платамі, над стрэхамі, над далёкім полем ля Кур'янаўскіх Садоў, дзе вісела маленькае беленькае, ужо не ранішняе сонца. Вострае, калючае — нават з ветрам хапала агнём за шчокі.

Ён знаў, дзе жыла Алімпіяда — помніў яшчэ з пасляваеннай фінагенцкай пары па ўсяму сельсавету, дзе хто жыве, і цяпер бы зайшоў да кожнага на двор з завязанымі вачыма. Не даязджаючы ў канец вуліцы, ён звярнуў да

плота на запылены падарожнік, прытармазіў ля лавачкі, саскочыў з сядзення і, падбегшы да варот, піхнуў іх абедзвюма рукамі ў двор — адкінуў аж да частакола ў гародчыку. З гародчыка, сцёбаючы дробненька крыллем па бэзе, узляцелі вераб'і, падняўшы сухі пыл.

На матацыкле заехалі ў двор аж да самага асвера, мінуўшы ганак і адагнаўшы курэй да хлева. Злезлі на зялёны густы падарожнік ля студні.

— І трава яшчэ ў людзей расце, судзьбіна казларогая...— Пугач сцягнуў з галавы чырвоную каску, страсануў, паклаў на сядзенне і, узяўшы партфель, пайшоў да расчыненых сяней з подбегам — сягоння ён увесь час спяшыў.

— Людзі жылі і жыць будуць... А мы пылу цяпнулі...— сказаў сам сабе Корань, і Пугач яго не пачуў.

## 8

Дзверы ў хату ім насустрач адчыніла Таня — Пугач яе пазнаў,— відаць, згледзела іх у акно. Адступіла сама з парога назад да стала, як спужаўшыся, убачыўшы двух мужчын, і стаяла.

Корань у хату не пайшоў бы: ніяк яшчэ не мог прывыкці да хворых, хоць шмат ужо гадоў ля бальніцы, але хацелася піць, за дарогу сцёк потам, і цяпер у роце было солана і суха.

— Ну як вы тут, мурлахапенькія?..— загаварыў з парога Пугач, ідучы адразу з партфелем да ложка ля перагародкі, на якім сядзела Алімпіяда, адкінуўшыся на падушкі: дыхала цяжка, з сябе. Пасівелыя ля скронь і ля лоба яе гнядыя валасы былі гладка прылізаны спераду; ззаду наспех схоплены ў тоўстую яшчэ касу. Ад гэтага ў яе быў высокі лоб і чысты твар. І светла-сінія вочы глядзелі чыста і весела — усміхаліся.— Ну, што тут звалілася нам на галаву, судзьбіна наша казларогая? — Пугач спыніўся і доўга глядзеў на яе.— Нос яшчэ не сіні, Уліма. А калі і вочы смяюцца...— загаварыў ён да яе, як да свайго чалавека. Выцягнуўшы руку, паставіў партфель на ўслон пад гірай ад ходзікаў.— Дай, дзяўчына, мне ваду, мыла і ручнік,— павярнуў ён галаву да Тані.— А градуснік ваш на дварэ ля дзвярэй не маніць? З самай раніцы дваццаць сем?

Корань, ціха зайшоўшы за Пугачом у хату і павітаўшыся, стаяў у парозе і, калі Пугач папрасіў вады, ады-

шоўся гэтак жа ціха да акна ад гарода і сеў за стол: паспее напіцца.

— Палі, дачка, вады... З конаўкі... Над вядром...— Алімпіяда гаварыла цяжка, з адышкай.— А градуснік не маніць. Учора ўдзень было трыццаць пяць. Пагарыць усё без вады. І ў студні вада ўпала. Сама цяжэй цяпер скаціне...

Пугач падцягнуў уверх рукавы ў пінжаку, падышоў і нагнуўся ў парозе пад суднікам над вядром. Таня падала яму чырвоны кавалачак мыла, падняла ўгару зялёную кружку з вадой, але ён, склаўшы рукі, схаваў у далонях мыла і стаяў, не кратаўшыся. Нагнуўся пасля над вядром, чуць не стаўшы на калені.

— А гэта што? — адвярнуўся, паглядзеў на Алімпіяду і кіўнуў на вядро.— Судзьбіна казларогая...

— Кроў. Пайшла ўчора днём. Цурчом. Аж цяпер солана ад яе ў роце...

— І больш не кідалася?

— Не.

— Казларогі чартуляп... Чаму мне ўчора не сказалі? Пайдзём, дзяўчына, на двор. Там рукі спаласнём. І многа ў вядрэ вады было? Не магло ж гэтулькі крыві...

— А я ўжо не помню...

— Судзьбіна казларогая... Збірайся адразу ў бальніцу...— Пугач першы хуценька пайшоў на двор і хуценька вярнуўся ў хату. Пацішэў, устрывожыўшыся, натапырыўся. Доўга выціраў ручніком рукі, сціскаючы пальцы ў кулакі, аж костачкі на пальцах трэскалі. І глядзеў праз акно, ля якога сядзеў Корань, некуды далёка ў гарод: думаў. Пасля асцярожна паклаў ручнік ля партфеля на ўслон.

— Крэсла мне сюды, ці што, падсунь, дзяўчына,— папрасіў ён, не гледзячы на Таню.— Каб ля ложка прымасціцца... Ну, давай сюды сваю мурлахапенькую...— сказаў ён да Алімпіяды, садзячыся на крэсла і паказваючы ёй на руку.— Як кавалеру на вечарынцы, калі ў танец хадзіла. Сама сядзі, сядзі... Праверым пульс. Пасля сэрца паслухаем. І не думай пра вядро: за дваццаць чатыры гадзіны мазгі згараць. Вынесі, дзяўчына, яго вон.

Ён узяў яе скорчаную, з прыгнутымі пальцамі, апаленую сонцам, натруджаную, з сінімі венамі руку сваімі вялікімі мужчынскімі рукамі, падняў невысока над ложкам і сціснуў у запясці,— у хаце ад яго рук густа запахла мылам. Маўчаў, гледзячы ў падлогу і заплюшчыўшы вочы —

лічыў; тады паклаў асцярожна яе руку на ложак, паскроб пальцамі сваю маленькую пасівелую бародку.

— Прыляж, дзеўка. Паслухаем, як там тваё мурлахапенькае стукае... Давай сюды падушкі, да брыжа.

Дзве вялікія падушкі з навалачкамі ў дробныя сінія кветы, падбегшы, ухапіла Таня і паклала ля бліскучага нікеляванага брыжа. Памагла легчы Алімпіядзе; расшпіліла ёй на грудзях нажутку.

— Дай, дзяўчына, мне падступіцца...— Пугач адапхнуў яе рукой ад ложка, падняўся, расшпіліў партфель, выцягнуў бліскучы новенькі фанэндаскоп з сінімі пругкімі гумавымі трубкамі, заткнуў імі сабе вушы і, вярнуўшыся да крэсла, нагнуўся над ложкам.

Сэрца ён слухаў доўга: задзіраў уверх сваю сівую бародку, глядзеў у столь, пасля апускаў яе ўніз і бегаў вачыма па падлозе. У хаце зрабілася ціха, ніхто нават не кратаўся, і чуваць было, як шастаюць ходзікі і адзываюцца ў сенцах куры, стукаючы дзюбамі па дошках — набеглі ў адчыненыя дзверы. На ферме нешта манатонна звінела, тонка, праціўна, не аціхаючы, і бразгала жалеза.

— Ну-у, дзеўка-а...— Пугач адаткнуў вушы і зачапіў ззаду за шыю фанэндаскоп.— Скажы ты мне, ці чуеш ты сама сваё сэрца? Ці чуеш, як яно, казларогае, стукае пад бок?

— Мне ўжо... ці стукае пад бок, ці не стукае... Адзін чорт...

— Ну-у, Уліма... Запе-ела... Чалавек павінен змагацца. Ведае, што не пераможа яе, мурлахапенькую, што верх за ёй, але павінен. Перамагчы сягоння, заўтра, паслязаўтра. На год, на два перамагчы, на восем гадоў... Падымі ўгару руку, сцісні пальцы ў кулак. Апусці. Што так вяла, не дзержыцца рука? А цяпер падымай яе, мурлахапенькую, і апускай на грудзі. Дзесяць разоў. Ну, зморышся, то сем хопіць. Во-во...— Пугач выпрастаўся ля ложка і сам лічыў: «Раз, два...» — моцна, на ўсю хату.— А цяпер давай я яго цёпленькае паслухаю. Шумок мурлахапенькі, шумок...— сказаў ён пасля ціха, сам сабе, адагнуўшыся ад ложка.— Стукае, стукае...— загаварыў ён мацней да ўсіх.— Зусім другі фон,— павесялеў, пацёр руку аб руку.— Давай цяпер падыміся, дзеўка, смялей, не бойся... Лёгкія твае праверу. Ацёкі бачу на нагах. Трэба так: сколькі вады мы ўзялі, скажам, шклянку, столькі і аддалі...

— Гледзячы якой... Калі добры пяршак, то можна і

шклянкай абысціся...— сказала Алімпіяда і закашлялася.

— Во даёць маці...— заёрзаў ля стала Корань.

— Пра гэта табе цяпер нельга думаць. За дваццаць чатыры гадзіны мазгі згараць...

— Дык гэта мне, а вам...

— Нам, матка, можна...— перабіў яе Корань.

— Таня...— ціха клікнула Алімпіяда дачку, нічога ёй больш не сказала, але тая злавіла ўсё на ляту: адразу пайшла ў сенцы.

— Хто ж гэта банькі табе так уляпіў? Дачка? — Пугач зноў нагнуўся над ложкам.— Добрыя банькі. Толькі не трэба, каб аж скура чарнела. Перадзяржалі. Ну, цяпер дыхай, глыбака, як на танцах пасля полькі намарыўшыся. Во-во... У цябе, дзеўка, усягды былі добрыя лёгкія. Яшчэ раз... Во-во... Баюся толькі, каб застою цяпер не было. Добрыя банькі... Запомні, дзеўка, яны, казларогія, цябе ратуюць. І ўсё-такі, дзеўка, думай пра бальніцу, думай...— ён падышоў да ўслона, дастаў з партфеля новы чорны доўгенькі апарат з беленькай кнопачкай на канцы — такім апаратам ёй у бальніцы ўсягды мералі ціск, і Колас і Праскурнічʼя,— адчыніў яго і паставіў на ложку ля падушак.— Давай цяпер сюды руку, левую. Пасядзім так адзін проці аднаго, паглядзім у вочы адзін аднаму, як на вечарынцы,— Пугач дастаў з апарата манжэтку, накінуў ёй на руку вышэй локця, акуратненька закасаў рукаво, падагнуў спрытна пальцамі пад манжэтку.— Так вот і сядзі, адваліўшыся да сцяны, як у крэсле ў прызідзюме.— Ён прыклаў ёй бліскучую галоўку фанэндаскопа да рукі ў лакці, ухапіўся пальцамі за жоўтую гумовую грушу і пачаў хуценька сціскаць раз за разам — надзімаў манжэтку, аж пакуль Алімпіяда не зморшчылася і не стала круціць галавой. Тады апарат зашыпеў на ложку ля падушак, як гадзюка дзе блізка на курганку. Пугач яшчэ раз браўся за грушу, і зноў апарат шыпеў, як гадзюка, а Пугач лыпаў і лыпаў вачыма, пасля пачаў церабіць патыліцу.

— Сто дзевяноста на сто дваццаць, казларогая судзьбіна...— ён хуценька пачаў складваць апарат, аднёс яго і схаваў разам з фанэндаскопам у партфель, як усё роўна апарат быў вінаваты.— Колас такіх адразу кладзе. Крыз... Зраблю магнэзію і, калі мы не саб'ём гэтыя сто дзевяноста... я забяру цябе, дзеўка, сам. Знайду дзе яшчэ на вашым лагу каня, запрагу на ферме ў калёсы і павязу. З гэтым жарты маленькія. За дваццаць чатыры гадзіны мазгі згараць. Што, коней няма? Тады павязе ён,— Пугач пака-

заў на Кораня,— у матацыкле, ціхенька, а я пайду ззаду пехатой. Давай, паварочвайся, дзеўка. Ты ўжо знаеш, як трэба паварочвацца, не першы раз. Магнэзію зраблю з навакаінам. А так — будзе гарэць твая гэта самая... Судзьбіна казларогая... Што? Забылася ўжо, як паварочвацца? Ты чуеш, Корань? Яна яшчэ свае маладыя штучкі не кідае. Паваро-очвацца... Нам цяпер толькі і асталося паварочвацца пад шпрыц з іголкай, судзьбіна казларогая...

Магнэзію ён «зрабіў» хутка і спрытна; схаваў адразу шпрыц у партфель, аднёс парожнія ампулы, узяўшы іх у ватку, у парог і паклаў на прыпечак.

— Гадзінку давядзецца пачакаць, хоць я і пазнюся. Тады яшчэ раз змерым. У мяне не выкруцішся, дзеўка, судзьбіна твая казларогая. Што? Адразу ў вачах пасвятлела? Ну-ну...

Бразнулася клямка; на парозе паказалася Таня і, прыціснуўшы локаць да грудзей, пабегла ў другую палавіну. Загрукала нечым і адразу выбегла з новым белым абрусом у сінюю рэдкую палоску — рассцяліла яго на стале. Адчыніла белую шафку, узяла талеркі і забразгала імі, расстаўляючы. Тады адным махам паставіла на стол бутэльку, высокую, светлую — ніхто не згледзеў, адкуль дастала: выняла, як з рукава.

— Ды вы што? Як згаварыліся ўсе...— аж выпрастаўся пасярод хаты Пугач.— Гэты казларогі чартуляп,— паказаў ён рукой на Кораня,— яшчэ пасля ўчарашняга цёплы. Хочаце, каб мяне на грэблі з канавы дасталі? Зараз жа схавай, дзяўчына, усё назад. Гэта, каб на свята... А так — схавай, дзяўчына, і не паказвай...

— «Луч...» — Корань узяў са стала бутэльку і прачытаў: — Лучыс-тае... А ты ведаеш, Антонавіч, што мне трэба чатыры «луча», каб руль з рук выбіла? А тут — адзін на чатырох. І сядзь ты, Антонавіч, аддыхні, пакуль дзяўчына прынясе чым закусіць. І маці, вун, на ложку ўсміхаецца, на нас гледзячы. Паслухай, я табе лепш адзін анекдот раскажу. Пра двух братоў. Ды не казка. Цяпер браты жывуць, цяпер. Адзін вялікі начальнік, другі — як мы з табой. Ну, як хочаш. Хай будзе адзін багаты, другі бедны. Багаты брат усягды прасіў да сябе на свята ў госці беднага брата. Бедны на свята не ішоў: у брата былі вялікія людзі і ён не хацеў паказвацца ім на вочы. Заходзіў пасля свята. Заходзіць раз, брат яму дзверы насцеж, да стала садзіць, як нас сёння з табой, адчыняе дзверы ў шафе — на ўсю сцяну шафа,— а там бутэлек, як у вас у ап-

тэцы. І з сярэбранымі і з залатымі наклейкамі. Бярэ багаты брат адну такую бутэльку і кажа: «Во гэта, брат, яно... Прыйшоў бы на свята — выпілі б... А так... Што цяпер піць. У будні дзень». І паставіў бутэльку назад. І шафу тую на ключ. І ты, Антонавіч, як той багаты брат. На свята нас сюды ніхто не запросіць... Гэта мне, можа, і нельга, я — за рулём. А ты ж у калясцы. Усё адно галава ў калясцы ківаецца, цвярозы ты ці п'яны. Ніхто не пазнае...

У хаце ўсе засмяяліся.

— Ты чуеш, Уліма, што робіцца? — Пугач узяў крэсла ад ложка, паднёс яго да стала і сеў проці Кораня.

— Так яно рабілася і будзе рабіцца, аж пакуль нам на заплюшчаныя вочы снег не пасыплецца...

— Ты што гэта, маці, зімой паміраць сабралася? Работы наробіш: мёрзлую зямлю ломам дзяўбсці...— Корань паруханеў, забыўся, што яму хацелася піць, што дзеля гэтага і прыйшоў у хату, спрытна, аднымі пальцамі здзёр з горла ў бутэльцы бліскучую накрывачку, падхапіў з рук у Тані два гладкія высокія, з чырвоным абадком фужэрчыкі. І адзін і другі наліў да палавіны.— А ты што, дзяўчына, дзве пасудзіны падала? Садзіся і сама з намі, раз на работу не пайшла. Ды і хворай яно пяцьдзесят грам такой бурды за зелле сыдзе...

— Дзяўчына адпрасілася сягоння ў канторы. Вечарам на казэзс пойдзе адрабляць. У начную. А мне ўжо мае грамы ўлілі. Перш, чымся вам. Гарыць, як агнём...

— Ну, маці. Цябе голымі рукамі не пагладзіш... Ну, за тваё здароўе, каб мне цябе па такой гарачыні не прыйшлося вязці ў бальніцу на матацыкле... Давай, Антонавіч, ты чэсна зарабіў...— Корань выліў віно ў рот, як усё роўна якую гадасць куды за плот. На стале на талерках ляжала парэзанае сала — пядзей сцягнуць — і чырвоненькія кружочкі сухой, з магазіна, кілбасы, і ён, укалоўшы відэльцамі аднаго і другога, стаў закусваць і гаварыць без аддухі.— Ты, маці, ведаеш... Я рабіў фінагентам з сорак пятага аж да смерці Сталіна. Жыў і жыву. А людзі гора цяпнулі. І цябе, маці, ведаю. Цяжка табе было без мужыка, а з мужыком яшчэ цяжэй. Гора цяпнула... Але ты ніколі носа не вешала і нікуды не лезла. Вачэй нікому не мазоліла. Я цябе за гэта ўсягды цаніў і цаню. Я сам, маці, ніколі не любіў лезці туды, дзе давіліся. Я іду пасля. Калі хочаш знаць, Антонавіч, я люблю мыцца ў лазні пасля ўсіх. Ціха, спакойна. Дух вольны, не ўчадзееш. Вады ў кадзі яшчэ хоць утапіся. Венік любы можаш узяць, валя-

юцца і на палку і на печы зверху на каменні ляжаць. І калі шчыльна зачыніцца і добра з кружачкай каля сцен на печы прайсціся, дык і духу яшчэ... Каменне аж шваргоча. Ляжыш сабе на палку адзін, як дома на ложку, разбарсаўшыся. Сам сабе выхвашчаш і спіну, і паясніцу, і калепі. Праўда, з палка злазіць пасля ўсіх не з нагі. Мыюцца ўсе, мыла не шкадуючы. І змылкі, яшчэ па кулаку — пад ногі. І на лавачцы ля палка ляжаць, прыліпшы; і на падлозе, паміж рэдкіх дошак ушчаміўшыся. Ступаеш, як на лёд, слізка... Ты, Антонавіч, закусвай, не глядзі...

— Казларогі чартуляп. Не хітры. Думаеш, я і паверыў у твае байкі? Мяне, старога дурня, не правядзеш. Больш ні грама. Цябе ўжо развязло, як у лазні...

У хаце рабілася душна і весела.

— Х-хе, Антонавіч... Будзеш дома з вецярком. І ■ цябе яшчэ сышчу сто грам і пончык. Я, маці, і на бяседу ніколі не спяшаюся, не бягу. Пад сярэдзіну, а то і пад канец прыйду цішком. І што? Адразу штрафную наліваюць. Усе да аднаго мяне відзяць. «Налі яму!» — крычаць. А так, каб з усімі прысунуўся, думаеш, хто б угледзеў мяне? Не-е... А так — і штрафную паднясуць і сам бяры пасля з любой бутэлькі, стаяць адоткнутыя. Ну, а закуска там, прыкуска... Калі гарэлкі было многа, то ўсе покатам, закускі на стале воз: пілі, забываючыся закусваць. Так што ціхенька можна і налізацца і што хочаш... А каб яшчэ нічога за душой не меў, то і ў кішаню з сабой узяць можна. Многія дык, калі астаецца, зліваюць з бутэлек у адну, затыкаюць — і ў кішаню. Я так не люблю. Прыйду, пасяджу, зраблю сваё і пайду. Кажуць, апошняму — ці што, ці нічога. Ну, нічога — яно ніколі не бывае. Рэ-эдка...

— Не хітры, казладойны чартуляп. Цяпер такіх людзей, пра якіх ты расказваеш, няма. Не хітры...

— Я і хварэю, Антонавіч, пасля ўсіх.— Корань пачаў падміргваць на хату.— Грып у вёсцы ці якая другая чума, дык усе хаты перахварэюць, дома мая Два метры фанеры адлежыць, тады ўжо і я. Мая пара падыходзіць. Ціхенька так, неўзаметку, калі ўжо ўсе з гэтай хваробы пацяшаюцца, глядзіш — і я перахварэю. Лягчэй, не так боязна, як у пачатку, калі людзі хварэюць больш ад страху...

— Ну і што мы выйграем, казларогі чартуляп, у такім варыянце? Вот так во ўсю жызню ззаду?

— Гм... Што выйграем? На той свет пасля ўсіх збіраюся! Не спяшу!.. Давай, Антонавіч, яшчэ па адной...

— Нічога не скажаш, казларогі чартуляп... Нацэліўся

ты далё-ёка... Ды не ўсягды так бывае... Жыццё і смерць штука хі-ітрая... Але што ты распараджаешся за чужым сталом? За свае грошы трэба піць, справядлівей тады будзеш сябе адчуваць.

— Ат, грошы гэтыя... Нанасіўся я іх за сваё жыццё. Партфелямі... І цяпер цярпець не магу. Прынясеш жонцы зарплату... Глядзіш, як яна кожны раз плюе на пальцы і пералічвае паперкі... Цьфу... Пакасць... Праваліцца хочацца... Нібы ты толькі і тупаеш цэлы месяц ля гэтай бальніцы, каб жонка першага і пятнаццатага чысла на пальцы плявала... Душу верне...

— Казларогая судзьбіна! Вочы ўжо ў цябе блішчаць, і шчокі чырвоныя. Схавай, дзяўчына, бутэльку. Нам яшчэ дамоў трэба дабрацца...

— Дабяромся, Антонавіч. У нас матацыкл...

— А што толку, судзьбіна казларогая, што ў нас матацыкл? Прыехалі мы сюды на другі дзень. У нас, лічы, два дактары ў бальніцы: Колас і я. Але ж адзін увесь час на нарадах, на вучобе. У Плешчаніцах, у Мінску... А доктар Шавенка да вайны партфель у рукі і адразу ў вёску, пехатой. Трэба было і мне не чакаць матацыкла. Да вайны і пасля яе мы яшчэ пехатой хадзілі, спакойна. А цяпер і самі ездзім на машынах і ячмень возім. Перш насыпаў ячменю ў мяшок, завязаў і павёз на калёсах. З мяшка не рассыплецца. А цяпер з машыны аж у каляску нам натраслося ячменю. І табе за карак. А па ўсёй дарозе? Некалі на неба глядзелі, ці высака сонца. А цяпер на руку глядзім, на стрэлкі. Ні хмар не бачым, ні сонца. А яно ёсць на небе... Паліць... За маёй памяццю так не пякло...

— Я, Антонавіч, так не думаю. І тут ужо ты хітрыш.

— Як бы мы ні думалі, казларогі чартуляп, а зерне, кінутае ў зямлю, хутчэй не расце, як расло раней. Чакаць трэба восені. І чалавек раджаецца, як і перш, праз дзевяць месяцаў. Зямля не спяшыць круціцца, гэта мы некуды спяшым і самі не знаем куды...

Загаварыла раптам на ўсю хату радыё, якраз у Пугача над галавой — маўчала з самай раніцы. Пугач аж падскочыў на крэсле:

— Казларогі чартуляп...

Перадавалі апошнія паведамленні. Мужчынскі голас — аж шорах па спіне — гаварыў пра падзеі ў Чэхаславакіі. Але рэпрадуктар раптам хліпнуў і замёр; суровы мужчына аціх на паўслове, як усё роўна яго хто тузануў за руку — не трывож людзей. У хаце зноў зрабілася ці-

ха — чыкалі толькі ходзікі, звінела нешта на ферме — усе маўчалі: чакалі. Але рэпрадуктар застыў на сцяне — зрабіўся нямы і, здавалася, халодны.

— Не пужайся, Антонавіч... Мы знаем, куды спяшым...— першы загаварыў Корань, падміргваючы на хату. І голас нават перамяніў.— Скажы, вот, што будзе? Што там,— кіўнуў ён галавой на рэпрадуктар,— такое робіцца, калі ты такі мудры і ўсё пастаянна ведаеш? Важданіна на свеце. Заварушыліся, як ты гаворыш, мурлахапенькія...

— Што я табе, хлапец, скажу? Я паўтару тваю ісціну: жылі мы і жыць будзем. А людзі гора цяпнуць. Гэта адно. Запомні. А другое...— Пугач глыбака ўздыхнуў.— Я помню, як было перш. Раней... Раней у вёсцы што? Аралі, сеялі, малацілі. Ніякіх табе прыёмнікаў, цілівізараў. Ніхто ніколі не знаў, хто куды паехаў, у Турцыю ці ў Настурцыю. Ну, газеты чыталі, але больш глядзелі, каб у гародзе расло. Ніхто збоку на вуха не мурлыкаў. І на душы спакайней было. Паслухай мяне, старога дурня. Менш думай пра ўсё гэта — даўжэй пажывеш. Менш на сваю галаву бяры, і яна ў цябе ніколі не згарыць, будзе вечная. Перш любая баба глядзела за бабай. Хто як пячэ, як варыць, як з мужыком жыве, як з сярпом на загоне згінаецца. Пра што гаварылі? Пра сябе і сваю жызню. А цяпер? Пстрык кнопкай — і яна ўжо глядзіць, хто ў тую Турцыю паехаў. Вочы вылупіла. Пстрык кнопкай — выключыла. А ў галаве ў яе ўжо тая Турцыя сядзіць. Увідзела... І на работу бяжыць з Турцыяй у галаве... А там і другія ж гэтакія глядзелі. Ды ў гэтулькі вачэй... Як дадуць на полі ў языкі, што ў званы! А калі язык балбоча... Даўно вядома, што рукі за языком не паспяваюць. Пра работу бабы ўжо не гавораць; дзе хто да каго — не гавораць, бяды ўжо няма; нават адна адну не абгаворваюць — часу няма. Турцыя на языках... Ці яшчэ там чорт які... І з такім відам кожная, што лепш за той цілівізар знае, якога міністра куды паслаць ці паставіць... А ты глядзі, баба дурная, што ў гародзе расце, каб па цыбулю ўвосень не ездзіць у горад. Не купляць чужую. Вот што я табе скажу...

— Чалавек так устроены, Антонавіч, што заўсёды настаўляе вуха, каб што новае пачуць. І яму трэба... І сам жа ты, Антонавіч... Хай бы ажаргаў кій, як перш, і ехаў. Дык жа на матацыкле сядзіш. Чалавеку трэба...— Корань падняў руку з відэльцамі — з кружком чырвонай кілбасы на самым кончыку.— І я скора задзяру над хатай жэрдку

з антэнай. Пастаўлю тэлевізар. Трэба, Антонавіч, трэба...

— Казларогі чартуляп! Думаеш, я табе не прачытаў бы лекцыю, як што трэба? А яно, можа, для цябе трэба так, як я гавару? А хто куды ездзіць... Дык і да нас з табой яны ездзілі, а пасля нас яшчэ больш будуць ездзіць. А ты вот... сядзіш за сталом...

— Дык што, Антонавіч, далей стала і не глядзі? Так ніколі не было і не будзе. Мохам парасцём. Я хоць і п'янаваты, а гляджу далей стала... На двор... I маці, вун, седзячы на ложку, глядзіць далей цябе — у гарод. Глядзіць і ўсміхаецца. I мая Два метры фанеры дома крычыць кожны раз, калі рэпрадуктар сціхне. «Жыць не магу без радзіва! Як гэта жыць без радзіва?» Падымаецца додніцай — і на ўсю катушку. А то і сама разам горла дзярэ — пяе ўсю раніцу. Перш добра пела, а цяпер скуголіць, як ваўчыца... А ты, Антонавіч, глядзіш назад, калі не хітрыш...

— Што гэта ты, гледзячы ўперад, так на сваю кабеціну ўзваліўся, казларогі чартуляп? Жывіцё, як кот з сабакам. Калі яна хавае ад цябе гэту во штуку,— Пугач паказаў на бутэльку на стале,— то яна ўжо і чорт рагаты?..

— Гэту вот штуку...— Корань пабразгаў відэльцамі па бутэльцы,— яна цяпер хавае ад мяне аж на той свет. Сама ні ў рот, толькі ў гасцях, і ад мяне хавае. Але ад мяне не схаваеш. У мяне, брат, нос...— Корань, выціраючы твар ад поту, узяў быў нос у жменю і зморшчыўся.— Схавала раз яна буталь самагонкі. Выгнала дома на пліце і схавала. Для гасцей. Ёсць, ну не возьмеш... Усё ў хаце аблазіў, варыўню перавярнуў уверх дном — не знайшоў. Іду вечарам з работы дамоў — дзверы на замку. Палез у кішаню па ключ. Дастаў і ніяк не лучу ў замок, у дзірку. Ключык такі тоненькі, слізенькі. Шмыкнуў з рук і ў шчэлку пад ганак. Трэба ж у хату залезці. Падымаю я дошку з-пад ног — ёсць буталь. Стаіць халодненькі, і раса на ім выступіла. Тут ён увесь і лясне, маць яго так,— думаю. Пайшоў я і клікнуў суседа. Адзін бы рады не даў, ды і не люблю адзін. Удваіх мы яго і... Увесь... Ну і ясна — з ног на падлогу. Убегла мая Два метры фанеры ў хату адразу з гальнікам. I хвошча нас абаіх, як у лазні на палку. Я маўчу, кручуся, як вуж пад вілкамі, а сусед дык той крычыць на ўсю хату: «Не лупі дротам!.. Што ты мяне дротам па твары!» Ну-у, тады я гора цяпнуў...

— Выдумаў, складна выдумаў, казларогі чартуляп...— Пугач зайшоўся ад смеху, аж слёзы ў яго на вачах выступілі, і доўга круціў галавой. Пасля пачуў, што і Алім-

піяда смяецца на ложку. Падцягнула да перагародкі падушкі і села, апёршыся на іх плячыма і спусціўшы з ложка ногі. Дастала з куклы грэбень і прычэсвала спераду ля вушэй і ля лоба валасы.— Нешта я такога не чуў, казларогі чартуляп... Ён і цябе, Уліма, падняў сваімі вытрабенькамі. Гэта ж трэба выдумаць: тая сячэ яго венікам, а ён крычыць: не лупі дротам... Яму здаецца, што яго дротам лупяць. Аж ты, Уліма, павесялела ад яго баек...— Пугач паглядзеў на руку, на гадзіннік, тады падняў вочы на сцяну — на ходзікі.— Чвэртачку яшчэ пасядзім, ранавата... Дарма ты, Уліма, усё гэта выдумала,— Пугач паказаў на стол на бутэльку.— Замучае ён цябе сваімі байкамі, будзеш знаць...

— І ніякія гэта не байкі. Уся вёска знае. А адзін раз, зімой... Наліла яна гэтай самай у чайнік і — у кадзь з капустай. Сховы знайшла. А мне — ну вот хочацца капусты, аж сліна цячэ. Кісленькай такой, халодненькай, з кмінам і з чырвонымі журавінамі... З моркавачкай, парэзанай на скрылёчкі... Месца сабе ў хаце не знаходжу. Узяў я талерку са стала — і ў варыўню. Адкрыў кадзь, капнуў драўлянай лыжкай — лыжка ў кадзі стайма стаяла — э-ге!.. Чайнік з рыльцам! І выпіўка і закуска. Усё на месцы. Пацягну з рыльца, колькі трэба, і закушу. Закушу і пацягну. Табе, Антонавіч,— Корань махаў відэльцамі,— усё байкі, анекдоцікі... Было! Не паверыш? Дні два прайшло пасля той кадзі, чайнік яшчэ з галавы не выветрыўся — прыехалі ў калгас шэфы з трактарнага. Яны ў нас і зімой і летам і сеюць за нас і малоцяць. А той раз прыехалі даваць канцэрт, аж на двух аўтобусах. Свята было, ці што. На вечарынкі і на канцэрты я ўжо не хадок, а тут цягне. Ну — як магнэсам. Вот карціць за парог нагу паставіць — і ўсё. Не пойдзеш жа да людзей абшмальцаваны адразу пасля работы. Забегся я дадому, памыўся акуратненька, мая Два метры фанеры яшчэ з работы не прыйшла — думаю, адтуль адразу ў клуб рване,— падышоў да шафы касцюм выхадны надзець. Адчыніў дзверцы — пінжачок на вешалцы вісіць. Лап я за яго — цяжкі. Я тады за яго ў дзве рукі. Усё адно як хто яго на падлогу з рук цягне. Гляджу — рукавы знізу пазавязваны беленькай тасьмой: і адно і другое. Лап я за рукаво — цвёрдае. Лап за другое... Э-эге! Палез я ў сярэдзіну — і ў адным і ў другім рукаве бутэлькі... Ну і даў я тут шэфскі канцэрт адразу, не трэба было і адзявацца і цягнуцца ў той клуб. А жонка, вярнуўшыся, мне канцэрт дала. Людзі ў клубе, культур-

ненька сабе так... А я дома «песень» тады цяпнуў... А табе, Антонавіч, баечкі...

— Толькі б таго і гора было на свеце...— Пугач, адкінуўшыся, рагатаў на ўсю хату.— Чуеш, Уліма? Ён цябе аднымі сваімі байкамі вылечыць...

— Паслухаць збоку...— азвалася Алімпіяда,— дык на ліха ёй гэта гар? І так жыццё ў вас горкае...

— Адкажу, маці. Не сакрэт. Запасы робіць. Запасы. Госці, імяніны... Як гэта ў некага ёсць, а ў яе няма? У маёй Фанеры ўсяго ў запасе, па самае «не хачу». Толькі па маёй лініі ёй стратэгічны запас зрабіць не ўдаецца. Пачую — і крышка... А жывём мы з ёй, маці... Толку ніякага. Ссівеў я, а хата пустая. І будзе пустая... А каб не была пустая, то і маё жыццё было б інакшае... Ат, маці, ты ўсё ведаеш. Больш за іх за ўсіх,— кіўнуў ён галавой некуды ў акно на гарод, нібыта там яго слухалі, і раптам зарагатаў на ўсю хату.— Ты думаеш, Антонавіч, што маю Фанеру так лёгка ўзяць? Не-е... Голай рукой яе не возьмеш... Пасля таго шэфскага канцэрта яна адразу змяніла тактыку. На сто восемдзесят градусаў. Месяцы тры дзяржала мяне на сухім законе, тады зноў выгнала гары. Гнаць ёй — раз плюнуць. Размяшае цукру, прыстроіцца на пліце... Гэты раз нічога нікуды не хавала. Наліла ў буталь і — у сервант за шкло. І ўсё гэта дзела на замок. Сервант новы, дарагі, ламаць замок не будзеш. І шкло не разаб'еш і не вынеш: з сярэдзіны па-дурацку ўстаўлена. Тут ужо ясна: на выдзержку мяне ўзяла. І вока бачыць, і нос чуе, а на языку — суха. Паскакаў я на адной назе ля серванта, а тады... Дзверцы-то замкнуты, але шчыльна палавінкі адна да другой не даходзяць. Прынёс я з сяней шланг ад бензапілы... Палез мой шланг у тую шчэлку як ніць даць... Больш мне нічога і не трэба было. Скінуў шлангам крышку, прыстроіўся і...— Корань уздыхнуў і памаўчаў.— Прыйшла яна тады дамоў, адразу ўсё гэта ўбачыла — яна ў мяне на хаду стрыжэ вачыма,— пацямнела і замоўкла. Маўчала цэлы тыдзень, не гаварыла. Хаця, сама вінавата была, падражнілася. На другі тыдзень падыходзіць: «Пакажы, кажа, лайдак, як ты выцадзіў яе адтуль?» Прыйшлося паказаць... Ні слова. Толькі пасля ўсяго закінула яна гэта дзела назусім. Як карова зарвала. Мне ад гэтага, канечне, выйгранка малая, па магазінах трэба за гэтым «лучом» праклятым гойсаць. Ды чорт з ім, жылі і жыць будзем. Але гэта не ўсё... Былі ў яе яшчэ два стратэгічныя запасы... І тыя ляснулі... Паслухай, Антонавіч. Што

ты ўсё не верыш? Падвесіла яна адзін стратэгічны запас у цэлафанавым мяшку ў варывеньцы. А мышы ражок у тым мяшку і адчыкрыжылі... Ну тут ужо яна пашкадавала мяне раз у жыцці: «Хай бы ты лепш спажыў, чымся на зямлю выцекла...» А апошні свой стратэгічны запас дзяржала яна ад вясны аж дагэтуль. Гасцей усё далёкіх чакала. Прыехалі. На той стратэгічны запас. Але яна забылася, што ёсць я. Корань, Фінагент, Лайдак, як хочаш мяне заві. І ніякі стратэгічны запас без мяне не пройдзе. Схавала яна яго — ніколі б не здагадаўся дзе... У градах, пад капустай. Гляджу раз — адзін качан падвяў. Мне і цюкнула! Завастрыў я палачку, асцярожненька тырк, тырк востранькім канцом пад корань — цюк у нешта цвёрдае. Я качан той вон, выкапаў ямку, адаткнуў буталь, асцярожна, каб пяску не насыпаць, і... Тут вы ўжо можаце самі здагадацца, як і што. Зямлю пасля на месца, качан капусты наверх. Так і палоў я грады, пакуль пад качаном не стала пуста. Замаскіраваў усё гэта, хаджу хоць бы што, качан аджыў і пачаў расці. І раптам — госці. Яе сёстры са свету, з дзяцьмі, з мужыкамі. Жонка крадком з хаты, тэп-тэп у гарод... Нагнулася ў капусце, коп-коп, як курачка, і — аж прысела... Я гляджу ў акно, а ў самога і страх прапаў, ад смеху за жывот хапаюся... Цяпнуў бы я тады гора, але госці былі ў хаце... Пасля яна адышла, але чую, Антонавіч, гэтага яна мне ніколі не даруе. Ворагі да магілы...

— Вясёлы ты чалавек, казладойны чартуляп... Далёка відзіш, а яшчэ далей сваім носам чуеш...— Пугач ціхенька смяяўся, і па шчацэ ў яго цякла сляза.— Зусім закруціў нас сваімі байкамі. Складна ў цябе языком выходзіць, як з кнігі. Толькі, дзе складна, там няпраўда. У жыцці ніколі складна не выходзіць, казларогая судзьбіна...— сказаў ён, устаўшы, і ўзяў з услона чорны апарат з беленькай кнопачкай: — Давай, дзеўка, паглядзім, што ў нас там цяпер. У цябе старая гіпертанія, і ты надта носа не вешай. Ад яе перш толькі і лячылі, што кроў пускалі. П'явачкі ставілі. А дзе тут у нас п'явачкі? А-га! Судзьбіна казларогая...— ён зірнуў на апарат і адразу павесялеў.— Сто пяцьдзесят на дзевяноста пяць... Зусім іншы квас. Значыць, мы яшчэ паддаёмся, баімся магнэзіі, значыць, сасуды ў нас не прапашчыя, будуць качагарыць, судзьбіна казларогая... Толькі б я на тваім месцы, дзеўка, лёг у бальніцу. Пакалоцца трэба. Аддыхнуць ад сваіх цялушак. Мы статім усягды за хворых і рэкамендуем спакой, раім

кідаць работу. Памагае гэта ці не, я не магу сказаць, але, відаць, памагае. Нашы рэцэпты аснованы на практыцы. Вялікія галовы пра гэта думалі, а раз рашылі... Я табе, дзеўка, скажу на вушка: кідай сваю ферму, даўжэй пажывеш. Загадчыка знойдуць маладзейшага, во,— паказаў ён бліскучым фанэндаскопам у праёмінку ў перагародцы, дзе стаяла Таня.— Яны ўсё зробяць. На іх трэба ўсё гэта перагрузіць, што самі мы няслі. Хай прывыкаюць, горбіцца тады не будуць...

— Лёгка сказаць...

— Што, лёгка сказаць? Колькі ты год на ферме?

— З трыццаць восьмага. Як скончыла шасцімесячныя курсы пры Смілавіцкім заатэхнікуме, так і тут. На ферме. «Дыплом»-то ў мяне быў на раённага заатэхніка, а асталася тут, на ферме. Пабаялася, бабай будучы, ісці ў начальства. Ды і сынам сваім першым на тых курсах хадзіла. І Мікалай быў хворы. Можна было і мне, бабе, вочы тады працёрці. Лягчэй, мажа б, было пад старасць на свет глядзець. Хаця, такая вайна наперадзе чакала, хто ведае... Што пра тое гаварыць. Я ўжо, мажа б, і пайшла з фермы. Хадзіла б па сваім двары, далей мне ўжо цяжка адысціся, глядзела б за сваёй Малінай і за Юрачкам... Дык Дзярызямля не пускае. Дабудзь, пакуль ферму новую закончым, просіць. Вот так дзень-адодня гражуся кінуць, і не кідаецца ніяк... Устанеш і ідзеш...

— Казларогая судзьбіна... Скажу Коласу. Ён на Дзярызямлю націсне.

— Ко-олас... Каб ён мне хоць рукі падлячыў... Каб пальцы мякчэйшыя сталі. Пісаць не магу...

— У цябе яшчэ, дзеўка, застарэлы артроз. Масажык, масажык памог бы. У нас на гэта Праскурніч'я спец. Угаварваць я цябе доўга не буду. Мы не дзеці. Галоўнае ў нас — гіпертанія. А ад гэтай пакасці цяпер столькі ўсяго новага, не ведаеш, што і выпісаць. Колас, мажа, і другое што падбярэ, а я, стары чартуляп, люблю старое — дэпрэсін і баначны варатнік. Пакіну табе, дзеўка, парашочкі на першы раз і рэцэпт. Дачка хай падскоча да нас, закажа ў аптэцы. Зробім. Папрынімай дзён дзесяць, знаеш, не першыня. І дачка варатнічок хай так праз дзень палепіць. Рукі маладыя, спрытныя. А калі што — адразу да нас, самі. Не завіце. Што толку? Пакалоцца трэба, аддыхнуць, сэрца падкарміць. Галоднае яно ў цябе, дзеўка, судзьбіна казларогая. Вясковая прывычка гэта — не хацець у бальніцу. На сваім ложку, во — каб памерці... Усё адно ж

ідзем пасля, як прыцісне. А тады — позна. Памагчы не можам. А мы ўсё-такі можам памагчы. Давай, хлапец, збірайся. Заседзеліся.— Пугач акуратненька складаў у партфель чорны апарат і бліскучы фанэндаскоп.— Падчысцілі талеркі і паедзем. Так закусваць — жывоцік вырасце.

— Калі ж да другога чаго не цягне,— Корань пагладзіў рукой сівыя, вожыкам, валасы і паказаў на стол.— Мне, калі есці не хочацца, то ўжо нічога больш і не хочацца. Закусіш як палагаецца, і сядзіш сабе, кругленькі такі, усім давольны. Толькі вочкамі лып-лып... І ўсё гэта ад таго, калі я рабіў фінагентам. Прывык за гэтулькі гадоў. Прыйдзеш — у яе ў каторай ні рубля, а на стол бутэлька ёсць. Ну, маці, жыла і жыць будзеш...

— Не кідаеш ты сваіх конікаў, як бацька, бывала. Я дык твайго бацьку помню. Вот баяў дык баяў... І пеў, і ў танцы ішоў...

— І я малады любіў стукаць нагамі аб падлогу. Калі быў фінагентам — і партфель губляў на танцах. Прыткнеш на падаконніку, каб быў на воку, і забудзешся, што з ім прыходзіў. Але аддавалі назаўтра. Находзілі, дзе начаваў, прыносілі і аддавалі. І ні разу ніхто... Грошы былі цэлыя. Сплыло ўсё, маці. Але сядзіць яшчэ чорт у нагах... Сядзі-іць, маці... Купіў я нядаўна прыёмнік. Маленькі, у руках што носяць. Прыйшоў дамоў, пстрык — уключылася Варшава. Перадавалі полькі. Ды такія... З усёй Польшчы, а можа, і ўсе, якія ёсць на свеце. Як падхапіў мяне дурны вецер... Як прысыпаў я ў хаце... Думаў, маці, заб'юся. Лупіў нагамі аб падлогу... Адзін, Антонавіч, адзін, мая Два метры фанеры не здатная, як чапяла. Эх, маці, маці... Танцы нашы цяпер... І ці даўно ж гэта ўсё было... Нічога, маці, жылі і жыць будзем. І хай Антонавіч глядзіць назад, а мы з табой будзем наперад...

— Заводзь ідзі свайго казларогага, чартуляп. І давай не будзем ужо ў хаце курыць. Пацерпім. А ты, дзеўка, не забывайся на парашочкі. Па тры разы ў дзень. Раніцай бяры нашча. Я падашлю Коласа, як толькі вернецца. Хай сам паглядзіць. І галавой больш круці па баках, не бойся. Шыя трашчыць? Хай трашчыць, абы галава на ёй круцілася...

Яны не згледзелі, як шмыкнуў за парог Корань, пачулі толькі, як засакатаў на двары матацыкл. У хаце адразу запахла едкім і праціўным чадам — пацягнула з двара.

— Папраўляйся, дзеўка, судзьбіна твая казларогая. Парашочкі паклаў на ражок стала, не згарніце...— Пугач, ідучы ў сенцы, стукнуў галавой аб вушак.

На двары доўга трашчаў матацыкл, і бразгалі ў хаце талеркі — Таня збірала са стала.

Пасля на двары азваліся мужчыны; заныў ля сцяны матацыкл, рвучыся на вуліцу, і грукнулі аб сцяну адкінутыя ў сенцах дзверы.

— Паглядзі, дачка, што там...— Алімпіяда пачула, як тоненькай халоднай, што лёд, іголкай кальнула пасярод грудзей трывога.

У хату як усё роўна хто бег.

9

Дзверы — колькі разоў яны бразгаюць за дзень у вясковай хаце! — раптам адчыніліся, і ў парозе вырас усё роўна як з-пад зямлі стары Харбін. Расхрыстаны; кірзавыя боты сівыя ад пылу; шчокі чырвоныя, блішчаць ад поту, галава без кепкі, лысая, белая; пасма сівых валасоў скруцілася ў аборку і, адтапырыўшыся, паднялася ад вуха на лысіну — лезла, як гадзюка на купіну. Яго сінія, як у акне неба, вочы бегалі то па стале, то па лавачцы пад суднікам — сачылі за Танінымі рукамі: яна настаўляла са стала пустыя талеркі — то, утаропіўшыся, глядзелі за шкло ў шафку, куды Таня схінула з воч парожнія шклянкі. Ён стаяў у парозе, як укопаны, бровы сышліся ў пераносіцы, здавалася, ён зараз плюне ад злосці пад ногі і скажа: «І тут спазніўся, маць яго так...» Але ён раптам, перамяніўшыся з твару, сказаў:

— А я думаў, што цябе забралі ў бальніцу, суседка... Хе-хе...

Ён яшчэ хацеў нешта сказаць, але ззаду за ім зноў бразнулі клямкай дзверы і ў хату, як усё роўна ў яго з-пад ног, ускочыў Валерка. Босы, з закасанымі аж за калені калашынамі, у адной майцы на плячах, якая некалі была, мусіць, жоўтая, выцвіла і цяпер чарнела ад поту і пылу, рабацінiстыя шчокі і нос зачырванеліся ад гарачыні, чырвоныя валасы стаялі тырчком, на іх высыпаў буйнымі кроплямі пот і капаў на падлогу пад ногі. Здавалася, што і пот з чырвоных валасоў капае чырвоны, і сама галава ў яго цяпер, як ладны клубок шарсцяных нітак, афарбаваны ў чырвонае. Падскочыўшы да ложка, да яе, Алімпіяды, ён паслізнуўся на падлозе, махнуў га-

лавой — на рукі ёй пасыпаўся пот, густа, як дождж,— і закрычаў, сіпата і суха:

— Быкі-і-і дохнуць!..

Алімпіяда як сядзела высака на ложку, звесіўшы ногі, так і стала адразу на падлогу.

— Дзе? Не крычы, гавары толкам...

Валерка ступіў ад яе — босай нагой на кірзавы бот Харбіну — і зноў загаманіў на ўсю хату, не могучы супакоіцца:

— За Кур'янаўскімі Садамі, на канюшынішчы... З кабіны пыл згледзелі. Як хмара... І быкі равуць... Ратнік там астаўся. А я на машыне па вас... Дохнуць... І ў пыле нічога не відаць...

Яна стаяла ля ложка і чула, як у яе круціцца галава — вот-вот зблажыць — і плыве ціха ўсё ў вачах: дзверы, суднік, акно з зялёным бульбеўнікам у гародзе, стол і Таня на рагу стала. Плыве да дзвярэй, нахіліўшыся ўніз, падлога і дзве нагі адна на адной — Валеркава і старога Харбіна. Яна тады спружылася ўся, не даючыся — яе аж страсанула. Блага адразу прайшла, дзверы здалёку вярнуліся назад, выраўнялася падлога, і на ёй затупалі вялікія кірзавыя боты і маленькія босыя ногі — размінуліся. Пачула, што можа цвёрда стаяць на нагах, што толькі галава цяжкая і баліць недзе глыбака ў вачах — толькі б той бяды. Яна цяпер ужо не думала пра сябе: глядзела ў вочы гэтага босага хлапчаняці — вочы ў яго парабіліся вялікія, круглыя, пачырванелі, набегшы кроўю, і былі спалоханыя. У іх гарэў чырвоным агнём страх — так можа спалохацца толькі жывёла. Такія вочы былі ў яго, калі ваўкі зарэзалі падцёлкаў... Яна падумала, што і сёння ля Кур'янаўскіх Садоў на полі нешта зрабілася. Нікому б другому не дала веры, а яму паверыла: вочы...

— Пайдзём, хлапец...— яна ступіла ў парог і пайшла да дзвярэй; схінуўшыся, яе прапусцілі наперад Валерка з Харбінам.

— Мамка! — закрычала Таня і кінулася ўслед.— Не пушчу!

— Сціхні. Стыдна. Падай мне белую хустку на галаву. Пайшлі, хлапец.

Яна памалу пайшла на двор, за ёй Валерка і Харбін і самая апошняя Таня — варочалася па хустку.

На двары было, як у лазні. Сонца вісела ўжо за ракой над Кур'янаўскімі Садамі — бралася на паўдня і хапала агнём за шчокі, што марозам зімой на зорцы. У цяні пад

хатай ля гародчыка не было чым дыхаць; з лоба на раскапаны курамі пясок пад ногі закапалі буйныя кроплі поту. Падгіналіся калені, яна бралася за частакол і чула тады, як дрыжаць рукі. Падымалася недзе глыбака ўсярэдзіне блага.

У варотах Валерка шмыкнуў наперад, пераскочыў вуліцу, як кот, падняўшы пыл, і на дзядзінцы ля плота, дзе стаяла машына, з разбегу бразнуў дзверцамі. Пакуль яны — Алімпіяда, Таня і стары Харбін — выйшлі на вуліцу да лавачкі, ён пад'ехаў да іх, высунуў уверсе праз дзверцы, дзе было апушчана шкло, галаву і паказваў ёй, Алімпіядзе, каб ішла садзіцца ў кабіну з другога боку.

Яна ішла на той бок машыны, апіраючыся рукой аб адну і аб другую каструбаватыя шкляныя фары, чула, як дыхае на яе густым цяплом з радыятара, што з печы, калі стаіш ля чалесніку, як перасыпаецца пад нагамі сухі гарачы пясок, што прысак, і крычаць, аж разрываецца, пісклявым голасам курчо ў запыленым канаторжніку за плотам.

Наперад забегла Таня — расчырванелася, каса расплятаецца на грудзях, на вачах слёзы:

— Па ржышчы?.. Па каменні?.. Босая-я?.. Па такой гарачыні? Зусім трэба без галавы астацца... Ну што мне рабіць?

Яна тады паглядзела на свае ногі — сухія, чыстыя, пясок перасыпаецца між пальцаў, толькі ступні гарэць спадыспаду, як усё роўна ўзышла на вуголле на вогнішчы, не ўстоіш, і сказала:

— Прынясі, дачка, шлапакі. Бяжым, як на пажар...

Таня ўбегла з вуліцы на двор як да каго чужога, не пазнавала: павяла ўся фасоль ля частакола ад двара — забыліся паліць учора нанач. Фасоль круцілася, паўзла ўгару, пераваліліся з гародчыка на двор, цвіла чырвоным шышкаватым цветам у такую гарачыню, пайшла ў ладныя стручкі, а забыліся паліць — абвяла, як спяклася. Вісела белымі шнурамі на частаколе, толькі чырвоны цвет гарэў на сонцы дробненькімі зярняткамі, як агонь. Таня аж зляканулася: увесь частакол быў голы. І на ім яна раптам згледзела мужчынскія паўбацінкі, брызентавыя, карычневыя, са скуранымі вузкімі насамі — віселі, надзеты кожны на вострую частаколіну. Летась быў у водпуску Міфодзя — купіў хадзіць касіць іржышча і ездзіць у лес па дровы. Абувала іх на ферму маці ўсю вясну, павесіла су-

шыць на частакол, забылася на дзень-два, і іх схавала з воч, разросшыся, фасоль. А думалі, што прапалі.

Брызентавыя Міфодзевы паўбацінкі ўсохлі за лета на частаколе — не ўсунуць азызлую нагу — і рэзалі ў костачках. Белыя, выцвілыя на сонцы доўгія шнуркі Алімпіяда, не зашнуроўваючы, пазатыкала спераду пад адтапыраны брызентавы язык — на адной і на другой назе. Пачула, адгінаючыся, што цурком льецца з твару пот і вядзе галава; згледзела, што едзе — пачало трасці — і ззаду ў кузаве моцна гавораць, відаць, Таня з Харбінам: узлез жа стары, і падсаджваць яго не трэба.

Падвярнула пад грудзі: у машыне востра і едка запахла свежым бензінам, аж зашчыпала ў вочы. Алімпіяда тады адсунулася да дзверцаў. Шкло ў дзверцах было апушчана, і яна, высунуўшы локаць з кабіны, апёрлася, як на дварэ на вароты.

Ля Вайдаў адразу павярнулі да маста. На сваю хату, доўгую, старую, ранейшую калгасную канцылярыю, а да калгасаў — старасвецкую карчму, пра якую ў вёсцы расказвалі цуды-беды — Валерка нават вокам не кінуў — гары яна агнём! Алімпіяда сядзела, апёршыся на дзверцы, і глядзела на Валерку. Успомніла, што першы раз убачыла яго, калі адстрыгала яму ў Волькі ў запечку пупавіну. Пасля, як толькі ён мог скаціцца сам з ложка на падлогу не разбіўшыся, яго першая пачала праклінаць Волька, а пачакаўшы, і ўся вёска. Колькі разоў Волька раўла горкімі слязьмі: «Хай бы тую пупавіну яму каля шыі акруціла...»

Валерка моцна дзяржаў руль сваімі доўгімі худымі рукамі, як усё роўна падпёр яго палачкамі з двух бакоў. Яго выгаралая майка стала мокрая, як вынялі з вады; на шыі і на плячах выступілі дробненькія кропелькі поту, па макавай расінцы, і натапырыліся кароценькія рэдкія белыя валаскі, як у курчаці, якое яшчэ не абсохла, вылупіўшыся з-пад скарлупкі. З чырвонага носа і з кароткіх рыжых валасоў у яго цёк цурчом пот на пазбіваныя, у сухіх струпах, востранькія калені. Сам ён сядзеў увесь гарачы і натапыраны, як шашок, і яна злавіла па тым, як ён памінутне сморгаў носам, што ён баіцца за рулём, баіцца ехаць грэбляй ля глыбокіх канаў, хоць сядзеў ужо за рулём у Ратнікава не адзін раз і ганяў праз грэблю яго машыну, і гружоную і парожнюю, аж пыл курэў. Год назад, калі вярнуўся з арміі Сяржант і ездзіў на матацыкле праз грэблю да экскаватара на Яськава Балота, вёз яго адзін раз Валерка дамоў, пасадзіўшы ззаду. Ехалі ўдвух,

як усё роўна конна на жарабяці. Хто з іх быў п'яны,— відаць, Сяржант, калі сеў за руль Валерка. Ехалі яны грэбляй у вёску вечарам. Выскачылі з туману да маста на віду ўсёй вёскі. Іх многа хто згледзеў: матацыкл пёрся як шалёны, страляў і падымаў за сабой хвост пылу. Агледзеліся пачакаўшы, што іх няма ў вёсцы — ехалі, і няма. Знайшлі матацыкл ужо ў рацэ, у рацэ на мелкім, дзе вада была толькі па костачкі, ляжаў дагары і Сяржант. Валеркі нідзе не было. Аказалася, што яны ўрэзаліся ў пярэчку і цераз яе перакуліліся ў раку. Валерка падумаў, што забіў Сяржанта, і замест таго, каб выцягнуць яго з ракі хаця б на бераг, рвануў логам у канец вёскі, адтуль выйшаў балотам на Вілію, пераплыў яе ўжо ноччу і махнуў аж у Буслава вёрст за трыццаць ад вёскі. Шукалі яго два тыдні і ў рацэ і ў канавах ля маста, па лесе, па вёсках і нідзе не маглі знайсці. Вярнуўся ён сам: паявіўся на новых могілках ля Ячнага — шукаў свежай магілы, дзе пахавалі Сяржанта. Думаў, што забіў таго, і баяўся варочацца ў вёску. Не знайшоўшы свежай магілы, абышоў вёску, як воўк, і з лесу ў тым канцы сачыў за Сяржантавай хатай — Сяржант жыў з самага краю,— пакуль не згледзеў яго на двары. Згледзеўшы жывога, вярнуўся ноччу дамоў, залез у хлеў і зарыўся ў сена. Яго знайшла раніцай Волька — хроп на ўвесь двор...

Калі ён паварочваў у кабіне галаву — глядзеў скоса на яе, нібыта здагадваўся, што яна пра яго думае,— і соп сухенька носам, яна разам з бензінам у густой ліпкай духаце лавіла пах рэдзенькага перагару ад віна: піў разам з шафёрамі такой гарачынёй, ці што?

Не могуць жа, бандзіты, ты скажы... І хлапца за сабой цягнуць... І ці толькі яны. А Волька? П'е і з леспрамгасаўскімі шафёрамі, і з прыезжай са свету Барбарай, а то і ў магазіне ў Ячным ля прылаўка з кім папала. А не — то на ферме з Раманам. Раман яшчэ малады — і сарака няма. Нарабіўся за сваё кароткае жыццё і ў леспрамгасе — рэзчыкам і грузчыкам, і на цаліне; прыехаўшы з цаліны, пайшоў зноў у леспрамгас, а цяпер вярнуўся ў калгас — дамоў, як ён гаворыць. Пайшоў на лёгкую работу, каб рукі адышлі — у пастухі. Дамоў-то вярнуўся чалавек, але скалечаны: п'е. Недзе незадаўга да «ваўкоў» трапіў ён на ферме ў такі пераплёт, што лепш бы, мусіць, каб яго парвалі ваўкі на балоце разам з падцёлкамі... Кароў тады вечарам падаілі хутка, адправілі малакавоз, не прыкапаешся: даяркі сваю работу зрабілі. Але дамоў адразу

ўсе не пайшлі — асталася Волька з Барбарай. У каго там што з сабой было, хто там з баб піў ці не піў — невядома, а Раман — з ног: яму цяпер мала трэба. Пайшлі б сабе бабы ціха дамоў, а Раман праспаўся б, дык не — бабы ёсць бабы, ды яшчэ такія, як Волька і Барбара. Падцягнулі яны Рамана ў кароўніку да самых дзвярэй — дзверы былі расчынены,— паставілі на калені задам да загумення і прыхінулі да шула. Той склаў ручкі ў прыгоршчыкі на зямлі на леташняй рудой саломцы і, прыткнуўшы на іх галаву, захроп. Тады яны, Волька з Барбарай, сцягнулі ў яго штаны і пакінулі яго аднаго, грэшнага і смешнага, безабароннага і бездапаможнага, у расчыненых на загуменне дзвярах. Летам вечары доўгія, было яшчэ светла і ўсё поле на загуменні: бульбеўнік, ячмень, лаза ля дарогі, і лес за полем, і зара на захадзе, дзе нядаўна зайшло сонца, і камары, якія хмарай віселі ля кароўніка, бачылі, як у стрыножанага па сваёй дурной волі чалавека цяляпаецца тое, што людзі спакон веку хаваюць ад людзей... Ды ўрэшце і ад сабак, каб не адарвалі, божа ўпасі... Каб жа толькі чыстае поле і камары відзелі ўсё гэта — Вольку з Барбарай можна не лічыць: з-за смеху і слёз яны нічога не бачылі — відзела ўсё гэта Раманава жонка Галіна. Такім бабам, як Волька і Барбара — усё жыццё без мужыкоў,— пальца ў рот не кладзі... Барбара і паслала Валерку да Рамана дамоў па яго жонку. Валерка яе прывёў — бегла тая, як на пажар, бо бабы навучылі што сказаць, ускочыўшы ў хату... А самі стаялі тады ў свірне, прычыніўшы дзверы, і, прыліпшы да шчэлкі, як камары, глядзелі, як жонка сячэ Рамана канаторжнікам і крапівай, вырваўшы тут жа пад вуглом, па тым самым месцы, якое грэх выстаўляць і ў цемпаце — дзякуй богу, на дварэ шарэла. І каб адна піснула... Покатам кладіся на падлогу са смеху, заціскалі раты рукамі, а маўчалі — ні адна знаку не падала, што яны тут. Добра было б, каб яны надоўга, а то і наўсягды заціснулі раты: хваліцца надта не было чым, але назаўтра ведала ўжо ўся вёска, што рабілася на ферме і што пасля дома ў Рамана, калі яго зацягнула па загуменні дамоў Галіна... Павыдумлялі такога, чаго і чорту ніколі б не прыснілася...

Добра, што Раману не трэба было заўтра раніцай паказвацца на ферме: кароў заняў яго напарнік Харбін. Разам у полі яны рэдка былі: то адзін, то другі. Мяняліся па дню, а то і па тыдню. Цяпер быў свабодны якраз Раманаў тыдзень.

Прыйшоў тады на ферму Раман праз тыдзень: вымыты, паголены, чысценькі, рубашачка новая ў клетачку, пагладжаная — дагледзела жонка; прыёмнічак маленькі ў скураным футлярчыку на цененькім раменьчыку цераз плячо — музыка іграе на ўсю ферму. Заняў кароў і пагнаў. Як нічога не было. Калі яму гаварылі, гігікаў: гі-гі-гі... Смяяўся, як дзіця. Другі памёр бы са стыду, а гэтаму плюй у вочы, а ён будзе гаварыць, што дождж ідзе.

«Людзі багата жывуць, дык і п'юць...— падумала яна.— Волька і ўсе гэтыя Барбары з Раманамі палучаюць па дзве сотні ў месяц. Калі гэта было? Перш у вёсцы думалі пра хлеб і адзежыну і сабе і дзецям. Цяпер добра ведаюць, што і хлеб усягды будзе, і адзежа будзе, і ёсць дзе жыць. І пенсія на старасці будзе: пісьманоска аж у хату прынясе. А больш яму, катораму, нічога не трэба. Нічога не хоча...»

Яна згледзела, як Валерка згортвае даланёй з твару буйныя кроплі поту, што рассыпаныя брусніцы са стала на падлогу, і выцірае руку аб заношаную маечку на грудзях, і зноў падумала:

«Што-што, а новую маечку і штонікі Волька магла хлапцу купіць... Чалавек забываецца на ўсё і апускаецца. Забываецца, што другі чалавек у хаце расце. Ён мог бы і іншымі вачыма на свет глядзець, чымся мы глядзелі і глядзім, толькі трэба яму паказаць, як гэта робіцца. Самім не было нядаўна чаго адзець, дык вайна была. А што ж хлапца глядзець, як у вайну?..»

Пачало падкідаць на калдобах. Грэбля то падымалася ўперадзе ўгару, то зноў валілася некуды ў яму. Глыбака ў канавах паабапал яе бліпічэла на дне вада нейкім гарачым бляскам і воддаль за імі, дзе была пасаджана на асушаным балоце бручка-кузіка, махалі крыллем белыя гусі. І ўсё гэта круцілася і плыло недзе ў канец вёскі. Яна тады пачала глядзець з кабіны ўперад, пад прыпаднятае брыльком пярэдняе шкло, на якое паналіпала ў ражках асця ад ячменю і з-пад якога гнала вецер, што ў хату з расчыненага акна.

У канцы грэблі ўперадзе за мастком дарога была заслана густым пылам, і яна згледзела, як з пылу выскачыў парожні леспрамгасаўскі «прычэп»: пёрся з гары насустрач, як рагаты лось у лесе з пажару — з дыму. Грэбля ля мастка была вузенькая: вада, сцякаючы з яе вясной і летам у дажджы, зносіла пасыпаны жвір, у канавах з бакоў вымываўся сухі белы сіпак, а перасохшы, дробненькі,

як мука, мяккі і слізкі, сам сцякаў зверху маленькімі ручайкамі. Дарога вузела, нібы яе падгрызалі з двух бакоў, білася ў ямы і ападала: у дажджы каля яе ўсягды круціліся, як скурат на агні, леспрамгасаўскія дарожніцы. Шафёры добра ведалі гэта месца.

Сягоння ў «прычэпе» сядзеў нехта чужы, ці што? Нават не прытармазіўшы, цягнучы за сабой густую хмару пылу і засцілаючы свет, «прычэп», бразгаючы жалезам — чуваць было аж у кабіне,— ускочыў на масток, як сабака ў вузкую вулачку, за якім гналася цэлая гайня, віхлянуў па гэты край мастка ўбок, як толькі цяпер шафёр згледзеў, што наперадзе перад ім вузкая палоска дарогі з абрывамі з двух бакоў і перад самым носам машына, за рулём у якой дзіця! Згледзеўшы, у адну якую долю секунды рашыў, што тармазіць позна — паляціць у канаву, што ўратаваць можа толькі скорасць і яшчэ цуд! — кінуў раптам машыну ўправа на самы край дарогі, здавалася, паклаў набок над самым абрывам і знік з вачэй. Алімпіяда паспела згледзець толькі струкаватую галаву ў кабіне і прычэп, які падскочыў угару і, нахіліўшыся, папоўз уніз у канаву, цягнучы за сабой сухую чорную зямлю. Забразгала збоку жалеза, і закрычала ў кузаве Таня. Калі яна пасля пачула, што стаіць машына, і агледзелася — убачыла, што грэблю мінулі і з'ехалі з дарогі на лог. Валерка, адкінуўшы дзверцы, учапіўся ў дзве рукі за руль, валасы ў яго пасталі на галаве, натапырыліся, як усё роўна падраслі за гэты міг, абношаная майка прыліпла да цела, і пад ёй былі знаць дробненькія скабы. Павярнуў да яе галаву, белы як смерць. У кабіну хлынуў пыл, руды ад торфу. Валерка паклаў галаву на руль, закашляўся, тады выкуліўся, як мячык, з кабіны на траву на лог: яго пачало рваць.

Ён падымаўся ў кабіну, учапіўшыся рукамі за дзверы, зялёны, як трава; яна падала яму руку, але ён ухапіўся адразу за руль. Яна падумала: ён і сам яшчэ зялёны, дзіця, і рваць яго пачало з пуду: мог сёння галавой налажыць, бо сядзеў у кабіне Ратнікавай машыны, якую здалёку пазнаў Фірага. Зяці-і... Даброй гэта не мінецца.

Было ціха — яна не пачула, калі заглох матор. Звінела ў галаве, бразгаў Фірагаў «прычэп» на грэблі ля вёскі і ключ у кабіне пад нагамі ў Валеркі; збоку ля дарогі, якая вяла ад мастка логам да Кур'янаўскіх Садоў, у запыленай рудой траве на такой шалёнай гарачыні сакаталі, аж заходзіліся конікі...

Валерка павярнуў да яе галаву і дробненька ўсміхнуўся: жывы... Ёй зрабілася раптам горача ўсёй: «загарэлася сажа» ў іх у адных у коміне, а магло выкаціць пажарам увесь канец вёскі.

Сажа загарэлася вясной, калі праз вёску пачаў ездзіць струкаваты Фірага на леспрамгасаўскім «прычэпе». Таня з вясны і зрабілася злосная, перш з ёй гэтага не было. Стала добра відаць, што яна па характару пасачыла бацьку, Мікалая. Вырасла, пасталела і пачала рабіцца падобнай больш на яго: круглы лоб, бровы густым сярпом і складка на пераносіцы... Нават носам сапе, як ён, калі злуе. А злуе яна цяпер памінутна: і на работу едучы і п работы дамоў вярнуўшыся. Схопіцца ў канцылярыі з Дзярызямлёй ці з Джанікам — дома вечарам крыку на ўсю хату: даказвае справядлівасць, слухай толькі; упэцкае аб ланцужок беленькія туфелькі — ляцяць гэтыя туфелькі дома з ног аж пад стол у другую палавіну хаты; сядзе вечарам на маленькім зэдліку на двары ля паркана пад юргіняй даіць Маліну, палуча хвастом па носе — крыку на ўвесь двор... А то і вядро ляціць на дрывотню ў трасочнік... Калючая, не падыдзі, не зачапі... Усё з фокусамі: падгорне да гаршкоў у печы жар качаргой і як паставіць качаргу ля парога ў качарэжнік — аж печ, здаецца, падскочыць угару. Зачыніць дзверы — дык, калі і памёр, прачнешся... Памые пасуду пасля яды, спяшаючыся раніцай на работу, цэлы дзень бразгат стаіць у вушах, як усё роўна трактар ля вуглоў пратарахцеў... І ўсё — маўчы, не патыкайся: сячэ языком, маці ты ці не маці, хворая ты ці не хворая, гадавала ты яе ці не гадавала,— усё гэта як за плот. Гаворыш ёй, што ўсё роўна плюеш на гарачую патэльню: шыпіць і пырскае. А пасля плача горкімі слязьмі і не суцішыш... «Уж замуж невтерпеж...» — сказаў раз Дзярызямля. Бог з ім, ішла б ужо скарэй. Выгналі б два разы самагонкі і... Дык не. Аніна́дух... Гоніць Ратнікава з хаты, як сабаку: пайшоў вон! Што там між імі прабегла — у цяперашніх дзяцей цяперашнім часам па вачах не пазнаеш, а сказаць, як некалі дзеці гаварылі бацькам, не скажуць. І не спытаюцца. Цяперашні свет такі: не трэба ўжо, каб выціралі зад, сам выцер, пералез цераз парог, не трэба падсаджваць — ужо ўсё! І не гавары і не вучы. Сам. А то — і на дарозе не стой. І горш за ўсё: ты яшчэ ва ўсім вінаваты. Вісіць на табе гэта віна і днём і ноччу. І носіш ты яе, віну гэту, як камень на плячах, як горб, і, відаць, ужо не скінеш з сябе, пакуль цябе не вынесуць з

хаты нагамі ўперад. І не ў тым ты вінаваты, што на свет нарадзіў яго каторага — да гэтага, дзякуй богу, яшчэ не дайшло,— а ў тым, што, выгадаваўшы, «завязаў свет»: пакінуў дома, ля сябе. Колькі ўжо разоў яна, Алімпіяда, праклінала і сваю хваробу і сябе разам з ёй; колькі разоў плакала, шкадуючы дачку, але жывой у пятлю не палезеш, ды і рук ужо балючых не падымеш уверх, каб і захацеў перакінуць вяроўку праз бэльку. Трэба жыць. І вяселле трэба будзе рабіць. Толькі невядома, хто будзе сядзець за сталом на куце — Ратнікаў ці, можа, Струкаватая галава. І дзяўчына, відаць, яшчэ добра не ведае, вот і круціць імі. Ды і ў «зяцёў» яшчэ вецер у галаве, калі кідаюцца адзін на аднаго з машынамі... Перш дык у вёсках такое рашалі кулакамі, за частаколіны хапаліся, платы ламалі, а цяпер з машынамі адзін на аднаго. І не ўступішся, не развядзеш. Перш такога смаркача добры мужчына сціснуў бы адной рукой, спусціў бы яму штаны і адхвастаў бы дзягай па белым месце, каб аж чорнае стала — дзесятаму б заказаў. А цяпер дык і мужчын такіх у вёсцы няма...

Наперадзе было відаць жоўтае ячнае поле, за якім паказаўся востры сухі верх маяка з-пад Краснаволля. Дарога, павярнуўшы ўлева, пайшла някошаным логам. Над густымі белымі грывамі сіўцу ля дарогі мітусіліся белыя матылькі, слепячы вочы; з логу густа запахла цёплым балотам — мохам і рабінкай, пасля дыхнула сухім ячменем, як некалі пасля вайны з бляхі ў печы, дзе яго сушылі за засланкай, каб змалоць у жорнах: зноў выскачылі на поле, на гару. Маяк вырас на ўсё белае ад сонца неба, і за ім паказаліся далёкія хаты ў Краснаволлі.

Ехалі праз Кур'янаўскія Сады. Падняўшыся з лажка на горку, пакінулі злева доўгую шырокую пуню, крытую белым шыферам і расчыненую насцеж — ля дзвярэй чырвоная куча ўгнаення,— і ўехалі пад старыя, шэрыя ў камлях густыя ліпы, як пад страху. Кур'янаўскія Сады вымерзлі ў саракавым годзе — адзін і другі,— асталіся толькі ліпы. Ліпы — прысады — стаялі з двух бакоў дарогі, разрасліся, далі цень і вільготны нават у такую гарачыню шэры мрок. Пад ліпамі буяла не кранутая гарачынёй густая, вышэй калена зялёная трава — сіні зайцаў гарошак, чырвоная састарэлая канюшына і спалавелая мятліца — лажок і Сады ўсягды дзялілі «на працэнты», і іх яшчэ толькі пасля жніва кране каса.

Збоку ля дарогі, дзе некалі стаялі будынкі, забялелася

ў траве вялікае каменне — у рад: фундамент; над каменнем апусціліся разгатыя «загранічныя ягады» — ірга; у кабіне, збіваючы смурод ад гумы і бензіну, запахла спелым кмінам, як усё роўна растоўчаным дома ў маленькай ступцы. З ціхага мораку Садоў заўсёды патыхала даўнінай, нечым далёкім, чутым ад сваёй маці і ад бабкі, калі тут, на хутарах, на беднай пясчанай зямлі, жылі Кур'яновічы, Таразэвічы, Родзевічы, Ляшковічы, калі яшчэ за царом хаваліся ў Кур'янаўскіх пунях параненыя паўстанцы...

З калгасамі Кур'янаўшчына адышла пад Крамянец, і на полі ад Садоў пад самае Краснаволле сеялі жыта, ячмень, авёс, пшаніцу. Жалі ўсягды ў Кур'янаўшчыне якраз у такую пару — самай гарачынёй. Над полем у жніво ўсягды стаяла чыстае, як сёлета, неба і паліла сонца. Трэскалася пад нагамі на ржышчы зямля, асыпаліся пераспелыя каткі — не даткніся; пакуль скруціш у сноп перавеслам зжаты сярпом ячмень, пакрышыцца на пыл асцё. Жаць жыта было весялей: на ўгноеным падзоле яно выганяла ў рост мужчыны, стаяла і ў дажджы, і ў гарачыню цвёрда на нагах, хаваючы на зямлі ад засухі сінія васількі, белую дзяцельніцу і дробны зайцаў гарошак з дурнап'янам. На поле жнеі з усяго Крамянца прыходзілі з пазном, калі ўжо абсыхала раса, рассыпаліся дарогай і займалі загоны ад Садоў, пастаўляўшы ў барозны «палудні» і гліняныя жбанкі з халоднай вадой са студні і панакрываўшы іх знятымі з плячэй нажуткамі. Пасля ўжо, калі, гамонячы на ўсё поле ядранымі свежымі галасамі, аджыналіся навыперадкі адна перад адной ад дарогі і зносілі снапы ў мэдлікі,— пераносілі і «палудні» і глячкі з вадой і ставілі ў мэдлік, пад снапы ў цень. Паскідаўшы з сябе ўсё верхняе і застаўшыся ў адных сподніх раскошных белых палатняных кашулях, плявалі на рукі; згіналіся на загонах у крук і махалі сярпамі, зразаючы разам з жытам сінія галоўкі перастоеных васількоў, цененькія дзюбкі дурнап'яну і шэранькія пупышачкі кунатых каткоў, якія рассыпáліся адразу па ржышчы і ўтоптваліся нагамі ў зямлю — сеяліся...

Цячэ з твару пот, капае, як дождж, на рукі і на серп; пыліць зрэзаная сухая гавыла і лезе ў нос, у вочы, пад пахі, хоць ты стой і церабіся, сохнуць вусны, язык, сохне аж у горле, і памінутне хочацца піць — выпіла б нагібам адразу ўвесь жбанок, што яго хаваць пад снапамі; спірае грудзі духата, адагнешся ад зямлі, нібыта падымешся пад

столь у лазні, дыхаеш з сябе, як забегаўшыся; сціскае ў плячах, не прайшло яшчэ пасля ўчарашняга, ные паясніца і ногі ў каленях, увесь час цягне разагнуць у лакцях рукі, выпрастацца, выцягнуцца прутам. Свярбяць, аж гараць агнём, пастрэпаныя аб іржышча голыя лыткі — трэба было схаваць іх у рваныя панчохі,— і ўвесь час баішся зачапіцца нагой за скручаную ў баразне ў тры ніткі, як павіваную, падбярозку, каб не спатыкнуцца, не паляцець носам у сухое, калючае, усыпанае рудзікам іржышча, і махаеш, махаеш без аддухі рукамі, ловячы жменяй па поўніцы жыта і адкідаючы яго назад цераз плячо на зямлю на загон — складаеш у сноп. Махаюць рукамі, як куры на плоце крыллямі, беручыся ў лёт, бабы на загонах і шваргочуць, не сціхаючы ні на мінуту, як усё роўна цячэ рака...

Намарыўшыся да паўдня, калі сонца з Асаўка паверне на Ячнае, спаліўшы нанава пасля ўчарашняга скуру на лобе і на руках, натрудзіўшы паясніцу, што не адагнуцца ад баразны, паклаўшы серп на плячо, чуць цягнеш ногі па ржышчы і валішся, як куль, пад самы большы мэдлік у чырвоны рудзік і сівыя каткі. Чуеш, як б'ецца сэрца, звініць у вушах і стракочуць над вухам конікі, а пад табой гарачая зямля, і зверху цябе, распластаную, паліць, як агнём з печы, сонца, і соваеш галаву ў мэдлік, у калючыя снапы, як свіння ў плот, каб хоць вочы адплюшчыць у цяні.

Аддыхаўшыся і прывыкшы да конікаў, чуеш, як недзе за Асаўком ракоча трактар і ляскочуць на грэблі па калдобінах калёсы — мужчыны з вёскі едуць па снапы. Пасля чуваць з-пад Асаўка песня. Услухаўшыся, можна пазнаць Крыстыну з Настуляй і Зенку з таго канца. Уходу няма — такой гарачынёй пецъ. Пелі яны, усе бабы з вёскі, жнучы, усягды, калі было пахмурна, калі над Кур'янаўшчынай нізка віселі шэрыя хмары, ад якіх рабілася на вялікім полі адзінока і нудна, хоць грудзі разрывай... Пелі захадам сонца, калі яно, чырвонае, апускалася ў туман за Ячным, а яны, грумадой, пачапляўшы сярпы на плячо, ішлі дамоў з поля ўсёй вёскай.

Пяюць бабы ў Асаўку, відаць, пасеўшы палудняваць... Тады цягнешся натруджанай, цяжкай, здзервянелай рукой — здаецца, па ёй недзе пад скурай бегаюць дробненькія калючыя мурашкі — глыбей у мэдлік па лазовую карзінку з палуднем. Устаеш на калені, з іржышча ад сярпа, вышараванага аб салому, сячэ па вачах калючае сонца...

Падымаеш серп і вешаеш высака над галавой — аж на перавесла на верхні сноп над мэдлікам. У карзінцы блішчыць рудым паліваным бокам глячок з вадой, абвязаны зверху белай хусткай, на якую намалацілася жытніх зярнят, асця і насыпалася, як маку, дробненькага рудзіку, і ляжыць новая палатняная торбачка з палуднем, якую сёння раніцай адумысла выняла з куфра. З торбачкі пахне, аж падціскае галодны жывот, маласольнымі агуркамі — адны суткі паляжалі толькі ў расоле ў дзежачцы — і свежаспечаным хлебам... Але хапаешся адразу за глячок у дзве рукі, зрываеш з яго хустку — жытнія зярняты пырскаюць у ваду,— цягнеш з карзінкі халодны, абсыпаны зверху дробненькімі кропелькамі расы, і падносіш да губ. Сухі, патрэсканы ад смагі язык адразу пазнае ваду са сваёй студні: халодную, мяккую, прэсную, з пахам клёну ад новага зруба... Ваду са сваёй студні пазнала б, здаецца, на краі свету... П'еш яе, аж пакуль не зойме дыхаць; адарваўшыся ад глячка, чуеш, як коле ў зубы — вада і не падумала злецiцца такой гарачынёй,— як робіцца адразу лёгка ўсёй і свежа. Перадыхнуўшы, зноў цэдзіш і цэдзіш праз зубы, забыўшыся, што вада ўся, апошняя, што да вечара далёка і цябе будзе сушыць яшчэ, як у печы на блясе, што ты будзеш рада расінцы, а з вёскі ніхто не прывязе вады ў бочцы, заткнутай драўляным калочкам... З вёскі на поле ваду возяць толькі да трактара. І калі за Асавок да трактара не будуць сёння вязці ваду, бабы пабягуць тады аж на грэблю ў крыніцы...

Вада ў глячку астаецца толькі на дне. Спахапіўшыся, круціш глячком, надзяеш на яго скарэй зверху каўпак з белай хусткі і хаваеш у карзінку, як усё роўна дома кавалак сала з самай вясны на касьбу — і ад сябе, і ад дзяцей, і ад мышэй...

Новая торбачка пахне маласольнымі агуркамі... І ўсё ў ёй пахне агуркамі: і адкроены ад буханкі бачок свежаспечанага патрэсканага зверху хлеба; і жоўценькае масла ў шклянцы, абвязанай капусным лістом; і цененькі шырокі, як на аладку, чырвоненькі ў белыя палоскі круглы скрылёк паляндвічкі, адрэзаны раніцай на гары на шастку — лазіў адразаць Мікалай; нават малако ў бутэльцы, злечанае ад гарачыні, пахне агурком. У руцэ толькі маленькі кавалачак разрэзанага ўдоўж агурка, а пахне ўсім летнім гародам пад раку: чуваць кроп, кмін, чуваць пах цыбулі з град, морквы, капусты... Здаецца, бачыш, як над качанамі мітусяцца белыя матылькі, гараць жоўтым цветам

агуркі і над ім звіняць пчолы; як у гародчыку кратаецца ад ветру вішняк, якога наламалі і паклалі з агуркамі ў дзежачку... Разам з агурком і дом твой, і двор твой з табой на полі... А само поле пахне нагрэтай зямлёй, жытам, рудзікам, горкім дурнап'янам і чорствым бярозавым лісцем здалёку з Асаўка... Калі вецер заходзіць з лагоў, чуваць яшчэ, як пахне сенам і перастоенай канюшынай; ад дарогі патыхае пылам, дзёгцем і лубінам, а калі зноў мяняецца вецер, з-за Кур'янаўскіх Садоў, дзе белае ад цвету поле, паволі пачынае плысці пах грэчкі... Дыхаеш на ўсе грудзі, п'янееш, чуеш, як падкошваюцца ногі і вянуць натруджаныя ў сярпе рукі, і падаеш, шчаслівая, плашмя на зямлю, кладзешся крыжам і ляжыш, распластаная, каб перадыхнуць, набрацца нанава сілы пасля агурка і хлеба з малаком.

Пячэ сонца, трашчыць, падымаючыся, тоўстае жытняе прытаптанае ржышча, стракочуць ля вуха конікі, лапоча за Асаўком трактар, пасля ўсё мякка і ціха знікае з зямлі... Хаваецца з воч кавалак гарачага, белага ад сонца неба...

На лоб падае халодная кропля, аж падскокваеш. Адплюшчваеш вочы, хочаш падхапіцца з зямлі, але не дае разамлелае цяжкое цела. Бачыш угары над сабой бліскучую бутэльку і нейчую руку, якая дзержыць яе, перавярнуўшы ўверх дном. На шыю, на шчокі капаюць дробныя кроплі, як усё роўна дома на двары з падстрэшка ў вялікі дождж. Падымаешся, падымаешся з зямлі, каб устаць, звіваешся, як вуж, і тады з цябе пачынаюць смяяцца бабы, моцна, на ўсю Кур'янаўшчыну. Стаяць круга цябе з сярпамі на плячах, за жываты хапаюцца, а над табой Крыстыніна рука, і ў руцэ твая парожняя бутэлька з-пад малака... Бутэлька блішчыць на сонцы, блішчыць серп у Крыстыны на плячы, блішчаць яе ўстаўныя сярэбраныя зубы, блішчыць усё поле, белае ад сонца, як зімой ад снегу. Суха ў роце, патрэскаўся язык, не можаш павярнуць, хочацца піць; асцяжэлі ногі, не чуеш паясніцы, як здзервянела, напінаешся, напінаешся і не можаш устаць. Цябе бяруць і падымаюць з зямлі чужыя рукі, ставяць на ногі і падаюць з мэдліка серп. Не можаш сціснуць пальцамі за ручку, і чужыя рукі вешаюць яго табе на плячо... Пасля бяруць цябе пад пахі і вядуць у грумадзе па калючым іржышчы пад Асавок, дзе стаіць твой паджаты ад дарогі загон, дзе трэба зноў згінацца і махаць рукамі аж да вечара, а ты не можаш іх падняць угару.

Усхадзіўся вецер, зайшоў з Асаўка, горача і суха сячэ ў твар, трэскаюцца вусны, ніяк не змочыш іх языком... Ляскочуць пад Кур'янаўскімі Садамі па полі калёсы — прыехалі мужчыны, рассыпаліся па загонах і накладаюць сухія снапы.

Бабы грумадой падводзяць цябе да паджатага загона, разыходзяцца і згінаюцца над сярпамі. Аціхлі — ні песні, ні гоману, укліняюцца толькі ў жыта адна перад адной, махаючы рукамі — як белыя гусі дабеглі да шкоды і, сцябаючы крыллем, лезуць, спяшаючыся, у густыя загоны, прыгінаючы дзюбамі да зямлі каласы...

Абжаты з двух бакоў твой загон пакінулі ззаду; наперадзе, як праз хату, круцяць перавеслы, адагнуўшыся ад зямлі, Крыстына з Зенкай. А тут — адубела рука, набухлі на пальцах пупышкі, і бярэш ёй, здранцвелай, серп за слізкую ручку, знімаеш з пляча і сціскаеш у пальцах, сціснуўшы зубы. Згінаешся, закладаеш у жыта, хапаешся другой рукой за сцябліны і стаіш, дзержачыся за жыта, каб не паляцець носам у баразну — у рудзік і каменне: рэжа ў паясніцы, хоць крычы. Каб адна — не прайшла б ужо і пядзі па загоне, але наперадзе шапоча пад сярпамі і крааецца жыта, «белыя гусі» далёка ўжо махаюць крылламі, забягаючы адна адной наперад, і ты, хай хоць трыма нажамі рэжуць паясніцу, зноў сціскаеш зубы і зразаеш адну жменю, другую, адгінаешся, стогнучы, ад зямлі і, спяшаючыся — сталі адыходзіць пальцы, самі бегаюць па сцяблінах,— пачынаеш круціць доўгае тугое перавесла. Кладзеш яго ля сябе збоку на ржышча і, не адгінаючыся, ідзеш з сярпом праз гарбаты камяністы загон ад баразны да баразны, кладзеш роўна, адна на адну, жмені на перавесла. Адышлі пальцы, памякчэлі пупышкі, аціхла паясніца, палягчэла дыхаць, і зноў махаеш і махаеш рукамі, як раніцай, і яны ўжо ў цябе не рукі, а крылле, як у белых гусей, бо рукі ніколі б такога не вытрымалі...

Карацее хвост на загоне: даганяеш пярэдніх; крышыцца на патруху перастоенае асцё, не даткніся; з коласа пырскае на твар і пад ногі ў каткі і чырвоны рудзік зерне. Зноў гарадь на сонцы рукі, гарачынёй дыхае ад зямлі з-пад ног, як у лазні ад печы з камення. На языку што ўсё роўна асцё, і зноў — смага, ад яе аж солана ў роце; пацёк пот, горкі ад пылу, выядае вочы, як дым... І калі ўжо здаецца, што Асавок уперадзе адышоўся на край зямлі, што да яго, сагнуўшыся, ніколі не дойдзеш, упадзеш ад смагі і гарачыні на сухое каменне на загоне і ўжо не ўстанеш, спера-

ду з Асаўка налятае вецер, і на шыю, на спіну, на рукі, на серп, на ржышча раптам падаюць буйныя кроплі дажджу... Ад іх на загоне адразу пачынае цямнець белае каменне і мокра блішчэць на сонцы... Аціхае раптам вецер, і дождж лупіць рэдкімі спорнымі кроплямі, нават чуваць, як пад імі шапоча, кратаючы каласамі, жыта на загоне...

Замітусіліся жнеі, перабягаюць цераз барозны адна да адной, крычаць на ўсё поле, задзіраюць угару галовы, ловяць дождж прыгоршчамі і падносяць іх да губ...

Падымаеш галаву і глядзіш, дзівячыся, у неба. Дождж, цёплы і прэсны, сцёбае па вачах, па носе, па сасмяглых губах... Прыплюшчыўшыся, бачыш угары, і не над галавой, а над Асаўком высака ў небе круглае жоўтае воблака з бурым беражком, з-пад якога звіслі цёмныя пісягі...

Сляпы дождж — яго ў вёсцы завуць цыганскім,— ад яго шалеюць усягды дзеці, пускаючыся навыперадкі з вуліцы на лог на злом галавы, ад яго хочацца цяпер і самой, задраўшы падол, пусціцца па мокрым іржышчы і катках пад Кур'янаўскія Сады, крыкнуўшы: «Даганяй, бабы-ы!..»

А дождж лупіць... Пацямнелі, апусціўшы вушы, каткі; зачырванеўся ў барознах рудзік; зажаўцелася на загоне ў жыце свірэпка; бліснулі бляклым, выцвілым сінім агнём дробненькія васількі. На каласах, на асці, павіслі буйныя кроплі расы, заблішчэўшы на сонцы, як шкло. У Асаўку загрымеў гром, як усё роўна там што з трэскам упала на зямлю, і над жытам, якраз над яе загонам, блізка, рукой, здаецца, дастанеш, загарэлася радуга — кароценькая, крутая, белая з сіне-чырвоным агнём — і разанула па вачах...

...Ударылі раптам нечым жалезным зверху па кабіне, і ў кузаве загаманіў стары Харбін. На рукі з лоба пасыпаўся халодны пот. Пад Асаўком у ячмені заблішчэла на сонцы шкло, сцебануўшы па вачах — паказаўся чырвоны камбайн, як стары падасінавік ля бярэзніку. Здаецца, перасохла ўсё ўсярэдзіне ад смагі. Выскачыць бы з кабіны на поле, пабегчы па ржышчы да жытніх мэдлікаў, дастаць з карзінкі жбанок з вадой, здзьмухнуць зверху нацярушанае асцё і каткі і піць, пакуль не набягуць з загонаў бабы і не вырвуць жбанок з рук...

Эх, бабы, бабы... Не збяромся мы ўжо тут на загонах з сярпамі... Сплыло ўсё тое з поля і выгарала за нашы гады на сонцы...

Зноў застукалі зверху па кабіне, глуха, кулаком. Ва-

лерка на ходу піхнуў дзверцы і, падняўшыся на ногі і дзержачыся рукой за руль, высунуў галаву з кабіны:

— Што малоціш па галаве? Дзярызямля? Ля могілак? То хрэн дагоніць...— Валерка бразнуў дзверцамі, плюхнуўся на сядзенне і націснуў босай нагой на газ. Яго адразу шматанула да дзверцаў, і ён учапіўся дзвюма рукамі за руль. Машыну пачало кідаць па калдобах; худы, падгалісты, бы малады згаладалы ваўчок, ён быў лёгкі, і яго, як мячык, кідала па кабіне, атрасаючы пот, што ваду з мокрага шчаняці, і выкалачваючы кволую яшчэ душу з-за дробненькіх вострапькіх скаб...

Яна паклала яму на плячо руку.

Мінулі Кур'янаўскія Сады; ячмень, астаўшыся справа, пайшоў жоўтым краем далёка пад Асавок. За садамі і за ячменем ляжала роўнае, чыстае, вялікае як скінуць вокам поле. Над ім сіне-белым крылом, як выцвілы позні сон, павісла празрыстае ад гарачыні чыстае неба. Толькі ўперадзе, там, дзе бялелася стрэхамі Краснаволле і стаяў на адным месцы, дражнячыся, маяк, жаўцелі на гарызонце цяжкія жоўтыя воблакі, цягнучыся градой, як горы, на ўсход, дзе за асушаным Яськавым Балотам сінела ў дыме выгнутая паласа лесу — Ямскае, старыя партызанскія лагеры. Каторы ўжо дзень раніцай і вечарам бурыя, днём жоўтыя, цяжкія воблакі віселі толькі на гарызонце і сплывалі за Яськава Балота, не могучы, здавалася, падняцца вышэй на неба — ацяжэлі ад граду, які, гаварылі, ішоў з ліўнямі кожны дзень недзе ў людзей: за Плешчаніцамі, на Віліі і на Дзвінасе.

Ля разрытай у асушку глыбокай канавы павярнулі полем на маяк. Поле — канюшынішча,— на якім сяк-так згарусцілі першы ўкос, было чыстае, рудое, рэдка дзе ля дарогі зелянелі латочынкі дробненькай канюшыны, як зайцавай капусты. За канавай на асушаным балоце жаўцеў ячмень.

На рудым канюшынішчы былі ўжо відаць калгасныя падцёлкі — кучкай. Зарыкала карова — працяжна і жаласна, са плачом, як на бойні. Алімпіяда паглядзела з трывогай на Валерку: дзе гэта? Але той толькі круціў сваёй чырвонай, распаранай, як у лазні, галавой і націскаў босай нагой на газ. Машына, здавалася, вылазіць з сябе, ныючы густа і трывожна, як правады ў гародзе на слупах зімой у маразы. А маяк усё стаяў на месцы, не бліжэў; выскачыла толькі на дарогу перад ім ліпа і пабегла насустрач. Ліпа па дарозе ў Краснаволле была старая, ніхто

не ведаў, колькі ёй гадоў: помнілі яе і дзяды і прадзеды. Стаяла яна ў чыстым полі на самым высокім месцы і была відаць здалёку. Разраслася — мужчыны ўдвух не маглі абхапіць яе ў камлі рукамі, высокая — даганяла маяк, з разложыстай, цяжкай, як стог мурагу на лузе, кронай, яна заўсёды сурова шумела на полі пад ветрам. Нічым не прыкрытая ні зімой ні летам, яна, здавалася, падстаўляючы сябе, сама бараніла ад суровых вятроў увесь гэты край краснавольскай зямлі. Высахлая і струхнелая ад гадоў усярэдзіне, яна трэснула ў камлі недзе пасля вайны, выставіўшы людзям дупло, і тыя — пастухі, ці што? — падпалілі яго, наклаўшы дроў. Дупло выгарала, цяпер у яго мог схавацца ад дажджу і ад ветру бацька з сынам, пагнаўшы ў поле скаціну. Спачатку баяліся, што ліпа можа рухнуць пад ветрам, і яе абыходзілі полем. Але яна, збавіўшыся агнём ад гнілі, схавала пасля пад зялёнай карой чорныя сляды агню і ўжо два дзесяткі гадоў глуха стагнала пад ветрам на дарозе, як і два, а можа, і больш вякоў дагэтуль...

Валерка з'ехаў з дарогі і ткнуўся радыятарам у ліпу, у дупло, выгнаўшы адтуль дзікага белага голуба, які залапатаў крыллямі і знік у гарачым небе. Адкінуўшы дзверцы, Валерка скокнуў на зямлю і, чуваць было, адразу памагаў старому Харбіну злазіць з машыны. Падбегла да кабіны Таня, адчыніла дзверцы і выставіла рукі. Ступіўшы на зямлю, Алімпіяда пачула, як паплыла адразу пад Краснаволле дарога разам з ліпай. Яна апёрлася Тані на плячо, выцерла рукавом нажуткі пот з твару, папраўіла на галаве хустку, насунуўшы на лоб, як старая баба:

— Чаго мы тут пасталі? Ляцелі як на пажар...

Наперад ёй забег Валерка і паказаў рукой пад сухі лазовы куст з крушняй камення воддаль ад ліпы. Усе пайшлі за ім.

Яна адразу здагадалася: Валерка хоць і малы, але хітры і чалавек будзе злосны — вёў не да быкоў, якіх спяшаліся ратаваць, а да Рамана, які, яна згледзела здалёку, ляжаў ля крушні шэрага камення. Валерка вёў паказаць начальству, які ў іх работнік: паглядзіце, калі ні разу не відзелі... Яму калолася ў босыя ногі па сухіх вострых дудках скошанай канюшыны, ён падымаў іх высака, як бацян на балоце, але вёў.

Крушня камення была каля расцягнутай ад дарогі далёка на поле жалезнай рамы сапсаванай з вясны палівачнай машыны, якой не маглі нахваліцца летась, калі пасля

яе дожджыку канюшынішча касілі аж тры разы. Гэтай вясной у машыне нешта перакасіла, нешта пасыпалася, а дзе тое «нешта» дастанеш? На палівачку махнулі рукой, яна неяк адразу парудзела ад іржы, па ёй пачалі каркаць вароны, да яе пацягнуліся дзеці з усяго Краснаволля — бразгаць і адкручваць што каму трэба і не трэба.

Раман ляжаў ніц, распластаўшыся на калючым канюшынішчы галавой да крушні, дзе яшчэ нядаўна быў цень. Раскінуў свае доўгія ногі аж пад раму палівачнай машыны. Рот у яго быў шырока адкрыты, шчокі і лоб зачырванеліся, як ад агню, і на іх стаяў пот буйнымі кроплямі, па гарошыне. Чырвоная ў ладную клетку рубашка выехала са штаноў, агаліўшы падпаленую на сонцы паясніцу; новыя чорныя картовыя штаны, праштабнаваныя на калошынах яркай жоўтай ніткай, задзёрліся на лытках. Раман ляжаў босы; яго абдзёртыя з насоў аб калючае канюшынішча карычневыя паўбацінкі былі роўненька прыстаўлены да жалезнай рамы, як дома ў сенцах да сцяны. Пад рамай стаяў раскрыты стары чорны, вынашаны да белых нітак кірзавы партфель з прывязанай белым алюмініевым дротам глянцаватай ручкай. З яго тырчаў рог памятай газеціны і востра пахла ржаным магазінным хлебам. Ля партфеля валяліся ўроскідку тры парожнія жоўтыя бутэлькі з адтапыранымі папяровымі наклейкамі.

Падышоўшы да Рамана, яны, усе чэцвера, сталі і сціхлі на які кароткі міг, гледзячы пад куст лазы з крушняй камення і пад жалезную раму. І ў сухой гарачай цішыні раптам пачулі музыку — звонкі ядраны марш са стукам і грукатам, нібы кацілася каменне з крушні ў Рамана ўгалавах. Усе павярнуліся да крушні і ўбачылі ля яе на сіўцы бліскучую парожнюю бляшанку ад кансервы з паднятым абрэзаным вечкам і ля яе ў футлярчыку прыёмнічак, вузенькі, доўгенькі, буранькі, што брусочак брыкету, які сталі вазіць з Плешчаніц у Краснаволле ў новыя цагляныя дамы і гублялі на дарозе. Ад футлярчыка па белым сіўцы да Рамана цягнуўся цененькі звівісты раменьчык, нібыта дробненькая змейка хацела дастаць і ўкусіць яго за руку.

— Тваю маць...— вылаяўся Харбін.— Жывы ён ці нежывы?

— Я яму зараз націсну на сэрца...— Валерка раптам падскочыў да Рамана і, размахнуўшыся, сунуў яму з усёй сілы нагой пад бок.

Раман не зварухнуўся. Захроп толькі на ўсё поле, і ў яго захадзіў хадуном жывот. Ад галавы адвалілася, як

скавародка ад гаршка, заношаная ваенная фуражка і пакацілася ад крушні камення пад жалезную раму ў лагчыну. Дыхнула раптам аднекуль зверху гарачым ветрам, зашумела ліпа, закраталася над крушняй лаза, у Рамана на галаве задзёрліся дыба валасы, здавалася, ён натапырыўся на людзей, як шашок, якому не даюць спакойна паляжаць у нары. Зарыкала скаціна, недзе ззаду, моцна, трывожна, як на пажары, калі гарэла да вайны вёска, аж шорах пайшоў за плячыма.

— Гэтага дык і чорт не бярэ... Не дохне...— Алімпіяда плюнула і адразу ўзлавалася на Валерку. Не на Рамана, а на Валерку: — Дзе быкі? Дзе скаціна? Куды прывёў?.. Вочы б мае вас не відзілі...

Валерку з-пад ног як ветрам здзьмула. Нагнуўшыся ля крушні — хацеў падняць з зямлі прыёмнічак, але не падняў,— ён бег цяпер ля жалезнай рамы на поле на гару і, адварочваючыся, махаў над чырвонай галавой то адной, то другой рукою — клікаў. За ім адразу пусціўся стары Харбін: сагнуўся, глядзеў у зямлю, слепнучы ад сонца, і тупаў дробненька нагамі, прыціснуўшы рукі да грудзей — расшпільваў гузікі ў рубашцы. За Харбінам пайшла і Алімпіяда, ішла лёгка, забыўшыся на ўсё на свеце і дзівячыся з сябе, што яшчэ спрытна можа ступаць. Чула, як ззаду па канюшынішчы шастае нагамі Таня: даганяе. Нешта ўсё гаворыць, мусіць, каб цішэй ішла...

Змахнуўшы з твару пот, яна як усё роўна зняла з вачэй павучынне: убачыла пад рамай у няскошанай, прыжоўклай ад сонца старой траве падвялыя белыя раманы і жоўтую свірэпку. На зямлі ля высокіх васількоў круцілася падбярозка і паўзла ўгару, абвіваючы жалезную раму і ўсыпаючы яе белым цветам. Над ім мітусіліся вялікія жоўтыя матылі, як дома над капустай у градах. З-пад рамы павылазіла на поле жыта, па каліву, па два — насеялася, выспела і цяпер блішчэла з-пад растапыранага асця жоўтым воскам.

Якраз у канцы рамы на вытаптаным да жоўтага пяску буі яна зглядзела бычкоў-пярэзімкаў — стаялі купкай трое, склаўшы на зямлі ў кучу галовы.

«А дзе ж скаціна?» — зноў падумала яна, павёўшы вачыма па полі.

Валерка, мінуўшы бычкоў, стаў і махаў рукамі.

Зноў наляцеў гарачы вецер, закруціў на зямлі ў брухатым, як бочка, віхры траву і секануў жарствой па тва-

ры. Запахла свежа скацінай, як на ферме з кароўніка — гноем і потам.

За пярэзімкамі, на самым буі, на здрабежаным капытамі і перамешаным з жоўтым пяском і белым каменнем канюшынішчы яна ўбачыла быкоў. Двух, падласых, з уздутымі, як мех у кузні, жыватамі... Яны ляжалі воддаль на загоне — як усё роўна паздыхалі ў Краснаволлі і іх адцягнулі аж сюды, далей ад воч і ад носа, як адцягвалі дохлых кароў пасля вайны з фермы ў соснік. Яна, яшчэ здалёку схапіўшы іх вачыма, падумала, што яны ўжо не жыльцы. Да іх падбег стары Харбін, парнуў нагой аднаго і другога пад пашчэнкі.

— Аж страшна глядзець, суседка... Падубелі...

Пасля яна згледзела ў баку ад іх пад дарогу ў баразне яшчэ аднаго, чырвона-бурага Сіментала, абкіданага па баках альховым галлём. Галля, відаць, нанасілі сюды даўнавата: лісце прывяла, пакорчылася. У яе адразу падкасіліся ногі і закалацілася сэрца, дробненька і балюча. Яна аж стала.

Сіментал, які яшчэ летась увосень зацягнуў на вагах больш тоны, але яго не здалі на бойні, пакінулі ў плем́я́ — за зіму ён схудаў, але за вясну зноў набраў вагу,— ляжаў у баразне, як гара. Яна сама, Алімпіяда, угаварыла Дзярызямлю пакінуць яго адумысла ў калгасе. Калі пасля шпрыца, які тросся ў руках п'яніцы-асемяніцеля, пачыналі на ферме гізаваць каровы, іх пускалі да Сіментала. Баяліся толькі за маладых цяліц, якія пад ім не маглі ўстаяць: угіналіся і раскарачваліся, як зімой на лёдзе. Але затое ў калгасе зноў кожны год паяўляліся на свет чырвоныя цяляты, павырасталі ўжо і каровы-сіменталкі, якія былі зніклі ў вайну і якіх яна, Алімпіяда, любіла больш, чымся перапялёстых — чорнае з белым — кароў остфрызскай пароды.

Кругa Сіментала бегаў чырвонагаловы Валерка, як цялё каля каровы, махаў ім рукамі і крычаў дробненька і дзяркатa:

— Сюдэ-эй!..

Яны падбеглі і сталі ўсе трое на загоне, на ўскопаным капытамі жоўтым пяску — наперадзе Алімпіяда і стары Харбін, за плячыма ў іх Таня — і глядзелі ў баразну, дзе ў Сіментала падымаўся ўгару і апускаўся, як мех у кузні, рыжы, з бурымі падпалінамі жывот. Сіментал цяжка соп, перад носам у яго краталася, як ад ветру, альховае лісце на свежа натрэсеным галлі. Вялікім цёмным выгну-

тым рогам ён дзёўб пад галавой зямлю, як заточаным ломам, адкідаючы сыры пясок аж ім пад ногі; пясок адразу чарсцвеў на сонцы: сох. Сіментал увесь дробненька дрыжэў: калаціліся выпрастаныя ногі, усяго яго нібыта хто падкідаў у баразне. Чырвоная, мокрая ад поту поўсць у яго прылізалася да скаб, да яе паналіпала пяску, і здавалася, што Сіментал хоча страсці яго і не можа. З санакываліўся набок на зямлю шэры доўгі выгнуты язык і лізаў мокры ад пены пясок; калі соп, пена ў яго ля пыс падымалася ўгару вялікімі, па яйку, бурбалкамі, як ад мыла з начовак. Бліскучыя, сінія на сонцы бурбалкі лопаліся, пырскаючы расой ім на рукі. І вока ў Сіментала, вялікае, цёмна-сіняе, вылезла наверх, выпучылася, здавалася, вось-вось выскачыць і лопне, як бурбалка. Сіментал хроп, як храпе недарэзаная жывёла; пераставаў храпці — пачынаў стагнаць, глуха, працяжна і жаласна, што чалавек.

І толькі цяпер яны згледзелі за Сіменталам на загоне, дзе пераступаў з нагі на нагу і кратаў плячыма Валерка, Ратнікава. Ён сядзеў на зямлі без кепкі — валасы ў яго зліпліся на галаве, і ён прылізаў іх набок да вуха,— у адной майцы, як і Валерка: яго клятчастая чырвоная рубашка была нядаўна змочана ў вадзе і ляжала ў Сіментала на шыі, спаўзаючы на зямлю ў пясок. Апусціўшы галаву чуць не на калені, ён так і сядзеў, не падымаючы яе і не кратаючыся. Над ім — над галавой і над голымі плячыма — гудзелі авадні. Валерка, нагнуўшыся, патузаў яго за майку.

Калі Ратнікаў нарэшце падняў галаву, яны ўсе ўбачылі, што ён плача: вочы чырвоныя, бліпічаць, шчокі мокрыя ад поту і ад слёз. Ён сядзеў, круціў галавой, заплюшчваючы вочы, сціхаў і зноў плакаў — горкімі слязьмі.

— Дзе скаціна?.. Скаціна дзе?..— Алімпіяда пачула раптам, як у яе пачало рабіцца холадна ў грудзях, у вачах разбеглася адразу спружына, выгнулася жоўтымі зубамі, як усё роўна мех ражкамі ў расцягнутым гармоніку.— Дзе скаціна? У аднаго пад ліпай пена з рота, як у быка, у другога вада з вачэй... Дзе скаціна, вы мне скажыце?..

Ратнікаў падняў на яе вочы, утаропіўся, кусаў верхнімі зубамі ніжнюю губу і нічога не мог сказаць. Пасля, выцягнуўшы руку, паказаў у бок дарогі на асушанае балота ў ячмень; рука ў яго адразу апусцілася і стукнулася аб зямлю. Ён хацеў быў устаць, але яго павяла галава — ён закруціўся на адным месцы, да яго падбегла Таня і схапіла за плечы.

— Што? І ты набраўся? Развязло? Вы відзілі?.. Вы відзілі?.. Маўчыш?..— Таня аж захліпалася ад злосці, толькі нагінала і нагінала да яго галаву і пачала адводзіць назад руку: замахнецца і дасць па мордзе...

Ён раптам выпрастаўся, вырваўся ў яе з рук, ступіў сам уперад і ўстояў на нагах:

— Га-ла-ва... Як хто доўбняй ударыў... Ад сонца... Праклятае месца...— павёў ён вачыма па полі і паказаў на загон.— Двое ўжо... усё... Не дыхаюць. Што я мог зрабіць? І гэты...— ён раптам падскочыў да Сіментала, схапіў у яго з шыі вільготную рубашку і пачаў сцябаць па галаве, па рагах, па шыі...— Не падыму... Ніяк не падыму... У канаву яго трэба... Пакуль дух не выпусціў... Уся скаціна ў канаве... Чуць пазганяў з поля... З машыны згледзелі пыл... Пакуль сюды — адзін ужо,— паказаў ён зноў рукой на загон,— бельмы вылупіў... Распаўзліся ўсе па полі, падурнелі, круцяцца на месцы і не ідуць у канаву... Там вада... Гразь... Чуць пазаганяў...

Алімпіяда вырвала ў яго з рук вільготную рубашку і сказала, спачатку ціха, як самой сабе:

— Вады...— пасля закрычала на ўсё поле, як на пажары: — Вады!.. Хоць вядро вады... Яго яшчэ вярнуць можна... Трэба было не па мяне машыну пасылаць, а па ваду... Вады-ы!.. Чаго вы ўсе стаіце? Вады... З канавы, хоць вядро...

— У канаве гразь... Рубашку толькі намачыць...

— Мачыце рубашкі... На галаву яму, на галаву... І бычкоў зганіце ў канаву. Драбнату гэту зганіце з вачэй... Пакуль на зямлю не пасыпалася...— яна ўзяла вільготную рубашку ў адну і ў другую руку, падбегла да Сіментала і, занёсшы рукі ў яго над галавой, пачала выкручваць, як пасля мыцця. Пачула, што пацякла па пальцах цёплая вада, на быка нават не капнула.— Бычкоў, бычкоў зганіце з выдмы... Хоць пад ліпу ў цень... Што ты тут бегаеш кругá, як сабака...— накінулася яна на Валерку.— Бычкоў гані...

Валерка загэгэкаў, закруціў ля пляча худой рукой, як палкай, падбег да пярэзімкаў, але тыя стаялі, уткнуўшы пысы ў вільготную ад мачы пляму на зямлі, храплі, форскалі, тады пачыналі лізаць цёмную пляму, раўсці і рыць канюшыніпча капытамі, адкідаючы з-пад сябе рудую траву і пясок далёка на поле. Валерка спачатку адскочыў, тады зноў замахаў рукой і, падбегшы да самага крайняга пярэзімка, упёрся яму рукамі ў жывот і пачаў пхнуць, каб

скрануць з месца. Бычкі раўлі і не краталіся. Над імі віселі роем патрывожаныя сляпні.

За сляпнямі Алімпіяда і згледзела, як ад дарогі, падскокваючы на загонах, прэцца старшыньскі «казёл», падымаючы за сабой на канюшынішчы пыл. «Казёл» падскочыў да іх, як што жывое: таркануўшыся на месцы і бразнуўшы дзверцамі, выкінуў з сябе ўгрэтага, як у лазні, з чырвоным тварам і мокрымі валасамі Дзярызямлю і пакаціўся ў баразну, пакуль не ўпёрся пярэднімі коламі ў загон. Так і разбегліся яны: «казёл» у адзін бок, Дзярызямля ў другі. Падбегшы да двух падласых быкоў, што ляжалі воддаль на загоне з уздутымі жыватамі, ён абышоў іх кругам, вылаяўся на ўсё поле і падскочыў да Сіментала, узбіўшыся з нагамі на альховае галлё, якім, прынёсшы з-за крыніцы, накрываў Сіментала ад сонца Ратнікаў. Галлё затрашчала, крышачыся ў яго пад паўбацінкамі. Тыцнуўшы пратэзам чуць не ў жывот Сіменталу, ён закрычаў:

— Хто вінаваты?.. Судзі-іць буду!..

— Вады, старшыня, вады... Яго яшчэ вярнуць можна...— Алімпіяда пачула, як ёй самой на гэтым праклятым буі хочацца піць: перасохла і ў роце, і ў горле.

Дзярызямля пачаў адразу адыходзіць: быў чырвоны, збялеў раптам, аціх, утаропіўшыся на Ратнікава і паказваючы цяпер на яго пратэзам.

— Хто знімаў ад камбайнаў? — ён зноў рабіўся то чырвоны, то белы.— У мяне камбайны стаяць... У мяне... А яны па полі на машынах гойсаюць... Што, я за кожным з вас буду лётаць? Лавіць...

— Вады, старшыня, вады... Хоць бы вядро халоднай вады яму... Яго яшчэ можна вярнуць... Ганіце машыну... Па ваду... Гэтулькі машын на полі...

Тады Дзярызямля апусціў пратэз:

— Мігам у Краснаволле... На ферму... Вады ў малакавоз і сюды. А там я разбяруся. Камбайны стаяць...

— А ты дагэтуль бычкам хвост не можаш накруціць? Варон страляеш?..— Алімпіяда накінулася на Валерку, які, адвярнуўшыся ад пярэзімкаў, засунуў рукі ў кішэні і глядзеў на Дзярызямлю — лавіў кожнае слова. Пачуў, што Ратнікаў едзе ў Краснаволле па ваду, наструнезіўся і сачыў цяпер толькі за Ратнікавым. Убачыўшы, што Ратнікаў пабег канюшынішчам да дарогі пад ліпу, дзе стаяла машына, ён скочыў услед, але яго схапіў здаровай рукой за майку Дзярызямля.

— Гэта ты мне чырвоную галаву з кабіны паказваў? Думаў, што я цябе на сваім «казле» не дастану? Ён у мяне,— Дзярызямля паказаў пратэзам за ліпу, дзе закурэлася ад пылу дарога за Ратнікавым,— пастогне... Дзяцей за руль саджаць...

Зараўла ў канаве скаціна, глуха, што пад зямлёй. Падняўся вецер, гнаў ад дарогі сухую траву і пыл на поле — у белы свет. Застагнаў у баразне Сіментал, зноў пачаў капаць рагамі зямлю. Падагнуў пад сябе ногі, пасля выпрастаў, хапянуўшы з загона зямлі, як рыдлёўкай, і сыпануў яе ў баразну: раз, другі... Дастаў жоўтага пяску і прысыпаў ім цяпер у баразне белае карэнне пырніку і канюшыны. Звінелі над галавой авадні, што кулі ў вайну на балоце ў Цянях... Шчокі як усё адно хто гусценька пасыпаў прыскам. Дыхаць было горача і горка, нібы ў лазні на палку. Перад вачыма мітусіліся жоўтыя матылькі, як прыстаўшы — не адмахнешся. У канаве зноў глуха зараўла скаціна.

— Паколюць адзін аднаго...— зноў закрычала Алімпіяда.— Не здохлі на полі — у канаве адзін аднаго парашаць... Уся ферма ў яме... Трэба ў кароўнік гнаць... Так смаліць... Дзе Таня? Канавай да ракі, а там логам... І гэтых ганіце з выдмы, пакуль не ляглі аблогай... Хоць бы вядро вады Сіменталу...— яна так і кідалася па загоне, разрываючыся: то да дарогі пусціцца, то зноў вернецца да Сіментала.— Дзе Таня? Дзе Харбін? Не стойце... Хлапец, займай пярэзімкаў...

Валерка зноў замахаў рукой і, падбегшы, ткнуў крайняму пярэзімку ў жывот, чуць не абкаціўшы таго на зямлю. Пярэзімкі не пайшлі. Зарыкалі, пачалі круціцца, біць капытамі загон, лізалі перамешаную з пылам мокрую перад носам латочыну зямлі, а з месца не краталіся.

Да іх падскочыў Дзярызямля і сунуў аднаму і другому пад бок жоўтым пратэзам. Пярэзімкі зараўлі і пачалі пароць адзін аднаго рагамі. З месца не сышлі.

Тады Валерка раптам выцягнуў у сябе са штаноў кароценькую вузенькую чорную, пруткую ў руках, як слівень, дзяжку — і дзе яна толькі там была, на худой паясніцы — і пачаў са злосцю хвастаць бычкоў, аж поўсць пасыпалася. Бычкі палезлі адзін на аднаго, згрудзіліся, і на загоне падняўся пыл, хаваючы з вачэй Харбіна. Зароў у баразне Сіментал, адкідаючы ад сябе альховае голле, якім яго была накрыла Алімпіяда.

Дзярызямля вылаяўся і на Валерку і на бычкоў, адбег-

ся, плюнуў і пачаў выціраць з лоба пот, адганяючы ад сябе жоўтых матылёў, якія, прыстаўшы цяпер да яго аднаго, садзіліся на лоб, на шчокі, круціліся ля плеч, ля галавы, і ён адмахваўся ад іх то пратэзам, то здаровай рукой. Пасля пабег да «казла», як усё роўна ўспомніўшы, што ёсць дзе схавацца ад матылёў, нырнуў пад шэры брызент, выставіўшы ўперад здаровую руку і хапаючыся за руль. «Казёл» заныў, здрыгануўся і папоўз задам з баразны на загон, пасля, падцялежыўшыся, рвануў уперад на бычкоў. Дзярызямля бразнуў дзверцамі — зачыніўся і засігналіў на ўсё поле. Бычкі крануліся з месца і пачалі падскокваць на загоне, уперад, пасля назад, тады раптам сталі разбягацца ў бакі, каб уцячы ад машыны. Да іх падбеглі Валерка з Харбінам — з аднаго і з другога боку — і пачалі сціскаць у кучу.

Дзярызямля сігналіў і сігналіў, падганяючы бычкоў ззаду. Бычкі пайшлі былі кучкай па загоне, пасля пярэдні даў убок, збіўшы з ног Валерку, і яны, усе трое, пабегшы адзін за адным, вярнуліся назад у баразну, дзе перш стаяў «казёл», зноў склалі галовы і пачалі лізаць успоратую коламі раллю. Дзярызямля выскачыў з машыны і, перамешваючы бычкоў з усімі чарцямі, бразнуў дзверцамі. Стаяў, выціраючы рукавом пот, пасля пусціўся поперак загона да Алімпіяды. Яна згледзела, што яны ўсе ідуць да яе, нібы толькі яна адна зможа цяпер сагнаць бычкоў з поля і падняць з зямлі Сіментала: ідзе старшыня, ідзе Валерка, падцяўшыся, як пабіты сабака; крыўляе нагамі цераз загон стары Харбін, выціраючыся падалом доўгай чорнай рубашкі, і бяжыць ад дарогі Таня, дзержачы перад сабой як усё роўна падбітае курчо. Махае галавой у бакі, трасучы за плячыма касой... Калі яна падбегла бліжэй, Алімпіяда згледзела ў яе руках мокрую анучу, нібы Таня сабралася мыць падлогу ў хаце. Пасля пазнала, што гэта рубашка Ратнікава ў чырвоную клетку, намочаная ў канаве: з яе густа капала вада на зямлю, на калені і на спадніцу. Падбегшы да Сіментала, Таня апусціла рукі з мокрай рубашкай і пачала выкручваць яе Сіменталу на галаву, на рогі, на сіняе вока, як ўсё роўна анучу дома ў хаце над вядром.

— Асцярожна, дачка!.. Не нагінайся над рагамі... Здурнела?..

Вада лілася Сіменталу на галаву, капала з рагоў і з вуха на зямлю,— здалося, што бык стаіць, выйшаўшы раніцай з кароўніка, у дзвярах, выставіў галаву пад падстрэ-

шак, а на дварэ сячэ дождж. Пасля Алімпіяда згледзела, што Сіментал не чуе вады — не чуе нават, што яна пацякла ў яго па языку... Жывот у яго падняўся, апаў і больш не падымаўся... Яна наглядзелася за ўсе гады, больш за ўсё пасля вайны, як каровы выцягваюць ногі...

— Вады-ы!..— закрычала яна.— Ну прыдумайце што!.. Трое мужчын стаіць!.. А яго яшчэ вярнуць можна...— пасля, задыхаючыся, падбегла да Тані, вырвала ў яе з рук мокрую рубашку, упала на загон на калені і пачала прыкладаць яе Сіменталу да лоба, як хвораму з вялікім палам чалавеку... Тады прыклала да храп, да шыі, баючыся глядзець у вялікае сіняе вока, у якім, адбіваючыся, гарэла агнём сонца, як галоўка ў сярнічкі. Калі глянула, убачыла, што верхняе, з чорнымі валасамі павека спаўзала ўніз, закрываючы маленькае сонца — вока рабілася вузкім і крывавым. Яна тады адкінула ад сябе далёка на загон мокрую рубашку, як што непатрэбнае, і пачала гладзіць Сіментала далонямі па галаве, па вуху, па веку, баючыся, што яно раптам закрыецца і тады адразу схавае сонца — наўсягды.

— Вады...— яна ўжо не магла крычаць.— Вада яго яшчэ можа вярнуць...

— Касу б, суседка, сюды... Хе-хе...— неяк дробненька засмяяўся ззаду за плячыма Харбін.— Тону мяса зарыем у зямлю... Двое ўжо вун ляжаць... А гэта трэці... Нікому і ў галаву не прыйшло касу з сабой з дому ўзяць. Каб веданне... Гэтулькі мяса ў шор пусцім...

Яна, адвярнуўшыся, паглядзела на Харбіна, але яе нават злосць не ўзяла: гэты другога не скажа; пасля павяла вачыма па ўсіх. Усе стаялі, ніхто нават не крануўся, каб хоць бліжэй падысці да яе. Стаялі і маўчалі — маўчаў і Харбін,— як у хаце ля нябожчыка. Тады і яна пачала памалу адхінацца ад Сіментала і падымацца на ногі. Пачула, што горача ў вачах і горка ў роце, як ад палыну, якога яна надыхалася за сваё жыццё ўволю. Устаўшы, убачыла, як яшчэ дробненька дрыжаць ногі ў Сіментала і ходзіць пахвіна — жывёла яшчэ дыхала. Убачыла пасля, што ўсе павярнулі галовы на дарогу за ліпу пад Краснаволле. Дарога за ліпай, поле і маяк былі засланы пылам. Ад ліпы, адкуль яны сягоння, прыехаўшы на поле, ішлі па канюшыпішчы, удоўж жалезнай рамы імчалі да іх дзве машыны — наперадзе Ратнікава, за ёй жоўты малакавоз. Яна ўбачыла яшчэ здалёку, як з жоўтай кабіны высунуў галаву ў пілотцы з газеты Сяржант — сёння, мусіць, яго паса-

дзілі на малакавоз. Сяржант круціў увесь час галавой — лавіў вачыма, што да чаго. Ратнікаў з ходу тармазнуў ля іх, заглушыў матор і, расхінуўшы абое дзверцаў, выскачыў на загон, прылізваючы мокрую пасму валасоў да вуха. Запахла гарэлай гумай і бензінам, аж з ног скідала. Сяржант тарकануўся быў побач з Ратнікавым, пасля, узяўшы злявей, падагнаў і паставіў малакавоз задам якраз да Сіментала. Да яго адразу пабег з вядром Ратнікаў. Сяржант падскочыў да жоўтай цыстэрны, ссунуў з лоба на патыліцу газетную пілотку і адкрыў кран — ударыў па ім рукой. Пад струменем густа зазвінела новае бліскучае бляшанае вядро. Ратнікаў не глядзеў, што яна ўсе стаяць, апусціўшы рукі, і яна, Алімпіяда, яму нічога не гаварыла: позна, рабіце цяпер, што хочаце, і ён, схапіўшы поўнае вядро за перавесла, рвануўся з ім ад цыстэрны як на пажар ад студні, падбег да Сіментала і, размахнуўшыся, лінуў яму на галаву ўсё вядро адразу. Алімпіяда згледзела, як у Сіментала з галавы пацякло на канюшынішча цурчом белае малако; здагадалася адразу, што на ферме ў Краснаволлі стаяў малакавоз з адгонам — якраз справіўся вярнуцца з Плешчаніц з малочнай,— што там не было часу галаву ламаць: вада ці адгон? Ды яшчэ такому гарачаму, як Ратнікаў... Ратнікаў ліў і ліў вядром адгон — яна падумала: як за плот — Сіменталу на галаву, на шыю, на выпучаны бок... Сіментал ужо ляжаў у белай лужы — зямля была сухая, убітая, і малако стаяла зверху — лужа адразу запенілася, узялася бурбалкамі. У пене былі вушы, вузкае сіняе бліскучае вока і храпы. Белы адгон і ў вядры і ў лужыне блішчэў на сонцы, як вясновы снег, ад яго чыста зрабілася ўваччу, аж палягчэла, як усё роўна душа пачула што добрае... Алімпіяда, павярнуўшыся, глянула на Дзярызямлю — стаіць, як папярхнуўся і слова не можа сказаць,— хацела горка пасмяяцца і з яго і з хлапцоў, але раптам згледзела, як у Сіментала ля храп расце пена, падымаецца ўгару, як ад брагі ў дзяжы, сінія бурбалкі большаюць, паўзуць уверх і лопаюцца, пырскаючы...

— Дыхае!.. Яго яшчэ вярнуць можна!..— закрычала яна зноў на ўсё гарачае поле.

Бурая паласа на жываце ў Сіментала раптам паднялася ўгару, раз, другі, і задрыжалі дробненька заднія ногі. Пасля яго ўсяго закалаціла, аж падкідаючы з зямлі; крануласа караткаватае вуха, натапырылася, стаўшы стаймя; міргала і міргала вока — зноў зрабілася вялікае і сіняе. Рог пад галавой парнуў, разрыўшы мокрую ад малака

зямлю; язык схаваўся ў рот; засаплі, зафорскалі храпы; галава павярнулася, паднялася ад зямлі, апёршыся на рог, пасля апёрлася на шырокія цёмныя пысы, і Сіментал, лежачы, пачаў смактаць з зямлі белую пену, адгон з дробненькіх лужынак і свежую гразь з ускапанага рогам канюшынішча, папярхаючыся і давячыся...

Алімпіяда тады падскочыла да Ратнікава, схапіла ў яго з рук парожняе вядро, наліла поўнае адгону, нясла яго, як насіла вёдры ў малакамер, паставіла перад носам у Сіментала і пагладзіла рукой па шырокім лобе з белай лысінкай... Сіментал, пачуўшы яе і вядро з адгонам, натужыўся, выцягнуў шыю, падняў галаву і сунуў пысы ў вядро, нагінаючы яго да зямлі і разліваючы. Адзін раз дыхнуў — і вядро было пустое. Замычэў тады жаласна і пачаў лізаць сваім шорсткім гарачым языком ёй рукі: пальцы, далоні, рукавы... Лізаў, як ліжа карова сваё цяля ў першы дзень, калі тое паявіцца на свет...

Яна падала вядро Ратнікаву:

— Піць яму, дзеці, давайце... Ён хоча піць...

Замычэлі бычкі, пачуўшы адгон, падбеглі да Сіментала і сталі лезці яму з пысамі пад жывот, пад ногі — смакталі з зямлі ўсё мокрае, форскаючы, сапучы і тоўхаючы адзін аднаго. Зашлэпаў босымі нагамі па мокрай зямлі Валерка, падышлі Дзярызямля з Харбінам.

— Во гэта цялятка... Пятае вядро... А ты, стары, за касу хапаўся... Дурное дзела не хітрае...

— Хе-хе... Вун тых, на горцы, не адпоіш. І каса ім ужо не паможа...

— За тых скура ў некаторых будзе гарэць... Хто выгнаўся на гэту выдму?

— Радзіяцыя, старшына. Гэта ўсё ад радзіяцыі.

— Радзія-цыя... Разбіраецеся вы занадта, галовы чырвоныя... Думаеце, што мы вас ужо і не дагонім? На газ націскаеце...— Дзярызямля ўсміхнуўся Валерку ўсім сваім шырокім, бліскучым ад поту тварам.— Ты глядзі. Здурнеў Сіментал... Сем вёдзер. Вы там, хлопцы, хоць бычкам пакіньце. Ну і смаліць сягоння. Да пратэза не дакрануцца... І вецер сціх...

Ратнікаў падбег з вядром да бычкоў і лінуў адгону ім усім траім на спіны, шырака, як дзе на куст, палівачы.

Бычкі кінуліся ў бакі, грукаючы па цвёрдай зямлі капытамі; форскаючы і атрасаючыся, сунулі пад пахвіну Сіменталу капытом, і той, відаць, пачуў, што з зямлі сышла

наглая смерць, ёсць толькі жыццё і воля, так добра знаёмыя яму, магутнаму, смеламу і дужаму, калі можна пусціцца полем, ведучы стаду за сабой, каб аж грымела пад нагамі зямля, ці рынуцца ў стаду, раскідаючы ўсіх на бакі рагамі, за маладой цяліцай, дагнаць і падняцца на заднія ногі, на ўвесь свой магутны рост, ловячы кволую маладую, гарачую ад утрапення спіну... Рвануўшыся на зямлі ўперад, ён хацеў адразу ўскочыць, каб пабегчы за бычкамі, але толькі павярнуўся ў баразне на жывот, схаваўшы з воч бурую паласу, і падагнуў пад сябе ногі. Закруціўшы ад праклятай нямогі галавой, злосна — не падыходзь! — ён раптам зарыкаў на ўсё сваё басавітае луджанае горла, зароў, што ў ерыхонскую трубу — падаў нарэшце свой голас: жыву-у!.. Падаў, як падаваў усягды вось ужо пяць гадоў з поля: з Дроздкі, з Яськавага Балота, з Каралінскай Пасекі; летам у ціхую раніцу яго можна было пачуць аж з Жоўтага Берага ад Віліі...

Напяўшыся, ён зноў рвануўся, нібы хацеў вырвацца са скуры, і стаў на заднія ногі, грабучы імі з-пад сябе сухое канюшынішча і гразь; шпурляў яе далёка на загон, залепліваючы твар і грудзі Дзярызямлі, старому Харбіну і Валерку.

— Не падыходзь!..— крыкнула Алімпіяда Валерку.— З аднаго адразу дваіх зробіць... Устане, сам устане! Не падыходзь! — цяпер яна ўжо крычала Дзярызямлі, які хацеў падбегчы да Сіментала, каб памагчы таму падняцца на пярэднія ногі.

Сіментал перабіраў і перабіраў заднімі нагамі, адкідаючы з-пад сябе свежы сіпак і дробнае каменне; тады, пачуўшы, што вырыў пад сабой яму і стаіць у ёй, схаваўшыся па калені, раптам віхлянуў убок і пачаў круціцца, ніяк не могучы адарвацца ад зямлі. Так і круціўся, сапучы, рыкаючы і бегаючы адными заднімі нагамі з баразны на загон, з загона ў баразну. Тады напяўся, як усё роўна трактар, упёршыся ў сцяну, выгнуўся ў дугу і папхнуў сябе заднімі нагамі з баразны ўверх на загон. На загоне хацеў адразу ўскочыць на ногі, але яны хвіцнулі пад ім у каленях, і ён зноў, асеўшы, закруціўся шалёна па загоне, стогнучы і равучы. Біў вострымі цяжкімі капытамі канюшынішча, секучы дзярняк на кавалкі, як рыдлёўкай; хацеў вырвацца з круга, як з пекла, але яшчэ большае пекла падымаў круга сябе. Напінаючыся, упіраўся і рагамі і каленямі ў зямлю, здавалася, не сам хоча падняцца з зямлі, а скрануць яе з месца і, падчапіўшы рагамі, адкі-

нуць ад сябе прэч. Рваў жылы, соп, знемагаў, роў на ўсё поле, пераводзячы дух, пасля зноў круціўся на загоне, як у віры — толькі б устаць, падняцца на пярэднія ногі... На адных задніх не пойдзеш... Дужая і разумная жывёла не магла даравацъ сабе слабасці на вачах у людзей, не магла зміръщца з тым, што ёсць нейкая яшчэ большая сіла на зямлі, якая можа скінуць з ног...

Над загонам вісеў пыл — не глянуць.

І ў гэтай хмары сівога пылу, дзе была відаць галава Сяржанта ў газетнай пілотцы, Алімпіяда раптам пачула музыку, ціхую, прыглушаную, як дома з рэпрадуктарчыка на перагародцы, калі сапсуецца нешта на лініі. Пасля яна згледзела Рамана. Ён быў у заношанай ваеннай фуражцы з чорным аколышкам і бліскучым маленькім казырком — дастаў з-пад рамы; на нагах — абдзёртыя карычневыя незашнураваныя паўбацінкі — абуўся-такі, не пайшоў босы па калючым канюшынішчы; перакінуты на вузенькім раменьчыку цераз плячо, целяпаецца збоку маленечкі прыёмнічак у скураным футлярчыку — так перш пастухі насілі ў поле торбу. Адной рукой, адставіўшы далёка ад сябе, Раман махаў, як усё роўна хацеў учапіцца за плот, у другой быў вялікі кірзавы расшпілены партфель. Заняўшыся Сіменталам, яны не згледзелі, як Раман падышоў да іх ззаду. Цяпер ён ківаўся ў пыле, не могучы ўстояць на месцы.

— Я ж-жонку кінуў...— зыбаўся ён і ішоў да Сіментала. (Ніякай жонкі ён не кінуў, відаць, у цвярозага было наўме.) — Думаеце, я яе яшчэ і карміць буду? Не! Не дам быка... Што яны тут з ім робяць?

— Дзяржыце... На рогі, дурань, лезе...— Алімпіяда папярхнулася ад пылу. Да Рамана скочыў Сяржант, хацеў злавіць, але той крутнуўся і быў ужо ля Сіментала. Сіментал, пачуўшы блізка ля сябе чалавека, якога, відаць, не любіў больш за ўсё на свеце, бо той з самай вясны, лічы, кожны божы дзень вісеў у яго над каркам, засланяючы дарогу і адбіраючы волю, спачатку натапырыўся, заціх, тады, сабраўшы ўсю сваю апошнюю сілу, сагнуўся дугой, склаўшыся ў адзін высокі горб, прыпаў на заднія ногі, напяўся, аж, здавалася, парвуцца жылы, падкінуў раптам сябе ад зямлі, ставячы на ўсе чатыры, і засвістаў з-пад хваста, як з пажарнай кішкі, недзе не на сёмае, а аж на семнаццатае бярно... Закрычалі мужчыны, кідаючыся хто куды; пакацілася ў баразну за падцёлкаў Таня — і яна тут са сваім носам, не магла адагнацца з бычкамі; бразнуў

дзверцамі ў старшыньскім «казле» Валерка — хаваўся; Сяржанта загнала аж на другі бок цыстэрны... Ля Сіментала цяпер стаялі толькі двое: яна, Алімпіяда, спераду і Раман — ззаду. Ківаўся, растапырыўшы ногі, атрасаў выцягнутую руку і глядзеў на мокры, бліскучы ад сонца разяўлены партфель, з якога вылівалася на канюшынішча, як з вядра, жоўтая жыжка... Доўга яшчэ трымаў партфель, пасля — відаць, забалела рука — выпусціў яго з пальцаў. Мокры цяжкі партфель шмякнуўся аб сухое канюшынішча. Пасля і сам — нібыта перш трымаўся за партфель, як за плот, а цяпер згубіў апірышча — звіўся, што адпушчаная ў возе вяроўка, і апоўз на зямлю ў гразь, у пыл, у жоўтую жыжку, падкруціўшы пад сябе і ногі і галаву.

— Ці чэрці, суседка... Скапыціцца, як жывёла...— да Рамана, спяшаючыся, падышоў Харбін, апусціўся на калені і пачаў варочаць у яго галаву, што ўсё роўна паправіў на градзе гарбуз. На Сіментала ён не глядзеў, як забыўся.

— Я жонку кінуў... Што ты мне галаву круціш? — Раман пачаў адбівацца.

Сіментал цяпер стаяў, выцягнуўшы ўперад галаву і натапырыўшы вушы, глядзеў на Рамана і старога Харбіна, нібы слухаў, што там робіцца, тады раптам сунуўся ўперад, выгнуў шыю, апусціў галаву да самай зямлі — ішоў у бой, як ішоў кожны раз у стадзе на быка, якога хацеў зжыць са свету... Раўнуў быў яшчэ, ціха і кораценька, тады, падчапіўшы рагамі аднаго і другога з зямлі, падняў і раскінуў у бакі, як раскідае на хаду раллю растапыранымі лемяхамі акучнік. Прабег паміж імі, грукаючы па ўбітай зямлі цяжкімі капытамі, выскачыў на загон, страсануўся, атрасаючы з сябе пясок і гразь, пакруціў па баках, шукаючы стаду, галавой з шырокім белым лобам і прамымі, як ручкі ў плузе, рагамі, натапырыўся, наставіў тырчком уперад караткаватыя вушы, выпрастаўся — спіна ў яго зрабілася роўная, як пад струну, толькі над лапаткамі падняўся маленькі горбік,— махнуў доўгім хвастом, як павадком, і ззыбнуўся на прамых пярэдніх нагах: яны яго яшчэ не хацелі дзяржаць. Не згледзеўшы скаціны, зарыкаў — клікаў усіх да сябе, пасля прыпусціўся па канюшынішчы да канавы, пачуўшы там стаду. За ім пабеглі бычкі, самі — дробненькія побач з ім, як цяляты.

Адкрываючы дзверцы ў кабіне малакавоза — збіраўся ехаць,— першы зарагатаў Сяржант, адкінуўшы назад галаву, аж пілотка звалілася з галавы. Смяяўся і Дзяры-

зямля, паказваючы белыя, як фасоль, зубы; весела загарэліся вочы ў Тані; Валерка шаптаў нешта на вуха Ратнікаву. Людзі на якую мінуту ўздыхнулі, скінуўшы гару з плеч.

Першы пачаў падымацца з зямлі Раман. Стаў спрытна на чацвярэнькі, пасля на калені і, выцягнуўшы рукі, каб за што ўчапіцца, падняўся на ногі. Пачаў атрасаць растапыранымі пальцамі з грудзей гразь і пясок і лапаць па баках — нідзе не знаходзіў прыёмнічка. Прыёмнічка на раменьчыку ў яго цяпер не было, не было відаць і каля блізку. Зашмальцаваная фуражка з чорным аколышкам сядзела ў яго аж на вушах, нават і не думала скаціцца з галавы, калі ён быў на зямлі.

— Я жонку кінуў...— Раман ішоў да Дзярызямлі, але на яго цяпер не глядзелі: на загоне, падцяўшы сухія вострыя калені да жывата, качаўся стары Харбін — з боку на бок. І белая лысая галава ў яго качалася ўзад-уперад, як талерка, збіраючы з зямлі на мокрае ад поту цемя пясок і дробную сухую гавылу...

Першая да яго падбегла Алімпіяда. Нагнулася, ловячы за рукі, якімі ён сціскаў з двух бакоў жывот, і не магла злавіць. Пасля яе адхінуў Дзярызямля, схапіў Харбіна пад паху, пасадзіў на загоне, адной рукой спрытна расшпіліў яму штаны, як дзіцяці, і падняў угару за падол адразу дзве мокрыя рубашкі: верхнюю чорную і ніжнюю, жоўтую ад поту. На белым, як папера, жываце, злева ў пахвіне, была распаласавана скура, доўга, як на пядзю... З разяўленай чырвона-сіняй уздутай раны нават не ішла кроў — каціліся толькі дробненькімі нераспелымі брусніцамі ўніз пад штаны. Стары маўчаў, нават не стагнаў: пабялеў і ўсё заплюшчваў вочы.

— Т-ваю маць...— вылаяўся Дзярызямля.— Гэтага яшчэ не хапала... Давай, Уліма, хустку з галавы. Добра, што яшчэ кішкі не на канюшынішчы...— ён узяў у яе з рук белую, у сіні гарошак паркалёвую хустку, скамкаў у некалькі столак, прыціснуў рану, апусціў наверх дзве рубашкі і перацяў туга дзягай усё разам — хустку, рубашкі і жывот. Махнуў пратэзам Сяржанту:

— У машыну да мяне... На задняе сядзенне...— Сяржант з Ратнікавым падхапілі Харбіна пад пахі і пад каленькі і ўкулілі ў «казла», як куль з мукой.— Сам адвязу ў бальніцу... А вы тут скаціну з поля... Ну што? — схапіў ён раптам за руку Рамана.— Музыку згубіў?.. Я табе сам марш сыграю. Будзеш ты ў мяне не бутэлькамі, а зубамі

барабаніць... Ану ў машыну...— таўхануў ён Рамана пратэзам. Той усё яшчэ стаяў, мацаў сябе рукамі і глядзеў на зямлю пад ногі: шукаў прыёмнічак.— Побач пасаджу... На пярэдняе сядзенне... Не пабаюся, што ты ў г...не... Цяпер-то не выкруцішся. Цяпер ужо ў нас будуць дакументы, як у горадзе з выцвярэзніка... Ад Коласа... А тады пойдзеш пад суд. А тут...— паказаў ён пратэзам на поле,— навядзеш парадак. Скуру з быкоў злупіш, яму выкапаеш, як паложана, і засыпіш усё гэта... Аднясеш і здасі скуру ў свіран кладаўшчыку... А тады я з цябе пачну яе лупіць... За такіх быкоў ты ў мяне літасці не прасі-і...

Раман упіраўся, але, азіраючыся, ішоў да старшынёскага «казла».

— Сонца кр-роў смокча... Я жонку кінуў... Ты мне, старшыня...

Ля доўгай, расцягнутай па канюшынішчы рамы ўжо калыхалася жоўтая цыстэрна — выязджала на дарогу, і «казёл» рвануў за ёй, выставіўшы на сонцы выгаралы белы брызентавы верх, як лысіну. Над дарогай падняўся пыл, павіс доўгім выцягнутым шэрым воблакам, схаваўшы з воч белыя стрэхі ў Краснаволлі і высокі чорны маяк.

А ў другі бок, на Крамянец, ля вырытай глыбокай канавы ішоў полем, задзёршы галаву, рыжа-буры Сіментал — магутны, цяжкі, на дужых прамых нагах, наструнены, з роўнай, як пад шнур, спінай. Ішоў і рыкаў — клікаў за сабой стаду да Крамянца на лог, праз які заўсёды вадзіў яе з поля на ферму. У канаве як усё роўна закіпела раптам вада; зараўлі бычкі, колючы адзін аднаго, як у вуліцы ў платах, калі спяшаліся ў кароўнік на ферму. З канавы сталі паказвацца рагатыя галовы, падымаючыся вышэй і вышэй. Узрываючы рагамі і капытамі сухія тарфяныя берагі, наверх на дарогу павалілі гуртам каровы — рыжыя, бурыя, белыя, падласыя... Тоўхаліся, пёрліся наперад, абганяючы па канюшынішчы адна адну — ад іх аж замітусілася ўваччу; круціліся па кругу, баронячыся ад лютых сляпнёў, пасля выстраіліся ў доўгі шнур, падняўшы буры пыл праз усё канюшынішча і засланяючы Сіментала. Ён ішоў на самым перадзе — спускаўся ў лог пад Кур'янаўскія Сады, і здалёку была відаць яго роўная, як пад шнур, спіна.

— Цяпер пойдуць, дачка... Калі пайшоў Сіментал — усе пойдуць. І каб па ім не ўдарыла сонца, ён бы сам пры-

вёў усіх на ферму. Бяры, дачка, Валерку і праверце канаву. Пярэзімкі яшчэ дурныя... Прайдзіце ззаду...

Таня, стоячы на загоне, закручвала ў куклу касу.

Шалеў гарачы вецер, паднімаючы дарогай пыл ад самага Краснаволля. Сек па голых нагах жарствой, уздзіраў з канюшынішча сухую траву і разам з пылам гнаў услед за скацінай. Гудзеў, блытаючыся ў выцягнутай на полі раме, як дома ў коміне, і ныў цененька, як шчаня, у сухой выцвілай белай мятліцы, нагінаючы яе да самай зямлі. Зашумела ля дарогі старасвецкая ліпа, зашастала на загоне на альховым галлі, якім накрылі быкоў, сухое лісце. Чарсцвела ўвачавідкі ў баразне гразь, бралася карой; пажаўцеў, абветраны, Раманаў расшпілены партфель. Ля партфеля ўсыхаў у гразь аціхлы прыёмнічак у футлярчыку, як утоптаны ў зямлю брыкецік. Вузенькі раменьчык парваўся і ляжаў расцягнуты і запэцканы, як кавалак старой аборыны, вывезены вясной з двара на поле разам з гноем.

Алімпіяда клікнула Валерку і паказала ў гразь у баразну:

— Падымі, хлапец. Аддасі. За яго грошы плацілі...

Валерка ўхапіў з гразі прыёмнічак у дзве рукі, як з агню; прыёмнічак адразу азваўся ціхай жаласнай музыкай.

— Ідзіце, дзеці, за скацінай. Берагам. На Сады. А я сяду ў машыну. Мне ўжо як досыць... І галава без хусткі...

Яна доўга садзілася ў кабіну, і ёй памагаў Ратнікаў.

Загудзеў матор, заглушыў калючы свіст ветру і музыку ў Валеркавых худых, запэцканых у гразь руках. Насустрач пабегла шэрае ад ветру і пылу і белае ад смугі і гарачага сонца неба — не глянуць.

Яна лавіла вачыма скаціну, пакуль яе не схавалі Кур'янаўскія Сады.

Бліскучы, адпаліраваны пальцамі жалезны кручок быў гарачы, не даткнуцца — нагрэўся ад сонца — і туга сядзеў у прабоі. Яна пацягнула на сябе вароты, цяжкія, з шырокіх ачэсаных сасновых лат, з аполкам, прыбітым з самага нізу, каб не лазілі куры і парасяты, і, падчапіўшы, выкінула кручок з прабоя. Вароты перш адчыняліся самі, цяпер аселі — і яна стаяла, апёршыся на іх зверху. Стукала ў скроні; сэрца, здавалася, б'е з грудзей аж у лату на варо-

тах. Ззаду, за фермай на загуменні, ныў, бразгаючы, «газон» Ратнікава. Ля ног за варотамі пішчалі вераб'і, натапыраныя, вялікія, што курчаты; на двары, пад прызбай кешкаліся куры, выграбаючы крыллем з-пад ніжняга вянца на дарожку сыры пясок.

Яна адапхнула вароты, упёршыся рукамі, праціснулася на двор і, апіраючыся на частакол, пайшла сцежачкай, ступаючы па сухім прытаптаным падарожніку, па сырым пяску з-пад прызбы і па растапыраных пад ногі курыных крыллях.

Падняўшы вочы на двор, на парозе ў варыўні згледзела белую вялікую лысую галаву, як усё роўна ліпавую дзежачку, і пазнала: Далідчык, Мамка... Ён сядзеў у цяньку пад варыўнёй — зняў з прабоя клямку і расчыніў дзверы, каб умясціцца на вузкім цесным месцы. На зямлі ля яго стаяла вялікая поўная чорная сумка, і недзе з-пад яе блішчэлі лакіраваныя паўбацінкі — на іх свяціла сонца. Убачыўшы яе, ён уздрыгнуў, бліскучыя паўбацінкі заёрзалі па пяску, схаваўшыся пад чорную сумку. Сумка перакулілася, ад яе адлучыўся чорны капялюш і пакаціўся па дарожцы да сеначак.

Далідчык-Мамка хацеў адразу ўстаць, але не мог падняцца з парога і хапаўся за вушакі ў дзвярах — адной і другой рукой. Нарэшце ён устаў з парога, белая лысая галава паднялася аж пад страху — як усё роўна ліпавую дзежачку памылі і павесілі сушыць на калок у плоце. З плота ліпавая дзежачка паказала залатыя зубы — Далідчык-Мамка абрадаваўся, відаць, доўга чакаў на двары пад варыўнёй. Ён ступіў да яе і, мусіць, загаварыў: залатыя зубы задрыжалі недзе знізу пад дзежачкай і загарэліся чырвонай, выцягнутай на ўвесь двор спружынай з вострымі, як зубы ў акулы ў пашчэнках, зігзагамі... Дзверы ў варыўні адразу зрабіліся чорныя; пасля ўся варыўня і ўвесь двор счарнелі, як вугаль... Яна здагадалася: Далідчык у чорным касцюме, расплываецца ў вачах, і свет ад таго робіцца чорны, як уначы, і чарнату рэжа вострая бліскавіца: Далідчык ішоў да яе і гаварыў, паказваючы залатыя зубы...

Чарната раптам знікла з вачэй, пашчэнкі з чырвонымі зубамі разявіліся, ад'ехалі ўбок, і яна, выпусціўшы з рук частаколіну, асунулася на зямлю — пачула, што стала на калені. На траве пад частаколам згледзела раптам перад самымі вачыма невялічкага, з сантыметр, зялёненькага цененькага чарвячка-землямера. Землямер, пачуўшы яе, ві-

даць, уцякаў: расцягваўся, пасля, складваючыся ўдвая, падымаў сябе старчма і шукаў кончыкам носіка месца, куды слізнуць — мінаў ямкі.

Павяла галава... Некуды ўперад, да студні...

«Задаўлю, як упаду на зямлю...» — падумала яна пра землямера.

Чырвоная спружына сцебанула па бліскучых чорных лакіраваных паўбацінках — сагнуўся, відаць, ля яе, Алімпіяды, падбегшы, Мамка.

Яна павалілася пад хату на бок... Залопалі крыллем на пяску спалоханыя куры... Недзе пад Кур'янаўскімі Садамі зарыкаў у стадзе Сіментал... Вуліцай, падымаючы пыл роўна з хатай, пайшлі леспрамгасаўскія «прычэпы»...

*Частка другая*

# Бальніца

## 1

Адплюшчыўшы вочы, Алімпіяда доўга яшчэ ляжала ў сіняй цемнаце, не кратаўшыся, тады памалу павярнула галаву.

Ложак у палаце быў прыціснуты брыжам да самага акна. Акно сінела ад ранішняга неба, і здавалася, што паміж небам і ложкам няма ні рамы, ні шкла, што ўся палата ахутана мяккай, як на дварэ, сінькай.

Пасля ўзышло сонца за ліпамі на рог акна, і яны загарэліся агнём. Старасвецкія ліпы, што абышлі бальнічны двор, падпіраюць высака ўгары жоўта-белае, як малодзіва, расцягнутае воблака. Яны калышуцца ад ветру, і тады здаецца, што калышацца і воблака, і акно, і ложак у палаце. Акно ляціць некуды з воч па сцяне, выцягваючыся ў сінюю паласу, за ім — белая з бэлькамі столь, сінія сцены з вялікімі жоўтымі пшанічнымі каласамі на абоях, ляціць віхрам уся палата з бліскучымі нікеляванымі ложкамі, з павешанымі на брыжах махровымі белымі ручнікамі, з расчыненымі на калідор дзвярыма і прыбітай на дзвярах наўкасяк бліскучай ручкай... Пачынае шумець у галаве, як шуміць, пенячыся, сырадой, калі пераліваеш яго з малакамера ў бітоны, а ён падымаецца, расце шапкай, як грыб, і яго, налятаючы з-за кароўніка, зрывае вецер і нясе на дзядзінец на траву, рассыпаючы белымі вохлапкамі.

За акном усхадзіўся вецер: б'е ў шыбы, шастае па сцяне; пачынаюць ніжэй нагінацца бліскучыя вярхі ў ліп — відаць, прайшоў дождж; блізка за шыбамі ківаюцца жоўтыя кветы юргіні. І ўвесь час пішчыць недзе за сцяной курчо, ценецька, жаласна, наводзячы ціхую, да болю ў грудзях, нуду. Вецер прыганяе аднекуль галак, чорных, як вуголле, сыпле іх з-за бальніцы, з-за страхі, як з рукава, і яны, збіраючыся кучай, павісаюць угары над ліпай цэлай хмарай, не могучы ніяк апусціцца на верхавіну; пасля іх зносіць на расцягнутае воблака — нібы хто рассыпае трасочнік на падмеценым і пасыпаным жоўтым пяском двары...

Усюды ўсё чужое. Двое сутак прайшло, як прывязлі яе ў бальніцу, а яна не можа ні да чаго прывыкнуць. Чужыя

ложкі, чужыя сцены, чужы цень на сцяне... Не там вокны, не той стук, не так скрыпяць дзверы, не тыя галасы на дварэ... Здаецца, каб цяпер дамоў, у запечак, дзе ціха... Уціснулася б у сваю падушку з галавой — свет бы адразу перайначыўся...

За ручку ў дзвярах, прасунуўшыся асцярожна з калідорчыка, узялася раптам рука ў белым рукаве. Дзверы сталі, не круціліся ні сцены, ні вокны, не зліваліся ў адну сінюю паласу і не беглі ў вір галавой — усё спыніла адразу рука. На парозе паказаўся Колас у белым халаце. Але ў палату не пайшоў; з-за яго выскачыла Гілена Чайка, у шырокім байкавым новым халаце, акручаным туга каля сябе, у дарагой шоўкавай японскай хустцы ў карычневыя дробныя квяты і з чорнымі прэнзлямі, накінутай збольшага на галаву і прыціснутай ражкамі ля шыі. На лоб з-пад хусткі ў яе выбіваюцца, як галоўкі завялай увосень парыжэлай белай дзяцельніцы, кароценькія паблытаныя валасы пафарбаванай сівой завіўкі старога чалавека.

Чайка ніяк не магла заснуць ноччу ў палаце нават пры адчыненых вокнах. Ішла яшчэ звечара на двор, хадзіла дацямна па лажку між прысад, тады варочалася да бальніцы, садзілася ці на ганак, ці на лавачцы пад куст бэзу і сядзела ўсю ноч. На яе за гэта крычаў кожны раз сам Колас, грозіўся даць «конскую дозу снатворнага», але не даваў: «не нравились симптомы...» А маленькая беленькая таблетачка, якую яна глытала вечарам без вады, яе зусім не брала. Толькі ўжо такой парой, калі ўсходзіла сонца, Чайка, наседзеўшыся за ноч на дварэ, магла заснуць у палаце на якую гадзіну, пакуль не паяўлялася з чырвонай швабрай у руках Сцяпанаўна — мыць падлогу, ці Праскурніч'я — медсястра — ставіць градуснікі. Чайка, як і ўчора, хацела ціхенька на пальчыках — усе яшчэ спяць — прайсці да свайго ложка, які стаяў ля сцяны насупраць Алімпіяды, і шмыкнуць асцярожненька пад прасцінь. Выціснулася, як квактуха з-пад хлева з тайком зробленага гнязда, клюнула, напілася вады і зноў шусь пад хлеў, ціхенька, асцярожненька, каб нават крапіва ля сцяны не закраталася, каб не трапіць каму на вочы. Ціхая, асцярожная Чайка... Згледзеўшы, што Алімпіяда не спіць, Чайка апусціла рукі, якія была прыціснула да грудзей, і ўздыхнула. Пасля падышла, ступаючы на пальчыках, да ложка і нагнулася над ёй, засланіўшы зялёным халатам вялікія пшанічныя каласы на сцяне. Стаяла, не гаварыла ні слова, толькі ківала памаленечку галавой і

глядзела так балюча і жаласна сваімі сумнымі, жаўтаватымі ад хворай печані вачыма ёй, Алімпіядзе, недзе ў самую душу — эх, сястрыца... а якія мы былі...— што хацелася плакаць горкімі слязьмі. І ў самой Чайкі заслязіліся вочы — парабіліся, як адуванчыкі ў расе...

Чайка была з добрай душой і магла паспагадаць любому на свеце. І як заўсёды бывае, добраму чалавеку выпадаюць у жыцці адны беды. Чайка была з іхняй вёскі, з Крамянца — з Мяцяёнкавай хаты. Стаяла некалі тая хата — крытая саломай, самая бедная ў вёсцы — далёка ад вуліцы, аж на гародах, пад старой, з дробным лісцем рабінай, як усё роўна хаваючыся ад воч. Чайка і пайшла ў свет з Мацяёнкавай хаты праз доўгую вулачку, абгароджаную то плотам, то парканам. Пайшла Гіленай Мацяёнкавай; Чайкай яна ўжо стала цяпер. Дзяўчынаю яна была прыгожай: круглы чысты твар, які чырванеў адразу, як мак, варта было толькі ёй падміргнуць; густыя каштанавыя валасы, заплеценыя ў касу — каса то спераду на грудзях, на белай нажутцы, то закручаная ззаду на патыліцы ў куклу; вялікія круглыя шэрыя вочы — утаропяцца на цябе, як усё роўна радуюцца, пасля апускаюцца сарамліва і глядзяць пад ногі. І здаецца тады, што яна шкадуе цябе да слёз. За Алімпіяду Чайка была маладзей гады на тры, але замуж пайшла раней, за настаўніка Бальшакова, і жыла яна да вайны ў школе — рабіла тэхнічкай. Крытая чырвонай бляхай школа стаяла процi могілак ля Ячнага; у вайну яе спалілі немцы. Не вярнуўся з партызан і Бальшакоў: памёр ад тыфу ў лагеры кутузаўцаў пад Ямскім. Ад Бальшакова ў Чайкі вырас сын, адслужыў у арміі і цяпер рабіў у Мінску на заводзе. Недзе адразу пасля вайны, калі ў вёсцы стаў леспрамгас, яна «выходзіла замуж» за тэхнарука. Які там замуж... У таго гулякі была сям'я ў Плешчаніцах, толькі што жыў той далёка ад яе — за трыццаць вёрст у Чайкі на кватэры. Нават дзіця ад яго ў Чайкі нарадзілася, але скора, грудное яшчэ, і памёрла. Паехаў з вёскі ўчастак — паехаў і тэхнарук сабакам сена касіць, нават і вачэй пасля ні разу не паказаў. Пачакаўшы, яна выйшла замуж у сябе ў Крамянцы за Язэпа-Віню, калі ў таго памерла жонка. Віня быў за яе маладзей, вясковы шыракаплечы лабідуда і паваляка: то ў леспрамгасе, то ў калгасе, то нідзе — ловіць вудай рыбу ў Віліі і з сабакам гойсае па лесе, то стане вартаўніком на смалакурцы. Як жа ўжо яна яго глядзела... І верхняе і споднее кожны дзень чысценькае, выгладжанае; і за сталом — чаго толькі душа

пажадае... Адмывала і адскрабала гады два пяцера яго дзяцей ад першай жонкі — паяўляліся яны на свет у Язэпа-Віні ў хаце адно за адным, кожны год, ці што, і былі дробныя, як сухі боб, ціхія і загнаныя, адны толькі каштанавыя вочы ў іх у кожнага гарэлі бліскучым дзіцячым слязлівым агнём: пакуль адвыклі ад маткі.

З Язэпам яны развяліся: біў яе да паўсмерці. Уцякала дамоў — прыбягаў, біў і матку, старую сляпую Антуніну. Знаходзіў на печы. Чайка цярпела, за што за якое... Ніхто ў вёсцы не ведаў. Пасля пабояў, з сінякамі, слалася перад ім і ногі нанач мыла яму цёплай вадой у тазіку. І выцірала ручніком... І не пайшла б яна ад Язэпа-Віні, каб не сын. Прыехаў, забраў яе і павёз у Мінск, у суд яшчэ хацеў падаць на Віню, але яна не дала... Што ты... Дагэтуль сыну не можа дараваць, што ён «пакалечыў яе жызню...».

У горадзе яна глядзела ўнука, пасля, пайшоўшы ад сына — не ўжылася з нявесткай,— рабіла дворнікам і ліфцёрам. Палучыла пакой на Нямізе і зноў выйшла замуж. Прывозіла нават мужыка ў вёску — хаваць матку, паказала ўсім. Высокі, рыжы, здаровы — здаравей за Язэпа,— ён, аказалася, быў зэкам і скора яшчэ раз паехаў туды, адкуль нядаўна вярнуўся, і яна зноў асталася адна. Пайшла ў рэстаран мыць пасуду, старалася, была акуратная, і стала рабіць афіцыянткай. Пакруглела, пamaладзела, гаварыць стала па-гарадскому, абрэзала касу і зрабіла завіўку. Хацела зноў выйсці замуж за экскаватаршчыка, але той быў намнога маладзей за яе. Умяшаўся сын: не даў. Ва ўсіх, хто прыязджаў у горад з Крамянца, яна прапытвала пра Язэпа, хацела вярнуцца да яго, але ён жаніўся, узяў дзеўку і чакаў ужо сына. У горадзе яе пачала есці нуда, сын не даваў ёй больш выходзіць замуж, і, калі яе пасватала Выліна з калгаснай канторы за ўдаўца ў Краснаволле, яна кінула рэстаран, адказалася ад кватэры, якую ёй хацелі даць ад рэстарана, і зноў пайшла замуж. Удаўцу было добрых шэсцьдзесят гадоў, дзеці раз'ехаліся, пакінуўшы яго аднаго, і яна, вярнуўшыся з горада ў чужую вёску, зноў узваліла на сябе і чужога, з хваробай старога мужчыну, і хату, і гарод, і карову з цяліцай, і курэй, і нават індыкоў, якія былі толькі ў аднаго старога на ўсю вёску. Абы толькі быць замужам... За гэтулькі замужжаў згубілася ў яе з пашпарта і ў людзей з памяці першае яе мужава прозвішча, цяпер яна і ў сваёй вёсцы і ў чужых была Чайка: запісалася са старым з Краснаволля, каб усё было як у людзей. І запісвацца хадзілі яны, прыбраўшыся

ў новае, пешшу, як да вайны, у сельсавет у Белае. Яна цяпер і сама сябе звала Чайка, і нават стары яе зваў Чайкай: любіла.

Чайка нічога так і не сказала: пастаяла ля ложка, паківала галавой, як юргіня жоўтай квятай за акном пад сцяной, выцерла пальцамі вочы — яна заўсёды выцірала вочы, калі прыходзіла перш у хату ці па зелле, ці падзяліцца чым купленым, ці калі прыносіла кавалак свежыны з кружком кілбасы, ад якой пахла каляндрай і часнаком,— і пайшла ціхенька, села на ложак. Пашкадавала яе, Алімпіяду, а Алімпіяда пашкадавала яе, Чайку — так спрадвеку рабілі бабы ў вёсцы.

У палаце зноў зрабілася ціха, шумеў толькі за сцяной у ліпах вецер, сагнаўшы галак на вёску. Галкі, відаць было праз акно, садзіліся цяпер чорнай кучай на рагатую антэну над новай жоўтай страхой на хаце дырэктара школы Сакалоўскага, за якім была замужам Праскурніч'я, нарадзіўшы таму двух сыноў і астаўшыся пад сваім прозвішчам.

Заскрыпелі пад Чайкай на ложку спружыны — відаць, хацела легчы, і тады Алімпіяда пачула, як ціха зашаптала са свайго ложка Выліна — пыталася ў Чайкі:

— Ну як?

— Адплюшчыла вочы. Глядзіць...

— Пайшлі трэція суткі. Выкруцілася... Вярнулася з таго свету,— загаварыла раптам на ўсю палату Выліна.— Ну як там, на тым свеце, цёця Уліма? Я ў вас яшчэ тады хацела спытацца, калі вас адкачалі...

— Як у песні: лучша нету таго свету... Там дождж прайшоў...

— Ужасць, што гаворыць... Вясёлая, дзякуй богу... Гэта тут быў дождж, цёця Уліма. Такі ноччу ўрэзаў, чуць не паплылі... Нашу бедную Чайку сагнаў з лавачкі з-пад бэзу. На ганку ўсю ноч прасядзела. Не баішся ты, Лена... Данясуць старому, што ты кожную ноч праводзіш пад бэзам на лавачцы... Хто паверыць, што адна. Ужасць...— Выліна, устаўшы, пачала хадзіць па палаце. Папраўляла на грудзях сваю раскошную сінюю, як васілёк, у белыя дробныя кветы сукенку; бальнічны халат яна не любіла — ужасць! — толькі, калі выходзіла на двор, накідала яго на плечы. Падышоўшы да акна, яна пляснула ў далоні: — Лужы стаяць, ужасць...— дастала з кішэнькі ў сукенцы люстэрачка, страсанула чорнымі густымі струкаватымі

валасамі і пачала падводзіць памадай вусны — у пальцах у яе бліснуў золатам кароценькі карандаш.

Выліну прывязлі на машыне з калгаснай канцылярыі ў адзін дзень з Алімпіядай з «вострым» жыватом. Апендыцыт «исключили» — сам Колас,— і яна ляжала цяпер з вострым гастрытам. Гастрыт у бальніцы ў яе да таго развастрыўся, што ёй да сённяшняга дня было не да люстэрка і не да памады: бальнічны зялёны паношаны халат у яе вісеў увесь час перакінуты цераз руку, як плашчык перад дажджом — яна накідвала яго на плечы, як усё роўна хавалася пад ім, і бегла праз бэзавыя кусты да новай драўлянай прыбіральні, якая яшчэ пахла сасновымі дошкамі. Назад у палату чуць цягнула ногі, а прыйшоўшы, праз якую мінуту зноў хапала з белага бліскучага брыжа з ложка паношаны зялёны халат: «Ужасць...» Востры гастрыт у яе зацягнуўся, даў тэмпературу, і яна пачала ўжо вешаць нос. Яе ўсё клікалі ў амбулаторыю да тэлефона — званіў з Краснаволля з канцылярыі Джанік, не мог сам разабрацца ў яе паперах. Учора Джанік прыязджаў да яе на матацыкле, і яны сядзелі на лавачцы пад бэзам. Джанік з паперамі на каленях, яна з зялёным халатам, перавешаным цераз руку — зводзілі баланс.

Намазаўшы вусны ў малінавае, яна склала іх у трубачку, доўга глядзела ў люстэрка на сябе, тады схавала адразу ў кішэньку і люстэрка і бліскучы карандаш з памадай і кіўнула галавой на сцяну, за якой была мужчынская палата:

— Ну, хлопчыкі... Сягоння беражысь...

«Хлопчыкі» — былі мужчыны з суседняй палаты. У бальніцы ў Белым было толькі дзве палаты: адна мужчынская і адна жаночая. У адной і ў другой стаяла па восем ложкаў, па чатыры ля сцяны, але летам іх усе не займалі, ад сілы па чатыры: не было людзям часу класціся летам. «Хлопчыкі» прыходзілі ў іхнюю палату і садзіліся на першы з прыходу свабодны ложак — хаваліся ад духаты: мужчынская палата была ад сонца.

— Ну, дзяўчаты, давайце ўставаць...— зноў загаманіла Выліна на ўсю палату.— Будзіце Марфу. Марфачка-а-а...— запішчала яна, як мышка.— Гэта ж трэба так спаць... І дзень і ноч... Ужасць...

Марфа была чацвёртая — апошняя ў іхняй палаце, астатнія ложкі былі пустыя. Марфа — з Ячнага, першая да вайны трактарыстка ў гэтым баку. Была яна намнога старэй Алімпіяды, гадоў на дзесяць, шырокая ў плячах,

як мужчына, чарнявая, з глыбокімі, недзе аж пад лобам сінімі вачыма, з круглым тварам, з задзёртым носам і падбародкам. Бурая, састарэлая, пасыпаная сівізной. У яе круціла каторы ўжо год рукі і ногі; цяпер ногі ацяклі, парабіліся як калоды, і яна, апіраючыся на кій і на плот, «прыпаўзла» з Ячнага ў амбулаторыю да Коласа, і ён паклаў яе ў бальніцу.

Замуж Марфа, ніхто не ведаў чаму, не выйшла, і дажывала яна свой адзінокі век са сваёй сястрой Кланяй — у той даўно памёр мужык і параз'язджаліся дзеці — у вялікай, на дзве палавіны хаце. Адна ў адной палавіне, другая — у другой; адна глядзела цэлымі днямі з аднаго акна на вуліцу, другая — з другога.

Паднасілася Марфа, не пазнаць; нават не скажаш, што яна сядзела некалі высака на сядзенні на трактары за рулём — паспрабуй, уссадзі яе туды цяпер такую... А тады, да вайны, яна ўсягды здалёку была відаць на трактары — чырвоная касынка на чорных валасах, сінія вочы і белыя зубы. І чырвоныя юргіні, вялікія, кунатыя, уткнутыя ля выцяжной трубы. Як сягоння ўсё перад вачыма: шырокая і пустая, нудная пасля лета Кур'янаўшчына, сіняе густое неба і ў ім над зямлёй адно астылае асенняе сонца... І ў пустым, сівым ад смугі і белага павучыння полі — чорны трактар і чырвоная касынка. І вароны чорнай хмарай над свежай чорнай зямлёй.

— Падыдзі, крані... Ці дыхае яна там...

— Ужасць... Ідзі сама, Чайка, кратай... Марфачка-а... Пад'ём...— Выліна адышлася ў парог, паднялася на пальчыкі і глядзела ў кут на ложак, дзе ляжала, не адзываючыся, Марфа.

У палаце зноў на мінуту стала ціха, і было чуваць, як тупаюць па калідоры ногі і бразгаюць вёдры. На двары ля кухні — відаць у акно — замельцяшылі белыя халаты. Скрыпнулі дзверы ў амбулаторыі, закашляў як у бочку Пугач: «Казларогая судзьбіна...» Над самай бальніцай, рассыпаючыся, як гром па небе, загрукаў рэактыўны самалёт, аж зазвінелі ў вокнах шыбы. Захрапла Марфа ў сваім кутку, перавярнуўшыся пад белай прасцінай на другі бок, і яны ўсе засмяяліся: толькі самалёт і разбудзіць...

— Весела ў вас...— убегла ў палату, як усё роўна з вясёлай вуліцы, Праскурніч'я — сястра. Свежая, памаладзелая, не дасі і трыццаці, не то што ўсе яе сорак. Белы халат расхрыстаны, рукавы закасаны па локці, аголеныя рукі жоўтыя ад загару, дужыя; валасы пад белым высокім

каптуром з чырвоным вышытым крыжыкам, як пераспелая салома — ад перакісі; падстрыжаны коратка, тырчаць у бакі. Адна рука ў кішэні ў халаце — то дастае, то хавае градуснікі, сціснутыя ў кулаку.— Вазьміце пад пашку...— падала яна градуснік першай Алімпіядзе.— І ў вас сёння вочы вясёлыя. Смяюцца... Мне здаецца, вам лепш... Колас скора глядзець будзе, рыхтуйцеся...— яна павярнулася да Выліны, выцягнула руку, дзержачы на далоні тры градуснікі, і сказала, як усё роўна дзелячы дзецям цукеркі: — Па адным на ўсіх... І ў кут падай,— паказала яна рукой на Марфу.— А што з ёй? — спыталася і сказала: — Любіць бабка паспаць. Будзіце, хай не дрыхне. Колас скора прыйдзе...— настрашыла і пабегла з палаты: ёй вечна не было часу. Аглянулася толькі з дзвярэй: паказала яшчэ раз жоўты ад загару твар з дзічкай справа на носе, сінія вочы і кароткія саламяныя валасы.

Праскурніч'я паявілася ў Белым адразу пасля вайны. Родам яна была з-пад Масквы, на фронт пайшла медсястрой, на фронце і выйшла замуж за настаўніка з Белага Сакалоўскага, старэйшага намнога за яе. Пасля вайны Сакалоўскі стаў дырэктарам НСШ у Белым; Праскурніч'я вяла фізкультуру і ваенную падрыхтоўку. На ваенную падрыхтоўку прыходзіла ў новай гімнасцёрцы з сяржанцкімі — тры жоўтыя шаўковыя лычкі — пагонамі, падпярэзаная шырокім новым рамянём, у цёмна-сіняй караткаватай — відаць круглыя калені — спадніцы і ў бліскучых хромавых ботах з абціснутымі ў гармонік халяўкамі. Светлая з твару, са светлымі доўгімі — клаліся аж на плечы, на пагоны — падкручанымі валасамі, яна ўсягды ўсім усміхалася, паказваючы ямачкі на шчоках, была прыветлівая, і яе любілі ўсе дзеці ў Белым. Яна вадзіла іх строем дарогай пад ліпавымі прысадамі — школа тады была тут, дзе цяпер бальніца. Задзёршы падбародак і махаючы рукамі: раз, два, тры!..— яна ішла збоку строю, і дзеці наўза́вады махалі разам з ёй рукамі, што маладыя бацяняты крылямі, перад тым як узляцець з гнязда. Калі школу ў Белым перавялі ў новы цагляны будынак на два паверхі — зрабілі сярэднюю, а ў старой адкрылі бальніцу,— Праскурніч'я пайшла ў бальніцу медсястрой. Многа гадоў мінула з таго часу; Праскурніч'я пастарэла, прывяла, твар падпёкся, як яблык здалёку ад агню. Нарадзіла яна Сакалоўскаму двух сыноў, сыны кончылі школу, вучыліся недзе ў тэхнікуме. Праскурніч'я была вёрткай, маладзілася — як гаварыла пра яе Сцяпанаўна: у сорак пяць баба ягадка

апяць — магла нарадзіць яшчэ не аднаго сына, але раджаць ёй трэба было б ад хлопцаў з Белага, ад якіх і дагэтуль яшчэ не мела адбою. З Сакалоўскім у яе жыццё не ішло: састарэў, аблысеў, азыз, пайшоў на пенсію.

Дома ў яе цяпер усягды было пуста, да Сакалоўскага яна ніколі не спяшыла і пасля работы яшчэ аставалася ў бальніцы з хворымі.

— Тваю макаўку... Носіць жа бабу нячыстая сіла... Як ведзьму на памяле...— у дзвярах, узяўшыся адной рукой за лоб, у другой дзержачы вялікую чырвоную швабру, стаяла Сцяпанаўна — санітарка.— Лоб мне разбіла. Ёй бы яшчэ хвастом круціць, а не ля хворых сядзець... Настасея! — крыкнула яна, павярнуўшыся, у калідор.— Свае будзем, калі лоб у лоб стукнуліся... Чуеш, тваю макаўку?.. Парадніомся...— Яна нагнулася, пераставіла з калідора праз парог вялікае старое бляшанае вядро ■ мокрай анучай на беражку і сказала ўжо ў палату, ціха, як самой сабе: — Парадні-ім-ся... Пень будзе гарэць, а воўк зад грэць...

Зайшоўшы ў палату, яна прыставіла вядро з прыходу да сцяны, прыхінула да шалёўкі чырвоную швабру, падышла да Алімпіяды, утаропілася ў яе вачыма і пачала хуценька прыгладжваць на галаве свае сівыя, як іней, густыя валасы, закручаныя ззаду ў куклу.

— Сама ўжо ходзіш ці, можа, судно прынясці? — спыталася і пачала выціраць рукі далонямі аб шырокую і доўгую сінюю нажутку на жываце. Белы пакамечаны халат у яе матляўся недзе ззаду за плячыма, як сабраная ў зборачку фіранка на акне.— Весялей глядзіш, каб ты здаровенькая была...— яна засмяялася.— Ну?

— Судно не трэба. Не хачу...— сказала Алімпіяда.

— Тут жа ўсе свае, калі, можа, уважаешся іх...— паказала яна локцем на Чайку, тая засцілала пасцель.— Ногі твае ацяклі... А ты кажаш, судно не трэба... Давай тады я цябе памыю. А ты не ўставай, пакуль не скажуць...— У іх,— кіўнула яна галавой назад на дзверы, мусіць, на амбулаторыю, дзе быў Колас,— надта не палянжыш. Падымуць, калі ляжаць не трэба... А так — ляжы, баба...

Яна вярнулася ў калідор і адразу ж прыйшла ў палату з маленькім белым эмаліраваным тазікам — паставіла яго ля ложка, на тумбачку. У тазіку на дне ў вадзе ляжаў кучкай белы махровы ручнічок, і з яго ішла пара. Сцяпанаўна хуценька дастала ручнічок з вады, выкруціла ў та-

зік і пачала выціраць Алімпіядзе спачатку лоб — па галаве пацякла цёплая вада,— пасля шчокі, раз, другі... Алімпіяда пачула, як ёй робіцца адразу лёгка ўсёй, нават вочы ядранеў глядзяць, нібыта з іх знялі павучынне...

— Вочкі смяюцца, а нос сіні, як у мяне... Каб ты, сястрыца, дужанькая была...— яна аднясла белы тазік з ручнікам у калідор; вярнуўшыся, акруціла канцамі на пярэчку ў швабры шырокую — мех папалам — сураву мокрую анучу і пайшла ад парога, сунучы яе падлогай перад сабой да Марфінага ложка.

— Мы, відаць, вам мішаем? — спыталася Выліна, перакідваючы зялёны халат з рукі на руку.

— Мішаеце... А куды ж вас дзець?..

Падумала, як апомніўшыся, пасля сказала:

— Ніхто нікому не мішае. Стойце сабе. Ногі толькі растапырце, каб я чырвоным канцом залезла...

— Ужасць, што яна гаворыць... Сцяпанаўна!..— Выліна прыціснула зялёны халат да грудзей у дзве рукі; Чайка ад смеху аж галаву назад адкінула.

— Тут дзевачак няма, вашу макаўку...— Сцяпанаўна ішла за швабрай, як за плугам у баразне, у кут да Марфы.— Тваю макаўку... Разляглася. Мы яшчэ з табой можам хвост дудой насіць, як Настасея. Падымайся, тваю макаўку...— яна перавярнула швабру і пырнула ручкай з усёй сілы Марфе пад бок — тая аж падскочыла,— Харбін ужо прачнуўся, прывет перадае, а яна дрыхне... Яе макаўку... Упусціш апошняе, што табе бог паслаў, тваю макаўку. А яно ў жызні хоць раз выйсці замуж трэба, а то пойдзеш на той свет ведзьмай, а не бабай. Усіх мужыкоў сваіх праспала і апошняга Харбіна праспіш. Такія кавалеры цяпер нарасхват... Тупае вун, за сцяной, у дзве рукі за пахвіну ўзяўшыся, не ляжыцца...

Марфа падскочыла на ложку і села: апусціла скоранька азызлыя ногі на падлогу — намерылася ісці; не ведала толькі куды — сядзела і лыпала спрасоння вачыма.

— Харбін, тваю макаўку, кліча на лавачку пад бэз... Апошні шанец... Праспіш, пенсіянерка-міліянерка...

— Тфу...— Марфа плюнула перад сабой і нічога не сказала. Пачала сцягваць з брыжа сіні, вынашаны да белага стары халат.— Здурнела п'яная баба... Вачэй няма. Паўважалася б Алімпіяды...

— Не грашы, Марфа, языком. Баба ў жыцці не языком павінна саграшыць... А ты толькі языком грашыш... На той свет ведзьмай адправім, тваю макаўку...

Сцяпанаўне скора шэсцьдзесят. За апошнія гады яна зусім пастарэла: абвіслі шчокі, выцвілі вочы, пабялелі, як позні сон. Прамы, шырокі ўнізе паміж шчок нос пасінеў, на ім павыступалі нітачкамі жылкі і паналіваліся крывёю. Сама яна ўся абцяжэла, хадзіла, валюхаючыся з боку на бок, як старая качка ўвосень. Жыла Сцяпанаўна на свеце адна як палец. У вайну ў Крамянцы — сама Сцяпанаўна была родам з Краснаволля, у Крамянец пайшла толькі замуж,— знайшоўшы ў апошнюю блакаду ў Ліпніках пад Віліёй усю яе сям'ю: сына Колечку, мужыка Піліпа і свёкра Янука, немцы прыгналі ў вёску, запёрлі дома на двары ў новы зруб — Піліп канчаў хату — і спалілі. Сама Сцяпанаўна ўцалела: як ішлі адзін ля аднаго немцы, яна была воддаль на балоце — даіла карову. Немцы ў балота не палезлі... Вярнуўшыся назаўтра ў вёску на адны галавешкі, яна сабрала на пажарышчы ў белы абрус — застаўся ў вандзэлачку на балоце — абгарэлыя косці: усё, што асталося ад сям'і, занясла іх праз выганчык з вёскі на могілкі, выкапала яму, глыбокую, у два метры, доўгую, на вялікае дамаўё — яе Піліп быў высокі,— апусціла хатулёк з белага абруса на дно і засыпала яго пяском. І капец зверху насыпала, высокі, з крутымі краямі, як і трэба па чалавеку. І рабіла яна ўсё днём: і на могілкі ішла, і магілу капала, нікога не баючыся. Дарогай ля могілак ехалі і ехалі на машынах недзе на Дзвінасу немцы — відзелі яе, але не зачапілі.

Пасля вайны Сцяпанаўна сышла з Крамянца, паявілася была ў Краснаволлі, але ў яе тут нікога са сваіх не асталося, і яна пайшла ў белы свет. Устроілася была далёка ад дому, аж у другой вобласці ў Ілаве на спіртзавод. Рабіла на заводзе гадоў з пяць. Калі зноў вярнулася ў Крамянец — піла, лаялася, як мужчына, і рэзала ў вочы кожнаму «праўду-матку». Пайшла на ферму даглядчыцай; у калгасе трэба былі людзі, і калгас адкупіў ёй хату — стаяла з забітымі вокнамі: гаспадары з'ехалі на цаліну. Рабіла на ферме доўга, аж пакуль не пачалі балець ногі ад гумовых ботаў: дзень-ноч у холадзе, у макраце, у гразі. Тады яна пайшла ў бальніцу ў Белае санітаркай. Рабіць яна ўмела — цягавітая была па-вясковаму ўсё жыццё. Узялася яна «скрабці-мясці» ў бальніцы ў дзве рукі, але адразу пачала красці спірт і піць. Адна, а пасля з Коранем. Піла больш за яго — ілаўская прывычка з завода, але ўсягды сама стаяла на нагах, рэдка апіралася на швабру. Колас яе не выганяў з работы, ад яе толькі хавалі спірт. Не раз-

жыўшыся за дзень, яна садзілася захадам сонца на лавачку ля кухні і пачынала плакаць, гледзячы за раку на вялікае чырвонае сонца, якое апускалася ў сіні летні туман. Расказвала сама, што ў вачах у яе стаіць часта новы зруб ад хаты і яна не можа нікуды ад яго ўцячы. Пабяжыць — наткнецца на сасновую, з абчэсанага шырокага бярвення сцяну. Ад гэтага і піла, каб заснуць і забыцца на ўсё. Раніцай пасля сну ў яе ўсё праходзіла, але яна паяўлялася ў палаце злосная, натапыраная — не крані...

— За шэсцьдзесят рэ...— крычала яна з парога,— можаце самі, засранкі, за сабой ложкі пасцяліць! Цяпер такіх Коласаў больш, чым нас, нянек... Пайду зноў у калгас на ферму ці ў магазін уборшчыцай...

Яна нікога не баялася, баялася толькі звязваць у белую простынь старую бялізну... Закрывала рукамі вочы і бегла з палаты... За вандзэлкам прыходзіла тады ці Праскурніч'я, ці Карань — цягнуў па падлозе ў калідор, ленучыся падняць... Чым далей, тым яна ўсё больш баялася быць адна ў адкупленай калгасам хаце — хата напаміняла ёй сасновы зруб. Хадзіць дамоў у Крамянец было далёка, адымаліся ногі, і яна асталася жыць у бальніцы — у калідоры на канапе.

— Прывет, братка...— адчыняла яна кожную раніцу першая дзверы да Коласа ў абмулаторыю.— Паклала са стала вашы кніжачкі ў шуфлядку...

— Добра, добра... Ну, як жывём, Сцяпанаўна? — адзываўся з амбулаторыі Колас.

— А-а... братка...— махала яна рукой і зачыняла за сабой дзверы — уцякала з вачэй. Ішла ў калідор і брала ў рукі чырвоную швабру, мусіць, каб аперціся: не служылі ногі.

Цяпер яна мыла ў Марфы пад ложкам, шырока займаючы мокрай анучай, і не спускала бедную Марфу з языка:

— Бабы, што куры, каб яны здаровенькія былі. І бабы розныя бываюць, і куры. Адна, певень толькі апусціць ля яе крыло на зямлю,— яна ўжо і прысела. А другая бяжыць ад яго цераз плот, як на згуб галавы. Уцякае, крыл ле ломячы... І ты, памяло старое, уцякала ад мужыкоў.. А да чаго даўцякалася? Адна пад старасць неба гарбом падпёрла, як і я... Дык у мяне ж хоць дзеці былі... Помню — зробіш што і хочацца каму свайму ў хаце пахваліцца... Гаршчок добра вымыеш — і то хочацца паказаць... А каму цяпер пакажаш? П'яе ма, такую жызню... А ты,

стары лапаць, хоць бы пачула, як сваё дзіця на руках плача... Хай бы зарыла хоць аднаго ў магілу, як я...

Марфа маўчала, не чапала цяпер Сцяпанаўну; яе, калі яна пачынала гаварыць пра дзяцей, стараліся не чапаць.

Чырвоная швабра хадзіла ў руках Сцяпанаўны, як грабільно па лагу перад дажджом, загараджваючы дарогу Праскурніч'і, якая ішла збіраць градуснікі.

— Вы што гэта, Сцяпанаўна, сабе дазваляеце? — схапілася Праскурніч'я дзвюма рукамі за свой высокі белы каптур з вышытым крыжыкам і пачала гаварыць шэпатам на ўсю палату: — Буду гаварыць Коласу. Гэта ж здурнець трэба... Кіпячу шпрыцы — гляджу, яйкі круцяцца ў вадзе... Усё трэба пачынаць нанава... Стэрылізатар на дэзінфекцыю... Гэта ж скандал... Ідзі забірай і каб... Тут жа, можа, не каструлі табе на кухні...

Сцяпанаўна нават не павярнулася да Праскурніч'і:

— П'іх ма з тваімі шпрыцамі, Настасея... Кухня, кухня... Што з імі зробіцца, з тваімі шпрыцамі? Нічога не зробіцца...

— А-а, ты так? Пакажу тады ўсё Коласу. Хай паглядзіць у стэрылізатар сам.

— Паказвай, каб ты дужанькая была... Я таксама, Настасея, магла многа чаго і многа каму паказаць. Магла пайсці да цябе ў хату, узяць «многа каго» за руку і прывясці на кухню. Ноччу, калі клуб стогне ад вечарынкі... «Многа хто» не такія б яечкі ўвідзіў... Каб ты здаровенькая была, Настасея...

Праскурніч'ю як віхор схапіў з палаты...

— Ужасць, Чайка... Папрасі ты яе, каб яна хоць Улімы ўважалася...— Выліна, зморшчыўшыся, накінула на плечы зялёны халат.— І гэта трэба нам усё слухаць... Ужасць...

Праскурніч'я як выбегла, так скоранька і ўбегла ў палату. Нічога не кажучы — на Сцяпанаўну нават не глядзела,— выцягвала руку то да Чайкі, то да Выліны — брала градуснікі. Забярэ, паглядзіць і адразу ў кішаню ў халат — ніколі не запісвала: помніла. Памяць мела немаведама якую: спытайся, што за тэмпература была на градусніку ў хворага тыдзень назад вечарам— скажа. Марфа падала ёй градуснік здалёку, у Алімпіяды Праскурніч'я забрала сама — зморшчыўшыся, доўга глядзела на яго перад акном, пакуль пакласці ў кішаню. Меўшы добрую памяць, Праскурніч'я ніколі не запісвала і назначэнні ў журнал пры абходзе — помніла, але яе ўсягды прымушаў

запісваць Колас. Ён і сёння прынёс ёй журнал назначэнняў — новую доўгую сінюю кнігу, як з фермы журнал надояў,— і падаў з-за парога:

— Анастасія Іпалітаўна... Забыліся...

У вясковых, як і ў гарадскіх, бальніцах і сёстры і нянькі завуць адна адну па бацьку, як і дактары, і іх тады пачынаюць зваць так усе. Але Праскурніч'ю не сталі зваць Іпалітаўна: імя на вёсцы незнаёмае, нікога не напамінала, і яе звалі нават не Анастасія, а па-вясковаму — Настасея. Анастасіяй Іпалітаўнай яе звалі толькі Колас і Пугач, бо Корань зваў Зампалітаўнай і ў вочы і зáчы, прыпамінаючы ёй даўнейшую ваенную форму.

— Анастасія Іпалітаўна... Журнальчык...— сказаў яшчэ раз Колас і паківаў пальцам.— Ну, як здаровы, дзяўчаты? — кінуў ён вачыма па палаце.— Сёння хачу на вас глянуць раней, каб справіцца на аўтобус...— ён стаяў у парозе і ўсміхаўся, молада, на ўсе зубы, як хлапец на вечарынцы, прыйшоўшы з чужой вёскі. Чысты з твару, з парэзанай брытвяю шчакой, з прамым носам, прыгожым крутым лобам і з нацягнутай на яго беленькай, аж сіняй, накрахмаленай шапачкай — хто яе мог так накрахмаліць у Белым? Халат у яго, здавалася, захрумшчыць, як снег пад нагамі, хай толькі Колас сядзе на табурэтку, якую яму скаранька паставіла Настасея ля Алімпіядзінага ложка. З-пад халата відаць быў светлы летні касцюм, пашыты з нечага тонкага і мяккага — шырокія штаны звісалі на жоўтыя паўбацінкі, дастаючы мокрай падлогі, на якой расцякліся ў парозе лужы. На іх ён, здавалася, баяўся ступіць, як у гразь на вуліцы, і, зморшчыўшыся, глядзеў на Сцяпанаўну. Праскурніч'я ўсё-такі сказала яму пра яечкі, і ён, усё яшчэ стоячы ў парозе і чакаючы, пакуль шырокая ануча выцера ў яго пад нагамі лужу, сказаў:

— Калі вы, Сцяпанаўна, перацапаліся з усімі на кухні, то гэта яшчэ не значыць, што вам можна ў стэрылізатары варыць есці, як у каструлі... Пачуюць у Плешчаніцах — мяне ж засмяюць. Каб гэта было апошні раз. Мы з вамі гаварылі, я думаю, вы помніце. Не тое робіце...

— Што ж ты мяне, братка, каб ты здаровенькі быў, перад хворымі адчытваеш?.. Ты мяне ў свой кабінет, які я табе сягоння вымыла-вычысціла, пакліч і там мяне пачысці...— Сцяпанаўна махнула анучай па лужы ў парозе са злосцю, Колас аж адступіў.

— Сцяпанаўна-а...— паляпаў ён бліскучым фанэнда-

скопам сабе па далоні.— Не заводзься... У кабінеце мы яшчэ пагаворым...

— Не тое раблю, братка? А ты тады, братка, не хадзі загараць у бярэзнік з аптакаркай... І ты, братка, не рабі «не тое». У цябе жонка ёсць у Салігорску, каб ты здаровенькі быў... А то возьме аптакарку і ў бярэзнік. Дзе гэта відана, каб у нас хто ў вёсцы ішоў у бярэзнік, скідаў з сябе адзежу і ляжаў на зямлі, раскірэчыўшыся... Дзеці падглядаць бегаюць, каб ты здаровенькі быў...

— Сцяпанаўна-а!.. Не распускай язык!..

— А што, Сцяпанаўна? Пайду ўборшчыцай у магазін, а не — на ферму вярнуся. Вот ужо ты тут мяне азалаціў...

— Гарачае лета, Сцяпанаўна, дык і грозіш. Зімой будуць мерзці ногі, а месца ў бальніцы будзе занята, Сцяпанаўна,— Колас спадылба зірнуў на Праскурніч'ю і пацішэў. Пацішэла і Сцяпанаўна.

— Ай, братка... І ногі і рогі... Дай, братка, лепш закурыць...

— У амбулаторыі, Сцяпанаўна, на стале ляжаць. А язык, Сцяпанаўна, не распускай...

— Даруй, братка. Язык у бабы плешча, не ведае што. А праўды, братка, яго макаўку, ніхто не любіць...

— Сцяпанаўна...

— Іду, братка... А то праз мяне на аўтобус спознішся...— яна пераставіла ў калідор вядро з вадой; хуценька, як карова языком, лізнула мокрай анучай парог і схавалася ў калідоры. Тырчаў адтуль толькі канец чырвонай швабры, пакуль яго не закрыла зялёным халатам Выліна — пабегла на двор.

— Вот табе, Анастасія Іпалітаўна, і яечкі. Варылі б вы іх лепш без мяне...— Колас паморшчыўся і ступіў да Алімпіядзінага ложка.— Ну як тут новенькія? Як спалася?

Яго перабіла Настасея:

— Сон нармальны, стула не было, тэмпература трыццаць сем...

Колас, падышоўшы да ложка, смела сеў у сваім накрухмаленым халаце на табурэтку, злавіў халоднай рукой Алімпіядзіну руку і сціснуў пальцамі ў запясці. Зірнуў, насцярожыўшыся, у вочы, пасля на ручны гадзіннік з чырвоным цыферблатам і, адвярнуўшыся, утаропіўся ў акно — слухаў пульс. Глядзеў доўга, усё сціскаючы яе руку; тады і яна, павярнуўшы галаву, глянула ў акно. За вялікімі чыстымі шыбамі ціха краталася жоўтая юргіня, і над ёй мітусіліся, зляцеўшыся, матылькі. Белыя, жоўтыя, як лі-

мон, перапялёсценькія — чорнае з белым, яны мігцелі без аддухі за шыбамі, аж чуваць было, як шапочуць крыльцамі. На дварэ рабілася ціха і горача.

— Так, Алімпіяда Лазараўна...— Колас павярнуў галаву ад акна і пацёр пальцамі вочы.— Трапечыцца яно ў вас, як матылёк, сэрца ваша. Распранайцеся, будзем слухаць. Памажыце, Анастасія Іпалітаўна...— ён памаўчаў, тады кіўнуў на акно.— Ураджай на ўсякую пошасць. Ад сухаты... А дождж у людзей быў. І добры. Нас зачапіў толькі краем. Даў як галоднаму раз укусіць... Пыл толькі прыбіў. Зноў сёння будзе да трыццаці... І парыць, дыхаць на дварэ няма чым з самай раніцы. Та-ак... Не дыхайце...— ён прыставіў бліскучую халодную галоўку фанэндаскопа да грудзей — лучыў адразу ў балючае месца — і трымаў, пакуль тая не саграласся і не пачала праціўна ціснуць на скабу.— Цяпер дыхайце. Расслабцеся, нічым мне не памагайце...— пачаў ён перастаўляць галоўку фанэндаскопа па грудзях.— Та-ак... Памажыце нам сесці, Анастасія Іпалітаўна. Та-ак... Хто гэта вам гэтак спісаў плечы банькамі? Я ўсё хацеў спытацца... Пугач?

— Дачка.

— Гм... А цяпер дыхайце на ўсе грудзі... Як кавальскі мех... Та-ак...— ён хуценька пачаў торкаць цяжкай галоўкай фанэндаскопа па ўсіх плячах.— Та-ак... А цяпер давайце пагаворым...— ён хацеў схаваць фанэндаскоп у кішаню халата, не схаваў і трымаў у руках.— Вы помніце, што з вамі было?

— Не помню...

— І не прыпамінайце. Не трэба. Галава на такім сонцы можа закруціцца ў кожнага. І ў маладога.

— Дачка расказала ўчора, калі прыходзіла.

— Мы ўсягды спяшым абрадваць адзін аднаго... І часта такое з вамі бывае? Перш калі было?

— Было і перш. Толькі не часта...

— Угу. Пакажыце вочы...— ён доўга адцягваў пальцамі ніжнія павечкі на вачах.— Язык... Та-ак... Ён у вас геаграфічны... А цяпер скажыце: ацёкі перш былі?

— Не. Не было.

— Угу. А што жывот неспакойны?

— Перыстальціка...

— Вы і гэта ведаеце?

— Я, доктар, яшчэ да вайны на заатэхніка вучылася. А хваробы — ці ў скаціны, ці ў чалавека... Адны па каровах вывучыла, другія па мужыку, калі ён яшчэ жывы быў

і хварэў, трэція — па сабе... Мне, доктар, гаварыце ўсё. Мне можна.

— Што ж, будзеце нам памагаць. А ў патыліцы ўсё яшчэ страляе? Спружына паяўляецца ў вачах?

— Маленькая. Ляжа, скруціцца, шэранькая, як гадзючка... Каб, здаецца, хоць яна не паяўлялася... Чэрап ад яе падымаецца...

— Пройдзе. Пра гэта не трэба думаць. Чулі, як гаворыць Пугач? Ну вот. Ён вас прымаў. Помніце? Каб не ён... Так-ак... Давайце вашу руку...— ён сам узяў яе руку, выпрастаў на ложку, задзёр шырокае рукаво халата за локаць і акруціў яго хуценька чорнай новай манжэткай. Дастаў з глыбокай кішані ў халаце бліскучы кругленькі танометр, як усё роўна будзільнік, і паклаў на ложак ля рукі. Падняў сінія трубачкі з шыі і заткнуў сабе беленькімі наканечнікамі вушы. На руку ў лакці паклаў халодную галоўку фанэндаскопа і зашыпеў пад бокам грушай, як дома ў хаце Пугач, калі прыязджаў на матацыкле. Манжэтка пераціяла руку, хоць крычы; добра, што скора адпусціла.

— Так, Анастасія, запісвай...— ён неяк наструніўся, падняўся вышэй на табурэтцы.— Дыурэцік, унутрывенна... Магнэзія... І давай хуценька кардыяграмку... Паглядзім, што сягоння пакажа... Стрэфанцін там у нас... ты ведаеш, пра што я гавару?

— Знайду, Вікенцевіч....

— Каб быў у мяне на стале... Нічога страшнага...— сказаў ён пасля Алімпіядзе, пагладзіўшы па руцэ і адкасаўшы рукаво.— Адпачывайце... Ляжыце... Усё гэта ў вас ад хранічнай каранарнай недастатачнасці. Ні пра што не думайце. Спакой і яшчэ раз спакой. Вы мяне разумееце? А астатняе мы тут ужо самі. І цярпенне. Вы ў нас яшчэ толькі двое сутак... Анастасія...— ён кіўнуў ёй галавой на дзверы, і яна, паправіўшы на галаве шапачку, вышмыгнула з палаты: тут стаяла і няма.— А я астатніх дзяўчат пагляджу. Што гэта вас сёння мала?..— падняўшыся з табурэткі, ён вадзіў вачыма па палаце: не было Выліны.

Марфу Колас глядзеў доўга. За гэты час Праскурніч'я прынясла сіненькі апарат, як усё роўна куфэрачак,— няслa перад сабой, прыціснуўшы да жывата ў дзве рукі — і паставіла на тумбачку ў галавах. Доўга адматвала белы шнур; адматаўшы, уткнула штэпсель у разетку. Пасля пачала раскручваць дробненькія белыя і сінія правадкі, прыкладаць кругленькія бляшкі да рук і да ног і закруч-

ваць іх чорным лаокутком. Сціснуўшы ў пальцах жоўтую гумавую грушу, прыставіла яе да грудзей, як усё роўна Міфодзя, калі быў малы, прыціснуў шкляную з такой жа гумавай грушай машынку, якой яна, Алімпіяда, сцэджвала малако.

Праскурніч'я пстрыкнула нечым у апараце на тумбачцы — апарат маўчаў, не застракатаў, як учора. Тады яна падбегла ў парог і пстрыкнула чорненькім выключацелем на сцяне, але лямпачка ўгары пад столлю не загарэлася.

— Няма току, Вікенцевіч...— Праскурніч'я, стоячы ў парозе, усё яшчэ пстрыкала выключацелем.

— Толькі што быў. Пакліч мне Кораня...

— А дзе я яго вазьму?

— На кухні. Выдаў прадукты і лясы точыць. Знайдзі і адпраў да мяне.

Кораня Праскурніч'я прывяла хутка; сама ў палату не заходзіла, стаяла ў калідоры.

— Угу...— Колас падняў галаву ад Марфінага ложка і ўтаропіўся ў парог. Корань стаяў у парозе свежанькі, чысценькі, чырванатвары, малады: маладзіла яго жоўценькая новая тэніска з кароценькімі рукаўцамі на загарэлых руках.— Што ў нас з токам, Андрэевіч? — спытаўся Колас, ужо не гледзячы на Кораня. Слухаў Марфу.— Без яго мы як без рук...

— Падстанцыя гарэла ў Краснаволлі. Пярун ноччу ляснуў...— Корань стаяў і круціў на пальцы маленькія ключыкі, звязаныя чырвоным правадком.— Цяпер то дадуць, то не. Цыркаюць. Цяпнем гора, Вікенцевіч.

— Пазвані ў Краснаволле ў канцылярыю. Скажы — пільна трэба. Прасі...

— Званіў. Сказалі, што замкнула. Да вечара, Вікенцевіч, ток будзе. Ім жа казээс тады прыйдзецца спыніць нанач... Кожны пра сябе думае, а не пра другіх...

— Пазвані яшчэ раз, пазвані. Калі ёсць Дзярызямля, скажы, што я прасіў. Хаця — не. Пакліч тады мяне да тэлефона.

Корань пайшоў з палаты, круцячы ключыкі на пальцы, і вярнуўся адразу, круцячы ўсё тыя ж ключыкі на тым жа самым пальцы і прапускаючы ў палату перад сабой Выліну.

— І тэлефон маўчыць. Будзем радавацца, што ў замену дождж улупіў. У Краснаволлі, кажуць, рака плыла, так разануў. Людзі жылі і жыць будуць, а мы гора цяпнем...

— Давай, дарагі, што хочаш рабі, а дай мне ток. Падскоч, папрасі, хай падключаць хоць на пяць мінут. Цяпер, зараз жа... Мы не можам чакаць вечара, мы не казээс... Папрасі, дарагі... Нам толькі кардыяграму зняць... Мы будзем дзяжурыць...— Колас падняўся з ложка ад Марфы, падышоў у парог і паклаў Кораню руку на плячо.— Не ўрэж толькі ў слуп па дарозе... Ты ведаеш, па што я цябе пасылаю...— ён павярнуў Кораня рукой за плячо і павёў перад сабой у калідор, гаворачы яму нешта на вуха — не хацеў, каб чулі ў палаце.

— Не ўрэжу, Вікенцевіч, бо сам сёння ні храна не ўрэзаў... Мая Два метры фанеры...

Праз якую мінуту на двары захлебястаў матацыкл, і праз акно ў палату пацягнула гарам ад бензіну.

— Сягоння так пячэ з раніцы...— Выліна павесіла на брыж зялёны халацік і распраўляла на сабе ў паясніцы сукенку.— Толькі загараць...

— Папрасіся ў Коласа замест аптакаркі. Пазагараеш...

— Што ты, Чайка? Ужасць... У іх, усе гавораць, сур'ёзна. А чаму ён нас не глядзеў? Пайшоў і не паглядзеў? Схаджу ў амбулаторыю на прыём ці сюды паклічу...

Колас вярнуўся ў палату сам. Быў ужо без халата і без шапачкі. Мяккія светлыя валасы — рассыпаліся на рад і закрывалі яму вушы — і светлы касцюм зусім не пасавалі цяпер да яго самога: суровы, сур'ёзны; глядзіць у падлогу і кусае ніжнюю губу.

— Ну як тут наша Чайка крыламі махае? Ляжце на ложак. Так... Расшпіліце халацік. Ну, як ваш пузырок? Чуеце? — ён паклаў ёй свае белыя пальцы на жывот.— Тут баліць? А тут, вышэй? А тут? — ён доўга падлазіў ёй справа на жываце глыбака пад скабы, тады пачаў біць рабром далоні па жываце.— Моршчыцеся, угу... Вялікага болю пры пальпацыі ў вас няма. Вочы пасвятлелі. Ну што я вам скажу... Мог каменьчык праскочыць, закупарыць ход... І адзін каменьчык дасць прыступ. Мы прыпісалі вам усё самае новае, што толькі маглі дастаць. Паляжыце, падлечым. А лепш за ўсё вам, Чайка, памахаць крылцамі дзе-небудзь ля мора. Папіць вадзіцы... Што вам гаварылі, калі вы ляжалі ў Мінску? Каменьчыкі?

— Пясок. Ва ўсіх пробах пясок. Я запомніла.

— Пясок — гэта маленькія каменьчыкі. А дзе маленькія — там і вялікі. Халецысціцік у вас ёсць, і вам трэба сур'ёзна сябе падлячыць. Вы можаце дастаць пуцёўку у

санаторый? У калгасе ці ў леспрамгасе? У калгасе многія адказваюцца, не едуць. Пагаварыце са старшынёй...

— Дзе я што магу дастаць? У калгас я не хаджу...

— А мужык? А сын?

— М-мужык... За ім самім глядзець трэба. У мужыка яшчэ куры, гусі, свінні. Не мела баба клопату... А сын? Ёсць жа яшчэ і нявестка...

— Ну што ж, Чайка. Крыллем махаць вы яшчэ будзеце доўга. Запішам вас. Паглядзім, што можна зрабіць у нас у раёне... Вы ж ведаеце...— ён развёў рукамі.— А вам бы пабываць у санаторыі... Самі б сябе не пазналі...— падняўшыся з табурэткі, Колас павярнуўся адразу да дзвярэй.

— Што ж вы, Вікенцевіч, на мяне ноль вніманія? Жду, жду... Ужасць...— азвалася Выліна, ідучы да Коласа.

— А я думаў, што я вас ужо выпісаў. У вас жа ўсё ў норме.

— Учора. А сягоння — ужасць...

— Анастасія Іпалітаўна! Дзе вы там? — клікнуў ён сястру.

Праскурніч'я прыйшла адразу: нясла ў руках у белай салфетцы бліскучы стэрылізатар, акручаны жоўтай гумавай трубкай. Паднясла, паклала побач з сінім апаратам на тумбачцы.

— Анастасія Іпалітаўна... Вот, Выліне Маркаўне — падключыце энтэрасэптол. Па дзве — тры разы ў дзень... Запішыце. Зрабіць бы вам, Выліна Маркаўна, добрую кружачку Эсмарха і адправіць дадому...

— А што гэта за кружачка, Вікенцевіч? — спыталася Выліна, адыходзячыся ад Коласа да свайго ложка.

— Шчасліва жылі, Выліна Маркаўна, калі яе дагэтуль не ведалі... Анастасія Іпалітаўна! А вы дзяжурце. Як загарыцца лямпачка — кардыяграму...— І мне адразу ў амбулаторыю на стол. Не праваронце...

— Будзе зроблена, Вікенцевіч... Вы ж відзіце,— Праскурніч'я паказала дзвюма рукамі на стэрылізатар на тумбачцы.— Мінутачку...— сказала яна ўжо Алімпіядзе.— Давайце з правай рукі правадкі зніму, а астатнія хай будуць. У любую мінуту могуць даць ток. Будзем чакаць. Дайце вашу вену,— яна падняла яе руку і доўга мазала ў лакці спіртам.

— Мінутачку... Пацярпіце...

Укол у вену быў гарачы і балючы. Праскурніч'я перапіснула ёй руку вышэй лакця жоўтай гумавай трубкай,

як усё роўна ўсадзіла куды ў плот між жардзя, хваліла вены — рукі рабочага чалавека! — а лучыць адразу ў вену не магла: круціла іголкай пад скурай праціўна і доўга, аж пот у яе самой выступіў на лобе. Па лакці пацякло нешта халоднае, мусіць, лякарства са шпрыца: кроў была б цёплая.

Вярнуўшыся з парога, падышоў да ложка Колас, узяў яе, Алімпіяду, за левую руку, падняў разам з правадкамі і слухаў пульс, гледзячы некуды пад сябе.

Пасля яны пайшлі ціхенька з палаты: Колас і Праскурніч'я. Колас з фанэндаскопам у руцэ, Праскурніч'я са стэрылізатарам: у адной руцэ стэрылізатар, у другой гумовая трубачка і белая салфетка. Сагнулі Алімпіядзе руку ў лакці, падклалі ў згіб кавалачак мокрай ваты, сказалі ляжаць і дзяржаць руку сагнутай. За імі з палаты пайшлі Марфа з Чайкай, пачакаўшы, пабегла Выліна,— Сцяпанаўна паклікала ў сталоўку: «Ідзіце, а то мухі садзяцца...»

У калідоры доўга тупалі цяжкімі нагамі, кашлялі і гамапілі, падняўшы вэрхал, мужчыны, нібы дзе на рабоце. Азвалася Сцяпанаўна, сцебануўшы некага, як венікам па плячах, не частым вясковым словам — гнала ў сталовую. У сталовай доўга смяяліся: пасля смех апаў, і ў палаце зрабілася ціха. Зашумелі на дварэ ліпы, ахрыпла за сцяной, змогшыся, курчо. Ціха зашаптаў у парозе на сцяне беленькі, як дома, рэпрадуктар; забразгалі ў сталовай талеркі, і ўсё грукаў нехта цяжкі па калідоры. Пасля на дварэ загудзеў самалёт. Павярнуўшы галаву, яна ўгледзела яго ў акно — чорную плямку на сінім небе і вялікія жоўтыя цяжкія воблакі — здаецца, каб сарваліся, адламалі б пад сабой кавалак зямлі... Дома так усягды віселі воблакі над Віліёй, і ад іх усюды было ціха: у вёсцы, на загуменні за фермай, пад Ячным за ракой і на Кур'янаўшчыне за садамі, дзе па жоўтым іржышчы рассыпалася скаціна...

Яшчэ калі Алімпіяда была малая, яна любіла хварэць... Вечар, ціха, шарэе ў хаце, а ты ляжыш на ложку, як на нечым паднятым высака ўгару, і маці ходзіць ля цябе недзе там, унізе на зямлі, у тумане — хоча пакласці табе ў вушы мерзлыя журавіны — лазіла на гару, каб узяць з начовак — і не можа дастаць. На дварэ мароз, і альшэўнік на белым выганчыку за ракой белы-белы... І ты плывеш і плывеш угары над зямлёй...

У парозе смела застукалі цвёрдыя абцасікі, і ў палату зайшла Праскурніч'я. У адной руцэ беленькая талерачка

жоўтай маннай кашы з кругленькім кавалачкам масла і лыжачка, уткнутая збоку ў кашу; у другой рубцаватая тоўстая шклянка з густым цёмным чаем — на дне растаюць два кавалачкі цукру. Стукаюць абцасікі аб падлогу, і лыжачка ў шклянцы бразгае ад хады.

— Перакусім, Алімпіяда Лазараўна, пакуль суд ды справа...

— Не хачу, Настасея. Прымі. Пену толькі жоўтую гоніць з рота, рушнік увесь мокры...

— З лыжачкі пакармлю. Сілай...

— Не, Настасея. Прымі...

— Тады я пастаўлю на тумбачку. Хай Колас бачыць, што вы не ясцё. Гэта — раз. А другое — хочаце фізіялогію ў пяту? Дык пастаўлю капельніцу, мне не цяжка. З голаду рашылі памерці?

— Я, Настасея, памру не з голаду. За грудзьмі горача, задыхаюся... Што гэта ў мяне?

— Кардыяграма пакажа. А за грудзьмі горача пасля ўкола. Па-маленькаму яшчэ не хочацца?

— Не. Доўга я буду ляжаць прывязаная? Нагамі баюся кратаць, каб правады не парваць...

— Пацярпіце. Захочаце па-маленькаму — паклічце,— Праскурнiч'я пайшла да дзвярэй, паказаўшы жоўтую кофтачку ў шырокім прарэху ззаду ў халаце.

Колькі разоў за дзень у бальніцы трэба заскочыць сястры ў палату! Заскочыць і выскачыць. Раніцай — гэта лёгка: сюды-туды. А пад вечар дык і сястра, зайшоўшы, не спяшаецца бегчы, сядзіць: ногі за дзень адбіла, топаючы.

Ад кашы з талеркі ідзе нейкі праціўны пах, як ад бліноў з рудзіку, якія яна пякла пасля вайны ў сорак шостым годзе. Пякла раніцай, устаўшы з сонцам, калі яшчэ спаў і Мікалай і Міфодзя — набегаўся вечарам на дзяцінцы ля фермы. Гарыць у печы смалякі, полымя ліжа чалеснік, не падступіцца. Бліны з рудзіка, насмарганага ў Кур'янаўшчыне на папары, высушанага ў печы на блясе і змолатага ў жорнах, прыліпаюць да скавародкі, сохнуць і адразу гараць зверху, беручыся вугалем. І пахнуць востра і суха нейкай праціўнай кіслёй, ад якой адразу падварочвае пад грудзі блага і гоніць ахапкам сліну... Бяжыш на двор, а сухая праціўная кісля ад рудзіка б'е ў нос і ў сенцах, і на двары ля студні, і ў расчыненым насцеж хлеве... Патузае, патузае — рваць няма чым, гоніць толькі горкую сліну,— аддыхаешся і ідзеш зноў у хату да печы: трэба яшчэ ў

вялікім гаршку ставіць варыць зацірку з ліпы. Прынесенае ў мяху з Кур'янаўскіх Садоў маладое ліпавае лісце, высушанае пасля рудзіку ў печы на блясе, стоўчанае на пыл у сенцах у ступе і перамешанае са здзёртай на тарцы старой бульбай, неабразанай, ачышчанай толькі ад храсткоў і вымытай ад пяску, рассыпаецца ў пальцах і ў гаршку зелянее адразу маладой травіцай, цягуча цэдзячыся пад лыжкай, як кісель. Яшчэ горш гоніць горкую сліну...

Самому — дык чорт яго бяры; робішся толькі вялы, нейкі ўвесь шорсткі, у вачах зялёныя кругі, і наліваюцца ногі — пухнуць. Горш за ўсё глядзець, як хоча есці Міфодзя. Кусаў бы тады сам сябе, як гадзюка...

Міфодзя маўчаў — ніколі не прасіў есці. Толькі падыдзе, учэпіцца за спадніцу, схаваецца ўвесь у фалдах і глядзіць на цябе ўверх аднымі глыбокімі вачанятамі, як курчо з-пад крыла ў курыцы, і яны ў яго такія маркотныя, нібы ён зрабіў нешта страшнае, нібы ён вінаваты, што яму хочацца есці. Маўчыць, не скажа, не папросіць, не заскавыча, як шчаня, а тады яшчэ больш не знаходзіш сабе месца, грудзі рвеш... Хай бы ён плакаў, дзеці ж у яго гады плачуць ад голаду, а ён — як стары...

Самая радасная зялёная пара май — самая, у тыя, сорак шосты і сорак сёмы гады, галодная... А яшчэ трэба было дажыць да першай падкапанай маладой бульбіны і жытняй перапечкі з крадзеных на калгасным полі каласоў...

Здаецца, пракляў бы тыя гады — сорак шосты і сорак сёмы: на чорны лес, каб яны абышлі нават твайго самага лютага ворага... А вот цягне — пабег бы бягом у тыя галодныя гады, каб толькі можна было туды вярнуцца... Пайшлі б раніцай усходам сонца праз балота з Мікалаем у Кур'янаўскія Сады з мехам па ліпавае лісце — сама яна тады чуць ногі цягнула, а Мікалая біў сырой раніцай кашаль, на вачах зводзіў у магілу... Пасля цэлы б дзень на папары пад Асаўком сморгала б жоўты рудзік: адну торбачку, другую... Яна помніць, як у той сорак шосты год летам ноччу, калі за фермай на Дроздцы, дзе зайшло сонца, гарэла малінавая зара і на загуменні, прыпоўзшы з ціхім цямном, вісеў туман, ішла ў калгаснае жыта зразаць каласы. Ад страху, што зловяць, падымаліся валасы, жытняе асцё рэзала рукі — здавалася, не раса капала з іх, а ішла з пальцаў кроў. Стукала сэрца, разрываючы грудзі, і ў жыце адзываліся перапёлачкі: піць-палоць, асцярожна, ціхенька, каб не спалохаць цябе крыкам, каб не выскачыць

раптоўна з-пад ног, бо ў цябе можа знянацку парвацца сэрца... Перапёлак у жыце — не ступіць; сініх зор у небе над вёскай як насыпана; каласы на жыце буйныя, налітыя — пачалі спець. Адвязваеш з галавы хустку і рвеш іх, адзін да аднаго, у вандзэлак. Нарваўшы, уцякаеш з жыта, крыла ўразаючы — толькі перапёлачкі з-пад ног. Выбегшы на загуменне, валішся ў траву і плачаш... А ў вёсцы, недзе аж у самым канцы, чуеш у гэтай чорнай начы з ціхімі далёкімі сполахамі дзявочую песню... І тады яшчэ горш равеш горкімі слязьмі...

Тры разы яна схадзіла ноччу на загуменне ў жыта, у самыя цяжкія дні ў сорак шостым годзе, калі Міфодзю не было чаго даць есці, хоць здохні, і больш яе не пусціў Мікалай. Стаў перак дарогі: до! І суда баяўся — за каласы давалі па пяць гадоў — і відзеў, як яна мучылася. Чалавек ён быў ціхі, справядлівы і чэсны.

Але не пабяжыш у той зялёны галодны сорак шосты... Каб і хацеў, дык ногі не панясуць: аціклі, як тады ад голаду...

Зашумеў за акном вецер, суха і густа; закраталіся жоўтыя юргіні, стукаючы квятамі аж па шыбіне; піснула за сцяной курчо, цененька, як спалоханая перапёлачка ноччу ў жыце — зусім ахрыпла, і за грудзьмі з вострым болем разлілася такая гарачая і горкая нуда, што, здалося, зойдзешся...

Загарэўся раптам угары валасок у лямпачцы вострым чырвоным агнём, як спружына ў воку; пасля лямпачка пыхнула густым белым святлом. Загаманілі ў сталоўцы, відаць, і там была ўключана лямпачка, зазвінела ў калідоры абернутае вядро і пакацілася, бразгаючы, па падлозе. У палату ўбегла Праскурніч'я, выціраючы аб халат рукі.

— О-ё-ёй...— хуценька схапіла Алімпіяду за руку, прыціснула пальцамі халодную бляшку да запясця, акруціла зверху чорненькай тасьмой і паклала руку на ложак.— Спакойненька... Нагамі і рукамі не кратаць...— яна пстрыкнула апаратам, і ён ціхенька зашваргатаў у галавах, як ручаёк на лагу ля ракі, калі летам, змарыўшыся, ляжаш на валок сена.— Так... Спакойненька...— ухапіла пальцамі жоўтую гумавую грушу і ткнула яе пад цыцку на грудзях, раз, другі. Груша чаплялася за сухую скуру, як п'явачка, падскоквала і падала на грудзі. Трэба была вада, а па ваду не пабяжыш: далёка, лямпачка магла хліпнуць у любы час і больш не загарэцца, і Праскурніч'я,

тыцнуўшы пальцы ў шклянку з чаем, пачала пырскаць на грудзі, а пасля зноў схапіла з ложка жоўтую грушу і, прыдзержваючы яе пальцамі, пстрыкнула апаратам:

— Удыхнуць і... не дыхаць... Маладзец. Цяпер дыхай... Та-ак...

Зноў шваргатаў у галавах ціхенька ручаёк і ярка гарэла пад столлю лямпачка, здавалася, рассыплецца ад агню. Пасля пачала міргаць і памаленьку цьмянець — на яе ўжо можна было глядзець,— але Праскурнічʼя, пстрыкнуўшы апаратам, ужо выпрасталася ля ложка і ўздыхнула на ўсе грудзі.

— Свят... Свят... Думала, не схаплю... Колас бы мяне...— яна засмяялася.

Лямпачка атухала паволі: доўга яшчэ тлеў чырвоны валасок, як іскарка. Праскурнічʼя, схапіўшы ў дзве рукі доўгую шэранькую папяровую ленту з апарата, пабегла ў амбулаторыю да Коласа. Вярнулася яна адразу:

— Давайце я вас распутаю, пакуль Колас расшыфруе. Інфаркту там няма... І не магло быць...

Застракатаў на двары матацыкл, і зноў праз вокны прыгнала сухі пар. Загрукалі ў калідоры цяжкія ногі, зазвінела вядро, і ў дзвярах мігнулася жоўтая тэніска.

— Ну, маці... жыла і жыць будзеш... Дадуць... Сказалі: для цябе дадуць...— Корань, усміхаючыся, гладзіў свой сівы вожык адной і другой рукой.

— Далі ўжо, даражэнькі, далі. За гэта табе Колас на пяцімінутцы падзяку абʼявіць і грахі даруе...— Праскурнічʼя падняла з тумбачкі сіні апарат з правадамі і сабралася ісці з палаты.— Не знаю, на пяць мінут далі ці на дзесяць, але я ўхапіла, справілася...

— Ну, маці... З цябе сто грам і пончык. Прыйшлося націснуць сяму-таму на сэрца... А ў мяне якраз было чым. З сабой прывёз... А там у іх развярнула, як у вайну. Думаў, маці, ні храна не выйдзе. Дзярызямля стаіць у іх над карманам, крычыць і нічога зрабіць не можа, а мне — далі. Сказалі — дадуць і далі. А што ён крычыць... Хто цяпер таго крыку баіцца? Хай крычыць... Яны і да начы яму не падключаць. І даілкі і паілкі... Мы, маці, жылі і жыць будзем, а людзі гора цяпнуць. Відзіў дачку. Падбегла да матацыкла на вуліцы. Прыедзе... Там пра цябе, маці, усе пытаюцца, бытта ты міністр які. Так што не забудзься: з цябе сто грам і пончык...

З палаты яны пайшлі разам — Праскурнічʼя і Корань. Ён прапусціў яе наперад — ішла з апаратам у руках —

і засланіў жоўтымі плячыма. У парозе азірнуўся і падміргнуў.

Алімпіяда ляжала, і з вачэй у яе цяклі слёзы...

— Што расу пускаеш, сястрыца? Тваю макаўку... Сказалі накарміць. Сам Колас. А тады прынясу пад цябе пасудзіну. У мяне не выкруцішся, тваю макаўку, будзеш есці... Замяню свежым, калі астыла...

Ля ложка стаяла Сцяпанаўна: белыя валасы пад белым каптуром, белы халат, набітыя поўна нечым кішэні, з-пад халата відаць сінія рукавы нажуткі...

Алімпіяда заплакала яшчэ горш: слёзы пацяклі па шчоках.

— Паплач, паплач, тваю макаўку, калі так хочацца. А я пасяджу ля цябе, пачакаю, пакуль сціхнеш...

## 2

Аўтабаза была абнесена высокай, у два метры, дашчатай зялёнай агарожай, і гэтай агарожай, нібы вялізнымі рукамі, выпхнула ўперад аж да вуліцы прахадную — невялічкую прыземістую старую драўляную хатку, як вясковы свіронак. Дзверы ў прахадную былі расчынены насцеж, і Альбін Фірага, узбегшы на высокі ганак з новых пагабляваных дошак, пасыпаных густа сівым пяском, сасновымі жоўтымі іголкамі і акуркамі ад цыгарэт, пачуў, як ззаду ў пасёлку ля аўтобуснай станцыі запішчалі сігналы, востра і калюча, як іголкай у вуха — уключылі радыё. Ён падняў руку, загарадзіўшы ад вачэй ганак — новы пляскаты «луч» пацеў на руцэ і адставаў. Густа-чырвоны цыферблат, пасечаны востранькімі дробнымі крэсачкамі, заслязіўся і хаваў з воч залатыя стрэлкі: вялікую і малую; чырвоная секундная стрэлка бліснула на цыферблаце, як праменьчык сонца ў тумане.

«З самай раніцы такая духата, не выцерпіш...»

Падагнаўшы на хаду стрэлкі, ён усё яшчэ глядзеў пад ногі і таму згледзеў спачатку кірзавыя збітыя і запыленыя боты з закасапымі халявамі пад сталом у прахадной і ля іх сабачку — маленькага, гладзенькага і нейкага ўсяго рыжанькага, як афарбаванага. Сабачка разлёгся пад сталом, выцягнуў уперад на лапы вузкую вострую мордачку, разявіў рот, высалапіў ад духаты язык аж на падлогу, дыхаў часта, як загнаны, і глядзеў на яго, Фірагу, вясёлымі і хітрымі жоўтымі вачыма. Пасля пачаў круціць га-

лавой — пазіраў то ўверх з-пад стала на гаспадара, то на Фірагу.

За сталом, высокім, некалі чырвоным, канторскім, абшарпаным і парэзаным зверху нажом, улёгшыся шчакой на лакці, хроп на ўсю прахадную Анкуда — вартаўнік. У шэрым зашпіленым пакамечаным картовым пінжаку з абвіслымі, як у сабакі вушы, лацканамі; у чорнай, з белымі гузікамі рубашцы — выткнуты кадык адтапырыў каўнер, не змогшы расшпіліць,— Анкуда ўгрэўся за ноч, з яго аж вярнула пара... Чорная плоская старая, замусоленая кепка звалілася ў яго з галавы і ляжала побач на стале ля чорнага тэлефоннага апарата, як усё роўна стаяла не мытая пасля яды скавародка. Сіваватыя, як попел, валасы звесіліся праз лоб ка́слаўкай, і на іх, на канцах, віселі кроплі вады, што на саламяным падстрэшку. Верхняя шчака, шэрая, пабітая воспай, блішчэла ад поту. Пот сабраўся ў выклеваных воспай ямках і стаяў, як вада на градзе пасля дажджу. Анкуда быў яшчэ не зусім стары — ну так, пад шэсцьдзесят. Шырокі ў плячах, з цвёрдай хадой, рухавы, ён адразу пасля вайны быў у аўтакалоне шафёрам. Спіўся. Яго перасадзілі на дэрык, і ён грузіў на дзялянках на прычэпы лес, пакуль не перакуліўся са сваім дэрыкам. Можа б, яго і зноў пасадзілі на новы дэрык, але ў дзялянкі прыйшлі чырвоненькія «Онежцы» і сталі махаць над сабой, як ракі, клюшнямі, загружаючы прычэпы. На «Онежец» Анкуду не пасадзілі — а дзе дзенеш? Пайшоў быў церабіць сукі — звольнілі за нявыхад. А дзе дзець чалавека? Жонка выгнала, дачка — адна ўсяго была ў яго дачка — не прыняла, і ён прыстаў у прымы да такой жа алкашыхі-дарожніцы, як і сам. Паставілі яго вартаваць ніжнія склады. А ніжнія склады — гэта дрэва. Тысячы кубаметраў. І на ніжнія склады прыязджаюць грузіцца мінскія шафёры. А яму за бутэльку — грузі што хочаш, дачку адзіную прап'е. Пашкадавалі. Не яго, Анкуду, што пасля рэвізіі спячэцца, а лесу: прападзе шмат. Перавялі вартаваць базу. Чалавеку ж трэба неяк жыць...

У прахадной, як у лазні, вісела густая духата. Толькі была яна настоена не на бярозавым лісці, а на перагары ад рублёвага з капейкамі «луча», па чэрствым, падсохлым за ноч чорным хлебе з плешчаніцкай новай пякарні, на трасцэ ў таматным соусе, на зморшчаных галовах ад ладных селядцоў, адкусаных аж да вачэй, і на сухой дарагой кілбасе, парэзанай на ружова-беленькія скрылёчкі, раскіданай па заплёванай падлозе ля стала, прытаптанай нага-

мі і аблізанай чырвоным языком рыжага сабачкі. Парожнія бутэлькі ад «луча» валяліся ўроскідку на падлозе ля вымазанай чорным вугалем белай грубкі, як усё роўна дровы ад пашчапанай наспех кароценькай калодкі. Стол быў залеплены ліпкімі сіняватымі, разлінеенымі ў чорныя палоскі ведамасцямі, спісанымі густа фіялетавым чарнілам. Ля ціхага, непатрэбнага, здавалася, тут тэлефоннага апарата стаяла парожняя бляшанка з-пад кансервы з адагнутым вечкам, засыпаная ўся тоўстымі і доўгімі акуркамі ад «Беламору». І ў выцягнутай і звешанай са стала Анкудавай руцэ была заціснута між пальцаў беленькая новенькая цыгарэта, аж блішчэлі на ёй маленькія залаты літаркі.

— Здарова, прадзед! — Фірага загаманіў на ўсю прахадную: будзіў.

Анкуда хроп, падымаліся толькі і апускаліся ў яго плечы, аж стол, здавалася, пад ім кратаўся. Рыжы сабачка выцягнуў з-пад стала галаву і паглядзеў на Анкуду.

— Што? І цябе накачалі ўчора забулдоны пасля зарплаты? — Фірага падышоў і таўхануў Анкуду рукой у плячо, моцна, як зморанага каня ў аглобнях. Анкуда ерзануўся на лакці і пасунуўся па стале. З пасмы валасоў Фірагу на руку пырснула вада — пот; пот разліўся і з ямак на шчацэ і пацёк рагаламі на стол. Анкуда хроп.

— Ану будзі гаспадара, гультая кавалак...— загаварыў Фірага да сабакі.— Базу вартуеце на пару... Добра было б, каб які забулдон яе абчысціў...

Рыжы сабачка перастаў дыхаць і падняў галаву на Фірагу: вочы ў яго смяяліся.

— Смяешся, забулдон... Ану будзі гаспадара... Шкадуеш? Ды я яго сам...— Фірага дастаў з кішані жоўценькую бліскучую машынку і, пстрыкнуўшы, паднёс сіненькае полымя Анкуду да рукі — падпальваў цыгарэту. Пачакаў, пакуль з яе не пойдзе дым і не возьмецца кончык чырвоным вугальком: — Ты ў мяне сам прачнешся, прачнешся, прадзед... Забулдоны...— паглядзеў ён зноў пад стол на сабачку — сабачка смяяўся — аднымі вачыма — і падумаў, што робіць усё гэта: і хвост топча сабаку і тоўхае Анкуду толькі таму, што нехта можа спакойна спаць, а яму, Фірагу, не спіцца, ён не можа знайсці сабе месца ні днём за Крамянцом у дзялянцы, ні на ніжнім складзе за Плешчаніцамі, ні на дарозе з рытвінамі ў лесе і з калдобінамі на бруку, а пасля ноччу ў Плешчаніцах у інтэрнаце на ложку ля халоднай белай грубкі...

Збегшы з дашчатага ганка на двор аўтабазы, ён адкінуў з двух крукоў цяжкую жалезную завалу і расчыніў насцеж вароты. Вароты былі цяжкія, з тоўстых дошак, абвіслі і скрыпелі. Над імі некалі была пярэчка, пасля, як сталі заганяць на базу дэрыкі, пярэчку скінулі пад дашчатую агарожу. Яна ляжала цяпер ля варот, аблітая мазутам і прысыпаная зверху сівым пылам — у яе ўсягды ўпіраліся расчыненыя вароты. Адчыніўшы іх, ён пабег дваром па запыленым і прытаптаным машынамі да зямлі пажаўцелым сухім падарожніку туды, дзе стаялі ў роўны доўгі рад у канцы двара «прычэпы»: ЗІЛы, а далей, пад самыя цыстэрны, новыя МАЗы, прыгнаныя нядаўна ў аўтакалону з Мінска.

Сонца, узышоўшы, стаяла дагэтуль за школай — у тым баку толькі забялелася густа неба, як малако; цяпер яно выкацілася з-за школы і, павісшы над пасёлкам, засвяціла ў лоб ЗІЛам і МАЗам, і адтуль са шкла пасыпаліся ў вочы калючыя белыя іскры — не глянуць. Ён бег да свайго МАЗа, які стаяў з самага краю — ставіў учора апошні, а над ім лёталі стрыжы. Аўтабаза ад поля была заслонена старымі высокімі разгатымі бярозамі, і стрыжы, вылятаючы зверху з-за бяроз, махалі шалёна крыльцамі і адзін за адным падалі на двор — здавалася, урэжуцца грудзьмі ў запыленую зямлю,— тады ўзляталі крута ўгару і хаваліся за бярозамі. Ён бег, а яны, колькі іх было, круціліся ля яго, ля самай галавы, аж шумела ў вушах ад іхняга цененькага і дробненькага, рассыпанага па ўсім двары сярэбранага піску. Стрыжы залятали і залятали яму наперад і, калі ён падбег да машын, сталі нырацъ пад прычэпы, як дзе ля ракі пад навіслы бераг, краталі з разгону маленькім крыллем цяжкія белыя ланцугі ў прычэпах, і ланцугі бразгалі аб канькі.

Калі стрыжы, звіўшыся ў кучу, з вострым злосным піскам кінуліся прама яму на галаву — здалося, што гэта руды Валерка замахнуўся і сыпнуў у вочы пяску з асцём... Выцягнуўшы руку, ён здалёку рвануў за ручку ў дзверцах, адкінуў іх і ўскочыў у кабіну. У кабіне загусла духата, як і ў прахадной. Ён выцер з лоба пот, крануўшыся пальцамі вачэй — вочы яшчэ рэзаліся пад павечкамі. Ён мыў іх тады ля маста ў рацэ вадой; на ніжнім складзе, клікнуўшы да сябе ў кабіну, яму выварочваў павечкі Калясень і выціраў іх скамечанай клятчастай насавой хустачкай, упэцканай у смалу і мазут. Нічога не памагала. У леспрамгасаўскай канторы ўчотчыцы гналі яго ў бальніцу; у

бальніцу ён не пайшоў. Тады яны, пасадзіўшы яго на крэсла ля стала і адкінуўшы галаву, растапырвалі пальцамі павечкі і даставалі з вачэй асцё языком — адна і другая...

«Нічога. Ты яшчэ паліжаш у мяне, як сабака ў адным месцы...» — падумаў ён пра Валерку. Бразнуў дзверцамі і ўключыў старцёр. Рвануў на двары адразу на трэцяй; ззаду, падскокваючы на цвёрдых выбоінах, загрукаў прычэп і забразгалі па каньках ланцугі. Ён агледзеўся праз акенца назад — у густым белым пыле згледзеў дзве далёкія жоўтыя брухатыя цыстэрны і ланцуг блізка ззаду ў сябе на прычэпе. Доўгі, акуратна сплецены ў круглыя звенні, ён матляўся на прычэпе, як каса ў Тані на плячах.

Ён націснуў на газ пятой; у самых варотах убачыў, як выбег з прахадной Анкуда і махаў кулаком.

— Не трэба дрыхнуць, прадзед! — Фірага высунуў з кабіны галаву. Услед за прычэпам кінуўся рыжы сабачка, сцяліўся па зямлі, паказваючы чырвоны язык і белыя зубы: брахаў.— «Р-руды...» — падумаў ён на сабачку і на Валерку.

Рыжы сабачка, Анкуда і база з расчыненымі варотамі схаваліся ў белым пыле. Ля смалакурні — двух вялікіх чорных бочак — Фірага павярнуў на шашу, што вяла з Плешчаніц на Вялейку, якой яны вось ужо цэлую вясну і лета вазілі з дзялянкі з-пад Жоўтага Берага хлысты за Плешчаніцы на ніжні склад. І ля смалакурні, і ля новай школы, і ля сталоўкі, і ля гэбліка — сасновага куточка між дарогамі, куды вечарам з пасёлка збіраліся ўсе на танцы, кідаючы нават танцавальную пляцоўку ля эрдэка — над машынай насіліся стрыжы, як учадзелыя. Счапіўшыся, нібыта біцца, па пяць, па сем у кучцы, яны выгіналі адмысловыя дугі, рэжучы крывымі, як сярпы, крыллямі сіняе густое неба над лесам, чорныя тэлефонныя правады над дарогай, і падалі зверху кучкамі на кабіну, адсякаючы, здавалася, на ляту стрэхі ў хатах і паласуючы бліскучыя ад сонца вокны. І пішчалі на ўсё сваё сярэбранае залівістае горла, хоць ты было аж у кабіне затыкай вушы.

Стрыжы праводзілі яго ад смалакурні аж на шашу, як усё роўна засланялі свет, не пускалі ехаць, кладучы і на дарогу, і на трывожную пасля ўчарашняй замочкі з шафярнёй душу нядобры знак. Ён тады са злосцю прыціснуў пятой газ. Заныў, як струна, матор; белая трава ў сосніку і жоўтая, з новых дошак пляцовачка для танцаў —



Сярод воінаў Чырванасцяжнай Беларускай ваеннай акругі.
Чацвёрты Іван Пташнікаў
з Аляксеем Русецкім (у цэнтры),
Якавам Герцовічам і Антонам Алешкам (справа).
Мінск, 1969 г.

гэблік — закруціліся, пабеглі назад і зніклі з воч. Перад новым мастом цераз Дзвінасу — ад яго яшчэ пахла засмаллю — на выбоінах праціўна забразгалі ззаду аб канькі ланцугі. Ён крутнуў галавой — убачыў у заднім аконцы стрэхі ў пасёлку і ланцуг ля канька — зноў падлятаў угару, як Таніна каса. Нібы Таня бегла ззаду, даганяючы машыну... Ён спопаразку націснуў на тормаз. МАЗ таркануўся, кінуўшы яго ўперад, зашыпеў і пакаціўся ціхенька да маста. Ззаду ніхто не бег; перад мастом на брук выскачыла аднекуль невысокая вяртлявая дзеўчынёха з белымі, коратка падстрыжанымі рассыпанымі кругам галавы валасамі, у белай сукенцы. Паказваючы здалёку белыя зубы, яна падымала высака ўгару белае пластмасавае вядро: галасавала. З вядра тырчалі бліскучыя халяўкі чырвоных гумовых боцікаў.

«У маліны,— падумаў ён.— У Краснаволле. За блізкі свет, самая ранняя... Каб гэта перш — адвёз бы ў кусты і аб зямлю... А цяпер... Нейчая ж яна ёсць, хай некаму і астаецца...»

Ён ударыў зверху па сігналу даланёй, як каму па галаве. Сігнал закрычаў ядрана і дзяркатa, як хрыпаты чалавек, сагнаўшы з бруку аж на вузенькую сцежачку ў прытаптанай траве белагаловую дзеўчынёху. Вядро яна выпусціла з рук, і яно пакацілася ўніз з адхону, вытрасаючы з сябе бліскучыя чырвоныя гумовыя боцікі. Дзеўчынёха, сагнуўшыся на сцежачцы, каб не пакаціцца ўслед за вядром, справілася толькі пакруціць у сябе пальцамі ля вуха, і ён, высунуўшыся з кабіны, паказаў ёй свае зубы.

З маста падняліся хмарай вераб'і; мост уперадзе адразу пажаўцеў, нібы яго падмялі ад пяску.

Ён пераставіў нагу на газ, але вырвацца на шашу, прамую, як струна, якая разразала стары ельнік, што лінія ў лесе, і, вузеючы, хавалася з воч вярсты за тры ўперадзе, яму зноў не далі. За мастом на павароце ля вузенькай дарогі, якая падбягала з жоўтага лубіну да шашы, на брук высыпалі грамадой бабы: у белых хустках, з вёдрамі і конавачкамі ў руках, з дзецьмі — дзеці перабягалі з аднаго боку дарогі на другі. І тут галасавалі, падымаючы ўгару рукі. Відзелі, што ў яго «прычэп», ведалі, што на ім ён не мае права вазіць абы-каго. Ведалі, а галасавалі: дарога ўперадзе была далёкая.

Ён пачаў сігналіць яшчэ на масце, зганяючы дзяцей з бруку; сігналіў і мінуўшы грамаду — адбрэхваўся, як сабака.

Перад самым лесам ля белых пярэчак за мастком — уся дарога праз лес была парэзана масткамі — ён раптам згледзеў Таню. Не галасавала, як усе, нават не паварочвала галавы, нібы і не чула машыны: ішла вузенькай беленькай сцежачкай ля бруку з сумачкай у руках, і на плячах у яе маталася доўгая каса. Ён аж падаўся на сядзенні ўперад, мінуў масток і Таню і, падвярнуўшы да сцежкі, затармазіў. Бразнуў дзверцамі, аднымі і другімі, і выскачыў з кабіны адразу на сцежачку. На сцежачцы нікога не было. Ён выбег на брук — і там нікога. Тады ён дацягнуўся ў кабіне да заглушкі і перакрыў салярку. Матор зашыпеў, заглох, і стала ціха. Зноў нідзе нікога не было: ні на сцежачцы, ні на бруку. Звінела ў вушах. Угару над дарогай падняліся плоймай раннія вароны і крычалі на ўвесь лес. Ззаду за прычэпам, было відаць, пусціліся бегчы дзеці — даганялі. Ён стаяў і глядзеў на сцежачку, дзе нядаўна ішла Таня... Нікога... З лесу пахла імшарай і нагрэтай яшчэ ўчора днём смалой. Было ціха і нудна. Ён тады бразнуў аднымі дзверцамі ад сцежачкі, пасля, абабегшы і ўскочыўшы ў кабіну — другімі. Уключыў старцёр і націснуў на газ. Са злосцю. Забразгалі ззаду на прычэпе ля канькоў ланцугі, ён зноў крутнуў галавой да аконца — дзеці ж беглі даганяць — і адхінуўся, як апёкшыся: у кабіне сядзела Таня... Справа ад яго, якраз там, калі першы раз узяў яе ў кабіну ля могілак. Ён адразу падумаў, што яна ўскочыла ў кабіну, калі ён хадзіў дарогай па бруку ля машыны. Але ён усё яшчэ нечаму не верыў: сядзеў за рулём і глядзеў то ўперад на дарогу, то, паварочваючыся, на Таню. Бачыў, як у аконцы ззаду матляецца ланцуг ля канька, а ў кабіне Таніна каса. Таня была ціхая і сур'ёзная: паклала на калені маленькую сумачку і сціснула з двух бакоў рукамі галаву. На яго не глядзела, не падымала вачэй. Ён і цяпер яшчэ не верыў: чалавек у кабінеце ці не — і паклаў Тані руку на плячо.

— Прымі рукі...— загаварыла яна; ён уздрыгнуў, спалохаўшыся, і абрадаваўся. Нейкай балючай, не сваёй радасцю.

— Як ты тут апынулася?

— Пытаецца... Руку ж падаваў. За тваю руку ўзялася — і на падножку...

— Кінь ты... Я думаў, сама ў кабіну ўскочыла...

— А думаеш, пабаялася б? Што, многія баяцца да цябе садзіцца?

— Баяцца. Адвязу ў лес — і аб зямлю...

— Гэта толькі таго можна аб зямлю, хто сам... А хто не-е...

— А мы паглядзім...

— Паспрабуй...

— Не з такімі спраўляўся. Шэрсць ляцела...

— А ты паспрабуй...

— Што такая смелая? Ёсць каму заступіцца?

— Ёсць. Ты ж ведаеш па сваіх вачах. Яшчэ глядзяць? А маглі і не глядзець. Бо дурны як бот.

— Дурны. Як левы бот. І за гэта паплаціўся.

Маўчалі. Было чуваць, як ззаду за кабінай бразгаў ланцуг — матаўся ля канька. І каса маталася ў кабіне ў Тані на грудзях.

— Дзе была так рана?

— Па лякарства матцы прыязджала. Учора Джанік падвёз з канцылярыі на матацыкле. Парашкі дык адразу купіла, а пакуль зрабілі каплі... Заначавала. Я і не спала ўсю ноч. Сядзела ў вакзале. Хацела ісці ноччу — збаялася. Думала, раніцай да вас на базу... Думала, ты і падвязеш. Пакуль той аўтобус. Ды і ці ўлезеш яшчэ...

— Матка ў цябе добрая. Беражы.

— І ты хочаш добрым паказацца, калі пра матку пытаешся. Матка цябе любіць...

— А ты?

— А ты ў мяне не пытаўся. Папытайся...

— І папытаюся.

— Папытайся...

— А на які чорт пытацца? Кінь ты. Хочаш — выходзь замуж. Хоць заўтра...

— Лякарства выпішуць, а нідзе не дастаць... Міфодзю свайго ў пісьме ўсягды прасім, дык ён з арміі прысылае. Дастае. І наша і імпартнае. Бо ні ў нас, ні ў Плешчаніцах у аптэцы такога няма. А што тыя парашочкі, што я вязу? У роце апаласкаць...

Яна яго нават не слухала, і ён зазлаваў, бо гаварыў праўду, можа, раз за ўсё жыццё гаварыў праўду, а яго не слухалі.

— Ды будзе жыць твая матка... Кінь ты... Матку наперад хаваць... Мы яшчэ вяселле ўрэжам! І ў тваёй маткі ў Крамянцы і ў нас у Плешчаніцах... Споім шафярню, што ракам будуць поўзаць па вуліцы... Запомняць Фірагава вяселле да смерці. Што так глядзіш? Думаеш, Фірага ўжо самы апошні алкаш і забулдон раённага маштабу? На ўсю аўтакалону? На ўвесь плешчаніцкі гэблік? Так і глядзіць,

каб каго ў кусты і аб зямлю? Ды кінь ты... Не верыш? Думаеш, каб жаніцца, то трэба пацягацца на гэблік месяцы два-тры, дзе патлатая шпана тузаецца? Думаеш, трэба паслімачыцца з паўгода ці з год, па зямлі пакачацца, а тады ўжо ў загс? Ды кінь ты... Каб ажаніцца, не трэба, я думаю, нікога кідаць аб зямлю. Жаніцца трэба ціха, па-чалавечаму... Як усе добрыя людзі рабілі добрае дзела. З'ездзім да вас, вернемся да нас. Аўтобусы паздымаем з маршруту ў Плешчаніцах. Рэйсавыя. Напхаем шафярні — і... Усё аплачу! І туды і назад. Кабана ў тваёй маткі — пабаку... Белай у Орсе — захлыніся.. Падкупім «чарніла», твая матка выганіць гáры... Запішамся, залезеш да мяне ў кабіну за плечы... На ўсё жыццё... Гэта — як піць даць. Кінь ты... Усё ў нас будзе. Як у людзей. Бо Фірагу ўжо дваццаць сем. Бо яму абрыдалі, як горкая рэдзька, і катлапунктшчыцы, і дарожніцы, і плешчаніцкія афіцыянткі. Астаграбеніла кідаць іх аб зямлю па п'янцы... І самому мокці на зямлі ў лужах ад гэтага самага... ад піва. Ды кінь ты, ве верыць... Засею я да іх да ўсіх дарожку палыном. Сам! І да забулдонаў, да шафярні. Кропка... Грукну дзвярыма! Рашыў! Так што — слова за табой, дзяўчына...

— Баечкі... Слухаю я іх і думаю: адзін раз падвёз у кабіне праз грэблю і ўжо за плечы сáдзіць на ўсё жыццё... Чым я заслужыла?

Сама павінна здагадацца. Калі Фірага, увідзеўшы цябе першы раз, не захацеў адвязці ў кусты і кінуць аб зямлю, а садзіць сабе за плечы... Ты Фірагу не ведаеш. За гэта Фірагу цаны няма, а ты плюеш яму ў засыпаныя пяском вочы... А за гэта Фірага ніколі і нікому не даруе... Не толькі аб зямлю... З зямлі скіне! Вун туды...— кіўнуў ён галавой уверх.— Жалезна. Шафярня народ такі. І Фірага — не забулдон. Фірага — ёсць Фірага. І калі ён рашыў і садзіць каго за плечы... То на ўсю жызню! Да смерці! Думаеш, Фірагу лёгка глядзець з інтарната кожны вечар у чужое акно праз вуліцу, як там кладуць спаць двух маленькіх байстручкоў? Мыюць ім спачатку ножкі на двары ў тазіку, выціраюць беленькім рушнікам, а яны, разбойнікі, пішчаць, як шчаняты... А тады нясуць іх на руках з лавачкі ад частакола ў хату... Спачатку аднаго, пасля другога. Бо дваіх адразу ўжо не занясеш, цяжкія... Думаеш, Фірагу не хочацца самому аднясці сваіх такіх байстручкоў у хату? Думаеш, не хочацца даць ім плескача? Аж рукі свярбяць, што няма каго па стрыжанай галаве пагладзіць. А больш за ўсё душа свярбіць. А калі

яны двое, галазадыя, пачынаюць качацца на ложку і зверху на іх свеціць лямпачка з-пад чырвонага абажура... Да таго робіцца нудна, што гатоў адразу кінуць піць. І такая зайздрасць тады паяўляецца да нечага, што і сам не скажаш, да чаго... Стаіш, рукі апусціўшы, як пусты. Як пень. Пасля як разане злосць на самога сябе. Як схопіць, што казла за гэтыя самыя... Думаеш, скарэй бы яны там завесілі сваё акно і патушылі сваю дурацкую чырвоную лямпу... Хоць з інтарната ўцякай...

У кабіне стала горача; холад, які гнала ў паднятае пярэдняе шкло, даходзіў як праз расчыненыя дзверы ў нагрэтую лазню на палок. Гарачыня марыла; рукі вялі і ляжалі на рулі, як апёртыя пасля работы на плот. Рэзаліся і зліпаліся вочы. Паабапал дарогі ў ельніку вісеў млявы туман, як дымок ад вогнішча; у канавах бліпчэла ад расы альховае лісце, нейкім жоўтым, як ад агню, блескам: яго калола праз густы ельнік вострымі дзідамі ранішняе сонца. Пахла пылам і балотам.

Матор раваў у халадку, як звер, і Фірага падумаў, што ён адматаў адным махам кіламетраў пяць: канчаўся лес, здалёку паказаліся белыя выцвілыя шыферныя стрэхі і зялёныя ладныя ашаляваныя домікі — саўгас. Брукаваная шаша, пакідаючы яго збоку, папаўзла на гару пад сады. Фірага, не мяняючы скорасці, націснуў на газ. Новы МАЗ аж задрыжаў; у кабіну пацягнула дымам і гарачынёй. Фірага павярнуў галаву і паглядзеў на Таню — яна сядзела, нагнуўшыся ўперад, і ўзіралася ў дарогу, паклаўшы на калені, на сумачку, рукі. Смуглая, загарэлая, гордая і недаступная. Ён выцер даланёй вусны:

— Дык рашай, Тацяна...

— А можа, мне за табой пятля?

— Кінь ты... Паварочваецца ж язык... такое сказаць...

— А што мне рабіць з маім Ратнікавым? — загаварыла нарэшце яна сама пра тое, чаго ён, такі смелы, баяўся.

— Чапялой па задніцы,— адказаў ён спакойна, нават віду не падаўшы.— І за што ты яго ўпадабала?

— Ратнікаў гэтулькі не п'е, як ты, высокі... Разам у школу хадзілі. Любіліся... У нас з ім угавор. Матка выйдзе з бальніцы — робім вяселле. Пакуль матка ў бальніцы — якое вяселле? Ці з Ратнікавым, ці з чортам лысым?

— Ратнікава дык упадабала. А мяне, выходзіць, так і не ўпадабаеш?

— У цябе пекныя валасы. Як авёс спелы на загоне... І рукі дужыя. І вочы добрыя, не злосныя. Гаворыш злос-

на, а вочы смяюцца. У Ратнікава злосці на дваіх. Калі б я перадумала, ды рашыла за цябе... Тады б Ратнікаў цябе з зямлі скінуў бы... Тады б табе не жыць...

— Кінь ты страшыць. Хай паспрабуе...

— Ён гарачы... Скіне...

— Яшчэ не было таго, хто б Фірагу з зямлі скінуў...

— Го-го... І сам ты ў шчэпкі, і твая машына... А ў цябе валасы, як авёс у полі... Як мятліца, мяккія. І сам ты мяккі, хоць і гаворыш, як грубіян. І рукі твае мяккія... — яна гаварыла ціха, аднекуль здалёку, як з туману, і гладзіла яго ціха і мякка па руцэ — ад лакця аж да пальцаў, што ляжалі на рулі, і яму здавалася, што і сам ён у мяккім і цёплым тумане...

За паваротам на Белае знізу з лагчыны выплыў мост з белымі пярэчкамі; з ракі з-пад маста высака ўгару ішла белая пара, і здавалася, што мост гарэў. Пасля ён пад белай парай пачаў раздвайвацца — забялеліся аж чатыры пярэчкі, адбегліся адна ад адной, і праз раку ляглі два масты: адзін воддаль другога. У канцы шэрай брукаванай дарогі зазеўраў чорны абрыў. Над ім калыхалася белая пара...

Фірага спопаразку крутнуў руль — лавіў бліжэйшы мост. Пачуў, што машыну пацягнула ўлева, забразгаў ланцугамі, скаціўшыся з шашы, прычэп, пачала хіліцца набок кабіна... Закрычала раптам Таня... Недзе далёка, як усё роўна не ў кабіне...

Ён націснуў на тормаз у дзве нагі, паклаўшы адну на другую... Машына адразу стала, як стукнуўшыся ў сцяну. Лявейшы белы мост адскочыў назад і лёг над абрывам проці шашы...

Машына, вывернуўшы з зямлі слупкі, сышла з дарогі і стала на пясчаным адхоне. Уперадзе з-пад сівой пары была відаць чорная блiскучая рака...

Ён паклаў галаву на руль і заплюшчыў вочы. Чуў, як стукае сэрца...

«Быў бы каюк... І мне і дзяўчыне...»

Ён падняў галаву — Тані ў кабіне не было. Тады ён піхнуў дзверцы, выскачыў на абочыну і абабег круга кабіны. Нідзе нікога. Яго як што падкінула на зямлі.

«Ніякай Тані не было... Развязло ў кабіне пасля ўчарашняй палучкі і... спаў... Спаў і ехаў. На пагібель...»

Ён ссунуўся на нагах па пяску да ракі — ззаду пакацілася каменне — і, лёгшы грудзьмі на мокрую і халодную ад расы траву, апусціў галаву ў ваду, глыбака, па шыю...

Страсануўшыся пасля на беразе, пачуў, што кінула ў стужу... Бег на гару, на дарогу да машыны, а ў яго не лучаў зуб на́ зуб.

У кабіне Тані не было. Тлела рака, як торф на балоце. Мост быў чысты і нейкі белы; на пярэчках сядзелі вароны, нагінаючыся ўніз — гатовы былі адразу ўзляцець.

Ён зноў падумаў, што драмаў ад самых Плешчаніц, і скочыў у кабіну, як пабіты сабака. Даў адразу назад, адсеў і, выраўняўшыся, рвануў мастом, як усё роўна ўцякаючы ад самога сябе, ад усяго таго, чым жыў дагэтуль там ззаду, у Плешчаніцах...

Канчаўся брук. Пачыналася калдобістая дарога да самага Крамянца, а там — да дзялянкі. У кабіне пачало кідаць, але ён не збаўляў газу: не заснеш...

Яшчэ ля Вялікіх Містанавіч, ля школы з белымі акяніцамі, ён згледзеў на дарозе ў выбоінах лужы — блішчэлі здалёку ад сонца. Трава ля дарогі была прылізана да зямлі, як усё роўна кароўім языком. Воддаль на полі блішчэў ад расы жоўта-зялёны бульбеўнік. Уперадзе, якраз над дарогай, віселі два цяжкія, бурыя ад сонца тулягі — апаўзалі на Белае, за гарызонт. Ноччу тут, відаць, прайшоў лівень; у Плешчаніцах было суха.

На мокрых глеістых калдобінах пачало выбіваць з рук руль. Заныў матор, як пад грузам. У кабіну на падлогу з-пад рычагоў пліхнула пад ногі жоўтай вады. Ён не збаўляў скорасці — не па ім гэта было, кратаў толькі нагамі: тормаз, газ.

За Вялікімі Містанавічамі, за фермай — двума доўгімі пабеленымі кароўнікамі і адкрытай сілоснай ямай — дарога падымалася ўгару, беручы пад Белае. Шашой на Белае ён не «пайшоў» — рвануў за гарой на Краснаволле.

Краснаволле ён пазнаў здалёку: яно ляжала ў лагчыне і блішчэла, абмытае за ноч дажджом. Перад Краснаволлем паабапал дарогі стаяла нязжатае спелае жыта, сагнуўшыся, ад дажджу, што ўсё роўна дужы чалавек угнуў плечы і апусціў галаву. У жыце блішчэлі абмытыя васількі і раманы, зыркія ад расы і ад радасці, што зноў сталі расці, на іх аж не было як глядзець — мітусіліся ў вачах. На каласах вісела раса вялікімі, як боб, кроплямі, і жытняе поле пад сонцам гарэла, пераліваючыся, сінім агнём, як зімой ад інею. Фірага аж прыплюшчыўся. За жытам ля фермы з зямлі паднялася казээс, па канец жы-

та бліснула возера. Вада за ноч з возера падышла да мастка, пад якім аселі трубы, пакінуўшы на дарозе шырокую калдобіну. Трубы забіла пяском, вада пераліваласяна другі бок дарогі і блішчэла аж на лагу пад самай «Курскай дугой» — калгаснай звалкай.

Пачыналася Краснаволле — чыстае, зялёнае ад ліп, жоўтае ад юргінь і сланечніку ў гародчыках. З фермы пусцілася скаціна і загарадзіла дарогу ў вёску — стада, як і вада, цякла на лог пад «Курскую дугу». Перапялёстыя — чорнае з белым — каровы пасталі, пазадзіралі галовы і круцілі рагамі.

Ён кінуў МАЗ пасярод вёскі ля магазіна, расчыніўшы насцеж адны і другія дзверцы, і пабег вулачкай па слізкай мокрай траве да канцылярыі, росячыся да калень аб густы палын ля частакола.

Канцылярыя была яшчэ закрыта — на дзвярах вісеў чорны круглы замок, задзёрты ўгару і мокры ад дажджу. Пад ганак панаганяла белых галовак дзяцельніцы і размоклых сініх пачак ад папярос. Ён згледзеў у акне тэлефонны апарат на стале, чырвоную нажутачку на спінцы крэсла і сваю галаву на шкле, растрэсеную, як аўсяны сноп.

Пад машыну на вуліцы цякла жоўтая ад гліны вада, гонячы шуму, і збягаліся піскпявыя курчаты, рабыя, дохлыя, без пер'я — сыпаліся з двара праз частакол. Запахла свежым дымам з коміна ад сухіх сасновых дроў, аж закруцілася з голаду галава. Ён бразнуў са злосці дзверцамі і рвануў вуліцай, адганяючы пад платы курэй і вясёлых заспаных дзяўчат з вёдрамі ў руках; чуў толькі, як з гародчыкаў, з рабін, пырскала на твар густая раса.

Аж да самага Ячнага, да могілак, насыпаная цераз поле калгасам новая высокая краснавольская дарога сцёбала па вачах жоўтым на цвеце, абмытым за ноч цукровым лубінам, які густа рос з двух бакоў дарогі. Ля могілак пад Ячным стаялі ўжо людзі ў сініх плашчах — чакалі аўтобуса.

На грэблі ў калдобінах за ноч размяк торф, нават паражняком прыйшлося буксануць з самага пачатку за мастком. Цераз усю грэблю ён ехаў, адчыніўшы дзверцы і гледзячы пад заднія колы, якія то абмываліся ў вадзе, то слізгалі па чорнай бліскучай, як скаварада пасля яешні, зямлі. На масце перад Крамянцом было поўна белых гусей; пачуўшы блізка машыну, яны сталі згінаць галовы і

растапырваць крылле: браліся ў лёт — ад іх заварушыўся мост, як жывы.

Крамянец яго спаткаў вялікай Вайдзішынай хатай, абмытай за ноч ад пылу, за бліскучымі, выпаласканымі дажджом вокнамі. І плот ля хаты быў абмыты, і бульбеўнік за плотам, і высокі цёмны канаторжнік. Дыхнула ў нос свежым кропам і лебядой. Ён павярнуў у вуліцу — крутнуў руль управа, нават не азірнуўшыся праз акно ў кабіне назад. Здаецца, каб ехаў заплюшчыўшы вочы, не зачапіў бы прычэпам платоў на павароце, звыкся ад вясны: да дарог ён прывыкаў хутка. Пад навіслую над вуліцай мокрую вярбу нырнуў з машынай, як у лесе пад елку — з вярбы пасыпаліся на локаць буйныя, па бабіне, кроплі расы і аблупленыя, без пер'я дробныя вераб'і. За вярбой з-за частакола з цёмнага канаторжніку зноў выскачылі на вуліцу на прылізаны дажджом пясок жоўтыя бясхвостыя курчаты, як насланнё, і за імі дзеці. Сямёра, ці што, «байструкоў» і сярод іх дзяўчынка ў жоўтай кароценькай сукянёшцы, самая меншая — гады тры. У майках, чырвоных, блакітных, з закасанымі да калень калашынамі, з мокрымі, чорнымі ад гразі нагамі, стрыжаныя, загарэлыя, яны пабеглі пасярод вуліцы перад машынай, што гусі, крычучы і махаючы рукамі. Сярод іх Фірага адразу пазнаў Валерку, як у любой гайні здалёку пазнаюць паганага сабаку-важака... Валерка тарканууся і стаў, як усё роўна падасінавік вырас за ноч на дарозе ў каляі ля дзялянкі пад Жоўтым Берагам: едзеш і не хочацца яго таптаць, маладога, крамянага, з чырвонай галавой, і тады рука сама возьме і паверне руль: расці... Валерка стаяў, аж пакуль не пад'ехала зусім блізка машына — высунуўшыся з кабіны, можна было плюнуць на яго чырвоную галаву,— тады падскочыў угару, махнуў рукамі, як усё роўна ржавая чапля на рудым балоце, і пусціўся на сваіх худых нагах упрысядку, раскідваючы ў бакі мокрую гразь на вуліцы, дастаючы сухі пясок і падымаючы перад машынай пыл. І сам губляўся ў сівым пыле, як у палыне за плотам, толькі краталася яго чырвоная галава. Дзеці адбегліся да плота, пасталі, збіўшыся ў кучку, як авечкі, і глядзелі на яго дурны танец. Фірага націснуў на сігнал. Фыркнулі з плота ў гарод вераб'і, і адзін за адным, як парасяты, шчэмячыся між жардзя, праціснуліся за плот дзеці. Закраталіся ў бульбеўніку стрыжаныя галовы, і сярод іх ужо блішчэў чырвоны Валеркаў «качан», як абмыты дажджом падасінавік.

— Тфу... Сліж... Трэба быць смелым...— у Фірагі ад-лягло ад сэрца.— Б-басота... Я яшчэ з цябе зраблю блін. Паспею.

Ён гнаў цяпер перад сабой вуліцай адных жоўтых курчат аж да лавачкі ля Танінай хаты. Лавачка на вуліцы ля варот блішчала ад вады: на яе капала з бэзу. Ён прыціснуўся да лавачкі — даў з другога боку вуліцы дарогу скаціне, калі яе будуць гнаць з фермы, ці якому другому чорту. Заглушыў матор і, калі вываліўся з кабіны на здрабежаны выгаралы падарожнік ля варот на вуліцы, пачуў, што ўсюды надта ціха: і ў вёсцы, і на ферме, і на загуменні ля лесу, і на двары ў Тані. Падумаў, што для яго тут усё чужое — мільгне толькі перад вачыма з машыны колькі разоў у дзень,— але злавіў сябе на тым, што недзе глыбака ў душы ён прывыкае да гэтага двара ў Крамянцы ў канцы вёскі...

У вёсцы, калі ля каго становіцца на вуліцы машына, усягды нехта выбягае з хаты, а калі не выбежыць — то адсуне беленькую фіранку на акне і будзе глядзець на вуліцу. У яго аж ёкнула сэрца, калі ён зірнуў на акно ад вуліцы... Але фіранка нават не кранулася на акне; ніхто не выходзіў і не бег да варот; капала толькі зверху з бэзу на лавачку раса і цыўкалі ў гародчыку на зямлі вераб'і.

Ён тады скаранька адшчапіў вароты — стаіць, як дурны, на віду ўсёй вёскі — і пайшоў вузенькай сцежачкай між падарожніку, гледзячы ў акно ад двара. На акне стары аліяс у гаршку калоў жоўтымі вострымі калючкамі белую фіранку: у хаце было пуста. На дзвярах у сенцы ён згледзеў вялікі круглы замок, задзёрты і тут угару, як і ў калгаснай канцылярыі. На замку знізу вісела кропля вады і блішчэла ад сонца.

І на двары было пуста. Над студняй на вочапе калыхалася поўнае вядро; у ім блішчэла, калышучыся разам з вадой, жоўтае сонца і сцябала па вачах. Ён пачуў, што яму стала горача, падумаў, што днём сёння зноў будзе пячы: чыстае ўгары неба, што ён усе гэтыя дні пра́жыўся ў кабіне, як чорт у пекле, і, падышоўшы да студні, схапіўся за вядро. Зняў з крука, паставіў на зруб і, нагнуўшыся, доўга піў, мачаючы ў ваду нос і струкаватыя валасы. Пасля, рвануўшы з сябе клятчастую рубашку і кінуўшы яе на сталюгу на дрывотні, пачаў чэрпаць ваду з вядра прыгоршчамі і ліць на галаву, на шыю, на плечы... Раскашаваўся ля студні, як ля сваёй...

Забразгалі на вуліцы вёдры — ён схапіў са сталюгі

рубашку і, ідучы да варот, нацягнуў яе на мокрыя плечы. Яшчэ здалёку, з двара, згледзеў, што на цёмна-зялёных дзверцах на машыне было напісана белым мелам, як у школе на дошцы, крывымі, нахіленымі ўперад літарамі: *Жаніцьба Фірага.* Мел у некага ў руцэ быў, відаць, вільготны — паналіпаў да фарбы дробненькімі кавалачкамі.

Загаманілі за прычэпам на вуліцы бабы... Ён рвануў з сябе незашпіленую рубашку і, спужаўшыся, нібы яго злавілі на крадзяжы, спачатку накрыў белы надпіс, тады адным махам павёў рубашкай па дзверцах, збіраючы мел на рубашку і на даланю.

І з другога боку на дзверцах было напісана: *Жаніцьба Фірага* — вялікімі літарамі, як для сляпога. З вёскі вуліцай да машыны падыходзіла Волька Вайдзішка — ён пазнаў — і, як ні ў чым не бывала, стаяў і ціхенька чысціў рубашкай дзверцы ў кабіне.

Волька нясла на руцэ два парожнія белыя бліскучыя вядры — ішла на ферму і вяла за руку нейчую маленькую дзяўчынку, якую ён нядаўна бачыў у гразі на вуліцы. Змерала яго вялікімі сінімі злоснымі вачыма.

— Ранавата рашыў падхаўтурыць...— у слове «падхалтурыць» яна, як і ўсе ў гэтым баку, гаварыла «ў» замест «л», намякаючы якраз на тую «хаўтурку», дзеля якой да яе самой заязджалі ўсягды шафёры. Яна была ў шыракаватай сукенцы, папаўнелая па-бабску знізу, але яшчэ круглая ўсюды на ўсе сто. Вочы ў яе раптам заблішчэлі, як усё роўна ў цемнаце: — Што ў мой бок ужо не глядзіш? Састарэла для цябе? Толькі ты не там свае косці кінуў, дружок... Яна не твая...

Ён не сказаў ні слова, выціраў толькі рукі ад мелу аб рубашку, як аб анучу, забыўшыся. Яна адпусціла жоўценькую дзяўчынку, перакінула парожнія вёдры з адной рукі на другую:

— Табе ўжо на чужых дзяцей ісці... Калі якая возьме... Паднасіўся... Счасаўся, як калок...

— Што, думаеш, сваіх ужо не змагу нарабіць?

— Каб сваіх нарабіць, то трэба мець з кім... А з кім ты наробіш? Хто за цябе пойдзе? У прымы, можа, якая і возьме па п'янай лавачцы... Да сваіх дзяцей за вотчыма... Баран з паабіванымі рагамі...— яна са злосці забразгала вёдрамі.— Цешча ў Белым у бальніцы. Цешчу лепш бы праведаў...— яна паднялася вышэй да платоў пад высакавольтную лінію і пайшла дарогай па дзядзінцы на ферму, бразгаючы дробненька вёдрамі. За ёй па мокрай

траве пабегла нейчая маленькая жоўценькая, як вясенні адуванчык, дзяўчынка. Пад высакавольтнай лініяй, якая трыма чорнымі правадамі цягнулася гародамі праз увесь Крамянец і, перасякаючы дарогу, ішла прагалам праз лес, на дзядзінцы была відаць жоўта-чорная апаленая зямля і бліскучы пясок — узяўся ад агню ў вялікія, з кулак, шкляныя кавалкі. Адзін провад ляжаў канцом на зямлі — ноччу, відаць, ударыў па лініі пярун.

Фірага стаяў і глядзеў на расплаўленую ад сонца лапіну зямлі, якую абыходзілі здалёку маленькія дзіцячыя ногі...

## 3

У кабіну дыхнула балотнай сырасцю: ягаднікам, кіслым мохам і смалой, разагрэтай у гарачыя дні і цяпер перамешанай з пахам разапрэлай гнілой кары — так усягды пахне мокры яловы лес. І сыпанулі камары — плоймай. Жоўтыя, аж белыя, худыя, на высокіх тонкіх нагах, як Валерка, яны лучалі пад сонца, што рэзала, як алмазам, пярэдняе шкло ў кабіне на дробныя калючкі, і самі рабіліся калючымі, што іголкі, і чырванелі наперад, яшчэ не напіўшыся крыві. Абсыпалі мяккай раніпняй гарачынёй шчокі, лезлі ў вочы і ў рот — не дыхнеш... Фірага замахаў рукой, выганяючы іх з кабіны — яны, здалося, аж зашуршалі пад пальцамі. Ён падняў у дзверцах шкло — зачыніўся, як ад касога дажджу,— і, дастаўшы з тайнічка старую чорную зашмальцаваную кепку, пачаў біць камароў у кабіне, як мух на акне. Плюнуўшы, зноў апусціў у дзверцах шкло. Камары цяпер бялеліся на ветравым шкле, як літары на кабіне: *Жаніцьба Фірага...* Ён махнуў рукой, каб сцёрці — яны зляталі і садзіліся зноў: *Жаніцьба Фірага...* Ён падумаў, што і дзверцы знадворку ў кабіне чыста не выцер, і, высунуўшы галаву, згледзеў на дзверцах круглае белае «а» — як усё адно дзіцянё з задзёртым доўгім носам смяялася з яго.

«Каб сваіх нарабіць, трэба мець з кім...» — вылаяўся ён, успомніўшы Вольку.

Уперадзе ў нарэзаных коламі глыбокіх, аж кладзецца вось у прычэпе на зямлю, каляінах заблішчэла вада. Колы закруціліся, прыбуксоўваючы; ён ціснуў на газ, адчыніўшы дзверцы. Вада з-пад машыны хлынула на абочыну на жоўты мох і доўгенькія яловыя шышкі, абліваючы зверху падсмяглыя шапкі мухамораў. Старыя, у ла-

паць, мухаморы бліснулі яму з вады шырокай чырвона-жоўтай усмешкай, і ў яго адлягло на душы.

Перад самай дзялянкай вузкая дарога між старых, у абхват елак, аскобленых прычэпамі, спускалася ў лагчыну і была ўжо затоплена вадой. Нават каляін не было знаць — адно цьмяная бліскучая вада, як у рацэ. Ён ведаў, што пад вадой глыбокія каляіны, што прычэп усягды гэтым месцам дзярэ зямлю, што Калясень бярэ лявей каторы ўжо дзень, прабівае новую дарогу, але цяпер позна было пра гэта думаць. Машына лёгка пайшла ў ваду, разганяючы яе з дарогі аж на аскобленыя яловыя камлі. Ён чуў па матору, што дно цвёрдае, не размякла за ноч пасля дажджу, і націскаў на газ.

Над дзялянкай вісела высокае густое і чыстае сіняе неба, толькі нізка над лесам у тым баку, дзе стаяла сонца, збіліся ў кучу белыя круглыя воблакі. Дарога — дзве чорныя паласы — павяла пасярод дзялянкі па засыпаным карой, парослым верасам, бруснічнікам і маладым малiннікам месцы. Прычэп ззаду застукаў і забразгаў ланцугамі: сярод пнёў на дарозе валялася засохлае ў гразі, як закаванае ў бронь, дрэва — бярозавыя хлысты, парослыя густа зялёным, як вясной, лісцем. Хлысты, прыйшоўшы з Крамянца і ўзяўшы бензапілу ў вартаўніка Жорава, людзі крыжавалі на дровы: хто на ладнае паленне, каб пад'ехаць вечарам на кані на разводах, а хто, дагаварыўшыся з калгаснай шафярнёй, рэзаў бярозу на дзялянцы адразу на калодкі, як у печ — не баючыся ні бога, ні чорта, ні леспрамгаса.

Сама горш было ехаць паражняком па ляжнёўцы. Дрэва, якое вясной падстаўляла свой бок пад шурпатыя гумавыя колы, каб тыя не праваліліся ў балота аж на той свет, цяпер падсохла разам з балотам, параз'язджалася ў бакі, парабілася гарбатым, на ім калаціла і трасло кабіну, прычэп і цябе самога, вытрасаючы і так растрэсеную на шафёрскім сядзенні душу, якую не аблягчаў ні «бог», ні «хрыстос-спасіцель»...

Ляжнёўка пачыналася ад убітага нагамі і машынамі шэрага — торф з пяском-сіпаком — пагорка сярод дзялянкі, дзе перш стаяў катлапункт: тры новыя ладныя пафарбаваныя вагончыкі на высокіх колах. У першым была кухня і кладоўка з прадуктамі, якія сюды чуць не кожны дзень прывозіла «будка» з Орса з Плешчаніц. У другім — сталовая з новымі столікамі з сіненькім пласцікам зверху: разліў з міскі — пацягні локцем, і чыста. У трэцім —

спальня з раскладушкамі, якія, закупленыя ў Плешчаніцах у магазіне некалькі гадоў назад, скрыпучыя ад натугі, не дзяржалі ўжо на сваіх дробненькіх пружынах і лёгенькіх ножках ні старых, яшчэ даваенных засмаленых леспрамгасаўцаў, якія дацягвалі на іх свой рабочы век і, панажываўшы радзікуліты, ішлі цяпер на пенсію; ні другога пакалення рабочых — якія пасля вайны пакідалі калгас і пайшлі шукаць доўгага рубля, веласіпеда, матацыкла і новай хаты; ні маладзейшых ужо дзецюкоў, што панканчалі дзесяць класаў і не змаглі нікуды паступіць; ні дзяўчат-дарожніц, што, нацягаўшыся на трасе, забіваліся дзе ў куток пад пасцілку з галавой і храплі без задніх ног — не мог іх разбудзіць ні шаферскі мат, ні ласкавае слова, якое мужчыны любяць гаварыць больш за ўсё ўначы — на самае вуха...

На пагорку было пуста — ні людзей, ні дыму, ні орсаўскай «будкі», ні фарбаваных вагончыкаў. Катлапункт зняўся, фарбаваныя вагончыкі пацягнулі тралёвачнікі ўчора далей, пад Вілію: хлебясталі цягачы, вагончыкі ківаліся на калдобах, здавалася, перакуляцца ўверх коламі. На сталовай між вокан з белай шалёўкай было нацягнута чырвонае палатно: «План — закон. Выполнение — обязанность. Перевыполнение — честь».

Лес рэзалі цяпер недзе там, дзе ў густой смузе стаяла гарачае сонца: пад Жоўтым Берагам. Тут па ўсёй дзялянцы, як на скошаным лузе сена ў стагах, ляжалі ў высокіх, не дастаць рукой, доўгіх шліхтах свежыя яшчэ хлысты.

Кончылася ляжнёўка — як усё роўна яго, Фірагу, знялі ў чорта з рагоў. Перад машынай адразу вырасла шліхта, як сцяна. Блізка ля шліхты стаяў чырвона-жоўты, як вараны рак, пагрузчык з задзёртай жалезнай клюшняй. Вышараваная аб зямлю і аб дрэва вялікая, як растапыраныя рукі ў чалавека, клюшня blішчэла на сонцы, што каса на лагу, паднятая з травы.

Ён упёрся фарамі ў шліхту — у камель старой асіны, абсыпаны пілавіннем, заглушыў матор і, адкінуўшы адны і другія дзверцы, выскачыў з кабіны на вільготны пасля дажджу мох. У твар дыхнула цёплай смалой са шліхты з багуном з-пад ног, аж закруцілася галава. Пасля машыны ў дзялянцы апанавала цішыня. Чуваць было, як лапоча ўгары крыллем дзікі голуб — узарваўся з-пад ног — і ў Крамянцы за лесам рыкае скаціна. І — нідзе ні душы: ні вартавога Жорава, старога ўжо чарнявага невялікага мужчыны з Краснаволля, ні трактарыста Шумска-

га з пагрузчыка: той прыедзе з Плешчаніц, як і ўсягды, разам з Каляснём — першым рэйсам. Раней іх ніколі ніхто не ехаў. Улавіўшы носам гар, як усё роўна дзе блізка тлеў торф, Фірага згледзеў, як недалёка ад пагрузчыка са старога дуплаватага пня падымаецца вузенькай палоскай дым, як з папяросы: тлела не залітае дажджом вогнішча. Ля яго ляжала бензапіла, абмытая дажджом.

Дзе вогнішча — там і чалавек. Чалавека Фірага згледзеў у пагрузчыку ў кабіне: адтуль тырчалі высунутыя кароткія ногі ў гумовых ботах з паналіпаным да халяваў мохам, шыллём і жоўтым бярозавым лісцем. Пагрузчык — «Онежец» з бліскучай рагатай ласінай галоўкай спераду на кабіне — Шумскі замыкаў усягды нанач на ключ, калі ад'язджаў апошнім «прычэпам» з дзялянкі. Жораву ключы не давяраў, і той, калі лінуў дождж і некуды было дзецца, відаць, сам сумеў адамкнуць дзверцы: усё жыццё быў трактарыстам, сеўшы за руль яшчэ да вайны.

Фірага падышоў да кабіны і крануў рукой гумовы бот. Бот стукнуўся аб дзверцы, і з іх споўз на зямлю цяжкі мокры стары палатняны плашч, агаліўшы надпіс: «При поднятой стреле из кабины не выходить!» Фірага тады пастукаў пальцам у дзверцы, як у канторы, калі клікалі да дырэктара ці да галоўнага інжынера. Жораў падцягнуўся вышэй на сядзенне, падкорчыў ногі, як збіраўся стаць на каленькі, і захроп на ўсю кабіну. Піснуў, бы маладое піскляне пад квактухай, недзе пад ім за рычагамі мокры чорны сабачка. Падняўшы круглую мордачку з апушчанымі вушамі, ён глядзеў з-за рычагоў бліскучымі чорнымі вачыма — як усё роўна падаваў на талерцы дзве спелыя смуродзіны.

Фірагу стала весела. Ён пастаяў, паслухаў. Машын не пачуў; турчала толькі на ўсю дзялянку недзе ў канцы шліхты жаўна. Калясень другі ўжо год збіраў на «калёсы», за рулём ад цямна да цямна, эканоміў на капейцы, высах сам на трэску — не можа быць, каб не прыехаў. Але дарогай усё бывае, а дзверцы ў пагрузчыку адкрыты, нагрузіцца можна самому, трэба толькі ачысціць кабіну ад чалавека і сабакі.

Узяўшы Жорава за ногі, за гумовыя боты, ён пацягнуў яго з кабіны. Старыя, мокрыя, ліпкія ад гразі і калючыя ад жоўтага яловага шылля боты лёгка саслізнулі з ног і шлёпнулі на зямлю, па прытаптаны мох. Жораў выпрастаўся на сядзенні і выцягнуў жоўта-белыя, распараныя ў гумовых ботах кароценькія ножкі — аж пад нос.

— Во ўпіўся ў сядзенне, стары клешч...— Фірага плюнуў сабе пад ногі.— Сам выкідай сябе з кабіны... Не чакай, пакуль я рукі прыкладу...

Пачуўшы знадворку злосны голас, над вухам у Жорава ў кабіне забрахаў сабака, і гэта, відаць, яго разбудзіла. Ссунуўшыся на жываце з сядзення разам з парожняй бутэлькай і паказаўшы ззаду з-пад пінжака белую, мокрую ад поту паясніцу, Жораў ззыбнуўся на зямлі, схаваўшы жоўтыя ногі ў мох, і апёрся рукамі аб трактар. Фірага падышоў да яго, узяў за плечы і, адарваўшы ад дзверцаў, павярнуў да сябе тварам. Жоўты, зморшчаны і пămяты твар, як стары, падсохлы на сонцы падасінавік, міргаў з-пад абвіслых на пераносіцу валасоў вузенькімі чорнымі вочкамі: чалавек хацеў пазнаць, дзе ён і хто перад ім. Фірага тады стармаснуў яго рукамі.

— Во старая дудачка... Адзін там, на базе, другі тут... І спяць на парожніх бутэльках. І сабакі іх вартуюць, каб воўк імі с...кі не заткнуў... Хай ужо днём мы цэдзім гэту бурду... А каб ужо і днём і ноччу не перасыхаць... Хлысты пад месяцам крыжуеш на дровы? Са шліхты? Ясна...

Жораў бліснуў з-за валасоў чорнымі злоснымі вочкамі:

— Ты-ы не Шумскі... Не Калясень... І ты не дырэктар леспрамгаса... Ты-ы Фірага... І ты шчанюк!

Чорныя вочкі схаваліся за валасамі; Фірага адпусціў рукі, і стары Жораў як стаяў падпёрты спераду, так і паляцеў уперад на зямлю, чмякнуўшыся ў вільготны мох і накрыўшы сабой гумовыя боты, парожнюю бутэльку і мокры палатняны плашч. З кабіны на мокрыя ногі яму скочыў сабака.

Машын не было. Тады Фірага, нагнуўшы галаву, палез у кабіну пагрузчыка. Матор завёўся з першага разу; калі Фірага ўзяўся за рычагі — клюшні паслухмяна разявіліся, сцяліся і падняліся ўгару над кабінай... Даўшы назад, ён павярнуўся і падагнаў пагрузчык да шліхты.

Разяўленымі, вышараванымі да бляску клюшнямі трэба было падчапіць самы першы асінавы хлыст, што ляжаў на зямлі. Ён сцяў яго, усё роўна як сваімі зубамі, націснуў на газ і павёў рычагі. Задрыжала адразу клюшня, адрываючы ад зямлі асінавы хлыст у два чалавечыя абхваты ў камлі; задрыжаў увесь маленькі чырванаваты «Онежец» з рагатым ласём спераду; прымаючы на сябе цяжар ад дрэва, ён, здавалася, пачынае ўязджаць у зямлю, у мох — правальваецца, як зімой на рацэ пад лёд... Па скуры за плячыма прабег дробненькі халадок; праз адчыненую кабіну

пацягнула да сябе зямля — захацелася кінуць к чортавай матары рычагі і выскачыць... Але страла з перацятай пасярод асінай выпрасталася ўгары над кабінай — здавалася, упадзе і расплюшчыць усё ў блін: і кабіну, і яго, Фірагу — і, пераваліўшыся, пачала памалу апускацца на другі бок над прычэпам. Цяпер у яго задрыжалі рукі: паспрабуй, пакладзі такі цяжар на прычэп, не зачапіўшы кабіны... Але асіна лягла між канькоў з першага разу, далекавата толькі ад кабіны — прыйшлося падцягваць аж два разы. Клюшні расцяліся адразу, і ён аж уздыхнуў, выціраючыся ад поту самлелымі ад натугі рукамі, як усё роўна не страла, а ён сам падняў на рукі і перакінуў цераз галаву такі цяжар. Другая асіна пайшла лягчэй, і ён, паківаўшы ёй угары над канькамі, паклаў адразу на месца — уровень з першай. Ён ніколі не любіў, калі Шумскі загружаў яго «моллю», усягды браў таго загрудкі, калі той, паклаўшы з двух бакоў сценкі з тоўстага дрэва, засыпаў сярэдзіну «жардзём»: клаў поўнай клюшняй дробную бярозу з елкай. Засыпаны жэрдзем прычэп цягнуў на ніжнім складзе толькі семнаццаць чортавых кубаметраў, ганяйся за імі за трыццаць вёрст, як дурны, калі добрых хлыстоў за раз можна было ўзяць дваццаць два кубы. Калясень браў... Як бы ні грузіўся ён, Фірага, яму на ніжнім ніколі не намерылі дваццаць два. Сама больш дзевятнаццаць з хвастом. Дваццаць два было толькі ў Калясня і ні ў кога другога, бо Шумскі ніколі не грузіў Калясня «жардзём», бо Калясень збіраў ужо другі год на «калёсы» і яму трэба была прагрэсіўка. І цяпер, сеўшы на пагрузчык, Фірага адкінуў клюшняй «жардзё» наверх на шліхту, дастаючы адну асіну ў кубаметр і кладучы яе на прычэп між канькоў адну ля адной. Брухатая ў камлі, як бочка, роўная і гонкая, асіна аж пераважвалася на прычэпе, дастаючы верхам да зямлі. Ён хацеў пакласці дваццаць хлыстоў, паклаў толькі пятнаццаць: дарогу ў вілах заліло вадой. Заглушыўшы пагрузчык, выскачыў з кабіны і з зямлі ўбачыў, што такога прычэпа ў яго яшчэ не было: шэрая камляватая асіна, здавалася, расцісне і прычэп, і колы ў машыне і ўедзе ў зямлю. Калоды аж распіналі ў бакі канькі, і паклаў ён іх, відаць, заблізка да кабіны.

Нейкая шалёная радасць ахапіла яго: першы раз сеў за пагрузчык і справіўся. У ім ажыло дзіця, якое за гэткае трэба было пагладзіць рукой па галоўцы, але ён быў не дзіця і гладзіць па галоўцы яго тут было некаму — стары Жораў хроп на зямлі, раскінуўшы босыя ногі,— і ён

стаў падскокваць на дзялянцы ля шліхты, як казёл: танцаваў. Усё ад той жа шалёнай радасці, якой у яго даўно ўжо не было: ні ў касе ў канторы, ні за сталом у чайной, нават сёння ў кабіне яна была толькі прывідам.

Ззаду з-за прычэпа дрэва павінна было вытыркацца толькі на тры метры, і трэба было кожны раз, нагрузіўшыся, браць у рукі бензапілу і адкрыжоўваць вярхі, пакідаючы іх на дзялянцы чортведама каму — старому Жораву на «чарніла». Не ўсе і не ўсягды гэта рабілі, былі і абсмельчакі, што не баяліся гаішнікаў на дарозе. А як абмінеш гаішнікаў? Калі і не спаткаеш матацыкл на шашы, то на ніжні склад трэба ехаць праз канец Плешчаніц па вуліцы...

Ён падбег да вогнішча, з якога ўсё яшчэ ішоў дым, цененькі, як з папяросы, і падняў з зямлі бензапілу. Піла нават не хліпнула, калі ён тузануў яе за шнур: бензабачок быў парожні. Каністры, якая ўсягды стаяла ля пілы, відаць паблізу не было — не падымаць жа зноў на ногі старога Жорава.

«Асушылі і бутэлькі і бачкі...» — падумаў ён зноў весела і кінуў пілу на зямлю.

Машын чуваць не было.

Сеўшы ў кабіну і прытуліўшыся плячыма да мяккай спінкі сядзення, ён супакоіўся, пачуў, што астывае і што ліпнуцца вочы — цягне на сон. Зноў здалося, што ў кабіне збоку справа нехта сядзіць...

Ён страсануў галавой і, адплюшчыўшы вочы, націснуў на старцёр. Матор зачыкаў роўненька і ціха, як будзільнік ноччу ля вуха; у кабіну засвяціла сонца, што ўсё роўна праз акно ў хату на сцяну. Ён падумаў быў на міг, што кабіна для яго і дом, і сцены, і вокны, і націснуў на газ. Кабіна задрыжала дробненька і праціўна, аж сціснула ў скронях; матор, чуваць было, напяўся, як гуж у хамуце — прычэп цяжка пайшоў з месца. Заскрыпела ў каньках асіна: калоды прыціраліся адна да адной. Пачуўшы машыну, хацеў устаць з зямлі стары Жораў — закратаў босымі нагамі, але яму не дала падняцца галава, і ён падцяў ногі пад сябе: баяўся, каб не наехалі.

Высунуўшыся з кабіны, Фірага бачыў, як пад коламі ўгіналася зямля і з-пад іх, з моху, пырскала ў бакі вада; як на цвёрдым пачыналі прыплюсквацца самі колы. На ляжнёўцы пад імі пачало крышыцца дрэва і ўязджаць у зямлю. Ён баяўся толькі, каб не рассунуць ляжнёўку і

не буксануць, і вёз па гэтай чортавай грэблі асіну, што ўсё роўна парадзіху ў кабіне з дзіцём на руках.

Мінуўшы ляжнёўку, спыніўся на пагорку, дзе быў перш катлапункт, і, выскачыўшы, абышоў прычэп, стукаючы паўбацінкамі па колах. Колы намертва зрасліся з цвёрдай на бугры зямлёй; асіна роўна ляжала на прычэпе, нібы і расла ў лесе і ўпала пад электрапілой толькі дзеля таго, каб легчы аднаму яму, Фірагу, на прычэп між канькоў.

— Парадак...

Насустрач зноў паплыла дзялянка: нізенькія, жоўтыя ад сонца і бліскучыя ад смалы яловыя пні; шырокія, цёмныя, што ўсё роўна каменныя пліты, пакладзеныя пад ногі, пні ад ясеня і дуба, прыцярушаныя чэрствым пілавіннем, што жарсцвяком. Ля іх, невядома адкуль узяўшыся, бралася расці кунаценькая зелень — маліннік.

Скрыпела асіна ззаду ў каньках на калдобах; матор ад натугі, здавалася, падымаў капот. Трэба было звярнуць на новую Каляснёву дарогу, але дзялянка была крыж-накрыж зрэзана і старымі вясновымі ляжнёўкамі, і нядаўна ўтаптанымі дарогамі — куды павярнуць? І ён вёў свой цяжкі прычэп — здавалася, нагружаны не асінай, а літымі каменнай вагой валунамі, якія спрадвеку ляжмя́ ляжаць ля дарог на гэтай зямлі,— вёў у вілы па старой каляі цераз дзялянку. Вось у прычэпе ляжала на зямлі, сунула перад сабой мокры сіпак, мох, яловыя шышкі і зялёную папараць. Было відаць, як пад коламі ўгінаецца хвалямі зямля...

Вада ў лагчыне была ўзмучаная, бурая; зверху на ёй блішчэлі сівыя масляністыя плямы. З-пад колаў яна хлынула ў бакі на зялёную высокую папараць. Матор заныў на чым свет стаіць; ступня ўпёрлася ў газ, аж забалела, рукі ўпіліся ў руль, з валасоў закапаў пот. Прычэп ішоў роўна, нават не хістаўся з боку на бок, як на пасецы, скрыпелі толькі канькі. Хаця б угадаць: паставіць колы пад вадой у нарэзаныя каляіны, хаця б не стаць, не буксануць: цяжкія колы асядуць у размочаную зямлю, уедзе ў глеісты бугор задняя вось — не скранеш прычэп з месца. Вада ў лагчыне дабягала да яловых камлёў, абмывала іх, варочалася назад і хвастала па падножках і па дзверцах. Паказалася пад нагамі ў кабіне і адразу знікла — як у сухі пясок. Ужо відаць была палоска гладкай пясчанай сівой дарогі — як у рацэ бераг. Ён і згледзеў за сівым берагам на дарозе, над якой вісела густая яловая зацень,

жывёлу. Цёмная, як і зацень, яна паволі выходзіла з вады і падымалася на жоўты пясчаны ўзгорак. Ён падумаў спачатку, што гэта лось — ласі спатыкаліся часта, пераходзілі дарогу на дзялянцы і старыя і малыя, падыходзілі нават, не баючыся людзей, да шліхты грызці асіну — і зноў ад нейкай дзіцячай радасці засігналіў на ўвесь лес і яшчэ больш націснуў на газ. Жывёла як усё роўна і не чула яго сігналу, падымалася на жоўты пясок, тады спынілася і пачала паварочвацца — неяк адразу ўся. Была блізка, ён бачыў, як у яе з хваста цурком сцякае вада. Ён тады здзівіўся: бык — рыкала ж скаціна з самай раніцы... Бык, павярнуўшыся назад, ступіў з гары і стаў, заняўшы дарогу між каляін. Фірага добра бачыў у быка рогі — чорныя, шырака разагнутыя ад самага лоба. Высунуўшы з кабіны галаву і ўпіўшыся вачыма, ён нават згледзеў, што канцы рагоў у быка вострыя, як счэсаныя тапаром, што правы рог ніжэйшы за левы. Бык увесь быў буры, толькі між рагоў у яго быў святлейшы, жаўтаваты начос, які, кучаравячыся, спускаўся ўніз па носе да самых храп. Храпы былі жоўтыя і, калі бык дыхаў, разыходзіліся ў бакі — было відаць, што яны вялікія і чырвоныя ўсярэдзіне. З-пад храп у яго звісала даўгаватая, бурая, як і ён сам, барада. Бык стаяў, нагнуўшы галаву, і за рагамі ў яго падымаўся вялікі хіб, як перакуленая лодка на беразе ўверх вострым кілем.

Фірага аж урос у сядзенне:

— Зу-убр!..— крыкнуў ён, нібы ўсюды было поўна людзей і ніхто нічога не бачыў. Нага раптам сашмыкнулася з газу, матор чыхнуў раз-другі і заглох — было чуваць толькі, як плёскае, пераліваючыся, пад кабінай вада. Наперадзе за два сажні стаяў на беразе на кароткіх тоўстых нагах, прыціснуўшы шырокімі чорнымі капытамі вільготны сіпак, зубр. Стаяў і не думаў адыходзіцца... Падчэпіць рогам пад радыятар — паляціш у лужыну разам з кабінай...

Зубр ступіў бліжэй да машыны, абсунуўшы пярэднімі нагамі сіпак з дарогі ў ваду, і пакруціў у бакі галавой — кіўнуліся ўгары над вадой цяжкія чорныя рогі. З-пад густых абвіслых броў — прыліплі жменькамі моху — бліснулі маленькія круглыя вочкі — зірнулі, здалося, аж у кабіну, заганяючы ў Фірагі душу ў пяткі. І вушы ў жывёлы былі маленькія, не відаць з-за рагоў, натапырыліся і краталіся. З раздзьмутых чырвоных ноздраў ішла белая пена і, развальваючыся на лёгкія дробненькія кавалачкі,

падала на цёмную ваду. Зубр, спусціўшыся з берага, зачёпкаў па вадзе — ішоў да машыны. Немаведама, што ён намерыўся рабіць... Можа, лепш было б цяпер сядзець не ў кабіне, а на прычэпе вышэй канькоў? Падышоўшы блізка да машыны,— каб выцягнуў шыю, мог бы дастаць рагамі да радыятара,— ён раптам спыніўся, павярнуў набок галаву і натапырыў маленькія вушкі назад на дарогу, адкуль сышоў у ваду. Тады адразу крутнуўся ў вадзе, падняўшы пырскі ўгару вышэй машыны, боўтнуў нагамі і рвануў з подбегам назад на горку на жоўты пясок, сіганууўшы адразу з яе ў дробны ельнік у бок дзялянкі. Пад ім глуха трашчала ламачча. Пасля ўсё сціхла, чуваць было толькі, як сцякае з разбалабошанага капытамі берага вада назад у лагчыну.

Сэрца стукала, здавалася, не ў грудзях, а аж пад капотам у машыне. І толькі цяпер Фірага ўспомніў: сам жа чытаў, што з запаведніка выйшаў зубр, прайшоў па суседніх раёнах і апынуўся цяпер у іхнім баку. Што ён стары і мірны, нікому не чыніць зла, і прасілі, каб ніхто не ўздумаў па ім страляць. На свае вушы чуў, што бачылі зубра ў вёсках: падышоў да фермы недзе ля Плешчаніц, паявіўшыся з лесу...

Пад машынай капала ў лужыну вада. Ён адчыніў дзверцы. Усюды ў лесе стаяла ранішняя сырая цішыня; на цёмную ў лагчыне ваду падала зверху ядранае сіняе неба, і вада блішчэла, як лёд. Ззаду за плячыма на прычэпе заціхкала сінічка. Зубра — як і не было. Сляды на беразе на мокрым пяску залізала вада.

Цяпер ён адразу пачуў, што буксуе: зашумелі ззаду колы, кабіну заліло вадой і заляпала граззю. Ён даў назад — кабіна была закалыхалася, ад'ехаў усё-такі, пасля зноў дробненька задрыжала, трасучы яго самога; адскочылі, бразнуўшы, дзверцы ад тайнічка. Не трэба было і глядзець пад колы: сеў, засмактала балота. Памагчы цяпер мог толькі цягач. Па даўняй шафёрскай прывычцы налёг на газ і пачаў раскачваць прычэп узад-уперад, каб рвануць з лагчыны з разгону — і задняя вось лягла на зямлю. Кабіну заслала сінім горкім дымам, хоць захлыніся; дрыжала спадыспаду сядзенне, дрыжалі рычагі і запырсканае спераду вадой ветравое шкло. Праз яго ён і згледзеў на горцы, дзе нядаўна стаяў зубр, Каляснёў МАЗ: расчыніліся дзверцы з аднаго і з другога боку і на зямлю саскочыў спачатку сухі, як жэрдка, гарбаносы Калясень, за ім на другі бок у верас і ў папараць выкаціўся

нізенькі, кругленькі, як бочачка з агуркамі, Шумскі. Чуць тоўпіўся ў свой зашмальцаваны чорны картовы касцюм — рваў яго на швах і на гузіках, аж ніткі, здавалася, трашчалі. Падышоўшы да вады, яны сталі на сівой паласе, топчучы нагамі сляды ад капытоў. Шумскі, ссунуўшы з патыліцы на лоб чорненькую прыплюснутую кепачку, прысеў на беразе і свіснуў, гледзячы ў ваду пад радыятар. Доўгі, як жэрдка, Калясень адышоўся берагам пад самы прычэп, перагнуўся напалам, як складаны нож, выцягнуў галаву, што ўсё роўна хацеў панюхаць здалёку пад прычэпам, тады вярнуўся да кабіны і махнуў рукой — глушы матор. Пасля крыкнуў:

— Хрэна пячэш салярку?.. Не чуеш, што амба?..

Фірага, не выключаючы матор, вылез з кабіны і скочыў з падножкі ў гразь на беразе, запырскаўшы Шумскага з ног да галавы. Шумскі мацюкнуўся і першы падаў руку:

— Начаваў? Нешта не помню, каб цябе грузіў апошняга. Пастой... Ды я табе адных такіх калод не паклаў бы. Нават яму,— паказаў ён рукой на Калясня,— адных калод не кладу...— Дастаў быў бліскучы партсігар з кішані пінжака, але схаваў назад, курыць не стаў.— Апошняга я яго ўчора грузіў,— паказаў ён зноў рукой на Калясня.

— Што, спалі ўсю дарогу? Слядоў маіх не пазналі?

— Сляды-то я зглядзеў, ды не думаў, што твае.— Калясень выпрастаўся на беразе і стаў, як калок, убіты ў зямлю.— Ты што,— скрывіўся ён на Шумскага,— не відзіш, што перад намі ранняя птушачка?

— Слухай, Фірага. Прыехаць-то ты мог і першы, а хто цябе без мяне, Шумскага, пагрузіў?

— Як хто? Стары Жораў.

— Жораў? Хочаш нам дваім падбіць падковы? — Шумскі прысеў і, адкінуўшы галаву, зарагатаў.— Ключы ж у мяне ад пагрузчыка...— ён дастаў іх, аж тры, ці што, новенькія, бліскучыя, надзетыя на жоўценькае колца, падкінуў угару і, злавіўшы, сціснуў у кулаку.— Ключы ў мяне! Во!

Шумскі быў зайшоў наперад Калясню, і той адапхнуў яго ўбок:

— Ключы ў яго... А гэты шчанюк пагрузіўся і дарогу мне зас..аў... І дарогу, і план. У мяне план! — закрычаў ён раптам на ўвесь лес, як рэзаны. Цёмны худы яго твар стаў чырвоны, што бурак. Вочы — адны бялкі.— Ды я...— ён выцягнуў руку ўперад і сцяў Фірагу за клятчастую

рубашку ля самага горла, другой адразу, як канцом аглаблі, сунуў з усёй сілы спераду ў падбародак. Добра, што адпусціў рубашку ля горла, не трымаў, і ўдар адкінуў толькі на сівы пясок да самай вады. Не адпусці ён рубашкі — разляцеліся б папалам санкі. Фірага пачуў, як закружылася галава і зблажыла.

— Хлопцы, хлопцы...— да Фірагі падскочыў Шумскі і, закрываючы сабой, пачаў падымаць на ногі.

— Ды я яго...— цяпер і твар у Калясня быў белы, як і вочы; нават нос, гарбаты і ценкі, пабялеў, як на марозе.— Ну не могуць. Ну скажыце... Не могуць, каб мне не паскудзіць... Ну, здаецца, ужо ўсё... Усё... Дык не. Знойдзецца ўсягды г..но ... Давай, Шумскі, дуй на дзялянку па цягач. Без цягача тут свістаць будзем...

— А чаго я павінен дуць па цягач? — Шумскі адскочыў раптам ад Калясня.— Што ты на мяне вароты расчыніў? За што хлапца ў морду? Што ён табе — сабака? Ды за гэта — знаеш... Цярпеў я, а цяпер скажу! Ну паглядзі ты, чалавек, на сябе... Усохся — скура ды косці. Спаць развучыўся... І вечарам апошні з дзялянкі і раніцай першы... Ты ж і мяне падымаеш кожны дзень зацемна з пасцелі... І ўсё — на кніжку, на «Масквіча»... Ты ж палудняваць нават не ідзеш. Твая жонка на базар ніколі не ходзіць... А што той «Масквіч»? Збіраў адзін, як ты, на «Масквіча»... План гнаў.. Выгнаў. На сваю галаву. Сеў на «Масквіча», жонку пасадзіў, двое дзяцей і паехаў да цешчы кабана калоць. І «Масквіч», і сябе, і жонку, і дзяцей... За адзін раз парашыў, у першы ж дзень... У самога дык дурную яго мазгаўню адарвала і адкінула аж за трыццаць метраў ад дарогі... Дык і ты... Можаш сам адкруціць сабе галаву і адкінуць за трыццаць метраў, во, у балота к чортавай мацеры... А другіх пакінь... І мяне, і жонку сваю, і дзяцей... І хлапца,— паказаў ён на Фірагу.— І сам хоць пад'еш раз добра ў сталоўцы, і дзеці твае хай ядуць, што хочуць... Я з табой больш не яздок. І па цягач я табе не пабягу. Хочаш скарэй дарогу сабе ачысціць — адкінь набок свой прычэп, пад'едзь і тросікам, тросікам... Хоць раз каму памажы... І не забудзься, пастаў хлопцу бутэльку, а то ён цябе яшчэ ўпячэ. Будзеш на свой «Масквіч» зарабляць далёка ад дому. Упячэ як піць даць. А я — пасведчу...— Шумскі выцер твар ад гразі, паправіў плоскую чорную кепачку на галаве і, павярнуўшыся, схаваўся ў ельніку ля дарогі, якраз там, дзе і зубр — пайшоў на дзялянку да пагрузчыка...

## 4

Вядра ля студні не было: ні на вочапе, ні на зрубе, ні на вярсце дроў на дрывотні, дзе яго можна было ўсягды знайсці. Фірага стаяў на мокрым жоўтым жвіры на двары ў Алімпіяды, апёршыся рукамі на халодны зруб, і глядзеў у студню, дзе глыбака на дне блішчэла вада і бялеў, адбіваючыся ад неба, далёкі празрысты свет... І гэты далёкі, як змерыць вокам, белы свет засланяў цяпер ён, Фірага, сваім цёмным, невыразным ценем. На дно ў студню капала вада — цень дрыжаў і расплываўся кругамі; звонкі, з рэхам, цокат капак будзіў застылую цішыню і там, глыбака на дне, і на пустым двары.

Балелі пашчэнкі, не сціснуць зубоў; звінела праціўным звонам галава, і зусім не хацелася піць. Ён падумаў, што і не для таго, каб напіцца, спыніўся цяпер ля гэтых старых, некалі наспех зробленых варот, што як пабіты сабака прыбег на гэты двор залізваць рану, бо ў яго больш не было двара. Але і гэты двор быў пусты, як і раніцай; на дзвярах у сенцы вісеў замок, і нават куры хадзілі далёка за парканам у бульбеўніку. Ён, адвярнуўшыся ад студні, мерыў вачыма пусты двор ад ганка да варот, дзе на мокрай дарожцы ўсё яшчэ былі знаць сляды ад веласіпеда — Таня паехала ў кантору. Ён лавіў сябе на тым, што менш думае цяпер пра Таню. Гэта бульба, відаць, не для яго. Калі і давядзецца выкаціць яе, спечаную, з агню, то трэба будзе каціць голымі рукамі, трэба будзе апячы рукі. Была б дома Алімпіяда — ён бы сёння вечарам бутэльку на стол: сваты. На гэтым двары і ў гэтай хаце, у якую ён і зайшоў-то ўсяго некалькі разоў, яму быў рад стары чалавек — Алімпіяда. Яна была рада яму, а ён — ёй. Яна была на яго баку, і, калі б прыйшлося, ён мог бы спадзявацца не на Таню, а на яе, калі яшчэ на гэтай зямлі маці што-небудзь значыць для дзяцей. Але Алімпіяды з сіватымі на скронях валасамі і з добрымі чыстымі вачыма не было — не стаяла яна, чуць ссутуліўшыся і падняўшы плечы, у светлай нажутцы ні ля студні, ні ля варот. Не ўсміхалася і не клікала ў хату напіцца вады. І адтаго на двары было пуста і глуха і, калі ён ішоў ад студні да варот — па вядро да машыны,— неяк цвёрда грукала пад нагамі на сцежцы зямля і за сцяной у пустой хаце было чуваць ядранае рэха — ён аж азірнуўся назад.

Вада ў рот не ішла, але ішлі вуліцай людзі, і яму здавалася, што ўсе ведаюць, як ён нехаця цягне праз зубы

халодную, саланаватую ад крыві з дзёсен ваду, і ён, зняўшы вядро з мокрага зруба, панёс яго, поўнае, на вуліцу да машыны, пліхаючы на жоўтыя крамяныя пасля дажджу юргіні — павывальваліся праз частакол з гародчыка на зямлю — і на дробныя чырвоныя, што жар, квяты настурцыі, якія выставілі сябе ў радок з гародчыка да сцежкі, як напаказ.

І ў машыну вада не ішла — радыятар быў поўны, пыхнуў толькі парай, што печ у лазні,— і Фірага, размахнуўшыся, лінуў яе з вядра на крыло, змываючы рудую загуслую гразь. Цяпер у яго была прычына стаяць ля варот, і ён бегаў з вядром да студні і мыў ад гразі радыятар, крылле з аднаго боку і з другога і лабавое шкло, якое было заляпана дробнымі рудымі аладкамі. Трос у Калясня быў кароткі, і той, зачапіўшы яго за буфер, доўга буксаваў, падымаючыся на горку і пырскаючы з-пад задніх колаў граззю на капот, на кабіну і на белыя асінавыя камлі...

Абмытая кабіна сцёбала па вачах сонцам, а ён усё яшчэ стаяў з вядром у руцэ і глядзеў на двор. Ніколі яму не было так цяжка ад'ехацца ад двара, ля якога ў гэтым невялікім і чыстым Крамянцы спыняліся шафёры, здавалася, з усяго свету — і мінскія з дрэвам, і леспрамгас, і меліярацыя, і калгасныя «газікі»: на двары была студня. Напаслé, паставіўшы вядро і засіліўшы ў жменю вады, ён памыў сабе твар — ад гразі і ад крыві.

На грэблі ў вочы біла сонца, не памагаў і шчыток, ад якога ўсё: неба, дарога, глыбокія канавы з двух бакоў, поле з кузікай зрабілася сінім і пачало распаўзацца ў вачах, як у тумане. Здавалася, што і грэбля — гэты праклятыспрадвеку, зрыты яшчэ рыдлёўкамі, загачаны і перагачаны дрэвам і каменнем, усыпаны ўжо з самазвалаў жоўтым жвірам хрыбет, які злучаў дзве балотныя лясныя вёскі — пачынае распаўзацца ў бакі да крыніц пад цяжкім прычэпам. Сядзенне зрабілася нізкім, і папаўзла ўгару сіняя кузіка... Толькі б не буксануць, не сесці, як у лагчыне ў дзялянцы! Ён, сціснуўшы зубы, налёг на газ...

Ківаўся прычэп з боку на бок, і тады яшчэ горш распаўзалася пад машынай зямля. Разам з ёй, здавалася, распаўзалася ўсё, чым ён, Фірага, жыў дагэтуль: аўтакалона з шафёрамі і грузчыкамі; катлапункты і чайныя з афіцыянткамі; дзялянкі з чырвонымі пагрузчыкамі, шліхтамі, ляжнёўкамі, калдобінамі на дарогах, з тросамі, Шумскімі, Каляснямі... Вагончыкі і вясковыя хаты з раскладушкамі; дарога ад Віліі з Жоўтага Берага аж за Пле-

шчаніцы на ніжні склад; двор са студняй, які, ён і сам не ведаў чаму, пачынаў зынначваць яму свет... Калгасная канцылярыя ў Краснаволлі з Дзярызямлёй і Джанікам, якіх ён ужо знаў, з жаночай гаманой і рогатам, з хітрай намазанай Вылінай і... Таняй... І сам ён сёння ніяк не мог злавіць самога сябе — і сам ён распаўзаўся, што ўсё роўна раставаў у перагрэтай ад матора і сонца кабіне.

Ён ведаў, што гэта пасля ўчарашняга вечара ў чайной; і ведаў яшчэ, што без яе, без Тані з Крамянца, не зможа сціснуць сябе ў кулак — адзін, без яе можа зноў сарвацца і тады паляцець у прорву наўсягды. Ведаў і баяўся гэтага. З самай вясны, спаткаўшы яе на дарозе, пачуў, што яна цягне яго на гару, і сам цягнуўся за ёю...

Зямля пад ім пачала «распаўзацца» яшчэ гадоў пяць назад, калі ён быў грузчыкам... Ён нават помніць той дзень. Зіма, самая піліпаўка, і сухі-сухі мароз. Чырвонае неба і белы нос ад марозу. Бралі тады дрэва ў Ліпніках пад Жоўтым Берагам усёй аўтакалонай, а вечарам у Плешчаніцах у чайной бралі белую, аж пакуль чорнае начное неба ў вачах зноў не рабілася чырвоным... І зоркі ў небе тады былі чырвоныя, як мухаморы... І ён добра помніць, што выйшаў тады на двор і зайшоў адразу ў адхожую, новую, з сасновых белых дошак. Чуў нават, што хапае за шчокі мароз, помніў, што чуць расшпіліўся пакрэплымі пальцамі і чуць залез у маленькі прарэх між гузікаў спераду ў штанах — не даваў камбінезон. Калі аблегчыўся пасля выпітага, можа, літра, можа, двух, то там помніць, ён раптам нібы адплюшчыў вочы: пачуў, што зусім жа блізка ля яго рагаталі грузчыкі — ён добра ўсіх пазнаваў,— і ўбачыў, як ад яго кінуліся ўцякаць афіцыянткі ў белых фартушках. Ён стаяў у чайной ля сцяны, ля белай кафельнай грубкі, што была з прыходу. Помніў жа: адчыняў дзверы ў новай адхожай, а адчыніў дзверцы ў грубцы... Ля грубкі было мокра ад вады, нібы ў парозе растаў снег, і ў ёй, недзе пад нагамі ў яго, Фірагі, цьмяна бліскала электрычная лямпачка — прыплюшчылася, як ад сораму...

Яго тады адвялі ў інтэрнат на базу. Ногі не ішлі, але, пабыўшы на марозе, ён ажыў — дома зрабілася ўсяму добра і лёгка. Толькі ў інтэрнаце — новым, з вялікімі нізкімі вокнамі, з адной грубкай — было холадна, хоць ваўкоў ганяй, замерзла нават у парозе і ў вядры і ў кружцы вада, і ён, узяўшы ля грубкі тапор, пайшоў на двор да склада, дзе ляжалі распілаваныя папалам бярозавыя метровыя плашкі. Мокрыя штаны зусім злубянелі, рэзалі ка-

лені, як вострай бляхай, і ён, чуць сагнуўшыся, паставіў на зямлі на снег бярозавую калодку і, размахнуўшыся, усадзіў у яе тапор аж па абух. Калодка адразу развалілася на́двае... Ён зноў ставіў калодкі на зямлю і сек з-за вуха, чуючы, што яму робіцца цёпла ўсяму, хоць расшпіліся...

Калі ў яго недзе ззаду закрычалі, як і ў чайной, ён хацеў адвярнуцца, каб паглядзець, але на яго раптам як усё роўна навалілася бервяно, скаціўшыся са шліхты, і заламала назад рукі... Пасля ўжо, лежачы ніц на ложку — не помніў колькі ляжыць,— ён убачыў яркае сіняе святло, якое цадзілася праз намерзлыя вокны, і ў гэтым сінім святле ў парозе на падлозе дзве пашчапаныя на лучыну новыя табурэткі і пасечаны на аскалёпкі стол... Рукі ў яго ззаду былі звязаны нечым цвёрдым і вострым, не кранеш. Ён рвануўся з ложка, але на яго зноў навалілася чорнае неба з чырвонымі дробнымі мухаморамі... Перакулілася пасля і лягло перад ім на зямлю глыбокай чорнай прорвай. Прорву адразу засеялі дробненькія чырвоныя мухаморы і пачалі распаўзацца разам з зямлёй...

Зямля пад нагамі ў яго распаўзалася доўга, гадамі і магла б зусім распаўзціся, а ён — паляцець наўсягды ў чорную прорву, калі б не дырэктар леспрамгаса. Асцюк Сямён Калінавіч, стары вопытны чалавек, калі трэба, то з рабочымі на маць-перамаць, не баяўся, завёў яго да сябе ў кабінет, пасадзіў у ліпкім засмаленым камбінезоне на крэсла перад сталом, а сам пачаў хадзіць па зялёнай дарожцы ўдоўж кабінета ад грубкі да акна, заклаўшы рукі за спіну і нагнуўшы нізка круглую лысую бліскучую галаву. Хадзіў ён доўга, усё шыбчэй і шыбчэй, як разганяўся, каб пасля стукнуць усім сваім ценжарам ці ў стол, ці ў грубку, ці ў яго, Фірагу,— Фірага нават адсунуўся на крэсле далей да сцяны. Пад нагамі ў дырэктара пачала дрыжаць падлога, і звінелі ў шафе за шклом чырвоныя вымпелы з залатымі надпісамі — стаялі на металічных падстаўачках. Дырэктар маўчаў, і Фірага, баючыся гэтага, ціхенька адвярнуўся і глядзеў на вымпелы. Дырэктар падышоў да шафы і закрыў вымпелы плячыма:

— Ну дык калі, басяк, кінем піць? — спытаўся ён ціха, зашаптаў над самай галавой, і Фірага аж падскочыў знянацку на крэсле: ніколі не чуў, каб так ціха гаварыў дырэктар. Яго моцны голас, бас з перакатамі, усягды, здавалася, мёртвага разбудзіў бы — дырэктара любілі за гэты голас,— а тут ціха, шэптам...— І дурня заадно корчыць? Чуеш?

Фірага маўчаў. І галавы не падымаў. Ведаў — што заслужыў, толькі не знаў, што дадуць за заслугі, чым усё кончыцца. Каб хоць адхінуўся дырэктар ад шафы, тады б можна было глядзець на вымпелы, а так перад вачыма падлога, а на падлозе шырокія бліскучыя хромавыя дырэктаравы боты, і яны падымаюцца і апускаюцца, грукаючы па падлозе — возьмуць прыціснуць, астанецца адно мокрае месца...

— Дык вот, сукін сын...— дырэктар выцягнуў руку і пастукаў двума пальцамі па стале, моцна, як цвік заганяў, аж у галаву кальнула, і пачаў гаварыць мацней і мацней: — Пакуль я жывы і твой начальнік... Не дам табе, басяку, загарэцца сінім агнём у сябе на вачах. Сам за цябе вазьмуся, калі ты на рабачком хрэн з рэдзькай паклаў... І нікому не дам, перадай ім...— махнуў ён бліскучай лысай галавой за акно на вуліцу.— Паедзеш у Бабруйск на курсы. Пасаджу я цябе на дэрык. А сядзеш за руль... Перш цябе малога дзетдом дзяржаў, пасля армія, а цяпер руль цябе будзе дзяржаць. Руль уратуе, калі ў самога клінне слабае. За рулём не наліеш вантробы сівухай. А не — то ляці разам з рулём к чортавай мацеры. І руль у дрэбезгі, і сам на аскалёпкі... Вот так, даражэнькі. Пакуль Асцюк дырэктар — гніць у яго на вачах не будзеш! Запомні гэта, сукін сын! Паглядзі на сябе... Мох зялёны парос! Ты ж яшчэ толькі армію адслужыў... Ідзі ў бухгалтэрыю, пішы мне заяву. А цяпер вон адсюль... Глядзець на цябе такога не магу!

І крэсла, і стол, і голас у дырэктара — усё загрымела адразу; Фірагу здалося, што ззаду ў яго раскацілася шлёхта бярвення, і ён, як уцякаючы, выскачыў з кабінета ў бухгалтэрыю...

Сеўшы за руль, ён баяўся прорвы і дзяржаўся з год, пакуль не перасеў [illegible] дэрыка на ЗІЛ з прычэпам. Ды якой гэта прорвы будзе баяцца шафёр, калі, шапочучы, ляціць канасустрач пад колы шэры, як заяц, брук, здаецца, аж каменне на ім падскоквае ўверх пад коламі, як уключыш трэцюю з газам, гонячы паражняком; калі свішча ў вушах вецер, рвучыся пад паднятае ветравое шкло і расшпільваючы на грудзях рубашку; калі, здаецца, адрываецца ад зямлі прычэп і выцягваецца ззаду над дарогай, як хвост у страказы... Хто спыніць?

Хіба толькі дзяўчына ля дарогі з паднятай угару рукой — каб падвёз? Перад такім «светафорам» ён тармазіў усягды — ля самых ног...

Прорва з чырвонымі мухаморамі не паяўлялася, і ён памалу пераставаў яе баяцца. Далей — болей... Днём яго дзяржаў руль. А вечарам пасля работы? Куды сябе дзець? На гэблік? А нядзеля цэлая, ад раніцы да вечара, сухі, доўгі і нудны дзень, як чый пракляты век?

За рулём яшчэ можна цярпець. За рулём калі сядзіш — не адна прорва наперадзе. І самая большая — абрыў на Жоўтым Беразе, калі трэба ехаць высака па беразе — аж страшна глянуць уніз на жоўты пясок, на ніцыя лозы і на раку, якая блішчыць знізу халодным жалезным бляскам. І бацяны за ёй на лагу маленькія — у жмені сціснеш.

Ён цярпеў, перабіваючыся да суботы. А ў суботу ішоў у чайную, з чайной на гэблік, а з гэбліка — як шанцавала: ці ў чужую пасцель, ці пад сасну ля дарогі, дзе яго раніцай будзілі віскам парасяты, якіх калацілі ў калёсах па бруку — вязлі ў Плешчаніцы на базар з далёкіх вёсак. Абсушаны сонцам ад начной расы, ён зноў ішоў у чайную мокці. Да прорвы з чырвонымі мухаморамі было ўжо не так далёка: у кабіну «пачалі садзіцца пасажыры». Кожны панядзелак, здаецца, галасаваў ля маста чалавек — больш за ўсё людзі галасуюць ля масткоў,— здаецца, узяў яго ў кабіну, вёз, гаварыў, за калена нават лапаў, пасля — нікога: пасажыр вылятаў з кабіны, як дух святы. Ён, Фірага, зноў каціўся да прорвы і нічога зрабіць не мог. Не мог ужо нічога зрабіць і Сямён Калінавіч.

— Я табе ўжо, хлапец, нічым не памагу...— загудзеў ён над галавой, як чмель, на вуліцы ля чайной. Была нядзеля з чыстым небам і сонцам, і дырэктар быў у белай рубашцы з расшпіленым каўняром, з выгаленай галавой, і ад яго, як ад шкла, сцябала яму, Фірагу, па вачах сонца.— Састарэў я, ваюючы з вамі, іду на пенсію. Перш ты быў дзіця горкае, а цяпер сваіх дзяцей пара мець, а не валяцца пад плотам. Цяпер цябе будзе аўтаінспекцыя дзяржаць, а не я... Пракол маеш, яшчэ два — і зноў будзеш пачынаць усё спачатку — сучкі церабіць з тапорыкам пойдзеш. Гады ідуць, хлапец, і што ёсць маладое ў чалавека, забіраюць... Забіра-аюць... І туды нясуць — назад, назад...— паказаў ён рукой за плячо на пустую вуліцу.— І ўжо не вернеш, запомні, сукін сын...

Хлебястаў ад натугі матор, аж лубін дрыжаў ад яго абапал новай краснавольскай дарогі, і здалося, што над вухам нагнуўся Сямён Калінавіч: «Запомні, сукін сын...» Нават плячом яго чуеш... Фірага павярнуў галаву — у кабіне было пуста. Горача і пуста.

У Краснаволлі разбягаліся з вуліцы куры да частаколаў у бліскучую мокрую траву, ішлі насустрач два новенькія блакітныя трактары з прычэпамі-кузавамі — паціснуліся злева да платоў, даючы дарогу. Ля магазіна процi канцылярыі стаяла «будка», над дзвярыма круцілася прадаўшчыца ў белым халаце і чырвонай касынцы. На сіняватай «будцы» Фірага згледзеў бліскучы залаты пшанічны колас з кароценькім асцём і надпіс *ХЛЕБ* — вялімі зграбнымі белымі літарамі. Да «будкі» сыходзіліся жанчыны з двух канцоў вёскі. Многіх ён ужо ведаў: адны, займеўшы па двое дзяцей, сядзелі седма дома; другія, абвязаўшы шыі хусткамі, хадзілі кожны дзень у бальніцу ў Белае; трэція знаходзілі толькі ім адным вядомую прычыну, каб не ісці на поле палоць буракі,— усе яны аціраліся ля магазіна, вечарамі сядзелі дапазна на дварах ля агнёў — варылі сабе вячэру і свінням бульбу назаўтра. Іх у Краснаволлі звалі «афіцэрскімі жонамі». Ён затармазіў ля магазіна процi «будкі», загарадзіўшы вуліцу. На яго лупілі вочы «афіцэрскія жоны» — вядома, чаго Фірага стаў ля канцылярыі,— але ён ні на кога не глядзеў — саскочыў з падножкі на другі бок вуліцы і пабег, як і раніцай, да калгаснай канцылярыі. Перш бы зямля пад ім правалілася, а цяпер ён бег на вачах у «афіцэрскіх жон», якія вечарам ля агню абмыюць яго як міленькага, бег што праз калючыя кусты, і нават не выстаўляў уперад рукі...

На мокрым падарожніку ля веранды стаялі Джанік і Дзярызямля. Падалі яму адзін і другі рукі. Ён маўчаў, цягнуў толькі шыю праз жоўтыя юргіні ў акно — увідзець бы...

— Пуста ў гняздзе. Разляцеліся ластаўкі...— загамзаў Джанік. Яны глядзелі на яго, як на Піліпа з канапель, і ён, не сказаўшы ні слова, пабег назад на вуліцу, топчучы на дарожцы свежыя акуркі.

Ля шырокіх вокан магазіна мітусіліся вялікія белыя матылі — сушылі на сонцы крылле — і «афіцэрскія жоны» — на ветры языкі. Магазін не маглі адкрыць, ля дзвярэй над завалай стаяла, нагнуўшыся, прадаўшчыца і калупалася ў замку. Дзверы ў кабіне былі прычынены, і Фірагу здалося спачатку, што і іх абляпілі белыя матылі. Падбегшы бліжэй, ён убачыў, што на дзверцах выведзены добрым мелам пераплеценыя, як хмель на дрэве, літары: *Жаніцьба Фірага.*

Ён аж паслізнуўся: рука сама паднялася, каб сцёрці

белыя літары... Але за ім глядзелі «афіцэрскія жоны», і ўсярэдзіне ў яго раптам успыхнула злосць. Ён бразнуў дзверцамі: пэцкаць сабе і рукі і душу на вачах у людзей не будзе. Жаніцьба — дык жаніцьба. І чым скарэй — тым лепш. Што ён — дзіця бязвусае... бегаць, як дурны, вулачкай? Ён перабег на другі бок вуліцы — і на другіх дзверцах было напісана *Жаніцьба Фірага* вялікімі белымі літарамі, як на «будцы» пад коласам — каб усе відзелі... Усе і глядзелі, што ён будзе рабіць, і яму трэба было нешта адкалоць, каб паддзёрці ім усім нос — па-інакшаму ён не думаў,— і, стаўшы на падножку і ўзяўшыся рукой за дзверцы, ён сказаў, каб усе пачулі:

— Што? У магазіне хрэн ухопіш? Тады ганіце самагонку. Вяселле будзе... раз напісана...

І сам быў рад таму, што сказаў. Бразнуў дзверцамі на ўсю вуліцу, аж вераб'і пераляцелі са страхі на страху; праз густы роўны гул матора пачуў, як заскрыпела ззаду на прычэпе асіна.

...Яны, Фірага і Таня, прыехалі ў Плешчаніцы аўтобусам. Свайго МАЗа ён не браў: вязці жонку ў гары і мазуце? Склала яна ўсё сваё ў чамаданчык, прайшлі яны праз канец Крамянца і праз грэблю раніцай — ён нёс чамаданчык, яна чырвоную напакаваную сетачку — і селі ля могілак у плешчаніцкі аўтобус: чыста, спакойна і раніцай пуста. Аўтобус у Плешчаніцах спыняўся якраз на базе процi магазіна, і яны, вылезшы, пайшлі ў інтэрнат, забралі яго рэчавы карычневы вынашаны мяшок і мяккі шэры вялікі нямецкі чамадан у жоўтыя і бурыя плямы ад мазуту, у які ён склаў усё сваё багацце, і з чамаданамі перайшлі праз вуліцу ў цагляны, на два паверхі дом. Беглі, задыханыя, на другі паверх; паставіўшы чамаданы, адамкнулі хуценька дзверы і зайшлі ў сваю кватэру: старую, аднапакаёвую, з абарванымі на сценах жоўтымі абоямі, пустую, непадмеценую — жыў тут перш галоўны інжынер леспрамгаса, яму далі новую, у новым доме.

— Пачынаем жыць! — закрычаў ён на ўсю пустую з адгалоскамі кватэру.— Дваццаць адзін метр... Ванна і туалет... Не працуюць: дагэтуль не падведзена вада. Вада на двары ў калонцы... Пліта на кухні на дзве канфоркі... Старыя опаўзні,— паказаў ён на абоі,— далоў! Клеім новыя і пачынаем жыць! Пачынаем жыць! — ён падхапіў на рукі Таню — пад каленькі і пад плечы — і пачаў кру-

жыць перад сабой па хаце. Чуў толькі, як скрыпіць падлога і шастае аб парваныя абоі на сцяне Таніна каса.— Пачынаем жыць! — крычаў ён ад шалёнай радасці, кружачыся па рыпучай падлозе, як у самым сваім шчаслівым танцы ў жыцці.— Пачынаем жыць!..

Падлога пад нагамі раптам выцягнулася ўдоўж, зрабілася шэрай, як брук; вырвалася з рук Таня, скочыла ўперад, і па дарозе, блізка, як праз вуліцу, пабегла маладзенькая козачка, паказаўшы маленькія чорненькія рожкі між вушэй. Перабягала дарогу з сырога ельніку з-пад Хатавіч — хацела, мусіць, пайсці пад Бегамле на Палік, які добра быў відаць з гары з кабіны: ішоў за дарогай сіняй нескантонай лентай на край свету — але, выскачыўшы з папараці на брук, лучыла пад самую машыну і, спалохаўшыся, рванулася наперад — уцякала ў лагчыну да маста. Ён скінуў газ і выключыў счапленне; «прычэп», нагружаны як ніколі, ішоў з гары, што звер,— шумелі толькі колы, як град па дарозе, і скрыпела ззаду асіна. Тармазіць і не думай: скруціць у абаранку і прычэп, і асіну, і самога... Козачка адбеглася далёка — спрытней была за машыну,— стала раптам на дарозе, задзёрла галаву, павярнулася і бегла назад, яму насустрач. Зноў была наперадзе ля машыны, як праз вуліцу — ён згледзеў, што на ёй белыя плямы — бегла якраз пад кола — пад левае. Ён націснуў на сігнал, але яна як не пачула: скочыць яшчэ раз і будзе пад колам. І ён хапіў руль управа, тады, каб не закінула ў кювет, крутнуў улева... Заскрыпеў ззаду прычэп — зацягнула. Мост ляцеў насустрач, як шалёны, пабеленыя пярэчкі, здалося, паварочваюцца бокам — не дай бог зачапіць за іх заднімі коламі ад прычэпа...

— Надаела жыць — то ваўку ў зубы... А не кідацца пад колы...— ён не ведаў, уратавалася дурная козачка ці ляжыць, растоптаная, на бруку — не затармозіш, каб паглядзець. Мост з белымі пярэчкамі астаўся ззаду, адразу пацішэў ход, і Фірага ўключыў счапленне. Заныў матор; на душы было горка — хоць вярніся і пагляздзі, дзе козачка...

Яшчэ з гары ён згледзеў, што ля Хатавіч на дарозе стаіць матацыкл. Цяпер, пад'язджаючы, пазнаў, хто стаіць і ля матацыкла: Мосар з аўтаінспекцыі. Выцягнуў руку перак дарогі, як загараджваў яе Фірагу рабой палачкай. Фірага, узяўшы правей, прытармазіў. Рабая палачка ў выцягнутай руцэ набліжалася ўперад да кабіны, большала і рабілася, як паласаты шлагбаум за ніжнім складам,



Іван Пташнікаў з Іванам Мележам і перакладчыкамі:
латышом Талрыдам Рулісам (справа)
і эстонцам Андрасам Яаксоа.
Мінск, 1973 г.



Справа налева: Іван Пташнікаў
з намеснікам Старшыні Савета Міністраў БССР Н. Л. Сняжковай,
Петрусём Броўкам, Васілём Быкавым,
сакратаром ЦК КПБ А. Т. Кузьміным,
народным артыстам СССР Генадзем Цітовічам
і журналістам Аляксандрам Сімуравым
у дзень атрымання Дыплома
лаўрэата Дзяржаўнай прэміі БССР імя Я. Коласа.
Мінск, Дом урада, 1979 г.

дзе шашу перасякала вузкакалейка з Жодзіна на Чысцік. І сам Мосар зрабіўся нейкі вялікі, пабольшаў і твар і нос; вочы пакруглелі і сталі рудыя. Фірага пачуў, як у яго ззаду за плячыма зрабілася халодная спінка ў сядзенні. Мосара ён ведаў — звер.

Стаўшы, Фірага адчыніў дзверцы і высунуўся з кабіны:

— Каралю інспекцыі... якая дзень і ноч!..

Мосар хуценька ступіў да яго, падняў руку з палачкай, і Фірага аціх.

— Вясёлы, забулдон,— чмыхнуў Мосар.— Віджу, ад кювета да кювета носіць. Танцуеш па шашы... Як з гасцей ад цешчы...— ён падскочыў з зямлі і стаў на падножку.— Ану, дыхні! — выцягнуў аднекуль з рукава, як фокуснік, бліскучую доўгенькую шкляную прабірачку і паднёс яе, як у казцы, пад самы нос.

— Ну, Іванавіч... Ну што ты?.. Ды кінь ты, Іванавіч... Козачка на дарогу выбегла... Маладзенькая, шэранькая, з рожкамі, з белымі латкамі... Выскачыла... Не мог жа я... вот так яе... Коламі...

— Козачка, кажаш? Маладзенькая? Сама ў кабіну скочыла ці злавіў? — Мосар засмяяўся, шырака адкрыўшы рот.— Ведаю я цябе і тваіх козачак, якіх ты ў кабіне возіш... Дыхні-дыхні... Не корчы тут мне гэту самую...

— А калі не дыхну?

— Горш будзе. Сам ведаеш, не першы раз. За супраціўленне.

Шкляная прабірачка сваім рыльцам ткнулася Фірагу ў нос.

— Ладна. Хрэн з табой, Іванавіч...— Фірага ўздыхнуў і дзьмухнуў на прабірку з усёй сілы, нібы хацеў выдзьмуць яе ў Мосара з рук.

— Ну вот, даражэнькі... Глядзі сам. Прабірачка была чысценькая, як спірт. А ты сваім спіртам,— націснуў ён на гэтае слова,— яе запаскудзіў. Паглядзі, якая стала. Та-ак... Давай, брат, сюды ўсё, што маеш. І пуцёўку, і правы, і талон... Дзве дзіркі я табе ўжо рабіў. Сёння б'ю апошнюю...

— Ну, Іванавіч... Ну кінь ты плот гарадзіць... Ну сазнаюся, ну было. Толькі гэта ўчора вечарам. Зарплата. Разумееш, Іванавіч, зарпла-ата! Зарплата! Ды кінь ты прыдзірацца... Я ўжо і ў дзялянку і з дзялянкі... А на гарэ — козачка. Козачка, чэсна... Не мог жа яе пад колы... Вільнуў, каб не наехаць...

— Што ты ўпіраешся? Я ж цябе не рэзаць вяду? Я раблю тое, што мне паложана.

— Кінь ты, Іванавіч. Без нажа рэжыш... Мне крышка. Трэцяя дзірка — крышка. Прорва. Яма...

— Гм, запеў... Крышка — табе аднаму. А так з такой махінай на шашы... Ты б не аднаму мог крышку зрабіць...

— Ды кінь ты, Іванавіч... Душы ў цябе няма. Ну, прашу... Разумееш, Фірага просіць... Фірага ніколі нікога не прасіў. Цяпер мне машына... Ну вот так трэба... Ну, разумееш? Вот так...

— Што? Яшчэ адну козачку ў кабіну пасадзіць?

— Козачку, Іванавіч. Жаніцца буду... А ты ў мяне руль з рук...

— Жаніцца, кажаш? Дык ты са сватоў едзеш, а не з дзялянкі? Вот цябе і водзіць па шашы. Ведаю я, што ты за жаніх. Давай сюды правы...

— Ну, Іванавіч... Чэснае слова жаніцца буду... Ну, прашу... З начальнікам аўтакалоны пагавары, Іванавіч... Ну, з Асцюком пагавары...

— Патаргуйся на базары. Правы!

— Ну, Іванавіч... Ну, саступі... Ну хто я без гэтага руля?.. Ды кінь ты, Іванавіч... Ты што, сур'ёзна?

— Перш трэба было думаць. Субчыкі... За рулём, надрызгаўшыся, сядзіць... Запеў! Усё! Крышка! Правы... Апошні раз гавару. Будзе горш...

— Змей... Ладна, давіся маімі правамі. Глытай...

— Ну-ну... Пагавары-пагавары...

— Ды не сунь свае паганыя рукі... Вун, у чортавым прыскрынку, і правы і пуцёўка... Не лезь, сам аддам. Толькі б морду хацелася б тваю паганую выбіць...— Фірага дастаў правы — чырвоная цвёрдая цэлулоідная вокладачка рэзала пальцы,— пуцёўку і падаў іх у рукі Мосару.— На, заграбіся з імі... Жмот...

Мосар, узяўшы правы з пуцёўкай, адышоўся ўперад на шашу, стаў за радыятарам, адвярнуўшыся спінай да Фірагі, як усё роўна свет яму засланяючы, і пачаў кратаць рукамі — правяраў. Пасля павярнуўся, махнуў рабой палачкай удоўж дарогі на Плешчаніцы — прапусціў калгасны «газік» з падласай скацінай у агароджаным высака новымі дошкамі кузаве — і, падышоўшы да кабіны — у адной руцэ трымаў рабую палачку, у другой правы і праклятыя дыракол, падняў галаву і паглядзеў яму, Фірагу, у вочы. У самога яны былі ўжо ціхія, не бліскучыя, але нейкія хітрыя — раптам змяніўся чалавек. Падняў руку

з цэлулоіднай вокладачкай і дыраколам — падаваў яму, Фірагу,— і сказаў: «Віні сябе...» — нібыта думаў, стоячы за машынай на дарозе пра ўсё тое, што гаварыў яму нядаўна Фірага, і цяпер сказаў яму ў адказ: «Віні сябе». Сціснуўшы ў пальцах дыракол, ён па даўняй, відаць, прывычцы ўзяў пад казырок, падбег да матацыкла на абочыну, схапіў за руль, што казла за рогі, піхнуў ад сябе, ціскануў на педаль і, ажаргаўшы бліскучае ад сонца сядло, рвануў наперад — на Плешчаніцы. Доўга яшчэ быў відаць на дарозе цёмнай плямай. Фірага, не паглядзеўшы, шпурнуў чырвоную вокладачку ў адчынены прыскрыначак і бразнуў ззаду крышкай, як за нечым зусім непатрэбным.

«На ніжні трэба даехаць, не кідаць жа тут усё на дарозе...» — падумаў ён і бразнуў са злосці дзверцамі. Спяшыць не было куды, і ён паехаў ціха на другой; чуў добра, як скрыпіць ззаду на прычэпе асіна — жаласна, што плача, заціснутая з усіх бакоў жалезнымі канькамі...

Насустрач з базы пайшлі «прычэпы»; яму махалі з кабін рукой, але ён сваёй не падымаў — яна ляжала на рулі, мяккая, што плётка.

Ля маста перад Плешчаніцамі на рацэ было бела гусей, як ля Крамянца; з-за ракі на мост ішлі два белыя аўтобусы, адзін за адным, і Фірага, узяўшы правей на шашы, затармазіў. Чакаючы аўтобусаў, адкрыў тайнічок — рука сама пацягнулася да белай кнопкі,— узяў цэлулоідную вокладачку, разгарнуў... І правы, і талон, і пуцёўка ляжалі на месцы... Ён адразу ўхапіўся за талон і пачаў круціць яго, аглядаючы з усіх бакоў: трэцяй дзіркі ў талоне не было. Ён адваліўся да спінкі сядзення і, зmораны, уздыхнуў на ўсе грудзі: гара з плеч. Быў на беразе прорвы, але астаўся, не зляцеў — далі яшчэ пажыць на гэтым свеце...

Ён пакруціў у руках правы, раз, другі. Перш у правах ляжала семдзесят рублёў — пяцьдзесят у адной паперцы і дзве дзесяткі,— усё, што асталося ўчора ад зарплаты. Ён забыўся быў на іх і падаў разам з правамі Мосару. Сямідзесяці рублёў не было.

«Адкупіўся, выходзіць... А можа, і за жыццё сваё заплаціў... І нікому не скажаш...— падумаў ён, усміхнуўшыся.— Дзяшовенькае яно, маё жыццё, тады. Усяго сем чырвонцаў...» — падумаў ён пасля.

Аўтобусы прайшлі, і трэба было ехаць праз мост і праз канец Плешчаніц на ніжні склад. А адтуль зноў у рэйс.

Здалёку насустрач паплылі Плешчаніцы — белыя новыя цагляныя дамы. І сіняя, гарачая смуга над імі.

## 5

Таня згледзела, што ў дзвярах пад выгнутай ручкай тырчаць газеты — белай доўгенькай палоскай у цемнаце — і аж спужалася.

Газеты з Белага ў Крамянец насіла Магрэта з Ячнага — стараватая ўжо худзенькая прыветлівая кабеціна. Яна хадзіла пехатой аж у Белае на пошту, ішла пасля праз грэблю ў Крамянец і кожны раз прыносіла газеты аж у хату, не кідала на вуліцы. Калі не было нікога дома — прасоўвала газеты праз шчэлку, а то заторквала пад ручку ў дзвярах.

Таня закаціла веласіпед за сеначкі, паставіла пад падстрэшак — пасля прыме ў варыўню,— выцягнула з прабоя замок, адхінула дзверы і ўзяла з-пад ручкі газеты. На зямлю пад ногі з газет вывалілася пісьмо; яна падняла яго хуценька і пазнала па шырокіх круглых літарах — ад Міфодзі: пісьмо за пісьмом шле, як чуе, што робіцца дома. Спатыкнулася была ў сеначках аб дошкі — ляжалі высака і няроўна — і ціха адчыніла дзверы ў хату. Стаяла ў парозе, прыціснуўшы газеты з пісьмом да грудзей, і не адыходзілася: глядзела, як цэдзіцца з акна сіні морак і ў ім бялее печ і маленькай ласкавай плямкай рэпрадуктар на перагародцы. У хаце было ціха; і неяк трывожна, суха і ядрана чыкалі ходзікі — пачула вуха і адразу на іх забылася: лавіла адно густую мёртвую цішыню. Ціха было і ў запечку на ложку, дзе ўсягды спала маці, толькі ложак з кутка блішчэў слязлівым халодным нікеляваным бляскам, аж дрыжыкі пайшлі па спіне; цішыня павісла і за перагародкай у другой палавіне — ніхто не падаў голасу, не паклікаў. Чорная цішыня ціснула на грудзі, навальвалася на плечы, і цяжка было ад яе ўстаяць на нагах, як ад вялікага грузу. І калі азвалася раптам радыё — у рэпрадуктары на перагародцы захліпалі сігналы, як усягды перад апошнімі паведамленнямі,— яна, падышоўшы ў цемнаце да стала, паклала на край газеты і пісьмо ад Міфодзі, села на ўслон, апусціла рукі на пісьмо, на рукі галаву і заплакала на ўсю хату — залілася горкімі слязьмі... Плакала і чула, што крычыць, як не сваім голасам, што мокнуць ад слёз рукі і пісьмо ад Міфодзі пад імі. Плакала доўга, пакуль не ўлавіла вухам, што на двары нехта крычыць. Падняўшы галаву, задушыла дробную хліпату: у хлеве, пачуўшы яе, квічэў Юрачка: быў галодны. Маліну падаіла Волька Вайдзішка, зняўшы з паркана

вядро; загнала ў хлеў і прынясла вядро з малаком у хату — стаіць, накрытае цадзілкай на ўслоне ля акна. Чуваць, як з яго пахне астылым сырадоем. Юрачку Волька не карміла: яе не прасілі.

Устаўшы, яна намацала ў парозе над вушаком цвёрды выключацель і пстрыкнула. Па вачах сцебанула святло, выхапіўшы з цемнаты ля перагародкі пусты ложак і лізнуўшы яго зверху белым полымем. Загудзелі над вядром, над белай палатнянай цадзілкай, мухі — падняліся разам і палезлі ў вочы. Яна не згледзела, як, устаўшы, узяла з сабой у руку пісьмо.

«Пачытаю пасля... А што напішу?»

Пачула, як зноў дрыжыць усё ўсярэдзіне. Не праходзіць гэта дрыжыка: стаіць цэлы дзень... Каб толькі пранёс хто з бальніцы з Белага ложак сюды, у хату да перагародкі. Хай бы стагнала маці на ўсю хату, хай бы крычала на яе апошнімі словамі — толькі каб была ў хаце... Толькі каб у хаце не было так ціха...

Пішчаў, аж заходзіўся, у хлеўчыку Юрачка.

Выцягнуўшы з-пад лаўкі на хату вялікі круглы чорны гаршчок са зваранай ураніцы бульбай, яна ўзяла з услончыка вядро з малаком, сцягнула цадзілку і лінула ў гаршчок, многа, з паўвядра,— каму яно цяпер трэба. Падняла гаршчок з падлогі і панясла перад сабой на двор, піхаючы нагою дзверы, адны і другія. Апёршы гаршчок на калена, выцягнула з прабоя ў хлеўчыку драўляную затычку. Парсюк, пачуўшы яе, ахіх, тады ўдарыў у дзверы, адкінуўшы іх да сцяны ў хлеве, і, выскачыўшы на двор, закруціўся ля паркана ў канцы асвера, дзе была ямка і куды яму падлівалі вады, каб купаўся ў гразі. Пасля забегаў па двары як шалёны, ад радасці, што яго выпусцілі: увесь дзень быў запёрты і галодны. Нарэшце падбег да яе і стаў цёрціся бокам аб ногі — знябыўся без чалавека. Яна пачула, як у яе пацяклі па шчоках слёзы. Перакуліла гаршчок у карыта, запёрла за парсюком дзверы — не запры, будзе хадзіць усю ноч па двары, у гарод яшчэ залезе; аднесла да сеначак парожні гаршчок і паставіла ля дзвярэй. Не хацелася ісці ў хату, і яна, сашчапіўшы рукі на грудзях — свежа было за плячыма,— пайшла паціху да студні па жоўтай ад пяску сцежцы. Стала і стаяла на мокрым траяністым бугарку, дзе часта прытыкалі вёдры, калі даставалі ваду.

Усюды было ціха: і ў вёсцы, і ў Ячным, і ў Краснаволлі, нібыта ўсё вымерла, толькі недзе над Жоўтым Берагам

ныў самалёт, рассыпаючы над лесам ціхую трывогу. Цёмная халаднаватая ноч густой цемнатой лягла над хатай; далёкі Млечны Шлях скупа сівеўся ўгары вузкай няроўнай паласой.

Неба над вёскай і над лесам было аж чорнае, толькі на ўсходзе ля Краснаволля наклёўвалася вузенькая жоўтая палоска, як надзея, што ўсё абернецца дабром. Пачакаўшы там узыдзе месяц. За вуліцай над гародам вісела ўгары Вялікая Мядзведзіца, паказваючы сваім доўгім канцом, як чалавек рукой, на ферму, куды ўвесь час, як Таня помніць, хадзіла маці — і летам, і зімой, і ночы-апоўначы... Здалося, закашляе зараз яна ў гародзе за вуліцай, пералезе цераз жэрдку ў спразе, ідучы з фермы, адчыніць вароты і патупае ціха босымі нагамі па сцежачцы ля хаты, несучы ў руках белыя бліскучыя вёдры... Таня аж уздрыгнула: пад сеначкамі бліснулі ў цемнаце два нікеляваныя абады ад веласіпеда... Пасля здалося, што на яе адусюль глядзіць маці вялікімі сінімі вачыма: з хлева з дзвярэй, з гародчыка з град, з варыўні з сеначак, з вуліцы з-за варот і цемнаты... Чорная цемната зрабілася раптам сіняя, нібы сатканая з адных матчыных вачэй...

Яна тады, не вытрымаўшы, закрылася рукамі і закрычала на ўвесь двор. Убегшы ў хату, уключыла адразу агонь і, вярнуўшыся, пазачыняла за сабой дзверы. Дрыжалі ногі ў каленьках, падкошваліся. Яна падышла да ўслончыка, села, аблакціўшыся на стол, паклала на рукі галаву і глядзела за акно ў гарод у сінюю начную пустыню. Супакоілася, падумала, што не будзе вячэраць, нават не можа ўстаць і дайсці да ложка, каб паваліцца на падушку. І хай агонь гарыць усю ноч — у цемнаце, калі не ідзе сон, адной звар'яцець можна. Але агонь раптам патух — разліўся белым малаком над галавой і аплыў на падлогу. Адразу зрабілася цёмна, як завязалі вочы.

Сціхла радыё, і ў цемнаце ядраней зачыкалі на перагародцы ходзікі. Вокны ў гародчыку зрабіліся сінія, за імі пасінеў гарод і выганчык за ракой; пасля з далёкага сіняга свету паявіліся матчыны сінія вочы — глянулі ў акно з гарода. Таня сціснула рукамі галаву. Матчыны вочы тады раптам загарэліся, як электрычная лямпачка, і сцебанулі яркім полымем па вачах. Яна падняла галаву і ўбачыла на грэблі дзве яркія шырокія паласы — рассякалі сінюю ноч і сцёбалі па вачах, як канцом белага ручніка. Фары... Ад фар неяк смялей зрабілася ў хаце — як усё роўна ты не адзін на белым свеце. Кавалак гарбатай грэб-

лі, мост і платы ля вёскі ў гародах ненадоўга зрабіліся белыя, як снег, і адразу зніклі за дзвюма вішнёвымі палоскамі ззаду ў машыны. Машына схавалася ў вёсцы, пасеяўшы ў душы новую трывогу: хто?

Толькі б не да яе... Толькі б не Ратнікаў... Хай бы яе цяпер ніхто не чапаў... Добра, што патух агонь, падумаюць — спяць, будзіць не будуць... Агнём ад фар сцебанула па чалесніку, аж засланка, здалося, падскочыла на прыпечку. Агонь пасля ўпёрся ў дзверы, як у дзве рукі, нібы тужыўся іх адчыніць; не змогшы, апаў на парог пад ногі скамечаным белым абрусам.

Яна павярнула галаву да праёміны ў перагародцы. Убачыла праз акно на вуліцы, што вішнёвыя агні мінаюць вароты; пасля яны раптам узбеглі ля плота на дзядзінец і згаслі. Зноў зрабілася ціха, і было чуваць, як моцна, са звонам бразнулі дзверцы ў кабіне. Скрыпнулі вароты, грукнулі аб шула, і па двары задугалі нейчыя смелыя ногі. Яна хацела падхапіцца і зашчапіць на кручок дзверы, але было позна: у цемнаце нехта спрытнай рукой адчыніў адразу абое дзвярэй, у сенцы і ў хату, пераступіў шырака парог і, стаўшы, пачаў шныраць рукой па сцяне — ведаў, дзе выключацель.

— Міша?..— спыталася яна ціха, спужаўшыся.

«Міша» маўчаў. Выключацель пстрыкнуў раз-другі пад рукой, і над галавой у яе ўспыхнула лямпачка, заліўшы хату святлом і выбеліўшы і без таго белую, як пераспелая аўсяная салома, струкаватую галаву ў парозе. Яна, пазнаўшы, аж адсунулася на ўслоне да шафы.

— У цемнаце сядзім-бядуем? Замыкае... У вёсцы ва ўсіх святло гарыць. Не чакала? Ну, здарова, ці што?

— І здарова, і не чакала...— яна падумала, тады зноў сказала: — Нікога не чакала... Альбін? — спыталася пасля, як толькі цяпер яго згледзела.— Непераліўкі якія, калі ночы прыбег? — Яна збіралася ўстаць, каб яму хутчэй чым-небудзь памагчы.

Яму здалося, што яна абрадавалася: бліснулі шырэй вочы. Ён зачыніў за сабой дзверы, адышоўся ад парога на курыную ступу і стаў.

— Прыбег... Бывае, чалавек ідзе-ідзе, а наперадзе ў яго абрыў, дарога канчаецца і — прорва... Тады чалавек паварочвае і бяжыць, каб выбрацца. Я і прыбег... Запомні гэта наўсягды. А хто знае, дзе чалавека чакае ўдача: на прамой дарозе ці на крывой?

— Нешта новае...

— Усё старое, як зямля. А што не просіш сесці?

— Бачу, што ўсё старое... Ногі не дзержаць. Як тады руль у руках дзяржаў?

— А мы адзін аднаго дзержым. Ён мяне, а я яго. Сувязь з двух бакоў.

— А што гэта я тваю машыну не пазнала? Тваю машыну я пазнаю́...

— Я і сам яе не пазнаю́. Стаіць ля варот, раўецца да цябе, а дарогі сама яшчэ добра не ведае. Вот і прыйшлося ёй паказваць дарогу...

— То садзіся ўжо, калі ногі не дзержаць...— яна паказала яму рукой на ўслон пад ходзікі.

— З гэтага і трэба было пачынаць...— ён смела падышоў да яе і дастаў з кішані са штаноў бутэльку белай, яркую, ад агню, аж рукі, здалося, можна апячы. Пачуў, што кішаня зрабілася лёгкая і сам адразу зрабіўся нейкі лёгкі ўвесь, нібыта без бутэлькі нічога і не важыў.— На, бутэльку ў рукі. Хаця, у такім разе бутэльку ў рукі не даюць. На стол ставяць! Як нашы дзяды рабілі! — ён паставіў бутэльку на стол і дзяржаўся яшчэ за яе — пальцамі зверху за рыльца. Так і стаяў, прыціснуўшы бутэлькай на стале — на белым абрусе — вышываную чырвоную квяту.

— Ты што? — выпрасталася яна ля стала.

Ён сумеўся, адышоўся і сеў пад ходзікамі, куды яму паказвалі, і сціх. Яны так і сядзелі, гледзячы адно на аднаго — ні слова, як усё роўна зусім чужыя: стукнуліся ў грумадзе лоб у лоб, баліць аднаму і другому, а што скажаш? Цяжэй было гаварыць яму; рызыка, з якой ён адчыніў хату, праходзіла, а хто ён без яе? І ён пачаў хапацца за яе, як за саломінку.

— Ты, Тацяна, так не глядзі...— ён пакруціў галавой, рассыпаючы струкаватыя валасы па лобе, пасля адшпіліў яшчэ адзін гузік у рубашцы і ўзяў сябе пальцамі за горла, нібыта сам сабе не даваў гаварыць: баяўся сказаць не тое слова.— І нічога цяпер не думай. Выкінь усё з галавы. У такім разе я нічога не пытаюся і ты нічога не пытайся... Бутэлька на стале адсякае ўсё... Усё ранейшае... І тваё і маё... Сама ведаеш, што да чаго...— голас у яго раптам асіп, і ён сказаў зусім ціха і неяк жаласна, як пабіты сабака прыпоўз, каб яго пашкадавалі.— Давай выходзь за мяне... Давай заўтра запішамся... У вас у сельсавеце...— ён матнуў галавой і тузануў сябе рукой за грудзі. Цяжка яму было гэта сказаць, без рызыкі ён быў пай-

шоў пад ваду з галавой, але яна сваім маладым жаночым інстынктам адчула, што ён пацягнуўся да яе не проста так, і сказаў ён ёй цяпер праўду, і што ён цяпер зусім як дзіця. Без сваёй дурной рызыкі ён ціхі і добры, рабі з ім, што хочаш. Гэта ён з самай вясны перавярнуў у яе ў душы ўсё на свеце... Ёй стала раптам радасна і горача; гарачыня ўдарыла ў шчокі, яны гарэлі і былі недзе чырвоныя. А ён глядзіць на яе з-пад ходзікаў і ўсё бачыць, хоць ты праваліся скрозь зямлю... Яна адвярнулася ад яго — свет адразу засланіла цёмная шыбіна ў акне з сінімі матчынымі вачыма... І такія яны былі балючыя, і такая ў іх была крыўда на ўсё на свеце, што з іх пасыпаліся слёзы, буйныя, па бабіне... Пасля яна здагадалася, што бачыць у шыбе свае вочы, што плача сама. У яе задрыжалі плечы, яна закалацілася ўся ад густой гарачай хліпаўкі; крутнуўшыся на ўслоне, павярнулася да акна, упала галавой на стол, і зноў, каторы ўжо раз за вечар, загаласіла, не могучы нічым ні спыніць сябе, ні суцешыць... Пачула, як ён ўстаў з-пад ходзікаў і пайшоў па хаце ў парог, ціха, як таусё роўна, нашкодзіўшы, хацеў шмыгнуць за дзверы; тады, пастаяўшы ля судніка, вярнуўся хуценька назад да стала і, падышоўшы да яе, асцярожна ўзяў за плечы. Загаварыў на ўсю хату, моцна і цвёрда: браў над ёй уладу.

— Ды кінь ты глядзець у цемнату! У акне цёмна, у цябе на душы цёмна, у мяне цёмна... То кончым адным разам з усім гэтым... А слёзы ў печ... У жменю і ў печ. Для чаго тады печ у хаце? І попелам пасып, каб яны на ўсё наша жыццё засохлі...— Ён паклаў ёй руку на лоб — рука была халодная і сухая — і пачаў падымаць яе галаву ад стала. Яна паслухала, падняла галаву; супакоілася, задушыўшы хліпаўку, сядзела і глядзела на памятую квяту на абрусе.

— Ды кінь ты...— убачыўшы, што яна супакоілася, ён асмялеў і зноў пайшоў на рызыку, без якой і ступіць не мог.— Замачылі мы наш саюз горкімі слязьмі... Як гавораць: сваты са слязамі — будзем жыць панамі... Давай, Тацяна,— ён пагладзіў яе па плячах сваімі шырокімі, аж праз сукенку халоднымі далонямі,— пасля горкіх слёз возьмем хоць па сто горкай...— ён спрытна пстрыкнуў над сталом пальцамі, падскочыла ўгару над бутэлькай жоўценькая бліскучая закрыўка з кароценькім хвосцікам і пакацілася, кульгаючы, па квятах на абрусе.— Закуска ў мяне з сабой,— ён расшпіліў яшчэ адзін гузік у рубашцы, запусціў пад паху руку і стаў выцягваць адтуль і клас-

ці на стол на кветы колцы кілбасы: адно, другое, трэцяе — чырвоныя пад агнём, як перац, з вострым капчоным пад'ялеўцавым пахам, аж млосна зрабілася без вячэры...— Усё, што мог ухапіць на хаду. База ў Орсе сёння закрылася. Спазніўся. А ў другіх у мяне блат слабенькі. Нічога, будзе. Кансервы яшчэ ў мяне на сядзенні. Хаця, праелі яны мне вантробы, бляшанкі гэтыя, за маё жыццё... Глядзець не магу. Заціркі б жытняй зварыць ды забяліць добра... Ды з бульбай з гарачай і — каб рассыпалася ў руках... Нічога. Зварым з табой, Тацяна, і зацірку, і бульбу. Нам бы вот спачатку піва зварыць...— Ён забегаў ля стала, адсунуў яе разам з услонам далей на хату, адцягнуў стол ад акна і сеў сам на ўслон напроці, засланіўшы сабой цёмна-сінія шыбы. Сядзеў і глядзеў на яе шчыра і весела з-пад аўсяных валасоў, нейкі ўвесь клятчаты: чорная новая рубашка ў жоўтую клетку, за плячыма клятчатая рама ў акне. Быў смелы, але сачыў за кожным яе рухам з насцярогай: не верыў, што яго зерне падае ў раллю.— Ды і закуска, думаю, у гаспадыні знойдзецца. Гаспадар ставіць бутэльку, а гаспадыня — хлеб і да хлеба... Скарынка ў цябе ёсць, і цыбулі знойдзеш, калі агуркі сёлета пагарэлі... І шклянaчкі, і вілачкі, ножыкі... Скажы дзе — сам падам, табе і ўставаць не трэба. І ведай: табе самой не трэба будзе ўставаць усё жыццё. Сам буду рабіць! Усё! Фірага слоў машыне пад колы ў гразь не кідае. Фірагу збрыдала рабіць на аднаго сябе ўсё жыццё... А на другога — будзе! Фірага глядзіць у корань. Гэта перш ён глядзеў верх лесу. На яловыя шышкі. А цяпер — у корань. І ранейшага Фірагу ты забудзь... Ёсць новы Фірага, з гэтага вечара, з гэтай начы, з заўтрашняга дня... І пачаўся новы Фірага з вясны, калі ля могілак падняў цябе з зямлі ў кабіну. Ды кінь ты гладзіць кветы на абрусе... Нашы з табой кветы яшчэ зацвітуць. Усё наперадзе. І давай адразу дагаворымся: запішамся — за плечы мне ў кабіну, і ў Плешчаніцы. Кідай ты тут мэнчыцца: куры — каровы, куры — каровы... На работу за дзікі свет бегаць. І матку кідай мучыць. Забяром адразу з сабой...— ён убачыў, як яна ўздрыгнула ўся, і сціх: ці не сказаў што лішняе? — Матка ў цябе міравая... Завязём і пакладзём у бальніцу ў Плешчаніцы. У раённую. Што тут у вас за бальніца...— скрывіўся ён.— Адным словам, адразу рашаем усё. Хату мне даюць. Перш там інжынер жыў. Адзін пакой, дванаццаць метраў з гакам, як лёду. А нам больш і не трэба. Кухня асобна, пліта на дзве канфоркі. Ванна, туалет. Хоць яны

і не працуюць, не падведзена вада, па яе трэба бегаць да калонкі, але Фірага падвядзе. Сам падвядзе, калі ў дырэктара леспрамгаса кароткія рукі... А то — купім сваю хату, калі хочаш у такой жыць, у якой жывеш. З гародам, з садам, з качэлямі, як у дактароў праз вуліцу, каб блізняты калыхаліся... Ды я да зімы як ціскану — на любую хату выцісну. Грошы — табе ў рукі ці — матцы. Яна ў нас міравая... Што, не верыш? Думаеш, на хату не выцісну? Калясень у нас з сям'ёй, і то на «Масквіча» ціснe. А я, думаеш, не выцісну? І на хату, і на «Масквіча». І табе не трэба будзе мясіць гразь па грэблі, бегаючы ў калгасную канцылярыю. Пойдзеш у нашу кантору. Бухгалтарам. Пагавару з Асцюком — і пойдзеш. Асцюк для Фірагі ўсё зробіць...

Ён гаварыў многа, гусценька, як слаў усё роўна дарожку наперадзе, і яна падумала, што слухае яго з самага пачатку, што яго словы калышуць яе, як малую ў калысцы, і ёй пачынае падабацца ўсё, што ён гаворыць, і яна пачынае ўсяму гэтаму верыць. Яна тады падняла на яго вочы. Ён адваліўся да акна — спінай на падаконнік,— слухаючы самога сябе, але адразу спалохаўся яе вачэй і як усё роўна хацеў закрыцца ад яе рукамі, схаваць твар бывалага на свеце чалавека: азызлаваты, з маршчынамі ля вачэй і з крывымі баразнамі на лобе, бы па ім пацягнуў хто грабельцамі, як вясной па градцы; з чырвонымі плямамі на шчоках і дробненькімі вішнёвымі нітачкамі на носе. Страсануў пасля галавой, схаваўшы і вочы, і нос, і шчокі пад струкаватымі аўсянымі валасамі...

Яна тады зарагатала, забыўшыся на ўсё на свеце: на свае нядаўнія слёзы, на хворую маці ў бальніцы, на канцылярыю з Джанікам, на казэас, куды гоніць кожны вечар з канцылярыі Дзярызямля лапаціць ячмень, на Юрачку, які аж дагэтуль стукаў лычам у дзверы ў хлеўчыку, не могучы супакоіцца...

— А сваты твае дзе? Чаму адзін? У сваты адзін ніхто ніколі не ездзе...— яна выцірала слёзы цяпер ужо ад смеху. Нейкі шалёны смех падхапіў яе: ён рызыкуе, а яна будзе плакаць?.. Патрэбен быў, відаць, гэты рашучы міг у жыцці — бутэлька на стале,— каб чалавека разгледзець зблізку. Усё тое, што перш схіліла яе ў бок гэтага «аўсянага снапа», раптам стала перад ёй рубам. Бутэлька задрыжала на стале, закалыхалася, каб схіліцца да яго, але ўстояла на месцы: ні туды ні сюды. І ад гэтага ёй зрабілася весела. Адсоўваючыся на ўслоне ад стала, яна пачула,

што і ногі ў яе сталі цвёрдыя, падымецца і пойдзе — не задрыжаць. Ён глядзеў цяпер сінімі вачыма з-пад «аўсянай саломы», быў рад, што яна паддалася на яго рызыку, і зноў зрабіўся малады і дужы, як і тады ў кабіне ля могілак. Зноў на стале закалыхалася бутэлька: адсоўваючыся, Таня кранула пагамі стол.

— Ды кінь ты са сватамі... Я сам сват...— засмяяўся ён.— Сам сабе гаспадар і сам сабе сват. З сягонняшняга дня езджу з надпісам на кабіне і не сціраю. Адумысла. Каб усе зналі. Хай падымаюць імбарас на ўвесь раён. Хай знаюць, што Фірага жэніцца. Хай хлынь плыве... Хай цярэбяць насы... Мы такое вяселле грымнем, што... Усім леспрамгасам... А ты падымеш на ногі ўсю сваю радню, усю канцылярыю і калгаснае начальства. Белай закінем цэлы кузаў... Я іх, забулдонаў, накачаю, што будзем грузіць у машыну, як дровы... А сёння мне сваты не патрэбны... А слёзы ў печ! І каб я іх у сваёй хаце ні разу ў жызні больш не відзіў!

— Я ўжо знаю. Мне сказалі, з чым ты ездзіш...— яна зарагатала яшчэ мацней, ускочыла з услона, таўхануўшы стол, схапіла з абруса газеты і Міфодзева пісьмо, пабегла за перагародку, кінула іх там на стол — даруй, брат, прачытаю пазней, цяпер «выходжу замуж»,— вярнулася, махнула касу з грудзей за плечы, як усё роўна яна замінала, і падскочыла да белай зашклёнай шафы з пасудай. Дастала непачатую буханку хлеба, якую прывязла ўчора на багажніку з Краснаволля; паклала ля яе на стол нож з жоўтымі тронкамі; паставіла дзве белыя, у зялёныя кружочкі талерачкі — адну для Фірагі па другі край стала, другую — сабе; выцерла новым ручніком — ляжаў у шафцы на хлебе — дзве гладзенькія, з залатымі абадкамі ўгары шклянкі, прыткнула іх ля талерак і ўсё не сціхала: звінела пасуда, і звінеў яе, Танін, смех. Падала Фірагу ручнік; ён, узяўшы, вылез з-за стала, знайшоў адразу мыла ў чырвонай мыльніцы на судніку, засіліў кружку вады і пайшоў на двор: «Во, гэта я разумею. Гэта — па-моему...» Вярнуўся, паставіў мыльніцу, павесіў конаўку на месца, ручнік на плячо і пачаў хадзіць па хаце — за перагародку і назад у парог, чапляючыся стрыкаватымі намочанымі валасамі за паркалёвую занавеску. Хадзіў смела, як дома.

— Давай махнём цяпер і кінем вокам нашу кватэру. Ключы ў мяне, праз паўгадзіны будзем там. Назад дастаўлю мінута ў мінуту, як скажаш. Кінеш вокам сама. Пальцам толькі пакажы, якую сцяну чым памазаць... Хлопцы

прыйдуць і памажуць. І да зімы падвяду ваду. Пад'едзе экскаватар — на гадзіну работы, хлопцы падвязуць і кінуць у зямлю трубы. Інжынер жыў без вады, а ў мяне вада будзе...

Яна тады зноў зарагатала на ўсю хату — рэзала кілбасу, і нож скакаў па старым драўляным дэнку. Смяялася і сама не ведала чаму: ці таму, што сватаюць — якой дзяўчыне такое не міла,— ці таму, што ведала наперад: адправіць «свата» ў Плешчаніцы з носам. Недзе далёка прабегла думка: іграе з агнём, можа даіграцца, але плюнула на ўсё ў душы і растаптала: «Ніколі!»

— Чаго гэта ты смяешся? — ён стаяў і глядзеў на яе, добры, мяккі, ціхі, як дзіця, хоць падыдзі ды пагладзь яго па галоўцы. Пасля падаў ручнік. Яна ўзяла і кінула яго на лаўку пад суднік.

— Што гэта ты? Яшчэ не сасватаў, а ўжо я павінна ехаць рамонт рабіць? Прыехаў сватаць, дык сватай.

— А гэта мы мігам. Налівай...

— Не-е... Рабі ўжо ўсё сам, як і абяцаў. І рамонт, і ваду падводзь, і налівай... А я пагляджу, на што жаніх здатны...

Яны зноў хуценька селі за стол адно напроці аднаго, разам, як згаварыліся. Ён з падскокам заняў сваё месца, яна падсунула пад сабой бліжэй да стала ўслон.

Ён наліваў, дзержачы асцярожна ў руцэ бутэльку, але рука дрыжала, здавалася, з рыльца не ліецца, а сеецца — хваляваўся, відаць, недзе глыбака ў душы. Наліў і сабе і ёй да палавіны: цяпер, з гэтага часу, усё пораўну — і гора і радасць, і палка і шклянка... Першы ўзяў шклянку са стала, асцярожненька, ля дна, аднымі пальцамі, баяўся, каб тут, за сталом, не парушыць вечнай людской меры, па якой розняць чалавека ад свінні, каб не выдаць сябе з галавой на вачах у таго, дзеля каго гатовы быў цяпер рашыцца на самае большае ў сваім жыцці: разбіць гэту праклятую з залатым абадком шклянку аб падлогу і больш не ступіць і блізка туды, дзе блішчыць бутэлька...

— Ну, давай, Тацяна, падымем за матку... Перш за ўсё...— загаварыў ён моцна, прывык пры маторы.— Хай яна скарэй выходзіць з бальніцы. Міравы яна чалавек...

Таня падумала, што вяжа ён моцна, гаворыць і робіць якраз тое, што трэба, і, відаць, гаворыць праўду, не хітрыць, і ад яго цяжка будзе адкруціцца.

— За матку я вып'ю... А што гэта ты ўсё матку хваліш, прыйшоўшы мяне сватаць? Каб хоць яна збоку сядзела і чула, можа б, за цябе слова закінула. А так...

— Кінь ты чапляцца. Дойдзе пара і да цябе. Дык за матку і за гэту хатку, дзе расла і гадавалася такая дачка...— ён гаварыў і падымаў шклянку ўгару над сталом, нібыта хацеў гэтым падняць вышэй перад усім светам і хату, і маці, і яе, Таню...

— Во. Гэта ўжо бліжэй да мяне. А то... Быка бяруць за рогі. А я ўсё чакала, як гэта мяне будуць сватаць?

— Праўду кажаш... Падымем, падымемся самі і вып'ем, стоячы, да дна. Толькі адразу, толькі каб не папярхнуцца... Каб пасля і жыццё наша, і машына не буксавала на дарозе...— ён стукнуў ёй сваімі пальцамі ў пальцы, чуць не выбіўшы шклянку з рукі.

Яна выпіла разам з ім да дна — знай нашых! — згледзела толькі, як парожняя шклянка разанула па вачах нейкім жоўтым праціўным агнём. Ён паклаў ёй руку на плячо, каб яна села, і пачаў падсоўваць да яе на стале талерку, відэльцы і лустачкі хлеба. Яна, ужо сеўшы, пачула, як адразу зрабіліся мяккія ногі, не чуваць пад сабой, стала горача ў шчокі і закруцілася галава. Заківалася на стале адпітая бутэлька — поўная стаяла цвярдзей... І бальніца, і канцылярыя, і казээс, і Юрачка, і сам Альбін Фірага адскочылі ад яе раптам далёка за раку на грэблю, і яна асталася за сталом адна, лёгкая, без бяды і гора, як толькі на свет нарадзілася.

— Закусвай... Закусвай...— гладзіў яе як усё роўна рукой па галаве аднекуль здалёку чужы голас. Такога яна не чула за сталом на выпускным вечары ў школе... Не чула і калі праводзілі ў армію Ратнікава... Што б ён цяпер запеў? Хай палучае...

— Яшчэ па адной? Што? Энзэ ў мяне пад сядзеннем. Ну, Тацяна, па поўнай. Пасуда любіць чыстату... За тое, каб і ў нас было ўсё чыста і гладка. І каб мне не трэба было глядзець на чужых блізнят. Сваіх хачу! Не зломак! І возьмемся мы за гэта адразу. Адразу, Тацяна, даражэнькая мая... Больш чакаць не хачу. Давай мне, даражэнькая, усё адразу...— «аўсяны сноп» закалыхаўся над сталом. Чырвоная разагрэтая рука падняла ад яе шклянкі парожнюю бутэльку і паставіла на змочаную пацямнелую квяту на абрусе. Скалыхнуўся стол, парожняя бутэлька пакацілася і, бразнуўшы аб падлогу, адскочыла ў парог у качарэжнік.

— Пасуда грыміць на шчасце! І сёння мы яго заложым! Заложым, Тацяна, даражэнькая мая... Возьмем быка за рогі... Усё будзе, як ты і хацела...— ён падняў угару шклян-

ку, паглядзеў праз яе на агонь і выліў у рот, як у пасудзіну. Закусваць не стаў, толькі выцер губы даланёй — павёў зверху ўніз.

Яе раптам схапіла злосць — на Ратнікава: гэта ён вінаваты, што за сталом сядзіць «аўсяны сноп»! Хай бы адчыніў цяпер дзверы... Паглядзела б на яго... Яна зноў зарагатала на ўсю хату; пачула, што перастала круціцца ў галаве і вочы чыста глядзяць на «аўсяны сноп» за сталом, нават жылкі чырвоныя бачаць на носе.

— Чаго ты тут сядзіш? — спыталася яна ціха, але Фірага пачуў і страпянуўся: адразу злавіў перамену ў голасе. Падняўся з услона ад акна — яго месца заняла густая чарната ў акне,— выцер далоні аб грудзі, падышоў, сеў з ёй упобачкі і паклаў адразу руку на плечы — ашчапіў. Рука была цяжкая і цвёрдая — з адных касцей. Другая рука, цяжкая, як камень, лягла ёй на грудзі. Яна нават не апомнілася — не чакала такога,— як ён раптам упіўся ёй у вусны, што клешч. Вусны яго былі гарачыя і сухія і цягнулі да крыві. Яна рванулася і выціснулася ў яго з рук, як курыца праз жэрдзе ў плоце. Адсунулася на ўслоне на самы край, пачула, што гарыць ад злосці.

— До-о!..— паказала рукой на дзверы.— Убірайся!

Ён, усхапіўшыся з услона, зноў хацеў злавіць яе ў ахапак, але яна скочыла за перагародку — падумала толькі, што трэба было збіць яго з ног і бегчы на вуліцу. За перагародкай ён злавіў яе адразу, сціснуўшы і рукі і плечы:

— Не любіш?
— А як жа. Сохну...
— Не пойдзеш?
— Пабягу з падскокам...
— Смяе-ешся?
— Рагачу. Не чуеш, што рагачу на ўсю хату?

— Кінь, даражэнькая... І так зацягнуліся нашы сваты. Салаўя баснямі не кормяць. Ад слоў пярэйдзем к дзелу... Кінь, даражэнькая... Кінь Фірагу за нос вадзіць... Фірагу яшчэ ніхто за нос не вадзіў. Ад Фірагі не вырвешся. Фірага не проста да цябе прыехаў, каб сціснуць ды аб зямлю... Фірага па-новаму рашыў жыць. Ачалавечыўшыся... А ты не ведаеш, даражэнькая, што Фірагу на табе свет клінам сышоўся, што без цябе Фірагу — прорва? Далей ходу няма — яма...— ён задыхаўся, сціскаючы яе. У голасе ў яго была і просьба, і грозьба, і слёзы. Яна ўпёрлася нагамі ў падлогу, каб не адысці ад шафы, хацела ўчапіцца, як ваўчыца, яму зубамі за калючую шчаку, але ён

схаваў галаву ў яе на плячы, сапучы ад знямогі ў шыю. Тады яна ўпілася яму зубамі ў плячо — яно было цвёрдае, што камень, не ўкусіць... Пачула, што ён адной рукой расшпіляе ёй гузікі і наперадзе на грудзях, і ззаду за спінай:

— Саромеешся, можа, даражэнькая, што пры агні? Што відна ў хаце? А чаго тут саромецца? Раздзенемся, як мужык і жонка. Чаго нам саромецца? І ты не семнастовачка, і я... Кінь, даражэнькая, брыкацца... Усё будзе, як у людзей, як у мужыка з жонкай... Фірага не хоча цябе проста аб зямлю, як дзе на гэбліку... Гэта ён рабіў. А цяпер не хоча. А цяпер ён хоча, як мужык з жонкай... На ложку... У пасцелі... У чыстай... Як у людзей...

— Не! — закрычала яна на ўсю хату.— Не! Не! Не!..— пачула, што злавіла рукой касу, шорсткую, цвёрдую. Рвануўшы, вырвала з-пад яго рук, акруціла яму ля шыі і пацягнула за хвост — пачала душыць. Ён напяўся, не даючыся — аж вочы ў яе на лоб палезлі і загарэлася ад болю агнём скура на галаве,— але расцяў рукі. Яна крутнулася на хату, каб лучыць у праёміну ў перагародцы, тады ён, размахнуўшыся, ударыў ёй кулаком пад лыжачку. Рассыпалася на дробныя іскры ў вачах лямпачка; заняло дыхаць; скруціўшыся, яна пачала падаць на падлогу...

Падаючы, пачула, як за вуліцай на дзядзінцы загудзела машына і зазвінелі ў акне ад двара шыбы. Па іх сцебанула вішнёвым агнём.

Фірага адскочыў ад яе да акна, пасля рвануўся з усіх ног да дзвярэй. Дзверы ў сенцах былі запёрты з двара; ён драгануў у іх з разбегу, аж лямпачка закалыхалася ў хаце пад столлю, і закрычаў на дварэ, што ўсё роўна яго рэзалі...

Патух вішнёвы агеньчык у акне: аціхала машына, цішэў, губляўся дзяркаты голас Фірагі. Устаўшы з падлогі, яна дайшла ў парог да дзвярэй, узяла іх на кручок, учапілася за яго ў дзве рукі і стаяла. Не давала дыхаць, блажыла; па шчоках цяклі ціхія цёплыя слёзы. Супакоішыся, адчыніла дзверы. Асцерагаючыся, выйшла з сеначак на двор — у цемнату і ў камары.

Над лесам у бок Жоўтага Берага калыхалася ад агню неба; чуваць было, як там гудзела машына. У хлеўчыку біўся аб сцяну Юрачка і адзываліся патрывожаныя куры. Пасля ўсё аціхла і ў лесе і на дварэ, густая цемната запахла з гародчыка кропам. Ноч, дачакаўшыся свайго часу, адразу лягла на зямлю, як змораны чалавек на пасцель.

Хапіла дрыжыка недзе з сярэдзіны, халодная як лёд. Вярнуўшыся ў хату, яна выключыла агонь, навобмацак у сеначках знайшла на шафарні замок, ткнула яго ў прабой і ўздыхнула. Выкаціла з-пад падстрэшка на вуліцу да лавачкі веласіпед, зачыніла вароты і, смела беручы ў цемнаце ля плота — добра ведала сцежку,— рванула ў вёску. Фару не падключала: агонь далёка відаць. Ля Вайдаў павярнула да маста і белым следам ад машыны ляцела з горкі, што кажан на крыллі. Яшчэ дома на двары, калі ўзяла за руль веласіпед, ведала, куды паедзе... Ля маста затармазіла і, скаціўшы веласіпед да ракі, паклала набок на мокры пясок і каменне, нагнулася і доўга мыла твар цёплай прэснай вадой, якая пахла цінай — адмывала ад слёз.

Грэблю хаваў з вачэй туман; над Краснаволлем узыходзіў месяц — разлілося па небе рэдзенькае малодзіва; калі яна аглядалася назад — над вёскай віселі яркія зоркі. Грэбля, якую яна вывучыла за дзесяць гадоў школы, была ёй змаёма, як сцежка на двары ля хаты, і яна смела ўехала ў густы туман — паплыла ў ім, як у малацэ. Туман запах сухім ячменем, гарэлым торфам і рабінкай з крыніц. Яна ціснула са злосці на педалі, нібыта яны былі ва ўсім вінаваты.

Фару ўключыла толькі за могілкамі, калі ўз'ехала на новую брукаваную дарогу. Зашаптала спераду на коле дынамка, цяжэй стала націскаць на педалі. Забразджэлі ключы ў сумачцы на раме, пачало падкідаць. Наперадзе ў палосцы белага агню замітусіліся матылькі і пасыпаліся ў вочы; на дарогу лез з цемнаты жоўты на цвеце лубін — запахла салодкай гаркатой.

Агні ад машыны яна згледзела здалёку — падняўшыся ўгару пад Краснаволлем, яны ляглі ўперадзе на дарогу, стрыгучы цемнату, як вялікімі нажніцамі. Азірнулася назад — сіняя цемната ўпіралася ёй у плечы, як гнала наперад, і яна наступала на педалі, нібыта хацела ўтаптаць іх у зямлю: гнала веласіпед па каструбаватым дрогкім бруку насустрач машыне — ляцела сама, як матылёк, на агонь.

У машыне яе згледзелі здалёку: засігналілі святлом. Тады яна, як узгарэўшыся, пагнала веласіпед пасярод дарогі яшчэ хутчэй. Яны бешана ляцелі насустрач адно аднаму, збліжаючыся. У машыне пачалі сігналіць, прарэзліва, доўга, палохаючы ноч. Яна і не думала зварочваць з дарогі, ляцела, чуючы ўжо, як падпіраюць спераду два пругкія белыя промні ад фар.

Машына першая спынілася пасярод дарогі, адхінуліся дзверцы, на брук выскачыў Ратнікаў і пабег насустрач — высокі, тонкі і нейкі мяккі, як вата, у белым агні. Яна саскочыла на брук, кінула веласіпед на абочыну — зазвінелі толькі аб сухое дуддзё спіцы,— падбегла да Ратнікава, стала і глядзела на яго белы, як папера, твар ад агню. Тады, размахнуўшыся, ударыла яму рукой па шчацэ... Пасля пачала біць: раз, другі, трэці, біла, пакуль не забалела рука. Змаглася, апусціла рукі і, што ўсё роўна працёршы вочы, глядзела на яго, спалоханага, зніклага: таго, ранейшага, і не пазнала і не знайшла... Перад ёй стаяў у начы чужы чалавек...

Пачула, што слепне — ад агню і ад сваіх слёз...

## 6

Валерка начаваў на казэс — у бункеры ў ячмені. Вечарам Дзярызямля высадзіў яго з кабіны ад Ратнікава і даў у рукі шуфель — лапаціць, пасля насыпаць у кузавы ячмень. Ён не стаў лапаціць пад навесам, куды згружалі ячмень з кузаваў — у бункер усё адразу не ссыпеш, не хопіць месца — выбраў сам сабе работу па душы: падграбаць ячмень у бункеры да аконца. Ноч, шэра, бліпічыць лямпачка над галавой, як зорка ў небе; ніхто не хоча лезці ў бункер у цемнату, а ён скочыў туды ўсё роўна як у рэчку з берага ў ваду, аж ячмень запырскаў у шчокі. Роў над галавой вентылятар, закладваючы вушы і забіваючы вочы пылам і дробным асцём; адзін за адным уз'язджалі на пад'ёмнік самазвалы і ссыпалі ячмень у бункер — ён нават не вылазіў наверх, прыціскаўся толькі да халоднай цэментаванай сцяны і чакаў, пакуль не бразне на ўсю ферму парожні жалезны кузаў у самазвале, тады клаўся наверх на кучу ячменю і сунуўся, выставіўшы рукі перад сабой, уніз да аконца. Аконца забівалася, наверх у трубы не цягнула ячмень; прыбягаў з казэс механік і крычаў над галавой чорт ведае што і кідаў у рукі адломаны драўляны шуфель. Валерка баяўся, каб не ўсадзіць шуфель у аконца, галаву за гэта сарвуць, і соваўся па ячмені ўзадуперад, то рукамі, то нагамі сунучы калючыя шорсткія, як жвір, зярняты ў цёмнае аконца. Сляпымі ад пылу вачыма ён не бачыў яго, але ныў і ныў над галавой вентылятар, што ўсё роўна Дзярызямля крычаў над вухам, і тады Валерка закопваўся глыбака ў ячмень, нібыта нырае у рацэ ў вір і плыў, малоцячы і рукамі і нагамі, да аконца. Ад

шорсткага асця гарэлі шчокі і смылела шыя; усё цела пад майкай і пад штанамі зрабілася, як яловая карына, але ён качаўся і качаўся па ячмені і рады быў, як малады ваўчок на волі: і цёмнай начы, і шуму над галавой, і высокім халодным зоркам, і ціхім далёкім галасам... Маладое, неакрэплае, налітае яшчэ малаком, а не сілай, дзіцячае цела разагравалася, свярбела і ныла ад знямогі...

Недзе да поўначы хадзілі самазвалы і кузаўныя машыны з ячменем; упоўнач выпала густая раса, і камбайны сталі. Машыны, разгрузіўшыся, рванулі з фермы, падняўшы вецер; ля казээс аставаўся толькі Ратнікаў — перавозіць ячмень з-пад навеса ў бункер, але ў механіка «перастала сапці» фарсунка — маць яе барабан,— і казээс заглохла. Зрабілася адразу ціха, толькі шумела ў вушах, нібыта лес угары над галавой. Пакаціўся з фермы ў лагчыну «газон» Ратнікава; распаўзліся і зніклі ў цемнаце людзі, як цені. Паехаць дамоў можна было толькі з Царуком ці Сяржантам, але іх і след астыў. Мог узяць на матацыкл на багажнік Джанік, але ён як скрозь зямлю праваліўся. І Валерка астаўся адзін у бункеры — не пайшоў дамоў пехатой. Поўны бункер ячменю, і ён — адзін на ўсю казээс. Недзе яшчэ гаманілі механік і Дзярызямля — сам сёння дзяжурыў на казээс,— пасля і яны сціхлі; шыпела толькі нешта ў вентылятары і стукала ў кароўніку за казээс скаціна.

Патухла цьмяная лямпачка ўгары над галавой, як зорка схавалася за хмару, і на яго адразу навалілася золкая цемната. Мокрае ад поту цела зрабілася адразу халоднае, зліпліся павекі, павіслі рукі, па ўсім целе палілася млявасць, ударыла пад калені, і ён лёг на кучу ячменю, што ўсё роўна зімой на печ, нарэзаўшы дроў. Пачуўшы, што стынуць плечы і ўсяго калоціць — зарыўся глыбака ў цёплы ад сырасці ячмень, як крот у зямлю.

Спаў ён як забіты, і калі прачнуўся — не мог устаць. Ныла ўсё цела, не павярнуцца, павечкі зрабіліся цяжкія, наліліся, што волавам — не адплюшчыць. Ён чуў, як рыкала скаціна, гаманілі людзі і гудзелі машыны, як заныў вентылятар угары над ім, але нават рукой крануць не мог. Зверху на яго пасыпалася зерне, засыпаючы з галавой, не дыхнуць... Ён страпянуўся і стаў вылазіць з кучы ячменю, рассоўваючы яго рукамі. Недзе зверху закрычаў Ратнікаў:

— Галава рудая, маць тваю так... Мог разам з ячменем пайсці ў трубу, і душа б твая выскачыла з вентылятара з мякінай... Так спаць. Ану вылазь. Ты мне патрэбен...—

сагнаўшы свой «газон» з пад'ёмніка, Ратнікаў падбег да бункера і падаў Валерку руку: — Тут і без цябе справяцца... Давай у кабіну. Што? Не мыты і галодны яшчэ са ўчарашняга? Высаджу ля варот, пойдзеш да мяне. Знойдзеш на стале бліны з малаком. Што? Хата не на замку. Сам гламзанеш і зайца накорміш. Бутэлечка з сыскай на стале, наліеш поўную. Сам я не справіўся, Дзярызямля ўспароў з пасцелі. Не буду ж я ў яго на вачах зайчыка з сыскі паіць. Напоіш і канюшынкі з мяжы прынясеш са жменю, калі хочаш руль у руках дзяржаць. Што? Я табе дам — да лампады. Будзе заяц галодны — не ўвідзіш ты руля, як сваіх рыжых вушэй. Давай у кабіну...

Едучы, маўчалі. Спыніліся ля старой брамы, да якой з аднаго і з другога боку нахіліліся з двара дробненькія кветы жоўтай юргіні.

— Дома нікога. Матка на бураках. І не касі вачэй на руль... У бункер сёння не палезеш. Дагледзіш зайца — пойдзеш на «Курскую дугу». Кроў з носа, а знайдзі рысору. З-пад зямлі выцягні... Відзеў, трэснула, рама на восъ кладзецца. У любую мінуту выйду са строю. Ні ў майстэрні нашай гробанай, ні ў Царука, ні ў Сяржанта нічога талковага няма. Стану мёртва. Што? Калі хочаш за руль дзяржацца — знойдзеш. Дзярызямля не знойдзе, а ты знойдзеш. Я ж цябе не красці пасылаю. На «Курскай дузе» ўсё можна знайсці. І свечы старыя пасля мне выпаліш. Сабярэш тыя, што ўчора ў сенцах кінуў, у банку, пырснеш саляркі і выпаліш. Каб нідзе ні плямы, каб як новыя былі... Толькі ад хаты далей, можаш ля варот ці на лажок пад «Дугу» адысціся... З агнём глядзі ў мяне... Ну, не стой. Толькі галаву сваю рыжую атрасі ад асця. А то яна ў цябе шэрабура-малінавая... Зробіш усё, прыеду на палудзень — пагоніш «газон» аж на Дроздку. А пойдуць дажджы, будзеш са мной разбіраць карбюратар. А то ён нешта не хоча смактаць. А не эробіш — будзеш сядзець усё лета ў бункеры. Ні руля, ні карбюратара...

Бразнулі дзверцы, «газон» рвануў ад двара, падняўшы пыл, аж юргіні закалыхаліся на двары за частаколам.

Есці яму перахацелася — горка было ў роце, як ад палыну, і смактала ў жываце. Бутэлечка, маленькая, як на шклянку, чысценькая, з карычневай паклейкай: каньяк, з вялікай жоўтай гумавай сыскай — сам яшчэ помніць, як такую смактаў, носячы з сабой — стаяла на стале ля кучкі бліноў, накрытых ад мух рогам абруса. Жбанок з малаком, гліняны, бліскучы ад палівы, быў пад газетай.

Ён наліў малака ў бутэлечку, расплюхаўшы на стол і на падлогу, сыску надзеў, ужо бегучы на двор. На ганку яму сцебанула па вачах гарачае сонца, і адразу захацелася спаць. Ён пастаяў — цягнула на ўслончык да сцяны пад жоўтыя юргіні.

Вёскай на Жоўты Бераг пайшлі леспрамгасаўскія «прычэпы» — адзін за адным, аж тры. Пацягнуліся да магазіна «афіцэрскія жоны» — трашчалі, як сарокі. Ціха «афіцэрскія жоны» ніколі не ідуць — языкі аж на плячо.

Ён скочыў з ганка і падбег да хлева. Дзверы ў хлеў былі адчынены; чорныя, абпаленыя з другога боку — зімой на іх смалілі парсюка,— яны прыхінуліся да самага падстрэшка, хаваючы клетку з зайцам. Ён піхнуў іх нагой — яны цяжка заскрыпелі і стукнуліся аб шуло. У клетцы, доўгенькай скрынцы з-пад слоікаў з магазіна, з адбітымі з аднаго боку дошчачкамі — замест іх сівая драцяная сетка — заскакаў і зашапатаў падсохлай зялёнай травіцай шэранькі заяц. Тоўсценькі, ладны, з белымі стаячымі вушкамі і белай пыскай. Вялікае жоўтае вока спалохана заблішчэла праз сетку, мокрае, як ад слёз. Клетка была падвешана пад падстрэшкам на метр ад зямлі, пад ёй валялася старое жаляззё ад машыны, пашчапаныя бярозавыя дровы і рос ладны маліннік. Адчыняючы маленькія, зробленыя адумысла з жоўтай агабляванай дошчачкі дзверцы, Валерка спатыкнуўся аб жаляззё, махнуў рукамі і зачапіўся ў малінніку за шэранькі, як папяровы, каўпачок. Каўпачок зашыпеў, з яго пырснула асва і прыліпала да пляча. Ён строс яе, нежывую, пад ногі, стаяў і чакаў, пакуль не аціх і не перастаў калыхацца на дудцы каўпачок, тады дастаў адной рукой зайца, прыціснуў да грудзей і сунуў яму ў рот сыску. Беленькія вушкі адразу прыліплі да спінкі, белая пыска задрыжала і засапла... Жоўтая сыска, здавалася, сарвецца з бутэлькі... Заяц ціха ляжаў на руцэ, і Валерка адпусціў пальцы. Ад зайца цёпла зрабілася ў жывот; малака у бутэльцы менела і менела, і калі яно, узяўшыся бурбалачкамі, схавалася ў сысцы, белыя вушкі раптам адскочылі ад спіны, натапырыліся, былая пыска сціхла, не дыхала, пасля лапкі вострымі кіпцюрамі ўпіліся праз клятчастую рубашачку ў жывот, і Валерка не паспеў нават сцяць пальцы, як заяц скочыў на траву, выбіўшы з рук бутэлечку пад падстрэшак у маліннік. Скочыўшы на двор, заяц, мусіць, здурнеў ад раптоўнай волі і сядзеў якую долю мінуты на адным месцы. Валерка, рвануўшыся з усіх ног, накрыў яго жыватом, прыціснуўшы

да зямлі. Апынуўшыся зноў у руках, заяц дзёр кіпцюрамі клятчастую рубашачку на грудзях і на жываце, пакуль Валерка не злавіў яго за лапы і не ўпхнуў праз дзверцы ў клетку. Стаяў пасля, глядзеў на рубашку і на рукі, з якіх капала кроў на шкло ад разбітай бутэлечкі і на папяровы каўпачок у маліннiку, дзе не маглі суцішыцца восвы. Зашчапіўшы на кручок дзверцы, падняў з травы жоўтую гумавую сыску і схаваў у кішаню, як перш, калі быў малы і бег з дому на вуліцу.

«Курская дуга» пачыналася справа за дарогай — процi казэс за мастом, пад якім аселі бетонныя трубы, забітыя пяском і старымі лысымі пакрышкамі ад машын, якіх панакочвалі сюды дзеці. Да маста на лажок выходзіла дваром калгасная лесапілка — гáтар. Збітая з дошак і крытая дошкамі, шырокая і доўгая, абсыпаная пілавіннем будыніна выпхнула на лажок усё тое, што ўжо не трэба было ёй: старыя сукаватыя пачарнелыя дубовыя камлі, якія нехта намерыўся быў распілаваць на дылі, ды гатар не даў рады; аполкі, яловыя, сукаватыя, з аблезлай падгнілай карой, на якой пазасыхалі белыя грыбкі; бярозавыя чуркі, сасновыя чурбаны і доўгія бёрны, адцягнутыя далей з-пад ног, кінутыя да пары да часу — паўязджалі ў зямлю, абраслі высака з бакоў пырнікам і канюшынаї,— і кучы ўтаптанага, сівога ад дажджу і сонца пілавіння...

Гэта быў пачатак «Курскай дугі».

За кучамі пілавіння проці калгаснай майстэрні ляжалі ў траве перакуленыя набок сані — палазы з капыламі і намарзнямі, тыя яшчэ, на якіх некалі вазілі дабро, бульбу, сена, салому і дрэва; за імі — палазы ад валакуш, якія чапляў трактар: злізаныя спадыспаду і з бакоў, зачэсаныя пад кірпаты нос спераду і ззаду доўгія сасновыя бёрны; жалезныя рамы і цялежкі, высокія, роўна з ім, Валеркам, невядома ад чаго, як ад гармат, можа, з лесапілкі; сучча, скінутае ў ладныя ламы, як у лесе,— здаецца, выпаўзе гадзюка; бярозавае верхаллё, валуны, сцягнутыя сюды невядома адкуль — убралі з-пад ног замінішча і на тым; бетонныя слупы з падпоркамі, абабітыя і таму прыбракованыя; кузавы ад самазвалаў, іржавыя, сівыя ад налiплага цэменту; заднія і пярэднія масты ад машын, вядучыя і без прыводу; старыя матрасы з выбеленым на дажджы палатном і патрэсканыя зношаныя гумовыя боты; вялікае задняе кола ад «Беларуса», з якога рос куст сівога старога палыну; драпакі з баронамі-зігзагамі, ленты ад гусянічнікаў і чорныя цэлафанавыя плашчы, прысыпаныя

пяском... І ўсё гэта парасло дзядамі, лапушыстымі, адцвілымі, у зялёных і жоўтых калючках; дробненькім люцікам і адуванчыкамі, па якіх скакалі, стракочучы на ўвесь лог, конікі; высокай мятліцай, пырнікам, асотам, лебядой, крапівай і буйнымі, белымі ў цвеце раманамі; дробненькімі жоўтымі бярозкамі і густой сівой дзікай лазой, што расце на полі на самым выбоістым месцы ля крушняў камення, чорта не баючыся...

Валерка, саскочыўшы з маста — з бетоннай шурпатай трубы, што, задзёршыся ўверх, вылезла краем з-пад травы,— мінаў першую драўляную паласу «Курскай дугі», стукаючы вялікім разводным гаечным ключом па ўсім жалезным, што вытыркалася з травы і кідалася ў вочы. Другая, жалезная, паласа «Курскай дугі» пачыналася ў канцы базы — за высокай дашчатай агарожай ля трох бяроз. Агарожа была ўся мокрая і чорная ад саляркі і бензіну: запраўляліся з базы, ці перакідаючы шланг праз верх, ці прасоўваючы ў дзірку між дошак. На дашчатую агарожу з лажка ад бярэзніку звесіў чырвоную паламаную дзюбу сіласаўборачны камбайн — як бацян на балоце. Побач з дзюбатым камбайнам лёг цвёрда восямі на выбітую зямлю, як ва́раны рак клюшнямі на стол, чырвоны яшчэ зверху трактар «Беларусь». На ім некалі араў Сяржант, пакуль не перасеў на машыну. У трактары яшчэ з аднаго боку ў кабіне бліпчэла шкло, руль быў на месцы і круціўся. І скрыначку нават збоку ля сядзення ніхто не адчапіў, у ёй яшчэ ляжалі балты, прысыпаныя ржой, як попелам. За трактарам урасла ў траву новая, фарбаваная пад колер хакі пагнутая кабіна ад ГАЗ-53. У кабіне сядзеў яшчэ год назад Царук. Уцякаў ля Плешчаніц ад гаішнікаў, перакуліўся і другую кабіну ставіў сам, дастаўшы ў Мінску, а пагнутую адцягнулі ад майстэрні на лог — хай па ёй поўзаюць мурашкі. Гэтым месцам ляжалі адны кабіны — вытыркаліся з травы сваімі круглымі вярхамі, як браніраваныя каўпакі: чорныя, лабатыя — яшчэ ад нямецкіх машын; вялікія, ад новых ЗІСоў, мусіць, леспрамгасаўскіх, у калгасе такіх машын не было — з іх асыпалася фарба, зялёная, блакітная, шэрая, пакідаючы ржавыя плямы, і драўляныя, ад першых калгасных «газікаў» — пааблазілі, патрэскаліся ад дажджу і сонца. За кабінамі на лажку гібеў перакулены на бок цяжкі камбайн; зверху над ім павісла вялікае чорнае, з зазубрынамі гумовае кола — здалёку, як бацянова гняздо над хатай. Упобачкі ў высокай мятліцы замёрла наўсягды пагнутае матавіла... Белыя зубы пад на-

жамі ў камбайна, якія ўсягды блішчэлі стальным бляскам на ўсё поле, начышчаныя пяском і ржышчам, цяпер парaслі зялёненькім дробным мохам, як каменныя пліты на могілках. За перакуленым камбайнам у бярэзніку ляжалі на зямлі яшчэ тры, нібыта змораныя ад вечнай работы на полі быкі паваліліся аддыхнуць у цень. За камбайнамі стаялі побач дзве малатарні — МК-1100. Іх, відаць, зацягнулі сюды самых першых і паставілі ля калёснага трактара — ХТЗ, яшчэ пасляваеннага, ад якога цяпер на зямлі ляжалі толькі вялізныя ржавыя грудзі, хаваючыся ў руды мурашнік і ў верас. Малатарні глядзелі на вёску сваімі разяўленымі пашчамі, праз якія вытрасалася некалі салома. У пашчах тырчалі зубы, як у акулы, ляжалі расцягнутыя чорнымі змеямі тоўстыя гумовыя пасы, ячная, выпетраная за гады салома з высахлым зернем — адна скарлупа. Па саломе пайшлі расці жоўтыя і чырвоныя хударыя грыбкі на цененькіх ножках. Над усёй «Курскай дугой» цягнулася падвешаная на бетонных слупах высакавольтная лінія — тры тоўстыя, бліскучыя ад сонца жаўтаватыя правады — ішла з Краснаволля на Белае. Правады трашчалі ўгары нейкім суравым гарачым трэскам — карцела памінутне задзіраць угару галаву.

Валерка абстукаў ключом усё жалезнае, што трапляла на вочы; абпоўзаў на жываце рудую ад іржы траву пад малатарнямі; соваў нос у такія шчэлкі, куды і камар свайго не ўточыць, узганяючы з гнёздаў спалоханых плісак, пасля плюнуў і сеў на старыя драўляныя калгасныя вагі, на якіх вунь колькі ўзважана мяхоў з жытам, ячменем і пшаніцай і якія цяпер яшчэ нават спраўныя — стукнулі ўгары планкай, калі ён сеў. Седзячы, як усё роўна ўзважваў сябе, чаго ён варты з пустымі рукамі, бо не мог знайсці на «Курскай дузе» рысору. Усё, за што можна было зачапіць рукі, даўно адвінчана і адбіта: на запчасткі ў шафёраў і трактарыстаў голад, крадуць адзін у аднаго; можа, толькі што ўтоптана нагамі ў зямлю, дык не стане ж ён, апусціўшыся на калені, драць дзярняк толькі дзеля таго, каб падзяржацца ў Ратнікава за руль. Дарага ён заламаў за свой руль: за зайцамі глядзі, за Таняй глядзі, за Фірагам глядзі... Што ён, Валерка, будзе бегаць за кожным «прычэпам» ззаду, як сабачка? А Ратнікаў перамяніўся — не падыходзь! Ні скажы, ні папрасі. У кабіне сядзіць, як на іголках...

Запякло сонца, запахла сухой травой і горкім мазутам, зазвінелі сляпні. На возеры ля фермы азваліся качкі, за-

лязгалі ля маста машыны — пайшлі на казэс. Над галавой цяжка шаптаді правады; у белых воблаках над імі грукалі рэактыўныя самалёты. Ён пачуў, як яму ўсё гэта ціснe на плечы: і правады, і самалёты, і Ратнікаў з Фірагам, і аж спружыўся ўвесь.

Хай яны самі шукаюць рысоры і апальваюць свечы... І хай паздыхаюць іхнія зайцы пад падстрэшкам у малінніку... Ён паглядзеў на грудзі пад распаласаваную рубашку — на сініх пісягах на целе запяклася чорная кроў. Балела, не сціхала плячо — ад асвы.

Пасля яго адпусціла: не ціснулі на плечы ні воблакі, ні самалёты; у траве заечым вокам закруцілася пчолка; па галаве прабег цёплы вецер, нібыта пагладзіў Ратнікаў:

— Нічога, стары. Пойдзеш у салдаты — там і руль дадуць. Самі пасадзяць. Там прасіць не трэба...

Ён падумаў, што ў сваёй вёсцы яго не падпускаюць і блізка да руля ні Царук, ні Сяржант, толькі Ратнікаў з Краснаволля; што цяпер увесь свет пахне адным Ратнікавым. Ён чуе яго пах усюды, як сабака пах свайго гаспадара: у кабіне, у яго на дварэ, на казэс, на ферме, на полі і, здаецца, дома, калі прыйдзе ў хату. І конаўка ў парозе, дзе п'еш ваду, і падушка ў ложку за перагародкай, дзе кладзешся спаць, пахне кабінай і Ратнікавым... Мусіць, гэта ад яго, Валеркі, пахне ўжо кабінай і Ратнікавым, бо ён сам часта і есць і спіць з ім у кабіне. І яго цягне да Ратнікава не так, як цягне ўсіх малых хлапцоў у вёсцы да мужчын. Сваім дзіцячым розумам ён ужо даходзіў, што ў чалавека павінен быць чалавек, да якога яго б цягнула, і што яго, Валерку, зусім не цягне да маткі, якую ён і заве, як усе ў вёсцы: Волька...

Недзе блізка загаманілі, і ён згледзеў «афіцэрскіх жон». Яны ішлі з вёскі якраз пад правадамі вытаптанай сцежачкай між гранак і — жаба на языку не ўседзіць — пераварочвалі ўвесь свет. Але ён іх не слухаў: калі доўга трашчаць сарокі — да іх прывыкае вуха, толькі акінуў вачыма: чэцвёра. Пасля пачуў, што ўсяму яму робіцца горача — з вушэй: гаварылі пра яго.

— Сядзіць недатыка... Бадзяецца дзе папала, а матка п'яная ля магазіна ляжыць, загаліўшыся. Палучыла зарплату і зачарніліла. Ідзі хоць ногі злажы ўклетку ды спадніцу абцягні... А то мухі кусаюць і людзі смяюцца...

Што сядзела ў яго ў галаве, ён тое і сказаў:

— Мне трэба яшчэ свечы апаліць... На ганку ў бацы ляжаць...

— Якія свечы, дурніло ты. Па матцы, глядзі, каб скора не прыйшлося свечы ставіць... Ідзі ўшчамі якога каняку ды дамоў адвязі. Сама не дойдзе, развязло на сонцы, а ты не давядзеш, слабы яшчэ ў крэсле...

Яны засмяяліся і засакаталі на ўсю «Курскую дугу» — нібыта ажылі і застукалі на лагу старыя разбайдаваныя малатарні.

Ён бег у вёску да магазіна сцежачкай між жоўтага націння, і яму здавалася, што зараз упадуць зверху на яго цяжкія медныя правады і спаляць на чорнае шкло, як пясок ля фермы на дзядзінцы. Пераскочыўшы цераз плот на вуліцу, ён спыніўся: ля магазіна таўкліся, гамонячы, людзі, у дзень зарплаты магазіншчыца, відаць, нешта «выкінула». Пасля, пазычыўшы ў сабакі вочы, прабег узадуперад проці магазіна, цicнучыся да плота — маткі нідзе не згледзеў. Затое яго ўсе згледзелі і сціхлі.

— Дзе Волька? — спытаўся ён са злосцю, натапырыўшыся, як шашок, якога будуць цкаваць сабакам.— Дзе вы яе дзелі? Дзе?

Грумада адразу загудзела; ён пачуў, што яго зараз пачнуць круціць за чырвоныя гарачыя вушы...

— Ты глядзі, як загаварыў...

— Мы яшчэ і вінаватыя... Можа, мы ёй куплялі гэта самае? Можа, мы яе, як цялё, з пальца?..

— Якая яблыня — такі і яблык... Не далёка адкаціўся...

— Не трэба, людзі... Хлапец, во, пачуўшы, аж з дому прыбег. Што ён зробіць? Яна і яго поіць. Пайшла дамоў твая Волька з бабамі. Давядуць...

— Джанік на матацыкле павёз...

— З меліяратарамі паехала. Трубы на балота вязлі і яе ўскацілі... Як трубу...

— Не слухай іх, хлапец. Зубы скаляць. Фірага ехаў і забраў у кабіну...

— Новы бацька будзе. Леспрамгасаўскі...

— Не апошні. Сколькі іх было ў яго, бацькоў...

— Глядзі, агрызаецца. Другі б на яго месцы... А гэты агрызаецца...

— Расце ваўчком. Быў бы бацька — дзяга хадзіла б...

— Павязла. Хоць на адзін вечар, а бацька будзе... Цы-ырк...

Як нячыстая сіла ўскруціла яго — ён рвануўся, адвярнуўшыся ад усіх, і пабег вулачкай да канцылярыі, задыхаючыся ад злосці, а пад нагамі ў яго шастала трава:

бацька-бацька... Хадзіла-дзіла... агрызаецца-заецца... Мінуўшы канцылярыю — і тут на яго глядзелі праз вокны,— ён пусціўся дзядзінцам да старых калгасных свірнаў, каб скарэй выскачыць на загуменне. Бег і чуў, як хапаюць за руку калючкамі дзяды і асот, што разам з белым палыном раслі ля дарогі. Мінуўшы старыя свірны, пабег полем на маяк — высокі, чорны на краі сіняга неба з далёкімі белымі воблачкамі — бег дамоў.

Бацька-бацька... Цырк-цвырк...— пішчала ў яго над самай галавой. Азірнуўшыся, ён згледзеў, што ў яго за плячыма носяцца ластаўкі; пасля ўбачыў, як яны заляцаюць яму далёка наперад, да самага маяка, і нясуцца адтуль на яго, лучаючы ў самыя грудзі...

Ён выставіў уперад рукі, каб засцерагчыся.

Бацька-бацька... Цырк-цвырк...

Пад горла падпёр тугі гарачы камяк, хоць раздзірай; белы свет перад вачыма зрабіўся маленькі-маленькі, як грудкі ў ластаўкі.

Ён упаў у калючы асот і прасяніцу перад самым маяком і, заціснуўшы кулачкамі вочы, сцяў зубы і затросся ўвесь ад плачу, як азяблы сабака ад холаду. Над ім пішчалі ластаўкі — усё радзей і радзей...

## 7

Ён ляжаў дома ў хаце за перагародкай і не мог заснуць: перагародка была невысокая — Волька на яе ўсягды перакідвала ручнікі, сукенкі і белы халат з фермы,— і цяпер адтуль, з першай палавіны хаты нават па заплюшчаных вачах біла жоўтае святло ад лямпачкі. Ад яго ці, можа, ад дробнага ячнага асця і пылу пасля казэс рэзалася пад павечкамі і пякло як агнём.

Праз адчыненае акно ў нагах ля ложка пахла з гарода горкім пылам, бульбеўнікам і кропам з град. У хату наляцела камароў — нылі несціхана над вухам; калі датыкаліся да шчакі, здавалася, што яны вялікія і валасатыя, ад іх аж страсала. Лопаў крыллем на акне матылёк — парупіўся на агонь. Машын на вуліцы не было чуваць — ячмень з Дроздкі вазілі праз Ячнае. Волька, кінуўшы агонь, пайшла на вуліцу, не тупала ў парозе, і ён чуў, як на падлогу капае з вядра вада — покае на ўсю хату. Ён, прыйшоўшы з фермы, як паваліўся вечарам на ложак за перагародкай, дык адразу наліўся свінцом — не кранеш ні рукой, ні нагой, нацягаўся за дзень: пасля Краснаволля

падмяняў на ферме матку. Хацеў устаць і выключыць лямпачку, у цемнаце, можа б, звёў вочы, і не мог — ногі выцягваліся разам з ложкам, рабіліся доўгія, у канец сцяны, а паспрабуй падыміся, стань на такія доўгія ногі... Ён ужо быў праваліўся ў глыбокі бункер з цёплым ячменем, сціхлі, не нылі над галавой камары і не лапатаў матылёк, але бразнулі дзверы, адкінуўшыся ў сенцы да сцяны, і загаманілі на ўсю хату бабы з фермы. Ён аж падскочыў спопаразку на ложку.

— У вёдры, Волька, глядзі. Я ў вёдрах бутэлькі нашу. Ніхто і не падумае. Ідзе баба з фермы, кароў падаіўшы... А баба гэта самая дурное малако валачэ...

Гэта Барбара, ён пазнаў. Барбара — даярка, як і Волька. Выйшла з дзевак, так і не выйшаўшы замуж. Жыла адна без бацькі і без маткі ў чужой старэнькай хаце — пакінулі ёй добрыя людзі, з'ехаўшы. Худая, высокая, чорная; шэранькія вочкі, нібыта ў іх, зменшыўшыся, скруцілася гадзючка, глядзяць злосна і востра, колюць, як шылам. Ніколі не стаіць на месцы, ходзіць і ходзіць, склаўшы на грудзях рукі. Няма злей асенняй мухі і дзеўкі-векавухі...

— Што ты бутэлькамі хвалішся... Ты нам лепш бы мужчыну на закуску прывалакла. Самая ж маладзейшая. За намі з Волькай ужо надта ніхто не пабяжыць. А ты яшчэ чортам падшытая... Хоць бы Рамана з фермы прыцягнула.

А гэта Шурка з-за Віліі. Пераехала ў Крамянец і пайшла на ферму. Калгас адкупіў ёй хату ў цаліннікаў, і яна жыве з дачкой аж у тым канцы вёскі. Высокая, вышэй за Барбару, ціхая спакойная, бялявая і добрая. Гладзіць усягды яго, Валерку, па галаве: Альховенькі — і ў зяці кліча.

— Х-хэ...— азываецца неяк злосна Барбара,— цягнула, ды толькі хвост адарвала. Не пайшоў. Пасля таго разу. Жонка ззаду ходзіць кожны вечар... Каб мы ў яго апошняе, што ён мае, не адчапілі. Я яго за адну руку, а яна за другую...

— А бадай іх... Хоць бы ўжо языкі не распускалі...— сіпла, прыгожым цененькім галаском, зусім як дзіця, прапела Пырышка. Удава. З таго канца вёскі. І робіць яна не на ферме. Яе Аркадзя доўга кашляў і многа піў — ведама, леспрамгасаўскі грузчык. Прывозілі яго кожную суботу да варот і даставалі з будкі, як карча. Прывучыў ён і яе, Пырышку. Можа, каб былі ў іх дзеці, яна не стала б піць. А так... У Аркадзі як пайшоў раз з рота агонь — да

Плешчаніц яшчэ давязлі жывога, але і там адратаваць не маглі. І Пырышка — удава. Ціхая, маленькая, працавітая. І завуць яе не па імені, а — Пырышка. Некалі яшчэ бацька яе, прыйшоўшы ў вёску ў прымы здалёку, на каня, спыняючы, гаварыў не «тыр», як у Крамянцы, а — «пыр». Так і памёр ён Пырам, а дочкі ўсе сталі Пырышкамі.

— Ну дык, бабы... Дзяржысь...— гэта Шурка. Яна ўсягды «бярэ баб у свае рукі»: старэйшая, а ўсё іншыя, нават Волька, у яе — зялёненькія, хоць і пабывалі некаторыя замужам, а — дурныя, як дзеці, нічаму не навучыліся.— Наліць-то мы налілі, згарусцілі па чарцы, а за што п'ём? За што піць будзем, бабы?

— Звесна, за што. За нашу бабскую долю...— гэта Волька, матка. Яму ад гэтага горка-горка, да слёз. Устаць бы — ды іхнія і вёдры і бутэлькі ў парог, дзе капае вада... І чаго гэта матка стала іх прыводзіць ноччу? Перш дык яны днём збіраліся, а цяпер ноччу. Мусіць, Дзярызямля іх ганяе, у таго надта не пацягнеш з рыльца... Пасля Валерка забываецца і на Барбару, і на Шурку, і на Пырышку, нібыта іх і няма ў хаце за сталом, і думае толькі пра матку: шэрая зрабілася, худая. Загарэла, чорная з твару, толькі маршчыны беленькія і дробненькія, нітачкамі, як валяр'янаў корань — прыплюшчваецца, не бачыць ужо далёка. Перш дык яна і спала з ім, Валеркам, на адным ложку — грэла, а цяпер, даўно ўжо, і спіць дзе папала: на лаве, за сталом седзячы, на падлозе. А то і зусім дома не начуе — на ферме ці дзе, як гавораць у вёсцы, пад плотам...

Дыхнула з гарода праз акно палыном, засеў у горле горкі камок, яшчэ горш зрабілася шкода маткі... Ён заціснуў кулачкамі вочы і сам уціснуўся з галавой у падушку, пачуўшы, як ад яе яшчэ пахне маткай...

— Як за што? Зарплату замочым... За добрую палучку. Калі мы па гэтульки палучалі? Дзець некуды. Распусціць не спраўляемся... На кніжку кладзём...

Барбара... Яна спрытнейшая. У яе і кароў на ферме больш, і палучае яна ўсягды больш, чым другія.

— А я не хачу піць ні за бабскую долю, ні за палучку!..— аж закрычала Шурка. Відаць, устала за сталом і гаворыць стоячы.— Я хачу выпіць з мужчынам... Каб мужчынам за сталом пахла, калі пасцель пахне толькі бабскім потам... Дзе Валерка? Леспрамгасаўцаў няма. Выразалі лес і хвастом накрыліся. Мінскія шафяры не ездзяць. Фірага з аўтакалоны ўжо не падхаўтурыш... Фірагу на нашу карчму і не глядзіць. Відзелі, дзе сёння машыну па-

ставіў? Нам бы хоць Рамана... Дык нават і Рамана няма. Каб і хацеў у каго пітаны здзёрці — няма... Дзе Вальерка? Вальерку за стол!..

Яна так і звала яго ўсягды: Вальерка.

— Ты што надумала, Шурка? Хлапца? — цененька, зусім як дзяўчынка, пішчыць Пырышка.— Хай спіць хлапец. Не крычы, усю вёску разбудзіш...

— А я і не баюся... Я яшчэ пець буду... Выйду на вуліцу і буду пець усю ноч, каб усе чулі, што я вясёлая... Можа, які наш вясковы неўздаляка прачнецца... А то папрыліпалі ўсе да сваіх баб. Не адарвеш...

— Не здумляй, Шурка. Не чапай Валерку. Я яго ад гэтага адганяю. Сама — то сама. А сына адганяю...

— А я з ім хачу выпіць, з мужчынам! Я яму — піва. Піва можна. Я з ім, як з мужчынам, вып'ю. Не такі ён у цябе малы. Не маль ты яго. У зяці скора вазьму... Вальерку за стол! Дзе ён там у цябе. Я яго сама за стол прывяду.

Пасунулі падлогай услон і загрукалі нагамі — Шурка ішла па хаце да перагародкі.

Акно было адчынена, Валерка толькі адхінуў далей раму з падаконніка ў цемнату і скочыў у мокры ад расы канаторжнік і крапіву. Чуў яшчэ з гарода, як клікала яго ў хаце Шурка.

Ён бег вуліцай ля самага частакола, каб не згледзелі здалёку, і церабіў шчокі — пакусала пад прызбай крапіва. За паваротам, за вярбой, пачаліся платы — чорныя палосы жардзя ў сіняй цемнаце. З акна ад гарода ў Алімпіяды на зялёны бульбеўнік падала жоўтая паласа агню. Ён спыніўся на вуліцы ля лавачкі. Усюды было ціха, і ён пачуў, як гаманілі недзе далёка і глуха, што ў яме. Вуліца пахла пылам і ячменем, як бункер на казэс; лёгкія, вёрткія кажаны ўгары над галавой сваім чорным крыллем кралі цьмяныя летнія зоркі. З-за плота ад фермы патыхала вялым бульбеўнікам, лебядой з мяжы і свежай салляркай. На дзядзінцы воддаль ад вуліцы ля плота леспрамгасаўскі МАЗ закрываў высокай кабінай, як гарой, страху на ферме. МАЗ быў без прычэпа, толькі два пярэднія канькі тырчалі ўгару — у зеленаватае ля кароўніка неба, дзе вечарам зайшло сонца.

Валерка падбег да варот, пастаяў, слухаючы, тады пералез цераз іх — не стаў адчыняць, ведаў, што скрыпяць; падышоў да дзвярэй у сеначкі, крадучыся ля самай сцяны: у хаце смяяліся.

«І праўда — Фірага...— Яго ён пазнаў бы дзе хочаш. Пастаяў, паслухаў яшчэ, як гаварылі.— Фірага-а...»

Адскочыўшы на дрывотню, падняў з-пад ног белы аскоблены сасновы сук, вярнуўся да дзвярэй, надзеў клямку на прабой і засунуў у яго сук ніжнім, танейшым канцом. І назад, на вуліцу, ён кульнуўся цераз вароты і, спатыкаючыся па каменні на дзядзінцы, падбег да МАЗа.

Кабіна была халодная. І ручка ў дзверцах была халодная і слізкая. Яго самога кінула ў холад, як пад раніцу ў бункеры ў ячмені.

«Ну, аўсяная салома... Доўга ты мяне будзеш сніць»,— разам з дрыжыкай яго хапіла нейкая шалёная радасць — сам не ведаў яшчэ, ад чаго.

Дзверцы ён адчыніў з зямлі; падскочыўшы, укуліўся, як мячык, у кабіну. У нос дыхнула кірзай ад новага сядзення, саляркай і папяросным дымам, як з накуранай хаты. На сядзенні ляжала кругленькая пляскатая Фірагава кепачка і цьмяна блішчэлі бляшанкі — кансервы. Ён вобмацкам адсунуў іх з-пад сябе, зачапіўшы каленам спераду белы ў цемнаце ланцужок — ланцужок быў доўгі, зачэплены за ручку ад тайнічка, ён калыхаўся і бразгаў па жалезе.

«Забыўся на ўсё... Пакінуў... Значыць, яму сёння не да машыны».

Заглушка адкрылася лёгка — пстрыкнула ціхенька, як баючыся, каб не нарабіць бразгату. Старцёр азваўся адразу, быў што напагатове; падскочыла толькі, задрыжаўшы, кабіна і зашумеў знадворку вецер. Перадача ўключылася лёгка — паціснуў толькі даланёй па цвёрдай галоўцы на рычагу. І счапленне выціснулася лёгка, не так, як у Ратнікава ў «газоне». МАЗ зароў на ўвесь дзядзінец, кінуўшы адразу ўперад кабіну і прыціснуўшы яго, Валерку, да сядзення. Ён ухапіўся рукамі за руль — і руль лёгка круціўся ў руках — і павярнуў на дзядзінец ад плота. Падумаў толькі, што такі вялікі МАЗ вунь як лёгка завесці. Уперадзе зачарнела ў цемнаце ферма, і ён уключыў дальняе святло — баяцца ўжо не было чаго. Агонь ад фар выхапіў з цемнаты студню — белы як снег зруб, нахілены асвер; парнік з сівой, што палын, сцяной і вялікае белае каменне на дзядзінцы ля дарогі. Ён узяў правей, каб, выязджаючы на дарогу, не лучыць на каменне. Адразу рвануў да лесу, секануўшы здалёку агнём па сосніку: ведаў, што будуць даганяць.

У раскошнай новай кабіне яго кінула аж да дзверцаў,

і ён стаў ля руля на шурпатую падложку. З сядзення, бразгаючы, пасыпаліся бліскучыя кансервы, лучаючы на ногі і б'ючы што каменнем, і сталі качацца па падложцы ўзад-уперад. Ён учапіўся рукамі за руль і ўпёрся нагамі ў падложку — баяўся, каб не выкінула з кабіны. Пасля сядзенне выраўнялася, матор завыў роўна і ціха, уперадзе ў агні замітусіліся белыя матылькі і забялелі, як ад снегу, дзве глыбокія роўныя каляіны, выбітыя цяжкімі леспрамгасаўскімі «прычэпамі». Ён укінуў колы ў каляіны, стаяў, дзержачыся за руль і баючыся, каб іх не выбіла наверх, але колы роўненька ішлі торам па цвёрдых, белых ад фар каляінах, руль стала лёгка дзяржаць у руках, і сам МАЗ, вялікі і цяжкі, слухаў руль, як добры стары конь лейцы. Валерка ўздыхнуў, супакойваючыся, і, прытармазіўшы, зірнуў назад у акенца — ці даганяюць? Кальнула ў вочы чырвоным агнём ад стоп-сігналу, што гарэў недзе высака знадворку. Пацямнела адразу ў кабіне, і ён, успомніўшы, уключыў верхняе святло — плафон над галавой. Пад сінякаватым, трэснутым з краю плафонам загарэлася слабенькая лямпачка, асвяціўшы шырокую бліскучую кабіну бляклым святлом, як ад месяца. МАЗ роўненька поўз і поўз наперад па белых канаўках, і Валерка, пачуўшы, што ад стайні дрыжаць у каленях ногі, плюхнуўся на сядзенне. Яно падкінула яго, і ён, нібыта чорт сунуў яму рогам пад паху, закрычаў на ўсю кабіну і на ўвесь цёмны лес:

— Гэ-эй!.. Даганяй, новы бацька!..

Белыя палосы агню сцебанулі ўперадзе па соснах, што ўсё роўна заляпіўшы іх снегам. Ён ведаў: дальняе святло б'е метраў на трыста, але, здавалася, яно свеціць сёння зусім блізка, толькі спераду пад носам, рукой дастаць, і адтаго было боязна: гнаў жа на трэцяй. І дарога, асвечаная ноччу пругкім яркім святлом, здавалася зусім чужой, нібыта яе ні разу не бачыў, хоць усе калдобіны на дарозе ў лесе вытаптаў сваімі босымі нагамі. І сам сябе ён не пазнаваў. Як усё роўна нейкі маленькі, з кулачок, вожык, сядзеўшы ўнутры дагэтуль, пачаў расці, распіраць усё ўсярэдзіне і вылазіць наверх. Назад заціснуць яго ўжо не дасі рады — разрастаецца, робіцца вялікі, з яго, Валерку, бярэ з рук руль і крычыць на ўсю кабіну:

— Гэ-гэй, аўсяная салома... Мы табе пакажам новага бацьку! МАЗ Жоўтага Берага ў Вілію... Даставаць будзеш трактарамі... Н-новы бацька...

Пасля ён падумаў, што ніякага вожыка нідзе няма, сам як вожык: калючы ўвесь, не дакніся, прасадзіць любога;

сухі і гарачы — пыхне ад іскры, як бензін, і злосны, нібы сабака, якому соваюць палкай у зубы, на ўсіх мужчын на свеце і гатовы ўчапіцца зубамі ў горла ўсім шафярам, што ставілі машыны ля іхняга плота, усім старым і новым бацькам... Хай бы сталі яны цяпер у яго на дарозе, хай бы хапавыходзілі на агонь ад фар з-за цёмнай перагародкі з хаты, куды поўзалі адзін за адным усе гэтыя гады. Усіх у Вілію разам з МАЗам!.. З высокага берага пад лазу ў вір!

Ядрана гудзеў матор, разносячы рэха па цёмным лесе, рассечаным надвае белай паласой ад фар. Паласа, як шырокі наточаны меч, кроіла чыстую мяккую ноч; задзіраючыся ўгару, падымалася верх лесу і свяціла ў неба, калышучы і перамешваючы цемнату, як раллю. У кабіну паганяла вецер, халодны, настоены на сухой сасновай смале, багунніку і горкім лясным палыне з дарогі, і ў яго, Валеркі, раптам азвалася ў душы воля. Ляжала ўсе гады недзе на дне, затоеная да часу, тлела іскрай, а цяпер стукнула ў грудзі, як стукае даросламу вясковаму хлапцу, і клікнула за сабой: гэ-гэй! Ты вольны, як птушка, можаш разагнацца і ўзляцець, хоць і на злом галавы... Яму толькі адзін раз, калі дохлі ад сонца быкі, даверыў машыну аднаму Ратнікаў, а то — сядзіць збоку ў кабіне, як міністр, галавой толькі махае, што качар, а ты яму за гэта кармі зайца, апальвай свечы і глядзі яшчэ, каб «аўсяная салома» не натрасла мякіны на вуліцы ля Тані...

На волю штурхала ўсё яго кароценькае жыццё, халоднае з першых жа год, абмацюганае шафярнёй, абсмуроджанае тытунёвым дымам і самагонным гарам і праколатае вясковым бабскім пальцам: «Байструк!» Спачатку, як ён помніць, гаварылі ў вёсцы — Волька дома ніколі не гаварыла, і ў яе ён не пытаўся, рэж — не запытаецца! — што яго бацька Корань з Белага: альховыя галовы ў аднаго і ў другога. Ён зненавідзеў Кораня з Белага і ўсягды ўцякаў, каб нават і не глядзець у яго бок, і цяпер уцякае з вуліцы, калі затрашчыць бальнічны матацыкл. Пасля сталі гаварыць, што яго бацька — Фірага з леспрамгасаўскай аўтакалоны... Яны, усе яго бацькі, сніліся яму часта ноччу: ён плаваў глыбака ў сіняй вадзе сярод сваіх бацькоў, а яны, яго бацькі, круціліся ля яго, як кіты, якіх ён ніколі жывых не відзіў, і сцёбалі вялікімі халоднымі хвастамі яму па твары...

Гэ-гэй!..— клікала яго воля, і ён націскаў сваёй дзіцячай нагой на газ. Па-дурному паявіўшыся на свет, ён і жыў дагэтуль па-дурному і цяпер рабіў дурное.

Калі ён падрос, у вёсцы перасталі напамінаць яму пра бацьку. Цяпер у вёсках дзяцей без бацькі — пруд прудзі, але яму не лягчэй ад таго, што перасталі гаварыць і паказваць пальцам...

Дзе яны, яго бацькі? Хай бы знайшоўся смелы, махнуў у яго на дарозе хвастом...

Калі ён так думаў, яму здавалася, што далёка ўперадзе, як дастаць фарамі, калышацца сіняя вада і ў ёй выкручваюцца слізкія кіты... І ён націскаў на газ, крамсаючы пражэктарамі сінюю ваду, і крычаў — ад злосці і ад радасці.

Воля і дарога, відаць, і робяць вясковых хлапцоў шафёрамі... Калі раніцай, выскачыўшы з хаты на двор і абмыўшы ля ганка халоднай вадой вочы, забыўшыся схапіць на хаду са стала лусту хлеба са скрылём чырвонай паляндвіцы, бяжыць хлапец з усіх ног на дзядзінец да калгаснай канцылярыі, дзе ўчора ноччу паставіў машыну... Калі, бразнуўшы дзверцамі і падняўшы з зямлі вераб'ёў на вуліцы, заварочваецца на загуменне і па роўнай дарозе, утаптанай спрадаўна яшчэ босымі нагамі чалавека, конямі і калёсамі, націскае на газ... Забывае тады на ўсё на свеце... На тое, што стукае матор і трэснула рысора; што свечы хоць ■ калена ламі, бо і ўкрасці няма ў каго; што будзе гарачы дзень ■ потам, з пазбіванымі аб дзверцы рукамі; што зноў будзеш у рэйсах да поўначы, пакуль ад расы не стануць камбайны... І як не забыцца на ўсё, калі цягне ўперад дарога, якая белай вузкай палоскай пасцялілася з загумення на Дроздку і дрыжыць ад ветру, пылу і ранішняга гарачага сонца; калі ў кабіну б'е тугі вецер з асцём, пылам, машкой, горкім пахам дурнап'яну і сухога, аж падгарэлага за лета ячменю... І ехаў бы тады на край свету, не варочаючыся дамоў...

Наперадзе пад агнём заблішчэла вада. Вілія яшчэ не магла быць, да яе пяць вёрст; ён здагадаўся, што гэта лагчына перад дзялянкай, куды нагнала ў дажджы вады, што ён зблудзіў і ўкінуў машыну ў каляю, каляя і звяла яго са старой пагранзастаўскай дарогі на дзялянку, адкуль леспрамгас браў хлысты. Вярнуцца ён збаяўся — не акруцішся ў лесе — і рвануў па вадзе: выедзе, у канцы пасекі ёсць тор на Жоўты Бераг. У кабіну на твар і на рукі праз апушчанае шкло ў дзверцах густа пырснула вада. Запахла тванню, халоднай і кіслай, як на балоце. Не блішчэла больш на дарозе вада: між каляін на чорнай зямлі паказалася сагнутая папараць — пачыналася пасека. Белы

агонь ад фар адагнаў цемнату ў далёкія куткі, нібы змахнуў павучынне, пасека зрабілася ўся белая, як зімой ад снегу, калі яна ляжыць ціхая і чыстая, пасыпаная з начы ядраным сінім інеем, і над снегам, нагнуўшыся да зямлі, гарыць агнём змёрзлая ў гронках чырвоная каліна... І далёка ў кутку ля маладога асінніку чарнее на снезе ласіха з падгададаваным падцёлкам. А па снезе, па голым бліскучым маліннiку, па абледзянелых пнях пырхаюць гілі з чырвонымі, як жар, грудкамі...

Пачало падкідаць на ляжнёўцы, здавалася, душу вытрасе, і ён зноў стаў у кабіне, учапіўшыся нагамі за падложку і рукамі за руль. Згледзеў, што ўперадзе гарыць ладным высокім полымем агонь, а белыя палосы ад фар ліжуць чырвоны пагрузчык з задзёртай угару клюшняй — змываюць з яго чорную густую цемнату. Ля агню замітусіўся з бензапілой у руках стары Жораў. Такога пазнаеш і без падсветкі: шэры дробны павук плёў сабе павуціну — ноччу, далёка ад чужых вачэй, смела, без страху і рызыкі, крыжаваў бензапілой хлысты са шліхты адразу на маленькія калодачкі, як у печ.

Каляя вяла якраз на Жорава, на кучу круглых белых асінавых калодак, і Валерка націснуў на газ, як у вёсцы ля маста, калі падымаў белых гусей з зямлі ў лёт.

— Гэ-гэй! Жаніцьба Фірага!..— крыкнуў ён вычытанае ў канцылярыі з газеты, не ведаючы нават, што незнаёмае слова прачытаў некалі не так, як трэба, бо Фігара для яго не існавала, бо і ў галаве, і на языку быў Фірага.

Стары Жораў спачатку і вухам не вёў: спяшаўся — рана пад'ехалі па калодачкі, не чакаў. Тады выпрастаўся, выпусціў з рук пілу і, закрыўшы локцем вочы ад фар, скочыў убок. Пасля зноў паявіўся перад машынай — схапіў бензапілу і пацягнуў яе з дарогі за шліхту, як сабака костку.

— Гэ-гэй! У Вілію! Усіх да аднаго! — закрычаў Валерка, стоячы і сціскаючы рукамі руль, аж пальцы забалелі. Белыя асінавыя калодкі разляцеліся ў бакі, як гусі на мосце. Ён згледзеў яшчэ, як махаў яму кулаком стары Жораў і з-пад ног у яго рваўся пад машыну сабачка. Вочы ў сабачкі блішчэлі ад агню, як вугольчыкі, і брахаў ён кароценька і дзярката: Фір-р-р-рага...

— Фірага — брага! У Вілію ўсіх к чортавай мацеры!..

Каляя крута вільнула ўбок, і ён, каб не стукнуць у чырвоны, як рак з клюшняй, пагрузчык, рвануў руль улева ў дзве рукі... Белыя палосы ад фар выхапілі з цемнаты

роўныя, доўгія і высокія, як хаты ў вёсцы, шліхты з хлыстамі; пакінуўшы іх справа, ляглі на зямлю, на крывыя глыбокія калдобіны, з якіх тырчалі, пазадзіраўшыся ўгару, дровы-метры — зноў пачалася ляжнёўка, якая вывела яго аж пад самыя Леснікі.

Зноў дыхнула ў кабіну халодным ветрам і закалола ў шчокі сасновайігліцай, паднятай з зямлі. Белая ад фар дарога паміж белых сосен пад навіслым верхаллём заблішчэла раптам, як халодны заснежаны тунель, і яго, Валерку, пацягнула туды з МАЗам, як у вір...

Дарога на Жоўты Бераг да Віліі была ўжо далёка ззаду, на Каралінскай пасецы, парослай сасняком, на якой валяюцца паржавелыя пяты ад нямецкіх мін і ручкі ад гранат, гавораць, яшчэ даваенныя, са стрэльбішча, якое было недалёка ад пагранзаставы да трыццаць дзевятага года. Стрэльбішча — бугор зямлі, усланы мохам і верасам — парасло за гэтыя гады соснікам вышэй чалавека, але разам з казлякамі і рыжыкамі падымеш яшчэ ручку ад гранаты, чорную, ржавую, з рычагом пасярэдзіне. Націснеш — рассыпаецца і рычаг і ручка: з'ела ржа. І пяты ад нямецкіх мін, і ручкі ад гранат, і казлякі з рыжыкамі, і воўчыя сляды на пяску на пасецы, шырокія, не закрыеш даланёй, і дзікія козачкі, якія скачуць цераз дарогу, калі, седзячы ў кабіне побач з Ратнікавым, вязеш сена з лугу ў пуню на ферму, і сама Каралінская пасека, сіняя ад маладога сосніку і туману, і Жоўты Бераг з каменнем ад спаленай у вайну пагранзаставы, што парасло мохам,— усё асталося ззаду, адарвалася, як прычэп ад машыны, і панеслася на край свету...

Хай жывуць яны ўсе: і козачкі, якіх, асляпіўшы фарамі, можна растаптаць у блін, і бацькі, і ўсе шафёры на свеце — мінскія і леспрамгасаўскія, хай топчуць зямлю, не стане ён іх скідваць з берага ў Вілію, не стане гробіць МАЗа, які ные на ўвесь сонны лес, а здаецца — табе аднаму на вуха...

Наперадзе за Леснікамі і за Горнам — шаша, брукаваная, шырокая, якая вядзе аж у Плешчаніцы і на якой ён быў толькі адзін раз... І хай даганяе «аўсяная салома»...

Ён высунуў галаву з кабіны — цёмная ноч сыпнула ў вочы халодную стоўчаную сухую кару.

— Гэ-гэй! Аўсяная салома-а!..

Хай даганяць, хай насыпяць солі на хвост. Зямля круглая, і калі хопіць саляркі ў бачку пад кабінай, ён аб'едзе яе за ноч кругом і вернецца раніцай дамоў у вёску.

— Гэ-гэй!..

Пагоні не было. Наперадзе пад фарамі распласталася крыжавая дарога. Ён паварочвае руль управа, і сам, як усе шафёры на свеце, паварочвае за рулём управа галаву.

— Гэ-гэй! На шашу! Жаніцьба Фірага!..

З поля, як з вентылятара на казэс, дыхнула ў твар цёплым пылам — блізка ля дарогі разварочваўся камбайн, цьмяна калышучы адной фарай цёмнае поле, непаваротлівы, цяжкі, прыціснуты чорным небам да зямлі. Ён ніколі не можа ўзяць разгон, яго і зрабілі толькі для таго, каб ён поўзаў, як жук.

— Гэ-гэй! Паўзі-і!..— крыкнуў ён на поле камбайну.

Палосы ад фар сцебанулі неба і схапіліся за высокі маяк — дарога пайшла на Леснікі.

Ноччу ён ніколі не ездзіў чужой вёскай. Калючы халадок пабег па спіне, нібы за рубашку сыпнулі жменю настылых сасновых іголак. Ён паставіў нагу на тормаз — маленькі брызентавы паўбацінак на пляскатую шырокую педаль...

Вуліца ў Лесніках была пустая. Пуста было і пад фарбаванымі ў зялёнае і сіняе вокнамі на лавачках. Запахла з хлявоў сенам і скацінай. Заблішчэлі цьмяныя агні ў вокнах за абажурамі і фіранкамі.

Сонная, ціхая вуліца прапусціла яго з МАЗам — едзь, даганяй тых, хто цэлы божы дзень з раніцы да вечара бразгаў прычэпамі, аж звінела ў вушах, дай супакоіцца, заснуць, забыўшыся яшчэ на адзін гарачы доўгі трудны дзень...

— Гэ-гэй! Масква — Варонеж!..

Выключыўшы счапленне, ён каціўся з гары ад Леснікоў да шашы, пакідаючы збоку Горна — вузенькую палоску агнёў. Шумела толькі ля вушэй, і яму здалося, што ён сядзіць на сядле на веласіпедзе, на якім дападаў аж сюды на шашу пад Горна. Веласіпед з белымі бліскучымі абадамі, не глянеш пад сябе — слепнеш, з вялікай, як ладнае сэрца, фарай ля руля — сам паставіў з дынамкай,— ляжыць дома ў сенцах пабіты і пагнуты. І Вольцы цяпер няма на чым ездзіць у Ячнае ў магазін і ў Краснаволле па зарплату. Новы не купіць. Раз сказала: не, то не купіць. А колькі ён на ім пакалясіў: Ячнае, Краснаволле, Жоўты Бераг, Леснікі... Сцежачкі ля дарогі ў лесе цвёрдыя, чыстыя — падскокваеш толькі на карэнні, і стрэпае аб спіцы сіні верас; разагнаўшыся, топчаш і грыбы, і брусніцы, і вужоў... Лезуць у вочы камары, і пырскае пякучая машка.

Яны пухнуць, слязяцца, свету не відаць, і дома ўсё яшчэ рады не дасі, пакуль маці не прыйдзе з фермы і не падастае з вачэй чорненькую расціснутую мошку кончыкам языка.

Блiснула ззаду дробным агнём Горна і патухла. На гару з лагчыны давялося паўзці, як слімаку на камень; на шашы пад коламі зашаптаў роўным ціхім шэптам брук; у кабіну хлынуў вецер [redacted] ячменем і лубінам, як ля Краснаволля — летам усе дарогі пахнуць ячменем і лубінам,— і ў душу зноў хлынула радасць ад бяскрайняй шырокай волі, калі замірае сэрца, калі, здаецца, адарвешся ад зямлі, закруцішся і згарыш на попел у цёмным бяздонні, дзе вечны морак, холад і зоркі.

— Гэ-гэй! Зямля-я!..— крыкнуў ён усяму свету.

Зямля круглая, але яе за адну ноч не аб'едзеш. Шаша пустая, ніводнага агню насустрач, але яна кончыцца, як канчаецца ноч, і тады будуць Плешчаніцы, раённы цэнтр, з міліцыяй, з леспрамгасаўскай аўтакалонай на базе, з вакзалам і аўтобусам, які ўсягды ранелька, у шэсць гадзін, выедзе на Белае. Плешчаніцы для яго сціскаліся, як гармонік, у адну шэрую старую вялікую будыніну — міліцыю, усё астатняе для яго было — воля, дзе ён можа круціцца, як пушчаны ваўчок, якога ніхто не спыне, пакуль ён не зморыцца, накруціўшыся да дурнаты, і не бразне галавой ад падлогу. Ён знаў ужо ў свае гады, што ўсё на зямлі канчаецца рана — позна, як і дарога... Машыну ён адгоніць у Плешчаніцах на базу, вароты Анкуда адчыніць, падумае — шафярня. А калі не падумае? Не, МАЗ трэба паставіць на вуліцы ля міліцыі. Ля міліцыі любы можа стаць. Выйсці ціха і спакойна пайсці, калі нават глядзець будуць тры пары вачэй. Раз стаў — значыць, трэба. Раз выйшаў і пайшоў — значыць, нешта рупіць. Ён жа не ўзяў, не пагнаў машыну, а — прыгнаў, паставіў, дык чаго ж яго лавіць за каўнер. А раніцай прыйдзе міліцыя на работу — стаіць машына. Ну і няхай стаіць, мала чаго з леспрамгаса пад'ехаў шафёр у міліцыю. Можа, што нарушыў, можа, клікнулі і ўклеілі па першае маё... А машына стаіць — хто гэта з базы пабяжыць яе шукаць у міліцыю? Анкуда? Стаіць машына да палудня, стаіць да вечара. Тады ўжо ў міліцыі бяруцца за трубку, звоняць у леспрамгас у кантору і гавораць самому Асцюку ў вуха:

— Што гэта, даражэнькі, у цябе прастой? Хто ж план даваць будзе? Што? Ды ваш МАЗ. Стаіць тут цэлы дзень... Вераб'і абкакалі... Што? Нумарок які? БП 13—13...

— Фірага! — плюне і аж падскочыць Асцюк.

А можа, якраз наадварот: звоніць Асцюк у міліцыю начальніку:

— Памажы, дарагі... Ні Фірагі, ні яго калымагі...

— Міліцыя ўсё можа,— адказваюць яму.— Назавіце нумарок вашага Фірагі. Так-так... БП 13-13. Стаіць ваша калымага. Ля нас, ля міліцыі. Мы яе даўно знайшлі, не чакалі, пакуль вы пазвоніце. Мы працуем як паложана. Праўда, ваша калымага без прычэпа і без Фірагі, але спраўная, і ўсё на месцы. Прыязджайце, забірайце. Што? Тут ужо самі вінаваты. Так, даражэнькія, так. Машыну знайшлі адразу, а чалавека возьмемся шукаць праз трое сутак. Так, так... Не кіпіце! Усе прыходзяць дамоў, ніхто больш трох сутак не гуляе... Прыйдзе і ваш Фірага, як выйдзе з галавы брага...— смяецца міліцыя і кладзе трубку.

— Гэ-гэй! Міліцыя!..

Брук на шашы белы ад агню, як ад снегу; калі па ім бегаюць палосы ад фар, здаецца, што праз шашу мяце снег, нібы зімой у мяцеліцу. Густы, халодны — аж слёзы з вачэй — начны скразняк, вот-вот падхопіць з кабіны, як жоўты асенні ліст, і кіне праз дзверцы, дзе апушчана шкло, на стылае поле. Холадна, што ўсё роўна нырнуў раніцай у возера ля дамбы, каб змыць пыл і асцё пасля камбайна. Холадна будзе і ноччу ў Плешчаніцах у парку на фарбаванай лаўцы з вузенькіх цалёвачак. Трэба ж недзе скруціцца ў абаранак, калі кончыцца салярка: сядзець у кабіне да раніцы — рызыка. Заснеш, адчыняць дзверцы і цёпленькага адразу ў капэзэ за высокую агарожу з калючым дротам наверсе...

Калі будзе холадна ў парку на лаўцы, можна пайсці ў аўтобусны вакзал, вялікі, драўляны, дзе перш была бальніца. Бывае, нанач і дзвярэй не замыкаюць, а будуць замкнуты — можна абысці і залезці з гарода праз акно: вокны ўсягды адчыніш, а то і іх летам у гарачыню кідаюць адчыненыя. Можна будзе напіцца з пагнутай алюмініевай кружкі злечанай за дзень прэснай праціўнай вады, якая пахне бляшаным бачком; паваліўшыся, расцягнуцца на фарбаванай падлозе ў кутку ля кафлянай бліскучай грубкі і праваліцца адразу на той свет, не чуючы, як праз адчыненыя вокны сыпануць з усіх Плешчаніц камары, абляпяць з галавы да ног, і запяе ад радасці курню вакзальны стары шэры кот... Раніцай разбудзяць першыя пасажыры-ягаднііцы; прыйдуць далёка яшчэ да першага аўтобуса і будуць гаманіць знадворку пад вуглом, топчучыся

і бразгаючы парожнімі вёдрамі, як дома ў вёсцы бабы пад сцяной, дзе павесіў брыгадзір нарад на работу. У аўтобус цяпер, калі бабы з вёдрамі лезуць, адна адну збіваючы з ног, каб не астацца,— уціснуцца без білета раз плюнуць...

А чаго рвацца дамоў! Дома, хоць за руку і не злавілі, усё адно возьмуць за чэрці: і Волька — ад яе можна адмахнуцца, не б'е, добра ўжо трэба вывесці; і Ратнікаў — перабаршчыў, Руды; і Дзярызямля — гэты, калі пачуе, сам прыедзе да хаты на «казле», гэтаму на вочы не пападайся: калонія... Лепш за ўсё не лезці ні ў які вакзал, ні ў аўтобус. Сцюцюрыўшыся, падкорчыўшы пад сябе ногі, можна ўлежыць і на лаўцы ў парку, пакуль не пойдуць Плешчаніцамі першыя машыны на Бегамля. Машыны — і кузаўныя і «прычэпы» — спыняюцца ля гасцініцы, драўлянага доўгага прысадзістага дома, падобнага на аўтобусны вакзал. Магазіны, ларкі, чайная і нават «Дунай», дзе прадаюць піва, закрыты, а машыны становяцца. Шафёры выскокваюць, бягуць да «Дуная», пасля варочаюцца і, злосна стукнуўшы дзверцамі, рвуць з месца, аж зямля стогне. Вось тады, калі шафёр ад злосці грукае дзверцамі, ён нічога ля сябе не бачыць, вось тады і куляйся цераз борт да яго ў кузаў. Залазь ці пад брызент ля кабіны, ці зарывайся ў мяхі і ў стружку і храпі нанава аж да самага Бегамля ці Докшыц у цяпле, калышучыся, як у калысцы. І хай гарыць яно ўсё на свеце сінім агнём...

З кузава можна вылезці, дзе захочаш: у Бегамлі, у Докшыцах — машыны ўсягды становяцца ля чайной. Можна злезці і перад Бегамлем, пачакаць даўгінаўскага аўтобуса і падацца на Вілію. Але для гэтага трэба будзе лупіць на хаду шафёру кулаком па кабіне, ніхто ж не ведае, што ты там, у кузаве, і што табе какаць хочацца. Але не ўсякі шафёр становіцца адразу ад твайго кулака — адвернецца паглядзець праз акенца ў кабіне, а то і галаву высуне ў дзверцы: «Шантрапа, маць тваю!.. Завязу і здам у міліцыю!» — і на газ націскае. А для чаго тады брызент у кузаве? Бярэш і акуратненька так закрываеш яму свет і спераду і з бакоў, каб галавы не высоўваў — каўпачок такі цёмненькі зверху на яго надзенеш... Становіцца як міленькі. «У бога маць!» — крычыць, не могучы выкарабкацца з-пад каўпака, торкаецца, як мыш, але ты яго ўжо не чуеш: ты ўжо за бартом у кустах. Паляпаеш толькі сябе па задніцы: пацалуй таго, каго не дагоніш... На даўгінаўскі аўтобус шафёр не хоча браць: плаці. Сам не залезеш, гэта не кузаў, возьмуць за шкірку і выкінуць. Але заступяцца

бабы, чужыя — ён іх і ў вочы ніколі не бачыў,— старыя добрыя вясковыя бабы: «Што гоніш, як сабаку? Не відзіш, дзіця яшчэ? Чуць жывы, ногі чуць валачэ. А можа, ён да хворай маткі ў бальніцу ездзіў? А можа, кніжкі сабе купіць хацеў, ды грошы пасеяў?..» Ды ўсім аўтобусам, ды за цябе на шафёра... Шчокі гарэць, слёзы сыплюцца і, як сабачка — не пускаюць, а ты бачком, бачком, агрызаешся нават на шафёра. А бабы крычаць ужо: «Ну і шафёр!.. Давёў!.. Дзіця плача... Калі ты такі жмінда, то мы самі табе па капейцы скінемся!..» Пасунуцца на сядзенні, ля сябе пасадзяць, па галаве яшчэ пагладзяць і яблык у рукі дадуць. Яблык той гарачы, як вугаль з печы; праваліцца хочацца скрозь аўтобус, але адварочваешся да акна і едзеш разам з усімі, і калыша ўжо цябе, як усіх, і ўгрэўся ты, як усе, хоць расшпіляйся, і забыліся ўжо на цябе, заняўшыся сваім, і шафёр і бабы, і ты такі ж пасажыр, як усе,— выпрастаешся на сядзенні і пачынаеш глядзець круга сябе спадылба. На прыпынку ў Пагосце першы ціснешся да дзвярэй, а раптам успомніць — вінаваты не аднаму шафёру, а ўсім! — і яблык хаваеш у жменю, як крадзены. Выскачыш з аўтобуса і — воля! Адзін, сам сабой. Бяжыш з Пагоста на луг да Віліі; у нос з заток б'е цёплай сырасцю; на лузе стагі, дзе можна начаваць, і далёка пад лесам падласая скаціна. Спяшыш на той бок ракі, на Жоўты Бераг, пад дом, узганяючы з рэдкай зялёнай атавы бацяноў. Луг ля Віліі скасілі, і касцоў, як перш, няма — ніхто вечарам не накорміць і не пусціць начаваць у будку. З касцамі можна было жыць тыдзень-два, цяпер трэба шукаць пастухоў, што дзержаць скаціну на выпасе ў агарожы, ці падкараруліць мінскую легкавую машыну, на якой усягды прыязджаюць на Жоўты Бераг у рыбу лысыя мужчыны — трое — са сваімі чайнікамі, кацялкамі, тэрмасамі, вёдрамі, са сваёй вадой і бульбай. Нават смаляк — кавалак чырвонага карча — прывозяць з сабой у багажніку на распалку. Лазіш з імі па беразе аж двое сутак, капаеш чарвей, глядзіш за вудамі, скрабеш іхнім складаным вялікім зялёным нажом луску з плотак і акунёў, цягаеш на бераг да адмысловай лавачкі, высечанай з дубовага камля, да агню цэлы вечар сухое верхаллё, шукаючы яго па ўсім лесе, і глядзіш, каб не бегла пена з вядра, дзе булькае вада, куляючы белавокую разварную рыбу. Юшкі даюць табе цэлы кацялок, густой, лыжка стаіць — зарабіў! — сядзіш, сёрбаеш яе гарачую, апякаючыся, бо галодны, як сабака. Забываешся нават, што трэба есці яе з мяккім све-

жым гарадскім хлебам. Увесь бераг пахне салодкай рыбай і нейкай адмысловай гарадской прыправай — у Волькі такой няма, пахне дымам, горкім, альховым, пахне здалёку рака — туманам, лугам і скацінай... Забываешся, што пякуць, як крапівай, камары і лезе машка — не дыхнуць; ясі, аж нос гнецца, бо не еў цэлы дзень і не помніш — вячэраў учора ці не... Табе падсоўваюць хлеб і кладуць на калені зялёны складаны нож: крой, не шкадуй. Пацееш ад агню і ад яды; пасля выцягваешся на зямлі і адстаўляеш далёка ад сябе на траву парожні кацялок. Чуеш, што не можаш устаць: размарыла ўсяго — цела звяла, як лопух на сонцы, і плюшчацца вочы. Цябе бяруць за рукі, за ногі і нясуць у жоўценькую палатку, каб пакласці на альховае лісце, а ўгары над табой калышацца падсвечанае з зямлі цёмнае неба з ядранымі зоркамі. І зямля, здаецца, пад табой калышацца, і павекі зліпаюцца, як маладое бярозавае лісце...

...Уперадзе над шашой жахнулася неба, і сталі стаймя дзве вузенькія сінія паласы. Ён страсануў галавой, як выплыўшы з вады: на роўнай шашы размарыла, і ён пачаў драмаць пад манатонны гарачы звон матора.

Машына наперадзе паказалася неяк адразу — выскачыла ўся на горку, сцебануўшы ва ўпор калючым агнём, аж жоўтыя кругі пайшлі ў вачах. Ён, слепячыся, пазнаў: новы лабаты МАЗ, шырокі і кароткі — самазвал, за ім адразу ж другі. Яны і не думалі выключаць фары: калолі ў вочы, як ражном. Ён, Валерка, патушыў святло, пасля паставіў бліжняе, але наперадзе не хацелі зважаць, нават не міргнулі ў адказ, як усё роўна і не заўважылі яго на дарозе, як усё роўна ведалі, што за рулём сядзіць смаркач, з якім не хацелі і знацца.

Белым, што снег на сонцы, святлом заліло кабіну, жоўтыя кругі ў вачах расплыліся і засланілі свет. Валерка крутнуў тады руль управа — на абочыну і, слепнучы, націснуў на тармазы. Пачуў, як яго кінула грудзьмі на руль, як разанула праціўным звонам па вушах. Самазвалы прайшлі пасярод дарогі — не саступілі. Ён заглушыў матор і патушыў святло; адчыніў дзверцы і, як уцякаючы з кабіны, саскочыў на зямлю. Падкасіліся ногі, ззыбнуўшыся, сеў на падножку. Павяла ўбок галава, ён падпёр яе рукой — локаць на калена,— сядзеў і слухаў, як тахкае гусценька сэрца, як ныюць далёка на шашы пад Горнам самазвалы і шыпіць збоку матор пад капотам. Пасля звон ад самазвалаў расплыўся над зямлёй, стала ціха, і ў гэтай

цёплай цішыні азваўся раптам у канаве ў сухой траве дзяркаты конік, як дома за печчу. Недзе далёка ў вёсцы забрахалі сабакі; высака ў небе, дзе вісела сагнутая чарпаком Вялікая Мядзведзіца, грукнуў самалёт. З поля запахла салодкай гаркатой ад лубіну. Ападала гарачае ўзрушэнне, рабілася ціха і сумна на душы і хацелася курыць. Ён аж здзівіўся: ад папярос у яго ўсягды круцілася галава і блажыла. Не прывык ён і да белай, якой шафёры «абмывалі» і палучку, і прэмію, і свечы, і рысоры, і зайца пад страхой... Яго, Валерку, садзілі разам з сабой: у кабіну, на лузе на траву, у хаце за стол і давалі ў рукі шклянку. І яго пасля рвала гаркатой; апошні раз, як касілі луг ля Віліі, гнала з рота зялёную пену тры дні запар. Ён сядзеў на беразе, нагнуўшыся, а вада калыхала, крыўляла і пускала кругамі яго белы, як смерць твар, па якім гапяліся чорныя вадзяныя блошкі і зялёныя жукі. «Буксуе...— смяяліся з яго ўсягды і Царук і Сяржант.— Прывыкаць трэба, калі цябе на свет са стручком нарадзілі. Не баба ж... Нашага роду...»

Ён палапаў сябе па кішэнях, але кішэні былі пустыя — знайшоў толькі доўгую жоўтую сыску, якой раніцай паіў у Краснаволлі ў Ратнікава зайца, і сунуў яе па сваёй старой прывычцы ў рот, як рабіў, калі быў малы. Мяккая, салодкая гумовая сыска запахла малаком. Здалося, што ўсё наўкола пахне малаком: поле за дарогай, машына, зямля і цёмная, з густым сінім небам ноч. Падумаў, што сам ён увесь прапах малаком. І дома вёдры пахнуць фермай і малаком на ўсю хату, і вада са студні, здавалася, аддае малаком, нібыта другога паху і не было на зямлі... Ён падумаў раптам: а чым пахне яго бацька? Бензінам? Саляркай, як шафёры? Ён помніў пах аднаго толькі Ратнікава, як сабака мог пазнаць яго за вярсту, бо і дняваў і начаваў разам з ім у кабіне і ў кузаве, качаўся на грэблі ў гразі пад заднім мастом, разаграваў зімовы матор на марозе, калі на жалезе аставалася скура ад пальцаў... Да Ратнікава яго цягне цяпер больш, чымся да Волькі — мацеры; не ведае, што б рабіў, каб раптам не стала Ратнікава... Пасля сваёй дзіцячай галавой, падпёртай слабай яшчэ рукой, якая дрыжала, пакруціўшы руль на паваротах і калдобах, ён падумаў, што яго нават Волька ніколі не гладзіла па галаве, што яго толькі лізалі языком на ферме каровы...

Яны, яго бацькі — мінскія шафёры і леспрамгасаўскія грузчыкі — былі цяпер усе на адзін жоўта-чырвоны круглы твар і стаялі далёка над полем вышэй цёмнай паласы

лесу, дзе выкацілася на падпаленае жаўцізной вільготнае начное неба падшараваная з левага краю поўня. І ў яго зноў пачала падымацца ўсярэдзіне злосць на ўсіх шафёраў з круглымі жоўтымі поўнямі замест галоў, да леспрамгасаўскіх грузчыкаў і да «аўсянай саломы». Ён ненавідзеў цяпер усіх мужчын на свеце, нават Ратнікава з яго зайцам... Знайшоўся бацька... Ён, Валерка, больш ні разу не сядзе да яго ў кабіну... Нагой не ступіць на двор да клеткі пад страху... Доўга толькі чакаць, калі Дзярызямля пашле на курсы — вучыцца на шафёра. На курсах усё бясплатна: і адзежу даюць і кормяць. І не трэба паіць ніякіх дурных зайцаў з бутэлечкі...

Ён вырваў з зубоў сыску і адкінуў на пустую цёмную шашу...

Аціхала ноч; знікалі, сагнаныя ветрам, пахі палыну і сухога ячменю; панямелі ў сухой траве за дарогай конікі; ападала трывога, разлівалася вяласцю ва ўсім целе, саступаючы месца раптоўнаму сну, што скідае з ног любога наморанага шафёра, хай ступіць толькі з кабіны на зямлю. Падымалася ўгару жоўтая поўня, бялела, наліваючыся малаком. Ён заплюшчыў вочы, каб не бачыць ні жоўта-белай поўні, ні круглых мужчынскіх твараў, што адляталіся адзін ад аднаго далёка па небе.

...Адразу на ферме ў кароўніку, парваўшы на шыі ланцуг, пайшла ад сцяны на праход вялікая, аж пад столь, рабая карова з выстаўленымі ўперад рагамі... Пайшла проста на яго, Валерку... Падышла блізка, дыхнула ў твар цёплым сырадоем і лізнула шурпатым, як хвашчанка, языком па шчацэ. Ён, маленькі, чатыры гады яму — Волька прывяла з сабой на ферму,— падаўся задам да дзвярэй, дзе стаялі вёдры і бітоны, ступіў раз-другі па ўтаптанай саломе, упёрся ножкамі ў вялікае новае бліскучае вядро і нырнуў задком у белае цёплае малако, хаваючыся з галавой пад пену, як у гурбу пад снег. Закрычала ззаду на дварэ Волька і выпусціла з рук вядро. Вядро пакацілася па ўтаптанай зямлі, бразгаючы перавеслам...

Ён уздрыгнуў і адплюшчыў вочы, згледзеўшы адразу белую поўню і пачуўшы, як далёка на шашы пад Горнам бразнула кузавам машына і заныла, беручы пад гару. У тым баку забялелася ад фар неба — малочнай пенай над вядром. Пасля там застукаў матор, азваўся, як гусак: ча-ча — трэшчына ў выхлапной трубе.

«Ратнікаў...»

Ён ускочыў на падножку і, узяўшыся рукой за дзверцы,

глядзеў на шашу. Над шашой у небе пабялелі воблакі — машына падымалася на гару.

«Бацькі знайшліся... Лавіце. Зніміце штаны і дайце дзягі па с...ы...»

Матор чыхнуў адразу; дальняе святло — не будзе ехаць на падфарніках, не баіцца, што згледзяць здалёку! — секанула па белым шурпатым бруку. Брук, як усё роўна нехаця, папоўз спераду пад колы, пасля пабег насустрач хутчэй і хутчэй шырокай асветленай роўнай паласой.

— Гэ-гэй! Шмаравозы! Распяклі кансерву! Барабаніць!.. Гэ-гэй!..

Шаша пайшла між альшэўніку крута ўніз, стрэлачка на спідометры адразу адскочыла да кругленькай васьмёрачкі са сцёртым зверху нулём. Па альшэўніку зашастала доўгае, як лейцы, вільготнае рэха; у кабіну дыхнула імшарай, запахла травой-рабінкай, як на лагу ля Кур'янаўскіх Садоў. Альшэўнік неяк адразу скончыўся, як хто яго абсек, забялелася пад фарамі і пабегла назад шырокае роўнае поле абапал шашы — ямчэ стаяла нязжатае жыта. Ён азірнуўся — па ім раптам секанулі фары з гары, ён аж злякнуўся: не чакаў, што так скора сядуць на хвост. Ён націснуў нагой на газ, але стрэлачка ніяк не хацела паўзці ўгару, скакала толькі па сцёртым зверху нуліку за васьмёркай, хоць ты яе рукой падсунь, і пачалі качацца па падложцы праклятыя кансервы — лучаюць пад нагу і не даюць налягаць на газ...

Дарогу перабег заяц, шэры, вялікі,— скочыў за канаву, перакуліўшыся ў высокае жыта. Жытняе поле пачало разбівацца шырокімі цёмнымі зжатымі палосамі; блізка ля шашы ляжалі кучы саломы, пакінутыя камбайнам.

Ён зноў азірнуўся — ззаду на шашы скакаў агонь ад фар: яму сігналілі. Яго згледзелі, пазналі, населі на хвост і вядуць, як зайца, узяўшы на прыцэл. Ён пазнаў ужо сваімі вачыма ратнікаўскі «газон»: левая фара памінутне лыпала, што сава ад сонца; не мог толькі паверыць, як гэта Ратнікаў можа выцiснуць са свайго «газона» такую скорасць: насядае на хвост, значыць, ідзе на сто, не шкадуючы ні цыліндраў, ні клапанаў.

— Гэ-гэй! Цісні! Лясне клапан — зноў пацягнуць у капіталку... Гэ-гэй!..

Нарэшце стрэлачка на спідометры адарвалася ад сцёртага зверху нуля і адвалілася да падкорчанай пад сябе дзевяткі...

— Гэ-гэй! На сто вы доўга не падзержыце... Пацягне вас адгэтуль рэмлятучка...

«Газон» набліжаўся, левая фара лыпала зусім блізка. Яго тады ўзяла злосць: даганяюць на кансерве з дохлымі клапанамі?..

Ён націснуў на газ у дзве нагі. Стрэлка на спідометры заківалася за падкорчанай дзевяткай. Машыну пачало калаціць, дробненька, праціўна, аж заляскалі зубы. Па твары секанула вострым сухім ветрам, як нажом. Зноў запахла дурнап'янам, сухім, гарачым, як з агню. Шаша пайшла ўгару, стрэлачка на спідометры адвалілася ад падкорчанай дзевяткі, павісла і папаўзла ўніз...

Ён азірнуўся — «газон» лыпнуў яму ў самыя вочы.

— Гэ-гэй!.. Сава сляпая!..

Яму раптам здалося, што ў «газоне» ў кабіне двое. Ён цяпер азіраўся і азіраўся назад. Падслепаватая «сава» плюскала вокам, не даючы глядзець, але ён добра ўбачыў, што ў асветленай з сярэдзіны нейкім сінім агнём кабіне двое: нахінаюцца адзін да аднаго, складаюць галовы, як макаўкі на градзе. Яму здалося, што ў кабіне сам Дзярызямля — Ратнікава ён пазнаў адразу: высокі, дастае, седзячы, столі ў кабіне — і збаяўся спачатку. Старшыні ён не чакаў, старшыня — калонія. Сашмыкнулася з газу нага, стрэлка на спідометры падала ўлева, як падбітая птушка. Падслепаватая «сава» цяпер ляцела на яго аднекуль знізу, міргаючы і слепячы яму вочы. Пасля «сава» махнула правым крылом — адчыніліся дзверцы, і з кабіны высунуўся... Фірага... Яго аўсяныя валасы, здавалася, вырве вецер — трасе, раскідаючы, як салому на страсе. Узяўшыся адной рукой за дзверцы, Фірага махаў другою — паказваў, каб ён, Валерка, падруліў да абочыны і стаў. Нават пальцы ў Фірагі відаць былі на руцэ — краталіся растапыраныя, нібыта «сава» нарыхтавалася лапнуць яго, Валерку, кіпцюрамі за плечы. Было ўжо чуваць, як Фірага нема крычыць, не разабраць толькі — што...

«Аўсяная салома? — аж падскочыў Валерка.— Ратнікаў і Фірага? У адной кабіне? Ну і ну! Знюхаліся бацькі... Надта скора знюхаліся... А Ратнікаў? Я яго зайца... Я яму... А ён? У адной кабіне? Вот яны, бацькі! Усе такія! Ну дык, лавіце, бацькі! Хто першы схопіць зубамі за с...у!..»

— Гэ-гэй! — ён зноў у дзве нагі націснуў на газ. Зароў матор, у кабіну аднекуль спаднізу хлынуў гарачы дым: МАЗ поўз на гару, здавалася, аж выцягваўся, як пад-

біты сабака ўцякаючы. Стрэлачка на спідометры зноў падскочыла і папаўзла да васьмёркі са сцёртым зверху нулём.

— Бацькі-і!.. Клаў я на вас свой шафёрскі інструмент!.. З балтом!..— крыкнуў ён ад радасці, што пераваліў цераз гару і ляціць зноў, як шалёны — дагані! Падслепаватая «сава» мірганула зусім блізка, недзе збоку, пасля пачала адставаць і асталася ззаду.— Гэ-гэй!.. З'елі? Маць вашу на запчасткі!..

Але радавацца было позна. Бразнуў ззаду за кабінай канёк, грукнулі нечым цяжкім па бачку, і за дзверцы, за не апушчанае да канца шкло, учапілася чырвонымі пальцамі рука — «сава» дастала. Закрычаўшы немым голасам, каб ён, Валерка, ціснуў на тормаз, «сава» паклала ўжо дзве чырвоныя рукі на дзверцы. У кабіну з ветрам пагнала белыя валасы, як салому. Трэба піхнуць дзверцы... Валерка нават выцягнуў руку да ручкі на дзверцах, але дзверцы раптам адвіхнуліся самі, у кабіну хлынуў густы халодны вецер з балота, укінуўшы з сабой Фірагу. Яго, Валерку, таўханулі ў бок, адкідаючы ў кабіне аж да другіх дзверцаў. Чырвоныя рукі схапіліся за руль...

Аддаць руль Аўсянай саломе? Ён рвануў яго ў дзве рукі да сябе...

Згледзеў, як стрэлачка на спідометры, перакуліўшыся за падкорчаную дзевятку, дрыжала, напяўшыся, вось-вось пырсне, што іголка з рук; як пабеглі насустрач маленькія беленькія ад агню слупкі ля дарогі... Пасля слупкі пачалі рабіцца чырвоныя, што мухаморы, і пасыпаліся якраз пад машыну. Яго раптам страсанула, моцна, як усё роўна страсанула ўсю зямлю, і, вырваўшы з рук руль, кінула ўперад на рычагі і на бляшанкі з кансервамі. Ён падумаў, што МАЗ пачаў збіваць слупкі ля маста, што «аўсянай саломе» трэба толькі павярнуць руль чуць-чуць улева, зірнуў нават на чырвоныя рукі на рулі і на белыя валасы, але яго кінула зноў галавой на маленькую востранькую стрэлачку на спідометры. Ён лучыў на нешта цвёрдае і гарачае і пачуў, што павіс як усё адно над ямай. Чырвоныя слупкі ўбачыў недзе над сабой; на яго пайшла вялікая рагатая рабая карова, хочучы лізнуць гарачым языком. З храп у яе дыхнула агнём... Ён пачаў адсядаць назад іваліцца ў вядро з гарачым белым малаком. Вядро доўга звінела і грукала, рабая карова наступіла раптам на ногі, і ўвесь свет заліўся чырвонай пенай...

Крычаў недзе далёка Фірага, і гарэла на нагах белае малако...

## 8

Алімпіяда ўвесь час сачыла за Коласам — старалася злавіць вочы: і калі ён сціскаў манжэткай вышэй лакця руку, і калі шыпеў вужакай чорны апарат, стоячы нізка, роўна з ложкам на тумбачцы. Але Колас увесь час глядзеў у падлогу, не падымаў вачэй, думаючы нешта сваё. І калі ён, склаўшы апарат, павярнуў галаву і зірнуў у акно, яна таксама павярнула на падушцы галаву і глянула на шыбы, якія былі пасечаны дробненькімі вострымі кропелькамі дажджу. Неба зрабілася цёмнае, нізкае; сівыя расцягнутыя хмары беглі, спяшаючыся, адна за адной за ліпы, дзе праклёўвалася белая доўгенькая палоска, нібы хацелі хутчэй схаваць і яе з воч. Услед за хмарамі ляцелі чорныя вароны, мітусіліся і садзіліся некаму на страху — на антэну. За акном краталіся мокрыя бліскучыя галінкі бэзу і жоўтыя галоўкі юргіні — даставалі да шыб. Хай бы яны лепш не краталіся: разам з імі кратаецца ложак, хоць не глядзі ў акно.

Яна так і не магла злавіць вачэй у Коласа.

— Я ўсё віджу...— падняў ён нарэшце на яе вочы.— Прывыкаеце да ложка, і вам здаецца, што вы адна на ўсім свеце і што самы блізкі чалавек у вас доктар. Гэта не так. Доктар свой чалавек тыдні на два, на тры. А ўсё ваша па-ранейшаму там, за сцяной, дзе шапоча дождж і крычаць вароны. Не прыбядняйцеся: сягоння вы ўжо, так сказаць, паміж небам і зямлёй...

— Я хацела б, доктар, зусім апусціцца на зямлю...

— Апусцім і на зямлю. Ваш арганізм яшчэ вунь як рэагуе на нашы прэпараты...

— Мусіць, ужо ў зямлю...

— Усе дарогі вядуць у Рым. Не будзем забягаць так далёка наперад. Нам бы сягоння ў сталовую схадзіць самім... А то ўсе там, адны мы з вамі ў палаце. Сёння я вам ужо дазваляю. Сцяпанаўна пад руку адвядзе і прывядзе. А не — то я сам. Колькі мы ўжо ляжым? Раз, два...— пачаў ён, седзячы ў нагах на ложку, загінаць пальцы.— Пяць сутак як лёду. Так што аддыхнулі ўжо...

— Намучышся на гэтай зямлі, здаецца, сам бы лёг у дамаўё і века закрыў над сабой сваімі рукамі...

— А вот ступіш зноў на зямлю нагой... У пыл, у пясок, у траву... І так захочацца ісці па гэтай грэшнай зямлі... Так жыццё ўстроена. Скажыце, вы калі-небудзь адчуваеце поўны камфорт?

— ?..

— Ну, нічога не баліць, лёгка ўсёй, хочацца бегчы з падскокам...

— Хто гэта ў маіх гадах гоніцца за камфортам? Куды я падскочу?..

Колас раптам засмяяўся.

— Дзяжурыў я раз, калі быў студэнтам. Паступіў да мяне ноччу алкаш, «скорая» прытарабаніла. Амаль без пульсу, нягоднік... Што ж, адкачвалі як маглі. Думалі ўжо, што і адкачалі. А ён узяў ды дуба даў. Паляжаў, як і ўсе ў такім разе, дзве гадзіны на ложку пад простыняй, пасля яго пад гэтай самай простыняй і адвязлі. Паляжаў ён і там... Сам пасля расказваў, а мы бакі рвалі ад смеху. Паляжаў, узяў і прачнуўся. Чуе — холадна, зуб на зуб не лучае... Абмацаў сябе рукамі — голы. Лап, лап — і побач голыя. І халодныя... Валасы ў яго дыба... Як падскочыць! Галавой аж у столь... Падбег і давай барабаніць кулакамі ў дзверы. І вы думаеце адразу адчынілі?

І яна смяялася — доўга і ціха.

— Аж у вачах, доктар, паяснела. І спружыну праціўную слязьмі змыла...

— Так што... Прыпішу вам, Падаляк, да магнэзіі анекдоты. Сам буду прыходзіць і расказваць, калі так. Па адным у дзень. Бывае, паспрабуеш здалёку — па вачах відаць, што чалавеку праціўна ўсё гэта — усе твае анекдоты. Чакае, пакуль ты зубы свае схаваеш. Такога цяжка і лячыць...— Колас узяў з тумбачкі чорны апарат, устаў з ложка і, збіраючыся пайсці, зноў зірнуў у акно.

За сцяной зашаптаў дождж. Ля самага акна пад страхой пачалі мітусіцца ластаўкі — дробненькія, худзенькія.

Алімпіяда тады рашылася.

— Хачу вас папрасіць, доктар...— пачала гаварыць, і голас у яе задрыжаў, нават пальцы затрасліся. Яна стала падымацца на пасцелі, Колас глядзеў на яе, тады памог сесці і паправіў падушку ззаду ля брыжа.— Хачу, доктар, сына вызваць з арміі...

— Та-ак...

— Напішыце, доктар, справачку. Пашлю дачку, з'ездзіць у ваенкамат, заверыць... І вызавуць...

— Та-ак... Да такіх хворых, Падаляк, як вы, сыноў з арміі не вызываюць. Вызываюць толькі да тых, хто пры смерці. А мы скора ўстанем. Не будзем падымаць гасла, людзей трывожыць. Ды і самі вы ведаеце, што справачку

трэба завяраць у ваенкамаце. А калі праверацць? Вы не такая хворая... Не магу я напісаць, што вы пры смерці...

— Доктар... Прашу... Хто будзе знаць, пры смерці я ці не. Каб вы знали, як хочацца паглядзець на сына... Вот узяла сабе ў галаву, што больш яго не ўвіджу, і ўсё тут... Спаць не магу. Ляжу і думаю. Сны сняцца. Хачу яго злавіць у лесе ля Жоўтага Берага, а ён ад мяне ўцякае... Лаўлю і злавіць не магу... Зрабіце, доктар... Хай яго хоць на дзень пусцяць...

— А хворыя? Дзве палаты. Так кожны захоча. Кожнаму давай, у каго сын.

— Не знаю, як ужо вас і прасіць, доктар.

Колас маўчаў, гледзячы ў мокрае акно на чорную, з бурымі падпалінамі цяжкую хмару, і думаў: стрэпаў сябе пальцам па кончыку носа.

— Ну добра. Нас ніхто не чуў. Вечарам, пазней там, калі ўсе хворыя ў палату збяруцца. Калі мяне не будзе. Я буду дома. Хай вам зробіцца блага... Вы мяне зразумелі? Зразумелі мяне? Хай па мяне прыбягуць дамоў. Пашумім, пакрычым... Хай людзі паглядзяць, што мы паміраем, што сына трэба пільна паклікаць. Што з вамі, Падаляк, зробіш? Вы мяне зразумелі? Ну вот...— паляпаў ён ёй асцярожненька па плячы.

— Дзякую вам, доктар. Як дажджу на сухую зямлю пасыпалі...

— Няма яшчэ за што. А сын у вас радавы? Афіцэр?

— Афіцэр. Лейтэнант...

— Угу. А ён тут ці там? — кіўнуў Колас галавой на мокрае акно.

— Тут, доктар. Быў на Кубе, а цяпер тут...

Колас маўчаў, глядзеў усё на хмару.

— Напішу. Хай прыедзе. Страху накрые, плот загародзіць. Сена ўкосіць якраз. Зяця не маеце?

— Не абзавялася яшчэ...

— А сын даўно быў?

— Летась. Год назад. У водпуску. А сёлета не пускаюць. Пісаў, што прыедзе, а няма. Можа, яго я ўжо і не дачакаюся...— сказала яна і пачула, як горла сціснула гарачая сіпка і з вачэй на рукі пасыпаліся слёзы.

— А вот гэта ўжо не трэба... Хай вада з хмары капае,— паказаў ён чорным апаратам у акно.— Ну, дагаварыліся. Хай па мяне прыбягуць. Пазней, калі ўсе спаць палягуць... А цяпер збірайцеся ў сталовую. Прышлю Сцяпанаўну, за-

вядзе...— ён павярнуўся, пакінуў сабе вышэй халат, як усё роўна накрыўся ад дажджу, і схаваўся ў калідоры.

Па шыбах забарабаніў касы буйны дождж; пад чорнай хмарай зазелянелася ліпа, свежай, як веснавой, зеленню. Ля самай зямлі за мокрым бэзам жахнула бліскавіца, заліўшы ў палаце сцены сінім святлом; за акном пад падстрэшкам запішчалі ластаўкі — сіпатымі галасамі, і недзе блізка заірзаў конь. Ударыў гром суха, са звонам; з акна на рукі пырснула дробнай расой, запахла свежай травой, як пасля зімы.

— Т-тваю макаўку... Так лупіць... Скупіўся, скупіўся усю вясну і лета, а цяпер уліў, дык уліў... Хоць бульбу яшчэ адратуе. Уставай, сястрыца. Пайдзём, раз ён сказаў...

На парозе стаяла Сцяпанаўна. У шырокім доўгім белым халаце ў цёмныя плямы — пабыла пад дажджом, у сініх тапачках; з-пад халата відаць сіні, як і тапачкі, падол байкавай сукенкі; адтапыраныя вялікія кішэні ў халаце нечым набіты. І сама яна сягоння нейкая поўная,назызлая і злосная.

— Пайдзём, твою макаўку... Смялей. Там Харбін чакае. Герой... На быка пайшоў, яго макаўку... Як гускі, усе павінны бегчы за такім кавалерам... Не бойся, будзеш валіцца — падхаплю. Сколечка той хады. Не такіх мне даводзілася цягаць, сястрыца...— Сцяпанаўна чакала.

На парозе яна ўзяла Алімпіяду пад руку і прывяла праз калідор у сталоўку, раскошны квадратны куток ад двара з чатырма вялікімі, аж да столі вокнамі — па два на сцяне, з чырванаватай ад фарбы памытай свежай падлогай. І столікі, светла-сінія, пад васілёк, на жалезных ножках, як у чайной у Плешчаніцах, стаялі тут раскошна, адзін воддаль другога. Ля іх Сцяпанаўна свабодна правяла Алімпіяду ў самы кут да сцяны, дзе сядзелі ўсе трое з яе палаты: Чайка, Марфа і Выліна.

— Прымі свой халацік з крэсла, тваю макаўку. Што, і ў такі дождж пабяжыш? Распусцілася, тваю макаўку... Цярпі. Нявесту вам за стол прывяла. Дзе Харбін? Сапе яшчэ ў падушку жаніх, яго макаўку...

Выліна хуценька схапіла халацік з крэсла, мокры, апырсканы дажджом, і сунула недзе пад сябе:

— Садзіцеся, цёця Уліма. Што ж вы нам не сказалі... Мы ж бы вас самі прывялі.

— Самі, вашу макаўку... Пазадзірэлі хвасты і скарэй сюды. Харбіну на шыю вешацца. Што ў вас яшчэ ў галаве...— Сцяпанаўна адступіла і стала ля сцяны, ля хала-

дзільніка — вялікага, плячыстага, як белы мядзведзь. На халадзільніку зверху маўчаў рэпрадуктар — беленькі, кругленькі, з дзірачкамі, як маленькае рэшатца-падсітак. Сцяпанаўна паднясла да яго свае вымытыя ў халоднай вадзе малінавыя шчопці, падкруціла.— Маўчыць, яго макаўку... Самі будзеце весяліць сябе, пакуль Харбін не паявіцца, вашу макаўку, пенсіянеркі-міліянеркі... Можа, зноў на быка пайшоў, што дагэтуль няма за сталом? І на ганку няма, дзе кураць мужчыны...— яна нагнулася, каб праз акно паглядзець на ганак.

Сцяпанаўну клікала з двара, махаючы рукой, маладзенькая зусім белагаловая дзеўчынёха — стаяла на дзядзінцы ў белым расхрыстаным халаціку пад дажджом, выбегшы з кухні. Праз акно добра была відаць кухня: драўляная будыніна з ачэсанага бярвення, пад шыферам, з белым акном ад бальніцы, з чорнай у калена трубой на страсе. З трубы слала па зямлі дым, гнала ў вокны, і чуваць было, як пахне падсмаленым пер'ем.

— Без Сцяпанаўны не могуць, іх макаўку... І каструлі з супам няма каму прынясці. Людзей дагэтуль голадам моруць: Корань ключы позна прынёс, Корань кладоўку позна адкрыў... А каб і Сцяпанаўна запіла разам з Коранем? Што, бальніцу зачыняй? І без нас яе скора зачыняць, іх макаўку...

На дварэ яшчэ горш сцямнела; ластаўкі, ціснучыся пад страху, білі крыллем па шыбах. За дарогай над альшэўнікам уздоўж ракі секанула бліскавіца, доўгая, як вяроўка. У сталоўцы зрабіліся сінія сталы; за акном забялелася кухня, выступіўшы з цемнаты, што ўсё роўна была адна на ўсёй зямлі. На дзядзінцы замахала рукамі, ловячы полы халата, Сцяпанаўна — бегла па дажджы да кухні, валюхаючыся, як старая качка. Схавалася спачатку ў сівой, як пара, паласе дажджу, пасля, сагнуўшыся, шмыгнула ў расчыненыя дзверы.

У сталоўку, гамонячы, ішлі мужчыны: з ганка прагнаў дождж.

— Ну цяпер нас пакормяць, калі Сцяпанаўна падключылася. Глядзі, які патоп. Неба парвалася, так ліе. У сорак шостым такое лета было, як я быў старшынёй. Згарэла ўсё на попел, а тады ліло як з вядра...— прыгнуўшыся і выцягнуўшы ўперад самога сябе — сціснуў радыкуліт,— першы сунуўся да сталоў, як вуж па купіне, Міхол з Крамянца. Жыў ён далёка ад Алімпіяды: пасярод вёскі. Да вайны, не пайшоўшы ў калгас, рабіў на падсочцы; вайну адседзеў

дома, на сваіх шнурах. Мабілізавалі яго ў партызаны перад прыходам нашых. Пасля вайны яго адразу зрабілі ў Крамянцы старшынёй калгаса, і ён старшыньстваваў, пакуль не прагналі — «за тры цэнтнеры з гектара». На яго месца тады прыйшоў Яноўскі з Краснаволля, а Міхол падаўся ў леспрамгас: валіў лес лучковай пілой, быў возчыкам — траляваў калоды на цялежках у шліхты, пасля пайшоў у грузчыкі. За дзесяць гадоў нажыў радыкуліт і цяпер больш качаўся па бальніцах, чымся грузіў дрэва; дома па двары хадзіў аблеплены цестам і абвязаны аўчынай у паясніцы. Сагнуўся ў крук, даставаў рукамі аж да зямлі. У бальніцу ў Белае яго прывезлі на «скорай» — Корань на матацыкле. У люльцы Міхол крычаў усю дарогу, аж у вёсках чулі. Цяпер яго калолі такімі балючымі ўколамі, што ён зноў крычаў, як у люльцы.

За Міхолам ішоў Яноўскі з Краснаволля — «старшыня» за «старшынёй»:

— Кладзі ў бот... Я быў хазяін... А ў цябе было па тры цэнтнеры з га... За гэта табе і далі мешалкай па задніцы...

— А ты ўсё працу і пра... У бот толькі і клаў... Гэта табе далі мешалкай, а я сам пайшоў...

— Дудкі... Гэта я сам пайшоў. А так мог бы і аб'яднаны калгас пацягнуць. Кладзі ў бот... У мяне быў парадак. У мяне трынаццаць было з га, а не тры... Кладзі ў бот... Усе помняць, як ты хазяйнічаў...

Два былыя старшыні не мірыліся і праз гэтулькі гадоў, нават тут, у бальніцы, а Яноўскі быў яшчэ з самай раніцы пад мухай. Забралі яго ўчора з «вострым жыватом» — абсунуўся прама на вагі,— прывязлі на старшыньскім «казле». Колас падазраваў у яго апендыцыт, але ў Плешчаніцы не адпраўляў, гаварыў толькі доўга па тэлефоне. Чакаў, пакуль паўторыцца прыступ. Сказаў, што ў любы час можа адправіць у Плешчаніцы «на стол», каб ён, Яноўскі, надта не рызыкаваў: мала што прыступ прайшоў. Дамоў яшчэ не пусціць. Будзе наглядаць... Жывот-то баліць...

— Здаровы, дзяўчаты...— за Яноўскім ззаду ішоў і падміргваў усім Жук з Ячнага — Жучок, як яго ўсе звалі за кароценькі рост, кругленькую вяртлявую галаву і маленечкі кірпаценькі носік — карова можа злізаць кончыкам языка. І сам ён увесь быў вяртлявы, не толькі галава. Мужчына ўжо ў ладных гадах, а вада на ім не ўстоіць. Звалі яго яшчэ Падзямельнік: колькі яго на зямлі — гэтулькі і пад зямлёй. Пасля вайны ў сорак шостым годзе, калі ля Крамянца ў лесе адкрылі леспрамгасаўскі ўчастак, Жучок

стаў рабіць фуражырам. Прымау ад калгасаў з-пад маластарань авёс, а больш усё ячмень. Насыпаў у склад — у вялікую Міхолаву пуню на загуменні — па самую страху і выдаваў кожны дзень конюхам на ўчастак. Ячменю праз яго праходзіла «горы», «трыста тон за год», як гаварыў ён сам. Піў і мок ён у пуні на складзе суткамі, аж ячмень пад ім прарастаў — леспрамгасаўскія коні можна было накарміць і накладнымі. Накладныя яго і падвялі: выдаваў іх калгасам, прынімаючы замест ячменю «дулю» — «была ўстаноўка», як ён гаварыў. І ў яго на складзе, у гэтай самай Міхолавай пуні, якраз трыста тон і не хапіла. Далі яму гадоў, мусіць, з дзесяць, калі не больш. На суд ён прыехаў у Плешчаніцы — «уся грудзь у ардзянах», як толькі што з вайны вярнуўся: ваяваў-то ён, відаць, добра. Калі яму сказалі, каб ён «зняў ардзяны і паклаў на стол», ён падняў угару над сталом табурэтку, на якой сядзеў, і апусціў таму на галаву, хто сказаў. За гэта яму дабавілі да ячменю. Адседзеў ён сваё «на поўначы ад званка да званка», вярнуўся лысы і жоўты, як бубен з сабачай скуры. Сох і часта качаўся жыватом. У леспрамгас не вярнуўся, пайшоў у Ячным у брыгадзе ў пастухі. Піў і п'яны любіў гаварыць — гаварыў, шэпчучы і азіраючыся назад,— што на поўначы рабіў пад зямлёй, за метровымі ў таўшчыню дзвярыма, дзе пераносіў з аднаго блока ў другі нешта цяжкае ў невялічкіх скрыначках. Гаварыў ён пра гэта і цяпер і ў мужчынскай і ў іхняй, жаночай, палаце — нагінаўся над ёй, Алімпіядай, шаптаў, азіраючыся на дзверы ў калідор, паказваў, якія былі тыя скрыначкі, і намякаў, што ад іх у яго такая хвароба, пра якую не кожнаму трэба знаць.

Яноўскі і Міхол стаялі ўжо ля стала, самага крайняга ад акна. Адзін з аднаго боку, другі з другога — упёрліся далонямі зверху ў стол і выцягнулі адзін да аднаго шыі. Удоўж рэчкі за цёмным акном зноў чырканула бліскавіца, як усё роўна адсекла ім галовы. Але яны асталіся стаяць, і галовы асталіся ў іх на карку, і Жучок, перакуліўшыся цераз парог, адкінуў маленькую жоўтую лысую галаву назад, падміргнуў за стол ёй, Алімпіядзе, і зарагатаў, паказваючы пальцам на «старшынь».

— Вераб'і абскубленыя... Апошні пух з хваста адзін у аднаго павыдзіраюць... Справядлівыя цяпер адзін перад адным... У людскіх вачах... Гэта вы мяне ўпяклі тады. Адзін і другі... Квітанцыі я вам выпісваў, а ячмень вы мне не адгрузілі... І адзін і другі. Ні ў аднаго, ні ў другога не вырас... Праз вас я адбухаў гэтулькі... Праз вас цягаў пад

зямлёй скрыначкі, жылы рвучы... Праз вас валасы свае па свеце парассыпаў... Зубы ў жменю павыплёўваў ад цынгі...

— Кладзі ў бот, лысая патэльня... Ты відзеў, Міхол, які ў яго камень за пазухай? — Яноўскі павярнуўся ад стала і выцягнуў шыю ў парог да Жучка.— Гэта мы яго пасадзілі?.. А то, што сані з мяхамі не на ўчастак, а ў вёску паварочвалі ад тваёй пуні, Міхол? Зімой сані, а летам калёсы. На судзе ты нашы распіскі не прад'явіў. Сам прасадзіў склад, сам і сеў. За што дом на нямецкі вугал адгрохаў? З сінімі акяніцамі... І цяпер ніхто з нас такі не адгрохае, а ты тады, у галодныя гады... Гэта мы яго пасадзілі?.. Ідзі, садзіся лепш за стол, Сцяпанаўна каструлю нясе. Нечага стары попел у вочы сыпаць. Вогнішча кратаць. Даўно патухла...

— Не-е, са-абакі... З вамі не сяду...— Жучок адбегся ад іх і сеў за суседні стол. Усяго ў сталовай было чатыры сталы: за адзін селі жанчыны, а за астатнімі трыма сёння ніяк не маглі ўсесціся мужчыны, валтузіліся, як галодныя маладыя бацяны ў гняздзе — лезлі адзін аднаму ў горла з дзюбамі, дастаючы жаб.

— Распусцілі языкі... Пры жанчынах...— за Жучком з калідора прыйшоў Верамей — прыёмшчык з леспрамгаса, высокі чарнявы інтэлігенты мужчына ў чысценькай белай сарочцы — страсаў з грудзей далонямі кроплі дажджу. У бальніцы ён ляжаў з месяц — з язвай, ці што? Жоўты худы яго твар ад белай сарочкі зрабіўся белы, як папера.— Накурыліся нашча, дык усё роўна што хмель у галаву ўдарыў. Самае месца, каб разлічыцца адзін з адным. А то адгэтуль адзін вернецца дамоў, а другі можа і не вярнуцца. У другім месцы дык вы размінуліся б... А бальніца звядзе. Валтузіцеся, адзін аднаму не ўступіце і макавага зерня, а пад бярозамі будзеце ляжаць упобачкі, ціха, мірна. Ніхто ні перад кім не будзе вінаваты...

— Маўчы, тваю макаўку... У бальніцы пра бярозы не гавораць...— у парозе стаяла Сцяпанаўна, у расхрыстаным белым мокрым халаце; прылізаныя сівыя валасы спаўзлі ў яе з галавы і папрыліпалі да шчок... Над ганкам секанула бліскавіца, у вокны хлынула сіняе святло і заліло Сцяпанаўну з галавы да ног, яна зрабілася ўся белая, з чорнымі ямамі ад вачэй — нібыта сама смерць пераступіла парог бальніцы. Па тэлефонным слупе ўдарыў пярун, на ганак пасыпаліся дробныя жоўтыя трэскі. Дождж паліў што з вядра, на дварэ зрабілася сіва, як ад дыму.

— Ужасць!..— страсанулася Выліна і, дастаўшы з-пад сябе халацік, накінула на плечы.

Усе засмяяліся: думалі, што Выліне трэба бегчы па такім дажджы на двор.

Сцяпанаўна адступіла ад дзвярэй, і за ёй у сталовую зайшоў Зэнка — з меліяратараў, што стаялі на Дроздцы,— нёс перад сабой вялікую зялёную каструлю: узяў на ганку з рук у Сцяпанаўны. За ім ускочылі мокрыя, як куры, у кароценькіх халаціках дзве белагаловыя дзеўчынёшкі гадоў па семнаццаць, з накрытымі зялёнымі новымі вёдрамі ў руках,— блізняты з Белага, падобныя адна на адну як кроплі вады: пасля школы абедзве пайшлі рабіць у бальніцу на кухню. Пасталі, глядзелі адна адной у вочы і заліваліся ад смеху.

— Вашу макаўку, сікухі... Памарылі б людзей голадам сягоння, каб не я...— Сцяпанаўна ўзяла ў іх з рук вёдры і паставіла ў куток на стол. У сталовай запахла дажджом ад мокрых халатаў, свежасалёнымі агуркамі і маладой бульбай, пасыпанай кропам.— Не стойце, вашу макаўку, дзяўчаткі... Налівайце малочны супчык... Накладайце ў талерачкі катлеткі з бульбачкай і з агурочкамі... І кампоцік у шкляначкі... Сёння шэсць мужчынак. Шэсць жаніхоў. Сёмага некага скора прывязуць на матацыкле. І нявесты нашы сёння ўсе на віду, сядзяць за сталом, як макаўкі на градзе... Жаніха толькі галоўнага дагэтуль няма. У такі дождж старому спіцца. Сніць, што ляжыць з семнастовачкай... І калі каму вобмаль будзе,— Сцяпанаўна паказала на вёдры,— не шкадуйце, не галадаем. Дабавачку — на паправачку... Каб вы здаровенькі былі, вашу макаўку...— паглядзела яна адразу на ўсіх.— А я пабягу. Швабру яшчэ сваю ў рукі не брала сягоння. Ануча ад учарашняга на дварэ на частаколе сохне...

Сцяпанаўна выйшла на двор і як загадала там каму: густы вылівень адразу ўрваў, шум за сценамі аціх, зверху пасыпалася дробная імжа, як увосень. Пад'яснелася неба, заблішчэла здалёку лісце, трава і лужы на дарожцы ля кухні.

Дзеўчынёшкі-блізняты як усё роўна збаяліся Сцяпанаўны: на стол стала ўсё адразу: суп, катлеты, кампот — і мужчынам і ім, жанчынам. Забразгалі лыжкі, і аціхлі галасы; галовы панагіналіся над талеркамі: дзве мужчынскія і чатыры жаночыя над двума сталамі — ля акна і ў кутку ля амбулаторыі. За сярэднія сталы селі: Міхол з Яноўскім — за адзін і асобна за другі Жучок. Маўчалі і ў цішы-

ні раптам пачулі, як у мужчынскай палаце закрычаў стары Харбін і азвалася Сцяпанаўна, загрукаўшы, мусіць, швабрай. З калідора ў сталоўку Харбін убег, сагнуўшыся і дзержачы рукі знізу на жываце — рану яму пасля Сіментала Колас зашыў, рубец, хваліўся Харбін, добра зрастаецца, і яму можна было хадзіць не толькі па палаце, а і па двары. Харбін не забыўся, павітаўся і стаў адразу ля Жучка, відаць, згледзеў, што там пастаўлены лішнія талеркі. Пасля, згінаючыся, памаленьку сеў на чырвоненькае крэселка — садзіцца яму яшчэ было цяжка,— паглядзеў у сталовай на ўсіх і ўтаропіўся перад сабой на стол.

— Гэта мне? — паказаў ён рукой на суп, пытаючыся ў Жучка. Вочы ў яго суха і сквапна заблішчэлі.

— Гэта вам...— вышчарыў Жучок шчарбаватыя зубы.

— І гэта мне? — жоўтыя абвіслыя вусы Харбіна нагнуліся над талеркай з катлетамі.

— І гэта вам...

— І гэта мне? — Харбін упёрся пальцам у шклянку з кампотам.

— І гэта вам...

— І гэта ўсё? — зморшчыўся ён, скрывіўшыся.

— Га-га-га!..— сталовая пасля цішыні грымнула такім смехам, што здалося, бурая хмара на дварэ вярнулася назад і ляпнуў пярун. Жучок, забыўшыся на старшынь, адкінуў назад галаву і заклекатаў, як бацян, заходзячыся. Чайка з Марфай, здавалася, лягуць адна на адну за сталом; Міхол падскочыў з месца — на падлогу шчарбата бразнула парожняя талерка і разляцелася на кавалкі.

— Ужасць...— Выліна накінула на сябе халацік, сашчапіла на жываце рукі і з подбегам пусцілася да дзвярэй на ганак: у сталовай было двое дзвярэй — у палаты і на ганак.

Сталовая яшчэ больш затраслася ад смеху. Паявілася Сцяпанаўна, за плячыма ў яе ў калідоры мігнулася Праскурніч'я.

— А яшчэ хворымі прытвараюцца, вашу макаўку... Вот што значыць кавалера сагнаць з пасцелі...— паказала Сцяпанаўна швабрай на Харбіна.— А дзе ж гэта яго ўхажорка? — ткнула яна швабрай у Вылініна крэсла.— Можа, ён яе, стары корч, дзе схаваў? Яму-то я чырвонай палкай як саджанула паміж ног, дык ускочыў адразу... А яе, можа, я і не згледзела сваімі старымі вачыма? Можа, яна як ляжала пад ім, дык і ляжыць цяпер, як мышка пад венікам,

ні духу? Я зараз праверу... А яшчэ хворыя, называецца, каб вы здаровенькія былі, вашу макаўку...

Чайка абвалілася на калені Марфе і зайшлася; стары Харбін як разявіў рот, дык і не мог закрыць, круціў толькі галавой па баках, нібы шукаў, куды ўцячы ад Сцяпанаўны; Жучок змогся, толькі сіпеў і паказваў рукой на Сцяпанаўну; Міхол устаў і, сагнуўшыся, закруціўся ля стала; Яноўскі заківаўся на крэсле і закрычаў: «Кладзі ў бот, Сцяпанаўна! Маладзец!.. Разжані іх, сабак!..» Алімпіяда зусім не хацела смяяцца, але і яна засмяялася разам з усімі. Убачыла, што нават смяецца за сталом Верамей, які даўно сабраўся ўміраць, аж белыя шчокі ў яго загарэліся блеклым макам. Ускочыў з крэсла стрыжаны пад машынку Зэнка — насіў усягды доўгія, аж на плечы, валасы, любіў поўзаць па дзяўчатах, і некаторая з іх правяла соннаму машынкай зверху па галаве паласу, і ён тады сам падстрыгся дагала,— хацеў сесці зноў, не лучыў і грымнуўся на падлогу, бразнуўшы галавой аб сцяну пад акном, на якім стаялі парожнія вёдры. Засакаталі, як сарокі, у парозе дзеўчынёшкі і, падбегшы, пачалі падымаць пад рукі Зэнку з падлогі. Сталоўка яшчэ раз скалыхнулася ад смеху; гэта быў апошні смех, калі чалавек, схапіўшы поўныя грудзі паветра, чуе, што захлiпаецца, не можа дыхнуць, што пад бакі падпёрлі колькі, баліць галава і з воч пырскаюць гарачыя слёзы. Тады чалавек сціхае, толькі доўга яшчэ ўздрыгвае, як ад плачу... І не глядзіць нікому ў вочы, каб зноў не схапіў дурны смех...

За Праскурніч'яй у калідоры стаяў ужо і Колас. Але сталоўка аціхла сама па сабе: больш ужо ніхто не мог смяяцца — змагліся. Вярнуўся за стол Міхол, тручы рукой паясніцу; прыняўшы з жывата рукі, узяўся за лыжку Харбін; выставіўшы перад сабой чырвоную швабру: «Іх макаўку, Уліма... Каб яны здаровенькія былі...» — пайшла ў палаты Сцяпанаўна, захінуўшы сабой у калідоры Праскурніч'ю з Коласам.

За сцяной зноў зашаптаў, прыпусціўшыся, дождж; неба над рэчкай лізнула кароценькая бліскавіца.

— Во гэта аддзячыць... За пажданнё... Грыбы пойдуць расці...— першы ў цішыні асцярожна загаварыў Міхол: кратаўся за сталом, ніяк не могучы ўсесціся.— Зараза... Страляе ў паясніцы, як пярун. Яе я яшчэ старшынёй нажыў, да леспрамгаса, калі з Алімпіядай кароў на вяроўках падымаў. І кароў тады не было каму падымаць: бабы, дзеці і я з Харбінам на ўвесь калгас. І самі вясной галод-

ныя і скаціна. Ты, Яноўскі, прыйшоў на гатовае, на маё. Ты ўсё крычыш: кладзі ў бот. У цябе ўжо хоць бот быў і было што класці... А я з чаго пачаў? Два сядлы партызанскія знайшоў у кароўніку пад саломай. На храна яны каму здаліся, два сядлы... Хоць бы два хамуты ці два падсядзёлкі, а то — два сядлы. Ды каб і хамуты, дык на плот на калкі іх толькі надзець, ці што,— каня ні аднаго тады не было. Ад коней толькі валассё з хвастоў у тыне асталося — вісела, зачапіўшыся яшчэ перад вайной. Вешаю на тын сёдлы, а яно да рук ліпне і ные ціненька пад ветрам, аж плакаць хочацца. Прынёс я з дому вілкі і давай салому ў кароўніку пераварочваць, дзе партызаны спалі. Ідзеш па гэтай саломе, як па каменні, падвернеш вілкамі — а там «эфкі, чорненькія, кругленькія, пасечаныя на рубцы. Ідзеш і думаеш: хай бы гэта бульба была пад саломай, а не гранаты...

— Кладзі ў бот, хазяін мне знайшоўся... Не быў бы Гірша — быў бы іншы...— Яноўскі, здавалася, і не смяяўся дагэтуль разам з усімі: насупіўся і аж пацямнеў з твару ад злосці.

Ніхто не ведаў, што стаяла паміж двума даўнімі старшынямі, і Алімпіяда нічога не магла ўспомніць: аднаго прыехалі знялі — другога прывезлі паставілі. Можа, яны нават адзін аднаго добра і не ведалі — мужчыны з чужых вёсак. Такія розныя ва ўсім людзі: адзін агонь, другі — вада; а ў калгасе тады і пры першым і пры другім было аднолькава, калгас ад таго, што нехта гарачы, а нехта халодны, не мяняўся...

— Ды заткніся ты за сталом са сваім ботам... Ты ў боты босы калгас не абуваў... Я абуваў... Хоць у гумовых, але пры мне ўжо па г..не на ферме ў ботах хадзілі... А ты прыйшоў мае боты данашаваць і не данасіў... Наклаў... у адзін і ў другі...

Яноўскі як трымаў у руцэ парожнюю з-пад катлет жоўтую пластмасавую талерку — так і запусціў яе, лёгенькую, у Міхола. Талерка праляцела ў таго ля вуха, суха бразнула па чырвоным стале перад самым носам у Харбіна; ударыла, круцячыся, па шклянцы; перакуліла, разліўшы на стол кампот — закапаў на падлогу, як дождж; пераляцела на стол, дзе сядзела Алімпіяда — яна нават хацела злавіць яе, але не справілася, шмарганула краем Марфе па шчацэ, пакідаючы адразу чырвоны вузкі пісяг, і паляцела, круцячыся, знізу ўверх у адчыненыя дзверы ў калідор — Сцяпанаўне ў твар.

Зноў у сталовай пачуўся смех. Смяяўся адзін Жучок — саскочыўшы з крэсла, аж прысеў на падлозе, ссінеў, шыпеў толькі, як гадзюка, не могучы падняцца. Стары Харбін, устаўшы за сталом, выціраў адной рукой рубашку на грудзях, другую выставіў уперад з парожняй шклянкай — паказваў Сцяпанаўне, што ён астаўся ні з чым. Марфа нагнулася над сталом і закрыла твар далонямі: дзеўчынёшкі ў парозе ашчапілі адна адну, каб не паваліцца... Яноўскі ўскочыў з-за стала і вылецеў услед за талеркай у калідор, чуць не збіўшы з ног Сцяпанаўну.

— Пастраляйце адзін аднаго салёным агурком, вашу макаўку...— Сцяпанаўна была вясёлая, ішла ў сталовую, паклаўшы руку на грудзі — у другой была чырвоная швабра,— смяялася і круціла сівой галавой.— А ты чаго? — напусцілася адразу на Харбіна.— Шклянкай хочаш у мяне запусціць? Той талеркай, а ты шклянкай?..

— Разлілі...— стаяў за сталом Харбін з выцягнутай да Сцяпанаўны шклянкай і за апушчанымі ўніз ад бяды вусамі.— Чым я запіваць буду?

— Чым запіваць? Вот зараз вазьму тваю шклянку, напушчу ў яе і зап'еш, тваю макаўку... Ніколі не панапіваюцца... Пасуць вачыма...

— Шчырэй з ім, Сцяпанаўна, шчырэй...— сіпеў ад смеху Жучок.— Гэта ён першы хацеў заіграць з табой, а яго Яноўскі апярэдзіў... Што, не відзіш, што ён на цябе даўно клінне навастрыў? І вус падняў. Знае, што адна, як палец, дык прыгрэць хоча...— Жучок зноў засіпеў, смеючыся.

— Я зараз вас усіх тут як адхаладжу чырвоным клінам,— падняла Сцяпанаўна швабру.— Есці не ўмееце, як дзеці малыя... А вы там каторая,— паглядзела яна ў парог на дзяўчатак.— Паклаліся адна на адну, як цяліцы... Кампоту старым паліце. Не ведаеце, што рабіць? Я вам павінна ісці наперадзе і пальцам паказваць...— Сцяпанаўна адразу абвяла, аціхла, апусціла галаву і, як сляпая, пачала памалу выціраць падлогу пад сталом ля Харбіна. Не ўсе ведалі, што яна баіцца гэтага слова — «адна», як і белых прастыняў. І калі ёй хто напомніць, што яна па гэтым свеце адна, ёй тады адразу здаецца, што яна ідзе па грэблі з белым вандзэлкам за плячыма... А ў ім звязаны абгарэлыя косці Піліпа, Колечкі і Янука...

За вокнамі зноў сцямнела, на кухню насунулася хмара, сівая, як попел, па сценах сыпануў дождж, што жвірам. Усе раптам пачалі ўставаць з-за стала. Першы, па-

шаптаўшы на вуха дзяўчатам, пабег у палату стрыжаны Зэнка — памахаў з калідора далікатненька ручкай. За ім, не гледзячы ні на кога, пайшоў ціхенька пажаўцелы Верамей — зноў зацяўся надоўга, бядуючы. Устала з-за стала Марфа, стаяла, не ведаючы, куды ісці — з ёй часта так рабілася,— яе ўзяў асцярожненька за плечы Жучок і памаленьку павёў да дзвярэй у калідор. Заёрзаў на крэсле Міхол — не мог устаць; Алімпіяда нават не згледзела, калі да яго падышла Чайка. Чайка маўчала ўсю раніцу за сталом — зноў у яе пачаўся «прыступ печані» — і цяпер пачала ціха падымаць Міхола пад руку з крэсла: падыме і апусціць, аж пакуль Міхол, выцягнуўшыся — лавіў, здаецца, растапыранымі рукамі падлогу,— не пасунуўся сам да дзвярэй.

Чайка ішла і дзяржала яго пад паху. Не думаў уставаць толькі Харбін — сядзеў адзін за сталом, і перад ім стаяла недапітая шклянка кампоту з маладых яблык — сівога як дождж за акном.

— Налілі дзяўчаткі. Не пашкадавалі, хе-хе...

Усе разыходзімся па пары? — спыталася з парога Выліна, атрасаючы на сабе рукамі халацік — вярнулася з двара.— То і мы саставім пару...— падышла яна да Харбіна.— Утром нос другім... Хай размазваюць па шчоках ваду, што кавалера ўпусцілі...— яна ўзяла Харбіна пад руку, і ён адразу ўстаў з-за стала.

— Ці чэрці... Хе-хе... Не дапіў во... — пагладзіў ён даланёй абвіслыя вусы і пайшоў з ёй у палату, азіраючыся на шклянку.

— І мой цэлы астаўся. Дап'ём... Уся жысь яшчэ ў нас наперадзе.

— Ці чэрці, хе-хе... Некалі ж добра піў...

Алімпіяда пачула, што і сама не можа ўстаць, як і Міхол; падумала, што не трэба было ісці за стол — не палез у рот ні супчык, ні катлетка. За грудзьмі зноў разлілася гарачыня; сціскалася пасля ў камок і кацілася пад горла: нешта там ёсць, дома, калі Таня не прыйшла... Ці дома, ці на ферме...

У незачыненыя дзверы з ганка падзьмула ветрам. Холадна стала ў ногі, аж да калень — нібыта яна з Міхолам на ферме... Прыйшла раніцай па дажджы — вясной, аж тады, у сорак шостым, калі падымалі на вяроўках прыгнаную падласую скаціну. І боты на нагах гумовыя, халодныя — Міхол дастаў іх у Плешчаніцах, прывёз і выдаў даяркам і даглядчыцам. І сам ён у такіх ботах: вясна ха-

лодная, з дажджом. На дзядзінцы, на полі на раллі — усю-ды гразь, ліпкая, глыбокая, і на ёй наверсе, як на балоце, праклюнулася рэдзенькая зялёная травіца. Дагэтуль яшчэ быў мароз, пасля адразу пайшлі халодныя дажджы, пад-ласая скаціна даядала даваенныя саламяныя стрэхі... Ка-роў трэба было падняць з гразі і выпхнуць хоць на дзя-дзінец за вугал. Слізкая гразь, слізкія боты, слізкая ў ру-ках вяроўка, перакінутая праз бэльку, слізкія капыты ў каровы... Аж цяпер яшчэ карову тую помніш: доўгенькая бліскучая бляшка ў вуха без нумара — сцёрлася; і гала-ва, і рогі, і вушы апушчаны ўніз; вочы сівыя, халодныя, як дождж сёння за акном...

— Раз-два... узялі!..— крычыць Міхол, і распаўзаецца на бэльцы папалам вяроўка, падласая карова чмякаецца ў гразь. Разам з ёю ляцяць уверх нагамі ў новых гумовых ботах Міхол з Харбінам. Яна, Алімпіяда, падае якраз ка-рове на жывот — аблезлы і чуць цёплы, як вытапленая ўчора ўвечары печ... Рук няма на чым пагрэць... Паспра-буй, падымі худую — клубы тырчаць, як з дрэва вычаса-ныя, вялікую — да вайны на ферме такіх не было, калі сам не можаш падняцца з гразі, калі дома толькі паўліпавачкі ячменю, які не пусціш нават на крупы: трэба замачыць на солад і выгнаць гары, каб за яе ў таго ж Жучка дастаць хоць бы мех ячменю, бо ляжыць хворы Мікалай — харкае кроўю — і малы Міфодзя пачаў худзець і расці ў галаву, а ў самой сталі наліваццa ногі — азызаць... Жучок без га-ры не дасць, гэта ж не помач — чорная фасоль — якую прывязуць з сельсавета з Белага і раздадуць бясплатна: па маленькай, плеценай з саломы Міхолавай лубачцы на кожную хату ў вёсцы, а ў каго дзеці — па дзве... Кармілі ў тыя гады вёску, ратуючы ад галоднай смерці, Міхол з Жучком: Міхол — сельсавецкай помаччу з лубачкі, Жу-чок — фуражом: спішуць усё на коні... Не спісалі...

Дзе тая лубачка?.. Згніла, а можа, яшчэ валяецца ў Міхола на гары?.. Дзе тыя каровы?..

Горача стала ў вачах, закруцілася галава...

На дварэ зноў сціх дождж, аблешчылася. Над кухняй было відаць у акно — паявілася маленькая, жоўценькая ад сонца палоска — краёчак воблачка.

Чаму не прыйшла Таня?

Жоўтую палоску ў акне закрыла Сцяпанаўна — стала, апусціўшы на грудзі сівую галаву, і выцірала хусткай во-чы. У сталоўцы было ціха, гаманілі цяпер на ўсе галасы за сцяной у палатах.

— Гэта толькі здаецца так, што я адна...— загаварыла ад акна Сцяпанаўна.— А так — я не адна. Я з вамі з усімі... Адных забіраюць, другіх прывозяць на іх месца... Мяняюцца... А я тут пастаянна. Выходзіць, што я з вамі з усімі. Людзям толькі здаецца, што я адна. А я — не адна...— яна выцерла ражкамі хусткі вочы, як рабілі ўсе старыя бабы ў вёсках, акруціла ражкі ля шыі і падціснула на жываце тасёмкай белы шырокі халат з адтапыранымі кішэнямі.— Давай вазьму цябе, сястрыца, пад руку. А то панясліся скарэй... Не належаліся, іх макаўку... А мы з табой разам... Памаленьку...

У калідор ім пад ногі лягла доўгая жоўценькая палаcа — ад сонца.

## 9

У старога Жорава з Краснаволля апух жывот, назыз, пасінеў — Карань на свае вочы бачыў, стоячы ў хаце ў парозе і гледзячы на ложак, на якім ляжаў заголены Жораў. Крывападцёк на жываце зрабіўся буры, як асенні позні баравік, аж страсанула. Карань адвярнуўся і глядзеў у акно, за якім прыпусціў дождж. Даехалі яны ў Краснаволле посуху, хмара гналася за імі ўсю дарогу, здавалася, вось-вось апусціцца і лізне чорным мокрым крылом, як груган, але яны праскочылі. Дождж толькі пакапаў перад самым носам у Краснаволлі на сухі брук. Карань надта не слухаў, што гаварыў Жораў Пугачу, стогнучы, і ўлавіў спачатку толькі адным краем вуха тое, што пасля азвалася ў душы страхам: ён ці не ён, пра каго гавораць. Спачатку яму было ні горача ні холадна. Ну што там такое... Ноччу на МАЗе без прычэпа, з аднымі толькі пярэднімі канькамі, як расказваў стары Жораў, на яго ў дзялянцы наляцеў Фірага. Жораў астаўся, як усягды, начаваць: стораж і пагрузчык, пілу і шліхты, седзячы ля агню. На яго і наскочыў Фірага. І не на яго, аказалася пасля, а на кучу калодак, нарэзаных з верхалля. Яго і зачапіла калодкай — вырвалася з-пад задняга кола — і ў жывот... У жывот, дык у жывот, што яму да гэтага, Караню: «жывот на жывот і зажывёт», не такое ён бачыў, ездзячы з Пугачом па вёсках, не такія жываты, але тут-то і ўлавіў Карань краем вуха тое, што падсыпала яму прыску пад пяты... Аказваецца, стары Жораў добра не помніць: МАЗ-то быў леспрамгасаўскі, а за рулём у кабіне сядзеў нібыта і не Фірага, а нейкая «гніда», і гэта «гніда» была падобна на «рудога

шчанюка», што ўсягды ездзіць з Ратнікавым. Ён быў ці не ён — каб яму ні дна ні пакрышкі! — зноў-такі Жораў добра не разгледзеў: ноч ужо была ў лесе, цёмна, магло і здацца. Адно толькі добра помніць і будзе «цвярдзіць на следстве», што за рулём сядзеў п'яны, бо рваў з дзялянкі — зямля стагнала і рвануў недзе на Жоўты Бераг. Ну і што яму, Кораню, да таго, што п'яныя катаюцца на машынах ноччу? Катаюцца ж яны ўдзень, могуць і ноччу: п'янаму мора па калена.

На гэтым усё і скончылася б. І не трэба было б больш нічога лавіць вухам, стоячы ў парозе, калі б у хату не павалілі краснавольскія бабы са старой Жоравіхай — аж семера, ці што. Разам з пырскамі дажджу — атрасаліся — яны прынеслі і ў так ужо трывожную хату, відаць, добра паднятае, як на дражджах, «гасла», якое кацілася па Краснаволлі, а можа, і па ўсіх вёсках, з самай раніцы, абрастаючы, як камок снегу ў адлігу. У хату да Жорава яно ўкацілася гарачае, як агонь; камок снегу пацёк адразу вадой — слязьмі: пагарэлі!.. Зяці Алімпіядзіны пагарэлі: адзін і другі... І машыны іхнія і яны самі... Ноччу на дарозе разбіліся і пагарэлі... І з імі згарэў Валерка... Корань аж перапытаў — які Валерка? Яму сказалі, што Вайдзішын... Вольчын, з Крамянца... Сказалі, пасталі ўсе, глядзелі на яго і маўчалі, як усё роўна яму не трэба было гэтага гаварыць, а вот пацягнуў жа чорт за язык, сказалася... Яму зрабілася горача: засмылела раптам неяк калюча скура на ўсёй спіне пад тоненькай жоўтай тэніскай... Пасля ў бабскім гармідары яго вуха зноў улавіла, што згарэлі не ўсе зяці, а толькі адзін леспрамгасаўкі зяць і Валерка, што Ратнікаў Краснаволля жывы,— сядзіць, вун, у канцылярыі з Джанікам, звоняць у Плешчаніцы — што гэта ён ноччу падабраў іх на шашы пад Горнам і адвёз — машына яго цэлая — адразу ў Плешчаніцкую бальніцу. Сюды, у Белае, не павёз — і правільна зрабіў, бо чым тут мог памагчы Колас, а там жа раён. І ўсе шкадавалі Вольку, забыўшыся адразу на яго, Кораня: жыла баба, як мокрае гарыць, а цяпер і апошні свет засланілі...

Пугач, разапхнуўшы ў парозе баб — «размурлыкаліся мурлахапенькія»,— пабег у калгасную канцылярыю званіць Коласу: «востры жывот». За ім пабег і Корань — беглі па дажджы, густым, ранішнім, халодным. Пугач гаварыў па тэлефоне доўга: перытаніт, гематома, удар, пракол, укол — ад адных слоў, наслухаўшыся, загнуцца можна, а ён, Корань, уросшы ў зямлю ў парозе, смактаў разам з

дымам усё, што можна было пачуць са старшынёвага кабінета... Ніхто нідзе, аказваецца, не згарэў, усе жывыя, абгарэлі толькі — і адзін і другі. Адразу неяк паяснела ў вачах, Корань аж уздыхнуў; з плячэй як гара звалілася, стачала лёгка ўсяму, і ад гэтай лёгкасці некуды нізка нахілілася пад нагамі падлога і далёка ў канцы яе паявілася цагляная ў тры паверхні белая бальніца ў Плешчаніцах, у сасновым бары ля возера. Закарцела кінуць і Пугача і старога Жорава — адвязе Дзярызямля на «казле» — і рвануць адгэтуль адразу туды. І такое вялікае было гэта жаданне, што Корань ледзь сцяў сябе ў парозе ў канцылярыі ў кулак. І не сцяў бы, калі б Пугач, адарваўшыся ад тэлефона, не закрычаў, што трэба хутчэй ехаць, а то стары Жораў можа дома душу аддаць. На вуліцы ён бег да матацыкла і зноў думаў, што трэба плюнуць на ўсё і ехаць у Плешчаніцы. Самому, сваімі вачыма паглядзець: па тэлефоне Корань ведае, як супакойваюць. Сам супакойваў. Бярэш трубку і гаворыш: жыў ваш хворы, здароў, скора будзе падбрыкваць. Па тэлефоне з бальніцы ўсягды гавораць, што ўсё добра, усе папраўляюцца — гавораць няпраўду. Праўду скажуць толькі тады, калі трэба прыязджаць забіраць нежывога... Во тады гавораць праўду...

І Кораню раптам тут, на халодным дажджы ў Краснаволлі, стала горача і страшна: пазвоняць зараз у калгасную канцылярыю з Плешчаніц і скажуць: прыязджайце, забірайце...

Калі яны, вывеўшы старога Жорава з хаты, пасадзілі ў каляску і рванулі адразу з Краснаволля, дождж паліў руччом, гонячы па бруку сівую пару.

— Людзі жылі і жыць будуць, а мы гора цяпнем. Слухай, Антонавіч! Можа, звернем куды пад стрэшку? Ты відзіш, што робіцца. Як з цэбра на галаву. І адкуль ён узяўся? Загавеем самі і «востры жывот» не давязём. Вадой змые на дарозе.

— Казларогі чартуляп! Пра гэта нельга думаць: за дваццаць чатыры гадзіны мазгі згараць... У яго можа развіцца перытаніт. Ты ведаеш, што такое перытаніт?..

— Цьфу, маць часная... Не знаю і знаць на хачу...

Корань плюе са злосці пад вецер — сабе ў вочы — і дае газу — матацыкл, сапнуўшы пад сябе сінім дымам, рве па бруку — па вадзе.

Цёплы, пахнючы, як з лазні, дзе парыўся бярозавы венік, дождж з ветрам змыў з галавы — Корань паехаў без кепкі, кінуў толькі цэлафанавы плашч у каляску —

пыл і пот, які аж уеўся ў скуру за лета, і цяпер ліе ваду за карак пад тэніску, што ўсё роўна адхвастаў у лазні на палку венікам і апаласквае з вядра ўсяго: з галавы да пят. На ім, Кораню, ужо ні рубца сухога. Яго плашч з капюшонам яны накінулі адразу, яшчэ на двары ля ганка, старому Жораву на плечы, паслалі пасля ў калысцы яму на калені брызент, і цяпер стары і ў вус не дзьме: сядзіць, як мыш у нары, толькі вочкі яго, чорненькія і бліскучыя, зыркаюць з-пад капюшона нейк вінавата і балюча на замглёны, заліты вадою свет.

«Сядзі, стары пень, і не кратайся... Жыў і жыць будзеш, а мы гора цяпнем...» — чым большы дождж, тым больш, здаецца, ён цяплейшы, і Карань ужо мякчэй пазірае ў каляску. Павярнуўшыся назад, дзе на сядзенні, грэючы ў спіну, прыціснуўся да яго Пугач — нагнуў галаву, падставіў яе пад дождж, як пад тапор,— ён крычыць, каб заглушыць і трэск матацыкла і шум дажджу:

— Са мной жылі і жыць будзеце!.. Толькі дзяржыцеся ў чатыры рукі... А будзеце ляцець цераз галаву — галаву дзяржыце рукамі... Ніводнага шлёма! Забыліся, поручы гарачку...

— Пра гэта нельга думаць... За дваццаць чатыры гадзіны мазгі згараць...— сіпіць Пугач недзе яму, Кораню, пад паху.— За яго галаву сваю аддасі... Чысценькую, вымытую, казларогі чартуляп...

— Трэба было мне ў старшыні «казла» прасіць. А я яшчэ ноч мэнчыўся...— круціцца ў калясцы бліскучы капюшон, і з-пад яго верне пара.

— Пішчыць, як мокры верабей у гняздзе. Будзеш жыць... Мужчынскі род дужы... І век цяпер доўгі. Сядзі і не выцярэблівайся...

Карань не крануўся б і з месца ў такое безгалоўе, калі ліе, як з цэбра — пачакаў бы «вострьі жывот». А пільна трэба — то вязіце на сваіх машынах, на калгасных і леспрамгасных. У старшыні «казёл», у дырэктара леспрамгаса — «казёл». Садзі і вязі свайго хворага ў машыне, ніякі дождж не страшны, але Карань не мог ужо, наслухаўшыся за раніцу, ні сядзець, ні стаяць на месцы. Не змогшы рвануць у Плешчаніцы, ён рваўся цяпер у Белае — толькі б не стаяць. Толькі б ляцела пад кола дарога з каменнем, з гразёй, з вадой, з калдобінамі і круцілася збоку зялёнае поле з далёкай паласатай, рассыпанай пад дажджом удоўж дарогі скацінай. Хай хоць каменне з неба на галаву!

На матацыкле сядзеў цяпер невядомы, новы Корань, нібыта гэты новы Корань вырас раптам у Краснаволлі, як грыб з зямлі пад цёплым дажджом — ляжаў белай плесняй пад сухім мохам, а лінуў дождж, ён і пайшоў расці, распіраючы зямлю і рассоўваючы мох, як радасць ці гора грудзі ў чалавека.

За Краснаволлем пачалася калдобіністая, убітая за сухое лета дарога — абсаджаная старымі яблынямі з абмытымі белымі яблыкамі. Зусім яшчэ нядаўна тут стаялі крайнія хаты ў вёсцы. Цяпер вёска паменела з кожнага боку вуліцы, пакінуўшы на месцы двароў з дзіцячым крыкам, сабачым брэхам і парасячым піскам адны размытыя, парослыя крапівай, палыном і лебядой печышчы, з якіх цяпер сцякала аж на дарогу чырвоная вада. Печышчы хаваліся за старымі здзічэлымі яблынямі з аблупленай з камля карой, з абламаным голлём — вісіць жоўта-бурымі разгатымі венікамі. З яблынямі дзічэюць і вішні — растуць разложыстыя, пагнутыя, пустыя. Вёска карацела, горбячыся пасярэдзіне першымі цаглянымі дамамі ў два паверхі.

Дождж раптам перастаў, сыпалася толькі дробненькая, як мак, імжа. Сіняя, цяжкая — зямля б не ўтрымала на сабе — хмара вісела цяпер над полем, над адзінокімі дубамі і ліпамі, якія стаялі воддаль пакінутых садоў — падпіралі сабой высокую сінюю цяжкую хмару і ад таго здаваліся вялікімі і вечнымі. І зямля за імі здавалася шырокай і бязмежнай, аж займала дух. Абмытае поле пахла распараным, як у печы, ячменем, вільготным сенам, прытаптаным скацінай жытнім іржышчам і белай на цвеце — як усё роўна распусцілася толькі цяпер пасля дажджу — падбярозкай. Пад сіняй хмарай над дубамі павіслі два ўстрывожаныя бацяны — круціліся там, здавалася, разам з зямлёй і хмарай, цягнучы за сабой у круг і дарогу на гэтым шырокім, без мяжы Краснавольскім полі, якое ішло, пакідаючы ўбаку Ячнае і Белае, аж за сіні край неба, за Вілію, дзе былі відаць белыя будынкі ў Камене... Корань, яшчэ ходзячы з Белага ў Краснаволле і ў Крамянец з вялікім чорным, пад кракадзілавую скуру партфелем у руках, запомніў і гэтыя, тады яшчэ вузенькія і гразкія — вада за калені — дарогі ў лагах, і адзінокія ліпы з дубамі на полі, і само поле, па якім ідзеш, бывала, у белы свет як у капейку і летам, і ўвосень, і зімой у мяцеліцу па снезе... Каб забраць у баб з Крамянца і з Ячнага «рату» самаабкладання з пядоімкай і аднясці ў сельсавет. Цяпер ужо і кроку, здаецца, нагамі не ступіш, толькі па

хаце і па двары шлэпаеш, дзе далей — аўтобус ці Коласаў матацыкл, а баляць у каленях ногі. Аж ад тых гадоў ломяць, калі хадзіў мокры па калені ў старых франтавых, працёртых у костачках кірзавых ботах ці ў сырых, халодных, мокрых з сярэдзіны гумовіках, у якіх ніякая ануча не хацела быць сухой і цёплай у познюю з дажджамі восень і вясной у доўгае кіслае разводдзе.

Схаваліся з вачэй дубы. Побач з жоўтым на цвеце лубінам старасвецкая, убітая нагамі, калясьмі і машынамі вузкая палявая дарога раптам знікла з зямлі, і матацыкл пачало кідаць з боку на бок па слізкіх глыбокіх жвірыстых калдобах. Два калгасы вялі тут новую дарогу з Краснаволля ў Белае, шырокую, машыны ў чатыры, высака насыпаючы самазваламі над некалішнім балоцістым логам жоўтага жвіру. Утаптаны збольшага жвір паскраблі бульдозерам; брук пачалі класці ад Белага, калі дойдуць сюды, у лагчыну, невядома, і цяпер на неглыбокіх круглых ямках хоць ты зубы сціскай... У калясцы закратаўся бліскучы ад дажджу башлык:

— Растрасе... Кончуся... Што вы са мной робіце? Жыво-от... Чорт бы вас узяў... Лепш бы я пехатой, з кіёчкам...

— Жыў і жыць будзеш... Усю жызню на трактары трасло, а цяпер, калі на пенсію сеў, баішся здрыганупца на дарозе? Ды скінь ты свой башлык. Улез у плашч, як мыш у гняздо, і баішся на свет паказацца?.. Дажджу даўно няма...— Корань выставіў руку, каб сцягнуць у старога Жорава з галавы башлык, але Жораў, адхінуўшыся, не даўся, як усё роўна з яго скуру хацелі садраць, застагнаў, мацюкаючыся, і Корань збавіў газ. Паехалі памалу — калыхаліся на калдобах як малыя дзеці на вялікіх качэлях — няма сілы падбіць.

І новая дарога, і поле — узараны адзін раз дзірван, і скаціна, рассыпаная аж пад Белае, перапялёстая, ціхая, і бацяны ля дарогі ў калдобах — усё зноў стала шэрым, замглёным: пасыпаўся дождж, рэдзенькі, як праз падсітак.

— Слухай, Антонавіч...

— Што? Душа казларогая мурлыча? Ад старых грахоў?

— Калі ён не выцягне — позна тады мне будзе замальваць грахі. Грахі замальваюць пры жывым чалавеку...

— Казларогі чартуляп... Не думаў я, што ты такі...

— Сам не падазраваў. Загарэлася тут і...— Корань пастукаў сябе кулаком па грудзях.— Крычаў ён надта, гаварылі ў канцылярыі... Аж у мяне мае ногі смыляць па

калені... Ідзеш, бывала, гэтай лагчынай,— паказаў Корань на адзін і другі бок насыпанай дарогі,— нясеш пусты партфель. Цямнее. А вада тут у лагчыне вышэй калень. Праз халявы свішча... Марозік на дварэ, лядок хрумшчыць, як цененькае шкло. Ідзеш, а ногі смыляць, як прыскам пасыпаныя... А ў яго ж яны гарэлі... Душа, Антонавіч, цяпер у мяне гарыць... Хаця, хмара можа завярнуць назад на небе, дождж, Антонавіч, зноў можа на дарозе пераняць, а ранейшае не заверне назад, не пярэйме з тым, што было. Гэ-э... Калі б яно акруцілася ды зноў звалілася на маю галаву... Цяпер бы я абышоў далёка па лесе сваю Два метры фанеры. Эх, Антонавіч... Душа ў мяне дагэтуль не прызнавала ніякага сына... Думаў, што ён, можа, і мой, а душа — нізашто! А цяпер і душа заныла... Чуе, што свой чалавек у бядзе... А хто паможа? Думаеш, прыехаўшы дамоў, раскажаш усё Фанеры? Мая за такое... А адзін разумны чалавек сказаў, што ў такія гады не разводзяцца. Людзі жылі і жыць будуць, а я гора цяпну.

— Пра гэта нельга думаць... Судзьбіна і ў цябе казларогая... наладзіцца...

— Прызнáюся, Антонавіч, начыстату... Я-то ведаў, што ён мой, хітрыў толькі. Вот душа і не прызнавала... А цяпер... Хай бы яна, гэта душа, раней загарэлася, Антонавіч... Што, я не мог яго жывога-здаровага па галаве пагладзіць? Што мне не давала? Два метры фанеры? Ды ерунда гэта! Сам баяўся. Людзі пальцам паказвалі, а я ў кусты. Баяўся. Што я не мог глянуць яму зблізку ў вочы? У мяне ж не было на каго глядзець. Усё жыццё сваё я толькі і глядзеў у бутэльку ды на Два метры фанеры... Цярпець яе не магу, Антонавіч.

Збоку над лагчынай, над вострай далёкай елкай з груганом на макаўцы, выскачыла раптам белае сонца, як усё роўна наверх на хмары, сцебанула па вачах, нібы ручніком. Угары над самай галавой азваўся жаваранак, ядраны, радасна, як першы раз пасля зімы. Заблішчэла ўсё наўкола нейкім цёплым бляскам: лісце на бярэзніку, вада спераду ў лужах, матацыкл, башлык у Жорава на галаве, валуны збоку ля дарогі і за імі жоўты лубін — заліўся, як слязьмі. Над падласай скацінай задрыжала рэдзенькая чырвоная радуга... Шырокая, на паўнеба хмара над Ячным акруглілася ў цяжкі туляг, і ён папоўз сюды, пад Белае — варочаўся назад. Замычэлі на полі каровы.

З новай дарогі спусціліся ў лажок і паехалі між бярэзніку і жоўтага лубіну. З лажка папаўзлі пад горку — ма-

тацыкл пачаў прыбуксоўваць, кідаючы з-пад сябе гразь і траву аж на поле.

— Сцягні башлык, казларогі чартуляп. Ветрык хай паходзіць... Ачуняеш адразу...

— Жыве ён і жыць будзе, Антонавіч... А мы гора цяпнем...

З горкі добра было відаць Белае — паказалася адразу ўсё, як на стале, цягнучыся доўгай загнутай вуліцай ля абмялелай зусім ракі да высокіх старасвецкіх прысад, дзе стаяла бальніца. Схавалася раптам сонца, нізка над самымі хатамі ў Белым, пабеглі дробненькія чорныя хмаркі. Угары над галавой захлебястаў рэдзенькі гром, як дражнячыся; рвануў з поля, з лубіну, вецер, і на твар пырснулі калючыя халодныя кроплі. Запахла сырой зямлёй, як з пераараната ўвосень бульбянішча — з папару, з-пад ног у скаціны. З елкі, з макаўкі, зляцеў груган і згубіўся пад хмарай. Матацыкл панёсся з гары між валуноў, што былі пасцягваны з поля да дарогі.

— Праскочым, Антонавіч? — паказаў Корань рукой на бурую хмару.— Вярнулася...

— Казларогая судзьбіна... Ты чуеш, як пахне лубін? Паглядзі, як яму, мурлахапенькаму, не хапала дажджу? Дзеля яго я гатоў падставіць сваю стрыжаную галавешку пад лівень і стаяць суткі...

Дождж лінуў раптоўна, такога яшчэ сёлета не было: сцяной. Завесіў спераду і Белае і альшэўнік; над шашой задымілася пара, як дым. Па матацыклу, па шчытку, забарабаніў град — пайшоў буйны, па арэху, шаткуючы ля дарогі жоўты цвет на лубіне. Пасечаныя кветкі гнала з ветрам у вочы, залепліваючы твар. Дарога спераду зрабілася адразу белая; з зямлі дыхнула холадам. У лубіне пісклявым голасам азваліся птушаняты, але іх заглушыў густы чэрствы шорах.

— Казларогая судзьбіна!.. Гані праз шашу пад навес!.. Паб'е!..

На шашы матацыкл заглох — вылез з канавы на брук, чых-чых і пакаціўся назад. Яны, саскочыўшы, перацягнулі яго цераз шашу і закацілі пад навес — сухі і цёплы, з падсохлым лісцем пад нагамі, акуркамі і газетамі. Піхнулі са злосці аж да самай сцяны.

— Скура на галаве смыліць, Антонавіч... Дык гэта ж ад граду. А ў яго яна гарэла...— Корань пачаў бегаць пад навесам ад сцяны да сцяны, шастаючы мокрымі паўбацінкамі па сухім лісці і па газетах. Пасля дастаў з кішані

штаноў насавую чырвоную хусцінку, выкруціў і пачаў выціраць твар і кароткія — вожыкам — валасы, якія пасля дажджу прыліпалі да галавы, і ад гэтага ён рабіўся маладзенькі, як хлапчанё. Бегаў пад навесам, выціраючыся, і крычаў, каб заглушыць густы шум ад дажджу і граду:

— Знаеш, што яшчэ сказалі ў канцылярыі? Што ногі... Што скура ў яго на нагах папяклася... Што цяпер трэба скуру перасаджваць... Браць з грудзей, з плеч і перасаджваць на ногі. І гэта ў дзіцяці? Дзіця ж не выдзержыць... Лепш бы я не стаяў і не чуў...

— Казларогі чартуляп... Можна і не браць у яго, мурлахапенькага... Можна ў донара...

— Можна і ў старога? У такога, як я?

— Можна. Абы яна, мурлахапенькая, падышла па групе. Прынялася... Тут то-онкае дзела...

— У мяне падыдзе, Антонавіч... Хоць гора цяпну, а праверу на сваёй скуры, праверу — мой ён ці не мой!.. Быць не можа, каб не мой... Я яму, альховаму, з рук, з ног, з морды сваёй сабачай не пашкадую...— Корань спатыкнуўся і забегаў яшчэ хутчэй.— Хай тады мая Два метры фанеры з мяне ўсю лупіць, апошнюю... З галавы да пят... Ты, Антонавіч, нават падумаць сабе не можаш, што гэта будзе!..

— Казладойная судзьбіна!.. Там многа той скуры не трэба... Ты думаеш, з плячэй у цябе здзяруць, як рубашку? Не-е... Бяруць па маленькаму кавалачку з рознага месца і нажыўляюць рэцыпіенту ў адным месцы, у другім... А эпідэрміс тады сам разрастаецца, мурлахапенькі...

— Паеду! Хай кладуць! Хай лупяць мяне на палосы!..

— Яе, мурлахапенькую, адразу не перасаджваюць. Трэба, каб рана прыгаілася. А да той пары і душа твая казларогая прыгоіцца...

— Ды я! Ды што ты, Антонавіч! Ды я...— Корань забегаў, як падсмалены, нібы ў яго на гэтай халоднай падлозе пад навесам гарэлі спадыспаду ногі. Мокрымі паўбацінкамі ён вытаптаў чорную паласу.— Ды я для яго, Антонавіч...

Корань так і не сказаў, што ж ён зробіць. Бегаў толькі пад навесам, круцячы галавой і заплюшчыўшы вочы. «Вожык» у яго падсох, падняўся, пачырванеў, і адтаго паменела сівізны. І твар у яго зрабіўся чырвоны. Корань аж кіпеў:

— Едзем, Антонавіч!

Град перастаў, ляжаў толькі на траве ў кучках, як бе-

лы гарох; цадзіў роўны спорны дождж. На шашы, на бруку і ў канаве на мутнай жоўтай вадзе лопаліся вялікія, па курыным яйку, бурбалкі...

Корань падбег да матацыкла, ссунуў з галавы ў Жорава башлык — дыша! — зноў накрыў яе башлыком і з разгону ціскануў нагой на педаль. Матацыкл застраляў сінімі клубамі дыму; пад навесам не было чым дыхаць.

— Казларогі чартуляп! — закашляўся Пугач.— Сам зараз згарыш і нас спаліш... Тысяча чарцей...

З-пад навеса адразу рванулі на цвёрдую абмытую дарогу. Праз мокрую адзежу дождж здаўся зусім цёплы. Ля альшэўніку над дарогай, нізка, дастаючы Кораню да галавы, насіліся з прарэзлівым піскам ластаўкі. Заірзаў недзе ў кустах конь, моцна, як гром над ракой. У вёску на парэзаную трактарамі і машынамі вуліцу бегла з гары рудая вада.

Корань маўчаў да самай бальніцы, толькі ёрзаў у сядле. Вароты ў бальнічны двор, цяжкія, збітыя з сасновых новых дошак, былі зачынены, і ён засігналіў — прарэзліва, аж заклала ў вушах.

— І тут яшчэ гора цяпнем!..

Адчыняць вароты прыбегла Сцяпанаўна, у мокрым халаце, з папрыліпанымі да твару сівыміваласамі. Адцягнула вароты набок.

— В-вашу макаўку... Так намокці... На вас жа нітачкі сухой нямашака.

— Папаўненне, Сцяпанаўна. Бяры яго за башлык з каляскі,— паказаў Корань рукой на Жорава,— перадзявай — і ў палату... І ванна не трэба... На дарозе выкупалі...

— Казларогі чартуляп... Яму яшчэ смех у галаве. Падганяй каляскай да ступенек...

— Вясёлыя, вашу макаўку...

— Гэта я сягоння вясёлы, Сцяпанаўна...— акруціўшыся на двары і стаўшы ля ганка, Корань першы саскочыў на зямлю, падбег да Сцяпанаўны. — І ты хочаш ведаць чаму? Ты мяне поймеш... Ты гора цяпнула за сваю жызню...

— Вясё-ёлыя, вашу макаўку, як пагляджу... Калі і ўзялі, то па такім дажджы і не грэх. Каго вы тут прытарабанілі? — Сцяпанаўна сцягнула ў Жорава з галавы башлык.— Ведаю гэтага чалавека. Дай вазьму пад пашку, каб ты здаровенькі быў, тваю макаўку...

З другога боку Жорава падхапіў Корань.

Дождж зноў хлынуў як з вядра.

— Заходзьце, заходзьце... На ложку, вун, садзіцеся, на слабодным... Калі толькі цёця Уліма што скажа, а так заходзьце...— Выліна паспела ўжо і расчасаць падкручаныя валасы і памазаць лёгенька вусны — нібы ў яе яны такія вішнёвенькія ад тэмпературы.— Хай зойдуць, цёця Уліма. Вы тут у нас самыя цяжолыя, а мы...— Выліна зняла з рукі халацік і хуценька перакінула на брыж.

— Учарашнія сваты? Хай зойдуць, можа, і мяне хто пасватае і возьме замуж разам з ложкам... Толькі каб не курылі... А так учора...

— Ужасць, што было. Сёння, цёця Уліма, не будзе...

У парозе, прынёсшы з сабой свежы пах ёдаформу, хлоркі і дыму ад папярос, тапталіся ўжо мужчыны — садзіліся на свабодны ля сцяны ложак. Міхол і Яноўскі адразу, як два камяні, стукнуўшыся на ляту адзін у аднаго, адскочыліся ў бакі і селі кожны збоку, ля брыжа: пасля сталовай глядзелі адзін на аднаго, як ваўкі; ля Міхола прымасціўся кароценькі Жучок, адкінуў назад галаву і зарагатаў, ціснучыся да Міхола — відаць, і тады, калі быў на складзе, дружней жыў з ім; Яноўскі ўзяў за руку і пасадзіў ля сябе Верамея.

— Кладзі ў бот...— паглядзеў ён на Міхола.— З табой не сядзеў і не сяду...

— Пасадзілі б, дык бы сядзеў,— заступіўся за Міхола адразу Жучок.— Выкруціўся... Абодва выкруціліся. Я за вас адбухаў...

Алімпіяда ляжала на ложку, падмасціўшы высака пад галаву падушкі; Марфа сядзела, апёршыся плячыма на брыж і выцягнуўшы на простыні ногі — занята была сваім; Чайка толькі прыткнулася на свой акуратна засланы ложак і зыркала хітра жоўтымі кацінымі вачыма па палаце; Выліна хадзіла ціхенька між ложкаў: была гатова ў любы час схапіць халацік і скочыць за дзверы.

Быў час «пасля ўколаў», калі хворыя не патрэбны дактарам, а дактары не патрэбны хворым. Першая, накінуўшы чырвоны плашч, махнулася ў калідоры Праскурніч'я; зірнуў праз адчыненыя дзверы ў палату Колас, падміргнуўшы ёй, Алімпіядзе — помні, як дагаварыліся...— і пайшоў следам за Праскурніч'яй. За вокнамі абцягнула неба, пусціўся зацяжны спорны дождж, відаць, на ўвесь дзень — пад бэз на лавачку не пойдзеш, нават ганак залівае з вет-

рам; на двор, моршчачыся, бегала цяпер толькі адна Выліна,— і ўсе сышліся ў жаночай палаце.

— Нешта мы не дружна сабраліся, як усё роўна на работу... Няма хлапца і галоўнага кавалера...— хіхікаў усё Жучок і падміргваў Выліне.

— Хлапец кніжку ашчапіў, чытае... А Харбін ваш зноў храпе. Спіць чатырнаццаць разоў на дзень, як свіння... Пайду ўспару... У дамавіне належыцца...— у дзвярах стала Сцяпанаўна, прылізваючы мокрыя ад дажджу валасы ля вуха. Прыткнула ля сцяны чырвоную швабру, крутнулася і пайшла ў мужчынскую палату. Скора там пачуўся крык — крычаў Харбін,— і ўсе зарагаталі.

— Нешта сягоння нам усім надта весела, Чайка? — спыталася, ходзячы між ложкаў, Выліна.— Ніяк упыну не знойдзем...

— Пачуеш, што смерць ззаду асталася, што ты яе абышоў — і задуе ў галаву... Тады і весела. Праўда, Уліма?

— Нечага заносіць наперад нагу над ямай. Мы яшчэ, дзяўчаты, дажывём да смерці...— сказала Алімпіяда, і ўсе зноў зарагаталі.

Пад мужчынамі заскрыпеў ложак. Бывае такая мінута ў грамадзе, калі ўсе раптам не могуць дыхнуць без смеху, калі ён, здаецца, рассыпаны наўкола, як порах, і тады хопіць адной іскры — палец толькі пакажы.

— Што гэта радзіва заціхла? Раніцай пела...— Выліне ўжо мала смеху, хочацца песень.

— Слуп ля ганка разбіла на аскалёпкі. Перуном... З двара бегла і не ўвідзіла... Будзеш другі раз бегчы — галаву ля ганка задзірай, а не падол...— Жучку, відаць, мала сёння двух былых старшынь, кусае любога — вось і Выліна папалася.

Зноў смех; на Жучка не злуюць, бо ён рассмяшыў — няважна як, абы весела стала. Не злуе на яго і Выліна:

— Ужасць, цёця Уліма, якія ў нас кавалеры. Грымнуў, як вобземлю...

— І я лепш бы радзіва паслухала. Як раніцай. Прачнулася ад песні і ляжу... У вачах так ясна зрабілася... Здаецца, рассунуўся свет і віджу далёка-далёка... Аж тую сябе, маладую, віджу і вёску сваю даўнейшую...— апіраючыся на рукі, Алімпіяда падняласл вышэй на падушкі.— Здаецца, усхапілася б адгэтуль і паляцела б з подбегам... Па дарозе, па пяску, па каменні... Босая, збіваючы ногі... Паляцела б туды, у тую сваю вёску, да малых сваіх

дзяцей, да Мікалая. І аж туды, калі ў мяне іх яшчэ не было... Калі сама была дзіцём і бегала босая па выганчыку...

У палаце стала ціха, усе слухалі, апусціўшы вочы, і было чуваць, як недзе далёка грыміць гром і шапоча па сцяне дождж.

— Пішы прапала, цёця Уліма... Вы нам увесь смех сапсавалі. Ужасць...

— Во што значыць няма галоўнага кавалера... Слёзы з вачэй скора пасыплюцца... Дзе там тая Сцяпанаўна? — Жучок устаў з ложка і паглядзеў у адчыненыя дзверы, і ўсе павярнулі галовы да дзвярэй, нават Марфа выпрасталася ля брыжа,— ніхто не хацеў з раніцы вешаць нос.

Сцяпанаўна, расхінуўшы шырака халат, адной рукой прылізвала ля вуха мокрыя валасы, другой вяла пад паху Харбіна. За імі ззаду вышчарыў белыя зубы Зэнка — ішоў і ён з кнігай у руцэ. Харбін ступаў нехаця, упіраўся, пазіраючы ўсё на Сцяпанаўну. У яго была выпушчана ніжняя бальнічная жаўтаватая кашуля — даставала да калень,— поверх яе матлялася незашпіленая, накінутая спешна клятчастая рубашка, у якой быў у сталоўцы. Ён накульгваў, падцяўшы правай рукой знізу жывот; жоўтыя вусы адтапырыліся пад носам: стары злаваў.

— Ты куды мяне вядзеш? Я думаў — да Коласа, на перавязку... А ты чаго мяне сюды зацягнула?

— Да Марфы, стары трактар. На перацяжку... А то падшыпнікі выплывуць...— цяпер ужо зарагатаў Міхол.

Харбін адразу змікіціў, што да чаго.

— Дай, суседка, я лепш ля цябе ў нагах прыткнуся. Ці чэрці, хе-хе...— Харбін вырваўся ад Сцяпанаўны, падышоў і асцярожна сеў на ложак, дзержачыся абедзвюма рукамі за жывот.— Хе-хе, каб на іх качкі... Выдумаюць, успаролі з пасцелі...

— Во, тваю макаўку... Ведае, да каго. Да маладзейшай адразу ў ногі. Марфа яму ўжо старая, каб перацяжку зрабіць... Во хрыч... А я думала, сама яго падмурлычу, як гаворыць Пугач...

Чайка як хадзіла, так і апусцілася на свой ложак — адвалілася на падушку, зайшоўшыся ад смеху. З жоўтых вачэй у яе, здалося, пацяклі жоўтыя слёзы. Да яе падбегла Выліна, пачала «адкачваць».

— Я думала — прафесар Адэнскі...— Чайка хліпала ад смеху і не магла гаварыць; паказвала толькі пальцам на Харбіна.— У адной бальніцы ляжалі...— супакоіўшыся, яна пачала расказваць.— Зрабілі яму «адэному». Не ве-

даю, што гэта за такое, што там яму выразалі, але хадзіў ён па калідоры ў адным кароткім сінім халаце, накінутым зверху на белую кашулю і падвязаным кавалкам бінту. Халат расхінаецца, і ўсё там у яго, у старога, матляецца разам з жоўтымі трубачкамі... Сёстры бегаюць за ім, каб захінуўся, а ён — анінадух. Не таму, што стары, што яму дзевяты дзесятак пайшоў... Холаду не баяўся. І нам усім, помню, гаварыў: «Ніколі не бойцеся ветру». Ветрам усё там сваё лячыў...— Чайка зноў паказала пальцам на Харбіна.— І з носа нават на яго падобны...— і паваліласся на ложак сосмеху.

— Тваю макаўку, дзеўка... Не бальніца тут ёй, а цырк...

— Эх, бальніцы, бальніцы...— Чайка аціхла ад смеху і выцірала жоўтыя вочы.— Усё жыццё па бальніцах. Усё жыццё мяне толькі рэзалі і рэзалі. Па адных жэнскіх ажно чатыры разы паласавалі... А-а, што я гавару... Жыла я, дзеўкі... За кім толькі я замужам ні была... За генералам толькі не была...

— А во,— паказаў Жучок пальцам на Харбіна,— чым не генерал? Цяпер яго паднавілі. Жывот заштабнавалі, можа, там што ладнае і ўшылі заадно?..— ён засіпеў, але смеху не падхапілі.

— За кім я толькі, людзі, не была...— уздыхнула Чайка.— У якіх бальніцах ні ляжала... Мужыкі забываюцца, а бальніцы помняцца. З абласной, дзе апошні раз ляжала, нават выпісвацца не хацела, так прывыкла. А вы сядзьце, Сцяпанаўна, пабудзьце з намі...

— Калі Харбін пасунецца на ложку, дык каля яго сяду. Я на яго яшчэ вастру зубы... Дык яму вушы скуллем залажыла, не чуе...

— Хе-хе, дык мы тут суседку зусім прыціснем...

— Яго макаўку... Ён ужо і суседку прыціснуць збіраецца...

Харбін пасунуўся на Алімпіядзіным ложку, і Сцяпанаўна села ля самага брыжа; паклала шырокія вузлаватыя рукі на калені.

— Прывыкла я, людзі, да абласной бальніцы...— зноў загаварыла Чайка.— Глядзелі добра, аднашэнне было добрае. Выпісваюць, а мне не хочацца. Не хачу ісці з бальніцы, і ўсё. На кухню, гавару, прыміце... Піжамы ў вас і халаты, кажу, без гузікаў, паабрываныя. Буду сядзець з іголкай у руках і шыць усё ўпадрад. «Работы хапіла б...» — смяецца доктар. Гаворыць — у другіх аддзяленнях нянек мала, а ў яго ўсе месцы заняты. Нават адну лішнюю ўзя-

лі, пры цяжкіх хворых сядзіць. І на кухні ў іх, гаворыць, усё ў парадку. Каму ні расказваю, ніхто не верыць, што мне не хацелася ісці з бальніцы. Я ўжо і да вас да ўсіх прывыкла...

— Чалавек прывыка-ае...— закратаўся на ложку Жучок.— У нас там...— кіўнуў ён галавой назад на дзверы,— нават там адзін так прывык, што за вароты не хацеў ісці. Сілай выпхнулі. Там так: мінута ў мінуту, а тады — за вароты. Не хочаш — нагой пад зад...— Жучок хітра вышчарыўся.— Яго за вароты, а ён не ідзе, назад просіцца. Не бяруць — дык ён абаснаваўся пад агарожай і жыве, зэкі яму есці носяць. Не ведаю, што там у чалавека было, баяўся, можа, дамоў варочацца ці не было куды, але не пайшоў. Дровы, кажа, буду рэзаць ці на кухні, як Чайка хацела, катлы мыць. Звязаліся з вялікім начальствам — дазволілі. Астаўся чалавек там, дзе прывык. Ды за гэтулькі гадоў, як у яго было — прывыкнеш...

— Вот прывычка ў чалавека. Да цюрмы, да бальніцы, да хвароб усякіх прывыкае. Цяпер, каб мяне зрабілі здаровай, што б я, людзі, рабіла...

— Ты, Чайка, то смяешся, то плачаш... Ужасць. Нос сёння стала вешаць, як цёця Уліма. Дайце, цёця, я вас вышэй падцягну,— Выліна падышла да Алімпіяды ў галовы і ўзялася ў дзве рукі за падушкі.— Так вам будзе лепі. Будзеце сядзець...

— У абласной са мной у палаце адна старэнькая бабулька была...— уздыхнула Чайка.— Беленькія валасы, сама жоўценькая. Прынеслі яе на насілках і пасадзілі ў парозе на ложак. І сядзела яна ўвесь час — і дзень і ноч. На свае вушы я чула, як дактары між сабой: паложыш — памрэ. А будзе сядзець — будзе жыць...

— Ну і паклалі? — спыталася здалёку ад акна Марфа, першы раз азвалася за раніцу, і ўсе паглядзелі на яе.

— Не ведаю. Я выпісалася, а яна яшчэ сядзела...

— Гэ-э, хлопцы... А мы ў кавалеры запісаліся, сватацца прыйшлі... Нам ужо, як той старой, боязна класціся. Ляжаш, гэта самае, і не ўстанеш. Канцы...— зноў засіпеў ад смеху Жучок, але яго адразу абсекла Чайка:

— І ў абласной да нас прыходзілі кожны дзень сватацца ў палату. Двое... Адзін усё смехам заліваўся. Дык у яго аперацыю ў мазгах зрабілі...

Зноў усе зарагаталі, гледзячы на Жучка. Нават у Марфы здалёку заблішчэлі вочы.

— Во! Аднаго кавалера ўжо спяклі!.. Сядзі, брат, і не

рыпайся. А не — саступі месца на ложку хлапцу з кніжкай, хай не стаіць у дзвярах, як на чужой вечарынцы...— падаў голас на ўсю палату Міхол.— Якія мы кавалеры... Я дык во — і сядзець не магу, не то што легчы... Толькі і астаецца — ногі выцягнуць...

— Кладзі ў бот... А я не збіраюся з табой ногі выцягваць... Ты і тады думаў, калі пойдзеш з калгаса — усе ногі выцягнуць... Не выцягнулі.

— Ну-у, завёў... Во перац у нос уцёрся...— Міхол аж пачарнеў, моршчачыся: балела паясніца. Ён і на ложку сядзеў, падпёршыся рукамі.

— Мала таго, што сам пабег у леспрамгас па грошыкі, дык і ўсіх мужчын паадпускаў, справачкі падаваў, зашыў. У леспрамгас пабеглі, нам працадні голыя пакінулі... Ад калгаса адракліся, старшынямі быўшы. Іх старшынямі ставяць, а яны ад калгаса адракаюцца, бягуць. Думаеш, усе грошы загроб? Падарваўся, здохнеш скарэй, а то — даўжэй бы неба пакапціў, т-тваю маць...— Яноўскі зачырванеўся, гаварыў без аддухі і глядзеў некуды пад сябе ў ложак.

— Запе-елі...— Чайка апёрлася локцем Выліне на плячо.— Сватацца, называецца, прыйшлі... За чуб адзін аднаго, як пеўні перад курмі. Мацюкаюцца, месца знайшлі. На вуліцу марш, на дождж... Скажы ім, Уліма, можа, яны цябе паслухаюць...

— Што я ім скажу... Уеўся пот у скуру... Калі тое было, і цяпер адзін аднаму не саступяць... Абое рабое. Каб цяпер прыйшлося — ні з адным не стала б рабіць... Колькі тут, людзі, чалавеку адпушчана на гэтай зямлі... Дык хай бы пажыў спакойна. Дык не... Ядуць яго і «ракі», і «жабы», і сам яшчэ каторы грызе другога... Пасля смерці толькі адзін па адным плачам, а цаніць пры жыцці не можам... Я як абвалілася ля варот на пясок — глядзела на яго, як на маці родную. Слёзы з вачэй... А таптала нагамі ўвесь час, гальнікам дзёрла і не відзела...

— Ай, сястрыца, тваю макаўку... Цяпер надта ніхто не плача. Перш было, да вайны, помніце, бабы? Калі хто нейдзе памёр ці забілі каго — усе плачуць у вёсцы... А цяпер... Аўтобус перавярнуўся, гэтулькі людзей... А ніхто і охаць нават не охае. Чэрствы свет, сястрыца, яго макаўку...

— Кладзі ў бот, Сцяпанаўна. Свет усякі ёсь: і такі, і гэтакі... Што ты мяне з ім раўняеш? — паказаў Яноўскі рукой на Міхола.

— Ай, братка, задула ў галаву, супакойся. Будзеце

вы яшчэ адзін па адным плакаць, даражэнькія. Праўду Уліма кажа. Гора вы не відзелі... У вайну цэлыя асталіся, пасля вайны ў начальстве хадзілі. Не за плугам, на пуп не бралі, вашу макаўку... Ат...— Сцяпанаўна махнула рукой і абвяла ўсіх вачыма.— Нешта мы зноў: калі церці — дык да смерці... Насы паапускалі... Выходзіць, яго макаўку, што ў бальніцы толькі і трэба слёзы размазваць? Дай я цябе, кавалер, хоць ашчаплю. Душа адразу пацяплее, і ў цябе і ў мяне...— Сцяпанаўна ашчапіла Харбіна за шыю і прыціснула да сябе, Харбін паклаў ёй галаву на плячо — жоўтыя вусы ў яго задзёрліся ўгару, стаўшы стаймя — і ўхапіўся ў дзве рукі за яе локаць: ашчапіла Сцяпанаўна яго як мае быць — душыла.

— Так яго, Сцяпанаўна, так... З гэтага і трэба было пачынаць, а то ўсякія там конікі-вінцікі... Кладзі яго ў бот!

— Не магу, дзевачкі, ужасць!..

— Во гэта Сцяпанаўна. У абласной такая была...

— Жывот у яго трэсне...

— Не трэсне, Жучок, не бойся. Жывот зашыты. Хай стары экзамен выдзержыць. Кладзі яго ў бот, Сцяпанаўна, кладзі... Ачуняе стары, ён цябе з бальніцы з сабой забярэ. Сядзеце ўдваёчках і паедзеце. Не будзеш па чужых вуглах бадзяцца. Цмокні старога ў лысіну... Змачы яе, а то такі дождж цэдзіць, а яна ў яго сухая. Во, гэта па-моему... Гэта па мне...

Харбін пачаў вырывацца, замахаў рукамі, і Алімпіяда пасунулася на ложку вышэй у галовы. Зноў усе сосмеху схапіліся за жываты. У Зэнкі, які стаяў увесь час у парозе, вышмыкнула з рук кніга і стукнула аб падлогу. Усміхнуўся сур'ёзны Верамей, нават Марфа спусціла ногі на падлогу, стала ля ложка і ўтаропілася на Сцяпанаўну. Забегала Выліна, сцягнула з брыжа свой зялёны халацік і выскачыла ў дзверы.

— І так дзевак мала, а тут яшчэ адна збегла з вечарынкі...— адкінуўшы галаву, цёр у дзве рукі паясніцу Міхол.

Ударыў недзе блізка на двары пярун, і Сцяпанаўна, уздрыгнуўшы, адпусціла Харбіна:

— Дужы яшчэ, яго макаўку...

Харбін зачырванеўся як рак, закратаўся на ложку, пачаў папраўляць свае натапыраныя, як у ката, вусы і хаваць на прыпале пад рубашку ніжнюю жоўтую кашулю.

— Ну, усё. Работа зроблена. Заўтра запоіны. Слухайце, людзі. А чаму б нам і не пажаніць яго са Сцяпанаўнай

у самым дзеле? Як ты, стары, глядзіш сам на гэта? Зробім заўтра запоіны? Кладзі ў бот, я хачу заўтра выпіць...— Яноўскі, відаць, выпіў і сягоння, весялеў усё і весялеў.

Харбін пачаў адсоўвацца на ложку ад Сцяпанаўны.

— Хе-хе, суседка...— павярнуўся ён да Алімпіяды.— Калі б гэта з табой, дык бы і запоіны зрабілі... Перайшоў бы па-суседску праз вуліцу, і ўсё. Хе-хе... Ці чэрці...

— Або-о, сусед... Да мяне можна ў любы час перайсці: блізка. А ты можаш яшчэ бобу ў гаросе пашукаць — маладзейшую пасватаць. Я відзела, як на Выліну глядзіш. Вусны ў яе чырвоненькія, пафарбаваныя. Выліну б пасватаў, сусед...

— Хе-хе... Ці чэрці... Калі б пайшла...

— Кладзі ў бот, стары! Зараз яна вернецца... Выліну — дык Выліну. Нам абы выпіць. І праўда: маладзейшыя не думаюць, адразу замуж ідуць. Пойдзе, магу ручацца...— Яноўскі сагнуўся сосмеху на ложку, узяўшыся рукамі за калені.

Да Харбіна падбегла Чайка:

— Ну, як прафесар... Як Адэнскі. У таго, казалі, аж чатыры жонкі — у кожным кутку ў хаце сядзіць...— зыркала яна, смеючыся, на ўсіх жоўтымі, бліскучымі ад слёз вачыма.

Харбін, пачуўшы, што яго зноў раўняюць з прафесарам, пачаў глыбей падсоўваць жоўтую ніжнюю кашулю пад рубашку:

— А ты, Чайка, шчабечаш, як сарока. Злосная... І ты з імі мяне жэніш? А забылася, як на табе паліцаі ў вайну хацелі жаніцца? І каб не я — яны б на табе жаніліся. Усёй кучай. Помніш, як я цябе ноччу ў сваёй каморцы схаваў, калі яны за табой па вёсцы з хаты ў хату бегалі? І ніхто не ведаў і дагэтуль не ведае... Так ты і не пабыла тады вамужам...

Чайка адыходзілася, адыходзілася ад яго, не ведаючы, што сказаць. Жоўтыя вочы ў яе пасталі на адным месцы, як застылі.

— Заткніся, тваю макаўку...— Сцяпанаўна размахнулася і стукнула Харбіну кулаком па спіне.— Яшчэ адзін рубец пад пупам пасадзім, каб не ўспамінаў вайну...

— Во-во, Сцяпанаўна...— Чайка апомнілася і ўзяла сябе ў рукі.— Знайшоў, чалавек, што ўспомніць. Даўно ўжо косці тых паліцэйскіх у зямлі пагнілі, якія па вёсцы за мной бегалі, а ён успомніў...

Сцяпанаўна раптам пачала ціхенька адсоўвацца ад Харбіна; адсунуўшыся, ускочыла з ложка і стала воддаль, сціснуўшы ў дзве рукі нікеляваны брыж.

— Праўда, сястрыца, яго макаўку... Знайшоў, што ўспомніць: вайну. Солі на рану пацерусіць. Ды я радзіва на сцяпе і то выключаю, калі яно пра вайну пачынае гаварыць... Мне тады — як хто белым абрусом па вачах... у які я костачкі абгарэлыя закруціла... І ты мне па вачах абрусом, а я да цябе з добрай душой падсела. Ну хто цябе прасіў сёння пра вайну напамінаць? Калі так усё было добра ў нас? А цяпер у мяне і рукі трасуцца, і ў вачах бела зрабілася. І вы ўсе, і дождж за акном белыя...

— Ты, Сцяпанаўна, да сэрца надта не бяры. Жыццё такое ў нас. Здаецца, забыўся ўжо па вайну, а табе то плячо параненае пачынае круціць...— Яноўскі сагнуўся на ложку і пагладзіў сябе па плячы,— то радзіва скажа, то целевізар пакажа. Як пачнуць бомбы рвацца, аж ножкі грукаюць пад ім.

— Хе-хе, суседка...— Харбін даў у пяту, аціх, падсунуўся бліжэй да Алімпіяды.— Заступіся хоць ты за мяне. Нібыта мы з табой і вайны не відзелі... Адны яны... Збілася ты, Сцяпанаўна, са штыху...

— Ай, братка, тваю макаўку... Хто яе не відзіў... Так і быць. Дарую. Толькі ты мне больш сала за скуру не залівай... За цябе пасля гэтага я ўжо не пайду, каб і браў. Суседцы тваёй ты не патрэбны — ні ў кола ні ў мяла; Чайка ад цябе адвярнулася, сам вінаваты; Выліна вусенкі фарбуе, на такіх во пазірае яшчэ, як наш хлапец з кнігай,— паказала Сцяпанаўна на Зэнку,— а з Марфачкай я цябе сасватаю... Марфачка! — паклікала яна на ўсю палату.— Марфачка! Адвярніся ад акна. Кавалера вяду. Прыпомні, колькі разоў цябе сваталі і ты не пайшла? Апошні шанц, каб не пайсці на той свет дзеўкай, каб там з цябе ведзьмы зубы не скалілі...

— Во-во, Марфа! Падцяжку зрабі старому трактару! Помніш, як хэтээз падцягвала пасля вайны ў Кур'янаўшчыне? Па цэлым тыдню...— Жучок зноў адкінуў галаву назад і засіпеў ад смеху. Марфа адвярнулася ад акна і паказала свае яшчэ белыя зубы. Сцяпанаўна ўспарола Харбіна з ложка і, узяўшы пад паху, цягнула да акна, дзе стаяла Марфа. Харбін упёрся нагамі ў падлогу, ухапіўся Сцяпанаўне за руку, з-пад рубашкі ў яго зноў вылезла жоўтая бальнічная кашуля, і зноў запішчала на ўсю палату Чайка...

— Ты куды мяне цягнеш? Я Настасеі пажалюся... Коласу...— адбіваўся Харбін.

— Настасея — муку сее, братка. А Коласа цяперака ў бальніцы няма. Я галоўны ўрач. І я цябе, калі іх нікога каля блізку няма, ажаню. Хай Марфачка хоць дзень замужам пабудзе...

— Так яго, Сцяпанаўна, так!.. Кладзі ў бот да Марфы!..

У палаце зноў пасыпаўся смех, як град за акном.

Сцяпанаўна падцягнула Харбіна да Марфы. Марфа дастала з кішані халата вялікі чырвоны грэбень і пачала зачэсваць угару свае густыя яшчэ ў яе гады, чорныя, як варонне крыло, валасы і папраўляць на патыліцы ладную круглую, як рэпа, куклу. Яе глыбокія, пад лобам, вочы загарэліся раптам нейкім ядраным блескам — так блішчыць расінка на позняй зялёнай траве перад марозам. Адзінокі, зусім стары чалавек, не засох ад нуды і хвароб, любіў яшчэ жарты і сам хацеў пажартаваць. Усе чакалі: што ж будзе? Мужчыны паўставалі з ложка, нават Міхол падняўся і апёрся крыжам на брыж.

— Хе-хе, Марфа... Ці чэрці... Гэта ж я цябе ўсё жыццё абыходзіў. Каб жа я ведаў раней, што ты мне ўсміхнешся... Я б табе яшчэ да вайны прыйшоў бы ў Кур'янаўшчыну трактар завясці... Хе-хе...— Харбін у дзве рукі папраўляў вусы, стаяў блізка ля Марфы і глядзеў на яе сваімі выцвілымі светла-сінімі добрымі вачыма. Як усё роўна шкадаваў сваё жыццё, якое прайшло ў яго без Марфы.

— Во, яго макаўку... Чуеце, як ён умее? Чуеце? Прапала наша Марфачка...— Сцяпанаўна зноў грукнула кулаком Харбіну ў плечы, ступіла назад і глядзела на яго, як і ўсе, здалёку.

Марфа паклала Харбіну руку на плячо. Усе заціхлі, было чуваць, як за акном залапатаў па лісці дождж. У палаце зрабілася раптам цёмна, як ноччу. Рвануў пад акном жоўтыя юргіні вецер, і яны, яркія ў цемнаце, застукалі ля Алімпіядзінага ложка ў шыбы. Жахнула за акном на рог палаты бліскавіца, нейкая шырокая, як прасціня; у палаце зрабілася відней, чымся ад лямпачкі; Марфіна рука на плячы ў Харбіна пакрылася сінім інеем; мужчыны сталі ля ложка, белыя, як са снегу. Ударыў пярун, сухі, з трэскам, як ламаючы дзе дрэва. Задрыжэла ў палаце падлога, па вокнах секануў град, пругкі, востры, што жарства, з ветрам. Ля Марфы трэснула шыба і зазвінела на камені, падаючы пад прызбу. На падлогу праз дзірку ў шы-

біне пасыпаўся град, што шрот; запахла з двара сырой зямлёй і свежай, як пасечанай у карыце, травой...

— Во даў! Як бомба ў мяне пад вуглом у вайну, калі вёску бамбілі... І цяпер яшчэ сцяна пасечана...— Міхол стаяў сіпі ад маланкі, сагнуты, як гарбаты.

— Вун дзе вайна, людзі! Глядзіце, вашу макаўку! — Сцяпанаўна крутнулася раптам ля ложка і паказала рукой у парог на дзверы.

Усе ў палаце павярнулі галовы да дзвярэй.

Алімпіяда ўбачыла Далідчыка-Мамку перш за Сцяпанаўну: глядзела, седзячы, якраз у дзверы. У калідоры спачатку доўга грукалі нейчыя цяжкія ногі, як калодкі; пачакаўшы, у дзвярах паявіўся і сам чалавек. Тоўсты, шырокі, як капа, увесь чорны: чорны касцюм, чорны расхрыстаны і бліскучы ад дажджу цыратавы плашч са скінутым з галавы башлыком. З плашча цурчом лілася вада — на чорныя бліскучыя лакіраваныя туфлі. І з галавы, з чорных адагнутых краёў капелюша, пацякла на падлогу вада аж праз парог у палату, калі чалавек нагнуў галаву, сказаўшы «здраствуйце». Пасля ён асцярожна зняў з плячэй мокры плашч — выцягваючы руку, агаліў вялікі залаты гадзіннік — і сцягнуў па патыліцы капялюш, паказаўшы белую, як папера, лысіну. Глядзеў, дзержачы воддаль ад сябе плашч з капелюшом, толькі на адну яе, Алімпіяду, і соп, як дзіравы кавальскі мех — душыла адышка. У яго змучаных вачах Алімпіяда ўлавіла тое, пра што ён у гэты міг думаў: вот так, адна ў нас цяпер дарога — у бальніцу. А з бальніцы — сама ведаеш, куды... Так што...

Яму не адказалі, і ён паздароўкаўся яшчэ раз, мацней і смялей, як дапаганяў свайго. Загаварыўшы, паказаў залатыя зубы, і ў Алімпіяды ў вачах адразу ўспыхнула бліскучая спружына... Ёкнула ціхенька сэрца, як апала некуды ўніз. Закруцілася галава, і паплылі ў вачах дзверы, нібыта чалавек, апёршыся аб вушак, зрушыў іх з месца і папхнуў перад сабой. Жыгнула за акном бліскавіца — лысая галава ў парозе зрабілася белая, як у мерцвяка, і загарэліся вострым агнём залатыя зубы.

— Гдзе ў вас... амбулаторыя? — Мамка піхнуў рукой дзверы і сам паплыў разам з імі ў палату.

— Не сюда! Прама і направа... Ужасць...— каля яго праціснулася наперад у палату Выліна, атрасаючы ў парозе рукамі свой зялёны халацік.

Мамка бліснуў яшчэ раз залатымі зубамі — ашчэрыўся.

— Прама і направа. Белыя дзверы... Сцяпанаўна! У сталоўку пайшоў! Ужасць...— Выліну страсанула ў парозе.— Сцяпанаўна! На прыём прыйшлі...

— Вайна прыйшла, людзі... Яе макаўку... А вы ёй дзверы адчыняеце: направа, налева... Не помніце? Забыліся?..

— Саслабела вайна, чуць дыхае. Кладзі яе ў бот, Сцяпанаўна...

— Пабыў там...— махнуў назад галавой Жучок.— Я там такіх відзеў. Пад зямлёю скрыначкі насілі. Усе лысыя і пляшывыя...

— Добра, відаць, было яму там, калі такі жывот наеў, яго макаўку...

— Сцяпанаўна! У мужчынскую палату пайшоў... Ужасць...

— Я яго зараз прыму «чырвонай швабрай»... Не ведаеце, хто гэта?

— Хе-хе... Ці чэрці... Не пазнаць чалавека? З Кукаевым як ездзіў, дык ён вёрткі быў. Разнясло-о...

— Хвароба ў яго такая. Ужасць...

— Хвароба, яго макаўку. Кроў людскую піў, дык і разнясло. Ад людской крыві... Я яго зараз прыму...— Сцяпанаўна нагнулася да сцяны і ўзяла швабру.

— Кладзі яго ў бот, Сцяпанаўна...

— Сюды зноў ідзе, людзі... Дзвярэй у амбулаторыю не знойдзе. Ужасць...

Алімпіяда пачула, як сціснула ў грудзях... Яна ўхапілася адной рукой за нажутку, другой за бліскучы брыж. Яшчэ горш закруцілася сцяна з адчыненымі дзвярыма... Заняло дыхаць... Каб, здаецца, выпрастацца, стаць ля ложка... Яна памалу ссунула ногі на падлогу і стала, дзержачыся адной рукой за брыж, другой за грудзі — за балючае месца. Стоячы плыла разам з дзвярыма недзе ў той бок, дзе схаваўся Далідчык. Затарахцеў на двары матацыкл — з калідора запахла гарам ад бензіну, аж зблáжыла, пасля пачуўся рэзкі сухі сігнал. Нікога, мусіць, не знайшоўшы, вярнуўся Далідчык — стаў у дзвярах, засланіўшы свет.

— Іх макаўку... Хоць разарвіся. Прытарабанілі некага ў такі дождж... Не стой у мяне на дарозе! Адступіся! — Сцяпанаўна падняла чырвоную швабру і пайшла на Далідчыка.

Паўставалі з ложка мужчыны і павярнуліся да дзвярэй. Да іх падышоў ад акна, ад Марфы, Харбін. Марфа села на ложак і прыціснулася да брыжа. Выліна падско-

чыла да Чайкі і зашаптала ёй на вуха. Сціх, не сігналіў на двары ля ганка матацыкл...

Алімпіяда ззыбнулася на нагах: адусюль — і з рук і з ног — хлынула ў грудзі гарачыня, збіўшыся там у камок, як у камень. Яна сказала толькі ўсім, неяк моцна і дзярката: «Кліквіце Коласа» — і выпусціла з рукі бліскучы брыж, каб схапіцца ў дзве рукі за грудзі. Недзе далёка разам з ложкам і сцяной адбегліся ад яе мужчыны і Выліна з Чайкай...

За акном ударыў пярун, і ў пarозе паплыла ўніз сцяна з белай Сцяпанаўнай, чырвонай швабрай і чорным Далідчыкам у дзвярах...

## 11

Колас жыў на кватэры недалёка ад бальніцы. Новая, на нямецкі вугал, узяты ў сінюю шалёўку, хата з такімі ж сінімі акяніцамі, з жэрдкай — антэнай на страсе, стаяла далёка ад вуліцы — высака на гары. Корань кінуў матацыкл на сцежцы ля плота і, страсаючы з плашча ваду, чуць узбег на высокі двор...

Коласа дома не было. Сказалі — у сельсавеце. Пад'ехаў на «Волзе» Станіслаў Пракопавіч — старшыня, забраў і павёз. Можа, у сельсавет, можа, так куды.

Корань праскочыў пад дажджом праз Белае і згледзеў за поштай, на шырокім дзядзінцы ля старой царквы, перарobленай пад калгасны клуб, выцвілую блакітную «Волгу» — мокла адна на дажджы, і пад яе хаваліся чорныя прылізаныя куры. Падагнаўшы матацыкл да самай «Волгі» — павыганяў на дождж чорных курэй,— ён пусціўся бягом у сельсавет, які быў у тым жа будынку, што і пошта, толькі ўваход з другога боку — ад клуба. Бег, ніяк не могучы ўзяць сябе ў рукі і сагрэцца. У прыёмнай нікога не было, дзверы да старшыні сельсавета стаялі насцеж, і там крычалі, аж падымалася столь.

Бальніцу ў Белым закрывалі. Такія сельскія бальніцы, як цяпер у Белым — неперспектыўныя. Будынак стары, яшчэ панскі, сеў набок; няма лячэбных кабінетаў; кухня — не кухня; з туалета з двара ляцяць у сталоўку мухі. Летам хлорка, хлорка і хлорка — і тая не памагае. Райздраўаддзел пакідаў у Белым толькі фельчарскі пункт; хворых браў у раённую бальніцу. Але вёска без бальніцы не будзе: плануюць будаваць новую, з усімі выгодамі, як у райцэнтры. Толькі ж лёгка сказаць... Будаваць новую

бальніцу ў Белым пакуль што не браліся, не браліся і ў Краснаволлі — старшыні калгасаў былі «бедныя». А людзі, больш за ўсё старыя, прывыклі лячыцца ў «сваіх» бальніцах: тут і дзеці часцей падбягуць на цябе паглядзець, і ляжыш, як усё роўна дома ў хаце, а выйдзеш — як да сябе на двор: на траву, пад куст бэзу. І мухі тут гудзяць, як дома, да іх прывыклі, не так яны ўжо і кусаюцца. І не трэба трэсціся тым аўтобусам хвораму аж у Плешчаніцы: забалела што — узяў кій у руку — і патэпаў заспакойна, аддыхаючы... У Белым ніхто не хацеў, каб закрывалі бальніцу. Пасыпаліся пісьмы: і ў Плешчаніцы, і ў Мінск, і ў сельсавет — Станіславу Пракопавічу. Пісем было многа, пасланы яны былі і вялікім людзям, а рашаць павінны былі тут, на месцы — старшыня сельсавета Станіслаў Пракопавіч і Колас, людзей адсылалі да іх. Колас быў за тое, каб бальніцу ў Белым закрыць: яго бралі ў Плешчаніцы. Яму што: чалавек чужы. А Станіслаў Пракопавіч свой: быў старшынёй калгаса ў Белым, цяпер старшыня сельсавета — да яго і ішлі людзі. Іх было многа, і ён быў за іх. Хочуць людзі бальніцы — хай будзе, не роскашы ж яны якой дапаганяюць. Закрыюць старую, калі пабудуюць новую. А лёгка сказаць: пабудуюць; можна і рашэнне прыняць, але ідзі, пабудуй...

— Вы тут прышлыя!..— Станіслаў Пракопавіч бег ад парога ў куток да стала, дзе стаяў Колас.— Колькі вас у нас перабыло, ведаеш? Мы вас тут чуць не на руках носім, а вы? Хвастом крутнуў, месца гарадское апытаў і — туды. А мне з людзьмі жыць трэба. У мяне пенсіянеры, і яны яшчэ на работу ў калгас ходзяць. Старых многа. Дагэтуль, здаецца, гэтулькі ў маім сельсавеце не было. А цяпер — як снег на галаву: састарэлі неяк усе адразу. Учора яшчэ быў, як трэба, а сёння ўжо стары і хворы. Маладыя — у горад, а старыя — са мной, і ўсе ідуць да мяне, у сельсавет. А што я ім скажу, калі яны ўсе ў маім калгасе па трыццаць, а некаторыя чуць не па сорак гадоў рабілі? Мне ж з імі і цяпер жыць трэба. Пабегчы я нікуды не пабягу, як вы ўсе, у мяне ў самога маці такая ж старая і хворая... А яшчэ — адзінокія старыя... Дзеці іхнія ў Мінску, а саміх я гляджу, я... Што? Магу не глядзець? Мог бы і не глядзець, але ж некаму-то глядзець трэба? Пакуль я проці — бальніца будзе, ніхто не закрые. Я — за людзей. Людзі мяне выбіралі? Выбіралі. Ну вот. А вам — абы збегчы. А тут выпадак яшчэ зручны, нібыта і не сам, нібыта пераводзяць за якія заслугі...

Яны так і бегалі з кутка ў куток, і Корань ніяк не мог злавіць Коласа за крыло пінжака. Корань ведаў, што бальніца — хворае месца ў аднаго і другога, што яны будуць доўга бегаць і церабіць адзін аднаго, але ведаў яшчэ, што Колас са Станіслававам Пракопавічам дружылі. Адзін халасты, развёўся, другі дрэнна жыў з жонкай. Сварыліся яны не раз, пасля доўга «мірыліся», і Коласа тады трэба было шукаць і адвозіць ці ў бальніцу, ці дамоў на матацыкле.

Нарэшце ён злавіў Коласа за рукаво:

— Ды кіньце вы... Алімпіядзе, мусіць, капцы...

— Не пужай, я знаю...— Колас засмяяўся і махнуў рукой.— Ранавата. Мы дагаварыліся на вечар. Гм? Ты што? Сур'ёзна? Пугач паслаў? — ён падняў тэлефонную трубку і кінуў са злосцю на рычаг: трубка, відаць, маўчала.— А Пугач што?

— На прамілы бог... Крычыць на ўсю бальніцу...

Колас задумаўся. Паглядзеў Кораню пад ногі, дзе стаяла на падлозе лужына вады — нацякла са штаноў,— і ў вачах у яго чыркнула трывога: падумаў, відаць, што не паедзе попусту Корань па такім дажджы.

Па шыбах забарабаніў касы пад ветрам град.

— Я цябе прывёз, я цябе і адвязу...— пайшоў першы ў парог Станіслаў Пракопавіч.

Яны хуценька, як дзеці, выбеглі на двор; наставіўшы каўняры і задзёршы калошы ў штанах, перабеглі па лужах і селі ў «Волгу». Корань абагнаў іх у вуліцы і рвануў наперадзе ў бальніцу.

— Вашу макаўку... Ходзяць, модзяць, а хворым тут памірай...— на ганку стаяла Сцяпанаўна, шырокая ў раскошным халаце і цяжкая на сваіх хворых назызлых нагах — заступіла дарогу. Коласу не было часу глядзець, што яна выцірае з твару падалом халата — дождж ці слёзы.

— Дзе Праскурніч'я? Вярнулася?

— Адкуль жа ёй вярнуцца, яе макаўку... Хвост дудой...

— Халат мне, Сцяпанаўна...

Яна падала яму халат у калідоры, ён лучаў у рукавы і чуў, як трасецца халат у руках Сцяпанаўны. Нібы пачуўшы, што яе ўспомнілі, як з неба звалілася Праскурніч'я — убегла з двара і скаранька здымала свой чырвоны плашчык, пырскаючы вадой, як расой з куста.

У жаночай палаце ў парозе збіліся ў кучку мужчыны — не прайсці. Здалёку было відаць, як, нагнуўшыся над ложкам, на якім ляжала Алімпіяда, Пугач махае рукамі — за адно ўхопіцца, за другое.

— Ачысціць палату...— загадаў Колас, і ў парозе і ў калідоры зашаркалі тапачкі. На голас ад ложка адагнуўся Пугач:

— Казларогі чартуляп... Паднялі з падлогі... Стаяла і — вобземлю. Ляжыць без памяці. Рукі халодныя, што лёд, пульс ніткачкай. Арытмія. Ціск восем на чатыры. Падае... Увёў кардзіямін і камфару. Дыханне перарывістае. Тоны сэрца не праслухаеш, судзьбіна казларогая... Думаю пакуль — каранараспазм...

— Спакойна...— Колас нагнуўся над ложкам, схапіўшы Алімпіяду за руку. Пульс радзеў і перарываўся. Алімпіяда ляжала, адкінуўшы галаву на падушцы і адкрыўшы рот, белая, як вата. І валасы ў яе, сівыя ля скроняў, здавалася, з ваты. Адна толькі цёмная бародаўка пад брывом пацямнела, як мерзлая журавіна — налілася кроўю.— Што на экагэ? — спытаўся ён у Пугача.

— Сядзім без току, казларогі чартуляп...

— Настасея! Шпрыц! Страфанцін!..

Настасею з палаты як ветрам вынесла.

— Сцяпанаўна! Адгані ўсіх ад дзвярэй... І вы,— Колас павярнуўся да Чайкі з Вылінай,— вон, вон, вон... Ачысціце палату. І вы, Марфа... Сцяпанаўна, вазьмі яе пад руку...

Колас больш не глядзеў ні на кога: трымаў пальцамі паднятую Алімпіядзіну руку — лавіў усё пульс. Пасля схапіў у Пугача з рук фанэндаскоп — у вушы хлынуў густы сухі шум дажджу за акном і прарэзлівыя галасы з калідора — і «злавіў» сэрца ў Алімпіяды, далёкае, ціхае і глухое. Ён добра пачуў, як яно кранулася апошнія два разы — і сціхла... Чуваць было яшчэ, як ад апошняга ўдару ў вушах застыў глухі шум... Ён стаў хуценька пераастаўляць галоўку фанэндаскопа з месца на месца. У вушы далятаў толькі шум граду з-за акна. Колас тады шматануў фанэндаскоп з шыі і кінуў на ложак у ногі. Спяшаючыся, раздзёр пальцамі мокрыя ад слёз цвёрдыя павекі ў яе на вачах і спужаўся стылага бляску, аж мурашкі пабеглі па спіне...

— На падлогу, Антонавіч! Бяры пад пахі... На падлогу... Масаж...

Пугач, падняўшы ўгару плечы, выцягнуў уперад рукі,

нібы даставаў што глыбака з ямы, і яны ўзялі Алімпіяду з ложка і асцярожна паклалі на падлогу. Падчапілі былі простынь, і яна накрыла Алімпіяду па грудзі. Колас схапіў простынь і кінуў назад — на ложак.

— Настасея! Трубку, трубку ў рот! Што? Тады бінту кавалак. Антонавіч, будзеш дыхаць! За яе дыхаць, Антонавіч! На калені! Не мітусіся, Настасея... Спакойна...

Пугач асеў на калені, ціхі, яго як падкасіла.

— Яе ўжо няма на гэтым свеце, судзьбіна казларогая... Мне астаецца толькі зняць з галавы сваю шапачку, як гэта робяць людзі...— ён лапнуў за галаву — шапачкі не было. Не было на ім і халата — капала толькі вада з пінжака на падлогу.

— Дыхай за яе, дыхай!.. Рот у рот! Прывыклі вот так, ціха, без шуму пускаць людзей на той свет. Заціх чалавек — і хай маўчыць сабе на здароўе... Мы не дадзім ёй так лёгка заціхнуць...— Колас сам грукнуў каленямі ў падлогу збоку ля Алімпіяды і, растапырыўшы пальцы, паклаў руку даланёй ёй знізу на грудзі, дзе павінна было стукаць сэрца, наверх апусціў з размаху правую руку, моцна, як ударыў... Падымаў пасля і апускаў рукі на цвёрдыя скабы, баючыся толькі, каб іх не паламаць.— Дыхай за яе, Антонавіч, дыхай... Мы не дадзімся, Антонавіч... Вот вам і сельская бальніца, даражэнькія, якая ўсім дарага, якую ніхто не хоча, каб закрывалі, і ў якой вот так лёгка можна аддаць душу... відзіце? Там бы,— кіўнуў ён галавою на акно,— дэфібрылятар — і сэрца зноў стукае. Вялікая розніца. Тут далонька, а там — дэфібрылятар... Там інфарктная брыгада... Дыхай, Антонавіч, дыхай... За ўсю інфарктную брыгаду... Быць не можа, маць яго так... Яна ж ужо на ногі стала... Я сам дазволіў хадзіць... Я сам яе раніцай слухаў... Для яе — норма... Што магло быць? Стрэс? Лячылі мы яе, Антонавіч, правільна... Дыхай, дыхай, не спяшайся: зморышся. Дыхаць будзем паўгадзіны, гадзіну, калі яно раней не зможа адзыўнуцца пад рукамі...— Колас цярпець не мог, калі хто ў палаце адкрываў папусту рот, а сам цяпер гаварыў і гаварыў, узрушыўшыся, і чуў, што не можа сябе спыніць.— Настасея! Адкуль гэта дзьме? Вокны выбіла? Аж на рукі дождж заносіць. Не трэба закрываць, хай дзьме... Гэта ж трэба — такое безгалоўе раптам на дварэ. Носа не пакажаш... Чаго яны там таўкуцца пад дзвярыма, Настасея? Адысціся не могуць? Дыхай, Антонавіч, дыхай... У мяне ўжо рукі коўзацца пачалі... Яшчэ, Антонавіч, яшчэ... Будзем біцца, па-

куль яно не стукне пад рукамі... Ты ведаеш, Антонавіч, яно маўчыць...

Сэрца маўчала. Зачырванеліся толькі грудзі.

— Можа быць фібрыляцыя жалудачкаў, Антонавіч... Колькі прайшло? Ты глядзі, як бяжыць стрэлачка, а яно і не адазвалася. І страфанцін не памог... Настасея! Шпрыц з адрэналінам! Далонямі толькі зад гладзіць... Настасея! Што прымерзла да падлогі? Шпрыц з доўгай іголкай... Анрэналін... Дыхай, Антонавіч, дыхай...

Праскурніч'я праз якую мінуту стаяла ўжо на сваім ранейшым месцы з паднятым угару бліскучым шпрыцам, падпёршы яго выцягнутым пальцам.

— Зробім, Антонавіч, тое, што мы яшчэ можам зрабіць... Настасея,— тампон... Сама, сама... Зону сэрца... Давай шпрыц... Дыхай, Антонавіч, дыхай, чорт вазьмі... та-ак... Уводзім адрэналін... Настасея, не нагінайся. Во тут ён, во, жалудачак... Пятае міжрабер'е... Самы конус...

Ніколі так доўга не цягнуўся час. Здалося, спынілася ўсё на міг: на дварэ прыстыў да шыбін град і не можа адскочыць на зямлю; прымерз да сценак шпрыца адрэналін, не выціснеш... На міг замёрла ўся бальніца — ні груку, ні голасу. Ціха, толькі кроў стукае ў галаву, падымаючы чэрап. З іголкі, калі Колас выняў яе наверх, капнулі на грудзі Алімпіядзе кропелькі адрэналіну, змяшаліся з кропелькамі поту і крыві і пацяклі чырвонай нітачкай.

— Настасея, тампон! Дыхай, Антонавіч, дыхай... Цяпер — толькі масаж... Кроў паступіць у каранарныя сасуды... Разам з ёй пойдзе і адрэналін... Дыхай, Антонавіч... Калі цяпер яно не адзыўнецца, больш мы нічога не зможам зрабіць. Каранараспазм у яе на кардыяграмцы чытаўся... Але каб так? Адразу? Дыхай, Антонавіч, дыхай... Што робіцца на дварэ. Бела ад граду, як ад снегу... Настасея, лаві пульс... Дыхай, Антонавіч... Настасея, вытры яму пот з лоба...

Колас першы пачуў, як стукнула ў грудзях пад рукой сэрца, сціх і зашаптаў на ўсю палату:

— Адзыўнулася, Антонавіч!.. Ты відзеў? Жыве дзяўчына...

Алімпіяда раптам пачала часта і з шумам дыхаць; закруціла галавой, яе зблажыла — з рота пагнала пену...

— Антонавіч... Цяпер яе — на ложак. Настасея! Танометр... Пад галаву ёй вышэй... Падушачку сюды. Сцяпанаўна! Грэлачку ёй добрую ў ногі. Гарачынькую... Калоціць бедную... Паклічце Сцяпанаўну.

— Казларогая судзьбіна.— Пугач затупаў ля ложка, выціраючыся ад поту.— Будзе жыць, не падвяла нас, мурлахапенькіх...

— Дадуць ток — кардыяграму, Настасея... І не лезьце там, людзі, у палату. Пагуляйце, знайдзіце месца. Будзе жыць ваша дзеўка...

— Адплюшчыла ўжо свае мурлахапенькія. А я падумаў быў ужо... Тысячу чарцей... Не далі мы яе, не далі...

— Нацалаваўся ты, Антонавіч, да дурнаты, цяпер танцаваць гатоў... Ток дайце мне, ток!.. Настасея — атрапін!..

Праз разбітую шыбіну з ветрам пагнала град — ён застукаў па падлозе, падскокваючы ўгару, белы і буйны, як боб...

Яна чуе, як барабаняць у намерзлае акно, моцна, са звонам, а не можа прачнуцца: адубелі ад холаду і рукі і ногі — як пруты; сама, нібы падняўшыся над ложкам, павісла ўгары і плыве немаведама куды разам з цемнатой і стукам у акно, разам з ходзікамі, што чыкаюць у галовах, і шалёным ветрам за сцяной, які шастае і шастае па падаконніку ад двара. Адплюшчыўшы вочы, бачыць, як па белым ад намаразі падвойным акне бегае з таго боку жоўты агонь, падсвечваючы аб'інелыя лісты папараці на шыбах. Здагадваецца: Мікалай з ліхтаром...

— Уліма...— чуе яна глуха праз замерзлыя вокны, як яе кліча Мікалай і кашляе, аж заходзіцца.

Яна ўскоквае, дастае з пяколка адзежу і нацягвае на сябе ўпацёмку па прывычцы. Бяжыць пасля ў парог, доўга бразгае намерзлай клямкай, пакуль адчыняе дзверы; у сенцах скоранька піхае засаўку. Вецер рве з рук дзверы і абсыпае з галавы да ног халоднай шорсткай мукой. Ля парога намяло гурбу, у ёй стаіць белы ад снегу Мікалай з ліхтаром у руцэ — пад шкелкай хліпае маленечкі жоўты матылёк, кідаючы цьмяны водсвет на дрывотню і пад ногі ў сенцы. Мікалай закрыў рот і трасецца — кашляе.

— Надзявайся...— пераводзіць ён дух у хаце ў парозе.— Задрамаў у парніку, сагрэўшыся, і правароніў... Ці дадзім цяпер рады без віцінара...— ён, паклаўшы рукавіцы на прыпечак, грэе аб чалеснік рукі і водзіць імі па твары — сцірае іней з броў і з валасоў, што выбіліся наверх з-пад чорнай зімовай шапкі з падвязанымі пад бараду вушамі. І на іх вырас іней — у палец. Пакуль яна, напужаная і злосная — праспаў! — завязвае на галаву шарсцяную

хустку, уссоўвае на ногі сівыя валёнкі з галошамі і накідвае на плечы жоўты доўгі, за калені, кажух з вялікім чорным каўняром, Мікалай, трасучыся ў парозе ад кашлю, нацярушвае з сябе пад ногі снегу і інею. У цеплаце снег адразу растае і бярэцца цёмнымі пісягамі на падлозе. Мікалай выцірае з броў расу, усміхаецца вінавата, як дзіця, не зразумець — вініцца, што праспаў Маліну, ці саромеецца кашлю, якога сам не любіць і якога цяпер ніяк не можа «загнаць у кулак». Дацягнуўшыся рукамі да пячуркі ў чалесніку, ён дастае жоўты гліняны жбаночак з заваранымі сасновымі пупышкамі — «верхам» і п'е, грэючы аб жбаночак рукі і грэючыся сам цёплым адварам. У парозе пахне сасновай смалой — са жбаночка...

У Мікалая хворыя лёгкія — біркулёз, як гавораць у вёсцы. Захварэў ён даўно, недзе пасля таго, як яны пажаніліся. Заснуў на прызбе на дварэ, дзе не было ніколі сонца, схапіў крупознае запаленне, пацямнелі вярхушкі і — пачалося, ачагі, каверны. Хварэў ён доўга — гадамі — і цяжка. Не памог ні курорт, адкуль ён вярнуўся з круглым тварам і вялікім падбародзічам, у тры складкі — віселі аж на каўнер вязанкі; ні сасновыя пупышкі, якія збіралі рана вясной, калі яны ажывалі пасля зімы і пускалі смаліцу, сушылі і якія ён «піў» са жбанка каторы год запар і зімой і летам; ні таплёны барсучы тлушч; ні іншая «халера»... Ён кашляў і кашляў, харкаючы дзень-ноч у плявачку, якая ўсягды стаяла ў яго ля ложка. Рабіць у калгасе вялікую работу ён не мог — быў начным вартаўніком на ферме. Яна — загадчыкам, ён — вартаўніком. І дома разам і на рабоце... Усё жыццё яна баялася за яго: і шкарпэткі шарсцяныя яму, і валёнкі, каб цёплыя ў маразы на ногі, і шалік на шыю,— глядзець трэба было, як за маленькім Міфодзем. Яна і глядзела і Мікалая, і маленькага Міфодзю, і ферму скаціны...

Баяліся яны дарма... На ферме ля Маліны, якая была навязана першая ад дзвярэй, што абраслі з сярэдзіны белым калючым інеем, ляжаць на разгоенай халоднай саломе двое цялятак — рыжанькія, як і сама Маліна, з кучаравымі белымі палоскамі праз лоб у аднаго і другога... Бычкі... З іх ідзе густая пара, хаваючы з вачэй Маліну, якая аб'інела ад храп да вушэй, ліжучы бычкоў языком — аднаго, пасля другога. І ў яе з языка падымаецца сівая пара.

Мікалай падкручвае кнот у ліхтары — на заінелай белай сцяне калышацца цень — Маліна і два бугаркі ля яе.

— Трэба, Уліма, нясці дамоў, у хату. Тут ім капцы...— гаворыць Мікалай і пачынае кашляць — гоніць сівую пару па ўсяму кароўніку.

— Пасцілку не ўзялі з дому, не падумалі. Аж дзве трэба было браць, каб веданне... Не панясеш жа перад сабой, зледзянеюць. Паглядзі ў кладовачцы, можа, што знойдзеш, а я месца адкіну, каб карова не з'ела...

Кладовачка была напроці; Мікалай высвечвае ліхтаром мяшкі з умеццем, вытрасае з двух умецце ў кут; яны садзяць у мяшкі малых цёплых слізкіх і няскладных бычкоў — тыя падымаюць толькі галовы, ліжучы і хапаючы ў рот пальцы, і ціненька і нядужа мычаць. Рыкае на ўвесь кароўнік Маліна, тузаючы ланцуг і рвучыся ззаду да дзвярэй...

Вецер адразу б'е ў грудзі; сячэ сухімі крупмі па твары, шапоча па кажухах; у цемнаце, падсвечаная прыкручаным агнём ад ліхтара, пыліць, падняўшыся вышэй платоў, жоўтая мяцеліца — гоніць снег гародам на ферму, стаўляючы ля плота і ля студні гурбу ўпоравень са свірнам. Мікалай з ліхтаром ідзе ўперадзе — у адной руцэ ліхтар, другой дзержыць перакінуты цераз плячо мех з цялём — пройдзе-пройдзе, закашляецца і стане, захінуўшыся ад ветру. Ззаду за плячыма тузаецца ў мяху бычок, б'е нагамі ў спіну, цёплы на марозе — ад яго нават робіцца цёпла ў плечы; глуха рыкае ў кароўніку Маліна і скуголіць у платах мяцеліца. Вецер, здаецца, схопіць з зямлі і панясе верх платоў на поле... Сыпанула, як шуфлем, на ліхтар снегу; ліхтар тухне, свет засланяецца чорна-белай густой цемнатой: не відаць ні платоў, ні хат, ні Мікалая з мяшком за плячыма... Не чуваць ні рук, ні шчок; дубеюць пальцы ў рукавіцах, не дзержаць мех. У спрагу ў цемнаце яны не лучылі — пералезлі па гурбе зверху цераз плот і ледзь патрапілі ў вароты. У сеначках пасталі адно ля аднаго, каб адсапціся. У хаце ў цемнаце пайшлі адразу ў запечак да ложка, каб пакласці на яго мяхі з цялятамі. Хапіўшы ў чалесніку гарачага духу, Мікалай сагнуўся і заходзіцца ад кашлю; яна натыкаецца на яго і ляціць вобземлю ў запечак разам з мехам... Грыміць услончык, звініць ля печы вядро, тузаецца ў мяшку за плячыма цяля — не ўстаць...

— Уліма! — крычыць на ўсю хату Мікалай, спужаўшыся. Скуголіць за акном вецер, гонячы чорна-белых цялят вышэй платоў немаведама куды, і яны рыкаюць на ўвесь свет...

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Снег, сыпучы, шорсткі, як жвір, сячэ ў твар; яго гоніць і гоніць з загумення ад фермы праз вёску — праз гароды, вуліцу, двары на лог да ракі, намятаючы на беразе гурбы ўровень чалавека. Мяце трэція суткі запар; вецер зайшоў з поўначы, пацісвуў мароз — ноччу быў да трыццаці градусаў; неба, цёмнае, шэрае, павісла нізка над самай зямлёй, і цярусіць, цярусіць на вецер густыя калючыя крупы. Раніцай, усходам сонца, неба над далёкім бярэзнікам чырвонае, як жар; ад яго Кур'янаўскія Сады, выганчык, ферма і ўся вёска здаюцца чырвонымі. І ўвесь свет чырванее ў вачах, стаўшы крывава-белым ад зары і снегу. Сонца не паказваецца каторую раніцу; чырвань гусне, яе хаваюць з воч хмары, і зверху сыплецца снег. Ад снегу і ветру трасецца ўсё на свеце: вёска, ферма, платы і белы лог ля ракі. Здаецца, вецер падхопіць хаты, ферму, платы і змяце іх разам са снегам з зямлі. Каб хоць на мінуту аціхла...

Раве ў кароўніках скаціна, б'е рагамі ў сцены, бразгае ланцугамі — хоча піць. Учора яшчэ паілі са студні, учора яшчэ была вада — нацягалі аж два карыты. Сёння з начы зруб схавала пад снегам; снег раскапалі, абабілі зверху на зрубе лёд, пусцілі ўніз вядро на абледзянелым вочапе. Асвер лёг на самы зруб, у студні глыбака на дне суха бразнула аб лёд парожняе вядро...

Раве скаціна ў халодных сценах. Трэба пускаць да ракі: стаіць больш сутак без вады.

Стары Харбін адчыняе дзверы ў кароўніках, спускае кароў з ланцуга і ідзе, узяўшы пад паху тапор з новым бярозавым белым тапарышчам, ля плота да ракі. Да яе можна прайсці толькі полем: вуліцай снегу ў платы. За Харбінам, рыкаючы і ліжучы пад нагамі снег, пускаецца скаціна: наперадзе каровы — з подбегам; за імі адвarочваючы галаву ад ветру, аромыя быкі; за быкамі; падскокваючы, круцячыся на месцы і падымаючы ўгару снег, падбрыкваюць падцёлкі.

За платамі на лагу скаціна губляецца ў белым пыле — узгоены капытамі сухі снег з ветрам хавае ўсё з воч. Крычыць недзе ля ракі ў бродзе Харбін: трэба бегчы наперад. Алімпіяда, закрыўшы рукавіцамі шчокі, бяжыць па снезе, абганяючы падцёлкаў, і ніяк не можа абагнаць — задыхаецца. Сцяло ў грудзях, не дае дыхаць: яна сцягвае рукавіцы, губляючы іх адразу пад нагамі ў снезе, і падубелымі ад марозу пальцамі рве на грудзях кажух... Пырскаюць у белы снег чорныя гузікі, ляцяць аж пад ногі Харбіну — у

раку на бліскучы халодны лёд, у які ўгрызаецца шырокі Харбінаў тапор, пырскаючы ў вочы друзалкамі лёду. Замерзла і ў бродзе вада; Харбін, намеціўшы пролабку, махае тапаром з-за вуха, аж іскры пырскаюць разам з лёдам. Высака на беразе, на які намяло гурбу, як сцяну, сабралася скаціна — стаіць, пахаваўшыся ў снег па самыя рогі... Харбін, махаючы тапаром, апускаецца раптам некуды далёка ўніз, робіцца маленькі, і тапор у яго ў руках маленькі, як малаточак... І цюкае ён ім, як верабей дзюбкай па замерзлай лужыне на дарозе, каб змачыць у роце... Рыкаюць высака на беразе каровы, сабраліся ўсе ў кучу; падышлі аромыя быкі, на іх насядаюць ззаду настырныя засмяглыя падцёлкі...

«Пакалечаць адзін аднаго...» — яна забягае наперад аромым быкам... Займае дыхаць; яна хапае ротам, як рыба на пяску, пякучае ад марозу паветра, спатыкаецца і падае з высокага берага ўніз у раку. Лучае на падсечаны Харбінам лёд; лёд трашчыць, і яна ляціць у глыбокую гарачую пролабку... За ёй з белай гурбы куляюцца ў пролабку чырвоныя каровы, рабыя аромыя быкі і дробныя падцёлкі. Лопаецца ў рацэ лёд, і кіпіць пякучая вада... Крычыць Харбін, і рыкаюць падцёлкі... Белы снег цямнее ад вады...

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Чырвонае, вялікае, як кола ад калёс, сонца кранулася беражком далёкага сіняга ельніку ў канцы загумення, і на ферму апала вячэрняя цішыня. Чуваць нават, як са столі, з саломы, якая ляжыць у кароўніку на жэрдзі, з неабмалочанага леташняга жытняга коласа, што ўбярогся за зіму ад мышэй, пырскае зерне і падае на падмеценую венікам цвёрдую ў парозе зямлю — стукае... Не бразгаюць ланцугамі, не грукаюць рагамі ў сцяну, не жвуць жвачку каровы: намораны на пашы за дзень; выдаеныя — вымя, як пустая торбачка — ляжаць покатам, адкінуўшы на праход хвасты. Мітусіцца ў дзвярах чорная, як мак, машка; рэдзенькай хмаркай павіслі камары — не заныюць, не зазвіняць, як панямелі. Даяркі памаглі Харбіну паставіць на калёсы бітоны — сёння ён павязе малако ў Белае на сепаратарны пункт; Харбін сеў ля студні на калёсы і паехаў дзядзінцам у вуліцу, але не чуваць, не ляскаюць па каменні калёсы, толькі дробненькі пылок падымаецца за імі і чапляецца за платы. У вёсцы ў некага топіцца ў печы; высокі сіні слуп дыму падняўся ў неба, колькі мог, і нагнуўся самым вяршком да зямлі. Пахне дымам ад сасно-

вай кары — падмялі, мусіць, на двары трасочнік і заняслі ўсё ў печ; з балота, з-пад Кур'янаўскіх Садоў, цягне туманам і едкім гарам ад торфу, забіваючы густы пах сырадою з кароўніка. Памыўшы вёдры і паставіўшы іх ля ног на зялёны падарожнік, сашчапілі на грудзях рукі даяркі і глядзяць у канец вёскі на сонца — слухаюць спрадвечную вячэрнюю летнюю цішыню. Не зварухнецца ніводная, як замёрлі... Ніколі не было такой цішыні; здаецца, яна ўсё расце і расце, ад яе пачынаюць балець вушы — могуць палопацца перапонкі. Недзе на самай высокай напятай струне цішыня раптам абрываецца громам... Аж, здаецца, сонца падскочыла над сінім лесам. На захадзе ў канцы загумення за лесам пачынае кіпець, як у катле...

— Трактар Марфа завяла! Пагоніць загуменнем на ферму...— нехта крычыць ёй, Алімпіядзе, над вухам на ўвесь голас — яна не пазнае хто.

Але трактара на загуменні не відаць. Хаваецца за сіні лес, за Дроздку сонца, пырснуўшы апошні раз іскрамі, і адтуль, адрываючыся ад лесу, пачынаюць ісці самалёты: чорнымі кучкамі, па тры ў кожнай. Ідуць і ідуць, заняўшы ўсё неба і падбіраючы пад сябе загуменне, вёску і ферму... Неба чарнее, што чалеснік, і з яго, здаецца, як на прыпечак, сыплецца на зямлю сажа...

Правей чырвонай паласы, дзе зайшло сонца, якраз на Жоўты Бераг, б'е раптам пярун, аж хіснуліся ззаду за плячыма кароўнікі. Над лесам высака ў небе вырастае вялікае круглае чорнае воблака дыму. Доўга вісіць на адным месцы, тады, рудзеючы, пачынае радзець і распаўзацца шырокім старым грыбам, апіраючыся на крывую скрываўленую нагу...

Вайна... Дагэтуль яшчэ не верылі, што вайна...

— Над Буславам! Над станцыяй!..— зноў крычыць над вухам Харбін.

«Харбін? Вярнуўся з грэблі з бітонамі?»

Чорныя самалёты з жоўтымі плямамі на крыллі пераважваюцца цераз ферму і аціхаюць далёка на ўсходзе — недзе над Плешчаніцамі. Над Буславам чырванее, крывавячыся, воблака, ніяк не могучы разарвацца на дзве палавіны.

— Буслава бамбяць!..— крычыць аднекуль Мікалай.

«Мікалай?..»

На загуменні на дарозе трасецца на трактары Марфа, але не чуваць ні грукату, ні шуму... Увесь свет накрывае вечная вясковая вячэрняя цішыня...

*Частка трэцяя*

# Застава. Сорак першы

## 1

Нашы пачалі ісці праз вёску, калі толькі яшчэ зазеленелася халодная додніца — адступалі на ўсход, на Бегамля. Ішлі, заняўшы ўсю вуліцу, у пілотках і гімнасцёрках, са скаткамі і вінтоўкамі за плячыма, з кацялкамі і рыдлёвачкамі пры баку. Вуліца захлыналася ад пылу: ён надымаўся з-пад ног і лез у платы, асыпаючыся на мокрае ад расы жэрдзе і высокі цёмны бульбеўнік. Праходзіла адна група, не паспяваў рассеяцца пыл — ішла другая, трэцяя. Грукалі ногі, бразгалі кацялкі, шапацеў пад чаравікамі пясок — каб слова... Яны, Алімпіяда з Мікалаем, стаялі ля расчыненага акна і глядзелі на вуліцу — на салдат. На двары захроп запрэжаны ў калёсы Бар'ян — прастаяў усю ноч, гломзаючы з-пад ног дзяцельніцу — заірзаў і пайшоў раптам да варот.

— Парасчыняна ўсё ўсюды!.. Выйдзе на вуліцу і пойдзе разам з салдатамі... Бяжы на двор... Прыкарэлі да акна, як немаведама чаго... Мікалай...

Яны ўдваіх выбеглі з хаты і згледзелі яшчэ з ганка, як ваенныя адапхнулі Бар'яна назад на двор і зачынілі вароты.

Ваенных Алімпіяда даўно не відзела — з трыццаць дзевятага года, калі ездзілі яшчэ на заставу пагранічнікі, конна і на машынах. Пасля, калі нашы збіраліся пераходзіць польскую граніцу, яны стаялі і ў вёсцы, і ў лесе: пяхота, кавалерыя, маленькія танкі і кухні. Усё прыглушанае, ціхае. Нават коні, здавалася, ірзалі ціха і глуха, як баючыся. Над вёскай тады вісела трывога — напятая, балючая, без сну; вісела тыдні два, пакуль яе не прарвала густая, ядраная страляніна за Віліёй...

З таго часу аж да сённяшняга ў вёсцы не было ваенных. Гаварылі, што яны даўно адступаюць — ідуць шашой праз Белае на Плешчаніцы.

На вуліцы больш не грукалі; на двор гнала пыл з папяросным дымам; хроп, форскаючы, конь — рваўся ўслед за ваеннымі. У вілах, дзе хаваліся ваенныя, над лесам пачала ружавець зара; яе засланяла паднятым сівым пылам. На паркан, на вароты, на ляжэйкі ў калёсах апала халод-

ная з начы раса — шчыпала за рукі; па спіне пабегла дрыжыка.

— Адгані Бар'яна на ферму. Нікуды я не крануся. І цябе не пушчу... Відзеў, што робіцца... Можа, у Буславе немцы... Не трэба будзе тады і соль. Мікалай!..

— Людзі і наездзіліся і навазіліся. Знаюць, што такое вайна. Аставайся з Міфодзем, калі баішся. Чаго табе ехаць? Адзін спраўлюся. Учора Міхол ездзіў і прывёз. Учора яшчэ было ціха. Там яе процьма, вагоны разбамбілі. На зямлі ляжыць, на пяску, горы... Бярэ, хто сколька хоча... Адзін упраўлюся...

— Ён управіцца... Закашляешся і ссінееш...

Ён паглядзеў на яе нейкім балючым паглядам — нашто яна цяпер ускідае на вочы — і апусціў плечы:

— Мы ўсягды... Дажыліся, што і назаўтрае солі няма, хоць пазычай. І ўсё з-за фермы... Аставайся дома...

Не пускаючы адно аднаго з дому, яны ўдваіх адчынілі вароты, тузанулі за лейцы Бар'яна і пайшлі на вуліцу ля калёс — яна з аднаго боку, ён з другога. Бар'ян пайшоў услед за салдатамі; Алімпіяда з Мікалаем ускочылі цераз ляжэйкі ў калёсы, стукнуўшыся плячыма адно аб аднаго, і селі на свежую ўкошаную ўчора вечарам на мяжы траву. І ён і яна запусцілі пад траву рукі — памацалі, ці ёсць мяшкі.

Ферма асталася збоку; на пясчанай дарозе перад лесам засівелася лагчынка, як на хату, пасыпаная мокрым пілавіннем: яго пырскалі растворам з жалезнай бочкі — ад яшчуру. У лагчынцы яшчэ нядаўна спыняліся леспрамгасаўскія «прычэпы», шафёр мыў у бочцы рукі, а Мікалай — «дзяжурыў днём на яшчуры» — ліў старым «літрам», прынесеным з фермы, ваду з бочкі на колы машыне.

У лагчыне Бар'ян стаў: па прывычцы.

— І конь не хоча ісці. Куды мы едзем?

— Баішся, бабай будучы... Я вот што гляджу. Ваенныя рассыпаліся па дарогах, людзі з вёскі пачалі рассыпацца — у ваенкамат, за ваенкамат... Рассыпаецца ўсё, як пясок на дарозе пад нагамі...

— А ферма? Каровы, коні, авечкі? Ніхто не ведае, што рабіць. Ніхто не камандуе. Адзін трактар толькі сказалі Марфе загнаць у сельсавет. Старшыня ў ваенкамат, брыгадзір у ваенкамат... Хоць вар'яцей...

— Не пры табе казана... Пагіне і калгас і твая ферма, калі немец прыйдзе... Кроўю рыгнём...

Бар'ян не хацеў паварочваць на заставу — ішоў следам

за ваеннымі, нібыта за імі яму было смялей. Уперадзе, далёка над лесам, пайшлі самалёты — на Бегамле.

— Што ж гэта будзе, Мікалай? Як падумаю...

Ля лесу вісеў сыры халодны пыл, не апаў яшчэ на зямлю пасля ваенных, Мікалай закашляўся і нічога не адказаў: круціў толькі галавой, заплюшчыўшы вочы і хапаючыся за грудзі. Алімпіяда дастала з-пад травы торбачку, выняла хлеб і цыбулю і падала Мікалаю — пераб'е кашаль. Ён узяў у адну руку хлеб і цыбулю — маладую, у два пяры, з яшчэ цененькай беленькай галоўкай, вырваную раніцай з грады — паднёс да рота, але яго хапіў такі кашаль, што ён учапіўся абедзвюма рукамі за грудзі і зайшоўся, сінеючы. Белая галоўка цыбулі ляжала ўжо ззаду за калясьмі ў каляі, перацiснутая колам.

Мікалай перастаў раптам кашляць — жаваў хлеб, і стала ціха. Форскаў Бар'ян, шапатаў пад коламі чорствы глыбокі пясок; лес яшчэ быў цёмны, як додніцай, і на крывой сасне на полі воддаль лесу сухім вароннім ранішнім горлам каркнуў страх. Здаецца, каб ехалі ўслед за ваеннымі, было б смялей... Цыльгікнуў дзяцел; з дарогі запахла едкім мазутам ад леспрамгасаўскіх яшчэ машын. Ля дарогі ў бульбеўніку запішчаў спрасоння жаваранак, як усё роўна курчо. Закапаў раптам дождж, рэдкімі дробнымі кроплямі, знаць, што ён ішоў тут ноччу: сухі пясок наклёваны зверху, як тарка. Ніяк не ўседзіш на калёсах, хочацца саскочыць і бегчы немаведама куды. Яна ўкусіла хлеба — на зубах, узяўшыся аднекуль, затрашчаў пясок. Збоку ля калёс на дарозе добра відаць свежы воўчы след — з лапаць. Воўк пайшоў наперадзе іх з фермы. Ззаду ў вёсцы загаляшыў певень — што ўсё роўна крылом па спіне пацягнуў, так блізка.

Пасвятлела: угары раз'язджаліся хмары; з сіняга неба, з прагалін, сыпалася на зямлю ціхая ядраная празрыстасць; на ўсходзе, недзе пад Бегамлем, збіліся ў кучу чырвоныя круглыя цяжкія воблакі, зверху па іх пабеглі сівыя расцягнутыя хмаркі. Пасля ў дзірку між воблакаў глянула, выкаціўшыся з-за лесу, сонца — бліснула маркотна, што ўсё роўна пусціла слязу.

Уязджалі ў лес пад нахіленыя на дарогу старыя сосны з кунатымі вярхамі; на ляжэйкі і на рукі капала зверху раса. Конь забіваў капытамі сляды ад скаціны і ад трактара — знак учарашніх спакойных летніх дзён. Нехта падняў з зямлі ладны кавалак парванай атосы і павесіў ля дарогі на маладую сасну — на сук; атоса вісела на відку,

упэцканая ў каланіцу, абшмараваная, сагнутая. Ці згадзіцца яна цяпер каму, ці зачэпяцца за яе чалавечыя рукі, калі ўсюды гіне не такое дабро?..

Гудзяць угары над галавой дзікія галубы, як самалёты. Храпе Бар'ян; над дугой павісла хмаркай машка. Цыльгікае і цыльгікае дзяцел. Белая ад пяску дарога відаць далёка наперадзе, аж ля пасекі. Над пасекай, над шляхтамі дрэва, вісіць сіні туман, як дым з вогнішча. Ля старой, абшарпанай леспрамгасаўскімі «прычэпамі» бярозы на ўбітай сцежцы выскачылі з пяску дзве беленькія сыраежкі з кругленькімі маладымі галоўкамі — здалёку кідаюцца ў вочы.

— Як мы з табой, Мікалай, на возе... Ці ўседзім? — яна гаворыць і паказвае рукой на дарогу.

Мікалай маўчыць, баіцца, каб зноў у сырым лесе не хапіў кашаль, тады паварочваецца да яе і паказвае на мурарэйнік пад бярозай:

— І ён ля самай дарогі. Чаму? Цяпер трэба далей ад дарогі. Цяпер кожны пырне...

— А можа, усё яшчэ назад вернецца? Возьмуць і пагоняць іх назад? Мала што нашы адступаюць... Можа, куды пераходзяць. Малако ж на сепаратарным пункце ў Белым прымаюць. А там жа сельсавет... Учора вечарам Харбін вазіў малако і здаў. Прынялі. Накладную падпісалі. Сепаратар робіць. І нічога не гаварылі. І сёння малако адпраўлю. Вярнуся з Буслава і адпраўлю. Сеператар жа робіць... І адгон Харбін у бітонах прывёз. Можа, яшчэ немцаў сюды і не пусцяць. Грыміць жа далёка, недзе якраз на Дроздку, на захад сонца. Падоім кароў, выйдзем і слухаем. Зямля пад нагамі ўздрыгвае. Бабы стаяць і хліпаюць. Пагрукае, пагрукае, можа, і аціхне. З вялікага грому дождж бывае малы...

— Каб жа я ведаў, што сказаць... Быў бы там,— паказаў ён пугаўём некуды на сонца, на Плешчаніцы,— ведаў бы. Дык павесткі не прыслалі. З белым білетам адразу не забіраюць. Адразу бяруць здаровых.

— Думаеш, і цябе возьмуць?

— Возьмуць. Я якраз па-другому думаю, чымся ты, калі такі гром пачаўся... Вот з'ездзім, возьмем солі. А заўтра, можа, і павестку прышлюць. Чаго б я ехаў у Буслава, каб не збіраўся ісці... Хлеб у нас ёсць, карова ёсць, прывязём солі... Не галодныя астанецёся і не без солі. Будзеш глядзець: як уся вёска, так і ты... Сепаратар, кажаш, у Белым

робіць?..— ён паглядзеў на яе і ўсміхнуўся сваімі запалымі нейкімі белымі вачыма, крануўшы боль у яе трывожнай душы, што ёй захацелася плакаць горкімі слязьмі: прышлюць павестку, і ён пойдзе. Пойдзе і не вернецца... Не будзе яго ні дома, ні на ферме, ні ў вёсцы... Усюды будзе пуста і нудна. І сцены ў хаце без яго будуць халодныя, і плот у горадзе зробіцца сукаваты... І Міфодзя маленькі, здаецца, памрэ без яго... Як гэта яна астанецца з маленькім Міфодзем? Ні слова сказаць, ні рады пачуць... І ў хаце будзе ціха, не будзе каму кашляць. І на ферме ноччу ніхто не адзынецца... А так — пачуе ноччу на ферме ці днём на двары кашаль — значыць, ён тут. І яна бяжыць на кашаль, і ногі ў яе лёгкія: рада. Яна прывыкла да кашлю, як у хаце да ходзікаў на сцяне, як да таго, што на ферме рыкаюць каровы і ў калысцы плача Міфодзя. Сціхне кашаль — здаецца, аціхае ўвесь свет...

Яна пасунулася на калёсах уперад, прыпёрлася плячыма да Мікалаевых плячэй і, гледзячы назад на дарогу, у канцы якой была вёска з фермай, заплакала, сціснуўшы рукамі галаву.

З-за далёкіх сініх вострых елак глянула сонца, як чыё вока, пашкадаваўшы.

Пачуўшы яе плач, закашляў Мікалай, і яна, апёршыся яму на плечы, затраслася разам з ім...

Над пасекай, над сінім ранішнім туманам закрумкаў груган, чорны, бліскучы ад сонца. Пачало кідаць калёсы — дарогу на пасецы разбілі леспрамгасаўскія «прычэпы». Воўк, было знаць, усю дарогу ішоў наперадзе — каляёй ад машыны. Пад коламі стаў перасыпацца пясок; у нос палез сухі пыл, едкі, настоены на смале. Міналі сасновы бор з падсочкай. Спрадвечная дарога праз лес да Віліі ў бары разразала пясчаны пагорак: паабсяканае калясьмі тоўстае сасновае карэнне тырчала з жоўтага пяску, стрэпаючы па спіцах. Бар'ян ішоў навыцяжку. Праехалі праз пагорак, як праз выкапаную магілу. Спусціліся на драўляны масток з нізенькімі ачэсанымі пярэчкамі. Пад мастком шваргатаў вузенькі ручай — пераліваўся з аднаго боку дарогі на другі. Пачынаўся Бярэзавец — гіблае месца: тут усягды куляліся з вазамі ў гразь, калі вазілі з лугу ад Віліі сена. Бярэзавец — балота, якое пачыналася пад Кур'янаўскімі Садамі і ішло між лесу аж пад Каралінскую пасеку; па ім раслі дробныя, нізенькія сасонкі, у рост чалавека, з хіленькімі стваламі, з маленькімі кунатымі вяршамі — як памяло. Сасонкі даганяў багун. Алімпіяда по-

мніць, як расказвалі ў вёсцы старыя — і маці яе часта расказвала,— што на месцы балота ў Бярэзаўцы стаяў спачатку лес — даўно гэта было... Пасля расступілася зямля, лес праваліўся на той свет, а на яго месцы стала возера. Расказвалі, што тады калаціла зямлю: развальваліся хаты, засыпаліся студні і бульбяныя ямы... У лесе, гэтым месцам ля мастка, стаяла леснікова хата — і яна пайшла з людзьмі пад зямлю. Возера пасля заплыло, на яго месцы стала балота з высокай асакой і сінюхай: косячы яго, нядаўна яшчэ чапляліся косамі за азяроды — гаварылі, асталіся яшчэ ад лесніка і стаялі, намазглеўшы, аж дагэтуль не пагнілі. Варочаючыся ноччу з лугу ці з заставы, людзі часта відзелі, як балотам хадзіў нехта ў белым. Адны гаварылі, што гэта ляснік ходзіць са сваімі дзяцьмі, устаўшы з зямлі; другія — што гэта бацяны позняцца на балоце, ловячы жаб і гадзюк... Нават пагранічнікі ганяліся адзін раз па балоце за белымі людзьмі і стралялі па іх. Хоць тады і злавілі двух чалавек — перайшлі Вілію з таго боку — і вязлі іх з заставы праз вёску ў Плешчаніцы, але пасля гэтага яшчэ больш сталі гаварыць пра белых людзей на балоце і пра лесніка. Усягды шорах стаіць за плячыма, калі мінаеш балота — ці днём, ці ноччу. Гіблае месца...

Балота заслаў густы белы туман, як малако; нават не было відаць дробных, худых сасёнак. Над ім, як усё адно над полем, вісела засмужанае, нейкае занадта гарачае сонца: бралася за шчокі. Пад сонцам белымі палосамі стаймя кратаўся туман, поўз угару, і здавалася, што па балоце ходзяць людзі ў белым.

Мікалай спыніў каня, туга напяўшы лейцы:

— Паглядзі. Я ўсю дарогу сачу за слядамі. Сляды ад палутаркі... Ад самых віл. У вілах іх затапталі салдаты, а з віл сляды ішлі аж сюды. Учарашнія. Помніш, ваенныя ехалі, ляжалі ў кузаве. У новенькай форме. І боцікі новыя, і рамяні блішчаць. На Буслава дарогі пыталіся. Я нават падумаў тады: чаму на Буслава? Харбін іх праводзіў у вілы, дарогу паказваў. Паглядзі, дагэтуль машына дайшла, а далей няма следу. Толькі ад ботаў сляды. Як усё роўна машыну на руках далей панеслі. І назад не знаць, каб варочаліся. Акруціцца ж трэба, каб назад паехаць. Вот табе і гіблае месца. Як пад зямлю машына правалілася...

Яна ссунулася з калёс і пайшла следам ад машыны, топчучы босымі нагамі сляды ад ботаў на пяску. След ад машыны далей не ішоў — абрываўся. Яна прабегла дарогай каню наперад— і там следу не было. У верасе на да-

розе згледзела малады баравік з чорнай галоўкай у расе — падняла, як надзею на ўсё лепшае.

— Паганяй... Машыну шукаць уздумаў. Павярнулі ў лес. Назад ад'ехалі і павярнулі...— узяўшыся за ляжэйку, яна ўскочыла на калёсы.

— Куды тут павернеш. Балота. Аж шорах... Надта ж яны спяшаліся, як баяліся быць у вёсцы...

— Цяпер усе спяшаюцца. Пыл толькі ззаду... Ноччу ідуць, додніцай, калі людзі спяць. Каб у вочы не глядзець...

— Мы многа чаго не знаем, Уліма. Ідуць, бо каманду такую далі. Ваенныя без каманды не ходзяць...

— Што ж гэта ім даюць каманду не ў той бок ісці? Грыміць жа ў другім баку? Сёння, вун, ішлі... А можа, апошнія, хто ведае? Яны ж не сказалі? Можа, за імі немец аж у вёску прыйдзе? Ззаду, па слядах? Нам цяпер толькі і застаецца: сядзі і чакай немца...

— Мы многа чаго не ведаем. Глядзі, можа, зноў сляды паявяцца. Не магла ж палутарка скрозь зямлю праваліцца. А людзі? Біткам была набіта ваеннымі. Некуды ж яны адгэтуль падаліся? Куды? Каб дома — дык бы на каня і ў сельсавет. Хай бы там пазванілі...

— Ты ўсё думаеш, што тут пагранічная паласа... І на машыне паехалі не нашы... Дык, можа, хай бы з сельсавета пазванілі куды і спыталіся: чаму ўсё додніцу ішлі нашы на Бегамле? Не з Бегамля туды, дзе грыміць, а назад?

— Не заядайся, а то заробіш на блохі... Бабы ўсягды больш за мужчын злуюць і заядаюцца...— Мікалай зноў закашляўся і стаў тоўхаць яе плячыма.

Узяўшы лявей ад пагранзастаўскай дарогі, выехалі на Каралінскую пасеку пад Ліпнікі. Некалі тут, на пагор'і ля Віліі, стаялі старыя сосны, дастаючы вярхамі аж у сіняе ўсягды ў гэтым баку неба. Іх выразалі; на пасецы, закрываючы старыя пні, пайшоў у рост малады соснік, абагнаў ужо чалавека, сціснуў дарогу і, калі вазілі з лугу ад Віліі сена, скуб лапкамі вазы, як рукамі.

Колы шапацелі па верасе і пасохлым пад'ялеўцы, ад якога дарога ўперадзе здавалася рыжай, як ліса. Чырвоныя пашчапаныя карчы, складзеныя паабапал яе ў роўныя высокія шліхты, здаваліся нечым непатрэбным — хто па іх цяпер прыедзе. Зноў паявіліся збоку ля калёс воўчыя сляды — воўк павярнуў на луг, не пайшоў дарогай на заставу, і яны зноў ехалі за ім.

Хлынула з-за хмары сонца, і Алімпіяда, адвярнуўшыся

ад яго, згледзела адразу, як з захаду, адтуль, дзе грукала ўсю дарогу, на іх ішлі самалёты. Ляскалі па карэнні калёсы, і самалётаў не было чуваць. Мікалай пагнаў галопам каня, каб скарэй з'ехаць з пасекі. Самалёты шнурком павіслі над імі, не злічыць; бліпчаць ад сонца крыллем, пырскаючы з беражкоў жоўцю па вачах. Захроп падцяты лейцамі Бар'ян; спыніліся пад густой елкай, з'ехаўшы з дарогі: прыціснуліся адно да аднаго на возе, глядзелі з-пад елкі ўгару, бачачы з-пад лапак толькі сінія палоскі неба, і глухлі ад непрывычнага жалезнага груку. Стрыг вушамі конь.

Ніколі не было такога гулу ў гэтым баку. Як сябе Алімпіяда помніць, тут усягды стаяла цішыня, і добра было чуваць з двара, як летам ноччу брахалі на заставе сабакі, усходам сонца ў Кур'янаўскіх Садах адзываўся дзікі голуб, рыкала скаціна і ляскалі па каменні калёсы. Пасля ў Кур'янаўшчыне ракатаў Марфін трактар, густа, ядрана; усягды, пачуўшы яго, станеш і слухаеш, дзе б ні быў: ці бег на ферму, ці ішоў дома з вёдрамі ад студні. Забудзешся, прываліўшыся да плота, і на вёдры з вадой, і на тое, што топіцца ў печы, аж пакуль не клікне з хаты Мікалай. Ад рокату трактара ўсягды шырэла поле і вышэй падымалася неба. Ранішняе рэха плыло лесам аж на Жоўты Бераг...

Самалёты над вёскай да вайны не хадзілі.

Ад гулу хмыліўся Бар'ян і торгаў калёсы; угары зацыльгікаў дзяцел, і на рукі з елкі пасыпалася дробненькая кара і абломаныя сухія сучкі. Гул, густы, шорсткі, сыпаўся на зямлю, як пясок, засыпаючы ўсё на свеце: дрэвы, дарогу з калдобінамі і пасеку з вялікай чырвонай травой і старымі пнямі. І тады пачынала гудзець зямля, дрыжучы і развальваючыся надвае... Падскоквалі елкі, калёсы з канём, дарога, пасека, і на ёй раптам стала падскокваць дзікая козачка... Яны суцішыліся на возе і глядзелі на пасеку.

Козачка выскачыла з сосніку ў самым кутку за дарогай, адкуль ішлі самалёты. Яны віселі цяпер над козачкай, як старыя каршуны: даганялі, вось-вось лапнуць зверху між лапатак гарачымі кіпцюрамі, і яна, маладзенькая, зусім яшчэ дурная, рыжаватая, на ценкіх ножках, падскоквала ў высокай чырвонай траве між пнёў, задзёршы галаву з кароценькімі, смешна растапыранымі рожкамі — ратавалася... Бегла проста на каня з калёсамі — Алімпіяда спачатку падумала, што тая не бачыць іх са страху. Падскокваючы, як мячык, козачка, уся ў цёмныя

пісягі ад поту, падбегла да іх і адразу сунулася пад калёсы, як старой казе пад вымя. Упала пад імі на зямлю з усіх чатырох і ляжала, дрыжучы і б'ючы капытамі па карэнні. Здавалася, што гэта стукае яе маленькае сэрца ў худзенькіх грудзях.

Гул нарастаў — каціўся ўгары, як бурая хмара з градам у навальніцу; здавалася, дыхне адтуль і змяце іх разам з калясьмі з пасекі. Калі яны, задзёршы галовы, глядзелі з-пад елкі на ядраны краёк неба, бачылі, як па ім нізка ішлі чорныя ў жоўтыя плямы самалёты. Ішлі па тры ў крывы радок, і здавалася, што сіняе неба пасеклі тапаром на чорныя трэскі. Не вытрымаюць, парвуцца зараз у вушах перапонкі; галава робіцца вялікая-вялікая, яе распірае гарачая пустата... Не сцісні рукамі — разваліцца надвае...

Прыпала галоўкай да зямлі козачка; павярнула яе набок і глядзіць угару з-пад калёс на краёк неба між елак сваім вялікім жоўтым бліскучым вокам — спалоханым, балючым... Па галоўцы ў яе, як па нежывой, густа папаўзлі вялікія чырвоныя мурашкі...

Алімпіяда тады таўханула Мікалая пад бок — сядзіць, як усё роўна і не бачыць козачкі... Мікалай павярнуўся да яе і зайшоўся сухім, як лучына на печы пад рукамі, кашлем... Вочы ў яго парабіліся чырвоныя, набеглі крывёю; заружавеўся твар, вось пыхне агнём...

— Відзела к-калі?..— ён кашляе і глытае словы.— Сабака бяжыць... да чалавека... а каб ка-за... Як паявілася на свет, яна такога груку не чула... Усё жывое цяпер дрыжыць... Да людзей ціснецца, калі бяда прыйшла...

Гул аціхаў, ападаў за Вілію, як полымя на пажары. Зрабілася ціха, і, калі зноў закашляў Мікалай, козачка пырснула з-пад калёс, як блыха, рассыпаўшы худымі крываватымі ножкамі руды слупок мурашніку пад елкай, і схавалася ў высокай чырвонай траве на пасецы...

Азваўшыся недзе блізка, залопалі крыллем дзікія галубы; зацыльгікаў дзяцел; зафоркаў, бразнуўшы цуглямі, Бар'ян, страсануўся ўвесь, страсаючы з сябе сляпнёў, і на душы ў Алімпіяды зноў зрабілася ціха, нібыта яны і не ехалі ў Буслава на станцыю, дзе разбамбілі вагоны з соллю, дзе, гаварылі, відзелі, як увагнала асколкамі ў сцяну чалавека, а падаліся з усёй вёскай на луг да Віліі: прыедуць, паставяць будкі з альховага галля, задыміць на беразе агонь пад вялікім чорным катлом, і зазвіняць пад лесам косы...

Конь з-пад елкі пайшоў сам на дарогу, як раніцай з двара за ваеннымі. Застукалі колы па карэнні, пасекай далёка паплыло рэха. Выехаўшы з-за хмары, засвяціла сонца, зырка і суха, як на дождж. Крануў недзе блізка асіну вецер, і яна гусценька зашапатала, атрасаючы з сябе вечны страх; сагнулася нізка, да самых пнёў на пасецы, высокая чырвоная трава. Запахла смалой і верасам, як спрадвеку... А самалёты — праляцелі і праваліліся, як у яму; пагрукала і сціхла, разбамбілі ў Буславе станцыю, і зноў будзе, як і было. Пачалася вайна і ацiхла: бывае ж — разявіцца грукан і адразу замрэ, як удавіўшыся.

Супакоіўшыся пасля кашлю, Мікалай доўга сядзеў, глядзеў Бар'яну пад ногі і жмакаў у руках лейцы. Сівыя валасы рассыпаліся на рад, кепка звалілася з галавы, і яе не было відаць на возе. Ён загаварыў, не падымаючы вачэй:

— Ціха як, Уліма. Нібы на свеце нідзе і не грыміць...

— Вернемся. Хай яно ўсё агнём... Сяджу, як на вуголлі. Хлапец дома недзе прачнуўся, што яму тая бабка... І скаціна ўся на ферме без мяне. Можа, немцы ўжо ў вёсцы... Не трэба і буслаўская соль: солана будзе ў роце ад крыві...

— Ты паслухай, як ціха... І ззаду ў вёсцы і наперадзе за ракой. За гадзіну будзем у Буславе, а адтуль — каню пугаўём пад хвост...

— Пад хво-о-ост... Усё пойдзе пад хвост...

— Прэч маніся, а жыта сей... Міхол, як толькі пачуў, што разбамбілі Буслава...

— Чужое багацце, глядзі, каб колам у горле не стала...

— Гэта толькі мы, Уліма, калі што для сябе — дык самыя апошнія ў вёсцы. На ферму толькі бяжым раней за ўсіх.

— Хапае і людзям. Па павестках, вун, пайшлі.

— Прышлюць і нам. Прыеду дамоў, а яна на стале. А тады я ўжо з табой не яздок. Вот так упобачкі не сяду, не паеду ў Буслава. Торбачку ў руку — і будзьце здаровы...

— Першага настаўніка забралі...

— Лейцінант. Пойдуць і астатнія... Так што, прывязлі мужчыны солі, каб бабскія слёзы не былі прэсныя... Сляза, Уліма, усягды салёная. Аж горкая... А што гэта за сляза, калі яна будзе прэсная?.. Кабанчыка без мяне ўвосень сціснеш, а чым лапатачкі перасыпеш, калі солі не будзе? А рыжыкі ў дзежачцы чым закрасіш без солі?

— Што ты гаворыш, Мікалай? Загаварыў, як у бярозы сабраўшыся...

— Прывыкай, Уліма, што не толькі солі не будзе...— тузануў ён за лейцы, і калёсы пачало кідаць на карэнні.

Пераехалі шырокую граду — граніцу ад Польшчы да трыццаць дзевятага года. Града была яшчэ жоўтая ад пяску, але яе ўжо зацерушыла шыллём, і па ёй густа пайшла расці па баках трава і дробныя сасонкі. Мяжа хутка знікала з воч — не хацела быць чыстай і голай, як і ўся наўкола зямля...

За градой скаціліся ў лагчыну, у лазняк, і выехалі на луг да Віліі. Конь пайшоў цішэй, мякчэй сталі падкідаць калёсы. Высокая серабрыстая мятліца на лузе абапал дарогі даставала аж да ляжэек, пырскаючы густой расой на босыя ногі, і Алімпіяда, падцягнуўшыся на возе, зноў апёрлася плячом на Мікалая. Луг ад лесу да Віліі, да густых старых вербалозаў, быў заліты расой і блішчэў, пераліваючыся пад сонцам. На беразе павярнулі ў Цыбульскі брод, дзе летам усягды можна было пераехаць Вілію ў калёсах, і адразу з Жоўтага Берага сцебанула па твары калючае сонца, кроячы перад вачыма на кавалкі белы туман, што аўсяны кісель нажом. Запахла густа дымам. Невядома было, дзе гарэла — на заставе на Жоўтым Беразе ці ў Ліпніках. Ліпнікі падсочаныя, настоеныя на жывіцы,— здавалася ўсягды: пыхнуць ад сярнічкі, як порах — часта гарэлі доўгімі, па двое сутак, пажарамі. Больш усяго іх душылі пажары да трыццаць дзевятага года, калі ля іх ішла граніца з Польшчай. Самы вялікі пажар быў у трыццаць восьмым годзе летам, калі ў вёсцы было поўна дыму — цягнула з лесу, калі на пажар сагналі людзей з усіх бліжэйшых вёсак і наехала пажарных машын і з Плешчаніц і з Мінска.

Лясным пажарам лёгка можна было перайсці граніцу з таго боку: у такой сумятні людзей у лесе, як мурашак, хто каго пазнае — рыдлёвачку ў рукі і тушы агонь, хавайся ў дыме... У такія пажары рвалася тэлефонная лінія, гарэлі кароўнікі і канюшні, у полі знаходзілі забітых трактарыстаў... У вёсках тады ставілі каравулы — круглымі суткамі.

У той апошні пажар, калі каціла Ліпнікі, вецер быў на заставу, і яна магла згарэць у такую суш.

«Чуть-чуть не подошло...» — аж цяпер яшчэ ў памяці Кокараў, начальнік заставы.

Агонь на заставу тады не пусцілі, перакапаўшы рыд-

лёўкамі бор. Цэлы тыдзень на лузе, на заставе, у лесе і ў вёсцы стаяў дым і пахла гарам дома ў хаце...

На заставе пад сонцам цяпер вісеў туман — сіні-сіні, нібыта ўсе туманы на свеце зліnялі і ўся сінька сцякла сюды — на Жоўты Бераг.

Эх, застава, застава...

Ідзеш ноччу зімой на ферму... Цёмна, блішчаць у небе востранька зоркі. Млечны Шлях — як рассыпаны попел, стынуць ад марозу пад кажухом плечы, платы здаюцца жывымі, кратаюцца, як людзі, а забрэшуць далёка за лесам на заставе сабакі — і няма ўжо шораху за плячыма, стаіш і слухаеш...

А то пастукаюць у акно ноччу пагранічнікі... Ускочыш, запаліш лямпу, а яны ўваляцца ў хату — белыя халаты, белыя да пят кажухі, белыя ад снегу валёнкі — асвецяць ліхтарыкамі сенцы, двор, варыўню, хлеў, і зноў іх, устрывожаных, цягнуць за сабой на павадках у цёмную ноч з мяцеліцай вялікія, як цяляты, аўчаркі. Значыць, адтуль перайшлі граніцу... Не спіш тады ўсю ноч да раніцы, ходзіш і ходзіш упацёмку па хаце. Разбудзіш Мікалая, які, прыйшоўшы з холаду, храпе, аблакціўшыся ў кажуху на стол і падпёршы галаву,— і аўчаркі і пагранічнікі, ускочыўшы ў хату, кінуліся былі да яго, а ён нават і не прачнуўся — разбудзіўшы, апранеш кажух і ідзеш з Мікалаем на ферму ў кароўнік. Нясеш у руцэ ліхтар, не паліш, баішся: перайшлі граніцу — усякага чакай. І на ферме ходзіш і ходзіш удваіх круга кароўнікаў па гурбах, а мяцеліца збівае з ног, сыпле і сыпле на галаву са страхі снег, насыпаючы на вуглах гурбы ўпоравень з чалавекам. Ходзіш так усю ноч, слухаеш, як стукае рагамі аб сцяну і сапе ў кароўніках скаціна, аж пакуль на ўсходзе не зоймецца на ўсё неба зара. Тады на ферме паяўляюцца людзі — даглядчыцы. Скрыпяць дзверы ў парніку, скрыпіць намерзлы асвер ля студні, бразгаюць вёдры, ржуць коні, рыкае галодная з начы скаціна, у вёсцы загараюцца ў хатах агні, пахне густа дымам ад альховых дроў... Уздыхнеш спакойна: гара з плеч звалілася, абышлося без ліха, і, адпусціўшы дамоў Мікалая, паліш ліхтар, ставіш яго ў кароўніку на праходзе, бярэш у рукі рагатыя, на два зубы, лясковыя вілкі, трасеш сена з саломай — робіш струшанку — і носіш яе ахапкамі каровам за драбіны, пакуль не сагрэешся і не скінеш з плеч кажух... А мяцеліца зноў шалее, снегу — не адчыніць у хлеве дзвярэй; іней на саломе, на валасах, на брывях у даглядчыц; чуеш, як зліпаюцца павеч-

кі, а носіш і носіш голымі рукамі струшанку, пакуль, зачапіўшыся нагамі за груду ў парозе, не ляціш з кароўніка галавой у гурбу... Тады цябе падымаюць са снегу даяркі за рукі: «Хопіць, Уліма, адсапніся... Ты што?»

Шалее мяцеліца, шастае па сцяне, як сухой саломай. У расчыненыя дзверы цэдзіцца сіняя раніца, і звініць ужо ў парожнім вядры малако. Трэба ісці ў кладовую, браць малакамер і бітоны. Толькі цяпер чуеш, што пачынаеш супакойвацца пасля начы, аўчарак і пагранічнікаў. А яны зноў тут — выскачылі з гурбы з аўчаркамі на павадку і бегаюць па слядах круга кароўніка, дзе яна з Мікалаем хадзіла ўсю ноч... Трывога і ў вёсцы, і на ферме, і ў хаце будзе доўга, аж пакуль не пойдзе гасла — злавілі! А ў такую мяцеліцу яе чакай зноў кожную ноч...

У тую ноч пастукалі ў шыбіну ад двара неяк надта ціха — нямоглай рукой ці асцерагаючыся. Яна ўсягды ўсковала з ложка, калі стукалі ў акно. Хай гром грыміць на двары, хай грукаюць у дзверы — будзе спаць. А дакранецца хто да шыбіны... Снежныя крупы пасыплюцца з ветрам — падняло ўжо цябе як утрапёнага. А то ўсхопішся, бывае, прыпадзеш да абмерзлай па краях шыбіны, а за акном ядраная зара на ўсходзе і на падаконніку на мяленні скача сінюк... Стукаў дзюбкай у шыбіну — прасіўся ў хату... Каб ты здаровы быў, колькі страху нарабіў...

Мяцеліца ў тую ноч замуравала снегам акно ад двара па верхнія шыбы, і з хаты было відаць, як рука разграбала за акном снег. Разграбе, тады стукае; пасля зноў хаваецца ў снезе. Ускочыла яна ў нейкім страху, зірнула ў запечак — цёмнай гарбатай фігуры на зэдліку не было: Мікалай у такое безгалоўе не прыйшоў грэцца, астаўся на ферме ў парніку. Нацягнула на сябе адзежу, а зуб на зуб не пападае, калоціць усю. Ускінула тады на плечы чорны кажух з вялікім каўняром і падышла да стала, над якім вісела лямпа з прыкручаным агнём у шкелцы — чакала Мікалая. Спачатку падумала, што пагранічнікі зноў некага ловяць, пасля, глянуўшы на лямпу і на ходзікі, злякнулася: ходзікі паказвалі роўна чатыры. Значыць, у яе ў адной у вёсцы ў акне блішчэў агонь, як воўча вока ў цемнаце — нехта і прыйшоў здалёку на агонь.

Агонь у лямпе яна так і не падкруціла — пайшла ў сенцы ўпацёмку. Дзверы на двор хапіла адразу з рук шалёным ветрам і адкінула да сцяны. У сенцы хлынулі калючыя крупы — секанулі па твары і кажусе,— і ўсунуўся пасля чалавек. Мужчына, у сівой па пяты бурцы, з вялі-

кім башлыком на галаве. Твар чорны ў цемнаце, як пераварaны бурак, і абсыпаны густа снегам. Ступіўшы на падлогу ў сенцах, мужчына загрукаў нагамі, як калодкамі — змерзся абутак.

— Жызнава́...— спытаўся ён ціха, хрыпата і з трывогай.

— Жызнава, Жызнава...— адказала яна скоранька, яшчэ і сама не ведаючы чаму, і пачула, як і ў яе босыя ногі робяцца што калоды: Жызнава — вялікая вёска на гары — была за Віліёй, за граніцай. Летам у добрую пагоду, калі касілі на лузе, можна было ўбачыць у Жызнаве белыя стрэхі.

Чалавек больш нічога не пытаўся, сам пайшоў, узяўшыся за сцяну ў сенцах, у хату; у парозе папрасіў, каб яна сцягнула ў яго з плеч бурку — пад буркай быў новы доўгі кажух, пафарбаваны ў чырвонае, як цэгла. І кажух у яго з плеч яна сцягнула сама: чалавек спаў на нагах. Вялікія сівыя валёнкі ў яго былі без галош — пагубляў — і змерзліся ў капыт. Яна ўзяла яго пад паху, давяла да свайго ложка, што стаяў у куце ля акна ад двара, і палажыла неразутага, у мерзлых валёнках, на пасцель. Пачула, што ён шэпча, каб накрыла — яго пачало калаціць,— і яна накрыла яго спачатку чырвоным вялікім кажухом, пасля прынясла з парога і ўскінула на кажух бурку — башлыком на галаву: закрывала вочы, каб не згледзеў раптам чаго ў хаце і не здагадаўся. Але ён адразу захроп, аж сцены ў хаце задрыжалі і заскакаў у шкелцы прыкручаны агонь, пырснуўшы дробнымі іскрамі — канчалася карасіна. Праз сухі, прастуджаны мужчынскі храп яна пачула, як раптам суха і дзяркaта зашасталі на сцяне ходзікі і балюча затоўхала ў бок сэрца. Яна, склаўшы рукі, прыціснула іх да грудзей — яны калаціліся, і яе ўсю пачынала калаціць.

Чорныя валёнкі стаялі ля печы — яна ўссунала іх асцярожна на босыя ногі; пяньковая хустка ляжала на ложку на брыжы, прыціснутая зверху падалом сівой буркі, і яна не стала браць хусткі — падняла толькі ў чорным кажуху вялікі каўнер. Пастаяла яшчэ ў качарэжніку: слухала, як пад сівой буркай на ложку «дзёрлі анучы» не сціхаючы; тады асцярожна, каб чым не стукнуць, выйшла ў сенцы і зачыніла дзверы ў хату. Хацела ўзяць знадворку сенцы на замок, але перадумала: пачуўшы, што запёрты дзверы, чалавек здагадаецца, высадзіць акно, і шукай тады ветру ў полі... Дзверы ад сенцаў прыліплі да сцяны, ля іх ужо

была намецена гурба снегу — не зачыніш, і яна не зашчапіла дзвярэй. Менш падазрэння, а мала куды яна выйшла...

Вуліцай пусцілася адразу ля платоў на ферму да Мікалая — відзела толькі цёмнае верхняе жэрдзе ў снезе. Пачула, што поўныя валёнкі снегу, што ногі робяцца мокрыя і халодныя; вецер хапянуў і адкінуў ад галавы каўнер кажуха; загарэліся агнём кончыкі вушэй. Тады яна падумала: а што зробіць Мікалай? Павярнулася і пабегла вуліцай назад, задыхаючыся, па пояс у снезе. Невядома, былі на нагах валёнкі ці не — не чула ўжо ног.

Вуліцай цяжка было бегчы, і яна, перажаргнуўшы на гурбах плот, пабегла гародамі, слізгаючыся па старой, цвёрдай, як скарынка, шэрані, з якой дзёрла снег і гнала ў вочы.

Старшыню, Папку, не дзюбнеш сінічкай у шыбіну, не разбудзіш пальчыкам: хата яго стаяла пасярод вёскі і яму ў намерзлыя падвойныя вокны ці стукаў калі хто... Гэта яна, Алімпіяда, жыла з краю, як напаяўку.

Папок, пачуўшы яе голас, выскачыў у сенцы голы-босы: думаў, гарыць ферма. Пасля яны ўдваіх беглі ў хлеў да Папка. Папок прыехаў позна з Белага, з сельсавета, і не пагнаў каня на ферму, пакінуў нанач у хлеве. Вывеў яго, белага ад інею, ускуліўся і рвануў на заставу загуменнем — далей ад воч.

Пагранічнікаў доўга прыйшлося чакаць — гэта калі не трэба, то яны за кожным вуглом... Яна, прыбегшы дамоў, прывалілася плячыма да цёплага чалесніка, стаяла і слухала, як тахкае сэрца — здавалася, аж печ ходзіць ходырам. Чалавек на ложку пад буркай хроп: заходзіўся высокім ценкім звонам, пасля «рваў старыя анучы» — аж хрыпеў. Змагаўся ад свайго храпу — не хапала паветра, вось-вось захлынецца — і надоўга змаўкаў. Яна тады баялася, што ён возьме і прачнецца. Такі сон з храпам бывае нядоўгі: чалавек захрапе і — гульк! — устае: прадзёр вочы. І калі ён на ложку зноў зайшоўся ад храпу, яна, ціха ступаючы мокрымі босымі нагамі па падлозе, падышла да стала і ўкруціла ў лямпе кнот. Агонь адразу патух; пырснулі ўгару са шкелкі дробныя іскры, і запахла дымам. Чалавек заварочаўся на ложку.

Тады яе так схапілі дрыжыкі, што здавалася, косці рассыплюцца. Яна ціснулася і цiснулася да чалесніка — у печ улезла б, каб сагрэцца. Вецер рваў страху, за акном ад гарода шалела мяцеліца, спяшаліся на сцяне ходзікі... Пажаданню, здавалася, не будзе канца.

Пагранічнікі зайшлі ў хату ціха — адчынілі дзверы самі, як усё роўна знала, дзе клямка,— двое, у белых халатах, з ліхтарыкамі ў руках. Запалілі іх у парозе — секанулі агнём па хаце і ёй па вачах, і яна паказала галавой на ложак. Яны кінуліся да ложка, адтуль ёй загадалі запаліць лямпу. І калі яна, запаліўшы лямпу, падкруціла ў шкельцы кнот, у жоўтым агні, што лёг на сцены і на падлогу, згледзела: пасярод хаты стаяў чалавек з ложка, задзёршы ўгару рукі. Яго выхапілі з-пад буркі, як хапаюць шчупака з сеткі, каб не боўтнуў назад у раку,— ён толькі лыпаў вачыма спрасоння. У руках у пагранічнікаў былі два наганы — дасталі ў яго з кішэнь. Зайшлі ў хату яшчэ трое пагранічнікаў — стаялі дагэтуль пад вокнамі.

Чалавека забралі адразу на заставу. Кажух, бурку і валёнкі ён нацягнуў на сябе скоранька, як на пажар, і ўсё круціў галавой па хаце — не верыў, як гэта ён мог апынуцца тут і заснуць, калі прыйшоў жа ў Жызнаву. Хто ён і што — спачатку нікому не гаварылі; пасля ўжо, праз многа часу расказвалі — тайна нідзе не ўлежыць,— што гэта быў чалавек з Польшчы, і прыходзіў ён па пашпарты. Гаварылі нават да каго — да Кукаева ў Крашчанку за Белае: Кукаеў з сынам рабіў там на смалакурцы. Яны дралі карчы на Каралінскай пасецы за Ліпнікамі ля самай грады, пасля звозілі іх на смалакурку ў Крашчанку на калёсах: накладуць вазы чырвоных карчоў вышэй каня і вязуць праз вёску на грэблю. Да іх усе прывыклі, ездзілі яны да самай граніцы летам і восенню, лічы, кожны дзень. Гаварылі пасля, што яны пераходзілі ноччу і граніцу — насілі туды воўну, а адтуль падэшву і сахарын. Але гэта ўжо расказвалі пасля, як нашы перайшлі граніцу ў трыццаць дзевятым годзе і адтуль у вёску ў магазін хлынулі людзі — па сярнічкі, па соль і паркаль. Тады ж, калі арыштавалі таго чалавека, арыштавалі і Кукаева з сынам: яны кралі пашпарты — у пагранічнай зоне ў вёсках усе дарослыя мелі пашпарты. Кукаеў з сынам перапраўлялі крадзеныя пашпарты за граніцу — у Польшчу. Адтуль па тых пашпартах засылалі да нас людзей.

Чалавек з Польшчы і прыходзіў у тую мяцеліцу па пашпарты да Кукаева — аж чатыры разы пакідаў сляды на градзе туды і назад: круціўся, заблудзіўшыся. Яго лавілі ўсю ноч і не маглі злавіць: засыпала сляды і сабакі не ішлі. Збіўшыся з ног, чалавек нарэшце, як яму здалося, прыйшоў у Жызнаву, а Жызнава была адтуль, дзе ён улёгся спаць, аж за сем вёрст, за Віліёй — за граніцай...

Эх, пагранічнікі, пагранічнікі...

Косіш у Цянях, правальваешся ля кладак у руду па самы пояс — глядзіш, зялёная фуражка за вербалозам: пагранічнік; нясеш вязку сухой асакі ў Бярэзаўцы з крыніцы — зялёная фуражка збоку ў сасонніку і аўчарка побач у верасе — рот разяўлены, аж чуваць, як дыхае, і вочы бліскучыя на цябе глядзяць — мацаюць, што за душой, чым пахнеш... Прыгоняць летам з поля на ферму скаціну, позна, сонца зайшло, з Дроздкі прыплыў туман, кароўнікаў за ім не відаць, нават асвер ля студні высака ўгары схаваўся — глядзіш, у тумане калышуцца зялёныя фуражкі: адна, другая, трэцяя... Пагранічнікі... Частуеш іх сырадоем — пад зялёнымі фуражкамі ад усмешак маладыя, белыя, як сырадой, зубы...

Жнеш у Жукаўшчыне ў такую ўжо гарачыню, што задыхаешся, серп ад духаты не падняць, паскідаюць бабы з сябе ўсё, у адных ніжніх кашулях астануцца — над жытнімі каласамі зялёныя фуражкі... Крыку пасля, рогату на ўсё поле...

У грыбы падасіся, здаецца, толькі адышоўся ад дому, а перад носам зялёная фуражка, як зайцаў баравік, з-пад зямлі вырасла — смяецца, што ты заблудзіўся, далёка зайшоў ад вёскі, далей — града, і паказвае табе варочацца назад зусім у другі бок, не ў той, у які ты думаеш, гаворыць, што ты ідзеш за граніцу... У лесе лёгка заблудзіцца...

А пойдзеш позна ўвосень пасля звіжання ў Цяні ў журавіны... Поркаешся цэлы дзень сагнуўшыся, адзін вялікі каранёвы кошык набраў, другі, паўмеха ўжо насыпаў — з кургана з багуну падымаецца зялёная фуражка: назад! І аўчарка на цябе злосныя вочы наставіла. Зноў зайшоў не туды, куды трэба. А чорт яе запомніць, тую паласу... Калі на той паласе журавіны ніхто не збіраў, калі яны, як боб, калі да іх рукі самі цягнуцца і ногі вядуць. Мала што пад самую граду.

А кіно прывязуць ставіць пагранічнікі ў самай вялікай парожняй пуні — сабяруць усю вёску; сходку правядзе ў канцыляры начальнік заставы Кокараў... А то машына пройдзе вуліцай з заставы, поўная зялёных фуражак — бягуць ззаду дзеці за мост на грэблю...

Прывыклі да зялёных фуражак. Вось ужо скора два гады, як няма заставы на Жоўтым Беразе — і як усё роўна чаго не хапае...

Ехалі лугам да Цыбульскага броду; уперадзе ў ніцай лазе была Вілія. На далёкай заставе за лесам гарэла ра-

нішняе сонца, і ўвесь луг ад свежай ядранасці зрабіўся зялёны, нібыта ён быў з адных зялёных фуражак. Ківаліся калёсы, ківалася ззаду зямля, і здавалася, што ківаюцца зялёныя фуражкі... Неяк горка стала на душы...

Паехалі берагам, ля самай ніцай лазы, за якой ціха плыла ранішняя рака, зыбячыся толькі на мячэўніку, што вострымі зялёнымі нажамі лез з вады. З ракі падымалася белая пара, з вербалозу капала на ваду раса, і па вадзе шырака ішлі кругі.

Вада ў Цыбульскім бродзе была цёплая, быстрая і чыстая — на дне быў відаць жоўты пясок і белае каменне, як зімой з-пад лёду. Бар'ян стаў ля берага, бразгаючы цуглямі, і пачаў піць. Напіўшыся, не хацеў ісці ў раку, і Мікалай сцебануў яго лейцамі, падняўшы на клубах пыл.

Пасярод ракі вада падымалася да калень, і Алімпіяда выпрастала на калёсах ногі — так і сядзела, пакуль не пераехалі. Пасля вады Бар'ян прыставаў, азіраўся на бакі на высокую мятліцу, рваўся, каб дастаць у ёй чырвоныя галоўкі канюшыны, і Мікалай, пасунуўшыся ўперад, сцёбаў яго лейцамі па клубах. У вочы пагнала пільсць, і Алімпіяда адвярнулася...

Вілію з ніцай лазой і луг за ёю, стаўшы над Жоўтым Берагам, заліло сонца. Крануўся ўгару сівы туман, бурэючы на сонцы; над лугам закружыліся бацяны, раскінуўшы чорна-белае крылле. Здалося, што зараз высыпяць на бераг касцы, возьмуць бабы на плечы граблі і пойдуць пад лес разбіваць сена... Бацяны пасля павярнулі на Жоўты Бераг і згарэлі ў залатым сонцы. Падняўшыся з зямлі, туман збіраўся ў цвёрдыя туляжкі, сонца за імі налівалася бурай чырванню, што крывёю, і Алімпіяда, каб больш не глядзець на Жоўты Бераг, павярнулася ўперад, да Жызнавы, якая высыпала на горку высокімі хатамі, доўгімі хлявамі і маленькімі свіронкамі. У Жызнаве тапілася ў печах, і высака ў небе слупамі ішоў дым.

Паміж шнуроў — шнур ячменю, за ім папар з рудзікам і белай дзяцельніцай, за папарам вузенькая палоска бульбы з паджоўклым бульбеўнікам, побач сырадэля, за сырадэляй гарбатым загонам зялёныя канаплі — яны пад'ехалі да Жызнавы. Дарога ішла ля вёскі; на крыжаватцы ля дзвюх белых бяроз стаяў стары шэры каталіцкі крыж з белымі фартушкамі і бліскучымі грудзьмі адлітага пана Езуса

Жызнава пацягвалася пасля вясковага летняга лянотнага сну — прайшоў нехта з вядром да студні, пастаяў,

паглядзеў; нехта сагнуўся на дрывотні па палена дроў; а там адчыніў вароты і выпхнуў сілай на вуліцу карову — хай лезе з носам між платоў у чужыя гароды, пакуль яе не забярэ і не далучыць да стады пастух. Нейкая старасвецкая цішыня вісела над хатамі і гародамі, над усёй гэтай далёкай ад вялікага свету вёскай. Здавалася, яе не могуць патрывожыць ні самалёты, ні глухія выбухі, якія трасуць зямлю ўсе дні на захадзе. І ніхто тут у гэтую раніцу не крыкнуў, не загаласіў на ўсю вуліцу, можа, сюды і не прыслалі нікому павесткі з ваенкамата. Ні з кім вёска не развітваецца, нікога не праводзіць, і Алімпіяда падумала раптам: у калгас Жызнава не пайшла, а можа, яна чакае немцаў? Нашы прыйшлі, але ж яны цяпер адыходзяць, зямля ўся ў шнурах, і дзяліць нанава не трэба. А па кім ім тут плакаць, разрывацца? Па нашых?

Саламяныя стрэхі асталіся ззаду, закрыўшы сабой бярозы з крыжам. Дарога пайшла гарой, паабапал яе ляжала поле — рудым, стаптаным скацінай папарам. Уперадзе папар пераразалі доўгай паласой прысады ля гасцінца; за імі ў сінім ранішнім небе тырчаў шпілёк царквы ў Даўгынаве. У Даўгынава, калі знялі граніцу, хадзілі кожную нядзелю на базар. З гэтай гары, з дарогі, было далёка відаць, здавалася, відзіш усю зямлю — роўную, шырокую, вялікую і ціхую, асабліва летам увечары, калі варочаешся дамоў. Стаіш і, здаецца, чуеш, як на гэтай вечнай зямлі і мінулае, і цяперашняе, і заўтрашняе зліваецца ў адзін ціхі, напружаны, пакутлівы, нейкі гарачы і шчаслівы міг — жыццё... Глядзіш на сонца на захадзе за ціхімі шэрымі хмарамі, якія, здаецца, наўсягды застылі на высокім, пабеленым, як печ у хаце перад святам, небе, і не хочацца кратацца з месца — застыў разам з зямлёй і небам на міг у вечным спакоі, якога ў цябе ніколі не было ў жыцці. Бо ступіш адгэтуль — і цябе падхопіць пыльная камяністая дарога; закруціць па полі, па лузе; абмые ў Віліі халоднай вадой збітыя натруджаныя гарачыя ногі і прывядзе цераз лес у Крамянец — дамоў на двор. Хочаш — бяжы адразу ў хату да калыскі, дзе малы Міфодзя; хочаш — сядзі на лавачцы на вуліцы ля варот, заплюшчыўшы вочы і выцягнуўшы здранцвелыя ногі; а не — бяжы адразу да студні, даставай вядро халоднай вады, праганяй дзвюма конаўкамі смагу, абмывай на мураве пад асверам ногі, бяры ў сенцах рыдлёўку і — у гарод капаць на вячэру маладую бульбу. А пасля вячэры — адразу на ферму — прыгоняць кароў... І пачнецца мітрэнга, як і кожны дзень: з фермы

дамоў, з дому на ферму, у канцылярыю, у сельсавет у Бе-лае, адтуль зноў дамоў позна ноччу... І ўсё пехатой — добра, калі хто дагоніць дарогай, падвязе,— і не будзе табе часу думаць, колькі ты на гэтай зямлі пражывеш — ці доўгі твой век...

Уперадзе на гасцінцы падняўся пыл — вышэй прысад. Даўгынаўскі гасцінец быў стары, вузкі, выкладзены брукам, са старасвецкімі, не абхапіць у камлі, бярозамі-прысадамі — яшчэ кацярынінскімі. Бярозы з дробным закажанелым густым лісцем пачарнелі ў камлях ад даўніны, патрэскаліся, кара знізу пайшла ў бугры, і па іх усягды бегалі вялікія чырвоныя мурашкі. Відаць бярозы былі аж з Жызнавы — стаялі цёмнай суровай сцяной: з дарогі на гасцінец пад прысады заходзіш усягды, як пад скляпенне.

Падзьмуў вецер, і з гасцінца прынесла пах гару. Пасля там загудзела машына і забразгала жалеза — як усё роўна Марфа завяла на ферме трактар.

— Не гані...— Алімпіяда папярхнулася ад смуроду.— Што там? — узяла яна за плячо Мікалая.

Бар'ян, пачуўшы напятыя лейцы, стаў, захроп і, ганяючы сляпнёў, забразгаў цуглямі.

Цяпер ужо добра было відаць, як па гасцінцы з Даўгынава пайшлі крытыя брызентам машыны... За машынамі цягнуліся ззаду на прычэпе гарматы — здалёку як прывязаныя да воза каровы, якіх у нядзелю вялі з базару. За машынамі пайшлі танкі — гасцінец залезгатаў жалезам і каменнем; разам з танкамі валілі салдаты: ішлі з подбегам пад бярозамі, абляпіўшы гасцінец з двух бакоў. Пад бярозамі ім было цесна, і яны занялі пасля папар — ішлі полем. Да іх стала зусім блізка, і яны добра былі відаць пад сонцам — блішчэлі твары, вінтоўкі і кацялкі. Салдат было многа — яны падымаліся з лагчыны ад маста ля Даўгынава і ішлі, выгінаючыся доўгім зялёным вужом, пасля рассыпаліся па полі, як конікі па скошаным лагу, і мяшаліся з пылам.

— Адступаюць... І там і тут адступаюць... Можа, немцы ўжо ў Буславе, а мы едзем? Адурнець трэба, каб самому на ражон лезці... Акручвай каня, Мікалай!..

Мікалай маўчаў. Апусціў рукі з лейцамі на возе, сядзеў і глядзеў на гасцінец.

— Што стаў? Пад'едзь да іх, можа, яны табе солі адваляць?.. Трэба было з дому апошняй узяць з салянкі, каб дагнаць ды ім на хвост насыпаць... Не відзіш, што ўцякаюць? Полем бягуць, на дарозе ўжо цесна!..

— А можа, яны...

— Што «можа»? Не ў той бок! Не чуеш, дзе грыміць? Там, дзе сонца заходзіць. А яны пад сонца бягуць... Ад сонца каскамі закрываюцца, а не ад стрэлу... Што, і табе галаву завярнула? Не відзіш, куды яны ідуць?..

— Улі-і-ма...— Мікалай хацеў нешта сказаць, але, глынуўшы з поля свежага пылу, ссінеў увесь, затросся і заглушыў сваім дзяркатым кашлем бразгат на гасцінцы.

— Ну што? — яна стала тузаць яго за плечы.— Што? У кашаль ды ў кашаль?.. Я ўжо і не помню, калі ты без кашлю слова сказаў... На захадзе бухае, на гасцінцы бухае, на калёсах бухае... А мне што рабіць? Скажы! Хоць слова цяпер цвёрдае бабе скажы! Ехаць — дык ехаць, чаго мы стаім? Кашляць сюды пад Даўгынава прыехалі? — яна пачула, як ёй робіцца горача і як нейкая вострая калючая злосць распірае грудзі.— Свет настаў... Ваякі... Адны кашляюць, другія бягуць... А бабе што рабіць? — яна аж закрычала, саскочыўшы з воза і стаўшы босымі нагамі ў пыл і прытаптаную прасяніцу.

А салдаты, як усё роўна ёй, Алімпіядзе, на злосць, падымаліся і падымаліся з Даўгынава, занялі ўвесь папар спераду, ішлі ўжо зусім блізка — можна было добра разгледзець іхнія бурыя ад сонца твары і белыя бінты на руках і на галовах. Руды папар стаў зялёны і зацягнуўся пылам. Стукалі ногі і бразгалі кацялкі; стукаў падковамі і бразгаў цуглямі Бар'ян, і заходзіўся ад кашлю Мікалай...

Яна не пачула самалёта; згледзела яго ўжо тады, калі ён акруціўся пад сонцам і калі ад яго ўперадзе ля каня пабег па зямлі чорны цень, як ад каршуна на гародзе за хатай... Цень бег папарам да гасцінца, і ўперадзе яго, як курчаты ў аселіцы, беглі, рассыпаючыся, салдаты і падалі ў баразны ў чырвоны рудзік... Выбухі, ядраныя, як пярун у дрэва, гахнулі якраз на гасцінцы — белае полымя лізнула зямлю ў адным і ў другім месцы адразу. Над прысадамі падняўся сіні дым — паласой,— і яго пагнала на папар. З гары, як бацян у вёсцы з гнязда, заклекатаў самалёт; спераду ў яго доўгенькім белым струменьчыкам засвістаў агонь... Пасля яна згледзела, што самалёт не адзін: і з другога і з трэцяга жыгаў агонь, што ўсе яны зайшлі ад сонца і іх многа — нібы вярнуліся назад тыя, што нядаўна пайшлі над заставай на Бегамле.

— Мікалай! Што ты сабе думаеш! — закрычала яна

Мікалай кашляў, заходзячыся. Хапаўся рукамі за грудзі, як усё роўна іх раздзіраў; хацеў нешта яшчэ паказаць

рукамі ёй, Алімпіядзе, і не мог; твар у яго зрабіўся сіні. Толькі Бар'ян стаяў у аглобнях, стукаючы падковамі аб зямлю і хмылячыся — не баяўся грукату: прывык на ферме да трактара, які з трэскам і грукатам прыганяла кожны вечар з поля Марфа.

— Мікалай!..— крычала яна, хапаючыся то за ляжэйкі, то Мікалаю за плечы.— Назад!..

Мікалай кашляў і махаў рукамі, накручваючы на іх лейцы; падцяты Бар'ян упёрся нагамі ў перадок і пачаў танцаваць у аглобнях, падняўшы пыл. Мікалай закашляўся яшчэ горш.

Гасцінец успыхнуў агнём: чырвонае полымя, падняўшы ўгару чорны, як каланіца, дым, выскачыла вышэй прысад. Дым, збіраючыся ў клубы, папоўз на сонца. Яно раптам аслепла, сарвалася з месца і пакацілася за бурымі клубамі на Жызнаву, нібы ўцякала, каб і не бачыць, і не свяціць на крывавы гасцінец, дзе гарэлі машыны, дзе ляжалі людзі ля дарогі на рудым папары ў радок, як снапы на гліняным таку ў пуні, дзе пырскалі з зямлі асколкі, каменне, кавалкі чалавечых рук і ног і сцёбалі па прысадах, як зерне з-пад цэпа...

Самалёты заходзілі і заходзілі ад рудога сонца; зямля падымалася ўгару вострымі бурымі пасля зімы стагамі сена... Стагі рассыпаліся на мякіну і асядалі на чырвоны папар сівым попелам... І здавалася — усяму гэтаму не будзе ніколі канца.

Яна тады падбегла ўперад да каня, схапіла за цуглі і пачала акручваць на дарозе. Лейцы былі туга напяты; конь, пачуўшы яе руку, рвануў у бок з дарогі. Падцялежыліся, заскрыпеўшы, калёсы; зазвінела над галавой, і ўперадзе, як праз хату, на чырвоным папары ўскочыў угару буры стог сена — было відаць, як яго знізу падымаў сіні дым. Яна пачула, як зрабілася адразу лёгкая — паднялo ад зямлі, што сухі ліст; заткнула вушы: грукат, крыкі чуваць былі аднекуль здалёку — з краю зямлі. Усё на міг спынілася: стог уперадзе, пад стогам жоўты агонь; Мікалай над калясьмі — вісеў, не падаў; Бар'ян — стаў на дыбы і стаяў; застылі чорнымі крыжамі самалёты над Даўгынавым... Пасля яе стукнула ў грудзі і кінула назад на зямлю, сlibкануўшы па твары жарствой і жоўтай свірэпкай... Яна адвалілася галавой на сухі папар — у пыл і прасяніцу; згледзела толькі Бар'яна, які панёс калёсы дарогай назад у Жызнаву, і на ляжэйцы белую Мікалаеву руку...

2

Над жытам ля дарогі, над самымі каласамі, падлятаў жаваранак — падымецца, залапоча скоранька дробненькім мокрым крыллем і пабяжыць слабенькімі ножкамі па нагнутых каласах, так і не змогшы адарвацца.

— Падбіты...— Алімпіяда нагінаецца з калёс да жыта, але жаваранак адскоквае ўбок — у руках астаецца доўгенькі жаўтаваты, з адкрасаванымі вусікамі каласок — пачаў ужо налівацца — і ладная галінка сівога палыну: трапілася разам у пальцы.

На калёсах запахла гарам і горкім палыном — як цяперашняй чалавечай доляй...

— Ранілі... І зямлю, і птушачку, і людзей... Я ўжо думаў, што і цябе...— Мікалай душыць кулаком кашаль.— Падбег, падымаю, а ты ляжыш, белая ўся, вачэй не адкрываеш... І ваенныя на полі ля цябе... І мне крычаць, што гражданскім тут дзелаць нечага... Паказваюць, каб я з канём і з калясьмі выбіраўся... Тады ўжо і ты вочы адкрыла...

— Што ўчадзела ўсё роўна... Галава вядзе і цяпер. Як дыхнула чадам, нібы зімой з печы з-за засланкі... Я ўжо больш нічога не чула: залескаталі твае калёсы, і на мяне пасыпалася лебяда з асотам і прасянікай — уся наша дамашняя трава... І недзе над полем закалыхаліся чорныя курапаткі...

— Самалёты, а не курапаткі...— адказаў, заікаючыся, Мікалай.— Вот так, Уліма. З'ездзілі... Ляжыш на зямлі белая, як соль...

— Маўчы. Людзі паедуць і прыедуць. А мы са сваёй шылаватай доляй... У нас усягды не так, як у людзей...— яна памаўчала, гледзячы назад за гасцінец за Жызнаву, як баючыся, што ўсё паўторыцца.— Заплюшчу вочы — дык поле здаецца чырвонае: на чырвоным рудзіку чырвоная кроў. Салда-ацікі... Падаюць у барозны на спіны і вінтовачкі ўверх выстаўляюць, як палкамі ад самалётаў бароняцца... А ў зямлю ўсё нешта цюк, цюк... І каменне на кавалкі шчапаецца... Чуеш, як ціха цяпер. Воблака толькі вісіць над гасцінцам. Рудое, як ад крыві. Паганяй, сэрца з грудзей вырвецца. Можа, і дома так...

Пачуўшы лейцы, пабег Бар'ян: ехалі з гары ад Жызнавы. Выглянула з-за туляга сонца; ззаду над гасцінцам засінелася доўгай ціхай паласой далёкае чыстае неба; на ім з краёчку павісла рудое, скрываўленае воблака. Чала-

вечая бяда паднялася з зямлі ў сусвет толькі маленькім воблакам дыму... Скора і яно растала, рассыпаўшыся на сіньку — што значыць для Сусвету маленькае воблачка чалавечай бяды: кропля.

Конь бег з гары, секучы падковамі белую дзяцельніцу і свірэпку і адкідаючы Алімпіядзе ў прыпол. Жыта плыло назад з двух бакоў дарогі шнурамі, былі добра відаць збуялыя аднаасобніцкія межы — пазарасталі сівым палыном, жоўтай піжмой і сінімі васількамі. Шнуры былі не роўныя: сеяліся не ў адзін дзень. На адным жыта падпалавела, апусціла каласы, на другім ішло ў рост — стаяла тарчком; на адным высокае, добры мужчына схаваецца — паклалі густа гною, на другім жытцо не жытцо — рэдзенькае, пасмачкамі, як на злыселай галаве, і сам шнур пад жытам жоўты ад пяску, што старая лысіна, і белы ад камення. Толькі ля самай дарогі, дзе, відаць, сама па сабе была добрая зямля, жыта абапал стаяла сцяной — з доўгіх каласоў капала буйнымі шклянымі кроплямі густая раса — з Віліі на поле на цёплую зямлю прыпаўзаў нанач туман. Відаць яшчэ здалёку ў баразнах — устае з зямлі сівымі лянівымі начлежнымі коньмі.

Уперадзе, справа ад дарогі над жытам, яна і згледзела белую галаву. Аж уздрыгнула на возе: здалося, Міфодзя, яе двухгадовы сын — сядзіць, абвязаны белай хусткай у Бабкі, на плячах, а яна нясе яго да дарогі, каб падаць ім на калёсы... Пра сына яна не хацела думаць усю дарогу. Гарэла толькі душа: а што, калі ў гэты міг, на які яны адлучыліся з дому, у вёску прыйдуць немцы? А так — яго дагледзіць Бабка-Мойкаток: глядзіць ужо два гады. Бабка была ім, і Алімпіядзе, і Мікалаю, зусім чужая. У вёсцы ў яе жыло многа далёкай радні, але Бабка была ўжо старая, гадоў за шэсцьдзесят, не выйшла замуж, не нажыла дзяцей і пад старасць асталася адна як палец — а каму трэба стары чалавек. Яны ўзялі яе да сябе, як сышліся з Мікалаем: хату павартуе, курэй з град прагоніць. Бабку звалі Веркай, але на яе імя ў вёсцы забыліся — Бабка, і ўсё. А яшчэ — Мойкаток. Была яна на свае гады і рухавая і працавітая — рабіла дома ўсю работу; ласкавая да дзяцей — гладзіць кожнага па галоўцы: «Мой каток...» Ведама, сваіх не меўшы. І сама яна ў шэранькай паркалёвай сукеначцы з фартушком у палосачку хадзіла лёгенька і мякка, і рукі ў яе былі мяккія, што лапкі — котачка, і ўсё. Яна і Міфодзю глядзела, як котка сваё кацянё: карміла, насіла з кутка ў куток, качалася з ім і па двары і па пад-

лозе, спала разам на печы і пела дзень-ноч яму на вуха курню. Сёння, калі яны ад'язджалі, Бабка-Мойкаток спала яшчэ з Міфодзем на ложку ў запечку, раскінуўшы рукі і храпучы. Міфодзя ляжаў у яе пад пахай.

Жытам да дарогі і ішла цяпер Бабка, несучы на плячах «дзеды-бабы» Міфодзю. На галаве ў яго была завязана белая хустка.

— Паглядзі!..— закрычала Алімпіяда і саскочыла з калёс. Конь ішоў, яна падбегла і ўхапілася за лейцы. Стукнула ззаду пад калена пярэдняе кола і спынілася.

Галава ў белай хустцы кіўнулася над жытам і схавалася.

— Ты ўспеў згледзець?

— Што? — Мікалай круціў на возе галавой у бакі.

— Міфодзя ў жыце. У маёй белай хустцы...

— Якая хустка? Які Міфодзя?

— Наш Міфодзя! На плячах у Бабкі. Што я — Міфодзю свайго не пазнаю?

— Пачакай... Які табе Міфодзя...

Яны стаялі з мінуту ўзіраючыся. У жыце зноў паявілася белая галава, як дома ў гародзе ў канаплях, калі глядзіш з двара. Алімпіяда прыціснулася спінай да ляжэйкі:

— Як на балоце ў Бярэзаўцы... І туман белы ззаду... І жыта калышацца. Падбяжы, глянь, калі не баішся... Там людзі...

Галава ў белай хустцы паднялася вышэй над жытам і пасунулася да іх.

— Бегчы не трэба... Самі сюды прыйдуць... Не крычы так моцна, Уліма...

Белая галава раптам упала як падсечаная; жыта перастала калыхацца. Зрабілася ціха, і яны пачулі, як у жыце нехта застагнаў. Заірзаў, косячыся, Бар'ян, даў у хамут.

Акруціўшы лейцы за ляжэйку, Мікалай саскочыў з воза. Яны пастаялі яшчэ, тады пусціліся з подбегам у жыта, як навыперадкі.

Жыта балюча сцёбала каласамі па руках, путала ногі; яны спатыкаліся і беглі. Шукалі адно толькі вачыма ў жыце: яна — Міфодзю, ён, здагадаўшыся, нечага больш сур'ёзнага і небяспечнага: не пускаў забягаць наперад.

Спачатку яны ўбачылі зблэчанае, прымятае да зямлі жыта — шырокую, як на загон, крывую паласу. Паласа цягнулася з гары, недзе аж з-пад Каралiна. Пасля ў іх з-пад самых ног з баразны, як курапатка, ускочыў ваенны ў чорнай кароценькай скуранай куртачцы і ў чорным круг-

лым шлёме на галаве — з лоба са шкла разанула сонца, ёй, Алімпіядзе, па вачах. Скураныя кароценькія вушы ад шлёма з бліскучымі кнопкамі матляліся ў бакі: ваенны круціў галавой — глядзеў то на яе, то на Мікалая. Зусім маладзенькі, цененькі, худзенькі, з сінімі дзіцячымі вачыма, белым тварам і жаўтаватымі брывамі — выцвілымі маленькімі каласкамі. «Як Алёша Джанік у вёсцы...» — падумала яна.

— Кто такие? — спытаўся ён, зашваргатаўшы строга, як качар, і закашляўся. Голас у яго быў нізкі, што ў старога, і сіпаты — прастуджаны. Мікалай хацеў нешта яму сказаць, але, пачуўшы кашаль, зайшоўся сам — падняў уверх плечы, закрыў рукою рот і пачаў «дзёрці анучы», доўга, праціўна. Так яны стаялі і кашлялі абое — стары і малы. Малому цяжка было стаяць на нагах: ён, кашляючы, хапаўся рукамі за жыта — зграбе сцябліны ў жменю, возьмецца за іх і стаіць, ківаючыся. Адна нага ў яго была ў мокрым касматым боце, як у валёнку — на воўну паналіпалі кругленькія лісцікі дзяцельніцы,— другая ўся закручана ў белую мацерыю аж да пахвіны і апавіта шаўковай тасьмой. Ад расы і зямлі белая мацерыя зрабілася перапялёстай, пайшла ў чорныя плямы, як ад дзёгцю. На абматанай і адстаўленай — не гнулася — назе ківаўся доўгі жоўты драўляны «наган», як яна падумала; на мокры касматы бот звісала на цененькіх раменьчыках цененькая, як блінок, акуратненькая мокрая сумачка.

— Кто такие, я вас спрашиваю? — чорны шлём перастаў кашляць і зноў засіпеў: пытаўся цяпер у яе, Алімпіяды, сцёбаючы з лоба вострым сонцам па вачах — яна аж заплюшчылася.

— Дамоў едзем...— сказала яна і пачула, як пачынаюць у яе гарэць агнём шчокі і холадна робіцца за спіной...— Во-от...

— Откуда и куда?

Яна здзівілася, чаму гэта ён, чужы чалавек, так падрабязна пра ўсё ў яе пытаецца.

— Па соль ездзілі... Вярнуліся... На гасцінцы нашы... Адступаюць...

— На шоссе немецкие танки... Не слышите? Что за деревня сзади?

Горача зрабілася ёй усёй.

— Мікалай! Чаго ж мы стаім? — закрычала яна.

Мікалай яшчэ горш зайшоўся кашлем. І пакуль ён кашляў, яна памалу астывала, паспела за гэты міг схапіць

вачыма яшчэ аднаго ваеннага ў жыце: ляжаў на загоне, як сноп, з акручанай у белае галавой. Гэта і паказвалася яго забінтаваная галава з жыта: адзін нёс другога на плячах. Нашы лётчыкі... Лёталі бамбіць, і іх збілі такія ж чорныя нямецкія самалёты, што ляцелі раніцай над заставай і пасля кідалі бомбы на поле ля гасцінца... Яна ступіла да «Джаніка», каб узяць яго пад руку — яму цяжка стаяць на адной назе,— але «Джанік» не даўся, учапіўся толькі мацней за жыта.

— Что за деревня? — паказаў ён зноў рукой на гару.— Немцев нет? Проезжали, должны были заметить... Вторые сутки ползем, и ни одной деревни... Что они здесь — под землю ушли?..

— А божачкі... Жызнава гэта... Жызнава...— паказала яна рукой на гару.

— Жизньнова...— паўтарыў за ёю «Джанік».— Помогите поднять его на телегу...— паказаў ён адной рукой на загон, другой трымаўся за жыта, калышучыся з боку ў бок, як п'яны.— И перестаньте кашлять! — закрычаў ён на Мікалая, які зайшоўся ад кашлю і прысеў у баразне.— Почему не призван?

— Белы білет у яго...— яна добра не ведала, што сказаць.

— Дезертир! — зноў закрычаў «Джанік».— Поднимайся, повезешь раненого...— кіўнуў ён галавой на загон і схапіўся рукой за доўгі драўляны наган.— В Жизньнову... К председателю колхоза...

— У Жызнаве няма прэдсядацеля...— сказала яна «Джаніку», усё хочучы памагчы яму ўстаяць на нагах.

— Мобилизован?

— У Жызнаве няма калгаса... Жызнава была пад Польшчай. Пры нашых у калгас не пайшла. У Жызнаве няма прэдсядацеля...

— Тогда пойдешь сама и приведешь председателя сельсовета... А твой дезертир будет здесь. Если...— в расход... Немцев ждете? — «Джанік» зачырванеўся: яму цяжка было і крычаць і стаяць на нагах.

— Сельсавет не ў Жызнаве...— яна пачула, што зусім не баіцца маладзенькага лётчыка, падобнага на «Джаніка». Хто-хто, а ні яна, ні Мікалай немцаў не чакаюць. А лётчык ранены, чуць стаіць на адной назе, галодны. І другога яшчэ на сабе цягнуў...— Сельсавет іхні ў Даўгынаве... За шашой...

— На шоссе немцы! — ён рвануўся з загона, калена

здаровай нагі, на якой ён стаяў, падсеклася, і ён паляцеў плашмя на загон, вырваўшы з зямлі з карэннем жыта, за якое схапіўся, падаючы. У вочы ёй сыпанула сырой зямлёй.

— Мікалай! Што ж гэта?..

Мікалай сядзеў на каленях: яго рвала на загон, у каткі з белымі галоўкамі. Белыя галоўкі парабіліся чырвоныя — ад крыві...

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Бар'ян напінаўся ў аглобнях — калёсы зашапацелі па пяску, глыбокім, жоўтым і дробненькім — яго нагнала з гары ў лагчыну ў паводкі. Зацыльгікала, як дзяцел, пярэдняе кола, рэжучы атосу. Алімпіяда, ідучы з боку ля калёс і дзержачыся за ляжэйку, бачыла, як яно віхляе ў бакі, сыпячы з сябе пясок і сцёбаючы па вачах сонцам з вышараванай шыны. Ззаду за Жызнавой на гасцінцы бразгасла і бразгала, нібы дзе на дрывотні рэзалі сукаватую сасновую калоду: адрэжуць, аціхнуць, пакуль не падсунуць яе на козлах, тады зноў пачынаюць вадзіць пілой, дзярката, праціўна, хоць вушы затыкай.

Яна павярнулася, каб глянуць на Жызнаву — са шлёма па вачах сцебанула сонца. «Джанік» сядзеў цяпер ззаду на калёсах, адну нагу звесіў аж да зямлі — яна чаплялася за траву і пакідала на пяску крывы глыбокі след; другая нага, убінтаваная, не гнулася і тырчала з калёс, як парубень.

З другога боку калёс ідзе Мікалай, тузаючы за лейцы. Бар'ян напінаецца, махае галавой, перабірае нагамі па глыбокім пяску; пясок канчаецца, колы ляскочуць па каменні ў калдобах, і бяжыць Бар'ян, форскаючы і бразгаючы цуглямі. Бяжыць, кашляючы, Мікалай — паспеў наглытацца пылу з-пад калёс; бяжыць і яна, Алімпіяда, адшпільваючы верхні гузік у нажутцы — душыць. Ляскочуць калёсы, заглушаючы бразгат на гасцінцы і праганяючы страх. Скарэй бы на луг за Вілію, у свой лес — далей ад ліха.

Перад вачыма на калёсах другі лётчык з абвязанай галавой, якога яны з Мікалаем падпялі з загона ў жыце і асцярожна паклалі ў калёсы на сена, сагнуўшы яму ў каленях ногі, каб было месца сесці ззаду «Джаніку». Лётчык з абвязанай галавой трасецца ў калёсах, як камень, трапіўшы ў арфу на сіта; галава матляецца з боку на бок, з-пад яе высоўваецца сена і падае далоў, Бар'яну пад заднія ногі. Галава ў лётчыка адвальваецца на дошкі; яго

душыць бінт, падцінаючы пад падбародак, і твар робіцца поўны, як апухлы. Сіні ўвесь, вусны аж чорныя. І нос, кругленькі, маладзенькай бульбінкай, чорны; чорныя бровы над заплюшчанымі вачыма і чорныя пад бінтам валасы. І нос, і валасы, надзьмутыя шчокі ўсё роўна як у Аркадзі Бохана, Харбінавага сына. Яна адразу, убачыўшы лётчыкаў, так іх і пазначыла: «Джанік» і «Аркадзя».

У канцы поля ля дарогі парослая дробнай сухой лазой ляжала крушня камення, шэрая, выцягнутая, нібы гадзюка, скруціўшыся, адкінула хвост на дарогу. Калёсы пачало трасці; выгнуўся дугой «Аркадзя», сапхнуў каню пад заднія ногі апошняе сена і стаў біць галавой аб дошкі, якраз у тым месцы, дзе блішчэла вышараваная жалезная плешка ад шворана — мог прабіць галаву. Калгасныя калёсы былі старыя; вазілі на іх не адзін год гной на поле, дровы з лесу, сена з лугу і з балота, снапы з поля ў пуню, дабро ў мяшках на поле — сеяць. З вясны ў патрэсканыя ніжнія ляжэйкі насыпалася ў шчэлкі зярнят. Ад дажджу яны намоклі, прыраслі і цяпер зелянелі ўперадзе на калёсах вясёленькай шчоткачкай — ячмень. «Аркадзя» з размаху ўдарыў галавой аб ляжэйку, ссек зялёную рунь, і яна пасыпалася ўслед за сенам на дарогу пад калёсы... Белы мокры бінт у яго на галаве наліўся чырвонай свежай крывёй. З калёс ёй на твар пырснула расой, як з куста. Яна павяла рукой па шчоках — даланя была чырвоная...

— Мікалай! Не гані! — закрычала яна, забыўшыся, што ззаду на шашы можа быць страх.— Ён жа заб'ецца...

Мікалай напяў лейцы, Бар'ян, збіты з тропу, рвануўся з гары на лог навыцяжку.

— Стой! Ён жа зляціць каню пад ногі... Мікалай...— яна, падбегшы, ухапілася за аглобню, злавіла ў рукі лейчыну і падцяла Бар'яна. Бар'ян скочыў з дарогі, падцялежыў калёсы і стаў, стукаючы падковамі і пырскаючы ёй на рукі зялёнай пенай з цугляў.

На падцялежаных калёсах мычаў «Аркадзя», ціхенька і жаласна, як усё роўна не чалавек; пасля закрычаў на ўсё горла, мацюкаючыся на чым свет стаіць. Яна падбегла і прыціснула яго ў дзве рукі да дошак. Ён спружыўся — яна не магла сваімі бабскімі рукамі яго ўтрымаць — і пачаў біць аб дошкі галавой і нагамі. Са сцегнякоў у яго ссунулася белая мацерыя, і з-пад яе паказаліся акрамэскі чорных абгарэлых штаноў і жоўта-бурая свежа патрэсканая скура. Па ёй пацякла сукравіца, пасля кроў — паса-

чылася буйнымі кроплямі, збіраючыся ў пісягі і сцякаючы на чорныя ў калёсах дошкі. Змогшыся, ён аціх; тады пачаў стагнаць: супакоіцца, зноў стогне, ціха і жаласна, як стогне, бывае, у кароўніку за сцяной скаціна, якой ужо нічым не паможаш...

Яна тады прыхінулася крыжам да ляжэйкі і закрыла далонямі вочы:

— Не ма-гу... Яшчэ ж сёння раніцай мы прачнуліся, як і ўсе... Гарыць у грудзях... Куды іх вязці? Дзе дзець? У вёсцы, можа, ужо немцы. Дзе дзець дзяцей гэтых горкіх?.. Што будзем рабіць, Мікалай? Рукі трасуцца... Што ты маўчыш? У нас жа Міфодзя дома...

Цяпер ужо на ўсходзе ў бок Бегамля, якраз за заставай, пачуліся глухія выбухі і дробненькая ціхая траскатня. Мікалай маўчаў, глядзеў у бок заставы пад сонца, паклаўшы даланю на пераносіцу. І Алімпіяда стала глядзець туды. Над заставай, якая добра была відаць адгэтуль у прагале між лесу, лёталі вароны, чорныя, падпаленыя залатым сонцам. Каркалі глуха, трывожна, падляталі да сонца, як усё роўна клявалі яго дзюбамі, і ўцякалі, цягнучы за сабой залатыя ніткі. Здавалася, яны расцягнуць на пражу ўсё сонца... На лузе ля прагалу блішчэла ніцая лаза і высокая мятліца, аж слеплі вочы.

— Што ты маўчыш усю дарогу, Мікалай?

— Я во на заставу гляджу, Уліма. Можна было б,— кіўнуў ён галавой на калёсы,— павезці іх дамоў...

— Дамоў?

— Дамоў. У хлеў ці ў варыўню...

— У хлеў? У варыўню? А калі ў вёсцы немцы? Мы ж не ведаем. Усунемся, як ваўку ў зубы...

— Можна адразу і не дамоў... У калгаснай пуні пакінуць. Пуня ля лесу...

— А калі немцы на дарозе? Што ты гаворыш? Ды і людзі ўвідзяць. Чужыя вочы — не свае... А калі хто падаткне? У нас жа Міфодзя...

— Я, Уліма, і гляджу на заставу. Схінём іх ад вачэй на заставе. А там відаць будзе...

«Джанік», седзячы ззаду на калёсах, хіснуў галавой; яна ўпала яму на грудзі і, як цяжкі гарбуз, пакладзены на край услона, пераважыла і пацягнула за сабой. Ён так і зляцеў далоў, мякка шмякнуўшыся на пясок,— галавой пад сябе, адна нага на дарогу, другая, акручаная ў белае, пад калёсы. Павярнуў на зямлі галаву — і лоб і шчака ў

яго былі белыя, што папера. Са шчакі сыпаўся на зямлю пясок.

— Мікалай!..— яна і сама шмякнулася ля «Джаніка» на калені і ўхапілася рукамі яму за галаву — за чорную вільготную скуру шлёма.— Ён жа памрэ... Мікалай!..

— Не памрэ, Уліма. Слабы, сцёк кроўю. Дыхае. Пяску ў нос набраў. Вазьмі асцярожна за ногі. Паложым на калёсы намітуські. Бяры, Уліма... Стаім... Нам яшчэ праз Вілію пераехаць трэба.

Настала маленькая мінутка цішыні: не стагнаў і не кідаўся на калёсах «Аркадзя», маўчаў на пяску на дарозе «Джанік», і яна апусціла рукі: думала, пераскыгнае яго, і ўсё... Але зноў закрычаў на калёсах «Аркадзя», тузануўся Бар'ян і адплюшчыў вочы «Джанік». Яны — Мікалай пад пахі, яна за ногі — паднялі яго і паклалі намітуські на калёсах: касматы бот лёг побач з абвязанай акрываўленай галавой «Аркадзі», акручаная ў белае нага павісла па ляжэйцы.

— Садзіся ззаду і вазьмі галаву на калені. У гэтага, што зваліўся. У рацэ мы іх пасадзім і перавязём. А то патопяцца...

У Віліі прыбыла вада. Так часта бывала: едзеш у Даўгынава на базар — у калёсах сядзець можна, а вяртаешся назад — вада пасярод ракі пераліваецца цераз ляжэйкі.

Вілія пацямнела; па чорнай вадзе густа плыла моль — рудстойка. Вада круціла жоўтыя чурбакі на вірах, заганяла пад ніцую лазу да берагоў, дзе кароткая рудстойка лезла адна на адну, задзіраючы ўгару засмаленыя белыя хвасты. Вілія гнала лес, як і ўсе гэтыя гады; сплаўшчыкаў не кранула вайна: нехта недзе не палучыў яшчэ павесткі і выйшаў на бераг на работу, як кожны дзень дагэтуль.

Бар'ян адразу пабег да вады. Мікалай, стоячы ў перадку, пасадзіў на калёсах «Аркадзю», дзяржаў яго адной рукой пад плечы, другой тузаў за лейцы. Яна стаяла ззаду, і «Джанік», сеўшы, прыхінуўся ёй плячыма да калень. Бар'ян, форскаючы і падымаючы нагамі пырскі вышэй дугі, зайшоў на сярэдзіну ракі, стаў што ўкопаны, і пачаў піць, як чортведама калі не піўшы. Мікалай занокаў і закашляўся; вада дайшла да ляжэек і пачала пераліваццa праз верх. Калёсы ззыбнуліся пад нагамі, набегла моль, упёрлася ў ляжэйку і паварачвала іх удоўж ракі. Лётчыкі сядзелі ў вадзе; «Аркадзя» пачаў тузацца і махаць рукамі. А Бар'ян усё піў, і ля калёс сабралася моль доўгень-

кім роўным мосцікам з жоўтых сасновых паленцаў, хоць саскоквай з калёс і бяжы па ім на бераг.

Мікалай пачаў са злосцю сцёбаць лейцамі Бар'яну па клубах. Бар'ян тузануўся, але колы ў вадзе паспела занясці пяском, і яны не крануліся з месца. Закалыхаліся толькі пад нагамі, і разам з імі закалыхалася зялёнае поле за Віліёй і лазнякі ў затоках. Мосцік з молі ззыбнуўся, пагарбеў і распаўся — палена палезла на палена. Уся рака да павароту ўжо была забіта жоўтай моллю.

Мікалай таўхануў Бар'яна нагой, раз, другі... Бар'ян адсеў, тады тузануўся ўперад; лопнула супонь на кляшчах у хамуце, сашмыкнуліся з аглабень гужы, трэснуў падпінак, суха, як лучына з печы, і Бар'ян, пачуўшы лёгкае, скочыў да берага. Мікалай стаяў з лейцамі ў руцэ — не паспеў іх выпусціць,— Бар'ян тузануў яго, і ён паляцеў у ваду, пацягнуўшы за сабой «Аркадзю». Яна толькі выцягнула руку да Мікалая:

— На руках яго вынось! На руках!..

У прагаліну, дзе стаяў перш Бар'ян, хлынула жоўтая моль. Алімпіяда стаяла цяпер адна на калёсах, чуючы, як упіраецца ёй плячыма ў калені «Джанік». Кругам калёс шумела і пенілася чорная, як вясной пасля паводкі, вада і шалёна перлася жоўтая моль. На беразе атрасаўся ад вады і ржаў Бар'ян.

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Застава — шэры доўгі будынак з вялікімі вокнамі, як школа ў Белым — стаяла на высокім абрывістым пясчаным беразе Віліі. Заставу пабудавалі пасля дваццатага года, калі пасярод Віліі ўбілі калок, падзяліўшы раку надвае, і па Каралінскай пасецы і па Ліпніках правялі граду. Пасля трыццаць дзевятага года, калі нашы перайшлі Вілію, застава зімой і летам стаяла пустая і халодная. Летам рассыхалася знадворку, зімой пачынала плеснець з падлогі; яе хацелі забраць пад сельпо ў Белае, нават Далідчык-Мамка — старшыня сельпо — ездзіў некалькі разоў на машыне, але сельпо, хоць і меншы будынак, у Белым было, і крамы ў вёсках былі, і калгасныя канцылярыі — усё ўжо было, ніхто не чакаў, пакуль нашы пяройдуць польскую граніцу і астанецца застава. І яна стаяла адна, некалі грозная, з пагранічнікамі, са стрэламі і сабачым брэхам, цяпер нікому не патрэбная, і яе пачыналі абкрадаць людзі з-за Віліі, з Жызнавы, і свае — з Крамянца. Знялі з крукоў вароты; павынімалі з аднаго боку, ад

ракі, вокны; жывасілам, з петлямі пазрывалі дзверы; пачалі разбіваць грубкі — бралі паленую цэглу на коміны і падымалі дошкі з падлогі. На заставе па сценах цяпер шастаў вецер; зямлю пад падлогай рылі краты. Ля доўгага будынка перш былі два ганкі; гэтым летам адзін разабралі і павязлі за Вілію. Цяпер на заставу, пакалечаную, абдзёртую, без аднаго ганка, балюча было глядзець, як на чалавека без адной рукі па самае плячо.

Лесам па калдобах і карэнні цяжка было падымацца на гару да заставы, і яны ўдваіх — яна ззаду, ён збоку,— упёршыся ў ляжэйкі, падпіхалі калёсы. Усцягнуўшы калёсы на гару, Бар'ян стаў сам, і яны сталі, каб адсапнуцца. Глядзелі з гары ўніз, як з неба. Унізе ад ветру калыхалася белая на сонцы, што снег, ніцая лаза; вада ў рацэ ад высокага берага — ад пяску — была жоўтая, і неба, якое адбівалася ў ёй, пажаўцела, як хворае. За ракой на лузе рассыпалася перапялёстая скаціна, і ўперамешку з ёй хадзілі такія ж перапялёстыя бацяны. Хаваючыся за зялёным жытам, напамінала аб сабе белымі стрэхамі Жызнава. Адгэтуль, з гары, былі відаць нават прысады на гасцінцы пад Даўгынавым — чорныя здалёку, як абгарэлыя. Над лугам і над жытам віселі канюхі, што самалёты, і прасілі піць, настырна і трывожна, як ніколі дагэтуль: над галавой ціўкалі сінюкі і шумелі верхаллём сосны, сыплючы за карак вострае шыллё. Форскаў Бар'ян, бразгаў цуглямі; з калёс, з адзежы ў лётчыкаў, на шырокае лісце падарожніка цуркам лілася вада, як у вядро на дно. На сасне недзе зусім блізка густой стралянінай адзываўся дзяцел; у бок Бегамля цяжка нылі самалёты. З заставы, са страхі, ішла пара, густа, як дым — пасля сырой начы застава сохла на сонцы і здавалася, што гарыць. Вароны, пачуўшы іх, насіліся цяпер, крычучы, над лугам — над скацінай і бацянамі.

Яны пад'ехалі да заставы, да самага разбуранага ганка, як да каго ў вёсцы на двор. Калёсы, трэснуўшы на зямлі старым, пафарбаваным у зялёнае частаколам, прымялі белую рослую дзяцельніцу, на жоўтых буграх над кратовымі норамі правялі глыбокую вузкую баразну і сталі на бітых паўцагелках. Бар'ян зафорскаў, пасля вады нагінаўся да зямлі — даставаў дзяцельніцу.

Калі яна ступіла ў калідоры на падлогу, з-пад ног пабеглі мышы — у вялікі зал, у кут. Падлога ў вялікім зале была яшчэ цэлая, толькі пакарабацілася, і паміж дошак са шчэлак пайшлі расці трава і верас — зялёненькімі галін-

камі. Вокны былі выняты, і знадворку цягнула сухім свежым цяплом; зазвінелі патрывожаныя камары. Яна кінула вачыма па зале — шукала спрату для людзей. Пачула, як кашлянуў ззаду Мікалай.

— Думаю, Уліма, у каморку... Вунь у тую. І дзверы там цэлыя вісяць, не паняслі. А тут — на воку.

— Тут сонца. Абсушыцца ім трэба. Вачэй сталі мы ўсе баяцца...

— Сама знаеш...

Ім памог «Джанік». Прыйшоў і стаяў у калідоры, дзержачыся за сцяну і адставіўшы ўбок абвязаную нагу. Расчыніў пасля дзверы ў вузенькую доўгую каморку з адным акном — у пабітыя шыбы ўпіралася знадворку лапкамі зялёная маладая сасонка — і выставіў перад сабой руку:

— Вот сюда его...

Яны асцярожна ўзялі з калёс «Аркадзю» і паняслі калідорам у каморку. «Аркадзя» круціўся ў руках і стагнаў; за ім роем ляцелі ў калідор мухі — на свежую кроў. Яны паклалі яго на падлогу пад самым акном, ён выцягнуўся на роўным, стаў даўжэйшы, ляжаў роўненька, і рукі ў яго ляжалі складзеныя на грудзях — як памёр усё роўна. І шчака ў яго ля чырвонай ад крыві павязкі была белая. як у мёртвага. Толькі грудзі ў яго падымаліся часта — ён дыхаў і дыхаў ёй на рукі, нібы цяля ў мароз, толькі што паявіўшыся на свет у кароўніку.

— Піць...— ён гарэў і аблізваў вусны. З-пад яго з мокрай адзежы пацякла вада — вузенькай крывой стужачкай, як усё роўна чорная змяя папаўзла падлогай у кут, каб вырвацца на двор.

Яна тады стала бегаць па каморках — шукала вядра ці хоць якой старой бляшанкі з-пад кансервы. Такія валяліся па лесе і па дарозе, бліскучыя, не паржавелі яшчэ, але на вочы нічога не трапляла, толькі бітая чырвоная цэгла і шкло. І камары хмарай лезлі ў вочы, ныючы нейкім жалезным звонам — ёй здавалася, што на двары гудзяць самалёты. Бляшанкі яна так і не знайшла.

— Сам соображу... А вы — врача... Врача...

— Э-ха-ха... Зноў самалёты...

— Временно, мать...

— Врэменна... А што, калі і мы вас вось так врэменна падвязлі на калёсах, і ўсё?..

— Телега колхозная, мать. А совесть у каждого своя... Нам нужен врач... Сейчас нам даже немцы не страшны. Страшна гангрена...

— Э-ха-ха... І есці вы хочаце...

— Двое суток во рту макового зернышка не было. И ни одной деревни на пути...

— Цыцкі ж вам не дасі. І сябе не адарвеш. Можа, да пастухоў збегаць?

— А вы уверены?

— Не уверена...— яна здагадалася, пра што ён пытаўся.

— Мост через реку есть?

— Вёрст з пяць уверх... А тут нідзе. Толькі брады.

— Никому постороннему ни слова... Только председателю колхоза или председателю сельсовета... И врача...— «Джанік» пачаў кашляць і апёрся аб сцяну. Наглытаўшыся камароў, закашляўся і Мікалай. У пустой заставе пачало біцца аб сцены дзяркатае рэха, аж пыл, здаецца, леташні з іх пайшоў. На падлозе зноў пачало падкідаць і круціць «Аркадзю»; ён лавіў рукамі чырвоную ад крыві павязку на галаве, хацеў сарваць і не мог.

— Врача! — крыкнуў «Джанік» і махнуў рукой на дзверы. Злавіў пасля ў руку, сціснуў жоўтую драўляную кабуру, хіснуўся, нібы яго таўханулі ў бок, і прываліўся плячом да сцяны...

— Мы вам Шавенку... Шавенку з Белага прывязём... Толькі нікуды, дзеці горкія... Мікалай! — яна кінулася да дзвярэй, стукнуўшы Мікалаю ў плечы.— Сэрца парвецца... Скончуся, гледзячы на іх... Паганяй...

На двары форскаў Бар'ян, ганяючы аваднёў і гудзелі самалёты — ішлі над гасцінцам на Бегамле.

Яны ўкуліліся ў калёсы, як дзеці; Бар'ян, дацяты аваднямі, рвануў з месца рыссю. Затарахцелі па карэнні і па пнях калёсы, кідаючы іх ад ляжэйкі да ляжэйкі, нібы на полі на загонах. Выехаўшы на роўнае, яны пачулі, як угары шумяць сосны, і ўбачылі, як вецер гне ўперадзе на пасецы, аж сцеле па зямлі, высокую чырвоную траву. Зноў пачало грукаць ззаду — за Віліёй у бок Бегамля.

## 3

Сосны тут, за Бярэзаўцам, упіраліся ў самае неба, і калі Алімпіяда падымала галаву, каб згледзець угары самалёты, ёй здавалася, што верхаллё плыве па блакітным небе насустрач белым круглым цяжкім воблакам. Згледзеўшы самалёты, яна спынялася і прыціскала да грудзей

вялікі новы каранёвы кошык і бліскучае новае вядро з вушкам, як у малакамеры. Каранёвы кошык яна дастала дома з гары — яго даставалі толькі ўвосень, калі хадзілі ў Бярэзавец у журавіны,— новае вядро ўзяла на ферме з кладоўкі. Стаяла і слухала, як пасля самалётаў шумяць сосны — усхадзіўся вецер, нарве дажджу — і грукае ўперадзе за заставай.

«Таўкуць і таўкуць, як у ступе...»

Выйшаўшы з дому — прыгналі ўжо скаціну на адранак, падаілі кароў, аднеслі ў кладоўку бітоны з малаком, паставілі ў цэбры з халоднай вадой, вечарам павязуць у Белае на сепаратар,— Алімпіяда, захінаючы ад чужых вачэй і кошык і вядро, падалася да парніка. Схаваўшыся за ім, пусцілася да сосніка; азірнулася ўжо з лесу — вёска была шэрая, у тумане, ад сонца сухая і гарачая: пыхне ад адной сярнічкі.

У лесе яна бегла сцежачкай ля дарогі да самага Бярэзаўца, то падымаючы да грудзей — задыхалася,— то апускаючы кошык з вядром. З кошыка востра пахла ёдам, мусіць, разліўся з бутэлечкі: затыкала затычкай і адшчыкнула ногцем бачок. Ён у яе стаяў дома на паліцы ля судніка разам з зеллем, ладненькая бутэлечка — забыўся на ферме ў кароўніку Левановіч — ветэрынар, калі прыязджаў яшчэ вясной «на яшчур»: капалі дарогу ля лесу і ставілі бочку з растворам. Яна збіралася аддаць яму бутэлечку ці хоць сказаць, што яна ў яе — чалавек, можа, шукае,— забывалася, так во і не сказала, дацягнула да вайны.

Яна паставіла кошык пад ногі на сцежку — прыцісну-ла белы падсохлы мухамор, побач ткнула ў чарнічнік вядро і апусцілася ля кошыка на калені. Кошык быў заслаты зверху белым вышываным ручніком — нясе ў Даўгынава на базар прадаваць масла з яйкамі, калі што,— яна асцярожна прыняла ручнік, перакінула яго цераз плячо і пачала сартаваць у кошыку: дастала дзве бутэлькі з малаком, пазатыканыя газетай, як усё роўна ў поле нарыхтавала Мікалаю — падумала, што мала ўзяла, спяшалася, што тыя дзве бутэлечкі раненым, хапае ж малака; паставіўшы бутэлькі побач з вядром, стала вынімаць з кошыка Мікалаеву адзежу — двое новых споднікаў, кужэльных, белых, пахнуць куфрам; дзве паношаныя сацінавыя рубашкі, сінюю і чорную; на самым дне ляжала двое чорных картовых штаноў, адны новыя, другія залатаныя на каленях. Даставала ўсё і думала, што лётчыкі — адзін і другі — меншыя за Мікалая, адзежа будзе ім завяліка, але ж

яна сухая і мяккая, а ў іх на апечаным целе — мокрая, каравая, у крыві і ў гразі...

Ёд ляжаў на самым дне. Бутэлечка павярнулася бокам, на новых штанах і на каранёвым кошыку ў дне азначылася рудая палоска. Яна ўзяла з кошыка бутэлечку і пераставіла ў вядро. Апусціла побач і вялікую паўлітровую бутэльку тафялёўкі — настойкі на пупышках з тофелю, што рос ля хаты,— і накрыла іх трыма белымі крамнымі наўлечкамі — усе, што трапілі ў куфры пад руку. Пойдуць на перавязку, калі не хопіць марлі, якую ўзяла на ферме з кладоўкі — марлі ў кладоўцы было многа, цэлая трубка: ляжала на цадзілкі. Не было толькі ваты — ні дома, ні на ферме.

Рассартаваўшы кошык, яна зноў падумала, што мала ж нясе. І хлеба паўбуханкі, і масла толькі адну шклянку — абвязала зверху і паставіла ў чорную вялікую кружку, схапіўшы з дроту ад вядра. Ідзе ноч, ноч у лесе халодная, а яны ж там мокрыя. Не здагадалася і Мікалай не сказаў: трэба было іхнія чорныя куртачкі з замочкамі павесіць на сонцы, высахлі б дагэтуль, а так ужо і сонца з паўдня... Трэба было і адзежы больш узяць, але ў Мікалая яе мала: жылі, куплялі, а як прыйшлося — мала ў яго адзежы, нібыта яна, Алімпіяда, за ім і не глядзела зусім. Ёсць адзін чорны картовы касцюм, але ж яго яна не стала браць: а калі павестку прышлюць — прыслалі ж мужчынам,— не ісці ж у чым стаіць, касцюм надзене. Павесткі ж яшчэ шлюць, можа, тых немцаў і няма нідзе блізка, можа, яны толькі на самалётах лётаюць. Выскачылі ля Даўгынава на гасцінец на танках, а іх узялі і адагналі... А што Мікалаева адзежа вялікая лётчыкам, дык жа не пойдзеш па вёсцы падбіраць, чыя падыдзе — адразу падумаюць.

Паднімаючы кошык і вядро з ягадніка, яна згледзела на правай руцэ ля костачкі бурую ад крыві пляму. Аж спалохалася — гэтулькі разоў рукі былі ў вадзе, а кроў пасля заставы не змылася. Маглі ўбачыць на ферме...

Што рукі ў яе і ў Мікалая ў бурай крыві, яна згледзела яшчэ калі ехалі з заставы. І ляжэйкі ў калёсах былі бурыя — на іх ліплі мухі, маленькія, дробненькія, лясныя. Яна таўханула тады Мікалая пад бок, а сама, схапіўшы жменю мокрага сена, пачала адразу выціраць з ляжэек бурыя плямы.

З Бярэзаўца яны не паехалі ў вёску ездавой дарогай, павярнулі на загуменне: а калі немцы? Ці так хто спат-

каецца і згледзіць кроў на ляжэйках? Выехаўшы з лесу, падаліся сценкай на загуменне да пунь, калышучыся між ячменю, белых раманоў і высокага, упоравень з ляжэйкамі, бурага на цвеце шчаўя, як плямы ад крыві. Трэба было абмыць ляжэйкі ў Бярэзаўцы ля крыніцы, забыліся... Саскочыўшы з калёс, яна рвала шчаўе разам з мятліцай і цёрла ляжэйкі. Кроў не адціралася...

На ферме нікога не было, адзывалася толькі хворае цяля за сцяной, пачуўшы іх, звінелі авадні, і яна з Мікалаем пачала адразу ля студні адмываць ад крыві калёсы: Мікалай ліў ваду з драўлянага вядра, а яна выцірала рукамі ляжэйкі. Пасля мылі ад крыві рукі, палiваючы адно аднаму з вядра і — глядзі ты — не адмылі...

Яна сказала тады Мікалаю, каб ён, не заязджаючы дамоў, адразу з фермы ехаў у Белае па Шавенку. Мікалай хацеў адпрагчыся і паехаць конна: хутчэй. Але ж як тады прывязці Шавенку? Удвух конна? Яна крыкнула яму, каб не ацілягваўся, што сабе думае, і ён нават сена не падкінуў у калёсы — пагнаў Бар'яна рыссю, заслаўшы пылам і вуліцу і платы. Паехаў — і як захлынуўся дзе ў пыле: дагэтуль яшчэ няма. Каб вярнуўся — дагнаў бы на дарозе. Па смерць толькі так пасылаць, а не па доктара...

Дома за той кароткі час, калі прыйшла з фермы, яна месца сабе не знаходзіла: і кошык з вядром сабрала, і карову ўпарадкавала, і Міфодзю сама накарміла,— і ўсё глядзячы ў акно на грэблю: ці едзе Мікалай. Грэбля была пустая і запыленая — згарцаў нехта конна па ёй туды і назад, і ўсё. Выйшаўшы з хаты, яна стала хадзіць па двары, водзячы за сабою курэй ад студні да варот. У вёсцы, чуваць было, гаманілі грумадой мужчыны і нехта плакаў: баба, але здагайся па плачы — хто... Ёй захацелася пабегчы ў вёску, прывыкла быць у грумадзе, дзе і старшыня Папок, і рахункавод Джанік, і члены праўлення, але рап-там падумала, што вёска яе цяпер там, за фермай на заставе, дзе маладзенькія лётчыкі... Можа, не трэба было іх кідаць так далёка, а вязці ў вёску? Усе ж свае, абмылі б і пераадзелі адразу. І Шавенку бліжэй... У страха вочы вялікія — спужаліся немцаў. А іх нідзе і няма, усюды — як і было.

Калі ў вёсцы загаласілі бабы і высыпалі грумадой на Скарбовую аселіцу да маста — ішлі, пачапляўшыся за мужчын, звіўшы клубок пылу і плачу,— яна не вытрымала: выскачыла з двара і пабегла вуліцай ля платоў наўздагон — пыл з-пад ног і слёзы з воч. Дабегла да паваро-

ту, да калгаснай канцылярыі. Ля канцылярыі як тузанула што ззаду за нажутку: спынілася, пастаяла, паглядзела з-пад рукі на грэблю — па пыл і на белыя хусткі, другога яна ўжо не бачыла — і, вярнуўшыся бягом назад, схапіла ў сенцах кошык з вядром... Больш яна не магла чакаць Мікалая: на грэблі бабы плачуць яшчэ па жывых, а на заставе, можа, ужо мёртвыя... Бегла аж сюды, за Бярэзавец, нічога не чуючы — лапатаў толькі ад ветру каўнер у нажутцы, як лісток на асіне, і сцябаў балюча па гарачым падбародку...

Белы каўнер і цяпер лапатаў ля шыі, пацямнеў, зрабіўся мокры ад поту.

Пад ногі на дарогу ад сасновых лапак падаў дробненькі, як рассеяны рукой шэры попел, цень, і яна, ступаючы на яго стаптанымі — вылазілі з бакоў мезеныя пальцы — прарызінавымі паўбалеткамі, чула, як горача спадыспаду ў ступні. Пот ліў цурчом; рабілася горача ўсёй і млосна, але яна бегла, думаючы, што тым бабам, якія павялі мужчын на грэблю, цяжэй: яе Мікалай астаўся дома. Пасля стала перабягаць з аднаго боку дарогі на другі па глыбокіх каляінах, выбітых леспрамгасаўскімі «прычэпамі» — шукала цень. Усю дарогу ляцелі наперадзе чорныя матылі: падляталі з травы і з верасу, зліваліся ў клубок і пырхалі ў вочы, як усё роўна хто сыпаў сажай.

Наўкола ўсё было такое, як і раней, толькі зыначанае нейкай невядомай трывогай: сосны шумелі, як самалёты, і дзятлы адзываліся ціхім дробненькім стукам, як на гасцінцы...

Перад самай заставай на дарозе пайшоў свежы след ад калёс. На соснах ля тору віселі каслаўкі свежага мурагу, забіваючы пахам смалу і горкі пыл. Нехта нядаўна праехаў з возам, справіўшыся ўкасіць на лузе. І тор ад калёс, і сена, і сляды ад падкоў, прыцярушаныя прывялымі чырвонымі галоўкамі канюшыны, былі такія ж, як і летась у такую пару, як і многа гадоў назад, і яна ў сваіх думках учапілася за гэтыя вялыя галоўкі канюшыны, за каслаўкі сена, за сляды з падковамі — а можа, і зноў стане ўсё так, як і было, можа, вайны не будзе — згоніць яе, як ветрам зганяе дым... Пасля адразу злякнулася: калёсы ехалі з заставы, а на заставе — раненыя.

Яна бегла цяпер уверх на гару, баючыся, каб з кім не спаткацца. Усхадзіўся яшчэ горш вецер, пад ногі покалі сасновыя шышкі, што кулі ля гасцінца ў рудзік; калыхаліся сосны, нагінаючыся вярхамі ў бок заставы. На даро-

зе — ні травінкі, адзін белы пясок. Глыбокі, у калена, гарачы ад сонца, як прысак, ён перасыпаўся пад нагамі, і ёй, знямоглай, здавалася, што ніколі не ўзбяжыць на гэту парослую старасвецкімі соснамі гару, на якой была застава...

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

«Джанік» стаяў у дзвярах, без куртачкі, у ніжняй мокрай кашулі — выставіў уперад на двор абмотаную белую нагу. У руцэ ў яго ля белага калена быў чорны доўгі наган. З-за плячэй ішла пара: сохла на сонцы кашуля — нібыта тут была і не застава, і не раненыя ў ёй, а калгасная лазня, што дома ля ракі ў Скарбовай аселіцы, і яна, Алімпіяда, прынясла зменку бялізны Мікалаю. Пасля яна згледзела, што і з акна ідзе пара: на падаконніку ляжалі дзве мокрыя чорныя куртачкі — сохлі.

«Джанік» пазнаў яе здалёку:

— Где врач? Почему без врача?..

Адкуль яна знала, дзе ўрач; яна цяпер думала — дзе Мікалай. Гэтулькі часу няма: пайшла, можа, кроў з рота ад кашлю і захлынуўся дзе на дарозе ў пыле.

— Мікалай паехаў... Па Шавенку ў Белае...— сказала яна яму, як каму свайму з вёскі.— Прывязе...

— Где немцы?

— У вёсцы няма. З вёскі яшчэ мужчыны пайшлі сёння ў ваенкамат. Учора вечарам павесткі прывязлі з Белага. Пасыльным... Мікалаю не прывязлі... Пераадзенецеся і перакусіце...

Ён схапіў у яе з рук бутэльку з малаком, адаткнуў і, задзёршы галаву, лыкаў, сапучы і зморана дыхаючы: згаладаўся і сасмяг. Парожнюю бутэльку аддаў ёй у рукі, прываліўся да сцяны плячыма і стаяў — саслаб, пакуль піў. Хлеба не ўзяў; паказаў ёй рукой у каморку і пайшоў ззаду, кашляючы. У каморцы яна паставіла кошык і вядро ў галавах ля «Аркадзі» і апусцілася на калені. У вочы ёй сыпанулі камары — праціўным калючым жвірам,— і яна замахала рукамі.

«Аркадзя» не кідаўся і не стагнаў, гарэў толькі ўвесь, як у агні: упарыўся ва ўсім мокрым, і ад яго біла ў нос гарачай затухлай парай, як з мокрай ватоўкі, калі яе кінеш пасля дажджу на цёплую печ. Зверху на грудзях пачала падсыхаць гразь і, калі ён дыхаў, церусілася на падлогу дробненькім белым пяском.

— Абмыю вас і пераадзену... Мікалаева ўсё прынясла...— яна павярнулася да «Джаніка» — ён стаяў, пры-

пёршыся да сцяны, зняў з галавы шлём, і твар у яго быў белы, як папера. Пасля пачаў памалу асядаць па сцяне і бразнуўся на падлогу, выцягнуўшы абвязаную ў белае нагу, як загарадзіў дарогу ў парог, каб яна, Алімпіяда, не пайшла адсюль, бо пойдзе — яны тут адны і загінуць.

Нібы якая шалёная сіла ўскруціла яе з зямлі: яна ўскочыла, ухапіла пад пахі «Джаніка», адцягнула да сцяны, дастала з кошыка і паклала яму пад галаву ўсю адзежу, якую прынясла, апаражніла ад бутэлек вядро, узяла ў руку, і з гэтай мінуты яна ўжо ні пра што не думала: ні пра немцаў, ні пра Шавенку, ні пра Мікалая. У руках было вядро, як усягды на рабоце. Здалося на міг, што яна на ферме, што перад ёй не раненыя лётчыкі, а цяляты — павілася пад каровай двайня,— іх трэба выцерці дасуха, завязаць у пасцілку і нясці цераз гарод з кароўніка па ветры і па гурбах дамоў у хату — адной дваіх! — бо на вуліцы мароз да сарака градусаў і ў кароўніку пад нагамі бярэцца грудай гной і бялее ад інею... Яна выбегла з заставы з вядром у руках, як на ферме з кароўніка, і адразу забылася, што баляць ногі і ные сярэдзіна,— нахадзілася, нацягалася ад раніцы, пабыла чуць не на тым свеце — і пусцілася да Віліі, да абрыву. Да берага, дзе пачалі рабіць мост і начасалі бярвення, было далёка, і яна скочыла ўніз з абрыву, праваліўшыся ў жоўты сыпучы пясок па калені. Бегла, а ззаду каціласяя груда з сухой чырвонай гліны і белае каменне — абганяла, падскоквала ад зямлі і падала ўперадзе ў Вілію, у чорны вір. З берага ўбачыла сябе ў рацэ, белую як смерць — высвечаную сонцам і небам. Закалыхалася, перагнуўшыся ў вадзе, апушчанае вядро; кругі паплылі аж пад той бераг у ніцую лазу. Пад лазой краталіся гарлачыкі і падскоквала з вады плотка — жыравала. На тым баку на лузе хадзіла скаціна, і было ціха — не грукала ў бок Бегамля. Назад па крутым абрыве яна падымалася, як па стозе сена, каб хутчэй ухапіцца за вітку — за галінку чорствай чарэмхі на беразе. Пройдзе-пройдзе — і апаўзе ўніз, галінка з жоўта-чырвоным лісцем зноў падымаецца ўгару, не дастаць рукой. Пацёк па шчоках пот, да плячэй прыліпла нажутка, грудзі сцяла дыхаўка — ніколі яна не падымалася на гару, толькі па драбіне на хату.

Ухапіўшыся нарэшце за шорсткую, як дрот, галінку чаромхі, яна стала на цвёрды бераг; у руцэ асталося чырвонае, як у крыві, лісце. Шумелі сосны, ныў у траве вецер, і стагнаў на заставе «Аркадзя», жаласна, як падбіты

сабака — было чуваць аж з абрыву. Яна пабегла з вядром, спатыкаючыся аб рытвіны і бітыя чырвоныя паўцагелкі і пліхаючы вадой пад ногі.

«Джанік» на падлозе падсунуўся да самай сцяны, па лобе ў яго поўзалі вялікія чырвоныя перацятыя мурашкі. І на сцяне ля яго яны густа ўкрылі жоўтае сухое сасновае бярно. На падлозе іх было як насыпана, не ступіць — трашчаць пад нагамі, як жвір. «Аркадзя» стагнаў, круцячы галавой — чорным разбэрсаным камком акрываўленага бінту,— і раскідваў рукі: бразне аб падлогу, як птушка крыллем, тады падыме і складзе на грудзях. У нос ёй ударыла салодкім і цёплым духам — аж зблажыла. Закалацілася сэрца, і задрыжэлі ногі. Пачула, што сама ўпадзе ад слабасці. Апёрлася аб вушак плячом; сагнуўшыся, паставіла ў парозе на падлогу вядро з вадой, як дома, прынёсшы са студні, і тады яе зноў як хто падмяніў. Здалося, што нічога нідзе дагэтуль не было: ні вайны, ні заставы, што яна дома ў хаце — прыйшла з двара, а на падлозе спяць леспрамгасаўскія грузчыкі, што сталі на пастой. Яна тады адразу як усё роўна наступіла на страх і слабасць, як наступаеш нагой на гадзюку ля самай галавы, каб яна не змагла злаўчыцца ўкусіць... Загаварыла смела і весела, як дома да леспрамгасаўскіх грузчыкаў:

— Ану ўставайце, лётчыкі-намалотчыкі!.. Уставайце, каму кажу...— падышла, прысела на калена ля «Джаніка» і пачала тармасіць яго за плячо.— Прачынайся, уставай... Саслабеў, дзе ўжо яму... Ноч не еў, дзень не спаў...— яна гаварыла і тармасіла «Джаніка» за плячо, за грудзі, за руку. Чула, што пачынае гаварыць моцна, аж крычыць, што аднекуль лезе злосць: — Паснулі, лётчыкі-намалотчыкі... Цэпам намахаліся ў пуні, касой на лагу... Паснулі, а немец хай ідзе маць вашу так... Ану прачынайся! Скажы хоць, што рабіць? Прачнешся ці не? — яна тармасіла і тармасіла «Джаніка» без аддухі. «Джанік» маўчаў. Разбегліся толькі ў яго з твару мурашкі. І са сцяны адпаўзлі аж у кут.— Ну я ж табе пакажу... Ты ў мяне паляжыш...— Яна падбегла да кошыка, схапіла чорную конаўку, выкінула з яе шклянку з маслам, як што непатрэбнае, засіліла адным махам з вядра вады і лінула «Джаніку» на галаву, змываючы мурашак.— Ану ўставай, маць тваю так... Абмёр... Ёсць тут ад чаго абміраць. Нагу аб сук зачапіў. Уставай... Схлапочаш у мяне... Уставай... Памыем вас, палі-жам, як карова языком цялят... На ногі ўстанеце, да сваіх дойдзеце... Ну вот, прачынайся. Адплюшчы вочы. Давай

цяпер намагу сесці... Сядзем і да сцяны плячыма прыпромся. Вот так... Вады прынясла. Халодная, з ракі... Можна піць. Мы ўсягды пілі, калі на базар у Даўгынава хадзілі і калі сена на лузе грабілі. Нагнешся і п'еш. Што ж рабіць будзем, лётчыкі-ўмалотчыкі?..

— Сколько прошло-то?..— «Джанік» прыпёрся плячыма да сцяны, схапіўся рукамі за доўгі наган, пасля за цененькую сумачку.

— Па ваду спусцілася і цябе, во, патрасла, з таго свету варочаючы. Абміраеш часта, лётчык-умалотчык...

— Много крови вышло, хозяйка...— ён страпянуўся і пачаў падымацца на ногі.— Ему срочно нужен врач...— паказаў рукой на «Аркадзю».— Гангрена начнется...

— Нічога не начнецца. Сядзі і не круціся. Ган-грэна... Тафялёўка ёсць. Не ведаеш, што такое тафялёўка? Калі хто чуў у нас у вёсцы пра гангрэну?.. Ці парэжашся, ці ўколешся, памыеш рану тафялёўкай, і ўсё... Не круціся. Паглядзім перш цябе самога. Абміраць перастанеш і мне памагаць будзеш. Ніхто тут нам не паможа. Не выйдзеш жа на бераг і не станеш крычаць. А што гэта твой падрукаянт не па-наську блузніць?

— Башкир, хозяйка...

— Башкі-ір... Усіх на вайну ашкір. Вераб'і ж вы яшчэ жаўтаротыя, а ўжо і налёталіся і нагарэліся... Давай я сама тваю нагу раскручу. Ведаю, вучыць не трэба. Вучоная...— яна адкруціла ў яго з нагі мокрую, укачаную ў пясок і пілавінне тасьму і пачала па-маленьку падымаць набраклае цёмна-бурай крывёй некалі белае шаўковае палатно ад парашута. З такога шоўку да вайны яна нават нажуткі ў руках не падзяржала, не то каб знасіла... Белы шоўк лёгка адставаў ад нагі: пад ім сабралася сукравіца, як сок вясной пад карой у дрэве. Рана ў летнім цяпле адразу пачала загнівацца.

— Чым жа гэта яны цябе, верабей ты мой?..

Нага ззаду ад костачкі да калена — уся лытка — і далей па сцегняку была як усё роўна абкусана зубамі аж да касці, нібы яе рэзалі на кавалкі тупой пілой. Раны паразяўляліся, з іх выпірала чырвонае мяса і лілася на падлогу сукравіца — цурчом. Скура ля ран пачарнела, як ад сажы, пасохла і патрэскалася. З дробненькіх, як нітачкі, чырвоных маршчынак сачылася рэдзенькая, што сок ад каліны, кроў; бралася пузыркамі і кацілася брусьнічкамі на падлогу, дзе шалёна бегалі вялікія нерацятыя мурашкі.

— Э-ха-ха... Кусалі, на кавалкі рвалі... Агнём смалілі... За што ж яны вас, вераб'і вы горкія?.. Не глядзі на рану, хлапец! — закрычала яна на яго, сама спалохаўшыся раны і не ведаючы адразу, што рабіць.— Сядзі і не кратайся. У сцяну ўпрыся і сцісні зубы. Чуеш?.. А то зноў абамрэш... Нічога страшнага... Тафялёвачкай абмыю...— яна падцягнула да сябе каранёвы кошык і дастала чорную паўлітровую бутэльку тафялёўкі.— Вазьмі адаткні і панюхай... Як нашатыр. На рускагоркай настоена. Пупышкі ад тофеля. Аж чатыры тофелі дома пад акном у гародчыку растуць. Старыя, ніхто іх маладымі і не помніць. Панюхай, а то зноў абамрэш. Дзе гэта вас?

— Бомбить летали... Вдвоем остались... Третий не выпрыгнул... А меня из пулемета... И его...— кіўнуў ён галавой у куток на падлогу — на «Аркадзю».

— Э-ха-ха... Як жа ж гэта так, вераб'і вы мае...— яна пачула, як ёй спёрла ў грудзях — заплача.

Дыхнула ў разбітае акно гарачым ветрам, зазвінелі мухі — зляцеліся на сукравіцу. Застагнаў «Аркадзя», пачаў зрываць рукамі павязку з галавы. У бок Бегамля пачало зноў бухаць, за сцяной у пустым зале адзывалася рэха. Перасох у роце язык; усё наўкола — і сцены і дзверы — зрабілася раптам сухое, падаткні агню — пыхне полымем. І за грудзьмі сцялася гарачыня і падымалася да горла горкай палыновай благай. Азвалася трывога: дзе ж Мікалай? Што яна адна будзе рабіць? Не выжывуць лётчыкі... Трэба было іх не сюды вязці, а ў Даўгынава ў бальніцу, калі яшчэ быў конь і калёсы. Праз гасцінец, праз немцаў, праз чорта лысага, а вязці... Што яна цяпер зможа зрабіць? Абпаленае чорнае мяса прэ з ран, да яго прыкарэлі рудыя ласкуткі ад штаноў... Яна падумала спачатку, што калашына ў «Джаніка» адстрыжана аж у пахвіне, цяпер згледзела, што яна адгарэла. Паласа нават чорная відаць.

— Змяніцца трэба...— сказала яна.— Я прынясла ўсё Мікалаева, цэлую зменку. На вас жа ўсё мокрае і гарэлае. Усё ў крыві... Перавяжу і пераадзенемся...— Яна дастала з кошыка белы кавалачак новай марлі, складзены ўчэцвера — разгарні — цадзілка на бітон,— узяла бутэльку, лінула на марлю тафялёўкі, спорна, не пашкадаваўшы, аж закапала на падлогу на мурашак, і паднясла марлю «Джаніку» да нагі.

— Павярніся на жывот...— сказала і закашлялася ад вострага паху.

«Джанік» павярнуўся, лёг і засоп. Яна падняла мок-

рую марлю над нагой і сціснула ў жмені... З марлі закапала тафялёўка, расцякаючыся па назе — па ранах.

— Цярпі, верабей... Лётчык-умалотчык...

«Джанік» засыкаў, пасля тузануў пад сябе здаровую нагу, сагнуўшы ў калене, і закрычаў:

— Рано нам форму снимать! Война только началась! — Ён спружыўся ўвесь, чартыхнуў яе, калі яна пацягнула мокрай марляй па назе зверху ўніз, заскрыгатаў зубамі і абмяк — абмёр...

— Спакойна паляжыш, верабей...

Яна мыла мокрай марляй раны на назе, змываючы гар, прыліплыя парцяныя сатлелыя ніткі і мурашак, якія бегалі ў яго цяпер па назе, як па аскобленым і пасечаным тапаром бярне. Тафялёўка пырскала ёй на лоб і шчокі; са шчок разам са слязьмі капала на раны...

Расцягнуўшы мокрую марлю ўдоўж, яна накрыла параненую нагу. Дастаўшы з кошыка сухой марлі, пачала акручваць зверху, нібыта збіралася абуць «Джаніка» ў лапці. Узяла пасля доўгі палатняны, добра выбелены з чырвоным вышытым шлякам ручнік, у які была схавана пачатая круглая буханка хлеба, і туга акруціла яго каля нагі зверху па марлі. Ручнік адразу ўзяўся цёмнымі пляйстрамі. Абвязаўшы вузенькай палоскай марлі ручнік ля костачкі — можа раскруціцца,— яна адагнулася і стаяла яшчэ перад «Джанікам» на каленях, склаўшы крыжам на грудзях рукі і гледзячы на яго белы твар пад сцяной на падлозе — як усё роўна малілася. Белы твар зрабіўся сівы, пабраўся ў шэрыя плямы. Яна здагадалася, што ў кутку ўжо шарэе, што на дварэ звечарэла. І вада ў вядры блішчэла як з цемнаты. Яе нібы апякло: гэтак надоўга абмёр «Джанік». Ляжыць — і ні адзін валасок на ім не кранецца. І мурашкі ціхенька поўзаюць на шэрым твары, не баючыся. Ці дыхае? Яна нахінулася да яго, да самай галавы, і паклікала. Абвязаная нага тарганулася раз-другі; павярнулася набок галава, і «Джанік» захроп, рэдзенька, ціха.

«Спіць пасля перавязкі, як пасля лазні...»

Яна тады ад млявай і балючай знямогі — балелі рукі аж у плячах — прывалілася спінай да сцяны і заплюшчыла вочы. Пачула, як па руках папаўзлі мурашкі, як ад іх гарыць ужо ўсё цела, што пасечанае крапівай, але сядзела, не могучы нават падняць павек. Тады ў вачах паявіўся Міфодзя... Ляжыць маленькі дома на стале — як нарадзіўся, з тыдзень ляжаў на стале, пакуль не падвесілі да бэль-

кі калыску,— корчыцца голенькі, пасечаны тапаром, і з ран цячэ сукравіца... Яна адплюшчыла вочы і спопаразку ўскочыла на ногі. Махаў рукамі, грукаючы локцямі аб падлогу, «Аркадзя» і крычаў нешта не наша.

Зашумеў знадворку лес, блiснула далёка за акном на лузе Вілія, цьмяным скрываўленым бляскам — у ёй адбівалася чырвонае на захадзе неба. Пацягнула вільгаццю — балотам; у вочы палезлі камары, жоўтыя, калючыя, працiўныя.

«Сцямнее, тады нічога не ўвідзіш без агню...»

Яна круцілася на падлозе паміж двума «вераб'ямі», і ў яе не было рук — не служылі. Толькі ўжо калі адкруціла з галавы ў Башкіра — цяпер яна яго стала зваць не «Аркадзя», а Башкір — чорны ад крыві, поту, вады і гразі бінт і абмыла чырвоны азызлы твар; калі ўбачыла, што чорныя вочы за павечкамі блішчаць яшчэ жыццём, якое трэба ратаваць, не даць пагаснуць, яна забылася, што ў яе адваліліся рукі: паявілася аднекуль сіла, крамяная, як жалезная, і воля — зрабіць усё як мага скарэй. Яна зноў рабіла сваю прывычную работу, як зімой у маразы на ферме, работу, якую добра ведала і якую за яе ніхто ніколі не рабіў: адно цяля ўжо адхадзіла, яно ажыло і будзе жыць, а другое можа задыхнуцца, так і не пабачыўшы свету ў цёмным ад цьмянага ліхтара і халодным ад марозу кароўніку. Другое трэба ратаваць, без ветэрынара і без зонда: па ветэрынара не падскочыш, ён аж у Белым, а гурбы роўна са стрэхамі, і на дварэ свету не відаць ад мяцеліцы. Цэлую ноч трэба мясіць снег да таго Белага... У яе цяпер адны толькі рукі, закасаныя па локці, знямоглыя ўжо, здзервянелыя — пакуль выцягнулі за ногі першае цяля — і чырвоныя ад марозу, якi нават чуваць, як шчыпле за шчокі. Трэба самой цягнуць і другое цяля на халодны божы свет сваімі рукамі — карова ўжо не памагае, не напінаецца, змаглася ад першага, звяла і адкінула галаву далёка пад сцяну...

І калі ўжо цяля, падласы бычок, змучыўшы і яе, і карову, падсвечаны ліхтаром выпраставўся на халоднай саломе, з якой ішла пара, разгінаючы спіну і адразу хочучы стаць на ногі, яна сама разагнулася і пераняла дух — і другі будзе жыць! Трэба было цяпер іх ратаваць ад марозу, і яна, падкінуўшы карове пад нос мурагу — хай грэецца — і накрыўшы яе старой Мікалаевай буркай, якую ў маразы надзявалі паверх кажуха, узяла аднаго бычка пад адну паху, другога пад другую і панясла ў парог, дзе ляжала пасцілка — завяжа і панясе за плячыма дамоў. Стрэ-

палі нядужымі нагамі аб кажух бычкі, рыкала зморана і жаласна ззаду цялуха і свістаў за дзвярыма на двары вецер...

...Башкір ляжаў памыты, перавязаны, пераадзеты ва ўсё Мікалаева — на ногі толькі яму ўсцягнула боты з касматымі халяўкамі,— выпрастаўся роўненька, склаўшы на грудзях рукі.

«Як нябожчык...»

Яна абмыла яму тафялёўкай рану на лобе, ззаду на патыліцы і на шыі. Патыліца была парэзана ад самага цемя аж да шыі; на шыі рана была чорная і глыбокая — ямай. Шчокі і лоб былі апалены — парабіліся сіне-чырвоныя, скура патрэскалася, пачала сціскацца ў сухі гармонік — злазіла. Заўтра трэба будзе прынясці несалёнага масла; збіць і прынясці...

— Не выжыве...— сказала ціха сама сабе, гледзячы на яго.

Башкір і ляжаў як нябожчык — не стагнаў больш, не махаў рукамі і не крычаў па-свойму. Не хапала толькі ў цемнаце свечкі ў галавах.

Пад грудзі падвярнула блага — ад салодкага паху сукравіцы. Апіраючыся рукамі аб сцяну, яна ўстала, выйшла на ганак і апчапіла рукамі кругленькі, фарбаваны некалі ў сіняе слупок-падпорку. У вачах закруціўся лес, склеп, двор з бітымі чырвонымі паўцагелкамі; пасля ўся застава паднялася ўгару, перакулілася і паляцела з абрыву ў Вілію...

Яе зблажыла — адной зялёнай слінай... Яна так і стаяла, апчапіўшы ў дзве рукі слупок, баялася ўпасці. Дыхала на ўсе лёгкія свежым ветрам, які нёс на ганак пах разагрэтай за дзень смалы, балота і праціўны гар з далёкага ляснога пажару. Сонца заходзіла за Жызнавой, заліваючы чырвоным агнём і старыя сосны, і заставу, і слупок, за які яна ўчапілася стоячы.

Так і застаў яе Мікалай ля слупка. Прыехаў адзін, конна. Злез, чырвоны ўвесь ад сонца, як ад крыві, і прывязаў за павадок да слупка каня, потнага і чырвонага.

— Немцы ў Белым...— сказаў ціха, падышоўшы і вінавата гледзячы на яе.— Ніхто не ведае, дзе Шавенка... У нас у вёсцы іх яшчэ няма...— сказаў ён яшчэ цішэй, заікаючыся, пасля закашляўся, узваліўся рукой ёй на плячо, і яна стаяла, знямоглая — сама дзяржалася за слупок і дзяржала Мікалая. Адкашляўшыся, Мікалай апёрся рукой аб слупок з другога боку.— У вёсцы яшчэ ціха. Мужчыны

па павестках пайшлі ў Плешчаніцы, не вярнуліся. Ну што? — кіўнуў ён галавой у калідор.

— Адзін не выжыве... Перавязала і пераадзела іх у тваё... Трэба некаму астацца. Ноч... Ці вады падаць, ці калі хто сунецца... Аставайся. І я буду ведаць, дзе ты, калі немцы раптам у вёску з'явяцца. Вада ў вядры, хлеб у кошыку. Сярнічак няма з сабой? Поўня скора ўзыдзе, пасвеціць... А заўтра раніцай я прыбягу...

— Садзіся тады на каня...— сказаў ён і закашляўся.

— Не кашляй толькі так... Чорт ведае дзе чуваць... Пойдзем паглядзім. Кошык трэба з сабой забраць. Заўтра з кошыкам і прыбягу. Мала чаго чалавек з кошыкам па лесе ходзіць — грыбы, ягады...

— Якія табе грыбы вайной,— сказаў ён ужо ў калідоры за плячыма.— Глядзі, не рызыкуй...

Лётчыкі спалі — саплі адзін і другі, і звінелі камары на ўсю каморку. Не дыхнуць — хапаеш ротам, як калючую мякіну.

— Глядзі за тым, што ля акна, за Башкірам. Гэты, у парозе, будзе жыць...

— А што я зраблю? Я ж не Шавенка.

— Вады падасі. Конаўку я з дому ўзяла...

— А павесткі мне так і не прыслалі...

Яна паглядзела на яго балючымі вачыма, з дакорам яму аднаму за ўсё тое, што здарылася на свеце.

— Цяпер ужо ад немцаў павесткі чакайце, Анікі-воіны...

На двара ён падвёў ёй каня да самага ганка.

— Даўгынава гарыць, відзіш? Дым ад сонца чырвоны...

— І Буслава, і Бегамля... Цэлы дзень чорнае неба ў тым баку. Я ўжо глядзець туды баюся. І таўкуць там, як у ступе.

— У Бегамлі бai. Давай падсаджу і кошык падам.

— Павяду ў руках. На дарозе з пня сяду. Галава кружыцца, а кошык давай...

Загнаны за дзень Бар'ян спорна застукаў па карэнні падковамі: у яе ў руцэ быў кошык, дзе цэлы дзень ляжаў хлеб. З горкі, з-за грывы ў Бар'яна, яна азірнулася на заставу — згледзела яшчэ раз Мікалая, чырвонага ад сонца: як ад агню. На двара ля самай заставы кратаўся туман, слупамі — нібы хадзілі сінія людзі.

Яна вяла каня за аброць, апіраючыся яму на шыю. Сесці конна з пня ці з вываратні яна ўжо не магла — не хапала сілы. Калі б і села — заснула б і звалілася Бар'яну пад ногі.

І ля Бярэзаўца дарогу заслаў туман — зрабілася бела, як ад снегу. Угары над лесам у бок Бегамля белыя хмары, нібы ружовае дзіця ў палатняныя полачкі, спавівалі круглы пад поўню месяц.

Сцямнела. Бар'ян вёў яе па дарозе ў вёску, як чалавек.

4

Над вёскай насілася чорнае вараннё — кучамі. Займаючы з загумення, шалёна крычучы і кідаючыся адна на адну, вароны ляцелі над вуліцай, над дваром паварочвалі на лог і пёрліся на ўсход, згараючы ў яркім жоўтым сонцы.

Сонца, як толькі ўзышло, увесь час было вострае і калючае — на дождж ці на бяду. З коміна пахла дымам на ўвесь двор — Бабка-Мойкаток устала і падтапіла ў печы; з гародчыка ад вуліцы патыхала свежым кропам. З начы было холадна, і куры не лезлі ў гародчык, а кідаліся пад ногі ў сенцы.

Міфодзя яшчэ спаў, Мікалай кашляў усю ноч і толькі пад раніцу звёў вочы. Хай спяць — Бабка дагледзіць.

Алімпіяда пакавала белы каранёвы кошык у сенцах, зачыніўшы хату, каб не было чуваць, як бразгае вечка ад шафарні. Закруціла ў ручнік кругленькую жоўтую буханку хлеба, свежага, спякла ўчора пад вечар; завязала чыстай марляй слоік жоўтага масла; халоднага: стаяла ўсю ноч у каструльцы ў вадзе; адрэзала паляндвічкі, мяккай, чырвонай — у сенцах запахла, як на вялікадне; у паліваны гладыш, куды ўсягды злівалі маслянку з боечкі, наліла сырадою, падаіўшы толькі што карову; накрыла гладыш газетай і завязала зверху хусткай, каб не расплюхаць за дарогу. Чаго ж яшчэ прасілі лётчыкі? Цыбулі... Маладая зусім, не парасла. Яна пайшла ў гародчык, нашчыпала жменю былля — там абчысціцца і памыецца. У гародчык кінуліся куры. Ганяючы іх, яна згледзела, як у канцы грэблі падняўся пыл. Пастаяла: што б там магло быць? Вярнуўшыся з гародчыка, закруціла ў старую «Праўду» цыбулю і падсунула пад буханку хлеба — на дно. Накрыўшы ўсё ў кошыку паношанай паркалёвай шэранькай хусткай, каб не кідалася ў вочы, вынесла яго з сенцаў і паставіла ля гародчыка пад частакол. Да кошыка адразу хлынулі куры.

Трэба было бегчы на заставу, і яна паглядала на сон-

ца — ляціць і ляціць насустрач рэдкім чырвоным хмарам і варонам: збярэцца дождж.

Прайшло два тыдні, як яны з Мікалаем «ездзілі па соль у Буслава» і падабралі ў жыце ля дарогі збітых лётчыкаў. У вёску за гэты час вярнуліся мужчыны, што пайшлі па павестках у ваенкамат у Плешчаніцы — прыйшлі аж з-пад Барысава, дзе дарогу ім адрэзалі немцы. Немцы ўжо справіліся паставіць у вёсцы старасту — прыехаў немец на веласіпедзе з Белага і назначыў Валуя: той да вайны быў брыгадзірам. Калгас яшчэ не дзялілі. Быў якраз такі час, калі пра «дзялёжку» нагаварыліся і накрычаліся да хрыпаты: у людзей даўно падзялілі; адзін хоча забраць сваё, што абагуліў у трыццатым годзе; другі і сваё і чужое, і ўсё мала; трэці за «сваё» лезе рваць горла чацвёртаму — ніколі б не падумаў. Нагаварыліся, накрычаліся, але яшчэ не дзялілі, усё роўна як чакалі — а можа, нашы вернуцца? Учора ўжо ўсе калёсы, якія былі ў калгасе, сцягнулі і паставілі ў шнур на ферме перад кароўнікам, пазадзіралі ўгару аглобні і нумаркі — паперкі, зашчэмленыя ў палачкі,— уткнулі ў кожныя калёсы: дзе пад ляжэйку, дзе пад дошку, дзе між драбінкі. Стаяць калёсы з задзёртымі аглобнямі на ферме, блішчаць выцертымі шынамі на сонцы — аж боязна на іх глядзець. Усё яшчэ было на месцы: і коні ў канюшні, і каровы ў кароўніку. І ў поле калгасную скаціну, як і перш, ганяў Харбін, і даяркі прыходзілі у час — запусціш, малако перагарыць — папсуеш усю стаду. Малако злівалі ў бітоны; не было толькі куды вазіць: сепаратар у Белым не рабіў, і яго сталі дзяліць па хатах — па два-тры літры. Некаторыя крычалі, каб скарэй дзяліць ферму, самі падояць сваё, не трэба будзе бегаць. Аж дзіва было, як гэта «сваё» лезла ў вёсцы наверх: ляжала ў людзей, у душы, як дзе ў балоце на дне, а цяпер палезла. Людзі збіраліся дзяліць не толькі калёсы і ферму, а і жыта на пні, ячмень, пшаніцу, а больш за ўсё проса, якое пасеялі першы раз у калгасе на раскарчаванай пасецы і якое ўрадзіла на дзіва — высокае, у рост чалавека, цёмнае здалёку, як лес. Збіраліся дзяліць кароўнік, канюшню, вялікую калгасную пуню ля лесу, якую зрубілі летась; думалі ўжо разбіваць на шнуры сенакос і Каралінскую пасеку пад заставай — сеяць на́зіму жыта. Людзі думалі жыць.

Жылі і лётчыкі на заставе: памагла тафялёўка, аднаму і другому. Тая самая тафялёўка, настоеная на высушаных пупышках, якой спрадвеку, не меўшы ёду, залівалі ў

вёсцы пасечаныя тапаром, парэзаныя нажом, сярпом ці касой пальцы. Шавенка ў Белым нават і не браўся лячыць такія раны — адпраўляў дамоў: не цягайся за белы свет, памый дома тафялёўкай і завяжы. Не загоіцца — яшчэ раз памый. Да Шавейкі ў Белае з такімі ранамі з Крамянца і не хадзілі — ішлі да яе, Алімпіяды, па тафялёўку.

«Джанік» ужо хадзіў, не абміраў. Выстругаў кіёк з пад'ялеўцу, тоўсты, як ад ваўкоў бараніцца, і апіраўся. Варочаўся з боку на бок і Башкір, але ў яго яшчэ была гарачка, пад вечар ён кідаўся аб падлогу і крычаў па-своему. Яна прамывала ім раны тафялёўкай праз дзень — помніла, як вучыў Шавенка.

Хаваючы каранёвы кошык за падол, яна падышла да варот і па прывычцы глянула ў вёску. Убачыла пустую вуліцу, запыленую грэблю і трох конных ля маста — спускаліся ўжо з горкі. Яна тады адразу спужалася свайго каранёвага кошыка: нібыта ўсе маглі здагадацца. Вярнуўшыся на двор, паставіла кошык ля гародчыка пад юргіні, што вылезлі праз частакол.

«У вёску паедуць ці ў лес?» — натапырыўшыся, яна прыціснулася да сенцаў. У вёсцы бразгалі вёдры і брахаў сабака. У кароўніку на ферме рыкала скаціна. Доўга нікога не было відаць, і яна, асцерагаючыся, каб яе не згледзелі з вуліцы, пайшла зноў да варот. Тупат пачула ўжо, калі высунулася з-за тофеля. Рванула з галавы белую хустку, але яе, мусіць, згледзелі — пярэдні нехта на кані махнуў ёй рукой. Яна тады стала ля варот, ухапіўшыся за верх: млосна зрабілася ўсёй і абвялі ў каленях ногі.

Конных было трое — паліцаі. Ні немца, што ставіў Валуя старастам, ні паліцаяў яна яшчэ не разу не відзела. Злавіла сябе на тым, што глядзіць на іх, як на бычкоў, якіх летась гналі на ферму з Белага — што за скаціна?

Пярэдні быў у чорным. І пілотка на галаве чорная, і конь пад ім чорны, і ладны чорны пэйчык у руцэ. Рука, у якой ён дзяржаў пэйчык, вышэй лакця была перавязана белым — як павязка на ране. Двое астатніх былі ў нашай ваеннай форме, нават пілоткі нашы, толькі без чырвоных зорак. Горача зрабілася ўсёй... Каб не белыя плямы ў іх на рукавах — як пагранічнікі ўсё роўна. Коні пад тымі дваімі былі дарашаватыя і ціхія; толькі ў пярэдняга чорны конь, як калгасны жарабок, аж трэсся ўвесь, рвучыся немаведама куды. І сам сядок на ім калаціўся, круцячы чорным пэйчыкам, нацягваючы чорныя павадкі і падымаючы каня на дыбы.

«Рана вараннё зляцелася. Додніцай недзе выехалі з Белага. Куды гэта?..»

Каля самых варот конныя, усе трое, раптам спыніліся, перагарадзіўшы ўсю вуліцу. З-пад ног у коней падняўся пыл і палез праз вароты на двор. Яна закашлялася.

Пярэдні прыціснуў чорнага каня да самых варот — конь занёс галаву над варотамі і хацеў рвануць яе вялікімі белымі зубамі за плячо. Над вухам забразджэлі цуглі, і яна адскочыла назад.

— Падаляк Алімпіяда? — закрычаў пярэдні сядок з чорнага каня, строга і злосна, недзе ўгару пад самы тофель.

— Падаляк Алімпіяда...— адказала яна смялей, чымся сама чакала.

— Член сельсавета, член праўлення і загадчык фермы?

— І загадчык фермы...

— Адкрывай. Што на вуліцы дзержыш? Начальнік паліцыі з Белага. Кукаеў... У вёсцы ўсе знаюць, дзе актывісты жывуць, толькі мы яшчэ не знаем, просім, каб паказалі... Адкрывай...

Яна адшчапіла вароты і адапхнула іх аж да гародчыка. Чорны конь з доўгай грывай, сінімі вялікімі — аж павылазілі наверх — вачыма, з зялёнай пенай на цуглях рвануўся на двор і хацеў схапіць за галаву. Яна падняла ўгару рукі і, баронячыся, адступіла між сцяной і частаколам да ганка. На двор, падымаючы падковамі, як драпакамі, чорную зямлю разам з падарожнікам, узбіліся коні. Загрукалі падковы, зазвінелі ў акне ад двара шыбы. Закудахталі, уцякаючы ў гародчык з-пад частакола, куры. Закрываючыся ад чорнага каня рукамі, яна згледзела, што ў конных за плячыма кароценькія жоўтыя вінтоўкі. З цугляў і з белых зубоў у чорнага каня на твар і на рукі пырснула зялёная пена.

— Спужалася? Не тых чакала? Цяпер ужо тых не дачакаешся...— Кукаеў вышчарыў белыя здаровыя зубы, як у чорнага каня. Чырвоны яго твар аж палыскаўся, як усё роўна быў вымазаны тлушчам, на шчоках выразаліся ямачкі. Цёмныя даўгаватыя валасы ў яго выбіліся з-пад пілоткі над шырокім і круглым лобам; ля ладнага носа, як у барона ля хваста, вецер ганяў пажмаканыя пасмы. Вочы ў яго былі шэрыя, бліскучыя; то рабіліся вялікія — лезлі на лоб, то плюшчыліся — недавідзеў. Гаварыў нячыста, як заікаўся — у роце ў яго ў нешта ўпіраўся язык,— гарачыўся разам з канём, можа, ад гэтага і чырванеў памінутне.

«Ямачкі на шчоках...— падумала яна.— А злосць так і свішча і з вачэй, і з ямачак...»

Маладога Кукуева яна, Алімпіяда, добра не ведала, так відзець — відзела да таго, як яго з бацькам засудзілі за пашпарты, і ўсё. Бацьку яго знала добра і цяпер падумала, што ён падобны на бацьку, пастарэў толькі. Колькі ж яму гадоў? Падумала яшчэ: адзін вярнуўся ці з бацькам? Пайшла была пагаласка, што бацьку расстралялі. Было, відаць, за што. І яго трэба было разам, недалёка адкаціўся. Самы першы да немцаў пабег.

— У хату не запрашаеш? Ага! А тых запрашала. Ага! — ён крычаў на ўвесь двор — тупат коней глушыў яго голас,— і ёй здавалася, што зялёная сліна пырскае на яе не з цугляў, а з рота ў Кукаева...

— Так вот... Работала загадчыкам фермы? Работала на савецкую власць? Работала. Будзеш работаць і на нямецкую. Малако калгас здаваў? Здаваў. Будзеш і цяпер адпраўляць малако на прыёмны пункт у Белае. Столькі, сколькі і адпраўляла. З сягонняшняга дня. Сепаратар работает. І штоб без гэтага самога... Што? Столькі, сколькі і адпраўляла. А там адправіш столькі, сколькі немец скажа... Што? Ферму дзеліце? Збярэш з вёскі. Загадаеш — знясуць.

Чорны конь грукаў падковамі ў яе ля самых ног, бразгаў цуглямі над вухам і ўзвіваўся на дыбы — яго падцінаў цуглямі Кукаеў і махаў без аддухі пэйчыкам: свярбелі рукі. Пасля чорны конь захроп, нагнуў галаву і, мінаючы яе, Алімпіяду, сунуўся да каранёвага кошыка, які стаяў ззаду ў яе ля частакола пад юргіняй — пачуў носам хлеб. Заступіўшы каню дарогу — мокрыя цуглі і белыя зубы ткнуліся ёй у грудзі, прамачыўшы наскрозь нажутку,— яна падняла з зямлі кошык на локаць і адхінула назад за спіну, выхапіўшы ў каня з-пад носа. Конь выцягнуў шыю ў яе над галавой. Цуглі забразгалі ззаду за плячыма... Мокрая гарачыня дыхнула за карак. На здратаваную падковамі зямлю ёй пад ногі зляцела з кошыка паркалёвая хустка. Запахла на ўвесь двор свежым хлебам. Кукаеў сцебануў каня пэйчыкам і напяў павады. Конь уздыбіў ногі вышэй частакола ў гародчыку, замахаў перад сабой капытамі з белымі, вышараванымі падковамі, заірзаў на ўвесь двор і кінуўся на яе. Яна адскочыла ад частакола і выставіла ўперад руку — каню пад горла.

— Пачастуй каня... хлебам!.. Калі нас у хату завалаць не збіраешся... Не тыя? Лысыя? Бальшавікі не былі лы-

сыя... Нічога. Прывыкнеш — будзеш рабіць, як і на бальшавікоў рабіла...

Кукаеў аж разрываўся ад крыку. Коні ўсхадзіліся і малацілі падковамі двор. Зялёная трава ля хаты стала чорнай, як торф.

— Пакармі хлебам!.. Што вушы заткнула? — Кукаеў, замахнуўшыся з-за вуха, апусціў пэйчык ёй на плечы. Засвісцела ля вуха, як ад пугі, і апякло агнём плечы. Яна чуць не ўпусціла на зямлю кошык — прыціснула толькі да сябе локаць і сцяла зубы. Зелена стала ў вачах.— Хаваеш за с..ку? Ад нас? Бальшавіцкая с-сука...

Яна тады ўзяла левай рукой — на правай вісеў кошык — круглую свежую буханку хлеба — падавіцеся ёю і ты, бандзіт, і конь, каб толькі гэтым абышлося,— і падала каню пад нос. Конь супакоіўся, не скакаў, захроп і схапіў буханку зялёнымі ад пены зубамі за патрэсканы жоўты край. Але не мог ні жваць, ні глытаць: быў зацугляны.

— Адкілзай, сцерва! Не відзіш, што закілзаны

Яна ўмела і зацугляць і адцугляць, не такой жывёле збівала рогі, а шалёны конь, пакаштаваўшы хлеба, зрабіўся ціхі, ржаў толькі без аддухі, і яна выняла цуглі ў яго са шчэлепаў.

— Ламі па куску... І рукамі, рукамі каню ў рот, сцерва... Пакруціся... Карміла ўсю жысь цэлую бальшавіцкую ферму, пакорміш і аднаго нямецкага каня...

Невядома, што гэта быў за конь — прагавіты ці не кормлены суткі: праглынуў кавалкі хлеба, давячыся і храпучы, у адзін міг; буханкі як і не было ў кошыку. Астатнія коні, пачуўшы хлеб, палезлі былі да яго, але ён стаў вадзіць задам ад хаты да частакола — не пусціў.

— Закілзай!

Пэйчык зноў засвісцеў у яе ля вуха, але гэты раз не дастаў. Яна зацугляла каня — конь грыз яе за рукі і лез з мордай у кошык.

— Сёння ж каб малако было ў Белым!.. На сепаратары!..— Кукаеў крутнуў пэйчыкам угары над галавой, падцяў каня, завярнуў на адным месцы — конь палез задам на частакол — і першы выехаў з двара, адціснуўшы астатніх пад прызбу. За ім, акруціўшыся ў варотах, паехалі і астатнія, паказаўшы ў праёме сытыя конскія дарашаватыя зады, белыя павязкі на рукавах і жоўтыя кароткія вінтоўкі ў сябе на спінах. З вуліцы данёсся мат і конскі тупат. У акне мігнулася Мікалаева галава, яна, Алімпіяда, пака-

зала яму: не лезь на вочы і толькі тады схапілася левай рукой за балючае правае плячо, абмацаўшы доўгі, уздуты гузакамі рубец. Крыві не было, толькі рубец пёк, як прыскам. Падняўшы з-пад ног здратаваную, пасечаную падковамі хустку, страсанула ад пяску і пачала торкацца па двары з хусткай і кошыкам, не ведаючы, дзе яго схінуць з вачэй. У кошык нават не глянулі. Буханкай хлеба адкупілася... Адумаюцца — вернуцца. А на дне ў кошыку бінт... Яна хацела забегчыся ў сенцы і схаваць кошык у шафарню. Але ж прыляцяць — палезуць у шафарню і ў кубелец шукаць сала... Вытрасуць і кошык... Схінуць у гародчык? Але ж і бацвінне малое, і канаторжнік ля частакола не парос... Яна падбегла тады да хлева, чапляючыся нагамі за курэй, каб сунуць кошык на праціўні пад сена. Ля самых дзвярэй пачула, як стрэлілі ў вёсцы, недзе зусім блізка, і закрычалі цененькім немым голасам — нехта малы. Яна тады, забыўшыся, што на руцэ кошык, кінулася была да варот, каб паглядзець, што робіцца на вуліцы, але крычаў ужо нехта на гародах, і яна стала круціць галавой, каб згледзець, што робіцца за плотам. У вёсцы пачалі страляць, густа і несціхана. Заіржалі коні. Загаляшыла нема патрывожанае ранішняе соннае вараннё, закружылася над загуменнем.

Яна зноў вярнулася да хлева, хапіла за дзверы, каб адчыніць, як убачыла з-за паркана, што з вёскі гародамі нехта бяжыць сюды, у гэты канец. Блізка ўжо ад вуліцы: згінаецца, падае, тады зноў бяжыць, сагнуўшыся. Бульбеўнік толькі пыліць і калышацца пад нагамі.

Яна пазнала Вольку Вайдзішку.

— Хустку далоў! Хустку з галавы белую!..— закрычала з двара.— Цябе ж відаць за вярсту...

— Цётачка, уратуй...— запішчала цененька, як асіплае курчо, Волька, перакулілася з гарода, ткнулася голымі каленямі ў здратаваны конямі пясок на вуліцы, падняўшы круга сябе пыл. Вароты былі адчынены, і яна, усхапіўшыся з пяску, скочыла ў вузкі прарэх двара, як ліса ў нару ад сабакі.— Гэта ж за мной лятуць на конях... Гэта ж па мне стралялі... На вуліцы была... Згледзела і пабегла. Яны за мной на конях... Злавілі б... Але я ў нейчы двор, не помню ў чый... Дзверы ў хлеў насцеж... Я ў хлеў, а яны за мной... Коні пакідалі на двары, пазлазілі і за мной у хлеў... Ідуць, выскаляючыся... Каюк бы мне, але ў хлеве сцяна была разабрана ад гародаў... Я выскачыла і пабегла ў гэты канец...— Волька збялела ўся і калацілася. Шэ-

ранькая паркалёвая сукянёшка на ёй пацямнела ад поту і прыліпла да грудзей, маленькіх, востранькіх. Вострыя каленькі пад сукянёшкай былі ўпэцканы ў свежую чорную раллю. Уся яна была востранькая, дробненькая і худзенькая — носік востранькі, дзюбкай, падбародак, як счэсаны на клінок, вочкі маленькія, сіненькія, добранькія, валосікі пад хустачкай мякенькія і светленькія, што лён. Гадоў з шаснаццаць яна ўжо мела, але на від была яшчэ зусім падчачурка.— Цё-ётачка... Яны ж мяне... Цётачка...— яна ўчапілася сваімі цененькімі доўгенькімі пальцамі ёй у балючае ад рубца плячо — упілася, як іголкамі — стаяла і калацілася.

— Марш у хату... У мяне яны ўжо былі — не паедуць... Вун, відзіш? Паглядзі на загуменне.

І лепш бы яна на тое загуменне не паказвала... Зглездзеўшы на дарозе за пуняй Кукаева на чорным кані — і пыл за ім цягнуўся паласой, чорны, як сажа: Кукаеў гарцаваў, круцячы каня, шукаў згубленае, пасля пагнаў каня на ферму, каб заехаць у вёску з канца, ад Харбіна,— Волечка прысела была спачатку, хаваючыся за частакол, тады сарвалася з месца і стала кідацца па двары, як парася, шукаючы дзірку ў паркане...

— Хустку з галавы! У хату, Тайба дурная!..

Яна, можа б, і пабегла ў хату, сваімі шалёнымі вачыма, можа б, і зглядзела расчыненыя дзверы ў сенцы, каб на ферме не пачаў страляць Кукаеў. Угары заціўкалі кулі, зашасталі па тофелю, і Волечка ад гэтага зусім здурнела — кінулася ратавацца сама. Не чуючы, што ёй крычаць, яна нейкім дурным інстынктам пачула ў паркане шчэлку, дзе з Харбінавага гарода лазілі ў двор свінні, скочыла, усадзіла ў шчэлку вузенькія плечкі — паркан адразу рассунуўся — і вышмыкнула, як мыш, з двара на гарод да Харбіна ў бульбеўнік. Нават кошык кінуць ёй пад ногі, каб спатыкнулася ды расцягнулся на двары, было позна... Яна бегла па бульбеўніку да Харбіна ў двор, можа, адтуль, з канцавога ў вёсцы двара, думала шмыгнуць у лес, але на ферме стралялі, і яна, збітая з тропу, замітусілася на двары. Ля хлева ў Харбіна стаяла адхожая, збітая з сівых ад старасці дошак — «шпакоўня», як зваў яе Харбін. Дзверы ў «шпакоўні» былі адкінуты да хлева, і Волечка, можа, успомніўшы, што яе ўжо раз ураталі расчыненыя дзверы, скочыла ў «шпакоўню» і зачынілася.

Цяпер Алімпіяда сачыла толькі за Кукаевым. З фермы ён ехаў адзін — тых двух не было, відаць, асталіся ў вёс-

цы — ківаўся памалу, круцячы галавой і дзержачы ў руцэ апушчаны ўніз — каню да нагі — жоўты карабін. Проці Харбіна на вуліцы спыніўся, кінуў повад на слуп, піхнуў нагой вароты і пайшоў на двор, дзержачы карабін у руцэ.

Яна як абмёрла; прыхінулася да вушака ў хлеве — пот толькі градам закапаў з твару на рукі.

Кукаеў ішоў дваром ціха, як кот. Нават па баках не глядзеў — ішоў проста да «шпакоўні». «Шпакоўня» была зачынена, і ён, падышоўшы да яе, растапырыў шырака ногі і выставіў убок карабін — каб не апырскаць. Пастаяўшы, сагнуўшыся карчом, Кукаеў паклаў на плячо карабін, як палку, павярнуўся ад «шпакоўні» і пайшоў назад на вуліцу, пасвістваючы.

Алімпіяда аж перавяла дух — не згледзеў, уцякла сарока... Кукаеў падышоў да варот, падняў угару з пляча карабін і стрэліў. Алімпіяда згледзела, як чыркнуў у яго над галавой агонь, палоскай, як расчыніліся дзверы ў «шпакоўні» і, закрычаўшы, на гарод у бульбеўнік выскачыла Волечка. Бегла бульбеўнікам, падымаючы высака голыя калені, у канец гарода, каб пераскочыць цераз плот і шмыгнуць у лес, і за ёй з карабінам у руцэ бег Кукаеў... Не страляў, бег ціха і шыбка — яна ніколі не думала, што так шыбка можна бегчы. Дагнаў ён Волечку ў канцы гарода ля плота, схапіў адной рукой ззаду на плячах за сукянёшку і кінуў у бульбеўнік, недзе пад сябе, пад ногі... Яны і пакаціліся ў бульбеўніку — Кукаеў, Волечка і жоўты карабін, як качаюцца, счапіўшыся, сабакі... Закалыхаўся бульбеўнік, над ім падняўся пыл. Пасля закрычала Волечка, моцна, дзярката, як рэзаная — на ўвесь канец вёскі. Ля Харбіна на вуліцы заірзаў конь, праціўна, як звер.

Алімпіяда выпусціла кошык, і ён перакуліўся ўверх дном. Схапіўшыся рукамі за галаву, закрыла далонямі вочы...

— Ну, лётчыкі-намалотчыкі,— спыталася яна яшчэ з ганка,— колькі намалацілі?

Лётчыкаў у каморцы не было.

Яна стаяла ў дзвярах з белым каранёвым кошыкам на руцэ, як перад парожнім гняздом, з якога зляцелі птушкі. У каморцы было чыста падмецена бярозавым венікам — ляжыць прывялы зялёны лісток пасярод падлогі,— і яна яшчэ больш спужалася. З-пад ног, дзе бегалі перацятыя мурашкі, пахла тафялёўкай — не выветрылася.

Клікаць яна не рашылася: прайшла па ўсім будынку, асцерагаючыся — мінала бітае шкло і паўцагелкі, каб не грукаць. Усюды было ціха. Шумеў за сцяной лес, вецер ныў у траве; сонца бралася пад паўдня — такой парой Харбін прыганяў скаціну ■ адранку,— біла густым аранжавым туманам у пустыя вокны. Мітусілася перад вачыма дробная машка і камары.

Яна раптам падумала, што лётчыкаў забралі. Асачылі немцы ці паліцаі і забралі. Можа, яшчэ дзе сядзяць у засадзе і чакаюць, каб забраць і яе. Падумала, але не спужалася. Выйшла толькі хуценька з пустога будынка і ўтаропілася на двары пад ногі — шукала слядоў. На двары рос пажоўклы на сонцы падарожнік, як дома ля варот; сівец; белая дзяцельніца і верас, ладны, густы — ніякага следу. Вочы былі зачапіліся за палоску паточанай мурашкамі зямлі: як усё роўна жоўценькія бугаркі зачапілі венікам — так бывае дома на двары, калі зачэпіш гальніком і цягнеш па пяску смецце да хлева. Яна пайшла следам і выйшла на бераг да абрыву. Стала і стаяла, дзержачы на лакці кошык і ў руцэ доўгі, шырокі востры нож, з якім усягды хадзіла ў лес у грыбы — глядзела за Вілію. Глыбака ўнізе шваргатала рака, чорная, бліскучая ад сонца; скаціны на лузе за ёй не было, хадзілі толькі бацяны, нейкія ржавыя, як вылезлі з руды з балота — ціснуліся пад ніцую лазу: баяліся. Над Буславам стаяў чорны дым, як усё роўна там дагэтуль не маглі патушыць пажар. Над гасцінцам, над самымі прысадамі, былі відаць раскінутыя кучкамі чорныя самалёты.

«Дзе лётчыкі? — думала яна.— Сабраліся і пайшлі за фронт? Адзін-то мог пайсці, кульгаючы, а другі? А можа, і другому за ўчарашняе стала лепш — яна ж учора не была — і ён стаў на ногі?.. Кожную мінуту яны рваліся за фронт...»

Было нудна; усюды стаяла цішыня, глухая, далёкая ад вялікага свету, і зноў здалося, што няма ніякай вайны, што самалёты над гасцінцам — вароны над полем, а дым над Буславам — чорныя тулягі, сцягваюцца, варожачы на дождж. Душа чаплялася за ўсё ціхае — не спаліла яшчэ агнём тую, учарашнюю даваенную душу...

І ў гэтай спрадвечнай цішыні за плячыма раптам чыркнула сарока. Алімпіяда крутнулася на месцы: сарока адна не шчабеча, ці звер блізка, ці людзі... Шукаючы вачыма сароку на рог заставы, дзе пачыналася пасека, яна ўчапілася паглядам за дробненькі соснік і пайшла з

берага проста на яго. Ішла тым жа цягнутым следам па белай дзяцельніцы і верасе.

У сосніку пад сарокай яна згледзела склеп і адразу ўспомніла: ён жа тут быў, стаяў воддаль; за гэтыя гады ля яго падцягнуўся соснік і схаваў з воч. Склеп быў складзены з шэрага вялікага камення і чырвонай паленай цэглы — каменне бліснула здалёку халоднай вільгаццю; скляпенне на ім было выпуклае, горкай — парасло мохам, густым сіўцом і высокім, у калена, старым верасам. Дзверы ў склепе былі некалі пацягнуты зялёнай, як адзежа на ваенных, фарбай; фарба па краях злезла, і на дзвярах была відаць здалёку круглая зялёная лата. Яна згледзела, як лата скранулася з месца: дзверы былі ў некага ў руках. За ёй назіралі. Убачыўшы, як высунулася забінтаваная нага, яна адразу пазнала «Джаніка» і збегла па зарослых сівым мохам і зацярушаных жоўтым шыллём каменных прыступках да дзвярэй. Дзверы расчыніліся, стукнуўшы пасля па спіне і бразнуўшы адразу за ёй. Шэрая вільготная цемната, падсвечаная з маленькага закрыжаванага акенца жоўтым бляскам, загаварыла «Джанікавым» голасам:

— Быстрее! Не маячить!..

«Джаніка» яна ніяк не магла злавіць вачыма — відзела толькі белую павязку ў яго на назе і ў сябе на руцэ белы каранёвы кошык. Яна пашукала, дзе б яго паставіць: адарваў рукі, убачыла на чыстай, падмеценай падлозе на яловых лапках і на верасе Башкіра — ляжаў белай ад бінта галавой пад высокае акенца.

— Эх вы лётчыкі... Лётчыкі-малойчыкі... Усю страну праславілі...— загаварыла яна моцна ў парозе — ад радасці і пачула, які глухі ў яе голас пад зямлёй: сябе не чуеш! — Што тут у вас? З вёскі чуць вырвалася, прыбегла... А тут — пуста... Я ўжо думала, можа, за фронт пайшлі?

— Что в деревне? — «Джанік» стараўся пытацца ў яе, пра сябе не гаварыў. Яна ўжо, звыкшыся, добра відзела яго — стаяў, апёршыся аб шэрую сырую сцяну. Падумала, што ў склепе не так і цёмна — як у хаце ноччу, калі ў акно ад гарода свеціць месяц.

— Что в деревне? Рассказывайте....

— Паліцаі...— сагнуўшыся, яна паставіла кошык у яго ля ног. Згледзела на падлозе сваё вядро з вадой і чорную вялікую конаўку — вісела на вушку ад вядра.

— Сколько?

— Трое... На конях... З Белага... Начальнік паліцыі...

Кукаеў... Толькі цяпер паехалі. Я і пайшла. Перш ісці баялася...

— Вы уверены, что вас никто не заметил?

— Ніхто. Дарогай я не хаджу. Лесам. Нацянькі. А што вы пад зямлю залезлі? Пад сырое каменне?

— Вчера днем из-за реки заставу обстреляли... Ночью с той стороны ниже заставы переправлялись в лес люди... Слышны были женские голоса, и плакали дети. Два дня кряду сюда приходил скот. Это уже с вашей стороны. Заметили или нет — не знаю. Мне бы его на ноги....— «Джанік» выставіў руку ў куток, дзе ляжаў Башкір, і пачаў кульгаць па цвёрдай падмеценай сырой падлозе — ад дзвярэй да высокага, не дастаць рукой, маленькага акенца і назад. У гімнасцёрцы, з вялікім драўляным наганам на доўгім вузенькім раменьчыку, у Мікалаевых штанах і ў чорных ботах з касматымі зверху халяўкамі, «Джанік» быў зусім ценкі ад сваёй перахлябістасці і белы з твару, нібы яму на лоб і на шчокі лягло начное сяйво ад месяца. І ёй, зняможанай ад дарогі, калі яшчэ баліць душа за Міфодзю і Мікалая — пра сябе яна не думала,— за ферму, за ўвесь калгас, які сабраліся самі расцягваць па кавалку, за вёску, за Вольку Вайдзішку, зрабілася так горка на душы, што спёрла ў горле і пасыпаліся з вачэй слёзы — бобам. Яна нагнулася над кошыкам, каб ніхто тут не згледзеў.

— Ну, лётчыкі-намалотчыкі... Будзем малаціць... Прынясла свежанькага хлеба...— сказала, смарганула носам і ўжо не магла стрымацца — загаласіла, як па нябожчыку...

«Джанік» зноў пачаў бегаць па вузенькім кавалачку сырой, парослай дробненькім зялёным мохам падлозе. Пасля яна аціхла і супакоілася. Горача было за грудзьмі, хоць ты іх раздзяры рукамі.

— А деревня как?

— Калгас сабраліся дзяліць. Заўтра, а можа, і сёння. Вярнуся з лесу, а ферма будзе пустая... Спачатку коней падзяляць, калёсы, а тады і скаціну... Самі рашылі, праўленне. Старшыня? З'ехаў з вёскі. Як толькі немцы з'явіліся ў Белым, пасадзіў на калёсы жонку і сына і — пад Бегамле. Ён у нас адзін камуніст на ўсю вёску. Жыў бы ён і ў нас, ніхто б са сваіх не падаткнуў. Хоць — людзі ўсякія бываюць, а можа, каму і на хвост калі наступіў... Дык жа ў паперах недзе памечана, што ён камуніст... Недзе ж паперы тыя ляжаць. Кукаеў перш-наперш да яго прыязджаў... Пасля ўжо да мяне...

— А к вам зачем?

— Загадчык фермы. Малако каб здавалі немцам. Вот прыйду з лесу ад вас, прыгонім з поля кароў, падоім, перацэдзім малако, наліём поўныя бітоны, паставім іх на калёсы, прывяжам за вушы павадком да ляжэйкі, каб не падскоквалі на калдобінах, як рабілі гэта ўвесь час, усе гэтыя гады, і павязём бітоны з фермы праз грэблю аж у Белае на сепаратар. Павязём немцам, каб яны ім апрагаліся. І рабіць гэта ўсё буду я... Я... Што так глядзіш? Я-я! Бо ў мяне ўжо, во, чорны рубец на плячы ад бізуна. Бо я ўжо ранена, як і ты... І ў мяне ўжо скура гарэла, як і ў вас... Вот так, лётчыкі-ўмалотчыкі... Будзі яго, і будзем «малаціць»... Гэтулькі дней гарыць... Я ўжо думала: можа, мы запражом каня і адвязём вас у Даўгынава ў бальніцу. А то аж у самыя Плешчаніцы... Возьмуць. Як гэта, каб такіх абгарэлых не ўзялі?

— Опасно, мать...

— Будзі яго... Марлю змяню... Тафялёвачкай яго абмыю. Малака вып'е...— яна нагнулася над кошыкам і пачала ссоўваць зверху мядзведжа вушка, якім быў накрыты кошык: стукнулася б з кім у лесе нос у нос — вушка збірала на зелле.

Нагнуўшыся над кошыкам, яна і пачула, як стрэлілі знадворку — нібы стукнулі ззаду ў дзверы. «Джанік» падняў галаву, паказаў, каб яна стаяла на месцы, сам адной рукой, у якой зблішчэў чорным бляскам доўгі наган, адчыніў дзверы і, выціснуўшыся праз шчэлку, пачаў падымацца наверх, кульгаючы па прыступках. Яна не паслухала, выціснулася і сама за ім і стала на прыступкі — сцягнула толькі белую хустку з галавы. Стралялі за Віліёй і, відаць, далекавата, але сюды, да ракі і да лесу, кацілася ядранае рэха. Яна ўвідзела адразу жыта ў полі за Віліёй і падумала, што склепа здалёку не відаць і зблізку яго не адразу намацаеш вокам, а з яго бачыш усё як на далані: заставу, луг за ракой, жыта ў полі і белыя стрэхі ў Жызнаве.

«Джанік» зноў паказаў ёй, каб стаяла на месцы. Сам увесь выцягнуўся ўперад, як ліс з нары, стаяў, зыбаючыся на здаровай назе, і ўпіваўся вачыма за раку. За ракой у сіне-зялёнай гарачай смузе дрыжала жыта. У ім і лопалі стрэлы. Стралялі густа — ці адзін спяшаўся, ці, можа, стралкоў тых было двое. Але ні ў жыце, ні на лузе нікога не было відаць. Занылі раптам над галавой самалёты — ішлі над самай ракой на Бегамле трыма заточанымі клі-

намі, чорныя, цяжкія, як толькі іх і дзяржала высака ўгары неба.

Падалеўшы, самалёты павіслі дробнымі чорнымі слязьмі на сініх вачах. Стралялі цяпер за ракой рэдка, як напаміналі, што ёсць на свеце смерць ад кулі. З-пад гэтых стрэлаў і выкаціліся з жыта людзі, маленькія, шэранькія, як маладыя мышы на ржышчы. Іх было не шмат, пяцёра ці сямёра — мітусіліся ў вачах,— і былі яны ў адной куччы: і большыя і меншыя. Выкаціліся супроць Жызнавы, але не пабеглі на Жоўты бераг, а падаліся логам правей, на Цыбульскі брод, хаваючыся за жыта. Да Цыбульскага брода яны дабеглі не скора — бралі з зямлі на рукі дзяцей, беглі з імі, несучы перад сабой; браліся самі за рукі, цягнучы адзін аднаго ўперад; спатыкаліся, падалі, каціліся па лузе, падымаліся зноў і падымалі малых на рукі. За імі на лузе аставаліся раскіданыя чорна-белыя латы: гублялі што ці, можа, зрывалі з сябе цяжкую адзежу, каб лягчэй было бегчы... У Цыбульскі брод яны кінуліся адразу, падымаючы ўгару над галовамі дзяцей. Адтуль нават даляцелі галасы; пасля раптам усё аціхла, і людзі зніклі з воч у ніцых, бліскучых ад сонца лозах — як патапіліся. Луг на гэтым баку ля Цыбульскага брода хавала старая чарэмшына, і Алімпіяда больш нікога не згледзела.

— Э-ха-ха... Знаеце, хто гэта? Яўрэі з Даўгынава... Бягуць, хто вырваўся. Людзі відзелі і расказвалі...

Зноў пачалі страляць, зусім блізка за ракой.

«Джанік» пастукаў ёй пальцам у плячо, як верабей дзюбкай:

— Опуститесь... Вам здесь не место...

Яна збегла па слізкім каменні ў склеп і нагнулася над кошыкам — пачула, як ад рубца звяло правае плячо, не крануць рукой. У кутку на падлозе круціў галавой і гаварыў не па-нашаму Башкір — гарэў, як у агні, не падступіцца...

Прайшло два дні.

Вечарам, калі ўжо на двары пачынала цямнець, а за вёскай на захадзе ў канцы загумення гарбатай доўгай паласой лягла на зямлю скрываўленая зара, на двор да яе прыйшоў Харбін. Яна ўжо запёрла напач вароты на кручок, і ён доўга адчыняў іх, не могучы адшчапіць у цемнаце кручка. Пасля падышоў да ганка — яна стаяла з памытай сухой адзежай на плячы, зняўшы з плота — і мах-

нуў ёй рукой: паказаў, каб асталася, не ішла ў хату. Сам ён пасля пашы памыўся і пераадзеўся — чорныя новыя картовыя штаны і белая рубашка ў палоску, мокрыя валасы на галаве расчэсаны на рад. Шчокі чырвоныя, рыжыя вусы скручаны на канцах у нітачкі, белыя босыя ногі — сапрэлі ў лапцях за дзень — прыліплі да зялёнай травы.

— Прыйшоў да цябе, Уліма... Адумысла, хе-хе...— ён пакруціў галавой па баках: агледзеў двор і вуліцу за варотамі.— Усе дома?

— Ляглі спаць. Адна я...

— І я... Хе-хе...

— Можа, што пільна трэба?

— Ды не, суседка, хе-хе...

Харбін муляўся, і яна ўзлавалася:

— Не спіцца?

— Не сплю, суседка, угадала. З тыдзень ужо...— ён памаўчаў, пакруціў галавой па баках, паслухаў.— Ноччу ні на волас... Раніцай, калі сонца прыгрэе і ходзіць скацінa, абмякну на якую гадзіну на пасецы...

— Ад бяссонніцы ў мяне нічога няма...

— Пачакай, скарэй ужо ў сенцы хаваецца. Цяпер усе хаваюцца. Перш дык вечарам можна было да грумады падысці, паслухаць, што дзе на свеце... А цяпер — калгас дзеляць, кожны ў свае вуглы бяжыць.

— Што гэта ты мяне, сусед, стыдзіць прыйшоў? Не ведаеш, што да чаго? Вачэй няма? Не відзіш? Ты не хочаш спаць, а я хачу...— яна завярнулася і пайшла ў сенцы.

— Якраз і прыйшоў, што ў мяне ёсць вочы. І яны відзяць. А ў лесе,— паказаў ён рукой за ферму,— цяпер многа можна ўвідзець...

Яна аж крутнулася да яго. Горача адразу стала ў шчокі... Падумала, што трэба дзяржаць сябе ў руках: выдае ж сама, немаведама яшчэ, што там відзелі старыя Харбінавы вочы. Памалу схадзіла ў сенцы, паклала адзежу на шафарню і вярнулася на двор: стары ганяецца са скацінай па лесе, мог зганяцца і на заставу. Мог згледзець і яе, і Мікалая, і лётчыкаў... Яна на яго забылася. Кукаева баялася, а Харбіна з віду выпусціла...

— Хе-хе, суседка, шкада мне цябе. З ног звалілася за дзень: мітрэнга, дзяцё малое. Бегаеш і бегаеш. І туды і сюды...

«Ведае...» — падумала яна.

— Аддыхні. Пасядзім ля частакола. Кропам пахне, хе-хе...

Ля частакола на двары стаяў вынесены з хаты стары ўслон, на яго ставілі вёдры з вадой і малаком, кошыкі з бульбай, малакамер, бітоны — памыўшы пасля малака, пераварочвалі ўверх дном. Услон цяпер быў слабодны, яна падышла, узяла за падол спадніцу і павяла па ўслоне.

Харбін, зарадаваўшыся, сеў; паставіў босыя белыя ногі на траву — упёрся ў зямлю; рукі апусціў на калені. Села і яна ўпобачкі. Глядзела ў зямлю, баючыся падняць на яго вочы: стары пазна́е па вачах.

На двары перад носам таўкла мак машка. Гудзелі над вухам жукі, недзе на лагу ў рэдзенькім белым тумане чыркала дзікая качка, асцярожна, баючыся.

— Хе-хе, суседка... Не замерзнеш? Рукі голыя... Ночы халодныя сталі. Не сплю, выйду, пахаджу...

— Ці не ўсю ноч ты мяне тут дзяржаць збіраешся? У мяне галава круціцца...

— Ці чэрці, суседка... У кожнага цяпер круціцца. Толькі ў некаторых яна пачала назад круціцца, калі свае калёсы з канём на двары паставілі, з фермы прыцягнуўшы...— Харбін памаўчаў, пагладзіў у дзве рукі мокрыя валасы на галаве.— А ў мяне яна круціцца так, як і да немцаў круцілася. Таму і прыйшоў да цябе, суседка... Гэтулькі гадоў разам на ферме... У суседзях жывём. Па ваду толькі ў тваю студню колькі хадзіў...

Харбін нечага не хацеў гаварыць, хадзіў круга, як цяля на прывязі, пасля махнуў рукой:

— Дурныя галовы. Елкі абдзіраюць, як скуру з чалавека дзяруць. Будкі свае ад дажджу карой пакрываюць. А таго не ведаюць, што белыя елкі відаць за вярсту...

— Якія елкі? Якія будкі?

— Ат, суседка...— Харбін пакруціў галавой па баках і зашаптаў.— З Даўгынава яўрэі. Сям'і тры. Пераправіліся з-за Віліі, уцяклі. Будкі строяць, агні кладуць, ад дыму аж сіне ў лесе. А калі хто другі іх згледзіць, не я? А калі падаткне? Што б ты сказала, суседка?

— Ты ж гаварыў, сусед, што ўдзень спіш. Саснілася...

— Хе-хе, ці чэрці, суседка... Ты і да вайны ўсё на смех зводзіла...

— Лес вялікі. Дзе ж цяпер хавацца ад Кукаева, калі не ў лесе? Сама б збегла, каб толькі не бразгаць бітонамі на немцаў. У лесе не прападзеш...

— Але чорт яго, суседка, знае... Лес лесам, а і ён нейкі стаў не такі. Скаціна стала шалець...

— Скаціна летам зыкуе...



Іван Пташнікаў (справа) з Барысам Сачанкам
на аб'яднаным пленуме работнікаў творчых саюзаў.
Мінск, 1985 г.




Вокладкі кніг Івана Пташнікава,
выдадзеныя за рубяжом у розныя гады.

— Не-е, суседка... Пусціўся я сягоння ранічкай пад Бярэзавец... Туманок, свежа. Дык не скубе ні адна, рвецца на пасеку, воўча мяса... Зганяюся, думаю. Дык і на пасецы ёй месца няма, на луг да Віліі рвецца. На луг, думаю, не паганюся, а пад граду пусціў... Рассыпалася мая скаціна па стрэльбішчы — зачапілася носам за траву, думаю. Я ўжо і на пень прысеў, каб вочы звясці. Чую — равуць... Адна, другая... За градой, на заставе. І ўсе туды пруць, задзёршы галовы і трасучы рагамі. Бягу-бягу, а забегчы ім наперад не магу, і ўсё... Збіліся яны перад казармай, пыл з-пад капытоў, равуць, аж зямля падымаецца... Нюхаюць пысамі траву, падварочваюць галовы і адна на адну з рагамі. Сяку пугай — ніякай рады. Добра, што падпасавіч прыбег, удвух мы сагналі іх з таго праклятага месца, заварнулі і пёрлі аж на стрэльбішча. Гонім, а яны азіраюцца і бушуюць... І ты думаеш, суседка, ад чаго? Бінт у крыві знайшлі, шырокі, як у нас на ферме цадзілкі...— ён павярнуў галаву і паглядзеў на яе.— Там нешта ёсць, суседка. Калі хочаш ведаць, я вярнуўся, пахадзіў, зайшоў у казарму. Як усё роўна людзі былі нядаўна. І нечым у казарме пахне. Чым — чорт яго ведае, як у віцінара зеллем з партфеля. Слядоў на дварэ ніякіх, каровы ўсё здрабяжылі. Бінт той капытамі здраталі... Што там магло быць, суседка? Я так нічога і не знайшоў? От скаціна... Кроў чуе і адна адну гатова на рогі падняць...

Двор зрабіўся вузкі і цёмны. На рукі калючым пыскам сыпала машка. Каб хаця Мікалай цяпер не паявіўся на дварэ з кошыкам: вот-вот вернецца з заставы.

— Нечага ганяцца, дзе не трэба...— загаварыла яна раптам моцна, на ўвесь двор.— Лагоў мала? Лоб гуза ў старога шукае...

— Шукае, суседка, хе-хе... Яно і праўда. Мала што здалося старому. Каровы равуць кожны дзень. Пайду, суседка, можа, засну...— Харбін падняўся з услона, апусціў галаву, задумаўся. Пагладзіўшы ў дзве рукі мокрыя валасы на галаве, пайшоў, спяшаючыся, да варот. І вуліцай ішоў спяшаючыся і кашляючы.

«Стары ўсё знае...»

Падышоўшы да варот, яна апёрлася на іх лакцямі і глядзела на ферму — адтуль павінен ісці Мікалай. Скрываўленая паласа на небе спплыла за ферму — вісела над заставай.

## 5

Пачуўшы шум — якраз так шумелі леспрамгасаўскія «прычэпы» да вайны, калі ішлі з вёскі,— яна кінула ложак, дзе нема крычаў Міфодзя, і падбегла да акна ад вуліцы. Машыну — чорную палутарку — яна згледзела ў акно праз куст бэзу, які, разросшыся ў гародчыку, закрываў ад вачэй вуліцу. Схапіўшы з ложка на рукі Міфодзю, яна выскачыла на двор — палутарка была ўжо за хлевам ля Харбіна. З вуліцы ў гародчык папоўз пыл; пыл пабег сівым валком і ззаду за машынай, падымаючыся ўгару і хаваючы яе з воч. Яна згледзела толькі, што ў кузаве ля самай кабіны сядзелі, нагнуўшыся адзін да аднаго, двое. З кабіны тырчаў востры чорны локаць. У некага — ці ў кузаве, ці ў таго, што быў у кабіне,— яна ўбачыла кавалак белай анучкі.

«Паліцаі...» — яна перакінула з адной рукі на другую малога Міфодзю, які крычаў на ўвесь двор, круцячыся і выгінаючыся на руках — не ўдзержыш.

Палутарка, павярнуўшы ў вілах, пабегла дарогай на заставу, цягнучы за сабой валок пылу.

Яна чуць не выпусціла з рук Міфодзю: на заставу сёння ўсходам сонца пайшоў з кошыкам Мікалай. Сама не пайшла, бо крычаў Міфодзя, качаючыся жыватом. Жывот у яго зрабіўся круглы і цвёрды, краніся — адзываецца, як банбэнак. Міфодзя і цяпер крычаў, аж душа ў яе разрывалася. З мокрай галавой, уздуты, цяжкі на руках — два гады яму,— ён падкаціў вочы пад лоб і не хацеў глядзець на свет. Раніцай яго пачало тузаць, з рота пайшла зялёная сліна. Хоць бы вырвала — палягчэла б, а так ён выгінаўся, заходзіўся і заціхаў, выцягваючы ногі. Яна тады прыціскала яго да сябе, не ведаючы, што рабіць. Раніцай паставіла яму леватыву — не памагло, назад пайшла адна вада. Каб жа быў у Белым Шавенка, запрагла б у калёсы Бар'яна — стаіць у хлеве, калёсы на дварэ — і павязла б у Белае. Калі заходзіўся Міфодзя і выцягваў ногі, яна забывалася і бегла з ім за вароты — забыўшыся, сама нясла да Шавенкі. Угразшы на вуліцы ў пяску, варочалася на двор і хадзіла па ім з Міфодзем на руках. Пройдзе, прыхінецца плячыма да шырокай сахі пад асверам — ног пад сабой ад бегатні ўжо не чуе,— стаіць і слухае, што там, на заставе, куды паехала палутарка. Сонца паднялося на рог варыўні, ад сахі падаў цень, і яна, не закрываючыся, глядзела і глядзела за ферму на лес. Цяпер ужо ныла душа

па Мікалаю. Каб не Міфодзя, яна б сама пабегла сёння на заставу. А Мікалай што: закашляецца на дарозе, зойдзецца ад пылу — не пачуе і машыны. Пад'едуць і схопяць. З кошыкам, з бінтам, з ёдам...

У яе пачало раптам свярбець усё цела: скура па галаве, плечы, рукі і сцёгны. Рукі былі заняты — на іх ляжаў Міфодзя, выгнуўшы жывот глячком,— і яна прыхінулася да сахі і цёрла аб яе плячыма.

На двор выйшла Бабка-Мойкаток; яна не аддала ёй на рукі малога: закрычала на Бабку, сама не ведаючы чаму, і зноў пачала бегаць па двары як шалёная. Падумала: калі цяпер не пабяжыць на заставу — звар'яцее... Але за кароўнікам, у тым баку, дзе вісеў над лесам белы круглы, як скачаны са снегу, туляг, раптам пачуўся стрэл, нібы ляснулі дзверы ў кароўніку на ферме, і лесам пайшло рэха. Пасля там пачалі шпокаць рэдзенькія стрэлы: шпок-шпок, як хто каменне кідаў па кароўніку, па страсе. Яе кінула ў стужу: заляскалі зубы і закалаціліся рукі, калоцячы Міфодзю. «Ну вот і ўсё... Усім...» — яна прыціснула да грудзей Міфодзю і пачула, што здзянела ўся: стукні нажом — ад яе пырснуць дробныя халодныя друзалкі. У роце сабралася салёная гаркота — вот-вот хлыне кроў. Немаведама што было б, каб раптам не ўбачыла, як на яе глядзіць Міфодзя: сціішыўся і, павярнуўшы галаву, пазірае адным вокам, як злоўленае птушанё са жмені.

— Сынок! — цяпер яна закрычала над ім і рванулася да ганка — бегла хаваць у хату ад стрэлу, ад бяды, ад усяго паганага на свеце. Прыбегла аж да стала, не зачыніўшы за сабой дзвярэй, акруцілася на хаце, адпіхнула рукой Бабку — тая хацела ўзяць Міфодзю — і зноў выбегла на двор. Стала што ўкопаная і слухала, як страляюць на заставе. Стралялі доўга, і яна, падняўшы вышэй на руках Міфодзю, прыціснула да сябе.

— Што рабіць, сынок? Што рабіць, скажы? Адплюшчыў вочкі... Загаворы... Ты ж ужо цэлыя суткі крычыш... Хоць слова скажы... Што баліць? Што ж нам рабіць? Ты ж гарыш увесь.

Міфодзя маўчаў, глядзеў невідушчымі сінімі вачыма ў сіняе неба, зрабіўся раптам гарачы ўвесь, не дакрануцца. Ёй самой адразу стала ўсёй горача, нібы дзяржала не Міфодзю, а вялікі, нагрэты да чырвані камень — выкаціла ў лазні з печы з вугалля і нясе ў драўляных кляшчах да цэбра з вадой...

У тым баку, дзе была застава, стала раптам ціха. Зда-

лося, разам са стрэламі аціхла ўсё на зямлі: не плакаў Міфодзя, не скрыпелі ў вёсцы вароты, не ляскаталі на загуменні калёсы, не бразгала клямкай у сенцах Бабка. Чуваць, як шуміць за фермай лес — глуха, густым трывожным пошапкам. Вецер быў з заставы: падагнаў белы круглы туляг аж на ферму, пераціснуўшы яго пасярэдзіне; засвістаў цененька ў траве пад плотам, прынёсшы з сабой на двор гаркавацenькі пах свежага дыму, як з коміна, калі падпаліш сасновыя дровы ў печы. Больш не стралялі, і яна, супакоіўшыся, падумала: а можа, яны і не на заставу паехалі, можа, у Даўгынава. Мала куды. Ехалі лесам, баяліся і стралялі. І Мікалай не такі дурны — схінецца. І лётчыкі не на віду. Баяцца стала ўсяго на свеце...

Не зглядзела, калі прысела пад асвер на палена. Сядзела, гладзячы Міфодзю па галоўцы: і ўсё падымала яе, каб паглядзець у затуманеныя вочы — галоўка была гарачая, пал не спадаў. Міфодзя стаў дыхаць з сябе, як запаленне ўсё адно ў яго. Можа, трэба банячкі паставіць? Панясці ў хату і паставіць?

— Сынок, трэба ж нешта рабіць... Што ж я сяджу...— загаварыла яна да яго, тады ўскочыла з палена, нагнуўшы галаву, кранула вуснамі лобік і пабегла да дзвярэй у сенцы. На пляскатым камені ля ганка аглянулася — як хто тузануў за плячо,— за фермай над лесам зглядзела буры дым: падымаўся стогам вышэй белага перацятага туляга. І лес за фермай зрабіўся сіні ад дыму, стаяў, як у рэдзенькім тумане. Запахла гарам ад смалякоў.

Ёй здалося спачатку, што гарыць ферма: гэтак блізка быў дым. Але ферма: і кароўнік, і канюшня, і свіран з парнікам з шэрымі, выцвілымі на сонцы стрэхамі — стаяла цэлая, чуваць нават было, як скрыпяць дзверы — усхадзіўся вецер і ганяе. Яна тады падумала, што гарыць застава. А там жа Мікалай... Там жа лётчыкі... Не! Дым адтуль не будзе так відаць... Лес недзе ўспыхнуў, і коціць яго з ветрам, як да вайны ў той вялікі пажар.

Чорны дым пачаў бурэць, тады пасярод яго вырваўся чырвоны язык і высака ўгары лізнуў неба.

Не помніць: доўга стаяла на пляскатым халодным камені ці не; апомнілася, калі пачула, як у лесе дробненька шваргоча машына — ніяк усё не можа вырвацца ў вілы. Пасля машына, высунуўшыся, чорным носам з белага пылу, пакацілася дарогай, і Алімпіяда зглядзела за машынай чалавека — бег ззаду, выставіўшы ўперад рукі, як даганяючы. Здалёку яна відзела добра і пазнала, што чалавек

навязаны: бяжыць, учапіўшыся рукамі, як за лейцы; губляецца з вачэй у густым пыле і віхляе то ў адзін бок дарогі, то ў другі. Ля яшчуравай ямы чалавек спатыкнуўся, паляцеў носам у пясок, выставіўшы ўперад рукі, і пацягнуўся ззаду за машынай, хочучы ўстаць і не могучы — закруціўся ў сівым пыле чорным карчом з доўгім карэннем — рукамі і нагамі...

— Мікалай! Мікалая злавілі!..— закрычала яна на ўвесь двор і кінулася з Міфодзем на руках у варотцы ля хлева, насустрач машыне. У канцы хлева ля вуліцы быў маленькі гародчык — клінком — з буракамі, рэдзькай; у самым кутку буяла абгароджаная капуста — высадкі.

Палутарка абдала гародчык сухім пылам і чадам, кацілася ціха, стракочучы як палкай па паркане — станавілася, ці што? Чалавек на пяску, учапіўшыся за белыя шнуры — ад парашута, пазнала яна,— напінаўся, лавіў нагамі пад сабой зямлю, каб стаць, і не мог. Галава ў яго была прысыпана пылам, але яна, упіўшыся вачыма, згледзела, што галава чорная, здаецца, не Мікалаева, і сам ніжэйшы, дробненькі. «Башкір?» І высадкі, і канаторжнік, і яе з Міфодзем накрыў пыл з-пад машыны, як пасцілкай. Яна больш нічога не відзела: ні вуліцы, ні машыны, ні двара. Пачула толькі, што машына стала за хлевам ля варот і сціхла. Бразнулі дзверцы, загаманілі мужчыны, скрыпнулі вароты, і па двары затупалі ногі. Пасля бразнуў кручком аб зруб вочап, заскрыпеў асвер — палезлі ў студню. Якраз як да вайны, калі леспрамгасаўскія шафёры заязджаліся піць...

— Уліма-а!..— пазвала яе Бабка-Мойкаток: стаяла ў варотцах, закрыўшы сабой мужчын на двары, выставіла ўперад востранькі сухенькі падбародачак і нічога больш не магла сказаць.

— Мікалай? — паказала Алімпіяда рукой на вуліцу.— Гавары: Мікалай?

— Не Мікалай. Яўрэй...— Бабка-Мойкаток затраслася ўся ад плачу, заківалася, як сухая макаўка ад ветру.

«Яўрэй...— падумала яна.— Можа, у Даўгынава ездзілі?» — двор ачышчаўся ад пылу, і яна ўбачыла ля студні чорную мужчынскую спіну.

— У хату завуць... Гарэлкі дапаганяюць...— Бабка-Мойкаток выставіла ўперад цененькія рукі — пераймала Міфодзю, але Алімпіяда прыціснула яго да сябе і пайшла на двор да ганка. Зыбаўся пад нагамі двор, і махалі крыллем куры, нібы хацелі падняцца з яго і зляцець...

Дзверы ў хату стаялі расчыненыя насцеж, і яна згледзела адразу ўсіх чатырох. Першага пазнала Кукаева: стаяў, апёршыся задам на куфар і сашчапіўшы рукі на грудзях. На куфры ляжалі накасяк кароценькія жоўтыя вінтоўкі, упёршыся рулькамі ў сцяну пад ходзікамі. Кукаеў, убачыўшы яе, адпіхнуў сябе задам ад куфра і пайшоў насустрач, ставячы касалапа па чыстай жоўтай падлозе свае бліскучыя ў хромавых ботах ногі.

«Крывазады...— падумала яна.— Як бацька...»

Сыты твар у яго з ямачкамі на шчоках быў чырвоны; кучаравістыя цёмныя доўгія валасы выбіваліся з-пад чорнай пілоткі і хавалі зверху чырвоныя вушы. Падслепаватыя вочы плюшчыліся; Кукаеў аблізваўся кароценькім языком — ці дагаварваў што, ці даядаў.

Ля акна ад гарода сядзеў Далідчык-Мамка, паклаўшы перад сабой на стол рукі і стукаючы дробненька пальцамі. Лысая карычневая ад загару бліскучая галава лёгка, як падмазаная, круцілася ў яго на плячах над чорным расшпіленым пінжаком. І жоўценькая рубашка была расшпілена, і карычневыя брызентавыя паўбацінкі на нагах расшнураваны — чалавек быў адзеты па-летняму. Злаваў — перакідваў нагу на нагу; карычневыя бліскучыя вочкі пад чорнымі нарастамі броў бегалі і бегалі па хаце, не ведаючы, за што зачапіцца. На яе ён паглядзеў і адвярнуўся.

Да вайны Далідчык быў загадчыкам сельпо — гадоў, можа, з пяць. Прыйшлі немцы — хто б гэта падумаў,— Далідчык стаў старшынёй воласці ў Белым. Не ведалі: сам ён пайшоў, змусілі яго ці яшчэ які тут чорт быў замешаны. Не хацелася верыць, што чалавек вунь што затаіў у душы на савецкую ўладу: ва ўсіх жа быў на віду, сам з Белага, ніякі не кулак, у трыццаць сёмым ні яго, ні каго з радні не зачапілі — не было яму за што зводзіць рахунак, як Кукаеву. Усе апошнія гады ён быў членам сельсавета, з ёй, Алімпіядай, засядалі разам, ды і без гэтага ведалі яны адно аднаго: па далёкай радні стукнуліся зад аб зад: яго родны брат жаніўся на яе стрыечнай сястры.

Двое ў парозе, абступіўшы Бабку, пілі ваду — на дроце калыхалася поўнае вядро, якое яны самі прынеслі ад студні і павесілі. Былі яны ў нашай ваеннай форме, толькі гузікі абшылі нейкай злінялай мацерыяй; на лакцях у іх сабраліся ў гармонік белыя павязкі з чорнай літарай. Ваду яны чэрпалі шклянкай і лазілі ў вядро з пальцамі.

У першага, высокага, худога, змучанага — другі быў кароценькі, поўненькі і чырвоны з твару, як клопік,— калі ён павярнуўся да яе, яна згледзела забінтаваную па локаць левую руку. Закруцілі яе жоўтым крамным палатном — мусіць, ніжняй кашуляй, тоўста, гарбом. Дзяржаў ён яе, прыціснуўшы да грудзей, як дзіця; на жоўтай мацеры выступала свежай вішнёвай плямай кроў — капала яму на боты, на вымытую жоўтую падлогу і блішчэла. Ён моршчыўся.

Кукаеў выйшаў на сярэдзіну хаты, прыляпіў бліскучыя боты да жоўтай падлогі пяткамі ў бакі і ззыбнуўся; рукі ў яго ўсё яшчэ былі сашчэплены на грудзях.

— Вот відзіш...— загаварыў ён да яе весела і хітра, як падзямельнік,— шкляначкай вадзіцу сіляем... А дзе кружачка? Дзе кружачка, што тут вісець павінна? Ля вядра на кручку? Чорненькая, паўлітровая?.. У-гу... Дзе? — ён памаўчаў.— Знайдзі і прынясі нам. Каб мы з рукамі не лазілі ў вядро...

Яна толькі цяпер згледзела ў Кукаева пад пахай — рукі ў яго ўсё яшчэ былі сашчэплены на грудзях — сваю вялікую чорную кружку з заставы: вісіць на сагнутым чырвоным, набеглым крывёю перацікнутым пальцы.

У хаце зрабілася ціха: усе чакалі.

Яна хацела адразу закрычаць: што яны зрабілі з лётчыкамі? Але ж яе кружка была ў іх у руках, а ў яе на руках яе сын — адзіны сын Міфодзя, гарачы, без памяці.

«Усё...» — падумала яна і тады пачула, як пачала цвярдзець у нагах, як яны наліваюцца сілай. Ад зямлі, на якой стаяла, ці ад сына, якога прыціснула да грудзей? У вачах пасвятлела, нібы ў хату з гарода глянула сонца: кружку знайшлі, а што яшчэ знаюць? Яна не здасца. Не возьме ён яе голымі рукамі... Нагнуўшыся ў запечак да ложка, падала Міфодзю Бабцы на рукі і пайшла, чуючы, як шлэпае ў цішыні босымі нагамі па падлозе, да шафы. Адчыніла памалу дзверцы, дастала чорную паўлітровую кружку, доўга выцірала яе канцом ручніка, зняўшы са сцяны з цвічка, каб даць сабе часу сабрацца з думкамі, як ступіць далей, і падала Кукаеву.

— Піце...

— Кінь, мамка, не прыдзірайся... Такіх кружак у мяне ў сельпо было навалам. Не ў яе адной знойдзеш...— падняўся за сталом Далідчык і сеў.

Кукаеў узяў у яе з рук кружку і стаў стукаць адну аб адну.

— Вот яна і занясла яе туды, бо дома яшчэ адна ёсць... Ну-ну... Скора ты нам усё раскажыш... Як ты гэтых самых,— паказаў ён чорнай кружкай назад, на сцяну ад вуліцы,— карміла і лячыла, гм? Ану, пакажы вочы! Вочы нічога не скажуць: зацятая. Не баішся. А мы можам і язык развязаць...— ён махнуў раптам пэйчыкам, адкуль ён у яго ўзяўся, як з рукава выцягнуў.— Акцівістка... Член сельсавета... Загадчык фермы... Каму, як не табе, карміць камісараў і жыдоў, гм? Ану гавары! — ён падаў Далідчыку на стол абедзве кружкі і схапіў яе за падбародак, аж, здаецца, сківаіцу вывернуў.— Твая кружачка? Га?

— Не ерундзі, мамка... Не гарачыся...— Далідчык выйшаў з-за стала на хату.— Думаеш, адразу і злавіў ужо? У першыя вароты забегся і злавіў? Баба яна чэсная. Адвяжыся... Хай яна нам лепш яешаньку зробіць. На вялікай скавaрадзе. І да яешні каб пасудзіна вялікая была... А баба яна чэсная, мне можаш паверыць. Была членам сельсавета, калі і я членам сельсавета быў. Я ж яе за цябе лепш знаю...

— Не пазнае́ кружачкі, дык, можа, што другое пазна́е? Пайшлі...— Кукаеў паказаў рукой у сенцы і сам пайшоў ззаду, апусціўшы рукі і цягнучы па падлозе чорны пэйчык. Яна пачула яшчэ, як, ідучы ўслед, шапнуў Далідчык Бабцы:

— Хочаце ўцалець — усё на стол, што ёсць у хаце...

На дварэ пахла дымам, аж зрывала нос; за фермай ля лесу было сіне; чорны стог на небе ў бок заставы апаў, раз'ехаўся. Кукаеў паказаў пэйчыкам на вуліцу, на машыну; сам усё ішоў ззаду, наступаючы на пяты. У варотах загадаў стаць; стаўшы, яна павярнула галаву: чаго хочуць? Згледзела блізка ямачкі на чырвоных шчоках у Кукаева і лысую блiскучую галаву Мамкі; двое астатніх у нашай ваеннай форме сагнулі галовы ля ганка — нахіліліся над белай забінтаванай рукой,— выйшлі за ёй усе чэцвера.

Кукаеў забег наперад і паказаў пэйчыкам на лаўку — ля гародчыка была лаўка на ўкопаных у зямлю слупках,— як усё адно прасіў сесці. На лаўцы стаяла яе вядро з заставы, воддаль вядра — парожняя, без заткі бутэлька з-пад тафялёўкі. І вядро і бутэлька былі мокрыя, укачаныя ў пясок і пілавінне, як усё роўна самі гаварылі: не твае, не пазнавай! Але яна сваё вядро з фермы пазнала б нават пасля пажару... З бутэлькі тыхнула ў нос тафялёўкай — павяла-павяла, закружыўшыся, галава. Адступіў-

шы назад, яна згледзела за Кукаевым на зялёным пада-рожніку чалавека — ляжаў воддаль лаўкі, апёршыся пля-чыма аб жэрдзе ў плоце і ўткнуўшы босыя ногі на вуліцы ў пясок. Рукі ў яго былі складзены адна на адну ў запясці і акручаны ржавым калючым дротам, якраз такім, які прывозіў Мікалай летась з заставы на цвікі. А можа, дрот быў у крыві? За дрот была зачэплена шоўкавая тасьма ад парашута — напялася, лезучы недзе наверх на кузаў. Чалавек пад плотам ляжаў, як калода — не павярнуў нават галавы. Валасы ў яго на галаве былі чорныя як смоль, нават пад пылам, і кучаравыя, звітыя; у іх набілася пяс-ку, пілавіння і сасновых жоўтых іголак. Вочы былі за-плюшчаны — і ці былі яны? І лоб, і нос, і шчокі — успух-лае жоўта-чырвонае змесіва. Па твары цяжка было нават пазнаць, што гэта чалавек, а яўрэй там ці хто — і потым таго...

— І вядро, скажаш, не тваё? — Кукаеў сцёбнуў па ім пэйчыкам, аж пясок пырснуў у шчокі.— У такія калгас-ных кароў даіла...

— Такіх вёдзер на ферме было шаснаццаць...

— Дзе яны цяпер? — сцебануў па лаўцы пэйчык.

За плячыма ў яе загаварыў Далідчык:

— Не прыдзірайся, мамка... Калгас падзялілі, бралі, хто схапіў...

— Гэта добра, што падзялілі. А калі я скуру ад с..кі аддзялю — сазнаецца? А бутэлечка? Бутэлечка з заразай, якую з дому насіла і камісарам на раны капала? Гавары, а то ў мяне сама кроўю закапаеш! — Кукаеў закрычаў, падслепаватыя вочы заплюшчыліся, ямачкі на шчоках наліліся кроўю — да краёў.

— Кінь, мамка... Бутэлька з-пад рускагоркай... За маё сельпоўства тут іх тысячы перавярнулася. Людзі пілі як ваду...

Яна падумала: чаму за яе заступаецца Мамка? І чаму яго слухае Кукаеў?

Кукаеў падскочыў да плота.

— А гэтага не пазнаеш? — ткнуў ён пэйчыкам у твар — апухлае чырвонае месіва.— Гэта не кружачка і не бутэлечка. Калі ты яго не пазнаеш, дык ён цябе пазнае... Ану, жыдоўская вош, разяў зэнкі... Задрамаў, прыгрэў-шыся...— чорны пэйчык свіснуў угары і сцебануў па чор-най галаве. З галавы падняўся пыл, як з сухой порхаўкі. Чырвоныя, запухлыя, поўныя пяску вочы глянулі на свет

і на яе, балюча і спалохана.— Ну-у? Пазнаеш яе? Яна прыходзіла на заставу?

Чырвоныя, поўныя пяску вочы закрыліся — схаваліся пад назызлыя скрываўленыя шчокі.

— Не пазнаеш? Мазгі засохлі? Не круцяцца? Ну дык я змажу...

Чорны пэйчык свістаў угары, лучаючы па галаве, па плоце, па падарожніку, па шчоках, па акручаных калючым дротам руках...

— Не пазнаеш? Не яна?

Чорная акрываўленая галава хвіцнула і абвісла на грудзі.

— Перабаршчыў, мамка... Каб не пабег ён хавацца да лётчыкаў, ты б іх ніколі і не знайшоў пад зямлёй. Перабаршчыў...— паклаў Кукаеву руку на плячо Далідчык.— Мы ж яго дапыталі на заставе. Ён жа там сазнаўся. Шлёма з Даўгынава. Я яму веру. Прыйшоў ён на заставу толькі ўчора. Збег ад даўгынаўскай паліцыі, нават свае шавецкія прычандалы згроб і прытарабаніў. Пераплыў раку, не ўтапіўся, змок увесь, ноччу ў лесе холадна, ён і прыцягнуўся, як воўк у калядніцу, да вуглоў — грэцца. Не сагрэўся ў сценах, печку знайшоў, яшчэ ад пагранічнікаў асталася, трубу ў акно і затапіў. Дзе ён толькі сярнічкі ўзяў? У лётчыкаў? Грэўся і сушыўся, думаў боты шыць, як у Даўгынаве. Капылы нават расклаў. І, я табе скажу, добра ўстроіўся. Шыў бы боты, а яму б на заставу масла насілі...

— Ану лезь цяпер на машыну!..— крыкнуў ёй Кукаеў на ўсю вуліцу.

— Не палезу! — закрычала яна на яго.— Што вам ад мяне трэба?

— Лезь у машыну, курва! — чорны пэйчык сцебануў ля босых ног па пяску.

— Не палезу! Мала што мне можна прывязці на двор з лесу... Што я вінавата, што ў мяне на двары студня і вам піць захацелася? А каб у другога ў каго была студня?

— Ну што ж...— Кукаеў бразнуў крукамі з аднаго боку кузава, з другога і адкінуў у палутаркі задні борт.— Можаш не лезці. Папсіхавала, а цяпер спакойненька паглядзі на сваіх лётчыкаў. Жыд мог цябе і не відзець. Пазнавай! Яны?

Яна нізашто б не пазнала, што гэта яны, тут, на гэтай старой разбайдаванай палутарцы. Лётчыкі ляжалі ўпобачкі, нагамі ўперад да кабінкі, і былі акручаны з ног да

галавы калючым рудым ржавым дротам — кожны паасобку, а тады яшчэ іх акруцілі зверху разам двух. Жывыя яны былі ці не — не пазнаць: ляжалі і не краталіся. Яна тады, баючыся, глянула ім у твар — стаяла якраз у галавах,— у «Джаніка» ў роце быў кляп са скомканай марлі — цадзілкі, вочы заплюшчаны і акрываўлены апухлы твар, як у Шлёмы. Башкір ляжаў чырвоны, як і ў склепе на заставе — блузніў і гаварыў па-своему.

Кузаў з лётчыкамі пачаў раптам падымацца высака ўгару, як усё роўна наверх на Жоўты Бераг, а яна асталася ўнізе ля чорнай Віліі... Закруцілася галава, падвярнула пад грудзі, і яе вырвала — у пясок пад ногі...

— Ножкі падкасіліся? Думала, што іх ужо і на свеце няма? А яны жывыя-здаровыя. Пазнаеш? — Кукаеў гаварыў над вухам, не адыходзячыся, а яна стаяла і чамусьці думала, што ў кузаве, у правым борце, якраз над галавой у Башкіра няма двух гаечак. І болцікаў няма. Усе гаечкі на месцы, а дзвюх няма. Дзюрачкі на месцы гаечак...

— Кружачкі, вядзёркі, бутэлечкі... Абрыдла ў пясочак гуляць. Паглядзі на іх — адзежа... Садрала са свайго мужыка, а на іх уздзябу́рыла. Дзе мужык? Што маўчыш? Думаеш, як выкруціцца? Дзе мужык? Мерку здымем! Ох у мяне мерка падыдзе... Гавары! Скуру з зубоў здзяру, калі не сазнаешся! Гавары ўсё, што ведаеш!

— Вынь анучу ў яго з рота! — закрычала яна зноў на Кукаева.— Скруціў і душыш, душагуб... Вынь! — яна крутнулася да яго па пяску, падняўшы нагамі пыл, ён спопаразку адступіўся, нагнуў здаля галаву і ўтаропіўся на яе прыплюшчанымі вачыма. З рота ў яго пацякла сліна — на шчокі ў чырвоныя ямачкі.

— Вот і прызналася. Загаварыла, як паложана,— сказаў ён спакойна і ўсміхаючыся на ўсе зубы.— Вынем. Паслухаем, як ён цябе пазнаваць будзе...— падскочыўшы да барта, ён адным махам рвануў жоўтую марлю ў «Джаніка» з рота. «Джанік» засоп, але не крануўся і не загаварыў.

— Яны піць хочуць! — зноў закрычала яна на ўсю вуліцу.

— Піць? Напоім. Прынясі. І не вады, а малака. І напаі з чорнай кружкі, з якой іх на заставе паіла...

Яна, задыхаючыся, пабегла ў хату — увідзела толькі, як саступілі ёй з дарогі двое ў нашай форме. Дзве чорныя кружкі стаялі ўжо на лаве з самага краю. На стале быў разасланы новы белы абрус, як на свята — разаслала Баб-

ка; ляжала вялікая круглая буханка свежага хлеба — такую панёс сёння ў каранёвым кошыку на заставу Мікалай; пакроенае кавалачкамі жоўтае сала на талерцы і масла на сподачку — кругленькай жоўтай халоднай горкай з кропелькамі вады.

У варыўні яна наліла са жбанка — стаяў на зямлі, накрыты дэначкам — поўную кружку малака і пайшла на двор. Падышла да машыны, апёрлася грудзьмі на борт і падняла кружку.

Ніхто не піў: ні «Джанік», ні Башкір; нават вуснамі не кранулі халодную кружку. Можа, былі без памяці?

У кузаве на пяску і пілавінні асталіся кроплі чырвонай крыві і белага малака...

— Перабаршчыў, мамка. Няма тут з кім рабіць вочнай стаўкі. У іх толькі хер ды душа...— Далідчык падняў борт, запічапіў крукі, стаяў і біў даланёй аб далаю — атрасаў пясок.— Пайшлі ў хату. А то іх поім, а ў саміх у роце суха. Яны не хочуць, а мы хочам...

— Не хо-очуць... Перш пілі, а цяпер не хочуць... Бо яны знаюць, што ты іх карміла, паіла з гэтай самай кружачкі, заразай вун з той бутэлькі раны мазала, а пасля прыйшла да нас у валасць і заявіла. А мы табе карову за гэта з калгаса самую лепшую... І маркі яшчэ палучыш, і махорку...

Кукаеў гаварыў і гаварыў, і трэба было мець нячыстую сілу ў душы, каб стрымаць сябе, не закрычаць на ўсю вёску: не верце! і не стаць рваць у сябе на галаве валасы. Можа, яны і не без памяці, можа, не ўзяліся піць, што яна стаіць разам з паліцаямі? Паверылі, можа? Яна раптам падумала, што ліне Кукаеву ў падслепаватыя вочы малака і, пакуль ён будзе выціраццa, учэпіцца яму ў гарляк і задушыць...

І выдасць тады сама сябе з галавой. І з ёй, з Мікалаем, з Бабкай і Міфодзем зробяць тое, што зрабілі з лётчыкамі... А хату спаляць, як і заставу...

Кукаеў усё яшчэ гаварыў і сачыў за ёй, і яна, астыўшы і сцяўшы сябе ў кулак, перабіла яго — сказала ціха, як з таго свету ўстаўшы — асіпла неяк адразу.

— Я тады яму падам,— паказала рукой пад плот.

Кукаеў аж заікнуўся:

— Ж-жыду? Можаш даць. Больш на пяты пусціць, калі вешаць будзем...

Яна падышла да плота і на вачах ва ўсіх стала на калені. Узяла Шлёму адной рукой ззаду за галаву, каб ён

апусціў падбародак — рука адразу стала мокрая ад крыві, другой рукой падпясла копаўку да рота, як падносіла ўсягды хвораму Мікалаю. Ён адкрыў чырвоныя вочы і чырвоны ад крыві і павыпіранага мяса рот, злавіў пасечанымі, азызлымі, з запёклай крывёю вуснамі край чорнай кружкі і стаў піць, прагавіта, хапаючы і вуснамі і зубамі за кружку — здавалася, вырве з рук. Так п'е толькі змучаная засмяглая жывёла, чалавек так не п'е... Яна пачула, як у яе закапалі на рукі слёзы...

— Па жыду плакаць? Па сабе плач і па свайму вырадку, што астаўся ў хаце... Ну цяпер я з табой пагавару...

Да яе падбег Далідчык.

— У хату...— зашаптаў на вуха.— І залі яму вочы... Рускагоркай... З-пад зямлі дастань, а залі, калі хочаш уцалець... Даігралася, мамка, са сваёй кружачкай...— ён закашляўся ад дыму і загаварыў да Кукаева: — Я на тваім месцы не паліў бы заставы, калі яна нам не падышла. Лес, во заняўся...

— Калі яшчэ ёсць дзе жыды — згараць, як клапы... Чысцей на свеце будзе...

Яна ішла па двары ў хату наперадзе ва ўсіх і хавала нос у парожнюю чорную кружку — ад дыму. Увідзела, што ад яго аж сіне за студняй — у Харбіна ў бульбеўніку. У сенцах яе клікнула ў варыўню Бабка. Калі яна прыйшла з Бабкай у хату — ужо ўсе чэцвера сядзелі за сталом: на куце бліскаў лысай галавой Мамка, у руках у яго была круглая буханка хлеба — рэзаў; Кукаеў сеў плячыма да акна ад вуліцы, круціўся, пазіраючы то ў акно на машыну, то на хату; высокі, з перавязанай рукой і тоўсценькі «клопік» з чырвоным зморшчаным тварам сядзелі на ўслоне, павярнуўшыся спінамі на хату. Яна зноў падумала, што стол накрыты белым новым абрусам, што госці для Бабкі, відаць, былі ўсе роўныя: і тыя, што прыязджалі да вайны, і тыя, што сядзелі за сталом цяпер. Бабка ў белай хустачцы пад падбародак, у фартушку, худзенькая, сагнутая, падышла да стала, усміхаючыся, як падыходзіла да гасцей да вайны — у руках у яе быў нож і чырвоная падсохлая паляндвічка. Не раз яна частавала гасцей — і калі «віцінар» прыязджаў на ферму, і калі «начальства» з раёна. Убачыўшы ў яе ў руках паляндвічку, Далідчык аж падскочыў за сталом:

— Во гэта Бабка... Во ў каго трэба вучыцца, Уліма, у старых. Старыя нас прымаюць...

— А яны хто, што з табой? Нешта я іх не помню. На

херму яны не прыязджалі...— Бабка гаварыла не ферма, а херма.

— Нічога, Бабка. Цяпер яны будуць часта прыязджаць. Глядзі толькі, каб у кубельчыку паляндвічка была. Ну, давайце, хлопцы, а то кішкі марш іграюць...

— А ты што? — зняў пілотку Кукаеў і паклаў на падаконнік разам з чорным пэйчыкам і ўтаропіўся ў Алімпіяду падслепаватымі вачыма.— У запечак ціснешся? Не хочаш падаць сама? Не тыя? Не ўпалнамочаныя з раёна? Скаціну калгасную паіла-карміла, а мы што — горш калгаснай скаціны, выходзіць? Падай шклянкі. Можа, думаеш, будзем піць з чорных кружак, з якіх жыды пілі?

Шклянкі на стол падала Бабка — дастала з шафы; Алімпіяда ж села на ложак у запечку ля Міфодзі і паклала яму руку на галаву — лобік быў цёплы і потны; Міфодзя, падкорчыўшы ножкі аж да грудзей, спаў: не звёў жа вочак усю ноч.

— Цыбулі, мамка, цыбулі. З грады. Не шкадуй... З быллём. Люблю цыбулю, мамка...

Бабка, выцершы рукі аб фартушок, дробненька, як мышка, пабегла ў гародчык — старалася дагадзіць гасцям; за сталом зазвінелі шклянкі, забразгалі аб талеркі відэльцы. Бабка, як яна ўмудрылася, прынясла адразу з двара цыбулю з абдзёртымі і памытымі белымі галоўкамі, з былля яшчэ капала вада, і падала ў рукі Далідчыку. Зялёная з грады цыбуля зашуршала за сталом, як на лузе пад касой асака — дзялілі; пасля затрашчала на зубах, як чортведама ў якога прагавітага звера, і яе не стала — падмялі. Елі моўчкі, як ваўкі,— падумала яна: госці за сталом ніколі не маўчаць. Але маўчалі не доўга: адхрумсцела, адбразгала, адчвякала, ад'ікала за сталом, і зноў тое самае:

— Ну дык дзе мужык?

Тады загаварыла Бабка — стаяла пасярод хаты, склаўшы на жываце пад фартушком рукі. Паглядзела за стол, у запечак на ложак і сказала:

— Мікалай?

— Ага, бабка, Мікалай...— Кукаеў утаропіўся цяпер у яе падслепаватымі вачыма, аж выцягнуўся — абрадаваўся, як гадзюка мышы: можна з'есці.

Бабка зноў глянула за стол і ў запечак:

— А мой каток... Прасу пайшоў глядзець. Падзялілі — ён і пайшоў. Свой шнур глядзець.— Бабка загаварыла цішэй і адыходзілася ад стала — пачула, што яе ловяць за язык.

— Гэта добра, бабка, што свой шнур глядзіць. А скажы: і булку хлеба з сабой во такую, як на стале, узяў? Бутэльку, кружку? Піць жа хочацца, на ўвесь дзень пайшоў...

— Не-е...— Бабка адыходзілася ў парог.— З усімі пайшоў. Усе з вёскі ішлі, і ён пайшоў.— Яна памаўчала.— Нешта я і вас не помню. На херму вы ніколі не прыязджалі...

— Мяне, бабка, ты, можа, і не помніш, а яго,— Кукаеў паказаў на Мамку,— помніш?

— Помню, мой каток. Ён часта прыязджаў...

— Ну вот. Цяпер скажы, бабка... Мікалай касіць на луг да Віліі не хадзіў? Руку, можа, аб касу парэзаў? Бутэльку, можа, з сабой з лякарствам браў? Паўлітровую, чорную?..

— Яго я помню,— Бабка паказала на Далідчыка,— а вас нікога не помню.

— Ага, не помніш. Схадзі, бабка, на вуліцу, там на лаўцы вядро і бутэлька. Прынясі ў хату. Толькі нікуды з носам не лезь...

Бабка шмыкнула за парог, прынясла вядро з бутэлькай і паставіла на падлогу ля печы. Кукаеў ціха вылез з-за стала і асцярожна ступіў на хату. Усе сціхлі, і было чуваць, як пад ботамі ў яго скрыпнула падлога.

— Ну што, пазнала, бабка?

— А мой каток... Пазна-ала...

— І вядро, і бутэлька — вашы?

— Нашы, а чые ж. Бутэлька ад тафялёўкі, а вядро з хермы. Нашы, толькі ў пясок укачаны, і вядро, і бутэлька. Я зараз вымыю — і будуць чыстыя...

Алімпіяда схапілася толькі рукамі за галаву... Кукаеў скочыў да яе цераз хату і закрычаў:

— Бацьку майго на салатопку!.. Беглі разам з Оршы з цюрмы... Кулі над галавой, як мухі... Бацька астаўся ляжаць... Угробілі, сволачы! Аж цяпер чую, як кулі над вухам свісталі... Цяпер яны пасвішчуць у другіх!.. Да сцяны!..— паказаў ён ёй, каб падымалася з ложка і станавілася да сцяны ад двара. Сам дастаў з кішані, са штаноў, доўгі наган, такі, як быў у «Джаніка».— Станавіся да сцяны... А я яшчэ сумніваўся. Да сцяны!

З-за стала вылез Мамка і захадзіў па хаце:

— Ну перабаршчыў... Перабаршчыў, мамка... Пускаць у расход? Адразу? Не дапытаўшы?

— Не даеш... Ну ладна. Не кулі, дык шампалы будуць

свістаць па с..цы... Раздзявайся! Сама. Што-што, а шампалы свістаць будуць... На ўсю вёску. Куля — што? Раздва — і ты ў рай. З куляй паспеем...

— Слухай, мамка, ранавата з шампаламі. Я яшчэ хачу выпіць. Што мы тут глынулі? У жываце толькі бурчыць...

Кукаеў стаяў да яго спіной; Мамка паклаў яму руку на плячо, а Бабцы паказаў, каб нясла на стол усё, што ёсць... Калі дурная на свет нарадзілася... Церабіся цяпер...

Закрычаў, прачнуўшыся ад гоману, Міфодзя; Алімпіяда, узяўшы яго на рукі, выцерла хустачкай пот з галавы, пасадзіла на калені і завязала яму хустку на галаву — збіралася выпраўляць з хаты на вуліцу. Пасля таго, як сазналася Бабка, здавалася, ужо нічога не ўратуе: Кукаеў можа застрэліць у любую мінуту.

Бабка прынясла з варыўні дзве цёмна-жоўтыя бутэлькі з наклейкамі — дзяржала, выставіўшы ўперад; на бутэльках, як перш на масле, здалёку былі відаць дробнянькія гусценькія кропелькі вады. Абышоўшы Кукаева, яна падала бутэлькі Далідчыку. Той схапіў іх і паднёс Кукаеву пад самыя вочы.

— Допель-кумель, мамка... Ты відзеў?.. У сельпо я завёз яго яшчэ ў тым годзе. Расхапілі...

Яны пабеглі за стол, як парасяты да карыта. Бутэльку Мамка доўга дзяржаў у руках: выціраў ад расы ражком абруса, падымаў над сталом, пакручваючы, тады пачаў калупаць відэльцамі карашок і хваліў Бабку на чым свет стаіць. Дзе ўзяла бутэлькі Бабка-Мойкаток, Алімпіяда не магла здагадацца: не помніла, каб дома яшчэ быў допелькумель. Можа, ад Міфодзевых хрэсьбін астаўся і стаяў аж дагэтуль як збавенне ад наглай смерці?..

— Ну, Бабка... Усё, што ёсць, на стол. Падчыстую...— Далідчык цяпер гаварыў толькі з Бабкай, нібы яе, Алімпіяды, і не было ў хаце, нібы яна ўжо была выбракавана на смерць — чакала толькі сваёй апошняй мінуты, адпушчанай ёй Кукаевым. А Бабка, чуючы за сабой віну, насіла на стол усё, што прасілі і чаго не прасілі: збегала яшчэ раз у гародчык па цыбулю; накроіла сала і паляндвіцы, прынясла сыр, яшчэ добра не адціснуты, з торбачкай; прастаквашу ў гладышы; наліла з боечкі ў місачку смятаны; прасілі расолу — і яна аднекуль нацадзіла яго, прынясла і паставіла глячок з краю на стол. За сталом зноў чвякалі, хрумсцелі, бразгалі, грукалі кулакамі, крычалі, ляпалі адзін аднаго па плячы, рагаталі, забыўшыся на тое, што рабілі сёння з раніцы і мінуту назад, аж па-

куль Кукаеў зноў не рыгнуў, выцершыся абрусом, і не сказаў Далідчыку:

— Значыць, ты мне яе не аддаеш?..

— Ну хто так робіць, мамка, як ты... Фэ... Калі ўжо на тое пайшло, то мы павінны далажыць па інстанцыі, а там — як загадаюць...

— Ды за гэта вот...— Кукаеў тарkануў рукой праз акно ў гародчык, за якім на вуліцы стаяла палутарка,— за ўкрывацельства... Мы можам усю вёску... Самі!.. Ёсць загад гебіскамісарыята...

— Ну, яны не ў вёсцы, а на заставе ўкрываліся. А што старая пазнала вёдры, дык яны былі ў гразі. Укачай усе вёдры ў гразь — будуць роўныя. А вот хай яна вымые яго, і спытайся ў яе... Старая магла абмыліцца...

— А круглая буханка хлеба? — Кукаеў падняў са стала ў руцэ адкроеную збоку буханку.— Абнаглелі. Гэты ж хлеб пахне, як і той...

— Хлеб, мамка, у вёсках усюды круглы і ўсюды хлебам пахне... А мы галодныя, як ваўкі... Які табе яшчэ пах. Слухай, зачыні акно. Ад дыму не дыхнуць. Што там, яшчэ ўсё лес гарыць?

Кукаеў яго не пачуў:

— Я ёй падкіну ў агонь саломы...

— Хочаш перабаршчыць, мамка... Ну дапусцім, я гавару — дапусцім... яна глядзела. А я табе скажу тады чаму: бо яны ў форме былі. Да формы яна прывыкла. Баялася, калі яны назад вернуцца, каб ад сваіх шампалоў не палучыць. Ты сам ведаеш, што і ў іх шампалы ёсць. Ну дык вот. Дзісціпліну яна любіць. Тую форму ўважала, цяпер нашу будзе ўважаць...

— Шампалы як пасвішчуць, дык забудзецца, якую яны і форму насілі... А там — загояцца раны каля м..ды — яшчэ раз пацягнем шампаламі. Ды за такое... Калі я яе жывой астаўлю, то пакуль мы будзем — будзем прыязджаць і лупіць скуру шампаламі... Паказваць нам сваю с..ку будзе. Паглядзім: загаілася — і далей. Ты гаворыш — форму паважаць будзе. Яна ж сядзіць у запечку і плюе на нас, да стала нават не падышла,— чорная рука з белай павязкай выпрасталася і ткнула кулаком у яе бок, як у зубы.— Той форме яна быка б з фермы на стол паклала, а нам — хрэн з рэдзькай... Дык ты даеш яе мне ў рукі ці не?

— Чакай, чакай, мамка. Будзе і бык. Ручаюся. Была загадчыкам фермы пры той форме, і цяпер яна, лічы, за-

гадчык пры нашай. Калгас разабралі, а малако яна збірае дома ў бітоны з усёй вёскі? Збірае. На сепаратар адпраўляе? Адпраўляе. Такіх людзей, што форму ўважаюць, цаніць трэба. Яны любой форме будуць служыць. Чэсныя людзі. З заўтрашняга дня каб усе калгасныя бітоны, не два, а ўсе, што ў цябе на паркане вісяць, добра, што з фермы дамоў прыцягнула, не дала раскрасці... каб былі поўныя, чуеш, баба? Поўныя малака і адвезены ў Белае на сепаратарны пункт. Сепаратарны пункт працуе, і сельсавет працуе. Толькі ён цяпер не сельсавет, а воласць. І старшыня воласці я — Далідчык!

Жоўты бліскучы «гарбуз» у яго на плячах круціўся і круціўся: Мамка быў п'яны. Яны ўсе ужо былі п'яныя. Закурылі. Дым ад папярос перамяшаўся з дымам з лесу і засініў хату.

— Што, я так і паеду, шомпал з вінтоўкі не дастаўшы? — у Кукаева ўпіраўся язык. Чырвань хлынула на шчокі, як скрывавіла.— А ты ведаеш, што ў мяне рукі свярбяць? П'вашума... За гэта нехта павінен адвеціць! — Кукаеў вылез з-за стала і пачаў бегаць па хаце.— Ану, выбірай... Ці да сцяны, ці раздзявайся пад шампалы!

Адбеглася ў парог Бабка-Мойкаток, загаласіў Міфодзя, усе падняліся з-за стала і выйшлі на хату. Кукаеў пасадзіў на галаву пілотку і вешаў на руку чорны пэйчык. Набег увесь крывёю, здавалася, і на хату пырскаў не слінай, а кроўю. Яна падумала, што ўжо ні Мамка, ні які чорт не паможа: прыціснула толькі да грудзей Міфодзю... Але Мамка раптам сказаў ціха:

— А пастухі?

— Што пастухі? — Кукаеў спопаразку адхінуўся аж да куфра. Аб века стукнулі жалезам жоўтыя карабіны.

— Ганялі па лесе скаціну кожны дзень і...

— Точна. Загадчык фермы і пастухі. Хто ў вёсцы пастух? — Кукаеў выставіў цяпер руку з пэйчыкам да Бабкі.

— Харбін, мой каток... Ганяў калгасную скаціну, цяпер, калі падзялілі, ад вёскі ганяе...

— Што яшчэ за кітаец? Жыды, кітайцы... Дзе жыве?

— Побач, мой каток... Сусед... Стары ўжо...

— Даставіць сюды старога!..— гаркнуў Кукаеў.— Пад шампалы! Думаеце, што так і выкруціцеся ад Кукаева? Не-е... Кукаеў знойдзе с..ку, якую можна пагладзіць шампаламі... Ану, кітайца сюды! Дастаць з-пад зямлі.

Харбіна прывёў у хату пад вінтоўкай тоўсценькі «хлопік», што быў у нашай ваеннай форме. Харбін якраз пры-

гнаў скаціну на адранак; памыўся, расчасаў мокрыя валасы па прабор; вусы на канцах — нітачкі; прыгнуты да шчок нос — чырвоны; раздзімаюцца, кратаючыся, ноздры — часта дыхае; вочы баязлівыя і цікаўныя; босыя ногі шырака расстаўлены ў парозе на падлогу; чорная саціна-вая рубашка з белымі гузікамі апушчана паверх картовых змятых штаноў да калень, пальцы з аднаго і з другога боку камячаць і камячаць падол...

— Хе-хе, ці чэрці. Госці, суседка...— Харбін пагладзіў пальцам вусы: любіў выпіць і выпіў бы разам з паліцаямі, каб далі.

З Харбінам у хату забег певень, яе, Алімпіядзін. Вялікі, з гарбатым чырвоным хвастом, з малінавым бледным, абвіслым на адзін бок грэбнем — стаў ззаду за нагамі ў Харбіна і, скрывіўшы галаву, глядзеў на хату адным вокам.

— Ну? — зноў склаў на грудзях рукі Кукаеў, апёршыся задам на куфар. Пэйчык расцягнуўся, звесіўся з рукі аж да падлогі.— Стань пасярод хаты і рукі па швах. І глядзі мне ў вочы!

На крык Кукаева з-пад ног у Харбіна выскачыў на сярэдзіну хаты певень, стаў, задзёр галаву, забалбатаў нешта да ўсіх, падбег да Кукаева і пліхнуў шырака з-пад хваста на чыстую жоўтую падлогу і на бліскучыя хромавыя боты. Сам шмыкнуў пад стол.

— Фу, брыдка... Убраць!..— зноў закрычаў Кукаеў.— Вы ў мяне самі на падлогу пусціце...

З мокрай анучай у руках да яго падбегла Бабка і нагнулася да ботаў і да падлогі.

— Выходзь на сярэдзіну хаты і рукі па швах!.. Каму сказаў?

Харбін ступіў і стаў пасярод хаты, як арыштант: босыя ногі, рубашка без дзягі, галава без шапкі. Яны стаялі цяпер адзін проці аднаго: Кукаеў і Харбін; паміж імі блішчэла мокрая пасля пеўня падлога — плямай.

— Ну расказвай, як лётчыкаў і жыдоў карміў са сваёй торбы...

— Ні відзіў, ні знаю...

— Тады хто, калі не ты? Яна? — Кукаеў паказаў пальцам на Алімпіяду.— А яна гаворыць — што ты...

— Ні відзіў, ні знаю...— Харбін склаў рукі, пляснуўшы, пасля развёў у бакі на ўсю хату: — Можа, хто з Жызнавы... З-за ракі...

— У Жызнаве за ракой не было калгаса... Не прызнаешся, значыць...

— Ні відзіў, ні знаю...

— Ганяў скаціну на заставу? Ганяў. Відзеў? Гм, там і дурны ўвідзеў бы. Булку хлеба свежую занёс? Занёс у торбе. Малаком паіў? Паіў, па вачах віджу. А нам не прыйшоў не заявіў! Што, загаду не чытаў на сцяне? Мы тут ездзім, загады вам клеім, а вы сабе корміце тых, лечыце і не заяўляеце...— Кукаеў гаварыў цяпер зусім ціха, шыпеў толькі як гадзюка.— Ну? Язык прысох? Дзе яшчэ каго відзеў? Па ўсім лесе ганяешся. Дзе яшчэ ваенныя? Гм? Дзе даўгынаўскія жыды, што паўцякалі за Вілію? Гм?

— Ні відзіў, ні знаю...— зноў сказаў Харбін, суха і ўпарта.

— Павешу...— Кукаеў усё яшчэ гаварыў ціха.— Чалавека я яшчэ не вешаў. Страляць — страляў, а вешаць — не. Ката толькі, як быў малы. Пусціў руччо, калі бяроза з ім адагнулася... Пусціш і ты... Сволач! — закрычаў ён раптам на ўсю хату. Забалбатаў са страху певень, растапырыў крылле і пусціўся ў парог у дзверы.— Во ты дык у мяне паскачыш пад шампаламі... Палюшыц! — крыкнуў ён маленькаму «клопіку».— Зэдаль на хату!

Палюшыц прыняў ад стала зэдаль і паставіў пасярод хаты над мокрай плямай.

— Раздзявайся і кладзіся... Кіт-таец...— Кукаеў паказаў рукой на зэдаль.— Здзявай рубашку і штаны... Нагала! І кладзіся пад шампалы, калі не хочаш быць павешаны...

— Ды я... Ды што... Ды я ні відзіў і ні знаю... За што вы мяне? — Харбін адразу асалавеў, пачаў прасіцца; голас у яго, цененькі і глухі, дрыжаў.

— Палюшыц!

Палюшыц падскочыў да Харбіна і адной рукой рвануў яго за грудзі. На падлогу пасыпаліся белыя гузікі. Чорная шырокая рубашка зляцела ў Харбіна з плеч цераз галаву разам з жоўтай, даўно не мытай палатнянай ніжняй кашуляй... Тады ён закрычаў, баронячыся:

— Што вы робіце, бандзіты! Што вы робіце?

— На зэдаль, Палюшыц!

Палюшыц падскочыў да Харбіна, схапіў яго ўпоперак, перагнуў, каб падняць і пакласці на зэдаль, але Харбін учапіўся ў падлогу босымі нагамі, як прырос да яе, і замахаў перад сабой рукамі, баронячыся. Палюшыц быў маладзей і дужэй — бразнуў яго на зэдаль, аж той пасу-

нуўся ножкамі па падлозе. Харбін спружыўся, выгнуўшы худыя белыя голыя плечы, і замахаў нагамі, адбіваючыся. Лучыў высокаму худому ў перавязаную руку, той войкнуў і адскочыў да печы. З бінта ў яго закапала на падлогу кроў.

— Прывязаць! Рушнік давай сюды, старая... Сташ, ляпу раскрыўшы...

Бабка-Мойкаток падбегла да судніка, сцягнула з цвічка доўгі ручнік і падала Кукаеву. Кукаеў злавіў ручніком Харбінаву галаву — накінуў, як пятлю,— прыціснуў да зэдля носам уніз і акруціў ручнік за шыю і за зэдаль, завязаўшы збоку вузел. Харбін захроп, замычаў, стаў тузацца і адбівацца нагамі.

— Давай яшчэ адзін рушнік, старая курва!..

— У куфры рушнікі, мой каток. А на куфры жалязякі...

Кукаеў зняў з куфра нямецкія карабіны і саставіў іх ля лавы пад акном. Даставаў з двух карабінаў шампалы, а Бабка даставала з куфра ручнік. Дастаўшы, падала яму — новенькі, чысценькі, з выбеленага кужалю, доўгі, з вышытымі шлякамі. Кукаеў шпурнуў ручнік Палюшыцу, і той сцяў Харбіна ў каленях і прыціснуў да зэдля.

— Я сказаў — нагала!..— Кукаеў зайшоў Харбіну ў ногі і тузануў за калошы картовых штаноў. Яго вылузнулі аж са споднікаў, і ён круціўся цяпер на зэдалі голы, як бізун. Белы, усыпаны рэдзенька сіва-чорнымі валасамі, пад жыватом аброслы, як купіна мохам, ён выгінаўся на зэдлі, што вуж,— крычаў і мацюкаўся.

— Рукі пад зэдлем звяжы... Дзягай з яго штаноў... А ты, Мамка, не замінай! Яе не даў — то цяпер не замінай...

Палюшыц перацяў Харбіна новым ручніком у каленях і завязаў хвасты пад зэдлем. Чырвоныя шлякі звіслі на падлогу над мокрай плямай.

— Малі бога, стары, што рушнікамі прывязалі... А то б калючым дротам, як тых! Я бандзіт? Гэта вы бандзіты! Бацьку на салатопку!..— Кукаеў крыкнуў і сякануў Харбіна шомпалам па самым белым месцы. Белае месца адразу пераэначылася накасяк сінім рубцом... Другі шомпал Кукаеў кінуў Палюшыцу, той злавіў яго на ляту, і яны ўдвух замахалі шампаламі над Харбінам, як цапамі ў пуні над разасланым снопам...

Харбін зароў немым голасам — так раве скаціна на бойні.

— Бальшавіцкія гніды... Яны бацьку на салатопку... Я вас усіх за яго! — Кукаеў аж падскокваў на падлозе.

Заплакаў Міфодзя. Алімпіяда сунула яго Бабцы ў рукі і паказала, каб тая бегла на двор — далей з воч.

— А сама сядзі і глядзі! Пакуль да цябе вочарадзь дойдзе...— Кукаеў увесь час сачыў за ёй.

Грукалі аб падлогу боты, як капыты; хакалі разяўленыя раты, што ў змораных сабак; чыркаў і чыркаў сярнічкай Далідчык — закурваў; свісталі піскнявым свістам, як худыя галодныя вераб'і, шампалы ў руках здаравіл і крычаў на ўсю хату, як толькі мог, Харбін, тузаючыся пад белымі ручнікамі. Яна сарвалася была з ложка, але яе схапіў за рукі Далідчык:

— Не вар'яцей. Калі б не ён — твая б гэта самая агнём гарэла...

Яна тады абышла іх, села на лаву ад вуліцы, адсунуўшы ў куток нямецкія карабіны; піхнула насцеж акно і абхапіла рукамі галаву.

— А людцы мае!.. А што ж гэта робіцца-а!..— завыла, як ваўчыца, на вачах у якой білі ваўчанят...

Белая павязка на чорным лакці ў Кукаева махнулася апошні раз і застыла ўнізе ля зэдля. Мокры, у чырвонай крыві, як доўгае шыла, якім колюць свіней, шомпал бразнуў на стол аб талеркі, скаціўся на край, пакінуўшы на белым абрусе чырвоныя плямы, і стукнуў аб падлогу. Са стала цурчом закапала на падлогу вада. Пасля яна згледзела, што капае не са стала, а з зэдля на падлогу — з-пад Харбіна...

— Ну, можа, цяпер успомніш, дзе ваенныя і дзе даўгынаўскія жыды? — Кукаеў, напіўшыся крыві, пацішэў.

Харбін стагнаў, даставаў рукамі, каб накрыць балючае месца, і, звязаны, не мог — рукі падалі на падлогу, як плёткі. Цела ў яго ўспухла сінімі парэзанымі рубцамі; з іх бліскучымі рагаламі сачылася кроў і капала на падлогу і на боты Кукаеву.

— Ну? — Кукаеў надзяваў на руку чорны пэйчык.— Дзе даўгынаўскія жыды?

Харбін пачаў мацюкацца на ўсю хату на чым свет стаіць — ён так нават ніколі не мацюкаўся на ферме на скаціну за ўсе гады, як яна, Алімпіяда, помніла.

— На нас у бога мадь? Бяры, Палюшыц, за ногі... Перакруцім. Не панімаеш? Спулём уверх... Рукі зноў пад зэдаль...

Лепш бы яны задушылі яго пад ручніком, пераварочваючы на спіну, чымся такое яму было выцерпець...

Павярнулі яны яго скаранька — раз-два; Харбін застагнаў, заплюшчыўшы вочы, закруціў галавой пад ручніком і выгнуўся жыватом уверх — не мог легчы на зэдаль балючым месцам.

— Г-га!..— Кукаеў сакануў чорным пэйчыкам Харбіну па выгнутым жываце; Харбін апусціўся на зэдаль, закрычаў, рвучы з-пад зэдля рукі, каб злавіць пэйчык; пасля Кукаеў пачаў сячы пэйчыкам па белай скуры ніжэй жывата па чорных валасах, лучаючы па самым слабым і балючым месцы ў мужчыны, якое ўсягды схавана ад вачэй.

Яна тады, спружыўшыся, піхнула ад сябе стол, каб вырвацца на хату, але забразджэлі толькі разбітыя аб падлогу талеркі і дарогу ёй заступіў Мамка, затросшы пальцам пад носам:

— Не лезь! Лоб гуза шукае!

Харбін выгінаўся, як на гарачым каменні, хрыпеў, ёрзаў, рваў з-пад зэдля рукі і калі, разарваўшы дзягу, вырваў іх, каб закрыць самае балючае месца,— сунуў пад жывот у чырвоную кроў... Кукаеў, як усё роўна спужаўшыся рук, апусціў пэйчык і палез у кішаню па папяросы.

— Я табе завязаў бы твой сцуль вузлом сваімі рукамі... Наўсягды... Падох бы, не змогшы высцацца... Але я рукі свае не буду пэцкаць. Ты і так пасля гэтага сцаць не зможаш...

— Перабаршчыў, мамка... Дзе ты так злаўчыўся? Ці не цябе там самога гэтак? — Далідчык падаў Кукаеву карабок сярнічак, падняўшы з падлогі.

— Вынесці...— паказаў Кукаеў рукой на Харбіна.— Пад плот у крапіву, хай там павые і пастогне... Запомніць і лётчыкаў і жыдоў...

Адпусціўшы ў вузлах ручнікі, высокі — адной рукой — і Палюшыц знялі з зэдля Харбіна і паняслі разам з ручнікамі на двор — нагамі ўперад. Пасля прыбеглі ў хату па карабіны.

— І ты запомні! — памахаў Кукаеў пэйчыкам у яе пад носам — чырвоны, распараны, як з лазні; у ямачках на шчоках зялёная пена, што ў каня ля цугляў.

— Запомню! — закрычала яна, падаўшыся ў парог, але ёй зноў загарадзіў дарогу Мамка:

— Не нарывайся!..

Нямецкія карабіны, што паляжалі на куфры і пастаялі ля лавы, бразгалі цяпер у кожнага на плячы, нават у

Мамкі. У Кукаева быў без шомпала — шомпал ляжаў пад сталом.

Яна пайшла на вуліцу за паліцаямі і за Мамкам, не баючыся.

На вуліцы яны адразу кінуліся да машыны — на Шлёму нават не глянулі. Ён, пачуўшы іх, устаў і апёрся паясніцай аб плот. Бліскучыя чорныя вочкі ў яго нанава загарэліся болем і страхам.

За руль сеў Палюшыц, Мамка забег з другога боку і ўлез у кабіну. Кукаеў і ранены ўкуліліся ў кузаў. Палутарка завялася адразу і рванула з месца, тузануўшы за сабой ад плота Шлёму. Выставіўшы ўперад звязаныя дротам рукі, Шлёма пабег вуліцай, хаваючыся ў пыле ад машыны і падымаючы нагамі пыл.

Яна тады — як хто таўхануў яе ззаду ў плечы — пабегла за палутаркай. Бегла і чула, што задыхаецца. З машыны пачалі страляць — уверх ці ў яе? — а яна ўсё бегла, як усё роўна ў кузаве павязлі не «Джаніка» з Башкірам, а яе Міфодзю... І пыл, і палутарка плылі ад яе ўсё далей і далей, хаваючыся за паваротам. Спатыкнуўшыся, яна ўпала пасярод вуліцы ў пясок і затраслася ад плачу. Пясок быў сухі і гарачы, і яго было поўна ўсюды, хоць захлыніся...

## 6

Нешта трэба было рабіць... Аднаго плачу было мала...

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Яна адразу расказала ўсё Мікалаю. Пераняла, адчыніўшы вароты, на вуліцы, узяла з рук абгарэлы каранёвы кошык, вяла да сенцаў і расказвала...

Мікалай прыйшоў з лесу аж вечарам — тушыў пажар. Змучаны, лоб і шчокі ў чорнай сажы, увесь буры, сагнуты. У чорнай картовай рубашцы прапалена левае рукаво ля лакця — рука высвечвала круглай белай аладкай. Абгарэлы каранёвы кошык з ядой прынёс назад.

У хату адразу не пайшоў: сеў пад варыўнёй на калодачцы, на якой усягды кляпаў касу, і доўга кашляў, выцягваючы з сябе апошнія духі і не могучы ніяк устаць, каб папіца з вядра, якое разам з чорнай кружкай і мылам стаяла на студні на зрубе. Яна і клікала яго, і вады ў кружку набрала — паліе на рукі,— але ён кашляў і кашляў, і яму белы свет быў не мілы. Яна тады паставіла

кружку на зруб і села ля яго на палена. Сонца на захадзе схавалася за стрэхі і аднекуль з прарэху між хат свяціла на Мікалая жоўтым агнём, і здавалася, што ён увесь у пажары...

Стрэл на заставе ён злавіў яшчэ ў Цянях — ішоў кладкамі на пасеку; палутаркі не пачуў — увесь час раўлі ў небе самалёты. На заставе стралялі, і ён, збегшы са слізкіх кладак, пусціўся туды пасекай — насустрач чорнаму дыму і жоўтаму агню. Стралялі доўга, да заставы было яшчэ далёка, і, калі ён прыбег, заставы ўжо не было: дагарала. Падумаў, што і стрэлу не чуваць — трашчаць толькі галавешкі. А можа, і не страляў ніхто, можа, рваліся ў агні патроны? Мала ад чаго магла пыхнуць у такую суш застава... Ён падбег да склепа — дзверы былі сарваны і адкінуты далёка на верас. У склепе было пуста і поўна дыму — тлеў нехаця на сырой падлозе подсціл — мох і яловыя лапкі. Ён бегаў па склепе і, згінаючыся, вадзіў рукой па падлозе, каб за што зачапіцца. Узварушаны ад рукі подсціл заняўся белым агнём, асвяціўшы склеп — у склепе было пуста і чадна; захлынешся. Ён з кошыкам на руцэ выбег наверх і згледзеў адразу на дарозе на жоўтым пяску свежы след ад машыны.

«Прыехалі і забралі. Нехта падаткнуў...»

Ён бег з кошыкам з горкі па следзе аж да стрэльбішча на пасецы. На стрэльбішчы ў твар дыхнула гарачым дымам, і ён згледзеў, як за гарбатым валам пяску пасеку ліжа белае полымя — гарыць між пнёў сухі сівец і верас. Падняўся вецер, быў якраз з заставы — агонь з ветрам і перакінуўся на пасеку.

Дабегшы стрэльбішчам да пясчанага вала, ён паставіў на яго кошык, выламаў дзве бярозавыя галіны і пачаў хвастаць жоўта-белы агонь, не пускаючы далей: за пасекай Ліпнікі — сасновы бор з падсочкай. Галіны ад агню адразу счарнелі, і ён сек імі па сухім абгарэлым верасе, як дротам па дроце. Вецер стаў густы, гарачы і горкі,— ён закашляўся, стаў на калені і схапіўся за грудзі: пачало тузаць. Калі яго адпусціла і ён падняўся на ногі — усё стрэльбішча трашчала ад агню. Агонь абышоў яго, Мікалая, і з ветрам займаў усю пасеку. Гарэў белы сівец і верас; гарэла старая кара на зямлі, усыпаная ладнымі кругленькімі, як вераб'іныя яйкі, кавалачкамі смалы; гарэлі нявыкарчаваныя сасновыя пні — чорным дымам і рудым полымем; у канцы пясчанага валу на пасецы занялася шліхта карчоў, якую не справіліся звязці да вайны на

смалакурку — яна трашчала і гудзела, ліжучы доўгім языком ціхую просінь над пасекай, і ад гэтага рабілася не па сабе, як усягды, калі чалавек адзін на адзін з агнём...

Пасека шумела, як ад дажджу, калі сячэ вылівень. Загарэўся на пясчаным вале сівец і каранёвы кошык. Падбегшы, Мікалай убачыў, што гарыць надзежнік, якім была накрыта круглая буханка свежага хлеба. Ён падумаў, што калі агонь з пасекі перакінецца цераз дарогу ў Ліпнікі — згарыць лес, што пасеку ўжо не ўратуеш, і пабег з кошыкам пад Ліпнікі на дарогу, якая вяла да Віліі і якой ездзілі на луг і ў Даўгынава. Дарога была вузенькая — глыбокі тор ад калёс, сівы пясок пасярод, парослы верасам і сіўцом, і дзве беленькія ад пяску сцежачкі пабапал тору, вытаптаныя босымі нагамі.

Агонь гнала наўкасяк да дарогі, і ён у самым канцы стрэльбішча, дзе нагіналася з ветрам да самай зямлі высокая, у пояс, чырвоная трава з белым пухам на патрэсканых белых стручках, як ішоў валком, так і пайшоў цераз дарогу, нібыта яе і не было. За дарогай затрашчаў сухі жоўты пад'ялевец, затлеўся мох і леташняя сухая дзермяза.

Ён схапіў тады з кошыка надзежнік і пачаў біць ім па высокай чырвонай траве ля дарогі, па верасе, па кунатых сасонках, зацярушаных сухім жоўтым шыллём — задыхаўся ад дыму, а ўсё хвастаў суравым доўгім надзежнікам па зямлі, пакуль не збіў агонь. Збіўшы, пачаў насіць прыгоршчамі сухі белы пясок з дарогі і сыпаць на мох, які тлеў і разгараўся...

Агонь у Ліпнікі не прайшоў; змяніўся вецер, і яго гнала цяпер з ветрам пасекай па той бок дарогі пад Бярэзавец — у балота.

І тады ён пабег наперад агню — у Бярэзавец. Зайшоўшыся ад кашлю, упаў на балоце тварам у высокі круглец і мокры мох і доўга піў, збіваючы кашаль, цёплую густую ваду. Чуў, як пахне з кошыка свежы хлеб, забіваючы пах дыму...

— Каб не хлеб... Задушыўся б у дыме...

— І ты гэта ўвесь час з кошыкам? Цэлы дзень? У дыме? Э-ха-ха... Не гэта прапала...

— Каб не хлеб... А так... Дыхну, пераб'ю дым...— ён памаўчаў, гледзячы пад сябе на калодачку.— Не кажы... Людзі прапалі, а кошык астаўся. Нешта мы не дагледзелі з табой. Трэба было іх забраць дамоў, у хлеве схаваць...

— Не хацелі. Ды і я людзей баялася. Да вайны ваў-

коў баялася, а ў вайну людзей стала баяцца. Можа, і не трэба было людзей баяцца... Што цяпер гаварыць. Як усё адно Міфодзю забралі і павязлі. Пуста як усюды. Бегаю цэлы дзень па двары, як сабака. Што чыніць, хоць ты сваёй мужчынскай галавой рашы...

— Каб быў старшыня...— сказаў ён і закашляўся, аж калодка пад ім закраталася.

— Гэта ж не да вайны, што старшыня мог усё рашаць за цябе...

— Можа, мужчын сабраць?

— Мужчыны вы, мужчыны... Гэта ж не воўк, што дагнаў ды вырваў з зубоў авечку... Тут двухногія звяры. Трэба было мне іх секачом... Схапіць у сенцах з карыта сякач і — секачом...

— Асмялела ты, Уліма. Які сякач?..

— Можна ж прасіць... Можна ж выкупіць. Людзі цяпер людзей выкупляюць...

— Уліма ты, Уліма... Яўрэі ў Даўгынаве за золата адкупляюцца... Дык жа трэба мець золата. А ты хоць відзела яго калі?..

— А пярсцёнак? Помніш, пярыла ў рацэ адзежу і знайшла. Падняла са дна.

— Што Кукаеву пярсцёнак... Нават калі мы свае галовы ў абмен дадзім — яму будзе мала.

— А што рабіць?

— Вайна, Уліма...

Ён закашляўся, і яна сціхла. Чуваць было, як у хаце гаворыць Бабка і ў хлеве на седале адзываюцца куры. Жоўты пук святла, які падаў з-за нейчай далёкай хаты, пачырванеў, споўз з Мікалая і ўпёрся ў варыўню — у дзверы.

— Пабягу ў Белае. Глядзець, як яны... і нічога не зрабіць? Вошы тады мяне заядуць. Пракляну сябе...

Ён маўчаў. Глядзеў толькі на яе са сваёй вечнай балючай шкадобай — сам жа ён нічога не зможа зрабіць са сваім кашлем. А што яна зробіць, пабегшы ззаду за палутаркай у Белае, кінуўшы і Міфодзю і яго, Мікалая? Сваю галаву панясе і аддасць. Але ў яе ў вачах стаяла палутарка, лётчыкі на палутарцы і дошкі, вузенькія, пасечаныя тапаром над іхнімі галовамі, у крыві... Яе тады падкінулі ўгару ногі, яна ўскочыла з палена і сказала:

— Заўтра ж нядзеля. У Белым у нядзелю базар. Ідуць людзі з усіх вёсак. Пайду і я... Додніцай выйду і пайду.

Пашукаю Шавенку. Ён жа доктар. Іх жа лячыць трэба. Куды яны іх павязлі, раненых?

Яна стаяла ля студні, абсыпаная ўся сівымі камарамі, і глядзела на Харбінаў двор, зацягнуты сінім дымам аж да акон у хаце.

— Харбін, Харбін... Ніколі такога, што зрабілі з ім, ніхто ў вёсцы не відзеў і маці не расказвала... Падала я яму адзежу, вынесшы з хаты на двор... Завяла дамоў... Лёг ён на жывот, шклянку гарэлкі папрасіў і заплюшчыў вочы... Прузына яго сляпая рукамі за сцяну дзержыцца, чуе ўсё, пытаецца, а мы маўчым, нічога не гаворым...

— Хто ж падаткнуў, Уліма?

— Мусіць, самі наехалі, не ведаючы. Акрамя Харбіна, ніхто не знаў, ён і мне толькі намякаў, не сазнаўся. Я здагадалася, а ён не сазнаўся. І пад іх жалезнымі пруткамі не сазнаўся. Так жа секлі, так жа секлі... І рушнікі, і куфар, і падлогу кроўю запырскалі... А тут і тафялёўкі няма, усю на заставу аднясла... Ідзі ў хату, памыешся над ражкай. Такі дым, я сама дыхаць не магу. Як вецер быў, дык яшчэ зганяў, а тут вісіць, як у мяшку...

Ён пайшоў з-пад варыўні ў хату, апіраючыся рукамі аб сцяну. «Як Харбін»,— думала яна, несучы за ім у сенцы абгарэлы каранёвы кошык. Паставіла яго ў сенцах на шафарню, чула ў дыме, як з яго пахне хлебам, але хлеб не хацела даставаць з кошыка і нясці ў хату, бо ён жа быў ахвяраваны ім — мучанікам... Ахвяраваны і не спажыты. Як падымецца рука кроіць нажом такі хлеб і есці? Накрыць бы яго рушніком, пакласці ў хаце на куце — хай ляжыць вечна...

Пакуль Мікалай адмыў рукі — яна доўга ліла яму ваду з вялікай чорнай кружкі над ражкай,— сшарэла. Запалілі лямпу над сталом, падкруціўшы язычок полымя на паўматылька, селі за стол і сядзелі. Яна з аднаго боку, ад гарода, ён — ад вуліцы, зачыніўшы акно. У хаце было ўжо чыста — са стала за паліцаямі прыбрала Бабка, памыла нават наскара падлогу — і было надта ціха і мякка ад лямпы, ад якой адвыклі пасля зімы. Звінела ў вушах, чыкалі ходзікі, і соп на ложку Міфодзя.

Вячэраць Мікалай адказаўся:

— Не, не буду... Не палезе...

Яна пачула, што змарылася за гэтыя пакутныя гадзіны сёння ў хаце так, як ніколі не марылася за работай ні на ферме ля скаціны, ні з сярпом у полі. Яны сядзелі і

маўчалі, нібыта ў хаце ляжаў нябожчык — на тым месцы, дзе ўдзень на зэдлі Харбін.

На дварэ ля студні бразгала вядром Бабка-Мойкаток — падаіла карову і цяпер, памыўшы вядро, вешала на паркан. У сенцах пасля ганяла катоў і грукала векам у шафарні — хавала, мусіць, хлеб з кошыка. Зайшоўшы ў хату, выцерла аб фартушок худзенькія рукі, пастаяла, гледзячы на іх, Алімпіяду і Мікалая, уздыхнула, пайшла і прыткнулася на ложку ля Міфодзі. Гладзіла яго па галаве, шэпчучы нешта сабе пад нос, можа, малітву, а можа, толькі тры словы: спі, мой каток... Тады, лёгенькая і сухенькая, палезла спрытна з пяколка на печ і зашорхала там сухой лучынай, як котка — лягла спаць. Выцягнула пасля свае худыя голыя ногі, і яны тырчалі з печы на хату, як днём у Харбіна з зэдля...

— Пайду раніцай...— сказала яна.— Не магу... І хай гараць іхнія бітоны і малако, сколькі я яго збіраць буду... Агнём хай усё ідзе...

Ён устаў, падышоў да яе і паклаў руку на плячо.

— З розумам трэба, Уліма. Ваўка дражнім... Змарылася ты. Ідзі кладзіся...

Яны зноў сціхлі: яна сядзела на лаве, ён стаяў і дзяржаў руку ў яе на плячы, халодную пасля вады, з густым пахам смалы з пажару. Маўчалі, не могучы нічым памагчы адно аднаму — можа, гэта было першы раз за ўсё іхняе жыццё. Рука яго сагрэлася на плячы і запахла потам, да якога яна прывыкла, як да самога Мікалая, як да ложка, дзе яны спалі, як да сваёй хаты. Яна пачула, што ўсё ў хаце робіцца такім, як было да вайны, што звініць у галаве і зліпаюцца вочы...

— Ідзі і ты кладзіся. Забаставаў, без вячэры...

Ён замахаў рукой, каб яна пра вячэру нават не напамінала, пайшоў і лёг у кутку на ложак, не раздзеўшыся — адвярнуўся да сцяны і сагнуў ногі ў каленях. Яна падышла і ўскінула яму на ногі пасцілку, як малому.

— Адчыні дзверцы ў коміне... Дым пацягнецца. Няма чым дыхаць...— сказаў ён праз кашаль і адразу захроп на ўсю хату дзяркатым мокрым храпам, як захлынаючыся.

«Наглытаўся дыму. Каму яны трэба цяпер гэтыя Ліпнікі? Немцам дастануцца...»

Агонь яна не тушыла, прыкруціла толькі кнот, пакінуўшы калючы жоўценькі язычок ля чорнай ад копаці палоскі на шкелцы — не хацела цемнаты,— і сама лягла не раздзяваючыся на ложку ў запечку, ашчапіўшы і пры-

цiснуўшы да жывата Мiфодзю. Накрычаўшыся, Мiфодзя заснаў, але быў гарачанькі — галоўка, як гарбузок на сонцы. Яна ляжала i як ўсё роўна пераліваласл ўся ў Міфодзю, сама рабілася дзіцём — засынала. Толькі вочы ніяк не магла заплюшчыць: звядзе — адразу адвальваецца ззаду борт у палутаркі і руды калючы дрот лезе аднекуль з дзірачкі ад балтоў, як гадзючка з нары, і пачынае акручвацца ля шыі ў «Джаніка» і Башкіра. Пасля Шлёма хапаецца апухлымі, як конскімі, губамі за чорную кружку з малаком...

Яна, мусіць, усё-такі заснула, бо, ускочыўшы з ложка ад цяжкага глухога выбуху — забразгалі ў вокнах шыбы і клямка ў дзвярах,— убачыла, што патух агонь у лямпе і ў хаце бела.

— Мікалай! — крыкнула яна. Але Мікалай хроп, аж захліпаўся. Зашастала пад Бабкай на печы лучына і сціхла. Алімпіяда тады падышла да акна ад гарода — гудзелі самалёты, над варыўнёй вісеў вялікі жоўта-белы месяц, састрыжаны з краёчку шчарбатымі авечымі нажніцамі. Ад месяца было відна, і яна ўбачыла, што са шкелкі ідзе дым — кончылася карасіна і гарэў кнот. Падышла і ўкруціла кнот — шкелка яшчэ была гарачая, і з яе пырснулі ўгару дробненькія іскры.

Сну не было ні ў адным воку. Яна тады пачала хадзіць па хаце — ад стала ў парог і назад, топчучы нагамі на жоўтай падлозе шэрую цемнату. Падыдзе да печы, пагледзіць на чорную вялікую кружку на дроце над вядром — кружка падымаецца ад вядра, як у чыіх руках, і з яе пачынае ліцца белае малако; завернецца і шлэпае босымі нагамі аж да стала, пакуль не ўпрэцца ў зэдаль. Упёршыся, адскоквае, як усё роўна ён яшчэ гарачы ад крыві, не астыў...

Аціхлі самалёты, не хроп Мікалай — свістаў толькі ў нос, як вецер зімой у плоце. Сон прапаў, як прападаў ён да вайны, калі на ферме аставалася нанач карова на сцеле. Ногі самі пацягнулі з хаты, і яна пайшла на двор, мацаючы ў цемнаце босымі нагамі парог у сенцах і халодны камень на двары ля парога.

Сыры, халодны ад начы пах сасновага дыму з лесу парадзеў; адстрыжаны месяц павышэў, і пад яго мяккім святлом вузкія пасмы туману на лагу пад лесам наліліся малаком, сцяжэлі. Недзе там як сухім чаротам чыркалі дзікія качкі. У вёсцы было ціха: пакрычала вёска адзін на аднаго з прыходам немцаў, калі дзяліла ферму і поле на

шнуры, а пасля паліцаяў прыціхла і стаілася; чакала набраўшыся цярпення, што ж будзе далей, добра ўжо ведаючы, што вораг цяпер не сусед, якому па нумарку выпаў лепшы шнур на лагу і карова на ферме, а нешта большае і горшае — чорны фрэнч, белая павязка на рукаве, нямецкі карабін з шомпалам і доўгі чорны, сплецены з сырамцу, бліскучы, як мокрая гадзюка на сонцы, бізун у валасатых руках. У вёсцы пакуль яшчэ нікога не расстралялі.

Вуха адразу злавіла не так цішыню ў вёсцы, як на ферме. Там нібыта ўсё вымерла — не грукалі рагамі аб сцяну і не ўздыхалі каровы, не стагналі натруджаныя за дзень коні, не чуваць было — не кашляў ля парніка з ліхтаром у руцэ Мікалай... Па сыпкім, халодным зверху і вільготным пяску на вуліцы — лягла раса — ногі самі, як з хаты, павялі дарогай ля плота на ферму, дарогай, якой хадзіла і днём і ноччу, і летам і ў зімы дзесяць гадоў запар... Кожны палец на босай назе ведаў ужо, дзе ляжыць на дарозе на ферму камень.

На ферме яна нікуды не пайшла — апёрлася лакцямі на высокі зруб ля студні і стаяла. Пасля яна яшчэ, можа, будзе плакаць па ферме, а сёння стаяла і маўчала. Глядзела на шэры ад месяца з нейкай вострай страхой свіран, на доўгі, расцягнуты па зямлі, як гармонік на ўсе рукі, кароўнік, прыціснуты зверху цяжкай, з усяго неба, малочнай цішынёй і страшны сваёй амярцвелай пустатой і схаладзелым ужо жылым духам: пахам сена, гною, малака і поту... Сівым, як недарэчным ваўком ля авечак, стаяў воддаль ля лесу парнік, такі патрэбны зімой — карміў і паіў.

Яна слухала, як капае ў студню аднекуль зверху вада, рэдка, сіратліва, з жаласным, як ад скрыпкі, рэхам, і думала, што засыпецца цяпер студня — каму яна будзе патрэбна,— прыціснецца і задушыцца чыстая, усягды халодная, прэсная, аж салодкая вада...

Пасля падумала, што вада не задушыцца — пойдзе глыбака ў зямлю і прарвецца недзе з зямной сілай... Пачула тады, што сама яна ўся раптам напаўняецца нечым жывым і гаючым, як вадой са студні, і яе падымае ўгару разам з зямлёй, зрубам, свірнам і кароўнікам. Высака — каб стаяў, не падымаўся разам з ёю свіран, яна была б ужо вышэй страхі...

Яна тады адарвала вочы ад халоднай чорнай яміны ў зрубе і зірнула ў неба. Угледзела адразу Млечны Шлях. Ён пачынаўся над лесам, над заставай, цягнуўся над фер-

май, над вёскай, як спрадвеку, і, сціснуты цемнатой, ішоў наўкасяк на поўдзень над іхняй хатай, дзе колькі гадоў кашляў і кашляў збалелы яе, хворы воін, якому нават не прыслалі павесткі з ваенкамата, як другім мужчынам у вёсцы, каб ён ваяваў на зямлі, баронячы ад гібелі і зямлю і Млечны Шлях...

З гарода ад вуліцы прынесла пах бульбеўніку, з лесу ад парніка пах гару — адзін гарчэй другога,— і ёй раптам самой зрабілася горка, пачула, што заплача цяпер не па ферме, а ад вялікай крыўды і вялікай несправядлівасці на зямлі, ад таго, што не можа тут нічога змяніць і нічым памагчы...

Абліты ціхім малаком, белы і ў зімнюю і ў летнюю ноч, Млечны Шлях раптам сцяўся ў вачах над вёскай і стаў падобны на белую палутарку, на якой ляжаць скручаныя белым калючым дротам людзі... Ззаду за белай палутаркай бег на белай шоўкавай прывязі белы чалавек...

За фермай у бок заставы ў прытухлым ноччу лясным пажары блізка завылі ваўкі — па сваёй спаленай хацелогаве ці, можа, па неўратаваных малых дзецях?

Яе аж страсанула ўсю ад холаду. Адхінуўшыся ад цёмнай халоднай студні, яна пусцілася з подбегам з фермы па мокрай мяккай траве, падымаючы высака халодныя ногі ад халоднай зямлі. Убегшы ў хату, у дзве рукі зачыніла за сабой дзверы і прыціснулася плячыма да чалесніка, шукаючы яшчэ ранішнюю цеплату, калі палілася ў печы.

На ложку, седзячы, кашляў Мікалай. Месяц свяціў яму пад ногі — рассыпаўся на падлозе калючым белым інеем...

Яна сышла якраз ад бяроз у лагчыну, калі пачула, што ў Белым страляюць. Шпокаюць часта, перастануць, тады зноў як дошкі дзе кідаюць з гары з хаты на двор на зямлю.

Дзе цяпер не страляюць... Яна як ішла па сцежачцы ля гонкага жыта, так і пайшла, не думаючы нават, чаму там, куды яна ідзе, страляюць. Яна пазнілася: прачнулася раніцай, убачыўшы ўжо ў акне ад двара сонца. Выбегла на двор, накінуўшы на плечы нажутку — Бабка-Мойкаток даіла карову. Яна крыкнула ёй, што позніцца, што пабяжыць на базар у Белае... Бабка правяла яе з вядром у руках аж да варот: усё ўпарадкуе, накорміць усіх і напоіць, а калі людзі панясуць на двор з усёй вёскі малако — пры-

ме, ведае як і што. І ў бітоны зліе, і калі па іх прыедуць, паможа ўзняць на калёсы.

— Усё зраблю, як ты рабіла...— сказала Бабка ёй ужо за вароты.

— Агнём яно няхай ідзе... малако гэта!..— крыкнула яна на ўсю вуліцу: і сабе, і Бабцы, і ўсёй вёсцы — і ўжо аж на грэблі падумала, што Бабка ўсё зробіць: і малако збярэ і адправіць — немцам гэта ці не немцам. Бабка была працавітая, як мурашка, і ўсягды нейкім сваім невядомым чуццём лавіла, што трэба было рабіць, і рабіла, хоць ёй ніхто і не загадваў.

Узышоўшы зноў на горку, яна згледзела царкву ў Белым, нейкую чыстую ад ранішняга сонца, як абмытую, і адтаго непатрэбную пасярод нізкіх шэрых хат, што рас-цягнуліся ўдоўж вуліцы ў адзін і ў другі бок, з познімі рэдкімі дымамі над комінамі і сінім туманам у канцы вуліцы ля лесу, над якім віселі халодныя белыя ціхія воблакі.

Страляць у Белым перасталі, але затое было выразна чуваць, як гамоняць людзі — гудзяць, як пчолы, высыпаўшы з вулля.

Калі людзі гамоняць — яны нешта гавораць. Яе пацягнула да людзей, і яна пабегла па сухім бруку, збіваючы ногі і не чуючы іх пад сабой. Бегла і думала, што, калі там немцы — яна ж нічога не нясе на продаж і купіць не купіць: выскачыла з дому з пустымі рукамі. Вуліца была шэрая і чыстая — каб чалавек,— нібы ўсіх з вёскі сагналі да царквы; яна бегла, баялася і бегла, не могучы ўжо ні стаць, ні вярнуцца назад. Так і не спаткаўшы ніводнага чалавека, яна дабегла да сельсавета — вялікай новай хаты з жоўтага яшчэ бярвення, з белымі акяніцамі, дзе цяпер была воласць і паліцыя. Утаропілася вачыма на двор, каб згледзець дзе старую чорную палутарку — палутаркі нідзе не было. Яна тады выкрыкнула адразу ўсё, з чым бегла сюды ўсе пяць вёрст з гакам:

— Дзе начальнік паліцыі? Дзе бандзіт?

Згледзела, што крычыць у сарваныя з крукоў дзверы — яны ляжалі нахіленыя на ганку і на іх, белых, былі відаць чорныя сляды. Ля ганка, ля самых яе ног, ляжаў на зялёнай мокрай ад расы траве чалавек у нашай форме з белай павязкай ля локця. Ляжаў нічком, скорчыўшыся, як ад жывата, і ўткнуўшыся тварам у паточаную жукамі цвёрдую сцежку. Без пілоткі — скамкалася побач, русыя валасы адкінуты; маленькі, тоўсценькі, як усё роўна Па-

люшыц, што быў учора ў хаце з Кукаевым... У выцягнутай руцэ на траве чарнеў моцна сцяты пальцамі замок з прабоем, нібыта чалавек хацеў схавацца ў замкнёным сельсавеце, вырваў з вушака жыўцом замок з прабоем і апрогся...

Яна ўбегла па белых дзвярах у сельсавет — пачула, што ступае па бітым шкле,— і закрычала зноў:

— Дзе начальнік паліцыі? Дзе палутарка?..— нібыта возьме яна гэту палутарку за павадок і павядзе з Белага дамоў, як цяля.

І ў сельсавеце, цяперашняй воласці, было пуста. На падлозе пад нагамі валяліся белыя лісткі паперы, спісаныя дробненька чырвоным чарнілам, што крывёю... Стол быў перакулены, шафы парасчыняны і вытрыбушаны ад папер — сініх, белых, жоўтых, пашкуматаных, залітых чарнілам. Вокны ад вуліцы былі выбіты, на падлозе блішчэла шкло, як лёд пад нагамі вясной на дарозе. Праз выбітыя вокны было чуваць, як ля царквы стогне вуліца.

Яна тады пабегла на вуліцу, дзе гаманілі людзі, і была недзе глыбака ў душы нейк рада нечаканай трывозе: а можа... Ужо згледзела ўперадзе ля царквы шэрую высокую, метры ў два, каменную агарожу, ля якой і збіраўся цяпер базар, як пачула, што пырскае на ногі вада. Спопаразку спынілася, глянула пад ногі, тады адразу падняла галаву на драўляны, пабелены зверху глінкай, як печ у хаце, сепаратарны пункт — малочную,— куды з усіх вёсак вазілі да вайны здаваць малако. Сепаратарны пункт стаяў воддаль ад дарогі, на горцы між дзікіх яблынь і вішань, і ад яго цяпер з гары цякло белае руччо, ёй, Алімпіядзе, на дарогу пад ногі. Белае малако не баялася чорнай зямлі, працёкшы вунь колькі па ёй, яно было ўсё адно белае, як з-пад каровы, толькі ў ім, набраўшыся, плавала дробненькая чорная пацярушка — насенне ад леташняй травы.

Яна звярнула з дарогі і пабегла ля ручча да сепаратарнага пункта. Белае руччо пашырэла, і яна бегла цяпер па малацэ, пліхаючы ім з-пад ног на траву — па малацэ, якое колькі гадоў запар даілі па кроплі, цадзілі ў бітоны, баючыся ўсягды разліць, і якое раніцай і вечарам вазілі сюды, на сепаратарны пункт, з фермы...

Ля ганка на зямлі валяліся бітоны, як трапіла: бокам, угару дном, з паадкрыванымі вечкамі... Высака на бітоне сядзеў кот, баючыся скочыць у глыбокую белую лужу.

Яна стала адразу пазнаваць бітоны. Яны на ферме ўсягды мяняліся: завязуць малако, здадуць у бітонах, а

назад вязуць другія, парожнія. Так на ферме перабывалі ўсе бітоны, якія цяпер ляжалі на зямлі: і той, з угнутым бокам, і той, бліскучы, высокі, які ніколі не трэба было доўга мыць, і той, і той...

Яна падняла высокі бліскучы бітон, паставіла на дно — з бітона з боку палілося на ногі малако. Бітон быў з дзіркай — прабіты. Яна пачала бегаць ад аднаго бітона да другога — усе бітоны былі прастрэлены. Яна больш не глядзела на іх — падышла да расчыненых насцеж дзвярэй у сепаратарны пункт і апёрлася рукамі аб вушакі. Так і стаяла якую мінуту, у сярэдзіну не пайшла. Убачыла перакулены і нейкі зусім маленькі сепаратар; на падлозе было па костачкі малака, у малацэ ляжалі пагнутыя бляхі, на якіх сушылі тварог на казеін. У нос дыхнула кіслай сыроваткай, загудзелі патрывожаныя мухі — узняліся роем з-пад ног і сціхлі. Яна пачула, што і ля царквы стала ціха, апаў людскі гоман і крычаў нехта адзін, як на пажары — камандаваў...

Яна бегла да царквы і думала, што ніяк не можа дабегчы: то воласць, то сепаратарны пункт — што ж гэта такое? Ля царквы было многа людзей — занялі дзядзінец ад каменнай агарожы да нардома і запрудзілі ўвесь прарэх аж да вуліцы. Ніколі ж не гаварылі, каб так многа людзей збіралася на базар... І мужчыны і бабы — з пустымі рукамі, не відаць было, каб што меліся прадаваць,— стаялі ў адным цесным натоўпе, паўрастаўшы ў зямлю. Яна падумала, што людзі маўчаць, бо гаворыць адзін чалавек да ўсіх... Маўчаць, каб пачуць, не прапусціць ніводнага слова...

— Товарищи!.. Ни одного литра молока!.. Ни одного килограмма хлеба!..

Яна ўбачыла мужчыну — стаяў высака, у некага, мусіць, на калёсах, і голас яго грукаў рэхам то ў каменную сцяну, то ў нардом. Мужчына быў высокі, шырокі ў плячах, без кепкі, з чорнымі коратка падстрыжаныміваласамі; на плячах у яго вісела доўгая з сівога самаробнага сукна бурка з башлыкам, якія насілі мужчыны ў Жызнаве і ў Даўгынаве. Мужчын у такіх сівых бурках было многа: і сярод грумады, і ля нардома, і за тым, што гаворыць з калёс — папрыхіналіся да каменнай агарожы. І ў руках у іх — вінтоўкі...

Яна толькі цяпер здагадалася, чаму ляжаў ля воласці на зямлі, падкорчыўшы пад сябе ногі, паліцай з прабоем і замком у руцэ, чаму ў воласці выламаны дзверы і пабіты

вокны і чаму на сепаратарным пункце папрастрэльваны бітоны... Здагадаўшыся, не слухала, што гаворыць чалавек на калёсах, рванулася ўперад да яго, але ёй не далі — іголцы не ўціснуцца... Тады яна стала крычаць: пусціце! і біць пярэдніх кулакамі па плячах. Праціснуўшыся да каменнай агарожы — ля яе было лягчэй пралезці,— яна, задыханая, спацелая, з растрэпанымі валасамі — раскруцілася з куклы каса — ухапілася нарэшце за ляжэйку ў калёсах, на якіх гаварыў мужчына ў сівой бурцы, і закрычала:

— Дзе начальнік паліцыі?

Яе ніхто не пачуў.

— Товарищи!.. И так будет с каждым, кто... Красная Армия вернётся!..

— Дзе начальнік паліцыі? — яна тады закрычала на ўвесь дзядзінец і схапіла абедзвюма рукамі за рукаво сівой буркі.— Дзе начальнік паліцыі? Дзе палутарка? — тузанула за рукаво і сцягнула ўсю бурку на калёсы. Пад буркай у чалавека была ваенная камсастаўская гімнасцёрка, шырокі рэмень і кубікі ў пятліцах ля шыі — бліснулі на сонцы чырвонымі спелымі вішнямі.

«Нашы... Пераадзеліся і прыйшлі на базар, як заваднікі ўсё роўна...»

— Дзе начальнік паліцыі?

— А ты кто такая? — спытаўся ў яе ваенны без буркі, усё яшчэ стоячы на калёсах.

— Лётчыкаў... Двух лётчыкаў раненых учора забралі з заставы... Лётчыкі на заставе раненыя былі... Забралі... Кукаеў з Мамкам... Забралі ўчора і павязлі... Сюды, у Белае... Лётчыкаў... Двоечка... Дзе Кукаеў? Дзе лётчыкі?..

Ваенны нічога не знаў. І тады загаварыла сцятая маўчаннем грумада:

— Паўднём учора прывязлі...

— Траіх... На палутарцы...

— Паўднём прывязлі, а вечарам і павязлі... Траіх...

— У Плешчаніцы... Кукаеў павёз і Мамка...

— А каму яны сказалі, што ў Плешчаніцы?

— А куды ад нас павязеш? Дарога ад нас адна — на віселіцу... Іх павязлі, пасля гэтага — нас...

Грумада загудзела, закраталася, замахала рукамі... Тады ваенны сказаў з калёс:

— Опоздали, мать... А Кукаев от нас не уйдет... Получит пулю!..

Лопнуў недзе ззаду стрэл, нібы певень шырокім крыл-

лем па зямлі, і ўгару вышэй царквы падскочыла чырвоная ракета. Ад яе зачырванеліся крыжы на чорных, паржавелых бляшаных купалах і край цяжкага круглага жоўтага туляга ў небе. Мужчыны ў сівых бурках і доўгіх сівых паддзеўках, з суконнымі адмысловымі кепкамі на галовах у адзін міг сабраліся ля нардома. Іх было многа, чалавек дваццаць, і ўсе з вінтоўкамі ў руках. Ваенны без буркі ўсё яшчэ стаяў на калёсах, і яна закрычала яму:

— Да Плешчаніц недалёка... Да Плешчаніц ісці ўсяго паўдня... Разбіце Плешчаніцы! Там жа лётчыкі!

— Дойдет, мать, очередь и до них!..— ваенны саскочыў з калёс, ускінуў на плечы бурку і пачаў праз грумаду праціскацца да нардома. Яна праціскалася за ім, спяшаючыся, каб не згубіць з воч — каго ж другога тады прасіць, яна ж нікога другога не знае,— і крычала яму наўздагон:

— Разбіце Плешчаніцы! Лётчыкі, можа, яшчэ жывыя...

Мужчыны ў сівых бурках і доўгіх паддзеўках адразу пайшлі ад нардома, дзержачы вінтоўкі ў руках — ніводзін не павесіў на плячо. Яны спусціліся з дзядзінца на брукаваную вуліцу, і яна ўбачыла, што пасярод іх ідуць чэцвера ў чорным — павялі з сабой паліцыю.

Яна аддзялілася адна ад грумады і пайшла за імі. Ззаду стагнаў ад людскога гоману дзядзінец, як рака ў паводку на згон зімы, а яна ішла і ішла пасярод вуліцы па бруку, даганяючы ваенных у сівых бурках. Не помніла, ці крычала ім наўздагон, ці толькі ў сваёй галаве прасіла іх: разбіце Плешчаніцы...

Кончыўся брук. Ваенныя ў сівых бурках пайшлі шыбчэй, падымаючы на дарозе сівы пыл... Яна тады пабегла за імі. І чым шыбчэй яна бегла, тым яны ўсё больш далелі і далелі ўперадзе...

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Спыніліся яны недзе далёка ад яе, высака-высака на гары — пад Млечным Шляхам... Зверху з Млечнага Шляху пасыпаўся халодны густы іней. Праз іней яна бачыла іхнія галовы і нікога не пазнавала... На адну толькі Сцяпанаўну не сыпецца зверху іней. Стаіць тая воддаль усіх на гары, шырокая, сівая, суровая — як смерць... Асталася Сцяпанаўна, не згарэла ў вайну з сям'ёй і белым яе попелам не пасыпалі Млечны Шлях...

— Колькі гэта яна была без памяці, яе макаўку?..

Скрыпіць недзе далёка знаёмы голас. Хрумшчыць, падаючы зверху, з Млечнага Шляху, іней... Кідае ў стужу, як ніколі не кідала за ўсе пражытыя зімы. І не хочацца быць тут, дзе белыя людзі і скрыпучы белы іней... І хочацца, хочацца туды, назад, дзе застава з лётчыкамі, дзе Мікалай, дзе Млечны Шлях у небе — белая палутарка з белым чалавекам на белай прывязі...

Але калоціць і калоціць ад калючага інею і не дае спакойна вярнуцца туды, дзе Мікалай і раненыя лётчыкі...

— Ну — усё. Жыве чалавек, яго макаўку...

Каб хоць халодны голас не скрыпеў... А ён скрыпіць і скрыпіць. І пачынаюць гаманіць людзі — зноў крычаць на дзядзінцы ў Белым ля высокай каменнай агарожы.

Ваенныя далёка на гары страслі з плячэй сівыя буркі — белы іней... Цяпер яны былі ў белых халатах і варочаліся назад — ішлі да яе...

## *Частка чацвёртая*

# Сын

### 1

На шэрай старой страсе з патрэсканай гонтай, збоку ля адбітага чырвонага коміна, ляжаў вялікі белы, як цынкавае вядро з адагнутымі краямі, вакзальны рэпрадуктар — добра быў відаць ад гасцініцы. Другі край шэрай страхі хаваўся за зялёнымі, бліскучымі ад расы пасля начы ліпамі. Міфодзя не згледзеў бы адразу рэпрадуктара, калі б той, зашыпеўшы і прадзьмуўшыся, не заныў на ўсе Плешчаніцы заспаным жаночым голасам:

— Вадзіцель Бондар... Врэмя адпраўляцца ў рэйс. Вадзіцель Бондар...

Загрымеў побач вялікі новы аўтобус з задымленым і прыцярушаным чырвоным бокам, з шырокімі чыстымі вокнамі — глядзі на ўвесь свет, з белай трафарэткай у чорныя старасвецкія літары «Мінск — Полацк» на лабатым шкле, і зноў сталі клікаць Бондара.

Міфодзя вылез з полацкага аўтобуса ля гасцініцы ў Плешчаніцах — аўтобус на станцыю не стаў заязджацца — і з маленькім карычневым чамаданчыкам пайшоў на аўтобусны вакзал цераз парк, згубіўшы з вачэй белы рэпрадуктар на страсе. На дарожцы між густой травы, прымятай, закіданай акуркамі і паплюсканымі пустымі бліскучымі пачкамі ад цыгарэт, было глыбака пяску, і ў ім кешкаліся смелыя, некалі райцэнтраўскія куры — цяпер раённы цэнтр у другім, суседнім гарадскім пасёлку, бліжэй да Мінска. Па стаптанай траве хадзіла белая старая каза з ладным вымем і, зморшчыўшы пысу, нюхала бліскучыя пачкі. На раней сініх, цяпер пааскоблеваных, з выгнутымі дугой спінкамі лавачках і ў вільготным цяньку ля іх на траве сядзелі і ляжалі ўпокат мужчыны ў картовых пінжаках з абвіслымі лацканамі, як вушы ў сабак, і клятчастых рубашках, у кепках на самай патыліцы; бабы ў хустках пад падбародак і дзеці — дзяўчаткі, русявенькія, з доўгімі косамі і сінімі вачыма — як лён зацвіў пад ліпамі. І ўсе гаманілі, краталіся каля вандзэлкаў, карзін, пластмасавых белых вёдзер, чырвоных і сініх сумак. І нечым блізкім павеяла ад гэтага простага стракатага гармідару, што Міфодзю здалося: ён ужо дома, у Крамянцы.

Так, бывала, з туманам, з расой прыплыве раптам вечарам на палігон свой куток з Кур'янаўскіх Садоў ці з Жоўтага Берага... Доўга тады глядзіш у той бок, дзе заходзіць вялікае чырвонае ціхае сонца — здаецца, за хаты ў тваёй далёкай вёсцы...

Начныя стрэльбы на палігоне асталіся ззаду. З капітанам Варанковым, высокім, у сажань, крутыя плечы ў паўтара аршына, на плячах шырокая плашч-палатка — накрыеш стог сена; з яго, Міфодзевым, узводам; з Сыздыкавым і Ваганавым — камандзірамі гармат; з бясконцым, не скінуць вокам, палігонам, парослым дробненькімі хілымі сасонкамі, верасам, ягаднікам, мохам у імшарах, дзе, расплядзіўшыся, ляжалі адна ля адной змеі, скручаныя ў шэрыя цяжкія круглыя камякі — мароз па скуры... З далёкай, на самым гарызонце, белай вежай — афарбаваным макетам царквы, які слаба відаць нават у бінокль з НП і па якім трэба вясці агонь з закрытай пазіцыі... З пылам, які падымаецца дарогай ззаду за цягачамі і гаўбіцамі і лезе ў кабіну, пад брызент у кузаў да салдат — не дыхнуць, хоць захлыніся... З густой, сіняй ад неба ноччу, калі ўперадзе далёка гарадзь складзеныя салдатамі лаўжы, скупа падсвечваючы «танкі», па якіх трэба біць прамой наводкай; калі недзе адразу, як ляжа густая цемната на палігон, прапяюць сваю песню «кацюшы», калі здрыганецца ўперадзе зямля, займецца чырвоным агнём і будзе гарэць у тым баку ўсю ноч... Здаецца тады, што ты на мёртвай зямлі, дзе мёртвыя далёкія белыя цэрквы, мёртвы лес, мёртвыя пні, ягаднік, змеі на зямлі і рэдкія спалоханыя дробненькія птушкі; дзе рвуцца снарады і днём і ноччу, рыючы зямлю, палячы яе агнём і секучы асколкамі...

Стаіш на агнявой, адрытай у поўны профіль, побач цёмныя гаўбіцы з шырока расстаўленымі ў бакі — аж здаецца, раздзяруцца зараз надвае — цяжкімі станінамі, з паднятымі высака ўгару кароткімі тупымі чорнымі стваламі, з якіх пасля твайго трывожнага крыку «Первое!..» шугае агонь у густую чорную ноч. І, бывае, здасца раптам, што ты не снарад пасылаеш у далёкую цэль, а падаеш у начное чорнае неба на другія далёкія планеты толькі вогненны знак, каб цябе згледзелі — што ты ёсць, што ты жывеш у Сусвеце...

Водпуск па тэлеграме яму далі толькі праз дзень — даў капітан Варанкоў, можа, таму, што прайшоў усю вайну і ведае, што такое смерць. Другі б хто ў такі час не даў...

Дамоў з часці было не так далёка, як нязручна — на самалёт не сядзеш, не лётае; поезд трэба было чакаць дзесяць гадзін. Зручней за ўсё аказаліся аўтобусы — гэтыя вечныя рабы беларускіх калдобiністых палявых дарог, вузкіх старых шэрых брукаванак з рабінавымі прысадамі паабапал — ляціш у бясконцую жоўтую ягадную даль — і, нарэшце — новых асфальтаваных, бліскучых пад сонцам шасэ з ціхім шэптам пад коламі і свістам ветру за паднятым шклом.

Аўтобусы ён мяняў у дарозе аж чатыры і на ўсе — відаць, ёсць нехта добры не толькі ў часці, а і на небе — якраз паспяваў. Толькі ў аўтобусе ён ніяк не мог сядзець: ну, усё, дабег, справіўся і білет купіць, і дзверцы хлопнулі за табой, не перад носам — пачакалі, а аблакціўся на чамаданчык на каленях, і пачынае ныць усярэдзіне, спачатку памалу, далёкім напамінкам, тады грудзі залівае адна гарачыня, прыедзеш і не застанеш... Гарачыня душыла палыном... Ратавала толькі тое, што трэба было праз які час бегчы з аднаго аўтобуса на другі — спяшыць на вакзал у касу; купіўшы білет, зноў бегчы, тоўхаць людзей, пытацца, дзе ж ён, той аўтобус, а яго нідзе няма, не прыйшоў яшчэ з гаража. І ў кожным аўтобусе, варта было заплюшчыць вочы, стаяла яна, маці,— чамусьці ў дзвярах. У пяньковай хустцы на галаве, з-пад якой на шчокі выехалі пасівелыя пасмачкі валасоў, у фуфайцы, у доўгай шырокай спадніцы, з вядром у руках — ідзе ад студні, засіліўшы вады,— і з такой балючай усмешкай у вачах, што аж іголкай у душу кальне.

І ў полацкім аўтобусе яна стаяла ў дзвярах з вядром у руцэ, і выйшла з аўтобуса ў яго наперадзе, зbrowsershoot зніклы з воч на бруку ля гасцініцы сярод людзей — як усё роўна пайшла цераз парк да старой бальніцы, а ён ідзе за ёю і не можа дагнаць.

Перш аўтобусны вакзал — гады два назад — стаяў праз вуліцу, злева на бугры — на рассунутых пасля вайны печышчах. Дашчаты, аблінялы — відаць былі ўсе фарбы, якімі хавалі яго ад дажджу і гнілі; побач, пад маладымі тапалькамі ў школьным скверы, такі ж дашчаты буфет, пад колер рэдкага неба: «Голубой Дунай» — і бегчы далёка не трэба.

За старым вакзалам па адзін і па другі бок брукаванай высокай вузкай вуліцы стаялі тады, згрудзіўшыся, дробненькія хаткі з шэрымі гонтавымі стрэхамі, з нізенькімі вокнамі — машыны заляпвалі гразёю шыбы... Цяпер іх не

было. Старыя дробненькія хаткі разам з дашчатым вакзалам як усё роўна хто ссунуў з зямлі ў прорву і засыпаў — бо дзе магло дзецца гэтулькі старога лому. На месцы дашчатага вакзала цяпер стаяў белы будынак гарвыканкома на тры паверхі, абсаджаны ладнымі маладымі таполькамі — дрыжалі бліскучым белым лісцем ад ветру. На шырокай і доўгай, аж да цэнтральнай вуліцы, заасфальтаванай плошчы воддаль белага цаглянага гарвыканкома на чырвоным гранітным пастаменце стаяў у рост плячысты Ленін — знаёмы воблік пазнаеш здалёку і днём і ноччу,— трымаўся правай рукой за лацкан пінжака на грудзях і глядзеў у сінюю даль над гарадком.

Толькі цяпер Міфодзя пазнаў, што вялікі бліскучы рэпрадуктар ляжаў на страсе ранейшай амбулаторыі. Тут перш была раённая бальніца: ззаду за амбулаторыяй на дварэ стаяў доўгі стары прыземісты будынак на трынаццаць белых пафарбаваных акон ад вуліцы. Што трынаццаць акон — запомнілася да смерці...

Ён, мінуўшы аўтобусы: сінія, жоўтыя, блакітныя, з чырвонай паласой збоку, з парасчынянымі дзверцамі, парожнія, набітыя людзьмі, прабег ля новага вакзала пад бліскучым рэпрадуктарам аж да бальніцы. Бальніцы не было. На яе месцы па жоўтым разраўняным пяску расла рэдзенькая высокая зялёная травіца і цвілі маладым жоўтым цветам позьнія адуванчыкі. Пад імі блішчэла бітае шкло.

Ён вярнуўся назад — ішоў каля расчыненых насцеж вокнаў у былой амбулаторыі. З акон чуваць быў несціханы гоман і смех; там, усярэдзіне, было цесна, людзі варушыліся, што пчолы ў вуллі — жоўтае з чорным,— і бразгалі несціхана касавыя апараты, але ўсё гэта адсоўвалася недзе ўбок, саступаючы месца памяці, халоднай і чыстай, як лёд на мелкай хуткай рацэ. І расчыненыя вокны з пафарбаванымі белымі акяніцамі, здалося, былі засыпаны белым чыстым снегам. Бліскучы рэпрадуктар ляжаў, як вялікі кавалак круглага лёду з вядра...

Ён узбег на ганак і ўтаропіўся ў расчыненыя дзверы, стаяў, гледзячы туды, у шэры мітуслівы морак, куды дваццаць гадоў назад зімою, сёмага лютага, прывёзшы з дому на санях, адвёў пад руку бацьку... Апошні раз...

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Пачаліся лютаўскія маразы, хапілі пад трыццаць градусаў. Днём — чыстае ядранае неба, ціхі іней на дрэвах,

як вата; вечарам на захадзе за ракой вялікае чырвонае сонца; ноччу трашчаць вуглы, страляе ў платах, зоркі ў небе робяцца яркія, ніжэюць, свецяць над самай страхой; не дыхнуць — за грудзі хапае халодным агнём...

На леспрамгасаўскі ўчастак бацька вечарам не пайшоў — запаленне.

Леспрамгасаўскі ўчастак ля Крамянца аснаваўся адразу пасля вайны. За год у лесе, за якую паўвярсту ад фермы, на дзялянцы вырас вялікі доўгі будынак са свежага чэсанага дрэва: кантора, магазін, інтэрнат для возчыкаў і рэзчыкаў; воддаль лесапілка з пілой-цыркуляркай: рэзалі шпалы і дошкі; кузня, лазенька, сушылка і канюшня — вялікая, коней на пяцьдзесят. Прыгналі іх адразу аднекуль — высокіх, цяжкіх, сытых, з кляймамі на клубах. Панаехала рабочых — занялі кантору, пасталі ў вёсках па хатах. Зазвінелі ў Ліпніках пілы, загрукалі аб мерзлую зямлю цяжкія старыя сосны, падымаючы ўгару снежны пыл, перамешаны з зялёнымі крохкімі ад марозу сасновымі іголкамі...

Участак трэба было вартаваць па начах, і вартаваць яго пайшоў бацька — адпусцілі на год з калгаса. Ён і хадзіў ужо скора год кожную ноч на ўчастак, кашляючы без аддухі і днём і ноччу, і летам і зімой... Доўга адзяваецца звечара, пакуль выйдзе з хаты; раніцай, прыйшоўшы дамоў, зноў доўга раздзяваецца — сцягвае старыя апоркі адзін з аднаго. Скора за яго вартаваць участак пайшоў ён, Міфодзя. Спачатку летам — добра было спаць у мяккім сене пад падстрэшкам ля канюшні, слухаць, як стогнуць у праварынах коні, крычаць над участкам совы і выюць у Лупніках ваўкі. Пасля пайшоў і зімой — выскокваў з цёплай натопленай канторы, аббягаў кузню, лесапілку, сушылку, праходзіў праз канюшню з ліхтаром у руках — конюхі прасілі глядзець, каб не заваліўся конь; вярнуўшыся з марозу, грэўся ля грубкі, расчыняў шафу, што стаяла ў кутку за сталом, і ўключаў «Родину» — прыёмнік на батарэях. Круціў чорную бліскучую ручку і слухаў цэлую ноч і музыку з усяго свету, і незразумелыя чужыя словы, якія сыпаліся з цёмнай шафы з-пад зялёненькага вочка-лямпачкі.

Цяпер, калі захварэў бацька, на ўчастак ён стаў хадзіць кожную ноч.

Бацьку спачатку лячылі самі: маці паставіла банькі; вечарам — якраз заходзіла вялікае чырвонае сонца ў кан-

цы вёскі — Міфодзя збегаў, правальваючыся ў гурбы аж за калені і набіраючы снегу ў халяўкі вялікіх кірзавых бацькавых чаравік, за раку на балота пад Кур'янаўскія Сады — наламаў маліннíку: цэлы ахапак белых тоўстых дудак, якія пахлі малінай, як летам. Бацька піў адвар, кашляў несціхана на ўсю хату, заходзячыся і сінеючы; ноччу ляжаў гарачы, не падступіцца, і блузніў. Маці клала яму руку на лоб і гаварыла: сорак. Адыходзілася пасля да акна, клала дзве свае шырокія натруджаныя рукі далонямі на высокі пад раскошнай нажуткай жывот, глядзела ў гарод на снег некуды за раку і плакала. Ціха, каб не чулі — вочы ў слязах былі вялікія-вялікія, і ў іх Міфодзя ў свае якія дзесяць з гакам дзіцячых гадоў лавіў вялікую крыўду на ўвесь свет. Яму самому маркоцілася, але ён яшчэ не мог улавіць, ад чаго. Усе ж дома, Бабкі толькі няма — памёрла яшчэ тры гады назад. А што бацька хварэе — то што гэта — першыня?

Назаўтра сабраліся ехаць у Белае па Барысаву. Яноўскі, старшыня, каня «не адпусціў», і маці прыйшла дамоў ні з чым: усе коні былі на вывазцы. Маці пайшла на ўчастак. Каня даў Жук, леспрамгасаўскі фуражыр з участка. Ён заўсёды з конюхамі вазіў з загумення са складу на ўчастак у мяхах ячмень — коням. Маці прыгнала з участка на двор да ганка дарашаватага невялічкага круглага ў клубах канька, запрэжанага ў вазок.

Маці і прывязла ў вазку на двор пад вечар Барысаву. Барысава — высокая, тонкая і стройная маладая белавалосая жанчына ў пальто — зайшла ў хату, паставіла на куфар чорны партфель, зняла з плячэй пальто, паклала побач з партфелем, пагрэла аб чалеснік рукі, выцерла іх пасля аб вату са спіртам, дастала з партфеля трубку і сказала, каб раскрылі на ложку бацьку. Бацька стагнаў і кашляў; яго пасадзілі, задзёрлі ззаду на плячах аж да галавы, на пасівелыя густыя валасы, рубашку разам з палатнянай ніжняй кашуляй. Барысава яго доўга і не слухала. Сказала адразу палажыць і накрыць.

— Пневмония...— яна паднялася з ложка, на які была прысела, слухаючы бацьку, пайшла ў парог, прыклала да чалесніка, высака, аж ля коміна рукі — далонямі — і прыхінулася да іх шчакой. І гаварыла адтуль, з чалесніка.— Крупозное воспаление легких... Двустороннее. Банки хорошо, но ими не поможешь. Пенициллин нужно колоть. Шесть раз в сутки. Вы понимаете, о чем я говорю? Чё? А это значит, что его надо ложить в больницу в Пле-

щеницах. И немедленно... У нас, как вы знаете, только амбулатория... И пенициллина на сегодняшний день нет...

— Як жа так? — маці пачала бегаць па хаце.— Як жа яго туды?.. У такую даль... Па такім марозе... Каб жа хоць машыны леспрамгасаўскія хадзілі. А то і машыны не ходзяць, так занесла. Гурбы вышэй стрэх... Можа, можна пачакаць? Можа, снег пераціхне? Дарогу расчысцяць... Машыны пойдуць...

— Вы меня не поняли...— Барысава гаварыла ціха і спакойна. Хоць бы яна крычала, страшыла, а то стаіць, грэецца і чуць языком варочае.— Я сказала — немедленно. Я от вас ничего не прячу. У него много сопутствующего. Чем он еще болел?

— У яго лёгкія... Адкрыліся былі да вайны. Але залячылі. У санаторыі быў. А ў вайну... Самі ведаеце... Зноў адкрыліся. А цяпер, такі голад за ўсе гэтыя гады перанёсшы...

— Надо немедленно в больницу. Больше ничем помочь не могу. Сейчас я вам напишу направление...— яна пацёрла рукі, адняўшы іх ад чалесніка, падышла да куфра, нагнулася і напісала «направление». Накінула хуценька на плечы пальто і ўзяла чорны партфель у руку.

— Я готова. Только я бы советовала вам самим не ехать. Посмотрите на себя... Вы когда этого всего ожидаете? Чё? Раньше, если на вас посмотреть. Хорошо. Отвезете, зайдем в амбулаторию. Я вас посмотрю... Оденьтесь только потеплее.— Барысава гэтак жа вяла пайшла да дзвярэй, як і гаварыла. Толькі мацеры было хоць разарвіся: то да яго, Міфодзі, падбяжыць, то да бацькі.— А ему,— паказала Барысава ў кут на ложак,— когда вернетесь, сделаете на ночь хорошие банки. Для облегчения... Может, еще чё найду в амбулатории...

Пасля Барысавай асталося на куфры «направление» — белая паперка са школьнага сшытка ў лінейку, пах спірту і цемната ў кутку над бацькавым ложкам — у хаце пачынала шарэць.

Дамоў маці з Белага вярнулася позна-позна, і ён адагнаў каня на ўчастак. Дамоў ужо не варочаўся — трэба было аставацца вартаваць замест бацькі. Не заснуў усю ноч, сядзеў у канторы ля грубкі, натапырыўшыся, што шашок, слухаючы, як выюць у Ліпніках ваўкі. Чакаў — забыўшыся, што ноч — а можа, загудзіць машына... Можа, трактар расчысціць дарогу... Можа, хлеб прывязуць —

каторы ўжо дзень не прывозілі ў магазін ні хлеба, ні салёнай мерзлай траскі... Што ж будуць есці рабочыя?..

Але ноччу паваліў снег, і пад раніцу замяло ўсё на свеце. Нават учарашняга следу ад саней не было знаць: бела кругом і так чыста, што слёзы з вачэй сыплюцца. Ідзеш, і не хапае ў гурбах ног, каб дастаць цвёрдай зямлі.

Маці пыталася ў яго дома рады: вязці бацьку ці не вязці? Яны пасядзелі за сталом — яна з аднаго боку, ён з другога,— памаўчалі, тады ён кіўнуў галавой: павязу. Маці доўга глядзела на яго, тады заплакала.

Яноўскі зноў «не адпусціў» каня, не мог зрываць вывазку — гарэў план. Трэба было яшчэ раз прасіць Жука, і маці пераняла яго на ферме.

Адзелі бацьку скора — маці яшчэ доднікай схадзіла і пазычыла ў Сяльвестрыхі доўгі, да пят, жоўты кажух з вялікім чорным каўняром і чорныя вялікія валёнкі без галош. Без кажуха і валёнак маці не рашылася б вязці бацьку. І так месца сабе не знаходзіла: такі мароз на двары... Бацька — аж дзіва было — сам падняўся з ложка, нейкі лёгкі, асунуўся зусім за апошнія суткі, як высах. Пажаўцеў, вочы пабялелі і зрабіліся вялікія; глядзеў ён на ўсіх неяк шкадуючы і нічога не гаварыў, маўчаў... Надзелі на бацьку пад кажух усё, што было ягонага ў хаце — ён нават памагаў: ногі, закручаныя ў суконкі, запхнуў у валёнкі сам.

Бацька ўвесь схаваўся ў кажуху, і яго цяжка было вясці на двор да саней — узяўшы пад рукі, чуць вывелі з сенцаў. Пасадзілі ў вазок, паклалі сена пад плечы, але ён адразу ссунуўся ў перадок, лёг і закашляў — каўнер на марозе адразу схапіўся белымі пасмамі. Маці нахінулася над санямі і завязала яму ля шыі пад каўняром шарсцяны ў вялікую чырвоную клетку шырокі даваенны яшчэ шалік — узялі з сабой у Ліпнікі ў апошнюю блакаду і астаўся. Закрыла пасля шалікам бацьку і рот і нос, каб не дыхаў марозам. Ногі — чорныя валёнкі — накрыла пасцілкай і абціснула яе ў сена.

— Каня глядзі, сын... У дарозе адзін ратунак — конь...— маці падышла, паклала руку яму на галаву, абціснула яшчэ раз пасцілку ля ног у бацькі.— Паганяй, сын... І глядзі каня...

Яму не хацелася ехаць з двара, ён стаяў з лейцамі ў руках ля вазка і думаў: чаму яна гаворыць — глядзі каня, а не бацьку? Воўк яго рэж, каня... Ён укуліўся ў вазок, сеў уперадку і тузануў за лейцы. Аб'інелы круглы Дэраш браз-

нуў цуглямі і адразу пайшоў з двара трушком, пускаючы з храп белую пару сабе пад ногі. Маці ў расшпіленым паралаканцы — як ты яго зашпіліш на такім жываце — прабегла ззаду да варот:

— На шашу, сын, не едзь... Шашу замяло. Едзь лесам... Ад вёскі да вёскі... На Будзенічы, там на Баброва... І не бойся! Бацька дарогу пакажа! Двое мужчын у санях...— яна прайшла яшчэ вуліцай, пасля стала і глядзела ўслед. На павароце сані кінула ўбок і схавала з вачэй...

Мароз схапіў Міфодзю якраз на масце. Сонца паднялося над заінелым альшэўнікам на балоце — стаяла над Кур'янаўскімі Садамі — і з чыстага ядранага сіняга неба рэзала па вачах. На масце ён заміргаў павечкамі і пачуў, што яны цяжкія і халодныя — нараслі інеем вейкі,— і яму зрабілася холадна: мароз пасля хаты працінаў наскрозь. Не было, здавалася, цёплага месца на целе — ні на скупую латку. Нават сцёгны спадыспаду ад сена смылелі, як агнём,— сена было халоднае, шорсткае і калючае, як дрот. На старыя, працёртыя на каленях картовыя штаны ён надзеў нямецкія, якія маці адразу пасля вайны прынясла з Мінска, з Камароўкі,— зялёнае сукно ад марозу зрабілася як драўлянае. Вялікія бацькавы чаравікі з касматымі перадамі, з гумавай падэшвай на круглых жоўтых шпяньках адразу пачалі ціснуць ногі, і зайшліся пальцы — не кранеш, як чужыя. Доўгая, па калені, шырокая і тоўстая, на ваце, паддзеўка з сіняга пераліцаванага сукна на плячах зрабілася лёгкай, як ліст. Ён, ускочыўшы ў санях, прыціснуў каленямі лейцы, ссунуў з рук вялікія матчыны рукавіцы — пахлі пячуркай, у якой усягды сохлі разам з сярнічкамі,— і завязаў пад падбародкам два выцвілыя да белага матузкі гэткай жа белай зверху салдацкай шапкі-вушанкі, якую маці прынясла з базару разам з нямецкімі штанамі і якая служыла каторую ўжо зіму.

За мастом, не падымаючыся, бацька знайшоў рукой лейчыну і павярнуў каня цераз крыніцы на выганчык — грэбляй не паехалі, міналі. На выганчыку, на бугрыне, ветрам знясло снег, і была добра знаць старая наезджаная дарога — вяла на Кур'янаўскія Сады. Конь, пачуўшы лёгкі тор, пабег рыссю; з-пад ног у яго паляцелі цвёрдыя шорсткія камкі белага снегу, як цукру. Стукалі ўперадзе ў вазку ў бляху, лучалі ў шчокі і ў вочы. Чысты, без травы і кустоў, выганчык заблішчэў ад сонца, хоць слепні. І Дэраш, і дуга над ім, і аглоблі, нават падсядзёлак на спіне ў яго зрабіліся белыя. Абраслі ўвачавідкі інеем лейцы,

пабялела пасцілка на вазку ў нагах у бацькі, чорны каўнер стаў белы і кунаты, як куст пад'ялеўцу ўперадзе на балоце. І ўсё пераліваласся сінім агнём, як у горне ў кузні на леспрамгасаўскім участку.

Куст пад'ялеўцу пабліжэў, стаў шэры і згорбіўся, як старшыня калгаса Яноўскі: стаіць ля дарогі ў нявскошанай на балоце высокай белай асацэ і камень перад ім, як стол у канцылярыі. У доўгай, па калені, суконнай паддзеўцы, у ваенных штанах і кірзавых ботах, у старой зімовай вушанцы з апушчанымі вушамі, ён крычыць з-за стала на маці: гарыць план, калі хоча, хай бярэ Смыка — астаўся адзін на ўсю канюшню. Але і маці і ён, Міфодзя, знаюць, што Смык — адчэпнае, што ён залзўе, што і да Кур'янаўскіх Садоў не дойдзе па такім снезе... Маці плача ля стала, і Міфодзя ніяк не можа зламіць у сваёй галаве, што такое план, чаму ён гарыць і чаму праз яго не даюць каня адвязці бацьку ў бальніцу? Гэта ж бацька. Бацька ж памёрці можа... Ён тады, упёршыся ў дзве рукі, пхне стол да сцяны, каб прыціснуць ім старшыню і раздушыць, як клапа, але стол цяжкі, не скрануць з месца. Міфодзя, натужыўшыся, аж упіраецца нагамі ў перадок... Пляскаты, не засыпаны снегам шэры камень на выганчыку — стол, сагнуты куст пад'ялеўцу ля яго — старшыня Яноўскі — знікаюць з воч, астаючыся ззаду. Міфодзя паварочваецца на санях назад — бачыць толькі вёску: белыя гурбы стрэх над хатамі і заінелыя дрэвы ля хат. Дрэў многа-многа, летам, зялёныя, яны не так кідаюцца ў вочы. Пасля вёска адразу знікае — астаецца ў лагчыне. Загаварыў бацька, але скрыпіць пад палазамі снег, дзе тут пачуеш, што бацька сказаў. Міфодзя тады нагінаецца над аб'інелым вялікім каўняром, які схаваў бацьку ад белага свету — іней на аўчыне крышыцца пад пальцамі, як чэрствы хлеб, і сыплецца бацьку на чырвоныя шчокі. «Злазь і паганяй каня. Адубееш...» — чуе Міфодзя, як гаворыць пад шалікам бацька.

На балоце ля Кур'янаўскіх Садоў дарога цвёрдая, толькі зверху прысыпана снегам, і конь адразу пускаецца бегчы, храпучы і коцячы перад носам пару. Не гнуцца ў каленях ногі, застылі і гараць агнём пальцы ў чаравіках, як усё роўна ў каго ў зубах; гараць шчокі і нос, як ад агню з печы, калі стаіш ля чалесніка. Ад вільготнага на балоце марозу пахне распаранай кастрой, што з лазні, дзе сушаць лён, і дзярэ недзе глыбака, аж у грудзях.

Бяжыш ззаду за санямі і задыхаешся; слабнуць ногі, чапляюцца за чырвоную ніцую дробненькую лазу, што

тырчыць на балоце з-пад снегу. Сані скачуць па купінах, узрываючы палазамі зялёны змерзлы мох; вострыя падковы дастаюць наверх мокрую рудую траву і чорны торф. І тады балота на марозе пахне, як летам — густым пахам рабінкі і валяр'янавага кораня. Ніцая, белая ад інею лаза раптам востра зелянее ў вачах, і ўперадзе ўжо не конь махае хвастом у аглобнях, а бацька касой. Зялёнае балота блішчыць ад густой і буйной, як боб, расы. Неба ўгары чыстае, у ім толькі сонца над галавой і чорны засмяглы канюх з распластаным крыллем... Бацька ўперадзе з доўгай бліскучай васьміручкай. Жы-жык...— бегае і бегае васьміручка, шаткуючы высокую мяккую сінюху, бабок, ванжэўнік, рабінку і яшчэ нейкія дробненькія сіненькія кветкі над вадой пад высокім мячэўнікам... Вада — па калені. Правальваешся ў зыбучы мох, хрыпіць ля ног балота, на вадзе падымаюцца, набухаючы і лопаючыся, вялікія, па гусіным яйку, сінія бурбалкі. Балота звініць ад сцябачак і мужчынскіх галасоў; параненае косамі, пахне густой травяной закрасай на ўвесь свет. Пасля яно робіцца шырокае-шырокае, як луг ля Віліі на Жоўтым Беразе. І ў руках у яго, Міфодзі, маленькая каса, пяціручка — бацька адумысла купіў і асадзіў. І на луг яго ўзяў з сабой першы раз адумысла — прывыкаць, і ўсе касцы пасталі, пазадзіралі галовы і глядзяць, як ён «прывыкае». Высокая жоўтая спелая мятліца роўна з ім, Міфодзем, і ён махае касой, як усё роўна заблудзіўшыся і цярэбячы сабе дарогу. Жык-жык...— бегае чорная новая каса, звініць на сухой мятліцы; ён напінаецца ўвесь, аж баліць на жываце скура, а не можа дагнаць бацькі... Бацька нават не аглянецца — махае і махае коскай, як конь хвастом ад аваднёў. Міфодзя чуе, як баляць ногі, сціскае, не даючы дыхаць, у грудзях... Упадзеш, здаецца, а не кінеш: задраўшы галовы, глядзяць касцы з усёй вёскі, як ён даганяе бацьку... Жык-жык... Хоць бы на мінуту стаць, адсапнуцца, а там бы гнаў да самага лесу. Жык-жык... Бацька бліжэй і бліжэй, пачынае паволі махаць касой... З-пад коскі раптам паказваецца шэрая гадзюка, як кавалак гнілога павадка, і паўзе, паўзе хуценька ўперадзе ў траве — уцякае. Жык-жык... Ён ніяк не можа дастаць яе, каб разануць коскай...

Задыхаўшыся, даганяе вазок і, ухапіўшыся рукамі за спінку, становіцца на палазкі. З драбінкі з-пад сена вылез кавалак шэрага павадка і цягнуўся па снезе, як гадзюка... Бацька пад заінелым кажухом ляжаў, заплюшчыўшы вочы, як аддыхаў за ўсю сваю цяжкую касьбу на зямлі...

Кур'янаўскія Сады стаялі ціхія і белыя ад інею, як вясной, на цвеце, і боязна было ехаць пад іхнюю нізкую, аж да зямлі ядраную свежасць, не кранутую нават крылом сініцы. За вільготную ад беганіны спіну лез мароз, і калі Міфодзя цераз ляжэйку зноў укуліўся ў вазок, яго пачало ўсяго калаціць. Трэба было цярпець... Пачынаць цярпець, ведаючы, што холад некалі ж кончыцца, не вечны ён, што цярпець трэба будзе доўга, як цярпеў ён увосень пасля вайны, у познія замаразкі пасля Акцябрскай, калі босы па голай, без снегу грудзе хадзіў у школу праз грэблю ў Ячнае...

І здалося яму, што церпіць холад ад таго, ад той восені, што і зубы ў яго стукаюць, не сціхаючы, аж з той пары...

Некалі ж яно ўсё гэта кончыцца...

Краснаволле — чорная прыземістая палоска хат з замерзлымі сляпымі вокнамі — асталася збоку, дарога пайшла полем: у вёсцы было многа снегу. На полі былі знаць умёрзлыя ў чорную зямлю і сівы лёд сляды ад леспрамгасаўскіх машын. За Краснаволлем пачыналася вялікае чыстае поле, спярэшчанае голым разгатым бярэзнікам. Яно цягнулася пад Будзянскі лес, нуднае, далёкае,— здавалася, хопіць язды на цэлы дзень. На полі пабольшала снегу, конь пачаў правальвацца па калені. Спераду падзьмуў вецер, у вочы пагнала дробную халодную муку, апякаючы шчокі. Конь ішоў навыцяжку — бралі пад горку,— а ён, Міфодзя, тузаў і тузаў лейцы, учапіўшыся за іх, як за паратунак. Вецер недзе з-за каня доўга сек па шчоках калючым разгатым венікам; пасля шчокі парабіліся як чужыя, здавалася, адсталі і адлучыліся ад твару: упіраешся рукой у нешта шорсткае і чужое...

Ён тады выпусціў лейцы і пачаў цёрці абедзве шчакі рукавіцамі...

Конь чуць ішоў на гару; Будзянскі лес нехаця бліжэў уперадзе — стаяў насуплены, глухі. У лес яны ўехалі, як у парожнюю цёплую пуню, дзе нядаўна ляжала сена — сенам, мусіць, пахла з-пад нізу, з саней. Будзянскім лесам заходзіла на поле пушча; снегу ў лесе было высака, старым соснам па калені. Ад яго стаяла белая цёплая цішыня, гатовая прыхінуць ад марозу ўсё на свеце. Нават гілі пырхнулі цераз дарогу, як два чырвоненькія гарачыя вугельчыкі: ідзі пагрэй скрэплыя рукі. Аж у вачах паяснела ад радасці. Здалося, няма ніякай хваробы; яны едуць не ў Плешчаніцы ў бальніцу, а ў Ліпнікі ў дровы... І не

вазок у іх, а кары з казой. І яны з бацькам сядзяць удваёчках на карах на бабе, а ззаду на вяроўцы навязаная накрыж маленькая каза са смешна загнутымі ўгару палазамі, і на ёй ля бабы бліпічыць піла і заткнуты ў вяз тапор. Стукае па пнях і па карэнні ззаду маленькая недарэчная козачка, аж смешна, а паспрабуй абыдзіся без яе, калі вязеш з лесу яловыя калоды ў абхват. Скрыпіць пад дрэвам козачка, хістаецца з боку на бок па карэнні на дарозе, аж крэкча пад ёю намёрзлая зямля... І здаецца, што козачка цяпер самая важная, узяла на сябе, на свае нядужыя плечы ўвесь ценжар і без яе не абысціся, кроку без яе не ступіў бы конь... Скрыпіць, падскоквае, грукае і сунецца, сунецца,— вот вам і маленькая драўляная козачка, з двума палазамі, з шасцю капыламі, з трыма вязамі і расшчэпленай бабай, надзетай нізам на два вухі ад сярэдніх капылоў і прывязанай да вяза кавалкам павадка... На карах ляжаць толькі камлі — белыя пасля пілы, як сыры, а на козачцы, як на плячах, увесь груз, усе тры калоды.

І тады Міфодзю зусім весела і цёпла на санях... І няма нідзе ніякай бяды, мала што маці плакала. Пабудзе бацька ў бальніцы, паляжыць і сам пасля дамоў прыедзе з леспрамгасаўскімі машынамі... Міфодзя саскоквае з саней і ідзе ззаду за палазамі, цягнучы па снезе свой след ад вялікіх чаравік, як маленькая козачка за вялікімі карамі...

За скрыпам саней не пачулі, як зашумелі ўгары сосны — зверху толькі сыпаўся сухі, як мука, снег, густа, што з лапаты,— і калі выехалі на поле пад Будзенічы, усюды было ўжо шэра. Усхадзіўся вецер і гнаў пад лес з усяго поля снег, падымаючы яго ўгару верх лесу. Сонца прыхавалася за густую смугу, качалася ўгары жоўтым драўляным колам ад каламажкі, і ля яго азначыўся сіні круг.

Дагнаўшы сані, Міфодзя злавіў нагамі палазкі і ўзваліўся грудзьмі на спінку. У вочы пагнала снег, сухі, калючы; засвістаў, цененька ныючы, у каня ў грыве вецер; конь замахаў хвастом і стаў. Першы раз за ўсю дарогу: змогся па снезе. Стала ціха, не скрыпелі палазы, і Міфодзя раптам выразна пачуў, як уперадзе недзе блізка хлябешча трактар. Можна было нават пазнаць, што гэта «націк». Міфодзя адразу і згледзеў яго: трактар падымаўся з лагчыны разам з мяцеліцай насустрач па дарозе — можа, і конь стаў, спужаўшыся? — і цягнуў за сабой леспрамгасаўскую будку, у якой усягды невысокі, вёрткі, стрыжаны пад ярша Кізіна вазіў на ўчастак хлеб — доўгенькія буханкі — і салёную траску — пахла на ўсю кантору. «На-

цік» бліжэў, над кабінай у яго ўжо быў відаць сіні дым — рассыпаўся разам са снегам. «Націк» пад'ехаў аж да каня — дыхнула густым цёплым дымам, хоць рукі грэй — і стаў. З кабіны нехта ў чорным паказваў рукой, каб з'язджалі з дарогі. Дэраш адсеў, не слухаў лейцаў, сані адсунуліся назад і сталі. Міфодзя цягнуў і цягнуў лейчыну, каб звярнуць Дэраша з тору на поле, даць дарогу трактару з будкай, але Дэраш не слухаў — адсядаў і адсядаў назад.

З кабіны «націкa» тады выкуліўся на снег нехта ў рыжай, падсмаленай ля агню і завязанай пад бараду вушанцы, у расхрыстаным доўгім, да пят, чорным кажусе — Калясень з аўтакалоны, ці што? — і падбег да самага каня:

— ...Хрыста-спасіцеля маць!.. Аб'язджай, пакуль я не падмяў цябе разам з тваёй падлай!..

Міфодзя тады забег наперад і ўзяў Дарэша за цуглі. Дэраш не ішоў з дарогі — падымаў на аброці ад зямлі і адсядаў узад. Міфодзя крыкнуў, каб выключылі матор — конь баіцца, але яго не пачулі — матор хлебястаў, аж заходзіўся. Дэраш адсядаў і адсядаў назад, і Міфодзя пачаў гладзіць яго па храпах і зварочваць з дарогі. Дэраш тады скочыў убок і, напяўшыся, пацягнуў вазок з бацькам па полі, засыпаючы снегам з-пад задніх ног і пасцілку і кажух. Міфодзя вёў Дэраша за аброць. Калі параўняўся з «будкай», у ёй адваліліся дзверцы, з кабіны выскачыла чорная новая фуфайка, падбегла і падхапіла вазок, каб не перакуліўся: выязджалі на дарогу з паднятымі трактарам снежнымі глыжамі.

— Я яму... скаціна рагатая!.. Не мог лявей узяць... Слухай, хлапец, я цябе нейдзе відзеў...— чорная фуфайка загаварыла Кізінавым голасам, паказваючы на «націк».— Відзеў, чэсна, нават зараз успомню дзе... Калі не на ўчастку, дык у лесе на дзялянцы, маць тваю так... Здубееш... Тры нос. Снегам... Каго вязеш? Бацьку? У бальніцу? З запаленнем? Такім марозам? Маць яго барабан... А той яшчэ,— Кізіна патрос кулаком чорнаму кажуху,— размінуцца не можа... Чым жа ж вам памагчы? Заехаў бы ты ў Будзенічы да каго ў цяпло,— паказаў ён рукой уперад, дзе за мяцеліцай шарэлі далёкія хаты.— Ехаў бы назад — забраў бы вас у кабіну. Вы ж адубееце такім марозам... Дык, думаеш, я скора назад вярнуся? Думаеш, ён мяне адразу пацягне? — Кізіна зноў паказаў рукой на чорны кажух ля «націкa», нібы гэта ва ўсім — і ў хваробе і ў марозе — быў вінаваты чорны кажух.— Ён жа яшчэ на Жоўты Бераг дарогу чысціць будзе... Двое сутак стаяць «прычэпы», снегам

замецепыя... Гіблае дзела... Назад адзін я не прыеду... Чым жа вам памагчы?..— Кізіна торкаўся на дарозе, ляпаючы перад сабой тоўстымі рукавіцамі, пашытымі з кажуха.— Не шкадуй каня!.. Пугай пад хвост... На шашу не лезь... Занясло... На Будзенічы... Лесам... Лесам дарога добрая... І каню — пад хвост...— Кізіна піхнуў нават ззаду санкі. Пасля крыкнуў наўздагон: — Стой! Стой, я зараз...

Ён падбег да «будкі», скочыў ззаду, як кот, у дзверцы, перавесіўся на жываце і саскочыў зноў на дарогу. Бег да саней, махаючы нечым вялікім у руцэ. Падбегшы, стаў і стаяў засопшыся:

— Чым жа вам памагчы? На, хлапец, хоць гэта...— ён падняў ад калена руку з вялікай жоўтай буханкай хлеба.— Вазьмі... Грызці будзеш у дарозе, а то — акалееш... І каню — пугай пад хвост, пад хвост... Не шкадуй... Леспрамгасаўскі... На аўсе... Я цябе нейдзе відзеў... Ніяк успомніць не магу...

Чорная фуфайка стаяла яшчэ на дарозе, пасля заківалася, зрабілася шэрай і, расплываючыся, пачала знікаць з вачэй у белым віры разам з «будкай» і «націкам», які хлебастаў ужо недзе далёка ззаду.

Жоўтая доўгенькая буханка была цвёрдая — падмерзла,— але пахла свежым хлебам і цёплай печчу. Ён прыціснуў яе да сябе, каб не выпусціць з рук на снег.

Перад Будзенічамі дарогу, відаць было, чысцілі клінам. «Націк» пакрышыў старыя глыжы і паадвальваў іх на дарогу. Сані лучылі правым полазам на глыжаваты бераг і пачалі куліцца набок. Дэраш захроп, спатыкнуўся на глыжах на пярэднія ногі і стаў, коўзаючыся падковамі па лёдзе. Сані павіслі бокам над выбаінай, закашляў бацька і пачаў падымацца на лакцях... Міфодзя тады саскочыў з саней і ўхапіўся ззаду за спінку, дзержачы сані і чуючы, што яны хіляцца набок, што ён не ўдзержыць іх сваімі рукамі...

— Но! — закрычаў ён і справіўся яшчэ ўпёрціся рукамі збоку ў драбінку. Конь тузануў сані, выраўняў і пацягнуў наверх на глыжы. Бацька астаўся ляжаць на санках, кашляў толькі і кашляў, аж заходзіўся; на дне ў снежнай выбаіне асталася ляжаць пасцілка — ссунулася ў бацькі з ног, буханка хлеба і чырвоны бацькаў шалік. Міфодзя спыніў каня — бацька глядзеў угару вялікімі белымі вачыма, як усё роўна не хацеў глядзець на яго, Міфодзю, дыхаў з сябе і захліпаўся. Міфодзю тады зрабілася горача ўсяму і страшна.

— Татка!..— клікнуў ён, чуючы, як у яго трасуцца рукі. Доўга стаяў, як чакаючы чаго. Бацьку адпусціла, ён уздыхнуў і глянуў на яго жаласнымі вачыма — хоць бы што сказаў. Міфодзя падумаў, што доўга стаіць, што трэба ехаць — скора зусім замяце дарогу... Ён скочыў у снежную выбаіну, падняў пасцілку і буханку хлеба, прынёс, паклаў у перадок — ногі бацьку накрые едучы. Вярнуўся, каб падняць чырвоны шалік, якім бацька закрываў рот, нагнуўся над патрэсканымі ад гусеніцы снежнымі глыжкамі... Шаліка не было. Патрэсканыя снежныя глыжкі былі чырвоныя ад крыві. У бацькі ротам пайшла была кроў. Міфодзя стаяў і глядзеў на чырвоную латочыну... Нібыта хто каліну расцёр, як летась на балоце пад Кур'янаўскімі Садамі, калі звозілі са стагоў сена... Пасля ён нагнуўся над патрэсканымі чырвонымі глыжкамі і, зняўшы рукавіцы, падняў з зямлі маленькі друзалачак цвёрдага чырвонага снегу. Стаяў, дзержачы на далані, і, баючыся, глядзеў на яго. Маленькі чырвоны друзалачак растаў адразу і расплыўся, змачыўшы руку — на зямлю нават не капнуў...

Пад горла падступіла гарката... Ён затросся ўвесь і закрыў мокрымі далонямі вочы. Рукавіцы ляжалі на снезе, адна воддаль другой...

Да Плешчаніц з дому было трыццаць кіламетраў. Да Будзеніч толькі сем...

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Узбегшы цяпер на ганак, Міфодзя пастаяў быў, тады памалу пайшоў у вакзал — старую амбулаторыю. Ішоў і як усё роўна вёў бацьку, узяўшы пад паху. З вакзала ішлі і ішлі людзі, і ён аж выставіў уперад руку, каб яны не зачапілі бацьку. Насустрач ім і ў той раз выбегла жанчына ва ўсім белым і падхапіла бацьку пад паху з другога боку. У прыёмным пакоі яна паднясла бацьку ў маленькай чарачцы выпіць нечага чорнага. Бацька выпіў з чарачкі, як усё роўна за іх, каб яны, астаўшыся, былі на зямлі ўсе жывы і здаровы. Калі жанчына ў белым павяла яго пад руку ў канец калідора, дзе быў ход з амбулаторыі ў доўгую бальніцу з белымі вокнамі, бацька павярнуў галаву і паглядзеў яшчэ на яго, Міфодзю, сваімі вялікімі белымі вачыма — астатні раз...

Дзверы ў калідор, які вёў некалі ў бальніцу, былі цяпер закіданы знізу плашкамі; вышэй на іх месцы было акно і за ім высокая рэдзенькая зялёная трава на зямлі...

На дварэ зноў закрычаў рэпрадуктар — разбяры што; збоку ля маленькага нізенькага глыбокага аконца — згінайся ў тры пагібелі — стаялі кучкай, відаць, рабочыя: у пакамечаных, выцертых да белага на каленях і на лакцях чорных камбінезонах, з палуднем, закручаным у газету і прыціснутым пад пахай.

— Ты мяне не тыкай... Я сто раз тыканая...— даляцеў дзяркаты жаночы голас з нізенькага глыбокага аконца.

Рабочыя зарагаталі; у некага з-пад пахі вышмыкнуў палудзень і шлёпнуў з газетай аб падлогу.

У глыбокім аконцы Міфодзя згледзеў жанчыну з белым, як папера, тварам...

Закруціўшыся тады, зімой, у доўгі кажух, ён, Міфодзя, укуліўся ў сані і, выехаўшы за Плешчаніцы, пусціў за мастом каня па сваім следзе — на Будзенічы. Конь ішоў лёгка і прывёз яго дамоў ноччу. У хаце гарэў прыкручаны ў лямпе агонь, маці яго чакала, і ён, кінуўшы ёй на двары ў рукі лейцы, пабег у хату і палез адразу на печ у кажусе: калаціла, аж грукаў каленямі аб сцяну. Калі, абрыўшыся, заплюшчыў вочы — у цемнаце перад ім адразу паявіўся белы-белы бацькаў твар, як у мерцвяка...

Раніцай пазванілі на ўчастак, што бацька ноччу памёр...

...Рабочыя пабралі палудні ў рукі і рагаталі ля аконца на чым свет стаіць...

Касірша з белым тварам, вытknуўшы з аконца руку, паклала яму, Міфодзю, на даланю разам з медзякамі білет на аўтобус да Белага — маленькую чырвоненькую палоску паперы, халодную, як усё роўна маленькі друзалачак чырвонага снегу...

Ён падышоў да акна, дзе перш былі дзверы ў бальніцу, і паставіў чамаданчык на падаконнік...

Аўтобус на Белае яшчэ трэба было чакаць.

## 2

У аўтобусе пахла малінамі...

Іх было панасыпана ўсюды: на падлозе — чырвоныя, растаптаныя, блішчаць ад соку; на акне — папрыліпалі ўнізе да шкла, як усё роўна тут і выраслі; на сядзенні — не сядзеш, не змахнуўшы рукой.

Лета сёлета выдалася ягаднае, і ўсе Плешчаніцы з чырвонымі, белымі, сінімі пластмасавымі вёдрамі, абуўшыся ў гумовыя боты — ад гадзюк і памяняўшы спадні-

цы на штаны — ад крапівы, сляпнёў і жоўтых камароў, што колюць цела, як іголкамі, на свярбучыя вадыры,— кінуліся на пасекі аж за Белае, дзе пасля леспрамгасу за колькі там гадоў падняўся раптам маліннік, заглушаючы малады лес. Невядома было, як ён мог насеяцца — птушкамі? мядзведзямі? — але ён укрываў пасекі, на мокрым запрыбалочаным месцы пайшоў угару вышэй чалавека, засланіўшы шырокім лісцем і зямлю, і пні, і сонца. Ягады на ім паспелі раптоўна — стаяла на доўгай сухой пагодзе. Буйныя, як пупышкі на пальцах, ад чырвані аж фіялетавыя, шышкаватыя, як спелы бабок на балоце, яны пасыпаліся на зямлю — на старую кару, на не спаленыя некалі ламы, на крапіву і на балотны мох, а зверху, высака, як дастаць рукою, маліннік яшчэ цвіў белым шырокім цветам.

Міфодзя сядзеў ля акна з прыапушчаным шклом, куды яго, упіхнуўшы перад сабой, запёрлі жанчыны ў чырвоных балоневых куртках з капюшончыкамі і з такімі ж чырвонымі пластмасавымі вёдрамі ў руках. Жанчын падпёрлі рабочыя, тыя, што з палуднямі пад пахамі рагаталі ля глыбокага аконца на вакзале. Міфодзя пачуў, як яму паставілі на плячо вядро, цяжкае, як з вадой, як нехта чырвоны пачаўваліцца на яго, прыціскаючы да акна. Ён схапіўся за фуражку на галаве, каб не скінулі пад ногі і не стапталі, пасунуў нагамі пад сядзенне чамаданчык, а калі раптам стала лягчэй дыхаць і можна было адсапнуцца, згледзеў, што побач з ім з краю на сядзенні цвёрда прыстроіўся малады яшчэ на выгляд мужчына ў шэрым у палоску расхрыстаным пінжаку і чорнай новай кепцы на галаве. Мужчыну адразу пацiснулі чырвоныя курткі, адгарадзіўшы ад белага свету — каб і хацеў ён цяпер падняцца і саступіць каму месца, ужо б не змог ні за якія грошы.

— Жылі і жыць будзем, маршал...— загаварыў ён да яго, Міфодзі.— А Фірага гора цяпнуў...

Мужчына, было відаць па ўсім, не збіраўся сядзець спакойна: лапаў сябе па кішэнях, круціў галавой па баках, тады адвярнуўся да задняга сядзення.

— Як ты там, Антонавіч, не пад спадніцай? — спытаўся і зарагатаў: быў ужо «гатовы» — ад яго пахла перагарам. Разумныя людзі, давёўшы сябе да такога, не лезуць у гарачы аўтобус, а ляжаць пад плотам у крапіве. А яму — мора па калені.— Не завязала яшчэ табе белы свет падалом ніводная? Антонавіч?

— Пра гэта нельга думаць: за дваццаць чатыры гадзіны мазгі твае казларогія згараць...

Міфодзя павярнуў галаву на знаёмы голас — шырокі круглаваты няголены твар, сіваватая кароценькая бародка старাватага чалавека і кароценькія пад кароткім носам сіваватыя вусы: фельчар з Белага, Пугач. Яго ён пазнаў адразу; хто сядзеў побач з ім, Міфодзем,— не ведаў: бачыў некалі, а ўспомніць не мог.

— Жылі і жыць будзем. А Фірага...— картовы пінжак, відаць, хацеў пачаць доўгую гутарку з Пугачом, але пачало кідаць аўтобус, чырвоныя курткі лавілі адна адну рукамі, рабочыя хапалі ў жмені загорнутыя ў газету палудні. Аўтобус калыхаўся і калыхаўся з боку на бок, удабавак яшчэ торкаўся ля кожнага тэлефоннага слупа, бразгаў дзверцамі і падымаў з падножкі дзяўчатак з вёдрамі і рабочых з палуднем у руках — здавалася, не будзе канца дзяўчаткам і рабочым і сам аўтобус будзе расцягвацца, як камера пад насосам.

Нарэшце аўтобус пайшоў не спыняючыся. Уперадзе была прамая, даваенная яшчэ шаша цераз стары яловы лес. Недзе тут, за мастом — як хто ўсё адно таўхануў у бок,— быў некалі паварот з шашы ў лес на будзянскую дарогу... Ні лесу, ні павароту цяпер не было. На іх месцы між соснамі стаялі цагляныя — чырвонае з белым — домікі на два паверхі, абгароджаныя невысокім блакітным частаколам.

— Акадэмія... Землетрасенне рэгіструюць... Гэтыя жылі і жыць будуць, а некага на свеце трасе...— картовы пінжак згледзеў, што Міфодзя ловіць вачыма домікі за шашой, і адразу паставіў усё на месца.

Міфодзя маўчаў. Заныў, набіраючы разгон, аўтобус; у акно пагнала вецер, і зноў у аўтобусе запахла малінамі і леспрамгасаўскай пасекай. Шафёр сігналіў: апускайце на дарозе рукі, нікога не будзе браць; у аўтобусе ўсе настроіліся на доўгую дарогу, кожны абтаптаў сабе месца, як куры нанач на седале, параскашнела, нехта закурыў, і людзі загаманілі. Спачатку ціха, тады мацней і мацней, забыўшыся, што яны ў машыне, у цеснаце і што не на кожнае вуха можна крычаць чортведама што. Міфодзя падумаў, што набіты людзьмі аўтобус — гэта цэлая вёска. А калі вёска, сабраўшыся, маўчала?

Думаць пра сваё не даваў людскі гоман; чужая бяда ці радасць у дарозе змушае адразу прымерыць яе да сваёй: у таго — памёр, а ў цябе яшчэ жыве, і сам ты малады, у

цябе ўсё наперадзе... Бывае, змерыш сваю бяду людской і супакоішся: на цябе яшчэ не паказала Вялікая Мядзведзіца сваёй доўгай лапай... Ды і ў такія гады ты — вечны, жыццё само ўстроіла так, што да пары да часу ўсё благое ідзе недзе бокам...

Але калі Міфодзя заплюшчваў вочы ад людской гаманы, каб астацца сам-насам з сабой — у дзвярах у аўтобусе зноў паяўлялася маці з вядром у руках: ішла да студні. Другую ён яе не мог улавіць — ні на ферме, ні ў бальніцы на белым ложку. Калі і як — ён не помніць,— але памяць востра і наўсягды забрала яе такую з сабой, і кожны раз у трывожную гадзіну яна, змучаная, узнікала з вечным вядром у руках...

Знікала маці, і адразу ў лесе на будзянской дарозе леспрамгасаўскі Дэраш вёз па снежных белых глыжах бацьку ў доўгім, да пят, кажусе... І ў бацькі быў белы твар — маленькі кавалачак вечнага ў памяці летняга белага воблачка...

Міфодзя адплюшчыў вочы — чырвоныя курткі з пластмасавымі вёдрамі на лакцях перамяшаліся з рабочымі ў паношаных камбінезонах, здавалася, перамяшаўшы і языкі. Ён пачаў слухаць адным толькі краёчкам вуха...

— Ёсць галовы, да якіх не ідзе вялікая лысіна. І да тваёй не пайшла... Да тваёй маленькая лысінка пайшла б... Ззаду. І каб блішчэла...

— У сорак пяць — баба ягадка апяць...

Людзі маладзіліся — у мужчын сваё, у жанчын — сваё,— гаварылі не баючыся, не хаваючыся, не саромеючыся, а то і выстаўляючы свой лоб, каб схапіць гуз — парагатаць і з сябе і разам са сваёй бяды: палягчэе... Уперадзе ля дзвярэй чуваць было адно, на праходзе зусім другое, на заднім сядзенні бог ведае што... І хай ён вечна будзе вясёлы на брукаваных і калдобістых палявых дарогах, невялікі перапоўнены сельскі аўтобус... І зімой і летам...

— Што гэта ў цябе, Корань, дзяцей німа? Не захацелі, ці што?

— А я — як звер. У няволі не размнажаюся...— Не ўсе смяюцца: гумар «з барадой».— Жыву па гэтым і жыць буду. Праўда, маршал?

— А мая саракуша яшчэ цягне...

— А мая, калі не лаемся, мые падлогу загаліўшыся. А цяпер, як пасварыліся, мые і павярачваецца да мяне тварам. Паважае... Любоў нават у нас, мужыкоў, штука

далікатная. На яе холадна не дзьмі. А тут яна наткнулася на такую ведзьму... Мая чапяла... Два метры фанеры...

— А я сваёй, калі што, дык гавару: давай станцуем з табой, як певень з курачкай...

— Я знаю дзве сям'і. Адну, у якой вырас, а другую, якую сам завёў...

— А трэцяя, Корань?

— Не пад'ялдыкавай... Другая, я табе скажу, ужо не сям'я. А трэцяя — зусім дрэнь... Слухай, хай тая газетка пастанецца ў мяне да панядзелка. Хачу, каб мая чапяла пачытала. Хай ведае, як трэба глядзець мужыка. Кажу, дык адхрышчваецца дзвюма рукамі...

— А ты ёй сам пачытай...

— Вушы затыкае. Фары гараць, як у новай машыны... Шыпіць...

— Чаго ты хочаш? Нават салавей шыпіць. Не чуў?

— Чым слухаць, як хто табе пастаянна галаву дурыць, дык лепш адзін сабе ідзі. Хай ужо вецер ля вушэй свішча, чым дрэнь слухаць. Жылі і жыць будзем. Не лезвай жа нагой смаркаемся, хоць і з вёскі... Вот вы гагочыце, як гусі, а Фірагі ўжо няма...

— І Фірага твой жыў бы, каб не браў, як ты. Мне яго не шкода.

Недзе за чырвонымі крыклівымі курткамі быў чуваць надта ж знаёмы голас — мяккі, ціхі, як у Валодзі Сцяпанава ■ Краснаволля.

— А ў кіно цяпер не ідуць. Целевізары... Дзеці, бывае, яшчэ наб'юцца... А я ў клубе яго і не ганю. Здам у раён трыццаць рублёў сваіх і палучаю за план семдзесят зарплаты... Не сагнуўшыся, падымаю сорак рублёў. Ну, бывае, калі і пушчу. Збяру рубель-два на бутэльку «луча». Што гэтымі капейкамі бразгаць? Галоўнае тут — не ставіць, а ленты мяняць рэгулярна. Пад'язджае раніцай машына — старыя каробкі туды, новыя сюды... Учора «Піратаў» прывязлі, дык хоць сам паглядзеў... А так — нічога. Жыву. Два матацыклы. Адзін у сябе, другі ў маткі ў хлеве стаіць. Хапае ўсяго, было б здароўе.

Гэта і быў Валодзя Сцяпанаў. Чырвоныя курткі не далі яго добра разгледзець. Паўнаваты, азыз, пастарэў. Толькі вясёлы, як і перш. Разам жа некалі хадзілі ў школу ў Белае. У адзін клас. Валодзя адслужыў, быў кінамеханікам недзе за Віліяй, вярнуўся дамоў і гоніць кіно ў Краснаволлі каторы ўжо год. Жаніўся, выходзіць, калі памеркаваць па матацыклах.

Чырвоныя курткі затрашчалі, што сарокі — глынулі жыўцом, як сала на нітцы, Валодзю Сцяпанава разам з байкамі: больш яго ўжо не было чуваць. За акном пацягнуўся стары яловы лес, цёмны, усягды глухі. Дыхнула нагрэтай за лета імшарай. Насустрач адзін за адным пайшлі МАЗы — на расцягнутых прычэпах валаклі хлысты: доўгую, метровую ў камлі, асіну. Аўтобус вільнуў на шашы ўправа, прыціснуўшыся да самай абочыны і падняўшы жоўты пыл; чырвоныя курткі прыціснула да рабочых, яны зноў засакаталі, глушачы матор:

— У цеснаце не ў абідзе...

— Я ўжо восемдзесят літраў грыбоў закруціла...

— І руку, вун, у яго каля шыі...

— Га-га-га...

— Перш дык лес нас усіх карміў. У кожнага былі і сушоныя грыбы, і рыжыкі, і рудзякі мачоныя... І журавіны на гары ў начоўках... Брусніцы ў варыўні ў дзежачцы... На ўсю зіму. А цяпер на сваіх машынах — з карэннем усё... Яшчэ зялёнае...

— І чаго гэта чалавек так рве?

— Чаго? Перш дык яму ў галаву ўбівалі, што на тым свеце ў рай патрапіць. А цяпер жа кожны знае, што раю на тым свеце няма, дык, як толькі можа, стараецца на зямлі сабе рай зрабіць. І цілівізар, і машыну, і шырэйшую калашыну...

— Цяпер і машыну не цяжка... У нас, вун, Ваня... І нічога не рваў, а «Масквіча» купіў. На мусарцы шафёрам рабіў. Бутэлькі падбіраў і здаваць вазіў. На «Масквіча» назбіраў...

— Цяпер бутэлек гэ-этых... Палацы за іх можна адгрукаць... Нават на памінках п'юць цяпер па двое сутак, як на вяселлі. Аднаго памінаюць — другога на той свет адпраўляюць. Дзевачка, вун, дваццаць гадоў. Атруцілася... Самагонкай... Ныркі згарэлі. Што тут гаварыць пра таго Фірагу...

— У нас не тое. І мужык і жонка — абое алкаголікі. Дзяцей няма, дык яны... Купяць чыкушку на дваіх, разліюць і, калі ў каго на кроплю болей — б'юцца да смерці...

— А сямейныя? У нас, вун, маці і бацька п'юць, а дзяцей — як маку. Малыя яшчэ, дык і карміць некаму. Напілася раз маці, а галодныя дзецi ўзялі злавілі парасё, зарэзалі, абсмалілі і ў гаршчок. Так і зварылі непатрашонае. Маці прачынаецца...

— А ў Замошшы... Лёг спаць з папяросай... Спаліў сябе, хату і цяліцу... Вот вам і Фірага...

— Я з адным ляжаў... Шафёр, як наш Фірага. Дык той усё руліў цэлую ноч — круціў рукамі... Хапіла яго раз — дык звязалі. Ду-ужы, усё рваў. Тады доктар адзін кажа: спірту ў рот. Раздзёрлі яму рот і спірту праз зубы... Глынуў, абмяк і заснуў...

— Гаворыш — аж паверыць цяжка. Мароз па скуры...

— Праўду гавару, ад праўды ўсягды мароз па скуры...

— Раней кожную суботу вечарам тапілі лазню і хадзілі мыцца. Цяпер...

— А я як вып'ю, то здаецца, што заўтра субота... Выхадны...

— А мне, калі жонка выцягне з кішані зарплату, сняцца благія сны: вайна...

— Вякамі рыхтавалі сабе людзі гарэліцу. Каб што другое можна было выдумаць, выдумалі б, а то другога няма.

— І сабакі п'яных не любяць. Сяду за руль — дык брэша.

— І я, як тыя сабакі, цярпець не магу алкашоў. Я б ім волава ў рот, каб замуравала... Адсунься, каму я сказала...

— Жылі і жыць будзем. П'яніца праспіцца, а дурань... Праўда, маршал? — расхрыстаны пінжак задзёр галаву: было не ў нос.

— А калі п'яніцца да ўсяго яшчэ і дурань? Хто гэта ў пінжаку?

— Корань. Хто ў нас Кораня не знае. З Белага Корань...

— Во, колькі яму гадоў, а молада яшчэ выглядае...

— А што ён цяжкае падняў за сваё жыццё? Уся сіла толькі і ішла на тое, каб натужыцца пасля п'янкі. Дык і то — там надта тужыцца не трэба... Па п'янцы яно само...

— Дзевачкі... Дзевачкі... Нібыта самі не любіце...— заўсміхаўся расхрыстаны картовы пінжак, зрабіўся раптам ласкавы, пачуўшы, што вецер не ў той бок.

— У раён ездзіць. Жонка забараніла ў сваім магазіне яму прадаваць, дык ён аж у раён едзе за трыццаць кіламетраў. У чайную...

— Дзевачкі... Дзевачкі...

— Купіла яму жонка пальто за сто два рублі і не дала замачыць, дык ён узяў адсек тапаром халявы ў яе югаслаўскіх боціках... Румынкі зрабіў...

— Каб адсек яшчэ і насы — былі б в'етнамкі... Басаножкі...

Чырвоныя курткі браліся сосмеху за жываты.

— Дзевачкі, дзевачкі... Бабкі, бабкі...

— Вядро яму, алкашу, на галаву!.. Каб і не дыхаў!..

І чырвоныя курткі, узлаваўшыся раптам на Кораня, нібыта ён быў вінаваты ў тым, што гэту гар выдумалі некалі на зямлі людзі, што яе п'юць іхнія мужыкі, што недзе спалілі хату і цяліцу і не аддаюць жонкам зарплаты, надзелі яму на галаву вядро, як дзе дома на двары на слуп. Новае, вялікае чырвонае пластмасавае вядро — аж вада з яго закапала яму на расхрыстаныя грудзі...

Аўтобус ад смеху, здалося, шарахнуўся з бруку на абочыну... Чырвоныя курткі ў праходзе не ўстоялі, паляглі адна на адну і рагаталі, заходзячыся і не могучы дыхнуць, нібыта надзеўшы вядро на галаву, яны аблажылі самае горкае зло і смехам пёрлі яго вон з аўтобуса, з хаты, з вёскі... Паміж імі і чырвоным вядром можна было цяпер прайсці...

Усе чакалі: што ж зробіць Корань?

А ён і не шманаў, сядзеў з вядром на галаве: хай парагочуць. І смех адразу сціх. Корань зняў вядро з галавы і адставіў руку ўбок: вазьмі, чыё? На яго ўсе глядзелі, а ён, паправіўшы на галаве новую чорную картовую кепку — пальчыкамі за брыль — і не зірнуўшы нават ні на кога, павярнуўся на сядзенні назад да Пугача:

— Замець, Антонавіч... І я, Антонавіч, як і яны, думаў, што я прапашчы, што мне толькі вядро на галаву... Ты праўду кажаш, Антонавіч... Бо надта проста на свет глядзеў, пачынаючы яшчэ вун, пасля вайны. На баб ды і на ўсю гэту крутаверць на зямлі: тое сюды, тое туды. Знялі — паставілі. Проста глядзеў на свет — праз бутэльку. Знялі — замачыць, паставілі — замачыць... Не чапаюць, даюць спакойна жыць — спакойна абмываеш кожны божы дзень. Як раса травіцу... Лёгка я глядзеў на свет. А што увідзеў? Прагледзеў, Антонавіч, самога сябе... Толькі цяпер — дудкі! Жыву і жыць буду! Бо душа прызнала! Душа, Антонавіч, прызнала... Валерку прызнала!.. Каб раней я па-другому паглядзеў на свет... Усе ўсюды ведалі, што ў мяне ёсць Валерка, і сам я ведаў, але душа не прызнавала... А цяпер прызнала... І ты мне, Антонавіч, шпака ў вуха не садзі... Не садзі шпака... Бо я чуў, як плача Валерка... Сваімі вушамі... Сягоння раніцай... Калі мая Два метры фанеры дазнаецца...

— Пра гэта нельга думаць: за дваццаць чатыры гадзіны мазгі згарэць...

— Мне цяпер маіх мазгоў не шкода... Яны ўсе думаюць, што я так сабе, сеў, паехаў у раён і набраўся... А я Валерку ўзнесеў... Чуў, як ён крычыць!.. А яны думаюць... А яны мне вядро на галаву... Калі б у мяне ў матацыкле кардан не ляснуў, я б з імі ў адзін аўтобус не сеў бы...

Корань быў п'яны.

— Тыя разы мяне не пусцілі... Выгналі. І нікога не пускалі. Ногі ў яго абгарэлі... Адна і другая... І як магло загарэцца? Там жа салярка... Відаць, спірт ляжаў у кабіне ў запасе... Прывязлі іх ноччу дваіх... Яго і Фірагу... Фірагу сёння хаваць будуць... А яны думаюць... А яны вядро на галаву...— Корань заплюшчыў вочы і памаўчаў.— Прывялі першы раз пры мне на прыём хлопчыка — годзікі тры. Гулялі дзеці і яйчыкі яму пашкодзілі. Крычаў ён за дзвярыма-а... Выйшаў пасля на калідор, ідзе, як стары, ножкі расставіў, дзвюма ручкамі за свае яйчыкі ўхапіўся і плача горкімі слязьмі. Я дык не мог... Прыехаў дамоў, а ў вачах Валерка, як той хлопчык... Куру я ўсю ноч, а мая Два метры фанеры — ёй ужо данеслі, дзе я быў,— як загрукае сваімі касцямі: «Вон з хаты, можаш ісці да той...»

А сёння мяне пусцілі. Тыя разы бабы былі, во, як гэтыя...— Корань паказаў на чырвоныя курткі.— А сёння мужчыны. Двое... У белых халатах. Выйшлі і курылі ў калідоры. «Пусціце»,— прашу. «А хто такі?» — «Бацька,— кажу,— бацька. А што, бацьку прыйсці няможна?» — пытаюся. «Чаму ж,— гавораць,— няможна. Вельмі нават можна. Пахвальна,— гавораць,— што бацька прыйшоў». Чуеш, Антонавіч? Я тады ім гавару: «Усё, што хочаце... Скуру,— кажу,— бярыце...» — «Што ж,— кажуць,— ад бацькі падышла б... Без пробы...» Яны яшчэ сумняваюцца. Душа прызнала, а яны сумняваюцца... Я тады зноў прашу: «Пусціце...» Паглядзелі яны на мяне, адзін і кажа: «На пяць мінут. Маці там пры ім, мнагавата вас у палаце будзе». Пазвалі сястру, сястра мне халат белы на плечы, матузкі ззаду завязвае, я стаю, а падлога пада мной недзе ўніз паехала... Куды я іду? — думаю. Маці, сын і я іду — бацька... Не думаў я, што так цяжка будзе пераступіць той парог... Каб хоць хлапец там адзін быў, а так — Волька... А гэта ўжо вярблюд з двума гарбамі, не з адным... Але адступаць позна: стаяць у белых халатах і мужчыны і бабы і ў чатыры пары вачэй на мяне глядзяць у дзвярах: віджу, усё знаюць. Я ім быў пра скуру сказаў, а яны з мяне

яе сваімі вачыма лупяць... Ступіў я ў палату, як у натопленую лазню: пот руччом, духата. Сіва ўваччу, як хто на печ вады лінуў — даў пары. Падлога пад нагамі слізкая, як намыленая, чуць устояў. Калі пара перад вачыма распаўзлася, гляджу: у палаце бела, ложкі нікеляваныя блішчаць. Я і ўпёрся вачыма адразу ў яго ложак: ложак вялікі, а на ім ён — маленькі, і ногі забінтаваны, адна і другая. Ляжаць, як усё роўна яны не яго, як усё роўна ён сабе, а яны сабе... І яна... Ну, яна, Волька.. Сядзіць ля ложка на нечым маленькім і сама маленькая, згорбілася, падпёрлася рукой. Халацік на ёй белы, маленькі... І хустка белая на галаве завязана... І такімі яны мне здаліся маленькімі, такімі нейкімі сваімі і так іх абаіх зрабілася шкода, што... Антонавіч ты мой дарагі... Гляджу я здалёку на іх дваіх адразу, пасля на яго аднаго, а яны на мяне не глядзяць... Можа, і глядзяць, але не бачаць... І тут... Хіба ж можаш ведаць сам сябе? Спёрла ў мяне ў грудзях, не магу дыхнуць, і ўсё. Пасля слёзы з вачэй... Я сарваўся з месца і скочыў вон з палаты. Бягу калідорам, хачу з сябе халат сарваць, а ён, пракляты, матузкамі ззаду моцна завязаны. Я рукі за спіну і рву там нешта ў сябе на плячах, рву, хачу выблытацца, як рыба з сеткі, і не магу... Добра, што я пабег у калідор, што мяне ногі вынеслі... Каб яны мяне не вынеслі, я, відаць, падскочыў бы да ложка, бразнуўся б на калені і завыў бы ваўком... І што б было тады — не ведаю... І калі сарвалі ў мяне з плеч белы халат — не помню ўжо хто,— што мне было рабіць? Куды бегчы? Апомніўся я ў чайной... Сяджу, а перада мной на стале парожняя пасуда. Гляджу ў зялёныя бутэлькі, а там Валерка з забінтаванымі нагамі... У адной парожняй бутэльцы і ў другой... Хачу падняцца і не магу. Ляжыць у мяне груз на плячах, як камень... А яны мне...— Корань падняўся раптам на сядзенні і закрычаў на ўвесь аўтобус: — А яны мне вядро на галаву?! А таго не ведаюць, што мне і без вядра... Плюхнуўшыся на сядзенне, ён выцерся ад поту ў дзве рукі, памаўчаў, тады сказаў ужо недзе самому сабе: — А калі я разабраўся пасля, калі свежым ветрам на мяне аднекуль праз акно падзьмула, гляджу, што ў парожняй зялёнай бутэльцы гэта я сам скарабачаны — сяджу за сталом. А на абрусе перада мной — хлеб — цэлая буханка. Не з магазіна, а свайго... Вынятага з печы, вадой палітага. І за сталом ля мяне не Два метры фанеры, а Валерка і Волька... Антонавіч!..— Корань схапіў сябе за грудзі і тузануў за рубашку.— Антонавіч!

І ты, маршал... Дайце я вылезу... Не магу ехаць дамоў, не магу... Вылезу, Антонавіч, вярнуся...

— Пра гэта нельга думаць. Дзе ты цяпер працІснешся? Камар не праточыцца... Як ты вылезеш, казларогі чартуляп?..

— Не хачу ехаць дамоў! Не хачу!..— Корань зноў падскочыў з сядзення, рвануўся ў праход; стукнуўшыся грудзьмі ў чырвоныя курткі, як у сцяну, абвёў усіх насцярожанымі вачыма і, спужаўшыся чырвоных куртак, як воўк у аблаву чырвоных сцяжкоў, плюхнуўся зноў на сядзенне, апёрся рукамі і галавой на бліскучыя поручні і заскрыгатаў зубамі.

Аўтобус пакаціўся з гары з выключаным маторам; стала раптам так ціха, што было чуваць, як дыхае Корань і цененька стукаюць недзе спадыспаду ў бляху дробныя каменьчыкі.

Людзі слухалі — ідаць, невядомую яму, Міфодзю, гісторыю. Нічога не пыталіся, толькі слухалі, бо чалавек раптам сам загаварыў перад усімі пра сваё, пра якое на людзях ніколі ніхто так проста не гаворыць. Ды і ў Кораня, мусіць, такое можна было толькі з языком вырваць, а тут ён сам заспавядаўся перад людзьмі, на што цяпер рэдка хто здатны. І яму ў аўтобусе паверылі: чырвоныя курткі сціхлі, рабочыя пакідалі курыць...

— Спыніся! — крыкнуў нехта шафёру.— Ляціць на злом галавы. Чалавеку блага...

— Блага... Набраўся, дык і блага...

Не ўсе, выходзіць, паверылі Кораню. Былі і цвёрдыя: слухалі яго і маталі сабе на вус.

— Што вы ўсё на яго. Набраўся, налізаўся... З гора. Цяпер, калі чалавек і па сваёй смерці на дарогу абваліцца, дык усе абыходзяць. Ва ўсіх толькі адно наўме: набраўся. А чалавек з гора. Сын абгарэў... А можа, ён па сыне душу роніць?

— Каб раняў, дык бы не кідаў. Многа воўк сваіх дзяцей кідае?

— Воўк якраз і кідае. Там ваўчыца ў сваіх лапах усё дзержыць. І ваўка. Хай паспрабуе не накарміць дзяцей — зубамі за жывот...

— Ты хацеў бы, каб і Волька, як ваўчыца, яму за жывот?

— А такому якраз і трэба. Зубамі!

— Як вам не стыдна? Ён жа ўсё чуе. Чалавек жа прызнаў.

— Ну дык нагніся і скажы: хай вернецца да тэй, калі прызнаў. Дзяцей жа ў гэтай няма. Кіне гэту і пярэйдзе да тэй.

— Языком лёгка кінуць...

— Хай піць кіне. Чаму ён навучыць дзіця, такі бацька.

— Што вы на чалавека сабак вешаеце? Калі ўжо чалавек галаву апусціў...

— Быў бы хлапец з бацькам, можа б, і не гарэў...

— Ат, цяпер адны растуць і не дурнейшыя...

— Ні скажы. Бацька ёсць бацька. Ну і свет пайшоў: жонкам ужо мужыкі не трэба, сям'я не трэба...

— А што жонка павінна рабіць з алкашом? Цярпець? У цябе, можа, не п'е...

— Зубамі за жывот, як ваўчыца. Баяцца будзе — піць не будзе.

— Вот і бягуць ад жонак, што тыя цяпер, як ваўчыцы. Зубамі за жывот...

Падняўся крык: чырвоныя курткі схапіліся з рабочымі. На Кораня ўсе забыліся. Гармідар стаяў такі, што здавалася, у маленькім цесным аўтобусе пачалі выгінацца на двор шыбы. Чырвоныя курткі, кінуўшы рабочых, счапіліся пасля між сабой — падымалі на языкі адна адну. Пакончыўшы адна з адной, браліся за вёску, за горад, за цэлы свет. Ведалі, што гаварыць, і гаварылі праўду: і сабе ў вочы, і таму, да каго яна ніколі не даляціць з маленькага аўтобуса. Дайшло да таго, што вот-вот пачалі б надзяваць адно аднаму на галовы вёдры, як Кораню, але аўтобус раптам тарконуўся і «ворагі» павінны былі абдымаць адзін аднаго, каб устаяць на нагах. Адвіхнуліся дзверцы, і на шашу, на жоўтую кучу пяску, на якой высака ляжалі белыя бетонныя кругі, выскоквалі па адным рабочыя, дзержачы перад сабой палудні, загорнутыя ў газету. Чырвоныя курткі раскудахталіся яшчэ горш, крычучы рабочым бог ведае што, але тыя былі ўжо далёка і «рабілі цёцям ручкамі».

Чырвоныя курткі выйшлі недзе скора за рабочымі на прыпынку: уперадзе была відаць рака, мост з драўлянымі яшчэ пярэчкамі, воддаль яго новая хата з жоўтага бярвення і на рог яе белы бетонны слупок з чорнай лічбай «10» на жоўтым вуху. Пад слупком, падняўшы галовы і распусціўшы хвасты, краталіся індыкі. Міфодзя пазнаў: Пушчанка. Да дому адгэтуль праз будзянскі лес было зусім блізка. Шафёр, падняўшыся і выйшаўшы з-за шкляной перагародкі, сам адчыняў чырвоным курткам дзверы:

недзе заела. Скразняк — праз дзверы і праз акно — сцебануў па галаве калючым зімовым ветрам: Міфодзя пазнаў Кізіну... Шафёра, які тады зімою вёз у «будцы», прычэпленай да трактара, да іх у Крамянец на ўчастак хлеб і падаў халодную, мерзлую, як камень, буханку ў рукі... Кізіна пастарэў, аплыў, пад вачыма мяшкі, з-пад пакамечанай чорнай кепачкі, якую больш, відаць, насіў у жмені, чымся на галаве, ля вушэй і круга шыі тырчаць белыя валасы. Падымаўся ён з сядзення і садзіўся цяжка, дзе яно, тое ранейшае, і падзелася... Відаць, трудна стала па лесе, па выбоінах і балоце ганяць «прычэп» ці «будку» з хлебам і рабочымі, і ён перасеў на аўтобус: тут брук, падмецены ветрам, як венікам. Ды і леспрамгас адсунуўся, падалеў, рэйсы трэба было рабіць кожны дзень аж пад Полацк. І нейкім дзіцячым шчымлівым болем разанула па сэрцы... Зрабілася шкода і тых далёкіх зім з маразамі і са снегам вышэй платоў у вёсцы, з леспрамгасаўскімі «прычэпамі» і ўчасткам у лесе за вёскай, з тым маладым і вёрткім, як уюн, Кізінам з яго «будкай», якая, бывала, кожны дзень ківалася па калдобах на ўчастак і ад якой у тыя галодныя ліпавыя гады пахла хлебам і салёнай траской на ўвесь канец вёскі... Кідалі ўсё і беглі за ёю, як за святым духам, якім жыць можна... А многа прабяжыш галодны па глыбокім пяску... А каб і дабег — што б палучыў? У рабочых былі картачкі, жоўтыя прыгожанькія карталюшкі паперы з дробненькімі, як мушкі ў галоднага ў вачах, лічбамі. Карталюшкі тыя, перагінаючы ў некалькі столак, рабочыя складвалі акуратненька разам з газецінай на курыва і насілі ў зашпіленых на гузік кішэньках на грудзях...

Ці пазнаў бы яго Кізіна? Міфодзя-то яго помніць, а той, відаць, не ўспомніў бы і не пазнаў.

Хай бы жыло яно ўсё тое на зямлі; хай бы не раставаў той леспрамгасаўскі халодны снег, ляжаў дзе-небудзь у лесе ў маленькім куточку — пайшоў і паглядзеў. На ўсё тое і на таго сябе...

Не пойдзеш... І не паглядзіш...

Аўтобус ад маста падняўся на гару, павярнуў управа і, узяўшы разгон па прамой, выбрукаванай яшчэ да вайны шашы, пайшоў пад сонца: там быў дом. Насустрач беглі зажураныя прысады: маладыя асіны з белымі бярозамі і знізу ля іх кучаравы дзікі палявы лазняк, расцярэблены сям-там сцежкамі і дарогамі. Палавое ад іржышча поле далёка за прысадамі, як скінуць вокам, ад сонца здавала-

ся белым. І сціpты саломы, рэдкія, як хутары, здаваліся белымі стрэхамі на хатах. І ля іх хадзіў адзінокі бусел — белая плямка на белым полі... За сціртамі паабапал шашы паказаліся белымі акяніцамі і белым шыферам знаёмыя вёскі з высокімі антэнамі над стрэхамі, са старасвецкімі ліпамі ля хат, замільгалі адна за адной і асталіся вечна стаяць на сваім месцы на зямлі.

Ад белага поля, белага бусла, белых стрэх бела рабілася ў вачах — як зімой ад снегу...

Кончыўся доўгі шнур бяроз, што падымаўся на гару пад Белае, і аўтобус, звярнуўшы з дарогі, спыніўся пад дубамі, ля якіх быў пабудаваны новы, фарбаваны ў сіняе, расхрыстаны для ўсіх вятроў навес — пачакальня для пасажыраў. Першая да дзвярэй кінулася нізенькая чарнявая жанчынка, маладзенькая, як дзеўчынёха. На грудзях у яе была мокрая беленькая нажутка: праз нажутку капала малако. Яно ў яе пачало капаць з паўдарогі; яна спачатку закрывалася далонямі, пасля дастала белы ручнік, паклала на грудзі і прыціснула абедзвюма рукамі. З дзвюма цяжкімі сеткамі ў руках яна адразу пусцілася рыссю ад аўтобуса — бегла карміць малое. За ёй з аўтобуса вылезлі дзеці з чырвонымі вёдрамі, немалады ўжо мужчына — кульгаў і апіраўся на фарбаваную палку і дзве старэнькія — у чорных хустках і ў чорных плюшаўках. Кізіна чакаў, прыцішыў матор, і чуваць было, як ля дарогі шумяць ад ветру дубы.

Трэба было вылазіць. Міфодзя падняў з падлогі чамаданчык, устаў, але яму не даваў выйсці Корань — спаў, апёршыся рукамі на спінку пярэдняга сядзення.

— Казларогі чартуляп...— кратаў яго за плячо Пугач, дзержачы ў рупэ доўгенькую бліскучую скрыначку.— Падымайся. Дамоў прыехалі...

— Калі падымуся, то мы яшчэ выпім... Калі не падымуся — тады ўжо дамоў пойдзем...

— Пра гэта нельга думаць, казларогая судзьбіна... А калі Колас?

Напалоханы Коласам, Корань устаў і роўненька, нават не ззыбнуўшыся, пайшоў у дзверы:

— Жылі і жыць будзем...

Аўтобус схаваўся за горкай — ля маста ў лагчыне. Міфодзю раптам сцяла густая цішыня, аж зазвінела ў галаве — нібыта выскачыў з аўтобуса дзе на чужую планету. Сонца стаяла на паўдні, якраз над Белым, між двух цяжкіх, як горы, белых тулягоў. Недзе там азваўся рэактыў-

ны самалёт. Ад гэтага цішыня здалася яшчэ гусцейшай і знаёмай — сваёй... Яе ён помніў і пазнаваў усюды — дзе б ні быў.

Дарога, што вяла ад шашы ў Белае, вузенькім неглыбокім торам ад калёс разразала надвае шырокае поле бручкі-кузікі, зялёнае ад высокага, у калена, шырокага крамянага лісця, і ён пабег збоку ля неглыбокай каляі, чапляючыся нагамі за круглую кузіку, якая выпірала з зямлі і трэскалася ад выгоды. Злавіў сябе на тым, што бяжыць, як бег усягды дамоў, калі клікала маці...

Дарога цераз поле была ў рытвінах і каменні... І лісце на кузіцы было паточана чэрвем...

Белая бальніца скакала ў вачах то ўверх, то ўніз; і сонца ў небе паміж двух цяжкіх белых тулягоў паяўлялася то па адзін бок дарогі, то па другі. Кузіка сцёбала па нагах цёмным цяжкім, мокрым ад расы лісцем — не абсохла яшчэ з начы.

Ён ускочыў на пусты ганак бальніцы, прынёсшы з сабой на нагах кавалачкі чорнай раллі з поля і мокрага зялёнага лісця ад кузікі. Яму адчыніла дзверы сястра у белым халаце — стаяла і папраўляла на галаве беленькую шапачку з яркім чырвоным крыжыкам.

«Праскурніч'я...» — ён помніў яе і пазнаў.

## 3

У палату забег Колас, калі яго не чакалі: якраз перад палуднем — без халата, вясёлы, з чорным апаратам у руцэ. Марфа сядзела на ложку, цяжкая, як валун. Села — не зварухнецца, не паверне галавы: думае. І рукі дзяржыць перад сабой, як усё роўна на рулі ад трактара. Выліна прыхінулася да ложка, да бліскучага брыжа — адна рука ў кішэні ў халаціку, другая з расчоскай: так і застыла расчоска ў пасівелай, падфарбаванай хной завіўцы. Чайка глядзела ў акно, апёршыся на падаконнік,— Коласа яна не бачыла.

Колас адразу падышоў да Алімпіядзінага ложка і стаў ля белай табурэткі. Табурэтка цяпер не прымалася ад ложка: на яе памінутне садзіліся то Праскурніч'я, то Пугач, то Колас. Не сядзелі яны — стаяў бліскучы апарат, і з яго цягнулася шэранькая папяровая з вострымі і тупымі чырвонымі зубчыкамі на ёй кардыяграма.

Колас сеў на табурэтку лёгка і весела; чорны апарат паклаў на калена.

— Ну як наш пульсік? Сёння ўжо чацвёртыя суткі пайшлі, як вы выкінулі коніка...— ён узяў руку, сцяў пальцамі ў запясці і хітра глядзеў у вочы, нават як і не слухаў.— Та-ак... Кардыяграмка раніцай была яшчэ лепшая. Такую кардыяграмку меўшы, як гаворыць Корань, жыць будзем. За грудзьмі не ціснe? Нам цяпер трэба, каб за грудзьмі не ціснула. Каб там было лёгка і добра, так, нібы рубашка на грудзях расшпілена і лёгка дыхаць. Як учора пасля дажджу... Ну дык як? Чакаем сына? Гм?

— Мне ўжо лепш, доктар. Можа, і не трэба было сына кратаць? Гэтулькі мітрэнгі нарабілі...

— Дык мы дадзім другую тэлеграму, каб не ехаў. Гм?

— Хто гэта, доктар, не хоча ўвідзець сваё дзіця перад смерцю...

— Ну-ну... Зноў за сваё. Смерць ужо далёка, а сын недзе ўжо блізка. Едзе. Не відзелі сон?

— Не відзела. Не сплю...

— Ну, снатворнага, скажам, вам не прыпішу, абыдземся, а вокны нанач шырэй адчыняйце. Анекдоцікі...

— А дзе ж іх узяць, доктар?

— Нічога. Пачнём са старых, каторыя з барадой, і кончым цяперашнімі. Пройдзем курс. Дайце руку. Змеру ваш ціск. Да анекдота і пасля анекдота...— Колас рабіў усё спрытна: зацiснуў манжэтку ў яе на руцэ, заткнуў вушы сінімі трубачкамі, і апарат у яго пад рукамі, здалося, зашыпеў сам. Балюча сціснула руку вышэй локця, нібы яна ўпічаміла яе дзе ў плот.— У-гу... Ніжненькае яшчэ ў нас... Ніжненькае... Ад ніжненькага і сэрца наша ціснe... Справімся і з ніжненькім, справімся... Вот прыедзе сын — гэта лепш за ўсякую магнэзію... Радасць. Радасць яшчэ не вывучана. Многія цяпер лічаць, што радасныя эмоцыі... Ну, на вячэрнім абходзе, я думаю, у нас і ніжненькае будзе лепшае...— Колас склаў апарат, схаваў за спіну і сабраўся ісці.

— А анекдот, доктар?

— Анекдот? Ага. Адзін доктар лечыць-лечыць кашаль і ніяк не можа вылечыць. Узяў доктар і даў хвораму таблетку пургену. Хворы праглынуў, пасля пытаецца: «А чаму вы мне далі пурген ад кашлю?» А доктар і кажа: «Чаму? Аднаму, вун, даў учора, дык і сёння яшчэ баіцца кашлянуць...»

Колас падняўся з табурэткі і, як усё роўна падпаліўшы палату, хуценька пайшоў да дзвярэй. Выліна зайшлася ад смеху, як малое дзіця ад плачу; перавёўшы дух, за-

пішчала на ўсю палату і паваліласся на ложак — пакацілася бурдой:

— Умру... Ужасць...

Кранулася на ложку Марфа, нібыта пасунулі цяжкі камень. Не смяялася, толькі вочы ў яе гарэлі цьмяным сцёртым старым бляскам. Чайка адскочыла ад акна аж на сярэдзіну палаты і пляснула ў далоні. Цяжка было не засмяяцца і Алімпіядзе...

Убегла Праскурніч'я — белая шапачка, чырвоненькі крыжык, далікатненькі халацік наросхрыст, вочы смяюцца: чула, відаць, усё з калідора. На Выліну нават не глянула, падбегла да Алімпіяды, падала маленькую жоўтую шкляную чарачку як усё адно з віном.

— Валерьяночка, тетя Улима... Валерьяночка... Можете не вставать, я вам сама...— яна скоранька і акуратненька падсунула руку ёй пад галаву, падняла і паднясла да самага рота чарачку. Запахла свежым валяр'янавым коранем, як на балоце, калі наступіш нагой на купіну і кранеш густыя дробненькія белыя карэнні...— Ну вот, умница... И сердечко наше теперь не будет так громко стучать...

І толькі цяпер Алімпіяда здагадалася. Позна здагадалася, старым ужо розумам, што яе да нечага рыхтуюць: і Колас, і Праскурніч'я. Анекдоцікі, валяр'янка... Забегалі ля яе...

«Нешта зрабілася...»

Гэты раз горача стала не ў грудзях — гарачыня хлынула ў галаву: загарэліся шчокі, лоб, зрабілася гарачая падушка. Яна тады, апёршыся лакцямі аб ложак, падняла галаву з гарачай падушкі і цераз плячо Праскурніч'і зглядзела на парозе ў палаце... Міфодзю... Фуражка з бліскучым чорным аколышкам махнулася ў яго з галавы, як паляцела куды, стрыжаныя караткавата светлыя валасы сталі дыбка, на чырвоным, як ад натугі, лобе былі відаць здалёку буйныя, па гарошыне шкляныя кроплі поту. Нос у яго загарэў і лупіўся. Толькі вочы, як усягды, былі сінія, з васільком, і глядзелі на яе з прыхаванай трывогай... Пасля раптам і лоб, і шчокі, і шыя ў яго пыхнулі густым чырвоным макам... Сінія вочы мякчэлі, мякчэлі, наліваючыся слязьмі. Па падлозе загрукалі ногі. Яна тады, забыўшыся на ўсё, тузанулася на ложку, каб устаць.

— Спакойненька... Спакойненька... Ляжыце...— Праскурніч'я ўпёрлася ёй рукамі ў грудзі, а так бы яна ўстала і пайшла б яму насустрач.— Падыдзе сам. Сын ужо

тут даўно. Сядзеў і чакаў. Думаеце, прыехаў і адразу ў палату? Гэта ж бальніца. Без дазволу не ходзяць...

Яна тады спружылася, адапхнула ад сябе Праскурніч'ю і, звесіўшы босыя ногі на подлогу, села і глядзела ў парог на сына, як праз вільготны дым, а сын ішоў да яе надта ж ужо доўга, як адкуль здалёку...

Праскурніч'я саступіла ўбок — махнуўся перад вачыма белы халат,— і Алімпіяда, седзячы, выставіла ўперад рукі, каб пераняць Міфодзю. Здалося, што ён хістаецца, возьме і ўпадзе...

— Ма-амка...— ён дацягнуўся здалёку да яе рук, схапіў іх сваімі дужымі рукамі, сціснуў і глядзеў усё на яе, глядзеў, а ёй раптам як засланіла: нічога не бачыла — ён расплываўся і хістаўся ў вачах. Пасля ён раптам ззыбнуўся і грукнуў каленямі аб падлогу ля ложка... Уткнуўся, як некалі маленькі, галавой ёй у калені, і плечы ў яго затрасліся-затрасліся... Яна падняла рукі і пачала гладзіць яго па галаве... Гладзіла і чула, як спёрла ў горле і як капаюць з воч слёзы яму на мяккія мокрыя валасы.

Загаварыла раптам густым шэптам Праскурніч'я:

— А вы што пасталі? Марш усе ў сталовую. Выліна і вы, Марфа... Усе... Абед стыне. Не к ліцу вам, не к ліцу... Уставіліcь... Не відзелі, як ад радасці плачуць? Мне сказана быць, але і я пайду з вамі. Пакінем адных. Калі што — салдат пакліча... Чуеш, салдат?

Алімпіяда падняла вочы і згледзела, як яны ўсе пайшлі адна за адной з палаты, ціхенька, як вінаватыя гускі з чужога двара, і ёй зрабілася неяк няёмка — праз яе выганяюць з палаты людзей.

Праскурніч'я вярнулася з парога, узяла з брыжа ручнік і выцерла ёй, як малой, твар ад слёз, паправіла на грудзях халат і зашпіліла на гузікі.

— Ну вот і ўсё... Вы ўжэ смеётесь... Мы чакалі, што будзе горш. Толькі супакойцеся. Калі будзе плакаць — кліч, салдат...

Праскурніч'я выйшла, шырака расчыніўшы дзверы ў калідор. У парозе яна падняла з падлогі фуражку з чорным аколышкам і панясла з сабой — назад не варочалася.

Яны засталіся ўдваёчках.

Ціха стала ў палаце. Толькі ў сталоўцы быў чуваць прыцішаны далёкі вясёлы гармідар — нібыта ў суседзяў праз вуліцу было вяселле, а іх узялі і не запрасілі. Яны сядзелі, глядзелі адно на аднаго і маўчалі. Калі яна доўга глядзела на яго — блытала з Мікалаем... Здавалася, ся-

дзіць упобачкі Мікалай — такая ж складка на пераносіцы і такія ж бровы. І вочы такія, калі прама глядзяць на цябе. Яна не магла ўявіць сабе Мікалая старым, такім, як яна — яны ж равеснікі; Міфодзя дагнаў па гадах таго, жывога, маладога Мікалая, і яна пачынала іх блытаць.

Ён ціха гладзіў яе шурпатыя рукі з набухлымі венамі і сагнутымі ў крук цвёрдымі — адны костачкі — пальцамі. Яна дзяржала іх, падняўшы з калень, ёй цяжка было іх дзяржаць, але яна баялася іх апусціць, слухаючы, як пад яго далонямі суха шорхае яе патрэсканая, загрубелая ад вады і ад малака скура... Рукі ў яго былі мяккія і цёплыя і пахлі адэкалонам. Яна глядзела на іх, і ў памяці варухнулася, як яна першы раз ударыла яго па руках... Былі тады яго рукі маленькія-маленькія, і быў тады сорак другі год, і ў той дзень па вуліцы ішлі партызаны — адзін нават быў з гармонікам: іграў. У той дзень яна і ўдарыла Міфодзю па руках. Вярнулася дамоў, а ён у гародчыку ад вуліцы гуляе разам з курмі ў пяску, і ў руках у яго яе пашпарт. Нямецкі, выданы ў Плешчаніцах — жаўтаватая, складзена ўдвая карталюшка паперы. Узяла яна пашпарт, а там няма картачкі. Фіялетавы кружок ад пячаткі быў шчарбаты. Картачкі так і не знайшлі...

Яны маўчалі, ён моцна трымаў яе за абедзве рукі. Рукі балелі, але яна не кранулася, глядзела і глядзела на яго, як усе гэтыя гады праз акно на грэблю: а можа, ён ідзе? Ён апусціў рукі, яна ўздыхнула і толькі тады пачула, пра што ён пытаецца.

— Быў інфаркт?

— Мусіць, не. З інфарктам тут не пакінулі б. Затарабанілі б у Плешчаніцы. Хто тут інфаркт той вылечыць. Жаба, сказаў Колас...

— І мне ён сказаў тое самае.

— Настрашыла я вас, дзеці. Чую — не выжыву. Так ужо вас пакідаць не хацелася, так ужо заманілася на вас яшчэ раз глянуць... Будуць у вас свае дзеці, успомніце тады мяне, старую...

— Усё прайшло. Цяпер толькі паляжаць трэба. Аддыхнуць. І не плакаць...

— І адпусцілі, глядзі. Я не чакала. У цябе там вялікае начальства. А для вялікага начальства і прычына трэба вялікая. Што там хворая старая баба ў вёсцы... І сярод вялікага начальства, відаць, ёсць добрыя людзі. А так бы не пусцілі...

— На пяць сутак з дарогай. Гэта многа на сягоншні дзень...

— Віджу, што і табе там нялёгка...

— Пагаворым яшчэ. Толькі я наперад скажу: пайду да Дзярызямлі. Не хочаш сама ферму кідаць па хваробе, хай ён цябе вызваліць. А то тут крыжам кладуцца, а пра сябе не думаюць. Як гэта ўсё выйшла?

— Гарачыня, сын... Гарачыні я не вынесла разам са скацінай. Гарачыні збаялася... Толькі я вам, дзеці, адно скажу: мне адрачыся ад фермы — усё роўна, як ад вас, мае дзеці, адрачыся. Вас я падняла... Не магу толькі сабе даравацъ, што Тані свет завязала. Хаця, я яе не дзяржала і дзяржаць не буду. Так што, лічыце — я адна. Толькі хваробы ў мяне цяпер і ферма. Вот ад хвароб я адраклася б, мае вы дзеткі... Пахудзеў, згарэў на сонцы... Памаладзеў... Я як увідзела ў парозе — дробненькі нейкі, як усё роўна лётчыкі, што раненыя ў вайну былі на заставе... Сніцца яны мне пачалі... Ці добра хоць кормяць вас?

Ён усміхнуўся, першы раз за ўвесь час у палаце. Яна ўздыхнула:

— Вот зварыш бульбы... Маладой, з-за вуліцы. Рассыпаецца... Дастанеш гаршчэчак з печы, паставіш на прыпечку... Тані дома няма, адной і есці не хочацца. Сліну з рота толькі горкую гоніць... Вот так: зварыш бульбу, а яе няма каму ў хаце на стол насыпаць... Як найдзе тады на мяне... Здаецца, закруціла б гэты гаршчэчак з бульбай у ручнік і панясла б яго на край свету, цябе шукаючы...— яна не стрымалася і захліпала на ўсю палату, з вачэй пайшлі слёзы. У расчыненых дзвярах адразу махнулася Праскурніч'я.— А так — жывём... У вёсцы ціха. Ніхто пасля леташняга не памёр і не жаніўся. Дзеці толькі падраслі. З таго канца дык я ўжо ўсіх і не ведаю, чые яны. Па бацьках пазнаю. Горача толькі было гэтым летам. Усё пагарэла. Камбайны пайшлі па ячмені — стрыгуць, як кароценькую воўну на дохлых авечках. У нас ніколі так не было. Цяпер, во, дажджы пайшлі, бульбу, можа, уратуюць. Чым толькі скаціну зімой будзем карміць: ні сена, ні саломы...

У калідоры пачалі хадзіць і бразгаць вёдрамі. Расчыненыя насцеж дзверы зноў заслапіў расхрыстаны белы халат, але ішла не Праскурніч'я, а Сцяпанаўна. Ішла з белай анучкай у руцэ — мах па брыжы ў ложку, мах па тумбачцы зверху — і была нейкая гордая, падняла высака галаву, аж сівая кукла лягла ёй на плечы.

— Здароў, братка...— сказала яна здалёку Міфодзю з нейкай цвёрдай злосцю ў голасе.— Ну, якія гасцінцы мацеры прывёз? Паказвай... Ці, можа, думаеш, сам гасцінец, тваю макаўку, калі чамаданчык паставіў далёка ў калідоры? Цяпер так... Цяпер сам паявіцца — дык яму яшчэ трэба гасцінец даць за тое, што паявіўся да маткі... А ты на мяне, сястрыца, не злуй. Мой Колечка быў бы якраз такі. Ты не помніш, а я помню, што яны равеснікамі былі... Ніхто ўжо ў вёсцы не помніць майго Колечку, адна я...— яна, гордая і нейкая чужая, не такая, як усягды, прайшла па палаце аж да акна, зачапіла яго анучай і вярнулася назад. Не глядзела ні на яе, Алімпіяду, ні на Міфодзю — утаропілася некуды перад сабой і застыла: — Можа, ты, сястрыца, ад такога гасцінца сама пабяжыш у сталовую? — сказала і, памаўчаўшы, уздыхнула: — Ты на мяне, сястрыца, не злуй. Пакармлю, калі ўсе разыдуцца. І калі гасцінец твой пойдзе. Доўга ля сябе не дзяржы. Гані дамоў, ды касу ў рукі. Сена на карову за гэтыя дні па кустах накосіць...— Сцяпанаўна пайшла, распусціўшы халат і анучку ў руцэ — закрыла белым на мінуту ўсе дзверы.

Алімпіяда пачула, як нешта аж ёкнула ў грудзях:

— Не глядзі, сын, на Сцяпанаўну... Перад ёй грэх раздавацца... І на мяне не глядзі... Я цяпер многа плачу. Лягчэй... Вот падумала: прыйдзеш дамоў, а ў хаце нікога... І слёзы з вачэй...

Ён скаранька дастаў з кішані з фрэнча беленькую хустачку, махнуў перад сабой і, падняўшыся, нахінуўся і пачаў выціраць ёй слёзы. Яна тады ўзяла ў яго з рук сваімі цвёрдымі, як карчы, рукамі хустачку і паклала на калені. Глядзела на вышытую ў ражку ладную ружовую кветку, як дома ў гародчык праз частакол на настурцыю, і нічога не бачыла ад слёз. Чула толькі, як за плячыма ў сына ў калідоры весела шумелі і мужчыны і бабы — таўкліся, нібы вылезлі з-за стала на бяседзе. Дзверы ў калідор былі зачынілі, пасля белы халат расчыніў іх, пераступіў парог, а за ім і астатнія.

— Тваю макаўку... Прывёз мацеры гасцінец — слёзы...— зноў у палату ішла Сцяпанаўна.— Калі ж я цябе накармлю, сястрыца? Аднымі слязамі сыт не будзеш... Занадта салёныя яны... Горка, сястрыца, ад іх...— Сцяпанаўна нясла ў руках місачку, хацела падаць яе Алімпіядзе на калені, але на каленях у яе ляжалі рукі — як нежывыя. Сцяпанаўна ступіла да тумбачкі, але адышлася і паставіла місачку на падаконнік.

У палату за Сцяпанаўнай ішлі жанчыны — першая працісьнулася з калідора Чайка.

— Я спачатку яго і не разгледзела... Ён жа ў цябе, Уліма, прыгожы... Такі з твару чысты, такі сімпатычны... І ў Мікалая ўвесь...— Чайка хуценька прабегла ля іх, зыркаючы сваімі жоўтымі бліскучымі вачыма, і хуценька плюхнулася на свой ложак: са свайго ложка не згоніш.

— Прыгожы і нежанаты...— падцяла Выліна нафарбаваныя вусенкі — ішла за Чайкай, папраўляючы ў дзве рукі завіўку. У яе гарэлі вочы і былі добрыя-добрыя, гатовыя памагчы чалавеку ў бядзе.— Цёця Уліма, а мы яго давайце жэнім... Чаго яму тады было ехаць такую даль. Мы тут усе жывы-здаровы, песенькі пяём, дык што яму рабіць... Цёця Уліма... Колькі гэта ён у вас будзе нежанаты?

— Заялаваў, яго макаўку... Хоць бы ўнукаў матцы падкінуў... А то яна ўсё жыццё да старасці цялят ды цялят па поўсці гладзіць...

Выліна падміргнула Сцяпанаўне і сама, як і Чайка, села хуценька на ложак:

— Хаця, гэта не тое, што да вайны... Цяпер надта ўжо і не бягуць за афіцэраў, ужасць...

— А за каго цяпер, любка, надта бягуць? — Чайка гладзіла далонямі шчокі, пазяхаючы.— Цяпер лепш жывуць тыя, хто без мужыкоў...

— Ужасць, што ты гаворыш... Марфачка наша ўсю жызню без мужыка... Ужасць... Усю жызню пакутвала...

Марфа прайшла ля іх да свайго ложка, села, як баючыся, падпёрлася, утаропілася на Міфодзю сваімі глыбокімі сумнымі вачыма і глядзела, не зміргнуўшы: пра што гавораць? Муж? Сын? Стары Марфін твар быў шэры і чысты, як падмецены двор; маршчыны — што палосы ад гальніка на пяску... Аджыла сваё Марфа на зямлі: гады змянілі ёй твар, высушылі вочы, загналі іх глыбака пад лоб, і яны глядзелі цяпер адтуль на чужога сына чэрства і суха...

— Сама вінавата, яе макаўку, твая Марфа... Пад трактарам усе свае маладыя гады праляжала... А трэба было пад мужыком... Руль круціла, а трэба было хоць адзін раз мужыку крутануць, яго макаўку...— Сцяпанаўна засмяялася сама, а з ёю і ўсе ў палаце. І ў Марфы ад смеху паяснелі вочы: яна ні на каго не крыўдзілася.

— Дзеўкі ў зборы — песні хорам... Можна пачынаць...— загаварыў з парога Міхол. Ішоў, не так ужо нагнуўшыся ўперад, параўнеў за гэтыя дні ад уколаў. За

ім — Яноўскі з Жучком, у клятчастых рубашках, і ў расхрыстаным сінім цёплым халаце — Харбін. Зэнку выпісалі, і яго, прыехаўшы, забралі на машыне меліяратары. Верамея ўчора, вызваўшы «хуткую», адвязлі ў бальніцу ў Плешчаніцы, і цяпер пра яго ў палатах не гаварылі: чакалі бяды. Апошні стаў у парозе, дзе ўсягды стаяў Зэнка з кнігай, стары Жораў з Краснаволля: маленькі, чорненькі, кучаравенькі — як смарчок вылез з зямлі.

— Ну здароў, лейценант...— Міхол падаў Міфодзю здалёку сваю вялікую кулакастую руку.— Цябе і не змеціў. На дзяўчат загледзеўся... Ну як яно там, лейценант? Служым? А помніш, Уліма... Ды кінь ты плакаць. Вытры гэту бабскую расу пад носам...— Міхол першы падышоў да парожняга ложка і паціху апусціўся на край.— Помніш, Уліма, як я яго на работу будзіў? Прыйшоў ён з экзаменаў, спіць у цябе на падлозе, а я яму нагой пад бок: уставай касіць...

— Кладзі ў бот... Ты ўсіх тады заціснуў у кулак, не даваў нікому з дому вучыцца пайсці. І ўсё роўна ў цябе нічога не выйшла...

— Хто гэта тады ведаў, што з нашых нехта выўчыцца. Ён першы ў вёсцы скончыў дзесяць класаў... І знаеш, Уліма... Добра ён зрабіў, што тады ў ваеннае... У тыя гады... А ў ваенным — на ўсім гатовым. Памагаць з дому не трэба было. А цяпер глядзі, во... Чым не герой? І выцягнуўся ён у цябе, вышэй Мікалая, вышэй... Армія падцягвае... Ну што там, лейценант, на свеце?

У Міфодзі пыталіся, але гаварыць яму не давалі. Ён устаў і стаяў ля ложка: трэба было вітацца з мужчынамі.

— Што гэта мы ўсю жызню: што там на свеце? Што там на свеце? А свет цяпер у нас. Хай другія пра нас пытаюцца. Праўда, Уліма? — Чайка падняла голас і перакрычала Міхола.

— Праўда, Чайка, праўда... У нас і радзікуліт лепшы, чымся дзе на свеце.— Жучок вышчарыў зубы, сунуў хуценька руку Міфодзю, як што сакрэтнае перадаў, падышоў і сеў на ложак побач з Міхолам.

— Ага, ага...— падаў і Яноўскі сваю руку з закасаным па локаць рукавом.— Пры маім старшынстве цябе ўжо дома не было. Ты ўжо толькі прыязджаў. Пагаварыць добра ніколі не прыйшлося: не піў ты, у рот зусім не браў. Што, і цяпер яшчэ не навучыўся? — Яноўскі адкасаў рукавы і сеў на ложку ля Жучка.

— Ці чэрці, сусед... Ён жа ў мяне пад плотам выкачаўся...— Харбін узяў Міфодзю за руку, дзяржаў і глядзеў зблізку ў вочы, як не пазнаваў.— Хе-хе... Можа, чым добрым пачастуеш, сусед... Некалі да вайны ў пагранічнікаў «Казбек» быў. Хе-хе... Сам начальнік заставы Кокараў частаваў «Казбекам»... Усякай мякіны і за вайну і пасля вайны я ў роце падзяржаў, а на той «Казбек» ні разу не налучыў, хе-хе... Ці чэрці...

Міфодзя толькі пераглянуўся з маці,— хоць ты бяжы ў магазін ды купі. І ўсе глядзелі на яго — як ён будзе частаваць. І ён, пачырванеўшы, як усё роўна яго злавілі ў чужым гародзе, сказаў:

— Дык я ж не куру...

— Хе-хе... Ты можаш і не курыць, а старому па-суседску мог прывязці, каб пачаставаць. Хе-хе...— Харбін не выпускаў яго рукі, яны так і стаялі.

— Кладзі ў бот. Ну і армія пайшла: не п'е, не курыць... Тады баб трэба ў армію браць...

— Во, яго макаўку... Наеўся, напіўся за шчот бальніцы, жывот яму зашылі, ні капейкі не ўзяўшы, дык яму мала... Яму яшчэ «Казбек» падавай. Бяжы, купляй... Спрагавеў пад старасць. Не прыставай, тваю макаўку...— Сцяпанаўна як стаяла блізка, так і хапіла Харбіна за другую свабодную руку.— Ідзі сюды, мой расхрыстаны, ідзі... Я табе дымок у рот пушчу...— яна, тузануўшы яго, пацягнула ў кут да Чайкі на ложак. Крутануўшы, пасадзіла яго ўпобачкі і ашчарэпіла рукой за шыю.— А я ўжо думала: возьмеш — пайду. Кіну гэту бальніцу, буду за адным табой, братка, глядзець. Дык ты ж аскупеў, братка, пад старасць, тваю макаўку... Усе мае папяросы скурыў за гэтыя дні, а сам жа ні капейкі не даў, каб у магазін схадзіла... Буду я цябе тут і карміць, і паіць, і падціраць за табой, яшчэ за свой шчот і папяроскамі частаваць, тваю макаўку... А вы яшчэ, бабы, сваталі мне яго. Жаніх... Сціснуў грошы ў капшук і дым пусціць не мае за што... Зашпіліся лепш, а то свой асноўны капшук згубіш... На людзі паказваеш, тваю макаўку...

— Адчапі ў яго, Сцяпанаўна, асноўны капшук, адчапі... І кладзі ў бот...

— Ужасць...— Выліна адвалілася на ложку да сцяны і зайшлася ад смеху. Сонца даўно ўжо звярнула з паўдня, зайшло ў палату і кінула на сцяну шырокую скошаную жоўтую паласу — якраз Выліне на твар. Заблішчэлі яе белыя зубы, нафарбаваныя чырвана вусны і слёзы ад сме-

ху на вачах. Забыўшыся на ўсё, самая далікатная Выліна памірала ад смеху...

Затраслася Марфа, як заведзены трактар; падняла ўгару рукі Чайка і пляснула ў далоні; засіпеў на ложку Жук, тоўхаючыся лакцямі; узяўся за жывот у парозе стары Жораў і заскрыпеў новым у палаце смехам — такога тут яшчэ не чулі, і ўсе павярнулі да яго галовы.

І была хвіліна, калі Алімпіяда забылася, што цісне ў грудзях і вядзе ў бакі галава. Нібыта людзі прыйшлі да яе ў хату з усёй вёскі на Міфодзевы хрэсьбіны... Расстаўлены ў хаце сталы, і на сталах высокія міскі з хрушчамі, панакручванымі, спечанымі на драждах, поўненькімі і румянымі, памочанымі ў смятану з тварагом і пасыпанымі цукрам... Устане яна зараз з ложка і пойдзе насіць з сяней з шафарні бутэлькі з рускагоркай, адваранае халоднае мяса, нарэзаную паляндвіцу з кілбасой, квашаніну, сыр, масла... І будзе насіць і насіць удваіх з Мікалаем, аж пакуль не стануць гнуцца сталы. Тады ўжо запросяць першых за стол кума і куму, а пасля ўсіх астатніх... Садзіцеся, дарагія госці, садзіцеся...

— Садзіся, сын...— сказала яна Міфодзю, і ён сеў цяпер воддаль у нogі. Яна не чула смеху: здаецца, учора былі хрэсьбіны, а часу паміж імі і сённяшнім днём — трыццаць гадоў — як і не было. Учора хрэсьбіны, а сёння сын — во які...

— Што ты, тваю макаўку, сястрыца, хаваеш яго сабе пад падол... Хаваеш — а ён і заялаваў... Тры дзесяткі пражыў, а не жаніўся... Давайце, бабы, раскінем сваім бабскім розумам: Харбіна на мне вы не жэніце, на ліха ён мне загнуўся са сваім капшуком... Давай, сястрыца, мы ў цябе вяселле топнем. Прыехаў сын цябе хаваць, а мы яго — цап! і вяселле ўстроім. Жэнім! Нявестку пакіне і ўнука зробіць... І ў бальніцу нявестка будзе прыбягаць, а то адна дачка разрываецца: і за цябе на ферме, і дома, і на рабоце... А нявестку мы выберам такую, што толькі цябе і глядзець будзе. Праўду, бабы, кажу?

Цяпер усе кінулі Харбіна і загудзелі каля Міфодзі.

— Праўда, Уліма. Чаму не жэніцца? Можа, дзе на свеце? Ужасць...

— Не. Маці б знала...— адказала Алімпіяда, і ўсе загудзелі яшчэ больш: не сцуралася гутаркі сама маці, значыць — дзела будзе...

— Кладзі іх у бот, Уліма. Старыя куры. Жаніць, жаніць... Я табе вот што скажу: хай падбяжыць да старшы-

ні і хай той адмерыць дзялку ля Кур'янаўскіх Садоў, там усё роўна будуць дзяліць на працадні, а калі — бог ведае... А хлопец і скосіць і высушыць, і дамоў прывязе за водпуск. Бяды не будзе з каровай. Ды і плот хай перасыпіць, страху агледзіць, каб не цякла. Я помню — з арміі ўсягды пускалі страху перакрыць. Напішам начальніку часці, што ў маці страха цячэ, заверым — сына і пусцяць у водпуск.

— І ты тады з тым сынам нос мачыў... Крывасмок, тваю макаўку... А мы — жэнім... Да дзевак ён здатны. Была ж у яго. Маці знае, і мы знаем. Дык трэба было браць. Не ўзяў, упусціў. А яна выйшла за манцёра, чатырох дзевачак нарадзіла, а манцёр той як заліў, дык не адкачалі... У такія маладыя гады заўдавець з чатырма маленькімі дзяўчаткамі... А я табе, братка, скажу, тваю макаўку... Хай і матка чуе... А ты яе ўсё адно бяры. З чатырма дзяўчаткамі бяры... Не глядзі, што адна з іх хворанькая. Бяры і не глядзі ні на што. Такая смуглая, такая прыветлівая, такая... Кроў з малаком. Бяры, братка, і не ўсміхайся. І я тады на тваім вяселлі топну.

— Ужасць, цёця Уліма... З такім пасагам. Знойдзем мы яму і без пасагу...

— А ты язык свой не падтыкай. Свая, вун, лахудра ёсць. Але яна не раўня той: сухазадая. Штаны носіць, каб таўсцейшы зад быў, каб было чым круціць. Знаю я, на кім ты хочаш яго жаніць. Сама ты яшчэ фарбуешся кожны дзень. Сама яшчэ за яго пайшла б, каб толькі ён пальцам кіўнуў. Праўду, бабы, кажу? Га? Вашу макаўку...

— Ужасць... Яна сёння цэлы дзень п'яная...

— Кладзі яе ў бот, Сцяпанаўна, кладзі... І ўсіх іх, баб, кладзі. Ім бы толькі замуж выходзіць. Кожны дзень...

— Заткніся са сваім ботам, тваю макаўку... Усю жызню толькі тое і рабіў, што клаў у бот. Маўчы, а то як накладу — усю тваю астатнюю жызню пад носам свярбець будзе...

Сцяпанаўна завялася. Усе ведалі, што цяпер ёй свой язык не падтыкай, і не чапалі яе. Заходзіліся ад смеху, узяўшыся за жываты, але ніхто яе не чапаў. Харбін адсунуўся на ложку і заціскаў круга паясніцы халат — хаваў сябе ад Сцяпанаўны за вынашаным бумазейным шчытом. Жораў першы раз чуў такое — прысеў у парозе ад смеху, азіраючыся па баках; Жучок, адкінуўшы галаву, клекатаў, як малады бацян на гняздзе; Міхол толькі схапіўся за паясніцу ў дзве рукі і выцягнуў усяго сябе ўперад. Яноўскі апусціў галаву і круціў доўгім носам, як усё роў-

на яму пачало смярдзець; Чайка зачырванелася аж да вушэй, зайшлася і з'ехала з ложка на падлогу: у Марфы з-пад лоба бліснулі вочы, як лямпачкі; Выліна на ложку не магла нідзе знайсці месца...

Ніхто не чапаў Сцяпанаўны, і яна сама выбрала сабе ахвяру — Выліну.

— А ты, пся маць тваю зарадзіла, больш усіх з мяне старой жыватом качаешся? Перастала ўжо на сёмае бервяно за вуглом? Дык скора зноў пачнеш... Круціцца, муціцца, сама выгінаецца перад мужыкамі...

— Сцяпанаўна... Ды ты што? Ужасць... Ціхі час цяпер. Ціхі час. Не шуміце...— Выліна пазірала на ўсіх, хацела сама яшчэ абразуміць неяк Сцяпанаўну, не магла і прасіла помачы: баялася перад усімі трапіць на язык Сцяпанаўне, але трапіла і цяпер выкручвалася, як скурат на агні, і не магла выкруціцца.

— Які табе — ціхі час? Ціхі час, сучка, будзе табе пад бярозамі. Адляжышся... Думаеш, што ён да цябе не прыйдзе? Прыйдзе. Думаеш — накруціла-намазала, дык дзеньатодня маладзееш, ведзьма лахматая?Тваю макаўку... Ляжаш пад бярозы як міленькая... Выгінаешся, што гадзюка. Пад паленам толькі табе выгінацца, лярва. Маладая, шчаслівая... Дачка вырасла... Замуж аддавалі, вяселле спраўлялі... Чатыры дні шумела-грымела на ўсю вёску... Чатыры дні... Багатыя, шчаслівыя... У цябе дачка, у яе во, у Алімпіяды, сын... Сядзіць тут, прыгожы, малады... І яго жаніць збіраецеся... І ў яе, у Алімпіяды, чатыры дні будзе грымець хата... Шчаслівыя-я-я!..— Сцяпанаўна раптам падскочыла з ложка, ухапілася ў дзве рукі за галаву і закрычала нема на ўсю палату: — А я свайго ў зямельку закапала!.. А я ж яго костачкі ў абрус закруціла, за плечы закінула і на могілкі занясла!.. А яны ж былі равеснікі!.. А ніхто ўжо майго Колечку не помніць... А яго ж сырая зямелька ажаніла... А ў вас ва ўсіх будуць вяселлі... А ў мяне ў адной не будзе... Ненавіджу вас усіх!.. Ненавіджу!.. Вы сваіх дзяцей на могілкі не пазаносілі... Не пазакопвалі... Ненавіджу!.. Усе вы ляжце пад бярозы, дык я па вас не заплачу... Слязы не пушчу... Ненавіджу!..— Сцяпанаўна крычала і, узяўшыся рукамі за галаву, ішла немаведама куды — і нічога не бачыла перад сабой.

У палаце ўсе сціхлі, як вымерлі, і Сцяпанаўна ступала памаленьку, як у пустым далёкім полі ўвосень па сіратлівай сцежцы. Прайшла ля ложка, дзе сядзелі мужчыны, упёрлася грудзьмі ў сцяну, павярнулася і пайшла

назад да другой сцяны. Ніхто ў палаце не мог варухнуцца: дзе застаў яго немы крык, там і замёр чалавек. І ў гэтай цішыні сціхла раптам і сама Сцяпанаўна. Тады ўсе пачулі, як у парозе заныла муха — зазвінела нейкім праціўным аджытым учарашнім звонам,— і павярнулі галовы. Тоўстая, цяжкая, чорная, касматая, як чмель, з растапыранымі падбітымі крыльцамі, паскудная — такія поўзаюць на дварэ па мокрых дошках за вуглом,— яна паволі, зігзагамі, як гадзюка ў вадзе, праплыла, мінаючы людзей, цераз палату аж да Сцяпанаўны, стукнулася ў акно, у яркую шыбіну, падбіла сябе, заверашчала, круцячыся на падаконніку, паднялася і, чуць несучы сябе на крыльцах, вярнулася назад у парог і шаснула ў расчыненыя дзверы ў цемнату.

У парозе ў дзвярах стаяў Далідчык-Мамка. У чорным касцюме, у белай сарочцы, пад гальштукам, тоўсты, чорны, як камель абгарэлай у канцы вёскі ля фермы старасвецкай бацяновай сасны, ён засланяў сабою ўвесь прасвет у дзвярах. Пад ім блішчэлі лакіркі, як лужа пад п'яным ля плота.

Стаяў і глядзеў на ўсіх у палаце. І ўсе глядзелі на яго... Пасля зняў з галавы капялюш, дастаў з кішані беленькую як снег насовачку і пачаў выціраць белую лысую галаву. На паднятай угару руцэ бліснуў халодным цьмяным золатам гадзіннік і пад ім на чырвоным азызлым твары залатыя ашчэраныя зубы.

У Алімпіяды ў вачах чыркнула калючым агнём кароценькая спружынка, зубкі на тры — гэтулькі ўжо яе не было — і пыхнула адразу ядраным полымем...

Усе ў палаце маўчалі, і тады раптам зашаптала, як ахрыпшы, Сцяпанаўна:

— Людзі... Глядзіце... Гэта ж вайна... Не пускайце, людзі... Не пускайце яе...— яна сагнулася ў кутку ля ложка, пасля адразу выпрасталася, у руцэ ў яе бліснула сінім цьмяным шклом парожняя бутэлька — Сцяпанаўна збірала парожнія бутэлькі ў кут, пасля насіла іх здаваць у магазін,— і ў той жа міг у дзвярах пачуўся стук і звон бітага шкла: бутэлька праляцела па палаце над усімі і, не лучыўшы ў Мамку, бразнулася аб вушак над самай галавой у старога Жорава. Бітае шкло пасыпалася ў калідор і ў палату на падлогу.

— Сячы яго гранатай, Сцяпанаўна, сячы!.. Кладзі ў бот... Нам ён на мушку тады не папаўся... Сячы...— Яноўскі зарагатаў, але другая бутэлька не даляцела да парога

і рассыпалася на асколкі ў яго над галавой. Закрычала на ўсю палату самая маладзейшая і самая баязлівая Выліна; стары Харбін злавіў быў Сцяпанаўну за руку, але лёг адразу распластаны на ложку. У дзвярах, выставіўшы ўперад рукі, нібыта імі можна было засланіцца ад шкла, павілася Праскурнiч'я — прыбегла аднекуль з двара: была без халата. Ёй за спіну, сагнуўшыся, шмыкнуў стары Жораў — схаваўся ў калідор.

— Прекрати! Степановна! — закрычала ў парозе Праскурніч'я.— Снова к спирту пробралась... Но на этот раз...

— Забяры яго, Настасея, ад мяне... Забяры вайну...— Сцяпанаўна ўсё яшчэ шаптала, напяўшыся так, што, здавалася, сама рассыплецца зараз на друзалкі, як бутэлька; тады ў яе раптам прарваўся голас, і яна нейкім чужым, мужчынскім крыкам загадала: — Забяры яго, Настасея!.. Забяры!..

— Прекрати, Степановна! Поставь бутылку... Он такой же больной, как и вы... У него сердце... И он сегодня уезжает... Прекрати безобразничать, Степановна... Тебе это не пройдет...

Бутэлька разбілася аб сцяну збоку ў Праскурніч'і — яна толькі справілася закрыць твар рукамі, пасля крутнулася і схавалася ў калідоры. У праёміне ўсё яшчэ стаяў чорны лысы Мамка, глядзеў на ўсіх і ківаў галавой. Яго засланілі сабой Пугач — у белым расхрыстаным кароткім халаце і Корань — у клятчастай рубашцы з закасанымі па локці рукавамі,— былі, мусіць, заняты нечым на двары і прыбеглі адтуль на крык у палату. Над галовамі ў іх адразу зазвінела, стукнуўшы аб столь, бутэлька; адскочыла, ударылася аб падлогу, але не разбілася — круцілася толькі, як граната: вось-вось узарвецца...

— Не падыходзь, вашу макаўку!..

Убачыўшы Пугача і Кораня, мужчыны, што былі ў палаце: Яноўскі, Жучок, нават Міхол саскочылі з ложка і пачалі наступаць на Сцяпанаўну плячо ў плячо. Яна тады сагнулася, падняла з падлогі з кутка дзве парожнія бутэлькі — многа ж іх там было назапашана — і ступіла насустрач мужчынам.

— Не падыходзь! Размажджэру гаршчок любому, хто паткнецца!.. Вайна за вашы плечы хаваецца, вашу макаўку... Не падыходзь! Любога ўлажу... Не падыходзь!

Твар у Сцяпанаўны зрабіўся чырвоны, аж чорны; белыя валасы спаўзлі на шчокі; белыя затуманеныя вочы набеглі кроўю. Да яе цяпер лепш было не падыходзіць. Муж-

чыны і сталі пасярод палаты, далей не пайшлі. Але цяпер на іх пайшла сама Сцяпанаўна:

— Я гэту вайну разам з вамі, бандзіты, парашу...

Яны хацелі выбіць у яе з рук бутэлькі. А як ты выб'еш, калі яе рукі падняты над галавой і ўміг могуць апусціцца на любога... Падушка не памагла, якую запусціў Корань: Сцяпанаўна сачыла за кожным і выкруцілася так спрытна, што ўсе ахнулі...

Наперад тады высунуўся Пугач, за ім Міхол — нагнуўся, не давала выпрастацца паясніца, і выставіў уперад галаву. Над іхнімі галовамі і павіслі сінія бліскучыя бутэлькі, падымаліся памалу высака, аж пад столь — пад бэльку; бліснулі адтуль нейкай вострай злоснай чарнатой... Праз якую дольку секунды яны апусцяцца на галовы...

Алімпіяда са страхам зірнула на Міфодзю. У вачах у яго мігнула трывога; бровы сышліся ля буграватай складкі на пераноссі... У адзін міг ён сарваўся з ложка, адхінуў сагнутага Міхола і стаяў ужо наперадзе ўсіх, падставіўшы галаву пад бутэлькі... Выцягнуў уперад рукі і ківаў галавой. Ні слова не сказаў, але можна было здагадацца, што ён хацеў сказаць: «Эх вы... Ці ж так можна? Ну, выкінулі коніка — і хопіць. Ну, стыдна ж, стыдна ж...»

Бутэлькі раптам замёрлі пад столлю, не падымаліся больш угару, тады здрыгануліся — аж закрычала нема Выліна — і памалу-памалу пачалі апускацца ўніз... Пасля раптам рукі ў Сцяпанаўны хвіцнулі, як вывернутыя ветрам сукі ў дрэве, абвялі і матлянуліся ўніз, як плёткі,— бутэлькі бразнулі аб падлогу і пакаціліся пад ложак — пад ногі Харбіну. Твар у Сцяпанаўны зрабіўся белы, што халат. Яна здрыганулася і пайшла з месца да Міфодзі. Хіснулася на нагах убок, як знямогшыся, падышла, падняла ўгару рукі, тады рванулася, павісла на Міфодзю, ашчапіўшы рукамі яго за плечы, і загаласіла на ўсю палату...

— А людцы ж вы мае!.. А Колечка ты мой!.. А сынок мой родненькі!.. А я ж цябе ў зямельку закапала!.. Адны костачкі абгарэлыя... А сынок ты мой гаротненькі!..— яна стала лавіць у Міфодзі сваімі вялікімі мокрымі губамі шчокі, вочы, лоб... Павісла на ім спопаразку, ён не ўтрымаў, і яна, грукнуўшы каленямі аб падлогу, схапіла яго за рукі і стала цалаваць без аддухі ў адну і ў другую, тады ашчапіла за калені, прыціснулася тварам да ног і загаласіла зноў на ўсю палату: — А сыночак ты мой родненькі!..

Топчучы і рассоўваючы асколкі ад шкла, да іх падбеглі Пугач з Коранем, адапхнулі мужчын назад да ложка і, узяўшы пад рукі, паднялі Сцяпанаўну з падлогі. Ля іх ужо стаяў Колас.

— Вывесці...— зашаптаў ён праз зубы.

Сцяпанаўна не супраціўлялася. Схапіла толькі за рукі Коласа і, хліпаючы і дрыжачы, пачала прасіць:

— Не забірайце яго ў мяне... Не забірайце... Я ж яго дзень-ноч чакала... Да гэтага дня... Гэтулькі гадкоў...— і зноў загаласіла.

Колас памякчэў, пагладзіў яе па плячы:

— Ну-ну... Натварыла ты тут, Сцяпанаўна... Не тваё гэта дзела, я скажу, ваяваць. На гэта ёсць яны,— паказаў ён рукой на Міфодзю.— Яны абароняць. Гэта іх дзела. Во так. А ты — сама... Парцізаніць пачала... Ты ж магла тут мне ўсіх хворых пакалечыць. Разбірацца будзем. Я цябе па галоўцы больш гладзіць не стану. Пайшла сватацца, а хацела ўсіх жаніхоў пазабіваць... За каго ж ты тады пойдзеш, калі іх усіх бутэлькамі?.. Га? Сцяпанаўна?

— Сырыца мяне засватала...— Сцяпанаўна стаяла, і яе дзяржалі пад пахі Пугач з Коранем.— Даўно ўжо засватала, доктар. Толькі я яшчэ, гледзячы на людзей, храбруся. Сватаюся... А яна даўно... Тады яшчэ. Разам з Пілінам, з Януком, разам з Колечкам... Адно — людзі дзержаць, а так бы па мне даўно памінкі справілі б і забыліся. Пры людзях я хвост дудой нашу. А астануся адна... Ніякі спірт не памагае, доктар, яго макаўку... Думаеш, мне сваты ў галаве? Сябе весялю і людзей... І ў іх гора па самае не хачу, яго макаўку, доктар... Пусціце! — рванулася яна раптам ад Пугача і ад Кораня.— Пусціце! Я яшчэ даганю таго душагуба... Пусціце! Папаліся б вашы галовы пад руку — расшчапіла б адразу, не пашкадавала б... Цярпець вас, зас...аў не магу...

— Вывесці!.. Чаго сталі? Разгаварылася ты, Сцяпанаўна... Праспішся, тады гаварыць будзем... Хопіць! Вядзіце... Вот так...

— А Колечка мой!..— Сцяпанаўну вялі, а яна рвалася да Міфодзі. Азіралася назад, на яго, і з вачэй у яе руччом цяклі слёзы.

Пугач з Коранем выпхнулі Сцяпанаўну ў калідор. Бліснулі толькі ў дзвярах вялікай-вялікай крыўдай яе мокрыя ад слёз вочы і бітае шкло ў яе пад нагамі. За імі пайшоў і Колас: толькі ён мог даць Сцяпанаўне рады. Другіх яна не слухала.

— Кладзі ў бот... Спірту хапнула. Разабра-ала...

— Спірт ад яе трэба за сем замкоў хаваць...

— Схаваеш... Разаб'е ўсё, сама разаб'ецца, а дастане. Не знойдзе спірт — лякарства з бутэлечак злівае...

— Гэтулькі часу прайшло, а сына маленькага помніць. Не забылася... На маленькіх скора забываюцца...

— Ціхі час... Я каму сказала: ціхі час. Мужчыны — у сваю палату. Расчырыкаліся, як вераб'і. Ціхі час...— Праскурніч'я падбегла да Алімпіяды.— Такая хворая ў палаце. Ціхі час. Мужчыны... І не курыць мне... І лякарства прыняць, каму прыпісана. Знайду на тумбачках — не паздаровіцца...

Мужчыны пайшлі да дзвярэй, апусціўшы галовы і ціха падымаючы ногі, нібыта яны ў іх былі звязаны,— баяліся бітага шкла.

— Ну як вы тут, з сынам?

— Рада, Настасея. Толькі спружына зноў у вачах...

— У вас пульс. Валяр'яначкі прынясу. Усім спаць. Марфачка, чуеце? Спа-аць... І вам,— павярнулася Праскурніч'я да Міфодзі — ён стаяў ля ложка, апёршыся на брыж,— пара. Свіданне акончана. Ціхі час. Ёй ляжаць трэба. Колас даўно загадаў, гэта я вас шкадавала...

— І праўда, сын,— сказала тады Алімпіяда.— Ідзі. Пакуль дойдзеш... Здарожыўся... Заўтра ўдваіх падбежыце. Ідзі, сын. Я ўжо віджу, што не адразу пойдзеш, вернешся... Не варочайся і не сядзі на дварэ... Ідзі — яна адчула, што змарылася разам з усімі; адчула яшчэ за гэты кароткі міг людскога плачу і смеху, што разам з усімі ажыла сама, забыўшыся на ўсё...

Праскурніч'я збегала і прынясла ў чарачцы валяр'янкі. Выбегла зноў і вярнулася са свежым бярозавым зялёным маленькім венікам і сіненькім савочкам. Сагнулася ў тры пагібелі і пачала змятаць на падлозе асколкі ад бутэлек.

Міфодзя ішоў у парог, аглядаючыся, і пад нагамі ў яго звінела бітае шкло. Недзе за сценамі, чуваць было, плакала Сцяпанаўна.

Разлілася ў вачах шырокім агнём жоўтая, як сонца, спружына — схавала ў парозе і Міфодзю, і Праскурніч'ю. Жоўтая чарачка з валяр'янкай вышмыкнула з рук. Запахла балотнай гаркатой...

## 4

Белае з бальніцай аставалася ззаду.

Стала ў вачах, засланяючы сабою свет, апошняя ў вуліцы хата з забітымі вокнамі, новая, не паспела яшчэ пацямнець жоўтае бярвенне ў сценах, з сінімі, як неба, акяніцамі: з'ехалі людзі, не прадалі, думаюць, недзе, вярнуцца. За хатай стрэпала па шчацэ і па плячы здзічэлая вішня сваёй суровай галіною з прыліплымі, падсохлымі, як на печы, паморшчанымі чорнымі ягадамі. За вішняком было размыта дажджом старое печышча і цяпер, узапрэлае пад сонцам, пахла на ўвесь канец вёскі, як пасля пажару. На печышчы буяў маліннік і канаторжнік з крапівай у рост чалавека — хату адгэтуль прыбралі ўжо, відаць, даўно, гады са тры. За канаторжнікам на разгароджаным і стаптаным падворышчы дасыхалі старыя яблыні, паказваючы яшчэ з-пад лісця, што з-пад крыла, чырвоны бок яблыка, як маленькую кропельку даўнейшай уцехі.

За яблынямі пачынаўся выган, здрабежаны скацінай і гусенічнымі трактарамі, з пажаўцелай ад сухаты некалі белай густой дзяцельніцай і падарожнікам. На выгане ўздоўж дарогі раслі старасвецкія дубы, роўна, як пад шнур, напамінаючы, што некалі тут была вуліца — вёска. І балюча было думаць, што нейкая невядомая сіла падчышчае ў гэтым баку з зямлі вёску: вун аж дзе яна была, цяпер ад яе асталіся дубы, за дубамі печышча з здзічэлым садам, за садам хата з забітымі вокнамі.

За ціхімі старасвецкімі дубамі, недзе над Крамянцом, куды трэба было ісці, вісела вялікае цяжкае жоўтае халоднае воблака, займаючы ўвесь край неба. Сонца, заходзячы за сіні ў дыме лес, падсвечвала воблака, робячы яго чырвона-бурым, і здавалася, што яно старое-старое — вечнае. Вісела тут, калі яшчэ не было зямлі, і застанецца наўсягды. Над воблакам зажаўцеліся палоскі ад далёкіх самалётаў — два доўгенькія каласкі ячменю. Каласкі пасля выцягнуліся ў дзве вузенькія памятыя саломінкі і апусціліся за край зямлі.

Ціха было ў Белым, дзе асталася бальніца. Ціха было і на шашы, што вяла з Плешчаніц на Вялейку. Праз прысады вострай калючай жоўтай паласой на шашу падала сонца, якраз на масток — на белыя пярэчкі. Калі хадзілі ў Белае ў школу, тут быў стары драўляны масток, пад ім усю вясну і восень стаяла вада. Цяпер з-пад мастка вылазіла сухая шэрая бетонная труба, давячыся белым пяском.

Логам Міфодзя спусціўся да мастка ў лагчыну, у якой, ходзячы ў школу ў Белае, тапіліся вясной перад самымі канікуламі, калі з поля сюды сцякала вада, хоць плыві. Плыць не было на чым, а на канікулы не распускалі: не давалі яшчэ каманды з Плешчаніц з райана, адтуль, дзе і ў паводку было суха, і яны ішлі ў школу мокрыя па пояс, тоўхаючыся пасля ля грубкі на перапынках, каб абсохці, тады зноў цёпкаліся дамоў ад мастка цераз лог, дзе рассіс снег і ногі правальваліся аж у балота...

Цяпер пад нагамі быў сыпучы, як попел, пясок, толькі ў старым альшэўніку ля Белага шваргатала на каменні перасохлая — намачыць вераб'ю лапкі — рачулка.

І масток, і шаша, і Белае асталіся ззаду, як і тыя далёкія школьныя разводдзі — ахуталіся цёплай вячэрняй смугой... На гары кругом было поле, шырокае, чыстае, пад Крамянцом і Краснаволлем пацягнутае сінім туманам. Сонца дагарала на вачах і, так і не дагарэўшы, асядала за лес, пакідаючы ўгары над сабой вузенькую чырвоную палоску і жменьку камароў перад вачыма.

Поле напаўнялася спрадвечнай цішынёй з пахам ячменю, сухой травы, дурнап'яну і гару ад летняга тарфянога пажарышча. Такой цішыні не было нідзе на свеце, такая цішыня была толькі дома... І яна трэба была хоць на мінуту ў дзень, хоць на гадзіну ў год, як глыток вады са смагі, як некалі зімой цёплы чалеснік у печы, калі да яго бег прыткнуцца халоднай з марозу рукой...

Уперадзе, там, дзе знікла з вачэй перапялёстая стада скаціны, на полі павіс пыл і туман — дымавой паласой. Адтуль адразу пацягнула расой і балотнай вільгаццю. Ён згледзеў толькі цяпер, што пад нагамі няма дарогі — гэта перш яна была тут,— што ішоў полем, згадваючы ў памяці, дзе яна некалі круцілася ў лагчыне між бярэзніку. Бярэзніка, зялёнага вясной, з ліпкім гаркавым пахам; жоўтага ўвосень; голага і разгатага зімой, які цягнуўся логам да самага Краснаволля, не было. Ляжала адно поле — жоўтае, ціхае жнівеньскае поле...

Ён лучыў бы адгэтуль дамоў з завязанымі вачыма. Ногі самі вывелі б полем да могілак — сіняй палоскі на гары; за імі грэбля і ў лагчыне за мастом з белымі пярэчкамі — Крамянец.

З Краснаволля бярэзнікам некалі ішла ездавая дарога ў Белае — круцілася ў лагчыне па калдобінах і па каменні. І дарогі цяпер той не было. На яе месцы падняўся пясчаны насып — гравейка. Паабапал яе былі нассованы кучы

глею, пяску і чорных рагатых карчоў. Па іх павёў белым крылом цяжкі позні бусел і, узлятаючы, схаваў з воч...

За гравійкай у лагчыне адразу пабліжэў туман. Пад ногі трапіла раптам высокая дудка ад ванжэўніку з белай доўгенькай кветкай — стаіць, як дзіцячы пальчык. Лагчына была ўзарана, засеяна і зжата, а на зямлі яшчэ раслі сівец — жоўтымі пляйстрамі, верас — рэдзенькімі галінкамі і спрадвечная маці ўсіх лагоў, і мокрых і сухіх,— мятліца. Тоўстая, як салома, высокая, аж у пояс, яна прылягла да зямлі, і яе не ўзяў разам з ячменем камбайн...

Пасля вайны ён з маці хадзіў з вёскі аж сюды збіраць ванжэўнік — шырокае доўгае лісце, выгнутае гарбом, зверху свежа-зялёнае, як балотнае шчаўе, знізу белае, што папера, шорсткае і прэснае на языку. Лісце сушылі, таўклі і пяклі праснакі, такія ж шорсткія, з такім жа прэсным пустым пахам нішчымнага года. Рвалі на балоце і мацярдуху — балотную прасяніцу: сасморгвалі пальцамі зярняты ў жменю і ссыпалі ў торбачкі. Дома сушылі ў печы на блясе, малолі ў жорнах і варылі зацірку — слізенькую, рэдзенькую сівую вадзіцу, як усё роўна падкалочаную шчопцямі крухмалу.

У ванжэўнік бабы ішлі з раніцы. Худыя, з ацёкшымі ад голаду нагамі, яны, не гаворачы адна з адной, як на могілках, згіналіся і станавіліся на каленечкі ў балота, засланяючыся нацягнутымі на лоб хусткамі ад сонца. Шасцелі пад шорсткім ванжэўнікам на куп'і змеі, сыкаючы яшчэ здалёку — рваць ліст трэба было, як язык з рота ў гадзюкі,— і ўпобачкі, тручыся крылом аб плячо, смела хадзілі бацяны, гордыя, важныя. Ім было лягчэй і самім пад'есці і накарміць дзяцей: у іх было балота. Цяпер ім цяжэй; у іх няма балота; цяпер чалавеку лягчэй.

У той дзень балота зацягвала белая смуга — ад сонца. Ад сонца і бабы рабіліся белыя і маленькія, скручваліся, як ліст ванжэўніку, і рвалі, скублі вялымі ад голаду і сонца рукамі ліст, з якога дома ў ступе зробяць манну нябесную. Рвала лісце маці, рваў і ён; сморгаў пасля маленькімі мокрымі ад поту і балотнай вады пальчыкамі мацярдуху, раздзіраючы іх да крыві, і сыпаў дробенькія, як прасяныя зярняткі, у торбачку. Маці стаяла на каленях, апёршыся рукамі аб кошык, і глядзела пад сябе: нарве-нарве лісця, тады зноў абапрэцца. Ён бачыў, што ў яе чырвоны твар, што яна не можа махаць рукамі — а з чым жа яны вернуцца дамоў: дома хворы бацька, у яго з рота ідзе кроў... І ён тады ў дзве рукі — у дзесяць маленькіх дроб-

ных мокрых пальчыкаў — сморгаў і сморгаў сухую, шорсткую, як жвір, мацярдуху і сыпаў у мокрую знізу торбачку. Стрыжаную пад машынку голую галаву паліла, як з печы; пот з лоба капаў у сіняватыя лужы пад нагамі. Ванжэўнік зрабіўся раптам белы і адскочыў ад яго далёка-далёка, пад бярэзнік — цягнеш-цягнеш пальчыкі і не можаш злавіць. Пасля ўся зямля адскочыла некуды далёка; блізка ля самых вачэй заблішчэла сіняя ў пісягах латочына вады, і ён плюхнуўся ў яе з галавой. Пачуў толькі, што вада халодная, і лёгка зрабілася ўсяму...

...Уперадзе захлюпала і захадзіла ходырам зямля. Асушанае балота — ржышча і ванжэўнік — ззыбнуліся пад ім, і ён праваліўся ў густую, падсохлую зверху гразь...

У хаце не было агню; вароты былі зачынены, ён апёрся на іх і глядзеў на двор, ціхі і цёмны. Далёка ў Краснаволлі, як дзе на краі зямлі, ціха ныла на ферме даілка і над самым вухам шапатаў, кратаючыся, бэз. Ззаду, у вёсцы, як позні чмель, ныў прыглушаны гармонік. Як і летась, як і пяць, дзесяць гадоў назад. Нібы за гэты час нічога не змянілася ні на зямлі, ні ў вёсцы. Нібыта ў хаце сядзіць за сталом Сівец з Краснаволля з вялікім белым гармонікам на каленях — музыканта кармілі ў вёсцы па чарзе; пад нагамі добра вышараваная жоўтая падлога, і ён, Міфодзя, глядзіць толькі пад ногі, бо яго вывела першы раз у польку малая яшчэ зусім Таня... Дома, у сваёй хаце... У акно з двара паказалася маці: прылізаныя валасы і белая хустка на плячах — маці ішла вечарам з фермы — і дамашняя полька разляцелася, як пыркі ў бакі, нават Сівец спужаўся: зняў з калень гармонік і паставіў на лаву далёка ад сябе...

Над вёскай павісла густая, цёмная на канец лета ноч. Угары занылі правады, і ён згледзеў толькі цяпер, што на вуліцы ля гародчыка ўкапаны слуп — бялеў у цемнаце.

На двары зашастаў пад нагамі падарожнік — сцежачка між травы была вузенькая, белая, бы крывая бярозавая жэрдачка: не было каму хадзіць. З гародчыка запахла кропам; чырвоныя кветы юргіні перагнуліся праз частакол і паснулі на дварэ цёмна-вішнёвым сном.

Дзверы ў сенцы былі зачынены; на іх вісеў замок, вялікі, стары, яшчэ пасляваенны. Ля сеначак цвіла настурцыя — гарэла ў цемнаце цьмяным густым агнём, як усё роўна ля ног насыпалі жару. Запахла старым дамашнім

духам, дзе быў чуваць і хлеб, і ялкое сала, і горкае — недужаму есці — масла, кіслае малако і кіслая, стоўчаная свіням бульба.

Ключ ён знайшоў на старым месцы, якое ведаў увесь канец вёскі — зверху на вушаку. Адчыніў дзверы ў хату, а рука траслася і бразгала клямка — далёкім дзіцячым звонам у вушах. Стаў і стаяў у парозе, як усягды, калі вараčаўся дамоў са школы, з лесу, з вёскі, а на яго плыла хата з цёплым летнім духам ад печы і пахам адсырэлай гліны з другой палавіны. Каля судніка зглядзеў чорны бугрысты кружок; рука сама лапнула за яго, і па вачах адразу сцебанула густое святло: над сталом пад столлю ўспух абажур. Між рассунутых паркалёвых занавесак ядранае святло ўпала на падлогу ў другую палавіну хаты за перагародку, выхапіўшы з цемнаты доўгую роўную паласу вышараваных дошак... Якраз там, дзе на састаўленых услонах стаяла некалі дамаўё з бацькам. Здалося, што ён там, за перагародкай — прывязлі мёртвага з Плешчаніц з бальніцы,— ляжыць у дамаўі: сівыя валасы на галаве, бровы падняты як ад усмешкі — збавіўся ад пакут...

Ён зняў з галавы фуражку і прыціснуў да грудзей...

У хаце было ціха, і ён пачуў ходзікі: не адвыкла вуха. З белага круглага рэпрадуктара ля ходзікаў пасыпаліся сігналы, як усягды перад апошнімі паведамленнямі.

Іх любіла слухаць маці — садзілася ля стала на ўслон і падпірала рукой галаву.

У хаце не было ні маці, ні Тані. Хата была пустая і ціхая.

Ён зглядзеў толькі цяпер, што на стале, на белым абрусе, рассыпаны яблыкі. Сыпалі іх у рэшата, рэшата не выхапіла — яно стаіць поўнае на рагу стала,— і яблыкі высыпалі на стол.

Ён паставіў чамаданчык ля перагародкі пад ходзікамі і, ціха ступаючы, як усягды ступаў, каб не разбудзіць маці, падышоў да стала, адсунуў на хату ўслон, сеў і, паклаўшы рукі на стол, уткнуўся галавой у дробныя горкія антонаўскія яблыкі...

## 5

Таня, убегшы ў канцылярыю, села з разгону на стул, падпёрла мурзатымі рукамі з двух бакоў галаву — рукі ўмазала на дарозе, калі зваліўся ў веласіпедзе ланцужок,— сядзела і, каб аддыхацца, глядзела ў акно на жоў-

тыя кветы юргіні. Іх было многа — як насыпана. Яны калыхаліся ад ранішняга ветру; ад іх рабілася жоўтая зямля і калыхалася разам з імі. Яна, відаць, доўга сядзела, бо за сваім сталом чмыхнуў Джанік.

— Гойсаеш усё. Папер пад носам на стале цэлы стог назбірала... А хто будзе ў іх каракулькі ставіць, гм? Сягоння ж разнясці зарплату па ведамасці... Калі ты не зробіш за дваіх, то мне трэба будзе рабіць за траіх... Тая хваробу сабе знайшла, гэта гойсае... Гойсай, гойсай... Аднаго ўжо згойсала...

Джанік быў з розумам, меў востры язык — адбрые па першае маё,— але ён быў і зануда, якіх свет не відзеў: як зачэпіцца за што — запіліць, і яна спачатку нават і вухам не павяла на яго гамзатыя словы «аднаго ўжо згойсала». Ці такое цяпер гавораць... Пагойсаў бы сам... Рук не чуеш, ног пад сабой не чуеш. У канцылярыі адсядзі за сябе і за Выліну — людзі ж не будуць без зарплаты з-за таго, што ў некага «баліць жывоцік»; прыедзь дамоў, звары бульбы, натаўчы, накармі Юрачку — скрыгоча зубамі ў хлеўчыку, сцяну грызе, галодны на двор просячыся; перайміз поля карову, падаі, спарадкавай малако; бяжы яшчэ на ферму — прылятуць даяркі: ідзі за матку, не ведаем, што куды, ты ведаеш... Бяжыш і малако перамерыш і здасі на малакавоз, і... чорт яго знае, што за людзі: злягла матка, дык без яе хоць ты сама за іх за ўсіх хвасты каровам накручвай... Набегаешся — за вячэрай і бульба ў рот не лезе, калом становіцца, ніякім малаком не прагоніш... Па вячэры жаргай зноў веласіпед і мчыся ў Краснаволле на казээс — ячмень лапаціць... І хоць бы заступіўся, чорт гамзаты, перад Дзярызямлёй, слова закінуў, дык не: ніхто ж не гоніць, ідуць па сазнацельнасці... Гамзаты чорт... Сам бы пад'ехаў на матацыкле ды лапатай павушаваў хоць адну ноч, дык — у радзікуліт адразу. Нажыў ад седні. Ад чаго ж? Дзеньноч сядзіць, і на матацыкле сядзіць... Нагамі ўжо хадзіць не хоча... Адпусціў бы з работы раней — да маці ў бальніцу. А то — «аднаго ўжо згойсала...».

Але сёння Джанік быў не такі — перш дык, як казёл, наравіў лёгенька ўбасці, а сёння сядзіць насуплены, надзьмуты, бровы сышліся на пераносіцы, нейкія выскубленыя, як ацярушаныя ад асця каласы. На яе стараецца не глядзець, засланяе вочы сінімі ведамасцямі. Тады яна здрыганулася, як укалоўшыся, і памалу павярнулася ўся да яго:

— Што? Што вы сказалі?

— А тое і сказаў. Аднаго згойсала. Сёння хавацЬ будуць...— Джанік зусім закрыўся ад яе шырокай сіняй ведамасцю.

Яна пачула, як у яе зрабіліся халодныя рукі — сашчапіла наперадзе на грудзях, а пальцы — як лёд. За акном на вуліцы падскочыў раптам віхор, падняў слуп пылу, сухой травы і трэсак і нёс на гарод да канцылярыі, кладучы на зямлю перад сабой канаторжнік ля плота і бульбеўнік у гранках. Сыпануў жарствой у акно, засланяючы яго пылам, як рванай фіранкай. Замітусіліся, палёгшы аж на зямлю, жоўтыя кветы на юргіні — хаваліся ў траву, як курчаты ад каршуна.

Раптам усё аціхла; у акне зноў было відаць белае воблака на сінім небе і вуліца ў Краснаволлі; пад акном толькі не ўстала з зямлі адна, самая вялікая, жоўтая квята — адвіхнулася ў камлі і ляжала ў баразне.

Джанік з-за сіняй ведамасці глядзеў адным вокам — сачыў.

Яна тады ўзяла халоднымі пальцамі халодную чырвоную трубку з тэлефоннага апарата і набрала нумар бальніцы ў Плешчаніцах. Бальніца была занята. Тады яна пазваніла ў кантору леспрамгаса. Дзяўчат у канторы ўсіх ведала, і яе ведалі, таму, можа, і сказалі адразу: ой, гарачка... Што нарабілі... Што нарабілі... ХавацЬ будуць з канторы. Хацелі з эрдэка, але там рамонт...

Нарабілі? І яна нарабіла? Не, яна нічога не нарабіла... Яна ні ў чым не вінавата і ўсе гэтыя дні нават не думала пра «Аўсяны сноп». Быў п'яны, праспіцца ў бальніцы і зноў сядзе за руль. Чорт не возьме... А калі падсмаліла — апасацца стане, не будзе лезці на ражон. Не ў галаве ён быў гэтыя дні, калі маці пры смерці, калі галава дурная ад работы, ад дому, ад Юрачкі, ад фермы, ад Ратнікава — раніцай ля канторы, вечарам дома ля варот. І таму яшчэ нечага трэба... Хоць ты парві і раздай сябе па кавалку кожнаму ў рукі... А тут яшчэ — нарабілі... Пайшло па людзях, аж сюды дайшло. А цяпер яшчэ далей пойдзе: павязуць на машынах, будуць званіць па тэлефонах. Гэта не тое, што некалі — адзін аднаму ціха на вуха. Падымуць, дык падымуць...

Яна, прыціснуўшы рукі да грудзей, сцялася ў камочак, каб сагрэцца, і тут яе ўсю затрасло. Аж зубы трэба было сцяць, каб не застукалі, каб не пачуў хаця Джанік... За акном ад сухога гарачага сонца жоўтыя кветы на юргіні парабіліся белыя, не глянуць; ад сіняга шкла з доўгенькі-

мі жоўтымі восамі на ім дыхала цяплом, як зімой ад печы, а яе ўсё калаціла, і яна, склаўшы рукі на грудзях, паднялася і пайшла да дзвярэй.

«Пагрэюся на сонцы...»

Джанік адарваўся ад сіняй ведамасці і павярнуў услед галаву. Хмыкнуў, але нічога не сказаў.

На дварэ яна пастаяла ля жоўтай юргіні — калючае сонца схапіла адразу за шчокі, ад гэтага яшчэ больш кінула ў дрыжыкі — і пайшла памалу на вуліцу да магазіна, дзе ўсягды спыняліся лесправгасаўскія МАЗы і кожны раз з высокай кабінкі была відаць аўсяная галава Альбіна Фірагі.

Магазін быў зачынены. Вуліца — гарачая і пустая, нудная і ціхая, толькі краталіся пад гарачым ветрам ля частаколаў жоўтыя кветы — адны жоўтыя кветы на ўсё Краснаволле...

Недзе глыбака ў душы адваліўся кавалачак лёду — маленькі, які, бывае, засіліш зімой конаўкай з вядра ў парозе — і пачаў раставаць. І тады заныла ўсярэдзіне — больш не стане лесправгасаўскі МАЗ ні ля магазіна, ні на грэблі. Не падчэпяць дужыя рукі і не пасадзяць у кабіну...

Далёка жоўтае поле на гары за казээс і за фермай, здалося, было ўсё ў жоўтых аўсяных снапах...

Кавалачак лёду ў грудзях растаў. І пакуль ён раставаў, яна яшчэ не верыла, а цяпер гэтак жа ціха, без крыку паверыла — яго няма. Ён яшчэ быў недзе там, у дзялянцы — падганяў да шліхты прычэп; на дарозе — падаваў рукі, пераймаючы яе ў кабіну; на ніжнім складзе — разгружаўся; на аўтабазе ў Плешчаніцах — на запраўцы; у канторы — палучаў зарплату; быў яшчэ ў сваёй кватэры, якую яму далі і ў якую ён зваў яе... Ён быў — і яго ўжо не было... І кватэра тая будзе пустая... Без яго і без яе...

І поле раптам зрабілася пустое — ні аўса, ні снапоў. І яна — адна на ўсім полі. Бацян яшчэ над маяком пад воблакамі. Зрабіў круг і схаваўся з воч пад сонцам — згарэў.

У кантору ногі не вялі. Бліснуў спіцамі ля частакола на двары веласіпед. Яна ўзяла яго за руль — па руках сцебанулі жоўтыя кветы юргіні,— акруціла на двары па зялёным падарожніку на вачах у Джаніка — стаяў у канторы ля акна, як слуп,— і павяла на загуменне да маяка — дамоў. Чуваць было, як забарабаніў у акно Джанік. Крычаў нешта пасля ўслед, мусіць, выбегшы на ганак. Яна нават не адвярнулася, каб паглядзець.

Веласіпед ад маяка сам пакаціў яе ў лагчыну; яна нават не думала куды — наўкола круцілася толькі адно жоўтае поле, і па голых нагах на дарозе сцёбалі сухія, шорсткія, пераспелыя аўсяныя мяцёлачкі.

Дома на двары яна паставіла веласіпед ля частакола пад жоўтымі юргінямі — і ля канцылярыі пад акном былі яе жоўтыя юргіні: занясла з дому і пасадзіла вясной — сама села ля сенцаў на маленькім услончыку, які раніцай забылася ўнясці ў хату, і доўга сядзела, як скамянелая, гледзячы на студню і на вядро, якое калыхалася на вочапе, як усё роўна яшчэ ад яго, Альбінавай, рукі — дастаў вады, заправіў машыну, абліў сябе з вядра, раздзеўшыся да пояса; адыходзячы, штурхануў яго дужай рукой, і яно ніяк не можа супакоіцца — калышацца і калышацца на вочапе.

Адно, можа, што і асталося ад чалавека на гэтым свеце...

Ля сенцаў пад прызбай быў цень; і яе зноў кінула ў дрыжыкі. Яна ўстала з услончыка і пайшла ў гарод да ракі. Ішла па мяжы ля плота да град і відзела ў баразне матчыны сляды ад гумавых ботаў — маці хадзіла перад бальніцай. Як яна цяпер баялася за маці... Дзынкне тэлефон — падскокваеш, як ад іголкі. Кожную мінуту чакаеш — пазвоняць з бальніцы: памёрла. Хоць бы не было гэтага праклятага тэлефона на стале пад носам у Джаніка; пакуль бы пераказалі што праз каго, як перш, не так бы скора было. А так — сядзіш, як на пікеце, і глядзіш на тэлефонную трубку ля натапыранага вуха ў Джаніка. Гарыць усё ўсярэдзіне...

Пасля ўчарашняга дажджу грады прэлі на сонцы, аж чуваць было, як з іх ідзе пара. Лісце на агурках і на бруччы пакруцілася ў белыя трубачкі; палёг на зямлю ля град бульбеўнік, збялеў. З логу ад ракі ў гарод дзьмуў сухі гарачы вецер — яго несла з высокага чыстага поля з-пад Кур'янаўскіх Садоў.

Вярнуўшыся, яна стаяла ля студні, узяўшыся за парожняе, абсушанае ветрам і нагрэтае сонцам вядро. Студня была глыбокая і цягнула да сябе ў бліскучае, сіняе ад неба дно — хоць праваліся... Тады яна стала хадзіць па двары — так бы ішла і ішла, не знаходзячы сабе месца, на край свету.

Пачуўшы, як бразнула ля студні вядро, у хлеўчыку

азваўся Юрачка — рохнуў і запішчаў цененька і жаласна. Яна падышла да хлеўчыка, адчыніла дзверы і прысела ля Юрачкі. Ён ляжаў на баку лычам у самы парог, кратаў вушамі ад мух і задыхаўся ад гарачыні — соп. Яна доўга стрэпала яго за вухам, ён сцішыўся і заплюшчыў асалавелае вока. Набеглі куры, і, калі яна, запёршы хлеўчык, пайшла да сеначак, яны кінуліся пад ногі, за імі не было як прайсці ні ў сенцы, ні ў хату. У хату ціха і горача свяціла з гарода на стол сонца — на белы абрус і на рассыпаныя яблыкі. Новы нож быў гарачы, і калі яна ўзяла яго са стала, пераклала з рукі ў руку. Куры не давалі ёй выйсці і з хаты, і з сенцаў; не давалі і адчыніць у гародчык варотцы — лезлі і лезлі, сакочучы, пад ногі. І адкуль іх набралася: і свае і чужыя — закрылі ўвесь двор.

Чырвоныя юргіні баяліся сонца — вялі; жоўтыя стаялі на дудках крамяныя і ядраныя, як усё роўна наспелі, сабраўшы за лета жоўтае сонца з усяго неба. Яна пачала тады зразаць нажом жоўтыя юргіні. Рэзала і помніла, што трэба, каб было чатыры, шэсць, восем, пасля забылася і рэзала іх і рэзала, пакуль у руцэ не набралася гэтулькі, што не пералічыш... Выпаў з рук нож, бліснуў жалезам на зямлі недзе ў зачарсцвелай траве — яна не стала яго падымаць.

Букет быў вялікі, свежы і яркі, на яго аж не было як глядзець. Яна нясла яго ў хату перад сабой, а над ім лёталі, круцячыся, восвы. У хаце паклала на стол, на рэшата з яблыкамі. Хацела адразу схаваць, закруціўшы яго ў газету, але падумала: а чаго ёй хавацца? Сціснула толькі невялічкай раённай газецінай зялёныя свежыя дудкі з дробненькім зялёным лісцем. Пайшла за перагародку да шафы, сцягнула з сябе чырвоную кофтачку і жаўтаватую ў клеткі спадніцу клёшам; зняла з вешалачкі і надзела чорную раскошную шарсцяную сукенку. Не зусім чорную — цёмнае з сінім: адумысла ж у яе на такое сукенкі не было. Перакінуўшы касу на грудзі, перацяла яе ў канцы жоўтай стужкай — чорнай не мела. Зірнула ў люстэрка на дзверцах у шафе — на яе глянулі аднекуль са сцяны з абоямі заплаканыя і зажураныя ціхія вялікія вочы на круглым бурым твары.

Нясла з хаты ў руцэ перад сабой чорную сумачку і жоўты букет, і наперадзе ў яе беглі на двор куры. Замкнула дзверы на замок і паклала ключ на старое месца над вушаком. Пастаяла яшчэ ля сенцаў — не рашалася, тады пайшла да варот.

Куры выбеглі за ёй аж на вуліцу.

На вуліцы яна схавала адразу букет за спіну, але ззаду засакаталі куры, і нехта да яе загаварыў, і яна зноў панясла яго перад сабой — не азірнулася нават. Ішла і думала, што трэба было пайсці логам ля плота, адразу на грэблю. Вёска была гарачая, сухая, з чорствым ветрам у платах, усё роўна як не свая; і ногі парабіліся як не свае — не гнуліся. Вуліца ўперадзе была пустая — ні дзяцей, ні курэй, толькі на павароце да маста стаяў новы жоўты «Беларус», а ёй здавалася, што на яе глядзіць з-за платоў уся вёска: ведае, куды яна ідзе і чаго.

Неба было чыстае, толькі далёка на ўсходзе, недзе над самымі Плешчаніцамі, віселі бурыя, падпаленыя сонцам цяжкія тулягі. Ля грэблі збоку глыбака ў зямлі швааргатала крыніца і над ёй лёталі жоўтыя матылькі, блытаючыся ў высокай траве. Недзе ў небе грукалі самалёты, за Ячным пад Вілію ракатаў трактар. Пад нагамі былі знаць сляды ад леспрамгасаўскіх МАЗаў — выбітыя глыбокія ямы.

Плешчаніцкі аўтобус, ідучы з Краснаволля, спыняўся на гары ля могілак пад Ячным. Павінен быў вось-вось прыйсці: пад Краснаволлем на полі пацягнулася ўжо доўгая шэрая паласа пылу.

Яна тады пабегла ад мастка, каб паспець; чула толькі, як стукаюць па ўбітай цвёрдай спежцы ногі і шапочуць жоўтыя юргіні ў руцэ — ля іх круцяцца, не адстаючы, дробненькія чорныя мушкі. Калі яна ўзбегла на горку, сіненькі новы аўтобусік ужо стаяў на прыпынку ля бяроз і ў яго ўжо справіліся сесці людзі. Яе чакалі — з расчыненых дзверцаў махала нейчая добрая рука: падганяла.

Добрая рука была мужчынскай, з закасаным па локаць чорным картовым рукавом, загарэлая і ўпэцканая ў мазут. Яна падхапіла яе пад локаць з падножкі, пасля паказала на адно свабоднае месца спераду ля дзверцаў — маленькі аўтобусік ужо быў паўнюсенькі. Яшчэ па мурзатай руцэ яна пазнала Алёшу з Ячнага і, не гледзячы на яго, кіўнула яму галавой: паспрыяў ці, можа, ужо ўсё ведаў? Алёша рабіў у Белым у майстэрні — «рамантаваў цехніку». Прыйшоўшы з арміі, быў трактарыстам, наехаў сам на сябе «Беларусам», адлежыў у Плешчаніцах у бальніцы, на трактар яго больш не пасадзілі, і цяпер ён кожны дзень ездзіў аўтобусам у Белае на работу. І далёка не з самай раніцы: чалавек дагэтуль мог ужо нарабіцца. Яна села на свабоднае месца і глянула Алёшу ў вочы. Усміхаецца ёй, як вінаватае дзіця. Не ведае ён нічога; каб ведаў, зубы не скаліў бы, вочы б уніз апусціў.

І ніхто ў аўтобусе пра яе нічога не ведаў. Яна засланілася жоўтымі юргінямі ад усяго свету, гледзячы пад ногі, а ў аўтобусе на яе ніхто нават не зважаў: шаркалі аб падлогу цяжкія кірзавыя запыленыя боты з закасанымі халявамі, у якія панабіралася і зярнят і асця ад ячменю — ехалі, відаць, камбайнеры; блішчэлі мокрыя, не павысыханыя яшчэ ад расы чырвоныя і сінія жаночыя гумовыя боцікі і, заціснутыя паміж імі, глуха бразгалі вечкамі поўныя ягад бляшаныя вёдры — людзі дагэтуль скалясілі па дзялянках паўсвета і цяпер едуць ці дамоў, ці ў Плешчаніцы на базар. Капейкі на білет узяла ў яе Алёшава загарэлая рука, падала шафёру за перагародку, дастала адтуль доўгенькую чырванаватую палоску паперы — дзяшовенькі білецік на такую яе цяжкую дарогу — і сунула двума пальцамі між юргінь. У Алёшы яшчэ і брыдота была наўме — лез жартаваць. Ён і праўда, відаць, нічога яшчэ не знаў. І ніхто яшчэ не знае. Каб зналі — гаварылі б. У вёсках пра смерць гавораць адразу: у хатах, на вуліцы, у магазіне, у канцылярыі... Гавораць і ў аўтобусах — не дайшло, відаць, яшчэ да вёскі. І людзі нейкія ўсе чужыя ў аўтобусе, не пазнаеш па галасах, хоць ты вочы падымай на кожнага; і гавораць чорт ведае пра што: у некага «ляснулі звёздачкі», у некага быў ключ на дваццаць чатыры і няма, стаяць будзе цэлы дзень; у аднаго няма курыць, у другога — душы замарыць... І ўсе гэтыя мужчынскія конікі перасыпаюць малінамі і чарніцамі бабскія галасы. Даўно бразнулі дзверцы, даўно ўжо ківаўся аўтобус, пад'язджаючы з гары да Ячнага, і яна зірнула з-пад жоўтых юргінь на людзей. Пазнала дзве ці тры знаёмыя хусткі на галовах і галасы: сеўшы ў Краснаволлі, ехалі ў Плешчаніцы «афіцэрскія жоны». Перабіралі языкамі ўсё ўпадрад: камбайнёраў, дзяцей, вёдры; маліны і чарніцы мерылі шклянкамі, слоікамі, «закатвалі» на зіму. Няўжо ў людзей няма больш пра што гаварыць?.. Паглядзелі б хоць бы на сінія васількі ля дарогі, дык іхнія вочы і квят ужо не відзяць...

Яна памылілася... «Афіцэрскія жоны» ўзяліся і за яе. І пачалі з квят. Перабралі букет, ацанілі, не зганілі; пасля яе: гордая, вачэй не падымае, загар на твары, касу, глядзі, не абстрыгла, носіць; зачапілі на язык сумачку, пацмокалі на цёмна-сінюю сукенку — рашылі, што дачка едзе ў Белае да маткі ў бальніцу. А тут яшчэ Алёша лез са сваімі загарэлымі мурзатымі рукамі, пачаў перабіраць букет па квятцы... Уцячы б ад іх ад усіх... Каб не бачыць ні аўтобуса, ні людзей...

Яна захінулася квятамі — і ад Алёшы, і ад галасоў...

Аўтобус мінаў Ячнае, засцілаючы ўсё за сабой пылам. Каб толькі ён не заязджаўся ў Белае — бывае, спяшыць і не заязджаецца. У Белым ён будзе доўга стаяць на прыпынку.

Аўтобус павярнуў у Белае. У Белым на прыпынку было бела — ад гусей і ад людзей.

У Белым ужо зналі пра *яго.* Заходзілі ў аўтобус і гаварылі.

Яна сціснулася на сядзенні ў камячок.

«Калі толькі выберымся адгэтуль...» — падумала і заплюшчыла надоўга вочы.

## 6

На аўтобусным вакзале ў Плешчаніцах было горача і пуста — два парожнія аўтобусы з парасчыпянымі дзверцамі і на лавачцы на самым сонцы маладая маці з дачкой на каленях. Калі Таня сышла з падножкі і ступіла на жоўтую запыленую траву — з-пад ног рассыпаліся пісклявыя дробныя шэранькія вераб'і,— пачула, як яе павяла ўбок галава. Галава балела ціхім, нейкім сухім болем, аж звінела ў вушах — сядзела ўсю дарогу на сонцы. Людзі, выйшаўшы з аўтобуса, абагналі яе і рассыпаліся хто куды, як вераб'і, і яна стаяла адна на вакзале сярод гарачых, пустых і пажаўцелых ад сёлетняй гарачыні Плешчаніц. У жоўтым букеце ля самай рукі абабіліся квяты, апусцілі галовы, як зажураны чалавек у вясёлай грумадзе.

Кругa Плешчаніц віселі вялікія, цяжкія белыя тулягі: ззаду над ракой і над бальніцай; на ўсходзе заходзілі за раённы Дом культуры, апускаючыся нізка над шашой; у бок Мінска цямнелі, рабіліся бурыя і зліваліся ў адну чырвоную цяжкую градавую хмару. Толькі ўгары над Плешчаніцамі неба было чыстае і з яго ішла на зямлю нейкая халодная гарачыня. І пад нагамі было холадна, здавалася, пад імі лёд, як вясной. Яна стаяла як укопаная; крані — заплача. Хацелася пусціцца бегчы назад, туды, адкуль прыехала, сама нават да сённяшняга дня не ведаўшы, што возьме і прыедзе... Але ў чалавека ёсць і той, другі, упарты розум і воля, якія вядуць яго ў трудную мінуту туды, куды ён павінен ісці, хоць і не можа...

Яна пайшла вузкай брукаванай вуліцай да раённага Дома культуры, баючыся сустракацца з людзьмі, і думала: каб цяпер на зямлі было толькі двое, *ён* і яна, яна б *яго* адна і пахавала. Адна... Бо ніхто не ведае, што яна павінна была прыйсці да *яго,* а яна прыйдзе. Прыйдзе, і

яе ўвідзяць. А ўвідзяць — пойдзе гасла па вёсках, дойдзе ў бальніцу да мацеры і ў Краснаволле да Ратнікава... Пра Ратнікава яна цяпер не думала — разагнала ж сонца ад сябе хмары над пасёлкам, хоць на міг які, на дзень... І глядзіць яно на свет само па сабе, сваімі вачыма. Яна пачынала лавіць сябе на тым, што не так сабе ўзяла і прыехала да *яго* з юргінямі... Што вун як хацела прыехаць адразу да *яго* ў бальніцу, калі пачула, але баялася людзей: людзі ж пра ўсё дазнаюцца...

Скверам між маладых рабін з прывялым на сонцы збялелым лісцем яна падышла да эрдэка. Стала ля дзвюх абшарпаных, з абабітай тынкоўкай калон і здзівілася: усюды было ціха і пуста. Ля клуба пад рабінамі хадзілі белыя козы — скакалі на сцяну, на дашчатыя рыштаванні, над якімі сагнулася маладая рабіна: у эрдэка быў рамонт. Яна адбеглася да фанернага шчыта, прыбітага да двух новых белых слупкоў. Вочы злавілі самі па сабе — яна не хацела глядзець на шчыт — чырвоны аркуш паперы з задзёртым ад ветру ражком. На ім нахіліліся ў адзін бок прыгожыя фіялетавыя літары: «Танцы на танцплощадке. Играет духовой оркестр. Нач. в 19.00. Цена билета...»

Цаны яна не згледзела. Заплюшчыла вочы і пабегла, як сляпая, уніз па вуліцы па пяску — бегла ў кантору: гэта ж дзяўчаты па тэлефоне гаварылі пра кантору...

Кантора была ў канцы пасёлка, ля аўтабазы, і яна, Таня, бегла спачатку па доўгай небрукаванай вуліцы, грукала пасля нагамі па дашчатым тратуары ля нізенькіх старэнькіх хат, аж пакуль не задыхалася на глыбокім пяску.

Ля канторы на двары было поўна народу і МАЗаў з прычэпамі. Яна здумелася і стала здалёку, баючыся падыходзіць да людзей, але на яе ніхто нават не павярнуў галавы: людзі прыходзілі і адыходзілі ад грумады — у такі дзень любы можа зайсціся развітацца апошні раз з чалавекам.

Яна пасмялела: падышла па глыбокім пяску да самай канторы, хаваючы і жоўтыя юргіні, і сябе ад людзей, і стала збоку ля частакола. Яе адразу засланілі і адапхнулі да самага ганка шафёры: хадзілі і хадзілі, мітусіліся, як рыба ў вадзе, адзін перад адным — у цяжкіх стаптаных кірзавых ботах; у брызентавых паўбацінках; у клятчастых рубашках; у кепках, пляскатых, як блін; а то са стрыкаватымі, як у *яго*, галовамі... За шафёрамі збіліся ў кучу, заняўшы палавіну двара, грузчыкі: у вечных фуфайках — у каго праз плячо, у каго на руцэ, а хто перакінуў праз частакол і азіраецца, каб не забыцца. Без фуфайкі які ён

грузчык: што падкінеш у кузаве пад бок і ў дзялянцы пад галаву?

У кабіне ў Альбіна ўсягды ляжала на сядзенні фуфайка...

Яна не магла даўмецца, чаму людзі не там, у канторы ля яго, а высыпалі на двор. Пасля пачула ў грумадзе, што доўга чакаюць аркестра — гадзіны дзве. Падумала: каб не спазніўся аркестр — спазнілася б яна.

Яна пачала праціскацца між грузчыкаў да ганка, дзе чырваненіся дзве дзявочыя кофтачкі — на рахункаводах з канторы, але праціснуцца не было як: стаяць клятчастыя рубашкі, нібы сцяна. Яна ніколі не думала, што ў леспрамгасе гэтулькі многа грузчыкаў і шафёраў.

Яна была ўжо ля драўлянага, пафарбаванага ў сіняе ганка — да чырвоных кофтачак рукой падаць,— як раптам закраталіся клятчастыя рубашкі, заківаліся прыплюснутыя кепкі, паляцеўшы з галоў, грумада аціхла, пасля зашаркала па пяску нагамі, дзелячыся надвае і ўтвараючы пасярод праход. Яе адапхнулі назад яшчэ далей, дзе яна стаяла перш, прыціснулі да частакола і засланілі свет вялікай чорнай фуфайкай.

Заіграў зусім нечакана аркестр, на двары ля самых варот бліснулі на сонцы трубы. Над імі высака ўгары заблішчэлі воблакі, пад воблакамі правады, і на зямлі, на вачах у шафёраў, слёзы... Нешырокі праход паміж клятчастых рубашак і чорных фуфаек доўга быў пусты, нібы яго зрабілі адумысла для яе, каб яна пайшла туды, у кантору, дзе ляжаў *ён*, бо яна *яго* не бачыла мёртвым. Пасля ля сіняга ганка замітусіліся чырвоныя кофтачкі і выйшлі ў праход, несучы перад сабой зялёны вянок з яловых лапак і дзермязы і з чорнай істужкай, на якой былі вялікія белыя літары — разанулі пад сонцам па вачах.

Вянкоў было шмат; іх няслі дзяўчаты з орса; за вянкамі катлапунктшчыцы няслі перад сабой кветы: малінавае, белае, жоўтае, сіняе злівалася ў адно, пярэсцячы ў вачах. І ва ўсім гэтым жывым агні гарэлі, забіваючы ўсё астатняе, чырвоныя настурцыі, як гараць у цёмную асеннюю ноч агні ззаду за машынай — іх відзіш далёка на грэблі, аж пад Ячным.

За вянкамі адразу пайшоў Калясень, шафёр, лысаваты, даўганосы, загарэлы — яна пазнала яго, бо ведала многіх леспрамгасаўскіх шафёраў. Ён нёс чырвоны слупок з прыбітай уверсе фанеркай, нёс неяк не ўмеючы, паклаўшы сабе на плячо — рукі прывыклі насіць «метры» ў дзялянцы, а не такое; за Каляснём клятчастыя рубашкі па-

няслі чырвонае века ад дамаўя. На яго адразу неяк востра глянула зверху з-за воблакаў сонца, разануўшы па вачах і па сэрцы... Сцяло ўсё ў грудзях, не дыхнуць; запахлі свежай зямлёй жоўтыя юргіні ў руках.

Дамаўё з *ім* няслі высака на плячах рослыя шафёры, пазгінаўшы на бакі галовы, але і яна стаяла высака ля частакола і адразу згледзела ў дамаўі *яго*: чорны-чорны касцюм; ногі закладзены юргінямі і настурцыямі; рукі акручаны белым бінтам. Яна падалася ўперад і ўпілася ў *яго* вачыма, каб згледзець твар. Твару яна не згледзела: галава нізка да самых плячэй разам з шыяй была акручана бінтам — белым-белым, аж сінім пад сонцам...

«Відаць, зусім абгарэў і быў страшны, калі так закруцілі...— падумала яна.— Хто ніколі не відзеў — не будзе нават знаць, каго хаваюць...»

Яна была рванулася да дамаўя, але клятчастыя рубашкі замітусіліся ўперадзе, запаўняючы адразу праход — хлынулі, як вада, і яна зноў асталася збоку ля частакола, з-пад якога з высокай крапівы і канаторжніку дзеці пазрымалі веласіпеды і кацілі ззаду за ўсімі. Натоўп расцёкся па двары ад частакола да частакола і закалыхаўся памалу за паднятым над галовамі чырвоным дамаўём...

Напятая ўсю дарогу з дому балючая струна лопнула; з вачэй на жоўтыя юргіні пырснулі слёзы і закалыхаліся разам з рукой і натоўпам...

За цяжкі жоўты туляг зачапілася сонца, пацямнела і знікла з воч; усё наўкола зрабілася шэрае, чорствае; аціх, як праваліўся пад зямлю, аркестр. Усе павярнулі галовы назад, на аўтабазу, як згаварыўшыся; павярнула і яна, каб убачыць, што там, дзе стаяць МАЗы і відаць дзве жоўтыя вялікія круглыя цыстэрны.

МАЗы сігналілі — усе да аднаго, якія былі на базе. І адкуль толькі там аказаліся шафёры, яны ж, здавалася, усе былі ў грумадзе. Густы, нудны, цягучы жалобны звон заглушыў адразу аркестр, хлынуў на двор, на вуліцу, на ўвесь пасёлак, несучы трывогу, жудасць і боль...

Аціхлі, прасігналіўшы, МАЗы; натоўп заняў усю вуліцу, людзей пабольшала, яны сыходзілі з тратуара і далучаліся да ўсіх. Ішлі з сумкамі ў руках, з транзістарнымі прыёмнікамі, з буханкамі хлеба пад пахай, кацілі збоку ў сябе веласіпеды — натоўп вырас адразу ўдвая. Белая, абвязаная бінтам галава ў дамаўі была ўжо далёка ўперадзе, не згледзець.

Аціхаў аркестр — шоргалі па зямлі і па каменні ногі;

пасля ён зноў пачынаў знянацку ўздыхаць густой цяжкай меддзю, заглушаючы і шоргат ног, і нейчы рэдзенькі ўсхліп, і піск патрывожаных вераб'ёў ля плота. Яна ступала і ступала на зямлю разам з усімі, як баючыся — нібыта гэта была абпалена і перавязана зямля, а не *ён*... Пачула раптам тут, у грумадзе, што толькі цяпер у яе адпаў страх і яна не баіцца, што яе згледзяць і здагадаюцца, чаго яна тут з юргінямі ў руках. Пашкадавала, што праз гэту вечную боязь нават сама сабе не магла дагэтуль сазнацца, што *ён* для яе быў не абы-хто, што ў яе ў душы пачынала нараджацца нешта шчымлівае і незразумелае... У нечым і яна была вінавата... Думала — і тады баялася ступаць на падарожнік і на белую дзяцельніцу: здавалася, ступаеш на *яго* і на самую сябе...

Яна прывыкла ўжо за гэты кароценькі час да грумады, баялася, што скора скончыцца дарога, і не хацела таго — так бы ішла і ішла, аж пакуль бы не звалілася з ног. І калі натоўп раптам спыніўся і замёр, яна стукнулася грудзьмі ў клятчастую рубашку наперадзе і злякнулася. Убачыла на якую хвілінку белую плямку бінту ўгары над галовамі: плямка ўздрыгнула, заківалася, тады паехала ўніз і схавалася за людскімі галовамі. Натоўп пачаў агінаць бліскучыя медныя трубы з двух бакоў жывой вялікай падковай. Яна згледзела цяпер між людзей сінія жалезныя агарожы, вычасаныя з камення пліты, старыя, пачарнелыя высокія крыжы, пасыпаныя дробненькім сівым мохам, як зімой інеем, і малыя, новенькія крыжыкі, перавязаныя яшчэ свежымі, не выцвілымі дабяла стужкамі... Тут пачыналіся могілкі; тут, з краю ля дарогі, і выкапалі *яму́* я́му: усё жыццё па дарогах і ляжаць цяпер будзе ля дарогі...

Запахла сырая зямля — нейкім горкім вострым пахам, як пахне яна на могілках. З-за людскіх галоў паказаўся на міг жоўты, падсохлы зверху бугарок свежай зямлі; ля яго паставілі абабітую чырвоным падстаўку і цяпер ціха апускалі на яе такое ж чырвонае дамаўё, якраз сюды, да яе, Тані, нагамі. Пад галаву *яму* было вышэй, і яна зноў згледзела *яго* белую забінтаваную галаву — пасунулася набок, і яе нехта паправіў адразу рукамі.

Уперадзе загаварылі мужчыны; усе крануліся, ступілі ўперад — вечная людская прага і пачуць усё, і ўбачыць — і яна, як была, ідучы ззаду ўсю дарогу, так і тут асталася ззаду — яе засланілі шырокія плечы ў клятчастых рубашках, як усё роўна адумысла зноў схавалі *яго* ад яе. Яна цяпер нічога не бачыла; чула толькі, як ды-

хаюць уперадзе клятчастыя рубашкі і адзываюцца спалоханымі піскліявымі галасамі недзе блізка птушкі. Вялікі і цяжкі жоўты туляг павіс над самымі могілкамі, над соснамі — нібыта і ён быў з жоўтага свежага пяску, нібыта і там, угары, некага хавалі і збіраліся засыпаць яму...

З-за жоўтага туляга выплыла ядранае сонца, заліло і могілкі і людзей ціхай цеплынёй, і яна ўбачыла тады над усімі бліскучую круглую лысую галаву Сямёна Калінавіча — дырэктара леспрамгаса. Ён падняўся, мусіць, на нешта высокае, бо якраз закрыў сваёй круглай галавой край воблака над соснамі. Яна добра згледзела яго насуплены твар і вялікія чорныя бровы над бурым загарэлым круглым лобам. Сямён Калінавіч загаварыў густа, з рокатам — быў добра чуваць здалёку,— гаварыў ён так, як і ўсягды: складна, лёгка, а сёння яшчэ неяк балюча, нібыта словы яго былі з агнём, západалі ў душу і палілі яе там знутры нашчэнт, як жарам... Хоць ты раздзірай рукамі грудзі... Гаварыў ён, што і ўсе ўсягды гавораць у такім разе: жыў чалавек, быў добры рабочы... даваў два планы... цаны яму не было... не ўберагли яго.. смерць рана вырвала з нашых радоў... хай яму будзе пухам зямля... Але сваім голасам ён матаў душу і за якую мінуту выматаў — запякло ў грудзях і пацяклі слёзы...

Сямён Калінавіч ступіў ■ нечага высокага на зямлю, закалыхаліся ўперадзе клятчастыя рубашкі, і зноў ёй па вачах сцебанула сонца — нічога не бачыш. Яна тады паднята ўгару жоўтыя юргіні, каб засланіцца...

Пасля дырэктара гаварыў нехта маладзенькі, чорненькі, пад гальштукам — яна не пазнала: можа, галоўны інжынер, можа, начальнік аўтакалоны ці ад прафсаюза хто — начальства многа. З шафёраў ніхто не стаў гаварыць. За бутэлькай, на сходах, каб адваяваць прагрэсіўку ці яшчэ што,— крычаць, а тут, калі пераварочвае душу, дык стыдна, слова сказаць не рашаюцца... Між клятчастых рубашак пайшоў шэпат: выйшла замінка... І калі, счакаўшы, дырэктар зноў сказаў сваім густым голасам — каб у хаце, задрыжэлі б шыбы ў вокнах: «Родных і блізкіх просім развітацца...» — стала так ціха, што чуваць было, як шумяць сосны над галавой і як у некага пад нагамі хруснуў сухі сасновы сучок.

Ніхто не крануўся з месца — родных у яго не было: сірата з пасляваеннага Плешчаніцкага дзетдома, а блізкія былі толькі тады, калі ён быў жывы, калі можна было з ім сесці за стол...

Яна тады, учапіўшыся рукой, адапхнула спераду шы-

рокія клятчастыя плечы і з разгону праціснулася ўперад, пакінуўшы за сабой траіх, ці што, чалавек. І як яна перш гэтага не зрабіла — адгэтуль добра была відаць і чырвоная падстаўка, і чырвонае дамаўё на ёй, і *ён* у чорным касцюме — кветы ў *яго* ўжо былі зняты з ног, дзяўчаты з канторы дзяржалі іх у руках,— і белая ў бінце галава на маленькай падушачцы. У доўгай цішыні ўсе пераменьваліся з нагі на нагу... Тады да дамаўя падышоў сам Сямён Калінавіч, стаў на пясок на калені і прыхінуў бліскучую круглую лысую галаву яму да белага бінту — пацалаваў; за Сямёнам Калінавічам укленчыў маладзенькі чорненькі хлапец пад гальштукам, падняўся, атрос з калень пясок дзвюма рукамі, і ўсё. Сямён Калінавіч пачакаў яшчэ, тады ціхенька махнуў рукой — падаў знак. Аркестр зайграў неяк ціха і паволі, як усё адно не хацеў хутчэй адпраўляць на той свет чалавека; клятчастыя рубашкі заварушыліся, паднялі з зямлі чырвонае века і паняслі да дамаўя. Праз мінуту закрыюць і заб'юць *яго* цвікамі — схаваюць з вачэй наўсягды...

— Стойце!..— закрычала яна тады нема на ўсе могілкі.— Стойце!..— і рванулася з цеснай грумады, як птушка з сілка. Узмахнула жоўтымі юргінямі і чорнай сумачкай, што крыламі, і пачала праціскацца наперад, рассоўваючы валасатыя загарэлыя локці і чорныя, у белай смале фуфайкі. Яе пачулі, азірнуўшыся назад, зласілі вачыма ўсе да аднаго і цяпер расступіліся, давалі дарогу. Яна нікога не бачыла — у вачах было толькі чырвонае дамаўё і белая пляма бінту ў ім,— праціснулася наперад да жоўтай кучкі пяску, падбегла да дамаўя і, растапырыўшы рукі, упала ля клятчастых рубашак, якія дзяржалі ў руках века, на чорны касцюм, ловячы рукамі яго складзеныя на грудзях белыя ў бінце рукі і рассыпаючы свежыя яшчэ, не прывялыя ад сонца за дарогу жоўтыя юргіні з гародчыка, якія *ён* вунь як любіў... Закрычала, затраслася, прымаўляючы, сама не помнячы што... Пачула толькі, як зашумеў ззаду натоўп, як аціх, перастаў быў іграць аркестр... У чалавека дагэтуль не было свайго чалавека... Цяпер ён быў, знайшоўся і прыйшоў, каб упасці яму на грудзі апошні раз...

Ад дамаўя яе паднялі пад пахі дзяўчаты з канторы, сабраўшы жоўтыя кветы і падаўшы з зямлі з жоўтага свежага пяску чорную сумачку. Падышоў Сямён Калінавіч, пагладзіў па галаве — рука ў яго была цяжкая, цвёрдая і гарачая. На вачах у яго выступілі слёзы, і ён выціраў іх вялікім сагнутым пальцам. Нешта сказаў ёй, але яна не

пачула што: ныў аркестр і грукалі малаткі — па жалезе і па дрэве.

...Клятчастыя рубашкі, расцягнуўшыся дарогай, першыя пайшлі з могілак. Аркестр пахаваў трубы ў маленькі сіненькі аўтобусік і паехаў у вуліцу, падняўшы пыл.

На могілках ля самай дарогі астаўся свежы бугарок жоўтай зямлі, прылізанай лапатамі; слупок, абабіты чырвонай мацерыяй; вянкі з яловых лапак з чорнымі стужкамі і кветы, якія няслі сюды ў руках дзяўчаты з канторы. І пад усім гэтым — *ён*...

Дзяўчаты вялі яе пад пахі ў кантору. Яна ішла, чула, як у яе не гнуцца ногі і як суха ў роце. Жоўта было ў вачах — ад пяску і ад квят, што асталіся там, на могілках ля дарогі...

Вярнулася яна з Плешчаніц у Краснаволле апошнім аўтобусам позна — сонца ўжо зачапілася за вёскай за маяк. Дамоў адразу не паехала; выйшаўшы ў Краснаволлі на прыпынку — адна была ў вялікім старым абшарпаным аўтобусе,— доўга стаяла, слухаючы густую вячэрнюю вясковую цішыню, якая ніяк не магла заглушыць у вушах звон аркестра, тады памалу пайшла вуліцай да канцылярыі. Сонца за маяком было ціхае, жоўтае, і маяк, і стрэхі ў хатах, і брук на вуліцы ў Краснаволлі былі жоўтыя. І гароды за платамі і частаколамі былі ў адных жоўтых кветах, і самі платы і частакол, да якога яна датыкалася рукой, былі жоўтыя. І рука, і чорная сумачка ў ёй палыскаліся жоўтым юргіневым цветам... Уся зямля пад сонцам была жоўтая, ціхая, асцярожная і ўздрыгвала пад нагамі.

І канцылярыя была ўся жоўтая ад сонца. На дзвярах вісеў замок: рана з'ехаў Джанік. Яна помніла, што яе ключ быў у сумачцы, адамкнула дзверы, зайшла ў пустую канцылярыю з жоўтымі выгаралымі паперамі на стале і падаконніках, доўга стаяла, прыслухоўваючыся да людскіх галасоў на вуліцы — больш за ўсё яна баялася цяпер галасоў,— тады села за свой стол, паклала пад локаць сумачку, падпёрлася і ўтаропілася ў акно — на ціхія жоўтыя юргіні.

Зазваніў на стале тэлефон — ну вот! Пачалося! Так ужо не хацелася падымаць трубку... Не краталіся рукі і такая ўжо стома навалілася ззаду на плечы — вязка сырога балотнага сена...

Яна падняла трубку. Нехта малады і злосны з райсельгасаддзела прасіў прыняць тэлефанаграму...

Яна ціха паклала на апарат трубку. Вузкай жоўтай палоскай з акна на апарат лягло раптам сонца, і ён загарэўся чырвоным вугальком...

Маці будзе жыць, не можа быць, каб адразу ішлі адна і другая смерць...

Падцягнуўшы да сябе чырвоненькі апарат — выхапіла з сонца, як з агню,— яна набрала бальніцу. Бальніца маўчала — чыркала далёкімі нейкімі кульгавымі зрывістымі гудкамі і маўчала. Яна пачакала і пазваніла яшчэ раз. Доўга трымала ля вуха трубку — нехта ж падыдзе, не павыміралі ж там,— і, калі трубку паднялі: «Слухаю, тваю макаўку, тарахціш і тарахціш...» — яна папрасіла Коласа.

— А-а... Гэта ты, Кнігаўка...— Сцяпанаўна яе ўсягды пазнавала.— Ні Коласа, ні Праскурнічыхі. Я іх тут усіх, надпечных-падапечных, накарміла і спаць пазаганяла... Кожнага на свой ложак. Бо не пазаганяй...— Сцяпанаўна была вясёлая, смяялася.— А табе я, Кнігаўка, вот што скажу... Гэта каб у мяне хто у бальніцы ляжаў, я ж бы ля яго ў нагах і дзень і ноч... А ты, сучка, лыхаеш цэлы дзень, бегаеш, хвастом круціш, тваю макаўку... Задзёрці б спадніцу ды крапівай... Гэта ж каб у мяне, я б у тую бальніцу за сто вёрст...— Сцяпанаўна раптам заплакала. Загаварыла пасля і захліпала. — А твая спіць. Намэнчылася сёння за дзень, такое перажыўшы, і цяпер спіць. Спіць, кажу, і дыхае. А ты, Кнігаўка, глядзі-і, тваю макаўку...— Сцяпанаўна паклала трубку.

«Ведаюць. І маці ведае...» — яна доўга глядзела на сцяну, на якую перапаўзла са стала жоўтая палоска ад сонца.

Вечарэла. Праз вёску пайшлі на казэс машыны з жоўтым ячменем у кузавах.

Каб толькі не ўздумаў і не прыбег цяпер у канцылярыю Ратнікаў... Яна схінулася з акна.

Ратнікаў у канцылярыю не прыбег.

Сонца зайшло за маяком на Кур'янаўскіх Садах; ля маяка закурэўся туман — вузенькай палоскай ля самай зямлі. Яна ўстала, кінула вачыма на шафу, на стол, на сінія ведамасці — ці прыйдзе заўтра сюды? Пасля *яго* многае можа змяніцца — яна думала пра гэта. Замкнула дзверы, стаяла на двары ля жоўтых юргінь, як дома, і глядзела на белую вярсту дроў у Ратнікава пад падстрэшкам.

З поля ад маяка гналі на ферму скаціну, і ў вуліцу, ёй насустрач, поўз пыл, сухі пах ячменю, сырадою і падапрэлага, закладзенага ля фермы ў ямы сіласу. Трапіліся дзеці, нехта павітаўся здалёку, але яна нават не паглядзела. Ішла і думала, што многа чаго ў яе цяпер пераменіцца: і

з Ратнікавым — глядзець на яго не можа; і з Джанікам і Дзярызямлёй — не паедуць: дзе сядуць, там і злезуць. Маці паправіцца, і яна, Таня, з'едзе. Свет вялікі, а яна яго яшчэ зусім не відзела...

На двары ў Ратнікава нікога не было.

Белая ад пісягаў малака маленькая бутэлечка з чорнай вялікай сыскай на рыльцы стаяла зверху на клетцы. У клетцы за драцяной сетачкай сядзеў заяц і кратаў белай пыскай і белымі доўгімі вусамі. Пад носам у яго ляжала жменька свежай белай дзяцельніцы. Дзяцельніцы, было відаць, ён зусім не зачапіў. І на яе, Таню, ён не глядзеў. Вушы ў яго павіслі, у жаўтаватых абадках вачэй патухала апошняя надзея на волю, дзе летам халодная з расой крамяная канюшына, зімой — лаза, дзе — дай бог толькі ногі — не страшны ні воўк, ні ліса, ні які чорт,— вырвацца б толькі з рук у чалавека...

«Заяц будзе жыць...»

Яна адшчапіла маленькі белы кручок, зроблены з мяккага алюмініевага дроту — гнуўся ў пальцах — і адчыніла адмысловыя лёгенькія дзверцы ў клетцы. Заяц сядзеў, нават вушамі не павёў. Яна пачала пляскаць у далоні ў яго над галавой — каб што. Узяла тады зверху з клеткі бутэлечку з чорнай сыскай і запусціла ў яго. Бутэлечка пакацілася па спіне і зазвінела аб драцяную сетку. Заяц усядзеў, хмы́ліўся толькі, прыціскаючы да спіны доўгія вушы; белыя вусы ў яго хадзілі хадуном разам з пыскай. Яна падняла з дрывотні лучынку, усадзіла між дроту ў сетку і пачала пароць зайца пад бок. Заяц ці быў дурны, ці, можа, за гэты час прывык да клеткі, да чалавечай рукі і да бутэлечкі з малаком — не кратаўся з месца. Яна, не баючыся, што ў яго ёсць зубы і лапы з кіпцюрамі, прасунула ў дзверцы руку, узяла яго за цёплыя доўгія вушы і пацягнула з клеткі. Ён яшчэ ўпёрся быў лапкамі ў дзверцы, але яна тузанула яго, падняла за вушы і выцягнула. Ён быў цяжкі і, выгінаючыся, махаў лапамі — не ўдзяржаць. Яна хацела выпусціць яго на двор, але на двары быў частакол, і яна, паднёсшы зайца да хлева, перакінула за вушы цераз плот на выкашанае рудое калгаснае канюшынішча... Заяц адразу прынік да зямлі, прыліп да яе і лапамі, і жыватом, і мордачкай, паляжаў з мінуту, напружваючыся, тады падскочыў вышэй плота і лінуў, пачуўшы волю, па рудым канюшынішчы пад маяк у туман шэранькім камячком.

Над канюшынішчам паднялася сівая палоска пылу...

У грудзях спёрла гарачыня, гонячы з вачэй слёзы. Зрабілася шкода ўсяго жывога на зямлі.

«Прывык да клеткі і забыўся на волю...»

Дамоў ісці не хацелася.

Ужо сцямнела, калі яна схавалася ў тумане ля маяка. Ад паху нагрэтай за дзень зямлі, ячнага ржышча і ад слабасці кружылася галава. І звінелі несціхана конікі ля дарогі — далёкім прыціхлым медным аркестрам...

За Кур'янаўскімі Садамі праз асушанае балота яна здалёку згледзела ў сваёй хаце ў вокнах агонь і пабегла, чаплюючыся нагамі за сухое карэнне і падымаючы буры тарфяны пыл.

Бегла, а агонь не бліжэў — калыхаўся ў вачах і стаяў на месцы.

## 7

Яна шастала рукой па дзвярах — згубілася клямка, не знайсці ніяк халоднага слізкага жалеза. Дзверы з разгону расчыніла насцеж, яны вырваліся з рук і бразнулі ў сенцах аб рог шафарні, зачапіўшы парожняе вядро і пілу з тапаром, што ляжалі наверсе. Ад звону і грукату ўскочыў у хаце з-за стала Міфодзя — сядзеў дагэтуль узлакціўшыся на стол і паклаўшы галаву на рукі, воддаль, ля рэшата з яблыкамі, ляжала яго фуражка з бліскучым чорным казырком і чорным аколышкам — піхнуў спопаразку нагамі ўслон, нарабіўшы большага грукату, чым яна, і стаў ля стала на жоўтай падлозе, усміхаючыся радасна і вінавата. Вочы ад агню ў яго былі нейкія надта сінія — перавялі яе зверху ўніз і патухлі. Яна падбегла да яго, ашчапіла рукамі за плечы, прыціснулася да грудзей і загаласіла на ўсю хату:

— А мой жа ты браток... А мамка, мусіць, памрэ...

Ён не суцяшаў яе, даваў усё выплакаць. Яна нічога не гаварыла, толькі заходзілася нема ад крыку і ад хліпаўкі, круціла галавой у яго на грудзях, і здавалася, ніколі не супакоіцца. Выпусціла з рук сваю чорную сумачку пад вядро з вадой, што вісела ля печы на дроце з вялікай чорнай кружкай... Ён гладзіў яе па плячах рукой, чуў, якія яны кволыя, худыя, і ў яго ў самога навярнуліся слёзы і горла хапіла салёнай гаркатой. І хата, і печ, і дзверы ў сенцы, і высокае акно ад гарода здаліся яму раптам маленькімі, меншымі, чым ён іх помніў, і краёк вымытай жоўтай падлогі, дзе яны стаялі, здаўся зусім цесным — як тут на ім разысціся з вялікай бядой і горам.

Дай толькі волю слязам і такім думкам... І ён, каб больш не маўчаць, сказаў ціха, праз кашаль:

— Цяпер ужо не памрэ... Будзе жыць...

Яна, пачуўшы, адразу аціхла, перастала хліпаць і, не гледзячы яму ў вочы, як баючыся чаго, адхінулася і пачала памалу выпростваццa, як маладзенькае дрэўца пасля буры.

— Быў? — здзівілася і сказала з нейкім дакорам самой сабе.— А я сягоння не была. Я сягоння на пахароне была... Званіла ў бальніцу, дык толкам не дазванілася...— Яна сціхла, вочы ў яе парабіліся вялікія, загарэліся.— Гэта ж з бальніцы пра цябе Сцяпанаўна і гаварыла... А я бог ведае пра што падумала...

Сцяпанаўну ён добра знаў, а каго хавалі, не стаў пытацца, і яна не гаварыла. Аціхла ад плачу і памалу ажывала; сагнуўшыся, падабрала з падлогі сумачку і паклала на пусты ложак ля перагародкі, дзе ўсягды спала маці.

— Як я цяпер баюся пахарону... Не пераҗыву...

— Ты што? Будзе жыць. Яна ў нас, ведаеш, якая? Што мы яе не знаем? Гэтулькі ўсяго... Будзе жыць...

— Сэрца ў яе на нітачцы вісіць...

— На нітачцы, можа, і зямля вісіць. Але круціцца, жыве, і мы на ёй жывём і жыць будзем...

— Ска-ажа...— яна падняла на яго ціхія змучаныя вочы.

— Ды кінь ты гэта ўсё слязліваe... Як ты тут адна з гэтым усім спраўляешся, скажы лепш?

— Ды спраўляюся. Няма часу пра ўсё гэта думаць: хата, карова, Юрачка, канцылярыя, Джанік, ферма, казэс, бальніца...— яна запнулася, не дагаварыла раптам нечага, абарвала на паўслове.— Не хапае на ўсё гэта мяне адной. Каб, як бог, была ў трох іпастасях — не хапіла б...— у яе яшчэ дрыжалі рукі і торгаліся пасля плачу плечы; яна нагнулася над сталом, сабрала рассыпаныя яблыкі ў рэшата, паставіла высака на шафу, узяла і яго фуражку, паклала на шафе збоку на ражку.— Галодны, мусіць, з дарогі...— падняла зноў на яго вочы. У іх бліснула маленькая іскарка надзеі: можа, і праўду ён кажа, што маці будзе жыць, што яму ўжо тут маніць. Яна ж тут сама з маткай, ён прыехаў на дзень-два і паедзе, больш яго не скора пусцяць. Што́ яму яе суцяшаць... Пасля падумала: пакуль ён будзе тут — ёй будзе смялей, хоць дзень-два. А заўтра яны разам пойдуць у бальніцу.— Галодны ж з дарогі... Я дык цяпер не ведаю, калі ем. Маліну падаю, пакуль накармлю Юрачку, пакуль курэй у хлеў сабяру, пакуль тое ды сёе — нічога ўжо ў рот не лезе. Што ж гэта я ўсё пра сябе... Ты ж галодны... Памыйся, можна ў хаце над вядром, я з кружкі на рукі палію, а не — то на дварэ ля студні. Трава толькі

ля студні і не выгарала, пліхнеш вады раз-другі — і не баіцца гарачыні... А так — гола кругом. Пайшлі дажджы — ды позна. Бульбе, можа, яшчэ і памогуць. Што, пераадзецца? Знімай усё сваё ваеннае, я прынясу з шафы касцюм. Пагладзіла пасля цябе, год ужо вісіць, чакае. Дастану, пакручу ў руках, шчоткай пачышчу і назад на вешалку. Думалі, што не пусцяць, аж пусцілі...

— А чаму ж не. Пускаюць на такое...

— І на многа пусцілі?

— На пяць сутак.

— Справімся. І нешта скосім, і гарод аполім — асот бульбу задавіў, і плот ад логу падымем. Віткі пагнілі, жэрдзе асунулася — коні галовамі паасоўвалі: падыдуць з таго боку, пакладуць шыі на плот і цярэбяцца. А я ніяк вітак дагэтуль не навучылася закручваць, калка добра не зачашу. Відзела, як ты рабіў, а самой прыйшлося — тц... Прасіць трэба каго. А так усё самі зробім. Удваіх. Я ў Джаніка адпрашуся — пусціць, калі пачуе, што ты прыехаў...

Яна хацела пабегчы ў другую палавіну да шафы, але ён не пусціў: пайшоў сам і выйшаў з-за перагародкі голы да пояса, меншы і худзейшы — якраз такі, як хадзіў у школу,— у карычневых штанах ад касцюма і ў карычневых брызентавых паўбацінках са скуранымі вострымі наскамі. Яна зняла з дроту вядро, чорную вялікую кружку, узяла з судніка з беражка чырвоную мыльніцу з мылам і першая пайшла на двор да студні. Паставіла вядро зверху на шліхту яловых круглякоў пад самым асверам і падала яму ў рукі мыла. Пабегла назад у хату па ручнік, грукаючы нагамі ў сенцах аб падлогу. Павесіла ручнік на паркан ля студні, белы ў цемнаце — як месяц узышоў з-за лесу,— змарылася, бегаючы, адсаплася і сказала:

— Мыйся, а я Юрачку накармлю. Парог згрызе. І Маліну падаю. Дзверы ў хату пакіну расчыненыя, а то на дварэ цёмна. Калі будзе час — правядзеш мне на двор лямпачку, а то сама хацела. Калі палезеш у студню — не ўпусці вядро. Зашчапка на кручку не дзержыць, я трэскай падтыкаю... Бусак укралі. Дзеці, мусіць, сцягнулі на рэчку...

Ён мыўся і чуў, як пахне з-пад ног прымяты палын і лебяда, як да іх дамешваецца з гародчыка ад вуліцы кроп, настурцыя і юргіні, і сам памалу адыходзіў — варочаўся да сябе дамоў. І хата, і варыўня, і хлеў, і зруб над студняй былі яшчэ нізенькімі і маленькімі, і трэба было пабыць дома хаця б дзень да вечара, каб яны пабольшалі і сталі такія, як і былі. Высокія гарады і далёкія дарогі ўсягды робяць тваю маленькую вясковую хату яшчэ меншай...

Рохкаў і вісчэў на ўвесь хлеўчык Юрачка, б'ючы лычам у дзверы; пасля пачынаў грызці зубамі парог — галодны ніяк не мог зразумець, чаму на двары бразгаюць вёдрамі і не нясуць яду. Таня нарэшце занясла яму вядро з ядою — нясла цяжка, нагнуўшыся на адзін бок; скрыгат адразу сціх; дзверы ў хлеўчык былі адчынены, і Міфодзя бачыў, як матляецца ў вячэрняй цемнаце вялікае белае абвіслае вуха ў Юрачкі — што ліст дзядоўніку. Падбегшы да паркана ля студні, Таня зняла новае бляшанае вядро, што вісела ўверх дном, і пабегла ў хлеў. Яна раптам як загарэлася ўся, вада на ёй не магла ўстояць. У хлеве, старым, шэрым, прыціснутым зверху цяжкай страхой, зазвінелі аб вядро густыя і пругкія, як дрот, струмені малака. Ён помніў іх звон яшчэ з таго, калі быў малы і калі маці брала яго з сабой на ферму. Помніў, як і свіст ветру, скрып варот, шум дажджу за акном, рокат трактара ля Кур'янаўскіх Садоў і звон самалёта высака над вёскай у чыстым сінім небе. Для яго, Міфодзі, як бы з той пары нічога не мянялася, як бы не было ніколі нідзе ніякага начнога палігона — а было толькі раскарчаванае яшчэ да вайны бясконцае начное поле, якое пачыналася тут, ля студні за платамі, зліваючыся з асушаным і ўзараным балотам, і цягнулася пад Кур'янаўскія Сады і пад Краснаволле... І было яно ўдвая, утрая, учэцвера, удзесяцера большае палігона, і над ім жахалася мяккае ціхае сіняе неба не ад снарадаў з «кацюш» і гаўбіц, а ад доўгіх бліскавіц з цяжкіх, набрынялых дажджом хмар, як вымя ў кароў малаком. І не над палігонам узляталі і тухлі ракеты, а на начное жытняе поле падалі з летняга неба чыстыя, як алмаз, бліскучыя зоркі, абіваючы з каласоў расу і першае спелае зерне на ціхую, цёплую, распараную зямлю.

Здалося, аціхне зараз, не будзе звінець пад струменямі вядро, і не Таня дома з хлева, а маці на ферме з кароўніка выйдзе з двума поўнымі вёдрамі малака — пена аж па пераверслы — і падасць яму ў рукі:

— Нясі, сын, да малакамера...

Пасля Таня цадзіла пад суднікам у хаце на лаўцы малако ў вялікі паліваны жбан, схвачаны зверху за горла белай марляй, як хворы кампрэсам; над ім падымалася горкай пена, расла, бралася грыбам, распадалася і валілася на лаўку, на падлогу і ёй на ногі... І пахла на ўсю хату цёплым сырадоем, як усягды скаціна, ідучы вечарам з поля, як ферма, кладоўка, вёдры, бітоны, цадзілкі і сама маці: рукі, спадніца, фуфайка...

Ён тады адышоўся ад стала і пачаў хадзіць па хаце:

падыдзе да ложка, дзе ўсягды спала маці, возьмецца за бліскучы нікеляваны брыж, пастаіць, тады зноў ідзе да стала...

— Згаладаўся... Пачакай яшчэ мінуту... Калі ж гэта малако не знаеш дзе дзяваць. Кармлю Юрачку...— Таня, нагнуўшыся над жбанком, дзьмула на пену і цяпер была падобна на маці, збоку і з касы — вылітая! — Яешню зраблю. Пліты паліць не буду: сапрэем тады ў духаце. Я — на прыпечку...— яна паставіла жбан на лаўку побач з вядром, адвярнулася да печы, дастала з-пад прыпечка тры невялікія круглыя чорныя ад сажы камяні, расклала на прыпечку, узяла самую большую скавараду, як на вялікія госці, і паставіла на каменне. Схапіўшы з-за судніка алюмініевую лыжку, збегала ў сенцы, бразнула векам у шафарні, вярнулася і паклала на скавараду разам з лыжкай вялікі жоўты скрыль масла.

Сухая чырвоная лучына затрашчала на прыпечку, хапіўшы і скавараду і каменне чорным полымем. Запахла густым сасновым дымком, як усягды зімой, калі маці ўставала рана-рана; калі ён ішоў у школу грэбляй па марозе — яшчэ вісела цемната над шэрым снегам, толькі ў вёсцы ззаду і наперадзе ў Ячным ваўчынымі вачыма бліскалі агні...

Яешню Таня зрабіла, як і маці — на ўсю скавараду; паставіла са скаварадой на драўлянае дэнка на стол на абрус і шырокім вострым нажом нарэзала хлеба ад доўгенькай плешчаніцкай буханкі.

— Ёсць «лучок»...— усміхнулася, выцершы лоб ад поту — угрэлася ля агню — і пакінуўшы збоку на лобе чорненькую вузенькую крэсачку, як усё роўна падводзіла бровы і сашмыкнулася рука.— Самагонкі бутэлька з вясны асталася, калі бульбу садзілі. Акучвала сама, дык і не спатрэбілася, стаіць і цяпер, касцоў чакае шнуры касіць, а касец якраз свой явіўся...

— Схавай. Во, як накосімся — тады. А цяпер схавай...— ён махнуў рукой, і яна падумала, што не возьме ні каліва і не да касьбы адкладае, а таму, што маці ў бальніцы.

— А-ей...— сказала яна, як маці, ён аж злякнуўся.— Чым жа праганяць будзеш? — І наліла поўную вялікую чорную кружку малака, як рабіла маці.— А заўтра бульбы навару... Маладой падкапаю за вуліцай, пакаштуеш хоць сёлета. Агуркі не выраслі, пасохлі. У гародчыку тры ляжаць у баразне пад жоўтай юргіняй у цяньку — гадую, а на градах пад рэчку выгаралі. Завязаўся адзін, цененькі, увесь у чорных калючках, і той згорбіўся ў тры пагібелі, як

свінны тата, скруціўся і зжаўцеў. Паглуміла ўсе грады сёлета. Такая суш. Зямля ўсё лета, як прысак...

Ён падумаў з нейкай горкай радасцю за сястру: маці ўсягды гаварыла тое, што гаворыць цяпер сястра. Як бы яна, сястра, паявілася на свет і вырасла, каб прадоўжыць на зямлі і мацерына гора, і радасць і пацягнуць на сваіх плячах усе спрадвечныя вясковыя беды...

Ён еў, а яна сядзела на рог стала ля акна і глядзела на яго балючымі сумнымі вачыма:

— Еш... Я пасля, можа, укушу што, калі захочацца. Нішто ў рот не лезе пасля таго, як яе завязлі ў бальніцу... Добра, што ты прыехаў. Аб цябе, як аб плот, хоць абапруся. Аж цяпер дрыжу ўся, калі ўспомню... Прыбегла, а яна ляжыць ля варот. А пасля памёрла ўжо была ў бальніцы. Думала, што і я сама разам з ёй заадно... Гэта ж Сіментала свайго паляцела ратаваць...

— Ну-у... А вот плакаць не трэба. Тое ўсё прайшло. Трэба цяпер, калі забярэш з бальніцы, каб яна ферму кінула.

— Яна не кіне. У яе толькі ферма і ты ў галаве. Нават мяне няма.

— Няма таму, што ты з ёй. Перад вачыма. Так ужо ўстроен чалавек.

— Я ёй гавару-гавару...— яна махнула рукой навотліж, як маці,— а яна на грэблю паказвае: на новую ферму. Ля могілак будуюць, калі ішоў — нейдзе відзеў. Там і даілкі, там і паілкі. Дык яна туды яшчэ хоча...

Яна сціхла, і ён маўчаў. Чыкалі ў цішыні на перагародцы ходзікі, і капала з поўнага вядра на падлогу вада. Шаптаў рэпрадуктар, і на дварэ ныў, раздзіраючы душу, даўнім знаёмым звонам самалёт.

— Што яшчэ чуваць у вёсцы? — спытаўся ён, каб не маўчаць.

— Што тут пачуеш... Вёска пусцее. Скора ад яе нічога не застанецца. Маладых ні ў кога ўжо няма. Давай пералічым з гэтага канца, калі хочаш. Харбін — лічы, адзін. Памрэ — хату забівай. Праз вуліцу суседка — адна. Дачка выйшла замуж і з'ехала. У другога суседа — нагніся ў акно, увідзіш — вокны накрыж дошкамі забіты. З'ехаў на цаліну. Усёй сям'ёй. Дзяцей, як бобу, і ўсіх на свет павёз шчасця шукаць. А Платон з Платоніхай? Ён, відаць, першы памрэ, чуць ходзіць ужо, высах. Платоніха адна астанецца, гаворыць, паедзе тады дамоў, у Западную, адкуль яе Платон у вайну сюды прывёз... І так я табе магу ўсю вёску пералічыць, ці з таго канца, ці з гэтага. Чужыя лю-

дзі пераязджаюць у калгас, з сем'ямі. Дык гэта — чужыя... Багацейшага ўсяго шукаюць, нічога ім не дорага. Прыехалі, дрэнна — зноў паехалі. Вымруць старыя, з'едуць маладыя, і астануцца толькі печышчы і дрэвы — памяць, рашто стаяў наш Крамянец на беразе маленькай ракі. І рака пасля ў асушаным балоце высахне...

— Што ты так ужо распісала? Колькі разоў так было, не тое яшчэ гаварылі, калі ўсе адразу пасля вайны ў Мінск хлынулі, а глядзіш — неяк людзі сюды-туды, памітусяцца, паездзяць, пашукаюць лепшага і вернуцца... Зноў круцяцца каля сваёй прызбы. Думаеш ужо, што чалавека і на свеце няма, а ён — як з-пад зямлі вылез і зноў у калгас пайшоў з таго свайго леспрамгаса ці так яшчэ адкуль. Так што не лёгка ўсё гэта — сваё пакінуць...

— Я ж не гавару, што ўсё на зямлі звядзецца разам з нашым Крамянцом. Краснаволле, вун, удвая вырасце, а то і ўтрая. Дамы цагляныя будуюць... Калі гэта было, каб у вёсках дамы цагляныя будавалі, ды яшчэ на два паверхі? А цяпер будуюць. А наша вёсачка згіне. Прыедзеш ты яшчэ разы два-тры ў водпуск, а там і не будзе куды.

— Як жа сумна ты жывеш...

— А з кім весяліцца? Два з палавінай кавалеры на ўсю вёску: Сяржант, Іван Сідарка і Валерка... А якія вечарынкі былі некалі ў вёсцы... Сам ты помніш. Хаты бакі выпіралі, калі людзі набіваліся, каб ісці ў польку... А цяпер — спытайся ў мяне, калі была вечарынка ў вёсцы? Летась увосень, калі студэнты бульбу прыязджалі выбіраць. Я ж кажу: чужыя. Прыедуць, работу паробяць, патанцуюць і паедуць. А сваіх песень няма. Спытайся, калі я чула песню ў сваёй вёсцы? Па радзіву. Радзіва нам пяе кожны дзень, сваіх песень не чуем. На вяселлі? Дзе тыя вяселлі? Недзе там...— яна адагнулася ад стала і адкінула руку назад за плечы, паказаўшы ў акно,— на свеце, у людзей. Некуды ўсе выязджаюць, недзе там жэняцца, замуж ідуць, а сюды толькі прыязджаюць пасля ўжо на сваіх машынах пагасціць ці дзяцей сваіх на лета ў вёску на ягады прывязці. Ды на радаўніцу, мода цяпер стала, на могілкі збіраюцца. Сваё яно цягне, але ўдзяржаць ужо не можа... Паплачуць тут, а песні пець туды едуць — некуды... Сазнайся, табе, каб прыйшлося, ці вярнуўся б дамоў, у вёску? Жыць?

— Мне цяжка сказаць. У нас не выбіраюць: горад — вёска...

— А каб прыйшлося?

— Цяжка сказаць...

— Во-во... Яму цяжка сказаць... А мне — лёгка тут?

— Можа, і я ў гэтым вінаваты. Але я гатоў забраць цябе з сабой у любы час. У гарадок. Работу знойдзеш адразу. У нас такі гарадок, што і афіцэрскія жоны не сядзяць без дзела.

— Мяне-то забіраеш. А маці?

— Угавары — і я вас абаіх забяру.

— Мамку? Угаварыць? Не паедзе. На свет? Не-е... Ёсць жа такія людзі: адны гатовы куды хочаш, на чамаданах толькі і сядзяць усё жыццё, а другія... Ім скрапуцца з месца... Толькі на могілкі іх можна са свайго двара вывезці пасля смерці. А наша б маці папрасіла, каб яе на ферме пахавалі ля сваіх цялух...

— Давай удваіх угаворым: і ты, і я...

— Можа, яе і ўгаварваць не трэба: па табе яна душу роніць. А ты добра падумаў? Ну, забярэш ты нас, пераедзем да цябе? А ты — ажэнішся. Не будзеш жа ты вечна халасцяком хадзіць. А нас тады куды? Мяне? Мамку?

— А можа, мы цябе раней выдадзім? Можа, ты першая за афіцэра выскачыш? А там — маці ўнука гадаваць будзе, без работы сядзець не дадзім. Ды і няўжо мы з табой удваіх матку пад старасць не пракормім? Я дык бы вас адразу забраў. І маці б пасля бальніцы аддыхнула без усяго гэтага... Так што — рашайцеся...

Ён падняўся з-за стала — і яму як усё роўна не пайшла яда,— хадзіў і хадзіў па хаце: зойдзе за перагародку, вярнецца, чапляючыся галавой угары за паркалёвую занавеску, вернецца і ходзіць у парозе ля вядра з вадой. Каб курыў, яму б, відаць, было лягчэй, але ён ніколі не курыў. І яна ўжо справілася прыняць са стала скавараду — паставіла на прыпечак і зацягнула яго занавесачкай. Памыла над вялікай міскай чорную кружку, відэльцы, лыжкі, вынесла ў сенцы жбанок з малаком і вядро, змахнула на стале з абруса крошкі і паклала на яго газеты.

— Здарожыўся... А я цябе атакавала і не адпускаю. Галаву дуру... Кладзіся спаць. Пайду пасцялю табе ў другой палавіне, сама на мацерын лягу. Пусты ложак — дык і ў хаце пуста.— Яна пайшла за перагародку, ляпнула дзверцамі ў шафе, загрукала аб падлогу крэсламі, чуваць было — накруціла будзільнік, пасля стала ў праходзе, апёрлася рукамі аб дошкі ў перагародцы і глядзела на яго.

— Ты сказаў: рашайцеся... А я вот падумала і не ведаю: рашуся ці не. А каб і рашылася — не ведаю. Можа б, і я плакала горкімі слязьмі, не ведаю. Гаварыць — гавару, а вот каб так адразу — не ведаю...

— Не адразу. Заўтра будзем ісці ў бальніцу — пагаворым. Хто нас гоніць? Толькі ты мяне заўтра падымі чуць свет...— ён асцярожна, як баючыся, лёг за перагародкай на нікеляваны ложак. Перш на ложку ў гэтым кутку ад двара спаў бацька, пасля і ён сам. Некалі тут стаяў драўляны самаробны ложак, збіты пасля вайны са збольшага агабляваных жоўтых дошак, шурпатых, з дзіркамі ад сучкоў, у якіх сядзелі кучкамі клапы. Яго даўно вынеслі, спалілі, і попел ад яго пайшоў у зямлю...

У хаце зрабілася адразу ціха, як усягды, калі яна заставалася адна; але цяпер у хаце быў Міфодзя, і яна не сцярпела — зноў загаварыла да яго. Села ў першай палавіне пад ходзікамі, глядзела на ложак і гаварыла, не сціхаючы. Калі сціхла, пачула, што ў хаце вісіць мяккая сонная цішыня; спяшылі толькі некуды над галавой ходзікі.

— Не спіш?..— паклікала яна ціха і пачула, як ён захроп на ўсю хату, дзяркатa, як храпла ўсягды маці.

Яна тады перасела на ўслон і паклала галаву на стол, на сашчэпленыя рукі; пачула, як горача зрабілася ў вачах і затрасліся плечы...

Стол знізу пахнуў хлебам і жоўтымі юргінямі — ад рук.

На вуліцы заскрыгаталі тармазы, суха, аж завішчэлі — яна спачатку падумала, што Юрачка ў хлеве. Удоўж плота хлынула белая паласа ад фар і патухла, гарэў толькі за бэзам яркі агонь, як чырвоная квята юргіні.

Яна адагнулася ад стала і паглядзела з-за перагародкі ў акно ад вуліцы. Здагадалася адразу, хто «заскрыгатаў зубамі»; хацела спачатку скочыць за перагародку, але ўзяла сябе ў рукі — сягоння яна схаваецца за Міфодзю, а заўтра? Супакоілася, мацней упёрлася ў стол, каб толькі не задрыжаць, каб толькі ён не згледзеў, што яе калоціць. Пакуль бразгалі вароты і грукалі па двары ля хаты ногі, яна астыла, сцялася ў камячок, як квята нанач ад цемнаты, і пачула, як недзе ўсярэдзіне зноў паявілася маленькая халодная льдзінка.

Рука яго спрытна адчыніла сенцы, схапіла адразу ў цемнаце за клямку, дзверы ў хаце адскочылі, чуць не зляцеўшы з крукоў, і бразнулі аб рог шафарні. Звалілася піла, стукнула аб падлогу. У парозе ля печы затупалі абцасы, цвёрда, як капыты. Засоп ён адзін, але здалося, што сапе прыгнаны з выганчыка табун коней... Яна сядзела ля стала да яго спіной і чула, як ён дыхае — па шыі ў яе ішоў халадок.

— Што? З'явілася?..— ён загаварыў да яе, голас у яго

быў сухі і хрыпаты — наглытаўся за дзень пылу і асця ў машыне,— але яна маўчала і, ён пачаў бегаць па хаце: да перагародкі і назад да парога. Тарканууся пасля ля вядра з вадой — адной рукой узяўся высака за дрот, другой сарваў з крука чорную кружку і піў, сіляючы ваду раз, другі, трэці. Прамачыўшы горла, закрычаў на ўсю хату: — З'явілася? Пахавала? Пясочкам засыпала? Букецік завязла? Раўла на ўсе Плешчаніцы?.. Та-ак?..

Яе спачатку хапіла такая злосць, што хацела ўскочыць з-за стала і піхнуць яго за парог у сенцы, каб і не смярдзеў... А дзверы на кручок... Не высадзіць, а высадзіць — сёння ёсць каму заступіцца... Але яна раптам успомніла зайца... З абвіслымі белымі вушамі і вялікімі жаўтаватымі вачыма, якога ён злавіў, карміў, паіў з бутэлечкі, на якога сам падобны, успомніла, што зайца ў клетцы няма, сігануў пад маяк у туман — і ёй раптам стала весела і неяк свабодна на душы. Усё тое, што было перш паміж ім і ёю, паскакала разам з зайцам на поле ў туман... І цяпер яна вольная... А вольная — дык і смелая, і вясёлая... Ён сляпы і гэтага не бачыць...

Ён яшчэ больш засопся, зафорскаў ля вядра, як заяц ля бутэлечкі, і калі нарэшце, знайшоўшы кручок, павесіў на яго чорную конаўку — зноў загрукаў нагамі да стала. Яна, павярнуўшыся, падняла на яго вочы — мокры ад вады падбародак, скрыўлены рот, вялікія вочы, абвіслыя вушы — і засмяялася:

— Слухай, заяц. Будзеш форскаць на ўсю хату — за вушы і вон з клеткі... Чаго прыехаў? Гавары...

— Яна яшчэ пытаецца — чаго? Ёй смешачкі...— голас у яго ўздрыгнуў, але злосць, вялікая злосць, сцялася ў кулак, а кулак у яго, яна ведала, будзе адпускацца памалу, калі адпусціцца...

— Поначы... Такой парой прыджгаў... На сцяну, во, паглядзі, дзе стрэлкі? Поўнач.

— Калі пачуў, тады і прыджгаў...

— Позна ж табе ўвялі ў вушы. Гэтулькі тэлефонаў у людзей на сталах... Маглі б і раней пазваніць, калі я яшчэ *туды* збіралася... Пераняў бы, не пусціў... Букет бы з рук вырваў ды кватамі па мордзе... Ты ж умееш... Глядзі — і сядзела б, як заяц у клетцы...

— Я заняты... Не так, як некаторыя: з сумачкай у канцылярыю і назад. Хочуць — сваімі ножкамі, хочуць — педалікі пакруцяць. Я дзень-ноч пыл глытаю... І на полі, і на дарозе, і на казэсе... На нас, на ўсіх шафярах, скура гарыць... Дыхнуць няма калі...

— Ну дык ступай адсюль і дыхай свабодна... Што мне тут сапеш у шыю...— яна пачула: не можа больш смяяцца, сарвецца і тады не ведае, што зробіць... Хто яго паслаў сюды? Павіс, як каршун... Чаго ён лезе да яе цяпер у душу?..

— Ты ведаеш, што ты натварыла? І сябе, і мяне, і матку ў гразь укачала... Людзі пальцамі ў мой бок паказваюць... Ну ладна. Ну было што ў цябе да яго, ну было і — усё. Было і разам з ім на той свет пайшло. Пяском засыпалі — і шыта-крыта. Дык жа захацелася гэта ўсім паказаць! Разадзелася, букет узяла, паехала... Перад усімі бац яму на грудзі і раве!.. Слёзы руччом пускае... Ці падумала ты пра сябе і пра мяне? Леспрамгас увесь стогне... Адкрылася... Наце, глядзіце... Скажы, што мне пасля гэтага? Як на цябе глядзець? У нас жа было дагаворана. Забылася?.. Ты і цягнула, пакуль усё разам са сваім хабалём у магілу не зарыла... Вот... Усё, што думаў, тое і сказаў. Дзеля гэтага і ехаў. Не дарую... Ніколі не дарую...— ён цяпер сіпеў і махаў рукамі, закасваючы рукавы па локці. Вочы былі чырвоныя, гарэлі, як вуголле. Тады яна ўстала з-за стала, павярнулася і ступіла да яго.

— Ненавіджу... Думаеш, я яго сягоння пахавала? Я цябе з'ездзіла і пры ўсіх людзях пахавала. Гэта цябе з сённяшняга дня ўжо няма... Пахавала... А ён астаўся. Са мной. Са мной астаўся, чуеш?.. Наўсягды, бо я любіла яго, а цябе не. Хто я табе, што ў поўнач прыскочыў церабіць? Дагаворана было, кажаш? Пахавала ўсё разам з ім... Пахавала... І — вон з хаты...

Ён пачаў бялець, адступаўся памалу да парога, і ў яго дрыжалі губы.

— Кур-рва...— выціснуў ён праз зубы ў самым парозе, лапаючы ў сябе за спінай рукамі па дзвярах — шукаў клямку.— Хто ў цябе начуе за перагародкай? Хто? Чыя шапка на шафе, курва?..

Яна тады сарвала з дроту чорную кружку, зачэрпнула вады і, як усё роўна ў парозе быў агонь і яна тушыла яго, лінула ў парог. Кружка была лёгкая — спопаразку не зачэрпнулася поўная,— сарвалася ў яе з пальцаў і паляцела прама яму ў твар. Ён стукнуўся патыліцай аб нізкую перакладзіну, перагнуўся і разам з дзвярыма загрымеў у сенцах аб шафарню... За ім з хаты ў цёмныя сенцы паляцела вялікая чорная кружка...

Рвануўшы дзверы за ручку, яна бразнула імі аб вушак і зашчапіла на кручок. Падбегла, апёрлася аб перагародку і загаласіла на ўсю хату:

— А ты ж усё чу-уў... А мне трэба было яго на двор вывесці... А калі ж гэта для мяне дзень кончыцца...

Дзень кончыўся для яе, калі ў хаце ад ранішняй зары заселянеліся вокны. Яна заснула на матчыным ложку, не распранаючыся і не выключаючы агню. Адсунула толькі з-пад галавы да перагародкі падушкі і раскруціла з куклы касу. Каса была жоўтая, як юргіні, і ўвесь свет ад агню здаваўся жоўты... Пасля пазелянеў ад акна і патух.

## 8

Круталобыя новыя МАЗы цяжка і нехаця вылазілі з-за старых асін і елак і, ківаючыся з боку на бок па глыбокіх калдобінах — мост кладзецца аж на зямлю, сунучы перад сабой мох, леташняе чорнае лісце, гразь і гліну,— ішлі лясной дарогай насустрач Міфодзю з Ліпнікаў адзін за адным, нагружаныя доўгімі, на ўсю расцяжку прычэпа, асінавымі хлыстамі.

У кабінах, прыадчыніўшы дзверцы, высака, як бацяны ў гнёздах, сядзелі шафёры ў клятчастых рубашках з прылізанымі на лоб мокрымі валасамі, круцілі галовамі па баках; высоўваючыся з кабіны, глядзелі пад заднія колы, якія гналі перад сабой хвалямі белую ад глею ваду, мох і лёгкія высахлыя яловыя шышкі; падціналі руль у адзін і ў другі бок з усёй сілы; чуць не вывальваліся з кабіны, перагнуўшыся, каб увідзець, што ж там пад коламі, і паказваючы на свет божы загарэлыя голыя жываты з-пад расхрыстаных рубашак з закасанымі рукавамі. Сіні дым ад спаленай саляркі падымаўся над бліскучымі новымі кабінамі, слаўся па дарозе, поўз над белымі ад мутнай вады калдобінамі, забіваў пах асіны і не мог забіць. Зрэзаная з пня, ацярэбленая, акораная да глыбокіх ран на целе — тралёвачнікі цягнулі яе па пнях, валежніку, не шкадуючы, да высокай шліхты; пагрузчык, сцяўшы пасярод клюшняй, перакідаў са шліхты цераз сябе, кладучы на прычэп між канькамі — пагрыз, як бабёр, і яна, свежая, не далі ёй і ачарсцвець пад летнім ветрам на дзялянцы, дасыходзіла сокам, як слязьмі, капаючы ім на канькі, на дарогу, на гразь і мох, і пахла на ўвесь лес.

МАЗы стагналі, напінаючыся, фыркалі, што ўсё роўна адплёўваючыся, як ласі, пакаштаваўшы вады; пасля раўлі на ўвесь ранішні свет, падымаючыся дарогай да Крамянца, адкуль праз Белае ці праз Краснаволле пойдуць за Плешчаніцы на ніжні склад.

Аціхалі МАЗы — зноў павісала свежая расяная цішы-

ня; на сіняе ад смугі неба выплыла сонца і стаяла пад цяжкімі жоўтымі тулягамі, якія, здавалася, асталіся звечара, ацяжэлі, не сплылі нікуды за ноч і цяпер будуць вісець там і дзень, і два, і тыдзень, і год — вечна... Жнівеньскай парой, калі даўно пераваліла лета, калі чэрствая жаўцізна вісіць ужо не толькі высака на асінах, а і знаць на зямлі — пайшла па высокай траве, па багуну на імшарах, па маліінніку на пасеках,— лес раніцай робіцца празрысты і свежа пахне перастаялымі малінамі, познімі чарніцамі, першымі затуманенымі дурніцамі, падасінавікамі, сыраежкамі і лісіцамі, ад якіх рыжа аж на дарозе пад нагамі — не ступіць, дзе хочаш...

Ліпнікі пачыналі жаўцець і пахнуць, як восенню...

Ельнік кончыўся неяк адразу, вочы засляпіла сонца, хоць закрывайся рукамі, і аж заняло дух, як займае яго, калі апынешся раптам перад глыбокім бяздоннем...

Перад вачыма была пасека: дзялянка гектараў на дваццаць, на трыццаць, на пяцьдзесят — не акінуць вокам чыстае бязмежжа... Пачынаючыся за ельнікам на лініі, дзялянка, можа, на ўсю вярсту ўшыр займала прастор і роўнай, чыстай шырокай паласой, пакідаючы з двух бакоў цёмна-сінія ў тумане далёкія абрысы лесу, ішла на поўнач, пад Вілію, без канца і краю, як у невядомы свет. Там, дзе яе губляла вока, на самым гарызонце віселі белыя воблакі...

Ён стаяў і чуў, як у яго стукае сэрца...

Бясконцы разлог гарэў увесь ад сонца і расы, заціхшы ў бязветранай ранішняй свежай чысціні. Стаяла ядраная, з асенніім халадком цішыня, якую рэдка дзе пачуеш на зямлі... Але яна была не доўга — заныла далёка ў Красноволлі на ферме даілка; высака ў неба, вылезшы з-за воблакаў, поўз, пакідаючы за сабой расскубленую паласу, самалёт, і вуха лавіла трывожны рэактыўны грукат, як гром. Зазвінела раптам на дзялянцы жалеза, і ў тым месцы, як з-пад зямлі, вырас чырвоненькі, што рак, пагрузчык і пачаў круціць доўгім хобатам. Ля пагрузчыка ў шырокай шліхце бялеліся камлямі асінавыя калоды...

Пасля Міфодзя згледзеў, што пад сінім небам і белымі воблакамі на чыстым прасторы пасярод дзялянкі ляжаць шліхты хлыстоў — цягнуцца адна за адной шырокай шэрай паласой, аж у канец дзялянкі пад воблакі... Халодныя, мёртвыя...

Ён ніколі яшчэ не бачыў, каб чалавек гэтулькі многа выразаў лесу... Блішчэлі пад сонцам бела-жоўтыя, яшчэ свежыя яловыя і асінавыя пні і падымалі галовы аскуб-

леныя ад лісця дробненькія бярозкі. Па іх ступалі нагамі; дратавалі гусеніцамі тралёвачнікі, лупячы маладую хіленькую кару; таптaлі, уціскаючы ў гразь у балота, сваімі пругкімі коламі МАЗы,— а яны адгіналіся цяпер ад зямлі, заляпаныя гразёю, абсыхалі, рудзелі карой і пускалі на свет хіленькае свежае зялёненькае лісце, як рана вясной. Стаптанае жыццё само падымалася з зямлі... І над пакалечаным дробным бярэзнікам, над шэрымі мёртвымі шліхтамі, над ціхім мёртвым прасцягам узвышаліся дубы. Старыя, паспрабуй, ахапі ўдваіх рукамі, высокія, з кронамі, як цёмнымі дажджавымі хмарамі над імі, яны, адзінокія, застылі на дзялянцы — над вечным спакоем... Іх пакінула чалавечая рука і жалезная піла на адзіноту, буру і вецер, на неспакойную старасць і смерць, каб яны давалі новае жыццё на пустым месцы, каб яны атрасалі жалуды, як атрасаюць сосны шышкі на пасеку, сеючы з ветрам насенне.

Калі ён глядзеў на іх, пачынала шчымець душа... Яшчэ нядаўна тут рос лес — дуб, бяроза, клён, ясень, асіна, вольха, елка, на баравых месцах сасна — шумеў ад ветру і днём і ноччу, трашчаў ад марозу; скідаў лісце назіму і вясной зелянеў нанава з году ў год; калыхаў птушыныя гнёзды, хаваў і карміў ласёў, коз, зайцаў, лісіц, ваўкоў і дзікоў; хварэў ляснымі хваробамі, лячыўся сам, лячыў чалавека ягадамі і грыбамі; будаваў людзям вёскі і хаваў іх за сваімі плячамі ад холаду і буры...

І цяпер злёг у шліхты...

Толькі над здратаванай пустой зямлёй высака ў неба пад цяжкія жнівеньскія воблакі падымаліся адзінокія цёмныя дубы... І над імі кроіў неба на дзве палавіны белай вострай паласой рэактыўны самалёт... На вечную цішыню сыпаўся далёкі гул — і прыставалі да зямлі ногі...

Дзялянка асталася збоку — зайшла за лес, і над ёй павіслі белыя цяжкія воблакі. Перасекшы яе, ён выйшаў на старую даваенную пагранзастаўскую дарогу, што вяла на Жоўты Бераг да Віліі, якраз у Бярэзаўцы. Яшчэ нядаўна тут, у самым нізкім месцы на дарозе, ляжаў насланы драўляны масток на двух круглых легарах. Ачосаныя збольшага зверху круглякі былі на скорую руку прыціснуты па баках латамі. Пад масток цёк ручай з аднаго боку дарогі на другі. Пасля дажджоў ён набухаў, вада ішла верхам, латы пагнілі, пашчапаліся — тырчалі толькі на іх месцы ржавыя цвікі; ачосаныя круглякі абселі, нахіліліся набок, рассунуліся, і ўжо не было як праехаць ні машыне, ні калёсам.

Так было нядаўна.

Цяпер у Бярэзаўцы не было ні высокай асакі, ні хвашча з бабком; не было хіленькіх хворых сасонак, ніцага лазняку, кіслай халоднай і бліскучай здалёку, што лёд, цёмнай вады. Замест балота ляжала цяпер шырокае, узаранае плугамі асушанае поле, ідучы за лес і зліваючыся там з жоўтай, не зжатай яшчэ калгаснай Жукаўшчынай... Пасярод чыстага асушанага поля, дзе некалі блішчэў халодным лёдам ручаёк, зямлю праразаў глыбокі чысты і гладкі, як уплясканы рыдлёўкамі, прамы роў. Ён цягнуўся аж да жоўтага калгаснага поля, пераходзіў дарогу і ішоў на другі бок на балота, дзе ўсягды было гіблае месца і куды не ступала гадамі нага чалавека... І там было чыста і непрывычна воку.

На месцы падгнілага драўлянага мастка ляжаў цяпер высокі шэры бетонны мост з белымі пярэчкамі, прыгожы, як параходзік на рацэ. На яго нават боязна было ступаць — заківаецца яшчэ пад нагамі з боку на бок.

Увесь асушаны прасцяг пад сонцам быў белы, як цукар,— ад дробненькага белага пяску. Пясок ляжаў, як ляжыць ён, бывае, ля мора на беразе. Усюды было гола — ні лазы, ні травы... Людзі асушылі зямлю і вывернулі плугамі белы пясок, налучыўшы, відаць, на даўнейшае дно ракі ці, можа, старасвецкага мора... Цяпер трэба было нававазіць на асушанае месца торф, каб згарусціць з гадамі той верхні, на пядзю, чорны пласток, на якім некалі расла асака.

За мастком праз малады балотны сасняк з высокім, у пояс чалавеку, багуном і дурнічнікам была прарыта канава ўдоўж дарогі — наверх, як і на балоце, вывернулі белы пясок. На ім былі знаць вялікія, па лапцю, свежыя воўчыя сляды...

Па воўчых слядах ён і выйшаў на Каралінскую пасеку пад Жоўты Бераг. Пасека, якую Міфодзя помніў — пні, дробны соснік, высокая лясная мятліца, стрэльбішча пад заставай,— знікла з вачэй: на яе месцы рос, падняўшыся, высокі сасняк — яго можна было ўжо секчы на жэрдзе і на латы. Гады ішлі, лес рос, хаваючы з вачэй пасеку; падымаўся ўгару, атрасаючы кожны год на зямлю адмёрлае шыллё і засыпаючы ім дарогу і чалавечыя сляды. І ўставалі ў вачах людзі, якія хадзілі некалі гэтай дарогай: на заставу, на луг, на базар у Даўгынава, у партызанскі лагер, і якіх ужо няма на зямлі... І цяжка было ўявіць сябе без іх — ты ёсць, а іх няма... А колькі іх хадзіла, ездзіла, садзіла і рэзала лес, ваявала і памірала на гэтай зямлі да

цябе і да твайго бацькі... Падымі, пастаў на ногі — пад кожнай сасной вёска... І ў кожнага было сваё жыццё, сваё векаванне на зямлі... Зямля нарадзіла, зямля і забрала. Паспрабуй дазнайся пра іх... Кожнага на зямлі не помняць...

На Жоўтым Беразе стаяла спрадвечная цішыня. Разагрэты на сонцы малады соснік пах смалой і верасам; з-за Віліі з поля несла сухі пах скошанага лугу і зжатага ячменю. І можна было злавіць вокам, як адтуль, з-за ракі, празрыстым небам плыве дробнае белае павучынне — ранні ўздых восені. Чыстае поле за Віліёй — ні людзей, ні скаціны — дражнілася толькі здалёку маленькімі белымі будынкамі ў Жызнаве і на самай шашы пад Даўгынавам доўгай паласкай прысад каля гасцінца. Над прысадамі віселі круглыя цяжкія белыя воблакі, без якіх і гарызонт не гарызонт і неба не неба.

І над усёй гэтай спрадвечнай цішынёй плыў далёкі, як з другіх планет, гул самалётаў; да яго прымешваўся ціхі, ледзь злавіць вухам, рокат трактара на зямлі, і ад усяго — ад воблакаў, далёкіх белых дамоў, ад гулу самалётаў і трактара — займала дух: якая вялікая зямля! І дыхае яна вечнасцю... І ты з ёю — вечны...

Жоўтым Берагам удоўж Віліі ішлі партызанскія акопы — апошнія акопы ў гэтым кутку на зямлі, у якіх паляглі людзі, каб не пусціць агонь і смерць за раку. Акопы абсыпаліся, зараслі мохам, травой, зацярушыліся пластом жоўта-чорных сасновых іголак, але яшчэ добра знаць, што яны глядзяць за раку на далёкае поле — іх яшчэ не зраўняла зямля на векі вечныя.

Пад ногі на дарозе трапіліся чырвоныя паўцагелкі з некалі паленай цэглы, патрэсканыя, схопленыя дробненькім шэрым мохам, і Міфодзя ўспомніў, што тут была пагранзастава да трыццаць дзевятага года.

Ад заставы не было і знаку. Чырвоныя паўцагелкі і вялікае каменне ад падмуркаў параслі мохам і верасам, над верасам пайшоў угару густы зялёны сасняк, зліваючыся з лесам і хаваючы ўсё з воч. Праз заставу цяпер ішла дарога ўніз да Віліі, да маста, і толькі рэдкія конскія падковы выбівалі з зямлі наверх чырвоную паленую цэглу ад даўнейшых грубак, аб якія некалі ў марозную зіму грэлі рукі пагранічнікі. І нейкая невядомая сіла цягнула падняць з зямлі сырую цагліну і прадзірацца паміж густым сасняком, каб пачуць, як пахне сырасцю і цвіллю патрэсканы, аблеплены мохам камень у даўнейшым падмурку, які клалі некалі тут, каб пераступіць дарогу напасці з-за ракі — з чужога боку.

Ён стаяў на высокім беразе, глядзеў, як унізе сярод ніцых лоз блішчыць ад сонца і неба рака, і здавалася, чуў, як яна на вачах зносіць у вечнасць і заставу, і партызанскія акопы, і кожны міг, пражыты ўсім жывым на зямлі.

За мастом, старым, разбайдаваным, з хіленькімі пярэчкамі, была відаць палявая дарога. Ён любіў палявыя дарогі з калдобінамі, круглымі вялікімі валунамі па баках, старымі, шэрымі ад моху, на якія садзіліся ўсягды, змарыўшыся ў небе, каршуны; з намытым у паводкі белым пяском, які перасыпаецца пад нагамі попелам; з сінімі васількамі і белымі раманамі паабапал у жыце... Ідзеш, дарога далёка-далёка ўперадзе падымаецца на горку, і ёй няма канца... І баляць, баляць падбітыя на цвёрдай зямлі ногі...

Палявая дарога вяла ў Жызнаву.

Жызнава была з доўгай прамой вуліцай. Ён спытаўся, і яму паказалі, дзе жыве Міша Хрол — другі з самага прыходу. Вялікі двор, вялікая, з белымі акяніцамі хата, вялікі доўгі хлеў, высокая вярста дроў пад варыўнёй, студня ў канцы двара і рабіна над ёй. Рабіна пачала чырванець, цяжкія гронкі звісалі над жоўтай дашчатай накрыўкай, на якой стаяла вядро, поўнае вады. І летні ранні яшчэ расяны халадок з агуркамі і кропам, і бульбеўнік у гародзе вышэй плота, і стажок сена за хлевам, і белыя куры на двары, і кошык з маладой бульбай ля сеначак — усё гэта вясковае, спрадвечнае азвалася раптам у душы нечым шчымлівым-шчымлівым... Ён не мог ніколі спакойна мінуць ніводнай вёскі, дзе б ні быў.

На двары з-пад ног на рабіну пырхнулі вераб'і; дзверы ў доўгую, на ўсю сцяну, зашклёную сінюю веранду адчыніліся лёгка, адваліўшыся да сцяны, і ён пастукаў у хату. Ніхто не адзыўнуўся і не выйшаў. Ён тады сам адчыніў дзверы ў хату. У нос дыхнула цёплай варанай бульбай, хлебам і падсушаным кмінам; зазвінелі мухі. Першая палавіна хаты, вялікая, чыстая, з жоўтай, добра вымытай падлогай, з белай печчу, з фіранкамі на вокнах, са сталом і суднікам, была пустая. Ён выцер брызентавыя чаравікі ад мокрага наліплага пяску аб паласатую мяккую дарожку, падышоў і пастукаў у другую палавіну. Новыя, фарбаваныя блакітнай фарбай дзверы гулка азваліся на стук, але за дзвярыма маўчалі. Тады ён паклікаў:

— Ёсць хто жывы ці не?

— Пакуль яшчэ жывы...— азваліся за дзвярыма, і ён адразу пазнаў голас: Міша... Хрол... Неяк скоранька — задрыжала рука — рвануў за ручку і павёў вачыма па хаце.

Другая палавіна хаты была яшчэ большая — як стадола. З жоўтай падлогай, з паласаценькімі дарожкамі ад парога да стала і да акон; з круглым сталом, засланым дамашнім абрусом, на стале жоўтая новая радыёла з паднятай крышкай, вялікі круглы сіні будзільнік і жоўты букет юргінь у шкляным слоіку. У кутку за сталом накрыты сурвэткай чорны тэлевізар. Халадок, свежы пах ад нядаўна вымытай падлогі і — нідзе нікога. Цікае будзільнік, шэпча недзе прыкручаны рэпрадуктар...

Ён пашукаў вачыма рэпрадуктар і тут жа, з прыходу ля дзвярэй, увідзеў яго — беленькі, кругленькі на белай сцяне — і пад ім нікеляваны ложак. На ложку, на белай падушцы, згледзеў адразу белую круглую галаву, як рэпрадуктар. Галава была лысая, незагарэлая. Ён тады павёў вачыма па ложку — ля брыжа ў нагах ляжала скомканая дамашняя клятчастая пасцілка і на ёй худыя, ценкія, пакручаныя, як бывае маладая бярозка ў камлі, ногі. Міша Хрол быў у адных трусах, як адумысла: на, глядзі, які я цяпер... Ехаў гэтулькі, ішоў, цяпер глядзі...

Міша Хрол адразу яго пазнаў. Адлажыў ціха, нібы нічога і не здарылася, газету ад сябе на канапу — яна стаяла між вокан, і з ложка да яе лёгка было дастаць,— але рукі ў яго задрыжалі і голас уздрыгнуў:

— А-а-а... Гэты ты-ы...

— Гэта я. Далёка ж ты забраўся з Крамянца... Аж за Вілію...

— Не я. Пасля смерці майго бацькі маці вясной сюды пераехала — дамоў вярнулася. І мяне прывязлі сюды...— дрыжачай рукой ён пацягнуў да сябе з канапы чорныя з «чортавай скуры» штаны, пашытыя, відаць, адумысла з шырокімі калашынамі, каб можна было прасунуць пакарабачаныя ногі, сеў на ложку і пачаў нацягваць іх паволі і спакойна — спяшацца яму не было куды. Схаваўшы ногі і накінуўшы на голыя плечы клятчастую рубашку, ён больш стаў падобны на ранейшага Мішу Хрола. Зашпіліў рубашку на адзін гузік, усунуў ногі ў вялікія, як чуні, тапачкі, ступіў ад ложка і падаў руку: сухія, пакручаныя пальцы, схаваўшы сухое выгнутае цаўё пад рукавом:

— Ну, здароў...— сухія пальцы былі чэпкія і цвёрда ціснулі руку.— Вот і добра, што адразу ўвідзеў мяне ўсяго, які я ёсць. Не будзеш пытацца, а я не буду расказваць...— Ён маўчаў, ціснуў руку і глядзеў з-пад вялікага круглага белага лысага лоба вялікімі сінімі вачыма, сабраўшы ў позірк усё, што перажыў і што цяпер думаў, і ад яго тугі, жалю і агню можна было згарэць. Доўга гля-

дзеў, тады сказаў: — Вот як яна мяне... мая хвароба... Вот так, брат, яна са мной...— і ён першы растапырыў рукі, стукнуўся яму сваімі сухімі грудзьмі ў грудзі, і яны счапіліся ў абдымках, як некалі малыя па дарозе ў школу... Стаялі, ціснулі адзін аднаго і маўчалі. Шаптала радыё, занадта моцна цікаў на стале будзільнік, і ныў над хатай далёка ў небе рэактыўны самалёт. І калі Міша Хрол першы адпусціў Міфодзю і стаў перад ім, быў ужо ціхі, спакойны і глядзеў на яго добрымі спакойнымі вачыма:

— І сам ты не ведаеш, як ты добра зрабіў, што прыйшоў... Толькі давай дагаворымся адразу, што ў мяне ніякага гора. Я не люблю, каб мяне шкадавалі... І мяне ўжо тут ніхто не шкадуе, прывыклі ўсе да мяне. І горш за ўсё, што я сам зноў прывык да таго, што я поўзаю па зямлі... Толькі вот гэты звон... Каб яны хоць не звінелі ў небе, каб замест іх звінелі авадні на дварэ, а не яны... А яны — звіняць, звіняць і грымяць — шыбы ў вокнах рассыпаюцца... А ў мяне тады сэрца заходзіцца горш, як ад перагрузак. Урэшце, і да гэтага можна прывыкці. Ідзі сядзь, брат, да стала. Не, лепш ты сядзь на канапу ля самага падлакотніка, а я ля другога, з краю. Буду глядзець на цябе здалёку... Так я лепш цябе ўбачу...— ён лёгка сеў на канапу, яна пад ім, як пад матыльком, нават не ўгнулася, і раскінуў рукі на спінку — распяў сябе, як на крыжы.— І ты на мяне глядзі, не апускай вачэй... Я тады лепш бачу і чую, калі на мяне глядзяць... Слепці я пачаў пасля таго... ты ж ведаеш... Не сказаў нікому: у мяне ўсё было ў норме. Тады раз на крайняй адметцы я страціў прытомнасць. Прачнуўся, іду па курсу, нічога не змянілася... Адазваўся... Усё абышлося... Правяраццa не пайшоў. Лётаў, пакуль не трапануўся свайму лепшаму другу... Адным словам, дайшло, дактары — за мяне... Можа, і добра, што яны за мяне раней узяліся... Каб ты ведаў, як я ад іх выкручваўся... І не выкруціўся. Шпіталь, адзін, другі, трэці... Свяцілы і ваенныя і не ваенныя... Лякарства і наша і імпартнае... Я табе яшчэ раскажу. Нам пра гэта расказваць нікому нельга, а табе раскажу. Маці скора прыбяжыць, сядзем за стол, як мае быць, і раскажу. А астатняе ты відзіш сам... Палезлі адразу валасы — бярэш жменяй, нібы яны ў цябе дагэтуль былі прыклеены. Сталіківацца зубы, пачакаўшы, я іх выплёўваў па аднаму. А тады яна, мая хвароба, узялася за мае ногі. Сам відзеў... У мяне яна цяпер у другой стадыі. Ніякая бальніца нічога зрабіць не можа. Да маткі адправілі: тварог, малако, паветра чыстае... А я ведаю — паміраць адправілі... Толькі я не даюся... Ні там не

даваўся, ні тут... Кожны дзень, кожную ноч, кожную мінуту я не даюся. Каб даваўся — даўно б мяне не было. А я — не даюся. Хто — каго... Недзе там, у канцы, яна, мая хвароба — мяне, але пакуль я яе! Вот такая яна, мая алімпіяда... Вот такая, брат...

— Якая тут у вас цішыня... І ты цяпер такі ж малады, як тады, калі ў школу разам хадзілі.

— Таму ты са сваіх гаўбіц і грохаеш, каб на зямлі была цішыня... І я дзеля гэтага...

— Такая цішыня... Я ўжо адвык ад такой. Дома ў мяне дык хоць Юрачка ў хлеве рохкае, куры адзываюцца.

— Але ж за акіянам і яшчэ нехта рохкае... Не забывайся...

— Як усё гэта не вяжацца тут, пад гэтым ціхім небам, у нашых маленькіх вёсачках, якіх нават няма на карце.

— Я пра гэта ўсягды думаў там, на адметцы. Калі звінела ў вушах, калі наша зямля была далёкая-далёкая... Я тады думаў пра самы ціхі куточак на ёй... Нідзе няма цішэйшага месца на зямлі, як Жоўты Бераг... Лапоча крыльцамі над вадой сіняя страказа — чуваць за вярсту... І ночы тут ціхія, і рака ціхая, і раса на лузе, і бацяны ў высокай траве, і вецер, і сонца — ціхія, да звону ў вушах. І ў мяне ў вушах там, угары, усягды звінела гэтым ціхім звонам з Жоўтага Берага. Пазнаў я вялікую волю там, у небе, але мяне ўсягды цягнула адтуль на зямлю. Я быў, мусіць, прыроджаны трактарыст, а не лётчык, і пайшоў я з зямлі ў неба, бо пасля дзесяці класаў па той беднасці і ў мяне і ў цябе зад не было чым прыкрыць. Штаны латаныя, дык стаіш увесь перапынак спіной да сцяны, каб не паказаць, што ў цябе задніца голая... На дзевак жа ўжо глядзелі... А ва ўчылішчы і адзявалі і кармілі. І выбраў я лётнае, бо лётчык у вёсцы ўсягды быў бог ведае што...

— Не было б на зямлі вайны — інакшы б і чалавек быў. Не пайшлі б і мы ў ваеннае вучылішча, і цябе і мяне вучылі б нечаму другому...

— А я, брат, не шкадую, што падняўся ў неба. А што скруціла мяне... Дык і з печы мог скочыць і скруціць сабе галаву... На зямлю мы паявіліся для таго, каб выстаяць... А выстаяць — значыць скруціць любому галаву і пусціць далей сваё справядлівае карэнне. Я ўжо не змагу ні тое, ні другое. Будзеш рабіць ты. І такія, як ты... У мяне, во, адно радыё на стале, другое на сцяне. Не можаш падняцца, каб уключыць тое, што на стале, знімі са сцяны, прыстаў да вуха і слухай, як яно шэпча. Газеты ў мяне... Тэлевізар... І газеты, і тэлевізар не з маімі вачыма...

Мне цяпер толькі слухаць. Скажы, брат, што будзе ў Чэхаславакіі?

— А помніш, як мы босыя ў дзесятым класе прыйшлі на кансультацыю па алгебры? Перад экзаменамі... А Вольга Антонаўна нас удваіх да дошкі... Помніш?

— Я ўсё помню. Вот скажы... Так яна ўжо, мая хвароба, са мной расправілася, а памяці не зачапіла. Я ўсё помню. А ты не хочаш выдаць мне тайну...— Міша Хрол адкінуў галаву на спінку канапы і смяяўся. Кадык толькі дробненька качаўся ў яго пад падбародкам, як белая фасоліна.— Але я яе з цябе выцягну. Маці толькі бавіцца. Не хітры. Усё адно я цябе раскалю. Слухай, ты, можа, дэмабілізаваўся, што ў карычневым касцюмчыку?

— Не. Па тэлеграме.

— Маці... Яны ўсе чуць ліпяць, нашы мацеры... Надламаліся ў голадзе і холадзе, вось цяпер і кароціцца іх век на нашых вачах, а мы, іхнія сыны, і памагчы ім нічым не можам. Слухай, дай бог, каб у Чэхаславакіі абышлося без гэтага самага...

— А помніш?..

Бразнулі вароты, і ля хаты задугалі ногі. Міфодзя згледзеў у акно, як па двары ад варот бегла маленькая жанчына з касільном на плячы. Убегшы ў хату, кінула расчыненыя дзверы, пляснула рукамі і загаласіла на ўсю хату:

— А дзеткі ж вы мае...

Міша Хрол яе не чапаў. Яна, паплакаўшы, раптам пачала ўсміхацца праз слёзы бліскучымі сумнымі вачыма: прыйшлі да сына людзі, можа, ад гэтага і сын скарэй стане на ногі — што ж яшчэ думаць мацеры?

— Слёзы побаку, маці... Сама знаеш, што да чаго. У нас госць. І мы яго так не выпусцім. І нясі ўсё сюды, на гэты стол...

Яна хуценька выбегла за дзверы, як і ўбегла. Прынясла на стол белую глыбокую місачку з агуркамі і бутэлькі з белай этыкеткай. Пасля хадзіла і хадзіла з адной палавіны ў другую, бразгаючы талеркамі і відэльцамі і гаворачы, гаворачы, як ручаёк, і да сябе і да іх.

Міша Хрол першы падышоў да стала і сеў.

— Ну, цяпер ты ў мяне расколешся... Раскажаш усё, што робіцца ў Чэхаславакіі і за Чэхаславакіяй... Цяпер я цябе... Падсоўвайся, садзіся. І не гавары, і не прасіся, і не круці галавой... Я знаю, што такое водпуск на трое ці на пяцера сутак з часці па тэлеграме. Хопіць і набыцца і маці, і хвост адкруціць цяляці ці парасяці... Тут ужо каму

ты захочаш...— Міша Хрол зноў засмяяўся.— Не адпушчу. Скідай пінжак, бяры сам крэсла і давай раскалвайся. Пугач з Белага з бальніцы як прыедзе, дык мілы чалавек. Раскажа мне, што на зямлі і што пад зямлёй. Раскалвайся. Не глядзі на мяне такімі вачыма. Бутэльку сам адкрый... Я сваімі рукамі і наліць гасцю не магу...

Міша Хрол сціх, змоўкла маці, не гаварыла ні да іх, ні да сябе, толькі хліпала, і ў хаце на мінуту стала ціха. Было чуваць, як недзе далёка гудзяць самалёты. Міша Хрол, як што ўспомніўшы, сказаў, кіўнуўшы на дзверы:

— Вот, брат. Часта яна так у мяне... у слёзы. Колькі я ні прасіў, каб толькі не на людзях... Каб не на людзях... Ну, брат, не чакай. Налівай і раскалвайся...

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Яшчэ на пагранзаставускай дарозе Міфодзя пачуў, што з Ліпнікаў, з дзялянкі, ідуць леспрамгасаўскія «прычэпы», і пабег. Два гружаныя хлыстамі МАЗы, звярнуўшы з Ліпнікаў, прайшлі ў яго пад самым носам — ківаліся цяпер уперадзе, бліскаючы на сонцы новымі кабінамі: не дагоніш. Убачыўшы трэці МАЗ, ён яшчэ здалёку пачаў махаць рукамі. МАЗ цяжка тарkануўся на дарозе, густа чмыхнуўшы пад сябе тармазамі; адхінуліся акуратненькія сінія дзверцы, і з кабіны высунуўся стары Вярбіцкі, Міфодзя адразу яго пазнаў — такі ж самы, як і быў пасля вайны, калі сядзеў у драўлянай кабіне ў чугрэі з печамі і стаяў зімою ў іх на кватэры.

— Што, і ў лесе пасажыры завяліся? З вудай быў на Віліі? Дык жа нешта ўлову не відаць...

— Падкіньце да Крамянца. Пазнюся...

— Дык жа ў нас тут няма паяздоў, каб пазніцца...— Вярбіцкі яго не пазнаў.

— Ды я тут у вас дзе-небудзь прыткнуся. Недалёка. Дайшоў бы — ды пазнюся...

— Падымайся ў кабіну. Прыткнуцца няма дзе. З цябе сто грам і пончык.

Міфодзя як цяпер толькі згледзеў, што ў МАЗаў няма той вялікай і шырокай нізкай падножкі, як у ЗІСоў, на якой можна было ехаць, стаўшы і ўзяўшыся рукамі праз апушчанае шкло за дзверцы. На падножку, бывала, станавілася па два грузчыкі з аднаго боку кабіны і з другога.

— Скачы ў кабіну.— Вярбіцкі падаў руку і, калі Міфодзя сеў, сам бразнуў за ім дзверцамі.— І я, брат, пазнюся. У нас учора прастой быў. Наганяем. Учора Фірагу хавалі. Такі хлопец быў: наш у доску і штаны ў палоску... А вот няма. Як у іх заняўся агнём бак з саляркай...

Гэту ж заразу паліш-паліш на агні іншы раз, каб загарэлася, каб рукі, бывае, пагрэць, а тут пыхнула, як бензін... Можа, спірт з сабой вёз? Наш брат, ведаеш, на чым гарыць? — Вярбіцкі пстрыкнуў сабе пальцам па шыі.— Гісторыя доўгая, але я табе яе коратка раскажу, пакуль выберамся з гэтых калдобін на роўную дарогу, мацъ іх барабан... Ад'елі калдобы мне пячонкі яшчэ да вайны. Увесь свет, здаецца, у калдобах...

МАЗ ныў, як напятая струна, на адной скорасці, ківаючыся з боку на бок, і стары Вярбіцкі, гоцаючы на сядзенні за рулём, пачаў расказваць усё па парадку. Міфодзя пачуў, як яму робіцца холадна ў гарачай, прапахлай гарам і гумай кабіне... Успомніў, што пра гэта чуў у аўтобусе, калі ехаў з Плешчаніц, чуў і дома ноччу, праз сон, не ведаючы толькі добра, што да чаго...

«Вось яно што, сястра-а...»

Гісторыі Вярбіцкаму хапіла б надоўга, але выехалі з лесу да фермы і пачалі спускацца з гары ў вуліцу. Нахілілася раптам кабіна, Вярбіцкі скінуў газ, учапіўся адной рукой за руль, адчыніў дзверцы, высунуўся і глядзеў пад прычэп на колы, мацюкаючыся на чым свет стаіць... Так і дасунуўся з горкі да яго, Міфодзевых, варот:

— Стоп. Наш запраўчны пункт. Ваду ўсягды бралі са студні ў Алімпіяды — і пілі, і залівалі ў радыятары. І да вайны яшчэ, калі я сеў за руль, і пасля вайны, калі ў мяне чугрэй быў, і цяпер... Міравая вада, брат. Халодная ўсягды, аж у мазгі коле, п'еш, як пяршак. І Фірага тут усягды запраўляўся. Аж не верыцца...

Міфодзя не глядзеў на Вярбіцкага ўсю дарогу і цяпер сядзеў, апусціўшы вочы. Пасля піхнуў дзверцы і саскочыў на зямлю.

— Ну, я прыехаў. Сто грам і пончык — у другі раз.— На Вярбіцкага ён не глядзеў.

— Пастой, пастой... Пачакай. Дык гэта ты? Улімін сын? Дык што ж ты адразу не сказаў... Я не пазнаў. Я ж цябе помніў во такім...— Вярбіцкі падняў руку над каленам.— Вырас, брат, вырас. Яшчэ каб ты быў у ваеннай форме, можа б, я і здагадаўся. А так... Сто грам і пончык у другі раз... Толькі ў другі раз... Ладна, запраўлюся ля маста з ракі. Там наш запасны пункт...— Вярбіцкі бразнуў з усёй сілы дзверцамі і крануў свой перагружаны, цяжкі МАЗ з месца.

Вароты на двор былі расчынены насцеж; на траве ля гародчыка таптаўся чарнявы невысокі нецярплівы чалавек у ваеннай форме — фуражка з чырвоным аколышкам.

Лейтэнант. За ім ля самай студні стаяў чорны матацыкл з каляскай.

— Вы Подоляк? — пайшоў адразу яму насустрач нецярплівы чарнявы лейтэнант.

— Так точно...

— Старший лейтенант Подоляк Никодим Николаевич?

— Так точно, товарищ лейтенант...

— Получите предписание...— лейтенант падаў яму карталюшку жоўтай паперы.— Отзывают в часть. Срочно. Телеграммой через наш военкомат. Жду битых два часа. На сборы ни минуты... Вы радио слушали?..

Адразу ў вачах стаў белы ложак у Белым у бальніцы і маці на ім — глядзіць на яго сінімі вачыма... І валасы ў яе ля вушэй белыя, як снег... Ні мацеры, ні Тані, ні Мішу Хролу ён ужо не зможа нічым памагчы...

Чамаданчык у яго вырваў з рук яшчэ ў хаце чарнявы нецярплівы лейтэнант і, вынесшы, кінуў у каляску, у ногі. Міфодзя вярнуўся яшчэ раз з двара і акінуў вачыма хату — вочы засланіў матчын ложак з дзвюма падушкамі і ходзікі на сцяне. Ходзікі стаялі. Яму зрабілася нудна-нудна, як першы раз, калі ён ад'язджаў з дому... Здалося, што сталі не ходзікі, а нешта спынілася ў яго ўсярэдзіне.

На двары застракатаў матацыкл...

Надта цяжка зачыняць хату перад дарогай — здаецца ўсягды, што апошні раз...

За матацыклам на грэблі падняўся руды пыл ад торфу — не глянуць, і Міфодзя ўбачыў апошні раз хату аж ад самых могілак.

Чарнявы нецярплівы лейтэнант з ваенкамата і слухаць не хацеў, каб заехаць у Краснаволле ў канцылярыю, і яго трэба было доўга прасіць.

Міфодзя бег да канцылярыі, як на пажар. Джанік, згледзеўшы ў акно двух ваенных на матацыкле, выйшаў на ганак. Тані ў канцылярыі не было — паехала з Дзярызямлёй у Ячнае. Прасіла пачакаць — Дзярызямля падкіне іх тады, абаіх, у Белае ў бальніцу на «казле».

— Перадайце Тані ўсё, што відзелі... Мяне адзываюць у часць. Я пазнюся...— Міфодзя ўзяў пад казырок і паціснуў Джаніку руку. Джанік глядзеў на яго нейкімі трывожнымі вачыма.

Калі яны выскачылі з палявой дарогі на шашу, Міфодзю яшчэ раз удалося ўпрасіць чарнявага нецярплівага лейтэнанта спыніць матацыкл.

— Не советую появляться в больнице. Лишние волнения...

Міфодзя паглядзеў у той бок, дзе пад жоўтымі воблакамі былі відаць цёмныя ліпы ў Белым ля бальніцы, і сам не рашыўся заехаць.

«Для маці гэта будзе лішняе...»

Тузануўся і пабег насустрач шэры брук. Цёмныя ліпы над бальніцай адразу схаваліся з воч. У тым месцы павіслі над зямлёй цяжкія жоўтыя воблакі.

## 9

Радасць ніколі не ходзіць адна. Каб жа яна хадзіла адна, без бяды — чалавек хоць на міг бы ды пасядзеў ціхі і спакойны.

Раніцай Алімпіяду разбудзіў верталёт: праляцеў нізка над вёскай — быў відаць у акно. Раніцай яна і пачула, што каля яе нешта робіцца. Здаецца, усе як усе. Устаюць, накідваюць на плечы халацікі, прычэсваюцца, бяруць у рукі ручнікі, як і ўсягды раніцай, а — не тыя: глядзяць на яе, як курыца з-пад крыла. Праскурнічʼя, паставіўшы ёй тэрмометр пад паху, хуценька ўзялася папраўляць у дзве рукі ручнік у яе ў галовах на брыжы, нібыта ён зараз упадзе і разабʼецца, як шкляны, аб падлогу. І — ні слова. І ўсе яны не гаварылі нічога, ні ў палаце, ні ў калідоры, ні да яе і ні між сабой. Адна Выліна цыўкнула, як курчо: «А мяне, цёця Уліма, Колас, можа, сёння выпіша...» — і адразу зарвала ёй — падавілася, як сарока кавалачкам сала, глынуўшы яго разам з ніткай на шуметніку. І хадзілі яны ўсе — і Праскурнічʼя, і Выліна, і Чайка — на пальчыках і з подбегам. І цені ад іх клаліся на жоўтую ад ранішняга сонца сцяну нейкія ціхія і адразу знікалі — як згаралі ў жоўтым агні. І Марфа сядзела на сваім ложку, як сава, ціхая, мудрая, глядзела на палату і нічога не відзела — ні людзей, ні сонца. Хоць бы яна не маўчала.

За прыадчыненым акном у гародзе шалелі верабʼі: цыўкалі, барабанілі дзюбамі па шкле,— ад сонца былі чырвоныя, як гілі зімой. Недзе на двары звінелі вёдры, стукаў тапор, і адтуль далятаілі, як збавенне, далёкія людскія галасы. Заныла ўсярэдзіне: толькі ж учора ўсе радаваліся з ёй. Бег, бег конь і стаў. Дзе? Што? Сэрца ўжо сціснулася — чакае...

У калідоры пачалі хадзіць мужчыны, грукалі нагамі, кашлялі. З дзвярэй несла едкім дымам ад папярос. Прыйшла Праскурнічʼя. Стала ля ложка, выпрастала руку, склала два пальчыкі дзюбкай і, як качка ў рацэ з-пад карча бліскучую мокрую рыбку, выцягнула з-пад пахі ў яе

градуснік. Зірнула на яго здалёку і адразу схавала ў жмені — качка глынула рыбку. І — ні слова. Ні ачарніла, ні абяліла. Выйшла, махнуўшы белым крыллем ад халата, абцёрлася аб дзверы, і ў цішыні доўга было чуваць, як шапацеў у калідоры яе халат. Зноў ні баб, ні мужчын за сцяной, нават жалезная дужка перастала бразгаць на двары аб вядро. Пырхнулі з падаконніка вераб'і, так нечага і не падзяліўшы; заплюшчыла вочы, седзячы на ложку, Марфа, і зноў недзе зверху, як усё роўна са столі сухі пясок, зацярушылася нудная цішыня.

Не выцерпіш... І загаварыць няма да каго... Аж цягне ўстаць і пайсці...

— Марфа...— кліча яна і чуе, што голас глухі і трывожны, аж дрыжыць. І сама яна пачынае дрыжаць.

Марфа адплюшчыла і заплюшчыла вочы, нават не ўздрыгнула — сава днём не бачыла і не чула.

Яна тады памалу ўстала і села на ложку, спусціўшы босыя ногі на падлогу. Закалола іголкамі ў ступні, і папаўзлі высака мурашкі — аж на калені. Павяла галава. Зблажыла...

У калідоры бразнула вядро, і ў дзвярах паявілася Сцяпанаўна. Ішла ў белым халаце з вядром і чырвонай швабрай у руках; расчырванелася, відаць, пахмялілася з самай раніцы, была вясёлая, і адна яна не хавала вачэй. Адышлася ад парога, апусціла на падлогу вядро з вадой і анучай, адставіла ад сябе чырвоную швабру, апёрлася на яе рукой, як салдат на вінтоўку, утаропілася сваімі нейкімі белымі вачыма ў Алімпіяду, як прыліпла ўся, тады загаварыла сіпата і хрыпла, як вядро скрабла вехцем:

— Што, сястрыца? Не спіцца і не ляжыцца? — Памаўчала, выткнула чырвоную швабру наперад.— Яно, тваю макаўку, сястрыца, не будзе ні спацца, ні ляжацца... Курву выгадаваўшы...

«Курву? — падумала Алімпіяда і пачула, што яе ўсю аблівае варам.— Значыць, Таня...— У вачах адразу чыркнула чырвона-сіняя спружынка, маленькая, на два-тры вострыя зубкі, пастаяла, распаўзлася і згасла. Пацямнела, зрабілася шэрай Сцяпанаўна: вочы пасля спружынкі слеплі, не хацелі бачыць.— Курву? — яна хуценька перабірала-перабірала ў думках чорнае і белае і нічога не магла зладзіць сваёй балючай галавой...— Што там з Таняй? Учора не прыйшла і не званіла...» — яна сама ўпілася вачыма ў Сцяпанаўну, нагнулася і пачала ўставаць на ногі.

Сцяпанаўна дастала з вядра анучу, адціснула; перавярнула швабру ўгару пярэчкай і закруціла каля яе мок-

рую анучу, як каму хустку ля галавы і ля шыі. Махнула анучай па падлозе ў сябе пад нагамі, тады толькі стала і ўтаропілася на яе, Алімпіяду:

— Што, паднялася ісці, сястрыца? А што ты зробіш? Заголіш спадніцу ды па с...цы адлупіш, яе макаўку, курву?..— пасля яна адразу сціхла, як удавілася.— Ты што, як з печы звалілася? Не знаеш?

Алімпіяда пакруціла галавой.

— Берагуць, значыць, цябе, сястрыца... Не гавораць... Сэрца тваё, сястрыца, берагуць. А я табе скажу: а ты не беражы сэрца. Як гэта так? Сама гары, а сэрца беражы? А хай яно гарыць разам з табой, калі яно тваё. Для чаго тады яго берагчы? На чорны дзень? Пасля тваёй смерці каб білася? Не-е... Хай яно гарыць разам з табой, сястрыца, лягчэй табе будзе, па сабе ведаю. Для каго берагчы? Для дзяцей? Дык яны, во што... І гэта ж трэба — берагуць цябе, ніхто ні слова не сказаў. Сцяпанаўна напілася, з ног звалілася, дык ніхто ўжо і праўды не скажа. Няма каму. Усе баяцца праўду гаварыць, толькі Сцяпанаўна. Учора яшчэ вечарам, сястрыца, усе ведалі. Для чаго ў бальніцы апарат стаіць? Баба — бабе, і Чайка і варона ўчора ўжо ведалі. І белае і шэрае. Толькі я не магла стаць на ногі, каб прыйсці ды праўду табе сказаць. Не дзяржалі яны мяне. А калі я сап'юся і ногі выцягну, хто тады будзе прыходзіць вам праўду гаварыць? А цябе бераглі... Не сказалі... Ляглі спаць спакойна. Спалі. І ты спала спакойна. Выспалася... А цяпер я табе і скажу... Не пашкадую... А то — берагуць. І сама сябе беражэш. А ты не беражы... А ты ўсё прапускай праз сэрца, як я... Хай і яно гарыць... Я скажу... Я не пашкадую. Бо ў цябе іх двое... А ў мяне быў адзін толькі Колечка...

— Ды хрысціся сы, Сцяпанаўна... Што там? — Алімпіяда сцірала, сцірала рукой з вачэй павучынне і ніяк не магла сцерці. Бог, відаць, мілаваў, не вялікая бяда, калі чалавек так доўга гаворыць. Вялікую бяду гавораць адразу, адным словам: смерць...

— Што? Многа гавару? А ты ўсё прапускай праз сэрца. Не дзяржы яго ў жменьцы... А то ўсе тут на яго табе хукаюць: уколы, шмаколы, кардзіграмы... Мне іх ніхто не робіць...

— Ды злітуйся ты, баба...

— Злітуйся? Хай твая к...ва над табой злітуецца... Мала ты яе хрысціла па голай задніцы... Гэты ж твой, другі зяць, струкаваты, што з леспрамгаса... Не ведаю, да каго з іх у цябе сэрца ляжала, да першага зяця ці да другога,

усе думалі, што да першага, вяселле ўжо, думалі, зробіш...— Сцяпанаўна гаварыла і вадзіла шырокай мокрай анучай па падлозе, як змывала адразу і брудныя сляды ад сваіх ног, і ўсё тое гадкае, што зрывалася ў яе з языка.— Дык другі твой зяць, сястрыца, згарэў у машыне. А падпаліў яго твой першы зяць... Ну, другі твой зяць з леспрамгаса не адразу згарэў, памучыўся яшчэ на гэтым свеце і пазаўчора памёр у Плешчаніцах у бальніцы, а ўчора хавалі. Абгарэлы ўвесь, забінтаваны, ніхто яго не пазнаваў. Хавалі ўсім прамгасам, з аркестрам... Людзей было з усіх Плешчаніц... І што робіць твая? За такі свет на пахарон пабегла, як сучка... Букет з сабой прывалакла. З ахапак... Закапалі яго, твайго зяця, грэшнага, як і паложана... А яна пры ўсіх людзях бах на магілу са сваім букетам і пясок пад сябе рукамі грабе... Ну, свет не без добрых людзей, паднялі яе, слёзкі выцерлі, пад пашкі ўзялі... Тут усе і ўвідзелі...

— Што ўвідзелі?

— Я скажу і што ўвідзелі. Не бойся, што яны ўсе,— Сцяпанаўна махнула рукой на дзверы,— пасталі ў калідоры, галовы павыцягвалі і слухаюць. Яны ўсё знаюць. Што ўвідзелі, пытаешся? Жывоцік увідзелі... Што ж яшчэ бывае ад любві гарачай, сястрыца... Жыво-оцік... Страсае жоўты пясок з жывоціка, страсае... І ўсе ўвідзелі...

— Няпраўда! Хрысціся, Сцяпанаўна...

— Во, сястрыца... І ты праз сэрца прапускаць стала. А такое не абыдзеш, такое праз сэрца прапусціш...

— Няпраўда! Ды ты што?

— Як жа няпраўда? Калі ж яна букет вязла з ахапак. Для чаго? Каб жывоцік прыкрыць. У аўтобусе ўсе ўжо відзелі, калі яна з букетам ехала. А ты яе не асуджай... Сабака на магіле рые лапамі зямлю, калі памрэ гаспадар; конь капытамі б'е, каб адкапаць. А тут жа чалавек... І сама я хацела, каб мяне зарылі ў зямлю разам з Колечкам і Пілiпам. Мала што я назвала яе к...вай... У мяне такі язык. Мне ўсё можна. А ты яе, сястрыца, не асуджай, яе макаўку... І замуж цяпер выходзяць не так, як мы выходзілі, і дзяцей робяць не так, як мы рабілі, іх макаўку, сястрыца. Ты яе не асуджай... Бандзіты яны, гэтыя зяці... П'юць, паляць адзін другога. Хлапца яшчэ Вольчынага звязлі і запалілі. Так што другога твайго зяця няма, а першага пракуратура цягае. А дачку ты не асуджай. Цяперашні свет сваім розумам жыве, яго макаўку. Яшчэ ўчора вечарам сюды звоніць... Можа, табе пахваліцца хацела... Ну я ёй і дала джогеру...

«Лепш бы ўжо адно слова пачуць: смерць,— падумала Алімпіяда.— Добра, што дома сын. Пазвала на адну бяду — прыехаў на другую...»

Захацелася ўстаць і пайсці з палаты, з бальніцы, ад Сцяпанаўны, ад усіх, хто стаяў натапырыўшы вушы, слухаў і глядзеў, што ж яна будзе рабіць. Як усягды бядой, каб не паказваць яе людзям...

«Добра, што дома сын...»

Яна ўстала, ззыбнулася на нагах, растапырыла рукі, каб схапіцца за брыж, калі будзе падаць; пачула, што брыж не спатрэбіцца, што пад нагамі цвёрдая падлога, і — пайшла. Змагла, на хаду накінула на сябе халат. Халат здаўся цяжкі, як мех узваліла на плечы, але сама яна была ўся нейкая лёгкая і пайшла, лёгка і спрытна, у пароог па цвёрдай падлозе, як вясной па ўбітай пасля даджджу сцежачцы ля дарогі ў траве... Адхінула толькі ад сябе да сцяны Сцяпанаўну... Ішла дамоў... Падумала адразу: дойдзе. Будзе ступаць і ступаць босымі нагамі па пяску, па пыльным падарожніку; у вёсцы будзе дзяржацца за платы, а там, на полі,— вецер, свежа, ёсць чым дыхаць на ўсе грудзі... Дойдзе... Прывыкла... Падняцца толькі на гару да маяка будзе цяжка... А там — з горкі. А там ужо і хата відаць здалёку за грэбляй... Цяжка толькі будзе сыйсці з ганка ў бальніцы — высокі. А дамоў — дойдзе. Аж у Мінск хадзіла з дому пехатой пасля вайны, калі трэба было...

Дайшла ў самы парог, пачула ўжо, як праз расчыненыя ў сенцах дзверы пахне свежай пасля начы травой. Убачыла пасля ў калідоры адразу ўсіх, і баб, і мужчын: стаялі, прыліпшы, як мухі, да сцен, і сыпанулі на яе цяпер, як мухі:

— Вы што, цёця Уліма? Вам жа хадзіць нільзя... Ужасць... Не пускайце яе. Што вы стаіцё? Сцяпанаўна, Праскурніч'ю сюды...

— Ці чэрці, суседка. Я ўжо думаў, хе-хе... А ты чэшаш, як семнастоўка...

— Кладзі ў бот... Давай у нашу палату... У нас весялей. У нас «лучок» у Жучка за тумбачкай...

— Пад пахі бярыце яе, мужчыны... Не скальце зубы, ужасць... Харбін...

— Харбін як возьме, дык і не выпусціць... Хі-і-і...

— Возьме ён табе, яго макаўку... За свой капшук дзяржыцца ў дзве рукі. Каб чуць правей бык падчапіў — з коранем бы...

— Мужчыны... Ужасць... Бяры яе, Чайка, пад паху...

Яе схапілі пад пахі Чайка з Вылінай; яна падумала, што пад пахі не трэба было браць: цвёрда стаіць на нагах, што яе дзержыць тая невядомая нутраная сіла, якая дзяржала яе, калі яна хавала Мікалая, калі раджала пасля пахарону Таню, калі ўсё было сабрана ў адно кароценькае слова — жыць! Жыць самой для дваіх дзяцей — таго, хто астаецца адзін пасля яе на зямлі, калі што, і таго, хто яшчэ не нарадзіўся на свет. Гэту сілу яна пазнала і цяпер — для дзяцей! — гэта сіла не дасць зваліцца з ног. Аднекуль, як усё роўна не з дзвярэй, а прабіўшы сцяну, выскачыла Праскурніч'я, адапхнула Чайку і сама ўчапілася за руку. За Праскурніч'яй праціснуўся Колас у белым-белым халаце, прычэсаны, спакойны. Усе сціхлі. Колас стаў і доўга глядзеў на яе — пераводзіў вачыма з галавы да ног. Пасля загадаў не дзяржаць пад пахі.

— Лягчэй так, калі не дзержаць? — спытаўся.

— Лягчэй. А так падцялі, дыхнуць не даюць.

— Угу. Ну, а куды сабралася, Падаляк, калі не сакрэт?

— На Маскву. Якія ж сакрэты ад дактароў...

— Угу. Сваімі нагамі?

— Сваімі...

— Угу. Добра. Значыць, я правільна лячу.— Ён усё пераводзіў яе вачыма, як нечаму не верыў.— А калі без конікаў?

— Дамоў сабралася.

— Угу. Дамоў...

Колас сціх, і яна маўчала — чакала. І ўсе чакалі.

— Пушчу і дамоў. Толькі не цяпер. І не сваімі нагамі — усю музыку папсуём. Можна і дамоў, чаму ж няможна. Зробім перарыўчык. Заўтра якраз канчаецца курс. Перарвём. Пабудзеце дома тыдзень-другі, адпачніцё. А тады праверымся. Паўторым курсік, калі што. А цяпер ляжаць. Пакуль кардыяграму не зраблю — ні санціметр нагой. А за сённяшняе — Праскурніч'я адкажа...

— А калі кардыяграму, доктар?

— Заўтра. Сёння апарат сапсаваны. Заўтра.

— Мне цяпер, доктар, не да хваробы...

— І да вас дакацілася. Не згубілася ў пыле на дарозе. Я ж забараніў... Усім забараніў языкі часаць... Толькі Сцяпанаўне нашай рот не завяжаш... Чаго яшчэ табе не хапае, Сцяпанаўна? Спірт зноў брала? Брала. На кухні закусвала? Закусвала. І не абы-чым. Добра жывецца, Сцяпанаўна. Козы ў золаце... Застаецца толькі языком махаць,

як гэтай анучай... Слухай, Сцяпанаўна. Сваімі законамі жывеш. Дастукаешся, пойдзеш зноў на ферму...

Сцяпанаўна не дала яму дагаварыць. Як стаяла ззаду за ўсімі ў палаце з чырвонай швабрай у руках, так і закрычала адтуль, у парог, падняўшы швабру над галавой аж да столі:

— Што ты мяне фермай страшыш?.. Я за сваю прaклятую жызню і на ферме г..на патаптала балючымі нагамі... А спірт мне на вочы не ўскідай... Я бяру, таму што ты сам бярэш і з аптэкаршай пасля бардак спраўляеш...

— Сцяпанаўна!

— Што ты мне ўсё рот затыкаеш? А ты мне, братка, рот не затыкай... І яе не дзяржы тут...— паказала яна швабрай на Алімпіяду.— Не дзяржы, калі яна не хоча тут быць. Запёр... Не пускае... А яна хоча ўсё праз сэрца прапусціць... А ты не даеш. Пусці яе...

— Цябе пускаю з сённяшняга дня на ўсе чатыры стараны...

— І пайду...

— Толькі ў цень спачатку... У траву пад ліпу. Праспіся.

Сцяпанаўна праціснулася ля сцяны ў калідор, прыціскаючы да грудзей чырвоную швабру; у калідоры падчапіла пад паху Харбіна і сажні два цягнула за сабой у парог да дзвярэй, пакуль той нейкім цудам не выкруціўся ад яе — сагнуўся ў парозе адразу ў крук і схапіўся ў абедзве рукі за пахвіну.

— Ці чэрці... Хе-хе...— смяяўся ён праз зубы, хаваючы боль.

— Разысціся... Усім разысціся па палатах... І да абходу ўсе «лучкі» з-за тумбачак і з-пад матрасаў наверх... Каб я сам не лазіў. Весела жывіцё... Жука сёння ж на выпіску... А вам, Алімпіяда, ляжаць. Ляжаць і яшчэ раз ляжаць...

Да ложка яе давяла Праскурніч'я — пад паху.

Яна ступіла з ганка на пясок — белую ў цемнаце латочыну між травы — і пайшла, чуючы, як пад нагамі ядрана скрыпіць жвірок, што снег зімой у маразы. Была ўжо ноч са сваім халаднаватым цяплом, з туманам за вёскай. Расхрысталася ўгары між хмар цёмна-сіняе неба, і добра была відаць Вялікая Мядзведзіца, якая заняла ўвесь паўночны край, ядраная, бліскучая, як зімовая,— паказвала сваёй доўгай лапай на Крамянец — на дом. Над туманам за ра-

кой азначыўся месяц — выгнуўся, як агонь ад лучыны пад ветрам. Пахла вільготнай ад расы травой і кропам аднекуль блізка з гарода; з-за ракі з поля нязжатым нераспелым ячменем. Недзе над Вялікай Мядзведзіцай ныў начны самалёт, ніяк не могучы аціхнуць, і ў тым баку над шашой жахалася неба — па шашы хадзілі машыны. Хаваўся за хмару і зноў паказваўся бокам чырванаваты выгнуты месяц, і побач з ім успыхвалі маланкі.

Яна перайшла белую ад пяску латочыну і апёрлася рукамі аб частакол. Усюды было ціха. Бальніца ўжо спала. Бальніца сёння вечарам доўга не магла супакоіцца: хадзілі мужчыны, курылі, грукалі нагамі, бразгалі шклянкамі і дзвярыма — няскора з-за сцяны пачуўся храп. У сваёй палаце паснулі ўсе адразу — было расчынена акно, і вячэрні летні халадок гнуў галовы да падушак. Засаплі скора ўсе насамі, і заныў над галавой камар. Цяжка было прайсці калідорам ля амбулаторыі — агонь выключылі, а зачапіцца ёсць за што. Дзверы ў амбулаторыю былі адчынены насцеж, і — была не была — Алімпіяда смела пайшла да выхаду: людзі на двор ходзяць дзень-ноч. У амбулаторыі не было ні Пугача, ні Праскурніч'і; на канапцы ля акна ляжала Сцяпанаўна — цьмянае святло праз шыбы падала ёй на галаву, і былі відаць яе белыя рассыпаныя валасы. Сцяпанаўна распласталася да дня: бяры і нясі яе самую на двор пад плот — не пачуе.

Апёршыся на частакол, Алімпіяда глядзела з гары ад бальніцы ўніз на вясковую шэрую вуліцу і думала, што за ноч дойдзе. Свежа, ні пылу, ні духаты. За дарогай пад Вялікай Мядзведзіцай ля самай зямлі малінавае неба. І вечар быў сёння ціхі і малінавы. Яна ляжала ў ложку і бачыла ў акно, як заходзіць сонца. Дома такой парой, на заходзе, гоняць з Кур'янаўскіх Садоў на ферму скаціну. Каровы на асушаным балоце падымаюць руды пыл. Праз яго свеціць сонца, і ён здаецца залаты. Усё балота залатое, і каровы ў пыле залатыя, і жыта за дарогай пад Садамі ў золаце... І ціха... Адзываюцца толькі клёкатам бацяны ў гняздзе ля фермы.

Яна падышла да варот. Чула, ідучы, як чапляецца за ногі абвіслы мокры халодны канаторжнік і як яны дрыжаць у каленях. Апёрлася лакцямі зверху на вароты, цяжкія, збітыя з новых дошак і зашчэпленыя на кручок. Ці адшчэпіць, ці адчыне іх, апушчаныя на самую зямлю... Ззаду за плячыма паявіўся халадок...

Нічога — і адчыне, і пойдзе. Ніякая яна не хворая. І ўсе ў бальніцы ніякія не хворыя — і бабы і мужчыны.

Падумаць, за грудзьмі сціснула, апаўзла на зямлю ля варот... Скарэй ужо яе на машыну, скарэй кардыяграму, кaлоць, пароць... І раней было. І не так яшчэ — у вайну і адразу пасля вайны. Не было бальніцы — не было і хворых. Не было куды класціся — ніхто і не клаўся. Усе былі здаровыя... Ніхто не відзеў, каб хворыя дзе на зямлі пад плотам валяліся... Ніхто...

Ніякая яна не хворая. Паляжала, адышла за гэтыя дні. Адчыніць бы толькі вароты і каб ніхто не пачуў...

Таня не прыйшла. Не паявілася ні ўчора, ні сягоння. Чым заняліся дзеці? Таня магла не прыйсці, каб на вочы людзям не паказацца. А сын? Дома нешта нейкае. І захад у тым баку, дзе дом, быў малінавы, гарэў, як у агні. І неба жахаецца, і месяц сёння гнецца ў крук, і зоркі дрыжаць. Тэлефон увесь дзень маўчаў — сапсаваўся. Усе зноў у рот вады набралі, ні слова, толькі: ляжы, ляжы... Нават Сцяпанаўну ў палату не пусцілі — Праскурнічʼя сама хадзіла з чырвонай швабрай і мокрай анучай.

На шашы за Белым мігцяць агні, і чуваць, як там дробненька бразгае жалеза, што дома кручок у варотах.

«Дома нешта ёсць. А так бы прыйшлі дзеці...»

Яна адшчапіла кручок і, узяўшыся за яго ў дзве рукі, адцягнула па цвёрдай убітай зямлі цяжкія вароты — як вочы працёрла ад слепаты. Белая ад пяску дарога пабегла ціхенька ўніз да вуліцы, здалося — на край зямлі.

«Сама сабе я ўжо не патрэбна. Можа, яшчэ дзецям...— падумала яна.— Дзеля іх трэба стаяць на нагах, пакуль ногі пад табой. Пакуль зямлю бачыш — трэба ісці па ёй. Ці ўперадзе дзяцей, ці ззаду, калі не можаш уперадзе. Уперадзе — павядзеш. Ззаду — убачыш, як яны ідуць і куды — павернеш. Злегчы ўсягды паспеецца...»

Ля частакола за варотамі сцебануў калючым холадам высака па нагах палын — аж страсанула. Палын быў белы, і дарога ўперадзе ад пяску была белая, і неба бялела ля выгнутага месяца, і зоркі ад Вялікай Мядзведзіцы ўгары над зямлёй, і палосы агню за вёскай над шашой былі вострыя і белыя. Палосы каціліся ўперадзе ў цемнату, як белая мяцеліца. Здавалася, што яна, Алімпіяда, ішла не па белай ад пяску дарозе, а па снезе зімой з вёскі — ішла ззаду за саньмі, на якіх ляжаў у дамаўі Мікалай. Яе дзяржалі з двух бакоў пад пахі, клікалі, каб яна села на другія парожнія сані, якія запраглі дзеля яе, а яна ішла і ішла, чуць перастаўляючы ногі, ззаду за Мікалаем, гледзячы на яго белы, як снег, твар і зялёныя яловыя лапкі пад дамаўём. Папраўляла пакрэплымі рукамі спераду на жываце

кажух, але ніяк не магла схаваць ад ветру вялікі жывот — хадзіла Таняй. Калі пазванілі з Плешчаніц з бальніцы ў кантору на лесучастак, што памёр Мікалай, і ёй перадаў, пад'ехаўшы да варот на санках, Жук,— у яе пачаліся схваткі... Яна падумала, што перш, відаць, будзе раджаць, а пасля ўжо хаваць Мікалая, але схваткі адпусцілі, толькі востра ныў і ныў, хоць зубы сціскай увесь час, крыж — не сагніся, не павярніся. І яна тады сама рашыла за сябе і за прыроду: спачатку пахавае Мікалая — хто ж гэта зробіць без яе,— тады будзе раджаць.

І на могілкі цераз грэблю па снезе, па мяцеліцы, па марозе яна ішла, не села ў сані; і на могілках на ветры доўга стаяла, захінаючы крылом кажуха жывот — апусцілася толькі на снег на калені, каб апошні раз пагладзіць рукой і пацалаваць халодны Мікалаеў лоб. Валасы і лоб у яго былі белыя, і сняжынкі на іх лёгкія, мяккія, белыя. Не стáялі на халодным лобе. Яна дыхнула на іх — сагнала з твару,— хай ідзе чысты ў зямлю...

І лоб і шчокі ў Мікалая настылі, як жалеза ад марозу...

Падняцца з калень ад дамаўя яна не змагла — не далі схваткі.

І дамоў яна ішла, аглядаючыся назад на могілкі на кучу жоўта-белага снегу; ішла — Міфодзя ехаў на санках,— бо ішлі людзі. Дома зноў загадала сабе: спачатку пасаджу людзей за стол памянуць Мікалая — людзі з марозу, гэтулькі мучыліся мужчыны, капаючы яму ў мёрзлай зямлі,— а тады ўжо буду раджаць.

Пайшлі людзі з хаты позна, за поўнач, пакінуўшы дым ад папярос над сталамі, пах мяса і гарэлкі і пад бэлькай лямпу — ядраную, калючую, як сонца ў небе над галавой. Тады яна і загадала сабе: раджаць... Нікому нічога не гаварыла — кіўнула толькі галавой Чайцы: пабудзь, сястра...

Загадала сабе, а — нічога... Адны схваткі, другія, воды адышлі, зноў — нічога. Вот і назагадвала сабе... Ці ўжо сілы не было, аслабела за гэтыя дні, ці, можа, ад пераэкытага-перабалелага, у многіх ад гэтага, наадварот, усё раней бывае, а тут пара, а нічога няма, хоць гвалт крычы. Доўга пасля водаў чакаць было нельга. Але яшчэ стукалі ножкі пад сэрца, яшчэ жыў чалавек... Яму ўжо дыхаць трэба было, час прыйшоў. Не дай — захлынецца...

Ні сама яна, ні Чайка не маглі даць рады...

Леспрамгасаўскі Дэраш яшчэ быў запрэжаны і стаяў пад страхой на двары; пазычаны ў Сальвестрыхі кажух яшчэ быў не аднесены — вісеў у запечку, і яе павёз Міфодзя ў Белае ў амбулаторыю да Барысавай.

— Не паможа Барысава — павязеш адразу ў Плешчаніцы...— сказала яна Міфодзю.

Барысавай не было, а Пугач нічым не памог.

— Казларогая судзьбіна... За дваццаць чатыры гадзіны мазгі згараць... Гані ў Плешчаніцы...

Пугач у адной фуфаечцы, без рукавіц, бег ззаду за санкамі, хукаючы ў рукі, да самых Плешчаніц — адных іх, «мурлахапенькіх», не пусціў у такую дарогу...

Пад раніцу ў Плешчаніцах у бальніцы яна нарадзіла дачку. Чакалі, што будзе сын — на змену бацькі...

Яна спусцілася з горкі і ішла цяпер белай вуліцай ля ракі ў белым тумане, прыхінуўшы рукі да грудзей, дзе грукала сэрца — як усё роўна нясла перад сабой маленькую Таню, закручаную ў полачкі. І шкода было ёй цяпер Тані да гаркаты. Падумала, што вінавата перад дачкой, што трэба быць шчырай і цяпер, калі так трудна дачцэ, браць усю віну на сябе: за тое, што не пусціла ехаць вучыцца, прывязаўшы сваёй хваробай, як ланцугом; што нарадзіла на свет у самы галодны і цяжкі час, што не ўратавала бацьку — Мікалая... Варона і тая з усіх сіл вучыць сваіх дурных варанят лавіць мышэй... Цяжка было тады, калі Таня была малая, бо перажылі нядаўна вайну. А што ёй, мацеры, рабіць цяпер?.. І за вайну віну браць на сябе?

Яна ступала балючымі нагамі па пяску, каменні, па прытаптаным палыну і канаторжніку, па калдобінах ад калёс і машын, ішла ў далёкую цёмную ноч і лавіла сябе на нейкай балючай думцы: ідзе, каб скупіць віну перад дзяцьмі за ўсё тое балючае, што ім давялося спаткаць у жыцці, што цяпер, колькі і жыць будзе, толькі тое і будзе рабіць...

Белая зіма скончылася з белай дарогай. У канцы вёскі пад ногі адразу лягла цёмная густая летняя ноч, і па дарозе трэба было ступаць, як па стадзе чорных кароў — па гарбатых спінах, па вострых рагах, па слізкіх хвастах... За шашой, пад Вялікай Мядзведзіцай, была гара. Ідучы, трэба будзе падымацца на яе, і яна падумала, што не падымецца, што ціcне ў грудзях і цягне назад плечы, як вязка сена на балоце,— трэба горбіцца і нагінацца ўперад. Дайсці б да шашы. Там машыны — возяць ячмень ад камбайнаў. Падвязуць — ці свой хто, ці чужы.

Наперадзе ўжо была відаць шаша — падымалася ўгару ў цёмнае неба пад Вялікую Мядзведзіцу — і ля шашы мураваны белы навес на аўтобусным прыпынку. Дайсці б пад навес і сесці — перавясці дух... Але на шашы раптам зага-

рэўся белым агнём бетонны мост ‖ пярэчкамі і за ім вузкай паласой жоўтае ячнае поле. Агнём секанула аднекуль з-за плячэй; яна адвярнулася, каб паглядзець, і аслепла.

— Казларогі чартуляп!

Упобачкі ўжо стаяў матацыкл, трося, і ўперадзе тросся ад агню мост, навес і поле за шашой. Запахла бензінам, пылам і дымам ад папярос.

— Казларогая судзьбіна... Дамоў пачасала... Пра гэта нельга думаць, за дваццаць чатыры гадзіны мазгі згараць...— пад паху яе падхапіў Пугач — учапіўся, як каршун, каб яна раптам не махнула крыллямі і не паляцела,— і садзіў на сваё месца ў каляску.

Яна не супраціўлялася, села:

— Завязіце лепш мяне дамоў. Тут ужо і недалёка...

— Казларогая судзьбіна... Пра гэта нельга думаць: Колас галаву здыме...— Пугач усеўся на высокае сядзенне ззаду за Коранем — Кораня відаць не было: цёмны, як ноч, і чырвоны вугаль у роце — і, нагнуўшыся, паклаў ёй руку на плячо, як баяўся, каб яна не выскачыла з каляскі і не пабегла дарогай дамоў. Матацыкл, рвануўшы, падкінуў угару, і яна ўхапілася рукой за халоднае жалеза збоку:

— Душу вытрасеце, разбойнікі...

— Жыла і жыць будзеш... А мы страху цяпнулі, пакуль сляды знайшлі...— Корань быў злосны.

Матацыкл акруціўся на лажку між вялікіх шэрых валуноў і пабег назад у вузкую вуліцу. Уперадзе ад агню была белая-белая дарога, як бальнічная простынь.

## 10

Таня сядзела на ганку ля канцылярыі, падкорчыўшы ногі — хавала. Хацелася схаваць і рукі — хоць за спіну, і галаву — уціснуць у плечы; схаваць самую сябе ад чужых вачэй, ад усяго на свеце. Над Краснаволлем вісела вячэрняя засмужаная цішыня; сонца пачырванела, звярнуўшы на рог Кур'янаўскіх Садоў над далёкімі могілкамі — недзе там тарахцеў прыглушаны воддаллю Джанікаў матацыкл. Джанік памахаў на яе пальцам, прагамзаў у нос «дасвідання», як усягды; ажаргаў матацыкл і нырнуў між хат у сінюю частаколістую вуліцу. Ён нічога ёй не гаварыў раніцай, не адчытваў за ўчарашняе — зрабіла ж прагул. Ён усё ведаў — Джанік ды каб не ведаў, маючы на стале перад сабой тэлефон і Выліну-Ужасць у памочніках,— але ні разу не зморшчыўся, не выдаў сябе, толькі цяпер, перад

ад'ездам у рыбу на Вілію, памахаў ёй пальцам, запэцканым у сіняе чарніла: глядзі толькі больш нічога не «выкінь»...

Яна глядзела ў зямлю. На белай, вялікай і круглай, як зямны шар, галоўцы дзяцельніцы — пасля дажджу шуганула ў рост ля ганка — сядзела пчала. Бура-жоўтая, перагнутая, яна перабірала ножкамі белыя тычачкі — калыхала «зямны шар». Пасля раптам апёрлася на яго і дзынкнула ў лёт — сіганула ў бязмежны Сусвет, застаўся толькі калыхацца пад ёй вялікі «зямны шар». Так бы і ёй, Тані, сігануць куды ў Сусвет, а тут хай бы калыхалася ўсё разам: Краснаволле, Белае і яе Крамянец...

Пасля дажджу і мяккіх з халадком жнівеньскіх начэй пайшлі нанава ў рост жоўтыя юргіні — стаялі, падняўшы высака кунатыя галоўкі на ценкіх цыбатых дудках. Здавалася, на свеце толькі сіняе неба і жоўтыя юргіні. Цяпер, калі яна астыла і супакоілася, пачынала баяцца жоўтых юргінь... Юргіні ля частакола гонкія, з цяжкімі галоўкамі; сціснеш жменю — якраз букет, што астаўся на жоўтым пяску...

Вазьмі сцісні сябе, не заплач, едучы на веласіпедзе па грэблі, калі насустрач людзі — здароваюцца, становяцца, паварачваюцца і глядзяць услед; трактарысты выцягваюць з кабін галовы, як птушаняты з гнязда, каб чым пажывіцца... У магазін, на казээс, на ферму хоць не ідзі. А ў бальніцу, да мацеры? Маці ўсё ўжо недзе ведае...

Добра, што ўчора хоць на адну ноч прыехаў Міфодзя — на самую цяжкую ноч. Яна хацела з ім пайсці сёння ў бальніцу, дык жа схапілі і павязлі. Чакай цяпер ад яго пісьма ці каля радыё сядзі слухай, можа, здагадаешся, дзе ён... І як цяпер пра гэта сказаць маці: адной іскры хопіць, каб зноў усё падпаліць.

Сонца павісла ўжо над самым лесам, ад яго чырвані заружавелася неба і лёг малінавы водсвет на частакол, на жоўтыя юргіні. Яна пачула, што ў яе самой гарацьагнём шчокі: ускінула юргіні на магілу — мацеры на хворае сэрца... І віна, як нешта цяжкае, якое можна пачуць на плячах, навалілася раптам на яе: за-блы-та-ла-ся... Плача цяпер па *ім*, а мацеры не слухала... І ніколі нікога не слухала. Злавіла сябе на тым, што неяк перамянілася за гэтыя дні — перш была чэрствай, сама ведала, а цяпер мурашку пераступіць, не задушыць. І ўсяго раптам стала шкода; бяздомных сабак, якія вечарам збіраюцца на загуменні за вёскай і рвуць адзін аднаго; шкода жніўня, ціхага, мяккага, з жоўтымі рабінамі і юргінямі; шкода сон-

ца, дня, вечара — усяго таго, што мінаецца раптам за адну мінуту і чаго ўжо ніколі не вернеш...

Падумала была на міг: а раптам усё яшчэ вернецца? Раптам сонца, заходзячы за сіні лес, падымецца, аглянецца яшчэ раз на зямлю?.. Але сонца не аглянулася — апускалася паціху за лес, несучы з сабой у вечнасць пражыты дзень, усё, чым жыў днём чалавек, і самога чалавека...

З загумення ад маяка прыпоўз туман — аж у юргіні; запахла гарэлым торфам; над возерам ля лесу на чорным небе замітусілася белая чайка. Заныла на ферме даілка. У вочы палезлі мяккія жнівеньскія камары. У некага ў акне загарэўся агонь: за сонцам адразу ішла цемень — жнівеньскі вечар кароткі.

«На веласіпед і — у Белае. Два дні не была ў бальніцы — і ўчора і сёння...»

Смеласці хапіла толькі падняцца з ганка.

«Паказацца цяпер мацеры на вочы?»

Яна выкаціла веласіпед на загуменне, села і налягла на педалі — як уцякала і ад Краснаволля, і ад бальніцы, і ад усяго таго, што перажыла за дзень. Ехала полем на Кур'янаўскія Сады.

З канюшынішча выскачылі два зайцы — шэранькія, тоўсценькія, вушы тырчаць, як свечкі,— і пабеглі ўперадзе па дарозе. Доўга скакалі, пасля разбегліся ў бакі на адзін бок дарогі і на другі і зніклі ў цемнаце, як і не было іх на зямлі. У вачах стала клетка пад страхой ля хлева; і ўвесь свет спераду здаўся зацягнуты цёмнай густой драцяной сеткай...

Дома, на вуліцы ля самых варот, на сляды ад машыны было густа насыпана ячменю.

«Ратнікаў...»

Яна пераступіла цераз ячмень, нават веласіпед падняла і перанясла на двор — каб не рабіць свежага следу. Укаціла ў сенцы і паставіла ля шафарні. У хаце не паліла агню — відаць здалёку; пасядзела ля стала, слухаючы радыё. На сцяне ціхенька звінела музыка, не гаварылі, і яна, узяўшы ў сенцах з шафарні парожняе вядро, пайшла даіць Маліну.

Ля дзвярэй у хлеў на перавернутым уверх дном вядры, склаўшы выцягнутыя рукі на каленях, сядзела Волька Вайдзішка. На галаве ў яе была нізка акручана белая хустка — ад камароў.

— Не пужайся...— загамзала яна з-пад дзвярэй.— Мы з табой вароны пужаныя. Знаю, што хаваешся, усе зна-

юць, а карову, думаю, даіць прыйдзеш. Цягнулася з фермы — рашыла, зайду, праведаю.

— Не хапала яшчэ...— Таня пачула, як нейкая шалёная сіла раптам сціснула яе ўсю ў кулак і зараз кіне пад дзверы.— Устань, дай дарогу! Чаго прыйшла?

Волька і не думала ўставаць.

— Пагаварыць прыйшла, дурніца... Як баба з бабай. Бо ведаю, што ў цябе на душы. Ніхто не ведае, а я ведаю. Калі я пра ўсё пачула, ты б знала, як я абрадавалася сваёй дурной радасцю. Ага, не я адна... А і лепшая дачка ў лепшай маткі... Зларадічала я... Хацела нават спаткаць цябе дзе перад людзьмі і сказаць, каб усе чулі, што ён і да мяне ездзіў, гэны твой, каму ты кляты здому вазіла і па кім цяпер жалобу носіш... Хацела табе ражном у сэрца... З адным, з другім круцішся, усе яны на цябе, як мухі на мёд. Маю карчму ўжо мінаюць, я ўжо саспела... Прызнаюся, рэўнасць у мяне задыміла ў душы, задымі-іла... Вот я і хацела сказаць табе... Пастаў на зямлю вядро, не бразгай ля вуха...— Волька была памаўчала.— Думала я — ды перадумала. Гаротная ты такая, як і я. Хоць маладзейшая і красівейшая. Колькі гора ты хапіла разам з маткай... І не захацелася мне зларадічаць, не захацелася табе ражон садзіць у рану. Не захацелася мне маніць... І скажу табе давяроную праўду: не ездзіў ён да мяне. Магу пераагнацца: не ездзіў. Я і хацела, я і падміргвала — не клюнуў. Ні самагонка мая, ні я яму не трэба былі. Бо цябе адну любіў, скажу табе. Адну. Я іх, хабалёў, за вярсту пазнаю, вывучыла за сваё паскуднае жыццё. А ён — не. Добры ён быў, мяккі, але мне не паддаўся. Не — вот мой крыж. Хочаш, я табе раскажу, які ён быў у бальніцы? Хочаш? Я ж пры сваім бандзіце сядзела, відзіла сваімі вачыма і сваімі вушамі чула. Такія раны ў твайго былі, абгарэлы ўвесь, чорны, як галавешка, закручаны ў бінты, а не крычаў, не енчыўся. Ты ж ведаеш, як баліць апечанае. А ён цярпеў. Санітаркі і сёстры плакалі, на яго гледзячы, а ён маўчаў. Во дзе гаротнік, во дзе нацярпеўся... Хочаш, я табе ўсё раскажу.

— Не хачу! Чаго прыйшла? Не трэба мяне суцяшаць! — Тані здалося, што з хлева з-пад варот выпаўзла змяя з белай круглай галавой і зараз укусіць.

— А мой бандзіт жывы...— кратаецца белая круглая галава.— Жывы, чорт яго не ўзяў. Ногі толькі яму асмалілі. Калі астанецца калекам, калі нага не будзе гнуцца — у суд падам. Будзе ён, першы твой, плаціць мне на яго. Будзе... Хочаш, я табе ўсё раскажу. Ты сама ні разу не з'ездзіла,

баялася, на магілу толькі рашылася. На магілу і я не рашылася б, а ты рашылася, нікога не пабаялася. Хочаш, раскажу...

— Вон адсюль! Не хачу!..

Белая круглая галава падымалася і цягнулася да яе.

— А, ты так? Дык я табе скажу праўду... Хацела зманіць, а цяпер скажу! Ён і да мяне ездзіў! Да мяне! — закрычала яна на ўвесь двор.— Ён і мяне, старую, любіў... Мяне... І валасы ў яго былі мяккія-мяккія, як лён... І я расчэсвала яму валасы сваімі рукамі. Ён і мой быў! Думаеш, ён толькі канторскіх любіў? Ён і нас любіў, хоць мы і фермай пахлі, не так, як ты, духамі...

— Вон з двара! — Таня, сама не ведаючы чаму, пачала раптам падымаць угару вядро.

— Што, вядро хочаш са злосці надзець мне на галаву? Не дастанеш. Не дарасла, смаркачка...— Волька ўскочыла на ногі і, выпрастаўшы рукі, мінула яе, Таню, і пайшла ля хаты да варот. Ішла і крычала: — Ён і да мяне ездзіў... Але я кветы на магілу не патарабаніла... Смяцця б набрала ў спадніцу ў прыпол, завязла б і высыпала... Хабалі... Усе яны хабалі... Вядро толькі маё не збяёдай са злосці. Заўтра буду ісці на ферму — вазьму...

Таня падбегла і зачыніла за ёй вароты — зашчапілася на кручок. Чула, як гараць агнём шчокі і тахкае сэрца. На вуліцы доўга яшчэ правілася Волька і брахаў сабака.

Ля дзвярэй у хлеў, якраз на дарозе, стаяла Вольчына вядро — белае, з фермы. Вядро было пагнутае.

Маліна, напужаная, не стаяла на месцы; малака дала столькі, што не лезла ў вядро — паднялося белым грыбам і пацякло ў цемнаце пад ногі ў здратаваную салому. У яе, Тані, толькі і хапіла сілы на карову — не так сілы, як злосці; пасля адразу апусціліся рукі. Яна стала ля хлева з вядром у руках, баючыся ісці ў хату, і глядзела, як цёмнае загуменне паласавалі жоўтыя фары.

«Ратнікаў...»

Праехаўшы да лесу, ён акруціўся і нёсся назад — агонь ад фар упёрся ў хату і застыў, як усё роўна збіраўся падпаліць. Машына тарканулася, мінуўшы вароты; заскрыгаталі тармазы, забразгалі дзверцы; Таня шукала рукой кручок: будзе той ісці з вуліцы — запрэцца ў хлеве, не пакажацца на вочы. Але машына, пабразгаўшы дзверцамі, зараўла і схавалася за паваротам. Пасля цемнату на грэблі закалыхаў востры агонь, і за машынай ззаду пабегла гусценькае вішнёвае вочка.

«Што яны ўсе сабе думаюць?..»

Яна ўбегла з поўным вядром у сенцы, рванула за клямку дзверы ў хату, пстрыкнула выключацелем у парозе і паставіла вядро з малаком на лаўку пад суднік — нічога яна з ім рабіць не будзе. Дастала з шафы кофтачку — ноччу будзе золка, а да бальніцы далёка — і вярнулася ў парог. Зірнула на ходзікі — згледзела побач з імі на цвічку зялёны ваенны Міфодзеў гальштук з завязаным вузлом.

«Забыўся...»

Асцярожна, як баючыся, падышла, пакратала гальштук; тады зноў прыслухалася да рэпрадуктара — у ім прыглушана ныла далёкая ціхая скрыпка. Пстрыкнула хуценька выключацелем — агонь у вокнах відаць аж ад Ячнага з гары,— выбегла на двор і павесіла на дзверы замок, як раніцай, калі ішла на работу.

«У Белае... Веласіпед браць не буду: ноч...»

Пералезшы праз спрагу ў гародзе на лог, яна пабегла ля платоў па вільготнай мяккай траве да маста — на грэблю. Да ракі споўзся туман з густым тарфяным гарам — аж душыла. Грэбляй па выбітай сцежцы ля канавы было лёгка бегчы. Шваргатала глыбака ў зямлі збоку вада; над галавой вісела чорнае неба, пасыпанае зоркамі. Яна бегла грэбляй у цемнаце, пакуль ля Ячнага не жахнулася неба і не секанулі па тумане дзве шырокія белыя паласы ад фар.

«Зноў Ратнікаў...»

Яна падумала, што будзе відаць на дарозе пад агнём, як заяц, і скочыла да тэлефоннага слупа — прыліпла да яго, як камар, і не дыхала. Пад нагамі глыбака на дне ў канаве блішчэла холадам вада.

«Варочаецца. Хаця б не згледзеў...»

Ён затармазіў, бразнуў дзверцамі, але не згледзеў. Яе толькі абдало густым пылам і ззыбнулася пад нагамі сухая тарфяная грэбля... Яна пачакала, пакуль «малінавая ягада» не зваліцца ўніз да маста, тады пусцілася бегчы на гару пад Ячнае. Ля могілак павярнула на старую дарогу цераз поле ў Белае, дзе некалі хадзілі ў школу. На старой дарозе, парослай высокім шчавуком і дзядамі, яе ніякі чорт не напаткае: машыны тут не ходзяць.

Выбегшы на гару за Ячнае, аглянулася — убачыла далёкія сполахі ад фар на грэблі — носіцца чалавек, як чорт па пекле — і халодную Вялікую Мядзведзіцу ў небе. Пачула, як яе самую, разагрэтую, страсанула ад стужы: з'явіцца ноччу ў бальніцу, падыме ўсіх на ногі, стане перад маткай, а што скажа? Што Ратнікаў абазваў яе курвай?

Яна ішла, спатыкалася і ішла, а калі выбралася на ша-

шу да Белага, пачула, што астыла зусім, што ў бальніцу не пойдзе. Рэж — не пойдзе.

Угары было халоднае неба з пакрэплымі ад стужы зоркамі; наўкола вісела ноч з сырым туманам ля дарогі. І калі яна сышла з бруку і села на лавачку пад навесам, прыхінуўшыся да цаглянай сцяны, пачула, што сама ўся халодная. Халодная і пустая...

Шашой пайшлі «прычэпы», гружоныя, накрытыя брызентам. Нехта спыняўся, клікаў яе ў машыну, але яна — нікому ні слова. Сядзела халодная, і высака над зямлёй, якраз над Крамянцом, дрыжалі ў яе перад вачыма халодныя зоркі.

Зліпліся павекі. Яна не помніла, колькі сядзела. Яе разбудзіў матацыкл — засакатаў на лагу ля Белага; загаманілі людзі, і, здалося, яна пачула раптам голас маці. Усхапіўшыся, пабегла на гару, на шашу, адкуль прыйшла — уцякала ад Белага, ад бальніцы, ад матчынага голасу...

## 11

Колас прыйшоў у палату раней Сцяпанаўны і Праскурнічʼі — толькі яшчэ зацыўкалі, прачнуўшыся, верабʼі за акном. Чысты, свежы і вясёлы — вочы хітрыя, смяюцца — усё ведае. З-пад беленькага халата відаць на рукавах залатыя запінкі — планачкамі — і чырвоны гальштук. Фанэндаскоп на шыі: сіняя трубка круціцца спераду і, як гадзюка, задзірае на яе, Алімпіяду, галаву.

— Ну дык як, Падаляк? — ён узяў акуратненька яе за руку і стаў адразу лавіць пульс; другой рукой падцягнуў хуценька пад сябе табурэтку, сеў.

— Дамоў...

— Што? Так і не пабывалі за ноч? Не дайшлі?

— Не далі, доктар.

— Ну і лайдакі... Памочнікі мае, называецца...— не зразумець, лае ён Пугача і Кораня за тое, што не дагледзелі яе, упусцілі з бальніцы, ці за тое, што дагналі і вярнулі назад.— А каб яны вас не дагналі?

— Дайшла б...

— Далекавата, але і я думаю, што дайшлі б.— Колас быў вясёлы, і ёй зрабілася весела, забылася на міг мінулая ноч з калдобінамі пад нагамі і дзеці, якіх чакала другія суткі, і яна папрасіла, як галодны просіць скарынку хлеба:

— Доктар... Выпішыце...

— Усё пакажа кардыяграма. Толькі кардыяграма.

— А што вы ў мяне ўсё-такі знайшлі, доктар? Скажыце...

— Вы самі ведаеце. Усё ў вас ёсць: гіпертанія, ішэмія, склерозік, халецысціцік... Можна і яшчэ загінаць пальцы... Але ў вас ёсць такая воля стаяць на нагах, што яна вам кампенсуе ўсё.

— Як там дзеці? Ні слуху ні духу...

Ён нехаця засмяяўся:

— На вашым месцы я пра сябе б думаў. Дзеці... Што яны — маленькія?

— Ад вялікіх дзяцей вялікая і бяда... А ў мяне яшчэ кароўкі, доктар. Цэлая ферма...

— Давайце мы будзем лепш нашу асноўную бяду бедаваць...— Дзяцей ён абыходзіў.— Прыпадыміцеся, паслухаем ваша сэрца. Што яно скажа нам пасля начной прагулкі...

Рукі ў яго былі халодныя — мыў нядаўна,— і жалезная бліскучая галоўка фанэндаскопа была халодная, як лёд, але яна, Алімпіяда, нават не здрыганулася — застыла ўся, натапырылася: што скажа, паслухаўшы, Колас.

— А цяпер ляжце...

Ён слухаў яе доўга: ведаў, што яна сочыць за кожнай яго маршчынкай на твары, таму апусціў вочы і ўпарта глядзеў некуды пад сябе — на руку, на гадзіннік, на табурэтку — і каб зміргнуў. Здавалася, нават не дыхаў.

Што толькі стукала яму на вуха яе сэрца? Сваю хваробу ці ўсе яе беды, што ёй давялося перажыць? Сказала б яно ўжо адразу, колькі будзе кратацца, ведаў бы тады наперад, ці доўга яшчэ будзеш перастаўляць ногі па зямлі. Разлічыў бы да кожнай макулінкі — што сёння зрабіць, што заўтра, а што б адклаў на тую сваю апошнюю мінуту...

Сэрца не скажа. І яно, можа, не знае. Чуе толькі, што яму кепска, і, як чалавек, просіць помачы — баліць на ўсе грудзі. І сэрцу цяжка без помачы чалавека. Сэрца не скажа... Можа, доктар скажа?

Але доктар маўчаў. Не гледзячы на яе, выцягнуў з вушэй бліскучыя кончыкі фанэндаскопа, скруціў яго ў жмут і сунуў глыбака ў вялікую кішаню ў белым халаце, каб ён нават адтуль і на свет не паказваўся. Значыць, нядобрае наслухаў...

— Ляжыце... Прышлю сястру — зробім кардыяграму...— ён глянуў на яе, задуманы, ціхі і сур'ёзны, падняўся з табурэткі і пайшоў з палаты.

Праскурніч'я ўбегла з апаратам, у белым расхрыста-

ным караткаватым халацiку — відаць круглыя калені,— з высокай падбітай, як падушка, прычоскай, падфарбаваная, чырвоная, здаровая ўся, аж пырскае з яе, здаецца, сок, як са спелага яблыка — такім сёстрам зайздросцяць у бальніцы ўсе хворыя,— паставіла апарат на табурэтку і пачала адразу раскручваць доўгі шнур у парог да разеткі.

— Ну, цёця,— вярнулася яна да ложка і пачала распраўляць рукамі жоўтыя гумовыя прысосачкі, пасля перацінаць чорнымі жгутамі рукі і ногі.— Ляжыце спакойна, каб не заблытацца нам у правадах. Тон у вас добры...— яна зашаптала.— Пульс добры... Сам сказаў...— кіўнула яна галавой на дзверы.— Так што не хвалюйцеся, а то мы пакажам не тое, што маем. Не наганяйце сабе страху. Не бойцеся апарата...

Рукі ў Праскурніч'і былі халодныя, як і ў Коласа, і прысоскі былі халодныя і цягнулі на грудзях, як банькі. Апарацік застракатаў, што конік на лузе, у траве, і сціх. Пасля зноў застракатаў і зноў сціх. Адваліліся з грудзей дзве прысосачкі... Кардыяграма не клеілася. Праскурніч'я хуценька і акуратненька сваімі халоднымі пальцамі з чырвонымі ногцікамі паставіла на месца прысосачкі, пасунула на тумбачцы апарацік да сябе і паднясла папяровую стужку адразу да вачэй.

— Удыхніце і затрымайце... Так-так... Не дыхайце. А цяпер дыхайце... Расслабцеся, расслабцеся... А то будзем пачынаць усё спачатку...

Нарэшце яна расслабілася; нарэшце конік на лузе ў траве пачаў сакатаць без аддухі, неяк радасна і весела, пакуль яго не разанулі касой і ён не сціх. Было чуваць, як шэпчуць ззаду на сваіх ложках жанчыны: і яны чакаюць, што пакажа апарат...

— Інфаркту тут няма. Падклею, расшыфрую, аддам самому. Што да чаго — сам скажа.— Праскурніч'я неяк у адзін міг скруціла доўгі провад, пахапала жоўтыя прысоскі і ўжо нясла перад сабой апарацік у парог. Зноў загаварылі ў галовах жанчыны і зацыўкалі за акном вераб'і.

Вярнуўся Колас. Быў зусім інакшы, чымся пайшоў. Вочы глядзелі прама на яе і гарэлі добрым мяккім агнём.

— Цяпер я магу цвёрда сказаць, што вы, Падаляк, дайшлі б ноччу дамоў. Самі. Кардыяграмы не пазнаць. Прыклаў да першай — неба і зямля. Каб так мабілізавацца. Выпадак у практыцы рэдкі. Але якраз той выпадак, калі арганізм у цяжкі час самамабілізаваўся. Памог валявы прыём. У цяжкі крытычны час арганізм выкідвае ў кроў усё самае патрэбнае, на што толькі здольны. Ну, як

тут сказаць: самаратаванне. Але каб сэрца?.. Каб сэрца?.. Змены, канешне, ёсць. Левы жалудачак гіпертрафіраваны, павялічыўся — дык гэта ў кожнага гіпертоніка знойдзеш. Ёсць яшчэ сёе-тое і ў шостым адводзе. Але каб да чаго сур'ёзна прыдрацца — не знаходжу. Нармальнае сэрца. Можа, апарат не тое паказаў? Можа, яго на кім праверыць?

— На Коранi...— вышчарыла за спінай у Коласа белыя здаровыя зубкі Праскурніч'я.

— Корань у нас фенамен. П'е, сасуды расшыраны, ад інфаркту смерць яму ўжо ніколі не гразіць...

Засмяяліся. Колас хітра-хітра глядзеў на Алімпіяду.

— Што, яшчэ адзін анекдот, доктар? Казачка пра сэрца? — спыталася яна.

— Давайце будзем верыць тэхніцы. Не забывайце, што мы прайшлі інтэнсіўны курс лячэння. Канешне, стэнакардзія ў вас была класічная. Усё магла даць. Але мы адбіліся. Адбіліся, Падаляк... Цяпер перапыначак. Аддыхнём, а там зноў курсік паўторым. Вылечыць мы ўжо вас не вылечым, а падлячыць — падлечым. Гарантую. Падтрымаем ваша сэрца...

— З мяне сто грам і пончык, доктар.

— Во гэта голас здаровага чалавека, Падаляк. Зробім на сняданні за сталом па пончыку, а там і выпішымся. Адпусцім вас да каровак. Канешне, бегаць за імі я не раіў бы, але...

— Цяжка ўжо мне, доктар.

— Лёгка таму, у каго ўжо ўсё ззаду ці ўсё яшчэ наперадзе. А ў нас, Падаляк, яно якраз усё пасярэдзіне. Таму нам і цяжка. Усё — на нас. На нашых плячах. Дасць бог, і нам некалі палягчэе, і ў нас ўсё ўжо будзе ззаду, так што...

У расчыненыя дзверы пастукалі, моцна і настырна, і Колас, не дагаварыўшы, павярнуўся ў парог; за ім і ўсе павярнулі галовы.

— Хто там яшчэ? — Колас адразу заззлаваў.

Усе згледзелі ў дзвярах Сцяпанаўну — шырокая, засланіла ўвесь праход. У чыстым халаце, белыя валасы прылізаны на галаве і ззаду сабраны ў куклу. Твар свежы, выспаны, вымыты.

— Пасяцілі, іх макаўку, доктар. З раніцы. Сам вот іх і пускай. А то скажаш пасля, што Сцяпанаўна пускае за бутэльку...

— Давай, Сцяпанаўна, абыдземся без бутэлек... Займіцеся сваім дзелам... Хто там?

Але Сцяпанаўна асталася Сцяпанаўнай: ступіла ў палату і стала збоку ля дзвярэй. І тады Алімпіяда адразу ўбачыла ў дзвярах старшыню — Дзярызямлю. Загарэлы, валасы на рад, жоўтая тэніска, рука без пратэза. Усміхаўся на ўсе зубы — усе ёй сёння ўсміхаюцца. І яна хацела ўсміхнуцца яму, але раптам пачула, як сціснула ў грудзях і ў вачах адразу загарэлася жоўтая гарбаценькая спружынка: вот табе і добрая кардыяграма...

За плячыма ў Дзярызямлі стаяла Таня — хавалася за яго. Жывоцік хавала, ці што?

— Можна, доктар? — Дзярызямля вінавата ўсміхнуўся — гэтулькі вачэй глядзелі на яго ў палаце — і зрабіўся, як хлапец.

— Не ў час. Але давайце, калі прыехалі. Начальства паважаем, пусцім...— і Колас стаў вясёлы — усе яны сёння былі вясёлыя.

— Добры дзень усім у хату...— Дзярызямля павёў даланёй па твары — выцерся, як ад павучыння.— Нарэшце і я выбраўся свае кадры праверыць. Заняты па горла. Увесь час у цэйтноце. Уборка рэжа без нажа. Сохла ўсё, гарэла, а цяпер паплыло... І даярачкі, знаю... Ніводная не прыйшла свайго загадчыка праведаць. Я ім даў... Паглядзі, Алімпіяда, каго я табе прывёз — калгасную кантору...— Дзярызямля павярнуўся, узяў Таню рукой за плячо, выпхнуў наперад і прыхінуў да сябе.

Алімпіяда ўпілася ў яе вачыма — шукала жывоцік і не знаходзіла. Зрабілася ціха. Дзярызямля зразумеў, што ён тут віной, і сказаў, каб разагнаць гэту насцярожаную цішыню:

— Ну як тут яна ў вас, доктар? Вы мне глядзіце... Гэта мая лепшая кадра...

Алімпіяда пачула, што ўсё, што яна нажыла тут уколамі, ідзе кату пад хвост. У вачах разбеглася спружына...

— Выйдзіце ўсе...— сказала яна ціха.— І вы, доктар... Пакіньце мяне з дачкой...

Яна нават такога не чакала: усе яе адразу паслухалі. Першыя выбеглі Выліна з Чайкай, за імі пайшла Праскурніч'я, тады Дзярызямля і Колас. Ішоў апошні і выпхнуў у калідор Сцяпанаўну — рукамі ў плечы. Узяў і прычыніў за сабой дзверы.

Алімпіяда пачула, як ззаду за акном счапіліся вераб'і — запішчалі дзярката і праціўна, хоць вушы затыкай. Таня стаяла блізка, якраз на рог ложка. Асунулася, падаўжэў нос, завастрыўся, вочы парабіліся шэрыя, як сухі лубін. Стаяла злосная, капрызная, непрыступная. Ска-

жы што не так — на сцяну палезе... Алімпіяда глядзела і глядзела на яе здалёку; вочы заслала агнём жоўтая спружына, і праз гэты агонь, як праз сонца, твар у Тані здаўся раптам маленькі, востранькі, як у маладзенькай птушачкі, якую ветрам скінула з гнязда. Птушачка плюскае вачанятамі, хаўкае востранькай жоўтай дзюбкай — збіраецца запішчаць і не можа. І так шкода стала гэтага птушаняці, што яна задрыжала ад хліпу сама — хоча нешта сказаць, а голас не слухаецца...

— Ну што ты там нарабіла, дачка? Варона ты загуменная...— сказала і залілася слязьмі. Выцірала рукамі вочы і свету белага не бачыла.

Таня ціхенька ішла да ложка, як цень; падышоўшы, бразнулася на калені — першы раз за ўсё жыццё,— ткнулася ёй галавой пад паху, як цяля, і засапла сваім востранькім носікам... Пасля закрычала на ўсю палату:

— Няпраўда! Няпраўда, што яны ўсе на мяне гавораць і пальцам тыцкаюць... Няпраўда... А там, на магіле... Дык яно само... Само паехалася з дому... І там само... Я не хацела. Само... Упалася на магілу і заплакалася... Што я вінавата, калі ён і цяпер перад вачыма стаіць...

Плечы ў Тані былі худыя, востранькія. Алімпіяда толькі гладзіла іх рукой і нічога не гаварыла — не магла. Пасля ўжо, калі адпусціла ў горле, не ціснула, яна сказала:

— Устань, дачка, а то макрыца ў мяне пад пахай вырасце... Вытрыся. Каб людзі слёз не відзелі.

Таня ўстала і пачала выціраць пальцамі вочы — і такія яны былі вялікія, шэрыя і балючыя, нібы яна пакрыўдзілася на ўвесь свет.

— А дзе Міфодзя? — спыталася Алімпіяда ў яе, толькі цяпер апомніўшыся.

Таня зноў стала, як перад старшынёй: маўчала, апусціўшы галаву — слова не выціснеш.

— Ладна. Я з ім сама пагавару. Распусціліся вы, дзеці... Добра, што прыехала. Забярэш мяне сягоння дамоў...

— Ма-амка...

— Не трэба, дачка. Вазьмі хустачку і вытрыся — я табе сказала. Каб людзі нас такімі не відзелі.

За акном зноў зацыўкалі вераб'і, як курчаты дома на дварэ ля ганка. Яны павярнулі да акна галовы і ўбачылі, што на ложку ля яго сядзіць Марфа, нейкая цёмная ўся з твару, аж сіняя. Глыбака з-пад лоба на іх глядзелі яе белыя вочы — дзівіліся.

Яны забыліся на Марфу, і яна, астаўшыся ў палаце, усё бачыла і чула.

Яна выйшла на ганак сама, не далася, каб яе ўзялі пад руку Дзярызямля ці дачка. У чорнай спадніцы, у малінавай нажутцы, белая, у чорны дробненькі гарошак хустка на галаве, напушчаная на лоб ад сонца,— у тым, у чым і прывязлі ў бальніцу. Збоку ўсё-такі ішла дачка, торкалася ўвесь час — баялася, што маці спатыкнецца і паляціць з ганка. У руках дачка нясла вандзэлачак — звязанае ў пяньковую хустку ўсё, што так трэба было ў бальніцы і што, прывёзшы дамоў, паложаць у вандзэлку ў сенцах на шафарню і не зачэпяць, пакуль зноў не спатрэбіцца.

Ззаду ішоў Дзярызямля, вясёлы, сыпаў смех і анекдоты, за ім усе мужчыны: Яноўскі, Жучок — паглядзелі і не выпісалі, Міхол, Харбін і Жораў. Харбіна, дагнаўшы на ганку, узяла пад руку Выліна. У калідоры ззаду за ўсімі былі відаць Чайка і Сцяпанаўна.

— Ідзіце, ідзіце, вашу макаўку... Як гусей, вас трэба выганяць на двор, каб добрай кабеціне рукой памахаць.

Алімпіяда сышла з ганка першая, стала, павярнулася і глядзела на ўсіх. І так ёй зрабілася іх шкода — прывыкла за гэтыя дні,— хоць плач. Яна едзе, а яны астаюцца: вясёлыя, хворыя, гаротныя — усякія, і іх шкода, як сваіх. Бяда радніць, што сям'я.

— Во пачасала, яе макаўку... Ты хоць павярніся ды памахай нам рукой... Тваю макаўку. Баяцца ўсе гэтай бальніцы, як чорт крыжа. Уцякаюць, крыла ўразаючы...— Сцяпанаўна абышла ўсіх і стаяла цяпер на ганку наперадзе.— Кавалера свайго вазьмі ў кабіну, тваю макаўку. На Харбіна забылася, абрадваўшыся, што выпісалі. Забірай у машыну, адвязеш, выкінеш на полі дзе на вецер, хай вентыляцыю прыме. Адразу ўсё там зажыве, а так сапрэў і закіс, за прарэх свой у дзве рукі дзержачыся і баючыся, каб апошняе не прапала. Калі там яшчэ што асталося, пасля рагоў бычыных, калі бык пакінуў, яго макаўку... Чашы, Харбін, наперад, месца добрае ў іхнім «казле» зоймеш, тваю макаўку. Як міністар будзеш сядзець...

Сцяпанаўна была вясёлая, добрая, хоць бяры яе з сабой, як сястру родную. Сыпанула языком і смяялася разам з усімі.

— А ты што, Сцяпанаўна, здаволілася кавалерам і збыць хочаш? Ці, можа, у яго бык нічога і не пакінуў? Лапнула, а там пуста? Сазнавайся, што збыць хочаш...

— Ты, Жучок-траццячок, тваю макаўку... Колькі цябе наверху, столькі і пад зямлёй... Але я яго на цябе, каб прыйшлося, не памяняла б. Ён — герой. На быка пайшоў,

хоць і паплаціўся. Паглядзі, стройны, рослы, вусаты. А ты — карантыш, за цябе за самога дык няма за што ўчапіцца, не толькі, каб там за нешта нейкае...

— Кладзі яго ў бот, Сцяпанаўна... Сосмеху памром, а не ад хваробы. Без нажа рэжа... А ты ведаеш, Сцяпанаўна, што храновае дрэва ў сук расце?

— Якое там дрэва, які сук? Каб падчапіў бык пад пахвіну, дык бы, як торбачку, закінуў вун у кусты...— Сцяпанаўна паказала на дзікую ружу за частаколам у гародчыку, ля якога стаяў брызентавы старшынёўскі «казёл» з белым аленем ззаду на борце.— У кусты і далей, а ты яго з Харбінам зраўняў, тваю макаўку. Ды і збрыдаў ты мне са сваім ботам. Далі табе гэтым ботам пад зад і правільна зрабілі. Гэта ж падумаць, быў час, калі ў нас такія старшыні ў калгасе былі... Кіравалі ўсімі...

— Ты што, Сцяпанаўна, язык распусціла з самай раніцы? — яе хацела ўзяць пад руку Чайка, каб памагчы сысці з ганка, але Сцяпанаўна вырвалася, прашлэпала ў сініх тапачках па ступеньках і агрызнулася ўжо з зямлі:

— А ты што? Пад Выліну фарбуешся? Фарбуйся, фарбуйся. Усё роўна табе яшчэ раз прыйдзецца замуж выскачыць. Твой стары загнецца скора, як корч, пакіне табе ўсю гаспадарку, свінні, куры... Але на які чорт табе куры, табе індык патрэбен. Паедзеш яшчэ раз к сыну ў горад і яшчэ раз замуж выскачыш. Знойдзеш алкаша...

— Ужасць... Што гэта яна сягоння разышлася...— хацела ўткнуць свае ціхенькія тры грошы Выліна, але Сцяпанаўна адмахнулася ад яе, як ад мухі, падышла да Дзярызямлі і тузанула яго за рукаво жоўтай тэніскі:

— Гані ты іх усіх, старшынька, дамоў і інцілігенцыю разам з імі,— паказала яна выцягнутай рукой на Выліну.— Давай косы ў рукі і граблі. А то — раз'еліся, вылежаліся. Усё адно скора бальніцу закрыюць, кончыцца курорт дома пад бокам. Будуць цяпер вазіць вас з вашымі болькамі аж у Плешчаніцы. А ты што, Міхол, сагнууўся, як свінны тата? І з ганка ўжо спусціцца не можаш, каб на адвітанне Алімпіяду ў ручку пацалаваць? Радзікуліт... Рваў усю жызню пад сябе. Трэба было не бегчы ў леспрамгас, а на калгас рабіць, не на аднаго сябе. На калгаснай рабоце яшчэ ніхто не падарваўся. І гэта твая кадра, старшыня? — яна зноў патузала Дзярызямлю за рукаво.— І гэта ты з ёй думаеш падымаць гаспадарку? Бык на розі — і задзёр ногі...— Сцяпанаўна засмяялася, адкінуўшы назад сваю белую як снег галаву.— Гані ты іх, братка, дамоў...

Яны ўсе сышлі на траву пад цёплае летняе ранішняе сонца, што выйшла ўжо з-за ліп, і пад мяккі вецер, які калыхаў лісце бэзу за частаколам і бег халадком па нагах — свяжыў. Падышлі да машыны — брызентавага старшыньскага «казла» з адчыненымі дзверцамі; на ганку астаўся толькі Міхол — стаяў, сагнуўшыся і ўзяўшыся рукамі ззаду за паясніцу.

— Глядзіце, слёзы выцірае... Ды гані ты гэтыя слёзы, іх макаўку, сястрыца, на чысты лес. Радавацца трэба. З таго свету вярнулі, перш за ўсіх дамоў пусцілі... І глядзі, не пападайся сюды ніколі, добрая твая душа, сястрыца...— Сцяпанаўна падышла, ашчапіла ў дзве рукі Алімпіяду за плечы і пацалавала ў адну шчаку і ў другую.— Бывай, сястрыца, тваю макаўку...— і сама смарганула носам, заплюшчыла вочы і пакруціла галавой.

— Дзякуй табе, Сцяпанаўна, за ўсё...

— Сястрыца...— Сцяпанаўна стаяла і круціла галавой.

— Лезь, дачка, пад брызент на задняе сядзенне,— сказала Алімпіяда Тані, пачуўшы, што скора заплача.— А я сяду спераду, ля старшыні.

Таня з вандзэлачкам у руках палезла ў машыну на задняе сядзенне і схавалася з вачэй.

— Не хавай дачку, сястрыца. Аддавай замуж. Менш будзе пустой бяды. Ат... Выйшаў — і на ўсё забыўся. Травой парасце... Бывай, сястрыца...— Сцяпанаўна зноў закруціла галавой.

Алімпіяда пачала памалу падымацца ў машыну, Дзярызямля не падпусціў Сцяпанаўну — сам узяў Алімпіяду пад руку і памог сесці. Яна пачула, як ззыбнуўся пад ёй «казёл» і як запахла бензінам і гумай. Добра, што аконцы адкрыты.

Ля машыны астаўся Дзярызямля і Сцяпанаўна, астатнія стаялі кучкай на траве ля ганка — прыціхлі на мінуту, заўсміхаліся. Прыціхла і Сцяпанаўна, вочы ў яе зрабіліся журботныя-журботныя.

— Ну, Сцяпанаўна...— Дзярызямля падаў ёй руку, і яна яму падала адразу.— Лячы іх тут усіх,— кіўнуў ён галавой на грумаду ля ганка,— а дамоў я іх забяру. Падганю машыну і — усіх да аднаго...— ён стаяў, дзержачы яе за руку. Яна слухала, гледзячы яму ў вочы, тады сказала:

— Добрыя вы людзі. І ты, старшыня, тваю макаўку, і яна, Уліма... Каб усе былі такога цеста — добры б хлеб мелі. Беражы яе, старшыня, тваю макаўку...

Ля ганка зашумелі:

— Ты глядзі, мы яе за Харбіна сватаем, а яна за старшыню ўхапілася. За маладога...

— Мёртвай хваткай. Кладзі ў бот...

— Где мои семнадцать лет...

— Хе-хе... Ці чэрці. Семнастовачкі ўсягды ў модзе.

— Кладзі ў бот. Ён ёй у сыны гадзіцца...

Сцяпанаўна пачула, уздрыгнула і змянілася ўся адразу: пыхнула агнём, замітусілася, вырвала ў Дзярызямлі руку; вочы ў яе сталі бегаць па грумадзе, па Алімпіядзе, па машыне. Ёй за нешта трэба было ўчапіцца, нешта сказаць, нешта ўзяць у рукі, каб толькі не астацца раптам адной: машына скоціцца з горкі, зубаскалы пойдуць у кусты смактаць з рыльца, а над ёй зноў цэлы дзень будзе адно гарачае чыстае неба. Паркан збоку, трава пад нізам і калючая шыпшына ў вачах...

— Добрыя вы людзі. Дайце я вам, старшынька, і табе, сястрыца,— глянула яна на Алімпіяду,— казла вашага вытру на машыне...— яна схапіла Дзярызямлю за руку і адвяла назад.— Паглядзі. Запылілі вы яго, запырскалі граззю, па дарогах бегаючы.

— Не казёл гэта, Сцяпанаўна, а алень...

Сцяпанаўна падбегла да частакола, сцягнула з яго мокрую анучу — расстрыжаны мех, якім усягды мыла падлогу ў палаце, махнула на грумаду: акыш, сарокі, вашу макаўку, падбегла да машыны і стала цёрці анучай ззаду кузаў. Чуваць былі моцныя рукі — аж машына закраталася.

— Вытры, Сцяпанаўна, вытры, калі другога чаго няма рабіць. Бальніцу закрыюць — давай зноў да мяне на ферму. Куды табе ісці...

— Тваю макаўку, сынок... Толькі тое і раблю ўсю жызню, што выціраю і падціраю. Ля жывёлы пабуду — ад яе да людзей бягу. З людзьмі пабуду — да жывёлы зноў уцякаю. І нідзе, яе макаўку, спакою няма, нідзе месца не знаходжу... На душы чорна — груганне крыло. А да цябе не пайду. З Коласам у Плешчаніцы паеду. Цяпер санітарка — што міністар.

Сцяпанаўна нагнулася да машыны; Дзярызямля ступіў бліжэй да яе.

— На ферме ў мяне, Сцяпанаўна, ты малако будзіш піць. А тут, у Коласа, ты абы-што піла і ў Плешчаніцах будзеш. Колас цябе не тым паіў. Я яму не раз гаварыў. Ад гэтага ў цябе і душа пачарнела, больш, чым ад тваёй бяды. На сваю бяду ты яшчэ сама адну бяду начапіла. Горшую. А тую, першую, трэба было дагэтуль забыць.

— Гм, забыць. Мяне ўжо, яе макаўку, ніякае малако не вылечыць. Ні ад той бяды, ні ад гэтай. Глядзі, які чысты і які акуратны казёл у цябе на машыне. Скочыць зараз на зямлю і пабяжыць логам за рэчку. І нашто ты яго з сабой возіш? Людзей толькі са штыху збіваеш. Людзі становяцца і табе ўслед глядзяць. На твайго белага казла...

— Не казёл гэта, Сцяпанаўна, а алень. Ты ўжо зусім на жывёлу забылася, не пазнаеш...

— Душа ў яго, у твайго казла, чыстая, добрая, і сам ён добры і душа ў яго — майго Колечкі. Не, гэта не казёл і не алень. Гэта мой Колечка...

Яна выпусціла з рук анучу на траву, нагнулася і пачала асцярожненька гладзіць пальцамі белага аленя ў белым крузе на зялёным борце машыны.

— Колечка... Сынок мой...

— Паедзем, старшыня, гэта надоўга. Што, не відзіш? Яна нам не дасць адгэтуль выехаць,— кіўнула Дзярызямлі Алімпіяда.

Ля ганка раптам усе сціхлі, і старшыня, відаць было, не ведаў, што рабіць. Ступіў да Сцяпанаўны і пагладзіў яе рукой па белай ґалаве.

— Дагаварыліся, Сцяпанаўна. Закрыюць бальніцу — да мяне на ферму.

— Колечка... Сынок мой...— Сцяпанаўна яго не слухала — вадзіла толькі і вадзіла пальцамі па аленю — па цыбатых нагах і доўгіх сукаватых рагах. Нікога не відзела і не чула.

— Самы час паехаць, старшыня...— Алімпіяда махала і махала яму рукой, паказвала: садзіся скарэй, дурная твая галава, не бачыш, ці што, крычаць перад усімі трэба.

Старшыня адступіўся ад Сцяпанаўны, абабег спераду машыну, ускочыў на сядзенне, замораны, задыханы:

— Глядзі з таго боку, каб яна там пад кола не падлезла...

— Едзь, старшыня. І не будзем спыняцца. Учэпіцца — не дасць выехаць.

Дзярызямля ўключыў матор, машына ўздрыгнула і адразу пакацілася ў расчыненыя вароты. Алімпіяда ўбачыла, як у сінім дыме асталася Сцяпанаўна і вадзіла перад сабой рукамі, робячы кругі,— выцірала аленя, пасля, схамянуўшыся, пусцілася бегчы ззаду. Бегла шыбка, спачатку па крапіве, па канаторжніку, тады падняла на дарозе нагамі пыл.

— Колечка!.. Сынок!..— крычала яна на ўсе грудзі нейкім не сваім дзяркатым, праціўным голасам, аж, здавалася, валасы на галаве падымаюцца ад жудасці.

Грумада ля ганка сцялася, паменшала; белая галава Сцяпанаўны далела ад яе і далела. Пасля ад грумады адлучыліся двоечка — Выліна з Чайкай — і пабеглі за Сцяпанаўнай. Дагналі яны яе ля самай вуліцы — злавілі рукамі здалёку за нажутку, схапілі пасля пад пахі, завярнулі і павялі назад.

«Колечка-а-а...» — прыглушана і сіпата было чуваць здалёку. Купка людзей ля ганка пачала разыходзіцца.

Дзярызямля паклаў куксу на руль, другой рукой выцерся ад поту — павёў аж два разы па лобе і па шчоках:

— Аж у вачах цёмна стала...

«Казёл» выскачыў на вузкую вясковую вуліцу, разагнаў перад сабой на два бакі курэй, налавіў на лоб, на шкло, чорнай машкі, густа, хоць дворнік уключай — блізка рака і затока,— і пакідаючы за сабой пыл, панёсся па пяску да шашы. Якраз па тым пяску, па якім уначы ішла яна, Алімпіяда,— знаць былі яшчэ яе сляды і след ад матацыкла — не затапталі.

— Мучаецца баба...— Дзярызямля зноў выціраўся ад поту.— Праклінаючы і вайну і нас, мусіць... А што мы вінаваты...

— Доўга яна будзе сёння мэнчыцца, пакуль да памяці прыйдзе... Яна ў такія мінуты п'е, гэта яе і ратуе, а так бы ў яе, як гаворыць Пугач, за дваццаць чатыры гадзіны мазгі згарэлі б... Нап'ецца і спіць цэлы дзень пад калючай шыпшынай у траве. Прачнецца — і нічога. Вясёлая, чыстая, работу робіць... Пакуль зноў не сарвецца. Зрываецца...

— Давайце возьмем яе на ферму. Даяркай, калі пусцім даілкі, яна ўжо, мусіць, не пацягне. А бычкоў хай глядзіць. І хай лепш яна крадзе і п'е ў нас малако, чымся ў Коласа спірт.

— Слухай, старшыня. Не сакрэт жа, сам гэта ведаеш, што і ў нас бабы на ферме п'юць. І не малако.

— Волька?

— Ну Волька. Будуць разам у канаторжніку ляжаць пад плотам.

— А не... Перабольшыла. Тая маладзейшая, не спаяюцца. А спаяюцца — разжэнім. За людзей жа неяк змагацца трэба. Прападзе ж чалавек.

— Я думаю, што і Колас яе надта не возьме з сабой у Плешчаніцы ў бальніцу. Ён яе ведае лепш за нас.

— Я яму сягоння пазваню. Дагаворымся. Лішнія рукі для нас цяпер сама знаеш, што значаць. Калі яны і не чыстыя — адмыем і работу ім сунем.

— Практычныя мы людзі, старшыня. Ты і да мяне не так проста прыязджаў, каб праведаць.

— Дарма і каза ваўку не скача. За гэта самае — ён яе шамае...— Дзярызямля задумаўся.— Наш чалавечы абавязак чалавека і праведаць і даць абедаць, як хочаш гавары. Я даўно ўжо мог да цябе пад'ехаць, «казёл» свой, а то ў самым дзеле — як свінчо. Яно неяк цяпер палучылася, і самі не згледзелі калі і як, што мы чалавека не сталі прыходзіць адведваць, а толькі — калі што трэба. Не ходзім адзін да аднаго і не ездзім, каб проста так праведаць, спытацца, як жывеш, чым жывеш, можа, што трэба. Часу няма... А нам трэба гэта рабіць, не трэба драбнець. Вот так і палучаецца: калі я да цябе прыехаў — значыць, ты мне трэба... Ферму кінула-рынула ў такі час і ўжо думаеш, што ты нам не трэба? Трэба. Праз месяц, ну праз два новы кароўнік будзе. Поле, рэчка. Сады Кур'янаўскія. Вясной кветы, увосень у садах чырвоныя рабіны, здалёку — агонь. І сарокі над імі рабыя стракочуць. Дапазна, да самай зімы. А летам жытам пахне з поля, такім густым духам, што захлынаешся... А калі пасеем грэчку... Курорт, а не работа...

— Я ўжо вам гаварыла, старшыня, што на новую ферму не пайду. Ля дому я яшчэ тапталася, а сюды... Ногі...

— Ногі, рогі, галава і... Дам каня, будзеш ездзіць з дому.

— Яшчэ і каня на маю галаву. Запражы, адпражы...

— Замацуем Валерку. Валерка будзе і прывозіць і адвозіць...

— Не. Адхадзіла. Адбыла. Тут, на старой ферме, я прывыкла. Тут яшчэ даваенныя крукі ў сценах, за якія я кароў на ланцугі навязвала. Зайду, кіну вачыма па сценах — усё на месцы. Мае крукі, мае вокны, мае драбіны. Я помню ўсіх кароў і цялушак, якія стаялі ў мяне ля сцен, навязаныя на ланцугах. Помню нават, які ў каторай язык быў, калі яны мяне за рукі лізалі — у адной шорсткі, у другой калючы, у трэцяй мяккі. Заходжу ў кароўнік — яны ўсе са мной — аж з даўняга часу. Да новага да нічога я ўжо не прывыкну. Лічы — дзесяць гадоў да вайны... І скора дваццаць пяць пасля вайны... Колькі гэтых каровак і гладзіла, і даіла, і паіла... І кожную помню. Не адразу ўспомню, не. А калі пасяджу, падумаю — успомню, якая ў які год была ў мяне кароўка... Якое ў яе малако, чым хварэла, за што яе выбракавалі на мяса, хто ганяў здаваць... Куды... Заплюшчу, бывае, вочы, дык хоць калі свет

з адных кароў — чорны, чырвоны, белы, перапялёсты. Не-е... Да новага я не прывыкну. Гэтыя два старыя кароўнікі... Яны ж са мной і калгас відзелі самы першы, даваенны, відзелі, як мы яго пры немцах дзялілі, а пасля немцаў зноў гэту ферму зганялі з усяго свету па хвасту. На вяроўках вясной гушкалі, падымаючы з зямлі скуру ды косці... Э-ха-ха... Я ж там прывыкла да сонца, якое захо-дзіць у канцы вёскі за чырвоны лес... Ціха ўсюды, сіне ад туману, камары мак таўкуць ля дзвярэй, а каровы ўздыхаюць за сцяной і рагамі стукаюць. Адымі цяпер гэта ўсё ў мяне — халодныя адранкі, калі па расе не ступіць босай нагой, у зубы коле, калі сонца бяжыць некуды ў тумане; адымі коней, сена, салому, малатарню, свіран з жытам, студню з карытам, бітоны з малаком; адымі дзядзінец з падарожнікам пад нагамі... Не...

— Цяпер гэта ўсё на знос. На знос. У нас так. Наперад ідзём, наперад. Старое дрэва струхнела. Сцены падпёрты. Знясём: такі закон. Разаром старую ферму і жыта пасеем. І студню засыпем, каб ямы не было. Да зімы справімся. А новы кароўнік — мураваны, як у Краснаволлі, з цэглы. З даілкамі і паілкамі. Усё новае... Такая жызня. Ідзём наперад.

— Не. Душа горш баліць за ногі. Прачнуцца і некуды ісці, ехаць? Не на ферму праз вуліцу? І не ўвідзець яе? Замест яе — жыта ад плота да лесу? Я да гэтага не прывыкну...

— Душу вылечыць я нічым не змагу і не збіраюся. Час залечыць... А ногі магу аблегчыць. Сам буду на «казле» прывозіць і адвозіць на ферму, калі на калёсах не будзеш хацець трасціся па грэблі.

— Не...

— Зразумей. Няма ў цябе замены. Няма... Вольку на гэтыя дні пакінулі, дык яна ля магазіна трэцца. Сыну ногі асмаліла — дык яна з гора. Не так з гора, як ёсць прычына збегаць да магазіна... Падрыхтуеш замену — пушчу. А пакуль — буду сам вазіць. А то — аддам табе свайго «казла» — катайся. Валерка вазіць стане, сам пехатой хадзіць буду, а цябе з фермы не адпушчу.

— Во, каб гэта мая маці пачула, што я буду на машыне ездзіць.

— Будзеш...

— І смешна, і плакаць хочацца... Не. Смяшыць людзей на старасць? На кані, на машыне? Смяяцца будуць. Не.

— Смяяцца не будуць. Ідзе к таму, што і на работу і

з работы ўсе стануць ездзіць на машыне. Некаму ж першаму трэба.

— Не.

— Падумай-падумай. Я як рак — учаплюся клюшнямі...

— З сынам сёння дома пагавару. Толькі не думайце, што я здалася. Пагавару з сынам, што ён скажа. Можа, ён мяне забярэ адгэтуль?

— З сынам? — Дзярызямля адхінуўся ад руля і паглядзеў ёй у вочы: здзівіўся.

Яна згледзела, як Таня таўханула яму ў плечы ў дзве рукі і закашлялася. Дзярызямля павярнуўся да Тані і раптам змоўк, а Таня яшчэ доўга кашляла. Загаварыўшыся са старшынёй — схапіў адразу яе ў машыне, як быка за рогі,— яна зусім забылася на Таню: сядзіць тая, згорбілася, прыклала да рота даланю і кашляе, так кашляе, што, здаецца, саматугам цягне з сябе вантробы — гэтага яшчэ не хапала.

— Пагавару з сынам. І калі ён мяне з сабой забярэ — цяпер і паеду. У сябе і ў бальніцы паложыць, калі што. Думаеце, на маіх вачах будзеце кароўнікі бурыць, араць і жыта на іх месцы сеяць? А скаціну пад Кур'янаўскія Сады? Не. Хай на гэта хто другі глядзіць. Пагавару сягоння з сынам...

— Пагавары-ы...— уздыхнуў старшыня і заціх. Адкашлялася і Таня. Глядзела сярдзіта пад сябе, ухапіўшыся за спінку ў пярэднім сядзенні, і маўчала. Толькі ноздры ў яе хадзілі ходырам, як жабры ў рыбкі на пяску. Нешта нейкае.

У акно заляцеў жук — стукнуў у шкло якраз перад носам у Дзярызямлі і скаціўся пад ногі на гарачую падложку ў машыне. Дыхнула з поля сухой зямлёй, ячменем і горкім дурнап'янам адстоенага гарачага лета. Над дарогай, абсеянай па баках белымі раманамі, дрыжалі белыя матылькі — хліпкія крыльцы кароткага жыцця. Перад машынай устаў белы бярэзнік; пачало кідаць на калдобах — хапайся ў дзве рукі за выслізганую зялёную дужку спераду пад шклом, каб не разбіць яго лобам. Мінулі шашу — перакуліліся цераз яе, як быку цераз хрыбет, ля маста з белымі пярэчкамі — і ехалі на Краснаволле: падымаліся на горку ў бярэзнік. Дарога ў бярэзніку пайшла жоўтым жвірам — сек па жалезным кузаве, як градам; пасля чырвонай, парэзанай каляінамі глінай, старымі пнямі на пасецы, суччам і ўбітымі ў зямлю дрыўмі-метрамі, паскіданымі некалі з леспрамгасаўскіх машын. Воддаль дарогі

на сінім небе паказалася старасвецкая яліна, высокая, пад белыя воблакі, з сухім верхам, на якім усягды, калі б ні ішоў ці ні ехаў, сядзеў чорны груган — можа, адзін ужо ў гэтым баку: зводзіўся. Груган падскочыў угару; зверху па каляным брызенце шарханулі пругкія дубцы, у машыну на прыпол пасыпалася пажаўцелае бярозавае лісце — і ўперадзе паказалася Краснаволле, доўгае, з высокімі ліпамі над хатамі і сіняе ад акяніц і фарбаваных частаколаў.

Перад самым Краснаволлем Дзярызямля затармазіў:

— Закалыхаў я вас. Расчырванеліся, як ад чаркі... Слухай, дзяўчына,— павярнуўся ён да Тані,— на работу ты сёння ўжо не хадзі. Я адпускаю. Думаў, высаджу цябе ля канторы, а так і заязджацца не будзем. Пакажыся — да вечара не вырвешся. Дастаўлю ўжо вас абаіх па назначэнню. Ну? З вас сто грам і пончык...— Дзярызямля паказаў зубы, бразнуў дзверцамі і рвануў адразу на загуменне. Не паехаў машчонай дарогай да могілак, дзе хадзіў аўтобус, а ўзяў на маяк — на Кур'янаўскія Сады. У старшыні былі свае дарогі, па якіх ён любіў ездзіць на сваім «казле».

Краснаволле закруцілася і асталося справа ззаду; насустрач пабегла поле і высокі маяк. Над маяком насіліся вароны — плылі, не кратаючы крыллем. Падняўся вецер, сухі, гарачы, гнаў насустрач дарогай пыл і залятаў у машыну. Ад яго патыхала канюшынай і бульбеўнікам — настаяўся на полі і цяпер рваўся ў душу такім знаёмым пахам, які пазнаеш на краі свету — так пахне толькі свая зямля.

Мінулі возера, спярэшчанае дробнымі, белымі ад пены хвалямі; асталася збоку высокая дамба — шэрыя слупкі і парудзелы, выгаралы бугор зямлі. Унізе пад ім у дробным альшэўніку заблішчэла выгнутая змяёй крыніца. Насустрач пайшлі кузаўныя машыны, гружаныя высака зялёнай асакой з Яськавага балота, падымалі пыл, і яго гнала ветрам далёка на поле пад старую ліпу. Дзярызямля даваў ім дарогу — ехаў па полі, па белых пнях скошанай кукурузы. З поля добра была відаць доўгая канава з зялёнымі травяністымі берагамі — ішла пад самы лес: далёкую сінюю вузенькую палоску.

Аб'ехалі старасвецкую ліпу і доўгую палівачку на полі — якраз гэтым месцам, за ліпай, ратавалі бычкоў — і выехалі зноў на дарогу. З гары машына рванула, як сама не свая — ныў толькі праціўным ценкім гулам матор, ад якога пачынала балець галава. З дарогі на поле пагнала белы пыл, як снег зімой у мяцеліцу — свету не відаць. Змя-

ніўся вецер, дзьмуў цяпер з Кур'янаўскіх Садоў якраз у акно, і яна сярод сухога паху перастаялага ячменю і мяккай вільготнай твані з крыніцы ўлавіла раптам пах скаціны: едкага поту і цёплага сырадою — так пахне ўсягды стада, ідучы з поля на ферму.

Закруціліся ўперадзе Кур'янаўскія Сады і пабеглі насустрач. Ля іх за жоўтым іржышчам на лагу забяляліся раскіданыя валуны. Праз якую мінуту валуны пачалі кратацца і перабягаць з месца на месца: каровы! Абмытыя пасля дажджу — відаць, лучалі не раз за гэтыя дні пад лівень,— высушаныя на яшчэ гарачым жніўеньскім сонцы, яны займалі ўвесь лог за Садамі, і ён быў стракаты да самага лесу: чорныя плямы, як сажа, і белыя, што снег.

Перад Кур'янаўскімі Садамі Дзярызямля затармазіў, як нечага апомніўшыся. Іх усіх кінула ўперад.

— Што, зноў я вас закалыхаў? Давайце вылезем, пастаім на зямлі...

Дзярызямля абабег спераду машыну, адчыніў дзверцы і памог вылезці Алімпіядзе, пасля выцягнуў за руку Таню. Яны адышліся ад гарачай машыны — ад дыму і чаду — і сталі воддаль ля дарогі на рудаватай дзяцельніцы і дробных катках.

Над дарогай, над Кур'янаўскімі Садамі, над перапялёстай стадай віселі жоўтыя нізкія воблакі — выспелі, як антонаўкі ў садзе. Вясной і самым летам воблакі ў гэтым баку на небе белыя. Круцілася ў галаве, і гудзелі недзе ўгары самалёты. З поля дзьмуў вецер — пах ячнай саломай са стагоў. Мітусіліся перад вачыма белыя матылі, над дзяцельніцай нылі восвы — худзенькія, цененькія, з мурашку. Калыхалася ад ветру пад нагамі пераспелая залатая мятліца, і на яе пырскалі цяжкія зялёныя конікі. І ўсё поле ад дарогі да скаціны было белае ад раманоў.

— Ну вот, уся твая ферма, Падаляк. Жывая, здаровая. Не паелі ні сляпні, ні мухі тваіх каровак. Ну, што ты ім скажаш? Хай яны самі чуюць, хочаш ты іх гладзіць больш па шыі ці не хочаш. Хай вот чуюць...

Яна слухала яго так, з усмешкай: старшыня любіў такія конікі, быў яшчэ маладзён. Адразу, як толькі вылезлі з машыны, яна зглядзела лявей садоў на полі сівое воблака пылу. Яны стаялі цяпер плячыма да воблака, і яна пачула, як грукае ззаду зямля. Не слухала больш старшыні: павярнулася і павярнула яго за плячо.

Ад садоў да скрыжавання дарог, дзе пад елкай стаяла рыжая цыстэрна з-пад аміячкі, цягнулася паласа старасвецкай разгалістай лазы. Лазу хацелі выкарчаваць з по-

ля, але ў яе ўсягды скідалі каменне, і яно ляжала цяпер у ёй гарбатымі крушнямі, як бульба ў капцах; краі — ко-ціцца, засыпаючы ворыва.

З-за лазы на поле і выкацілася сівое воблака пылу: за-грукала па зямлі капытамі, зараўло і застукала рагамі, як па частаколе. Пакацілася было да іх, да дарогі, закалыха-лася, і падалося назад, на здратаванае ячнае ржышча. Ка-лі яно на міг стала на месцы, паднялося ўгару і расплы-лося, яна пазнала адразу Сіментала. Плечы шырокія, ду-жыя ногі ўраслі ў зямлю, дрыжаць, напятыя: спіна выцяг-нулася прамой струной; чырвона-бурая поўсць — сівая ад пяску і пылу; рогі ўпёрты ў нешта жывое, вялікае і бурае...

— Зубр!.. Зубр!..— закрычаў Дзярызямля.— На ферме ўчора быў. Пасля да магазіна прыйшоў, і дзеці далі яму дзве буханкі хлеба...

Яна ўспомніла, што пра зубра гаварылі ў вёсцы яшчэ да бальніцы — відзелі на дзялянцы ля шліхтаў; з газеты чыталі, што ходзіць зубр і каб яму не прычынілі шкоды. Цяпер яна сама глядзела на яго: устаў з калень і стаіць воддаль ад Сіментала. Адышоўшыся адзін ад аднаго саж-ні на два, і зубр і Сіментал зарыкалі раптам на ўсё поле, рыючы пад сабою зямлю пярэднімі нагамі і трасучы гало-вамі... Рогі ў зубра былі чорныя, шырока разогнутыя, між рагоў густы жоўты начос на лоб; поўсць на спіне і на ба-ках бурая, на нагах і ля пахвін святлейшая, з жаўцізной; горб вялікі, буры і хвост доўгі, буры. Храпы жоўтыя, раз-дзімаюцца; пад імі вісіць бурая барада.

— Ён жа Сіментала пакрышыць на капусту!.. Старшы-ня! — закрычала яна.

— Не хадзі, Падаляк... Цяпер іх толькі стрэлам...

Зубр як рыў зямлю, так і скочыў зноў уперад усім цяж-кім целам на Сіментала, дастаў яго рагамі, і яны зноў сча-піліся, стукнуўшыся лоб у лоб — пад імі загрымела цвёр-дая зямля,— закруціліся на адным месцы, падняўшы ўга-ру густы пыл, як дым ад пажару, і зараўлі нейкім дзікім нутраным рэвам, аж мароз пайшоў па скуры... За дарогай на лагу забегала скаціна, збілася ў кучу, зарыкала і пада-лася на поле. Але за дарогу не перайшла, павярнула на-зад і паняслася логам пад самы лес — паколіць адна адну. Скаціна пачула кроў...

Зубр і Сіментал зноў разышліся і адразу кінуліся адзін на аднаго: закруціліся ў крузе, адкідаючы з-пад сябе ка-пытамі скібы чорнай зямлі, як з-пад плуга. Пасля Сімен-тал раптам апусціўся, падагнуўшы пад сябе ногі ў кале-нях, і яго папхнулі па загоне чорныя выгнутыя рогі. Пхну-лі не доўга: Сіментал быў спрытнейшы — выкруціўся, ус-

кочыў з зямлі, падчапіў зубра рагамі пад шыю і пасунуў назад аж на свежае ржышча. Пасля яны зноў разбегліся і зноў стукнуліся лоб у лоб — счапіліся рагамі і застылі. Паспрабавалі адолець адзін аднаго, зжыць са свету, пачулі, што абодва моцныя, ніводзін не паддасца, і цяпер стаялі, упёршыся адзін у аднаго лбамі і рагамі,— напяліся, наструніліся, былі гатовы ў адну хвіліну рынуцца ўперад. Стаялі мінуту, другую, трэцюю, пасля спіны іхнія пачалі слабець, угінацца, рогі слізганулі па лобе адзін у аднаго, і яны, Сіментал і зубр, задзёрлі галовы, нюхаючы спачатку сухі гарачы вецер, які гнала з поля, пасля пачалі нюхаць адзін аднаго ў пысы, з якіх сцякала камкамі ім пад ногі на здрабежаную зямлю чырвоная ад крыві пена. Доўга нюхалі адзін у аднаго пысы, шыю, вушы, тады ціха адвярнуліся, знайшлі пад сабой прыбітую траву і пачалі скубсці. Скублі, чмыхаючы яшчэ адзін на аднаго, наструненыя, гатовыя ў любы міг зноў счапіцца рагамі — цяжка дыхалі і саплі. Вярнулася да дарогі скаціна, збілася ў кучу і рыкала. Ля дарогі падняўся пыл; яго зносіла ветрам далёка на лог.

— Сіментал! — паклікала Алімпіяда.

Сіментал пачуў яе голас, павярнуў быў галаву, але ўсё яшчэ стаяў на месцы, дрыжучы і паглядаючы то на яе, то на зубра. Зубр ціха і спакойна скуб з-пад ног траву.

— Сіментал! Што, на зямлі цесна стала, Сіментал?

Ён падняў галаву, чмыхнуў у храпы, перабіраючы пярэднімі нагамі па цвёрдай зямлі, і не кратаўся з месца — не хацеў саступаць. Але яго клікалі людзі, клікаў знаёмы голас, чуваць быў знаёмы пах ад рук у таго, хто яго клікаў, хто даваў яму ўсягды лусту хлеба з соллю, прыносячы з дому, хто гладзіў яго па шыі, па лобе — белай лапінцы, церабіў за вушамі, гаварыў ласкавыя словы і чые рукі пахлі малаком, як і каровы... І ён зарыкаў моцна і грозна, на ўсю Кур'янаўшчыну, павярнуўся нехаця на нагах, сочачы ўсё за зубрам, тады скочыў з месца з усіх чатырох і пабег да яе, Алімпіяды. Цяжкі, дужы і грозны, ён падбег адразу да яе — быў мокры ад поту, укачаны ў пясок і галоўкі канюшыны, як сын з вуліцы, пабіўшыся з дзецьмі,— засоп змораны, ткнуўся ёй цёплай пысай у выцягнутую руку, дыхнуў з сябе гарачынёй і стаў лізаць даланю чырвоным ад крывавай пены шорсткім языком.

— Сіментал... Што ж гэта ты...— яна ступіла да яго бліжэй і стала гладзіць па шыі, па пераносіцы, па вушах. Ён лізаў яе рукі, рукавы ў нажутцы, нажутку спераду на грудзях; калі яна нагнулася блізка да яго, лізнуў па шча-

цэ — павёў языком ад падбародка да вуха. У яе тады пацяклі з вачэй слёзы...

— Сімента-ал...— яна гладзіла яго і плакала. Падумала, што магла ўжо не ўбачыць і не пачуць ні Сіментала, ні кароў, ні зямлі пад нагамі... Згледзела сябе маленькай-маленькай у вялікім цёмна-сінім мокрым і бліскучым Сіменталавым воку...

А да іх, перайшоўшы дарогу, ішла ўся стада — белая, чорная, падласая, малінавая... Задзёрла галовы, махала хвастамі, дратавала зямлю цвёрдымі, як з крэмню, капытамі... Ад стады густа запахла фермай — малаком і потам. Спакойныя і ціхія цяжкія падласыя каровы падпіхалі адна адну, забягалі адна адной наперад, круцілі рагамі, цягнуліся да яе рук, выцягваючы шыі і рыкаючы...

Яна стаяла і плакала.

— А я табе хацеў яшчэ новы кароўнік паказаць... Дык ты ж нічога не відзіш з-за слёз...— Дзярызямля стаяў і махаў рукой на кароў — адганяў ад сябе.— Яны ж і дачку тваю любяць... Ліжуць рукі... А я і не знаў... Цяпер буду знаць...

А Сіментал стаяў і лізаў ёй руку, салёную ад выцертых слёз — відаць, думаў, што яна нядаўна дзяржала лусту хлеба, пасыпаную соллю...

— Ну, спаткаліся, пагаварылі і адвіталіся... Вечарам на ферме душу адвядзём. Залазьце ў машыну.

— Трэба ж яго адагнаць...— яна тады паказала на поле на зубра, які скуб траву і на якога, не падыходзячы, глядзела здалёку ўся стада.— Пакалечыць і Сіментала і скаціну...

— Нашто яго адганяць. Яны ж памірыліся. Можа, мы пароду перашэрсцім, дасць бог. Адзін Сіментал не спраўляецца. Ну, паехалі, паехалі... Адпускай яго, адпускай... Ваяваць яны ўжо не будуць, а нюхацца будуць доўга. Хай панюхаюцца...

— А дзе ж гэта Раман? — спыталася яна, апомніўшыся.— Скаціна ж адна...

Яны тады аціхлі. Чуваць было толькі, як дыхае цяжка Сіментал, сапе блізка скаціна і стракочуць у дзяцельніцы конікі. Пасля яны пачулі, як ля дарогі, ля саду пад здзічэлым старасвецкім бэзавым кустом за шэрымі валунамі азваўся Раманаў прыёмнічак. Пішчаў цененька, як вецер у сухой гавыле.

— Спіць! — закрычаў Дзярызямля.— Дрыхне! Ну я ж яго падыму... Сам! Ідзіце ў машыну...

Яна пайшла за Таняй да машыны, і за ёй пайшоў Сіментал. Села, стукнула дзверцамі — ён падняў рагатую галаву і ўсунуў у аконца. З рота ў яго ўсё яшчэ цякла чырвоная ад крыві пена. Пасля, калі яны рванулі з месца і былі ўжо ў Кур'янаўскіх Садах, яна ўбачыла, як пабег ззаду Сіментал. Бег, пасля стаў, задзёр галаву і глядзеў ім услед — цяжкі, вялікі, спіна прамая, выцягнутая ў струнку. За ім ля шэрых валуноў стаяў Раман.

Зубр спакойна скуб траву, не падняў нават галавы. Пасля і Сіментала, і зубра, і Кур'янаўшчыну заслаціла жоўтае неба.

Дзярызямля ў хату не пайшоў: акруціўся на «казле» ля платоў і пагнаў яго назад у вёску — толькі пыл і шалёныя куры з-пад колаў пад тын.

Алімпіяда апёрлася на свае вароты — паклала руку на выслізганую верхнюю пярэчку — і падняла вочы на ферму. За бульбянымі жоўта-зялёнымі агародамі нахілілася да вёскі двума кароўнікамі старая ферма — сухая, шэрая і, здалося, маленькая. Чорны доўгі асвер ля студні падымаўся ў жоўтае неба вышэй кароўнікаў; над ім кружылі бацяны.

Нешта халоднае варухнула яе; на ферме бразнула пустое вядро, ядрана, суха — яна аж уздрыгнула. Пустое вядро, пустая ферма... Скора і ўвесь гэты краёк зямлі ля вёскі будзе пусты...

Таня адчыніла вароты і зайшла наперад з вандзэлачкам у руках. На двары па самай зямлі пабег насустрач пад ногі халодны вецер, падняўшы на дарожцы між зялёнай травы сівы пыл. Пад горла падкаціўся камяк — круглай маладой бульбінай, яна спружылася, глынула яго і пачула адразу, як на сваім двары за ўсё хочацца зачапіць рукі: і вёдры вісяць на частаколе не так, і дровы параскіданы з дрывотні аж пад ногі, і вочап зачапіўся за паркан — як кульгавая нага, аж глядзець праціўна.

Зацыўкалі на хлеве на страсе вераб'і і пасыпаліся, як бульба з меха, у гарод на жоўтыя грады. Падбеглі да самых ног куры — пазналі; засакатаўшы, першыя пусціліся да сеначак, дзе на шафарні ў лубачцы стаяў ячмень. Грабяні чырвоныя, галовы чубатыя, натапыранае ад ветру пер'е. Рохнуў у хлеўчыку Юрачка; чуваць было, як падняўся з саломы і грукнуў лычам у дзверы — як жа без яго... Трэба ж бегчы першага пацерабіць за вухам...

Пад касым сонцам бліснула гарачым вугальком шыбіна ў акне — як зорачка на высокай фуражцы ў Міфодзі.

«Чаму ён не выйшаў на вуліцу? Машыны не пачуў? Чаму ён не прыехаў у бальніцу?»

У Тані яна нічога не спыталася. Пайшла толькі скарэй да сенцаў ля частакола, і ёй па руцэ сцёбалі кунатымі квядамі жоўтыя юргіні з гародчыка. На двор між частакола павылазіла лапушыстая, у чырвоным цвеце, настурцыя — што ўсё роўна хто жару сыпануў на сцежку пад ногі.

І з хаты ніхто не выбег спаткаць.

Ёкнула ў грудзях яшчэ ля сенцаў: бразнуў у руках у Тані замок. Дзверы на замку? Стукнулі суха адны і другія дзверы, і насустрач дыхнула цішынёй — хата была пустая, без людзей.

Яна пачула, што нешта не так. Закруцілася ў галаве... Толькі б змагчы пераступіць самой парог, не прасіць Таню, каб памагала...

Парог яна пераступіла сама, змагла. Цвёрда стала нагамі на падлогу.

— Міфодзя...— паклікала ціха, не пазнаўшы ў сваёй хаце свайго голасу.— Міфодзя! Сын!..

У хаце было ціха, толькі нейк заспяшылі-засняшылі на сцяне ходзікі, зацікалі хуценька, як уцякаючы.

— Дзе Міфодзя? Дачка, чаму ты ў хату не ідзеш, чаго стаіш у сенцах?

— Мама...

— Дзе Міфодзя? Ідзі ў хату...

Таня яшчэ махнула рукой на курэй, зачыніла за сабой адны і другія дзверы, падышла да стала, паклала на яго скраёчку вандзэлачак, стаяла і не падымала вачэй.

— Дзе Міфодзя? Ты што, дачка? Няма Міфодзі?

Таня падняла вочы, вільготныя, са плачам.

— Толькі ты не пужайся, мама. Няма Міфодзі...

— Як гэта няма? Ты што? Вунь жа гальштук яго вісіць. Пад ходзікамі на цвічку...

Яны абедзве: і Алімпіяда і Таня, утаропіліся на зялёны Міфодзеў гальштук пад ходзікамі.

— Ён забыўся на яго. Спяшыў і забыўся. Вот гальштук і вісіць...

— Што ж гэта такое, дачка?

— Пайшоў раніцай у Жызнаву. У абед, думалі, да цябе разам... Мяне забраў у Ячнае Дзярызямля, ён і мігнуў у гэты час... Праз Джаніка толькі пераказаў. Я нават матацыкл іхні відзела здалёку...

— Які матацыкл, дачка?

— Прыехалі па яго. Джанік гаварыў — з ваенкамата. Адазвалі.

— Адазвалі?..
— У часць адазвалі. Што вы... радзіва ў бальніцы не слухалі?..
Загарэлася ў вачах белым агнём спружына, і разам з ёй гарэў на сцяне пад ходзікамі зялёны Міфодзеў гальштук. Сонца свяціла наўкасяк у акно з гарода, і на падлогу ў другой палавіне хаты лягла доўгая шырокая белая паласа. На тым месцы некалі стаяў услон і на ім ляжаў Харбін. І яго секлі шампаламі... На тым месцы стаялі два ссунутыя зэдлікі і на іх — дамаўё з Мікалаем... Ляжыць, здаецца і цяпер у дамаўі, як жывы, бровы падняты — усміхаецца...
Белая спружына неяк адразу знікла з вачэй; звінела толькі ў галаве.
«Прайшло...»
Яна падышла, выцягнула руку і апёрлася аб перагародку, прыціснуўшы гальштук.
— Уключы радзіва, дачка. Я не дастаю...
Загаварыў рэпрадуктар. Яна стаяла і лавіла трывогу... Але мужчынскі цвёрды, знаёмы яшчэ з вайны голас у рэпрадуктары быў спакойны. Яна слухала і супакойвалася сама.
— Значыць, вы ўсе ведалі і хавалі ад мяне? І ты хавала? Вот чаму кашляла ў машыне і грукала кулаком Дзярызямлю ў плечы... Дурную з мяне рабілі...
— Ма-амка... Баялася я. Табе ж скажы, дык ты...
— Ну вот, прыехаў, мігнуў, як зорка з начы на небе і згас...
— Ма-амка... Не трэба. Прышле пісьмо. Ён жа Джаніку сказаў... Спяшыў, нават напісаць нічога не мог.
Алімпіяда апусціла тады руку з перагародкі, падышла і села да стала. У рэпрадуктары, пад якім вісеў цяпер новы зялёны гальштук, раптам аціх мужчынскі голас і занылa скрыпка, як вецер у познюю восень за плотам у сухой траве. І такая нудота разанула па грудзях, што яна заплюшчыла павекі, надоўга, да немагаты, каб стрымацца, не загаласіць на ўсю хату.
Згледзела пасля, што жоўтая паласа лягла на стол — ёй на рукі.
— Ну што ж, дачка. Будзем жыць далей. Будзем чакаць пісьма. Сядзь і раскажы, як усё было...

## 12

Мінула два месяцы. У Крамянец прыйшла позняя восень. Сухая, з марозам, з чыстым небам. З начы выпадаў іней, раніцай усё наўкола — і вёску, і ферму, і лес — ахутваў туман, густы, сіні — пахнуў дымам з комінаў ад сухіх яловых дроў, як зімой. Вісеў позна, пад паўдня; тады выплывала жоўтае сонца, бегла на Кур'янаўскія Сады за ракой, з'ядала яго, і над Крамянцом паяўлялася чыстае неба. Іней да палудня раставаў, чарнела, макрэючы ад сонца, груда пад нагамі на дарозе, і на ёй, фыркаючы крыллем у рассыпанай, бліскучай ад сонца саломе, пішчалі гурбамі вераб'і — хоць вушы затыкай. Вераб'і ўсыпалі стрэхі: і на хаце, і на хлеве, і на ферме на кароўніках ад іх было шэра.

Неба і ўсходам і захадам доўга гарэла чырвоным агнём, займалася высака, як зімой. Ночы былі свежыя, з пахам сухога бульбеўніку, зляжалага сена з хлявоў і позна перааранага бульбянішча. Вялікая Мядзведзіца стаяла над самай фермай, яркая, блізкая, паказваючы сваёй доўгай лапай на Жоўты Бераг. Здавалася, возьмуць раптам і забрэшуць за фермай на заставе сабакі.

Раніцай над стрэхамі падымаліся ўгару дымы — на добрую пагоду; Крамянец быў ціхі, мяккі і зліваўся з туманам. Вуліца, хаты, людзі з вёдрамі на дварах раставалі ў ім, зліваючыся з зямлёй.

Мароз сціснуў яшчэ зялёную траву; яна і стаяла так, зялёная, натапыраная, шорсткая, калючая і на двары, і на ферме на дзядзінцы — ступаеш на яе, як на вожыка. Іней высыпаў белы-белы і ляжаў такі ўвесь дзень на траве, на патрэсканым у лужах лядку, на стрэхах і на платах, нарастаў на вочап і на дужку ад вядра — вазьміся рукой за вядро, каб засіліць у студні вады — скрыпіць пад рукамі і па-зімоваму апякае пальцы.

Іней ляжаў і на зялёнай руні за парканам на полі, як абрус на белым шырокім і гарбатым ад хлеба стале. На канец лета тут сеялі жыта аж у тры сеялкі — нарабілі тады рокату трактары з сеялкамі і каткамі на ўвесь Крамянец, падымалі пыл вышэй стрэх, заварачваючы ля фермы і на лагу аж ля ракі. Ціхім асеннім днём рокат плыў, здавалася, аж на край свету — за сінюю далёкую паласу лесу за фермай.

Бярэзнік пад Кур'янаўскімі Садамі доўга не хацеў жаўцець; пажаўцеўшы, доўга стаяў увесь жоўты і гарэў на сонцы такім агнём, што дух займала — ідзеш і заміраеш.

Стаяў ён да ладных марозаў, калі ўжо грудай узялася зямля, тады неяк скоранька атросся, стаў цёмны, шэры, як і не было яго на зямлі. Бялеў толькі зблізку неяк ціхенька белай бяростай, і сарокі трашчалі ў ім, як шалёныя, і крылле ў іх было, як і бярoсты.

У гародчыку на дварэ з яблыні апала пачарнелае лісце, і паказаўся на свет адзін жоўты яблык з чырвоным бокам — яго перш не відзелі, не сарвалі, і цяпер ён надта ж цешыў вока. Яго нават папробавалі пакляваць ці не сарокі — збоку была ямка,— але ён дзяржаўся на суку цвёрда і неяк смела, як усё роўна збіраўся перазімаваць на дрэве.

Чырвоны бачок яблыка схапіў іней; іней прабег і па чырвонай ад ягад рабіне — пасыпаў ягады, як цукрам. Рука сама цягнецца за частакол, але рабіны не дастанеш — шапацяць толькі пад рукой памерзлым і пасохлым лісцем юргіні.

Лёгка было дыхаць пасля гарачага сухога лета свежым марозікам, дыхнеш — з рота пара; лёгка было ступаць па прыцятай чыстай траве, калі яна хрумсцела пад нагамі; лягчэй, здавалася, было насіць і самую сябе на нагах.

Калгасны Бар'ян — яшчэ той, на якім яна з Мікалаем ездзіла ў вайну ў Буслава па соль і не даехала,— стары ўжо, дзесяткі тры яму, ці што, маленькі, кругленькі, шэры, як пасыпаны інеем, стаяў запрэжаны на вуліцы. Ранняе чырвонае сонца свяціла праз вароты на задняе кола ў калёсах, і, калі Алімпіяда ішла да варот, вышараваная белая шына калола вострымі шпількамі вочы. На калёсах у перадку высака на сене сядзеў Валерка — чакаў. Чорная пляскатая кепачка, як спалены на скавярадзе блін, ляжала ў яго на галаве; з-пад яе ля вушэй тырчалі ў бакі рослай травіцай чырвоныя, як агонь, валасы. Сухім пад'ялеўцавым пугаўём без пугі ён ляпаў без аддухі па ляжэйцы.

Ля варот яна аглянулася — згледзела на міг чырвоны ад сонца замок на чырвоных дзвярах, чырвонае вядро на вочапе ля студні, чырвоныя дровы ў вярсце на дрывотні пад варыўнёй, нібыта ўсё было ў пажары. І куры беглі за ёй ззаду, як з пажару. Здалося, усё, чым яна жыла дагэтуль, да сённяшняга, гарыць у агні.

— Падбяжы, сын, клікні Харбіна. Познімся.

Валерка скочыў з калёс і пабег ля плота да Харбіна, падцягваючы левую нагу. Нагу ён стаў падцягваць пасля бальніцы.

У варотах пад выслізганым кручком і сягоння тырчала «пошта»: нядаўна была Магрэта з Ячнага — разнясла

ўчарашнія газеты, мусіць, тады, калі Алімпіяда, прыйшоўшы з фермы, парадкавала ў печы. Магрэта ўчора раніцай і прынясла пісьмо ад Міфодзі і павестку ў Мінск — уткнула пад кручок з газетамі. Газеты вываліліся, ляжалі растрэсеныя на зямлі, і іх клявалі куры — чорныя літаркі на газеце, як мак на абрусе. Яна, ідучы ўчора з фермы, забылася адразу на ўсё — спрытна падняла пісьмо з зямлі, прыхінулася да частакола, чула, як дрыжаць ногі і калоціцца сэрца, і не магла ніяк разарваць канверт — падубелі раптам пальцы, не гнуліся.

Ад сына, калі яго падхапілі на матацыкле, не было ніводнага пісьма. Два месяцы прайшло. У такі час... Яна яшчэ больш пасівела. Перакіне наперад на грудзі касу — ручайка лёну...

На белай бліскучай паперы скакалі сынавы літаркі — таўклі перад вачыма мак, што камары ранняй вясной ля варот. Яна выставіла далёка ўперад белы ліст і прачытала: адразу схапіла вачыма ўсё, што напісана.

Сын пісаў мала: жыў, здароў. Вініўся, што доўга не пісаў: камандзіроўка, што цяпер будзе пісаць, як і пісаў раней, і каб яны адпісвалі і не гневаліся. Яна і не гневалася. Той раз ён не пісаў аж тры месяцы запар, пасля прыйшло пісьмо з Кубы. Цяпер яна здагадалася, што ён у Чэхаславакіі... Па радзіву здагадалася, па газетах...

У хаце ўчора было свята, і Таня яшчэ за два дні да суботы памыла падлогу. І чырвоных рабін прынясла з гародчыка і паставіла ў слоік з вадой на стол у другой палавіне хаты.

Другую, жоўценькую, паперку яна адразу і не чытала. Прынясла з пісьмом і газетамі і паклала на стол — можа, Тані што, часта шлюць з канцылярыі. Добра, што Таня тады якраз паявілася дома, яна і падала ёй тую жоўтую паперку ў рукі і акуляры [illegible] акна ў футлярчыку.

Жоўтая паперка з паштовымі чырвонымі маркамі і чорнымі круглымі штампялямі, на якой трэба было распісацца і палоску знізу з подпісам адаслаць назад — прагледзела Магрэта, ці што? — клікала на суд. Аж у Мінск. Указваўся і нумар дома, і пад'езд, і нумар пакоя, куды зайсці. І не пазніцца, і быць абавязкова. Аж страшна зрабілася. Прыбег учора і Харбін — круціў і круціў жоўтыя вусы ў парозе.

— Ці чэрці суседка. Пачытай... Магрэта мне ўжо чытала. І ты пачытай. Магрэта сказала, што толькі нам дваім на ўсю вёску. Табе, суседка, і мне. Ці чэрці, у сталіцу паедзем.— Харбін быў рад: вот падставіў тады задніцу пад

шампалы, а цяпер за гэта ў сталіцу звозяць і дарогу аплацяць. Хто б яго цяпер у сталіцу звазіў...

Пасмяяліся, але ім было не да смеху. Ехаць трэба было заўтра, каб паспець, і ехаць раніцай: на свой аўтобус сесці, тады на плешчаніцкі...

Збірацца ў дарогу яна не магла: хадзіла і хадзіла па хаце. Выйшла пасля на двор, пахадзіла па траве, адчыніла дзверы да Маліны і да Юрачкі, падалася за варыўню на гарод, на вуліцы прыткнулася пасядзець на лавачцы. Возьмецца за што — усёваліцца з рук. Здаецца, вось выскачыць з лесу палутарка і на ёй лётчыкі... І Мамка з Кукаевым... Гэтулькі часу прайшло, а пацягне дымам з лесу — усё той вялікі пажар у вачах, калі гарэла застава...

Ноч яна не спала. Белы месяц свяціў у акно з гарода неяк надта ўжо зблізку — вісеў над самай аселіцай, ад яго ў хаце было бела, як ад агню, і холадна. Яна ляжала і думала пра ўсё сваё жыццё: пра сябе, пра Мікалая, пра вёску, пра Міфодзю і Таню. Адной начы хапіла на ўсё — такое яе жыццё здалося кароткае.

...Яна падышла цяпер да варот, выцягнула з-пад кручка газеты — пісем не было — і заткнула іх на дварэ ў вугал, каб не варочацца назад — дрэнная прыкмета перад вялікай дарогай. Дажджу не будзе — няма яго ўжо два месяцы і сёння не паказвае, сухая восень, як і лета, а вернецца вечарам з канцылярыі Таня — забярэ. Яны разам сёння яшчэ досвіцай выйшлі з хаты, яна на ферму, Таня, асядлаўшы веласіпед, паехала да работы на пошту ў Белае — адпісалі Міфодзю пісьмо і хацелі, каб яго сёння раніцай забрала паштовая машына. Ды і работы ў Тані па горла: Джанік на курсах.

На вуліцы яна адразу ўбачыла, як ішоў Харбін ззаду за кульгавым Валеркам. Спяшаўся і так курыў, што здавалася, падпаліць хлеў разам з сенам — такі валіў дым.

— Ну, суседка, паедзем граміць ворага, хе-хе... Сядзем упобачкі і паедзем. Каб нам яшчэ і аб'яднацца, суседка... Удваіх мы б яго напавал...

— Нагроміш з табой... Дзе сонца, паглядзі. Спіш, а вораг, па табе, старым ваяку, колькі во яшчэ па свеце хадзіў недабіты.

— Ці чэрці, суседка, заспаў. А ты ўжо сваю ферму спарадкавала?

— Цябе чакала, каб аб'ядпацца.

— Хе-хе, каб жа веданне... На рунію трэба цялух выгнаць, суседка.

— Выганюць, хай пацяплее. Волька выгане. А ты, хлапец, не мог яшчэ больш узваліць сена на калёсы...— накінулася яна на Валерку: ёй здалося, што ўсе марудзяць, цягнуцца — Валерка нагу цягне, Харбін чуць вадалачэцца, а час ідзе, сонца ўжо з туману на чыстае выскачыла.— Наклаў мурагу цэлую гару. Паляцім мы, старыя, пад кола — і не будзе каму граміць ворага.

— Ці чэрці, суседка. Палезу прымну.— Харбін стаў на заднюю вось і паправіў сядзенне, рассунуўшы сена і пазатыкаўшы яго ля ляжэек. І дыміў папяросай, нібы ў яго гарэлі і жоўтыя вусы, і галава, і пляскатая шырокая суконная кепка на галаве. Пад калёсы фыркнулі з тына вераб'і, змятаючы з пяска крыллем сівы іней. На белым тыне пасля іх асталіся чорныя мокрыя палоскі.

Скочыўшы з восі на груду, як малады, Харбін узагнаў вераб'ёў:

— Ну, давай падсаджу, галоўны абвініцель...

— Не абвініцель, а свідзецель, сведка...

— Хе-хе, смялей, суседка-сведка...— ён узяў яе пад паху, памог падняцца і сесці на калёсы. І сена абаткнуў, каб не стаяла збоку ворахам.— Зашпіліся, а то вецер, ці чэрці...

Яна зашпіліла на грудзях шырокае новае зялёнае асеннiе пальто, Таніна — Тані яно, як мех: па новай модзе, а ёй у аблiўку, якраз па-старому,— і паправіла ля шыі жоўтую, у чырвоныя кветы новую шарсцяную, з прэнзлямі хустку — прывёз сын. Харбін падаў ёй з лаўкі жоўтую сумку з замком, абышоў калёсы і сеў з другога боку на сена.

Валерка падпінаў каня — акручваў сваімі дробненькімі пальцамі каля аглабні скураны падпінак, апошні, можа: звязаны з кавалкаў, сабраных з усяго калгаса — ні коней ужо, ні збруі,— і ў яго нічога не выходзіла. Нарэшце ён уздыхнуў — завязаў.

— Ну, бяры, хлапец, лейцы ў рукі і лезь у перадок,— загадала яна.— А ты, віджу, і добра нагу падцягваеш, як падбіты.

— Сухажылле падгарэла...

— Цябе ж у армію не забяруць. Армія з цябе хоць бы чалавека зрабіла. А так ты — што маці, што бацька. І аціраешся не там, дзе належыць. Трэба ўжо думаць, як сваёй смерцю памёрці, а не наглай. Ты не малы, з гэтай пары ўжо і пачынаюць думаць, калі хто хоча чалавекам на зямлі пажыць...

— У армію я ўсё адно пайду.

— Як гэта ты пойдзеш, крывы?

— А я расцягну нагу. Да арміі яшчэ далёка. У бальніцы сказалі, што можна расцягнуць. Я і расцягваю кожную раніцу... Іду ў хлеў, зубы сцісну і расцягваю. Я ды каб не расцягнуў... Расцягну і пайду ў армію, папомніце...

— Да арміі-то далёка. Ты б у школу хадзіў, рыштант.

— Заўтра схаджу.— Валерка, нават не зглёдзелі калі, укуліўся ў калёсы і тузануў у дзве рукі за лейцы.

Крануліся калёсы — кранулася хата, двор са студняй, ферма за гародамі і ўперадзе над вуліцай белы сцёрты месяц — не зайшоў да сонца. Ля яго раскудзелілася жоўтая шырокая паласа ад рэактыўнага самалёта і пачала распаўзацца. Крануўся свет, у якім яны жылі дагэтуль і які пакідалі на кароткі час; было непрывычна і трывожна.

Бар'ян грукаў падковамі па ўмёрзлай грудзе, ляскалі калёсы, дрыжалі — не ўхапіцца за ляжэйку.

— Гэта твая выдумка, суседка: калёсы. Падскочыў бы старшыня на «казле», мог бы аж у Плешчаніцы падкінуць. А не — то свае: Царук ці Сяржант... Можа ж, не на бяседу едзем.

— Мяне блажыць у іхніх легкавых машынах. Бензіну не цярплю. Так ужо і памру, не прывыкшы.

— Трэба прывыкаць. У нас ужо на дарозе і каляі ад калёс няма. Машыны зраўнялі.

— Конь сам знойдзе каляю, калі людзі на яе забыліся. Людзі ўжо і на коні пазабываліся. А наш Бар'ян яшчэ даваенную каляю помніць. За сведку хоць і яго бяры. Мы ж з Мікалаем тады на ім лётчыкаў на заставу вязлі. Выцягнуў. І вайну, і вяроўкі пасля вайны на ферме, і лесавывазку, і плуг і не падарваўся. А людзі... успомняць яшчэ каня. Конь і карова спрадвеку з чалавекам былі на зямлі і астануцца.

— Ці чэрці. А я ўжо, суседка, толькі б на машыне і ездзіў, хе-хе... Што мне той конь, каб пра яго ўспамінаць.

— Не ты, сусед, дык другія, а каня яшчэ ўспомняць. Людзі на многае забываюцца, а пасля ўспамінаюць. Хто гэта думаў, што праз гэтулькі гадоў знойдуць і Кукаева, і таго лётчыка — Башкіра, і нашага Далідчыка. А ўспомнілі, знайшлі. Следчы прыязджаў недзе адразу, як я з бальніцы выпісалася. Хадзіў і да цябе, сусед, толькі цябе тады дома не было. Я ў яго пра ўсё пыталася, а ён мне ўсё і расказваў. Так мы і гаварылі цэлы дзень. Пра ўсё: і пра заставу, і пра лётчыкаў, і пра Кукаева...

Праехалі па масце, пакінуўшы ззаду Крамянец з белымі стрэхамі, белых гусей на чорнай вадзе пад голымі

вольхамі і шырокі белы лог ля ракі — цягнецца на край свету і растае недзе ў сінім дыме.

— Тое, што Кукаеў жывы, я не здзівілася. Бандзіт, вужака, у такую шчэлку пралезе і вылезе, цябе ўкусіўшы, што... А вот з чаго я здзівілася, дык гэта...— яна памаўчала, падцягнуўшыся вышэй на сядзенні,— што Башкір жывы. Каб сказалі, што той, другі, лётчык жывы, які на Джавапіка быў падобны, я паверыла б адразу, а той не выцыўкаў... А Башкір выжыў. А ты знаеш, якія ў яго былі ногі? А выжыў, перанёс усё, і ногі загаіліся. Цяпер ён не то палкоўнік, не то генерал, я не помню. На судзе будзе, увідзім.

— Ці чэрці... Чалавек жывучы...

— Жыву-учы... Спачатку лётчыкаў Кукаеў затарабаніў у Плешчаніцы. Не ведаю, не спыталася, як і чаму, толькі яны апынуліся ў лагеры ў Калдычаве. Вот там адзін выжыў, а другі не. А Кукаеў? Пыталася і ўсё запомніла. Служыў ён пасля ў немцаў у Вялейцы, у трэцяй роце. Што там за такая звярыная рота была... Па ўсёй Беларусі ездзіла: у Віцебску, у Мінску, у Трасцянцы была. І білі, і ў душагубках людзей душылі, і ў штабялі складалі і палілі. Калі падыходзілі нашы, Кукаеў уцёк у Польшчу, пасля ў Чэхаславакію, а адтуль аж у Італію. Даслужыўся, што немцы яму прысвоілі яфрэйтара і далі ручны кулямёт. Такому душагубу ды кулямёт. З вінтовачкі не аднаго чалавека заб'еш, а з кулямёта... І не адзін дзень у яго быў кулямёт... За дзень з кулямёта можна паўсвета перабіць, а ён у яго быў два гады. Два гады бандзіт з кулямётам...

— Ці чэрці, суседка... Аж мароз па скуры... Дык чаго тады нас клічуць? Тут жа, у нас, толькі двое было, ну трое... А яны там сотнямі. За адных тых яму шыбельніца палагаецца...

— Кожны чалавек дораг. За кожнага чалавека свая адплата. Трэба, каб на судзе ўсё ведалі...

— Хе-хе, ці чэрці. А дзе ж яго адкапалі цяпер? Гэтулькі хаваўся...

— У Якуціі. Іменне змяніў. У Італіі ў партызаны перайшоў, як усё роўна з нямецкага палону збег... Вайна людзей ператасавала, не кожны на сваё месца вярнуўся...

— Ці чэрці. А Мамка? Мамка ж адбыў.

— Адбыў ён за сваю службу. Тады яго спешна судзілі і далі пятнаццаць гадоў за нямецкі райземаддзел. Крыві за ім не значылася. А тут, выходзіць, і кроў ёсць. І лётчыцкая, і тая, што з цябе цякла з-пад шампалоў мне на падлогу. Забыўся?

— Ці чэрці, суседка. Не напамінай. Бык прасадзіў, дык

я ўжо на яго і забыўся. А тых помню. Аж цяпер баліць... І ногі пасля таго сталі мерзнуць. Ступні і пальцы. Як на лёдзе стаіш. Хоць у валёнках летам хадзі.

— Кроў ужо ў цябе, старога, не даходзіць да пальцаў. Дойдзе да калень і назад варочаецца.

— Хе-хе... Ці чэрці, суседка. Ты мне ўсю жызню ганьбу даеш. Які я яшчэ стары. Аб'ядналіся б, дык бы і жыць было лягчэй пад старасць, не толькі ворага граміць.

— Хлапец, во, у перадку, сосмеху памрэ... Ну добра, з'ездзім, разгромім ворага, а там, можа, і новую жызню пачнём. Паглядзім...

— Хе-хе, суседка. Аж у вачах паяснела. Нават людзей віджу ў канцы грэблі на дарозе. Дык, можа, мы спачатку ў сельсавет заедземся?

— Пакуль мы на кані ў сельсавет — аўтобусы ўсе пойдуць і ворага без нас разгромяць. І праўда, як мы яго граміць будзем, не аб'яднаўшыся? Як гэта мне ў галаву раней не прыйшло...

— Нічога, суседка, з двух бакоў: ты з аднаго, я з другога. Ворага-то мы разгромім, а вот аб'яднацца, чую, не аб'яднаемся. Смяешся ты з мяне, суседка, ці чэрці... Ды і што цяпер пасля ўсяго граміць ворага, лепш было б ужо ў сельсавет ехаць. Што праз гэтулькі гадоў судзіць? Наперад бы іх, усіх бандзітаў на зямлі, пасудзіць, каб ні вайны не было, ні наглай смерці.

— Наперад ніхто не судзіць. Даказаць віну спачатку трэба.

— Даказаць... Забітыя трэба і замучаныя, каб даказаць. Паўсвета людзей звядуць — тады ўжо некага аднаго судзяць. А я б так: рыхтуешся да вайны — ідзі пад суд.

— А як ты іх пазнáеш?

— А яны і не хаваюцца. Па радзіву з-за акіяна крычаць пра свае бомбы, у газетах пішуць. Наперад ужо нацэлілі жалеза на чалавека. А чалавек, нарадзіўшыся, павінен сваёй смерцю памёрці. Ні ад хваробы,ні ад вайны. Не наглай смерцю, а сваёй.

Па грэблі, па цвёрдай мерзлай грудзе калёсы лескаталі, як па бруку. Жоўтая паласа ад самалёта распаўзлася над Ячным і знікла з воч, белы месяц пацяжэў і асеў ніжэй над белым полем. Сонца ўсё яшчэ бегла за шэрым туманам да дарогі пад Ячнае, дзе спыняўся аўтобус. Зверху сыпаўся дробненькі іней; халодны рэдзенькі ветрык кратаў лёгенькім марозікам шчокі; пахла дымам і зімой. У высокай сагнутай аб'інелай гавыле ля дарогі цінькалі сініцы — мо помнілі, што тут некалі былі кусты і старасвецкія вольхі.

Падняліся на гару; кончылася груда, і калёсы пакаціліся па сухім глыбокім пяску, як летам. З гары былі відаць аж тры вёскі: ззаду свой Крамянец, збоку, за Кур'янаўскімі Садамі, Краснаволле і ўперадзе Ячнае — чыстая вуліца і шыферныя белыя стрэхі паабапал. Пад Ячным на лажку расцягнуліся два доўгія калгасныя хлявы. Ля расчыненых насцеж белых дзвярэй стаялі запрэжаныя калёсы, і ля іх круціўся Жучок — яго можна было пазнаць здалёку: кароценькі, кругленькі. Пасля бальніцы яна яго яшчэ не бачыла. Хітры, жывучы Жучок. Прыбіўся ў Ячнае са свету, пабыў у леспрамгасе, на поўначы. За свае штукі панасіў там нешта ў шахтах у скрыначках, а можа, і не насіў, любіў толькі напусціць туману і набіць сабе цану — ведае і відзеў такое, чаго другія не ўвідзяць,— астаўся цяпер у калгасе, пайшоўшы з жонкай на ферму. Жучок кінуў расчыненыя дзверы і каня з калёсамі і ішоў да аўтобуснага прыпынку.

На прыпынку былі ўжо відаць белыя хусткі — чакалі аўтобуса: ён скора заблішчыць на Краснавольскай дарозе ля Кур'янаўскіх Садоў, дзе цяпер разлёгся на горцы новы доўгі калгасны кароўнік — старыя дык аж тры ці чатыры змесяцца ў яго. Белы, цагляны, пад шыферам, з даілкамі і паілкамі. Скінуць бы гады з плячэй... А то і з гадамі сваімі пайшла б сюды, каб толькі насілі яе па зямлі ногі і служылі рукі... Прывыкла б... Дажыла да лепшага, а пры гэтым лепшым не можа ні рабіць, ні жыць...

І такая тут на гары перад усімі трыма вёскамі, як перад усім светам, навалілася на яе скруха, што рысь на карак,— яна аж заплакала... Ціха, горка, без слёз — сціснулі толькі спазмы за горла, бы смерць сваёй кашчавай рукой, і не адпускала...

Паедзе, а за гэтыя дні перагоняць сюды ў новы кароўнік з Крамянца скаціну, старую ферму справяцца разабраць, звезці і пусціць трактар — заараць дзядзінец... Дзярызямля «аддае» свайго «казла», але не ёй ён аддае яго. Ён дзелавы чалавек. «Пабудзь пакуль сама, паездзі, пашлю ў Смілавічы за калгасныя грошы дачку, а там усё ёй сама і перадасі...»

Ля новай фермы пад дарогу ляжалі вялікія белыя валуны, аж чатыры; воддаль іх прыхінуліся адзін да аднаго меншыя і круглейшыя. Бацькі і дзеці... Старыя бацькі і маладыя дзеці... У адной купе... І такі ўжо сум разануў па сэрцы — хай бы яна лепш не ехала сёння на гэты суд, не падымалася на калёсах на гэту гару.

— Нешта вочы ў цябе блішчаць, суседка...— загаварыў

Харбін.— Я сам, як падумаў, што мы аб'яднаемся... Дык самому ў горла такі камок укаціўся... Хе-хе, ці чэрці... Можа, жыць нанава пачнём. Толькі ж ты нешта маўчыш, суседка...

«А бадай на яго, на гэтага Харбіна... Праз слёзы смяяцца станеш...»

На аўтобусным прыпынку ля могілак было ўжо многа хустак; яна пазнала здалёку Гілену — Чайку. Падумала, што зноў яны ўсе збіраюцца ў кучу, як тады ў бальніцы: яна сама, Харбін, Чайка, Жучок... І Марфа... Блізка яна тут ля іх, і зямля яшчэ не абчэрсцвела ў яе на магіле...

Марфа і памёрла ў бальніцы.

Чайка была з чамаданам — вялікі, чорны, ён стаяў у яе ля ног, як верны сабака. З ім яна паездзіла па свеце і цяпер збіралася зноў ехаць у горад да сына, пахаваўшы мужыка ў адзін дзень з Марфай.

Валерка пад'ехаў да самай грумады і стаў. У грумадзе сышлася ўжо Чайка з Жучком; сакаталі, ніяк не маглі ўстаяць на месцы дзяўчаткі [redacted] партфелямі — пазніліся ў школу; курылі трактарысты ў чорных зашмальцаваных фуфайках і ў зімовых шапках — ехалі ў Белае ў майстэрні. Падыходзілі з Ячнага чужыя дзецюкі і знаёмыя — пазнаеш па бацьках — маладзічкі: прыязджалі [redacted] горада да бацькоў і мужыкоў прывозілі. Адны — напаказ, другія — парсюка закалоць ці дроў на зіму прывезці.

— Го-о-о... Куды гэта? Ці не ў загс? — адлучылася ад усіх і выйшла наперад Чайка з чамаданам.— Здарова, сястрыца. Во гэта па-моему. Селі ўпобачкі, і ў загс... А то ўсё ніяк не маглі дагаварыцца... А што? Работу парабілі. Ціха пуста. І як яшчэ цёпла днём. Баб'е лета... Спрадвеку такой парой у вёсках замуж выходзілі, і я такой парой ішла. Ці, можа, я абы-што гавару? Можа, не ў загс? Па Уліме не ўсягды пазнаеш...

— Хе-хе, ці чэрці... У загс, каб ён згас. Нарэшце суседка адпусцілася і субожылася нада мной. З'ездзім на суд, назад будзем варочацца і запішамся ў сельсавеце, хе-хе...

Які суд і чаму — Чайка не пыталася. Яе цікавіў загс.

— І я, суседзі, еду да сына. Пахавала свайго,— яна стала выціраць пальцамі вочы,— пасядзела сёння ля жоўтага пясочка, яшчэ да сонца сюды прыйшоўшы,— прасіў жа, каб на гэтых могілках пахавалі, ля бацькі — скочкі на магілу пасадзіла, паплакала, а што зробіш? Жыць трэба. Паеду на зіму да сына. Знайду і я там нейкага алкаша. Адмыю. Прывязу ў вёску. Без мужыка я не буду... Не мной будучы жыць без мужыка...

— Ці чэрці... За мяне дык не захацела...

Зноў было весела, як у бальніцы,— жанілі Харбіна. Людзі, як усягды, жылі сваім жыццём: рабілі работу, некуды ехалі, спяшылі, выходзілі замуж, чакалі. Так і цячэ жыццё кожны міг на зямлі — гэта для яе, для адной, цяжкая мінута. А для Чайкі яна ўжо лёгкая. Аднаму цяжка, другому лёгка. У аднаго слёзы, у другога радасць. Адзін махае крылом, каб падняцца, другі налётаўся, апёк сваё крылле, і яму ўжо толькі хадзіць па зямлі.

Ля дарогі чырванеліся ягадамі рабіны, і на іх густа сакаталі сарокі, як куры дома на двары ля пасыпанага на всцежку ячменю. Форскаў Бар'ян, і фыркалі з-пад ног вераб'і, іх сёлета як усё роўна хто насыпаў зверху на зямлю — не прайсці. Падышоў Жучок, апёрся на ляжэйку і паглядзеў у вочы.

— На суд, чуў, едзеце. Там такіх...— паказаў ён рукой недзе сабе за плечы,— дзе я быў, многа сядзела. Насілі гэта самае...— зашаптаў ён,— у скрыначках пад зямлёй. І Мамка недзе насіў. І хай яшчэ паносіць. Рэжце на ўсю катушку. Я за якую тону аўса... А ў яго на руках кроў...

— Дык, можа, мне, сястра, і не ехаць нікуды? Можа, я яшчэ на вашым вяселлі топну? Паехаць я паспею. Скажыце толькі, і я свой гэты чамадан...

— Хе-хе, ці чэрці. Дай адрас — цілігplayму прышлём. Трэба ж яшчэ будзе і гары выціснуць. Не адразу ж...

— А як жа дачка, сястрыца? Хаця, што дачка. Адкладзі вяселле на год, і сама ідзі замуж. А дачка яшчэ паспее. Чаго ёй спяшыць за гэтага Ратнікава? Адно толькі што шафёр, руль у руках, а так... Дайце тады мне цілігraму...

Да калёс палезлі дзеці — выцягнулі недзе з-пад ляжэек гарохаўе са струкамі; форскаў Бар'ян, скубучы мерзлую траву і бразгаючы цуглямі, гаманілі і смяяліся людзі і не згледзелі, як з-за голага бярэзніку з-пад чырвоных рабін выкаціўся чырвоны аўтобус — затармазіў ля самых калёс, падняўшы пыл і вераб'ёў з пяску. Бразнулі пярэднія дзверцы, паказаўся шафёр і за ім дзіцячыя галовы — краснавольцы ехалі ў школу,— аўтобус быў зусім пусты. Першыя да дзверцаў сунуліся маладзіцы з Ячнага з поўнымі сумкамі і з мужыкамі і дзеці — сыпанулі, як вераб'і.

— Старых, старых першых прапусціце!..— зашваргатала ля дзверцаў Чайка.— Дзеці, дзе вы раслі?

Дзеці ведалі, дзе раслі: яны стапталі б і саму Чайку, каб яна стаяла не збоку ля дзвярэй. Толькі пасля ўжо высткнулася з аўтобуса рыжая галава, як у Валеркі:

— А мы ім першае сядзенне занялі. На дваіх...

Рыжую галаву было не дастаць, і Алімпіяда пагладзіла па галаве Валерку:

— Не адбівайся ад чарады. Цяпер жа ў школу возяць...

Яны злезлі з калёс і пайшлі ў аўтобус пасля ўсіх, астатнія. Алімпіяда прапусціла наперад Харбіна, і ён падаў ёй з аўтобуса руку.

— Ці чэрці, суседка. Першае сядзенне і ў самым дзеле свабоднае. Будзем і тут ехаць упобачкі, хе-хе...

Пакуль яна паднялася ў аўтобус, шафёр перастаў ужо шастаць білецікамі і адразу бразнуў за ёй дзверцамі. Яна села ад акна і схапіла за руку Харбіна: аўтобус пакаціўся з горкі.

— Ці чэрці, суседка. А так мог бы і скалечыцца да загсу...

У аўтобусе засмяяліся.

Яна прыліпла да акна — увідзела яшчэ Валерку з Бар'янам на дарозе, новы кароўнік за чырвонымі рабінамі і свой Крамянец — белыя стрэхі.

Новы кароўнік і Крамянец паказаліся яшчэ раз з Ячнага з вуліцы. Пасля дарогу ззаду заслаў пыл, сівы, халодны — змяшаўся з інеем...

## 13

Аўтобус, чырвоны, як рак, нёсся з гары ад Ячнага сярод белага поля, не даючы ім дарогі, і Корань, павярнуўшы руль управа, выскачыў з каляі на поле, на зялёную, прыцярушаную інеем рунь. На мёрзлай наздраватай раллі матацыкл кінула ўбок, чуць не выбіўшы з рук руль, і затрасло, хоць зубы лаві ў жменю.

— Казларогі чартуляп!..— закрычаў збоку ў калясцы Пугач.— Душу вытрасеш... Сядзіш на тваім «казле», як у быка на рагах... Апошні раз, судзьбіна казларогая... Нагамі ўсю жызню хадзіў і хадзіць буду. Без селязёнкі астанешся...

— Тэхніка, Антонавіч. Нечым жа трэба плаціць за быструю язду, Антонавіч,— ці старымі касцямі, ці селязёнкай. На матацыкле трасе — можна на самалёце. Але ж і там трэба расплачвацца: вантробы выварачваць. Там нават наперад цэлафанавы пакет даюць — плюй колькі ўлезе... Амарцізацыя, Антонавіч.

— Занясло цябе, казларогага. Умець трэба — і жыць, і руль у руках дзяржаць. Руль — гэта табе не вілачнік у печы. Там толькі гаршчок перакуліш, а тут судзьбіну казларогую. Я ўжо заплюшчыў вочы і думаў, што ўбачу хал-

пэсенькіх з рожкамі і кацёл са смалой... Казларогі чартуляп...

— Жыў і жыць будзеш, Антонавіч. Ты відзеў, хто ў аўтобусе? Повен дзяцей. У школу едуць. Жывуць яны цяпер, я табе скажу, і жыць будуць... А мы гора цяпнулі, па гразі і па снезе пехатой ходзячы да гэтай самай школы...

— І твой казларогі чартуляп з імі?

— І мой. Я яго праз акно пазнаў. Што ён — зломак? Усе паедуць, а ён не?

— Забраў бы ты яго, мурлахапенькага, цяпер да сябе. Ля школы жывеш, школа пад носам, чаго яму гойсаць за такую даль. Замяце зімой дарогу, і ён будзе чыкілдыкаць, як некалі бацька.

Корань, звярнуўшы з руні, паехаў цішэй — заўсёды людзі цішэйшыя, калі страсане,— трымаў адной рукой руль, другой папраўляў на галаве старую, выцертую да белага чорную скураную кепку і падымаў ля шыі цыгейкавы каўнер старой курткі: вецер, калючы ад першага марозу, шчыпаў за шчокі.

— Рана бярэцца. Сярдзіты, казларогі чартуляп...— і Пугач, прыняўшы рукі з партфеля, стаў падымаць каўнер сіняга асенняга паліто. Апусціў пасля вушы ў зімовай бурай цыгейкавай шапцы са скураным верхам. З вачэй у яго ад ветру цяклі слёзы; на вусах павіслі дробненькія кропелькі расы, як белы мак. Пацёр рукой аб руку, пахукаў у пальцы — запахла валяр'янкай і ментолам — і схаваў рукі ў шырокія рукавы паліто: паехалі цішэй, не трэба дзяржацца за жалеза, можна пагрэць пальцы.

— Дык ты гаворыш, Антонавіч, яго цяпер да сябе ўзяць... Гэ-гэ... Я ўжо думаў, што і вазьму. Яшчэ летам. Тады, калі ён гарэў, калі душа прызнала. Я ж яго па галаве тады гладзіў, во гэтай рукой...— прыняў ён з руля руку ў вялікай чорнай скураной пальчатцы і паднёс Пугачу пад нос, як галавешку з атухлага агню.— Во, гэтай рукой. Бацькам ён мяне, канешне, не назваў, упарты, па мне пайшоў, а мая душа была загарэлася... Я і другое думаў... Вазьму, думаю, кіну к чортавай мацеры сваю Два метры фанеры, вярнуся да Волькі, буду зноў таптаць тыя сцежкі, якія таптаў пасля вайны, калі быў фінагентам. І душа супакоіцца, і сына сам гадаваць буду. Хай расце чырвоная галава на маіх вачах... Думаў ужо ўсё. І з Волькай там, у бальніцы, гаварыў... А цяпер вот думаю, што слёзы за нас у бальніцы гаварылі, а не мы самі. У горы чалавек... ён нейкі не такі, як кожны дзень. Мякчэйшы, слязу пускае, горы абяцае другому чалавеку, а прачарсцвее і...

Прыйшоў час, і я табе, Антонавіч, праўду скажу: не забраў я яго да сябе і, відаць, не забяру. І да Волькі, відаць, не пайду. Аказваецца, не такая гэта простая загагуліна ў жыцці — прырасці, пасля сарвацца са старога месца... Крануў душу з другога боку — аказваецца, я і да сваёй Два метры фанеры прырос... І не так-то лёгка адарваць сябе... Ну, паложам, адарваць — то я сябе адарваў бы: літар спірту і кружку вады заліў у душу, як у матацыкл, і рабі тады з ёй, паганай душой, што хочаш. А тут не захацелася заліваць ніякай гадасці ў душу... А насуха — не пайшло, Антонавіч. І, відаць, будзе яно так, як і было. Перагарэла ў нас усё — і ў Волькі і ў мяне. Ну, хлапцу ад гэтага нашага дурацкага агню дасталося. Нагу падцягвае, калека будзе на ўсю жысь. Як заные ў мяне цяпер, бывае, Антонавіч, душа... Але не па ім, не па Валерку, а па тым, што ён калека, што ён ножку цягне, што ў яго сухажылле падгарэла... Толькі спірт і ратуе. Я і цяпер яшчэ думаю... Хаджу, хаджу па хаце, як заманецца... Ну што тут, доўга? Чамадан са шмоткамі ў каляску і — у Крамянец. Наўсягды. Правы ў мяне ёсць, бальніцу закрываюць. На трактар, на маленькі чырвоненькі, думаю, сяду і — нейкае сваё новае жыццё пачну. Пахаджу, пахаджу, выйду, матацыкл завяду... Так і стаіць ён у мяне заведзены, трасецца пусты на двары, а сам я — так і не завядуся на нешта вялікае... Бензін гарыць, душа ў мяне гарыць, а тады і атухае ўсё на свеце: і матацыкл сам глохне і душа мая чахне. Дым толькі з яе ідзе, як з галавешак. Адны галавешкі недзе там у мяне ў душы... Датляваюць...

— Казларогі чартуляп... У нас, у медыцыне, гэта называецца герантас — старасць. Састарэў ты, ссівеў, як халпэсік... І душа твая, казларогая, ссівела. Сівая, як іней на полі. Хало-одная, казларогі чартуляп...

— Састарэў, Антонавіч. Не агледзеўся, як састарэў. Падкралася гэта старасць, як ліса з лесу да хаты. Хі-іт-рая... Па сабе ніколі не пазнаеш, што пастарэў. А вот зойдзеш у магазін — а за прылаўкам стаяць зусім маладыя дзяўчаткі. Цябе ўжо ўсюды абслужваюць маладыя. Глядзіш на іх, так і хочацца сказаць, што малако на губах. А яны цябе абслужваюць. Значыць, яны ўжо набралі гадоў. Значыць — гэта не ў іх малако на губах, а ў цябе попел сыплецца. Глянеш шырэй — а яны не толькі ў магазіне. І на пошце, і ў нас у бальніцы... Табе толькі тады і даходзіць, што ты ўжо...

— Пра гэта нельга думаць: за дваццаць чатыры гадзіны мазгі згараць...

Патрывожаныя ранніш аўтобусам і траскатнёй матацыкла, над полем, нізка над самай рунню, насіліся чародамі вароны. Цяжкія, сытыя пасля летняга поля — аж блішчыць на іх пер'е. Вароны падляталі да дарогі і пускаліся следам за матацыклам, каркаючы на ўсё дзяркатае горла. Адставалі, садзіліся на поле, а спераду над дарогай падымалася новая чорная чарада, глушачы шалёным крыкам і ціхую асеннюю раніцу, і ціхі, як шэпат, стук матацыкла на цвёрдай лёгкай дарозе.

Вароны зляцелі на чорны голы бярэзнік — пад Краснаволле.

— Я некалі думаў, Антонавіч, што я — вечны. А цяпер прайшоў час, і я ўжо ведаю, што такое «вечны». Ат, Антонавіч, жылі і жыць будзем, пакуль яна нас не цяпне... Нешта я сёння нос павесіў...

— Пра гэта чалавеку нельга думаць...

— Пра гэта, Антонавіч, якраз ужо і думаецца. Думаецца, і каго пасля сябе на зямлі пакінеш... Так што нос я яшчэ не зусім павесіў. Хай толькі мая Два метры фанеры палезе яшчэ раз на сцяну — чамадан на матацыкл, і ў Крамянец. Варыянт ужо адрэпеціраваны. Недарма я ўсё лета тузаўся... Так што, Антонавіч, жылі і, можа, яшчэ лепш жыць будзем. Жыццё само пакажа дзірку ў плоце, куды трэба галаву ўпічаміць. Была б галава.

— Пра гэта нельга думаць, казларогая судзьбіна...

Не згледзелі, калі вырасла перад вачыма Ячнае, ціхае, пустое. Мінулі чырвоныя рабіны над частаколам ля хат; рабых сарок над рабінамі; запёрты на вялікі чорны замок магазін; каня, запрэжанага ў калёсы ў некага ля двара, пілу за калясьмі, вялікую, зубастую — прыхінулася да шула ля варот і бліпічыць на сонцы. Загналі пад нейчую падваротню вялікіх белых курэй; адтуль выбег маленькі рыжанькі, як ліса, сабачка з вялікім кунатым белым хвастом, забрахаў на ўсё Ячнае і пусціўся ззаду. Дагнаў і цапнуў востранькімі прыгожымі белымі зубамі за сіняе крыло паліто, што тырчала з каляскі, пасля адстаў і закруціўся ля чырвонага аб'інелага трактара, які ціха стаяў і мерз ля плота.

Выскачылі на гару ля могілак да аўтобуснага прыпынку і адразу ўбачылі Крамянец з белымі стрэхамі і белае ад інею поле ля грэблі — асушанае балота.

— Не пазнаю. Ці даўна, здаецца, я тут хадзіў па грэблі па калені ў гразі... З партфелем, самаабкладанне збіраючы... А цяпер — ні гразі, ні самаабкладання... Поле, чыстае поле... Як усё скора мяняецца на зямлі. Вот, каб толь-

кі, здаецца, маладзейшы быў... Можна было б яшчэ ўсё перашарсціць і пачаць спачатку. Як усё мяняецца, ты скажы... А такое было балота. Як усё мяняецца... К добраму ці дрэннаму...

— Чалавек павінен мяняць усё к дабру, казларогі чартуляп. Для чаго тады яму мяняць? Вот бальніца. Ну пісалі людзі, прасілі. Пакінулі яе да новага года, а з новага года закрыюць. Будзе толькі фельчарскі пункт. Адзін я астануся. Нехта думае — к горшаму. А яно — к лепшаму. У Плешчаніцах — стацыянар. А тут што мелі? Прымітыў. Ні прыбораў, ні кабінетаў, ні лякарства. Цяпер так ужо не лечаць. А што далёка — дык жа не нагамі ісці, як перш. На аўтобус і — там. А не — дык «скорую» сюды, казларогі чартуляп... Аж сюды... Можа, толькі Сцяпанаўна прайграла. А можа, і выйграла? Забярэ Колас з сабой, а там — прыструніць. Там раённая бальніца, там і спірт не пацягнеш, і конікі выкідваць не будзеш. Так што і яе казларогая судзьбіна пераменіцца... Лепшай будзе...

На белым масце перад Крамянцом дарогу загарадзілі белыя гусі — пераходзілі з аднаго боку на другі, падымаючы нехаця вялікія, чырвоныя ад марозу лапы. Усчалі гогат — аж аглушылі.

Корань збавіў ход і паехаў цішэй; і вуліцай, павярнуўшы направа ля самай Вольчынай хаты, ехаў ціха. Загрукатала раптам сэрца ў грудзях — такога ён не чакаў. Аглянуўся — жоўтая ад насыпанага высака пяску вуліца ў Крамянцы была пустая. Ціхая, здалося, вузейшая, чымся перш, і нейкая не то знаёмая, не то чужая.

Ён ціхенька вёў матацыкл, баючыся падымаць вочы, каб не згледзець чаго лішняга. Спыніліся ля Алімпіяды — ля самых варот.

— Пайдзём праверым, як тут наша мурлахапенькая кратаецца, казларогая яе судзьбіна...

На двары іх апанавалі куры.

Дзверы ў сенцы былі на замку.

— Казларогая судзьбіна... А трэба было б ціск памерыць і сэрца паслухаць. Дык бабе дома не сядзіцца. Ладна, будзем назад варочацца — заедземся. Сэрца ў яе няважнае...

— Выжыла і жыць будзе. Усё ў норме, вяселле толькі даччыно адклала на год.

— А нашто вяселле адкладваць, казларогая судзьбіна? Смерць трэба ўсягды адкладваць — хоць на год, хоць на паўгода... Хоць на дзень, на гадзіну, на мінуту... А вяселле? Нашто адкладваць вяселле?

— Маладзеж разбеглася. Стукнуліся і разбегліся. На год, а можа, наўсягды...

— Разбегліся — збягуцца. Ніколі не трэба адкладваць вяселле, казларогая судзьбіна... Давай цяпер у Жызнаву, да майго другога пацыента... Люблю з ім пагаварыць... Паважаю гэтага чалавека... Хоць бы пагрэліся ў Алімпіяды, дык не пашэнціла...— Пугач пераступаў з нагі на нагу на мерзлай траве ля дзвярэй, махаючы доўгім крыллем расшпіленага паліто. Паставіўшы партфель на зямлю, цёр рукой аб руку і ляпаў у далоні. З частакола на хлеў пырхалі вераб'і.— Давай цісні за Вілію. Раней вернемся, судзьбіна казларогая...

— Падубеем на ветры. Ды жыве ён і жыць будзе, твой лётчык. Матацыкл толькі гнаць за свет.

— Ён яшчэ наш хворы. За намі лічыцца. Перадаю яго Даўгынаўскай бальніцы і шкадую. Пагаварыць не будзе з кім. Галавасты чалавек... Што? Ды жыць ён будзе. Гэта перш, калі яго зімой прывязлі, ніхто не верыў. Нават я не верыў. А цяпер... Папраўляецца, мурлахапенькі, на нашых вачах. А яго ўжо былі спісалі. Спісалі, дамоў адправілі — едзь памірай. А ён тут, дома ў мацеры, на бульбе, на малацэ... Па расе босы... А ён — казларогім чарцям назло... Жыве і жыць будзе, як ты кажаш. А яго ўжо там спісалі. Часта мы зарана людзей спісваем. Чалавека ніколі не трэба спісваць, казларогі чартуляп... Заводзь свайго халпэсенькага, патрасе, пакідае — сагрэемся...

Корань зашчапіў за сабой вароты на двор, падышоў да матацыкла, узяўся ў дзве рукі за руль і раптам пачуў, што ўперадзе тарахцяць па мерзлай грудзе калёсы. Ён адразу спужаўся і падняў вочы. З дзядзінца ад фермы ля плота ў вуліцу з'язджалі на калёсах Волька і Валерка — сядзелі высака на рудым сене. Калгасны Бар'ян махаў хвастом — як усё роўна сцёбаў яму па вачах. Зрабілася ціха на зямлі — толькі чуваць было, як бразгаюць дробненька ў каня цуглі. Караню стала раптам горача ўсяму, як ад агню. Па Вольцы ён толькі прабег вачыма — белая хустка і загарэлы твар,— а ў Валерку ён упіўся паглядам — рабацінне, відаць здалёку, і чырвоныя валасы ля вушэй — адраслі, тырчаць.

Згледзелі іх і на возе. Волька схапіла за лейцы і сцебанула Бар'яна пугаём — пагнала.

Корань тады, нагнуўшыся, стукнуў нагой па рычагу з усёй сілы, раз-другі — матацыкл не заводзіўся, нават не засоп.

Калёсы былі блізка, і Волька з Валеркам былі блізка —

ступіць толькі да іх... Корань не вытрымаў, адвярнуўся — ну на якую маленькую долю секунды адвярнуўся ад іх... З двара, з-за белых воблакаў, недзе з-пад асвера, выглянула раптам сонца — вялікае, жоўтае, гарачае, і сцебанула па вачах, як полымя на пажары... Ён стаяў, глядзеў на вуліцу, на каня і калёсы, але нічога цяпер не бачыў — аслеп ад сонца. Уся вуліца, здавалася, гарыць агнём — густым ціхім полымем...

— На суд паехала Улімка... Размінуліся...

Корань пачуў знаёмы голас — зусім жа не пераменіўся, такі і застаўся, як быў пасля вайны: ён гэта прыкмеціў яшчэ ў бальніцы.

Ён зноў спужаўся: голасу і суда...

Пагналі каня, і калёсы з ездакамі зніклі з воч — згарэлі ў сонцы на павароце вуліцы.

— Што ж ты да іх не загаварыў, казларогі чартуляп? Гэта ж яны, твае мурлахапенькія...

З двара з-за асвера Караню ўсё яшчэ біла ў вочы сонца, і ён нічога не бачыў. Згледзеў пасля, як з дзядзінца ля фермы падняліся з зямлі чорныя вароны... І вароны парабіліся раптам жоўтыя ад сонца, і іх ён згубіў з воч.

Стукнуў па рычагу нагой... Агледзеўся, што ключык у зажыганні не павернуты...

Матацыкл зароў як шалёны — Пугач толькі справіўся ўкуліцца ў каляску з партфелем у руках — і рвануў ад варот дарогай за вёску.

— **Што ж ты да іх нават не загаварыў, казларогі чартуляп?**

— **Жылі і жыць будзем!..**

Матацыкл нёсся па марознай звонкай зямлі, як вецер. Здавалася, ён сарвецца раптам і сігане ў неабсяжны халодны Сусвет.

Здалёку, ад лесу, Корань яшчэ раз аглянуўся: ззаду, на цвёрдай, як крэмень, зямлі стаяў Крамянец. Маленькая вёсачка здалася вялікай — заняла перад вачыма ўвесь край неба пад белымі воблакамі...

*1984*

## КАМЕНТАРЫІ

Упершыню — часопіс «Полымя». 1984, № 1—3.
Друкуецца па кн.: Пташнікаў І. Алімпіяда. Мн.: Маст. літ., 1985.
Перакладаўся на рускую мову.

## ЗМЕСТ

*Частка першая.* ЛЕТА. ПЫЛ . . . . . . . . . . 5
*Частка другая.* БАЛЬНІЦА . . . . . . . . . . . 163
*Частка трэцяя.* ЗАСТАВА. СОРАК ПЕРШЫ . . . . . 321
*Частка чацвёртая.* СЫН . . . . . . . . . . . . 423
Каментарыі . . . . . . . . . . . . . . . . 575

**Пташнікаў І.**
П 87 Збор твораў. У 4 т. Т. 4: Раман.— Мн.: Маст. літ., 1992.— 575 с., [4] л. іл.
ISBN 5-340-00816-9.
Пташников И. Собрание сочинений. Т. 4: Роман.
У чацвёрты том Збору твораў Івана Пташнікава ўвайшоў раман «Алімпіяда» («Воблакі шасцідзесятых»). Ён прысвечаны вёсцы, яе праблемам.
Героі рамана — калгаснікі, сельская моладзь, медыцынскія работнікі, воіны Савецкай Арміі. У цэнтры — лёс сям'і галоўнай гераіні Алімпіяды Падаляк.

П $\frac{4702120201-047}{М302(03)-92}$ 103—91 ББК 84Бел7

*Литературно-художественное издание*

ПТАШНИКОВ ИВАН НИКОЛАЕВИЧ
**СОБРАНИЕ СОЧИНЕНИЙ В ЧЕТЫРЕХ ТОМАХ**
**ТОМ ЧЕТВЕРТЫЙ**

Минск, издательство «Мастацкая літаратура»
На белорусском языке

*Літаратурна-мастацкае выданне*

ПТАШНІКАЎ ІВАН МІКАЛАЕВІЧ
**ЗБОР ТВОРАЎ У ЧАТЫРОХ ТАМАХ**
**ТОМ ЧАЦВЁРТЫ**

Рэдактар *М. І. Котаў*. Мастацкі рэдактар *Л. Я. Прагін*. Тэхнічны рэдактар *Г. П. Тарасевіч*. Карэктар *Я. Ф. Харко*.
ІБ № 3600. Здадзена ў набор 28.03.90. Падп. да друку 11.12.91. Фармат 84×108$^{1}/_{32}$. Папера друк. № 1. Гарнітура звычайная новая. Высокі друк. Ум. друк. арк. 30,24+0,42 укл. Ум. фарб.-адб. 32,76. Ул.-выд. арк. 34,24. Тыраж 4000 экз. Зак. 283. Цана 3 р. 50 к.
Выдавецтва «Мастацкая літаратура» Дзяржаўнага камітэта па друку Рэспублікі Беларусь. 220600. Мінск, праспект Машэрава, 11.
Мінскі ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга паліграфкамбінат імя Я. Коласа, 220005, Мінск, Чырвоная, 23.